Выдаецца пры фінансавай дапамозе
Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага

УВАГА: Гэты том працягвае сэрыйнае выданьне ЗАПІСЫ, запачаткаванае ў 1952 г. Першыя 6 тамоў у 1952–1954 гг. выйшлі ў Нью-Ёрку; 5 наступных у 1962–1970 гг. друкаваліся ў Мюнхэне. З 12-га (1974) па 24-ты (1999) том ЗАПІСЫ друкаваліся ў Нью-Ёрку. Ад 2002 г. ЗАПІСЫ — сумесны нью-ёркска-менскі праект.

**ADDRESS**
Belarusan Institute of Arts and Sciences
166–34 Gothic Drive, Jamaica, NY. 11432, U.S.A
zapisybinim@gmail.com

## ЗЬМЕСТ

## Архівaліі



## Цэнтар камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа пры БДАМЛМ



## Цэнтар дасьледаваньняў дыяспараў і замежнага беларусазнаўства ў Горадні



## Выданьне



## Угодкі



## Асоба



## In memoriam

**Кніжная паліца**



**Хроніка**

# АД РЭДАКЦЫІ

Новы нумар альманаху “Запісы БІНіМ” прысвечаны тэме “Памяць”. Яна надзвычай важная для эміграцыйнай культуры. Суродзічы на чужыне аб’ядноўваюцца на падставе агульнай памяці пра радзіму, ім важна пакінуць памяць па сабе для нашчадкаў як на Захадзе, гэтак і ў мэтраполіі. Памяць увасабляецца ў ідэях, тэкстах, вобразах, помніках. Можна сьцьвярджаць, што тэксты ня толькі гэтага выпуску альманаху аб’яднаныя ідэяй захаваньня памяці пра беларусаў на чужыне.

Уласна сфэры “палітыкі памяці” эміграцыйнай супольнасьці прысьвечаны тэкст Натальлі Гардзіенкі “Могілкі як частка мэмарыяльнай культуры беларускай эміграцыі”, заснаваны на апрацоўцы зьвестак з мультымэдыйнай базы, зьмешчанай на адмысловым CD у дадатку да гэтага выпуску альманаху. Тут упершыню абагульнены плён некалькіх дзесяцігодзьдзяў працы розных асобаў па зьбіраньні зьвестак пра беларускія могілкі на Захадзе.

Захаваньню памяці пра падзеі, дзеячаў і нават цэлыя асяродкі спрыяе “Эпісталярны архіў Янкі Запрудніка”. На падставе гэтага ліставаньня Лявон Юрэвіч аднаўляе цікавыя старонкі гісторыі й “нутранай кухні” беларускіх рэдакцый Радыё “Вызваленьне / Свабода” ды Гішпанскага радыё ў Мадрыдзе. А зь лістоў Эміля Цяўлоўскага да Янкі Запрудніка паўстае новы вобраз беларускага жыцьця ў Аргентыне. Чытачы могуць даведацца ня толькі пра вывучэньне беларусаведы ў Буэнас-Айрэсе, але й пра штодзённае жыцьцё тамтэйшых беларусаў, кошты, заробкі ды кантакты з радзімай.

Факсымільная публікацыя пратаколаў Беларускага інстытуту навукі й мастацтва важная й як рэпрэзэнтацыя для дасьледчыкаў дакумэнтаў з гісторыі ўстановы, і як прадстаўленьне нязвыклых аўтографаў Натальлі Арсеньневай, што выконвала функцыі сакратаркі ў інстытуце.

У спэцыяльнай рубрыцы чытачы “Запісаў” упершыню змогуць прачытаць успаміны айца Льва Гарошкі, падрыхтаваныя да друку й грунтоўна пракамэнтаваныя гісторыкам Аляксандрам Пашкевічам. Гэты не завершаны аўтарам тэкст меў складаны шлях да публікацыі, які нарэшце можна лічыць пройдзеным. Пачынаў рыхтаваць успаміны Льва Гарошкі да друку іншы сьвятар — айцец Аляксандар Надсан з дапамогаю Аляксандра Аўдзеюка. Але праца так і не была скончаная, таму тэкст бачыць сьвет толькі цяпер. А з асобаю Льва Гарошкі

зьвязаныя й яшчэ некалькі публікацый гэтага нумару. Прыкладам, у “Архіваліях” зьмешчаныя лісты да яго літаратара Юркі Віцьбіча. У артыкуле Лявона Юрэвіча “Пісьменьнік Анатоль Жменя” айцец Леў разглядаецца як аўтар літаратурных твораў. А ў рубрыцы “Выданьне” Аляксандар Аўдзяюк распавядае пра заснаваны некалі айцом Гарошкам у Парыжы часопіс “Божым шляхам”. Поўная бібліяграфія гэтага часопіса таксама зьмешчаная на дыску ў дадатку да альманаху.

Рубрыка “Публікацыі” гэтым разам рэпрэзэнтуе тэксты, прысьвечаныя як канкрэтным асобам, гэтак і эміграцыйным структурам. Так, Макс Шчур на падставе вывучэньня архіўных дакумэнтаў распавядае пра Льва Клейнбарта, а Лявон Юрэвіч паказвае ў тэксьце “Audiatur et altera pars” розныя бакі й абставіны міжасабовага канфлікту біскупа Часлава Сіповіча ды грамадзкага дзеяча Язэпа Пазьняка. Юры й Мажэна Грыбоўскія прадстаўляюць чытачам матэрыялы пра спробы заснаваньня беларускага каталіцкага душпастырства ў лягерах Ды-Пі ў паваеннай Нямеччыне. Іншы тэкст Юрыя Грыбоўскага, ужо ў рубрыцы “Архівалії”, падае вынікі архіўных пошукаў на тэму беларускага руху ў міжваеннай Латвіі.

Адметнасьць новага нумару “Запісаў” яшчэ і ў тым, што тут прадстаўленыя адразу дзьве мэтрапольныя ўстановы, што аформіліся апошнім часам й займаюцца вывучэньнем беларускага замежжа. Тэма рэпрэзэнтаванага ўжо ў папярэднім нумары “Запісаў” стварэньня Цэнтру камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа цяпер мае працяг у публікацыі матэрыялаў зь дзейнасьці гэтага цэнтру. У гэтым выпуску можна прачытаць гутарку старшыні навукова-творчай ініцыятывы Натальлі Гардзіенкі з дырэктаркай Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва наконт практыкі зьбіраньня й захаваньня архіваў эмігрантаў, а таксама ўбачыць апісаньне эміграцыйных фондаў, апрацаваных за апошні час. Другой установай, што спэцыялізуецца на “замежна-беларускай” праблематыцы стаў нядаўна аформлены Цэнтар дасьледаваньняў дыяспары ў Горадні. Пра ягоныя напрацоўкі й пляны распавядаюць Зьміцер Караў ды Настасься Дудзько.

Ва ўгодкавай рубрыцы “Запісаў” прадстаўленыя два юбіляры: 100-гадовы пісьменьнік Міхась Кавыль ды 50-гадовы сябра рэдкалегіі нашага альманаху Лявон Юрэвіч. Дапаўняе сьпіс пэрсаналій, пра якія ідзецца ў гэтым выпуску, спачылы ў 2015 г. айцец Аляксандар Надсан — пра яго як пра дасьледчыка распавядае Генадзь Сагановіч.

Традыцыйныя ўжо рубрыкі “Кніжная паліца” й “Хроніка” знаёмяць чытачоў з новымі кніжнымі выданьнямі, зьвязанымі з тэмай замежжа, ды некаторымі важнымі падзеямі ў эміграцыязнаўстве.

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# МОГІЛКІ ЯК ЧАСТКА МЭМАРЫЯЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ

Культура памяці, мэмарыяльная культура, практыкі камэмарацыі сёньня хоць і вельмі павольна, але няўхільна заваёўваюць сваё месца ў якасьці аб’ектаў вывучэння айчыннай гуманітарыстыкі[1]. Пры гэтым могілкі й тым больш нэкропалі эміграцыі як частка мэмарыяльнай культуры застаюцца фактычна недасьледаванымі[2]. Тлумачыцца

[1] Найчасьцей гэткія беларускія дасьледаваньні базуюцца на крыніцах вуснай гісторыі. Напрыклад: Боль людская. Воспоминания жертв политических репрессий 1930–1950-х годов / сост. Н. В. Василевская. Минск, 1999; Война и украденные годы: живые свидетельства остарбайтеров Беларуси. Вып. 2 / сост. Е. И. Люлькина, под ред. К. И. Казака. Минск: И. П. Логвинов, 2010. — 214 с.; Смалянчук, А. Вобраз партызана ў памяці жыхароў Слонімшчыны // Гістарычны альманах. Т. 11. 2005. С. 4–16; Смалянчук, А. Горадня ў Другой сусветнай вайне паводле ўспамінаў яе жыхароў // Горад святога Губерта. Краязнаўчы альманах / пад рэд. А. Ф. Смаленчука. Вып. 1. Сейны, 2002. С. 8–37; Смалянчук, А. Другая сусветная вайна ў памяці насельніцтва заходняга і ўсходняга памежжаў Беларусі // Pogranicza Białorusi w perspektywie interdyscyplinarnej / red. naukowa E. Smulkowej i Anny Engelking. Warszawa, 2007. S. 121–156; і інш. Можна скіраваць зацікаўленых да рубрыкі “Літаратура” сайту Беларускага архіву вуснай гісторыі: http://www.nashapamiac.org/archive/litlist.html.

[2] Ёсьць цікавыя публікацыі, прысьвечаныя мэтрапольнай пахавальнай культуры й гістарычным могілкам Беларусі. Напрыклад: Гайба, Мікалай. Могілкі і пахаванні у Навагрудку: краязнаўчы нарыс. Мінск: Пейто, 2000. — 40 с.; Грунтов, С. Память и забвение в пространственной перспективе: к функциональному анализу семантики белорусских традиционных кладбищ // Проблемы методологии социогуманитарного познания: диалектика и герменевтика: материалы Международного коллоквиума, 14 мая 2009 г., Минск / редкол.: М. Е. Кобринский (гл. ред.) и др. Минск, 2009. С. 186–188; Грунтоў, С. Семантыка мемарыяльных помнікаў у прасторы традыцыйнай сялянскай культуры канца XVIII — пачатку XX ст. Гл.: http://www.niekropali.by/artykul/632; Минское военное кладбище: захоронения дореволюционного периода (сохранившиеся к настоящему времени) / сост.: А. А. Лукьянов, А. Л. Самович, А. А. Шумков; ред. В. Н. Верёвкин-Шелюта. Санкт-Петербург: ВИРД, 2002. — 32 с.; На “панскіх” могілках Плябані / уклад. В. Сямашка. Мінск: Мэдысонт, 2013. — 140 с.; Раманюк, Міхась. Беларускія народныя крыжы. Вільня: “Наша Ніва”, 2000. —

гэта часткова тым жа, што й маладасьледаванасьць гісторыі й культуры беларускай эміграцыі наогул: аддаленасьцю й геаграфічнай раскіданасьцю аб'ектаў вывучэньня. І калі дзейнасьць эмігрантаў можна аналізаваць паводле публікацый і архіўных дакумэнтаў, часткова даступных і ў Беларусі, дык дасьледаваць могілкі на адлегласьці надзвычай складана[3]. Менавіта таму рэалізацыя ідэі вывучэньня мэмарыяльнай культуры беларускай эміграцыі расьцягнулася на дзесяцігодзьдзі.

Прадстаўленая тут спроба падысьці да дасьледаваньня агучанай тэмы заснаваная на адмыслова апрацаванай базе зьвестак (зьмешчанай на дыску ў дадатку), матэрыялы для якой зьбіраліся рознымі асобамі цягам больш як 20 гадоў. Пачаткі былі закладзеныя архівістам у ЗША Лявонам Юрэвічам, які ў межах працы БІНіМу ад сярэдзіны 1990-х стаў складаць адмысловы альбом фотаздымкаў беларускіх магілаў з розных асяродкаў на Захадзе. Частку здымкаў ён рабіў сам, большасьць — атрымоўваў ад іншых беларусаў: Івонкі Сурвілы (Канада), Яніны Каханоўскай ды Юліі Андрусышын (Нью-Ёрк, ЗША), Галіны Руднік (Мюнхен, Нямеччына), Вітаўта Кіпеля, Віктара Камінскага (Нью-Джэрзі, ЗША), Юрася Гарбінскага (Варшава, Польшча), Ігара Іванова, Ігара Лабацэвіча, Паўла Шаўцова (Лёндан, Вялікабрытанія), Міхася Лужынскага (Сыднэй, Аўстралія), Максіма Вінакурава (Вена, Аўстрыя). Пры гэтым сабраныя здымкі былі зробленыя ў розны час ад 1950-х да канца 1990-х гг. Складзены такім чынам альбом на пачатку 2000-х быў перададзены ў Менск і стаў асновай для першай альбомнай публікацыі — "Нашы могілкі" на старонках альманаху "Запісы БІНіМу"[4].

Далей працу па зьбіраньні матэрыялаў пра беларускія могілкі й дапаўненьні калекцыі Лявона Юрэвіча працягнула аўтарка гэтага артыкулу. У выніку наведваньня беларусаў у Аўстраліі, Вялікабрытаніі, Канадзе, некаторых іншых краінах, адмысловых агледзінаў могілак

222 с.; Сысоў, У. Беларуская пахавальная абраднасць: Структура абраду, галашэнні, функцыі слова і дзеяння. Мінск: Навука і тэхніка, 1995. — 182 с.; і інш. Падрабязны сьпіс публікацый па беларускай нэкрапалістыцы можна знайсьці тут: http://www.niekropali.by/biblijahrafija.

3 Нягледзячы на гэта, публікацый, прысьвечаных расейскім, польскім, украінскім нэкропалям можна знайсьці даволі багата, як і дасьледаваньняў эміграцыйнай гісторыі й культуры наогул. У беларускай гуманітарыстыцы дасьледаваньні эміграцыі зьяўляюцца нечым маргінальным, у той час як у суседніх краінах існуюць цэлыя ўстановы, якія займаюцца вывучэньнем замежжа, а асобы й культурныя здабыткі эміграцыйнай супольнасьці як неад'емная частка ўключаюцца ў нацыянальны дыскурс. Гэта можа тлумачыцца большымі навуковымі магчымасьцямі адпаведных дыяспараў, а таксама прынцыпова іншым стаўленьнем да тэмы замежжа.

4 Запісы БІНіМ. № 27. Нью-Ёрк — Менск, 2004.

зьбіраўся новы матэрыял. Ня маючы магчымасьці даехаць паўсюль, мы таксама прасілі іншых асобаў рабіць здымкі канкрэтных магілаў і могільнікаў. За дапамогу ў зьбіраньні матэрыялаў шчырая падзяка належыць Алегу Гардзіенку, Аляксею Язылецу, Ігару Лабацэвічу, Анатолю Міхнаўцу, Андрэю Катлярчуку, Алесю Аўдзеюку, Аляксандру Панчанку. Дзякуючы супольнай працы наяўная база беларускіх магілак уключае каля 800 прозьвішчаў пахаваных у 13 краінах нараджэнцаў беларускіх тэрыторый (пераважна эміграцыйнай хвалі пасьля Другой сусьветнай вайны). Удалося апісаць найбуйнейшыя менавіта беларускія могільнікі ў Іст-Брансьвіку, Саўт-Рывэры, Мэльбурне. Усё гэта стварыла магчымасьць правесьці папярэдняе дасьледаваньне, вынікі якога й будуць прадстаўленыя ніжэй.

Варта адзначыць, што публікацый, прысьвечаных беларускім эміграцыйным могілкам, пахавальнай культуры, тэме сьмерці й памяці ў культуры эмігрантаў наогул вельмі мала. Па-за напісаным згаданым ужо вышэй Лявонам Юрэвічам[5] можна назваць хіба што мэмуарныя згадкі пра тыя ці іншыя пахаваньні, нэкралёгі або артыкулы пра могільнікі[6]. І гэта яшчэ раз падкрэсьлівае важнасьць сабранага тут і сыстэматызаванага эмпірычнага матэрыялу.

Безумоўна, створаная база зьвестак далёка не вычарпальная й з часам будзе папаўняцца. У гэтым жа тэксьце будзе зробленая спроба своеасаблівых уводзінаў да вывучэньня эміграцыйных могілак у рэчышчы камэмарацыйнай дзейнасьці, вызначыць некаторыя асаблівасьці мэмарыяльнай культуры эміграцыі, а таксама падказаць асобныя кірункі магчымых далейшых дасьледаваньняў.

### *Мэмарыяльная культура: тэарэтычныя асновы*

Сацыяльная група (супольнасьць) валодае сваёй спэцыфічнай калектыўнай памяцьцю, што не зьяўляецца простай сумай індывідуальных успамінаў яе ўдзельнікаў. Гэтая ідэя, сфармуляваная ў першай палове XX ст. сацыёлягам Морысам Хальбваксам[7], з часам

5 Юрэвіч, Лявон. Нашы могілкі // Запісы БІНіМ. № 27. Нью-Ёрк—Менск, 2004. С. 224–240; Юрэвіч, Лявон. Сьмерць у люстэрку беларускай літаратуры // Запісы БІНіМ. № 26. Нью-Ёрк — Менск, 2003. С. 37–73; Юрэвіч, Лявон. Нэкралёг: вобраз Свайго // Запісы БІНіМ. № 36. Нью-Ёрк — Менск, 2013. С. 380–447.

6 Сярод асобных публікацый пра могілкі й могільнікі можна згадаць: М-ч М. (Міцкевіч). Сьветчаньні камянёў // Беларус. 20 сакавіка 1956; Бакуновіч, Ул. Каб і жывым не балела // Беларус. № 127. Лістапад 1967. С. 5; Дэкараваньне магілаў. (Зь беларускага жыцьця) // Бацькаўшчына. № 24–25 (559–560). 25 чырвеня 1961. С. 8.

7 Хальбвакс, Морис. Социальные рамки памяти. Москва: Новое издательство, 2007. — 348 с.

набыла значную папулярнасьць, вынікам чаго стала зьяўленьне новага кірунку ў гуманітарыстыцы — дасьледаваньняў памяці (*memory studies*). Розныя аспэкты калектыўнай ці сацыяльнай памяці — гістарычныя, палітычныя, філязофскія, псыхалягічныя і г. д. — зрабіліся прадметамі вывучэньня[8]. Пры гэтым у якасьці аднаго з ключавых паняткаў выступае “мэмарыяльная культура”[9].

Мэмарыяльная культура як частка больш шырокай “культуры памяці” скіраваная на захаваньне вобразу сучаснасьці для будучыні. Наўмыснае імкненьне “ўвекавечыць” сябе, сваіх сучасьнікаў, перадаць нашчадкам свае каштоўнасьці, ідэалы зьяўляецца зьместам адмысловай камэмарацыйнай дзейнасьці, якую ажыцьцяўляе тая ці іншая сацыякультурная супольнасьць[10]. Гэтая дзейнасьць можа ўвасабляцца ў тэкстах, манумэнтах, карцінах, рытуалах, знаках, сымбалях — усім тым, што можна акрэсьліць як культурную спадчыну.

Уласна помнікамі культурнай спадчыны выступаюць разнастайныя носьбіты гістарычнай інфармацыі. У шырокім сэнсе гэта можа быць любы аб’ект рэчаіснасьці, што з часам займеў мэмарыяльныя ўласцівасьці, у вузкім — гэта артэфакт, які ад пачатку нараджаецца помнікам паводле сваёй сацыяльна-культурнай функцыі (г. зн. аб’ектам наўмыснай камэмарацыі). У першую катэгорыю трапляе любы прадукт культурнай дзейнасьці (будынкі, прадметы побыту, рукапісы, ідэі й г. д.), у другую — манумэнты, мэмарыяльныя дошкі й знакі, надмагільлі, эпіграфіка, памятныя назвы й г. д.[11].

Мэмарыяльная культура зьяўляецца важнай крыніцай зьвестак пра тую ці іншую эпоху або сацыякультурную супольнасьць. Яна адлюстроўвае сьветапоглядныя асаблівасьці, эстэтычныя перавагі, палітычныя погляды й інш., бо галіна наўмыснай камэмарацыі ўяўляецца свайго кшталту тварам супольнасьці, тым вобразам, які яна сама ў гэты момант імкнецца перадаць у спадчыну.

Нэкропалі выступаюць неад’емнай часткай мэмарыяльнай культуры. З аднаго боку, яны адлюстроўваюць індывідуальны або сямейны ўзровень камэмарацыйнай дзейнасьці (імкненьне пакінуць па сабе памяць для нашчадкаў). З другога — асабліва ў выпадку вялікіх могілкавых ці мэмарыяльных комплексаў — нэкропалі ўвасабляюць

---

[8] A Companion of Cultural Memory Studies / ed. by Astrid Erll & Ansgar Nünning. Berlin — New York, 2010. — 441 p.

[9] Ассман, Алейда. Длинная тень прошлого. Мемориальная культура и историческая политика. Москва: Новое литературное обозрение, 2014. — 328 с.

[10] Ассман, Алейда. Новое недовольство мемориальной культурой. Москва: Новое литературное обозрение, 2016. С. 29–32.

[11] Святославский, А. История России в зеркале памяти: Механизмы формирования исторических образов. Москва: Древлехранилище, 2013. С. 29.

калектыўную памяць, дзе вылучаюцца адмысловыя героі й сымбалі, захоўваюцца традыцыі, рытуалы, адлюстраваньне сьветапогляду сацыякультурнай супольнасьці.

## *Беларуская эміграцыя як сацыякультурны фэномэн*

Беларускія эмігранты ўяўляюць зь сябе адмысловую, хоць і неаднародную, адрозную ў залежнасьці ад пакаленьняў і хваляў "сыходу" сацыякультурную супольнасьць. Яна ня толькі аб'яднаная паводле этнічнай прыкметы, але й, як правіла, вызначаецца агульнасьцю досьведу й спэцыфічнымі ўяўленьнямі пра сябе. Эмігранты зь беларускіх тэрыторый Расейскай імпэрыі мелі агульныя рысы ўсьведамленьня "тутэйшасьці" й пераважную рэлігійную ідэнтычнасьць, што дазваляла ім далучацца да адпаведных праваслаўных ці каталіцкіх супольнасьцяў на чужыне, амаль не ствараючы сваіх асобных менавіта беларускіх[12]. Прадстаўнікі міжваеннай эміграцыі з тэрыторыі Заходняй Беларусі, што ўваходзіла ў склад Польшчы, аб'ядноўваліся часта на падставе ня толькі зямляцкіх сувязяў, але й даволі моцных прасавецкіх настрояў[13]. Найбольш нацыянальна сьведамая паваенная беларуская эміграцыя вызначалася й сваёй пераважна антыкамуністычнай скіраванасьцю, і ўсведамленьнем ўласнай адмысловай місіі — рэпрэзэнтацыі несавецкай беларускай культуры ў заходнім грамадзтве.

Варта адзначыць, што, прыяжджаючы на сталае месца жыхарства ў тую ці іншую заходнюю краіну, эмігранты, у тым ліку й паваеннай хвалі, траплялі пад моцны ўплыў асыміляцыі. Нават у традыцыйна "эміграцкіх" краінах кшталту ЗША канцэпцыя грамадзтва як "плавільнага катла" (*Melting Pot*) спрыяла таму, каб новапрыбылыя пакідалі ў мінулым свае трацыцыйныя нацыянальна-культурныя каштоўнасьці, уліваючыся ў мясцовую супольнасьць. Толькі са зьяўленьнем палітыкі мультыкультуралізму стаўленьне да імігрантаў і іх адметнасьцяў зьмянілася, хоць асыміляцыйныя працэсы, зразумела, зусім не спыніліся.

---

[12] Кіпель, Вітаўт. Беларусы ў ЗША. Мінск: Беларусь, 1993. С. 72–82; Kukushkin Vadim. From Peasants to Labourers: Ukrainian and Belarusan Emigration from the Russian Impire to Canada. McGill-Queen's Press, 2007. P. 45–46.

[13] Сьведчаньні гэтага можна знайсьці ў кнігах: Окулевич, Г. Русские в Канаде: История русских рабоче-фермерских клубов имени М. Горького (1930–1940) и Федерации русских канадцев (1941–1952): Первые исследователи северо-запада Америки, духоборцы. Торонто, 1952. — 327 с.; Шабельцаў, Сяргей. Беларусы ў Аргенціне: грамадская дзейнасць і рээміграцыя ў СССР (1930–1960-я гг.): зборнік дакументаў і ўспамінаў. — Мінск, 2009. — 366 с.

Некаторыя экспэрты лічаць менавіта існаваньне сёньня нацыянальнай мэмарыяльнай культуры перашкодай для сацыяльнай інтэграцыі мігрантаў і для станаўленьня касмапалітычнай мультыкультурнай міграцыйнай супольнасьці[14].

Камэмарацыйная дзейнасьць беларускай эміграцыі ўвасобілася ў фармаваньні тых вобразаў сябе, якія розныя хвалі й пакаленьні з большай ці меншай інтэнсіўнасьцю спрабавалі трансьляваць як для ўласных нашчадкаў у замежжы, гэтак і для мэтраполіі. Своеасаблівая дваістая скіраванасьць мэмарыяльнай культуры зьяўляецца, відаць, спэцыфічнай асаблівасьцю менавіта эміграцыйных супольнасьцяў у параўнаньні зь іншымі.

Пры гэтым варта адзначыць, што асабліва прадстаўнікі паваеннай эміграцыі найбольш выразна займаліся камэмарацыйнай дзейнасьцю, якая ў некаторым сэнсе была ажыцьцяўленьнем той самай місіі па рэпрэзэнтацыі беларусаў у сьвеце. Гэтыя эмігранты пісалі тэксты пра саміх сябе, сваіх продкаў і сучасьнікаў, стваралі ўласны пантэон герояў, фармавалі традыцыі ўшанаваньня падзеяў нацыянальнай значнасьці, якія часта не супадалі з падзеямі, што адзначаліся й шанаваліся ў мэтраполіі.

Можна прасачыць адметнасьці камэмарацыйнай дзейнасьці асабліва паваенных эмігрантаў на падставе прадстаўленых у адным з папярэдніх выпускаў “Запісаў БІНіМ” калекцый матэрыяльнай спадчыны эмігрантаў[15]. Паштоўкі й маркі, блянкі й пячаткі, улёткі й абвесткі, значкі й іншае адлюстроўваюць асноўныя ідэі й сымбалі, што аб’ядноўвалі эміграцыйную супольнасьць. Праўда, адмысловае іх вывучэньне як часткі мэмарыяльнай культуры зьяўляецца справай будучыні.

Разам з тым варта адзначыць, што беларускія эмігранты ў пераважнай большасьці былі носьбітамі традыцыйнай сялянскай культуры. Яе элемэнты зьяўляліся натуральнай часткай эміgranцкага сьветапогляду. І нават нясьведама, як у выпадку зь менавіта пахавальнай культурай, яе адметнасьці трансьляваліся ў новым грамадзтве ў практыцы пахаваньняў. Пры гэтым эміграцыйная пахавальная культура таксама адрозьнівалася ад таго больш сьвецкага яе варыянту, што існаваў у паваенны час у атэістычнай мэтраполіі.

Такім чынам, беларуская паваенная эміграцыя сьведама й нясьведама захоўвала, стварала й трансьлявала ўласны варыянт нацыянальнай культуры. А нэкропалі сталі неад’емнай часткай ўвасабленьня мэмарыяльнай культуры гэтай эміграцыйнай супольнасьці.

14 Ассман, Алейда. Новое недовольство мемориальной культурой. С. 131.

15 Гардзіенка, Натальля. Матэрыяльная спадчына беларускай эміграцыі: асноўныя калекцыі // Запісы БІНіМ. № 36. Нью-Ёрк — Менск, 2013. С. 20–84.

### *Мэмарыяльныя помнікі беларускай эміграцыі*

Адным зь відавочных увасабленьняў мэмарыяльнай культуры беларускай эміграцыі можна лічыць тыя помнікі, якія стваралі для сябе й сваіх нашчадкаў самі эмігранты. Паводле дасьледчыкаў, мэмарыяльныя помнікі — тыя месцы, дзе групы грамадзка актыўных асобаў намагаюцца ўвасобіць калектыўныя ўяўленьні пра мінулае, на якіх базуецца адзінства групы[16]. Асаблівай задачай гэткіх мэмарыяльных месцаў у прасторы й часе ёсьць вяртаньне тых ці іншых падзеяў мінулага ў сучаснасьць. Пры гэтым у традыцыйных мэмарыялах аддаецца даніна памяці заснавальнікам уласнай культуры й выбітным дзеячам яе мінулага, каб узвысіць сучаснае. Гэткая станоўчая сэнсаўтваральная функцыя мэмарыялаў незалежна ад таго, ці ідзе размова пра прыемнае, велічнае ці пра жахлівае мінулае[17].

У эміграцыйнай супольнасьці сытуацыя пры стварэньні мэмарыяльных помнікаў істотна адрозная ад сытуацыі ў супольнасьцях мэтрапольных. Эмігранты аказваюцца прасторава адарваныя ад рэальных "месцаў памяці" і мусяць іх ствараць, надаючы сваім мэмарыяльным помнікам значны сымбалічны сэнс. Пры гэтым уласна геаграфічнае месца ўжо адыгрывае другасную ролю.

Амаль усе ведамыя нам сёньня створаныя эміграцыяй мэмарыяльныя аб'екты належаць той самай паваеннай хвалі. Храналягічна першы зь іх зьявіўся ўжо ў 1948 г. у нямецкім мястэчку Лютэнзэе й быў пастаўлены ў гонар *"змагароў за волю Беларусі"*. Амаль у чалавечы рост сьветлы абэліск з надпісам *"Змагаром за волю Беларусі ў 28-ю гадавіну Слуцкага Паўстаньня"*. Ён заклаў своеасаблівую традыцыю менавіта такіх помнікаў на эміграцыі. Празь некалькі дзесяцігодзьдзяў аналягічныя манумэнты зьявіліся ў нью-джэрзійскіх Саўт-Рывэры (помнік *"Слава змагарам за вольную Беларусь"*, 1974 г.) і Нью-Брансьвіку (помнік *"Тым, хто змагаўся, каб жыла Беларусь"*, 1975 г.).

Чаму менавіта такія мэмарыялы аказаліся актуальнымі для беларускай эміграцыі? Адказ можа мець некалькі складовых частак. Найперш гэта было зьвязана з усьведамленьнем асаблівай місіі паваенных эмігрантаў як рэпрэзэнтантаў несавецкай беларускай культуры. У вобразе змагара за вольную Беларусь увасабляўся барацьбіт зь любым акупантам: нацыстам, абшарнікам, бальшавіком. Апошняе было для паваеннай эміграцыі асабліва важна, бо адпавяда-

---

[16] Winter, Jan. Sites of Memory and the Shadow of War // A Companion of Cultural Memory Studies / ed. by Astrid Erll & Ansgar Nünning. Berlin — New York, 2010. P. 61.

[17] Ассман, Алейда. Длинная тень прошлого… С. 238.



Помнік у Лютэнзэе

ла яе антыкамуністычнай скіраванасьці й адначасова супярэчыла ідэалёгіі савецкай Беларусі. Нездарма адной з найважнейшых штогадовых памятных датаў для суродзічаў на чужыне сталі ўгодкі антысавецкага Слуцкага збройнага чыну, а ў эміграцыйнай літаратуры багата твораў, прысьвечаных героям-змагарам. Гераізацыя змаганьня за беларускую незалежнасьць дазваляла эмігрантам усьведамляць сябе саміх як яго прадаўжальнікаў і стала часткай адмысловай эміграцыйнай міталёгіі.

Разам з тым нельга забывацца, што сярод удзельнікаў паваеннай эміграцыі было даволі шмат вайскоўцаў, для якіх тэма збройнага змаганьня зьяўлялася часткаю іх жыцьця. Менавіта даволі актыўныя вэтэранскія арганізацыі, як правіла, выступалі ініцыятарамі ўсталяваньня адпаведных помнікаў.

Акрамя змагарнага дыскурсу для беларускай эміграцыі быў у пэўнай ступені важны й дыскурс ахвяры. Прычым размова ідзе пра беларусаў як ахвяраў і камуністычнага рэжыму, і нацыянальнага ўціску з боку палякаў ці расейцаў, і як ахвяраў Другой сусьветнай вайны. У эміграцыйнай пісьмовай культуры тэма ахвяры прадстаўленая літаратурнымі, публіцыстычнымі творамі, дасьледаваньнямі. Варта згадаць “Кнігу ахвяраў бальшавізму”[18] ды падобныя

[18] Кніга ахвяраў бальшавізму. Цярністы шлях беларускае культуры. Кніга I. Выданьне СБЖ, 1950. — 24 с.

па тэматыцы[19], а таксама працу Міколы Абрамчыка “Я абвінавачваю Крэмль у забойстве майго народу”[20]. Акцэнт на ахвярах яшчэ ў большай ступені, чым змагарны дыскурс, дазваляў прыцягнуць увагу заходняга грамадзтва часоў халоднай вайны да беларусаў. Памяць пра ахвяры, як і пра змаганьне за незалежнасьць, былі базавымі аб’яднаўчымі элемэнтамі нацыянальна сьведамай паваеннай беларускай эміграцыйнай супольнасьці.

У выглядзе мэмарыяльных помнікаў тэма ахвяраў увасобілася ў манумэнтах у аўстралійскім Мэльбурне (памятны крыж *“Спачылым, усім ведамым і няведамым беларусам”*, 1976 г.), нямецкім Ляймэне (помнік зь нямецкамоўным надпісам *“Прысьвечана загінулым у 1939–1945 г. беларусам”*), а таксама ў канадыйскім Мідлэндзе (Помнік ахвярам камуністычнага тэрору, 1995 г.). Пры гэтым помнік у Ляймэне быў ініцыяваны й усталяваны адзіным беларусам у гэтым горадзе — грамадзкім дзеячам і публіцыстам Юрыем Попкам. І аб’ект быў скіраваны не на эмігрантаў-беларусаў, як гэта было ў іншых выпадках, а на мясцовых жыхароў (таму й надпіс на ім зроблены панямецку). Ён стаў найперш і найбольш менавіта сымбалем беларускай прысутнасьці ў горадзе, як і заснаваны той самай асобай беларускі музэй. Помнік ахвярам камуністычнага тэрору ў Сьвятыні Пакутнікаў у Мідлэндзе (Антарыа, Канада), ініцыяваны грамадзкай дзяячкай Раісай Жук-Грышкевіч, цалкам адпавядае антыкамуністычнай ідэалёгіі паваеннай эміграцыі й зьявіўся своеасаблівым знакам асуджэньня камунізму, актуальным і для адраджэнскай Беларусі, дзе такога кшталту асуджэньня яшчэ не адбылося.

Яшчэ адзін цікавы момант, калі ў адным помніку сымбалічна спалучыліся “змагарнасьць” і “ахвярнасьць”. Пад помнік змагарам за Беларусь у Іст-Брансьвіку ўжо ў 1990-я гг. была прывезеная й насыпаная зямля з Курапатаў. Зрабіў гэта ўладыка Мікалай пасьля адведваньня Беларусі. Так памяць пра рэпрэсаваных спалучылася з памяцьцю пра барацьбітоў за беларускую незалежнасьць.

---

19 У эміграцыйнай літаратуры й публіцыстыцы ёсьць цэлы шэраг тэкстаў, прысьвечаных ахвярам. Прыкладам, яшчэ ў 1944 г. у Беластоку выйшаў твор Масея Сяднёва пад назвай “Ахвяры бальшавізму”. Паэт Мікола Вярба напісаў цэлую паніхіду *“Памяці паўшых нязнаных сыноў Беларусі ў абароне яе Вольнасьці”*, дзе на кольніх старонках пералічваюцца катэгорыі беларусаў-ахвяраў (гл.: Архіўная кніга / аўтар-укладальнік Лявон Юрэвіч. Нью Ёрк, 1997. С. 319–323). А Ўсебеларускі архіў у 1950-я гг. нават пачаў рыхтаваць даведнік “Ахвяры акупацыйнага маскоўска-бальшавіцкага тэрору на Беларусі” (гл.: Юрэвіч, Лявон. Відымусы. Менск: Лімарыус, 2015. С. 135–136).

20 Abramčyk, Mikola. I accuse the Kremlin of genocide of my Nation. Based on the secret documents of the Military prosecutors and N.K.V.D. of the USSR. Toronto: Byelorussian Alliance in Canada, 1950. — 36 p.

Варта адзначыць, што амаль на ўсіх згаданых манумэнтах надпісы былі зробленыя й на мове краіны, дзе пастаўленыя (на ангельскай), і па-беларуску. Гэта падкрэсьлівае іх скіраванасьць і на мясцовае грамадзтва, і на суродзічаў — нашчадкаў эмігрантаў, а таксама беларусаў з мэтраполіі, якія ў пэўны час меліся даведацца пра гераічнае змаганьне за незалежнасьць і ахвяраў.

Акрамя помнікаў героям-змагарам і ахвярам манумэнтальная мэмарыяльная культура беларускай эміграцыі прадстаўленая толькі некалькімі аб'ектамі. Напрыклад, Крыжом тысячагодзьдзя хрысьціянства (1988), пастаўленым у той самай Сьвятыні пакутнікаў у Мідлэндзе. Гэты помнік стаў вынікам ініцыятывы сям'і Жук-Грышкевічаў, падтрыманай канадыйскімі беларусамі. Крыж тысячагодзьдзя хрысьціянства мае значэньне аб'яднаўчага сымбалю для беларускіх эмігрантаў розных кірункаў хрысьціянства: ён важны й для каталікоў, і для ўніятаў, і для праваслаўных (а рэлігійныя падзелы ў эміграцыйным асяродзьдзі былі вельмі сур'ёзныя). У пастаўленых побач Крыжы тысячагодзьдзя хрысьціянства ды Помніку ахвярам камуністычнага тэрору рэлігійныя й палітычныя матывы своеасаблівым чынам спалучыліся, і сёньня гэты агульны мэмарыял зьяўляецца месцам рэгулярных паломніцтваў беларускай эміграцыі ўжо ня толькі паваеннай, але й апошняй хвалі.

Згаданыя помнікі эміграцыі пераважна былі вынікамі супольнага клопату беларускіх грамадаў і адпаведна шанаваліся. Пры гэтым ёсьць і прыклады своеасаблівых "чужых" помнікаў, прысьвечаных дзеячам беларускай гісторыі й культуры. Як правіла, гэта манумэнты, якія стваралі прадстаўнікі іншых этнічных групаў: Тадэвушу Касьцюшку, Адаму Міцкевічу й іншым героям і аўтарам, якіх беларусы "дзеляць" з суседзямі. Выключэньнем ёсьць бюст Янку Купалу (скульптар Анатоль Анікейчык), які быў пастаўлены побач зь бюстамі Аляксандру Пушкіну, Уолту Ўітману й Тарасу Шаўчэнку ў 1970 г. у Араў-парку мястэчка Манро недалёка ад Нью-Ёрку. Мэмарыял сымбалізаваў цесныя культурныя сувязі чатырох нацый (беларусаў, украінцаў, расейцаў і амэрыканцаў) і быў створаны з ініцыятывы савецкага боку — быў падарункам ад БССР для ЗША. Самім паркам, дзе ўсталяваныя ўсе чатыры бюсты, апекавалася савецкая місія пры ААН, а ў навакольным пасёлку жылі й выхадцы зь беларускіх тэрыторый яшчэ часоў расейскай імпэрыі. Аднак лля паваеннай беларускай грамады, што мела антыкамуністычную скіраванасьць і не прымала савецкай улады, структуры і ўсяго, што ад іх сыходзіла, гэты помнік Янку Купалу ня мог стаць "сваім". Хоць зьвесткі пра адведзіны яго паваеннымі эмігрантамі захаваліся. Напрыклад, у 1976 г. на ўгодкі сьмерці песьняра група беларускай моладзі зь Нью-Ёрку й Нью-Джэрзі зладзіла

адмысловыя адведзіны. Раіса Станкевіч пісала пра гэтую падзею ў газэце “Беларус”:

*«Мы хацелі пацешыць Купалу, што памятаем ягоныя вершы й пакінутыя ў іх нам нацыянальныя запаветы. Мы хацелі яго запэўніць, што, хоць народжаныя ў вольнай краіне Вашынгтона, ня зрываем з традыцыямі нашых дзядоў, шануем родную мову й нашую нацыянальную спадчыну.*

*Бронзавы бюст Янкі Купалы стаіць там на палянцы ў цені высокіх дрэваў побач бюстаў Тараса Шаўчэнкі, амэрыканскага пісьменьніка Волта Вітмана й Аляксандра Пушкіна. Вялізны бюст Купалы глядзеў на нас з гады неяк разгублена й сумна.*

*Мы ўселіся на траве пад скульптурай, адна ізь сябровак прачытала аўтабіяграфію паэты, а іншыя пачалі чытаць патрыятычныя Купалавы вершы “Ворагам Беларушчыны”, “Свайму Народу”, “Над Нёманам” і іншыя забароненыя ў Савецкім Саюзе вершы. Зводдаль стаялі жыхары пасёлку й дзівіліся, якой прыгожай беларускай мовай гучэлі ў нашых вуснах Купалавы словы, а старшыня парку магчыма й зразумеў іх паводля зьместу, бо ўвесь час быў занепакоены...»*[21]. Тым ня менш гэты помнік для беларускай эміграцыі так і застаўся “савецкім”, “несваім”.

Цікава, што беларуская паваенная эміграцыя ня ставіла ўласных помнікаў канкрэтным дзеячам. Толькі ў 1990-я і намаганьнямі ня толькі эмігрантаў зьявіліся за межамі Беларусі помнікі й мэмарыяльныя шыльды Францыску Скарыну, дзеячам беларускага адраджэньня ў Празе, Вільні ды іншых гарадах.

Важным момантам мэмарыяльных помнікаў беларускай эміграцыі зьяўляецца тое, што яны найчасьцей усталёўваліся на могільніках, г. зн. былі своеасаблівай часткай беларускіх нэкропаляў, пра якія будзе нашая асноўная размова.

### *Эміграцыйныя беларускія нэкропалі*

Як заўважыў Юры Лотман, *“кожная культура па-свойму адлюстроўваецца ў створанай ёю канцэпцыі сьмерці, а сьмерць кідае свой злавесны ці гераічны адбітак на кожную культуру”*[22]. Найбольш канцэнтравана беларуская канцэпцыя сьмерці, уяўленьні пра яе ўвасабляюцца ў нацыянальных нэкропалях. *“Могілкі выступаюць як адзін з найбольш істотных сегментаў беларускай сялянскай прасторы, што замыкае на сабе шэраг калектыўных рытуальных практык і фармуе складаны семіялагічны комплекс, у якім можна*

[21] Р. С. Мы адведалі Янку Купалу // Беларус. № 233. Верасень 1976. С. 5.

[22] Лотман, Юрий. Беседы о русской культуре: Быт и традиции русского дворянства (XVIII — начало XIX века). СПб.: Искусство — СПб., 1994. С. 210.

*разгледзець механізмы функцыянаваньня некаторых фундаментальных пластоў беларускай культуры"*[23].

Большыя ці меншыя групы пахаваньняў беларусаў паваеннай эміграцыі ў розных краінах сталі афармляцца недзе ад сярэдзіны 1950-х гг. У гэты час у эміграцыйным асяродзьдзі назіраўся гэтак званы працэс "распакоўваньня", які грунтаваўся на ўяўленьні пра вельмі аддаленую й неакрэсьленую пэрспэктыву вяртаньня на радзіму й неабходнасьці больш грунтоўна ўладкоўваць сваё жыцьцё на чужыне. Часткаю гэтага й стала зьяўленьне ў розных асяродках усьведамленьня патрэбы ў арганізацыі адмысловых беларускіх месцаў на могільніках. Адбывалася гэта пераважна ў краінах з большымі беларускімі грамадамі. Уладкаваньне адмысловых нацыянальных нэкропаляў было справай, што патрабавала наяўнасьці пэўнай "адказнай" інстытуцыі. У гэтай ролі пераважна выступалі рэлігійныя ўстановы. Асобныя беларускія могільнікі былі заснаваныя эмігрантамі ў ЗША, Аўстраліі, Вялікабрытаніі і на іх мы зьвернем сваю найбольшую ўвагу.

Перш чым перайсьці да канкрэтных краінаў і могільнікаў, трэба зазначыць, што зьяўленьне нэкропаляў само па сабе сьведчыла пра ўсьведамленьне ўцекачамі доўгатэрміновасьці сваёй прысутнасьці ў новай краіне. Нягледзячы на мары пра вяртаньне на радзіму ў значнай частцы тагачасных эмігрантаў, набыцьцё зямлі пад могільнік, якую немагчыма будзе прадаць, як царкоўны ці грамадзкі будынак у выпадку рээміграцыі, адлюстроўвала ня толькі неабходнасьць рэалізацыі пэўных жыцьцёвых патрэбаў, але й разуменьне трываласьці сувязяў будучыні грамады з краінай эміграцыі.

Разгледзім зьвесткі пра эміграцыйныя нэкропалі ў своеасаблівым геаграфічным пляне, характарызуючы іх па краінах і асобных могільніках, адмыслова спыняючыся на найбуйнейшых беларускіх грамадах.

## ЗША

### *Могілкі Царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры*

Храналягічна першымі на Захадзе зьявіліся могілкі парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у нью-джэрзійскім Саўт-Рывэры. Мясцовая беларуская грамада пераважна склалася ў выніку паваеннай эміграцыі, прадстаўнікі якой сталі актыўна прыбываць у мястэчка ад

[23] Грунтоў, Сяргей. Сэмантыка могілкавых помнікаў у прасторы беларускай сялянскай культуры канца XVIII — пачатку XX ст. і іх роля ў фармаваньні лакальных ідэнтычнасцяў // Пытанні мастацтва, этналогіі і фалькларыстыкі. Вып. 9. Мінск: Права і эканоміка, 2010. С. 263.

1948 г. Праўда, на той час тут ужо жылі некаторыя прадстаўнікі ранейшай эміграцыі зь беларускіх тэрыторый, якія заснавалі расейскую праваслаўную царкву Сьв. Пятра й Паўла, а таксама польскі касьцёл Маці Божай Вастрабрамскай. Але беларускі (а не расейскі ці польскі) асяродак з царквой Сьв. Эўфрасіньні Полацкай стварылі менавіта паваенныя эмігранты[24].

Прадстаўнікоў даваенных хваляў эміграцыі хавалі ў Саўт-Рывэры на гарадзкіх або на “рускіх” праваслаўных могілках царквы Сьв. Пятра й Паўла. Пляц для асобнага ўласна беларускага могільніку быў набыты з ініцыятывы царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у 1953 г., але першае пахаваньне зьявілася толькі ў 1955 г. Гэта была магіла Сямёна Масьцерава (1897–1955), пазьней сумесная з жонкай Фядорай (1897–1963). Да 2010 г.[25] на тэрыторыі нэкропалю зьявіліся 177 магілаў, дзе спачываюць 248 чалавек. Большасьць — праваслаўныя беларусы. Эпітафіі пераважаюць у ангельскай (93 выпадкі, або 53 %) і беларускай (38 выпадкаў кірыліцай і 1 — лацінкай, або 22 %) мовах, а таксама ў гэтых дзьвюх адначасова (25 выпадкаў, або 14 %). Астатнія (11 %) надпісы ў расейскай, ангельскай з расейскай або ўкраінскай мовах.

Сярод пахаваных на могілках царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай пераважаюць мужчыны, народжаныя ад 1880-х да 1920 г. (гл. табліцу 1). Перавага мужчын (60 %) сярод пахаваных тлумачыцца агульнай іх большасьцю ў асяродзьдзі эмігрантаў-беларусаў паваеннай хвалі. Варта адзначыць сярод усіх спачылых значную колькасьць асобаў (160 чалавек, або 64 %), народжаных да 1920 г. Зь іх 24 жанчыны і 27 мужчынаў зьявіліся на сьвет яшчэ ў XIX ст. Найстарэйшай з пахаваных на могілках стала народжаная ў 1877 г. Еўдакія Стукаліч, 94-гадовая маці пісьменьніка Юркі Віцьбіча (1905–1975), што спачывае на тым самым могільніку.

Перавага сярод пахаваных беларусаў тых, хто быў народжаны да 1920 г., тлумачыцца натуральнымі прычынамі. Народжаныя пазьней яшчэ жывуць у Саўт-Рывэры й ваколіцах і будуць з часам папаўняць шэрагі спачылых.

З народжаных пасьля 1950 г. на могілках пахаваныя трое немаўлятаў, што не пражылі й году, трое маладых ва ўзросьце 18–24 гадоў і яшчэ шасьцёра ва ўзросьце 31–51 гадоў[26].

---

24 Гардзіенка, Алег. Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА). Смаленск, 2009. С. 49–54.

25 Менавіта ў гэтым годзе былі сфатаграфаваныя ўсе наяўныя на могільніку пахаваньні. Гэтыя здымкі й трапілі ў створаную намі базу.

26 З прычыны невыразнага здымку магілы ўзрост яшчэ аднаго народжанага пасьля 1950 г. вызначыць не ўдалося.

*Табліца 1*

| Гады нараджэньня | Пахаваныя | | Жанчыны | | Мужчыны | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць, чал. | % ад агульнай колькасьці | Колькасьць, чал. | % ад народжаных у гэты пэрыяд | Колькасьць, чал. | % ад народжаных у гэты пэрыяд |
| Да 1901 г. | **51** | 20,5 | **24** | 47 | **27** | 53 |
| 1901–1910 | **52** | 21 | **20** | 38 | **32** | 62 |
| 1911–1920 | **57** | 23 | **19** | 33 | **38** | 67 |
| 1921–1930 | **45** | 18 | **16** | 36 | **29** | 64 |
| 1931–1940 | **23** | 9 | **14** | 61 | **9** | 39 |
| 1941–1950 | **7** | 3 | **2** | 29 | **5** | 71 |
| Пасьля 1950 г. | **13** | 5 | **3** | 23 | **10** | 76 |
| Разам | **248** | 100 | **98** | 40 | **150** | 60 |

З усіх пахаваных на саўт-рывэрскіх могілках, найдаўжэй, каля 99 гадоў, пражыў грамадзкі дзеяч Аляксандар Банкет (1894–1993). Але сёньня ў Саўт-Рывэры яшчэ жыве беларус, якому споўнілася сто гадоў, — пісьменьнік Міхась Кавыль (Язэп Лешчанка, нар. 1916), таму рэкорд доўгажыхарства ў грамадзе будзе выразна большы. Калі ж зьвярнуцца да пазнакаў на помніках, то беларусаў, што перасягнулі 90-гадовы ўзрост на момант сьмерці, сярод усіх пахаваных — 25 чалавек (10 %).

Сярэднюю працягласьць жыцьця беларуса з Саўт-Рывэру можна з большай ступеньню верагоднасьці вылічваць для народжаных да 1930 г., бо толькі прадстаўнікоў гэтых пакаленьняў суродзічаў сярод памерлых ужо болей, як сярод жывых. Пры гэтым аналіз надмагільных пазнакаў сьведчыць пра традыцыйную тэндэнцыю большай працягласьці жыцьця жанчын, хоць у залежнасьці ад пакаленьня розьніца зьмяняецца. Так, народжаныя ў XIX ст. беларускі ў сярэднім жылі 85 гадоў, а іх суродзічы-мужчыны — 80, жанчыны 1901–1910 гг. нараджэньня — 82 гады, а мужчыны — 73 і г. д. Агульны сярэдні ўзрост пахаваных жанчын да 1930 г. нараджэньня складае 79 гадоў, а мужчын —74 гады (гл. табліцу 2).

*Табліца 2*

| Гады нараджэньня | Сярэдні ўзрост жанчын | Сярэдні ўзрост мужчын |
|---|---|---|
| Да 1901 г. | 85 | 80 |
| 1901–1910 | 82 | 73 |
| 1911–1920 | 79 | 73 |
| 1921–1930 | 70 | 69 |
| Усе народжаныя да 1930 г. | 79 | 74 |

З агульнай колькасьці пахаваньняў 70 (або 40 %) складаюць адзіночныя магілы. Сярод сумесных пераважаюць парныя — для мужа й жонкі. Зь іх 31 магіла ўяўляе зь сябе "меркаванае" сямейнае пахаваньне, дзе пакуль ляжыць толькі адзін з сужэнцаў, імя ж другога проста пазначана (або не) на помніку.

Часам сустракаюцца й патройныя варыянты пахаваньняў, дзе спачываюць разам муж, жонка й нехта зь дзяцей. Прыкладам, Леанід (1919–1995) і Надзея (1925–1995) Кастэнкі пахаваныя разам з сынам Сяргеем (1951–1990), які памёр раней за бацькоў. На помніку Нікандру (1914–1987) і Марыі (1912–1994) Мядзейкам пазначана таксама імя дачкі Элеаноры (нар. 1945), якая мае быць пахаваная тут жа пазьней. А побач з бацькамі Аляксандрам (1915–1985) і Любай (1923–2002) Дарафейчукамі будзе спачываць дачка Луіза (нар. 1944). Такога кшталту патройных пахаваньняў на могілках ўсяго сем, у большасьці зь іх месцы для спачыну дзяцей толькі заплянаваныя. Ёсьць прыклад і аднаго помніка для пахаваньня адразу дзьвюх сем'яў (чатырох чалавек) Кірыла (1904–2000) і Вольгі (1912–2006) Стрэшаў ды Міхаіла (1933–2006) і Марыі (нар. 1938) Троіцкіх.

Саўт-рывэрская беларуская грамада, аб'яднаная вакол царквы, складалася пераважна з прыхільнікаў Беларускай цэнтральнай рады. Таму могільнік стаў галоўным месцам пахаваньня палітычных аднадумцаў, парэштк які прывозілі часам і зь іншых рэгіёнаў ЗША. Так, прыкладам, з Рывэр-Форэсту ў Ілінойсе было прывезенае ў Саўт-Рывэр цела грамадзкага дзеяча Івана Касяка (1909–1989), а з флёрыдзкага Галівуду — целы Ўладзімера (1917–2002) і Лёнгіны (1923–2008) Брылеўскіх. З далёкай Нямеччыны везьлі, каб пахаваць менавіта на гэтым могільніку, цела Івана Аўдзея (1905–1998) было прывезена ажно зь Нямеччыны. На гэтых могілках спачывае пераважная большасьць найбуйнейшых дзеячаў БЦР на эміграцыі, у тым ліку два з трох яе прэзыдэнтаў: Радаслаў Астроўскі (1887–1976)

і Нікандар Мядзейка (1914–1987) (трэці — Міхась Зуй (1909–1995) — жыў і памёр у Аўстраліі).

На самім Саўт-Рывэрскім могільніку, акрамя прыватных пахаваньняў пастаўлены таксама крыж-помнік у гонар Сьв. Эўфрасіньні Полацкай, імя якой носіць царква й сьледам за ёй самі могілкі. А за некалькі кілямэтраў ад нэкропалю, недалёка ад самой царквы, разьмешчаны й згаданы вышэй мэмарыяльны крыж-помнік у гонар змагароў за незалежнасьць Беларусі, што стаў таксама творам прыхільнікаў Беларускай цэнтральнай рады.

### *Могілкі царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Іст-Брансьвіку*

У недалёкім ад Саўт-Рывэру нью-джэрзійскім Іст-Брансьвіку таксама знаходзяцца менавіта беларускія могілкі. Яны былі арганізаваныя царквой Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ, што месьціцца ў Гайлэнд Парку.

Беларускі асяродак у Гайлэнд Парку і Нью-Брансьвіку стварылі таксама, як і саўт-рывэрскі, прадстаўнікі паваеннай беларускай эміграцыі, што сталі сяліцца тут ад 1948 г. Ужо ў 1951 г. праваслаўны сьвятар Сьцяпан Войтанка адслужыў першую літургію ў парафіі Жыровіцкай Божай Маці. Недзе праз дзесяць гадоў быў набыты будынак пад царкву[27]. У 1959 г. парафія прыдбала таксама асобны абгароджаны пляц зямлі пад могілкі. Тады ж зьявіліся й першыя пахаваньні: да 1959 г. адносяцца магілы Ўладзімера Кабушкі (1910–1959), Нікадыма Дубягі (1898–1959) і колішняга кіраўніка Наваградзкай гімназіі ды Гімназіі імя Янкі Купалы ў Нямеччыне Аляксандра Орсы (1896–1959). Па стане на 2010 г. на могільніку разьмяшчаліся 148 магілаў, у якіх пахаваныя 211 чалавек, пераважна праваслаўныя беларусы. Большасьць эпітафій пададзеныя ў ангельскай (79, або 53 %) і беларускай мовах (кірыліцай — 26 і лацінкай — 15, разам 28 %) або адразу пабеларуску й па-ангельску (18 надпісаў, або 12 %). Астатнія эпітафіі (7 %) сустракаюцца па-расейску і па-польску або ў спалучэньні расейскай і ангельскай моваў.

Як і ў выпадку з саўт-рывэрскім могільнікам, сярод пахаваных у Іст-Брансьвіку пераважаюць мужчыны, народжаныя да 1920 г. Агульная колькасьць народжаных да 1920 г. сярод пахаваных складае 141 чалавек (68 %), зь іх 50 зьявіліся на сьвет да 1901 г. (гл. табліцу 3). Найранейшая дата нараджэньня — 1875 г. — пазначаная на помніку Аляксандры Паланевіч (1875–1966), маці пісьменьніка Гіпаліта Паланевіча (1907–1997).

[27] Кіпель, Вітаўт. Беларусы ў ЗША. С. 221–222.

*Табліца 3*

| Гады нараджэньня | Пахаваныя | | Жанчыны | | Мужчыны | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць, чал. | % ад агульнай колькасьці | Колькасьць, чал. | % ад народжаных у гэты пэрыяд | Колькасьць, чал. | % ад народжаных у гэты пэрыяд |
| Да 1901 г. | **50** | 24 | **24** | 48 | **26** | 52 |
| 1901–1910 | **42** | 20 | **11** | 26 | **31** | 74 |
| 1911–1920 | **49** | 23 | **21** | 43 | **28** | 57 |
| 1921–1930 | **49** | 23 | **19** | 39 | **30** | 61 |
| 1931–1940 | **8** | 4 | **2** | 25 | **6** | 75 |
| 1941–1950 | **7** | 3 | **1** | 14 | **6** | 86 |
| Пасьля 1950 г. | **6** | 3 | **3** | 50 | **3** | 50 |
| Разам | **211** | 100 | **81** | 38 | **130** | 62 |

У параўнаньні з могільнікам царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай сярод пахаваных нэкропалю царквы Жыровіцкай Божай Маці амаль удвая меней тых, хто народжаны пасьля 1930 г., фактычна няма пахаваньняў моладзі да 25 гадоў. Гэтыя адметнасьці, магчыма, тлумачацца тым, што Іст-Брансьвіцкі могільнік яшчэ ў большай ступені, як Саўт-Рывэрскі, быў “палітычна афарбаваны”. Закладзены палітычнымі апанэнтамі БЦР — прыхільнікамі Рады БНР — ён таксама стаў цэнтральным месцам пахаваньня яе дзеячаў. Прычым прывезеных сюды зь іншых рэгіёнаў ЗША, а таксама з Канады тут значна болей, як на могілках Сьв. Эўфрасіньні. Менавіта ў Іст-Брансьвіку пахаваныя двое з трох памерлых паваенных старшыняў Рады: і памерлы ў Канадзе Вінцэнт Жук-Грышкевіч (1903–1989), і жыхар штату Мічыган Язэп Сажыч (1917–2007). Дый што датычыць першага паваеннага прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка, які памёр і пахаваны ў Парыжы, дык магчымасьць і ягонага перавозу ў Іст-Брансьвік таксама абмяркоўвалася[28]. Тут жа пахаваныя ўсе кіраўнікі БАПЦ, у тым ліку і ўладыка Мікалай (Мацукевіч) з Канады, што спачывае побач з сваім галоўным супернікам у царкоўнай барацьбе ўладыкам Ізяславам (Бруцкі, 1926–2007), які памёр у Нью-Ёрку.

[28] Гардзіенка, Натальля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск: Кнігазбор, 2013. С. 384.

Калі саўт-рывэрскі могільнік выконваў у першую чаргу функцыі могільніку мясцовай местачковай грамады, то іст-брансьвіцкі адпачатку зрабіўся своеасаблівым нацыянальным беларускім нэкропалем у Паўночнай Амэрыцы, прынамсі для прыхільнікаў Рады БНР.

Паводле надпісаў на помніках, найдаўжэйшае жыцьцё з пахаваных у Іст-Брансьвіку — па 96 гадоў — пражылі Ян Казьлякоўскі (1894–1991) і Марыя Стагановіч (1898–1995). Але, як і з Саўт-Рывэрам, тут можна зрабіць заўвагу, што сёньня ў Нью-Ёрку жыве й яшчэ больш доўгажыхар — стогадовы Антон Шукелойць, таксама з шэрагу прыхільнікаў Рады БНР. Пахаваных у Іст-Брансьвіку асобаў ва ўзросьце ад 90 гадоў і старэйшых — 19 (9 %).

Зьвесткі пра сярэднюю працягласьць жыцьця сярод пахаваных у Іст-Брансьвіку ў прынцыпе суадносяцца з аналягічнымі па саўт-рывэрскім могільніку (гл. табліцу 4). Так, сярод народжаных у XIX ст. жанчыны ў сярэднім жылі 84 гады, а мужчыны — 79 (85 і 80 гадоў для саўт-рывэрцаў адпаведна). Народжаныя ў 1901–1910 гг. жанчыны — 82 гады, а мужчыны — 76 (82 і 73 у саўт-рывэрцаў адпаведна). Агульны сярэдні ўзрост пахаваных, народжаных да 1930 г., для жанчын складае каля 81 году, а мужчын — 76.

*Табліца 4*

| Гады нараджэньня | Сярэдні ўзрост жанчын | Сярэдні ўзрост мужчын |
|---|---|---|
| Да 1901 г. | 84 | 79 |
| 1901–1910 | 82 | 76 |
| 1911–1920 | 82 | 77 |
| 1921–1930 | 74 | 72 |
| Усе народжаныя да 1930 г. | 81 | 76 |

На могільніку царквы Жыровіцкай Божай Маці 50 адзіночных магілаў, што складае 34 % ад агульнай колькасьці. Парных магілаў 88 (62 %), зь іх у 24 пахаваны толькі адна зь дзьвюх меркаваных асобаў. Прычым парныя пахаваньні неабавязкова прызначаныя для сужэнцаў. Ёсьць колькі выпадкаў на гэтым могільніку, калі пахаваныя разам іншыя сваякі. Прыкладам, адзін помнік стаіць на магіле маці і дачкі: Эміліі Шабуні (1886–1974) і Яніны Каханоўскай (1909–2005), Ганны (1915—?) і Людмілы (1934–2004) Колін-Касьцюкевіч; сына і бацькі: Данілы (1905–1967) і Рычарда (1947–1995) Клінцэвічаў.

Нягледзячы на меншую агульную колькасьць магілаў у параўнаньні з саўт-рывэрскім нэкропалем, на іст-брансьвіцкім больш

патройных пахаваньняў — 9. Так, у агульных магілах ляжаць Іван (1914–2003) і Эўфрасіньня (1914–1988) Літвіненкі з Джонам Корнерам (1941–1994), разам Пётра (1893–1973) і Надзея (1893–1960) Марозы з Галінай Мароз-Сокал (1921–2006), сям'я Браніслава (1908–2003), Аляксандры (1922–2005) і Эдварда (1945–1991) Даніловічаў і некаторыя іншыя. Таксама разам спачываюць ужо згаданыя вышэй Аляксандра, Гіпаліт і іх дачка Тамара (1924–2005) Паланевічы, а недалёка брат і сястра Васіль (1911–1992) і Ніна (1912–2001) Стомы з маці Сьцепанідаю (1892–1966). Ёсьць і большае пахаваньне сямейнікаў Сьцяпана (1886–1968) і Філямэны (1881–1975) Войтанкаў, першых айца і матушкі прыходу Жыровіцкай Божай Маці. Разам зь імі прызначана месца для Мікалая (1915–1996) і Ганны (нар. 1926) Войтанкаў, тут жа сымбалічнае пахаваньне дачкі Ірэны, што памерла ў 1941 г. ня ў ЗША, ды яшчэ эпітафіі сына Віктара (1912–1972) і нявесткі Марыі (з Хіневічаў, нар. 1917), што маюць асобную магілу побач. Гэткая клянавасьць у значнай ступені характэрная могільніку ў Іст-Брансьвіку. Тут, напрыклад, спачываюць васьмёра Дубягаў, васьмёра Войтанкаў, сямёра Яновічаў, шасьцёра Стагановічаў, шасьцёра Станкевічаў, па пяцёра Орсаў і Казьлякоўскіх. Звычайна гэта прадстаўнікі розных пакаленьняў ды розных ступеняў сваяцтва. На саўт-рывэрскіх могілках клянавасьць заўважаецца у крыху меншай ступені

На самім могільніку Жыровіцкай Божай Маці ўсталяваны помнік у гонар змагароў за беларускую незалежнасьць. Наогул жа, наяўнасьць на адносна невялікай адлегласьці адзін ад аднаго двух найбуйнейшых беларускіх эміграцыйных нэкропаляў сьведчыць і пра глыбіню палітычнага расколу паваеннай эміграцыі, і пра імкненьне кожнай з групаў апанэнтаў да адмысловай камэмарацыйнай дзейнасьці.

### *Іншыя могілкі ў ЗША*

Па-за згаданымі адмысловымі беларускімі могільнікамі іншых такога кшталту ў ЗША не зафіксавана. Праўда, адмысловая беларуская частка ёсьць на *Riverside Cemetery* ў Кліўлэндзе. Мясцовы беларускі асяродак быў таксама заснаваны паваеннымі эмігрантамі й гуртаваўся вакол царквы Жыровіцкай Божай Маці. На жаль, дакладных зьвестак пра час арганізацыі беларускай сэкцыі на шматнацыянальным могільніку ў Кліўлэндзе няма, таксама як пакуль і поўнага апісаньня пахаваньняў. У нашым распараджэньні толькі здымкі магілаў Аўгена Каханоўскага (1912–1987) зь Інай Рытар (1906–1997) ды Сяргея Карніловіча (1928–1993). Вывучэньне кліўлэндзкага беларускага могільніка застаецца справай будучыні.

Таксама толькі асобныя пахаваньні ведамыя на могільніку ў Спрынгфілдзе (штат Масачусэтс). Тут разьмешчаныя сярод іншых

магілы айца Васіля (1908–2003) і матушкі Марыі (1920–1986) Кендышаў, прадстаўнікоў сям'і Корчыкаў (Джордж, нар. 1936; Зоя, 1938–1965; Люба, 1911—?), колішняга вайскоўца Янкі Чыжыка (1902–1968) і некаторых іншых. Аднак статус тае часткі могільніку, на якой знаходзяцца гэтыя пахаваньні, застаецца нявысьветленым.

Патрабуюць адмысловага вывучэньня й пахаваньні чыкагскіх беларусаў. Зьвестак пра асобны беларускі нэкропаль няма. Некаторыя магілы, пераважна каталікоў, можна знайсьці на могільніку Сьв. Адальбэрта (у польскіх крыніцах — Сьв. Войцэха). У прыватнасьці, менавіта тут пахаваны дзеяч БНР Мікола Дзямідаў (1888–1967) і беларускі кампазытар Мікола Куліковіч (1897–1969) з жонкаю. Асобным месцам пахаваньня некаторых чыкагскіх беларусаў, асабліва згуртаваных вакол грэка-каталіцкага прыходу Хрыста Збаўцы, стаў кляштар Сьв. Пракопа ў мястэчку Ляйль. У прыватнасьці, тут знаходзяцца магілы настаяцеляў згаданай царквы Яна Хрызастома (1892–1978) і Ўладзімера (1921–1986) Тарасэвічаў, а таксама тры магілы жанчын з тым самым прозьвішчам.

На іншых царкоўных могілках, пры рускім праваслаўным манастыры Сьв. Тройцы ў Джорданвілі (штат Нью-Ёрк) спачываюць пісьменьнік і літаратуразнаўца Ўладзімер Сядура (Глыбінны, 1910–1995), а таксама два царкоўныя ярархі беларускага паходжаньня архіяпіскап Апанас (Мартас, 1904–1984) і архімандрыт Панцеляймон (Ніжнік, 1895–1984), заснавальнік самога манастыра.

Зьвесткі пра пахаваньні ведамых амэрыканскіх беларусаў можна дапоўніць згадкамі пра магілы вайсковага дзеяча Франца Кушаля (1895–1968) і паэткі Натальлі Арсеньневай (1903–1997) ды іх нявесткі Натальлі Кушаль (1928–1967) у Рочэстэры (штат Нью-Ёрк), а таксама Мітрафана Рэпкава-Смаршчка (1915–2008) на могілках царквы Сьв. Генрыха ў Мантысэла (Мінэсота).

Такім чынам, па-за двума найвялікшымі ўласна беларускімі могільнікамі ў Саўт-Рывэры й Іст-Брансьвіку зьвесткі пра іншыя беларускія пахаваньні ў ЗША сёньня даволі фрагмэнтарныя й адлюстроўваюць неабходнасьць далейшага больш шырокага зьбіраньня матэрыялаў. Разам з тым можна вызначыць некаторыя агульныя рысы беларускіх пахаваньняў у ЗША.

Так, надмагільныя помнікі амэрыканскіх беларусаў пераважна чорнага ці шэрага колеру, надпісы на іх у больш як палове эпітафій англамоўныя. Уласна беларускія надпісы (кірылічныя і лацінічныя) складаюць 23 % эпітафій, і двухмоўныя ангельска-беларускія — 13 %. Найбольш пашыраным сымбалем на помніках зьяўляецца васьміканцовы праваслаўны крыж, хоць на магілах у Іст-Брансьвіку

й Саўт-Рывэры сустракаецца й шасьціканцовы эўфрасіньнеўскі. З нацыянальных сымбаляў найчасьцей (хоць і нячаста) выкарыстоўваюцца арнамэнт, васількі, каласы, а таксама выява Пагоні.

## Канада

У Канадзе ў другой палове XX ст. існавала адносна вялікая беларуская грамада, што складалася як зь міжваенных, гэтак і з паваенных эмігрантаў і, паводле розных падлікаў, ацэньвалася ў колькасьці ад 40 да 100 тысячаў беларусаў[29]. Як і ў ЗША, прадстаўнікі розных хваляў дзейнічалі ў асобных, паралельных арганізацыях, аднак заснаваць адмысловыя беларускія могілкі не ўдалося ні ў адным зь мясцовых беларускіх асяродкаў. Нават пра асобныя сэкцыі беларусаў на шматнацыянальных могільніках зьвестак няма.

Выдатна адлюстроўвае гэты стан найбуйнейшы беларускі асяродак у Таронта. Тут, нягледзячы на існаваньне дзьвюх беларускіх цэркваў — Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ і Сьв. Эўфрасіньні Полацкай (у юрысдыкцыі сусьветнага патрыярхату), пытаньне адмысловага месца для беларускіх пахаваньняў так і не было вырашана. У выніку сёньня магілы мясцовых беларусаў можна знайсьці на як мінімум трох вялікіх могільніках у розных раёнах гораду.

Значная колькасьць беларускіх магілаў была намі знойдзена на *York Cemetery* ў паўночнай частцы Таронта. Зямля пад гэтыя могілкі была выкупленая гарадзкімі ўладамі ў 1946 г., і ад 1948 г. тут пачалі хаваць[30]. Сярод іншых на Ёркаўскім могільніку знайшлі спачын расійская вялікая княжна Вольга Аляксандраўна й таксама пляменнік імпэратара Мікалая II (яе сын) Ціхан Кулікоўскі-Раманаў. Таксама недзе на могільніку ёсьць пахаваньне Ціма Хартана, колішняга гульца Таронта-Мэпл-Лівз ды сузаснавальніка ведамай сеткі канадыйскіх рэстарацый хуткага харчавання *“Tim Hortons”*. На могільніку ёсьць як асобныя нацыянальныя сэкцыі, гэтак і зборныя. Беларускія магілы можна знайсьці ў розных месцах, але найбольшая іх колькасьць знаходзіцца ва ўкраінскай частцы. Менавіта на гэтым могільніку пахаваны адзін зь ведамых беларускіх дзеячаў у Канадзе, пісьменьнік, выдавец Сяргей Хмара (Марыян Зіняк, 1905–1992). На ягоным помніку зьмешчаная так прапагандаваная ім выява “Двупагоні”. Зь іншых беларускіх пахаваньняў на *York Cemetery* варта адзначыць магілы сьвятара беларускай царк-

[29] Sadouski, J. A history of the Byelorussians in Canada / J. Sadouski. — Belleville, Ont.: Mika, 1981. P. 39–54.

[30] Інфармацыю пра могільнік можна знайсьці тут: http://www.mountpleasantgroup.com/York.

вы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта а. Міхася Мігая (1904–1978), грамадзкіх дзеячаў Валерыя Навіцкага (1920–2001), Язэпа Чорнага (1924–2005), Мікіты Гапановіча (1923–2008) ды іншых. Цікава адзначыць магілу з украінскамоўнай эпітафіяй Міхаіла (1898—?[31]) і Параскевы (1902—?) Бандарэнкаў, дзе месца нараджэньня сужэнцаў пазначана як *"Кобрин Польща"*, а таксама пахаваньне Міхаіла Малажэўскага (1924—?), які, паводле ангельска-расейскага надпісу, нарадзіўся ў горадзе *"Gomel-Russia"*. Шукаць беларускія магілы на гэтым могільніку надзвычай складана, бо ўласна беларускіх надпісаў амаль няма, а з ангельскіх вельмі цяжка бывае зразумець, якога паходжаньня пахаваны, калі адмысловыя пазнакі пра месца нараджэньня адсутнічаюць.

Другі таронтаўскі могільнік, дзе знойдзеныя магілы беларусаў, мае назву Park Lawn Cemetery. Ён дзейнічае ў заходняй частцы Таронта ад канца XIX ст. Тут пахаваны шэраг канадыйскіх хакейных зорак зь першай паловы XX ст.[32]. Гэтыя могілкі лічацца аднымі з самых прыгожых у Таронта, бо гэта сапраўдны парк. *Park Lawn Cemetery* знаходзіцца ў раёне, які некалі называўся "Заходняя вёска" й быў густа населены ўкраінцамі ды палякамі. Уласна таму на могілках багата ўкраінскіх і польскіх пахаваньняў. Сярод іх раскіданыя і беларускія, хоць аднаго кампактнага месца для суродзічаў не было вылучана. Найбольш ведамы з пахаваных тут беларусаў — грамадзкі дзеяч Язэп Пітушка (1912–1984), на помніку пазначана, што ён нарадзіўся *"in Bielorussia"*. Іншыя беларускія магілы таксама зьвяртаюць увагу сваімі эпітафіямі, паводле якіх, уласна, і можна зразумець паходжаньне пахаваных. Так, на помніку Міхайлы Жыбуля (1922–2006) ва ўкраінскай мове пазначана, што ён нарадзіўся ў *"село Стецки / Белорусь",* а ў нейкага А. Рабеца (1908–1978) таксама па-ўкраінску месца нараджэньня пазначана: *"ур. Яковіче / пов. Гродно / Білорусь"*. Дзіўна выглядае надпіс на магіле Пётры Шышко (1915–2005), што ён нарадзіўся ў месцы *"Lublin, Bylorussia"*. Затое на магіле Веры Сакалоўскай (1906–1976) зь месцам нараджэньня ўсё лягічна *"born in Minsk / White Russia"*. На *Park Lawn Cemetery,* пераважна паводле надпісаў, выяўленыя каля дзясятка беларускіх магілаў, але рэальна пахаваньняў беларусаў там можа быць і болей.

На яшчэ адным могільніку ў Таронта — *Pine Hills Cemetery*, што разьмешчаны ва ўсходнім прадмесьці Скарбара (*Scarborough*) ды дзейнічае ад 1928 г.[33], пахаваныя ведамыя дзеячы беларускай

[31] На гэтым і наступным згаданым помніках зь невядомай прычыны не пазначаныя даты сьмерці спачылых.

[32] Могільнік мае ўласны сайт: http://parklawnlp.ca.

[33] Зьвесткі пра могільнік можна знайсьці тут: http://www.mountpleasantgroup.com/deathoccurred/cemeteries/locations/ph.

дыяспары ў Канадзе: Мікола (1924–1999) і Марыя (1930–2015) Ганько ды пісьменьнік Кастусь Акула (1925–2008) з жонкаю й сынам. На абодвух помніках — беларуская мова побач з ангельскаю й надпісы адназначна сьведчаць пра нацыянальную прыналежнасьць пахаваных: *“Са сьвятымі супакой, Хрысьце, / Душы слуг Тваіх / Дзе няма ні болю, ні суму, ні плачу / Але жыцьце бясконцае / Ганько — Ganko / Народжаныя ў Беларусі / Born in Belarus / Мікола / 23 травеня 1924 / 16 травеня 1999 / Марыя / 25 красавіка 1930 / Грамадзкі працаўнік за Вольную Беларусь / Mikolka — my heart misses your love / and tender care”* і *“Akula / Сьветлай Памяці / Kastus / Nov. 1925 — Jan. 2008 / Nadzia / Aug. 1930 — Aug. 2001 / Alexander / Jan. 1952 — Feb. 1972 / Беларусь — наша Маці”*. Зьвестак пра іншых пахаваных на гэтых могілках беларусаў няма.

Паколькі адмысловым вывучэньнем беларускіх могілак у Канадзе ніхто пакуль не займаўся, то па-за Таронта ведамыя толькі некалькі пахаваньняў. Так, на невялікіх могілках у мястэчку *Old Chelsea* каля Атавы пахаваны грамадзкі дзеяч Янка Сурвіла (1925–1997). На ягоным помніку красуе выява Пагоні. На могільніку ў гарадку Кінгстан можна знайсьці магілу іншага грамадзкага дзеяча — Алеся Грыцука (1910–1976) — *“Змагара за волю Беларусі”*, як пазначана ў эпітафіі. Праўда, дата нараджэньня на помніку няправільная, а тая, якую колішні Ды-Пі пазначыў у сваіх польскіх дакумэнтах — 1911 год, а не 1910, як запісана ў царкоўнай мэтрыцы. Пра недакладнасьць жонка дзеяча даведалася ад мужавых сваякоў зь Беласточчыны ўжо пасьля ўсталяваньня помніку, на якім так і застаўся няправільны год[34].

Такім чынам, пахаваньняў беларусаў у Канадзе ведама няшмат (каля 30), большасьцю ў Таронта. На помніках адносна нячаста сустракаецца беларуская мова й нацыянальная сымболіка.

## Аўстралія

Масавая беларуская эміграцыя ў Аўстралію адбывалася пераважна на пачатку 1950-х гг. Тады з паваеннай Нямеччыны й Аўстрыі ў далёкую паўднёвую краіну прыбылі каля 10 тысячаў беларусаў, якія стварылі свае найбуйнейшыя асяродкі ў Мэльбурне, Сыднэі, Адэляйдзе й Пэрце[35]. Менавіта з гэтых гарадоў маем зьвесткі й пра беларускія пахаваньні.

34 Ліст Вольгі Грыцук да Вітаўта Кіпеля ад 15.10.2013. Захоўваецца ў архіве БІНіМу.

35 Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Аўстраліі: Да гісторыі дыяспары. Менск, 2004. — 468 с.

## *Беларуская сэкцыя на могільніку Fawkner Memorial Park у Мэльбурне*

Беларуская грамада ў Мэльбурне склалася ў 1950-я гг. з прадстаўнікоў розных палітычных колаў эміграцыі: асобныя арганізацыі прыхільнікаў БЦР і Рады БНР дзейнічалі паралельна. Аднак вастрыня супярэчнасьцяў зьменшылася да пачатку 1963 г., калі быў створаны “надпалітычны” Беларускі цэнтральны камітэт у Вікторыі. Рэлігійным жа цэнтрам беларускага жыцьця стала царква Трох Віленскіх Пакутнікаў БАПЦ[36].

Найбольшае кампактнае пахаваньне беларусаў у Мэльбурне знаходзіцца на мясцовым могільніку *Fawkner Memorial Park*. Ён разьмешчаны ў паўночна-заходняй частцы гораду, каля раёну Хадфільд (*Hadfield*). Гэты могільнік быў заснаваны ў 1906 г. і паводле сваёй плошчы сёньня зьяўляецца найвялікшым у штаце Вікторыя[37].

Дакладна вызначаныя беларускія пахаваньні тут сталі зьяўляцца ад 1964 г. Менавіта да гэтага часу адносіцца магіла Антона (1910–1964) і Ульяны (?—?) Лагуноў. У наступным годзе на ўкраінскай частцы могілак зьявіліся таксама пахаваньні Ўладзімера Аксючыца (1922–1965) ды Марыі Субоч (1916–1965). Усе згаданыя асобы памерлі не старыя (43–54 гады), і на той час беларуская грамада яшчэ не пасьпела паклапаціцца пра арганізацыю ўласнага нацыянальнага могільніку.

Актуальнасць праблемы набыцьця зямлі для менавіта беларускіх пахаваньняў была ўсьвядомленая мэльбурнскімі беларусамі недзе на пачатку 1970-х гг. Настаяцель царквы Трох Віленскіх Пакутнікаў а. Аляксандар Кулакоўскі ад імя прыходу набыў на згаданым вышэй шматнацыянальным гарадзкім могільніку *Fawkner Memorial Park* пляц зямлі, які і стаў афіцыйна пазначацца як беларуская дзялянка.

Першае пахаваньне на гэтай сэкцыі зьявілася ў 1971 г. Гэта была магіла старэйшага веку кабеты Акуліны Грушы (1897–1971). Ад таго часу да сярэдзіны 2014 г.[38] на беларускай дзялянцы былі пахаваны 93 чалавекі, якія ляжаць у 70 магілах. Пры гэтым мінімум 10 чалавек з пахаваных тут, як можна меркаваць па надпісах, не зьяўляюцца беларусамі. Гэта немка Брыгіта, жонка Аляксандра Калодкі, славенец Ігнацы, муж Марыі Лебар, украінка Ірэна Варона, расейцы Аркадзь

[36] Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Аўстраліі… С. 66–76.

[37] Пра могільнік можна прачытаць тут: http://www.gmct.com.au/our-locations/fawkner-memorial-park/.

[38] Менавіта ў 2014 г. былі зробленыя здымкі ўсіх магілаў на беларускай частцы, таксама як і магілаў у Сыднэі, Пэрце й Адэляйдзе. Падзяка за гэта належыць Аляксею Язылецу.

Малочка, Марыя Гушча, Уладзімір Шчэрба ды некаторыя іншыя. Тым ня менш мясцовая беларуская сэкцыя ёсьць найвялікшай паводле колькасьці кампактна пахаваных беларусаў у Аўстраліі. Да таго ж гэта асноўны беларускі могільнік у Мэльбурне.

Найстарэйшы беларус, пахаваны на могільніку *Fawkner Memorial Park*, нарадзіўся 15 верасня 1892 г. — гэта Еўдакія Шаўчук, якая пражыла больш за 90 гадоў. Народжаная ў тым самым годзе Агаф'я Шыкора, *"дарагая мама і бабуся"*, як сказана ў эпітафіі, пражыла 81 год. Наогул жа асобаў, народжаных у XIX ст., сярод пахаваных беларусаў 7 чалавек (што складае 8 % ад агульнай колькасці), сярод іх 4 мужчынаў і 3 жанчыны. У агульнай колькасьці пахаваных беларусаў суадносіны мужчынаў і жанчын складаюць 60 % і 40 % адпаведна (гл. табліцу 5). Гэта суадносіцца са зьвесткамі пра беларусаў, пахаваных на амэрыканскіх могільніках.

Пры гэтым сярод пахаваных у Мэльбурне пераважаюць асобы, што нарадзіліся паміж 1911 і 1930 гг., у адрозьненьне ад амэрыканскіх беларускіх могільнікаў, дзе таксама значная колькасьць народжаных у ранейшыя дзесяцігодзьдзі. Асобаў жа, што зьявіліся на сьвет у XIX ст., на беларускай сэкцыі толькі 7 (7 %). Хоць, магчыма, гэткую сытуацыю варта тлумачыць адносна позьнім (на 10–15 гадоў пазьней), у параўнаньні з амэрыканскімі, часам арганізацыі мэльбурнскага нэкропалю. Асобаў, народжаных пасьля 1941 г., тут таксама няшмат, толькі 4. Гэта можа сьведчыць або пра ніжэйшы ўзровень сьмяротнасьці, або пра тое, што на беларускай дзялянцы, каля сваіх, імкнуліся знайсьці спачын найперш для людзей, народжаных яшчэ ў Беларусі.

Найдаўжэйшае жыцьцё з пахаваных на беларускай дзялянцы *Fawkner Memorial Park* пражыла Антаніна Жогла (1911–2003). Асобаў жа, што пражылі 90 і болей гадоў, тут спачывае 7 (7 %). Зьвесткі пра сярэдні ўзрост пахаваных істотна адрозьніваюцца ад аналягічных па амэрыканскіх, што можа тлумачыцца меншай рэпрэзэнтацыйнасьцю аўстралійскай выбаркі. Агульны сярэдні ўзрост для народжаных да 1930 г. складае каля 80 гадоў для жанчын і каля 76 для мужчын, што пераважна адпавядае зьвесткам пра амэрыканскіх беларусаў.

На могільніку *Fawkner Memorial Park* 34 адзіночныя магілы, што складае амаль палову ад усіх пахаваньняў. Столькі ж і парных пахаваньняў, прычым у васьмі зь іх пакуль спачывае адна асоба. Толькі два помнікі на беларускай частцы прызначаныя для больш як дзьвюх асобаў. Пад адным зь іх пахаваныя бацькі Фама (1899–1978) і Аляксандра (1901–1985) Сесеткі ды іх памерлы ў 28-гадовым узросьце сын Рыгор (1944–1972). Другі вялікі трохсэкцыйны помнік стаіць над магіламі грамадзкага дзеяча Міколы Нікана (1908–1999) і дзьвюх ягоных жонак: Лідзіі (1921–1973) і Ірэны (1913–1975). З апошняй

*Табліца 5*

| Гады нараджэньня | Пахаваныя | | Жанчыны | | Мужчыны | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць, чал. | % ад агульнай колькасьці | Колькасьць, чал. | % ад народжаных у гэты пэрыяд | Колькасьць, чал. | % ад народжаных у гэты пэрыяд |
| 1901–1910 | **15** | 16 | **7** | 47 | **8** | 53 |
| 1911–1920 | **23** | 25 | **8** | 35 | **15** | 65 |
| 1921–1930 | **35** | 38 | **14** | 40 | **21** | 60 |
| 1931–1940 | **9** | 10 | **3** | 33 | **6** | 67 |
| 1941–1950 | **1** | 1 | **0** | 0 | **1** | 100 |
| Пасьля 1950 г. | **3** | 3 | **2** | 67 | **1** | 33 |
| Разам | **93** | 100 | **37** | 40 | **56** | 60 |

*Табліца 6*

| Гады нараджэньня | Сярэдні ўзрост жанчын | Сярэдні ўзрост мужчын |
|---|---|---|
| Да 1901 г. | 82 | 72 |
| 1901–1910 | 77 | 84 |
| 1911–1920 | 76 | 77 |
| 1921–1930 | 83 | 70 |
| Усе народжаныя да 1930 г. | 80 | 76 |

Мікола Нікан пражыў толькі некалькі месяцаў, пакуль яна не загінула ў аўтакатастрофе.

Нягледзячы на наяўнасьць расколу ў асяродзьдзі паваенных эмігрантаў, на беларускай сэкцыі на мэльнбурскім могільніку ў адрозьненьне ад амэрыканскіх нэкропаляў на адной дзялянцы хавалі прадстаўнікоў розных палітычных колаў эміграцыі. Гэта быў вынік таго, што мясцовыя беларусы ўжо ад 1960-х гг. намагаліся дзейнічаць супольна, не зважаючы на наяўныя палітычныя супярэчнасьці. На *Fawkner Memorial Park* пахаваныя найбольш ведамыя беларусы

пісьменьнік Алесь Салавей (1922–1978), грамадзкія й вайсковыя дзеячы Мікола Скабей (1905–1992), Янка Кудрук (1914–1984), Алег (1930–2005) і Сьцяпан (1900–1952) Шнэкі, Павал Гуз (1924–2003), Уладзімер Сідлярэвіч (1922–1999), Надзея Груша (1937–1999) ды іншыя. Тут жа спачывае й заснавальнік прыходу Трох Віленскіх Пакутнікаў ды ўласна беларускага могільніку айцец Аляксандар Кулакоўскі (1925–2010).

Помнікі на беларускіх магілах у Мэльбурне пераважна чорнага колеру з залатымі ці белымі літарамі. Больш як у палове эпітафій выкарыстоўваецца шасьціканцовы эўфрасіньнеўскі крыж, зь сьвецкіх сымбаляў можна адзначыць выкарыстаньне Пагоні, нацыянальнага арнамэнту, а таксама ў адным выпадку — беларускага й аўстралійскага сьцягаў.

Як і на могільніку ў Іст-Брансьвіку, на беларускай дзялянцы *Fawkner Memorial Park* у 1976 г. быў пастаўлены памятны крыж *"Спачылым, усім ведамым і няведамым беларусам"*. Такім чынам беларусы і ўшанавалі памяць змагароў, і пазначылі сябе ў шматнацыянальнай прасторы вялікага могільніку.

### *Беларускія магілы ў Сыднэі*

Беларуская грамада ў Сыднэі, як і мэльбурнская, склалася на пачатку 1950-х гг. у выніку паваеннай эміграцыі. Тут, таксама як і ў іншых асяродках, паралельна дзейнічалі арганізацыі прадстаўнікоў розных палітычных колаў. Спэцыфіка мясцовай сытуацыі складалася з таго, што сыднэйскім беларусам не ўдалося стварыць уласны царкоўны прыход. Удзельнікі мясцовай грамады наведвалі некалькі цэркваў Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой, якія, зразумела, не клапаціліся пра арганізацыю адмысловага менавіта беларускага могільніку ў Сыднэі або нават асобнай дзялянкі на вялікім могільніку[39]. У выніку найбольшая колькасьць ведамых пахаваньняў мясцовых беларусаў знаходзіцца на *Rookwood Cemetery*. Гэты нэкропаль, заснаваны ў 1868 г., займае каля 300 гектараў, дзе месьцяцца каля мільёну пахаваньняў, што робіць яго найбуйнейшым ва ўсім паўднёвым паўшар'і. *Rookwood Cemetery* знаходзіцца ў заходнім прыгарадзе Сыднэю[40].

Беларускія магілы на згаданым нэкропалі месьцяцца ў адной сэкцыі з украінскімі, яе часам так і называюць *"Украінска-беларуская дзялянка"* (*Ukrainian-Byelorussian section*). Мы маем зьвесткі пра 17 магілаў з гэтай сэкцыі, дзе пахаваныя 25 беларусаў. Пераважна гэта асобы, народжаныя да 1930 г., што памерлі ва ўзросьце ад 61 да

39 Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Аўстраліі… С. 55–66.

40 Могільнік мае ўласны сайт: http://www.rookwoodcemetery.com.au/.

92 гадоў. Сярод іх найбольш ведамыя дзеячы мясцовай беларускай дыяспары: Аркадзь Качан (1921–1982), Алесь Алехнік (1929–2006), Міхась Зуй (1909–1995), Міхась Лужынскі (1926–2011), Мікалай (1916–1975) і Аўгіньня (1919–1983) Каранеўскія, Аляксей Васіленя (1899–1978) і некаторыя іншыя. Парных і адзіночных пахаваньняў тут прыкладна аднолькавая колькасьць. Ёсьць і дзьве вялікія шматсэкцыйныя магілы: беларуска-ўкраінскае пахаваньне шасьці асобаў зь сем'яў Качаноў — Сьвідэрскіх, а таксама супольны помнік для Апанаса (1900–1980), Фэадосіі (1900–1980) і Алеся Алехнікаў. Большасьць эпітафій на беларускіх магілах зробленая адначасова ў беларускай і ангельскай мовах. Выключна беларускамоўны надпіс можна знайсьці толькі на помніку апошняга прэзыдэнта БЦР Міхася Зуя. З рэлігійных сымбаляў найчасьцей сустракаецца васьміканцовы праваслаўны крыж, хоць і шасьціканцовы таксама заўважны, а са сьвецкіх — Пагоня, што прысутнічае на палове помнікаў.

Важна адзначыць, што на сыднэйскім могільніку, як і на мэльбурнскім, беларусаў хавалі ў адной сэкцыі без увагі на розьніцу палітычных поглядаў, таму прэзыдэнт БЦР тут спачывае побач з раднымі БНР.

### *Беларуская сэкцыя на Karrakatta Cemetery ў Пэрце*

Беларуская грамада ў сталіцы Заходняй Аўстраліі — Пэрце — была адной з самых невялікіх, складалася зь некалькіх дзясяткаў сем'яў. Яе ўдзельнікі, згуртаваныя вакол Беларускага аб'яднаньня ў Заходняй Аўстраліі, уласнымі намаганьнямі пабудавалі Беларускі дом, які выкарыстоўваўся ў розныя часы й як грамадзкі цэнтар, і як царква Жыровіцкай Божай Маці[41]. Дзеля забесьпячэньня сваіх мэмарыяльных патрэбаў беларуская грамада набыла сабе пляц на *Karrakatta Cemetery*. Гэты гістарычны нэкропаль, уключаны ў сьпіс помнікаў культурнай спадчыны Заходняй Аўстраліі, дзейнічае ў аднайменным прыгарадзе на Захадзе Пэрту ад 1899 г. і зьяўляецца месцам апошняга прытулку розных выбітных дзеячаў штату[42].

Дакладны час зьяўленьня на мапе *Karrakatta Cemetery* побач з латыскай, украінскай і сэрбскай яшчэ й беларускай сэкцыі (*Belarusian section*) няведамы. Найбольш раньняе пахаваньне тут датуецца 1974 г. Цалкам верагодна, што ня толькі вялікая раскіданасьць беларусаў па Пэрце, але й позьні час арганізацыі спрычыніўся да таго, што беларуская дзялянка тут выглядае вельмі сьцыплай. Па стане на 2014 г. тут

[41] Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Аўстраліі... С. 83–87.

[42] Пра могільнік можна прачытаць тут: http://www.mcb.wa.gov.au/our-cemeteries/karrakatta-cemetery.

знаходзіліся толькі 6 магілаў, у якіх пахаваныя 9 асобаў 1902–1933 гг. нараджэньня. Зь іх найбольш ведамыя — Вера (1933–1995) і Міхась (1927–2003) Раецкія, працаўнікі беларускага радыё ў Пэрце. Пры гэтым на ўсіх помніках, разьмешчаных у сэкцыі, эпітафіі выключна ў ангельскай мове, а найбольш паўтаральным сымбалем зьяўляецца чатырохканцовы крыж. Нацыянальных беларускіх маркераў на магілах не заўважана.

### *Іншыя беларускія пахаваньні ў Аўстраліі*

Акрамя згаданых месцаў кампактнага пахаваньня беларусаў, іншых аналягічных у Аўстраліі ня выяўлена. Застаецца нявысьветленым месца пахаваньня адэляйдзкіх беларусаў, згуртаваных вакол царквы Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла[43]. Ёсьць інфармацыя толькі пра пахаваньне двух актыўных удзельнікаў мясцовай грамады: айца Міхася (1926–2009) і матушкі Вольгі (1933–2003) Бурносаў на *Centennial Park Cemetery*. Таксама ў Адэляйдзе быў пахаваны й першы архіяпіскап БАПЦ Сергій (Ахатэнка, 1890–1971), праўда, апеку й над арганізацыяй пахаваньня, і над магілаю ўзяла на сябе грэцкая мясцовая грамада.

Па-за адзначанымі вышэй асяродкамі, асобныя беларусы сяліліся і ў іншых месцах Аўстраліі. Маем, у прыватнасьці, зьвесткі пра магілу Лявона Парэцкага (1920–2011) у Канбэры.

Такім чынам, арганізаваныя месцы пахаваньня беларусаў у Аўстраліі можна знайсьці ў Мэльбурне, Сыднэі й Пэрце. У адрозьненьне ад амэрыканскіх нэкропаляў на аўстралійскія беларусаў не прывозілі з далёкіх адлегласьцяў, а часам нават удзельнікаў аднае грамады не хавалі на тых самых могілках, калі сям'я жыла бліжэй да іншага могільніку, гэта адбывалася асабліва ў выпадку мяшаных сужэнстваў. Адметнасьцю магілаў з мэльбурнскага й сыднэйскага нэкропаляў зьяўляецца даволі шырокае выкарыстаньне (прапарцыйна большае нават, як у амэрыканскіх беларусаў) нацыянальнай рэлігійнай і сьвецкай сымболікі, а таксама беларускай кірыліцы ў эпітафіях.

## Вялікабрытанія

Беларуская дыяспара ў Вялікабрытаніі склалася пасьля Другой сусьветнай вайны пераважна з былых жаўнераў Арміі Андэрса. Асноўнымі цэнтрамі сталі Лёндан, Манчэстэр, Брадфард, Ковэнтры й Кембрыдж[44]. Аднак месцы кампактнага пахаваньня беларусаў ве-

[43] Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Аўстраліі... С. 77–82.

[44] Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Менск: Медысонт, 2010. — 620 с.

дамыя сёньня толькі ў першых двух. Па-за тым ёсьць толькі асобныя зьвесткі пра пахаваньні Юркі Хахолкі ў Лідсе, Янкі Калбасы, Міхася Віценьчыка й Тодара Лемяшонка ў Брадфардзе ды Янкі Мазуры ў Скантарпе[45].

### *Беларускія магілы ў Лёндане*

Адметнасьцю паваеннага лёнданскага беларускага асяродку стала наяўнасьць тут мінімум трох цэнтраў прыцягненьня суродзічаў: грэка-каталіцкага асяродку ў Паўночным Лёндане, Беларускага дому Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі ды прыходу Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у юрысдыкцыі сусьветнага патрыярхату. Пры гэтым толькі грэка-каталіцкія сьвятары паклапаціліся пра арганізацыю адмысловага месца пахаваньня беларусаў.

Намаганьнямі кіраўніка Беларускай каталіцкай місіі ўсходняга абраду а. Часлава Сіповіча (1914–1981) на ***могільніку Сьвятога Панкрата*** (***St Pancras and Islington cemetery***[46]) у Паўночным Лёндане быў набыты невялікі пляц зямлі, прызначаны найперш для пахаваньня манахаў-марыянаў. Першае пахаваньне тут зьявілася ў 1971 г., калі памёр законны брат Станіслаў Даджанс (1910–1971). Далей цягам 1970-х — пачатку 1980-х побач знайшлі спачын яшчэ шасьцёра манахаў і рэлігійных дзеячаў: пісьменьнікі й выдаўцы айцы Леў Гарошка (1911–1977) і Язэп Гэрмановіч (1890–1978), Тамаш Падзява (1906–1975) ды Фэлікс Журня (1913–1982), а таксама заснавальнік асяродку, тады ўжо біскуп Часлаў Сіповіч. Да сярэдзіны 1980-х побач з царкоўнымі дзеячамі былі пахаваныя й дзьве сьвецкія асобы — Дамінік Аніська (1888–1971), які таксама жыў пры марыянскім асяродку, і Барбара Марцінкевіч (1901–1973), маці тагачаснай працаўніцы створанага сьвятарамі-ўніятамі Беларускага інтэрнату для хлапцоў імя сьв. Кірылы Тураўскага Алены Міхалюк (нар. 1930). Ужо ў 1990-я побач з манахамі знайшлі спачын грамадзкія дзеячы Янка Міхалюк (1922–1995) ды Аляксандар Лашук (1909–1997).

Цяпер на гэтай невялікай сэкцыі могілак знаходзяцца 8 магілаў, у якіх пахаваныя 13 асобаў. Адметнасьць яшчэ і ў тым, што большасьць манаскіх пахаваньняў, акрамя магілы біскупа Часлава, парныя. Так, воляю лёсу пад адным помнікам спачываюць, напрыклад, двое выдаўцоў часопіса “Божым Шляхам” айцы Леў Гарошка й Язэп Гэрмановіч. Апошнім з пахаваных на сёньня на гэтай сэкцыі стаў а. Аляксандар Надсан (1926–2015). Манаскія помнікі пераважна аднатыповыя: невялікія зь белага мармуру з чорнымі надпісамі беларускай

45 Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. С. 511–517.

46 Пра могілкі можна прачытаць тут: https://en.wikipedia.org/wiki/St_Pancras_and_Islington_Cemetery.

лацінікаю або ў ангельскай і беларускай мовах. Вылучаецца выглядам шэры крыж над магілаю біскупа Часлава, а таксама чорны помнік з залатымі літарамі — Аляксандра Лашука.

Варта зазначыць, што па-за згаданай сэкцыяй, але на тых самых могілках знаходзяцца пахаваньні яшчэ трох беларусаў: аднаго з кіраўнікоў ЗБВБ Паўла Навары (1927–1983), а таксама Васіля Тура (1920–1991) і Язэпа Радкевіча (1907–1981). Гэтыя магілы месьцяцца асобна ў іншым вялікім сэктары *St Pancras and Islington Cemetery*.

Іншыя пахаваньні лёнданскіх беларусаў раскіданыя па розных могільніках. Прыкладам, магіла Лявона Рыдлеўскага (1903–1953) месьціцца на ***Hampstead Cemetery***, пахаваньні Паўла Асіповіча (1923–1997) ды Кастуся Глінскага (1906–1987) — пры касьцёле Сьв. Андрэя Баболі. Акрамя таго, патройная магіла Яна (1912–1995) і Тамары (1927–2001) Дамінікаў ды Зінаіды Салавей (1908–1968) знаходзіцца на гістарычным ***Kensal Green Cemetery***[47]. Грамадзкія дзеячы Хведар Жынгель (1922–2005) ды Янка Сяўковіч (1920–1992) пахаваныя на ***Gunnersbury cemetery*** ў лёнданскім Кенсынгтане, а Алена (1901–1989) і Аляксандар (1924–1996) Жданковічы, Мікола Язерскі (1916–1982) і Мікола Еўшэль (1916–1986) — на далёкім заходнім ***Greenford Cemetery***. Месцы пахаваньня іншых лёнданскіх беларусаў высьветліць пакуль не ўдалося. На ўсіх пахаваньнях па-за могілкамі Сьвятога Панкрата, за выключэньнем магілы Лявона Рыдлеўскага, эпітафіі англамоўныя бязь якіх бы ні было пазнакаў беларускасьці.

## *Беларускія магілы на Southern cemetery ў Манчэстэры*

Беларуская грамада ў Манчэстэры, разьяднаная, як і амаль паўсюль, паводле палітычнай прыкметы, здолела заснаваць нават дзьве беларускія царквы: Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ ды Сьв. Мікалая ў юрысдыкцыі сусьветнага патрыярхату[48]. Аднак адмысловага менавіта беларускага месца для пахаваньняў тут цэрквы не арганізоўвалі. Тым ня менш усе ведамыя сёньня магілы суродзічаў знаходзяцца на адным — Паўднёвым — могільніку (*Southern cemetery)*. Гэты заснаваны ў 1879 г. муніцыпальны нэкропаль зьяўляецца найвялікшым у Вялікабрытаніі й другім па велічыні ў Эўропе[49]. Выразных нацыянальных сэкцый на ім няма, але большасьць (прынамсі 11

[47] Могілкі маюць уласны сайт: http://www.kensalgreencemetery.com/.

[48] Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. С. 364–367, 373–376.

[49] Зьвесткі пра могільнік можна знайсьці тут: http://www.manchester.gov.uk/info/200032/deaths_funerals_and_cemeteries/5099/manchester_cemeteries_and_blackley_crematorium/5.

з 13 выяўленых на *Southern cemetery*) беларускіх магілаў знаходзяцца ў адным сэктары — *НН*.

Зь 17 пахаваных на могільніку беларусаў толькі пяць жанчын, і ўсе яны народжаныя паміж 1916 і 1926 гг. Храналёгія мужчынскіх пахаваньняў крыху шырэйшая й пачынаецца ад 1909 г., але заканчваецца таксама 1926 г.

З 13 беларускіх магілаў на *Southern cemetery* 8 адзіночных. Парныя ж прадстаўленыя ня толькі традыцыйнымі пахаваньнямі мужа й жонкі, але й нечаканым варыянтам двух мужчынаў з рознымі прозьвішчамі: так, Кастусь Варэнік спачывае разам з Кастусём Вашчылкам. Узрост пахаваных вагаецца ад 49 да 91 году, але ў сярэднім складае 74 гады. На 9 беларускіх помніках (усе з сэкцыі *НН*) прысутнічае шасьціканцовы эўфрасіньнеўскі крыж, праўда, беларуская мова ёсьць толькі ў пяці эпітафіях і толькі побач з ангельскаю.

Сярод пахаваных на *Southern cemetery* знаходзяцца беларусы, што былі ўдзельнікамі арганізацый-апанэнтаў: дзеячы прабэнээраўскага Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі Міхась Яськевіч (1926–2002), Кастусь Шыбіцкі (1916–1990), Пётра Шыркоўскі (1925–2004), а таксама сябры прабэцээраўскага Беларускага вызвольнага руху Міхась Вішнеўскі (1924–1992), Аляксандар Шпігановіч (1917–2003) і інш. Такім чынам, нягледзячы на зацятасьць ідэйнага супрацьстаяньня, Паўднёвы могільнік у Манчэстэры паяднаў усіх.

Агульнай адметнасьцю беларускіх магілаў у Вялікабрытаніі зьяўляецца нячастае выкарыстаньне беларускай мовы ў эпітафіях (асабліва па-за месцамі кампактных беларускіх пахаваньняў) і яшчэ радзейшае — яе кірылічнага варыянту. Нацыянальная сымболіка прысутнічае пераважна ў выглядзе шасьціканцовага эўфрасіньнеўскага крыжа і таксама выкарыстоўваецца, як правіла, на магілах беларусаў, што спачываюць побач, у адной сэкцыі.

## Нямеччына

Сотні тысяч беларусаў апынуліся на тэрыторыі Нямеччыны напрыканцы Другой сусьветнай вайны. Аднак асноўная іх частка вярнулася на радзіму. Каля 100 тысячаў тых, што не пажадалі вяртацца, у другой палове 1940-х жылі ў чаканьні выезду на сталае жыхарства ў іншыя краіны пераважна ў лягерах для перамешчаных асобаў[50]. Менавіта з гэтага часу паходзяць зьвесткі й пра заснаваньне першага беларускага мэмарыяльнага помніку змагарам у Лютэнзээ, які ўжо згадваўся раней, і пра некаторыя беларускія магілы. Прыкладам, саракагадовая Сэрафіма Кабяка (1904–1945) памерла ў ліпені 1945 г.

[50] Кіпель, Вітаўт. Беларусы ў ЗША. С. 159.

у Гохштаце, дзе й была пахаваная. А ў 1948 г. загінуў у аўтакатастрофе 38-гадовы пісьменьнік Хведар Ільляшэвіч (1910–1948), і сябры-беларусы пахавалі яго ў Галенсдорфе, пазначыўшы на помніку, што тут ляжыць *“беларускі паэт”*.

Да пачатку 1950-х гг. пераважная большасьць беларусаў выехала зь Нямеччыны. Засталіся паасобныя дзеячы ў некаторых гарадах, а таксама невялікі беларускі асяродак у Мюнхене, згуртаваны вакол газэты “Бацькаўшчына”, Беларускай рэдакцыі Радыё “Вызваленьне” ды Інстытуту вывучэньня СССР. Менавіта магілы супрацоўнікаў гэтых установаў пераважна фігуруюць сярод зьвестак пра нямецкія беларускія пахаваньні. Пры гэтым мюнхенскія беларусы ня мелі аднаго “прыярытэтнага” могільніку, а іх магілы можна знайсьці мінімум на трох. Храналягічна першай стала сямейная магіла Абрамавых — Лушчынскіх — Тэадаровічаў (сям’я кіраўнічкі СБМ Надзеі Абрамавай, 1907–1979), што зьявілася на пачатку 1950-х на ***Ўсходніх могілках*** (***Ostfriedhof***)[51]. Спачатку ў 1951 г. памерла маці — Адэля Абрамава-Лушчынская (1886–1951), потым у 1959 г. на помніку дадалося імя Тамары (1940–1959), забітай невядомымі прыёмнай дачкі Надзеі Абрамавай-Тэадаровіч, у 1961 г. — імя бацькі Аляксандра (1880–1961). А ў 1979 г. памерла й сама былая кіраўнічка СБМ, супрацоўніца Інстытуту вывучэньня СССР, рэдактар часопісу “Рэлігія і атэізм у СССР”. На тых самых Усходніх могілках пахаваны й брат жонкі першага паваеннага прэзыдэнта БНР Ніны Абрамчык — Ніканор Ляўковіч (1922–1993).

На мюнхенскіх ***Заходніх могілках*** (***Westfriedhof***)[52] можна знайсьці супольнае пахаваньне Кандыбовічаў і Міняйлаў. Грамадзкі дзеяч, супрацоўнік Інстытуту вывучэньня СССР Сымон Кабыш-Кандыбовіч (1890–1975) спачывае разам з жонкай Лідзіяй (1894–1984) ды Аленай (1922–1993) і Васілём (1913–1989) Міняйламі. На тым жа могільніку знаходзіцца пахаваньне сьпявачкі Барбары Вержбаловіч (1901–1967), а таксама супрацоўніка Беларускай рэдакцыі Радыё “Вызваленьне” ды газэты “Бацькаўшчына” Ўладзімера Цьвіркі (1928–1992). На магіле апошняга — арыгінальны помнік ў выглядзе разгорнутай белай кнігі.

А вось журналіст і грамадзкі дзеяч Уладзімер Бортнік (1910–1988) пахаваны на мюнхенскіх могілках ***Perlacher Forst***. На ягоным помніку акрамя імя й датаў жыцьця — сьціплая пазнака *“journalist”*. Таксама ў Мюнхене пахаваныя іншыя супрацоўнікі Беларускай рэдакцыі Радыё “Вызваленьне”: Леанід Карась (1923–1954) і Алесь

[51] Інфармацыю пра могільнік можна знайсьці тут: https://en.wikipedia.org/wiki/Ostfriedhof_%28Munich%29.

[52] Інфармацыю пра могільнік можна знайсьці тут: https://en.wikipedia.org/wiki/Westfriedhof_%28Munich%29.

Марговіч (1927–1967). Аднак, нягледзячы на тое што здымкі гэтых магілаў захаваліся, дакладна іх лякалізаваць не ўдалося. 31-гадовы Леанід Карась быў забіты неўзабаве пасьля заснаваньня Беларускай рэдакцыі радыё, у 1954 г., і помнік на магіле ставілі сябры-супрацоўнікі, пра што сьведчыць і надпіс на ім.

А з надмагільлем Алеся Марговіча зьвязаная цэлая гісторыя. Паводле ўспамінаў Яніны Каханоўскай, жонка памерлага *«проста вар'явала, ня ведала, што зрабіць, каб ушанаваць ягоную памяць. А была яна заможнаю кабетаю, трымала краму італійскіх швэдраў. І па справах часта езьдзіла ў Італію. І вось надумала яна зрабіць помнік, але не ў Нямеччыне, а ў Італіі. У Міляне, дзе найпрыгажэйшыя ў сьвеце могілкі (я там таксама была), замовіла ў аднаго мастака зрабіць для мужа. І ён зрабіў — з выяваю маладой кабеты, якая руку прыклала да твару, думае пра нешта. І той помнік прыслалі зь Міляну, кабета заплаціла вялізныя грошы, а на мытне не прапускаюць — кажуць, гэта ня помнік, а мастацкі твор, толькі для гарадзкога пляцу, а ня могілак. Нарэшце прапусьцілі, усталявалі. І помнік той стаяў доўгі час.*

*Аднойчы, на Задушыны, яна прыбірала могілкі. Немцы надта шануюць гэты дзень — могілкі ператвараюцца ў паркі. Падыходзяць да яе трое мужчынаў ды кажуць: "Мы маем да Вас справу. Прадайце нам помнік". Яна кажа: "Гэта ж помнік, як можна!?" Тыя адказваюць: "Мы паставім іншы помнік тут, і для Вас зробім бясплатна таксама, а гэты паставім у цэнтры могільніка". Яна разважыла — жыве адна, хто будзе яе хаваць, даглядаць за могілкамі. І згадзілася. І цяпер тая Мадонна стаіць пасярод цьвінтара, на якім Гітлер растраляў 150 асобаў, што бралі ўдзел у замаху на яго… Яна яшчэ жыве. Я бачыла той помнік — дзяўчынка басанож, так за душу бярэ, шчымліва. І сказаць ёй хочаш нешта, і ў адказ пачуць»*[53].

Па-за Мюнхенам варта згадаць магілу Юльяны Вітан-Дубейкаўскай (1886–1969) на ***Заходніх могілках*** (***Westfriedhof***) у Нюрнбэргу, Дзьмітрыя Касмовіча (1909–1991) у Штутгарце, а таксама памерлага ў Гамбургу архіяпіскапа Бэрлінскага й Германскага Філафея (Нарко, 1905–1986). Разам нам ведамыя 13 беларускіх магілаў у Нямеччыне, у якіх пахаваныя 20 чалавек. Беларуская мова выкарыстоўваецца толькі ў эпітафіях на пяці помніках: Сэрафімы Кабякі, Хведара Ільляшэвіча, Леаніда Карася, сем'яў Кандыбовічаў — Міняйлаў ды Дзьмітрыя Касмовіча.

[53] Юрэвіч, Лявон. Нашыя могілкі // Запісы БІНіМ. № 27. Нью-Ёрк — Менск, 2004. С. 238.

## Іншыя краіны

У іншых эўрапейскіх краінах, дзе колькасьць беларусаў у паасобных гарадах не была значная, месцаў кампактнага пахаваньня суродзічаў знайсьці не ўдалося. У гэтых выпадках, і пераважна праз наяўнасьць сувязі зь беларусамі ў іншых краінах, захавалася інфармацыя толькі пра паасобныя пахаваньні найбольш ведамых дзеячаў.

Так, яшчэ ў даваенны час зьявіліся беларускія пахаваньні на ***Гальшанскіх могілках у Празе***. Гэты гістарычны могільнік, найбуйнейшы ў чэскай сталіцы, вядзе сваю гісторыю ад 1680 г. Тут пахаваны шмат знакамітых пражанаў, у тым ліку й Франц Кафка, а таксама багата прадстаўнікоў расейскай і ўкраінскай эміграцыі[54]. Найбольш ведамыя беларускія магілы на Гальшанах належаць двум прэзыдэнтам БНР — Пётры Крэчэўскаму (1879–1928) і Васілю Захарку (1877–1943) (апошні спачывае разам з жонкай Пелагеяй, 1890–1937). Дзьве магілы зробленыя паводле агульнага ўзору з выявай Пагоні на неабцясанай каменнай стэле. Аўтарам праекту першага помніку (Пётры Крэчаўскаму) стаў украінскі фалерыст, літаратар, мастацтвазнаўца, навуковец Мікола Бытыньскі (1893–1972). Апека над магіламі прэзыдэнтаў належыць сучаснай Радзе БНР.

Ужо ў 1980-я гг. недалёка ад згаданых магілаў зьявілася яшчэ адно беларускае пахаваньне — сьпевака Міхася Забэйды-Суміцкага (1900–1981), на помніку якога пазначана: *“Пясняр беларускі / Жыў песняй / і песняй даваў / людзям радасьць”*. Згаданыя тры магілы цягам апошніх дзесяцігодзьдзяў зьяўляюцца своеасаблівым культавым месцам для сучасных праскіх (і ня толькі) беларусаў. Ведама таксама, што на Гальшанскіх могілках быў пахаваны і яшчэ адзін знакаміты праскі дзеяч — Тамаш Грыб (1895–1938). Аднак магіла ягоная, па некаторых зьвестках, не захавалася.

Яшчэ адзін прэзыдэнт БНР, ужо паваенны, Міколы Абрамчык, разам з жонкай Нінай спачывае ***ў Францыі***, на знакамітых ***парыскіх могілках Пэр-Лашэз***. Магіла мае надзвычай сьціплы выгляд простай каменнай пліты, дзе няма ніякіх пазнак. Толькі ў XXI ст., пасьля сьмерці Ніны Абрамчык, былі пастаўленыя шыльды з імёнамі й гадамі жыцьця пахаваных. Прычынай гэткай “няўвагі” да пахаваньня першага паваеннага прэзыдэнта БНР, які фактычна аднавіў дзейнасьць беларускага ўраду ў выгнаньні, стаў канфлікт паміж ягонай сям’ёй і Радай пасьля сьмерці дзеяча. Першапачаткова была нават ідэя пахаваць Міколу Абрамчыка ў ЗША, на могілках у Іст-Брансьвіку, або паставіць там прынамсі мэмарыяльны помнік. Аднак у выніку працяглага змаганьня вакол архіваў БНР Ніна Абрамчык парвала

[54] Ольшаны — некрополь русской эмиграции. Прага: «Русская традиция», 2011. — 276 с.

амаль ўсе сувязі з эмігрантамі-беларусамі, а магіла прэзыдэнта засталася ў выключным распараджэньні жонкі й сына.

Акрамя магілы Абрамчыкаў на могільніку Пэр-Лашэз можна ўбачыць і пахаваньне паэта зь беларускімі каранямі, унука паўстанца 1863–1864 г. на Наваградчыне, Гіёма Апалінэра (Гіём Альбэрт Уладзімер Аляксандар Апалінарый Кастравіцкі, 1880–1918).

На іншых парыскіх могілках магчыма знайсьці таксама магілы выхадцаў зь беларускіх земляў XIX — пачатку XX ст. Так, на ***Манмартры*** ёсьць пахаваньні былых удзельнікаў паўстаньня 1830–1831 гг., тут жа першапачаткова спачываў Іахім Лялевель (1786–1861). На могілках ***Монпарнас*** можна пабачыць магілы мастакоў Хаіма Суціна (1893–1943) ды Восіпа Цадкіна (1890–1967), а таксама знакамітага францускага пісьменьніка й журналіста Жазэфа Кесэля (1898–1979), сына лекарагабрэя зь Вільні. А ў невялікім мястэчку ***Сэн-Жэневьеў-дэ-Буа***, на адмысловым “рускім” могільніку, пахаваны таксама зьвязаны зь Беларусьсю мастак Мсьціслаў Дабужынскі (1875–1957).

Што датычыць пазьнейшых беларускіх эмігрантаў у Францыі, то адзіная ведамая нам магіла (акрамя ўжо згаданай магілы Абрамчыкаў) знаходзіцца ў ***Сартрувілі*** каля Парыжу. Тут пахаваны інжынэр, мастак, дзеяч БНР Уладзімер Шыманец (1911–1977) і ягоная жонка Эвэліна (1908–1994). Наогул жа, даволі актыўная ў 1950-я гг. беларуская грамада ў Парыжы пакінула па сабе надзвычай мала зьвестак. Пэўная частка яе ўдзельнікаў зьехала ў іншыя краіны да пачатку 1960-х, і функцыянаваньне асяродку фактычна спынілася. Менавіта таму складана шукаць у Парыжы беларускія пахаваньні. Ведама, што беларускія грамады, якія складаліся яшчэ зь міжваенных эмігрантаў, дзейнічалі ў Паўночнай Францыі, а таксама ў мястэчку Ля Крэзо. Аднак пошукамі беларускіх пахаваньняў у тых рэгіёнах пакуль ніхто не займаўся.

Сьціплыя зьвесткі й пра пахаваньні беларусаў у Бэльгіі. Найбольш ведамая магіла тут у мястэчку ***Лювэн*** (***Лёвэн***), дзе на пачатку 1950-х вучылася колькі дзясяткаў беларускіх студэнтаў. На мясцовых могілках пахаваны знакаміты кампазытар, стваральнік Беларускага студэнцкага хору, аўтар музыкі гімну “Магутны Божа” Мікола Равенскі (1886–1953). Зьвестак пра беларускія пахаваньні зь іншых рэгіёнаў Бэльгіі пакуль не сабрана.

Толькі адна беларуская магіла ведамая ў швэдзкім ***Стакгольме***. Яна належыць заснавальніку й лідару Беларускай Грамады ў Скандынавіі Васілю Лукашыку (1911–1975). Актыўныя беларусы-сьвятары жылі ў паваенны час у ***Рыме***, працавалі ў Беларускай рэдакцыі Радыё Ватыкану. Пазьнейшы працаўнік — а. Робэрт Тамушанскі (1940–1996), пахаваны ў супольнай магіле зь яшчэ чатырма асобамі небеларускага паходжаньня на ***Cimitero Flaminia*** каля станцыі *Montebello*. На тым самым могільніку быў пахаваны і заснавальнік Беларускай рэдакцыі



Паховіны Міколы Равенскага. Лювэн, 1953 г.

Радыё Ватыкану прэлат Пётра Татарыновіч (1896–1978), аднак дакладнае месцазнаходжаньне ягонай магілы сёньня няведамае. Ёсьць верагоднасьць, што з прычыны сканчэньня аплаты за месца ён быў перапахаваны ў нейкай агульнай магіле[55]. Затое на некаталіцкіх рымскіх могілках у раёне Тэстаччо (*Cimitero acattolico al Testaccio*) месьціцца пахаваньне апошняга менскага губэрнатара Ўладзімера Друцкага-Сакалінскага (1890–1943). Своеасаблівымі цікавосткамі выглядаюць магілы знакамітай Магдалены Радзівіл (1861–1945) у швайцарскім ***Фрыбургу*** (***Фрайбургу***) або былога паўстанца 1863–1864 гг., нацыянальнага героя Польшчы й Грэцыі Зыгмунта Мінэйкі (1840–1925) на ***Першых Афінскіх могілках***.

Асаблівая сытуацыя зь беларускімі пахаваньнямі ў ***Польшчы***. Магілы беларусаў на Беласточчыне разглядаць як эміграцыйныя немагчыма, дый пахаваньні шмат каго з нараджэнцаў Беларусі ў Варшаве ды іншых гарадах, асабліва для часоў XIX ст., складана лічыць замежнымі. У наш пералік пакуль ўключаныя толькі 7 пахаваньняў: магіла Алеся Гаруна (1887–1920) на Ракавіцкіх могілках у Кракаве, а таксама магілы каханай жанчыны Кастуся Каліноўскага Марыі Ямант (1842–1908), фатографа Яна Булгака (1876–1950), сьпевака Чэслава Немэна (1939–2004), літаратараў Тадэвуша Даленгі-Мастовіча (1898–1939) ды Адама Плуга (1823–1903), а таксама этнографа Мі-

[55] Практыка аплачваньня месца на могілках на пэўны тэрмін існуе шмат у якіх краінах. Па сканчэньні гэтага тэрміну пры неўнясеньні новай грашовай сумы цела можа быць перапахаванае ў агульным могільніку, а месца аддадзенае пад новыя пахаваньні.

хала Федароўскага (1853–1923) — усе на ***Старых Павонзкаўскіх могілках у Варшаве***.

Як бачым, праца па зьбіраньні матэрыялаў пра беларускія эміграцыйныя пахаваньні мае працягвацца. Застаюцца нявырашанымі пытаньні адносна пахаваньняў беларусаў у Расеі, ва Ўкраіне ды іншых былых савецкіх рэспубліках, ці магчыма іх разглядаць у рэчышчы дыскурсу эміграцыі або больш шырокага паняцьця “замежжа”. Гэтаксама адмысловага вызначэньня патрабуюць беларускія пахаваньні на Беласточчыне й Віленшчыне.

Сёньня найбольш зьвестак мы маем адносна спэцыяльных могільнікаў, створаных беларускай эміграцыяй пераважна ў ЗША, Аўстраліі ды Вялікабрытаніі. Менавіта тут можна выявіць найбольш яскравыя рысы эміграцыйнай мэмарыяльнай культуры, бо на раскіданых па розных шматнацыянальных нэкропалях паасобных беларускіх магілах нейкія адмысловыя адзнакі “беларускасьці” заўважаюцца надзвычай рэдка.

Варта таксама адзначыць, што папярэдні аналіз (паводле надмагільляў) дэмаграфічных адметнасьцяў беларускіх грамадаў, што выступалі ў якасьці арганізатараў нэкропаляў, дазваляе сьцьвярджаць пра значную прысутнасьць у іх беларусаў, народжаных да 1930 г., што паходзілі зь сялянскага асяродзьдзя й былі носьбітамі традыцыйных нацыянальна-культурных каштоўнасьцяў ды сьветапогляду.

## Адметнасьці камэмарацыі эмігрантаў

Паводле дасьледчыка Ўладзімера Лобана, *“у беларускай народнай культуры могілкі — адзін з найважнейшых локусаў сакральнай тапаграфіі, неадменны і пазнавальны элемент лакальнага культурнага ландшафту, які характэрызуецца амбівалентным статусам у міфапаэтычнай мадэлі свету: прадметна ўвасабляе ідэю смерці ў жыццёвай прасторы і адначасова вылучае свет памерлых продкаў як сакральную (святую) тэрыторыю; сакральны статус могілак мадэлюецца з дапамогай элементаў як прыроднага (пагорак, лес), так і антрапагеннага (крыжы, надмагільныя помнікі, раўкі, брамы, капліцы) паходжання ў іх цеснай узаемасувязі”*[56]. Прадстаўнікі беларускай эміграцыі — носьбіты традыцыйных пахавальных уяўленьняў (што вызначаюцца трываласьцю й кансэрватызмам) ня мелі магчымасьці ўвасабляць іх у поўнай меры, знаходзячыся ў чужым грамадзтве.

[56] Лобач, Уладзімір. Міф — прастора — чалавек. Традыцыйны культурны ландшафт беларусаў у семіятычнай перспектыве. Мінск: Тэхналогія, 2013. С. 428–429.



Ларыса Геніюш на пахаваньні Васіля Захаркі. Прага, 1943 г.

І магчымасьці арганізацыі ўласных могільнікаў тут былі абмежаваныя, і афармленьне магілаў ды пахавальная абрадавасьць непазьбежна зьведвалі на сабе ўплывы заходняга грамадзтва. Вынікам станавілася новая, менавіта эміграцыйная пахавальная ды, шырэй, мэмарыяльная культура, што і ўвасобілася ў беларускіх нэкропалях.

Мэмарыяльная культура некропаляў звычайна выяўляе сябе ў некалькіх аспэктах: 1) характар пахаваньня, 2) форма й асаблівасьці надмагільляў, 3) характар эпітафіі, 4) мадэлі пахавальнага абраду й паводзінаў людзей на могілках. Пры гэтым ахарактарызаваць згаданае ў апошнім пункце паводле наяўнай сёньня інфармацыі надзвычай складана. Толькі на падставе выяўленчага матэрыялу (а ў архіўных зборах захаваліся здымкі з асобных пахаваньняў: Васіля Захаркі, Міколы Равенскага, Пётры Сыча, Радаслава Астроўскага, Алеся Салаўя, Антона Адамовіча ды некаторых іншых, а таксама захавалася цэлая калекцыя памятных картак эмігрантаў[57]) аднавіць адметнасьці пахавальнага абраду эмігрантаў немагчыма. Неабходна праводзіць адмысловае дасьледаваньне з апорай на нарацыйныя крыніцы, асабліва на вусныя ўспаміны. А вось пра характар пахаваньняў, надмагільлі ды эпітафіі на беларускіх эміграцыйных могілках зьвестак назьбіралася дастаткова. Таму менавіта на гэтыя

57 Гардзіенка, Натальля. Матэрыяльная культура беларускай эміграцыі: асноўныя калекцыі // Запісы БІНіМ. № 36. Нью-Ёрк — Менск, 2013. С. 42–45.

моманты мы й паспрабуем зьвярнуць увагу, разглядаючы ўсе назапашаныя “могілкавыя” эміграцыйныя матэрыялы ў комплексе ў рэчышчы вывучэньня мэмарыяльнай культуры.

## *Характар эміграцыйных пахаваньняў*

У матывацыі пахавальнай дзейнасьці чалавека можна вылучыць дзьве найважнейшыя ўстаноўкі: захаваньне памяці пра памерлага і ўздзеяньне на сучасьнікаў. Пры гэтым *“могілкі як рытуальная прастора замыкаюць на сабе інтэграцыйную, ідэнтыфікацыйную, інфармацыйную, мемарыяльную, прадукавальную, засцерагальную функцыі, уласцівыя пахавальна-памінальнай абраднасці ў цэлым”*[58]. Так, удзельнікі беларускіх эміграцыйных грамадаў, разумеючы немагчымасьць вяртаньня для вечнага спачыну на радзіму, пераважна стараліся забясьпечыць сабе месца для магілы “каля сваіх”. Там, дзе не было створана адмысловых беларускіх могільнікаў, беларусы імкнуліся трапіць на агульнаправаслаўныя ці ўкраінскія часткі шматнацыянальных нэкропаляў. Гэтак беларускія пахаваньні суседнічаюць з расейскімі ці сэрбскімі на лёнданскіх могілках *Kensal Green*, таронтаўскіх *Park Lawn Cemetery* і *Pine Hills Cemetery* ды шмат іншых. Аднак найбольш традыцыйнымі суседзямі беларусаў на могільніках аказваюцца ўкраінцы. Пры гэтым часам утвараюцца адмысловыя беларуска-ўкраінскія сэкцыі, як, прыкладам, на *Rookwood Cemetery* ў Сыднэі або на *York Cemetery* ў Таронта. Відавочна, імкненьне “інтэгравацца” ў пэўную культурна ці рэлігійна блізкую прастору ня толькі пры жыцьці, але й пасьля сьмерці было адной з істотных патрэбаў беларускага эмігранта.

Зьнешні выгляд і характар пахаваньня часта адлюстроўвае ўласную волю памерлага. Больш за тое, у асяродзьдзі беларускіх эмігрантаў даволі пашыраная практыка набыцьця ня толькі зямлі пад будучае ўласнае пахаваньне, але й папярэдняе ўсталяваньне на ёй помніка, дзе пасьля сьмерці трэба будзе толькі дадаць адпаведную дату. Прычым гэта датычыць ня толькі выпадкаў парных ці групавых помнікаў, калі паміраў адзін зь меркаваных пахаваных і на помніку пазначаліся таксама зьвесткі й пра іншых будучых “суседзяў”. На мэльбурнскіх ды іст-брансьвіцкіх беларускіх могілках даводзілася бачыць і аформленыя помнікі “на будучыню” пры поўнай адсутнасьці пад імі пахаваных.

Частковае тлумачэньне гэткай практыкі можна знайсьці ў артыкуле Ўладзімера Бакуновіча, зьмешчаным у газэце “Бацькаўшчына” ў 1961 г. Аўтар распавядае, што беларуская грамада набывала могільнік у Іст-Брансьвіку супольнымі намаганьнямі, узяўшы пазыку каля 15 тысячаў даляраў, а цяпер зьяўляюцца беларусы, якія

[58] Лобач, Уладзімір. Міф — прастора — чалавек... С. 412.

паміраюць, не паклапаціўшыся пра месца свайго вечнага спачыну. У выніку грамада ў складчыну мае хаваць такіх беларусаў і пазыку за могільнік выплочваць усё складаней. Уладзімер Бакуновіч зазначае, што пры афармленьні пазыкі *"разьлічвалі, што суродзічы закупяць пляцы і доўг хутка будзе сплачаны"*[59]. Такім чынам, папярэдняе набыцьцё зямлі пад ўласную магілу віталася арганізатарамі могільніка, а ўстаноўка й помніка пры жыцьці дазваляла пазбавіць грамаду ад магчымых выдаткаў пасьля сьмерці беларуса.

Супрацьлеглы варыянт гэткага клопату адлюстроўваецца ў адзінкавых выпадках, калі жаданьнем беларускіх дзеячаў была адмова ад традыцыйнага пахаваньня. Прыкладам, крэміраваць сябе й разьвеяць попел на роднай Случчыне папрасіў пісьменьнік Уладзімер Шнэк (Случанскі, 1927–1995), таму ягоную магілу ня знойдзеш на мэльбурнскіх могілках, дзе пахаваныя сваякі творцы. Іншы пісьменьнік, Янка Юхнавец (1921–2004), пажадаў быць разьвеяным над улюбёным Нью-Ёркам. Аднак традыцыйным для беларускіх эмігрантаў усё ж зьяўляецца пахаваньне паводле хрысьціянскіх канонаў, дзе нэкропаль выступае як найважнейшы сувязны элемэнт паміж "тым" і "гэтым" светам.

Разам з тым помнікі адлюстроўваюць ня толькі жаданьні памерлых, але й уяўленьні пра іх і сьмерць наогул жывых. Звычайна клопат пра рытуал пахаваньня й наступнае афармленьне ды догляд магілы зьяўляецца справай сям'і памерлага. Што праўда, часам жаданьні сям'і не зусім адпавядаюць інтарэсам самога нябожчыка. Прыкладам, жонка-каталічка беларускага грамадзкага дзеяча зь Вялікабрытаніі Паўла Асіповіча вырашыла крэміраваць свайго мужа й пахаваць яго пры польскім лёнданскім касьцёле Сьв. Андрэя Баболі, не зважаючы на тое, што муж ня меў ніякага дачыненьня ні да палякаў, ні да каталікоў.

Нягледзячы на тое што менавіта сваякі часта прымаюць рашэньне і пра месца пахаваньня, і пра афармленьне магілы, у гісторыі беларускай эміграцыі багата сытуацый, калі згаданыя клопаты брала на сябе грамада. Часьцей гэта адбывалася, калі паміраў чалавек адзінокі. Так, беларусы Нямеччыны ўзялі на сябе арганізацыю пахаваньня і ўладкаваньне помніка на магіле пісьменьніка й журналіста Хведара Ільляшэвіча, што загінуў у 1948 г. у аўтакатастрофе. Гэта было адно зь першых гучных пахаваньняў у асяродзьдзі беларускай паваеннай эміграцыі. На пачатку 1950-х клопат пра таксама трагічна памерлага беларуса Міхася Шастака (1923–1953) узяло на сябе Згуртаваньне беларусаў у Вялікабрытаніі. У 1953 г. у Лювэне памёр кампазытар Мікола Равенскі. Ягонае пахаваньне, а таксама наступную ўстаноўку помніка (аўтарам стаў Міхась Наўмовіч, 1922–2004) узя-

59 Ул. Каб і жывым не балела // Беларус. № 127. Лістапад 1967. С. 5.

ла на сябе найперш студэнцкая грамада. Гэта было таксама гучнае пахаваньне зь вялікай колькасьцю бэльгійскіх гасьцей і беларусаў з розных эўрапейскіх асяродкаў. Прыкладаў такіх арганізаваных клопатам грамады пахаваньняў эмігрантаў дастаткова. Тут можна згадаць помнікі і на магілах прэзыдэнтаў БНР Пётры Крэчэўскага ды Васіля Захаркі ў Празе, і маладога забітага журналіста Леаніда Карася ў Мюнхене ды інш.

Цікавы выпадак з былым слуцкім паўстанцам, дзеячам беларускай эміграцыі ў Францыі Лявонам Рыдлеўскім. Ён таксама ня меў на эміграцыі сям'і, а апошнія месяцы свайго жыцьця правёў пры беларускім грэка-каталіцкім асяродку ў Лёндане. Пасьля яго сьмерці ў 1954 г. менавіта лёнданскія беларусы ўзялі на сябе клопат пра пахаваньне дзеяча. Праўда, паколькі ён ня быў "мясцовым" і да таго ж быў пахаваны на даволі далёкіх ад асноўных месцаў спачыну суродзічаў (гэтыя месцы сталі афармляцца пазьней) могілках, празь нейкі час магіла аказалася занядбанай й зьнік нават пастаўлены на ёй помнік. Толькі больш як праз паўстагодзьдзя пасьля сьмерці дзеяча ягоная магіла была адноўленая й намаганьнямі Згуртаваньня беларусаў Вялікабрытаніі там быў пастаўлены новы помнік. Гэты выпадак выразна сьведчыць пра тое, наколькі важнай для захаваньня памяці пра эмігранта была сувязь зь мясцовай грамадой. Паадзінкавыя беларускія пахаваньні, натуральна, часьцей "забываюцца" й занядбоўваюцца, чым групавыя.

Традыцыйным арганізацыйным цэнтрам беларускіх могільнікаў на эміграцыі выступалі цэрквы, а магілы адлюстроўваюць асаблівасьці хрысьціянскай, і найперш праваслаўнай, пахавальнай культуры. Варта адзначыць, што ў адрозьненьне ад традыцыйнай мэтрапольнай практыкі, калі каталікоў і праваслаўных хавалі на асобных могілках або на розных частках аднаго могільніку, на эміграцыйных беларускіх нэкропалях (нягледзячы на тое, што іх арганізатарамі выступалі пераважна праваслаўныя цэрквы), побач і нават у адной магіле маглі хаваць прадстаўнікоў розных кірункаў хрысьціянства. Асабліва часта гэта сустракаецца ў выпадку пахаваньняў мяшаных параў. Так, асобныя васьміканцовы праваслаўны і чатырохканцовы лацінскі крыжы можна знайсьці на помніку Ўолтэра (1910–1966) і Эмы (1920—?) Казановічаў, Майка Пятроўскага (1895–1969) і Марыі Сімеон (1882–1970), Міколы (мал., 1922–2005) і Ганны (1925–2005) Абрамчыкаў ды іншых на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Іст-Брансьвіку. Аналягічныя прыклады бачым і на іншых беларускіх могільніках.

У структуры асобных беларускіх эміграцыйных могільнікаў часам можна вызначыць некаторыя элемэнты іерархічнасьці, нават сэгрэгацыі. Нягледзячы на тое што пераважная большасьць пахаваньняў запаўняла прастору могілак храналягічна-паступова, шэраг за шэрагам (і па эпітафіях можна гэта выразна ўбачыць), часта

вылучаліся цэнтральныя месцы й пахаваньні. Так, на могільніку царквы Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры галоўнае месца належыць ўласна крыжу ў гонар сьвятой патронкі і разьмешчаным каля яго пахаваньням прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага ды заснавальніка саўт-рывэрскай парафіі а. Мікалая Лапіцкага. Помнікі над іх магіламі адрозьніваюцца ад іншых ня толькі месцам, але й зьнешнім выглядам. На могільніку царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Іст-Брансьвіку вылучаецца своеасаблівая сэкцыя пахаваньняў ярархаў БАПЦ. Побач асобна ад іншых разьмешчаныя магілы ўладыкаў Васіля (Тамашчык, 1900–1970), Андрэя (Крыт, 1901–1983), Мікалая (Мацукевіч, 1917–2002) ды Ізяслава (Бруцкі, 1926–2007). Нягледзячы на зацятае змаганьне між сабою, усе яны на вечны спачын паклаліся побач.

Дасьледчыкі сьцьвярджаюць, што ў традыцыйнай беларускай культуры на арганізацыю могілак пераносіўся прынцып арганізацыі вёскі[60]. Найперш гэта ўвасаблялася ў арганізацыі пахаваньняў паводле сваяцкага прынцыпу (сваякі да сваякоў). У эміграцыйных могільніках гэткая традыцыя таксама заўважаецца. Даволі часта прадстаўнікі аднае сям'і ці нават кляну спачываюць у суседніх магілах або нават у адной вялікай (як у выпадках згаданых раней магілаў Войтанкаў у Іст-Брансьвіку, Качаноў у Сыднэі, сям'і Надзеі Тэадаровіч-Абрамавай у Мюнхене ды іншых). Праўда, ёсьць прыклады й своеасаблівых “разарваных” сем'яў. Так Яўхім (1898–1969) і Марыя (1904–1992) Кіпелі спачываюць на могілках у Саўт-Рывэры, а імя іх сына Вітаўта (нар. 1927) пазначана па помніку ягонай жонкі Зоры (1927–2003) у Іст-Брансьвіку, там, дзе недалёка пахаваныя яе бацькі Лявон (1897–1974) і Апалёнія (1901–1982) Савёнкі. Гэткі падзел выкліканы ўжо згаданым раней палітычным расколам у эміграцыйным асяродзьдзі, які справакаваў зьяўленьне на невялікай адлегласьці двух беларускіх могільнікаў.

Традыцыйная важнасьць для беларусаў шлюбна-сямейных сувязяў адлюстравалася і ў вялікай колькасьці парных сужэнскіх пахаваньняў. Вельмі рэдка беларускія эмігранты хаваюць сужэнцаў у асобных магілах. Найчасьцей муж і жонка спачываюць побач, а бывае, што яшчэ й з кімсьці зь дзяцей. І гэтая практыка датычыць беларускіх пахаваньняў у розных краінах эміграцыі.

Цікавы момант датычыць і пахаваньняў самагубцаў. У традыцыйнай беларускай культуры іх хавалі па-за тэрыторыяй могілак. Праўда, паводле сьведчаньняў дасьледчыкаў, у XX ст. і ў мэтраполіі ад гэтай традыцыі назіраецца паступовы адыход, як не практыкуецца гэта і ў могільніках беларускіх эмігрантаў. Што праўда, прыкладаў самагубстваў сярод эмігрантаў нам ведама ня так шмат. Адзін зь іх

[60] Лобач, Уладзімір. Міф — прастора — чалавек... С. 409.

зьвязаны з асобай грамадзкага й вайсковага дзеяча Сьцяпана Шнэка, што застрэліўся ў Мэльбурне ў 1953 г. Пры гэтым магілу зь ягоным імем можна знайсьці на мясцовым беларускім могільніку, які арганізаваўся праз амаль два дзясяткі гадоў пасьля сумнай падзеі. Відавочна, адразу пасьля самазабойства Сьцяпан Шнэк быў крэміраваны й толькі пазьней парэшткі былі пахаваныя "сярод сваіх". Да яго ў магілу пазьней паклаўся й сын Алег Шнэк.

Адметная зьява эміграцыйных могілак — сымбалічныя пахаваньні, калі побач з імёнамі рэальна спачылых у гэтым месцы нябожчыкаў на помніках пазначаліся асобы, памерлыя й пахаваныя ў іншых месцах. Так, прыкладам, на магіле Барбары Вержбаловіч у Мюнхене пляменьніца Галіна Ганчарэнка пазначыла імя й сястры пахаванай, а сваёй маці Ганны (1902–1974). Апошняя была рэпрэсаваная, прайшла праз сталінскія лягеры й памерла ў "савецкім раі"[61]. На магіле Стомаў у Іст-Брансьвіку побач з імёнамі маці Сьцепаніды, сына Васіля й дачкі Ніны, памерлых у ЗША, пазначана яшчэ імя бацькі Янкі ды даты (1878–1915). На вялікім сямейным помніку Сьцяпана й Філямэны Войтанкаў, таксама ў Іст-Брансьвіку, прысутнічаюць ня толькі імёны сыноў і нявестак (хоць некаторыя зь іх спачываюць у іншай магіле побач), але й імя дачкі Ірэны, што памерла хутка па нараджэньні яшчэ ў 1941 г. На помніку Сафіі Шчорс (1894–1981) у Саўт-Рывэры пазначана імя яе памерлага ў 1947 г. яшчэ да выезду ў ЗША мужа Васіля. На надмагільлі Паланевічаў у Іст-Брансьвіку побач з імёнамі пахаваных Гіпаліта, Аляксандры й Тамары напісана: *"Połonievič / Aleksandar / 1866–1936 / Pachavany u / Biełarusi"*. А каля надмагільнага помніку Сьвятаслава (1917–1997) і Веры (1913–1987) Каўшоў пакладзеная невялікая памятная пліта ў памяць іх даўно памерлых бацькоў — Аляксандра і Лізаветы Каўшоў ды Мікалая і Алены Багаткевічаў. Згаданыя прыклады адлюстроўваюць імкненьне беларусаў на чужыне да захаваньня памяці пра сваякоў, што памерлі на радзіме або на дарогах выгнаньня.

Цікавым прыкладам адлюстраваньня повязі эміграцыі й мэтраполіі на ўзроўні сямейных пахаваньняў ёсьць адзін помнік на Вайсковых могілках у Менску. Тут спачываюць бабуля ведамага эміграцыйнага дзеяча Вітаўта Кіпеля — Марфа Ваўчок-Зубкоўская (пам. 1926) і яе брат Лукаш Ваўчок (пам. 1944). Акрамя пазнакаў пра саміх памерлых на надмагільлі пазначана: *"Рэшта сям'і Марфы раскіданая па сьвеце. / Сын Коля трагічна загінуў у 1928 г. пахаваны ў Бранску, / муж Васіль памёр у г. Арле ў 1942 г.; дачка Насьця — весткі губляюцца / ў 1941 г.; дачка Марыя Зубкоўская-Кіпель памерла ў ЗША ў 1992 г. / і пахаваная на Беларускім могільніку ў Саўт Рывэры. / Помнік паставіў унук Вітаўт з сям'ёй"*.

[61] Руднік, Галіна. Птушкі пералётныя. Радыё Свабода, 2011. С. 116–127.

Калі спрабаваць вызначыць адметнасьці характару беларускіх эміграцыйных пахаваньняў, то варта адзначыць іх часта сваяцка-клянавы прынцып, адпаведнасьць хрысьціянскай пахавальнай традыцыі, талерантнасьць да іншаверцаў і замежнікаў (калі яны зьяўляліся членамі сям'і беларусаў), а ў некаторых выпадках — палітычную падзеленасьць пахаваньняў.

### Надмагільныя помнікі

Надмагільныя помнікі выступаюць сымбалічным ядром любых могілак. У традыцыйнай культуры яны адлюстроўваюць адмысловы этап у працэсе трансфармацыі ўяўленьняў пра памерлага: цела — магіла — помнік. *"Помнікі ў беларускай сялянскай культуры выконвалі функцыю медыятара паміж жывымі і памерлымі, удзельнічалі ў сімвалічным абмене між імі, накіраваным на пераадоленне структурнага шоку ў выніку кантакту са смерцю"*[62], — сьцьвярджае дасьледчык пахавальнай культуры Сяргей Грунтоў.

Зьяўленьне на магіле помніка ў традыцыйнай культуры сымбалізавала пераход ад пэрсанальнага характару памінаньня да каляндарнага (у адпаведныя дні году), і памерлы канчаткова адасабляўся ад сьвету жывых, перайшоўшы ў катэгорыю "дзядоў"[63]. Можна меркаваць, што надмагільны помнік быццам канчаткова замяняў сабою для жывых асобу памерлага, менавіта таму кожны помнік меў сваю індывідуальнасьць.

Сёньня знакавая функцыя надмагільляў зводзіцца звычайна да дзьвюх галоўных пазыцый: 1) знак магілы як такой і 2) прыналежнасьць да тае ці іншае культурнае парадыгмы[64]. У дачыненьні да першай функцыі найбольшае значэньне мае агульны вонкавы выгляд пахаваньня, а да другой — нутраная сымболіка.

На зьнешні выгляд надмагільных помнікаў беларускіх эмігрантаў найвялікшы ўплыў зрабіла хрысьціянская традыцыя, і найперш праваслаўная, для якой культ памінаньня памерлых мае надзвычай вялікае значэньне. Найбольш характэрнымі формамі эміграцыйных надмагільляў зьяўляюцца крыж, пліта, стэла. Сустракаюцца ў беларускіх эмігрантаў, безумоўна, і нестандартныя варыянты. Пра скульптуру "плакальшчыцы" на магіле Алеся Марговіча ўжо была размова вышэй. Да экстраардынарных можна аднесьці таксама помнік

62 Грунтоў, Сяргей. Семантыка мемарыяльных помнікаў у прасторы традыцыйнай сялянскай культуры канца XVIII — пачатку XX ст. Гл.: http://niekropali.by/artykul/632.

63 Грунтоў, Сяргей. Семантыка мемарыяльных помнікаў...

64 Святославский, А. История России в зеркале памяти. Механизмы формирования исторических образов. Москва, 2013. С. 464.

у выглядзе разгорнутай кнігі на магіле Ўладзімера Цьвіркі ў Мюнхене або скульптурную выяву, зробленую мастаком Міхасём Наўмовічам на магіле Міколы Равенскага ў Лювэне.

Зразумела, што выгляд большасьці эміграцыйных помнікаў у пэўным сэнсе абмяжоўваўся прапановамі адпаведных рытуальных кампаній, што дзейнічалі ў краінах адыходу эмігрантаў на вечны спачын. Пры гэтым і матэрыялы, і тэхнікі выкананьня помнікаў з часам відавочна зьмяняліся, а таксама адрозьніваліся ў залежнасьці ад краіны. Пераважная большасьць эміграцыйных надмагільляў выробленая з граніту чорнага, шэрага ці чырвона-карычневага колеру. Белыя помнікі сустракаюцца радзей, напэўна, з прычыны іх меншай практычнасьці. (Помнікі белага колеру з часам маюць тэндэнцыю цямнець і патрабуюць рэгулярнай сур’ёзнай чысткі з дапамогай адмысловай тэхнікі. Пацьверджаньнем таму могуць быць беларускія манаскія пахаваньні на могілках Сьвятога Панкрата ў Лёндане.)

Калі зважаць на “рэгіянальныя” адметнасьці надмагільляў, то, прыкладам, беларускія помнікі ў Мэльбурне большай часткай выкананыя з граніту чорнага або спалучэньня чорнага й шэрага колераў з надпісамі, зробленымі залатой фарбай. А вось на могілках у амэрыканскіх Саўт-Рывэры ды Іст-Брансьвіку пераважаюць надмагільлі з шэрага граніту, спалучэньні сьветла- і цёмна-шэрага колераў, з выбітымі цёмнымі надпісамі. Тут таксама, праўда радзей, сустракаюцца варыянты чырвона-карычневых і чорных помнікаў.

Для XX ст. характэрнай рысай пахавальнай культуры розных краінаў зьяўляецца індывідуалізацыя помнікаў праз выкарыстаньне выяваў памерлых або ў выглядзе адмысловых мэдальёнаў-фотаздымкаў, або з нанясеньнем партрэту непасрэдна на помнік. Апошняе на эміграцыйных надмагільлях сустракаецца дастаткова рэдка, а вось практыка зьмяшчэньня мэдальёнаў-фотаздымкаў даволі пашыраная і на аўстралійскіх, і на брытанскіх, і на амэрыканскіх беларускіх могілках.

Нутраную сымболіку эміграцыйных надмагільляў можна падзяліць на некалькі вялікіх групаў. Першую складае ўласна *хрысьціянская сымболіка*, асноўнае месца ў якой займае выява крыжа. Яна выкарыстоўваецца на пераважнай большасьці разгледжаных пахаваньняў. Надмагільлі без крыжа тае ці іншае формы сустракаюцца вельмі рэдка. Найчасьцей крыж тады замяняецца нейкім іншым хрысьціянскім сымбалем. Прыкладам, няма крыжа, а толькі ружы на помніку Эдварда (1915–1990) і Бляндыны (1918—?) Шабуняў у Іст-Брансьвіку, таксама толькі кветкі на надмагільнай шыльдзе Эміліі Хмуры (1901–1988), малітоўна складзеныя далоні замяняюць крыж на надмагільлі Ганны (1931–1990) і Мікалая (1920–1980) Калінкаў у Саўт-Рывэры, а на магіле Джорджа Корчыка ў Спрынгфільдзе

(Масачусэтс) замест крыжа выява Эўфрасіньні Полацкай. Зусім няма ніякіх сымбаляў, толькі эпітафіі на помніках Эмануіла Ясюка (1906–1977) у Саўт-Рывэры, Ганны (1900–1979), Веры ды Міхася Раецкіх у Пэрце, Антона і Ўльяны Лагуноў у Мэльбурне, Паўла Навары ў Лёндане, Пётры Шыркоўскага ў Манчэстэры й некаторых іншых. Праўда, нельга адназначна сьцьвярджаць пра атэістычны сьветапогляд згаданых пахаваных.

Сярод формаў крыжа, якія выкарыстоўваюцца на эміграцыйных пахаваньнях, вылучаюцца тры. Найбольш пашыраны васьміканцовы праваслаўны крыж, другім па папулярнасьці зьяўляецца лацінскі чатырохканцовы (які выкарыстоўваецца ня толькі на каталіцкіх магілах), трэці варыянт — шасьціканцовы эўфрасіньнеўскі крыж выкарыстоўваецца пераважна ў месцах кампактнага пахаваньня беларусаў. Так, менавіта такая “нацыянальная” форма крыжа дамінуе на беларускіх пахаваньнях у Мэльбурне й Манчэстэры, а таксама вельмі пашыраная на могільніку ў Іст-Брансьвіку (у адрозьненьне ад саўт-рывэрскага, дзе дамінуе васьміканцовы крыж, а шасьціканцовы сустракаецца толькі на асобных помніках). Можна заўважыць, што асабліва шырокае выкарыстаньне эўфрасіньнеўскага крыжа назіраецца там, дзе вернікі належылі да юрысдыкцыі Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы.

Адметнасьцю крыжоў, што прысутнічаюць на беларускіх магілах (асабліва ў Канадзе й ЗША), зьяўляецца іх аздабленьне расьлінным або нацыянальным арнамэнтам. Апошняе назіраецца таксама і на ўкраінскіх пахаваньнях і, магчыма, было перанятае беларусамі ад суседзяў.

Унікальная выява так званага шасьціканцовага “галгофскага” крыжа, або крыжа на пастамэнце, выкарыстаная на помніку, дарэчы, яшчэ жывых Кастуся й Марыі Вераб’ёў у Іст-Брансьвіку.

Выява крыжа можа быць або выбітая ці намаляваная на помніку або ўяўляць зь сябе адмысловую яго скульптурную частку. Дасьледчыкі пахавальнай культуры лічаць, што памер і месца крыжа на пахаваньні ў беларусаў традыцыйна сьведчылі пра рэлігійнасьць чалавека[65]. У эміграцыйных пахаваньнях выявы крыжа дамінуючае месца звычайна займаюць на помніках сьвятарам, царкоўным ярархам. Так, вялікая выява крыжа з ўкрыжаваным на ім Хрыстом зьмешчана па надмагільлі а. Мікалая Лапіцкага. А помнік біскупу Чаславу Сіповічу ў Лёндане наогул уяўляе зь сябе крыж на пастамэнце. Што праўда, помнікі ў выглядзе крыжа сустракаюцца даволі шырока й на магілах звычайных прыхаджанаў на саўт-рывэрскіх і іст-брансьвіцкіх могільніках.

Наступная паводле пашыранасьці катэгорыя хрысьціянскіх сымбаляў, якія выкарыстоўваюцца на эміграцыйных надмагільлях, мае

[65] На панскіх могілках Плябані... С. 17.

расьліннае паходжаньне. Гэта выявы кветак (найчасьцей ружы, таксама лілеі, нарцысы ды іншыя), аліўкавых галінак, плюшчу, вінаграду. Усе яны маюць сакральны сэнс у хрысьціянскай традыцыі.

Трэцяя катэгорыя хрысьціянскай сымболікі ў беларусаў-эмігрантаў — выявы Хрыста й Маці Божай, а таксама анёлаў і сьвятых. Пры гэтым Хрыстос найчасьцей прысутнічае як укрыжаваны, хоць сустракаюцца й іншыя варыянты. Прыкладам, на магіле паэта Янкі Макарэвіча (1909–1995) у Сыднэі можна ўбачыць выяву Хрыста ў вобразе пастыра з авечкамі, на саўт-рывэрскім помніку Васюты Гайшун (1907–1981) паказаны Хрыстос, які на каленях моліцца перад крыжам, а на надмагільлях Максіма (1893–1961) ды Натальлі (1894–1978) Літаровічаў, а таксама Яфіма (1892–1963) і Ўліты (1898–1973) Талмачэвічаў у тым самым Саўт-Рывэры зьмешчаная цэлая “тайная вячэра”. Выява Божай Маці на помніках сустракаецца як з малым Хрыстом, гэтак і адзінокая з малітоўна складзенымі рукамі — як на магіле Парфірыя (1926–2002) і Кацярыны (1926–2003) Троіцкіх у Саўт-Рывэры. Анёлы найчасьцей на надмагільлях паказаныя па двое (па баках), у малітоўным паклоне, апусьціўшыся на адно калена.

Сярод іншых сымбаляў хрысьціянскага кантэксту на эміграцыйных помніках часта прысутнічаюць выявы сьвечкі ці лямпады, вакна (часам у вакно зьмешчаны крыж), чашы, кнігі, голуба, аблокаў (ці неба) ды некаторыя іншыя. Такая разнастайнасьць хрысьціянскай сымболікі эміграцыйных надмагільляў, шырокае выкарыстаньне скульптурных выяваў (не ўласьцівыя традыцыйнай пахавальнай культуры беларусаў) зьяўляюцца відавочным сьведчаньнем уплыву заходняга хрысьціянства, пашыранага ў краінах сталага пасяленьня эмігрантаў.

Па-за хрысьціянскімі другой вялікай групай сымбаляў, што сустракаюцца на эміграцыйных пахаваньнях беларусаў, зьяўляюцца *нацыянальныя*. Яны выразна сьведчаць пра нацыянальную прыналежнасьць пахаваных. Тут варта згадаць словы аднаго зь ведамых дзеячаў паваеннай эміграцыі Івана Касяка, які сьцьвярджаў, што пакуль у беларусаў няма сваёй незалежнай дзяржаўнасьці, нашая магутнасьць мае быць адлюстраваная ў помніках.

Найбольш пашыраным нацыянальным маркерам на надмагільлях стаў беларускі арнамэнт. Ён можа прысутнічаць як у якасьці аздабленьня крыжа (пра што ўжо згадвалася вышэй), гэтак і як самастойны элемэнт дэкору помніка, як, прыкладам, у выпадку сямейнага пахаваньня Вольгі, Міхася і Аляксандра Сільвановічаў ці згадванага ўжо вышэй пахаваньня Сьцепаніды, Васіля й Ніны Стомаў у Іст-Брансьвіку і інш.

Другое месца паводле пашыранасьці з своеасаблівых нацыянальных сымбаляў на эміграцыйных надмагільлях беларусаў займаюць

каласы й васількі. Яны могуць прысутнічаць як разам, гэтак і паасобку, можна спаткаць выявы асобнага коласа ці цэлага снапа, гэтаксама як і асобнай кветкі-васілька або цэлага букету. Найбольш пашыраныя гэтыя выявы на беларускіх помніках у Саўт-Рывэры ды Іст-Брансьвіку. Прывабнасьці згаданых сымбаляў на пахаваньнях, магчыма, спрыяла іх палітычная нэўтральнасьць адначасова з пэўнай настальгічнай сялянскай афарбаванасьцю, блізкай вялікай колькасьці суродзічаў.

Крыху менш распаўсюджаным і больш палітычна афарбаваным нацыянальным маркерам на эміграцыйных помніках стала Пагоня. Тым часам як выявы згаданай вышэй нацыянальнай сымболікі, выкарыстаныя на надмагільлях, у значнай ступені падобныя, то варыянтаў гербу можна спаткаць вельмі шмат. Гэта датычыць як колераў, гэтак і саміх малюнкаў. Можна знайсьці двухколерныя чорна-белыя выявы, як на магілах Старшыні Рады БНР Вінцэнта Жук-Грышкевіча або віцэ-старшыні Аляксандра Стагановіча (1890–1985), або белую Пагоню на чырвоным полі, як у Язэпа Алёхіна (1924–2004) ці ў Янкі Стасевіча (1923–1997) у Мэльбурне, ці карычнева-залатую Пагоню, як на магіле Надзеі й Міхася Лужынскіх у Сыднэі. Бываюць і трохколерныя Пагоні: бела-залаты вершнік на фоне бел-чырвона-белага шчыта, як на магіле Паўла Гуза ў Мэльбурне, або аналягічны варыянт з шэра-залатым вершнікам на магілах Аркадзя Качана ці Міхася Зуя ў Сыднэі. Багата варыянтаў і разьмяшчэньня вершніка. Ён можа быць сам па сабе, як на помніку Францішка (1918–2005) і Веры (1930–2006) Бартуляў, або ўпісаны ў шчыт. Прычым форма шчыта таксама вар'іруецца: або варажскі, або польскі ці барочны. Часам выява вершніка ўпісаная ў круглую пячатку, як у выпадку амэрыканскіх магілаў Кастуся Мерляка (1919–2006) і Аляксандра Стагановіча ці канадыйскай — Янкі Сурвілы. Можна спаткаць і варыянт Пагоні са Статуту Вялікага Княства Літоўскага, як, прыкладам, на помніку Янкі (1922–2005) ды Марыі (нар. 1929) Азаркаў у Іст-Брансьвіку. Мастацкае ўвасабленьне Пагоні на помніках эмігрантаў — такое ж разнастайнае, як на пячатках і блянках эміграцыйных арганізацый[66], — можа быць тэмай адмысловага дасьледаваньня. Варта таксама адзначыць, што ў адсоткавых суадносінах у параўнаньні зь іншымі нацыянальнымі і ня толькі сымбалямі Пагоня найчасьцей выкарыстоўваецца ў аўстралійскіх беларускіх эміграцыйных пахаваньнях (асабліва ў Сыднэі, дзе ёй аздоблены хіба ня кожны другі помнік). Спэцыфічны варыянт нацыянальнага гербу — Двупагоню — можна знайсьці на надмагільлі яе актыўнага прапагандыста, канадыйскага беларуса Сяргея Хмары.

[66] Пра блянкі, пячаткі й штампы гл.: Гардзіенка, Натальля. Матэрыяльная спадчына беларускай эміграцыі // Запісы БІНіМ. № 36. Нью-Ёрк — Менск, 2013. С. 67–72.

Нячаста ў якасьці нацыянальнага маркеру на помніках эмігрантаў убачыш выяву бел-чырвона-белага сьцягу. Як асобны сымбаль ён сустракаецца на надмагільлях Міколы й Марыі Ганькоў у Таронта. Таксама бел-чырвона-белы сьцяг у спалучэньні з амэрыканскім можна знайсьці на помніку Сяргея Карніловіча ў Кліўлэндзе, а з аўстралійскім — над магілаю Міхася Басарановіча (1936–1998) у Мэльбурне.

Цікавым нацыянальна афарбаваным маркерам зьяўляецца прысутны на помніках Леаніда Галяка (1910–1980) і Міколы Кунцэвіча (1907–1985) у Іст-Брансьвіку своеасаблівы знак раўнавагі, ведамы з Скарынавай аўтапартрэтнай гравюры. Паводле інфармацыі Янкі Запрудніка, гэты знак раней выкарыстоўвалі студэнты-юрысты Віленскага ўнівэрсытэту.

На сумежжы нацыянальнай і рэлігійнай сымболікі знаходзяцца таксама згаданыя вышэй эўфрасіньнеўскія крыжы або выявы самой Эўфрасіньні Полацкай.

Найбольшая канцэнтрацыя нацыянальнай сымболікі на эміграцыйных помніках назіраецца, як і ў выпадку з эўфрасіньнеўскімі крыжамі, у месцах кампактных пахаваньняў беларусаў. Па-за імі нацыянальныя маркеры выкарыстоўваюцца ў паадзінкавых выпадках.

Акрамя рэлігійнай і нацыянальнай сымболікі на некаторых помніках беларусаў сустракаюцца іншыя паасобныя сымбалі. Так, на надмагільлі Віктара Войтанкі можна ўбачыць выяву кадуцэя (апавіты дзьвюма зьмеямі посах бога Мэркурыя), што выкарыстоўвалася як эмблема амэрыканскіх вайсковых мэдыкаў. Спачылы пэўны час служыў у адпаведным мэдычным корпусе (*Medical Corps*). На помніку Язэпа Верасава (1938–1996) зьмешчаная выява хакейнай клюшкі, што таксама сьведчыць пра прафэсійныя ці аматарскія зацікаўленьні памерлага. Некаторыя ж сымбалі патлумачыць складаней, як, прыкладам, эмблему фольксвагену на помніку Юзафа Шаўчука (1934–2008) у Мэльбурне або выяву кактусу на надмагільлі Джыма Януша (1947–1995) у Іст-Брансьвіку.

Таксама варта адзначыць спэцыфічныя вэтэранскія надмагільлі ў ЗША. Пахаваньні былых вайскоўцаў пазначаюцца адмысловымі шыльдамі з пазнакай прыналежнасьці памерлага да арміі ЗША. А штогод на *Memorial Day* ветэранскія арганізацыі ставяць на гэткіх магілах амэрыканскія сьцяжкі.

Зьнешні выгляд беларускіх эміграцыйных помнікаў адлюстроўвае дамінаваньне рэлігійнай сымболікі ў пахавальнай культуры выгнанцаў. Пры гэтым знакава-сымбальны шэраг значна больш разнастайны, чым выкарыстоўваўся на радзіме, што тлумачыцца ўплывам мясцовай пахавальнай культуры. З іншага боку, на помніках эмігрантаў у значнай ступені прысутнічаюць і нацыянальныя маркеры, сярод якіх пераважаюць або рэлігійныя (як эўфрасіньнеўскі крыж), або

нэўтральныя сьвецкія (арнамэнт, каласы, васількі). Палітычна афарбаваныя сымбалі кшталту Пагоні й бел-чырвона-белага сьцягу сустракаюцца радзей, але таксама ёсьць важнай зьявай эміграцыйнай пахавальнай культуры, праявай наўмыснай камэмарацыі эмігрантаў.

## *Эпітафіі*

У значнай ступені інфармацыйная, ідэнтыфікацыйная, мэмарыяльная ды іншыя функцыі надмагільных помнікаў рэалізуюцца ў надпісах-эпітафіях. Яны выступаюць і ў якасьці пэрсанальных, і ў якасьці нацыянальна-культурных маркераў.

Для эміграцыйных пахаваньняў вялікае значэньне мае мова эпітафій. Яна часта ўспрымаецца як адлюстраваньне ўзроўню нацыянальнай самасьведамасьці пахаваных. Так, сярод эміграцыйных надмагільляў у розных краінах сьвету можна знайсьці цалкам беларускамоўныя. Пры гэтым у эпітафіях можа выкарыстоўвацца або кірылічная, або лацінічная графіка. Кірылічныя беларускамоўныя тэксты шырока сустракаюцца ў Аўстраліі ды ЗША, лацінічныя — у ЗША, Канадзе, Вялікабрытаніі. Распаўсюджаным варыянтам ёсьць прысутнасьць на беларускіх помніках адначасова беларускай і ангельскай моваў. Гэта могуць быць як паралельныя аднолькавыя надпісы ў дзьвюх мовах (прыкладам, помнік Акуліны Грушы на мэльбурнскім могільніку), што сустракаецца адносна нячаста, або ўзаемадапаўняльныя надпісы, дзе на кожнай з моваў пададзена свая частка эпітафіі. Часта па-беларуску падаецца толькі імя або стандартная формула кшталту *"Вечная памяць"* (такіх прыкладаў багата на саўт-рывэрскім могільніку).

Больш як на палове эміграцыйных помнікаў беларуская мова не ўжываецца. Найбольш шырока (з увагі на краіны эміграцыі) прысутнічае ангельская. Можна спаткаць таксама польскую, расейскую, украінскую, нямецкую, чэскую. Гэта адлюстроўвае ў пэўным сэнсе і ўзровень самасьведамасьці, і вынікі працэсу асыміляцыі.

У агульным выглядзе ў эпітафіях (як і наогул хрысьціянскіх надмагільлях) можна вылучыць наступныя сэнсы:

— напамін пра блізкага, што сышоў у іншы сьвет і ягоныя справы;
— адлюстраваньне пачуцьця страты, смутку блізкіх;
— выказваньне ўдзячнасьці памерламу ад жывых;
— напамін пра неабходнасьць маліцца за памерлых;
— заклік зьвярнуцца да вышэйшых незямных сілаў;
— напамін пра непазбежную сьмерць;
— напамін пра вечнасьць і бясконцасьць сьвету;
— нясьведамая спроба пераадоленьня сьмерці[67].

---

[67] Святославский, А. История России в зеркале памяти… С. 459.

Усе гэтыя сэнсы рэалізуюцца ў розных элемэнтах эпітафій. Разгледзім кожны зь іх паасобку на прыкладзе эміграцыйных помнікаў.

Галоўным ідэнтыфікатарам надмагільля зьяўляецца пазнака імя й прозьвішча пахаванага. Адметнасьцю фіксаваньня імёнаў эмігрантаў на беларускіх помніках зьяўляецца наяўнасьць як аўтэнтычных, гэтак і мадыфікаваных (апалячаных, зангельшчаных, зрусыфікаваных) іх формаў. І калі польскія ці рускія варыянты шырока прысутнічаюць і ў мэтраполіі, то ангельскія трансфармацыі — уласьцівасьць менавіта эміgranцкай сытуацыі. Гэта тут Уладзімер часта замяняецца на Ўолтэра, Янка — на Джона, Мікола — на Нікаласа, а Юрка — на Джорджа. Пры гэтым трансфармуюцца найчасьцей менавіта мужчынскія імёны. Для эміграцыйнага асяродзьдзя гэтая зьява натуральная, зьвязаная з адметнасьцямі афармленьня дакумэнтаў у краіне пражываньня й фармаваньнем адпаведнай звычкі выкарыстаньня больш прымальнай для новага грамадзтва формы імя. Бываюць выпадкі, калі на помніку фіксуюцца некалькі варыянтаў імя памерлага, як, прыкладам, на мэльбурнскім надмагільлі Язэпа Алёхіна (Грыгора Алехны), або не фіксуецца прозьвішча. Апошняе — традыцыя, датычная царкоўных ярархаў, але яна мае факультатыўнае выкарыстаньне. Так, на помніках уладыкаў Васіля й Мікалая ў Іст-Брансьвіку або Апанаса й Панцеляймона ў Джорданвілі сьвецкія прозьвішчы не пазначаны. А ў эпітафіях уладыкаў Андрэя (Крыт) і Ізяслава (Бруцкі) у Іст-Брансьвіку прозьвішчы прысутнічаюць.

Другім абавязковым пэрсанальным ідэнтыфікатарам пахаваньня выступае пазнака датаў жыцьця памерлага або толькі даты сьмерці[68]. Апошняе адбывалася, калі дакладнай даты нараджэньня сваякі ці сябры ня ведалі. Тады да пазнакі даты сьмерці дадаваўся запіс пра ўзрост памерлага. Так, на помніку Зіновія (1895–1974) і Алены (1905–1989) Ясіновічаў у Мэльбурне пасьля датаў сьмерці прысутнічаюць адпаведныя пазнакі: *“aged 79”* ды *“aged 72”* (*“ва ўзросьце 79”* ды *“ва ўзросьце 72”*). Варыянты пазначэньня датаў на помніках розныя: могуць быць цалкам лічбавыя ці спалучэньнем лічбавых пазнак дня й году з слоўным (поўным ці скарочаным) месяца. Пры гэтым у эпітафіях амэрыканскіх беларусаў (у адрозьненьне ад усіх іншых) у адпаведнасьці зь мясцовай традыцыяй вельмі часта (хоць і не заўсёды) спачатку пазначаецца месяц, а потым дзень. Гэтая акалічнасьць патрабуе асаблівай уважлівасьці пры чытаньні беларускіх эпітафій у ЗША.

З пазнакамі датаў у эпітафіях зьвязаны таксама момант іх адпаведнасьці (верагоднасьці). І гэта датычыць менавіта зьвестак пра

[68] Выпадкі адсутнасьці даты сьмерці на помніку могуць быць зьвязаныя з тым, што чалавек яшчэ жывы, або з тым, што, магчыма, не засталося сваякоў, якія змаглі б паклапаціцца пра адпаведную пазнаку пасьля сьмерці спачылага.

нараджэньне. Часам на помніках пазначаюцца памылковыя даты проста празь няведаньне сваякамі сапраўдных. Тут можна згадаць ужо апісаны раней выпадак Алеся Грыцука, калі пазнака на ягоным помніку была зробленая паводле канадыйскіх дакумэнтаў, але не адпавядала рэальнаму мэтрычнаму запісу. Беларусы-ўцекачы даволі часта з розных прычынаў зьмянялі рэальныя даты свайго нараджэньня, рабілі сябе маладзейшымі ці старэйшымі. Гэта й правакавала ў выніку разыходжаньні лічбаў у розных крыніцах і на помніках. Так, у анкеце-заяве на ўступленьне ў БІНіМ пісьменьнік Масей Сяднёў пазначыў годам свайго нараджэньня 1915-ы, а на надмагільным помніку выбіты 1913-ы, які, паводле сьведчаньняў знаёмых дзеяча, і ўважаўся ім самім за рэальны. У біяграмах грамадзкага й вайсковага дзеяча Міколы Дзямідава датай ягонага зьяўленьня на сьвет пазначана 10 сьнежня 1888 г., а на надмагільным помніку стаіць 1889 г. Гэтаксама ў біяграфічных нататках кампазытара Міколы Куліковіча зафіксаваная дата нараджэньня — 4 красавіка 1893 г., а на помніку пазначаны 1897 г. І такіх прыкладаў у эміграцыйных эпітафіях можна знайсьці дастаткова, каб заклікаць дасьледчыкаў асьцярожна ставіцца да пазначаных на помніках і ў дакумэнтах датаў.

Імя ды гады жыцьця памерлага зьяўляюцца галоўнымі элемэнтамі эпітафіі. Сустракаюцца помнікі, дзе больш нічога й не пазначаецца. Усе іншыя надпісы можна лічыць факультатыўнымі.

Так, адносна нячастым, але цікавым элемэнтам эпітафій выступае пазначэньне месцаў нараджэньня й сьмерці. Часьцей згадваецца першае. Варыянтаў тут шмат — ад пазнакі толькі краіны да апісаньня дакладнай адміністрацыйнай прыналежнасьці месца нараджэньня. Напісаньне назвы краіны можа быць套 рознае: у ангельскіх эпітафіях — “*White Russia”, “Byelorussia”* як больш пашыраны варыянт сярод паваенных эмігрантаў, *“Belarus”* часьцей сустракаецца на помніках 1990–2000-х гг., а таксама ёсьць “*Bielorussia”* ці нават “*Bylorussia”*, як на адной са згаданых раней магілаў у Канадзе. Кірылічныя надпісы існуюць як *“Беларусь”*, “*Белорусь”, “Білорусь”*. Часам можа пазначацца месцам нараджэньня Польшча (асабліва ў выпадках заходнебеларускіх мястэчак і вёсак), або Расея (ужо згадваўся выпадак вызначэньня *“Gomiel — Russia”*). Важнасьць згадкі краіны паходжаньня складана пераацаніць у выпадку беларускіх пахаваньняў на шматнацыянальных могільніках, дзе гэта можа быць адзіным вызначаным маркерам паходжаньня памерлага.

Акрамя дакладных назваў вёсак ці паветаў у эпітафіях могуць прысутнічаць і больш шырока акрэсьленыя рэгіёны, прыкладам Палесьсе, Наваградчына, Случчына ды іншыя. На жаль, фрагмэнтарнасьць пазнак месцаў нараджэньня памерлых у эпітафіях не дае магчымасьці ацэньваць на іх падставе рэальную геаграфію пахо-

джаньня эмігрантаў. Для гэтага трэба выкарыстоўваць увесь комплекс крыніцаў, уключна з нэкралёгамі, успамінамі ды інш.

Важнасьць сваяцкіх сувязяў для беларусаў знайшла адлюстраваньне і ў вызначэньні ў эпітафіях сваяцкага статусу памерлага. Надзвычай часта можна спаткаць на беларускіх помніках англамоўныя й беларускамоўныя пазнакі кшталту *“каханы муж і бацька”*, або *“дарагая жонка, маці і бабуля”* (або часам яшчэ й *“прабабуля”*), або, радзей, *“брат”, “сястра”, “дзядзька”* ды інш. Пры гэтым варта зазначыць, што на надмагільлях сужэнцаў (незалежна ад мовы эпітафіі) традыцыйна выкарыстоўваюцца формулы, дзе на першым месцы стаіць менавіта сужэнскі статус: *“муж”* ці *“жонка”*, а потым бацькоўскі: *“маці”*, *“бацька”* і г. д.

У англамоўных эпітафіях часта сустракаюцца цікавыя варыянты вызначэньня бацькоўскага статусу. Асабліва часта гэта можна знайсьці на аўстралійскіх беларускіх надмагільлях. Так, прыкладам, у эпітафіі Антона Басарыновіча (1911–2001) можна прачытаць *“Thank you, Tato…”*, на помніку Варвары Грыцук (1905–1990) — *“Our Baba”*, у Паўла Гуза напісана *“Adored tata”* і *“beloved Jedd”* (маецца на ўвазе “дзед”), а ягоная жонка Тэафіля (1925–2006) пазначана сярод іншага як *“beloved baba”,* Вольга ж Бурнос фігуруе ў эпітафіі як *“admired bubby”* і г. д. І ў беларускамоўных варыянтах можна знайсьці пазнакі *“баба”*, *“бабуся”*, *“бабушка”*.

Вызначэньне сямейнага статусу ў эпітафіях часам суправаджаецца словамі ўдзячнасьці ды любові ад сваякоў. Сустракаюцца кранальныя прыклады. Так, на помніку Марыі Басарановіч (1915–1998) у Мэльбурне напісана: *“Our Mother is very special… / We will remember her with warmth / Think of her with great pride / And cherish her memory with love”* (*“Наша маці вельмі асаблівая … / Мы будзем памятаць пра яе зь цеплынёю / думаць пра яе зь вялікім гонарам / і песьціць яе памяць зь любоўю”).* На надмагільлі Вольгі Арцюшэнкі (1892–1958) у Саўт-Рывэры пазначана: *“Мама! Помнік незабыўны ты стварыла сабе, / спарадзіўшы і ўзгадаваўшы нас. / Твае дзеці”.* У эпітафіі Міколы Нікана ў Мэльбурне сказана: *“Dearly loved Husband, / Father and Grandfather / You gave us strength, / faith and resolve. / You were our teacher / of life/ Rest peacefully”* (*“Горача каханы муж, / бацька й дзядуля / Ты даў нам сілу, / веру й рашучасьць. / Ты быў нашым настаўнікам / жыцьця / Спачывай зь мірам”).* А на надмагільлі другой жонкі Міколы Нікана Ірэны чытаем: *“Ты запаліла новую іскру жыцьця, / Жадала азалаціць нашую восень / і дабро людзям рабіць. / І так перадчасна адышла! / Сьпі, Каханая і Дарагая, у супакоі. / Муж, дзеці, унук, кроўныя”.*

Даволі часта побач з вызначэньнем сямейнага статусу памерлага ў эпітафіях (таксама гэта ў найбольшай ступені датычыць

пахаваньняў менавіта аўстралійскіх беларусаў) ідзе пералік усіх тых сваякоў, якія засталіся сумаваць па спачылым. Прыкладам, на помніку Міхася Басарановіча ў Мэльбурне чытаем: *“Loving husband of Sylvia / & devoted father of / Michael, Wayne, Philip, Jeffrey & Chris. / Grandfather of Paul / & many other grandchildren”*. Тамсама ў эпітафіі Ўладыслава Ціцікшы (1914–1993): *“Loved and remembered / always by his wife Maria, / children Zenon, Lorna and / Marie and Grandchildren Lee, Nicholas, Gregory, Jeremy / and Matthew”*. І такога кшталту эпітафій на мэльбурнскім могільніку даволі шмат, сярод іншага яны сьведчаць і пра памеры беларускіх сем’яў. У выніку такіх пералікаў надмагільлі набываюць сэнс своеасаблівага сямейнага здымку, на якім адлюстраваныя прадстаўнікі розных пакаленьняў. Цікава, што ў іншых краінах згадваньне сваякоў (якія не мяркуюцца быць пахаваныя разам) сустракаецца ў беларускіх эпітафіях вельмі рэдка.

Акрамя вызначэньня сваяцкага статусу памерлага (а часьцей замест яго) на надмагільлях знакамітых беларусаў-эмігрантаў пазначаецца прафэсійны ці грамадзкі статус. Гэтыя пазнакі могуць быць сьціплыя й канкрэтныя, а могуць — шырокія, разгорнутыя, каб прадэманстраваць усю веліч спачылага. Кароткія дакладныя вызначэньні роду заняткаў можна ўбачыць, напрыклад, на надмагільлях Кастуся Глінскага ў Лёндане — *“sedzia grodzki”* (*“гродзкі судзьдзя”*), Часлава Ханяўкі (1909–1988) у Іст-Брансьвіку — *“agricultural engineer”* (“сельскагаспадарчы інжынэр”), Дзьмітрыя Верасава (1909–1985) у Саўт-Рывэры — *“композитор и регент”*, Уладзімера Бортніка ў Мюнхене — *“journalist”* (*“журналіст”*), Сяргея Хмары ў Таронта — *“беларускі журналіст”*, Леаніда Галяка ў Іст-Брансьвіку — *“юрысты з Вільні”* й некаторых іншых. Як *“настаўнік”* і *“настаўніца”* пазначаныя ў эпітафіі ад удзячных вучняў Аляксандар і Натальля Орсы. Вызначэньні *“паэт”* ці *“беларускі паэт”* (у беларускай ці ангельскай мовах) можна спаткаць на магілах творцаў: Хведара Ільляшэвіча, Янкі Макарэвіча, Рыгора Крушыны, Алеся Салаўя, Масея Сяднёва.

Сустракаюцца й такія пазнакі, што сьведчаць не пра прафэсію ці занятак, а пра нешта значнае (а мо нават вызначальнае) у мінулым памерлага: *“Янка Кудрук / Капітан БКА”*, “*Стагановіч / Аляксандар... пасол сойму / Віцэ-прэзыдэнт БНР”*, *“Войтанка / Віктар сьвятар, доктар мэдыцыны, будаўнік / Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай / Царквы, працаўнік і змагар за Бацькаўшчыну”*, *“Аркадзь Качан / верны сын беларускай зямлі / афіцэр Беларускай Краёвай Абароны / сябра Рады Беларускай Народнай Рэспублікі”*, *“Ніл / Краўцэвіч... удзельніку / сабору ў Канстанцы*”, *“Войтэнка / Сьцяпан Мітрафорны Пратаярэй / Аднайленец / Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы”* і г. д.

На надмагільлях царкоўных ярархаў абавязкова пазначаецца іх статус япіскапа, архіяпіскапа, мітрапаліта. Напрыклад, *"Архіяпіскап Васіль / С. П. / + Васіль / Архіяпіскап / Беларускай Аўтакефальнай / Праваслаўнай Царквы"* або *"...З ласкі Божае Ізяслаў / Мітрапаліт Першагерарх / Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы"*. Праўда, часам эпітафіі сьвятароў аказваюцца даўжэйшыя, чым найвышэйшых царкоўных ярархаў. Прыкладам: *"Протапрэсьвіцер Нікалай Лапіцкі / 13 сьнежня 1907 г. — 8 жніўня 1976 г. / першы настаяцель і будаўнік Беларускай / Праваслаўнай Царквы Сьв. Эўфрасіньні ў С. Рывэры / удзельнік аўтакефальнага Сабору / Беларускай Праваслаўнай Царквы ў Менску 1942 г. / арганізатар і старшыня Рады Беларускай / Праваслаўнай Царквы ў Вольным Сьвеце / Вечная яму памяць"*.

Таксама і ў эпітафіях палітычных лідараў, старшыняў Рады БНР ці БЦР амаль заўсёды згадваецца іх становішча. Прычым у старшыняў Рады БНР Пётры Крэчэўскага, Васіля Захаркі ці Вінцэнта Жук-Грышкевіча пазнакі кіраўнічага статусу канкрэтныя ды кароткія. Выключэньне складае эпітафія Язэпа Сажыча, дзе старшынёўства ў Радзе наогул ня згадваецца, затое пералічаныя ўсялякія іншыя ранейшыя пасады: *«др. мэд. — генэрал / быўшы камандзер / Падафіц. школы БСА ў Наваградку / Бел. чыг. батальёну / Афіц. школы дывізіі "Беларусь" / бел. вэтэранаў на чужыне»*. У эпітафіі прэзыдэнта БЦР Нікандра Мядзейкі простая пазнака — *"Pres. of the / Byelorussian Central Counsil"*, у Міхася Зуя — *"3-ці Прэзыдэнт / Беларускай Цэнтральнай Рады"*, затое на надмагільлі Радаслава Астроўскага зьмешчаная ня толькі двухмоўная пазнака: *"Прэзыдэнт / Беларускай Цэнтральнай Рады / Беларускай Народнай Рэспублікі / Professor / President / Byelorussian Central Council / Of / Byelorussian Democratic Republic"*, але й вялікая біяграма дзеяча з адваротнага боку помніка. Гэтак жа зроблена й на надмагільлі паплечніка Астроўскага Івана Касяка, пераважна англамоўная эпітафія якога прысутнічае на двух баках помніка. З аднаго боку пазначана каротка: *"Architect / John Kosiak / President / of The Byelorussian / Congress Committee / of America / nov. 1.1909 — march 13. 1989 / Вечная памяць"*, а з другога падрабязьней: *"Architect John Kosiak / nov. 1. 1909 — march 13. 1989 / President of The Byelorussian / Congress Committee of America / member of the Presidium of the / Byelorussian Liberation Front / Byelorussian representative / in the Central Committee of / Anti-Bolshevic Nations , member of / the Byelorussian Central Council / John Kosiak was a great / Byelorussian patriot, heart / and soul of the Byelorussian / struggle for independence / the monument for President Radoslaw Ostrowski / was desighned by John Kosiak"*.

Часта на надмагільлях беларускіх грамадзкіх дзеячаў замест пераліку арганізацый, у якіх яны ўдзельнічалі, стаіць вызначэньне кшталту: *"Змагар за Бацькаўшчыну"* (Сьцяпан Шнэк, Сяргей Гутырчык, Віктар Войтанка, Павал Гуз і інш.), *"Змагар за Веру і Бацькаўшчыну"* (Хведар Данілюк), *"Змагар за Волю Беларусі"* (Аляксандар Орса, Аляксей Грыцук), *"Верны сын Беларусі"* (Антон Адамовіч), *"Грамадзкі працаўнік за Вольную Беларусь"* (Мікола Ганько). Або сустракаюцца такія вызначэньні: *"Быў адданы Беларускай / Незалежнасьці"* (Кастусь Мерляк), *"Пражыў жыцьцё для роднай Беларусі і сям'і"* (Мікола Скабей), *"Žyŭ dla Boha i Biełarusi"* (Лявон Рыдлеўскі) і інш.

Варта зазначыць, што пераважная большасьць пазнак грамадзкага статусу ў эпітафіях беларускамоўныя, магчыма, таму, што скіраваныя яны былі найперш "для сваіх" і былі зразумелыя й актуальныя менавіта ў беларускім кантэксьце.

Неад'емнай часткаю вялікай колькасьці эміграцыйных эпітафій зьяўляюцца своеасаблівыя стандартныя формулы, што суправаджаюць зьвесткі пра памерлага. Сярод англамоўных найчасьцей сустракаюцца: *"In Everlasting Memory of…", "In Loving Memory of…", "Always in our hearts", "In God`s Care", "Rest in peace" (R.I.P.), "Always thinking of you", "Forever in our hearts", "Always remembered", "God Bless His Soul"*. Беларускамоўныя кароткія формулы: *"Сьпі спакойна", "На вечны ўспамін", "Сьвятой памяці", "Вечна ў сэрцах нашых", "Вечная памяць", "Сьветлая памяць"*.

Асобным відам стандартных формулаў выступаюць звароты да Бога або да самога памерлага. Першыя звычайна маюць выгляд цытатаў з малітваў: *"Памяні нас Госпадзі ў Царстве Сваім"* (Янка Місюль), *"Во Царствии Твоем помяни нас Господи"* (Вадэйкі, Селях-Качанскія), *"Pamiani Mianie Hospadzi / Ŭ Valadarstvie Tvaim"* (Галіна Орса, Фрэнк Рамана), *"Хай будзе Воля Твая"* (Леў Высоцкі, Еўдакія Стукаліч), *"Hospadzi Ratažy"* (Кастусь і Марыя Вераб'і), *"Усесьвятая Троіца, сжалься над намі!"* (Раіса і Вінцэнт Жук-Грышкевічы), *"Са Сьвятымі упакой / Хрысьце Божа"* (Еўдакія Яскевіч), *"Са Сьвятымі супакой, Хрысьце, / душы слуг Тваіх / Дзе няма ні болю, ні суму, ні плачу / але жыцьце бяскончае"* (Марыя й Мікола Ганько), *"Милосердія двери отверзи намъ / Благословенная Богородице"* (Раіса і Аркадзь Евецы). Сустракаюцца й адсылкі да Сьвятога Пісьма: *«"I skazau Chrystos: Ja jos`c` uvaskraszennie i zyccio, chto / vieryc` u Mianie, choc` i patre, žyc` budzie"/ 10.12.25»* (Сільвановічы, Дубягі), *"Я есть уваскрасеньне і жыцьцё, хто веруе / у мяне, хоць і памрэ, жыць будзе. Іоан 11–25"* (Анатоль Коўш) *"Chto vieryć u Mianie / choć patre žyć budzie"* (Дзьмітры Касмовіч), *"Запраўды кажу вам, хто слухае Мяне і верыць Паслаўшаму / Мяне, мае жыцьцё вечнае і на суд ня йдзе, але перайшоў ад сьмерці / ў жыцьцё"* (Стомы) або англамоўны варыянт

«*"I am the resurrection and the life. / Whoever believe in me will live, / even thogh dies" John 11.25*» (Янка Азарка).

Звароты да самога памерлага ў беларускамоўных эпітафіях таксама часта зьвязаныя з стандартнымі фармулёўкамі. Адна з найбольш пашыраных — *“Хай сьняцца сны аб Беларусі”*, яе можна спаткаць у эпітафіях Міколы Скабея, Аляксандра Калодкі, Міхася Кулагі, Алеся Салаўя. Бываюць варыянты: *“Хай сняцца табе палескія бары і дубравы / Спі ў чужой зямлі аўстралійскай”* (Павал Гуз), *“Хай сняцца табе тыя прыгожыя мясціны / твайго децтва. Аўстралійская зямля хай будзе / табе лёгкай”* (Тэафіля Гуз), *“Хай табе дарагая мама сьняцца / беларускі гоні і палескія лясы / хай лёгкай будзе аустралійская / зямелька, а ты будзеш жыць / вечна у нашых сэрцах”* (Варвара Грыцук), *“Хай сьняцца табе сны аб родным Палесьсі”* (Язэп Алёхін), *“Chaj śniacca tabie / rodnyje honi”* (Алесь Грыцук, Аляксандар Орса).

Яшчэ адзін варыянт звароту, адкуль у скарочаным выглядзе паходзіць вызначэньне *“працаўнік і змагар”* у шмат якіх эпітафіях, цытаваньне словаў жалобнага маршу: *“Сьпі / пад курганам герояў / сьпі працаўнік і змагар / несены верна табою / ціха сьхіліўся штандар”* (Аркадзь Качан), карацейшы варыянт — *“Сьпі працаўнік і змагар”* (Леанід Карась). Сам гэты марш стаў неад’емнай часткай эміграцыйнага пахавальнага рытуалу.

У эміграцыйных эпітафіях часам можна спаткаць і малыя, і дастаткова вялікія цытаты твораў беларускай літаратуры (як мэтрапольнай, гэтак і створанай на чужыне). Часта гэта словы клясыкаў, прыкладам папулярны й надзвычай актуальны для эмігрантаў Купалаў радок: *“Я ад вас далёка, бацькаўскія гоні”* (Ян Груша, Мэльбурн; Яўхім і Марыя Кіпелі, Саўт-Рывэр). Або працяг з таго ж вершу: *“...і глядзець будзе / у той бок нязводна / дзе ляжаць загоны / Беларусі роднай”* (Сяргей Карніловіч, Кліўлэнд). На надмагільлі Віктара Войтанкі выбітыя нават некалькі чатырохрадкоўяў Янкі Купалы:

*“Служыць, служыць, жадаў народу,*
*Сваім закованым братом...*
*І сіл ня стала зь непагодай*
*Вясьці вайну, вясьці з жыцьцём.*

*Час, як крыніца, ідзе, не марудзе...*
*Кіне стары дзень жыцьцём кіраваць,*
*Новы дзень прыдзе, і новыя людзі*
*Будуць пачатую думку снаваць”.*

На надмагільлі былога сябры літаратурнага аб’яднаньня “Ўзвышша” Юркі Віцьбіча ў Саўт-Рывэры выбіты радок іншага “ўзвышэнца” Ўладзімера Дубоўкі: *“О, Беларусь, мая шыпшына”.*

На помніку Алеся Гаруна ў Кракаве выбітыя ягоныя словы паралельна ў беларускай і польскай мовах: *“...І Беларусь-Маці волю агледзіць, / Устане, як Лазар, з руін, забыцця... / ...I Matka-Białoruś dolę złą odmieni, / Powstanie, jak Łazarz, z ruin, / z zapomnienia...”*.

На надмагільнай пліце Варвары Грыцук у Мэльбурне на старонках адмыслова зробленай кнігі зьмешчаныя словы Канстанцыі Буйло:

*“Люблю наш край*
*Старонку гэты*
*Дзе я радзілася, расла*
*Дзе першы раз*
*пазнала шчасьце*
*сьлязу нядолі праліла*
*Усё люблю*
*што так завецца*
*любімым словам*
*Беларусь*
*І слова гэтага*
*сьвятога*
*ніколі ў сьвеце*
*не зракусь”*.

Відавочна, гэтыя радкі сталі асабліва папулярныя ў беларускім асяродзьдзі дзякуючы песеннай апрацоўцы. У эпітафіях можна спаткаць і іншыя цытаты зь песень. Так, на надмагільлі Зоры Кіпель у Іст-Брансьвіку выбітыя словы Алеся Ставера *“Беларусачка, дарагая сяброўка мая”*, ведамыя дзякуючы “Песьнярам”. А на помніку Паўла Гуза ў Мэльбурне бачым:

*“Мне краёў чужых не трэба,*
*як ні варажы*
*Не хачу чужога неба*
*радасьцяў чужых.*
*Бо чужына сэрца джаліць*
*цісьне, як змяя*
*бо гукае з дальніх даляў*
*Беларусь мая”*.

Праўда, кур’ёзам выглядае подпіс-крыптонім пад гэтымі радкамі *“П. Д.”*, што, відавочна, мае адсылаць да асобы самога памерлага, які падпісваўся псэўданімам *“Паўлюк Дуброўскі”*. Магчыма, ён так любіў гэтыя радкі, што сваякі вырашылі прыпісаць аўтарства менавіта яму, а ня нейкаму не вядомаму ім Сержуку Сокалаву-Воюшу.

На помніках некаторых паэтаў-эмігрантаў можна спаткаць у эпітафіях іх уласныя вершы. Так, у Рыгора Крушыны чытаем:

*“Зямля чужая не сагрэе*
*Таго, хто любіць родны край.*
*Крушыне лес далёкі сьніцца,*
*Нядоляй нудзіцца сваёй.*
*1945*

*Божа, дай сьветлы шлях чалавеку,*
*Каб ня гінуў слабейшы ў прымусе.*
*Праўдзі мары, што носім спрадвеку,*
*Дай прыгожай вясны Беларусі.*
*Веру: прыдзе такая часіна —*
*Маці ўбачыць радзімага сына.*
*1946”.*

А ў Масея Сяднёва сьціпла: *“Жыцьцём дыхнуць / На холад часу мае словы”*. На надмагільлі Алеся Салаўя таксама ягонае: *“Але ня зьляжа ў цёмную магілу / жывы ад веку подых маладосьці"*. Разам з тым Алесь Салавей напісаў і адмысловую эпітафію для помніка Лідзіі Нікан: *“Любіла касы паўніню, / ішла напярэймы дню. / Хто дыхаў нязгаснай красой, / той вечна жыць будзе, бо зь ёй”*.

Пісаў эпітафіі й паэт Янка Золак (Антон Даніловіч, 1912–2000). На ягоным супольным з жонкаю Лідай (1910–1963) помніку зьмешчаныя словы, адрасаваныя ёй: *“Ты не памерла, / хоць няма / Цябе на гэтым / сьвеце: / Ты будзеш жыць, / пакуль жывуць / Твой муж і дзеці”*[69]. А на адваротным баку помніка Фатыні Даніловіч (1913–1987) можна прачытаць бадай унівэрсальнае: *“Пасьля / цярністае / дарогі / Спачынак вечны / без трывогі”*.

Варта адзначыць, што часам паходжаньне эпітафій вызначыць складана. Гэта могуць быць і ўласныя словы памерлага, і недзе пачутае-ўбачанае. Даволі часта гэта звароты да роднай краіны ці згадкі пра яе: *“Беларусь — наша маці”* (на надмагільлі Кастуся Акулы), *“Беларусь, паклон табе!”* (на помніку Ігара Шчорса), *“У бязьмежнасьці далёкай сьніцца Беларусь нам сінявокая”* (у эпітафіі Аўгені Цярпіцкай).

Бывае, што ў надпісах прысутнічае не зварот да памерлага, а нібыта ягоныя рэфлексіі ці ягоны зварот да жывых. На беларускіх могілках можна знасьці колькі такіх прыкладаў. Адзін зь іх — на помніку Янкі Кудрука ў Мэльбурне — насьледуе даволі пашыранаму рускамоўнаму аналягу: *“Тут ляжыць / цела маё прах / я ўжо ў дома / вы ў гасьцях”*. На надмагільлі Мікалая Кабякі чытаем ужо ўласнае: *“vyhnany voraham z kraju / pasla ciažkaj chvaroby / laži na čužynie”*. У эпітафіі Аўгена Кудасава: *“Прада мною маячыць усё прошлае, / Усе*

[69] Паводле сьведчаньня Вітаўта Кіпеля, гэтая эпітафія выклікала рэзкую негатыўную рэакцыю з боку настаяцеля царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай Мікалая Лапіцкага.

*надзеі мае і мары / аказаліся сэрцу далёкія / спадзяваньням маім…”*, а на помніку Веры й Францішка Бартуляў — заклік да нашчадкаў, прыдуманы Сержуком Сокалам-Воюшам: *“За Беларусь маліце Бога, / А мы памолімся за Вас”.*

Могілкавыя эпітафіі маюць вялікую каштоўнасьць і як крыніцы інфармацыі пра памерлых эмігрантаў, і як адлюстраваньне адметнасьцяў іх сьветапогляду, бачаньня сябе й навакольнага сьвету. Беларускія могілкавыя надпісы сьведчаць пра значную ролю рэлігійнай сьведамасьці, важнасьць сваяцкіх сувязяў, а таксама выразнасьць патрыятычных пачуцьцяў у прадстаўнікоў эміграцыйнай супольнасьці. Праявы “беларускасьці” ў эпітафіях можна спаткаць нават часьцей, чым у сымболіцы надмагільляў. Гэта можа выступаць пацьверджаньнем тэзы пра “кніжнасьць” беларускай нацыі, для якой слова мае большае значэньне, чым візуальны знак, сымбаль.

У эпітафіях, як і ў сымболіцы надмагільляў, прысутнічаюць рысы ўсьведамленьня асаблівай місіі эмігрантаў па рэпрэзэнтацыі Беларусі ды працы (і змаганьня) на карысьць яе незалежнасьці. Усё гэта стала неад’емнай часткай мэмарыяльнай культуры беларускай эміграцыі.

## Папярэднія высновы

Мэмарыяльная культура складаецца з комплексу ідэяў, уяўленьняў, артэфактаў, створаных той ці іншай сацыякультурнай супольнасьцю дзеля фармаваньня й захаваньня вобразу сябе, сваіх каштоўнасьцяў і ідэалаў для сучасьнікаў і нашчадкаў. Беларуская эміграцыя ўяўляе зь сябе спэцыфічную супольнасьць, аб’яднаную ня толькі “краінаю й часам сыходу”, але й агульнасьцю памяці пра радзіму, уяўленьняў пра мінулае й Беларусь, каштоўнасных установак і сьветапогляду. Гэтае ўласнае бачаньне мінулага й сучаснасьці, сябе й сваіх мэтаў прадстаўнікі эміграцыйнай супольнасьці фармулявалі, захоўвалі, трансьлявалі ў працэсе адмысловай камэмарацыйнай дзейнасьці. Вынікам яе стала тая самая мэмарыяльная культура эміграцыі.

Вывучэньне мэмарыяльнай культуры эміграцыйнай супольнасьці дазваляе ня толькі зразумець падставы й мэханізмы яе дзейнасьці па “ўвекавечваньні” сябе, але й ацаніць, наколькі істотны разрыў адбываецца паміж суродзічамі на эміграцыі й мэтраполіі на сьветапоглядным узроўні, а таксама вызначыць своеасаблівую іерархію каштоўнасьцяў эмігрантаў-беларусаў.

Мэмарыяльную культуру наогул магчыма дасьледаваць на падставе шырокага комплексу крыніцаў — як тэкставых (нарацыйных), гэтак і візуальных, сымбальных. Нэкропалі й мэмарыяльныя помнікі выступаюць у якасьці аб’ектаў, у якіх камэмарацыйная дзейнасьць прасочваецца дастаткова яскрава. Вывучэньне назапашанага ком-

плексу зьвестак пра могілкі й помнікі беларускай эміграцыі дазваляе вылучыць наступныя рысы яе мэмарыяльнай культуры:

1. Для беларусаў розных хваляў эміграцыі дастаткова важнымі былі сувязі са “сваімі”. Пры гэтым паняцьце “сваіх” магло ўключаць як сваякоў (сувязі зь імі стаяць на прыярытэтным месцы), гэтак і ўдзельнікаў лякальнай грамады суайчыньнікаў або, больш шырока, адзінаверцаў ці наогул славянаў. У выпадку могілак гэта адлюстравалася ў месцаразьмяшчэньні беларускіх магілаў (або на адмысловых беларускіх могільніках, або побач з украінцамі, расейцамі, сэрбамі), сямейна-клянавым характары пахаваньняў, адметнасьцях эпітафій (са згадкамі сямейнага статусу й нашчадкаў).

2. Важнае значэньне ў беларускай эміграцыйнай супольнасьці мела грамада. Менавіта яна брала на сябе рэалізацыю ідэяў мэмарыяльных помнікаў, а таксама арганізоўвала пахаваньні ды ўсталяваньне помнікаў на магілах адзінокіх беларусаў або дапамагала сваякам тых ці іншых дзеячаў зрабіць годнае надмагільле ў выпадку фінансавых ці іншых складанасьцяў.

3. Дастаткова важным для эмігрантаў, асабліва найбольш нацыянальна сьведамай паваеннай хвалі, было захаваньне духоўнай сувязі з радзімай. Гэта выявілася ня толькі ў пазнаках на помніках месцаў нараджэньня, цытатах ды пажаданьнях да памерлага “сьніць родную зямлю”, але і ў адмысловай сымболіцы (форма крыжа, арнамэнт, выявы каласоў-васількоў, Пагоні і г. д.), што выкарыстоўвалася на надмагільлях.

4. Прадстаўнікі паваеннай хвалі эміграцыі захоўвалі памяць пра змаганьне Беларусі за незалежнасьць і бачылі сябе ў якасьці прадаўжальнікаў гэтага змаганьня. Гэта выявілася як у пабудове адмысловых мэмарыяльных помнікаў змагарам, гэтак і ў зьмесьце эпітафій, дзе шырока выкарыстоўвалася змагарная тэматыка.

5. Для эмігрантаў гэтаксама была важная памяць пра ахвяраў, што прынесьлі беларусы розным уладам, якія ўспрымаліся як чужынскія. Артыкуляваньне ролі беларусаў як ахвяраў увасобілася ў адмысловых мэмарыяльных помніках, а таксама ва ўспрыманьні сябе як выгнанцаў, вымушаных спачываць у чужой зямлі (згадкі пра “чужую зямлю” можна спаткаць таксама ў эпітафіях). У пэўным сэнсе, у сувязі з памяцьцю пра ахвяраў, але менавіта на сямейным узроўні, можна разглядаць і сымбалічныя пахаваньні беларусаў-сваякоў, што спачылі на радзіме.

6. Паваенныя эмігранты лічылі сябе рэпрэзэнтантамі беларускай культуры ў вольным сьвеце. Пра гэта сьведчыць і сымболіка надмагільляў, і эпітафіі.

7. Рэлігійная сьведамасьць у эмігрантаў, тым ня менш, больш моцная, чым нацыянальная, і адначасова больш моцная, як у суродзічаў

у мэтраполіі, што адлюстравалася ў шырокім выкарыстаньні хрысьціянскай сымболікі ў надмагільных помніках.

8. Разам з тым для беларускага эмігранта характэрнае даволі прагматычнае стаўленьне да сьмерці й пахаваньняў. Яны даволі часта загадзя плянуюць ня толькі месца, але й зьнешні выгляд сваіх помнікаў.

Наогул можна сказаць, што эміграцыйная мэмарыяльная культура адлюстроўвае несаветызаваны варыянт нацыянальнага сьветапогляду, для якога не ўласьцівы сумневы ў паўнавартаснасьці беларускай культуры й дзяржаўнасьці. Камэмарацыя эмігрантаў, адлюстраваная ў могілках і помніках, базавалася на ўяўленьнях пра традыцыйныя хрысьціянскія, сямейныя каштоўнасьці, а таксама на ідэалах незалежнай Беларусі й самакаштоўнай беларускай культуры. Шмат у чым менавіта гэткі вобраз сьведамай беларускай эміграцыі і быў успрыняты мэтраполіяй у часе актыўнага наладжваньня кантактаў на пачатку 1990-х гг.

Зразумела, што прадстаўленыя вышэй высновы ёсьць вынікам папярэдняга дасьледаваньня наяўнага на сёньня комплексу зьвестак. База дадзеных беларускіх пахаваньняў мае з часам папаўняцца, могуць карэктавацца тыя ці іншыя прыведзеныя тут палажэньні. Наогул жа, мэмарыяльная культура беларускай эміграцыі — надзвычай цікавая й важная тэма, якую варта дасьледаваць на падставе й вусных успамінаў, і публіцыстыкі, і літаратуры, і візуальнага мастацтва, і цэлага шэрагу артэфактаў, створаных суродзічамі на чужыне.

# *Эпісталярны архіў Янкі Запрудніка*

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

## РАДЫЁ

### 1. Сытуацыі Масея Сяднёва

Біяграфія любога чалавека сытуатыўная; яна залежыць ад канкрэтнага сацыяльнага кантэксту, і факты яе могуць быць інтэрпрэтаваныя па-рознаму, што, у сваю чаргу, залежыць ад веданьня гэтага кантэксту, ад пункту пагляду на тое ці іншае здарэньне, учынак або прамоўленае, напісанае. А таму з выкладаньнем біяграфіі трэба быць асьцярожным, бо яно непазьбежна й натуральна нясе ацэнку, калі не прысуд.

Канвэрсійнасьць у ацэнках дзейнасьці Масея Сяднёва троху закранутая была ў рэцэнзіі на кнігазбораўскі том ягоных твораў[1]. З аднаго боку, эміграцыйны пісьменьнік (што ўжо нібыта само па сабе ёсьць характарыстыкаю, праўда? А ня мусіць быць), аўтар патрыятычных паэтычных твораў, з другога — доўгагадовы дырэктар беларускага “дэску” на Радыё Вызваленьне / Свабода, гісторыя якога пакуль яшчэ ненапісаная, але што ўвойдзе ён у яе як зьмяніўшы “Менск” на “Мінск” — дакладна.

Зразумела, зьмена вымаўленьня назвы сталіцы Беларусі — гэта толькі адзін, хоць і даволі яскравы прыклад. А вось што піша супрацоўнік радыё Янка Запруднік да калегі, Віктара Сянькевіча: *«Дарагі Віця! Я ведаю, што ўсе мы шмат нацярпеліся ад Сяднёва. Але я як рэдактар “Беларуса”, якому мы тут намагаемся здабыць максымум чытачоў (каб можна было й далей фінансаваць выданьне, бо зь фінансамі справы йдуць наніз), мушу абстрагавацца сябе ад асабістых пачуцьцяў і адмоўнага пагляду на сьвінствы Сяднёва ў часе ягонага побыту ў Мюнхэне. З гэтых меркаваньняў я зьмясьціў ягоныя вершы. Спадзяюся, што Ты гэта зразумееш і будзеш далей супрацоўнічаць з газэтай, якая робіцца ў вельмі цяжкіх умовах і патрабуе журналістычнае дапамогі з боку кожнага, хто на гэтую дапамогу здольны. Пішу пра гэта, бо сёньня ў тэлефанічнай гутарцы Валодзя Цьвірка сказаў мне, што Ты вельмі абураны зьмяшчэньнем у газэце вершаў Сяднёва»*[2].

[1] Юрэвіч, Лявон. Кніга як нагода // Запісы БІНіМ. № 37. Нью-Ёрк — Менск. С. 797–801.

[2] Ліст Я. Запрудніка да В. Сянькевіча ад 09.05.1984. Захоўваецца ў архіве Я. Запрудніка.


Масей Сяднёў. Канец 1940-х гг.

Не валодаючы ўсім кантэкстам тагачаснага творча-вытворчага працэсу на радыё, засьцерагуся ад дачасных уласных высноваў і абмяжуюся пакуль што толькі публікацыяй дзьвюх нізак лістоў: самога Масея Сяднёва і аднаго зь ягоных галоўных апанэнтаў у Мюнхене Юркі Сянькоўскага. Калі ў апошняга танальнасьць цягам гадоў бадай не зьмяняецца — рэзкія абвінавачаньні, дык у Сяднёва выразны мінорны, ціхі (недзе нават лісьлівы) пачатак, спакойная, упэўненая сярэдняя частка (часоў дырэктарства) і блізкая да першай заключная частка — пэнсійная.

Розныя па гучаньні ды й па тэмах абедзьве нізкі ня могуць адказаць на ўсе пытаньні, як і насьвятліць усе сытуацыі. Але да больш адпаведнага пагляду набліжаюць.

## Лісты Масея Сяднёва

*29.6.58*

*Паважаны Спадар Запруднік,*

*Вельмі дзякую за мяшок — гэта цікавы матэрыял. Каб толькі ўдалося мне яго як трэба скарыстаць. Адным словам, буду рады ўсяму, што Вы прышлеце.*

*Заходзьце абавязкова да нас, як будзеце тут — я ўжо ў хаце а 4-ай гадзіне папаўдні.*

*Можа, Дудзіцкі*[3] *й прышле — будзе прысылаць праграмы, хоць ён і не такі пунктуальны чалавек — дзякую.*

*Шкадую (ужо па часе), што тады, калі я быў у Вас, не насеў на Бурбеля*[4]*, не заатакаваў яго на ўсіх даступных мне мовах — можа, быў-бы які іншы вынік, а то не праявіў сябе перад ім ніяк і толькі сядзеў, як куцьця. Лаіў сябе за сваю неагрэсыўнасьць (Вельмі мне спадабаўся Ваш камітэт). “І я нічога да канца гадоў, ня сьмеючы прасіць, не атрымаю”, як пісаў Багдановіч*[5]*.*

*Ваш М. Сяднёў.*

---

3 Уладзімер Дудзіцкі (1911 — пасьля 1976) у той час працаваў кіраўніком Беларускай службы Радыё “Вызваленьне”.

4 **Густаў Бурбель** (анг. *Gustav Burbiel*), загадчык аддзелу нерасейскіх рэдакцый Радыё “Вызваленьне” / “Свабода” ў Нью-Ёрку.

5 Цытуюцца радкі зь перакладзенага Максімам Багдановічам санэту Алексіса-Фэлікса Арвэра (1806–1850).

*South River, 18.10.58*

*Вельмі паважаны Спадар Запруднік,*

*Мне проста неякавата, што я дасюль не падзякаваў Вам за двойчы ўжо ветліва прысланы мне матэрыял — абзавіце мяне, як хочаце, толькі не палічыце гэта за абыякавасьць: за Вашую прыхільнасьць і зразуменьне я ніколі не заплаціў-бы, Бог бачыць, гэтакай цаной — цяжка працуецца, асабліва цяпер, і ўсё, і ўся прычына маёй “абыякавасьці” (у думках адпісваю, пішу, ствараю, захапляюся, а не магу ўсё гэта аформіць). Дык дзякую за ўсё аж цяпер, дзякую за ўкладзеныя ў матэрыял пісулькі — асабліва апошняя тоесёе нават падказала мне, дзякую, “пролила свет”, як кажуць.*

*Ваш М. Сяднёў.*

*Прывітаньні Вашай жонцы і дзецям*[6] *ад нас удвох. Можа калі сустрэнемся на БІНІМі*[7].

*М. С.*

*2.10.59*

*Вельміпаважаны Спадар Запруднік,*

*Толькі што паслаў два скрыпты на тэму “Людзі пад бальшавіцкай дыктатурай”, на пробу: калі-б яны аказаліся ОК, працягваў-бы*[8]. *Я не разьвярнуўся яшчэ ў гэтай тэме (аб ёй я гаварыў калісьці і Вам, і Адамовічу), я толькі яе сфармуляваў, але — так я прынамся вычуваю — я мог-бы ў ёй зьмясьціць усё, і яна магла-б быць цікавай сваімі дэталямі, назіраньнямі, практыкай, сувязямі, сваім жывым зьместам. У далейшым знайшоўся-б… але Вы прачытайце самі і, можа, знойдзеце патрэбным падтрымаць гэтую маю ідэю перад Бурбялём (калі гэта магчыма наагул?).*

*З пашанай да Вас і прывітаньнямі сям’і Ваш М. Сяднёў.*

*1960*

*Вельміпаважаны Спадар Запруднік,*

*Як Вы ўжо, напэўна, чулі, мне давялося пераехаць у іншы штат і на іншую працу — толькі што распачаў выкладаць расейскую мову ў лётніцкай школе. Тым ня менш, хацеў-бы і надалей па-магчымасьці супрацоўнічаць з Вамі ў радыё “Вызваленьне”. Быў-бы Вам*

[6] У сям’і Янкі і Вольгі Запруднікаў на той час было ўжо дзьве дачкі: Ніна (нар. 1955) і Вера (нар. 1957).

[7] Маецца на ўвазе адно з магчымых пасяджэньняў БІНіМу ў Нью-Ёрку.

[8] Маюцца на ўвазе скрыпты для Радыё “Вызваленьне”.

*вельмі ўдзячны, калі-б Вы прыслалі мне хаця па невялікай порцыі такіх-сякіх матэрыялаў. Я абяцаю Вам акуратна, адразу-ж па выкарыстаньні, адсылаць іх назад. Адным словам, як і дагэтуль, спадзяюся на Вашу падтрымку, выбачайце, калі было што ня так. Два скрыпты на месяц задаволілі-б мяне яшчэ й як. Зычу Вам і Вашай сям'і ўсяго найлепшага.*

*З пашанай да Вас М. Сяднёў.*

*26.01.64.*

*Дзякуй Вам за Ваш ліст. І таксама за Рыгораў*[9]*. Ня вырашыў яшчэ, ці адказваць яму, ці не. Цікавай для мяне была-б Вашая думка што да гэтага, адказваць ці не адказваць. Як Вы заглядаецеся, у прыватнасьці, на Нехаёў выклік адказаць яму праз "Голас Радзімы"? Наагул-жа, на Нехаёў ліст можна было-б адказаць так, што ад ягонага ліста нічога не засталося-б. У гэнай "дыскусіі", якую ён ушчаў (каб-жа ён?), я мог-бы толькі выйграць, і наш Рыгор застаўся-б з носам. Сябра ён мне — ніякі: усяго дзьве-тры сустрэчы. У мой час ён недзе настаўнічаў і ў Менску ня жыў. Дык аб сяброўстве й гутаркі ня можа быць. Канешне, я разумею, што гэта ўжо такі трафарэтны прыём у іх — нібыта сябры пішуць да сваіх былых сяброў. А пра сустрэчы зы мной у 1939 годзе Няхай проста збрахаў — у гэтым часе я быў яшчэ на Калыме*[10]*, і, зразумела, ніякіх вершаў на Віленскім сквэры ў Менску*[11] *я ня мог яму чытаць, хоць*

[9] Маецца на ўвазе **Рыгор Няхай** (1914–1991), пісьменьнік, сябра Саюзу пісьменьнікаў БССР. У 1935 г. скончыў Менскі пэдагагічны тэхнікум, выкладаў беларускую мову й літаратуру ў Калодзішчанскай сярэдняй школе пад Менскам. У 1939 г. завочна скончыў літаратурны факультэт Менскага настаўніцкага інстытуту. Пасьля сканчэньня быў прызваны ў Чырвоную армію. Удзельнічаў у баях на Паўднёвым, 1-м Украінскім франтах. У 1942–1943 гг. выконваў заданьні Галоўнага разведупраўленьня Савецкай арміі ў тыле ворагу (Кіеў — Чаркасы — Чарнігаў). Быў начальнікам асобага аддзелу партызанскага злучэньня Ю. Збанацкага. Ваяваў у Польшчы, Нямеччыне, Чэхаславаччыне, Аўстрыі, Вугоршчыне. Ад 1946 г. працаваў у газэце "Літаратура і мастацтва". У 1952–1954 гг. — загадчык аддзелу крытыкі й публіцыстыкі часопісу "Полымя", у 1956–1957 гг. — рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва БССР. Аўтар зборнікаў вершаў "Па сонечных узгорках" (1939), "Маё пакаленне" (1950), "Вялікі мой і ціхі акіян" (1954), "Размова з восенню" (1961), "Асеннія пракосы" (выбранае, 1973), "Слова сябрам" (1982), зборнікаў апавяданьняў і аповесьцяў "Навальнічнае рэха" (1958), "Героі не адступаюць" (1965), "Сарочы лес" (1966), "Алёшка-атаман" (1967), "Туман над стэпам" (1971), "Шлях на Эльбу" (1976) і інш.

[10] Масей Сяднёў вярнуўся з Калымы ў Менск на перагляд справы ў 1941 г.

[11] Магчыма, маецца на ўвазе закладзены ў 1925 г. сквэр каля Віленскага кірмашу, які ад 1934 г. меў назву Міхайлаўскі.

*верш, пра які ён успамінае, у мяне ёсьць і зьмешчаны ў маім зборнічку. А потым і тое маё няшчаснае “Вызваленьне”, якое стала ў іх папярок у горле, і якім я, быццам, вітаў прыход фашыстых, напісаны ня ў часе вайны, а пасьля вайны, недзе аж у 1960 годзе, верш надрукаваны ў “Бацькаўшчыне”*[12]*, імі перакручаны і цытаваны няпоўнасьцяй: радкі пра маё зьняволеньне прапушчаюцца, а маёй натуральнай радасьці вызваленьня з турмы надаецца іншы сэнс. На гэтай хвале вызваленьню, на маіх лірычных радкох, няхай сабе і вельмі сьмелых (у Рыгора няма й ня будзе ніводнага сьмелага радка), Рыгор Няхай ловіць мяне. Але я ўпэўнены, што ня толькі мільёны зьняволеных, а й вусны ўсяго народу прашапталі славу Богу, сонцу і таму дню, які ўзрадзіў быў у іх надзею на свабоду, на вызваленьне. Іншая рэч, што надзея гэтая не апраўдалася. Але хопіць пра гэта.*

*Дзякую таксама за цікавыя навіны — ня ведаў пра іх. Вітаю Вас з посьпехамі ў галіне акадэмічнай — вельмі добра.*

*Графаманія Глыбіннага*[13] *дайшла й да мяне. Да рэчы, высылаючы мне той-жа ліст Рыгора Няхая, Глыбінны зьвяртаецца да мяне гэтаксама, як і Няхай, як да былога сябры бязь ніякіх двукосьсяў, ці гэта ў яго такі жарт, ці ён, як выглядае, ужо звар’яцеў.*

*З пашанай да Вас і Вашай сям’і*

*Ваш М. Сяднёў*

*14 верасьня 1965*

*Паважаны Спадар Запруднік!*

*Вялікае дзякуй за Вашае прыгожае прывітаньне з нагоды маіх угодкаў. Гэта мяне адрадзіла, узьняло, і я адчуў вялікую радасьць і цяплыню людскую. Гэта — як кропля бальзаму на шчарсьцьвелую душу. Гэта было далікатна. Чуў я, што ў Вас была й нейкая перадача з гэтымі ўгодкамі маімі. Калі-б гэта магчыма было, з прыемнасьцю зірнуў-бы на тую перадачу.*

[12] Маецца на ўвазе публікацыя: Сяднёў, Масей. І хрысьцячы мяне агнём. Цыкль вершаў: 1. Вызваленьне. 2. Жывы ўспамін. 3. Паэма пра Бацькаўшчыну. 4. Суродзічы мае… 5. Сьледам за песьняй. 6. Сінія вочы. 7. Апошняя вясна // Бацькаўшчына. № 46–47 (530–531). 26 лістапада 1960. Літаратурны дадатак. С. 5.

[13] Маецца на ўвазе **Ўладзімер Сядура-Глыбінны** (1910–1995), пісьменьнік, літаратуразнаўца, культуроляг. Узначальваў катэдру сучасных моў і рускай літаратуры ў Школе гуманітарных навук Рэнсэлерскага політэхнічнага інстытуту ў Троі (штат Нью-Ёрк). Аўтар кніг: “На берагох пад сонцам” (1964), “На Сьвятой зямлі” (1972), “Паэта з Божае ласкі. Успамін і роздум пра паэта Язэпа Пушчу” (1979), “Пад лебядзіным знакам. Аповесьць пра Максіма Багдановіча” (1983), “Вялікія дарогі” (1997).

*Чуў таксама, што пішаце ўжо дысэртацыю*[14]. *Вітаю і прыемна чуць пра гэта.*

*Ваш Сяднёў.*

*19 студзеня 1967*

*Вельмі Паважаны Спадару Запруднік!*

*Вельмі рады Вашаму лісту, як рады нашай нью-ёрскай сустрэчы, для мяне вельмі памятнай і дарагой. Вашая чуласьць і ўважлівасьць узьнялі мяне. Дзякую за істужку — я граў яе, і маім хатнім яна таксама спадабалася: гучыць яна запраўды нядрэнна. Я шкадаваў толькі, што замест "і жыцьцё і сьмерць", як я думаў сказаць, я сказаў "і свабода і сьмерць". Але гэта нішто! Я быў атлумлены сваёй канфэрэнцыяй, навылётночным сядзеньнем у тым Ньюёркары, быў расьцярушаны і ня ў форме. Прыемна гэтаксама, што й Рыгор загаварыў — значыцца, данялі мы з Вамі яго. Дзівак — мой адрыс ёсьць там у іх.*

*Вельмі шкада Вержбаловіч*[15] *— вельмі цікавы чалавек яна, аж неяк апусьцела безь яе. Тым балей — магла-б яшчэ жыць, уга як! Пакрысе "сыходзіць" наша вёска зь "яснай явы".*

*Спадар Запруднік, я прасіў Антося*[16] *і прашу Вас упхнуць мяне ў склад мюнхэнскага беларускага дэску ці куды — хацеў-бы устрасянуць сябе нейкай іншай працай: мой "акадэмізм" пачынае мяне зьядаць. Я засядзеўся, хацелася-б паспрабаваць распасьцерці яшчэ раз крыльле і чыркнуць імі, хоць па зямлі і "можа раз астатні". Га, Спадар Запруднік? Што Вы скажаце пра гэта?*

*Найлепшыя прывітаньні Вашай Сям'і. Вітаньне нашай Натальцы*[17] *— так і не ўдалося зь ёю пагутарыць.*

*Заўсёды Ваш М. Сяднёў.*

*Лютага 2, 1967*

*Вельмі Паважаны Спадар Запруднік,*

*Запоўнены апытальнік выслаў — вялікі Вам дзякуй. Калі-б апрача апытальніка спатрэбілася і якаясь рэкамэндацыя зь месца працы, дык яе лёгка можна было-б атрымаць з Indiana University*

---

[14] Янка Запруднік сапраўды працаваў у гэты час над дысэртацыяй, прысьвечанай беларускаму пытаньню ў расейскіх Дзяржаўных Думах.

[15] Опэрная сьпявачка Барбара Вержбаловіч, што працавала таксама ў Беларускай рэдакцыі Радыё "Вызваленьне" ў Мюнхене, памерла ад ранаў, атрыманых у аўтамабільнай аварыі, 8 студзеня 1967 г.

[16] Маецца на ўвазе Антон Адамовіч.

[17] Відаць, маецца на ўвазе Натальля Арсеньнева.

*Bureau of Educational Placement, Bloomington, Indiana, дзе ляжыць не адна, а аж чатыры рэкамэндацыі, ці як інакш завуцца Letters of recommendation. На рукі мне іх, як Вы ведаеце, не дадуць — яны “конфідэншал”*[18]*. Але я ўпэўнены, яны добрыя.*

*Атрымаў ліст ад Спадара Геруса*[19] *і ад Спадара Цьвіркі*[20]*. Абодвы — вельмі прыемныя. Пэўна-ж гэная справа залежыць і ад нашых чаловых альбо й цалком ад іх. Чаго-б я хацеў, гэта — каб справа мая выясьнілася як найхутчэй, каб мне не прапусьціць іншых магчымасьцяў працы, якія ў мяне ёсьць: кантракты на наступны навучальны год, звычайна, падпісваюцца пераважна ў гэтым месяцы і ў наступным, і мне, перад тым, як адмаўляцца ад прапанаванае працы, патрэбная была-б нейкая гарантыя таго, што я атрымаю працу ў Мюнхэне, куды я паехаў-бы.*

*Што новага ў Вас?*

*З пашанай да Вас М. Сяднёў.*

*Лютага 5, 1967*

*Паважаны Сябра Запруднік,*

*Выбачайце, што закідаю Вас сваімі лістамі — тутака я хацеўбы толькі дакінуць колькі слоў да майго папярэдняга ліста. Як цяпер для мяне стала ясна, працаўнік у беларускай сэкцыі ў Мюнхэне патрэбны, яго шукаюць, высоўваюць кандыдатуры і г. д. Значыцца, мая справа залежыць ад таго, падтрымаюць ці не падтрымаюць мяне нашыя чаловыя тут у Амэрыцы. Я разьлічваю на Вашую, Адамовічаву падтрымку, на падтрымку Арсеньневай, Тумаша*[21]*. Такой падтрымкі, я спадзяюся, хапіла-б. Яшчэ хацеў-бы я зьвязацца неяк з Сп. Абрамчыкам*[22]*, балазе ён цяпер тут. Куды-б можна было да яго напісаць альбо патэлефанаваць? Вы не маглі-б мне падказаць што-небудзь, Сябра Запруднік? Быў-бы Вам вельмі ўдзячны.*

*З пашанай М. Сяднёў.*

[18] ***Confidential*** (анг.) — канфідэнцыйны.

[19] **Мікола Герус** (раней Дончанка), украінец, які працаваў рэпартэрам у Нью-Ёрку ва Ўкраінскай рэдакцыі Радыё “Свабода” й адначасна заступнікам Густава Бурбеля, загадчыка аддзелу нерасейскіх рэдакцый. У першай палове 1960-х гг. яго перавялі ў Мюнхен на пасаду дарадніка Ўкраінскай і Беларускай рэдакцый Радыё “Свабода”.

[20] **Уладзімер Цьвірка** (1928–1992), журналіст, у той час працаваў у Беларускай рэдакцыі Радыё “Вызваленьне”.

[21] Вітаўт Тумаш (1910–1998) у той час быў кіраўніком БІНіМу.

[22] Прэзыдэнт БНР Мікола Абрамчык (1903–1970) быў ініцыятарам стварэньня Беларускай рэдакцыі Радыё “Вызваленьне” і меў магчымасьці ўплываць на адбор яе супрацоўнікаў.

*Прывітаньні Арсеньневай, Адамовічу (да іх я ня пішу, спадзяючыся, што мае малітвы да іх Вы перадасьце).*

*М. С.*

*Мюнхэн, 7. 11.73*

*Вельміпаважаны Спадар Запруднік,*

*Шчыра дзякую за ліст. Сапраўды, быў рады атрымаць яго.*

*Некалькі заўваг пра першую перадачу з новай сэрыі “Свабоднае слова”*[23]*. Мы слухалі яе тут калектыўна, усёй рэдакцыяй. Паспрабую пераказаць тут як сваё асабістае ўражаньне, гэтак і ўражаньне нашых калегаў.*

*1. Добра было-б, каб першая перадача была больш праграмнай, апраўдвала-б тое, што мы задэкляравалі купалаўскай страфой і сваім уступам. Скажам, добра пасавала-б тут нешта з нашай нацыянальнай праблематыкі. Навела магла-б пайсьці тады другой ці трэцяй перадачай. Дык як?*

*2. Ня ўсе з нашых слухачоў разгадалі крыптаграфію ў навэле. Для бальшыні яна засталася нейкім рэбусам і выклікала нат недаўменьне.*

*3. Нясмачнай паказаўся абыйграны ў навеле вобраз “сьвіньнячыны”. Яна засланіла ўсё, нічога не засталося нават ад купалаўскіх словаў і вельмі прыгожага музычнага ўступу. Нясамавітымі здаліся й тыя мясьціны ў навеле, дзе “адліваюць” і дзе пахне “людзкой сьвяжынай”.*

*4. Выказаны быў сумлеў адносна палітычнай мэтазгоднасьці аўтаравай трактоўкі гібелі галоўнага пэрсанажу навелы.*

*5. Пададзена навела добра, хоць у некаторых мясьцінах і — “фельетонна”.*

*6. Стылёва навела занадта ідэальная. У ёй не засталося ніякіх “агрэхаў” аўтаравай мовы, ад чаго яна траціць на “праўдзівасьці”. Напрыклад: “Вочы выбіраў едкі дым”. Аўтар мусіў-бы нармальна сказаць: “Вочы выядаў дым”, хоць “выядаў” як-бы й русыцызм.*

*Асабіста я ўважаю твор Зубра “Першы” добрым прыкладам палітычнай навелы. Паколькі гэта мастацкі твор, ягоны аўтар, на маю думку, мае поўнае права даваць “трактоўку” сваіх пэрсанажаў, якую ён хоча, нават і тады, калі-б гэтыя пэрсанажы былі гістарычнымі асобамі. Уся справа ў тым, наколькі тая ці іншая трактоўка artisticly justified.*

*Я думаю, што аўтар нашае навелы — здольны чалавек, і яго трэба ўсяляк заахвочваць пісаць далей.*

[23] У гэты час Масей Сяднёў ужо працаваў кіраўніком Беларускай рэдакцыі Радыё “Свабода”.

*І апошняе — назоў нашай сэрыі вельмі-ж забавязвае, і ў падборы матэрыялаў для гэтай сэрыі мы мусім быць няўмольнымі. Мне думаецца, што добра было-б улучыць у гэтую сэрыю і нашую эміграцкую літаратурку — яна-ж “свабоднае слова”, “нядрукаванае” там і няведамае там. Вось-бы й пачаць зь нейкага нашага тут “патрыёта”, скажам, з той-жа Натальлі.*

*Дык вось гэта і ўсе тыя заўвагі-пажаданьні.*

*Чакаю на Ваш адказ. З найлепшымі пажаданьнямі да Вас і ўсіх Вашых.*

*Ваш М. Сяднёў.*

*[Пазнака Я. Запрудніка: Атрымана 16.XI.73].*

*Паважаны Спадар Запруднік,*

*Дзякую за ліст. Борзьдзенька хачу адказаць на яго. У папярэднім сваім лісьце да Вас я зрабіў колькі заўвагаў адносна праграмы “Свабоднае слова” і ў прыватнасьці пра навелу “Першы”. Спадзяюся, што гэты ліст Вы атрымалі, і што ніхто моцна не пакрыўдзіўся на нас за гэтыя заўвагі. Цікава, якая Ваша асабіста думка што да гэтага. У іншай новай сэрыі “Гутарка Цярэшкі” пайшла ў суботу ягоная перадача пра часапісы — добрая рэч. Мы выкінулі адтуль толькі першы радок “перад мікрафонам ваш карэспандэнт”. Гэта неяк нясьціпла, і можа мець адмоўную рэакцыю. Замест гэтага радка мы далі маленькі ўступ: “Пачынаем сёньня новую сэрыю гутарак Алеся Вольчына. Ля мікрафону Алесь Вольчын”. Калі-б Вам такі ўступ не спадабаўся, Вы можаце яго зьмяніць на які хаця, толькі не на “Ваш”. У нядзелю пайшла “Амэрыка”, паводля плану.*

*Чакаем на Ваш “Народ і партыю”. Канешне, Вы можаце пісаць скрыпты з гэтай свае сэрыі і пяцімінутныя, калі гэта для Вас зручней. Кароткі скрыпт мае сваю перавагу перад даўгім — большая канцэнтрацыя, сьцісьлейшае фармуляваньне, пэўная завостранасьць могуць рабіць яго больш дзейсным, больш даходлівым. Наагул-жа я асабіста не надаю асаблівага значэньня аб’ёму скрыпта, тут толькі бярэцца на ўвагу тэхнічны бок. Цалкам падтрымліваю Вашу думку — лепш пяцімінутны ды кажны тыдзень. Галасую за гэта.*

*“Культурная хроніка” — добрая рэч, і я заўсёды быў за яе, але хацеў-бы пачакаць зь ёй зь месяц часу.*

*Колькі драбніцаў яшчэ: добра было-б, каб, як гэта Вы рабілі і раней, Вы падавалі свой тыднёвы план нам недзе на панядзелак-аўторак, каб мы маглі загадзя ведаць, што будзе ад Вас на суботу й нядзелю. Што тычыцца паўтораў, дык трэба Вам мець на ўвазе*

*гэткае: не давайце для паўтору скрыптаў старэйшага як два месяцы — істужка ягоная ў нашым архіве ўжо будзе пагашаная. Ну і нарэшце — рабеце, калі ласка, вывад у кажным скрыпце.*

*Нічога асаблівага новага ў нас тут ня чуваць. Усё быццам ок. Найлепшыя Вам прывітаньні ад мяне і маёй жонкі, а таксама і ад Супрацоўнікаў.*

*З пашанай да Вас М. Сяднёў.*

*14.11.73*

*Паважаны спадар Запруднік,*

*Сёньня пайшоў Ваш скрыпт з сэрыі "Кампартыя і народ". Скрыпт добры. Гэта нешта накшталт рэплікі — кароткай, але дзейснай. Паводля свайго тону яна можа крышачку завойстрая. У вадным месцы фарбы можа занадта згушчаныя: "Стан запраўды крытычны. Прадукцыйнасьць працы ніякая, якасьць вытворчасьці — яшчэ ніжэйшая".*

*Чакаем на Вашыя далейшыя скрыпты і на музычны ўступ да гэтай Вашай сэрыі.*

*З найлепшымі прывітаньнямі да Вас.*

*Ваш М. Сяднёў.*

*19.11.73*

*Паважаны Спадар Запруднік.*

*Зноў крышку пра "Дарагія слухачы! Ля мікрафону ваш карэспандэнт Алесь Вольчын" і пра канцавое "Гэта быў ваш карэспандэнт Алесь Вольчын". Мы ўсе тут прыйшлі да пераканаўньня (гэтую форму звароту я адмыслова стаўляў на абмеркаваньне на нашай рэдакцыйнай нарадзе), што такі "адрэсінг" не на месцы: ён хутчэй будзе выклікаць адмоўную рэакцыю, накшталт: "Бач, набіваецца ў "нашыя", "Знайшоўся "свой", "А хто цябе прасіў?" і г. д. Зразумела, я бяру тут самае скрайняе. Але ўсё-такі ляпей дружбай не набівацца. Як зарэкамэндуе сябе Алесь Вольчын перад слухачом — ці як "свой", ці як "чужы" — будзе залежыць усё-ткі не ад формы звароту, а выключна ад таго, што будзе гаварыць Алесь Вольчын і як гаварыць. Усю філасофію "вашага карэспандэнта" я добра разумею і пагаджаюся зь ёю, але аўдыторыя, да якой прамаўляе Алесь Вольчын, — гэта ня толькі нашы прыхільнікі, знаёмыя і сябры Алесевы, а ўся Беларусь, і разьлічваць на тое, што гэтае "ваш" гэтак адразу і прыліпне да сэрца, няма ніякіх падставаў. Дык найлепей усё-ткі ўжываць прыймальную для ўсіх нашых слухачоў форму звароту,* г. зн. *нармальную,*

*агульнапрынятую — нічога асаблівага тут, нажаль, ня прыдумаеш. Тым больш, што вырашальным тут, зноў-жа, ня форма, а зьмест, хоць, канешне, і зварот той выконвае сваю, пэўную функцыю. Нашыя суб'ектыўныя жаданьні і хаценьні, як вядома, часта, нажаль, аб'ектывізуюцца ня так, як мы таго хацелі-б.*

*Яшчэ больш "уражвае" фінальнае "Гэта быў ваш карэспандэнт Алесь Вольчын". Хто гэта "быў", які гэта карэспандэнт, можа сказаць толькі наш слухач, а ня мы самі. Тут ужо нічога не парадзіш. Гэта яго і толькі яго права.*

*Гутарка Алесева пайшла ў суботу. Прыйшла яна позна ў пятніцу, калі суботняя праграма была ўжо зачыненая, і давялося "зьнімаць" ягоную папярэднюю гутарку і ўстаўляць новую. Сьпяшаючыся, мы "сварганілі" гэткі ўвод: "У сэрыі гутарак Алеся Вольчына сёньня пра (тое і тое). Ля мікрафону аўтар праграмы". І ў канцы: "Вы слухалі гутарку Алеся Вольчына пра (тое і тое)". Я не кажу, што гэта нейкі ідэальны і адзіна магчымы варыянт. Не, "О, крый мяне Божа", але прынамся рэальны.*

*Дык гэта было-б і ўсё тымчасам. З найлепшымі да Вас прывітаньнямі.*

*Ваш М. Сяднёў.*

*20.11.73*

*Паважаны Сябра Запруднік,*

*Сёньня пайшоў Ваш скрыпт пра Тарашкевіча*[24]*, але, выбачайце, бяз той музыкі, якую Вы прыслалі — яна ня ў згодзе з Вашай праграмай. Вашая праграма энэргічная, мэтанакіраваная і ўрэшце-рэшт аптымістычная, а музыка тужліва-безнадзейная, плаксівая і расслабленая. Ваш голас — гэта часта голас прамоўцы, трыбуна, палеміста, а музыка з тэкстам "дарагая старonачка" сваёй мінорнасьцяй і лірычным пасывітэтале забівае Вас і зьніжае Вашую праграму. Патрыятычная настраёвасьць песьні не ратуе справу — яна гучыць па-нашанiўску і запрымітыўная для Вашай праграмы. Яна ў іншым ключы, чымся Вашая праграма. Нам трэба выпростваць свае плечы, а не схіляць пакорліва галаву пад той сумна-цягучы акорд. І потым — музыка мусіць быць бяз тэксту. Тэкст будзе заразаць нас.*

*Пашукайце, калі ласка, што-небудзь іншае, або, калі Вы ня супраць, дазвольце нам самім тут падшукаць што-колечы больш адпаведнае.*

*Ваш М. Сяднёў.*

[24] Маецца на ўвазе **Браніслаў Тарашкевіч** (1892–1938), грамадзка-палітычны дзеяч, мовазнаўца, пісьменьнік.

*30.11.73*

*Паважаны Спадар Запруднік,*

*Паспрабую караценька адказаць на асноўныя мамэнты ў Вашым апошнім лісьце.*

*1. Калі пра тую ці іншую перадачу я раблю заўвагі — хоць-бы й крытычныя — гэта ня значыць яшчэ, што я няпрыхільна стаўлюся да аўтара праграмы або што я нязводна хачу ўсадзіць яму шпільку. Няўжо хто-небудзь з нас можа цешыць сябе думкай, што тое, што ён робіць — заўсёды і ўсюды нагэтулькі дасканалае й беззаганнае, што ўжо выключае самую магчымасьць крытыкі. Калі-б яно было сапраўды так, гэта было-б сумна.*

*2. Апраўдваць усё “точкой зрения”, значыць, выключаць самую магчымасьць нейкай рэальнай, больш-менш аб’ектыўнай ацэнкі. “Людскую сьвяжыну”, “адліваньне”, “сьвіняньчыну” ніякай “точкой зрения” не апраўдаеш, як не запярэчыш таго, што такі “натуралізм” аніяк ня можа надаць нашай праграме нейкага асаблівага “чарму”, красы.*

*3. Пайшла ў нядзелю, 25.11, першая перадача з сэрыі “Свабоднае слова”. Тут я дазволю сабе сказаць от што. Пададзеная яная загучна, завысока. Лепш было-б цішэй, спакайней, без натужлівага драматызму і тэатральнасьці. Мы-ж не на пляцы і не на сцэне. Наш слухач усяго толькі ў сябе ў хаце перад сваім прыёмнікам. Патрыятычнае-ж — ня ў крыклівым. Тэксты Ластоўскага*[25] *надта бедныя — і думкай, і сваім “мастацтвам”, і палітычным зьместам. Гэта ўжо ня слова наагул. “Свабоднае слова” мусіць вызначацца і сваім якасным паказальнікам. Надаюць праграме вагі заключныя зь вершу Арсеньневай. Гэта ўжо слова, і зь ім ня сорамна паказацца на людзі. Канец фразы зь “Менскам” давялося зьняць во избежание кривотолков. Перачытаць верш Арсеньневай не давялося — Вашая просьба прышла запозна, а самі мы не здагадаліся, дый ня было калі думаць: трэба было гэта ўсё пхаць у праграму.*

*4. У суботу, 24.11, пайшлі і Алесевы вавёркі. Таксама і Вашае “Партыя і народ”. Гучыць добра, дармо што, кажаце, ідзе туга. Раскратаецеся — пойдзе гладзей. Падкажэце, як можна дапамагчы Вам з Кахаdebounceўскай*[26]*. Прывітаньне ёй тут на гэтым месцы.*

*Дык вось гэта тымчасам было-б і ўсё.*

*З прывітаньнямі.*

*Ваш М. Сяднёў.*

---

[25] Маецца на ўвазе **Вацлаў Ластоўскі** (1883–1938), грамадзка-палітычны дзеяч, гісторык, пісьменьнік, мовазнаўца, літаратуразнаўца, этнограф.

[26] Маецца на ўвазе **Яніна Каханоўская** (дзяв. **Шабуня**, 1925–2005), грамадзкая дзяячка, пляменьніца Івана й Антона Луцкевічаў, першая жонка Аўгена Каханоўскага.

*17.7.74*

*Паважаны Спадар Запруднік,*

*Вялікі дзякуй за ліст. Пагаджаюся з Вашай думкай-ідэяй адносна “пераводу” Алеся на “ю эс ньюс энд Ўорлд Рыпорт”*[27] *— гэтак хіба што будзе лепей. Антося*[28]*, бязумоўна, трэба зьберагчы для беларускай рэдакцыі. Я пастараюся зрабіць усё, што магу, каб дамагчыся гэтага. Я нават і думкі не дапушчаю, Спадар Запруднік, каб дзеля перагружнасьці іншай працай — рэдагаваньнем — Вы змушаныя былі пакінуць сваю сэрыю “Народ і кампартыя”, гэтак патрэбную для нашай праграмы.*

*Хацеў-бы закрануць тут разам з гэтым і яшчэ адно вельмі важнае пытаньне — гэта пытаньне насьвятленьня ў нашай праграме такіх паняцьцяў, як патрыятызм, гераізм, пакутніцтва, што найчасьцей сустракаюцца ў нашых скрыптах на тэму вайны і зьвязанага зь ёю партызанскага руху на Беларусі.*

*Як правіла, мы чамусьці саромімся вызнаваць за сваім народам такіх якасьцяў, як гераізм і патрыятызм, выказаных ім у часе Другой сусьветнай вайны. Гераізм і патрыятызм — гэта, маўляў, рэчы, што былі інсьпіраваныя кампартыяй, а што сам народ быў пасыўным, і калі-б ня тая кампартыя, дык — хто ведае — ён, можа, і не бараніў-бы свае зямлі ад акупантаў. Зразумела, я знарок бяру гэта груба, але на самай справе — чытаючы той ці іншы скрыпт на тэму, зьвязаную з вайной ці партызанскім рухам, такую выснову ня цяжка вычуць з падтэксту матэрыялаў, прысьвечаных гэтай праблеме.*

*Ня можа быць ніякага сумлеву, што такая канцэпцыя — нават калі-б яна была ў нейкай ступені й праўдзівай — палітычна нявыгадная і ў існасьці сваёй заганная, калі ня шкодная. Станкевіч*[29]*, напрыклад, наагул не вызнае гераічнага жанру: як хто зь пісьменьнікаў і бярэцца за яго, дык такога аўтара ўжо апрыёры падсьцерагае мастацкая няўдача. Героікі, маўляў, ня было, было пакутніцтва, спрычыненае партызаншчынай. Рэхт — было пакутніцтва, рэхт — яно было спрычыненае і тым-жа “партызанскім рухам”, але тут-жа закладзеная і небясьпека (даруйце) апраўданьня акупацыі: маўляў, не чапалі-б партызаны акупанта, ня было-б і таго пакутніцтва. Паўтараю, я гэта ўсё вульгарызую, закранутыя пытаньні куды больш складаныя, чымся яны здаюцца на першы погляд — я гэта*

27 *U. S. News and World Report.*

28 Магчыма, маецца на ўвазе Антон Адамовіч.

29 Маецца на ўвазе **Станіслаў Станкевіч** (1907–1980), грамадзка-культурны дзеяч, літаратуразнаўца, публіцыст, крытык, выдавец. На той час быў рэдактарам газеты “Беларус” у Нью-Ёрку.

*добра разумею — але для нас не карысна выстаўляць свой народ у сьвятле нейкай пакоры або яшчэ горш — што ён прыймаў акупацыю.*

*Крый Божа, я не хачу зрабіць тут каму-небудзь нейкага закіду. Я магу памыляцца ў сваіх назіраньнях, але я менавіта гэтак прачытваю некаторыя з скрыптаў, што так ці інакш закранаюць праблему вайны й партызаншчыны на Беларусі. Што Вы думаеце пра ўсё гэта?*

*Колькі заўвагаў пра "Дзьве душы". Рэч гэтая ўсё-ткі слабая, блізу нечытэльная — вывозіць яе толькі Антось сваім майстэрскім чытаньнем. Музычны ўступ — крышачку надрыўны, Купалаўская страфа-ўступ — дэклямацыйная, і такім парадкам увесь гэты "фон" мала адпавядае шляхоцкай (як я назваў-бы) мэлядраме, нягледзячы на ўсю ейную "рэвалюцыйнасьць". Сам назоў рубрыкі "Свабоднае слова" і самыя словы Купалы вымагаюць ад нас большага, яны забавязваюць нас, іх нялёгка апраўдаць. Я апусьціў-бы з гэтай Купалаўскай звароткі ейны рамантычны рэквізіт — "совы" і "гадзіны": ён зьвязаны з пэўным гістарычным часам і сёньня гучыць анахранізмам, навісае. Трэба было-б ужо нешта больш мацнейшае. Дзеля большай эфэктыўнасьці было-б добра пушчаць гэтыя "думы" хутчэй — у суботу і ў нядзелю, а то я баюся, што яны ня робяць належнага ўражаньня: ідуць яны зарэдка.*

*Я ўсё-ткі трымаюся думкі, што ў гэтай сэрыі добра было-б прапусьціць нашую тут "брацію" — пісьменьнікаў, паэтаў, крытыкаў, публіцыстаў (найлепшае з таго, што ў нас ёсьць). Гэта і было-б тым свабодным словам, якое мы хочам данесьці да нашага слухача, ці на якое прэтэндуем. Гэта тым больш, што Сп. Станкевіч (і зусім дарэчы) пачаў знаёміць ужо нашага слухача з гэтым словам.*

*Пайшоў учора Ваш скрыпт пра БНЦ[30]. Няўжо Вы сапраўды верыце ў гэта? Ці гэта толькі take believe[31]? Тады зразумела.*

*Праскочыла з пару скрыптаў, што нечакана абрываліся пытаньнямі. Вельмі добрыя скрыпты, моцныя, але выразна не хапала ім (дзеля нейкага закругленьня) сказу-другога.*

*Выбачайце за крэмзаніну. Тое, што я тут накрэмзаў, прасілася ў мяне само з вуснаў і яно, як той казаў, у парадку абмеркаваньня.*

*З найлепшымі прывітаньнямі.*

*Ваш М. Сяднёў.*

30 Магчыма, маецца на ўвазе сфабрыкаваная НКВД у 1933 г. справа Беларускага нацыянальнага цэнтру (БНЦ).

31 ***Make-believe*** (анг.) — тут: прыдумка, фантазія.

*23.8.74*

*Паважаны Спадар Запруднік,*

*Мы ўсе тут былі пад вялікім уражаньнем ад гутарак (менавіта гутарак) Клёнава*[32] *— таленавіта, чалавечна, надзвычайна. Клёнаў бярэ культурай свайго выкладу. І добра чытае. Трэба ўсё зрабіць, каб прыцягнуць яго да працы ў нас. Для каго-ж тады той бюджэт, калі адкідаць такіх людзей, як Клёнаў?*

*Скрыпт 5571 не пайшоў: нявыразная сьціраванасьць (канцэпцыя), недыфэрэнцыяваны падыход — скрыпт супраць усяго і ўсіх (настаўнікаў, грамадства, бацькоў). На некага-ж мы мусім разьлічваць. Прачытаўшы (праслухаўшы) скрыпт, застаешся ні з чым.*

*Зьменены ўступ да "Свабоднага слова" — прыгажэйшы, лепшы. Дзякую.*

*Нешта не чуваць ніякай рэакцыі з Вашага боку пра мае іншыя заўвагі. Цікава было-б пачуць Вашую думку пра гэтыя рэчы.*

*Добра было-б час ад часу зьмяняць на ўступе трафарэтнае "А цяпер у сэрыі...". Заўсёды гэтае "а цяпер...". Нядобра, калі скрыпт пачынаецца — ні з таго, ні зь сяго — зь нейкай невядомай для слухача асобы, раптоўна, бяз папярэдняга азнаямленьня зь ёю, напрыклад: "66-ы гадовы Эдвард Тэлер нарадзіўся ў Будапэшце". І толькі некалькімі радкамі пазьней слухач даведваецца, хто такі Тэлер. І г. д. "Быка" трэба адразу браць за "рогі".*

*Я асабіста абсалютна не ў захапленьні ад Віцьбіча*[33]*. А галоўнае — зь ім не абярэшся бяды.*

*Шчыра Ваш М. Сяднёў.*

---

32 **Андрэй Клёнаў** (сапр. Арон Куперштак, 1920, в. Магільна — 2004, Нью-Ёрк, ЗША), пісьменьнік, перакладчык. Друкавацца пачаў у 1935 г. Першы зборнік вершаў *"Мои друзья"* выдаў у 1940 г. З пачаткам нямецка-савекай вайны пайшоў добраахвотнікам на фронт. Па вайне вучыўся ў Маскоўскім дзяржаўным пэдагагічным унівэрсытэце і ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага. У лютым 1973 г. эміграваў у Ізраіль, у 1974 г. пераехаў у ЗША. Жыў у Брукліне, Нью-Ёрк. Аўтар кніг: "Неназваная книга" (Масква, 1957), "Три дня в Москве" (Масква, 1961), "Поиски любви" (Масква, 1967, другое выданьне, перапрацаванае — Нью-Ёрк, 1989), "Картинки Нью-Йорка" (Нью-Ёрк, 1983, другое выданьне, дапоўненае — Нью-Ёрк, 1990), "Откровение: книга поэм" (Нью-Ёрк, 1984), "Утренний голос: роман в монологах" (Нью-Ёрк, 1987), "Поздние цветы: много четверостиший, долго ждавших издания, новые стихотворения, новые поэмы" (Нью-Ёрк, 1992), "Писатели и книги, или Маленькая энциклопедия словесного творчества" (Нью-Ёрк, 1996).

33 **Юрка Віцьбіч** (1905–1975), літаратар, публіцыст, краязнаўца, грамадзкі дзеяч, таксама супрацоўнічаў пэўны час зь Беларускай рэдакцыяй Радыё "Свабода".

*10.10.74*

*Паважаны Спадар Запруднік,*

*Дзякую за ліста й добрыя пажаданьні. Выбачайце, што пазьнюся з адказам — пасьля адпачынку ўсё яшчэ не магу прыйсьці да нормы.*

*Вярнуліся Басараб і Штумар. А перад гэтым пабачыліся тут з Сп. Бурбялём — зь ім цікава пагаварыць.*

*Ён найсе мэн*[34]*. Праграма, пра якую Вы гаварылі (“філософска-рэлігійная”) — добрая й патрэбная рэч, але, нажаль, на яе ў нас не хапае сілаў: я ня ведаю, каб хто ў нас мог пісаць яе так, як Шмэман*[35] *— няма ў нас, нажаль, свайго Шмэмана. А добра, каб было-б, каб пісаў яе нехта свой, будаваў яе на сваім, так бы сказаць, матарыяле, беларушчыў. Шмэман — выдатны аўтар, я захапляюся ім — стала чытаю, ня раз пушчаў яго (на сьвяты) у праграме, але, як Вы ведаеце, праграмы Шмэмана прызначаныя для рускага слухача — будуюцца яны на прыкладах з рускай культуры, літаратуры, філасофіі, і перасаджваць такія праграмы ў нашую праграму ня так лёгка, хоць і не немагчыма, як сьлед папрацаваўшы над імі. Хацелі-б узяцца за гэта, Сп. Запруднік? Мы толькі-б віталі Вас.*

*На “Сучасную Амэрыку” дарэмна Вы наракаеце: урэшце-рэшт гэта добрая праграма, і было-б вялікай стратай адмовіцца ад яе.*

*З якнайшчырэйшымі да Вас і Вашай Спадарыні прывітаньнямі.*

*Ваш Сяднёў.*

*3.1.75*

*Паважаны Спадар Запруднік,*

*З тактычных меркаваньняў, паўтараю — з тактычных меркаваньняў трактоўка юбілею часапісу “Работніца і сялянка”*[36]*, памойму, мусіла-б быць крышачку іншай — не такой нэгатывісцкай. Усё-ж у гэтым часапісе чытач — а іх-жа паўмільёну — можа знайсьці і нешта карыснае й цікавае для сябе: парады практыч-*

[34] ***Nice man*** (анг.) — прыемны чалавек.

[35] **Аляксандр Шмэман** (1921–1983), сьвятар, пісьменьнік, доктар багаслоўя. Скончыў Сьвята-Сергіеўскі праваслаўны інстытут у Парыжы, у 1946 г. прыняў сьвятарства. Ад 1962 г. і да канца жыцьця быў дэканам Генэральнай багаслоўскай сэмінарыі ў Нью-Ёрку. Цягам трыццаці гадоў вёў рэлігійную праграму на Радыё “Свабода”.

[36] Часопіс **“Работніца і сялянка”** выдаваўся ў Менску ад 1924 г., спачатку пад назвай “Беларуская работніца і сялянка”, потым — “Работніца і калгасніца Беларусі”.

*нага характару, матэрыялы пра сям'ю, школу, працоўныя будні жанчыны. Ёсьць у ім і кулінарыя, і моды, і гумар, і прымаўкі, аж да матарыялаў, у якіх выказваецца любасьць да свае бацькаўшчыны. Што ён жаночы часапіс — гэта яшчэ не загана (як выглядае ў Сп. Станкевіча). Ніякай тут пагардлівасьці ня можа быць. Я думаю, што да гэтай нашай большай палавіны людства пасапалітага трэба было-б паставіцца цяплей. Трэба аддаць ёй належнае. І ў прапагандным сэньсе выйгрыш будзе большы, я ўпэўнены.*

*Супрацьстаўляць-жа адзін часапіс другому — ня мае асаблівага сэнсу: абодва яны — савецкія, камуністычныя часапісы, і ў гэтым дачыненьні паміж імі абсалютна няма ніякай прынцыповай розьніцы. А што яны не аднолькава ўзнагароджаныя — ці-ж гэтаму можна надаваць нейкае сур'ёзнае значаньне. Сьмешна!*

*Выглядае, што "Полымя"*[37] *— часапіс наш, а "Работніца" — не. Несамавіта. Абодва яны нашыя і ня нашыя.*

*Пытаньне тыражу — гэта ўжо іншае пытаньне: пра яго ўжо ня раз гаварылася і, канешне, гаварыць трэба.*

*Можа-б Сп. Станкевіч перагледзіў свой скрыпт і вярнуў яго ў новай рэдакцыі — можна так зрабіць, што перадаць яго можна будзе й пазьней.*

*Дзякую за ліст і цёплыя вітаньні. Спадзяюся, што Вам і ўсім Вашым было добра ў Саўт-Рывэры.*

*Шлём Вам усім вітаньні.*

*Ваш Сяднёў.*

*22.11.78*

*Вельмі Паважаны Спадар Запруднік,*

*Цікава было пазнаёміцца з Вашым рэпартажам пра вечар Чыгрынава*[38]*. У больш "інтымнай" атмасфэры не сустракаліся зь ім? Не ўдалося выцягнуць зь яго што-небудзь больш цікавае? Добра было-б, як мне здаецца, падараваць яму і маю кніжыцу, як ад, скажам, "земляка", але гэтага, як звычайна, ніхто хіба не зрабіў. Але гэта — як уважаеце.*

*З прывітаньнем.*

*Ваш М. Сяднёў.*

---

37 Літаратурна-мастацкі і грамадзка-палітычны часопіс **"Полымя"** выдаецца ў Менску ад 1922 г.

38 **Іван Чыгрынаў** (1934–1996), пісьменьнік, драматург, перакладнік, публіцыст. У 1978 г. ён прыяжджаў у Нью-Ёрк у складзе дэлегацыі БССР на Генэральную Асамблею ААН.

*6.2.79*

*Паважаны Спадар Запруднік,*

*караценька пра скрыпт Станкевіча (NYAR7596) — у такім выглядзе, нажаль, ня можа пайсьці: "...вінавачаньні (Быкава[39]) савецкай сыстэме" аніяк не падмацоўваюцца цытатамі, прыведзенымі ў скрыпце на доказ такога "вінавачаньня".*

*І яшчэ: выглядае (паводля Станкевіча), што Быкаў атрымаў Дзяржаўную прэмію БССР[40] за свой траха не антысавецкі твор і што партыйная цэнзура "скапітулявала" перад ім, не дабачыла ў ягоным творы "вінавачаньня савецкай сыстэме".*

*Ці не занадта рызыкоўнае такое цьверджаньне?*

*З пашанай, Ваш М. Сяднёў.*

*31.3.81*

*Паважаны Спадар Запруднік,*

*Скрыпт аб праблемах жанру беларускага апавяданьня выклікае цэлы шэраг засьцярогаў, і дзеля гэтага ня можа пайсьці ў праграму: 1. закід у адрыс крытыкі, што яна ігнаруе жанр апавяданьня несправядлівы — ёсьць нямала працаў на гэтую тэму; 2. прынамся неасьцярожна браць на сябе ролю выказьніка густаў і паглядаў чытачоў, што да такіх рэчаў, як жанр апавяданьня ці жанр раману — гэтыя густы могуць быць самыя разнастайныя і вызначыць іх бадай немагчыма, а прыпісваць чытачам той ці іншы пагляд мы проста ня можам; 3. спрэчныя некаторыя аўтаравы цьверджаньні тэарэтычнага характару, як, напрыклад, пытаньне пра тое, які з жанраў — апавяданьне ці раман — можа лепш забясьпечыць адлюстраваньне рэчаіснасьці — справа тут ня ў жанры, а хутчэй у нечым іншым.*

*З пашанай, М. Сяднёў.*

*4.XII.83*[41]

*Паважаны Спадар Запруднік,*

*Як і дамовіліся, дасылаю Вам тры сваіх рэчы: "Беларусь", "Беларускім паэтам" і "Расьпяты Хрыстос". Хацеў-бы бачыць іх надрукаванымі ў Вашай паважанай газэце[42], з умовай, што "Беларусь" —*

---

39 Маецца на ўвазе пісьменьнік **Васіль Быкаў** (1924–2003).

40 Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Коласа (1978) за аповесьці "Воўчая зграя", "Яго батальён".

41 У часе напісаньня ліста Масей Сяднёў ужо не працаваў на Радыё "Свабода" й вярнуўся ў ЗША.

42 Янка Запруднік на той час быў рэдактарам газэты "Беларус".

*як даўжэйшая рэч — была-б зьмешчанай цалкам у вадным нумары газэты, без працягу у наступным. Гэтага вымагае ейная кампазыцыя, увесь ейны ход, інакш яна-б шмат страціла ў сваім напале. А яшчэ было-б ляпей, каб разам зь "Беларусяй" быў зьмешчаны і верш "Беларускім паэтам", бо-ж абедзьве гэтыя рэчы становяць як-бы адно цэлае. "Расьпяты Хрыстос" добра было-б зьмясьціць ужо ў надрукаваным Вамі калядным нумары "Беларуса"*[43]*. Усё разам узятае дало-б мне вялікую падтрымку, імпэту да творчасьці, бо-ж што ні кажыце — пісаць і ня бачыць ужытку з напісанага раўназначна неіснаваньню. Дык ускладваю на Вас надзею.*

*З пашанай, Ваш М. Сяднёў.*

*14.2.84*

*Паважаны Спадар Запруднік,*

*Вялікі дзякуй за газэту. Рады за зьмешчаныя Вамі ў ёй мае два санэты*[44]*. Надсылаю Вам яшчэ два з маіх дванаццаці — можа, Вы заткнёце імі дзюрку. Далібог, яны вартыя ўвагі. Асабліва даражу вершам "Восень" — надрукуйце яе, калі ласка, у лютаўскім нумары Вашай газэты*[45] *— абудзіцца можа якаясьці беларуская душа, што ўжо заснула. Важуся прыслаць Вашаму Інстытуту, г. зн. Вам, адзін машынапісны экзэмпляр сваіх новых вершаў, што склалі-б ужо цэлую кнігу балонак на 200. Хацеў-бы нешта з гэтай кнігі прачытаць нашым людцом, сустрэцца зь імі, прынамся хоць на такім узроўні, але, як выглядае, такой сустрэчы ніхто мне ня хоча наладзіць. Пісаў у Ватыкан айцу Робэрту Тамушанскаму*[46]*, вітаючы яго*

[43] Гэты верш сапраўды быў зьмешчаны ў апошнім нумары газэты "Беларус" за 1983 г. Гл.: Сяднёў, Масей. Расьпяты Хрыстос // Беларус. № 314. Лістапад — сьнежань 1983. С. 1.

[44] Маюцца на ўвазе вершы Масея Сяднёва "Прыход Ісуса Хрыста" і "Адведзіны", надрукаваныя ў студзеньскім (№ 315) нумары газэты "Беларус" за 1984 г.

[45] Верш сапраўды быў надрукаваны ў лютаўскім нумары газэты. Гл.: Сяднёў, Масей. Восень // Беларус. № 316. Люты 1984. С. 4.

[46] **Робэрт Тамушанскі** (03.07.1940, Нью-Ёрк, ЗША — 10.12.1996, Рым, Італія), рэлігійны дзеяч. Нарадзіўся ў сям'і нашчадкаў беларускіх эмігрантаў зь Беласточчыны. У 1958 г. па сканчэньні школы ўступіў у закон базыльянаў у Глен-Коў каля Нью-Ёрку. У 1960 г. паступіў ва ўнівэрсытэт у Атаве (Канада). З дапамогай а. Ф. Чарняўскага й біскупа Ч. Сіповіча паступіў у духоўную сэмінарыю у Кенігштайне (Нямеччына). У кастрычніку 1965 г. атрымаў сьвячэньні дыякана, а 03.12.1966 — сьвятара. Пасьля гэтага перабраўся ў Лёндан, дзе займаўся пастырскай дзейнасьцю, а таксама дапамагаў у працы школы-інтэрнату Сьв. Кірылы Тураўскага й Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны. Адначасова ў 1968–1971 гг. вучыўся

*з Раством Хрыстовым і Новым Годам — адказу не атрымаў, можа, не дайшоў мой ліст. Адным словам, руху ніякага, а я якраз у руху і хацеў-бы ў ім ня спыняцца, але няма водгуку. Я ўдзячны Вашай газэце, што ў сваіх двух нумарах хоць прынамся замальдавала мяне як жывога, надрукаваўшы пару рэчаў з майго даробку. На мінулым тыдні напісаў невялічкую паэмку "Бабулька", пра ейнае (далёкае ўжо) пілігрымства. Выйшла яна ў мяне сьвятой, траха не сьвятой. Магла-б быць зьмешчанай у нейкім нашым рэлігійным часапісе. Але ўсё як на замку. Ці гэта я адмыкаць ня ўмею? Ці не спрабую? Але выбачайце, сп. Запруднік, што назаляю Вам сваім плачам — няма-ж перад кім і паплакаць.*

*Ваш М. Сяднёў.*

*P. S. Аддаў быў М. Кавылю ў "Думку"*[47] *17 сваіх вершаў, даўно-даўно ўжо. Але ні слыху, ні дыху*[48].

*11.3.84*

*Паважаны Спадар Запруднік,*

*Дзякуй за надасланую мне газэту і за зьмешчаны ў ёй мой верш*[49]*. Далучаю тутака свой верш "Помнік славы" — думаецца, ён надаваўся-б для сакавіковага нумару Вашай газэты. Гэта адзін з маіх, казаў той, грамадзянскіх вершаў. Паводля сваёй ідэі і патасу ён — у духу 25 Сакавіка. Ягоная рыторыка спаўняе й патрыятычную функцыю.*

*Маюся напісаць (аддаўна) драму з нашай нацыянальнай гісторыі, дакладней — трагедыю. Ці не маглі-б Вы як гісторык падказаць мне — не дзівіцеся — тэму, найбольш дасьледваную ў сэньсе асобаў, падзеяў і забясьпечаную канкрэтным жывым матэрыялам, даступным для нас? Буду вельмі ўдзячны Вам.*

*Ваш М. Сяднёў.*

---

ў Лёнданскім унівэрсытэце, дзе абараніў дысэртацыю на тэму "Нямецкія запазычаньні ў беларускай мове" й атрымаў ступень доктара філялёгіі. У 1971 г. выехаў у Рым для працы ў беларускай праграме Ватыканскага радыё, ад 1977 г. кіраваў гэтай праграмай. Адначасова вучыўся ў Папскім інстытуце арабскіх і мусульманскіх дасьледаваньняў і атрымаў дыплём у галіне сучаснай арабскай літаратурнай мовы.

47 **Міхась Кавыль** (сапр. Язэп Лешчанка, нар. 1915), паэт, пісьменьнік, выдавец, грамадзкі дзеяч. У той час выдаваў часопіс "Беларуская думка" ў Саўт-Рывэры.

48 Усе 17 вершаў Масея Сяднёва былі надрукаваныя. Гл. Беларуская Думка. № 27–28. 1983. С. 20–24.

49 Маецца на ўвазе згаданы вышэй верш "Восень".

*2.4.84*

*Вельмі Паважаны Спадар Запруднік,*

*Дык пасылаю Вам гэта 21 верш — гэта, паводля майго падліку, на цэлую балонку Вашай газэты. Верш “Раскуты Хрыстос” можна было-б, на маю думку, зьмясьціць як сьвяточны, па-за цыклам*[50]*. З двух санэтаў Гётэ ў маім перакладзе Вы можаце ўзяць адзін, які Вам найбольш спадабаецца, або й зусім не даваць Гётэ, калі-б цыкль не зьмяшчаўся на аднэй балонцы. Тады-б увесь цыкль Гётаўскіх санэтаў (18) можна было-б падаць, калі-б Вы захацелі, у “Запісах”, як, здаецца, мы й дамаўляліся*[51]*. Сярод дасланых вершаў няма ніводнага з тых, што надрукаваныя (гэта называецца друк!) у “Беларускай думцы”. Я хацеў быў пачаць свой цыкль вершам “Жалейка”, але паколькі яна была ў “Думцы” — перадумаў, бяручы на ўвагу Ваш прынцып — не друкаваць друкаванага. Калі-б трэба было нешта выкідаць з цыклю яшчэ болей — мог-бы няісьці “Будуюць дом”, “Дзень памінак”. Але — як уважаеце. Хацеў-бы толькі, каб засталася “Італія”*[52].

*З пашанай, М. Сяднёў.*

*21.3.89*

*Вельміпаважаны Спадар Запруднік,*

*Ветліва прашу зьмясьціць у Вашай газэце абвестку пра выхад з друку мае новае кніжкі*[53]*, якую я гэтымі днямі выслаў Вам і якую, спадзяюся, Вы атрымалі. Буду вельмі ўдзячны Вам. Шчыра дзякую за надасланую мне копію артыкулу Сачанкі пра беларускую эміграцыю*[54]*. Што да мае сьціплае асобы, дык ён шмат чаго*

---

[50] Верш так і быў зьмешчаны асобна. Гл.: Сяднёў, Масей. Раскуты Хрыстос (санэт) // Беларус. № 318. Красавік 1984. С. 1.

[51] Маецца на ўвазе альманах “Запісы БІНіМ”, наступны нумар якога выйшаў толькі ў 1988 г., і вершаў Масея Сяднёва не было ні ў тым, ні ў далейшых нумарах.

[52] Вершы былі апублікаваныя цыклем. Гл.: З новых вершаў Масея Сяднёва: 1. Айчына. 2. Грэшная душа. 3. Сывілы. 4. Душа. 5. Сястра. 6. “Жыву цяпер я ў цёплай хаце...” 7. Акіян. 8. Санэт. 9. Арфей. 10. Лебедзь. 11. Папярэджаньне (“Warnung”) (З Гётэ). 12. Мора. 13. Італія. 14. “Я з вандраваньняў толькі што вярнуўся...” 15. “Я не здаволены самім сабой...” 16. Амэрыка цягніком. 17. “З гадамі ўляжацца ўсё...” 18. “Заўсёды мне чагосьці не хапае...” 19. Дзень памінак. 20. Скарга хваляў // Беларус. № 318. Красавік 1984. С. 3, 5.

[53] Маецца на ўвазе кніга: Сяднёў, Масей. А часу больш, чым вечнасьць: Вершы = Time, more than eternity. Poems. Глен Коў — Нью Ёрк, 1989. — 141 с.

[54] Відаць, маецца на ўвазе тэкст: Сачанка, Барыс. Беларуская эміграцыя: Факты і меркаванні // Маладосць. 1988. № 11.

*выдумаў: я ніколі падчас вайны ня жыў у Менску[55], а значыць ня мог і працаваць "у розных установах", ня езьдзіў па Беларусі і не расказваў, як са мною "абыходзіліся ў турмах і лагерах". А што тычыцца вершу "Вызваленьне", зь якога ён вырваў радкі "Як радасьць для сябе вайну я прывітаў радкоў маіх лірычнейшым салютам", дык ён, верш, быў напісаны рэтраспэктыўна, у 1967 годзе[56], і ў ім выказаная ня што іншае, як радасьць з нагоды вызваленьня зь Менскай турмы, вайна тут "прывітаная" толькі як выпадак, дзякуючы якому я апынуўся за варотамі Менскай турмы. Але аўтар артыкулу абыходзіць гэты факт моўчкі і сьвядома апушчае радкі "Збамбілі ля турмы увесь квартал і я пайшоў у сьвет раскутым". Яму патрэбны быў прапагандны выйгрыш, і я разумею яго. Ня ён першы цытуе з гэтага вершу. Але сам факт публікаваньня ў савецкім часопісе артыкулу пра беларускую эміграцыю, бязумоўна, дадатні. Цікава, што некаторых аўтараў ён выгараджвае, спрабуе як-бы нават апраўдаць, і, наадварот, некаторыя занадта-ж ужо чэрніць і бэсьціць. Цікава таксама, як мог Сачанка даведацца, здавалася-б, пра самыя найменшыя дэталі што да пэўных асобаў. Быў ён некім паінфармаваны?*

*Але досыць пра гэта. Падабаецца мне, як Вы кампануеце, рэдагуеце "Беларуса". Газэта робіцца цікавай, не ў малой ступені за кошт навінаў "адтуль".*

*Усё думаю, як-бы гэта найбольш можна было-б пашырыць маю кніжыцу. Трачуся я, а звароту таго няма. У Вас няма нейкай ідэі што да гэтага?*

*З пашанай, М. Сяднёў.*

*Студзеня 2, 1990.*

*Вельміпаважаны Спадар Запруднік,*

*Пасылаю Вам кніжыцу выбраных Твораў Славутыча[57] ў маім перакладзе. Прасіў-бы Вас даць абвестку ў Вашай газэце пра выхад гэтай кніжкі — можа-б хто і захацеў набыць яе. Абвестка магла-б быць такога зьместу:*

---

55 У часе нямецкай акупацыі Масей Сяднёў (да 1943 г.) жыў у бацькоў на гаспадарцы.

56 Насамрэч верш "Вызваленьне" быў апублікаваны ў газэце "Бацькаўшчына" ўжо ў 1960 г. Гл.: Бацькаўшчына. № 46–47 (530–531). 26 лістапада 1960. Літаратурны дадатак. С. 5.

57 **Яр Славутыч** (сапр. Грыгорый Жучэнка, 1918–2011), украінскі паэт і перакладчык. Ад 1960 г. жыў у Канадзе. У 1989 г. выйшла кніга перакладаў яго вершаў, зробленых Масеем Сяднёвым: Славутыч, Яр. Выбранае = Вибране = Selected Poems / з украінскай мовы пераклад М. Сяднёў. Эдмантан: "Славута", 1989. — 52 с.

*Выйшла па-беларуску кніжка выбраных твораў вядомага ўкраінскага паэты Яра Славутыча. Пераклад і ўступны артыкул Масея Сяднёва. Цана (зь перасылкай) 5 амэрыканскіх даляраў. Кніжку можна набыць, пасылаючы замаўленьні на адрас рэдакцыі газэты "Беларус" або на адрас перакладчыка.*

*Як Вы хіба ведаеце, меў я вялікі клопат з гэтай кніжкай, і ў мяне ўжо не ляжыць да яе душа, але з увагі на патрыятычнасьць зьмешчаных у ёй вершаў, кніжку трэба было-б як мага пашырыць сярод беларускага чытача, а мо яна абудзіць у яго і беларускі патрыятызм. Я ўклаў шмат працы ў гэтую кніжку, ня маючы ніякай узнагароды за яе, апрача няпрыемнасьці і расчараваньні. Але гэта іншая тэма. Тыраж кніжкі абмежаваны. Пасылаю Вам тымчасам 5 экзэмпляраў. Ад продажу (калі-б яна куплялася) магло-б нешта пайсьці і на "Беларуса". Выбачайце за клопат.*

*З прывітаньнямі, М. Сяднёў.*

## Лісты Юркі Сянькоўскага

*Мюнхэн, 20.X.1966*

*Здароў, Франц*[58]*!*

*Дзівішся, напэўна, што я табе пішу. Раблю гэта, бо думаю, што ёсьць адна паважная справа, на якую мы ўсе ("радыёты" і журналісты) павінны зьвярнуць увагу.*

*Па-першае, прыватным шляхам нашы пісьменьнікі адтуль перадавалі нам, каб мы іх як наймянш хвалілі, бо гэта можа "праклясьці ім шлях у Сібір". Вестка гэта прыйшла ў Мюнхэн зь некаторым спазьненьнем. У міжчасе мы й далей хвалілі іх у старым духу. Гэта, відаць, перапоўніла "чару цярпеньня" некаторых людзей дома, і яны зарэагавалі ў "Звяздзе" з 15-кастрычніка. Зьвярнеце ўвагу на подпісы!*[59] *Падпісалася ўся маладая літаратурная эліта. Справа, відаць, паважная. На маю думку, яны баяцца за сябе, за свае нацыянальныя пазыцыі ў літаратуры. І мы іх мусім разумець — не падстаўляць ім нагі!*

*Па-мойму, трэба мець на ўвазе, што якраз цяпер у СССР прымаюцца новыя законы, якія ствараюць легальную базу для перасьледу асобаў і групаў, што пашыраюць "антыдзяржаўныя ідэі". Пад гэтую катэгорыю "злачынстваў" можна падцягнуць шмат што.*

[58] Гэткі зварот выкарыстоўваў Сянькоўскі на адрас Янкі Запрудніка.

[59] Ідзецца пра ліст "Ня вам Беларусамі звацца". Гл.: Юрэвіч, Лявон. Літаратурны рух на эміграцыі. Мінск, 2002. С. 117–126.



Юрка Сянькоўскі.
Пач. 1990-х гг.

*І вось у апошняй нашай праграме (№ 117) зьяўляецца тваё інтэрв'ю з [Стасем] Станкевічам пра маладых літаратараў, якраз у тэй форме, супраць якой пісьменьнікі пратэстуюць. Я быў за тое, каб гэтае інтэрв'ю зусім зьняць, бо ў гэты мамэнт яно гучэла проста правакацыяй. "Начальства" абмежавалася некаторымі скарачэньнямі.*

*Перадай сп. Станкевічу, які найбольш піша на тэму літаратуры, каб ён ня зводзіў усё да адных пахвалаў.*

*Тымчасам трымайся!*

*Твой Ю. Сенькоўскі.*

*Мюнхэн, 18.ІІ.1969.*

*Здароў, Янка!*

*У пачатку сьнежаня я пісаў да праф. Адамовіча, каб паінфармаваць вас усіх пра бягучыя справы ў Мюнхэне, перш за ўсё на нашым супольным месцы працы. Пісаў на ньюёрскі радыёвы адрас прафэсара, а таму, што не атрымаў ніводнага адказу, пачаў падазраваць, што ліст маглі перахапіць. Таму пішу цяпер табе на твой прыватны адрас. У мяне захавалася копія майго ліста да Адамовіча, якую я тут, на ўсякі выпадак, далучаю з просьбаю вярнуць мне яе назад. ОК?*

*Чуў ад Галіны [Руднік]*[60]*, што ты ўзяў тры месяцы бясплатнага адпачынку і працуеш над дактаратам*[61]*. Але думаю, што ты не пакінуў цікавіцца тымі нецікавымі справамі, якія адбываюцца на месцы працы. У дадатак да таго, што я ўжо пісаў прафэсару, хачу падаць новыя весткі зь мюнхэнскай базы.*

*Тут атмасфэра (у гэтак званай "беларускай" і гэтак званай "рэдакцыі") напружаная да адказу. Некалькімі наваротамі Сяднёў на загад Гэруса, а апошні на загад дырэктара ўздымалі кампанію набору ў рэдакцыю новых людзей. Сяднёў прыбягаў ад Гэруса і заяўляў: "Давайце кандыдатаў!". Прыставаў і да мяне. Але я яму адказаў, што я больш ніякіх кандыдатаў не называю, бо з практыкі ведаю, што названая або падтрыманая мной асоба ніколі ў рэдакцыю прынятая ня будзе. Таму я нікога больш не называю, каб не закрыць людзям*

[60] **Галіна Руднік** (дзяв. **Ганчарэнка**, нар. 1931, Бабруйск), грамадзка-культурная дзяячка, журналістка, перакладніца. У 1954 г. скончыла факультэт раманскіх моваў Нью-Ёркскага ўнівэрсытэту. Па сканчэньні навучаньня пераехала ў Мюнхен, дзе працавала на Радыё "Вызваленьне" / "Свабода".

[61] Янка Запруднік менавіта ў 1969 г. абараніў сваю дысэртацыю.

*дарогі ў рэдакцыю... Такое тлумачэньне “пераканала” Сяднёва, і ён ад мяне адчапіўся. Як я даведаўся, Сяднёў пісаў ужо шмат каму ў Амэрыку і запрашаў на працу ў Мюнхэн. Прыгадваліся прозьвішчы Кавыля, Кахиноўскага*[62]*, Клішэвіча*[63]*, Галяка*[64]*, Пануцэвіча*[65]*, Юхнаўца*[66]*, Цяўлоўскага*[67]*, Садоўскага*[68]*, мужа Юзі Бр.*[69] *(забыўся прозьвішча) іншых. Ці ўсім ён ім пісаў — ня ведаю. Ня ведаю, ад каго ён атрымаў адказ. Ведаю, што атрымаў ліст ад Золака*[70]*, але гэта быў, здаецца, адзіны адказ. Сёньня Сяднёў выслаў ліст Алесю Карповічу*[71] *ў Ольдэнбургу — напэўна, з прапановай. У свой час Сяднёў вельмі фарсаваў кандыдатуру Клішэвіча, але, як выявілася, што гэта Клішэвіч паслаў сваю кнігу*[72] *ў “родную бібліятэку імя Леніна” ў Менску, дык атрос ад яго рукі. Гэта Казак [Рыгор Крушына]*[73] *даказваў, што*

[62] Маецца на ўвазе **Аўген Каханоўскі** (1912–1987), грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, гісторык, аўтар шэрагу прац па гісторыі й культуры Беларусі, які ад сярэдзіны 1950-х гг. жыў у Кліўлэндзе (Агаё, ЗША).

[63] **Уладзімер Клішэвіч** (1914–1978), пісьменьнік, грамадзкі дзеяч. Ад 1948 г. жыў у ЗША.

[64] **Леанід Галяк** (1910–1980), грамадзкі дзеяч, юрыст. Жыў у Стамфардзе (Канэктыкут, ЗША).

[65] **Вацлаў Пануцэвіч** (1910–1991), грамадзкі дзеяч, гісторык, пэдагог. Жыў у Чыкага, быў рэдактарам часопісаў “Беларуская царква”, “Літва”.

[66] **Янка Юхнавец** (1921–2004), літаратар, мастак. Жыў у Нью-Ёрку.

[67] **Эміль Цяўлоўскі** (каля 1910 — ?), грамадзкі дзеяч. Жыў у Буэнас-Айрэсе (Аргентына). Супрацоўнічаў з Радыё “Свабода” празь Янку Запрудніка ў 1960–1980-я гг.

[68] **Янка Садоўскі** (1926–1982), грамадзкі дзеяч, гісторык. Жыў у Канадзе. Выкладаў расейскую мову й літаратуру ў Куінс-унівэрсытэце (правінцыя Антарыа).

[69] **Юзэфа Найдзюк** (дзяв. **Брэчка**, 1927–2004), грамадзкая дзяячка. Працавала ў тэхнічным аддзеле Беларускай рэдакцыі Радыё “Вызваленьне”. У 1956 г. пераехала ў ЗША. Пабралася шлюбам з Чаславам Найдзюком і пасялілася ў Каліфорніі.
**Часлаў Найдзюк** (1915–1995), грамадзкі дзеяч. Жыў у Лос-Анжэлесе.

[70] **Янка Золак** (сапр. Антон Даніловіч, 1912–2000), пісьменьнік, журналіст, выдавец, грамадзкі дзеяч. Жыў у Нью-Джэрзі. У 1960–1983 гг. — галоўны рэдактар часопіса “Беларуская думка”.

[71] **Алесь Карповіч** (1909–1992), кампазытар, музыказнаўца, пэдагог, грамадзкі дзеяч. На той час яшчэ жыў у Ольдэнбургу (Нямеччына), пазьней перабраўся ў Нью-Ёрк (ЗША).

[72] Відаць, маецца на ўвазе выдадзены ў Менску ў 1973 г. зборнік Уладзімера Клішэвіча “Сняцца сны мне залатыя”.

[73] **Рыгор Крушына** (сапр. Казак, 1907–1979), паэт, празаік, крытык, грамадзкі дзеяч. У 1950–1960-я гг. працаваў у Беларускай рэдакцыі Радыё “Вызваленьне” / “Свабода” ў Мюнхене. Пазьней выехаў зноў у ЗША.

*радыястанцыя “Савецкая Беларусь” цытавала і пераказвала творы Клішэвіча, а не ягоныя, Казаковы, як яго падазравалі ў Нью Ёрку, пра што ён нейкім шляхам даведаўся. Ён, здаецца, перапісваецца з Кахаоўскай [Янінай].*

*Дарэчы — пра Казака. Ня ведаю дакладна, як і чаму, але Казак перавярнуўся на 180 градусаў. У гэты мамэнт у нас тут няма большых ворагаў, як Сяднёў з Гэрусам, з аднаго боку, і Казак, з другога. З саюзьніка Сяднёва ён ператварыўся ў ягонага найбольшага апанэнта. Крытыкуе ягоную “моўную рэформу”, русыфікатарства і палітычную неадукаваасьць. Выглядае, што Казак падвёў тых, каму ён раней выконваў розную брудную работу. Пра гэта ведаеш. За апазыцыю Сяднёву Гэрус некалькі разоў выклікаў Казака, моцна яго лаяў і абазваў так, што Казак чуецца сьмяртэльна абражаным. У дадатак Гэрус выставіў Казаку зьнішчальную характарыстыку, не падвысіў платы і пагражаў звальненьнем. Гэта перапоўніла “чару”, і ён напісаў Гэрусу заяву, што ў сувязі зь “немагчымымі ўмовамі працы” ў рэдакцыі просіць перавесьці яго ў іншы аддзел або ў Нью Ёрк. Копіі разаслаў усюды, улучна з дырэктарам, і казаў ды бажыўся мне, што пакуль будзе Сяднёў і Гэрус, ён ад гэтага свайго патрабаваньня не адступіць. У параўнаньні зь цяперашнім палажэньнем былыя часы здаюцца Казаку раем.*

*Пагражае пакінуць рэдакцыю і Зіна Каспар, якая “ня вытрымала” пробнага пэрыяду як сталая супрацоўніца і была Гэрусам зноў пераведзеная на “фры лянс”*[74]*. Не пагражае выхадам з рэдакцыі толькі Блажэвіч*[75]*, які на загад нашага начальства пераняў ад мяне рэжысорства, стараецца апраўдаць ускладзены на яго давер і атрымаць павышэньне грэйду і платы. Гэрус Казаку так і заявіў, што, калі трэба, дык застанецца ў рэдакцыі дзьве асобы й машыністка, праграма скароціцца да 15-ці хвілін, а ён далей будзе камандаваць дзьвюма рэдакцыямі.*

*Пра “палітычную лінію” Сяднёва можаш меркаваць зь ягоных скрыптаў да 50-годзьдзя БССР. Круталевіч*[76] *напісаў добры артыкул у “Полымі” пра стварэньне БССР. Добры для чытача ў БССР.*

---

74 ***Freelance*** (анг.) — пазаштатная праца.

75 **Блажэвіч**, беларус паводле паходжаньня, які выступаў як латыш, супрацоўнік Беларускай рэдакцыі Радыё “Вызваленьне”, вакол зьяўлення якога ў 1967 г. адбыўся сур’ёзны канфлікт паміж Міколам Абрамчыкам і кіраўніцтвам радыё. Гл. пра гэта: Запруднік, Янка. Маё ліставаньне зь Міколам Абрамчыкам, Старшынём Рады БНР (1953–1969) // Запісы БІНіМ. № 33. Нью-Ёрк — Менск, 2010. С. 320–321.

76 **Вадзім Круталевіч** (1922–2006), юрыст, гісторык, сацыёляг, доктар юрыдычных навук. Ад 1954 г. працаваў у Інстытуце філасофіі і права АН БССР. У 1974 г. абараніў доктарскую дысэртацыю “Правал кон-

*Але перадаваць яго як найбольшае дасягненьне беларускай навукі ў гэтай галіне праз наша радыё — гэта скандал. Там усе беларускія некамуністычныя сілы Сяднёў паставіў у адзін шэраг з “ворагамі беларускага народу” — кайзэраўскай “Германіяй”, польскімі легіянэрамі і так далей. А Сяднёва ўласны юбілейны твор — пра “сацыялістычную дзяржаўнасьць”! Ня ведаючы, што сказаць на гэтую тэму, ён “вывязаўся” з заданьня падхалімствам перад старэйшым братам, чаго ўнікаюць ужо нават у БССР. Каб крыху зьнівэляваць гэтае жудаснае ўражаньне, я напісаў пад юбілей пару скрыптаў пра беларускую эканоміку і адзін пра стварэньне БССР.*

*А што далей? Што чуваць у вас? Няўжо ня будзе ніякіх зьменаў? Далей тут цяжка, немагчыма будзе вытрываць. Бесьперапыннае нэрвовае напружаньне руйнуе здароўе. Ці аплачваецца ўсё гэта? Бакуновіч[77] з Арцюхом[78] прапанавалі мне пераяжджаць да іх. Парай, што рабіць.*

*Прывітаньні Олі, дзецям і ўсім нашым.*

*Не паляніся адказаць!*

*Твой Ю. Сенькоўскі.*

*Мюнхэн, 26.V.1969*

*Дарагі Янка!*

*Сабраўся урэшце адпісаць Табе. Пішу на Твой прыватны адрас, бо, як Ты правільна прыпушчаў, Твой ліст із скрыптам да мяне на радыёвы адрас, нягледзячы на тэлексныя запыты, быў усё-ж адкрыты. Я сабе ўяўляю, як мусілі расчараваццa Гэрус і ко. зьместам таго ліста, як яны яго хутка заклеілі і палажылі мне на стол. Што ліст быў адкрыты, відаць з таго, як ён быў заклеены, асабліва параўнаўшы заклейку з Тваім наступным лістом (капэрты аднолькавыя і высланыя прыблізна ў той самы час).*

*У Тваім папярэднім лісьце на мой хатні адрас Ты мне прапанаваў пацярпець, пачакаць лепшых часоў. Я, аднак, яшчэ да атрыманьня*

трэвалюцыйных планаў стварэння беларускай буржуазнай дзяржавы і ўтварэння БССР (кастрычнік 1917 — люты 1919 гг.)”.

[77] **Уладзімер Бакуновіч** (1926–1992), грамадзкі дзеяч. У 1954 г. паступіў на эканамічны факультэт Лювэнскага ўнівэрсытэту ў Бэльгіі, дзе ў 1963 г. атрымаў тытул доктара эканоміі. Пазьней пераехаў у ЗША. Жыў у Нью-Брансьвіку (штат Нью-Джэрзі). Ад 1968 г. пасяліўся ў Дэтройце (Мічыган, ЗША).

[78] **Мікола Арцюх** (у ЗША Артон, 1924–1984), грамадзкі дзеяч. У 1955 г. скончыў Лювэнскі ўнівэрсытэт у Бэльгіі з ступеньню магістра эканамічных навук. Пры канцы 1950-х гг. выехаў у Канаду. Жыў у Таронта, адтуль перабраўся ў Дэтройт (ЗША).

*таго ліста, ня вытрываў у сувязі зь перадачай пра “ліст Нікшы”, напісаў пратэст і атрымалася завіруха. Копію майго ліста далучаю. Адбітка робленая з дрэннай (апошняй) копіі, таму крыху невыразная, але, думаю, што прачытаеш.*

*У сувязі з гэтым маім пратэстам Ван дэр Роэр прыслаў мэмарандум на імя Сяднёва з копіямі мне і ўсім іншым, да каго пісаў я, і вельмі зьдзівіў мяне сваімі тлумачэньнямі. Ён узяў пад сваю абарону Сяднёва і Гэруса, назваў ідэю пераданьня скрыпту пра ліст Нікшы “эксэлент[79]” і ў сваю чаргу дзівіўся зь Сенькоўскага, што ён гэтага не разумее. Вось тут я пазнаў, што такое Ван дэр Роэр. Выглядае, што мой пратэст іх крыху напалохаў, і Ван дэр Роэр стараўся апраўдвацца.*

*Атрымаўшы мэмарандум ад Ван дэр Роэра, Сяднёў таксама пачуўся моцным і таксама адказаў мне “сьнісхадзіцельным” тонам. Пасьля праз гэтую справу я быў “запрошаны” Гэрусам у пакой Сяднёва на “працяглую” гутарку, якая пачалася вельмі спакойна, але кончылася вельмі бурна. Пасьля гутаркі я быў пастанавіў даць адказ (пісьмовы з копіямі) на паршывенькі лісток Сяднёва, а таксама даць мае асобныя тлумачэньні В. д. Р. Але да гэтага не дайшло зь дзьвюх прычынаў: неафіцыйным шляхам мне была пераказаная “прапанова” “вышэйшых” колаў радыястанцыі, каб больш гэтай справай не займацца, каб даць ёй “памерці натуральнай сьмерцяй”. З другога боку, я меркаваў выказаць В. д. Р. шырэй мой пагляд асабліва на рэакцыю савецкай прэсы і радыё на беларускія перадачы Р. Св., бо якраз гэты аргумэнт выкарыстоўваў В. д. Р. у сваім мэмарандуме для падмацаваньня сваіх цьверджаньняў. Пры гэтым мне трэба было-б выказаць мае меркаваньні пра ролю ў арганізаваньні менскай рэакцыі на перадачы некаторых колаў у БССР, што я пасьля палічыў небясьпечным для гэтых колаў у Беларусі, маючы на ўвазе публіку, зь якой нам даводзіцца мець справу на Р. С. (Дарэчы, ужо больш як паўтара месяца Менск не рэагуе. Ці не таму, што на Р. С. зьявіліся і былі шырока пашыраныя афіцыйныя мэмарандумы з афіцыйнай інтэрпрэтацыяй гэтай рэакцыі?)*

*Урэшце, справу зь лістом Нікшы я закінуў таму, што ня было аднікуль падтрымкі. Магчыма, варта было-б вам у Нью Ёрку парушыць гэта?*

*Рэакцыя на ньюёрскі мэмарандум у справе сэрыі скрыптаў Сяднёва пра 50-годзьдзе БССР такая: В. д. Р. запатрабаваў ад Цьвіркі, каб той зрабіў “паўафіцыйную” ацэну гэтай сяднёвай сэрыі. Гэтая “паўафіцыйнасьць” паказвае на тое, што В. д. Р. хоча гэтую справу “замяць”. У часе перадаваньня сяднёвай сэрыі Цьвірка рабіў*

[79] ***Excellent*** (анг.) — выдатна.

*свае нэгатыўныя заўвагі да яе, але, здаецца, В. д. Р. настолькі давярае “геніяльнасьці” Гэруса-Сяднёва, што на Цьвіркавы заўвагі не зьвяртаў увагі. Цяпер патрабуе ад Цьвіркі больш грунтоўнае ацэны ўсёй сэрыі. Мне здаецца, што, пішучы розныя мэмарандумы, трэба разсылаць копіі большаму колу людзей, напрыклад, дырэктару і Сарджанту*[80]*, бо інакш гэта можа ня даць ніякіх вынікаў. Трэба было-б, наогул, ставіць гэтую справу вышэй, у Вашынгтоне. Не сакрэт-жа, напрыклад, што прынамся нашае палітычнае кіраўніцтва (на Р. Св.) у часе прэзыдэнцкіх выбараў (пачынаючы ад Гэруса й вышэй) было супраць Ніксана*[81]*. Па-мойму, гэта важкі аргумант. Дрэнна, па-мойму, тое, што мы рэагуем паадзіночна. Нам трэба было-б урэшце апрацаваць супольны мэмарандум ад супрацоўнікаў ньюёрскага і мюнхэнскага аддзелаў, усім яго падпісаць (у Мюнхэне падпісаў-бы я і, думаю, Казак) і разаслаць адказным інстанцыям. У такім мэмарандуме трэба было-б закрануць самаволю адміністрацыі й дыктатарства проста непісьменных людзей па беларускай лініі (стаўленікаў адміністрацыі) у пытаньнях мовы, закрануць пытаньне падбору супрацоўнікаў і іншыя справы. У вас лепш магчымасьць зарганізаваць гэта.*

*Прафэсар Адамовіч пісаў мне аб праблеме Кабышаў-Юхнаўцоў*[82]*. Паколькі ўсё яшчэ ня маю пад рукой прыватнага адрасу Прафэсара, пішу гэта Табе й прашу пазнаёміць з гэтым і ўсім іншым дзядзьку Антося. Справа гэта ўзяла няпрыемны ход. З Чайкоўскай*[83] *я быў звычайна у добрых дачыненьнях. Я ведаў, праўда, ня так дакладна, як вы ў Нью Ёрку, пра сямейныя непаладкі Чайкоўскіх, але захоўваўся нэўтральна, у іхныя справы ня ўмешваўся. Будучы ў рэдакцыі, Чайкоўская добра ведала палажэньне, гадамі праклінала Гэруса, а пазьней Сяднёвых, плакала, што яе Сяднёў з рэдакцыі хоча выгнаць, шукала сабе працу ў іншым аддзеле і нават была знайшла сабе новае месца, але пасьля ад яго адмовілася і засталася ў рэдакцыі, бо Гэрус зь Сяднёвым пайшлі на нейкія ўступкі... Што гэта былі за ўступкі, я дакладна ня ведаю, але ад нейкага часу дачыненьні ў яе з Гэрусам і Сяднёвым сталіся проста бліскучымі. Аднойчы,*

[80] **Хоўланд Сарджант** (анг. *Howland H. Sargeant,* 1911—?), амэрыканскі палітычны дзеяч, у адміністрацыі Гары Трумана быў памочнікам дзяржсакратара па грамадзкіх справах (1952–1953). У 1954 г. быў прызначаны на пасаду старшыні Амэрыканскага камітэту вызваленьня ад бальшавізму.

[81] **Рычард Ніксан** (анг. *Richard Milhous Nixon,* 1913–1994), 37-ы прэзыдэнт ЗША (1969–1974).

[82] Дзявочае прозьвішча жонкі Янкі Юхнаўца Ірэны — Кабыш.

[83] Маецца на ўвазе жонка **Зьмітра Чайкоўскага** (1912–2002), мастака, грамадзкага дзеяча, што жыў у Мюнхене й супрацоўнічаў з Радыё “Свабода”.

*калі Казак працягваў сваю спрэчку зь Сяднёвым у прысутнасьці Гэруса, яна пачала падтрымоўваць Сяднёва супраць Казака. Мы ўсе знаем Казака, але ў гэтым выпадку я стараўся трымацца прынамся нэўтральна. Таму я зьвярнуў увагу Чайкоўскай, чаго яна ўмешваецца ў спрэчкі Казак — Сяднёў, падтрымлівае Сяднёва. Таму яна й "разладавалася". Пачала апраўдваць Сяднёва, што ён добра ставіцца да Казака, што гэта мы шукаем у Казаку "казла адпушчэньня", што я асабіста, пішучы ў Амэрыку, прадстаўляю Казака як вялікага гэроя. Калі я запярэчыў, што я, пішучы ў Амэрыку, апісваў палажэньне ў Мюнхэне, пісаў таксама і пра Казака, але ніколі не прадстаўляў як вялікага гэроя — яна пачала цьвердзіць, што ўсё добра ведае, што я пішу. Урэшце гэтая кабета расхадзілася так, што пачала сыпаць "аргумэнтамі" з гэрусавага арсэналу: што за палажэньне, якое існуе ў рэдакцыі, вінаватыя я, Цьвірка і іншыя, толькі не Сяднёў і Гэрус. Ня ведаю, хто ёй "устаўляе" мазгі — магу толькі здагадвацца. Бабу, відаць, нечым перакупілі. Тут адыгрывае, напэўна, сваю ролю таксама справа прыезду або няпрыезду ў Мюнхэн Юхнаўца, якога, як я даведаўся ад сп. Адамовіча, сям'я Кабышаў*[84] *хоча мець у Мюнхэне й супраць прыезду якога былі выказаныя засьцярогі ў Нью Ёрку. А паколькі на Гэруса і Сяднёва ціснуць, каб яны папаўнялі рэдакцыю, дык гэтым двум залежыць, каб прыехаў прынамся Юхнавец, калі ніхто іншы не пагаджаецца. Вось тут і зыйшліся інтарэсы. Кабышы, такім чынам, перанесьлі свае сямейныя інтарэсы і ў рэдакцыю, із-за гэтых інтарэсаў ідуць супраць усіх сваіх. З Кабышам пра гэта мне гаварыць не даводзілася. Але ўжо калі ён быў у мяне на хрысьцінах (на каталіцкі Вялікдзень), дык я заўважыў зь яго боку нейкі "халадок". Прыйшоў ён без свае жонкі, і гэта, здаецца, яна і вядзе ўсю гэтую кампанію. Нейдзе праз тыдзень Чайкоўская з сынам зьбіраецца ехаць у Амэрыку, відаць, да свае сястры, да Юхнаўцоў. Яна напэўна будзе ўгаварваць Юхнаўца, каб прыяжджаў у Мюнхэн. Я заўважыў, што гэтай ейнай паездкай вельмі цікавяцца Гэрус зь Сяднёвым, і мне здаецца, што яны ёй магчыма нават фінансуюць дарогу. Крыху пазьней прыедзе ў Амэрыку і Сяднёў на свой "гом лів"*[85]*. Там яны, напэўна, будуць супольна весьці сваю акцыю. Пры палажэньні, якое цяпер стварылася, я змрочна ўяўляю сваю будучыню ў рэдакцыі, калі прыедзе яшчэ Юхнавец.*

84 Маецца на ўвазе сям'я **Сымона Кабыша** (да эмігр. Кандыбовіч, 1890–1971), грамадзкага дзеяча, гісторыка, які жыў у Мюнхене. Ад 1954 г. працаваў у Беларускай рэдакцыі Радыё "Вызваленьне" / "Свабода", а ад 1963 г. — у Інстытуце вывучэньня СССР у Мюнхене. Дасьледаваў пытаньні эканамічнай гісторыі.

85 ***Home leave*** (анг.) — адпачынак.

*У мінулым годзе казаў мне Гэрус, што на лета мае прыехаць у рэдакцыю на трэнінг Сянкевіч*[86] *з Амэрыкі, але тады ён ня прыехаў. Нядаўна паўтарыў мне тое самае Сяднёў, гэта значыць, што сёлета ў палавіне чэрвеня мае прыехаць той самы Сянкевіч. Гэта да вашага ведама.*

*Як вы хіба заўважылі, наш цэнзар, як Сяднёў аднойчы назваў самога сябе, далей русыфікуе мову. Магчыма, баючыся выклікаць скандал, робіць ён гэта "спадцішка", па адным слове. Вось, напрыклад, гадамі ўжываем слова "блёк", ішло яно і пры кіраўніцтве Сяднёва. Аднаго прыгожага дня Сяднёў яго ператварае на "блок", загадвае Блажэвічу, які цяпер у нас рэжысэрам, каб "блёку" не прапускаў у студыі. Праз тыдзень або два ён гэта самае робіць з "балянсам" — замяняе на "баланс". Я перакладаю: стаяла чарга "па хлеб", ён перапраўляе на "за хлебам". Сам ён чытае "пры сацыялізьмі", а маладога Чайкоўскага пераконвае, што ён (Чайкоўскі) добра робіць, калі чытае "пры сацыялізьмя". Я тут ня буду пералічаць усяго, бо шмат яго ўжо сабралася. У гэтага "філолага" і "прафэсара" адна бязглуздасьць у вымаўленьні, і ён ня можа нават сваё русыфікатарства прывесьці ў нейкую сыстэму.*

*А вось Блажэвіч так захапіўся сваім рэжысэрствам, што творыць "цуды". Калі ў Станкевічавым або Тваім скрыпце ня выпадае выкідаць сказ або абзац із словам "расейскі" або нейкім іншым "трэфным" словам, Блажэвіч гэтае слова перачытвае сам. Адно слова. У скрыптах Станкевіча яшчэ гэта часам можна сьцерпіць, бо галасы крыху падобныя. Але калі ён так падрэпаруе скрыпт, прачытаны тваім голасам, дык атрымліваецца нешта такое, што яшчэ напэўна не сустракалася дасюль у радыёвай практыцы. Даводзіцца толькі рукамі разводзіць, бо сказаць-жа нічога нельга.*

*Таму я вельмі рады, што вы ў Нью Ёрку паважна ўзяліся за распорваньне гэрусаўска-сяднёўскай "гнойнай кучы". І трэба неяк гэту справу даводзіць да канца. Добра было-б, каб тыя чуткі, пра якія Ты пісаў мне ў апошнім лісьце на маргінэсе, сапраўды збыліся. Але, мне здаецца, што для гэтага трэба нам яшчэ папрацаваць.*

*Перадай, калі ласка, прывітаньне Тваёй сям'і, Станкевічам, Кіпелям. Разам з прывітаньнямі перадай Прафэсару А.[дамовічу], што я яму на днях адкажу.*

*Твой Сенькоўскі.*

---

[86] Маецца на ўвазе **Станіслаў (Стэнлі) Сянкевіч**, старэйшы сын беларускага грамадзкага дзеяча Аляксея Сянкевіча (1904–1991). Янка Запруднік выпрабоўваў яго для працы ў радыё, але нічога не атрымалася.

*Мюнхэн, 1.III.70.*

*Дарагі Янка!*

*Дзякуй за ліст. Некалькі слоў пра актуальнае тут.*

*У апошнім нумару часапісу "Остойропа" (2–70) надрукаваны Паўлюкоў артыкул "Моўная палітыка Масквы ў Беларусі"*[87]*. На радыястанцыі артыкул гэты адразу-ж заўважылі, Нісман яго размножыў у фотакопіях і разаслаў ува ўсе аддзелы. Прыйшла такім шляхам фатакопія і ў Беларускую рэдакцыю. Сяднёў ёй вельмі зацікавіўся. Панастаўляў пытальнікаў усюды, дзе Паўлюк піша пра русыфікацыю беларускай мовы (гэта значыць, што ён з гэтым не згаджаецца; так ён мне пазьней і сказаў), але паколькі артыкул прыйшоў у рэдакцыю "афіцыйнай дарогай", ён пачаў насіцца з думкай, каб гэты артыкул перадаць.*

*Тымчасам пачалі хадзіць чуткі, што ліквідуюць Інстытут*[88]*. Сяднёў, відаць з благаславенства свайго начальства, пачаў тэлефанаваць Паўлюку і прапаноўваць яму перайсьці ў нашу рэдакцыю. Праз пару дзён Паўлюк ужо быў на Радыястанцыі і меў першыя гутаркі з Гэрусам. Пры гэтым, як быццам прыпадкова, круціўся і Дзякоўскі*[89]*. Зь якіх меркаваньняў яны пачалі "ўхажываць" каля Паўлюка, мне яшчэ не зусім ясна. Выглядае, што Паўлюк, у выпадку ліквідацыі Інстытуту, бяз ніякіх цяжкасьцяў мог-бы перайсьці ў нашу рэдакцыю.*

*Але цяжкасьці яшчэ могуць узьнікнуць, бо Паўлюк у сваім артыкуле ў "Остойропа" якраз (хоць і ўскосна) падрывае пазыцыі нашых моўных дактатараў-русафілаў. Здаецца, у супрацьвагу Паўлюковаму артыкулу Гэрус мае зьвярнуцца да некага зь беларусаў, да асобы, па-ягонаму, "аб'ектыўнай", каб той "аб'ектыўны" ў пытаньні мовы ўзяў на сябе накшталт ролі арбітра. Гэта сталася ведама з "Палітычнага аддзелу". Паводля гэтых-жа вестак, гэты "аб'ектыўны" арбітар мае быць знойдзены, ці ўжо магчыма знойдзены, у Мюнхэне. Таму мы стараемся даведацца, хто-ж гэта такі гэты "аб'ектыўны" мовавед, каб зь ім пагутарыць. У Мюнхэне беларусы лічаныя на пальцах аднае рукі.*

*Маючы-ж на ўвазе хітрасьць нашых апанэнтаў, я ня выключаю, што слова Мюнхэн яны маглі ўжыць для "отвода глаз", і што*

[87] Маецца на ўвазе тэкст: Urban, Paul. Moskaus Sprachenpolitik in Belorussland // Osteuropa. Zeitschrift für Gegenwartsfragen der Ostens. Haft 2. Stuttgart, 1970. S. 104–113.

[88] Мюнхенскі Інстытут вывучэньня СССР спыніў існаваньне паводле дамовы ЗША і СССР у 1972 г.

[89] **Морыс Дзьякоўскі**, канадыец украінскага паходжаньня, які працаваў палітычным дарадцам Украінскай і Беларускай рэдакцый Радыё "Свабода".

*яны могуць зьвярнуцца для падмацаваньня свае пазыцыі да нейкага беларуса ў Амэрыцы. Мне здаецца, што яны маглі-б пробаваць выкарыстаць для гэтага Віцьбіча. Пастарайцеся разьведаць, ці была зробленая Віцьбічу такая прапанова, і калі так — папярэдзіць яго. Само сабой зразумела, што я вам пра гэта нічога ня пісаў…*

*Выглядае, што аўтарытэт Сяднёва як адзінага “кваліфікаванага” і “аб’ектўнага” ў справах мовы “падарваўся” ў вачох начальства. Ягоная самаўпэўненасьць моцна пахіснулася. Гэта відаць і зь іншага.*

*Нам тут час-ад-часу даводзіцца слухаць “асман”, гэта значыць запіс нашых праграмаў, зроблены пасьля ці ў мамэнт іхнага выпуску ў паветра. Слухаючы нядаўна такі “асман”, я заўважыў і запісаў шэраг бязглуздзіцаў і памылак, якія пайшлі ў праграме з 12-га студзеня. Калі я пазнаёміў з гэтым Сяднёва, ён пачаў звальваць віну то на Казака, то на Блажэвіча (памылкі былі і ў тэксьце, і ў чытаньні). Урэшце ён выпаліў, што за ўсё вінаваты я, бо ён 12-га студзеня пачаў быў свой адпачынак. Пазьней я яму даказаў, што 12-га ў адпачынак пайшоў ня ён, а я (гэта быў якраз той тыдзень, калі прафэсар Адамовіч быў у Мюнхэне і на радыястанцыі). Я яго папярэдзіў, каб ён ня звальваў сваіх памылак на іншых. Назаўтра ён прыйшоў на працу як г… наеўшыся, казаў, што цэлую ноч ня спаў і пачаў зноў лаяць Блажэвіча, які цяпер у адпачынку. Ад Казака ён таксама адчапіўся, бо 12-га быў панядзелак, а ў панядзелак Казак не працуе. Вінаваты за ўсё быў такім чынам толькі ён — Сяднёў, і эвэнтуальна Блажэвіч. Але паколькі ў яго прызнацца да памылак адвагі не хапае, ён цэлы дзень трубіў накшталт таго, якая гэта “дэманская сіла” ўсадзіла гэтага няграматнага і някультурнага Блажэвіча ў рэдакцыю, што ён на рэжысэра не надаецца і што для яго ў рэдакцыі наагул цяжка знайсьці занятак.*

*Пазьней, адзін-на-адзін з Казаком, Сяднёў сказаў яму, што пра гэта (памылкі) могуць даведацца ў Нью Ёрку і што яму могуць быць вялікія прыкрасьці. А прыкрасьцяў яму (Сяднёву) хапае, відаць, і бяз гэтага. Для праграмы на 23-га студзеня ён (Сяднёў) пераклаў і пасьля “адрэдагаваў” скрыпт Даманенкі*[90] *так, што Цьвірка, які гэтыя скрыпты атрымлівае для праверкі, ня мог ў ім нічога разабраць і даў гэтаму скрыпту адпаведную ацэнку, зь якой у Палітычным аддзеле цалкам згадзіліся. Мне здаецца, што і тут Сяднёву ня было на каго зваліць віну.*

90 **Даманенка Канстанцін** (да эмігр. расейск. *Долгоненков*, 1895–1980), журналіст, літаратар, быў сябрам Саюзу пісьменьнікаў СССР ад 1934 г. У часе нямецкай акупацыі працаваў рэдактарам газэты “Новый путь”. На эміграцыі жыў у Мюнхене, працаваў на Радыё “Свабода”, супрацоўнічаў з парыскай газэтай “Русская мысль”.

*Пісаць вам пра гэта натхніў мяне сам Сяднёў, бо калі ён казаў Казаку, што яму будзе прыкра, калі пра гэта даведаюцца ў Нью Ёрку, дык ён напэўна думаў, што я вам напішу. Рабіць я гэтага не сабіраўся, але калі ён так баіцца Нью Ёрку, дык, магчыма, вам варта было-б патрабаваць ад Мюнхэну, каб вам прыслалі больш праграмаў на праслухоўваньне. Такая магчымасьць здаецца ёсьць — некаторыя праграмы вам дасылаюць. Запатрабуйце, напрыклад, тую-ж з 12-га студзеня або за цэлы тыдзень, пачынаючы ад 12-га, калі Сяднёў з Блажэвічам гаспадарылі самі. Вашы скрыпты ён псуе сваімі выразкамі, але што ён прадукуе сам! Калі-б была магчымасьць давесьці гэта да ведама начальства?.. У нас тут такой магчымасьці няма.*

*На сёньня хопіць. Што ў вас добрага? Прывітаньні ўсім.*

*Ю. Сенькоўскі.*

*Мюнхэн, 20.IV.1970*

*Здароў, Янка!*

*Хоць ты мне на апошні ліст і не адказаў, пішу зноў. Хачу паведаміць пра некаторыя справы — як я іх бачу і якія вам, магчыма, ня ведамыя.*

*Быў у Паўлюка і пазнаёміўся зь лістом прафэсара Адамовіча. Прыпушчаю, што вам ведама, што Гэрусава вэрсія, якую апошні расказваў прафэсару, пра ўладжаньне Ларысы*[91] *на сьпікершу — гэта суцэльная мана, і мана сьведамая і мэтанакіраваная. Першы раз Ларыса пробавала чытаць у беларускай рэдакцыі яшчэ пры Цьвірку і з ініцыятывы Цьвіркі, бо тады якраз ня было ў нас жаночых галасоў і, галоўнае, ня было Гэруса. Калі Гэрус вярнуўся, ён западозрыў, што Цьвірка, відаць, нешта камбінуе (з Ларысай) супраць Гэруса, і ягоная няпрыхільнасьць да гэтай ініцыятывы перапыніла яе. Гэрус зь Сяднёвым ухапіліся за Ларысу якраз у той мамэнт, калі ты і Адамовіч прыгразілі, што можаце пакінуць рэдагаваньне і начытваньне скрыптаў, калі ня спыніцца моўная русыфікацыя. Яны падазравалі, што Казак і, эвэнтуальна, я (бо я чытаю рэдка нагул) можам адмовіцца ад перачытваньня вашых скрыптаў, і таму ім патрэбныя былі тыя, што будуць чытаць ці перачытваць усё, што “адрэдагуе” Сяднёў. Зрэшты, Сяднёў Ларысе так і гаварыў, што ёй трэба будзе перачытваць ньюёрскія скрыпты. Адсюль і тое выхвальваньне і перахвальваньне Ларысы як дыктаркі, якой яшчэ ня было ў беларускай рэдакцыі, хоць ведама, што Ларысе яшчэ далёка, напрыклад, да Галіны*[92]*, якая раней чытала ў нас і якая цяпер кіруе*

[91] Маецца на ўвазе жонка Паўла Урбана Ларыса.

[92] Маецца на ўвазе Галіна Руднік (Ганчарэнка).

*ўсім расейскім дыктарскім аддзелам. Лжэ Гэрус, калі кажа, быццам Ларыса чытае бязь ніякай падрыхтоўкі. Ёй заўсёды даюць матарыял для падрыхтоўкі дадому. Я нічога ня маю супраць Ларысы. Пішу гэта толькі для таго, каб зьвярнуць вашу ўвагу, як Гэрус лжэ на кожным кроку і якую ману ён можа пашыраць цяпер у Нью Ёрку пры асьвятленьні іншых пытаньняў.*

*Тут узьнялося было шмат шуму з прычыны новай "лініі перадачаў" пра нацыянальнае пытаньне. Што гэтая лінія азначае зьмену ў нашу карысьць, сьветчыць той супрацiў, якія рабілі ёй мясцовыя расейскія імпэрыялісты амаль усіх напрамкаў. Першае паседжаньне нашага "Вярхоўнага Савету" — Рады рэдактароў, на якім павінна была абмяркоўвацца і "прымацца" гэтая лінія, расейцы збайкатавалі — ня прыйшлі. Але адбылося другое паседжаньне, з прадстаўнікамі расейскай рэдакцыі, і лінія была прынятая. Пра тое, што лінія ў нацыянальным пытаньні мае быць зьмененая — чуткі хадзілі ўжо даўно. Відаць, былі інструкцыі зьверху, зь нейкіх высокіх інстанцыяў, але абвешчаньне новай лініі зацягвалася, відаць, яшчэ й таму, што "нашы" амэрыканцы — любіцелі "самавару" — самі ніяк не маглі яе ператравіць. Але ў іх ня было выхаду. У расейскім лягеры атрымалася нешта накшталт расколу. Найбольш пасьлядоўна байкатуе лінію НТС[93]. Ягоны мясцовы ідэёляг і верхавод Гаранін[94] у часе прыманьня лініі "прыпадкова" выехаў з паразуменьнем амэрыканцаў у Лёндан на некалькі тыдняў для "вывучэньня ангельскае мовы". Расейскія "дэмакраты" (умоўны прадстаўнік Пылаеў[95]) ня супраць самастойнасьці "нацыяналаў" і таму ня супраць новай лініі. З гэтай прычыны ў Пылаева ледзь не дайшло да "дракі" з Гараніным. Манархісты, як і належыцца, супраць, але адзін зь іх, які раней публічна дзякаваў нават Сталіну за*

93 **Народна-працоўны саюз расейскіх салідарыстаў** (НТС) — арганізацыя, што брала свой пачатак ад Нацыянальнага саюзу расейскай моладзі, створанага ў Бялградзе ў 1930 г. Арыентавалася на падрыхтоўку народнай рэвалюцыі ў СССР, займалася адпраўкай агентаў для дэструктыўнай працы на савецкай тэрыторыі. Пасьля Другой сусьветнай вайны гэтая арганізацыя была адной з найбольш колькасных сярод расейскіх эміграцыйных структураў. Да пачатку 1950-х гг. у шэрагах НТС знаходзілася каля 1500 актыўных сябраў і 5–10 тысячаў "спачуваючых".

94 **Яўген Гаранін** (1915–1973), расейскі юрыст, грамадзка-палітычны дзеяч. Удзельнік Уласаўскага руху, нейкі час жыў у Марока, ад 1954 г. — у Нямеччыне. Сябра Рады Народна-працоўнага саюзу, кіраўнік службы прапаганды і інфармацыі. Быў супрацоўнікам выдавецтва "Посев". У апошнія гады жыцьця кіраваў Расейскай рэдакцыяй Радыё "Свабода".

95 **Леанід Пылаеў** (сапр. расейск. *Павловский*, 1916–1992), расейскі літаратар, паэт, бард. Ад 1953 г. — супрацоўнік Расейскай рэдакцыі Радыё "Вызваленьне" / "Свабода".

*“сохранение империи”, цяпер, на маё вялікае зьдзіўленьне, зноў-жа публічна і зусім не справакавана выказаў думку, што імпэрыю трэба падзяліць. Наколькі ён гэта казаў шчыра — гэта іншае пытаньне. Няведамы таксама працэнт шчырасьці Бахрака[96], адказнага за расейскую рэдакцыю, які ў пісьмовай заяве выказаў сваю ляяльнасьць да новай лініі, хоць ён здаўна ведамы як зацяты нацыяналафоб.*

*Выглядае, што як расейскія вялікадзяржаўнікі, гэтак і іхныя спонсары — абмаскаленыя амэрыканскія шэфы, якія і далей трымаюць уладу ў сваіх руках, будуць фармальна дэкляраваць сваю прыхільнасьць да новай лініі, але на справе будуць яе сабатаваць. Гэта напэўна пацьвердзіць бліжэйшая будучыня. У мяне ў кожным выпадку ўмацавалася пераканаsuccьне, што зьмена лініі бязь зьмены пэрсаналу ня дасьць нічога або амаль нічога. Ужо цяпер пашыраюцца чуткі, што ніякіх зьменаў ня будзе. Сяднёў, напрыклад, заяўляе, што некаторыя “гарачыя галовы” загаварылі пра нейкія зьмены, але “ніякіх зьменаў ня будзе”. Сяднёў задурны й завялікі трус, каб цьвердзіць такое на сваю руку — яму гэта нехта ўводзіць у вушы, нехта “вышэйшы”.*

*Такім чынам, можа стварыцца палажэньне, што лінія перадачаў будзе патрабаваць большай увагі ў абароне нацыянальных інтарэсаў, а на практыцы розныя русацяпы тыпу Сяднёва будуць далей русыфікаваць тую-ж беларускую мову. Лінія патрабуе супрацьдзеяньня русыфікацыі, але як можна змагацца супраць русыфікацыі сродкамі русыфікацыі?*

*Бясспрэчна — палажэньне мяняецца ў нашу карысьць. Але наш “эстэблішмэнт”, калі яго так можна назваць, стараецца захаваць і нават умацаваць свае пазыцыі. Правёўшы ў “смутные времена” “акупацыю” беларускай рэдакцыі, яны цяпер ліхаманкава стараюцца “нармалізаваць” палажэньне на іхных акупацыйных умовах, як саветы ў Чэхаславаччыне. Пасьля такой “нармалізацыі” цяжка будзе нешта зьмяніць. Трэба цяпер рабіць рашучы супраціў, пакуль яшчэ трывае стадыя трансфармацыі. Выглядае, што ўсе справы вырашаюцца канчальна недзе ў Нью Ёрку ці ў Вашынгтоне. Вы бліжэй да гэтага і ў вас мацнейшыя пазыцыі.*

*Нашы магчымасьці абмежаваныя. Калі ходзіць пра пытаньні мовы, дык тут пануе абсалютная дыктатура напоўграматнага русыфікатара Сяднёва. Мала таго, што дыктатура — дык і тэрор. [Рыгору] Казаку ён ужо даваў “апошняе папярэджаньне”, што калі той будзе далей пярэчыць ягонаму моўнаму русыфікатарству і вытыкаць няпісьменнасьць Сяднёва, дык Сяднёў яго звольніць.*

[96] Маецца на ўвазе **Аляксандар Бахрах** (1902–1985), расейскі літаратуразнаўца. Цягам некалькіх дзесяцігодзьдзяў працаваў кіраўніком літаратурнага аддзелу Расейскай рэдакцыі Радыё “Вызваленьне” / “Свабода”.

*Я Сяднёву заявіў, што я супраць ягонага русыфікатарства і што супраць гэтага русыфікатарства буду змагацца далей. Але пакуль яму прызнаныя дыктатарскія правы — нічога нельга зрабіць. Вы далёка, дык, магчыма, не адчуваеце так гэтых зьдзекаў. Мне-ж гэта так атруціла ўсё нутро, што лекар даў мне два тыдні звальненьня ад працы. Таму я цяпер і пішу. Казак хутка будзе ў Нью Ёрку на свой "гом лів"*[97] *(здаецца, у пачатку травеня), дык ён вам раскажа пра Сяднёвы моўныя мудрагельствы.*

*Сяднёў апошнім часам стаў проста на шлях нацыянальнай дывэрсіі: у сувязі з моўнай праблемай пачаў адкрыта прапагаваць падзел беларусаў на ўсходнікаў і заходнікаў (да таго-ж у прысутнасьці ўкраінцаў); цьвердзіць, што "заходнікі" хочуць палянізаваць мову, а ён, "усходнік", як быццам абараняе яе чысьціню. Да таго-ж ён уважае (так ён казаў Казаку), што беларусы павінны арыентавацца на Расею і расейскую культуру. У гэтым пляне ён цяпер стараецца хваліць "усходніка" [Антона] Адамовіча, усяляк палохае або прынаджвае Казака (бо таксама "ўсходнік"), заігрывае з Урбанамі, бязьлітасна бэсьціць цябе, мяне і іншых "заходнікаў". Ведаю, што сярод украінцаў ён знаходзіць уважных слухачоў (Дзякоўскі) і, зразумела, ня толькі ўкраінцаў...*

*Дарэчы, гэтым украінцам мы мусім пры нагодзе рашуча заявіць, што нам хопіць аднаго "старэйшага брата", што ў пытаньні беларускай мовы нам іхныя "спэцыялісты" непатрэбныя, што мы нашыя справы можам вырашаць бяз іхнай дапамогі, што яны павінны прызнаць нам "права на самавызначэньне", якое прызнаецца нават "лініяй" перадачаў...*

*Магчыма, вы не заўважылі: у дакумэнтах, якія прыходзяць з Савецкага Саюзу і якія зьбірае радыястанцыя, ёсьць гэтак званая Праграма дэмакратычнага руху, выпрацаваная падпольна ў СССР. Праграма гэта прапануе такое разьвязваньне нацыянальнай праблемы народаў СССР, якое зусім блізкае да нашага. Ёсьць падставы думаць, што гэтая праграма зрабіла вялікі ўплыў на тое, што і на радыястанцыі было перагледжана стаўленьне да нацыянальнага пытаньня.*

*На заканчэньне хачу паведаміць, што Віктар С[янкевіч]*[98] *з Гішпаніі меў цікавыя сустрэчы з маракамі-беларусамі. Яму гішпанскія ўлады запрапанавалі быць перакладчыкам пры гутарках з экіпажам савецкага гандлёвага судна. Ён гэтую нагоду добра выкарыстаў. Спачатку ў яго доме гасьціла некалькі*

97 ***Home leave*** (анг.) — адпачынак.

98 **Віктар Сянкевіч** (1926—?), грамадзкі дзеяч, гісторык, журналіст. Працаваў у беларускай рэдакцыі Гішпанскага нацыянальнага радыё. Чытаў лекцыі ў Каталіцкім унівэрсітэце г. Памплона.

*“радавых” маракоў-беларусаў. Пры другой нагодзе ён меў сустрэчу і даўжэйшую гутарку зь беларусамі прадстаўнікамі “каманднага” складу экіпажу. Гутаркі былі вельмі цікавымі і карыснымі. Прасілі нас больш рабіць. Віктар абяцаў прыслаць дакладнае апісаньне ўсіх размоваў. Думаю, што будзе магчыма пазнаёміць з гэтым і вас.*

*Тым часам пара канчаць. Чакаю ад цябе весткі, што робіцца ў вас. Прывітаньні ўсім.*

*Твой Ю. Сенькоўскі*

*Мюнхэн, 13.VI.1970*

*Здароў, Янка!*

*Перасылаю перапісаны на машынцы чарнавік пратаколу парыскага паседжаньня*[99]*. Можа зь яго нешта выкарыстаеш для канчальнага пратаколу, які пісаць будзеш хіба Ты.*

*Шкада, што ў Мюнхэне не знайшлося часу перагаварыць крыху больш. Да таго, што я гаварыў каротка праз тэлефон, хачу дадаць: уважаю, што Парыскі Блёк*[100] *павінен існаваць і дзеіць далей і што мы ў ім павінны быць прадстаўленыя. Гэты Блёк — у вялікай ступені твор Абрамчыка*[101]*, а, такім чынам, і беларускі твор. Апрача Канфэрэнцыяў Блёку, якія паводля пастановаў апошняй Канфэрэнцыі, што адбылася ў мінулым годзе, маюць сабірацца ў будучыні раз на два гады (на Канфэрэнцыі зьбіраюцца галоўныя прадстаўнікі нацыянальных цэнтраў — у нашым выпадку БНР), цяперашні старшыня Блёку Лівіцкі склікае рэгулярныя штомесячныя паседжаньні Камітэту Лігі (Блёку), які фактычна займаецца абмяркоўваньнем бягучых справаў.*

*Як я казаў, на зборкі Камітэту Лігі хадзіў раней Бортнік*[102]*. Пазьней, калі супрацоўніцтва Лігі з Амэрыканскім Камітэтам пачало расклейвацца з прычыны імкненьня Амэрыканскага Камітэту вызваліцца ад уплываў Лігі і эміграцыі наагул і калі Бортнік праз пасярэдніцтва Сяднёва зрабіў “пасьпяховыя” захады для пераходу*

[99] Магчыма, маецца на ўвазе пасяджэньне радных БНР і беларускіх удзельнікаў пахавінаў прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка, што адбылося ў Парыжы хутка пасьля памінак 4 чэрвеня 1970 г.

[100] **Ліга вызваленьня народаў СССР (Парыскі блёк)** — арганізацыя з прадстаўнікоў эміграцыйных урадаў нерасейскіх паняволеных народаў, заснаваная ў Парыжы ў 1953 г.

[101] Прэзыдэнт БНР Мікола Абрамчык быў адным з ініцыятараў стварэньня Парыскага блёку і доўгагадовым яго старшынём (1954–1970).

[102] **Уладзімер Бортнік** (1910–1988), грамадзкі дзеяч, журналіст. Жыў у Мюнхене, быў старшынём Беларускага нацыянальнага камітэту ў Заходняй Нямеччыне. Супрацоўнічаў з Радыё “Свабода”.

*ў Беларускую рэдакцыю Р. Св., ён пачаў унікаць усякіх кантактаў зь Лігай. З гэтых прычынаў і дзеля таго, што для каардынацыі абароны нацыянальных інтарэсаў народаў СССР ад пасяганьняў з розных бакоў я ўважаю існаваньне Лігі абсалютна неабходным, у паразуменьні з Абрамчыкам пачаў прадстаўляць беларускі бок у Камітэце Лігі. Ужо на працягу году плачу з уласнай кішэні месячныя складкі ў вышыні 10 нямецкіх марак.*

*Мяне турбуе тое, што цяпер, калі адыйшоў Абрамчык*[103] *і калі Бортнік прыходзіць на Р. Св., прадстаўнікі русафільскай лініі ў Ам. Камітэце ў асобе Така*[104]*-Гэруса-Сяднёва могуць выкарыстаць Бортніка для таго, каб спаралiжаваць беларускае прадстаўніцтва ў Блёку, паставіць пад свой кантроль і гэта. На гэта Бортнік, з удзячнасьці за прыняцьцё на працу, можа ахвотна згадзіцца і "законспіраваць" зноў. Што ён на гэта здольны — ён ужо даказаў.*

*Вось дзеля гэтага я Табе і прапанаваў прыслаць мне афіцыйнае ўпаўнаважаньне на прадстаўніцтва Рады ў Камітэце Лігі. Прашу перадаць гэтую маю прапанову Грышкевічу*[105]*, бо я ня маю ягонага адрасу, і пазнаёміць яго з маімі тлумачэньнямі.*

*Я, дарэчы, быў сакратаром апошняй Канфэрэнцыі Лігі і праз пару дзён перашлю вам для арыентацыі пратакол гэтай Канфэрэнцыі, хоць ён яшчэ і не падпісаны старшынём Канфэрэнцыі — Аўтарханавым*[106]*, бо ніяк яго не магу злавіць.*

*Цяпер — другая, больш "дражлівая" справа. Сяднёў ад 15-га гэтага месяца пайшоў на тры тыдні ў адпачынак. Ніякага афіцыйнага заступніка ён ня мае. Быў час, калі Гэрус зь Сяднёвым былі гатовыя запрапанаваць гэта мне. Але я даў зразумець, што не хачу несьці ніякай адказнасьці за іхную цяперашнюю "палітыку". На гэтым і засталося. Але ў часе адсутнасьці Сяднёва нехта мусіць выконваць ягоныя абавязкі. І тут яны зьвяртаюцца да мяне.*

[103] Мікола Абрамчык памёр 29 траўня, пахаваны 4 чэрвеня 1970 г.

[104] **Робэрт Так** (анг. *Robert L. Tuck*), службовец Амэрыканскага камітэту вызваленьня, пэўны час быў дырэктарам праграмнага аддзелу Радыё "Свабода".

[105] **Вінцэнт Жук-Грышкевіч** (1903–1989), грамадзкі дзеяч, пэдагог. У 1954 г. стаў першым кіраўніком Беларускай рэдакцыі Радыё "Вызваленьне". Пазьней — віцэ-прэзыдэнт БНР, а пасьля сьмерці Міколы Абрамчыка быў абраны на пасаду Старшыні Рады БНР і выконваў гэтыя абавязкі да 1982 г.

[106] **Абдурахман Аўтарханаў** (1908–1997), гісторык-саветоляг, пісьменьнік, грамадзкі дзеяч, доктар палітычных навук, ганаровы грамадзянін Чачэна-Інгушэціі. Адзін з заснавальнікаў Інстытуту вывучэньня гісторыі й культуры СССР у Мюнхене, а таксама Паўночнакаўкаскага антыбальшавіцкага нацыянальнага аб'яднаньня й ягонага часопісу "Паўночны Каўказ". Арганізатар Паўночнакаўкаскай рэдакцыі Радыё "Вызваленьне".

*Я пракансультаваўся, як гэтая справа выглядае зь юрыдычнага боку. А выглядае яна так, што можна адмовіцца ад пераняцьця афіцыйнай функцыі (становішча), але нельга адмовіцца ад часовага выконваньня абавязкаў. Таму я адмаўляюся ад дабраахвотнага выконваньня Сяднёвых абавязкаў, а яны змушаюць да гэтага афіцыйным пісьмовым загадам. І тут я адмовіцца не магу. Такі пісьмовы загад я атрымаў і гэтым разам і зноў пастаўлены ў дурное палажэньне, асабліва з прычыны нашай моўнай праблемы. Яны мяне забавязваюць рэдагаваць усе скрыпты, у тым ліку ньюёрскія. А пад "рэдагаваньнем" яны разумеюць і забавязваюць мяне рабіць выразкі, эвэнтуальна перачытваць або адкідаць вашы скрыпты з прычыны мяккага "л". За выкананьнем гэтага мае пільна сачыць Гэрус, а ён апошнім часам нешта зноў вельмі "асьвірэпіў". Я, ясна, буду супрацыўляцца. Але каб не зламаць мне свайго карку, я вас вельмі прашу, у меру магчымасьцяў, на працягу трох тыдняў ужываць у скрыптах такую тэрміналёгію, каб я мог выйсьці "цэлым" з гэтага дурнога палажэньня, у якой яны мяне ставяць, здаецца, зусім сьведама.*

*Якую Ты мне мог-бы даць параду ў гэтай канстэляцыі?*

*Чакаю весткі. Прывітаньні ўсім нашым!*

*Твой Ю. Сенькоўскі.*

*Мюнхэн, 12.IX.1970*

*Здароў, Янка!*

*Я ўжо даўно мусіў-бы напісаць табе пару слоў. Але так ўжо ў нас павялося, што як толькі чалавек сабярэцца з думкамі, пачне нешта камбінаваць, плянаваць — зноў навальваюцца на галаву праблемы, якія ставяць усё дагары нагамі. Апошнім часам такой праблемай сталіся чуткі пра магчымую хуткую ліквідацыю[107] таго, дзе мы цяпер зарабляем на хлеб. Адсюль новыя расчараваньні, няпэўнасьць у заўтрашні дзень, проста бязвыхаднасьць палажэньня. Пасьля даўжэйшага валкаваньня гэтай праблемы ў заходняй прэсе цяпер, як быццам, беспасярэдняя пагроза адпадае, але пэрспэктывы застаюцца туманнымі. Ня маючы ніякіх гарантыяў на будучыню, я пачаў быў рабіць захады, каб неяк застрахаваць сябе ад эвэнтуальных неспадзевак. Адсюль маё падарожжа ў Кэльн. У гэтай справе нічога канкрэтна ня вырашана — застаўся толькі кантакт, які, магчыма, некалі прыдасца. Але адну важную пастанову я ўсё-ж*

[107] Чуткі, відавочна, былі зьвязаныя з расьследаваньнем, што пачалося ў ЗША адносна фінансаваньня Радыё "Вызваленьне" / "Свабода" і Радыё "Свабодная Эўропа". Вынікі былі агучаныя ў Кангрэсе ЗША ў 1972 г. і сьведчылі пра таемнае фінансаваньне згаданых радыё ЦРУ.

*прыняў. Пасьля даўгіх бяссонных начэй я падаў заяву на атрыманьне нямецкага грамадзянства. Гэты крок я ўважаю настолькі непапулярным, што прашу пра яго абы каму не расказваць. Але я нешта мусіў рабіць, перш за ўсё з увагі на неўпарадкаванасьць маіх папераў. Мой “Райзэпас”*[108] *бэльгійскі, рэшта сям’і мае нямецкія аўслендарскія*[109] *дакуманты. Бэльгійцы хочуць нас за ўсякую цану пазбавіцца. Я сабе не магу ўявіць, што сталася-б са мной у выпадку страты цяперашняй працы, тымбольш што на нейкую падтрымку з боку нашых цяперашніх працадаўцаў разьлічваць я не рызыкую, бо ты ведаеш, у якіх я зь імі дачыненьнях.*

*Між іншым, маючы на ўвазе й гэтыя дачыненьні, я рызыкнуў на кантакт зь местам К. Я ўважаў, што магчымасьць працы ў іншым месцы вызваліць мяне ад абсалютнай залежнасьці ад цяперашняга месца працы, створыць умовы для рэалізацыі нашых патрабаваньняў у дачыненьні да палітычнай лініі нашых цяперашніх працадаўцаў. Пры гэтым я меў таксама на ўвазе, што й ты, як ты казаў пры нашай апошняй сустрэчы, можаш у кожны мамэнт атрымаць месца выкладчыка. У такіх умовах можна было-б заняць больш катэгарычную пазыцыю: супраць моўнай русыфікацыі перадачаў, усякіх камуністычных ухілаў, якія трываюць далей.*

*Ты казаў, што будзеш прыглядацца да палітычнай “лініі” Сяднёва. Дык вось, апошнім часам ён пусьціў у праграму свае скрыпты: адзін новы, другі — перапрацаваны стары. Прачытай уважна першы зь іх — “новы”, пра “камуніста Пайленку”. У ім, калі можна наогул знайсьці нейкую палітычную пазыцыю аўтара, дык праходзіць яно зноў нейдзе зьлева ад нэўтральнай сярэдзіны.*

*Бортнік сядзіць у рэдакцыі ўжо каля трох месяцаў. Далі яму той самы 10-ы грэйд*[110]*, які маю я й Казак, бо ён быў прыняты на працу як “скрыптапісец”. Тымчасам ён, апрача маленькай нататкі, нічога для праграмы яшчэ не напісаў — ня выходзіць... Не займаецца ён і ніякай іншай канкрэтнай працай: пакуль што прыглядаецца і практыкуецца... Начальства ад яго нияк нічога й не патрабуе. Бортнік-жа сам зь сябе зусім задаволены. Зь непасрэдным начальнікам дачыненьні ў яго сяброўскія. Я трымаюся зусім нэўтральна — у дачыненьні да Бортніка, бо зь Сяднёвым у мяне часта даходзіць да “схватак”.*

*Віктар [Сянькевіч] з Гішпаніі казаў праз тэлефон, што разбудоўваюць іхны перадатчык — павялічваюць прыблізна на вялічыню*

108 ***Reisepass*** (ням.) — замежны пашпарт.

109 ***Ausländer*** (ням.) — замежнік.

110 ***Grade*** (анг.) — ранг, клас, ступеня.

*таго, які стаіць у Нямеччыне. Які з гэтага робіцца выснаў, можаш здагадвацца сам. Афіцыйна пра гэта, аднак, нічога ня гаворыцца.*

*Сяднёў казыраў перад Казаком, што Рыц, будучы ў Мюнхэне, падпісаў з Такам "пагадненьне", паводля якога апошняе слова ў справах праграмаў мае Мюнхэн. Сяднёў ацэньвае гэта як прызнаньне яму дыктатарскіх паўнамоцтваў і адпаведна з гэтым "задзірае хвост".*

*У свой час была пашыраная чутка, што ледзь не дайшло да ліквідацыі "Свабоды" з прычынаў, якія карэняцца нейдзе ў Вашынгтоне*[111]*. Такім чынам я ніяк не магу лякалізаваць, адкуль ідзе пагроза ліквідацыі: з Вашынгтону ці ад "Остполітык" цяперашняга заходнянямецкага сацыял-дэмакратычнага ўраду*[112]*? Што ў вас чуваць адносна гэтага?*

*Далучаю тут цікавую вестку пра дэманстрацыі школьнікаў у Менску. Яна зусім сьвежая і, магчыма, ты яе яшчэ ня маеш. Зьмясьці ў "Беларусе".*

*Прывітаньні Дзядзьку Антосю [Адамовічу] і іншым нашым.*

*Твой Юрка.*

*Мюнхэн, 5.XII.70*

*Дарагі Янка,*

*Удушлівая атмасфэра, якая пануе тут у нас, ня спрыяла нават перапісцы. Затое прайдзісьветы, якіх у нас хапае, становяцца ўсё больш нахабнымі. Гэтым разам спынюся на адным зь іх — Сяднёву. Што-б вы там у Нью Ёрку пра яго ня думалі, якія-б вы ня мелі пляны адносна яго, але ён, браткі, не на сваім месцы. Ідэйна гэты чалавек нам ня толькі чужы, але й варожы. У гэтым я, Казак і Бортнік (нават) пераконваемся кожны дзень нанова. Беларусы для яго ня нацыя, у кожным выпадку нейкая няпоўнавартасная, да нічога ня здольная, якая складаецца зь людзей прапольскай і прарасейскай арыентацыі. У лягеры прарасейскім, паводля яго, стаіць ён і ўвесь народ, а ў прапольскім — мы і ўсё, што думае нацыянальнымі катэгорыямі. Вось некалькі ягоных апошніх выказваньняў: закрануць (у нэгатыўным сэньсе) расейца гэта значыць абразіць белару-*

111 Магчыма, размовы пра ліквідацыю Радыё "Свабода" ішлі ў зьвязку з развіцьцём палітыкі "разрадкі" паміж Захадам і СССР, вынікам чаго стала закрыцьцё Інстытуту вывучэньня СССР у Мюнхене.

112 Маецца на ўвазе палітыка ўраду канцлера ФРГ Вілі Бранта (1913–1992), скіраваная на зьмяншэньне напружаньня ў дачыненьнях Заходняй і Ўсходняй Эўропы. Вілі Брант займаў пасаду канцлера ў 1969–1974 гг., і ягоны курс атрымаў назву "Ўсходняя палітыка" (*Ostpolitik*).

*са; Купала як прадстаўнік нацыянальнага лягеру быў прапольскі, гаварыў дома з сваёй жонкай па-польску, гэта ён, Сяднёў, чуў сам, калі яго Купала запрашаў да сябе...*

*Але ён камплетны прафан і ў практычнай працы. Таму проста небясьпечны для рэдакцыі. Як ён піша свае скрыпты — ведама. Менш ведама, як ён перакладае й рэдагуе. Я ўжо, здаецца, вам пісаў, што ён перапісвае пасвойму, перакручвае сэнс, цытаты зь Леніна, Брэжнева і кожнага іншага, калі толькі яму гэта ўздумаецца. Доктар [Станіслаў] Станкевіч меў нагоду пазнаёміцца з гэтай практыкай. Калі Ленін, Брэжнеў ня могуць або ня хочуць рэагаваць супраць таго, што Сяднёў прыпісвае ім тое, чаго яны ніколі ня пісалі й не гаварылі, дык, магчыма, зарэагуе прэзыдэнт Ніксан. Толькі што Ніксан выступіў з зваротам да Рады НАТО. Сяднёў, на падставе тэксту гэтага звароту, напісаў свой, новы варыянт звароту і перадаў яго ў нядзельнай праграме з 6.XII.70 ад імя Ніксана. Так Сяднёў, чаго добрага, можа й вайну абвесьціць ад імя амэрыканскага прэзыдэнта. Расейскі тэкст звароту Ніксана і варыянт Сяднёва зь ягонымі ўласнаручнымі "папраўкамі" далучаю. У нармальных умовах за такі фальсыфікат ягонага аўтара пагналі-б хіба з працы. Але ў нас тут я, напрыклад, ня маю магчымасьці ды ня бачу сэнсу зьвяртацца куды-небудзь, бо ведаю, што справу гэтую ўсё роўна "замнуць", а я нажыву яшчэ пару ворагаў, як гэта здаралася раней. Цьвірку гэтых рэчаў для прагляду ня прысылаюць, таму ён ня мае фармальна магчымасьці інтэрвэняваць. Я вам гэта перасылаю таксама без "ўпаўнаважаньня" Сяднёва і іншага начальства і таму хацеў-бы, каб маё прозьвішча, калі магчыма, ня прыгадвалася. Мне здаецца, што гэтай фальшыўкі дастаткова, каб справу Сяднёва, а магчыма і ягоных мэцэнатаў, разьвязаць у нашым духу. Можа, было-б добра перакласьці сяднёўскі варыянт звароту Ніксана ў ангельскую мову і даць амэрыканцам, каб яны яго параўнялі з сапраўдным тэкстам ніксанавага звароту? Можа, знаёмыя доктара Станкевіча з рэспубліканскай партыі[113] зацікавіліся-б гэтай справай? У кожным выпадку, на маю думку, вы маеце цяпер у руках аргумэнт, якім можна апэраваць, рабіць адпаведны ціск. Я спадзяюся, што гэтай нагоды вы не прапусьціце, бо, урэшце, такія "казусы" ўсіх нас стаўляюць у палажэньне ідыётаў. З другога боку, патрэбная, на маю думку, і пэўная асьцярожнасьць, каб нам наагул гэтага "дэску"[114] не закрылі.*

---

[113] Прыкладна ад 1969 г. Станіслаў Станкевіч быў прадстаўніком Беларускага рэспубліканскага клюбу ў Нацыянальным рэспубліканскім камітэце, да таго ж займаў у апошнім і становішча дарадцы.

[114] ***Desk*** (анг.) — тут: кантора.

*Можа, можна было-б заактуалізаваць і такі факт? Група жыдоў зь Менску паслала Гольдзе Мэір[115] ліст, каб тая дапамагла ім выехаць у Ізраіль. У Савецкім Саюзе ліст гэты мог быць і няведамы ўладам. Але такія лісты зьбіраюцца ў нас на радыястанцыі, рассылаюцца па рэдакцыях і некаторыя зь іх перадаюцца ў праграмах. Прыгаданы ліст да Гольды Мэір быў падпісаны нешта каля дзясяткам нашых менскіх жыдоў, і каля подпісаў быў пададзены дакладны адрас кожнага зь іх (Менск, вуліца і нумар дому). Вось гэты ліст быў перададзены ў нашай праграме 2.XI.70, а ў канцы былі пададзеныя прозьвішчы й дакладныя адрасы аўтараў. Можна перадаць тэкст, але нашто прозьвішчы і тым больш адрасы. Калі-б нават савецкія ўлады за гэта й не перасьледавалі, дык суседзі-камуністы могуць рабіць гэтым жыдом няпрыемнасьці. Можа гэта зацікавіць нашых жыдоў на радыястанцыі?*

*У пачатку лістапада ў скрыпце, які я перакладаў і які пайшоў у сэрыі “Дакуманты з СССР”, Сяднёў пазьмяняў словы “аўт**а**рытэтнасьць” на “аўт**э**рытэтнасьць”.*

*У навінах з 12-га лістапада пра паховіны Дэ Голя[116] Бортнік пераклаў, што кіраўнікі розных дзяржаваў сабраліся ў Парыжы, “каб аддаць апошні доўг” дэ Голю. Я зьвярнуў Бортніку ўвагу, што па-беларуску будзе ня “доўг”, а “пашану”, што так падае й слоўнік. У гутарку ўмяшаўся Сяднёў, і пасьля бурнай дыскусыі Сяднёў загадаў Бортніку чытаць “доўг”.*

*Пра гэта можна было-б пісаць яшчэ шмат. Але на сёньня гэтага хіба хопіць.*

*На мяне пачалі цiснуць, каб я пісаў скрыпты. Я сказаў, што я ня супраць пісаньня, калі мне дадуць на гэта час, вызваляць ад іншай працы. Далі мне адзін дзень вольны, і я напісаў пра кадры навукоўцаў у Беларусі. Назаўтра я дзьве гадзіны калаціўся зь Сяднёвым літаральна за кожны сказ скрыпту: па-ягонаму, скрыпт нацыяналістычны і антырасейскі. Насіўся ён зь ім да начальства, але тыя, відаць, не знайшлі ў скрыпце нічога нацыяналістычнага і антырасейскага, і ён пачаў адступаць. Скрыпт яшчэ не пайшоў, і ня ведаю, што будзе далей. Пры спрэчцы я пераканаўся, наколькі ён нічога ня ведае, наколькі ў яго бальшавіцкія пагляды на ўсе праблемы, наколькі ён проста ненавідзіць усё нацыянальнае. Пры такой цэнзуры я, ясна, пісаць не змагу.*

---

115 **Голда Мэйр** (1898–1978), дзяржаўны дзеяч і дыплямат Ізраілю. У 1969–1974 гг. — прэм’ер-міністар Ізраілю.

116 **Шарль дэ Голь** (фр. *Charles André Joseph Marie de Gaulle,* 1890–1970), францускі вайсковы і дзяржаўны дзеяч, прэзыдэнт Францыі ў 1959–1969 гг.

*У нас нешта прыціхлі ўсякія чуткі. Усе ходзяць як вады ў рот набраўшы. Што чуваць у вас?*

*Паўлюку [Урбану] пачалі дакучаць ягоныя камяньні. Здаецца, што ў студзені пойдзе на апэрацыю.*

*Перадавай прывітаньні Прафэсару і ўсім нашым.*

*Твой Ю. Сенькоўскі.*

*Мюнхэн, 30.IX.71*

*Здароў, Янка!*

*Пішу пару словаў у сувязі з актуальнымі справамі.*

*Калі тут быў праф*[117]*., мы гаварылі на тэму эвэнтуальных і магчымых зьменаў на месцы нашай працы. У дадатак да выказаных тады мной меркаваньняў адносна магчымасьцяў папаўненьня ці аднаўленьня пэрсанальнага складу Рэд. Р. С., хачу папярэдзіць, што гэтая праблема можа ўзьнікнуць пры вашых гутарках з Рональдсам*[118]*. Ён мае гаварыць з вамі ў Нью Ёрку 5-га кастрычніка. Такія апошнія весткі. Гэрус пашырае думку, што Бел. Рэд. старэе (старыя супрацоўнікі), маладых кадраў наша эміграцыя ня мае, таму змрочныя пэрспэктывы для нашай рэдакцыі на будучыню. Я ўважаю, што гэта зласьлівая прапаганда, што Гэрус сам і, праўдападобна, сьведама спрычыніўся да таго, што мы цяпер маем такі склад рэдакцыі, і што рэдакцыю яшчэ можна рэгэнэраваць. Сёньня, ня ведаю, на чыю ініцыятыву, была гутарка ў Рональдса паміж ім, Штумпфам*[119]*, Гэрусам і Сяднёвым. Сяднёў крыху заікаўся пра гэтую сустрэчу, быў нэрвовы, але пра што дакладна гаварылася, я так і ня ўцяміў, тым больш, што ніколі ня ведаеш, дзе ён лжэ, а дзе гаворыць праўду. Выглядае, што гаварылася пра дачыненьні з вашым аддзелам у сувязі з падарожжам Р. у Нью Ёрк. У нашу рэдакцыю Р. не заходзіў, зь нікім не гаварыў, апрача таго, што было сёньня. Мы ў кантакце з Штумпфам, інфармуем яго, ён нам спачувае і, думаем, адпаведна інфармуе Р. Аднак вам давядзецца цяпер прадстаўляць нашу справу перад Р., які, як выглядае, мае спэцыяльныя паўнамоцтвы і ад яго залежыць шмат, калі ня ўсё. Таму нашая да вас просьба: ня йдзіце, "Бога радзі", і гэтым разам на нейкія гнілыя кампрамісы. Палажэньне цяпер для нас спрыяльнае. Стаўце справу ня толькі ў плошчы канфлікту "Нью Ёрк — Мюнхэн",*

[117] Маецца на ўвазе Антон Адамовіч.

[118] **Фрэнсіс Рональдс** (анг. *Francis S. Ronalds*), тагачасны дырэктар Радыё "Свабода".

[119] **Штумпф** — немец паводле паходжаньня, працаваў палітычным дараднікам у Радыё "Свабода" ў Мюнхене.

*але шырэй, усёй Бел. рэд. Канкрэтна — гэта, перш за ўсё, як вызбыцца "Мыколы"*[120] *і нашага хітруна. Прынамся, што тычыцца першага, дык, крыху прынатужыўшыся, справу можна вырашыць пазытыўна (для нас) і вырашыць яе хутка. Але трэба добра абгрунтаваць. Таму вось некалькі аргумантаў, якія, на маю думку, трэба было-б выкарыстаць:*

*Выдаленьне Цьвіркі. Р. можа быць чулы на гэты аргумант, бо і яго самога ў свой час таксама былі выставілі за дзьверы. Дзякоўскі гэта ўжо адчуў. Дарэчы, Гэрус патрабаваў, каб Валодзя згадзіўся на выдаленьне з Рэд. мяне. Валодзя адмовіўся. Тады Гэрус сказаў яму, што ў такім выпадку ён сам мусіць пакінуць рэдакцыю, што й было зроблена. Мяне яны пагналі-б у кожны мамэнт, калі-б маглі справіцца з працай.*

*Калі Бортніка прапанавала ў супрацоўнікі Рада БНР, Гэрус і Ко ўважалі, што Бортнік стары, хворы, непадрыхтаваны. Тады на ягонае месца ўзялі латыскага патрыёта і толькі біялягічнага беларуса Блажэвіча. Калі-ж Бортнік пачаў адкрыта выступаць супраць Абрамчыка, тады ён "пamaладзеў", "паздаравеў" і быў прыняты на працу.*

*На Сенькевіча быў зроблены фальшывы данос у амэрыканскую контрразьведку. Закрылі яму дарогу ў Рэдакцыю, але ў сыстэме радыя ён працуе далей і карыстаецца добрай рэпутацыяй.*

*Паўлюку [Урбану] была пастаўлена ўмова адыйсьці ад сваіх паглядаў на беларускую мову і беларускую справу. Калі ён ад гэтага адмовіўся, яму пачалі рабіць шыканы: згаджаліся прыняць на пробны пэрыяд у Рэд. Навінаў з паніжэньнем зарплатнага грэйду з 12-ай ступені на 9-ю. Паўлюк ужо зарэкамэндаваў сябе як сур'ёзны навуковы работнік у галіне саветалёгіі.*

*У свой час мы мелі чатыры гадзінныя праграмы ў тыдзень: у нядзелю (мюнхэнская паўгадзіны плюс паўгадзіны вашай), у панядзелак (цэлая гадзіна наша), у сераду (наша паўгадзінная плюс паўтор паўгадзіннай вашай зь нядзелі) і ў суботу (наша паўгадзінная плюс паўгадзінная рэлігійная). Цяпер ідзе толькі паўгадзінная праграма. Апрача таго ўжо на працягу некалькіх апошніх год беларускія праграмы не перадаюцца больш праз наймагутнейшыя перадатчыкі, якія стаяць у Гішпаніі.*

*Супрацоўнікі, прынятыя на працу ў Мюнхэне (апошнія чатыры асобы), ня могуць пісаць скрыптаў, тым больш на беларускую тэму, і толькі зь вялікай рызыкай ім можна давяраць самастойную перакладніцкую працу.*

---

[120] Маецца на ўвазе Мікола Герус.

*Гэтае палажэньне створанае пастановамі ў першую чаргу Гэруса.*

*У рэдакцыі пануе цяжкая працоўная атмасфэра. Трэба падкрэсьліць, што ад гэтага асабліва церпяць старэйшыя стажам супрацоўнікі. Калі ім ня будзе зробленая сатысфакцыя, калі ня будзе выпраўленая атмасфэра, якая дасюль вызначалася адкрытым цкаваньнем і абражаньнем старэйшых, зацікаўленых у працы супрацоўнікаў, адкрытым перасьледам "бэнээраўцаў" і іншых "нацыяналістых", — да таго часу мы ня выйдзем із стану псыхічнай канстэрнацыі, якая пануе цяпер. Такой сатысфакцыяй можа быць выдаленьне з кіраўнічых пасадаў тых, што на практыцы праводзілі гэты тэрор і гэтае зьневажаньне.*

*Мы тут супраць спробаў некага "прыласкаць", хоць вашую цяперашнюю тактыку зь Сяднёвам, сьцяўшы зубы, прынялі да ведама. Практыка паказала, што з гэтага нічога ня выходзіць. Вы будзеце магчы пераканацца ў гэтым на вашых апошніх НЁБР-ах. Я асабіста ад гэтых палавінных "вырашэньняў", розныя варыянты якіх нам прапанаваліся і накідаліся, страціў ужо быў веру, што мы здольныя паставіцца там, дзе трэба. Але цяпер паставіцца трэба. Я баюся, ці хопіць у мяне сілы перанесьці новае расчараваньне. Я маю магчымасьць атрымаць іншую працу. Справа гэтая цяпер у такой стадыі, што мне хопіць толькі сказаць "так".*

*Гэтыя апошнія радкі пішу не для таго, каб рабіць на некага ціск, але каб вы выразьней адчулі тое, што адчуваем мы. Соры за сантымэнтальную канцоўку. Пішы, якія будуць вынікі гутарак.*

*Прывітаньні нашым!*

*Твой Юрка.*

*PS. Прыйшло яшчэ ў галаву. Гэрус, хоць сам эмігрант, ненавідзіць эміграцыю і эмігрантаў. Таму ён ня можа нармальна супрацоўнічаць з эмігрантамі. У яго ўсё яшчэ сядзіць у касьцях бандэраўская аплявуха.*

*Прэзыдыюм Парыскага Блёку паслаў у Вашынгтон мэмарандум (дарэчы, паралельна з НТС), у якім патрабуе аднаўленьня таго стану на радыястанцыі, які панаваў раней і пры якім эміграцыя карысталася акрэсьленымі правамі ў справах радыя. Наколькі мне ведама, гэта было зроблена ня без намёку з Вашынгтону. Да ліквідацыі гэтых правоў эміграцыі найбольш спрычыніліся якраз Гэрус — Дзякоўскі — Так.*

*Мюнхэн, 22.I.1972*

*Дарагі Янка!*

*Учора перагрысься зь Сяднёвым, зайшоў у радыёвую бібліятэку й пачаў думаць над прыватнай карэспандэнцыяй.*

*Скрыпт пра "Сацыяльную структуру вёскі" можаш зьмяшчаць, калі ўважаеш, што ён падыходзіць такой "радыёвай" форме для "Беларуса". Мяняць нешта не знаходжу часу. Ясна — выэлімінуй усе моўныя русыцызмы. Як подпіс можаш паставіць маленькія "аз". У будучыні, калі нешта з маёй радыёвай пісаніны будзе падыходзіць для "Беларуса", можаш зьмяшчаць. На шчасьце, "Беларуса" ў нашай гэтак званай "рэдакцыі", няма, таму думаю, што ні Сяднёў, ні ніякі іншы сабака да мяне чапляцца за гэта ня будзе.*

*Артыкул у "Запісы" я мог-бы згарусьціць*[121]*. Мне было-б найвыгадней пісаць яго ў часе майго летняга адпачынку, які я атрымаю ў жнівені. Ня было-б гэта запозна?*

*У нас пачаліся звальненьні. Звальняюць усіх старэйшых за 65, некаторых нядаўна прынятых, некаторых амэрыканцаў у працоўным веку. Праграмных аддзелаў не чапаюць, але старэйшых за 65 звальняюць таксама. Гэта і добра і дрэнна, бо сядзяць далей нашы цэнзары. Але кажуць, што вялікі Скот*[122] *можа прывесьці з Вашынгтону яшчэ нейкія неспадзеўкі. Звольнілі, між іншага, жонку Сяднёва, якая, як я цяпер толькі даведаўся, была нейкім чынам у штаце і сядзела нават на 12-ай групе. Сярод гэтай несамавітай кампаніі прынамся апошняя вестка ў мяне сьлёзаў ня выклікае.*

*Ларыса [Урбан] мела ўчора апэрацыю. Пра ейны стан пакуль што нічога дакладна сказаць нельга. Паўлюку сказалі, што адносна ягонага пераводу ў радыястанцыю можна будзе гаварыць толькі пасьля канца гэтага месяца. Гэта тычыцца і іншых інстытутчыкаў*[123]*, якіх, як быццам, мелі перавесьці да нас.*

*Іншае — па-старому. Прывітаньні ўсім знаёмым.*

*Твой Юрка.*

[121] Артыкулаў Юрыя Сянькоўскага ў "Запісах БІНіМ" не выяўлена.

[122] **Уолтэр Скот** (анг. *Walter K. Scott*), дырэктар Радыё "Свабода" ў Мюнхене каля 1965–1975 гг., былы дыплямат.

[123] Маюцца на ўвазе супрацоўнікі мюнхенскага Інстытуту вывучэньня СССР, зачыненага ў 1972 г.

*Мюнхэн, 30.VIII.72*

*Здароў, Янка!*

*Дзякую за “Факты зь Беларусі”*[124]*. Робіш добрую работу. Пакуль-што можаш “Факты” перасылаць далей на мой адрас.*

*Перасылаю Табе маніторны запіс выступленьня Клішэвіча праз менскае радыё. Сяднёў найлепшы сябра і ягоны першы кандыдат у Бел. Рэд. Р. Св. паказвае радыяжурналістычныя сьхільнасьці. Паколькі Гэрус зь Сяднёвым інтэнсыўна шукаюць “сапраўдных журналістаў” для Бел. рэд. (па-магчымасьці адтуль) — баюся, што кандыдатура Клішэвіча можа зноў стацца актуальнай. Магчыма, справу з Клішэвічам варта было-б прыгадаць адпаведным інстанцыям у сувязі з кадравай палітыкай цяперашняга кіраўніцтва Р. Св.?*

*Што думаеш пра артыкул Круталевіча пра БНР у апошнім нумары “Полымя”*[125]*? Папулярызуе БНР і беларускі нацыяналізм?! Я гэты артыкул прачытаў з захапленьнем.*

*Мяне вельмі цікавіць, што робіць Цярэшка*[126] *і якія ў вас зь ім дачыненьні. Я слухаў запіс ягонага выступленьня і вынес добрае ўражаньне. Мне здаецца, што для нас гэта вельмі важная “знаходка”.*

*Бесараб робіць тут сымпатычнае ўражаньне, але фарбы шмат не паказвае. З усімі добры, пільна цікавіцца беларускімі і ўкраінскімі праграмамі, а ўжо гэта непакоіць Гэруса зь Сяднёвам.*

*Што ў вас новага? Асабліва што тычыцца нашых набалелых праблемаў.*

*Прывітаньні ўсім нашым!*

*Твой Юрка.*

*Мюнхэн, 16.XII.1972*

*Здароў, Янка!*

*Дзякую за перасланыя матарыялы. Твая палеміка зь Сяднёвам мела, як выглядае, вынікі. Бесараб зь ім меў “бурныя” размовы. Сяднёў цяпер з сваімі “праўкамі” і “павучэньнямі” стаўся вельмі*

124 ***“Facts on Byelorussia”*** — бюлетэнь навінаў, што выдаваўся ў Нью-Ёрку ў 1972–1974 гг. пад рэдакцыяй Янкі Запрудніка.

125 Маецца на ўвазе тэкст: Круталевіч, Вадзім. Ходам гісторыі // Полымя. № 7 (519). 1972. С. 182–213.

126 **Анатоль Цярэшка** — колішні інжынэр зь Менску. Пісаў вершы й друкаваўся, аднак знайшоў магчымасьць, каб праз Індыю ўцячы ў ЗША. На Радыё “Свабода” правацаў некалькі гадоў, пакуль ня скончыў курсы й не перакваліфікаваўся ў дантыста.

*асьцярожным. Сяднёў бязупынна чапляўся і да маіх скрыптаў за іхны нацыянальны зьмест, і ў яго, відаць, і тут узьнікла “непаразуменьне” зь Бесарабам, бо апошні пра мае скрыпты выказваўся якраз вельмі пазытыўна. Цяпер Сяднёў да маіх скрыптаў баіцца дакрануцца алавікам. Гэта, зразумела, уздымае мае надзеі.*

*Згодны з табой, што падрыхтоўка беларускага разьдзелу да кнігі пра нацыяналізм у СССР*[127] *— справа надзвычай важная і адказная. З свайго боку абяцаю дапамагчы, чым толькі змагу. Праз сьвяты (4 дні вольныя) буду думаць над гэтай тэмай. Пасьля сьвятаў прышлю мае меркаваньні і нешта больш канкрэтнае.*

*Гэрус хварэе, на працы яго няма. Кажуць, што ад Новага году ён паедзе на сем тыдняў на курорт. Ходзяць чуткі, што яму лекар катэгарычна загадаў зьмяніць клімат. Але кажуць і іншае: што ў яго папсаваліся дачыненьні з Рональдсам і што яго маюць перавесьці да вас у Нью Ёрк. Гратулюю!*

*Я, як табе ведама, падаў у працоўны суд. Мне ўжо ад 67-га году Гэрус зь Сяднёвам не павышалі ні “групы”, ні “грэйду”. Я маю ўсе шансы справу выйграць — так кажуць спэцыялісты. Цяпер, пры адсутнасьці Гэруса і пры ўдзеле Штумфа, мне ўрэшце выставілі больш-менш людзкую працоўную характарыстыку. Відаць, адміністрацыя хоча ўнікнуць суду. Гэта мая справа Гэрусу таксама ня йдзе на здароўе.*

*[Алесю] Карповічу грошы я выслаў (100 НМ). Склаліся Паўлюк [Урбан], Валодзя [Цвірка], я і нават Уладзімір Уладзіміравіч [Бортнік]. Уладзімір Уладзіміравіч у меру хістаньня пазыцыі Гэруса й Сяднёва ўсё больш хіліцца да нас.*

*Як там справа зь Цярэшкам? Тут нехта пусьціў чутку, што Роні*[128] *ня хоча, каб Цярэшка працаваў у ньюёрскім аддзеле — хоча яго перацягнуць у Мюнхэн. Ня ведаю, ці гэта было-б добра. Думаю, што яму было-б лепш даўжэй затрымацца ў Нью Ёрку — з увагі на сваё беларускае асяродзьдзе. Бо тут, пад кіраўніцтвам Сяднёва...*

*Пры нагодзе — найлепшыя пажаданьні з нагоды Калядаў і Новага Году табе, Олі і паненкам. Прывітаньні ўсім нашым!*

*Твой Юрка.*

---

[127] Магчыма, маецца на ўвазе публікацыя: Zaprudnik, J. Belorussia and the Belorussians // Attitudes of Major Soviet Nationalities. Vol. I: The Slavs: Russia, the Ukraine, Belorussia. Cambridge (Mass.): Center for International Studies, MIT, 1973. P. 49–74.

[128] **Роні** — мянушка дырэктара радыё “Свабода” Фрэнсіса Рональдса.

*Мюнхэн, 19.II.1973*

*Дарагі Янка!*

*Пару слоў адносна рэакцыі на тваё “мэмо” ў справе скрыпту пра Віленскі Беларускі Музэй.*

*Бесараб узяўся быў за гэтую справу і пачаў наступаць на Сяднёва. Яны пасварыліся. Але хітрун і жулік Сяднёў пабег да Вандэрора і, каб ратаваць скуру, прадставіў справу (магчыма, на параду Херуса) так, што ўвесь скрыпт супраць “лініі”, бо стымулюе спрэчку паміж беларусамі і летувісамі. Я (засьцерагаюся) ня ведаю ўсіх падрабязнасьцей, але гэтая Сяднёва вэрсыя, відаць, зрабіла ўражаньне на нашых “палітрукоў”. Бесарабу не ўдалося зрабіць з гэтай справы тое, што ён хацеў. “Палітрукі” баяліся, што гэтыя два жулікі маглі-б падтыкнуць гэту справу прэзыдэнцкай камісіі ці якому Фулбрайту*[129]*, і гэта магло-б пашкодзіць усёй радыястанцыі. Адным словам, Сяднёў і Херус зрабілі шантаж, каб замяць справу. Херус яшчэ “лечыцца”, але ён у тэлефонным кантакце зь Сяднёвам. Бесараб апынуўся ў нязручным палажэньні. Ён прасіў перадаць вам у Нью Ёрк, каб гэту справу ў дадзены мамэнт не распальваць, а галоўным чынам у афіцыйнай перапісцы ўнікаць асабістых нападаў, абразаў. Бо Сяднёў і Херус выкарыстоўваюць тое, што ў цябе ёсьць менавіта такія асабістыя парахункі. Яны абодва салідна залезьлі Бесарабу пад скуру, вядуць супраць яго адкрытую канфрантацыю. Бесараб зацікавіўся справай Клішэвіча. Таму прашу пераслаць мне назад для эвэнтуальнага выкарыстаньня тут той маніторны запіс з выступленьня Клішэвіча ў Менску, які я табе аднойчы пераслаў.*

*Дарэчы: скрыпт пра музэй быў перададзены, і гэта значыць быў апрабаваны Сяднёвам, і мне незразумела, як гэтыму жуліку ўдалося зрабіць уражаньне сваёй вэрсіяй пра неадпаведнасьць “лініі”. Мне незразумела таму, што я сам зь Бесарабам пра гэта яшчэ не гаварыў.*

*Прывітаньні ўсім нашым!*

*Твой Юрка.*

*Мюнхэн, 10.XI.80*

*Здароў, Янка!*

*Узяў пару дзён з рэшты майго гадавога адпачынку і хачу прынамся адказаць на лісты.*

---

[129] Маецца на ўвазе амэрыканскі сэнатар-дэмакрат **Джэймс Уільям Фулбрайт** (анг. *James William Fulbright,* 1905–1995), які выступіў за ліквідацыю Радыё “Свабодная Эўропа” і Радыё “Свабода” як перажыткаў халоднай вайны, што замінаюць паляпшэньню амэрыкана-савецкіх дачыненьняў.

*Той “паўч”*[130] *атрымаў (“Мэмарандум” для Мадрыду*[131]*, “Паўстаньне ў Беларусі ў 1863…”*[132] *і ліст). Мерсі!*

*Думаю, што Мадрыд, калі там нешта наагул адбудзецца, будзе дастаткова забясьпечаным матарыяламі з нашага боку. Мы паслалі “Мэмо” ўсім дэлегацыям у Мадрыдзе ад “Парыскага Блёку”, ангельская “Льезон груп”*[133] *таксама. Вы зрабілі добрую працу, выдаўшы брашуру пра “Паўстаньне”.*

*Айцец Надсон*[134] *прыслаў мне пакет юбілейных паштовак да 1000-годзьдзя гісторыі Беларусі і паведаміў, што ён дамовіўся зь нямецкімі навукоўцамі выдаць Анталёгію беларускай літаратуры па-нямецку. Каб не паўтарацца, я далучаю копію ліста, які я яму паслаў адносна абедзьвюх гэтых справаў.*

*Ты тэлефанаваў Сяднёву, што хочаш пісаць нешта для радыёвай праграмы адносна самавыдавецкай паштоўкі і зьвярнуў увагу на артыкул М. Ермаловіча*[135] *ў 9-м нумары “Нёману”*[136]*. Сяднёў нешта ня ведаў, як рэагаваць на Тваю прапанову. Я ўважаю, што калі Ты будзеш пра гэта нешта пісаць, дык рабі так, каб не падставіць Ермаловіча “пад абух”. Апрача таго, Ты ведаеш, як Сяднёў, а зь ім і Гэрус, ставяцца да гісторыі Беларусі: “не было, нет і (хіба-што) не будет!”. Нядаўна ў нашай рэдакцыі зноў зайшла гутарка пра Вялікае Княства Літоўскае, і Сяднёў зноў заявіў: “Што вы ўсё хочаце*

130 ***Pouch*** (анг.) — тут: мех з поштаю.

131 Маецца на ўвазе Мадрыдзкая канфэрэнцыя АБСЭ, што адбывалася ў 1980–1983 гг.

132 Маецца на ўвазе выданьне: [Бэрд, Т., Запруднік, Я.] Паўстаньне на Беларусі 1863 году: “Мужыцкая Праўда” й “Лісты з-пад шыбеніцы” = The Uprising in Byelorussia: “Peasants’ Truth” and “Letters from beneath the Gallows”. Тэксты й камэнтары. Нью Ёрк: Фундацыя ймя Пётры Крэчэўскага, 1980. — 71 p.

133 Маецца на ўвазе **Эўрапейская група сувязі** (*European Liason Group*), заснаваная ў Вялікабрытаніі ў 1969 г. У яе склад уваходзілі прадстаўнікі 14 нацыянальнасцяў, у тым ліку і беларусы, якіх прадстаўляў Павал Асіповіч. Галоўнай мэтай арганізацыі была дапамога нацыям у іх барацьбе з камунізмам і савецкім каляніяльным прыгнётам. Арганізацыя мелася спрыяць наладжваньню цесных кантактаў паміж прыгнечанымі СССР нацыямі, рэпрэзэнтацыі іх інтарэсаў перад брытанцамі, а таксама супрацоўніцтву з усімі палітычнымі, эканамічнымі і грамадзкімі сіламі на Захадзе ў справе эўрапейскага аб’яднаньня.

134 **Айцец Аляксандар Надсан** (сапр. Бочка, 1926–2015), рэлігійны і грамадзкі дзеяч, грэка-каталіцкі сьвятар, захавальнік Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане.

135 **Мікола Ермаловіч** (1921–2000), гісторык, публіцыст, крытык і літаратуразнаўца.

136 Маецца на ўвазе тэкст: Ермолович, Микола. “…Нареклися кривичи и дреговичи…” // Нёман. № 9. 1980. С. 183–187.

*мяняць гісторыю. Гісторыя Беларусі ўжо напісаная!". Калі нядаўна Сяднёва ня было два тыдні на працы і я яго заступаў, Гэрус сказаў мне: "Каб толькі Запруднік зноў не пачаў пісаць пра Вялікае Княства Літоўскае". Гэта да Твайго ведама. Да Твайго ведама таксама, што Сяднёў, Гэрус і Кук зьбіраліся зрабіць Табе (а магчыма і мне) цэлую справу ў сувязі з забастоўкай у Менску. Прычапіліся спачатку да мяне, чаму я прапусьціў гэта, не паведаміўшы Гэрусу, бо на радыястанцыі пра такую забастоўку ніхто нічога ня чуў. Я сказаў, што я чуў пра такую забастоўку, што гэтую вестку прынёс зь Беларусі Барысаў, і што я ўважаў, што гэта агульнаведама. Яны павялі "сьледзтва", паставілі на ногі Дасьледчы аддзел і крыху абселі, калі ў Дасьледчым аддзеле знайшлі паведамленьне пра забастоўкі на "Гомсельмашы". Копію нататкі пра гэта, зьмешчанай у 5-м нумары "Пасеву"*[137] *за гэты год, далучаю і думаю, што яе можна выкарыстаць у "Беларусе". Пару год таму агенцтва "Сіньхуа"*[138] *паведаміла пра забастоўку на, здаецца, віцебскім машынабудаўнічым заводзе. Я гэтую вестку выкарыстаў быў у скрыпце, але нашы беспасярэднія цэнзары мне яе выкрэсьлілі. Пасьля таго, як Ты падаў крыніцы, адкуль Ты ўзяў вестку пра забастоўку ў Менску, Сяднёў "па прастаце душэўнай" прызнаўся мне, што гэтая акцыя супраць Цябе (а магчыма і супраць мяне) ім не ўдалася...*

*Акцыя прыдзірак і дыскрэдытацыі нас ідзе сыстэматычна і накіраваная яна, па-нашаму, каб даказаць, што безь Сяднёва ў нашай рэдакцыі ўсё заваліцца і што яго трэба затрымаць далей на ягонай пасадзе — яшчэ прынамся на год. Цьвірка ўважае, што прыдзіркі Сяднёва, Гэруса і Кука на Рутмана*[139] *маюць, магчыма, на мэце адагнаць Рутмана ад пісаньня скрыптаў, каб на далейшую мэту забясьпечыць гэтую магчымасьць Сяднёву або каб надзяліць яго (Сяднёва) функцыяй рэдактара скрыптаў нашых "фрылянсэраў", а Цябе ад гэтай працы "вызваліць". Гэта, паўтараю, толькі нашы прыпушчэньні.*

*Ашаламіла нас раптоўная сьмерць Станкевіча*[140]*. Гэта страта проста-такі нацыянальнага маштабу. Мне прыйшла ідэя паслаць на Тваё прозьвішча спачуваньні ад імя супрацоўнікаў нашай рэдакцыі тэлексам, бо так найхутчэй. Я напісаў тэкст,*

---

137 ***"Посев"*** — расейскі грамадзка-палітычны часопіс, орган Народна-працоўнага саюзу, які выдаецца ад 1945 г. (спачатку ў Заходняй Нямеччыне, цяпер — у Маскве).

138 **"Сіньхуа"** — афіцыйнае інфармацыйнае агенцтва ўраду Кітайскай Народнай Рэспублікі.

139 **Аркадзь Рутман** — былы менскі юрыст, што працаваў у Мінсельгасе. У 1980-я гг. выехаў зь сям'ёй у ЗША, жыў у Нью-Ёрку. Быў пазаштатным супрацоўнікам Радыё "Свабода".

140 Станіслаў Станкевіч памёр 6 лістапада 1980 г.

*апошні сказ якога гучэў: “Просім перадаць сям’і нябожчыка і беларускай грамадзкасьці ў Амэрыцы нашы найглыбейшыя спачуваньні”. Усе з гэтым згадзіліся. Сяднёў, прыйшоўшы ад Гэруса, заявіў, што яны словы “і беларускай грамадзкасьці ў Амэрыцы” выкрэсьлілі. Атрымаўся скандал. Сяднёў пачаў крычаць: “Якая там беларуская грамадзкасьць у Амэрыцы!” Пасьля гэтай “цэнзуры” мы хацелі наагул не пасылаць тэлексу ў зьмененай форме, але было ўжо запозна, бо тэкст перадалі ўжо ў аддзел “тэлетайпаў”. Гэта — для інфармацыі, што Сяднёў з Гэрусам (а ўмяшаўся таксама і Кук) думаюць пра беларускую грамадзкасьць у Амэрыцы…*

*Але важнейшая справа, як адаб’ецца сьмерць Станкевіча на выдаваньні “Беларуса”*[141]*, не гаворачы ўжо пра іншыя справы, якія ён плянаваў і пачаў рабіць, напрыклад, выданьне Купалы? Я ўжо гаварыў зь Цьвіркам, што нам трэба было-б дапамагчы “Беларусу” матарыяламі. Але ў нас на працы пры тэй удушлівай атмасфэры падазронасьці і даношчыцтва, калі наш пацук, як мы яго называем, суне свой нос у кожную справу, зрабіць нешта пабочнае проста немагчыма. Паўлюк пасьля таго, як яго выгналі з рэдакцыі, чуецца сьмяротна пакрыўджаным і цалкам абескуражаным. А ён-жа калісьці столькі пісаў. Ускладаліся вялікія надзеі на Рэгэна. Ці нельга было-б пры цяперашніх больш спрыяльных умовах пазбыцца нам урэшце тэй “шпаны”, якая сьведама ці нясьведама паралізуе нам працу і псуе здароўе? Гэтае пытаньне я ськіроўваю да вас, бо вам там лепш відаць і вы маеце нейкія кантакты.*

*Прывітаньні ўсім нашым!*

*Твой Юрка.*

## 2. Беларус у Гішпаніі: Віктар Сянькевіч

Беларуская эміграцыя ў Гішпаніі была малалікай, але пры тым надта ж разнастайнай. З аднаго боку, напрыклад, Інстытут беларусаведы імя Льва Сапегі[142]. Паўстаў ён пры Цэнтры абмену эўрапэйскай культуры ў Мадрыдзе як сэкцыя гэтай арганізацыі 24 сакавіка 1952 г. Сакратаром у Інстытуце быў Уладыслаў Рыжы-Рыскі (якога айцец Надсан, увогуле асьцярожны з ацэнкамі, назваў быў неяк авантурыстам), а старшынём на дакумэнтах значыўся нехта Прынц Тодар Ляскарыс-Комнэно. Ці хто яшчэ быў у тым Інстытуце, тымчасам няведама.

141 Пасьля сьмерці Станіслава Станкевіча рэдагаваньне газэты “Беларус” пераняў Янка Запруднік.

142 В. Інстытут беларусаведы ў Мадрыдзе. (На шляхох эміграцыі) // Беларус. № 2 (8). 13–20 красавіка 1952. С. 4.

Ці такі фацэт, князь Мірскі. Вось што пісаў зь Львэну Ўладзімер Бакуновіч да Янкі Запрудніка: *“Пару дней таму прыехаў Мірскі з Гішпаніі. Хлапец малады, зь вялікімі рагамі, на ўсіх глядзеў зьверху. За гэтых пару дней рожкі падпілілі, і ён паспакайнеў. У будучыні будзе добры хлапец. Французкую, гішпанскую й нямецкую мовы знае пэрфэкт, польскую таксама, расейскую і англійскую слаба. Жму яго на беларускую мову”* (07.11.1957). *«Здаецца, я Табе некалі пісаў, што маем аднаго “блё” князя Мірскага з Мадрыду. Зь першага дня ён здабыў сабе вялізарную антыпатыю, бо хадзіў з носам, задраным уверх, адразу кажнага на “ты” і глядзеў на ўсіх зьверху. Болей таго, зь першага дня, а фактычна зь першае ночы пачаў гуляць у лунацікі. Да гэтага часу ён быў толькі два разы на выкладах. Грошай ня мае ні капейкі, дык зьвязаўся з палякамі, гішпанцамі і з рознай дрэньню, і яны, відаць, яму фундуюць. Ноч недзе лазіць і цэлымі днямі сьпіць. Зараз пэра няма ў доме, дык мне навет яго і не прыйшлося пабачыць да гэтага часу. Ня ведаю, ці ён начуе калі-небудзь удома ці не. У кажным выпадку ягоная комната цэлы час закрытая на ключ. Перад тым, як прыняць яго сюды, пэр выставіў яму некаторыя ўмовы, а між іншым вывучыць за год беларускую мову, гісторыю, гісторыю беларускай літаратуры і, ведама, беларускую літаратуру. Ён мае на гэта ўсе магчымасьці, але да гэтага часу абсалютна за нішто ня ўзяўся. Я яму даў “Спадчыну”, дык так і ляжыць да гэтага часу неразрэзаная. Як прыедзе пэр, дык трэба будзе нешта зрабіць. Зы мной ён проста ня хоча гаварыць, калі пачынаю яго ўпікаць, і страшэнна грубы з кажным адным. А трэба сказаць, што ён ёсьць вельмі інтэлігэнтны, але што-ж смаркач, яшчэ ня мае 18-ці гадоў»* (11.12.1957).

Але былі й іншыя. Як даведваемся з кнігі Барыса Рагулі “Беларускае студэнцтва на чужыне”, *“першы беларускі студэнт зьявіўся ў Мадрыдзе ў 1950 годзе. У 1952 было ўжо чатырох студэнтаў. Яны заснавалі Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне ў Гішпаніі, якое сталася сябрам Цэнтралі Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў. [...] На жаль, большасьць студэнтаў ня прыжылася на мадрыдзкім унівэрсытэцкім груньце і ў тым-жа 1952 годзе выехала. Застаўся толькі Янка Сурвіла, да якога ў 1953 годзе далучыўся Віктар Сянькевіч”*[143].

Тамсама льга прачытаць біяграфію Віктара Сянькевіча, як і пра беларускія перадачы, што пачынаючы ад 1952 г. ішлі прынагодна цягам 15 хвілінаў, а ад сьнежня 1958 г. штодзённа на Гішпанскім нацыянальным радыё.

Падрабязьней пра ўмовы й спэцыфіку працы радыё й пра самога Віктара Сянькевіча — у ягоных лістах да Янкі Запрудніка.

143 Рагуля, Барыс. Беларускае студэнцтва на чужыне. Выд. 2. Мінск, 2006. С. 111–112.

## Лісты Віктара Сянькевіча

*San Ernesto, 4, 4-B,*
*Madrid, 2*
*16.11.59*

*Дарагі Янка,*

*Пасьля прачытаньня ў вапошнім (476-м) нумары "Бацькаўшчыны" Тваёй кароткай, але як-жа вымоўнай зацемкі "Што-ж апрача крытыкі?"*[144]*, я пастанавіў пасядзець пару гадзінаў даўжэй, каб напісаць Табе гэтых некалькі лінеяк ды падзякаваць за парушэньне гэтае так важнае справы. Кажу важнае, бо ў сапраўднасьці яна такой зьяўляецца.*

*Думаю, што Ты дакладна арыентуешся ў гісторыі нашых мадрыдзкіх перадачаў. Колькі трэба было захадаў, беганіны і, што больш, цярплівасьці, каб здабыць гэтых 15 хвілін! Каб мы, беларусы, былі ў такой самай сытуацыі, як усе тыя, што мелі сваю незалежнасьць перад II-ой сусьветнай вайной — справа напэўна ня была-б аж такой скамплікаванай. Нажаль, як сам з жыцьцёвай практыкі ведаеш, знаходзімся мы ў сытуацыі "безьдзяржаўных", і таму кажную новую пазыцыю мусім штурмаваць усімі сродкамі й сіламі. Толькі нядаўна мы даведаліся, чаму так доўга мусілі чакаць на адкрыцьцё перадачаў: як і ўсюды, гэтак і тут, у Гішпаніі, стараліся перашкодзіць нам нашыя "старэйшыя браты", няшчаснае маскальлё. Бачыш, справа ў тым, што падчас грамадзянскай вайны на баку Франко*[145] *брала ўдзел шмат былых царскіх ахвіцэраў. Пасьля перамогі сучаснага рэжыму яны пайлазілі ўва ўрады, і, зразумела, зь імі лічацца. Пакольі нам ведама, яны рабілі ўсялякія спробы, калі ня зусім не дапусьціць нас да радыя, дык прынамся адцягнуць як найдаўжэй. Але ня толькі гэтыя манархістычныя сьвіньні былі на дарозе. Фінансаванае амэрыканцамі НТС, напэўна, прылажыла да гэтага не адну капейку.*

*Але... але ў канцы ўсёткі ўсё было пераможанае, перашкоды пакрышаныя, і, як Ты зазначыў у сваёй зацемцы, ад 8-га сьнежня*[146] *маем штодзённыя перадачы два разы ў суткі. Работа ідзе. За пару тыдняў будзем адзначаць першыя ўгодкі нашых радыяперадачаў. Праўда, толькі першыя, але каля 360 праграмаў пойдзе ў эфір. А гэта ўжо пэўнае дасягненьне.*

---

144 Я. З. Што-ж апрача крытыкі? // Бацькаўшчына. № 40 (476). 25 кастрычніка 1959. С. 3.

145 **Франсіска Франка Баамондэ** (гішп. *Francisco Paulino Hermenegildo Teodulo Franco Bahamonde,* 1892–1975), гішпанскі вайсковы і дзяржаўны дзеяч, дыктатар Гішпаніі ў 1939–1975 гг. Прыйшоў да ўлады ў выніку вайсковага перавароту і грамадзянскай вайны 1936–1939 гг.

146 Маецца на ўвазе 8 сьнежня 1958 г.

*Калі мы пачыналі першыя праграмы, мелі шмат надзеяў і ілюзіяў. Год працы навучыў нас многа, а асабліва даў нам магчымасьць пазнаць... нашую эміграцыю. Ты, паколькі абарочваўся увесь час сярод нашых людзей, сьпярша ў Нямеччыне, цяпер-жа ў Амэрыцы, пазнаў нашых людзей шмат лепш і шмат раней. Мы-ж тут сядзімо ад'емныя, адізаляваныя ад сьвету ня менш, чым нашыя суродзічы на Бацькаўшчыне, і таму мелі крыху іншае ўяўленьне адносна "беларусаў у вольным сьвеце".*

*Такіх магчымасьцяў, якія мы маем тут, — гавару пра самыя перадачы — мы, беларусы, нідзе ня мелі і мець ня будзем. Каб Ты сабе дакладна ўявіў гэта, я пастараюся напісаць аб тым, як мы тут працуем, якія пануюць тут парадкі і г. д.*



Віктар Сянькевіч. 1977 г.

*Нашая радыяперадача разам з альбанскай зьяўляюцца самымі новымі і, здаецца, апошнімі, уключанымі ў Гішпанскае нацыянальнае радыё (апошнія, бо ўсе іншыя ўсходне-эўрапэйскія нацыянальнасьці пачалі свае аўдыцы некалькі гадоў раней). Пакуль што мы знаходзімся на лісьце "апошнеўключаных", гэта значыць маем права мець двох працаўнікоў, якія атрымоўваюць па 1000 пэзэраў у месяц ($ 16.50) мінус 7 % падатку. На гэтым "лісьце" знаходзяцца таксама летувісы, эстонцы й латышы. Палякі й расейцы маюць паўгадзінныя праграмы і могуць мець аж па 8 працаўнікоў і атрымоўваюць каля 12.000 пэзэраў усе разам. Румыны й вугорцы маюць па 20 хвілін у суткі і знаходзяцца на іншых умовах. Рэшта па 15 хвілін, і некаторыя зь іх атрымоўваюць таксама толькі па 1000 пэзэраў, але ім плоцяць за некалькі артыкулаў у месяц па 180 пэз. артыкул. Мы-ж, альбанцы і балты мусім задаволіцца па 930 пэз. на асобу. У альбанцаў толькі адна асоба, жыве ён з вонкавай дапамогі, як і ўсе*

*іншыя. Гэта фінансавы бок справы, які, як сам бачыш, не завідны. Не завідны, бо калі заробіш на месяц $ 16.50, дык гэтых грошаў чуць хапае на транспарт, карэспандэнцыю, паперу — і іншыя рэчы, зьвязаныя з самым радыям. На пражыцьцё? — тыя грошы, якія ты быў прыслаў па просьбе сп. А.*[147] *($ 350) хапіла, каб я змог вярнуцца з Англіі і пасьля трохтыднёвага шуканьня знайсьці памешканьне. Стоіць яно мне 3000 п. у месяц і даволі далёка ад цэнтру, што пацягвае лішнія выдаткі на транспарт. Найгоршае, гэта што тут пры ўваходзе ў памешканьне мусіш даваць задатак. Задатак даў — астаўся без капейкі. Чакалі на дапамогу ад хлапцоў зь Мюнхэну (як ведаеш, яны нам прысылаюць па 400 DM месячна). Гэтым разам Паўлуша*[148] *выслаў, не як нармальна высылаў — у лісьце, а праз Postal Order ці нешта падобнага. Гэта ў сваю чаргу зацягнулася на тыдзень, і мы ўжо ня ведалі, як і з чаго жыць. Пазаўчора, дзякаваць Богу, прынёс нам паштальён грошы, хаця з тыдзень пратрымаемся. Даўгі-ж будзем зьвяртаць некалі мо пазьней. Праўда, наракаць на гішпанцаў за тое, што яны нам гэтак мала плоцяць, мы ня можам, бо яны нас папярэдзілі ½ году таму, што плаціць нам шмат ня могуць, бо самі ня маюць грошаў. Тады, зразумела, цікавілі нас усіх не фінансавыя справы — сп. Прэзыдэнт, як, напэўна, ведаеш, меў надзею дастаць пару капеек ад Інстытута*[149]*, ну й быў пэўны, што нашы людзі не падвядуць — галоўнае было тады здабыць радыёперадачы. Здабыць здабылі. Рэшта ведамая.*

*Былі мы разам у заступніка дырэктара й пыталіся, ці ёсьць нейкая надзея, каб нам падбавілі зарплату. Адказаў, што вельмі малая. У найлепшым выпадку мо' ўдасцца ўцягнуць у нашую радыёперадачу Івонку як трэцюю асобу. Прынамся Сурвіла будзе мець на $ 16 больш у месяц, што пакрые хаця карэспандэнцыю й транспарт.*

*Усё, што напісаў вышэй, — гэта пэсымістычны, дрэнны бок справы. Апісаў Табе ўсё, каб Ты арыентаваўся, як мы сапраўды тут мусім жыць, каб Ты мог заткаць глотку тым дурням, якія ўяўляюць сабе, што працаваць у радыё — гэта абівацца ў капальні золата. Гішпанія гэта не Амэрыка, не Англія, а Ішпанскае Нацыянальнае Радыё — крыніца даўгоў.*

*Як кажа народная прыказка: няма нічога дрэннага, каб на добрае ня выйшла. Гэтак і з нашымі тут радыёперадачамі. Калі матарыяльны бок прадстаўляецца амаль што жахліва, дык "духовы" — адваротна. Ня быў я ў Мюнхэне й ня ведаю дакладна, якія там абставіны да працы. З таго, што мне расказваў Сурвіла (ён, як веда-*

[147] Маецца на ўвазе прэзыдэнт БНР Мікола Абрамчык.

[148] Маецца на ўвазе Павал Урбан.

[149] Відаць, маецца на ўвазе Інстытут вывучэньня СССР у Мюнхене.

*еш, быў там у 1957 г.), дык там працуецца так, як гэта нармальна можна спадзявацца ад амэрыканцаў: кожная сэкцыя мае сваё бюро, свае машынкі, розныя палёгкі ў працы, як, напр., рэдакцыя весткаў, камэнтароў, бібліятэка і г. д., ну й зразумела... цэнзура.*

*У Гішпаніі справа прадстаўляецца вось як: у вадным вялікім пакоі стаіць з дваццаць сталоў, і на кожным стале машынка да пісаньня, нармальна старыя і разьляпаныя. Хто першы прыйдзе, той сядзіць дый яму выгадней і барабаніць. Нармальна ў салі сьпяваюць, гучыць трышчыць радыёвы апарат. Бязумоўна, у такіх абставінах працаваць немагчыма, і таму бальшыня працаўнікоў падрыхтоўвае ўсё дома. Летувісы й латышы, напрыклад, атрымоўваюць усё, акрамя вестак, звонку. Маюць свае цэнтры, дзе ім усё пішуць, яны-ж толькі робяць навіны дня і рэзумэ з артыкулаў. Мы-ж робім усё дома. Мусілі купіць машынку, бо іншага выхаду ня было. Купілі таксама радыёпрыёмнік, бо трэба-ж ведаць, што дзеіць у сьвеце, асабліва слухаць Масквы.*

*Работы шмат, бо мусіш усё рабіць сам. Нашыя праграмы нармальна складаюцца з 5–6 вестак, палітычнага камэнтару і артыкулу-гутаркі. Для вестак выдаецца невялічкі бюлетэнь, але каб падаць добрыя весткі, трэба чытаць шмат прэсы і слухаць радыё, каб ведаць дакладна, што дзеецца ў сьвеце. Камэнтар можа быць на любую тэму, і калі базуешся на гішпанскай прэсе, ня трэба даваць рэзумэяў. Адносна-ж артыкулаў нам сказалі, каб мы пісалі як найбольш на беларускія тэмы, а пісаць можна, што падабаецца. Каб ня кідалася ў вочы, што мы лупцуем па маскалёх, мы мусім вышукоўваць заўсёды нявінныя загалоўкі. У самым-жа зьмесьце — гавары што хочаш. Часам цяжэй ёсьць зрабіць рэзумэ, чым напісаць артыкул. Бо трэба так напісаць, каб і воўк быў сыты, і каза была цэлая. Цэнзуры тут практычна няма. Бо і якая-ж можа быць цэнзура, калі ты аддаеш тэкст пасьля таго, як ён ужо пайшоў у эфір! Адным словам, як я зазначыў раней, большай свабоды, як такая, што існуе тут адносна перадачаў, нідзе мы ня знойдзем. І вось таму якая вымоўная была Твая зацэнка! Чаму-ж ніхто свабоды не выкарыстоўвае!? Бязумоўна, мы маглі-б напісаць у “Бацькаўшчыну” й парушыць тую справу, але нам не выпадае з тактычнага пункту гледжаньня. Не забываймася, што “Бацькаўшчыну” чытаюць таксама маскалі на Захадзе, і калі-б яны пабачылі, што мы гаворым усё бязь ніякіх абмежаваньняў ды едзем па іх у нашых напрамках — яны пачалі-б рабіць розныя інтрыгі тут, у Мадрыдзе. Між іншым, мы не падаем сваіх матарыялаў у “Бацькаўшчыну” якраз дзеля гэтых прычынаў. Калі яны ня маюць нічога чорна на белым — ня могуць да нас прычапіцца. А так, дык мы сабе спакойна вядзём вайну супраць сапраўдных нашых ворагаў — расейцаў.*

*Дзесьці пад першыя ўгодкі нашых радыёперадачаў падамо ў “Бацькаўшчыну” хаця кароткую справаздачу з нашай аднагадовай працы. Але зазначу ўжо тут, што каля 95 % усіх нашых гутарак гэта або на чыста бел. тэмы, або антырасейскага характару.*

*Найгорш стаіць у нас справа з навінамі з жыцьця беларусаў у вольным сьвеце. Як сам ведаеш, апошнім часам наша эміграцыя “распакавалася” за мяжой і сталася малаактыўнай. Да гэтага часу мы падштукоўвалі тое-сёе, каб хаця раз у тыдзень (нармальна ў нядзелю) даць нешта з жыцьця беларускае эміграцыі. Але матар’ял вычэрпваецца, новага мала чаго робіцца, і паўстане праблема. (Мушу адзначыць, што пасьля Тваёй зацемкі мы ўжо атрымалі хроніку з Кліўленду (аб канцэрце.) Да гэтага-ж часу мусілі амаль усё браць з прэсы, якая, як ведаеш, прыходзіць з тыднёвым спазьненьнем, калі ня больш.) З артыкулаў за 11 месяцаў мы атрымалі ад а. Гарошкі на рэлігійныя тэмы каля 5, ад Надсона*[150] *(ён цяпер запэўніў нас, што будзе прысылаць рэлігійныя гутаркі кожную нядзелю) — 6, ад Цябе мелі матарыял аб паняволеных народах, і мелі артыкул і хроніку ад сп. Пануцэвіча і адзін раз весткі з Аўстраліі ад сп. Нікана*[151] *і 2 артыкулы ад сп. Шыманца*[152]*, успомненую хроніку з Кліўленду, і вось, здаецца, і ўсё! Гэта за 11 месяцаў. Гэтак выкарыстоўваюць добрую нагоду…*

*А з паняволенай Бацькаўшчыны нам пішуць: “ня прыймайцеся, братцы, што Вас глушаць. Мы вас чуем, а сам факт, што чуем, напаўняе нашы сэрцы радасьцяй і надзеяй…”.*

*Так, братка Янка, іх напаўняе радасьцяй і надзеяй, а нашых тараканаў, гора-патрыётаў — чыстай саладухай.*

*Але пра гэта вярнуся яшчэ іншым разам. І так расьпісаўся зашмат. Мушу неяк кончыць. Дадам адно, што існуе магчымасьць пашырыць нашую радыёперадачу з 15 хвілін да 20. Залежыць не ад нас, а ад нашых суродзічаў у вольным сьвеце. Да гэтага часу цягнулі ўдвох — 15 хвілін выцягнуць можа, але бяз вонкавае дапамогі 20 хвілін, здаецца, будзе немагчыма.*

*На заканчэньне прашу выбачыць за памылкі і нявыразнае пісаньне. Пасылаю Табе і жоначцы як найшчырэйшыя сяброўскія прывітаньні. Астаюся заўсёды шчыры Твой сябра Віця. Пішы!*

[150] Маецца на ўвазе а. Аляксандар Надсан.

[151] Мікола Нікан (1908–1999) жыў у той час у Мэльбурне.

[152] **Уладзімер Шыманец** (1911–1977), грамадзкі дзеяч, інжынэр, які ад 1948 г. жыў у Францыі. Цесьць Янкі Сурвілы.

*Пляя дэ Палс*[153]*,*
*22.IV.66*

*Дарагі й Паважаны Янка,*

*Мінула 15 месяцаў ад дня калі я атрымаў ад Цябе Твой мілы й сяброўскі ліст. На жаль, толькі сёньня дабраўся да таго, каб падзякаваць за яго ды напісаць пару сказаў. У першую чаргу вялікае дзякуй за інфармацыю й парады. Прашу адначасна выбачэньня за так доўгае маўчаньне. Я шмат думаў, перадумоўваў, наглядаў за паводзінамі "тутэйшых" амэрыканцаў і ўкраінцаў і пастанавіў адлажыць справу выезду ў ЗША на неакрэсьлены пэрыяд часу. Магчыма, будзе калісьці нейкая нагода?*

*Не дабраўся я таксама і да напісаньня пісьма да Вітаўта Кіпеля. Справа дактарату "застыла" пакуль што, бо прафэсар, які кіруе маёй тэзай, быў "завешаны" ў функцыях на два гады за ўдзел у студэнцкіх дэманстрацыях, якія мелі месца летась. Дзеля гэтае прычыны выкарыстоўваю час на іншыя справы, як пераклад кнігі а. Гэрмановіча "Кітай — Сібір — Масква" на гішпанскую мову*[154] *(ужо амаль закончаны), пісаньне час-ад-часу артыкулаў для Радыё*[155] *й падрыхтаваньне працы пра Беларусь у гішпанскай мове. Маскалі падрыхтоўваюцца да 50-годзьдзя савецкай улады, а мы павінны падрыхтавацца да 50-годзьдзя БНР. Дзеля гэтага я і пачаў працу над кнігай пра Беларусь па-гішпанску. Пры такім навале працы, які ў мяне існуе цяпер, я ня думаю, што пасьпею закончыць яе да канца мінулага*[156] *году, але пастараюся зрабіць як найбольш. Думаю, што зраблю карысную рэч, бо сам ведаеш, як адчуваецца недахоп кнігі пра Беларусь у заходніх мовах. А ў сувязі з гэтым і ў сувязі з падрыхтовай "Беларускага Гістарычнага Календара" для нашай сэкцыі Радыё Свабода (падобнага да Календара, які маюць украінцы), зьвяртаюся да Цябе з просьбай, ці Ты мог-бы пазычыць мне на некаторы час "Гісторыю Беларусі" Найдзюка*[157]*? Яна мне проста неабходная. Ведаю, што яна Табе патрэбная таксама, але, магчыма, Ты маеш кагосьці там, хто ў выпадку патрэбы пазычыць. У мяне-ж тут няма ніякіх магчымасьцяў, бо знаходжуся як-бы на пустыні. Я маю*

---

153 **Пляя дэ Палс** (анг. *Playa de Pals*) — невялікае пляжнае мястэчка на курорце Коста Брава ў правінцыі Жырона ў Каталоніі.

154 Маецца на ўвазе кніга: Гэрмановіч, Язэп. Кітай — Сібір — Масква (Успаміны). Мюнхэн, 1962. — 292 с. Гішпанскі пераклад успамінаў ня быў выдадзены.

155 У гэты час Віктар Сянкевіч ужо працаваў на Радыё "Свабода".

156 Так у тэксьце. Відавочна, аўтар меўся напісаць: наступнага.

157 Маецца на ўвазе праца Язэпа Найдзюка "Беларусь учора і сяньня", якая выходзіла ў 1940 г. у Вільні і ў 1944 г. у Менску.

*перапісаныя некаторыя разьдзелы гэтай кніжкі, але гэтага мала. Я Табе яе зьвярну тады, калі скажаш. Бязь яе-ж — я як бяз рук. Будзь ласкаў, Янка, напішы, ці зможаш пазычыць.*

*Маю і іншыя справы, якія хацеў-бы абгаварыць, але гэта наступным разам і надзеюся, што хутка. Як-жа пажываеце Вы? Як там Твой дактарат? Напэўна, ужо канчаеш? У мяне, у прыватным жыцьці, усё ў парадку. Надзеюся, што ўдасца падскочыць на тыдзень або на два ў Мюнхэн. Стараемся. Я — тут у Палсе, а Валодзя — там у Мюнхэне, але пакуль што нічога ня выходзіць. У ліпені еду ў Англію, каб прадоўжыць Травэл Докумэнт. Хачу выкарыстаць нагоду, каб парыцца ў бібліятэках Лёндану й Оксфарду. Пабачым. А пакуль што — на гэтым канчаю. Перасылаю Табе, Тваёй сямейцы і ўсім сябром і знаёмым мае найшчырэйшыя прывітаньні й пажаданьні. Будзь ласкаў, скажы Вітаўту, што напішу да яго на днях. Шчырыя прывітаньні таксама сп. Адамовічу.*

*Дык пакуль што.*

*Твой шчыры Віктар.*

*Паламос*[158]*,*
*25.V.1967*

*Дарагі й Паважаны Янка,*

*Хоць з 4-месячным спазьненьнем — шчырае Табе дзякуй за пісьмо, адрасы і матар'ял для Каляндара. Стараюся выкарыстаць усё, што магу, але сам ведаеш — чалавек усёткі адзін. Пару важных датаў прапусьціў, перадамо ў наступным годзе. Галоўнае гэта тое, што кожны дзень штосьці ідзе ў эфір. І гэта нягледзячы на цяжкую сякеру цэнзараў. Паводле Валодзі і Юркі*[159] *— змаганьне ідзе амаль што кожны дзень. Амэрыканцы хацелі-б, каб я пісаў, як яны кажуць, больш на савецкія тэмы, а я пішу больш пра нашыя беларускія , пра якія маўчаць у БССР. Асабліва не падабаецца ім (амэрыканцам), што шмат матарыялу ідзе пра Вялікае Княства Літоўскае й пра беларускую культуру наагул. Безумоўна, асабліва калі возьмеш на ўвагу той факт, што цэнзарамі ў Мюнхэне зьяўляюцца ўкраінцы з амэрыканскімі пашпартамі (Гэрус, Дзякоўскі). А становішча ўкраінскіх шавіністаў да нашае гісторыі сам добра ведаеш.*

*Магчыма, гэты апошні факт, а таксама й тое, што мяне залічылі да стопрацантовага "Абрамчык-boy", гэта значыць, што я належу да групы, як яны таксама сьцьвярджаюць, супер-нацыяналістых, і таму ня хочуць мяне ў Мюнхэне, і спрычынілася да*

[158] **Паламас** (гішп. *Palamós)* — муніцыпалітэт у правінцыі Жырона Каталёніі.

[159] Маюцца на ўвазе Ўладзімер Цьвірка й Юрка Сяньковскі.

*таго, што я ўсёткі пастанавіў старацца атрымаць амэрыканскае грамадзянства. Асабліва што тутэйшыя амэрыканцы самі мне гавораць, што ўжо пара стацца амэрыканцам, і абяцаюць мне ўсялякую падтрымку. Я быў ужо ў Консуляце ў Барселоне. Мне сказалі, што вельмі шмат залежыць ад беларусаў у Нью Ёрку, значыць, ад вас. Вось таму я й зьвяртаюся да Цябе, Янка, і да спадароў А. Адамовіча й Ст. Станкевіча з просьбай, каб вы разгледзілі ўсе магчымасьці, якія існуюць, каб я змог прыехаць да вас на некалькі месяцаў. Калі раней я Табе пісаў, што трэба быць у ЗША 6 месяцаў, каб пачаць рабіць амэрыканскі пашпарт, дык пасьля размоваў з тутэйшымі амэрыканцамі я думаю, што хопіць і двух. Гэта таму, што я, вярнуўшыся назад у Гішпанію, працаваў-бы надалей у Радыя Свабода. А кожны дзень працы ў амэрыканскай фірме, хаця яна й за граніцай, а асабліва Радыя Свабода, якая належыць да State Department, лічыцца таксама, як калі-б я працаваў у ЗША. Памятаю, Ты пісаў мне, што найлепш працаваць было-б у Мюнхэну, бо там якраз патрэбны чалавек. Але, як я ўжо падкрэсьліў, яны мяне туды ня хочуць (амэрыканскія ўкраінцы), бо разам зь Цьвіркам і Сенькоўскім мы-б стварылі такое ядро, што ім цяжка было-б змагацца з намі. А ім залежыць на тым, каб беларускія праграмы былі слабымі. (Съцьверджаньні гэтыя базую на гутарках з нашымі ў Мюнхэне, на собскіх назіраньнях і на гутарках з Гэрусам і Дзякоўскім.) Дзеля гэтага найлепшым выхадам было-б зрабіць штосьці ў Нью Ёрку. Ты пісаў, што цяжка будзе ўгаварыць дырэкцыю. Я думаю, што ў сувязі з 50-годзьдзем Кастрычніцкай рэвалюцыі можна было-б штосьці выдумаць. Скажам, нейкую адмысловую сэрыю праграмаў пра Беларусь і бальшавізм ці нешта падобнае? За апошнія 6–7 год працы з амэрыканцамі я пераканаўся, што зь імі ўсё можна зрабіць. Галоўнае — гэта ўмець прадставіць справу. Яны робяць розныя эканоміі, тое ды другое, а пасьля, супраць усякае лёгікі, выдаюць на штосьці нават малаважнае і другараднае вялізарныя сумы.*

*Як Ты сам бачыў, напэўна, апошнім часам амэрыканцы пачалі "какетнічаць" з расейцамі, і гэта вельмі адбівалася і на іхнай палітыцы ў Радыя Свабода. Але цяпер яны самі бачаць, што гэта дарэмна, што маскалі маскалямі астануцца, і што яны надалей працягваюць тую самую палітыку, толькі ў іншай форме. Крызіс на Сярэднім Усходзе іх толькі больш ацьвярозіць. Пішу гэта таму, што апошнія падзеі могуць уплысьці пазытыўна й на палітыку Радыя Свабода, якая апошне перадавала праграмы, браныя з праграмаў маскоўскага радыя. Скажаш, што я перавялічваю. Мо' і праўда, але гэта ўсё было відаць з праграмаў, асабліва тых, што робяцца ў Мюнхэне.*

*Цяпер канкрэтна буду прасіць Цябе, Янка, наступнае: у вас там ёсьць свой адвакат, які дакладна арыентуецца ў справах іміграцыі. Ня ведаю, хто ён, але тутэйшыя амэрыканцы парадзілі мне якраз гэта: зьвярнуцца да яго, каб ён даведаўся, колькі месяцаў трэба працаваць (падкрэсьліваю: працаваць, а ня быць турыстам), каб магчы пачаць выраблядь амэрыканскі пашпарт.*

*Што там новага ў Цябе, у Вас? Як справа дактарату? Дарагі Янка, на гэтым кончу. Перасылаю Табе, Тваёй сям'і і ўсім нашым мае найлепшыя прывітаньні й пажаданьні. Пішы!*

*Твой шчыры Віктар.*

*Пляя дэ Пальс,*
*19.X.70*

*Дарагі й паважаны Янка,*

*Выкарыстоўваю вольную ад працы хвілінку, каб напісаць Табе гэтае пісьмо. Насамперш шчырае Табе дзякуй за ўсе лісты, інфармацыю, ну і бязумоўна асабліва за "Кароткую гісторыю" Власта*[160]*. Не адказваў Табе раней, бо й Ты быў пэўны час у адпачынку, і я ў раз'ездах (спачатку быў у Лёндане, дзе мусіў прадоўжыць "Травэл Докюмэнт", потым у адпачынку ў Гішпаніі).*

*Цяпер пастараюся адказаць на некаторыя пытаньні, парушаныя ў Тваёй карэспандэнцыі.*

*Справа Радыя Свабоды. Калі амэрыканцы будавалі тут радыястанцыю, яны ўжо разьлічвалі, што ў пэўным мамэнце яна можа служыць ня толькі як "рэлей стэйшн"*[161]*, але й сапраўднай радыястанцыяй. Праўда, на праграмную сэкцыю тут адвялі вельмі мала месца, але ў выпадку "эмэрджэнсы"*[162] *адсюль можна перадаваць, што мы часамі й робім, хаця й рэдка. Ёсьць тут, аднак, адна "загвастка": кантракт быў падпісаны 12 год таму, і ён канчаецца ў сакавіку налета. Здаецца, што вядуцца перамовы, каб яго зноў прадоўжыць, але да гэтага часу нічога ніхто ня ведае. Відаць, гішпанцы хочуць шмат грошай, ну а амэрыканцы ня лёгка хочаць на гэта згадзіцца. Прычым, апошнім часам гішпанскі ўрад пачаў залятацца каля Масквы, штосьці падобнае на палітыку Брандта. Ці з гэтага штосьці выйдзе ці не, невядома. На маю думку, яны кантракт прадоўжаць, бо ім цікавей мець даляры, чымся прадаваць памаранчы Савецкаму Саюзу. Зь неафіцыяльных тутэйшых кругоў*

[160] Маецца на ўвазе кніга: W. Łast. Karotkaja historyja Biełarusi: z 40 rysunkami. Wilnia: Drukarnia Marcina Kuchty, 1910. — 104 s.

[161] ***Relay station*** (анг.) — рэтрансьлятар.

[162] ***Emergency*** (анг.) — непрадбачаны выпадак, аварыя.

*я ведаю, што існуюць канкрэтныя пляны, каб нашу радыястанцыю пашырыць (маюць збудаваць больш антэнаў і г. п.). Але чакаюць, пакуль не падпішацца кантракт.*

*Погаласкі пра переезд мюнхэнцаў да нас існуюць і тутака. Крыніца іх — паведамленьні нямецкай і іншай прэсы. Паводля "Дэйлі Тэлеграф" да 1975 году не застанецца ў Нямеччыне ні аднэй чужацкай радыястанцыі. Вестка гэтая мае пачатак у найбліжэйшых супрацоўнікаў самога Брандта. Але ўсё гэта будзе залежаць ад будучых падзеяў. Нават калі-б Брандту і ўдалося праціснуць сваю праграму праз Будэнстаг, цяжка яму будзе праводзіць палітыку ў жыцьцё. Але скажам, што ўсё будзе ісьці гэтак, як пляную Брандт і ягоныя прыхільнікі. У такім выпадку тэхнічная частка радыястанцыі пераключыцца адразу на Гішпанію, а праграмовая пакуль што астанецца ў Мюнхэне. Прынамся на пару год, пакуль ня ўладзіцца ўсё тут на месцы.*

*Галоўнае, аднак, ува ўсім гэтым гэта наша, беларуская справа. У выпадку чагосьці яны (амэрыканцы) разьлічваюць на мяне. Нашы-ж мюнхэнцы, напэўна, пераехалі-б сюды, так што праблемы ня было-б. Ня ведаю толькі, змог-бы я працаваць з такімі людзьмі, як Гэрус. Зашмат ён нашкодзіў, зашмат "насьвініў", як кажуць, каб зь ім супрацоўнічаць.*

*Гэтулькі пра Радыя Свабода. Цяпер пра Голас Амэрыкі. Бачу, што вы там здорава націскаеце, дзе можаце, і добра робіце. Сьмешна-ж гучыць адказ дырэкцыі, што мы можам мець сваю сэкцыю, але самі павінны аплочваць яе. Сьмешна, і сорамна для тых, хто дае такі адказ. У часе майго побыту ў Лёндане я гаварыў на гэту тэму з нашымі хлапцамі. Сп. Асіповіч*[163] *засугэраваў нават такую думку: каб міжнародны камітэт уцекачоў напісаў у Голас Амэрыкі таксама пісьмо. Камітэт гэты цешыцца ў Ангельшчыне вялікім аўтарытэтам, і, магчыма, таксама ўплылі-б на кіраўнікоў ГА. Што Ты на гэта? (Старшыня Камітэту, здаецца, ёсьць чэх або вугорац і вельмі прыхільны да беларусаў.)*

*Цяпер пра часопіс. Бачу, што на 9-ай сустрэчы*[164] *справа гэта абгаварвалася, і што др. Я. Станкевіч*[165] *запрапанаваў выдаваць гістарычна-моўны часапіс. Заклікае да супрацоўніцтва. З другога*

[163] **Павал Асіповіч** (1923–1997), грамадзкі дзеяч. Жыў у Лёндане, быў доўгагадовым скарбнікам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, беларускім прадстаўніком пры Эўрапейскай групе сувязі.

[164] Маецца на ўвазе XI Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі, што адбылася ў Нью-Ёрку 5–7 верасьня 1970 г.

[165] **Янка Станкевіч** (1891–1976), грамадзкі дзеяч, мовазнавец, журналіст. Стваральнік Крывіцкага навуковага таварыства імя Пранціша Скарыны і колішні выдавец часопіса "Веда". На той час жыў у Нью-Джэрзі.

*боку, пішаш пра прапанову Міхася Белямука*[166]*. Думка, бязумоўна, добрая, адно трэба зьдзейсьніць яе! На маю думку (пра гэта я ў свой час гаварыў з Паўлюком*[167] *і іншымі), трэба было-б пачаць з аб'яднаньня ўсіх беларускіх гісторыкаў на чужыне. Маючы сваю арганізацыю, мы маглі-б мець свой орган — часопіс. Для нашых на Бацькаўшчыне — гэта была-б вялікая падтрымка і памагло-б ім змагацца за свае правы й за часопіс. Што тычыцца зьместу часопіса, дык яго трэба пашырыць так, каб ён не абмяжоўваўся адно да перадрукаў, хаця яны й вельмі вартасныя. Усё, што мы пішам на Захадзе — яны правяраюць, за ўсім сочаць, на ўсё рэагуюць. Хачу сказаць гэтым, што мы мусім адначасна прапагаваць і нашыя ідэі, гіпатэзы, думкі. (На ўсе парушаныя мною тут і не парушаныя тэмы я яшчэ буду Табе пісаць пасьля таго, як я іх перадумаю, прастудыюю.)*

*Замала было часу і зашмат мы былі ўзрушаныя й стомленыя пасьля паховінаў сьв. памяці сп. Прэзыдэнта Абрамчыка*[168]*, каб абгаварыць усе тэмы. Гэта шкада. Таму цяпер прыдзецца ўсё разгледжваць у пісьмах. А пра шмат што ёсьць гаварыць. Як толькі падбяруся з справамі, маю намер напісаць пісьмо ў рэдакцыю "Беларуса" (ці артыкул) у справе такіх важных пытаньняў, як Беларуская Энцыкляпэдыя, Беларускі Нацыянальны Каляндар і г. п. Што да першай, дык, на маю думку, мы на эміграцыі зрабілі-б найбольшую ўслугу Беларусі, калі-б маглі выдаць у ангельскай мове Беларускую Энцыкляпэдыю ў адным томе, але беларускую, нацыянальную. Я асабіста ўжо ад некалькіх гадоў працую ў гэтым напрамку, маю вялізарную картатэку, якая цяпер папаўняецца матэрыяламі з БСЭ. Гаварыў на гэту тэму зь сьв. пам. сп. Абрамчыкам, і ён сказаў мне вось так: "Калі-б мы толькі змаглі зрабіць гэта, дык апраўдалі-б палову прычынаў нашага побыту ў эміграцыі". Гаварыў я на гэту тэму і з сп. Пікарда*[169]*. Ён таксама падтрымаў мяне, адно зазначыў, што гэта вельмі многа працы, і ці мы знайшлі-б сілы на гэта? Думаю, што хацець — гэта магчы.*

*А што тычыцца Беларускага Нацыянальнага Каляндара, дык пасьля таго, як мы пачалі перадаваць па Радыё — была вялікая*

---

[166] **Міхась Белямук** (1924–2014), грамадзкі дзеяч, выдавец, гісторык, адзін з арганізатараў беларускага жыцьця ў Кліўлэндзе.

[167] Маецца на ўвазе Паўлюк Урбан.

[168] Прэзыдэнт БНР Мікола Абрамчык памёр у Парыжы 29 траўня 1970 г. Паховіны адбыліся 4 чэрвеня 1970 г.

[169] **Гай Пікарда** (анг. *Guy Reginald Pierre Picarda*, 1931–2007), брытанскі беларусіст, юрыст, дасьледнік беларускай музыкі, кнігадрукаваньня, гісторыі беларускай прысутнасьці ў Вялікабрытаніі й інш., сябра Англа-беларускага таварыства.

*рэакцыя на яго (маю адзначаных каля пару дзясяткаў пісьмаў у рэдакцыі савецкіх газэтаў або зацемак, дзе дамагаюцца свайго нацыянальнага каляндара (апошняе пісьмо ў рэдакцыю ЛіМ'а найлепшы й найбольш яркі довад гэтага)). Шкада толькі, што такія прыблуды й сволачы, як "херусы", спынілі яго на восьмым месяцы! Я маю напісаных ужо каля 638 артыкулаў-зацемак Каляндара і працягваю працаваць над ім. Варта было-б дакончыць і выдаць!*

*У Нр. 159 "Беларуса" гаворыцца, што можна лёгка атрымаць мікрафільмы беларускіх выданьняў*[170]*. Хацеў-бы мець некаторыя зь іх і пастараюся напісаць да іх, каб прыслалі. Адно ня ведаю, як сплочваць?*

*На гэтым кончу і надзеюся, што хутка напішу зноў. Шчырыя сяброўскія прывітаньні Табе й Тваёй сямейцы.*

*Твой Віктар.*

170 *«Асацыяцыя амэрыканскіх кнігагандляроў паведамляе: неўзабаве зьявяцца на кніжным рынку мікрафільмы беларускіх часапісаў "Полымя" й "Наш Край"»* (Што чуваць?) // Беларус. № 162. Кастрычнік 1970. С. 6.

***Эміль Цяўлоўскі***

# БЕЛАРУСКАЯ АРГЕНТЫНА Ў ЛІСТАХ І ДОПІСАХ

*Жыцьцё беларусаў у Аргентыне сёньня ведамае даволі аднабакова. Ёсьць працы гісторыка Сяргея Шабельцава, прысьвечаныя прасавецкім арганізацыям і рээмігрантам, разам з тым нельга забывацца на ўспаміны Кастуся Мерляка, дзе пэўная частка прысьвечаная аргентынскаму пэрыяду ягонай дзейнасьці. Аднак цэласнай карціны беларускай прысутнасьці ў гэтай паўднёваамэрыканскай краіне няма. І тым каштоўнейшымі выглядаюць лісты аргентынскага беларуса Эміля Цяўлоўскага, што ў 1960–1980-я гг. пісаў адмысловыя зацемкі зь беларускага жыцьця ў Аргентыне для Беларускай рэдакцыі Радыё "Свабода" або газэты "Беларус".*

*Складаньне біяграфіі ды бібліяграфіі Эміля Цяўлоўскага — справа будучыні. Для нас найбольш важна сёньня, што ён працаваў у Каталіцкім унівэрсытэце ў Буэнас-Айрэсе і меў шчыльныя кантакты зь беларусамі як у Аргентыне, гэтак і ў іншых краінах. Менавіта дзякуючы апошнім мы й ведаем пра гэтага дзеяча. У архіве Янкі Запрудніка ў Беларускім дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва захаваліся лісты і тыя самыя допісы Эміля Цяўлоўскага. Разам гэта больш за сотню дакумэнтаў, сярод якіх аўтографы, машынапісы, фотаздымкі, выразкі з газэтаў. Усё гэта можа стаць асновай адмысловага тому, прысьвечанага жыцьцю беларусаў у Аргентыне. Тут жа мы публікуем толькі невялікую частку ліставаньня і тэкстаў, што адлюстроўваюць малавядомыя бакі жыцьця нашых суродзічаў.*

4.11.1963

Паважаны Пане Рэдактар,

Шчыра дзякую Вам за ліст з 23.10.63 і адначасна ветліва паведамляю, што ахвотна мог-бы сыстэматычна пасылаць у радыё "Свабода" артыкулы, рэпартажы і бягучую хроніку з жыцьця Беларусаў у Аргэнтыне і крыху з Парагваю, Уругваю і Бразыліі. Апрацаваньні надсылаўбы паводле наступнага пляну:

1. Хроніка з жыцьця:

— славянскага факультэту на каталіцкім унівэрсытэце, гдзе, між іншым, вывучаюцца прадметы, адносныя Беларусі.

— духоўных улад, асабліва Ўладыкі А. Мартоса[1].

— *Liberacion Europea* — міжнароднае антыкамуністычнае арганізацыі, у якой удзельнічаюць Беларусы.

— *FEDECE* — міжнародная арганізацыя студэнтаў з-за жалезнай заслоны.

2. Пераказ з жыцьця шэрага беларускага эмігранта на фоне аргэнтынскіх абычаяў, як, прыкладам: *I gringo, mata, asado, changa* і т. п.

3. Рэпартажы, хто і як загаспадарыўся, падаючы іх фактычныя прозьвішчы і места прабываньня.

4. Крыху вестак з Парагваю, Уругваю і Бразыліі.

У меру патрэбы можна было-б пашырыць супрацоўніцтва ў напрамку:

— літаратурным;

— магнітафоннае запісі і

— фатаграфічна-фільмовых здымак.

*"Glos Polski"*, прысьвечаны Беларусі, на жаль, ня выйшаў з прычыны недахопу аснаўных матэрыялаў і грошай. Таксама не паказаўся праектаваны нумар украінскі. Выйшаў толькі літоўскі. На будучыню нельга праракаваць.

Яшчэ дадаткова падам некалькі паясьненьняў:

a. Адносна славянскага факультэту. Маю там доступ, бо зьяўляюся ініцыятарам і арганізатарам гэтай установы, спаўняючы часам абавязкі асыстэнта.

b. Уладыка А. Мартос, здаецца, ёсьць Беларусам, маю зь ім спаткацца, бо запрашаў мяне, і маем пагутарыць на розныя тэмы.

c. *Liberacion Europea* — год таму назад была актыўнай антыкамуністычнай арганізацыяй. Выступае ў радыё аргэнтынскім. Ужо шукаў некалькі разоў беларускага або ўкраінскага прадстаўніка, але, на жаль, ня мог нігдзе напаткаць. Штось актыўнасьць іх заціхла.

d. *FEDECE* — да гэтай пары ня мае прадстаўніка беларускага, але ёсьць надзея.

e. Калі будуць студэнты на славянскім факультэце беларускага паходжаньня, то ёсьць магчымасьць рэалізацыі беларускага сэмінару або лектарату мовы.

f. Адносна эміграцыйнае прэсы, то тут існуе між рэдактарамі вусная ўмова салідарнага супрацоўніцтва. Камуністыя шкодзяць усім аднолькава, і дзеля гэтага ўсе "суседзкія спрэчкі" даўно пакінулі, абыходзячы навокал дражлівыя тэмы.

g. Эміграцыя ў Аргэнтыне ня можа быць ідэальнаю з розных прычын, але наагул лепш прымаецца, чымся спатыкаецца ў іншых

[1] Маецца на ўвазе **Апанас** (Мартас, 1904–1984), япіскап (пазьней архіяпіскап) Буэнас-Айрэскі й Аргентынска-Парагвайскі, які жыў у Аргентыне ад сярэдзіны 1950-х гг.

краёх. Псыхалёгічнае зьявішча істнуе дзеля таго, што кожны чалавек з Эўропы лічыцца чымся лепшым, як местны *criollo* ці *gaucho*, ня ёсьць паніжаны. Ёсьць у поўным паняцьці *senor*!

h. Чаму да гэтае пары няма эфэктыўнае беларускае арганізацыі? З простых прычын.

— разьбіваюць камуністыя, каторых ёсьць шмат, і заўсёды ўлезуць у арганізацыю, каб пасьля зрабіць дывэрсыйную работу.

— асыміляцыя й далейшая эміграцыя, пераважна ў Злучаныя Штаты і ў цяперашнюю Польшчу.

На гэтым сягоньня закончу, пасылаючы пажаданьні ўсяго найлепшага.

З глыбокай пашанай, Цяўлоўскі.

P. S. Пры гэтым залучаю хроніку з факультэту славянскага. У хуткім часе дашлю артыкул на іншую тэму.

*[Да ліста дадаваўся тэкст з хронікай, пры канцы якой былі пазначаныя Янкам Запруднікам пытанні пра тое, што гэта за факультэт, колькі студэнтаў і г. д. У выніку праз некалькі месяцаў Эміль Цяўлоўскі даслаў больш шырокі тэкст, які тут і падаем.]*

### Аддзел Славянскіх і Саветалёгічных Навук

Ужо другі год існуя аддзел славянскіх і саветалёгічных навук на каталіцкім універсітэце ў Б[уэнас] Ай[рэсе] (*Universidad Catolica Argentina*). На кожным курсе (годзе) ёсьць 6 абавязковых прадметаў, а ў меру разьвіцьця й патрэбы — некалькі факультатыўных.

Да абавязковых прадметаў на першым годзе належаць:

1) Геаграфія і разьвіцьцё Славян — выкладае Мгр. В. Тачылоўскі (паляк);

2) Гісторыя палітычных арганізацый Заходніх Славян — В. Тачылоўскі;

3) Гісторыя палітычных арганізацый Усходняй Эўропы — Др. Т. Галайчук[2] (украінец);

4) Гісторыя славянскіх літаратур — В. Тачылоўскі;

5) Гісторыя славянскіх культур — В. Тачылоўскі;

6) Праўна-палітычная структура Савецкага блёку — Др. Т. Галайчук.

---

[2] Маецца на ўвазе **Багдан-Тадэй Галайчук** (укр. *Богдан-Тадей Галайчук*, 1911–1974), украінскі праўнік, палітоляг, публіцыст, аўтар прац па гісторыі міжнароднага права і дыпляматыі. Ад 1949 г. жыў у Буэнас-Айрэсе, выкладаў міжнароднае права ва ўнівэрсытэтах Сальвадору, Пэру, Вэнэсуэлы, Экватору, быў кіраўніком філіялу Украінскага каталіцкага ўнівэрсытэту ў Буэнас-Айрэсе.

На другім годзе:

1) Савецкая дактрына міжнароднага права і яго застасаванне — Др. Т. Галайчук;

2) Параўнаньне права славянскіх народаў (дзяржаў) і іх суседзяў — В. Тачылоўскі;

3) дактрына Маркса й Леніна: канфрантацыя й крытыка — Др. Ц. Бэляундэ (ангентынец);

4) Параўнаньне гісторыі літаратур Балканскіх славян — Др. (акадэмік) Т. Дэбэльяк[3] (славэнец);

5) Эканамічная структура Савецкага Блёку — Ліц. М. Васілік[4] (украінец);

6) Стараславянская мова — Ліц. І. Качуроўскі[5] (украінец)

У пляне маем зарганізаваць: гісторыю літаратуры расейскае, беларускае і чэскае, гісторыю мастацтва славянскіх народаў, а ў меру патрэбы лектараты моваў.

Усе выклады адбываюцца ў гішпанскай мове. Экзаміны складаюцца перад унівэрсытэцкай камісіяй (2 прафэсары з саветалёгіі і адзін дэлегаваны праз унівэрсытэт) на пачатку і ў канцы акадэмічнага году. Запісаных студэнтаў маем на 1 годзе — 24 і на 2 годзе — 22, нацыянальнасьці: славэнскае (Югаславяне), польскае, украінскае, аргэнтынскае і чэскае. З Беларусаў у гэтым годзе ня было, аднак ёсьць надзея на абсальвэнтаў сярэдніх школ. У справе беларускае літаратуры пытаюцца некаторыя студэнты, не беларускае нацыянальнасьці, аднак яшчэ мала кандыдатаў (3–5), каб распачаць выклады.

З боку саставу дацэнтаў ёсьць паважная ахвярнасьць, бо 5 з іх вядуць выклады бязплатна, а толькі 2 аплачваем за гадзіны лекцыяў (750 пэсаў арг. за гадзіну). На далейшую мэту ўнівэрсытэт аднакжа не згаджаецца, каб дацэнты працавалі безплатна. Унівэрсытэт можа аплачваць іх, але ў гэтым выпадку — студэнты мусялі-б плаціць месячна вельмі высокія аплаты каля 3. 000 пэсаў, як на іншых факультэтах. Такая сытуацыя пазбавіла-б эмігрантаў магчымасьці студыяў, бо пераважна ўсе працуюць на сябе. Лепшае развязаньне было-б аплачваць

---

[3] Маецца на ўвазе **Цінэ Дэбэльяк** (славенск. *Tine Debeljak*, 1903–1989), славенскі літаратуразнаўца, крытык, публіцыст, перакладчык, рэдактар. Ад 1948 г. жыў у Аргентыне.

[4] **Міхайла Васылік** (укр. *Михайло Василик,* нар. 1928), украінскі эканаміст, гісторык, сацыёляг. Скончыў Аргентынскі каталіцкі ўнівэрсытэт, ад 1978 г. — доктар эканамічных навук. Быў кіраўніком аргентынскай філіі Ўкраінскага каталіцкага ўнівэрсытэту. Аўтар прац па гісторыі ўкраінцаў у Аргентыне.

[5] **Ігар Качуроўскі** (укр. *Ігор Качуровський*, 1918–2013), украінскі паэт, перакладчык, празаік, літаратуразнаўца, пэдагог, радыёжурналіст. У 1948–1969 гг. жыў у Аргентыне, рэдагаваў часопіс “Пороги”, выкладаў у каталіцкім унівэрсытэце ў Буэнас-Айрэсе.

дацэнтаў з пабочных фондаў (сацыяльных, стыпэндыяльных і т. п.). У першым годзе памагала нам *Paderewski Foundation Inc.*[6].

Агулам кажучы — гэта ёсьць першая вышэйшая навучальная ўстанова ў Лацінскай Амэрыцы, гдзе ёсьць найбольшае згушчэньне, бо Буэнос Айрэс са сваёй правінцыяй мае каля 7 мільёнаў людзей і тут-жа ёсьць найбольшае згуртаваньне эміграцыі з Эўропы. Асабліва прыбыла шмат эмігрантаў пасьля 2 сусьветнай вайны. Дзеля гэтага Аргэнтына ня сталася камуністычнай — як Куба.

На асаблівую ўвагу заслугоўвае факт, што справы беларускія шырока вывучаюцца бяз спэцыяльных тэндэнцыяў. І так, калі возьмем павярхоўна прадметы па парадку:

Ад 1. (геаграфія і разьв. сл.) апісваецца палажэньне Беларусі між іншых славян, гаспадарчае разьвіцьцё, дэмаграфія і пад.

Ад 2. Кладзецца націск на часы Літоўска-беларускага гаспадарства, яго прагрэсыўнае дэмакратычнае думкі (Полацк!), дабравольнае, арганічнае злучэньне народаў (бяз падбояў), гдзе культура, законы (Літ. Статут) былі прыкладам для іншых народаў.

Ад 3. Адносіны Б. да Маскоўшчыны. Гравітацыя на Захад.

Ад 4. Заслугі Ф. Скарыны, першадрукара, Сымона Буднага з літаратуры часоў Рэфармацыі. Сымон Полацкі — настаўнік князя маскоўскага[7]. А. Філіповіч — як прыклад савецка-расейскае фантазіі

Ад 5. Міталёгія, абрады, архэолёгія з часоў Крывічан і Дрыгавічан, Хрысьціянства, Вунія.

Ад 6. Сучасны стан Беларусі і Украіны, дзьвёх рэспублік *de jure* і савецкіх калёній — *de facto*. Разгледжваецца дуалізм савецкага права (Окіншэвіч[8]), якоя дзеліцца на права пісанае, г. зн. Канстытуцыя падпарадкаваная статуту партыі з аднаго боку і права ня пісанае, звычаёвае з другога боку. Даюцца шматлікія прыклады, гдзе нормы права звычаёвага больш рэспэктаваныя, чым нормы пісаныя.

Прадметы 2 году:

Ад. 1. Асаблівае паняцце сацыялістычнае салідарнасьці, ігнарацыя правоў іншых дзяржаў. Інтэрвэнцыя ў чужыя ўнутраныя справы.

[6] Магчыма, маецца на ўвазе **Фундацыя Ігнацыя Яна Падэрэўскага** (1860–1941; *Paderewski Foundation Inc.*), заснаваная польскімі эмігрантамі ў ЗША ў 1948 г. для пашырэння польскай культуры.

[7] Маецца на ўвазе **Афанасій Філіповіч**, або **Апанас Берасьцейскі** (каля 1595–1648), пісьменьнік-публіцыст, палітычны і царкоўны дзеяч, кананізаваны Расейскай праваслаўнай царквой.

[8] Маецца на ўвазе **Леў Акіншэвіч** (1898–1980), гісторык, публіцыст, крытык, які займаўся вывучэньнем і выкладаньнем гісторыі ўкраінскага права, праблемаў нацыянальных меншасьцяў, савецкай юрыдычнай сыстэмы, гісторыі Беларусі й Украіны XVI—XVII стст. У 1951–1954 гг. выкладаў у Калюмбійскім унівэрсытэце ў ЗША. Пазьней працаваў у Цэнтры вывучэньня СССР у Вашынгтоне, у 1954–1969 гг. — у бібліятэцы Кангрэсу ЗША.

БССР для пазысканьня голасу ў абрадах З. Н.[9] на карысьць СССР, ня маюць абсалютна сваёй аўтаноміі.

Ад. 2. Ня толькі параўнаньня і аналіза юрыдычных актаў, але такжа культуры, звычаяў, гэопалітычнае паложаньне, што мае адбітак на нормах права звычаёвага, а пасьля права пісанага.

Ад. 3. Дактрына Маркса й Леніна, як чужы вымысел, накінуты сілаю некатарым народам. Добрыя й благія аспэкты гэтае дактрыны.

Ад. 4. Лучнасьць царкоўна-славянскае літэратуры.

Ад. 5. Беларусь як правінцыя Сав. Саюзу выконвае пляны, накінутыя з Масквы, ня маючы ніякай эканамічнай незалежнасьці. Індустрыя, комэкон[10] інш.

Ад. 6. Паложаньне і разьвіцьцё славянскіх моваў.

У прадметах факультатыўных, як гісторыя польскае літаратуры, успамінае пра пісьменьнікаў супольных, каторыя пісалі па-польскі і па-беларускі (як С. Будны). Матывы літоўска-беларускія ў польскіх пісьменьнікаў.

Гісторыя ўкраінскае літэратуры: слова а полку Ігорове і творы Кірылы Тураўскага.

Агулам кажучы — няма ні аднаго прадмету, каб не зачапіў за справы беларускія.

У праграме з літэратур перарабляецца сярэднявечча, калі будзе трэці год студыяў, прадбачваецца закончыць на сучаснасьці.

Аднак-жа арганізаваць славянскі аддзел ёсьць цяжка, бо няма ў гішпанскай мове падручнікаў. А што адносіцца спраў беларускіх — то яшчэ горш, бо утрудняе нястача матэр'ялаў у арыгінальнае мове. Аднак-жа маі прыяцелі падкінулі на пачатак кніжак і часапісаў (а. Гарошка[11] і інж. Ул. Шыманец[12]).

Выклады адбываюцца 2 разы ў нядзелю па 4 гадзіны мінімум, а апроч таго дадатковыя прадметы і лекцыі даходзяць у іншым парадку. Курс 1-га году месьціцца пры вуліцы *Arenales No 1877. Buenos Aires*, і тут-жа пад гэтым нумарам ёсьць сэкрэтар'ят і дырэктар (дзекан) якому падлягае славянскі аддзел. Курс 2-га году месьціцца пры вул. *Bamba 1227 Bs As.*

Першы раз праз Беларусь гаворыцца *ex-cafedra*. Аргэнтынцы мелі такое паняцьце аб славянскіх народах — як афрыканскіх плямёнах.

---

9 **ЗН — Задзіночаныя нацыі** (*United Nations*) — Арганізацыя Аб'яднаных Нацый.

10 Маецца на ўвазе **Савет эканамічнай узаемадапамогі** (рас. *СЭВ*, анг. *Comecon — The Council for Mutual Economic Assistance*) — міжурадавая эканамічная арганізацыя са штаб-кватэрай у Маскве, што дзейнічала ў 1949–1991 гг. Аб'ядноўвала дзяржавы "сацыялістычнага лягеру".

11 Маецца на ўвазе а. Леў Гарошка, які да 1959 г. жыў у Парыжы.

12 Маецца на ўвазе Ўладзімер Шыманец з Францыі.

24.5.1964

Паважаны Пане Рэдактар,

У сувязі з лістом п. Н. Арсеньневай з Вашага даручэньня, ветліва паведамляю, што:

— Адшукаў некалькі асоб, каторыя вярнуліся нядаўна із Саветаў.

— Вярнуліся пераважна Украінцы, з Беларусаў было ўсяго пару асоб.

— Вяртаюцца ў паадзіночку і хутка зьнікаюць ў натоўпе, а не так гуртом, як калісь ў 1955–6 годзе выяжджалі з Аргэнтыны.

— Ніякіх гутарак вясьці ня хочуць на тэму Саветаў, дзеля гэтага няма зацемак ані ў аргэнтынскае, ані ў эміграцыйнае прэсе, ніякіх справаздач аб павароце. Выяжджаючым забаронена гаварыць дрэнна аб Саветах, а тут баяцца рэпрэсыяў партыі камуністых, якая ў далейшым за імі сочыць.

— Спаткацца зь імі мог толькі ў нядзелю, г. зн. у дзень вольны ад працы. З гэтай прычыны адпісваю Вам крыху спазьніўшыся.

— У нядзелю, г. зн. 10.5.64, у Лянус (*prov. Bs. As*) паліцыя рабіла аблаву і шмат каго застала на нелегальных сходах. Шмат пасадзіла ў арышт. З камуністымі папаліся і Беларусы.

— Афіцыйная вестка — хто вярнуўся і хто можа яшчэ вярнуцца з Саветаў:

* Вярнуліся тыя людзі, каторыя мелі тут блізкую радню, каторая загварантавала што абязпечыць вярнуўшыхся памешканьням, працай і т. п. (так як *affidavit of support*[13]).
* Асобы, каторыя тут радзіліся і маюць аргэнтынскія дакумэнты, падданства.
* Ня былі запісаны ў паліцыі як людзі падазрэнныя або праступнікі. Запісаным у паліцыі тут, консуль аргэнтынскі там у Маскве не дае візы на паварот у Аргэнтыну.

— Уставы іміграцыйныя ў Аргэнтыне часта зьменьваюцца і дзеля гэтага ня лёгка сказаць, хто із радні мае права вярнуцца. Вось-жа ў апошні час лічыцца “бліжэйшая радня” гэта толькі: бацька і дзеці, або муж і жонка. Прыкладам — брат ці сястра — гэта лічыцца далейшая радня.

— Чаму выбраў я Лянус, які знаходзіцца ад маёй цяперашняй меснасьці (*Merlo*) больш 60 км? Проста дзеля таго, што там жывуць Беларусы каля 20 сямей і там ведаюць аб людзях, каторыя варочаюцца з Саветаў, і дзеля таго, што там маю знаёмых са сваёй меснасьці ўраджэньня. Аднак хадзіць там небясьпечна, бо шмат ёсьць партыйных тэрарыстаў.

---

[13] ***Affidavit of support*** (анг.) — пісьмовае сьведчаньне падтрымкі, гарантыйны ліст.

— З увагі на тое, што асабіста няма мовы правесьці інтэрвью, то можна толькі сёе-тое даведацца ад іх радні. Вось што яны расказваюць:

*“Вярнулася Съцепанцова з дачкою (жыве ў Caraza prov Bs. As. каля Лянус) і казала, што як прыехалі ў Адэсу, то з параходу ўбачыла, як самі жанчыны напраўляюць вуліцу, возяць пачкамі каменьне на брук, а адзежа ў іх такая дрэнная, што лата латы не трымаецца. Пачала-ж яна (Съцепанцова) плакаць. Падходзіць да яе марак:*

*— Зачем тетушка плачешь?*

*— ...з радасьці, галубчык, што вось на родзіну прыехалі... — А тут дачка наракае:*

*— Мама, ты-ж столькі гадоў чакала, каб тут прыехаць... куды-ж ты мяне прывязла?!!*

*Дарэчы сказаць, гэтая-ж Съцепанцова мела і дом, і краму, і нічога ёй не бракавала. Калі запыталі:*

*— А як жа ты жыць будзеш? З чаго?*

*— ...я тут мела ўсё, але тагды жыць не ўмела, а цяпер навучылася і... дзякаваць Богу, што вярнулася”.*

Вярнуўся таксама Лявонік з вёскі Ячная Стаўпецкага павету (знаю яго асабіста, бо хадзілі разам ў пачатковую школу). Сам ён нічога не кажа, як было на Беларусі, што бачыў і г. д., але радня расказвала:

*«З Адэсы наш Лявонік напісаў да калгасу, каб прыехалі на станцыю ў Стаўпцы па яго рэчы. Прыехаў пасьля з Адэсы ў Стаўпцы на загадзя вызначаны дзень і са станцыі разглядваецца, гдзе тут чакаюць на яго з калгасу? Пазнаў аднаго абарванага дзядзьку, каторы сумна прыглядаўся пасажырам. Падыйшоў да яго Лявонік дый пытае:*

*— А гдзе машына, якая прыехала па мяне?*

*— А вось-жа там стаіць на скраю вуліцы... — паказвае дзядзька рукавіцаю. Паглядзеў Лявонік, дый нос апусьціў... Стаяла ў аглаблях замораная кабылка.Можа, каб не аглоблі з дугою, то ўпала бы. Са Стоўпцаў да вёскі Ячная ёсьць 10 км “з гакам”. Амаль усю дарогу ішоў пехатою, згорбіўшыся, ня пытаючыся больш нічога. Не хацеў сесьці на калгасную падводу.*

*Пасьля паехаў ён ў Менск да свайго сына, а той яго прагнаў...»*

*“...у Менску ўсе глядзяць воўкам, дый часта дакараюць, чаго-ж ты капіталіст тут прыехаў?!”*

*Вось людзі ўжо ня тыя, што калісь былі...”*

Наагул, калі пытаюць тут у Лянус:

— Чаму ж вы вярнулісь? — найчасьцейшы адказ:

— Каліж там зіма суровая... — або

— ...і нормы ня вырабіш, і адзежы ня купіш.

Мой сусед Алесь Рубін з вёскі Ячонка Стаўпецкага павету — пытаўся лістоўна радні:

*«— ...А што сталася з маім хутарам?*

*Атрымаў адказ:*

*— Хутароў у Ячонцы даўно ўжо няма! Цяпер тут калгас “Свабода”, які займае плошчу ад вёскі Семенчыц да Каласова (15 км) удоўжкі і ад мястэчка Рубяжэвічы да вёскі Сьцяцкоў ушыркі (таксама каля 15 км). А твой, Алесь, хутар засеялі лесам».*

З другой крыніцы мне вядома, праўду кажучы, ад маёй радні з Польшчы, што 5 год таму назад ячонскіх хутаран перасялілі ў розныя калгасы, пераважна ў былыя маёнткі, а зямля хутаран парасла лесам, бо няма каму абрабляць.

Вось якое зьявішча пры сплаўным Нёмане, пры чугунцы, гдзе ёсьць родны куток Якуба Коласа, асабліва яго брата. Ад сталіцы Беларусі — Менску ўсяго 60 км! На добры парадак — гэта было б дачнае места або прыгарадныя пасёлкі.

Яшчэ вось такія анэкдоты расказваюць у Лянус:

*«Умовіліся двух братоў, што вось адзін паедзе на Белаусь, а другі пачакае на ліст і ўмовіліся на шыфр, што ў лісьце будзе пісаць усё, як найлепшае, каб цэнзура гэты ліст прапусьціла, але апроч таго прышле фатаграфію. Калі будзе сфатаграфаваны стоячы, то значыць пакідай у Аргэнтыне дом і ўсё і едзь, чым хутчэй. Але калі на фатаграфіі буду сядзець, значыць, братка, сядзі і ня рыпайся!*

*— Вось гэты брат чакае на вестку і на фатаграфію ў Лянус месяц, другі, трэці і пад канец году — ёсьць! Зьбегліся, чым хутчэй усе бліжэйшыя даведацца...*

*Ліст поўны пахвалой “новый жызні”, але тут усе скупіліся паглядзець на фатаграфію:*

*...а братка-ж ты мой, дык ён ані стаіць, ані сядзіць, толькі зусім на зямлі палажыўся!!!»*

Другі анэкдот такі (ці была праўда, ці толькі анэкдот, праверыць гэтага не мог). *«Выяжджаючы з Лянус людзі заказвалі сабе чамаданы з падашвы, каб такім чынам перавесьці больш шкуры на падошвы і падмёткі. Вось жа двух суседзяў умовіліся:*

*— Як заедзеш на “родзіну”, то напішы, што найкарысьней купіць і завязьці нат, каб як найбольш скарыстаць.*

*Пасьля трох-чатырох месяцаў атрымаў ліст з Беларусі:*

*— Сямён, ты найлепш зробіш, як закажаш чамадан у фірме Casa Costa пры вуліцы Blanca Encalada N... Там яны дадуць вельмі добрую падошву. І для цябе хопіць адзін такі добры чамадан на твой век...*

*Пайшоў Сямён шукаць гэтую фірму. Праўда, вулічка невялікая і пад гэтым нумарам ёсьць якаясь майстэрня. Уваходзіць*

*туды — дый вачам ня верыць. Падбягаюць да яго служачыя, пытаюць:*

*— Ну, для каго хочаш купіць? Якія размеры?*

*— Меў купіць для сябе — адказвае Сямён, — але вязьці далей за Чакарыту, аж у Савецкі Саюз — не аплаціцца».*

*Chacarita* — найбольшыя кладбішчы ў Буэнас Айрэс. А ў гэтых майстэрнях “Casa-Costa” робяць толькі труны для пакойнікаў, а не чамаданы.

Сканфужаны Сямён вярнуўся да дому і хутка яму ахота адпала вярнуцца на радзіму.

Або ёсьць такі (але гэта аўтэнтычны факт, бо знаю гэтага чалавека). *«Ляміновіч з San Jose, Temperley умовіўся з зяцям і дачкою, што “маладзёж” паедзе першая, а бацькі прыедуць на “гатовае”. Паехала дачушка з зяцем дый весткі доўгі час не было. Пасьля паўгоду ці больш атрымалі ліст:*

*— …матка, мы вельмі сумуем, што тут няма “маты”.*

*Парадзіўся стары Ляміновіч з бліскімі і спрабаваў выслаць з Аргэнтыны пару кіляграмаў гэтага зельля, дый напісаў:*

*— Ты-ж дачушка, напішы мне, як толькі атрымаеш мату, бо мы можам выслаць больш!*

*Ізноў па некалькіх месяцах атрымвае адказ:*

*— Дзякуй, татка, за “мату”. Мы як сабяромся піць яе, то сядзем і плачам. Але ўжо прывыкаем, бо ў нас вялікая Расія — мата!»*

Тут для паясьненьня мушу сказаць:

1) *Yerba mate* — гэта зельле для піцьця, дзе шмат ядуць мяса і

2) *Mata* — гэта дзеяслоў = забівае.

Зразумеў стары Ляміновіч, што там, на Беларусі, няма “маты”, бо не ядуць мяса, няма па чым піць яе. І яшчэ лепш — *“бо Расія мата”* — г. зн. кашуля да сьмерці. Заміж таго, каб самому сабрацца ў дарогу, ён шукае спосабу вярнуць дачку адтуль. Дачку, можа, яшчэ верня, але зяця ўжо ня дасьць рады.

На гэтым сёньня закончу. Яшчэ ў Лянус маюць вярнуцца мае знаёмыя. Можа ў канцы разьвяжуцца ім языкі, калі пачуюць, што іх партыя ў Лянус слабея і на выезд ў саветы адпала людзям ахвота.

Апроч таго, сабралася матэрыялу і са славянскага аддзелу на каталіцкім ўнівэрсытэце і ў праваслаўнага ўладыкі (высьвячэньне духоўных беларусаў), але, на жаль, цяпер ня маю часу. Шмат пільнае працы пры арганізацыі цэнтру славянскіх і саветазнаўчых студыяў на ўнівэрсытэце.

З пашанай

Цяўлоўскі



ОБЪЯВЛЕНИЕ

УВАЖАЕМЫЙ ГРАЖДАНИН

Консульский отдел Посольства СССР просит всех советских граждан, срочно обменять совзагранвиды на советские паспорта.

Для обмена необходимо лично или со знакомыми представить следующие документы:

1. Вид на жительство (старый советский паспорт)
2. Подробно заполненную анкету
3. 4 фотокарточки размером 4x5 (типа «карнет»)
5. Аргентинское удостоверение (седула)

Дни приема:

понедельник и среда — с 15 до 19 часов

пятница — с 9 до 13 часов

Адрес: GUIDO 1677 Capital

Консульский отдел Посольства
СССР в Аргентине.

Абвестка ў аргентынскай эміграцыйнай газэце
пра замену пашпартоў. 1960-я гг.

## Савецкія пашпарты

Справа пашпартоў для Беларусаў ёсьць даволі клапатліваю. Пачынаючы ад 1940 году камуністычныя агенты круціліся між эмігрантаў з Польшчы, каб выменьваць пашпарты польскія на савецкія, абмінаючы пляцоўкі экзыльнага ўраду. Даводзілі “катэгорычна”, што Польшча “кончылася”, а астаецца магутны Савецкі Саюз, або проста — Расія. Пра Беларусь ці Украіну ня было мовы. Закладаліся нават гурткі нібы беларускія, але імяні М. Горкага, Пушкіна, а каб маглі, то і... Сталіна. Адразу выказвалася, што Беларусь або Украіна — гэта ёсьць шэрая правінцыя, якая можа толькі праіснаваць дзякуючы добрадзействам Саветаў. Да замены пашпарту трэба было ехаць з Уругваю, Парагваю ці Аргэнтыны аж да Монтэвідэа (сталіца Уругваю, гдзе была савецкая амбасада). Штогод трэба было іх прадаўжаць і ехаць на рэгістрацыю. Тым, хто не хацеў замяніць польскага пашпарту, пагражалі, што ўтраціць падданства савецкае і тымсамым будзе пазбаўлены магчымасьці павароту на бацькаўшчыну. Адным словам, так пусьцілі прапаганду, зайгралі на патрыятычных пачуцьцях, што бальшыня старой эміграцыі пачалі навыперадкі мяняць пашпарты.

Такі стан рэчы працягнуўся да 1947 году, пакуль не пачалі прыяжджаць “новыя” эмігранты. У 1950 годзе (прыблізна) прэзыдэнтам Аргэнтыны быў Пэрон[14], каторы адначасна быў сымпатыкам Саветаў, выабражаючы сябе вялікім палітыкам, творачы парадаксальную “трэцюю сілу”. Дазволіў ён на арганізацыю савецкае амбасады ў Буэнас Айрэс. Тагды-ж прыехала больш 400 чалавек савецкіх урадоўцаў. Ужо ня трэба было ехаць да Монтэвідэа, бо можна было зрабіць гэтыя фармальнасьці ў Бс. Ас. У гэтым часе таксама пачала разьвівацца індустрыя ў Аргэнтыне за грошы, зробляныя на ваенных даставах, ці то кансэрваў (*corned beef*[15]), ці то іншых ваенных прыпасаў. Урадоўцы сав. амбасады ў далейшым вялі рэгістрацыю, выменьвалі пашпарты, абяшчаючы завесьці бязплатна нават у Савецкі Саюз.

З Парагваю, Уругваю, а нават Бразыліі пачалі Беларусы ехаць легальна, а найбольш нелегальна ў Аргэнтыну (прыблізна пару сот чалавек). Прычыны такой гонкі былі простыя: 1) быць бліжэй савецкай амбасады і важнейшага порту, каб “першым” транспартам выехаць на бацькаўшчыну; 2) зарабаткі ў Аргэнтыне былі лепшыя, чым у іншых суседніх краях, затым і жыцьцё лепшае. Так што страт не прадбачвалася. Дзеля гэтага “задамавіліся” ў сталіцы і правінцыі Буэнас Айрэс, гдзе лёгка знайшлі працу ў фабрыках.

Ад 1947 да 1952 году быў вялікі наплыў новых эмігрантаў: уласаўцы, палякі ў замежнай арміі, югаславяне, уцёкшыя ад Ціта[16], розныя бяжэнцы, а між *D. P.* былі і савецкія людзі.

На гэты час савецкая амбасада пастаралася падпарадкаваць усіх зарэгістраваных, асабліва партыйных, перашкодзіць вывадку ў Буэнас Айрэс для новых эмігрантаў. Новапрыбыўшых угаварыць да выязду, або павароту ў Саветы. Пачалі тлумачыць, што ў Аргэнтыне жыць цяжка, капіталістыя эксплёатуюць. А тымчасам прыбыўшыя бачылі, як крамы перапоўненыя багацьцям, белы хлеб валяецца на вуліцы, усялякага роду мяса поўна. У порце на *Retiro* (Бс. Ас), пачаліся бойкі між падгатоўленымі партыйнымі і новымі эмігрантамі (на *Retiro* ёсьць вялікі эміграцыйны гатэль, гдзе эмігранты мелі бязплатнае ўтрыманьне праз некалькі тыдняў). Часта ў гэтыя дракі ўмешвалася паліцыя, але заўсёды звальняючы камуністых, бо мелі абарону з боку савецкай амбасады. Некалькі разоў быў сьветкам такой дракі.

Цяпер-жа цікнула “старых” эмігрантаў:

---

14 **Хуан Дамінга Пэрон** (гішп. *Juan Domingo Perón*, 1895–1974), аргентынскі палітычны і дзяржаўны дзеяч, прэзыдэнт Аргентыны ў 1946–1955 і ў 1973–1974 гг.

15 ***Corned beef*** (анг.) — саланіна.

16 **Іосіп Броз Ціта** (серба-харв. *Josip Broz Tito*, 1892–1980), лідар Югаславіі ў 1945–1980 гг., маршал, прэзыдэнт у 1953–1980 гг.

— Чаму “новых” ужо адразу адсылаюць у Саветы, а іх “старых” ня выпушчаюць?

— Чаму “новыя” гатовы пабіцца, каб толькі ня ехаць у Саветы?

— Ці-ж бы ўсе былі ваеннымі праступнікамі, як кажа амбасада?

— А можа сапраўды дрэнна ў Саветах?

— Чаму “новыя” ніхто ня хоча савецкага пашпарту?

— Гэта значыць ёсьць міжнароднае права, міжнародныя ўстановы, якія ўпаўнаважваюць выдаваць іншыя пашпарты (*IRO*[17], Англія — *Travel Documents*, Аргэнтына: *Pasaporte No-Argentino* і г. д.). Гэтыя дакумэнты рэспэктуюць усе дзяржавы з Савецкім Саюзам улучна. Пра падданства Аргэнтыны, Парагваю ці Уругваю — мала хто думаў, чакалі павароту на бацькаўшчыну. А час ішоў!

Пасьля перавароту ў Польшчы, калі прышоў да ўлады Гомулка[18], дазволена было выяжджаць з Польшчы і ехаць там. Беларусы, католрыя мелі там сваякоў, маглі свабадней перапісвацца і адведаць адны другіх. Паўстала ў некаторых думка: — а можа, праз Польшчу вярнуцца на Беларусь?

Пайшлі людзі ў польскае консульства, але там ім сказалі: вы, людзі савецкія, не нашыя... Хто меў стары польскі пашпарт, той лёгка вырабіў дакуманты, паехаў адведаць радню ў Польшчы і шчасьліва вярнуўся. Але ўжо як вярнуліся, то не хацелі ня толькі савецкіх пашпартоў, але і ехаць у Саветы. Пераканаліся людзі, што іх абманвала савецкая амбасада, але на часе, каб прыняць аргэнтынскае падданства — то справа пагоршала, бо цяпер каштуя 5. 000 пэсаў з гакам ня лічачы адваката. І ня кожнаму дадуць, як кажуць — прасейваюць савецкія пашпарты праз вельмі густое сіта. Хто запісаны ў паліцыі за камуністычныя вычыны, таму паліцыя ня выдасьць *“beuna conducta”*, дакумант, які пры шмат якіх афіцыйных выступах патрэбны. З чырвоным пашпартам астаецца чырвонае кляймо, якое шмат шкодзіць людзям, пагаршае вырабіць дакумант на пэнсіён, не даюць улады дазволу на турыстычную візу (адведаць радню, або ў інтарэсах камэрцыяльных), а тым больш на сталае асядленьне за граніцу, як прыкладам у Зл. Штаты.

Эміль Цяўлоўскі

29.06.1964

---

[17] ***IRO (International Refugee Organization)*** — міжнародная арганізацыя па справах уцекачоў, дзейнічала ў 1946–1952 гг.

[18] **Уладыслаў Гамулка** (польск. *Władysław Gomułka*, 1905–1982), польскі партыйны і дзяржаўны дзеяч, у 1956–1970 гг. — першы сакратар ЦК Польскай аб’яднанай рабочай партыі.

Карэспандэнцыя з Ангэнтыны
23.9.1964

**Праваслаўны прыход у Бэразатэгі**

Месяц таму назад ажывілася царква ў Баразатэгі (*Barazategui, prov. Bs. As.*). Праз апошнія пару гадоў царква была апушчаная, бо не было прыдзеленага на сталы час сьвятара. Абедні адпраўляў прыежджы сьвяшчэньнік. У жыцьці рэлігійным ваколіцы ёсьць гэта паважным зьявішчам, бо да праваслаўнага прыходу ў Бэразатэгі належыць больш 3. 000 чалавек. Самых Беларусаў налічваецца больш тысячы душ, рэшта Украінцы, Расейцы і крыху Палякаў.

Аднаўленьне наступіла дзякуючы прыдзелу сьвяшчэньніка Гейхроха.

А. Гейхрох родам з Беларусі (1904 год нар.) вучыўся ў Духоўнай сэмінарыі ў Менску, аднак ваенныя падзеі перашкодзілі закончыць тэолягічныя студыі. Ад 1924 г. працаваў псаломшчыкам на Палесі ў ваколіцах і самым Пінску. У часе апошняй сусьветнай вайны апынуўся ў лагерах у Нямеччыне, скуль у 1949 г. як *DP* прыехаў з сям'ёй у Аргэнтыну. Жывучы на Валентын Альсіна (*Valentin Alsina. Prov. Bs. As*) працаваў у Згуртаваньні Беларусаў у Аргэнтыне (*Asociacion Bielorusa en la Republica Argentina, calle Coronel Sayos, Valentin Alsina prov. Bs. As.*). Асаблівая дзялянка яго працы была сарганізаваньне беларускага хору, з якім праз некалькі гадоў выступаў падчас афіцыйных сьвят. У годзе 1953 быў высьвячаны дыяканам пры праваслаўным прыходзе пры вул. *Brasil, Bs. As.* Хутка, аднак, пачаліся беспарадкі тамжа. Быў прысланы архірэй у Маскоўскай юрысдыкцыі, а другі быў эміграцыйны. Пачаліся судовыя працэсы і наступіў падзел духоўнае юрысдыкцыі. Пад маскоўскую юрысдыкцыю прыхаджане не хацелі падпарадкавацца, асабліва з белае расейскае эміграцыі і ўласаўцы. Кончылася тым, што ўладыка Афанасій Мартос перайшоў да царквы вул. *Obligadu, Buenos Aires*, зусім у другім канцы горада. Вось-жа гэтыя падзеі не пазволілі другі раз А. Гейхроху на тэолёгічныя экзаміны ў Уладыкі Афанасія і атрыманьне званьня сьвяшчэньніка. Акт сьвяшчэнства атрымаў каля Каляд прошлага году. За гэты час памагаў архірэю наладзіць рэлігійнае жыцьцё ў розных задзірванеўшых пунктах ня толькі ў Аргэнтыне, але й у Бразыліі. Душпастырская праца праходзіла пераважна сярод Беларусаў праваслаўнага веравызнаньня.

У Бразыліі быў шчыра вітаны і высока ацэнены праз каталіцкае духавенства, якое часта аказвала сваю помач.

Праваслаўны прыход у Бэразатэгі аб'едзіняе верных ня толькі з Бэразатэгі, але і з Кільмэс (*Quilmes, prv. Bs. As.*) усё ўзбярэжжа ад самога Буэнас Айрэс да Ля Плята (*La Plata*) сталіца правінцыі Буэнас Айрэс. Прыхаджане пабудавалі самі гэтую царкву, і дабравольна

налажылі падаткі па 50 пэсаў аргэнтынскіх на месяц, ад душы, што дасьць магчымасьць сьвятару працаваць на карысьць спраў духоўных й па часьці сацыяльных. Да гэтай пары асноўнаю працаю было сталярства, з якога ўтрымваў сям'ю. За месяц часу сарганізаваў царкоўны хор і думае над аднаўленьнем ці лепш сказаць — сарганізаваньнем беларускага хору, як было на Валянтын Альсіна.

30.09.64

З жыцьця Беларусаў у Аргэнтыне

**Жыльлё і праца**

Фактам ёсьць, што шмат жыве Беларусаў у Аргэнтыне, але колькі дакладна іх — ніхто ня ведае і няма гэта спосабу аблічыць іх (прыблізна 60.000). На гэта складаюцца такія прычыны:

1) Эмігранты лічацца такой нацыянальнасьці, у якой дзяржаве радзіліся.

2) Шмат з іх выменілі свае пашпарты на савецкія (аб гэтым пісаў у папярэднім лісьце).

3) Хто радзіўся ў Аргэнтыне, той ужо лічыцца Аргэнтынцам.

4) Прыняўшыя падданства аргэнтынскае (*naturalizados*) і г. д.

Такім чынам, людзі з Беларусі лічацца па-рознаму, часта іх "нацыянальнасьць" зьяўляецца толькі праз прыпадак. На гэту тэму можна было б шмат пісаць, я аднакжа буду пісаць пра тых людзей, каторыя маюць нейкую лучнасьць з беларушчынай, хоць не сканкрэтызаваную.

Асаблівасьць размяшчэньня жыхароў у Аргэнтыне ёсьць даволі дзіўнай, бо 2/3 насельніцтва жыве каля Буэнос Айрэс, а вялізарныя прасторы ўраджайнае зямлі ляжаць адрогамі. Фактычна, Буэнос Айрэс і яго правінцыя — гэта ўся Аргэнтына, а рэшта — дзіч!

Вось-жа Беларусы таксама асядліліся, як ні ў самым горадзе, то на акраінах яго, якія называюцца тут — правінцыя Бс. Ас. Сёньня ў гэтай правінцыі налічваецца дзясяткі гарадкоў і ў кожным з іх можна напаткаць Беларусаў. Як яны жывуць і працуюць, да чаго дарабіліся, хоць збольшага характэрныя рысы іх дабрабыту.

Пераважна, кожная сям'я мае свой домік мураваны. Колькасьць пакояў — залежыць ад велічыні сям'і. Найменшы домік мае спальню, кухню, сталовы пакой і баню. Сярэдня аднакжа маюць па 5 пакояў. Апалу да аграваньня ня ўжываюць, бо клімат ёсьць цёплы. Кухні пераважна на газ натуральны, каторы даходзіць газаправодамі, або давозяць згушчаны ў бутлях стальных. Шмат ужываецца дрэўны вугаль, на якім пякуць на ражнох, або рашотках мяса, так званае "асадо" (*asado*). Мяса тут спажываюць 100 кг на душу ў год. Асьвятленьне электрычнае. Вада — або з вадакачкі гарадской, або з маторнае студні пампуе

да баку і пазьней мае на ўсе патрэбы ці да кухні, ці да агароду. Пляцы тэрэнаў пад будову разьмерам сярэдня 10 × 35 мэтраў лёгка набыць на ўласнасьць, прадаецца на сплаты месячныя, квартальныя або гадавыя. Беларусы часта любяць мець свой дом на двух або трох пляцох, каб упраўляць гародніну, хоць з зяленьню адменнаю, чым у Эўропе, да таго тут можна два разы на год садзіць або сеяць, бо ані сьнегу, ані марозу няма. У садзе любяць мець сваі: апельсіны, мандарыны, лімоны, сьлівы, ну і кветкі, якія калісь у Эўропе расьлі ў вазонах.

Што да працы, то розна бывае, аднак імкнуцца, каб мець штось сваё ўласнае і незалежнае. Хто быў столяром, той сёньня мае фабрыку або салідны варштат мэбялі. У гэтай дзяльніцы ёсьць добрыя спэцыялістыя, бо знаюцца на дрэўным матэр'яле яшчэ з бацькаўшчыны. Ёсьць шмат краўцоў, маюць свае варштаты, аднак паважнейшых прадпрыемстваў няма, выпіраюць больш змэханізаваныя фабрыкі-майстэрні. У мэханіцы таксама шмат працуе, маюць пераважна папраўчыя варштаты самаходаў. І ў канцы прымаюць розную працу з фабрык дадому, часта толькі на паўфабрыкаты. Так працуюць: шаўцы, краўцы, электратэхнікі (радыё, тэлевізія), токары, шмат мэталюргічных дзялянак, гадзіньнікаў і розных дзяцінных цацак. Гэты спосаб "працы ўдома" для фабрыкі ці магазыну ёсьць салідна ўнармаваны. Цэны ад зробленай штукі плацяць ня менш устаноўленай цаны праз адносныя ўлады (работніцкія сындыкаты). Працаўнік мае права да 13-ае пэнсіі[19] і парунядзельнага одпуску. Гэта ўсё адносіцца што да працы ў дома, колькі зробіш — столькі заробіш. Некаторыя маюць грузавікі і працуюць ў транспарце на кароткую адлегласьць. Таксама іншыя маюць свае крамы, магазыны і т. п.

Цяпер жа адносна працы па-за домам, як фабрыкі, варштаты, бюра і т. п. Кожная меснасьць або гарадок мае ў паблізу розныя фабрыкі або варштаты, а кожны работнік шукае, *"гдзе бліжэй і выгадней"*, або гдзе лепш плацяць. Успамінаецца пра безрабоціцу, але я ня бачыў праз 16 год, калі хто маючы спэцыяльнасьць, то бяз працы не сядзіць. Крыху горш для тых, хто знае працу толькі... з мяцёлкай (*peones*) і ня мае ахвоты да нічога, а тут няма ніякага прымусу, за прагул пад суд ня пойдзе — дык здараюцца людзі і такія. На шчасьце, гэта рэдкі выпадак сярод беларусаў.

Людзі, каторыя працуюць у фабрыках, таксама даходзяць да дабрабыту. Працуюць на кіраўнічых функцыях і маюць пашану за сумлівую працу. Час працы, высокасьць заробкаў, сацыяльныя забязпечаньні працаўніка і яго сям'і — за ўсім гэтым сочыць сындыкат працаўнікоў і адносныя дзяржаўныя ўлады. Кожны мусіць атрымаць 13-тую пэнсію на Каляды і адпачынак ў летнія месяцы. Зарабаткі

[19] Маецца на ўвазе своеасаблівы прэміяльны "13-ы заробак", што выплочваецца ў некаторых краінах пры канцы каляндарнага году.

выплачваюцца 2 разы ў месяц, ёсьць такжа і месячныя выплаты. Працаўнікі ўмысловыя атрымоўваюць пераважна раз на месяц. Мінімальная граніца заработкаў ня можа быць меншай 13.000 пэсаў у месяц, паніжай якога ня можа плаціць працадаўца, можа толькі плаціць вышэй, на карысьць працуючага.

Наагул Беларусы не адрозьніваюцца ад іншых эмігрантаў, ёсьць толькі ўважаны як эўрапэйцы, да каторых месныя жыхары (*criollos*) адносяцца з большай пашанаю, чым да сваіх. Гэты жылічны факт мае добрыя і благія прыметы: чалавек ня чуецца чымсь горшым ад іншых, толькі лепшым, бо з Эўропы. Але гэта самае вядзе да хутчэйшае асыміляцыі. Гішпанская мова ёсьць выразная, навучыцца яе ёсьць лягчэй, чымся англійскай або францускай.

Вучоба ў фабрыцы. У кожнай фабрыцы, калі прыймаюць новага, бяз спэцыяльнасьці, то яго давучаюць, пачаткова працуя як вучань (*aprendiz*), пасьля "паўмайстар" (*mediooficial*) і майстар (*oficial*). Час навукі і заработкі — для кожнага рамясла або фабрычнае спэцыяльнасьці ёсьць унармавана правам.

Для ілюстрацыі падам некалькі даных, цэны на артыкулы першае патрэбы.

Цана мяса (асноўнае выжыўленьне) — 120 пэсаў / кг
Віно — 22 пэс / літар
Хлеб белы, пшанічны (чорнага няма) 37 пэс / кг
Бацінкі для мужчын (сярэднія) — 600 пэс / пара
Касьцюм для мужчын (сярэдні) — 2000 пэс
У гэткім клімаце цёплае адзежы ня трэба.

Назвы меснасьцей, дзе жывуць беларусы: *Buenos Aires, Lanus, Temperley, Lomas de Zamora San Martin, Quiline, Berazategui, Beriso, Lujan Caseros, Cindadela, Maron, Costelar, Merlo, San Jako, Jose Par, La Plata* і шмат іншых належачых да правінцыі Буэнас Айрэс.

Цяўлоўскі

*[Такога кшталту допісаў у зборы некалькі дзясяткаў, пераважна ад 1964–1968 гг. Хоць ёсць і пазьнейшыя. Але цікавасьць выклікаюць ня толькі яны, але і ўласна самі лісты Эміля Цяўлоўскага, яго дачыненьні з суродзічамі-беларусамі на эміграцыі.]*

23.9.66

Паважаная Рэдакцыя,

У залучэньні пасылаю крыху матар'ялу для выкарыстаньня:
1. Аргэнтынскія звычаі "чанга".
2. Беларусаведа на каталіцкім унівэрсытэце.

У нас у Аргэнтыне цяпер заходзяць паважныя перамены. Быць можа, для Злучаных Штатаў Паўночнай Амэрыкі гэта выглядае недэмакратычна, бо ўладу ўзялі ваенныя, пазамыкалі ўсе палітычныя ўстановы. Але ў лацінскіх краёх немагчыма без дыктатуры давясьці да якогась ладу. Палітычныя партыі толькі сварыліся між сабою, а пракамуністычныя вялі сваю работу. Найбольш баялася эміграцыя з-за жалезнай заслоны, каб ня быў чырвоны пераварот — другая Куба. Тагды было-б позна шукаць права й парадку. А людзі ўсё-ж такі абжыліся й пакідаць усё дабро — шкода! Час сваё робіць: Беларусы таксама пачуліся больш аргэнтынцамі, чым камуністымі, хоць гэтага ня выказваюць публічна.

Ня ведаю, якая тэма больш цікавіла-б Вас. Можа, канкрэтная гісторыя беларускіх сямей?

Усяго найлепшага!

Цяўлоўскі.



Edición de 156 páginas, para Capital y Gran Buenos Aires
Precio de este ejemplar $ 60,—
Recargo vía aérea $ 3,—

Clarín

Domingo 24 de octubre de 1976

Año XXXII — Diario de la Mañana — N° 11.007

Festejos de los inmigrantes

Colectividades extranjeras radicadas en la Argentina celebraron ayer en todo el país el centenario de la Ley de Inmigración y Colonización. La fotografía registra el acto realizado ayer en La Plata. El ministro del Interior, general Harguindeguy, anunció una política para lograr una inmigración calificada.

(INFORM. EN LA PAGINA 5ª)



Зацемка ў аргентынскай газэце пра фэстываль эмігрантаў з здымкай беларусаў

3.12.1967

Паважаны Спадару Запрудніку,

Ветліва паведамляю, што чэкі за 2 артыкулы (*La voz maternal & Archbishop Apanas*) атрымаў і шчыра дзякую.

Адносна Вашага запытаньня ў справе матар'ялаў да працы доктарскай, на жаль, тут нічога не напаткаў, хоць ведаю добра, што ёсьць нейкія польскія публікацыі. У гэтай справе радзіў-бы Вам зьвярнуцца да *Bohdan Kawecki*[20]*, 57 W 75 Str, Apt. 6H, New York, 23 NY, Tel. TR 7–8968.* Кавецкі — здаецца, што працуе цяпер порт'ерам, а калісь ён быў пракурорам у Вільні. Да рэвалюцыі і ў часе рэвалюцыі быў ён у Петраградзе і ў Маскве, меў знаёмства з думскімі паслямі, як і з высокімі урадоўцамі таго часу. Ён можа падаць факты з успамінаў, як і літаратуру ў гэтай справе. Апроч таго ён мог-бы падаць шмат цікавага матар'ялу да Радыя з судовых працэсаў, бо пераважна ён засуджваў камуністых. Ён добра ведае расейскую мову, менш беларускую (віленскі дыялект).

Другой асобай, кампэтэнтнай у справе, можа быць *Wlodzimierz Baczkowski*[21]*, 217–5*th *Street, S. E. Washington, D. C., 20003*, працаўнік кангрэсавай бібліятэкі, аўтар кнігі *"Rosja wczoraj i dzis"*[22]. Ён калісь прыехаў з Харбіну ў Варшаву, займаў нейкую пасаду ў міністэрстве замежных спраў, скуль выплачваў стыпэндыі для беларускіх студэнтаў у Варшаве, належаў да клюбу паняволеных народаў "Прамэтэй"[23]. За часоў прэз. Кэнэды, здаецца, што быў яго дарадцам у справах расейска-савецкіх. Знае добра мовы: ангельскую, расейскую й польскую.

І трэцяя асоба: *Dr. J. Nakaszidze, Columbia University*. Ён ёсьць прафэсарам грузінскай мовы й літаратуры на Калюмбійскім Унівэрсытэце. Як князь Грузіі ён быў у блізкіх зносінах з прадстаўнікамі дарэвалюцыйнай Расеі. Бязумоўна, павінен знаць асабіста

---

[20] **Багдан Кавецкі** (польск. *Bohdan Kawecki*, 1905–1978), праўнік, заснавальнік у 1920-я гг. у Вільні арганізацыі "Крэсовія". Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у Нью-Ёрку. Аўтар успамінаў "З вандровак віленскага пракурора" ("Z wędrówek wileńskiego prokuratora", Londyn, 1977).

[21] **Уладзімер Банчкоўскі** (польск. *Wlodzimierz Bączkowski*, 1905–2000), польскі публіцыст, саветоляг.

[22] Маецца на ўвазе: Bączkowski, Włodzimierz. Rosja wczoraj i dziś. Studium historyczno-polityczne. Jerozolima, 1946. — 245 s.

[23] **"Прамэтэй"** (польс. *Prometeusz*) — арганізацыя, заснаваная ў 1926 г. у Парыжы прадстаўнікамі Азербайджана, данскіх казакоў, Грузіі, Ідэль-Урала, Інгрыі, Карэліі, Комі, Крыма, Кубані, Паўночнага Каўказу, Туркестану й Украіны. Ініцыятарам стварэньня руху "прамэтэізму" быў Юзаф Пілсудзкі. Асноўная ідэя палягала ў падтрымцы незалежніцкіх памкненьняў прадстаўнікоў "нярускіх" народаў, што ўваходзілі ў склад СССР. Пасьля Другой сусьветнай вайны арганізацыя дзейнічала пад назвай Прамэтэеўская ліга Атлянтычнай хартыі.

некаторых паслоў, як і “варацілаў” рэвалюцыі. Знае мовы, апроч каўкаскіх: расейскую, польскую, ну і англійскую. Яго дакладнейшы адрэс можна дастаць у Кавецкага тэлефанічна. Пры спатканьні ў гутарцы можаце падаць маё прозьвішча, што я іх Вам зарэкамэндаваў.

У залучэньні рэпартаж пра ўкраінскі ўнівэрсытэт у Аргэнтыне — да выкарыстаньня ў радыёперадачах.

Пры нагодзе — найлепшыя пажаданьні Вясёлых Сьвят і шчасьлівага Новага Году!

З пашанай, Цяўлоўскі.

6.9.1968

Паважаны Сп. Рэдактар,

Ліст Ваш з 20.8.68 атрымаў, за які вельмі дзякую. Я вычуваў “праз скуру”, што там у Вас ёсьць нейкія перамены. Гэта, што зьмянілі стрктуру праграмаў, для мяне не зьяўляецца асаблівай перашкодай, бо да новых цыклаў таксама магу прыстасавацца, калі-б толькі мае карэспандэнцыі мелі ход. Прыкладам, “Беларуская сучасная літаратура”. Тут маю на думцы выдавецтва ў цяперашняй Польшчы, якія паўстаюць на аснове архіўных матар’ялаў, “недаступных” у сав. саюзе. Маю каля 20 прац і спадзяюся, што рэцэнзыі іх паказалі-б дарогу для навукоўцаў у БССР, асабліва да манаграфіяў, даўнейшых пісьменьнікаў. Такім чынам, радыёперадачы былі-б інфармацыяй карыснай да скамплектаваньня гісторыі беларускае літаратуры. “Як яны жывуць і працуюць” — калі падаецца са Зл. Шт. і Канады, то чаму-ж не падаць з рэшты Амэрыкі? Ня думайце, што тут людзі жывуць горш, чым у Зл. Шт. Калі ўзяць пад увагу маральны ці псыхалягічны дзейнік, то, бязумоўна, тут людзі маюць лепшае самапачуцьцё: свабода і роўнасьць, няма розьніцы паміж эмігрантамі й меснымі жыхарамі. “*Свабода культуры — дзеля прагрэсу”*. Прыкладаў ёсьць шмат. А хоць бы працы Дарвіна — уся яго “мудрасьць” бярэ тут пачатак, а яго наступнікам ёсьць аргэнтынец *Florentio Ameghino*[24], якога музэйныя экспанаты зьяўляюцца адзінымі ў сьвеце! Пошукі пераходнага тыпу між чалавекам і малпай адкрылі скамянеласьці дапатопных жывёлаў да 30 м даўжыні. Таксама шкілеты прачалавека з Патагоніі цікавыя. Працы Моргана[25] з Лац. Амэрыкі былі асновай

[24] **Фларэнціна Амэгіна** (гішп. *Florentino Ameghino*, 1854–1911), аргентынскі навуковец, натураліст, палеантоляг, антраполяг і заоляг.

[25] Маецца на ўвазе **Льюіс Генры Морган** (анг. *Lewis-Henri Morgan*, 1818–1881), амэрыканскі навуковец, этнограф, сацыёляг, гісторык, стваральнік тэорыі першабытнага грамадзтва, адзін з заснавальнікаў эвалюцыянізму ў сацыяльных навуках.

для прац тэарэтычных Энгельса. Пасьля хоць-бы ўзяць Ігната Дамейку[26] і яго адкрыцьця ў Андах, у Араканіі. Цяпер-жа маем тут праф. др. *T. Debeljaka* (Славенец), каторы ёсьць выдатным знаўцам славянскіх літаратураў (сябра Міжнароднай Акадэміі Літаратуры ў Парыжы), пісьменьнік, паэт, ну й між іншым выкладчык беларускай літаратуры на каталіцкіх унівэрсытэтах. *"Цэнтралізм супроць мясцовае ініцыятывы"*. Гдзе як гдзе, але ў Аргэнтыне найбольш выпукляецца, бо тут ёсьць фэдэрацыя правінцыяў, і кожная зь іх мае сваю аўтаномію, разьвіваючы ўласныя асаблівасьці. Ня можна памінуць маўчаньнем вялікага прагрэсу навукі пасьля вайны.

Наагул, калі адносіцца да інфармацыяў, то я магу даваць *"з першае рукі"*, бо бываю на розных міжнародных, як і аргэнтынскіх, канфэрэнцыях. Прыкладам, цяпер: канфэрэнцыя *International Law Association*. Апроч таго, усе прэсавыя бюра для мяне даступныя, як і знаёмства месных і загранічных карэспандэнтаў, магу зь імі дагаварыцца ў 8 мовах.

Што да Вашага "рэванжу", то ясна — мне прыгадзіліся-б матар'ялы з беларускай літаратуры савецкіх выданьняў. З Польшчы мне прысылаюць усе "навінкі" з гэтай дзялянкі, але з Сав. Саюзу тутака не дапускаюць. Мне патрэбныя матар'ялы, бо падрыхтоўваю гісторыю беларускай літаратуры ў гішпанскай мове, які ёсьць патрэбны для тут[эйшых] унівэрсытэтаў. А можа ўдасцца выдаць і ў польскай мове.

Вось і ўсё.

Са шчырымі пажаданьнямі ўсяго добрага.

З пашанай, Цяўлоўскі.

1.2.1969

Паважаны Спадару Рэдактару,

У "Навінах з Беларусі" No. 117 ёсьць зацемка "Пашана да народнае песьні": *"Песьняў, сумных, журботных, у нас шмат. Гэта — старадаўнія песьні ўдавы й сіраты, батрака й салдата, песьні пра цяжкую долю, нешчасьлівае каханьне, чужы край…"*.

Адносна гэтага хацеў-бы сказаць пару слоў. А ці-ж дазволяць рэпрадукаваць і пашыраць сатырычныя, жартаўлівыя, вясёлыя песьні? Будучы яшчэ вучням беларускае гімназіі (у 30-х гадох), помню добра, як вучні сабіралі "народную творчасьць" для настаўнікаў

[26] **Ігнат Дамейка** (1802–1889), навуковец, удзельнік паўстаньня 1830–1831 гг., геоляг, мінэроляг, мэмуарыст.

сьпеваў: для Гаўрыліка[27] й Караля[28] ў Радашковічах, для Валынчыка[29], Шумскага[30] і нават для мастака Я. Драздовіча[31] ў Наваградку, для Шырмы[32], Стэповіча[33] ў Вільні. Студэнты славянскай філалогіі віленскага ўнівэрсытэту, як і сэмінарыстыя з Нясьвіжа ці Шчучына, гдзе вымагалася беларуская мова й фальклёр — таксама езьдзілі, зьбіралі... Асабліва высокай якасьці былі апрацоўкі гэтых песьняў кампазытара Валынчыка (аб якім я ўжо пісаў свайго часу). Іншыя настаўнікі разпрацоўвалі "на галасы" для школьнага хору, можа, з меншым артызмам.

Цікавая справа, гдзе гэтыя калекцыі падзеліся? Ці не пакутуюць яшчэ па шуфлядах? Ня верыцца мне, каб усё загінула! Апроч таго, няпраўдай ёсьць тое, што засталіся толькі сумныя песьні! Як відаць з іншых меркаваньняў, абмінаюць вясёлыя песьні. Зрэштай — як-бы выглядалі ў параўнаньні савецкія стандартныя. Прыпамінаю добра з Наваградчыны песьні калядныя, хоць іх няшмат, але вялікодныя, што валачобнікі, ходзячы ад гаспадара да гаспадара на Вялікдзень, сьпявалі, то іх было шмат і ўсе вясёлыя. Пасьля прыходзілі купальскія, на Сьв. Яна, Пятроўкі, жніўныя... Найбольш хіба было вясельных: заручанныя, дашлюбныя, пасадныя, пасажныя, маладой, маладому, свату, гасьцям... Зазвычай вясельлі адбываліся па 3–4 дні, перш у маладой, а пасьля ў маладога. Пры поўна застаўленых сталох госьці ня нудзіліся, дзеля гэтага й называецца — вясельле. Вясельнікі дзяліліся на групы, адны "прысьпеўвалі", а другія "адсьпеўвалі". Былі часамі "журботныя" песьні, але найбольш вясёлых, дасьціпных, з гумарам! Як хтось вясельнікам не спадабаўся, то яму й так засьпявалі, што й з розумам ня мог пазьбірацца!

Апроч вясельных былі песьні хрэсьбінныя, таксама вясёлыя.

---

27 **Язэп Гаўрылік** (1893–1937), грамадзка-палітычны дзеяч, пэдагог. У 1922–1928 гг. выкладаў у Радашковіцкай беларускай гімназіі беларускую мову й сьпевы. У 1928–1930 гг. — пасол польскага Сейму, старшыня Беларускага сялянска-работніцкага пасольскага клюбу "Змаганьне".

28 Маецца на ўвазе настаўнік Радашковіцкай гімназіі **Сымон Кароль**.

29 **Антон Валынчык** (1896–1985), дырыжор, кампазытар, выкладчык Наваградзкай беларускай гімназіі.

30 **Аляксандар Шумскі** (1869–1930), пэдагог, выкладчык Наваградзкай беларускай гімназіі.

31 **Язэп Драздовіч** (1888–1954), мастак, археоляг, пісьменьнік, этнограф, фальклярыст. У 1920-я гг. выкладаў маляваньне ў Радашковіцкай і Наваградзкай гімназіях.

32 **Рыгор Шырма** (1892–1978), дырыжор, фальклярыст, грамадзкі і музычны дзеяч. Выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі.

33 **Альбін Стэповіч** (1894–1934), грамадзкі і музычны дзеяч. Выкладаў сьпевы й музыку ў Віленскай беларускай гімназіі.

Цяпер іншая справа: маю тут перад сабою два грубыя томы пад загалоўкам: *Michal Federowski. Lud Bialoruski. Warszawa, 1960.*

Вось-жа ў Варшаве, хоць і там *“дыктатура пралетарыяту”*, але хіба людзі больш культурныя, бо ацанілі народную творчасьць, а нават апублікавалі ў вельмі прыгожай форме, з нотамі, томы добра апраўлены. Праглядаючы гэтыя песьні, аж дзіў бярэ, скуль у тагачасных людзей быў час, гумар, досьціп і здольнасьць кампанаваць прыгожыя песьні! Калі быў добры войт, гаспадар, касец ці жняя, ці хоць-бы гаспадыня ў дому, то ім і песьня была адпаведна добрая, з пахваламі, але на каго мелі “вока”, то мусяў наслухацца “па заслугах”.

Зачастую ўпаміналася, што *“слова з песьні ня выкідаюць”*. З гэтага відаць, што за песьню на Севяр не высылалі. А цяпер у БССР ёсьць казённыя трубадуры, інстытуты мастацтвазнаўства, кансэрваторыі, хоры, гурткі, маючыя да дыспазыцыі аўта, магнетафоны, розныя прылады... Хай-бы запазналіся з працай толькі аднаго чалавека (Федароўскага[34]), каторы насіў з сабою кусок алавіка і нататнік, каб запісаць пры газоўцы, лучыне ці вогнешчы начлежнікаў. Ясна, што тагды не ўспаміналі ані аб партыі, ані аб іх правадырох, проста людзі іх ня зналі, дзеля гэтага маглі сьмела складаць песьні, сьпяваць іх як ім натура дыктавала. Пры цяперашніх абставінах нават з электрычнымі лямпамі шчырасьці ня ўбачаць.

З пашанай, Цяўлоўскі.

17.9.1973

Паважаны Спадару Запруднік,

Калі кончыліся карэспандэнцыі для “Радыя Свабода” з Аргэнтыны, то й лучнасьць парвалася. Ці ня быў-бы ўжо адпаведны час “аднавіць”?

Пэўна, ёсьць ведама, што ў Паўднёвай Амэрыцы ідуць паважныя перамены. Ці гэтыя факты для Паўночнай Амэрыкі прыемныя ці прыкрыя — гэта іншая справа, але тут ідзе рэалізацыя ўласнай палітыкі, якая аснаўным чынам мае на ўвазе свой нацыяналізм, вылучаючы інтэрвэнцыі так камунізму, як і эканамічнага імпэрыялізму як ідэі чужыя “гішпанскаму духу”. У якім-жа стане апынуліся тут эмігранты з Эўропы? Калі камуністычная партыя Аргэнтыны падзялілася на пра-кітайскую, пра-савецкую, трацкістаў і іншых, гэтыя сэкты вядуць барацьбу паміж сабою, то гэтым іх сілы рэдукуюцца. Сярод тутэйшых беларусаў, асабліва “савецкіх грамадзян”, паўстае зразуменьне, што ідэалізаваны імі Савецкі Саюз ня змог апа-

[34] **Міхал Федароўскі** (1853–1923), беларускі й польскі фальклярыст, этнограф.

наваць кіруючай ролі ані для Югаславіі, Кітая ці нават у Паўднёвай Амэрыцы. Гдзе-ж яго сіла?

Афіцыйна тут няма сьмяротнага прысуду, што лічаць камуністы і іх папутчыкі за сваю "мірную" заслугу. Але затое ёсьць збройныя паўстаньні, у часе якіх ліквідуюць масу бурлівага элемэнту. Так было за часоў Росаса[35], які ўспакоіў банду гаўчоў, так і цяпер у Чылі[36]. Там ня толькі чылійскія "марксыстыя", але было шмат ахвотнікаў з Аргэнтыны і іншых краёў, зь якімі паўсталае войска хутка разправілася. На што-ж тагды судовая валакіта?

У Аргэнтыне рыхтуюцца да выбараў прэзыдэнта, але чылійскі экспэрымэнт працёр вочы так для кіраўнікоў палітыкі, як і для шэрай масы, згінулі антаганізмы партыяў, бальшыня дэкляруе супрацоўніцтва з пэранізмам. Выглядае, што Паўночная Амэрыка адсуне камунізм ад сябе, толькі Куба застанецца.

Радыя Вольнай Эўропы[37] й да гэтай пары прыймае мае карэспандэнцыі ў польскай мове ня толькі з жыцьця эміграцыі, але й з актыўнасьці аргэнтынскай, проста як гаспадарацць *"бяднейшыя, недаразьвітыя"* з такім самым загушчэньнем жыхарства, як у Савецкім Саюзе (7 на km2). Аргэнтына штодня экспартуе мяса, збожжа, воўну, а цяпер машыны, тканіны і г. д. А Савецкі Саюз?

Зрэштай, прыкладаў ёсьць бязь ліку, якія ў першую чаргу ставяць калектыўную сыстэму гаспадаркі як найбольшую недарэчнасьць: побач "высокай тэхнікі" сыстэматычныя галадоўкі. Вядома, што аўтарытэт Зл. Шт. Паўн. Амэрыкі вельмі падупаў у сьвеце (Віетнам і даляр), але гэта ня значыць, што ўсіх "перагнаў" Савецкі Саюз. Калісь Ленін, аграбіўшы з золата сьвятыні (цэрквы, касьцёлы, сынагогі і т. п.) а нават музэі, чэканіў залатыя чырвонцы, каб НЭПам зрабіць "перадышку", ну й ратаваць адзінае камуністычнае гасударства, то цяпер Брэжнёў хацеў "перахітрыць", проста стварыць НЭП на амэрыканскіх далярах. На жаль (ці на шчасьце), даляр моцна пахістнуўся, што вельмі пашкодзіла цяперашняму НЭПу: білятэральныя ўмовы на Далёкім Усходзе, з дзяржавамі эўрапэйскімі — асабліва з Італіяй (Фіат)

[35] Маецца на ўвазе **Хуан Мануэль Хасэ Дамінга Артыс дэ Росас-і-Лопес-дэ-Асорніа** (гішп. *Juan Manuel José Domingo Ortiz de Rosas y López de Osornio*, 1793–1877), аргентынскі вайсковы й палітычны дзеяч, генэрал-капітан (губэрнатар) Буэнас-Айрэсу ў 1829–1832 і 1835–1852 гг.

[36] Маюцца на ўвазе падзеі ваеннага перавароту ў Чылі ў верасьні 1973 г., калі загінуў прэзыдэнт Сальвадор Альендэ й да ўлады прыйшоў дыктатар Аўгуста Пiначэт.

[37] **Радыё "Свабодная Эўропа"** (анг. ***Radio Free Europe***) — створаная адмысловым амэрыканскім Нацыянальным камітэтам свабоднай Эўропы ў 1951 г. радыёстанцыя, арыентаваная на вяшчэньне на эўрапейскія краіны сацыялістычнага лягеру. У 1976 г. аб'ядналася з Радыё "Свабода".

і з Паўднёвай Амэрыкай амаль усё правалілася, разам з чылійскай базаю ці плятформаю.

Як бачыце, Паўднёвая Амэрыка ёсьць таксама нейкім "ласкутом сьвету" з вельмі багатымі запасамі мінэралаў, аграрнай прадукцыі, толькі з малым непрапарцыяльна жыхарствам. Партыя Пэрона мае ў пляне павялічыць іміграцыю, ужо цяпер ідуць дагаворы з японцамі, як з некаторымі дзяржавамі эўрапэйскімі, так як у гадох яго першага прэзыдэнства (1947–50). Усё гэта значыць, што падзеі ў Паўднёвай Амэрыцы будуць цікавейшыя, хоць з нікім ня будзе ставаць да спаборніцтва.

Рэзюмуючы — мне не расходзіцца, каб мець нейкі "заработак" з Радыя, бо і бяз гэтага мог жыць, але проста журналістычная пасыя дае імпульс да гэтага. Параўноўваючы артыкулы *"заўтаматызаваных спэцаў"* з Паўднёвай Амэрыкі асабліва, аж жаль бярэ, за што ім плацяць? Якія-ж недарэчнасьці плятуць, ня знаючы добра фактаў! Прыпамінаецца адно здарэньне з Эгіпту з часу вайны, калі адзін з камандзіраў авіяцыі хацеў "паддабрыцца" для арабаў, пазычыў ім самалёт на пілігрымку да Меккі. Калі іншыя людзі спыталі арабаў, ну як? задаволены з помачы авіяцыі? Пачулі: Аллах усё прадбачыў, каб нявeрныя нам паслужылі.

Ані зразуменьне данай прысугі, ані слова ўдзячнасьці, як-бы абавязак. Гэтых арабаў мне часта напамінаюць сюды прыехаўшыя карэспандэнты, якія "робяць ласку", калі з гатовай, надрукаванай інфармацыі зробяць кароткі пераказ, зьмяняючы сэнс паводле свайго набытага трафарэту. Не спаткаў канфэрэнцыі, каб ня былі падрыхтаваныя бюлетэні ці матар'ялы для прэсы, але пасьля, пераглядаючы *"апрацоўку карэспандэнтаў"* ці можа спэц-рэдактараў, не заўсёды было згодна з тэмай канфэрэнцыі. "Механізацыя" працы прэсавых агенстваў мае таксама "два бакі": добры — гэта эканомія часу, гдзе апараты выручаюць чалавека, а дрэнны — гэта выпрацаваны трафарэт, каб дагадзіць усім кліентам-падпішчыкам, памяняючы зачастую сэнс фактаў або прычыну фактаў.

На гэтым сёньня закончу.

З пашанай к Вам, Цяўлоўскі.

17.12.1978

Вельмі паважаны Доктару,

У першую чаргу складаю Вам сьвяточныя павіншаваньні вясёлых Калядных Сьвят і шчасьлівага Новага Году!

Пры нагодзе залучаю рэпартаж з жыцьця тутэйшых суродзічаў. Спэцыяльна паехаў да Берыса (каля 100 км), каб пабачыць фэстываль

і даведацца пра беларусаў. Ясна, што за адзін раз дзень не ўдалося ўсяго даведацца, прыйдзецца яшчэ раз там паехаць.

Апроч таго маю намер хутка прыслаць Вам номер славенскага літаратурна-навуковага квартальніка, гдзе ёсьць пераклад беларускае паэзыі й мой нарыс з гісторыі літаратуры. Першая частка ўжо даўно падрыхтавана, толькі з друкам зацягнулася. Да другой часткі яшчэ зьбіраю матар'ял.

Адно й другое выкарыстайце гдзе можна ў давольнай форме. Прывет для супрацоўнікаў, асабліва для праф. Адамовіча[38].

З пажаданьнямі ўсяго найлепшага, Цяўлоўскі.

14.5.1979

Даражэнькі Доктару,

Шчыра дзякую за ліст з 30.3. г. г. і за вестку, што нічога дрэннага ня сталася. Праца — гэта нармальны фэномэн жывучых людзей. А цяпер і я крыху дадам Вам клопату: справа ў тым, што падручыўся напісаць колькі скэтчаў з гісторыі беларускае літаратуры да славенскага літаратурнага квартальніка "Meddobje"[39]. Да гэтага др Дэбеляк ператлумачыў пару дзясяткаў беларускіх вершаў на славенскую мову і далей хоча тлумачыць. Усё пайшло-б гладка, каб мог дастаць тут матар'ялу, але, на жаль, ані выпісаць, ані купіць на мейсцы няма гдзе, асабліва бракуе мне з Заходняе Беларусі (Віленскай пары) і з навейшых часоў. Прыпамінаю толькі, што калісь вучыўся ў беларускае гімназыі, да гэтага маю савецкую літаратурную энцыкляпэдыю, ну й "падлатваю" ласкуткамі з "Беларуса" ці хоць-бы з "Голасу Радзімы". Асабліва бракуе паэзыі да перакладаў для др Дэбеляка.

Адным словам — ня пытайцеся, толькі падсылайце "Запісы"[40] (13, 14 і 15), "Голас Радзімы", ну й можа маеце лішнія "Полымя", штось з паэзыі Н. Арсеньневай ці іншых. У наступным нумары "Meddobja" будуць толькі пераклады беларускае паэзыі, а ў далейшым — з маім скічам.

На гэтым сёньня скончу, са шчырымі пажаданьнямі, усяго найлепшага, Цяўлоўскі.

*Падрыхтоўка да друку*
*Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча*

[38] Маецца на ўвазе Антон Адамовіч.

[39] ***"Meddobje"*** — славенскі літаратурны й грамадзка-культурны часопіс, які выдаваўся ў Буэнас-Айрэсе ў 1954–2010 гг.

[40] Маецца на ўвазе альманах "Запісы БІНіМ".

# ПРАТАКОЛЫ БІНІМУ
## (факсімільная публікацыя дакумэнтаў)

Гісторыя Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва — неад'емная старонка дзейнасьці паваеннай беларускай эміграцыі — сёньня яшчэ не напісаная. Таму зьбіраньне й публікаваньне матэрыялаў да яе зьяўляецца важнай справай. Раней у "Запісах" ужо друкаваліся матэрыялы пра заснаваньне БІНіМу і розныя кірункі яго дзейнасьці[1]. І ў гэтым нумары мы працягваем тэму новай публікацыяй двух пратаколаў пасяджэньня Ўраду Інстытуту ад кастрычніка й сьнежня 1952 г.

Гэтыя пратаколы цікавыя з двух гледзішчаў. Па-першае, яны даюць зьвесткі пра дзейнасьць БІНіМу ў першыя гады, тыя ініцыятывы, якія распачыналіся, як прыкладам, стварэньне Народнага Ўнівэрсытэту, выданьне пэрыёдыкаў і г. д. Па-другое, Інстытут аб'ядноўваў ведамых беларускіх інтэлектуалаў і творцаў. Ягоная гісторыя, ягоныя дакумэнты — частка іх біяграфіяў. Вось і прадстаўленыя далей пратаколы, напісаныя рукою сакратаркі БІНіМу Натальлі Арсеньневай. Яны даюць дадатковыя зьвесткі дасьледчыкам яе жыцьця і адначасова ўяўляюць зь сябе аўтографы паэткі, што каштоўныя самі па сабе. Менавіта таму тэксты публікуюцца ў выглядзе факсіміле.

---

[1] Гл. тэксты: Юрэвіч, Лявон. Гісторыя заснаваньня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў дакумэнтах і паведамленьнях // Запісы БІНіМ. № 29. Нью-Ёрк — Менск, 2005. С. 5–23; Кіпель, Вітаўт. З архіўных тэчак БІНіМу // Запісы БІНіМ. № 29. Нью-Ёрк — Менск, 2005. С. 24–32.

Пратакол 6б

Паседжаньня Ураду БІНіМ у дні 20 кастрычніка 1952

Прысутныя Праф. Акіншэвіч
Праф. Дарашэвіч
Ул. Васілю, др. Тумаш, Н. Арсеньнева

Парадак дня 1) Справа Зьезду
2) Народны Універсітэт
3) Бягучыя справы
4) Легалізацыя Інстытуту.

Да пункту 1-га пастаноўлена: склікаць Зьезд БІНіМ 14-га сьнежня 1952 г. у 2½ гадз. дня. Дзеля гэтага не пазьней 14-га лістапада кожнаму сябру БІНіМ павінен быць высланы праект статуту і адмысловы ліст, які далучаецца да пратаколу.
Сп. Дарашэвіч мае прыгатаваць фінансавую справаздачу. Сп. Тумаш мае зрабіць справаздачу аб часапісу „Запісы". Уступнае слова даручаецца старшыні БІНіМ. Ул. Васілю.
Пакліканая рэв. камісія ў асобах: сп. Маньковскага і сп. Гарошкі.
Справу Статуту зрэфэруе Зьезду сп. праф. Акіншэвіч

Да пункту 4-га – Легалізацыі БІНіМ. пастаноўлена даручыць Старшыні Ул. Васілю абмеркаваць гэтую справу з адвакатам

Да пункту 3-га — Бягучыя справы пастаноўлена заслухаць даклад сп. Кулікевіча 8-га лістапада 1952 г. у пам. Украінскага Літ.-Мастацкага Клюбу. У гэтай справе мае быць дадзена абвестка ў наступным нумары „Беларуса".

Да справы Нар. Універсітэту — пастаноўлена, пасьля абмяркаваньня гэтае справы й жывое дыскусіі, пачаць арганізацыю Універсітэту неадкладна, тымчасам з наступнай праграмай:

1) Эканамічная й фіз. геаграфія Беларусі — месячна 4 гадз.
2) Гісторыя й культура Беларусі — 6 гадз.
3) Гісторыя літаратуры й літаратура — 6 г.
4) Гісторыя Бел. Нац. Адраджэньня
5) Беларускае мастацтва.
6) Амэрыканазнаўства

На лектараў прапанавана запрасіць: спп. Орса, Гарошку, Даражэвіча, Акіншэвіча, Паланевіча, Адамовіча, др. Шумана, Ліманоўскага, Клішэвіча, Шулейку.

На гэтым пасяджаньне было скончанае

Сакратар Н. Арсеньнева

Я. Куналы дзеле прадстаўленьне ў Фордаўскі Фонд.
3) Паклікаць рэдакцыйную Калегію часапісу БІНіМ у складзе: др. Тумаш, сп. Шукоўскі, сп-ні Арсеньнева.

Да пункту 3-га – Рэдагаваньне Статуту, пастаноўлена:

Вычыркнуць у пункце 2-ім словы „навукі й культуры" і сказ „падтрымлівае…"
У пункце 3-ім вычыркнуць слова „духова".
У падпункце d) вычыркнуць апошнія два словы і паставіць злучок паміж словамі „часапісаў" і „кнігаў".
У падпункце e) вычыркнуць увесь апошні сказ. У пункце 4-ым выкінуць слова „дзейныя". Выкінуць з усяго Статуту слова „Галоўная" (Управа). У пункце 6-тым дадаць словы: „Агульнага Зьезду і Управы", перабудаваць увесь сказ гэтак:
„Кожны сябра Інстытуту забавязаны выконваць ускладзеныя на яго сяброўскія абавязкі, гэтаксама пастановы Агульнага Зьезду і Управы Інстытуту."
У пункце 9-ім замест слова „арганізацыя" паставіць слова „Інстытут". У пункце 13-ым дадаць словы: „З тым, аднак, што адзін сябра Інстытуту ня можа мець больш 5-ёх упаўнаважаньняў. У пункце 19 замест слова „аддзелаў" паставіць слова „сэкцыяў", а замест „філіяў" слова „аддзелаў".
У пункце 22 – выкінуць словы: „

на сваім пасяджэньні". У пункце 24 — выкрасьліць слова „дзейны" і лічбу 3 замяніць на „5 сяброў". У пункце 26, падпункт г) замяніць так: „з субсыдыяў ад установаў ці грашовай дапамогі ад прыватных асобаў". У пункце 27 замяніць слова „прэлімінару" на слова „бюджэту". У канцы 26 пункту дадаць: „Інстытут — арганізацыя непрыбытковая і ўсе свае грашовыя сродкі выкарыстоўвае выключна на культурныя і навуковыя мэты." Пункт 30 выкрасьліць зусім, каб не паўтарыць пункту 14-га. У апошнім ~~пункце~~ выкрасьліць слова „адмыслова скліканым ліквідацыйным" і дадаць словы: „зьезд тады вырашае".

Да пункту 4-га – План Працы – пастаноўлена:

Якнайхутчэй залегалізаваць Інстытут. У гэтай справе разаслаць сябром адмысловые лісты аб утрымваньні сяброўскіх складкаў, што часткам пакрые кошты легалізацыі.

Пастаноўлена таксама, прыгатаваць праграмы дзейнасьці секцыяў і склікаць наступнае пасяджэньне праз 2 тыдні.

Пастаноўлена таксама ствараць навуковую групу дзеля агляду іншамоўных кніжок, у якіх закранаецца Беларусь, у складзе: сп. Панькоў, сп-ня Рытар, др. Тумаш, сп. Папановіч, сп. Вярбіцкі і праф. Акіншэвіч.

Прапанавана падрыхтаваць матар'ял, які прадстаўляў усе факты аб Беларусі у

разьдзе усей гісторыі, стварыўшы дзеля гэтага аднастайную групу людзей, якія-б займаліся гэтай справай. Хто мае увайсьці ў згаданую групу, будзе выраўнана на наступным пасяджаньні.

На гэтым сход быў зачынены

Сакратар Н. Арсеньнева

***Аляксандар Пашкевіч***
*Менск*

# АЙЦЕЦ ЛЕЎ ГАРОШКА Й ЯГОНЫЯ МЭМУАРЫ

Айцец Леў Гарошка (1911–1977) быў адным з найбольш актыўных і плённых беларускіх дзеячаў на эміграцыі, які рэалізоўваў свае таленты ў самых разнастайных кірунках. Ягоны паплечнік і сябра біскуп Часлаў Сіповіч у артыкуле-нэкралёгу, надрукаваным адразу пасьля сьмерці сьвятара, адзначаў: *"багасловіе, гісторыя беларускай Царквы, гісторыя літаратуры, мовазнаўства, этнографія, прыродазнаўства, мэдыцына...— вось гэта галіны ведаў, якімі ён цікавіўся ўсей сваей душой. [...] ...а. Леў быў волат працы і беларускі энцыкляпэдыст. [...] Шмат... працаў пачатых і незакончаных пакінуў па сабе а. Леў"*[1]. Найбольш падрабязная на сёньня бібліяграфія як надрукаваных, так і рукапісных працаў Льва Гарошкі (якая, аднак, таксама далёка ня поўная) зьмешчана пры адпаведным артыкуле ў сумесным біябібліяграфічным даведніку Юрыя Гарбінскага й Юрыя Туронка, і яна на самай справе ўражвае як аб'ёмам, гэтак і тэматычнай разнастайнасьцю[2].



Леў Гарошка

[1] Сіповіч, Ч. Архімандрыт Леў Гарошка (26.II.1911–28.VII.1977) // Божым Шляхам. 1978. № 1. С. 2.

[2] Garbiński, J.; Turonek, J. Białoruski ruch chrześcijański XX wieku: Słownik biograficzno-bibliograficzny. Warszawa, 2003. S. 139–143. Гл. таксама спэцыяльныя выданьні, прысьвечаныя беларускай бібліяграфіі на эміграцыі: Беларускі і беларусаведны друк на Захадзе: асобныя выданьні / склад. З. і В. Кіпелі. Бібліяграфія. Нью-Ёрк — Менск, 2003. С. 44–45, 64, 80, 98–99, 101, 103–104, 111–113, 120, 127, 137, 155, 161, 179, 198, 223, 277, 279, 293, 349–350, 357, 442, 452, 484–485, 503; Kipel, V., Kipel, Z. Belarusian publishing in the West: a bibliography / ed. by J. Garbinski & L. Yurevich. NewYork—Warsaw, 2006. P. 45–46, 64, 81, 100, 103, 105, 114–115, 123, 130, 140, 159, 165, 184, 203, 228, 282, 284, 297, 354, 362, 447, 457, 488, 507.

Пераважна працы Льва Гарошкі пры ягоным жыцьці друкаваліся ў выдаваным і рэдагаваным ім ад 1947 г. часопісе "Божым Шляхам", а таксама выходзілі асобнымі выданьнямі. Ад канца 1980-х гг. і сама асоба сьвятара, і ягоныя творы сталі дастаткова шырока папулярызавацца на Бацькаўшчыне, перадусім праз шматлікія перавыданьні асобнымі публікацыямі[3] і ў складзе розных зборнікаў ды нумароў пэрыядычных выданьняў[4].

Што тычыцца біяграфіі а. Льва Гарошкі, то яе таксама, у адрозьненьне ад многіх іншых заслужаных беларускіх дзеячаў, ніколі не было неабходнасьці аднаўляць літаральна па драбніцах. Яшчэ пры жыцьці сьвятара паплечнікі, усьведамляючы значнасьць ягонае асобы, своечасова й належным чынам парупіліся пра апісаньне асноўных

3 Гарошка, Л. Пад знакам "рускае і польскае веры". [Беласток], 1990. — 93 с.; Гарошка, Л. Навука і рэлігія. Дретома — Друя, 1994. — 268 с.; Гарошка, Л. Святая Еўфрасіння-Прадслава, патронка Беларусі: нарыс, артыкулы / прадмова, укладанне, тэксталагічная падрыхтоўка, падбор ілюстрацый У. Арлова. Мінск, 1996. — 123 с.; Гарошка, Л. Духоўныя роздумы: Да 100-годдзя з дня нараджэння Архімандрыта Льва Гарошкі. Полацк, 2011. — 40 с.

4 Гарошка, Л. Няўміручая ідэя (Гістарычны нарыс) // Унія. 1990. № 2. С. 13–15; Гарошка, Л. Душа // Хрысьціянская думка. 1993. № 3. С. 3–23; Гарошка, Л. Дахрысьціянская вера нашых продкаў (Прычынкі да беларускае міталёгіі) // Крыніца. 1994. № 8. С. 74–84; Гарошка, Л. Рэлігійны элемэнт у беларускай народнай творчасьці // Спадчына. 1994. № 5. С. 4–9; Гарошка, Л. Прычыны палянізацыі на Беларусі. Найбольш распаўсюджаны погляд / падрыхт. да друку Я. Трацяк // Сьвіцязь. 1994. № 1. С. 99–116; Гарошка, Л. Уводзіны ў беларускую міфалогію // Беларускі гістарычны часопіс. 1996. № 3. С. 73–84; Гарошка, Л. Што дало Беларусі хрысьціянства? // Беларуская думка XX стагоддзя: філасофія, рэлігія, культура (Анталогія) / укладанне, прадмова і апрацаванне Ю. Гарбінскага. С. 408–412; Гарошка, Л. Пад знакам "рускае і польскае веры" (Фрагменты) // Тамсама. С. 412–429; Гарошка, Л. Істотныя азнакі беларускае культуры // Тамсама. С. 430–435; Гарошка, Л. Старонкі з крыжовае дарогі Каталіцкае Царквы на Беларусі (фрагмент) // Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя: Жыццяпісы. Мартыралогія. Успаміны / аўтар-склад. Ю. Гарбінскі. Мінск — Мюнхен, 1999. С. 368–397; Гарошка, Л. Айцец Адам Станкевіч // Тамсама. С. 403–409; Гарошка, Л. Айцец Ўладыслаў Талочко // Тамсама. С. 427–431; Гарошка, Л. Пад знакам "рускае і польскае веры" // Спадчына. 1999. № 5–6. С. 177–202; 2000. № 1. С. 142–199; Гарошка, Л. Беларускія сьвятары і рэлігійныя дзеячы Беларусі // Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Вып. 24. New York, 1999. С. 106–148; Гарошка, Л. [На сьмерць Лявона Рыдлеўскага] / падрыхт. да друку Л. Юрэвіча // Запісы БІНіМ. № 37. New York — Miensk, 2014. С. 315–317; Гарошка, Л. Трыццацігодзьдзе беларускага душпастырства ў Францыі (1946–1976) / падрыхт. да друку Л. Юрэвіча й Н. Гардзіенкі // Запісы БІНіМ. № 37. New York — Miensk, 2014. С. 318–329.

этапаў ягонага жыцьцёвага шляху. Так, вышэй ужо згаданы біскуп Часлаў Сіповіч у адмысловым артыкуле, прысьвечаным наданьню айцу Льву Гарошку годнасьці архімандрыта (што адбылося 16 сьнежня 1965 г.), дастаткова падрабязна выклаў усю ягоную біяграфію пачынаючы аж з часоў дзяцінства ды маладосьці[5]. Адразу ж пасьля сьмерці сьвятара быў выдадзены цэлы адмыслова яму прысьвечаны нумар часопісу "Божым Шляхам" (№ 1 за 1978 г.), дзе сярод іншага быў надрукаваны мэмарыяльны артыкул аўтарства таго ж самага Часлава Сіповіча[6], а таксама коратка выкладзеныя асноўныя вехі жыцьця нябожчыка[7]. Натуральна, што асноўнай крыніцай для гэтых публікацый мусілі стаць сьведчаньні самога а. Льва Гарошкі — як вусныя, гэтак і пісьмовыя.

Менавіта на апублікаваных біскупам Сіповічам матэрыялах пазьней, ужо пасьля таго, як стала магчымай папулярызацыя асобы і творчасьці Льва Гарошкі на радзіме, пераважна грунтавалі свае біяграфічныя артыкулы пра яго сучасныя беларускія дасьледчыкі, звычайна папярэджваючы імі перадрукі тых ці іншых ягоных твораў або дакумэнтаў[8]. Не абыдзена была ўвагай асоба Гарошкі і ў многіх сучасных беларускіх энцыкляпэдычных ды даведачных выданьнях[9]. Праўда, некаторыя аўтары, нават нягледзячы на наяўнасьць

[5] Дзедзінка А. Айцец Леў Гарошка — архімандрыт // Божым Шляхам. 1966. № 1. С. 5–9; перадрук: Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя… С. 278–284.

[6] Сіповіч, Ч. Архімандрыт Леў Гарошка (26.II.1911–28.VII.1977) // Божым Шляхам. 1978. № 1. С. 2–3; перадрук: Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя… С. 285–288.

[7] Важнейшыя даты з жыцьця архімандрыта Льва Гарошкі // Божым Шляхам. 1978. № 1. С. 4; перадрук: Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя… С. 288.

[8] Абламейка, С. Архімандрыт Леў Гарошка (26.II.1911–28.VII.1977) // Унія. 1990. № 2. С. 12; Трацяк, Я. Волаты духа, веды і сьвятасьці // Сьвіцязь. 1994. № 1. С. 75–85; Арлоў, У. Пра Льва Гарошку // Крыніца. 1994. № 8. С. 76–77; Арлоў, У. Божым Шляхам // Гарошка, Л. Святая Еўфрасіння-Прадслава, патронка Беларусі… Мінск, 1996. С. 7–8; Барыс, С. Слова пра айца Льва Гарошку // Беларускі гістарычны часопіс. 1996. № 3. С. 68–72; Адамовіч, С. Уніяцкая царква ў Стоўпцах і яе душпастыр а. Леў Гарошка // Царква. 2001. № 3. С. 12–13; Мойсік, Я. Архімандрыт Леў Гарошка. Некалькі дадзеных з яго жыцьця і служэньня // Гарошка, Л. Духоўныя роздумы: Да 100-годдзя з дня нараджэння Архімандрыта Льва Гарошкі. Полацк, 2011. С. 7–8.

[9] Лямец, А. Гарошка Леў Юр'евіч // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 2. Мінск, 1994. С. 489–490; Гарошка Леў Юр'евіч // Беларусь: энцыклапедычны даведнік. Мінск, 1995. С. 211; Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя… С. 50; Пяткевіч, А. Людзі культуры з Гродзеншчыны: Даведнік. Гродна, 2000. С. 61–62; Garbiński, J., Turonek, J. Białoruski ruch

настолькі аўтарытэтных ды дакладных крыніц, не ўтрымаліся пры складаньні біяграфічнай даведкі пра гэтага славутага дзеяча ад уласных домыслаў. Прыкладам, неабгрунтавана прыпісана было Гарошку тое, што ён нібыта адразу пасьля заканчэньня Наваградзкай беларускай гімназіі, *“пасьпяхова здаўшы матуральныя экзамены, падаўся ў Жыровіцкі манастыр (там вучылі бясплатна). Высьвечаны на сьвятара, паехаў у Львоў, дзе быў узьведзены ў стан архімандрыта...”*[10]. Пераканацца ў тым, што гэта толькі фантазіі аўтара біяграфічнай нататкі, які з аднаму яму ведамых прычынаў сплёў у адно рэальныя й выдуманыя падзеі з жыцьця Льва Гарошкі за розныя гады, дазваляе нам зварот непасрэдна да ўспамінаў самога героя гэтай публікацыі, якія ўпершыню ў поўным аб’ёме друкуюцца ніжэй.

Увогуле пра існаваньне мэмуараў архімандрыта было ведама даўно. Яшчэ ў згаданым артыкуле Часлава Сіповіча 1966 г. друкаваліся невялікія фрагмэнты зь іх са спадзяваньнем, што самі ўспаміны *“хутка будуць надрукаваныя”*. Аднак пры жыцьці Гарошкі гэтага так і не адбылося, калі не лічыць таго, што сам ён часткова карыстаўся ўласнымі ўспамінамі пры напісаньні біяграфічнага артыкула пра грэка-каталіцкага сьвятара Антона Неманцэвіча[11], а таксама рэцэнзіі на выдадзеную ў 1956 г. у Нью-Ёрку кнігу Івана Касяка “З гісторыі Праваслаўнай Царквы Беларускага Народу”[12]. Відаць, за шматлікімі штодзённымі справамі аўтар так і не знайшоў часу скончыць свае мэмуары, упарадкаваць іх ды падрыхтаваць да друку. У выніку першыя іх публікацыі (прытым толькі фрагмэнтарныя) пабачылі сьвет больш чым праз 20 гадоў пасьля сьмерці архімандрыта.

У 1999 г. ведамы дасьледнік беларускай эміграцыі Лявон Юрэвіч у кнізе “Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі” сярод іншых матэрыялаў надрукаваў кароткія ўспаміны Льва Гарошкі пад назвай

chrześcijański XX wieku. S. 138–143; Гардзіенка, Н. Дзеячы беларускай паваеннай эміграцыі (біяграфічны даведнік) // Запісы БІНіМ. № 37. New York — Miensk, 2014. С. 58–59. Што цікава, пасьля публікацыі артыкулаў пра Льва Гарошку ў 2-м томе шасьцітамовай “Энцыклапедыі гісторыі Беларусі” (1994) ды ў аднатамовым энцыкляпэдычным даведніку “Беларусь” (1995) у 5-м томе васямнаццацітамовай “Беларускай энцыклапедыі” (1997) месца для яго ўжо не знайшлося. Гэты факт цяжка патлумачыць інакш, як толькі зьменай палітычнай кан’юнктуры ў краіне, што адбілася й на стане акадэмічнай навукі ды выдавецкай справы.

10 Чэмер, А. Наваградзкая беларуская гімназія. Вільнюс, 1997. С. 92.

11 Гарошка, Л. Айцец Антон Неманцэвіч // Божым Шляхам. 1956. № 70–75. С. 49–54. Передрук: Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя... С. 341–349.

12 Гарошка, Л. У палоне нянавісьці // Божым Шляхам. 1956. № 70–75. С. 73–80.

“Праз навальніцы й нягоды”[13]. Асновай для публікацыі паслужыў рукапіс, што перахоўваўся ў Беларускай бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лёндане. У кароткім камэнтары да публікацыі было адзначана: *“Свае ўспаміны айцец Леў Гарошка пісаў спачатку ў Парыжы, потым — у Лёндане. На жаль, успаміны не былі скончаныя. Частка іх выдрукаваная на машынцы, частка напісаная чорным атрамантам”*[14]. У тым самым годзе Лявон Юрэвіч надрукаваў і другую частку ўспамінаў пад аналягічнай агульнай назвай[15]. Гэтая частка была прысьвечаная тэме, што, як адзначыў публікатар, для мэмуарыста, *“выглядае, была асабліва важнай, хоць і не атрымала свайго лягічнага завяршэньня ў выглядзе кнігі, а засталася надрукаванай у часапісах, запісанай на магнітафоннай стужцы, занатаванай у шматлікіх накідах аўтабіяграфіі”*[16]. Меліся на ўвазе зьбіраныя Львом Гарошкам зьвесткі пра беларускіх сьвятароў і рэлігійных дзеячаў Беларусі. Менавіта фрагмэнты ўспамінаў, тым ці іншым чынам зьвязаныя з гэтай тэмай (разьдзелы пад назвай “Нашы традыцыі — наш скарб”, “Бог кліча на сваю службу, як Сам знае”, “Вільня” й “Пехатою па Беларусі”), увайшлі ў склад гэтай таксама невялікай паводле аб’ёму публікацыі.

Пасьля Лявон Юрэвіч прысьвяціў кароткаму апісаньню ўспамінаў Л. Гарошкі амаль цэлы абзац у сваёй манаграфіі пра беларускую мэмуарыстыку на эміграцыі, адзначыўшы, што *“гэта ўнікальныя сьведчаньні няпростай гісторыі беларускага вуніяцтва, змаганьня з расейскім праваслаўем і польскім каталіцызмам. [...] У гэтых успамінах таксама па-мастацку апісаны часы навучаньня Л. Гарошкі ў Навагрудзкай Беларускай Гімназіі, знаёмства ў Вільні з Антонам Луцкевічам, гады ў грэка-каталіцкай Багаслоўскай Акадэміі ў Львове, рэлігійнае жыцьцё, беларуская праца падчас Другой сусьветнай вайны ў Баранавічах — адкрыцьцё школ, стварэньне музэю”*[17]. Пры гэтым дасьледнік, відаць, намерваўся апублікаваць у якасьці дадатку да манаграфіі чарговую частку з успамінаў, бо ў спасылцы пазначыў, што *“выняткі з гэтай працы*

---

[13] Гарошка, Л. Праз навальніцы й нягоды. Успаміны з гадоў 1930–1944. Фрагмэнты // Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі / уклад. Л. Юрэвіч. Нью-Ёрк, 1999. С. 192–204.

[14] Тамсама. С. 192.

[15] Гарошка, Л. Праз навальніцы й нягоды // Запісы БІНіМ. № 24. New York, 1999. С. 95–105.

[16] Юрэвіч, Л. Зацемкі на маргінэсе найноўшае гісторыі. Новыя імёны да біябібліяграфічнага даведніка “Беларускія пісьменьнікі” // Запісы БІНіМ. № 24. С. 94.

[17] Юрэвіч, Л. Мэмуары на эміграцыі: Крыніцазнаўчае дасьледаваньне. Мінск, 2005. С. 65.

*друкуюцца ў другой частцы гэтай кнігі”*[18]. Аднак кніга выйшла бяз гэтага матэрыялу.

Лявон Юрэвіч, тым ня менш, зусім нездарма згадаў у адным з камэнтараў да сваіх публікацый пра існаваньне *“шматлікіх накідаў аўтабіяграфіі”* айца Льва Гарошкі. Успаміны ягоныя захаваліся ў розных варыянтах і, відаць, пісаліся аўтарам для розных мэтаў. Калі тэкст, надрукаваны ў зборніку “Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі”, уяўляў зь сябе надзвычай сьціслы варыянт аўтабіяграфіі ў акрэсьленых храналягічных межах, то публікацыя ў “Запісах…” была ўжо часткай больш разгорнутай вэрсіі, і менавіта яна ніжэй упершыню друкуецца ў поўным аб’ёме.

Увядзеньне ў навуковы ўжытак гэтага тэксту, безумоўна, узбагаціць і ўдакладніць базу крыніц па розных аспэктах беларускай гісторыі XX ст., у тым ліку й тых, па якіх нашыя веды дагэтуль зусім няпоўныя, а часам і ўвогуле фрагмэнтарныя. Нямала цікавай і нават унікальнай інфармацыі знойдуць ва ўспамінах Льва Гарошкі дасьледнікі міжваеннага й ваеннага пэрыядаў у гісторыі Наваградчыны (дый Заходняй Беларусі ў цэлым). На іх старонках знайшлі большае ці меншае адлюстраваньне самыя розныя бакі тагачаснага як вясковага, гэтак і гарадзкога, як пабытовага, гэтак і грамадзка-палітычнага ды рэлігійнага жыцьця рэгіёну: навучаньне ў Наваградзкай беларускай гімназіі, жыцьцё на вёсцы, спроба арганізацыі беларускага каапэратыўнага руху пры польскай уладзе, праца культурных ды адукацыйных установаў і агульная грамадзкая атмасфэра за “першымі саветамі”, арганізацыя асьветніцкага й грамадзкага жыцьця ў Баранавічах падчас нямецкай акупацыі й г. д. Паколькі Леў Гарошка быў сьвятаром, то няма нічога дзіўнага, што ён надаваў нямала ўвагі разгляду тагачасных рэлігійных стасункаў на заходнебеларускіх землях, прытым у ягоных успамінах ёсьць нямала інфармацыі ня толькі пра справы роднай яму грэка-каталіцкай канфэсіі, але таксама пра праваслаўе, рыма-каталіцтва й нават пратэстанцтва. Некалькі цікавых падразьдзелаў прысьвечаныя атрыманьню а. Львом Гарошкам рэлігійнай адукацыі спачатку ў Львове пад апекай мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага, а пасьля ў Вене.

На жаль, ня вельмі шмат ва ўспамінах мы знаходзім інфармацыі пра непасрэдную душпастырскую працу айца Гарошкі ў вясковых грэка-каталіцкіх парафіях Пінскай дыяцэзіі напрыканцы 1930-х гг. Хоць няма сумневу, што аўтар плянаваў гэты аспэкт асьвятліць куды шырэй, мяркуючы па значнасьці таго месца, якое ён надаў агульнаму разгляду справы нэауніі ў міжваеннай Польшчы. Дзеля таго па-ранейшаму асноўнай крыніцай для вывучэньня жыцьця а. Льва

[18] Юрэвіч, Л. Мэмуары на эміграцыі: Крыніцазнаўчае дасьледаваньне. С. 94.

Гарошкі ў гэты пэрыяд для нас застаюцца ягоныя асабістыя лісты да айца Ўладзіслава Талочкі, пісаныя зь Любяшова, Гарадной і Стоўбцаў, што некалі былі часткова апублікаваныя Янкам Трацяком[19]. У той жа час адносна многіх іншых аспэктаў нашыя веды несумненна пашыраюцца й паглыбляюцца, нават нягледзячы на тое, што па той жа праблеме нэаунії ў міжваеннай Польшчы ў Беларусі на сёньня існуе якасная навуковая манаграфія[20].

Рыхтаваць успаміны а. Льва Гарошкі да друку на аснове разрозьненых рукапісных аркушаў, што захоўваюцца ў Беларускай бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лёндане, у свой час пачаў ведамы беларускі рэлігійны й грамадзкі дзеяч Аляксандар Надсан (1926–2015). Менавіта ён (з дапамогай Вольгі Калацкай) расчытаў ды набраў першую частку ўспамінаў, якая храналягічна была прысьвечаная падзеям да пачатку Другой сусьветнай вайны. Пасьля на дапамогу прыйшоў сьвятар Беларускай грэка-каталіцкай царквы Аляксандар Аўдзяюк, які апрацаваў рэшту мэмуараў, што знаходзілася ў найбольш неўпарадкаваным стане й складалася з паасобных частак. Аўтар іх пасьля, відаць, мерыўся дапрацаваць ды зьвесьці ў адзіны тэкст, але не пасьпеў гэтага зрабіць. Аркушы шэрай паперы былі featured рознага фармату, часам тэкст на іх напісаны толькі на адным баку, часам — на абодвух. Паводле айца Аўдзяюка, *“узьнікала адчуваньне, што матэрыялы пісаліся ў розныя пэрыяды і на тым, што трапляла ў рукі”*. Розным сюжэтам (не заўсёды дакладна зьвязаным паміж сабой) у іх прысьвячалася часам адна старонка, часам па дзьве-тры, а часам і шмат болей. Відаць было, што рукапісны тэкст пісаўся хутка, але ў цэлым быў дастаткова акуратны. Часам ён адразу правіўся аўтарам, але такіх месцаў было няшмат[21].

На заключным этапе да падрыхтоўкі тэксту да друку далучыўся я, гісторык Аляксандар Пашкевіч, які канчаткова зьвёў фрагмэнты набранага тэксту ў адно цэлае, кіруючыся храналягічным прынцыпам, правёў граматычную ўніфікацыю мовы (у цэлым імкнучыся захоўваць яе найбольш характэрныя аўтарскія асаблівасьці), а таксама забясьпечыў тэкст камэнтарамі ды прадмовай.

[19] Трацяк, Я. Волаты духа, веды і сьвятасьці. С. 78–80. Арыгіналы лістоў захоўваюцца ў аддзеле рукапісаў Бібліятэкі імя Ўрублеўскіх Акадэміі навук Літвы.

[20] Свирид, А. Униатская церковь в Западной Беларуси (1921–1939 гг.). Брест, 2012. — 218 с.

[21] Гэтая інфармацыя перададзена ў электронным лісьце А. Аўдзеюка да А. Пашкевіча ад 19.08.2015.

***а. Леў Гарошка***

# ПРАЗ НАВАЛЬНІЦЫ І НЯГОДЫ

**Успаміны з гадоў 1930–1944**
**(урыўкі)**

## ЧАСТКА І. ПАД ПОЛЬСКАЙ УЛАДАЙ

### Чаму сьвярбіць рука?

Апынуўшыся на Захадзе, часта прыходзіцца сьцьвярджаць павучаючы для нас, беларусаў, факт: ува ўсіх заходнеэўрапэйскіх краінах недзе зафіксаваныя ўсе падзеі з усіх галінаў іхняга жыцьця. Ня толькі падзеі агульнанацыянальнага жыцьця, але нават дробныя мястэчковыя, а часам і вясковыя недзе запісаныя, захаваныя, каб ня згінулі. Таму ня дзіва, што гэтыя народы і самі ведаюць добра сваё мінулае, і іншыя аб іх шмат ведаюць. У нас жа найчасьцей зь незалежных ад нас прычынаў паважная частка нашага мінулага пайшла ў забыцьцё. На жаль, тое самае дзеецца і сёньня, і цяпер ужо з залежных ад нас прычынаў. За апошнія дзясяткі гадоў адышло на той сьвет нямала людзей, якія былі ў першых радох беларускага грамадзкага і рэлігійнага жыцьця, забіраючы з сабою шмат важных вестак. У сучасны мамэнт, калі беларускую гісторыю і ўвесь беларускі адраджэнскі рух нашы суседзі стараюцца прадстаўляць тэндэнцыйна, а часта зусім фальшыва, жывое слова аб тых падзеях можа мець аграмаднае значэньне.

Мне давялося быць сьведкам, а часам і ўдзельнікам шматлікіх падзеяў, аб якіх захавалася мала пісаных дакумантаў, таму і сьвярбіць рука, каб апісаць тое, што яшчэ захавалася ў памяці з нашага грамадзкага і рэлігійнага жыцьця разам з асабістымі перажываньнямі.

Маё дзяцінства і юнацтва праходзіла падчас Першае сусьветнае вайны. Давялося бачыць на абшарах Беларусі царскую расейскую армію, нямецкую армію, сьледам за тым польскіх легіёнаў і бальшавікоў; давялося наслухацца сьвісту куляў і выцьця снарадаў — але на тыя падзеі я глядзеў дзіцячымі вачыма ды мала што бачыў далей свае роднае Трашчычы[1] над Вушаю. Таму пачну мае ўспаміны з таго часу, калі ўжо я мог глядзець паважней на ўсе падзеі з асабістага і грамадз-

[1] **Трашчычы** — цяпер вёска ў Жухавіцкім сельсавеце Карэліцкага раёну Гарадзенскае вобласьці.

кага жыцьця. Такім часам можна лічыць мой апошні год навукі ў Наваградзкай Беларускай Гімназіі[2].

## Падзеі і зьмены

Майму пакаленьню выпала на долю ўжо ад самых дзіцячых гадоў быць сьведкамі выключна важных падзеяў, якія адбываліся ў Эўропе наагул, а на абшары Беларусі ў асаблівасьці, але паколькі на іх прыходзілася глядзець дзіцячымі вачыма, дык толькі пералічу іх каратка, бо ж яны пакінулі глыбокі адбітак у душы.

Самы першы ўспамін з майго дзяцінства — гэта мабілізацыя. Мне было тады ўсяго тры з палавінаю гады, калі ў нашай вёсцы Трашчычы над рэчкаю Вушаю, так як і ўва ўсёй Беларусі ў канцы лета 1914 году, жанчыны галасілі амаль у кожнай хаце. Горка плакала тады і мая мама разам з роднымі. Бацька ішоў на вайну. Пару тыдняў пасьля гэтага ў нашу вёску прыйшоў вялікі вайсковы расейскі аддзел правіць дарогі і рабіць бліндажы. На наступны год вайсковыя часьці ў нашай вёсцы пачалі хутка мяняцца; фронт пасоўваўся на ўсход. І аднае раніцы нейкі чыноўнік хадзіў ад хаты да хаты і загадваў усім жыхаром пакідаць вёску ды ехаць на ўсход[3]. Як жа селяніну пакідаць сваю гаспадарку?! Мой дзед ад’ехаўся ўсяго на паўвярсты ад вёскі, аглянуўся, перахрысьціўся і завярнуўся назад у вёску. Мама і баба не казалі нічога, а я з малодшым братам цешыліся. За намі вярнуліся амаль усе вяскоўцы.

Тым часам да нашае вёскі фронт не дайшоў нейкіх 25 кілямэтраў. Нашу і суседнія вёскі ператворана ў тылавую базу. Каля вёскі праведзена вузкакалейку. Тым часам у нашу хату прыйшла сумная вестка, што бацька трапіў у нямецкі палон падчас таго, калі ён з сваім аддзелам Чырвонага Крыжа перавязваў раненых пасьля бою.

[2] **Наваградзкая беларуская гімназія** — сярэдняя навучальная ўстанова, якая працавала ў Наваградку ў 1919–1934 гг. Яе гісторыі прысьвечаная асобная кніга аўтарства былога выпускніка гімназіі Аляксея Анішчыка (пад псэўданімам Андрэй Чэмер). Гл.: Чэмер, А. Наваградзкая Беларуская Гімназія. Вільнюс, 1997. — 133 с.

[3] У 1915 г., падчас адступленьня расейскай арміі пад ціскам немцаў, расейскія ўлады прынялі на ўзбраеньне тактыку “выпаленай зямлі”, усяляк заахвочваючы насельніцтва тэрыторый, якія патраплялі пад нямецкую акупацыю, да пакіданьня сваіх сядзібаў і эвакуацыі ўглыб Расейскай імпэрыі. Часьцяком пры гэтым застасоўваўся прымус у дачыненьні да тых, хто не жадаў пакідаць родныя мясьціны добраахвотна. У выніку агульная колькасьць бежанцаў з этнічна беларускіх земляў дасягнула лічбы каля 1 500 000 чалавек. Многія зь іх падчас эвакуацыі загінулі і памерлі, а многія засталіся ў Расеі назаўсёды. Тыя ж, хто пасьля 1918 г. вярнуўся на бацькаўшчыну, мусілі аднаўляць свае разбураныя гаспадаркі фактычна з нуля.

Калі адбылася рэвалюцыя[4], у нашай ваколіцы было спакойна, бо ўсюды было многа войска. Але калі адбылася кастрычніцкая рэвалюцыя[5], дык самыя вайсковыя арганізавалі паходы і дэманстрацыі з чырвонымі сьцягамі. Я разам з маімі аднагодкамі бегалі за паходамі і зь цікавасьцю прыглядаліся да відовішча. А потым яшчэ з большаю цікавасьцю глядзелі, як у перапоўненых вагонах і на дахах вагонаў вузкакалейнае чыгункі, што тады праходзіла каля нашае вёскі, штодня жаўнеры ўцякалі з фронту. Як толькі сьціх рух на вузкакалейцы і ў вёсцы не асталося ніводнага жаўнера, людзі кінуліся расьцягаць усё, што асталося пасьля войска, раскідалі такжа і вузкакалейку. І вось аднойчы халоднаю раніцаю нямецкія аддзелы ўвайшлі ў нашую вёску безь ніводнага выстралу. Пасьля некалькіх дзён ужо нямецкія жаўнеры па двох ці трох хадзілі па хатах і зьбіралі “айер”[6] ці “шпэк”[7] і часта загадвалі старасту ганяць гаспадароў у абоз. Так было да канца 1918 г., калі яны адышлі такжа спакойна, як і прыйшлі, безь ніякага бою.

Пасьля на пару месяцаў настаў супакой, у часе якога вярнуўся бацька з палону.

Калі вясною 1919 г. пачалася польска-бальшавіцкая вайна, зноў пачалася трывога. Фронт хутка пасоўваўся на ўсход і ў канцы вясны дакаціўся да нашае вёскі і затрымаўся на пару тыдняў на рацэ Вушы. Сьвіст куляў і гарматных снарадаў стаўся штодзённым зьявішчам. У тым часе я разам з маімі сябрамі пасьвіў каровы ў глухім закутку між узгоркамі, але і там нам некалькі разоў прыходзілася ўцякаць ад гарматнае атакі і двойчы абараняцца ад польскіх легіяністаў, якія хацелі паласавацца мясам нашых кароваў. Аднойчы палякі стралялі па нас цэлую гадзіну, але, на шчасьце, нікога ня ранілі, бо мы ўсьпелі схавацца ў роў.

Калі ж палякі адступалі, каля нас ніякага бою не было. Як другі раз фронт перасоўваўся праз нашую вёску, паўтарылася амаль тое самае, толькі трывала карацей.

Падчас зьмены ўладаў адбывалі[ся] паважныя зьмены ў грамадзкім жыцьці, але аб іх у нашай вёсцы мелі толькі агульнае паняцьце. Ясна было толькі адно, што падчас кожнае зьмены ваколічныя паны то падымалі, то апускалі галовы, а наш вясковы статак меў то больш, то менш пашы. Але ваенны настрой перадаваўся ўсім; нашымі штодзённымі гульнямі ў грамадзе сяброў былі гульні ў вайну.

---

4 Маецца на ўвазе Лютаўская рэвалюцыя 1917 г.

5 У выніку чарговай рэвалюцыі, якая адбылася ў Петраградзе 25 кастрычніка (7 лістапада) 1917 г., да ўлады ў Расеі прыйшла партыя бальшавікоў на чале з Уладзімерам Леніным. Новыя ўладары разгарнулі ў краіне грандыёзны сацыяльны экспэрымэнт, які працягваўся да 1991 г. і ахвярамі якога сталі мільёны людзей.

6 Ад ням. *Eier* — яйкі.

7 Ад ням. *Speck* — сала-бекон.

Як адгрымела Першая сусьветная вайна і Рыжскі мірны дагавор падзяліў жывое цела Беларусі на часьці, нашая вёска знайшлася пад польскаю акупацыяю і польская адміністрацыя пачала весьці іншую вайну — вайну за душу народу. У нашай ваколіцы адразу ўсе школы ператворана ў польскія, толькі ў Ярэмічах[8] аставалася адзін год расейская школа. Туды разам зь іншымі 8 хлапцамі з нашае вёскі прышлося хадзіць штодзённа па 9 км. Толькі зімою бацькі нанялі кватэру.

Там, у Ярэмічах, давялося першы раз стрэнуць польскіх асаднікаў[9], якім распарцэлявана вялікі маёнтак у Паддзенявічах. Для нас, юнакоў, было вельмі агідна бачыць, што знаходзіліся беларускія дзяўчаты, якія ахвотна прыставалі ў таварыства халастых асаднікаў.

Калі ў наступным годзе Ярэміцкую школу пераменена на польскую, дык прыйшлося перайсьці ў бліжэйшую сяміклясовую школу ў Міры[10] — 7 км. Мне было дзіўна, што тут у польскай школе, дзе ўжо было нават некалькі палякаў, дзецяў урадоўцаў, беларускі дух між вучняў быў куды мацнейшы, чым у Ярэмічах. Гэта была спантанічная рэакцыя супраць некаторых настаўнікаў, якія рабілі стараньні, каб палянізаваць вучняў.

Па сканчэньні сямігадовае школы мне хацелася хутчэй стаць на свае ногі, дык надумаўся пайсьці ў тэхнічную школу ў Вільні. Экзамін здаў добра, але якое ж было маё гора, калі пасьля гэтага лекар адкінуў мяне дзеля слабога здароўя. Не памагла і інтэрвэнцыя[11] дырэктара. Праўда, маё здароўе было хірлявае.

Адпачыўшы адзін год удома, я накіраваўся ў Беларускую Гімназію ў Навагрудку. Якраз у тым годзе — 1927 — вясною там быў апошні выпуск з расейскае клясы, і Гімназія стала чыста беларускай.

На ўсе вышэйпералічаныя падзеі так мяйсцовага, як і агульнаграмадзкага значэньня, якія суправаджалі маё дзяцінства і першыя гады юнацтва, я глядзеў дзіцячымі вачыма і мала што бачыў далей сваіх ваколіц, таму ня буду на іх затрымоўвацца, а пачну мае ўспаміны з таго часу, калі я ўжо мог глядзець паважней на ўсе падзеі асабістага і грамадзкага жыцьця. Такім часам можна лічыць мае апошнія гады навукі ў Навагрудзкай Беларускай Гімназіі.

---

[8] **Ярэмічы** — сёньня аграгарадок, цэнтар сельсавету ў Карэліцкім раёне Гарадзенскае вобласьці.

[9] **Асаднікі** — польскія каляністы, перадусім былыя жаўнеры Войска Польскага, якім урад міжваеннай Польшчы паводле адмысловага закону, прынятага ў 1920 г., выдзяляў зямельныя ўчасткі на тэрыторыі Заходняй Беларусі й Заходняй Украіны. Сярод іншага польскія ўлады ўскладалі на гэтых людзей спадзяваньні, што яны будуць спрыяць палянізацыі краю.

[10] **Мір** — сёньня пасёлак гарадзкога тыпу ў Карэліцкім раёне Гарадзенскае вобласьці.

[11] **Інтэрвэнцыя** — умяшаньне.

## Наваградзкая Беларуская Гімназія

Цэнтрам беларускага грамадзкага, культурнага і рэлігійнага жыцьця ў Заходняй Беларусі перад Другой сусьветнай вайною была Вільня, а Наваградак быў толькі невялікім беларускім вогнішчам. І тым вогнішчам перадусім была Прыватная Беларуская Гімназія. Засновалася яна як расейская гімназія, але адразу, пачынаючы ад першае клясы, пачала пераходзіць на беларускую. Здаецца, што ў 1927 г. быў апошні расейскі выпуск гімназістаў, і ад таго часу яна сталася чыста беларускаю. Пры тым яна аднчасна замянілася з гуманістычнае на прыродна-матэматычную.

Для ўзгадаваўчае працы Наваградак меў шмат выняткова спрыяючых даных. Гэта ж горад з багатым гістарычным мінулым; гэта першая сталіца Вялікага Літоўскага (у сёньняшнім значэньні Беларускага) Княства. Узгорак Міндоўга, Замкавая Гара з руінамі магутнага замку, Барысаглебская і Фарная цэрквы, недалёкая Літвінка, цікавыя архэалягічныя знаходкі падчас розных раскопкаў — усё гэта жывыя сьведкі слаўных старонак беларускае гісторыі, якія кожнаму беларусу наагул, а вучням Беларускае Гімназіі ў асаблівасьці маглі прамаўляць сваім нямым маўчаньнем больш, чым пісаным словам. Гэтыя памяткі былі незвычайнымі настаўнікамі, ад якіх можна было навучыцца любіць родны край і народ.

Я вучыўся ў гімназіі якраз тады, калі яна перажывала свой лепшы час. Лік вучняў павялічваўся з году ў год, і стары наняты будынак на рагу рынкавае плошчы станавіўся зусім нездавальняючым для яе патрэбаў, і дырэкцыя парабіла адпаведныя захады, каб мець уласны адпаведны будынак. На пачатку 1929 г. быў створаны Камітэт будовы гмаху беларускае бурсы ў Наваградку. Старшынёю яго згадзілася быць старасьціха Т. Грынеўская[12], а заступнікам старшыні быў адвакат Павал Сьвірыд[13]. Камітэт адразу энэргічна ўзяўся за працу. Настаўнікі

[12] **Тэкля Грынеўская** (польск. *Hryniewska*, дзявочае прозв. Нядзьвецкая (*Niedźwiecka*); 1880 — ?) паходзіла з памешчыцкага роду Дзісенскага павету. У 1903 г. выйшла замуж за Ежы Грынеўскага, актыўна дапамагала яму ва ўсіх пачынаньнях, у тым ліку ў вядзеньні выведвальнай дзейнасьці ў Маскве на карысьць Польскай вайсковай арганізацыі падчас польска-савецкай вайны. Адказвала за сувязь з латвійскімі дыпляматамі, якім перадавалася здабытая мужам агентурная інфармацыя. У 1920 г. арыштаваная бальшавікамі, спрабавала скончыць жыцьцё самагубствам, але была выратаваная. У 1921 г. была вызваленая ў рамках польска-савецкага абмену вязьнямі, выехала разам з мужам у Польшчу. Актыўна займалася грамадзкай дзейнасьцю, у тым ліку цікавілася беларускай этнаграфіяй. У 1931 г. у часопісе *"Ziemia"* надрукавала артыкул "Пра народнае мастацтва на Наваградчыне".

[13] **Павал Сьвірыд** (1886–1948), наваградзкі адвакат, удзельнік беларускага нацыянальнага руху. Падчас нямецкай акупацыі быў старшынём

і вучні хадзілі па ваколічных вёсках з падпіснымі лістамі; нягледзячы на беднасьць сялянства, ахвярнасьць была вялікая, і ўжо да восені распачалі будову бурсы. Якраз увосень 1929 г. аб'яжджаў Наваградзкае ваяводзтва прэзыдэнт Масьціцкі[14] і на стараньні старасьціхі Грынеўскае згадзіўся прысутнічаць на ўрачыстасьці пасьвячаньня вугольнае цагліны і падпісаў разам з ваяводаю, старостаю і Горадзенскім япіскапам урачысты акт пасьвячаньня.

У 1930 г. наваградзкім ваяводаю быў назначаны Бэчковіч[15], і польскі наступ на ўсе беларускія культурныя здабыткі крыху прыціх. Нават з Наваградзкага павятовага сойміка давалі невялікую дапамогу для ўтрыманьня беларускіх бурсаў. Восеньню 1930 г. мне асабіста давялося пачуць з вуснаў ваяводы Бэчковіча вельмі суцяшальныя словы. Ваявода адзначаў нейкія ўгодкі, і дырэктар Беларускае Гімназіі Янка Цеханоўскі[16], узяўшы як дэлегатаў адну дзяўчыну зь дзявочае бурсы і мяне з хлапцоўскае бурсы, складаў ваяводзе звычайныя ў такіх выпадках пажаданьні. На пажаданьні дырэктара ваявода выказаў сваё шчырае задаваленьне, што бачыць перад сабою дэлегацыю зь Беларускае Гімназіі і ў канцы зазначыў, што пры гэтай нагодзе хоча перадаць запэўненьне ўсім беларусам у Наваградзкім ваяводзтве, што ён сваю дзейнасьць будзе выконваць так, каб *"унікаць усяго таго, што нас розьніць, а зьвяртаць увагу на тое, што нас лучыць"*. У такім жа духу ў тым часе дзейнічаў наваградзкі стараста Грынеўскі[17] зь ягонаю дзейнаю жонкаю.

Наваградзкага акруговага суда. Браў удзел у правядзеньні Ўсебеларускага Праваслаўнага Сабору ў 1942 г., быў прыхільнікам аўтакефаліі Праваслаўнай Царквы ў Беларусі. У 1944 г. быў сябрам Беларускай Цэнтральнай Рады. Ад 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне.

14 **Ігнацы Масьціцкі** (польск. *Mościcki*; 1867–1946), польскі палітык і навуковец, у 1926–1939 гг. прэзыдэнт Польскай Рэспублікі.

15 **Зыгмунт Казімер Бэчковіч** (польск. *Beczkowicz*; 1887–1985), польскі палітык і дзяржаўны дзеяч, у 1926–1931 гг. наваградзкі, у 1931–1933 гг. віленскі ваявода. Выступаў за правядзеньне больш гнуткай дзяржаўнай палітыкі ў дачыненьні да беларусаў.

16 **Янка Цеханоўскі** (1888–1938), пэдагог, выпускнік Менскай настаўніцкай сэмінарыі й Політэхнічнага інстытуту ў Пецярбургу. У 1918–1921 гг. быў дырэктарам рэальнага вучылішча ў Ракаве, ад 1921 г. — дырэктар Наваградзкай беларускай гімназіі. Пасьля закрыцьця гімназіі працаваў у польскай школе ў Ашмянах.

17 **Ежы Грынеўскі** (польск. *Hryniewski*; 1874—?), польскі палітычны й грамадзкі дзеяч, паходзіў са шляхты Дзісенскага павету. Скончыў гімназію ў Рызе й Маскоўскі ўнівэрсытэт. У 1899 г. быў адміністрацыйна сасланы ў Перм, пасьля вяртаньня з высылкі ў 1903–1914 гг. працаваў намесьнікам дырэктара ў мэталюргічным сындыкаце ў Маскве. Падчас Першай сусьветнай вайны служыў у штабе Маскоўскай вайсковай акругі, у 1917 г.

Праўда, і ў тым часе зыркае вока тайнае і яўнае паліцыі ўважна сачыла за кожным крокам ня толькі беларускіх дзеячоў і настаўнікаў, але і за вучнямі, аднак не рабілася ніякіх правакацыяў, як гэта дзеялася пару гадоў пазьней.

Узровень навукі ў Наваградзкай Гімназіі быў даволі высокі, як гэта можна сьцьвердзіць сёньня з далёкае пэрспэктывы. Паколькі гімназія была прыродна-матэматычнага тыпу, дык гэтыя прадметы стаялі на першым мейсцы, і выкладчыкі гэтых прадметаў, за выняткам аднаго, былі вельмі добрыя. Найбольшаю павагаю карыстаўся Аляксандар Данілевіч[18]. Ён выкладаў альгэбру, трыганамэтрыю, аналітыку, фізыку і касмаграфію. Вельмі добра знаў свае прадметы і моцна любіў іх. Кантрастам да яго быў А. Мілоў[19], які выкладаў альгэбру, хэмію і матэматыку. Гэты былы расейскі афіцэр выкладаў дрэнна і адносіўся варожа да ўсяго беларускага.

Паважным настаўнікам быў дырэктар гімназіі Янка Цеханоўскі. Ён выкладаў беларускую літаратуру і францускую мову. У ягоным

зьвязаўся з Польскай вайсковай арганізацыяй, быў адзін са стваральнікаў яе выведніцкай пляцоўкі ў Маскве. У 1920 г., пасьля выкрыцьця арганізацыі бальшавікамі, быў арыштаваны. У Польшчу прыехаў у 1921 г., пасьля зробленага польска-савецкага абмену вязьнямі. Некалькі гадоў знаходзіўся пад падазрэньнем з боку польскіх спэцслужбаў, але пасьля перавароту Ю. Пілсудзкага ў траўні 1926 г. быў закліканы на дзяржаўную службу. У 1927–1932 гг. быў наваградзкім старастам, у 1932–1937 гг. — старастам Тухольскага павету на Памор'і.

18 **Аляксандар Данілевіч** (1877–1954), пэдагог, выпускнік Сьвіслацкай настаўніцкай сэмінарыі. Працаваў у розных пачатковых школах, вучыўся ва ўнівэрсытэце Шаняўскага ў Маскве на фізыка-матэматычным факультэце. За палітычную дзейнасьць быў арыштаваны й высланы ў Верхаянск. У Наваградзкай беларускай гімназіі выкладаў альгебру, геамэтрыю й трыганамэтрыю. Аўтар падручніка па альгэбры. Пасьля закрыцьця гімназіі пераехаў у Вільню, дзе выкладаў у розных установах вышэйшую матэматыку.

19 **Яўген Мілоў** (?—1932), расеец паводле паходжаньня, выпускнік матэматычнага факультэту Казанскага ўнівэрсытэту. У 1914 г. мабілізаваны ў войска, пасьля рэвалюцыі служыў афіцэрам у генэрала Ўрангеля. У 1920 г. інтэрнаваны, пасяліўся на тэрыторыі Польшчы. Ад 1923 г. да канца жыцьця працаваў у Наваградзкай беларускай гімназіі выкладчыкам матэматыкі, фізыкі, хіміі й рысунку. У адрозьненьне ад Л. Гарошкі Аляксей Анішчык характарызаваў Я. Мілова выключна станоўча й нават захоплена: *"...кваліфікаваны і таленавіты, на рэдкасьць сумленны і працавіты пэдагог. [...] Нягледзячы на слабое засваеньне беларускай мовы, карыстаўся сярод настаўнікаў, вучняў і бацькоў павагаю і аўтарытэтам. Шырокі дыяпазон і глыбіня ведаў, рэдкая сумленнасьць і акуратнасьць, шчырае стаўленьне да ўсіх калегаў і працавітасьць здабылі яму вялікую пашану і добрую памяць у тых, хто яго ведаў"* (Чэмер, Андрэй. Наваградзкая Беларуская Гімназія. Вільнюс, 1997. С. 31).

цяжкім і адказным становішчы неабходна было няраз стрымаць неразважныя крокі юнацтва і за гэта на яго часам наракалі, але заўсёды паважалі. Біялёгію і прыродазнаўства ад 1930 г. выкладаў д-р Аляксандар Орса[20]. Нядаўна вярнуўшыся з Прагі, ён выкладаў свае прадметы заўсёды спакойна і заўсёды з жывым зацікаўленьнем. Гісторыю ўва ўсіх клясах выкладаў М. Чатырка[21] — маючы толькі сярэднюю асьвету, ён ведаў добра свой прадмет і быў першаклясным пэдагогам. Хорам і аркестраю кіраваў кампазітар Антон Валынчык[22]. Дзякучы яго стараньням штогод ладзілася некалькі беларускіх канцэртаў у Наваградку і ў некаторых мястэчках. Праз гэта папаўнялася крыху каса гімназіі. Аднойчы, вяртаючыся з канцэрту ў Нягневічах[23], здарылася катастрофа: аўтабус з вучнямі перавярнуўся і некалі чалавек было паважна раненых, шмат музычных інструмантаў паламалася.

Вельмі слабым мейсцам у Наваградзкай Гімназіі былі выклады рэлігіі. Прычынаю гэтага быў выкладчык а. Васіль Бабкоўскі, пазьнейшы арх[ірэй] Бэнэдыкт[24]. Ён выкладаў па-расейску, хоць вучні

---

[20] **Аляксандар Орса** (1896–1959), грамадзка-палітычны й культурны дзеяч. У 1923–1928 гг. вучыўся ў Карлавым унівэрсытэце ў Празе, а пасьля вяртаньня ў Заходнюю Беларусь выкладаў у Наваградзкай беларускай гімназіі, затым у польскіх школах. У час вайны быў школьным інспэктарам Наваградзкай акругі. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, у 1949 г. — у ЗША.

[21] **Міхал Чатырка** (1883–1940?), грамадзка-палітычны й культурны дзеяч, у 1924–1934 гг. выкладаў у Наваградзкай беларускай гімназіі фізыку й матэматыку. Быў старшынём Наваградзкай павятовай управы ТБШ. У 1927 г. быў выбраны дэпутатам і сябрам управы Наваградзкага павятовага сойміку.

[22] **Антон Валынчык** (1896–1985), кампазітар, хормайстар і пэдагог. Нарадзіўся ў вёсцы Мяльканавічы на Слонімшчыне ў сям'і царкоўнага рэгента. Скончыў Жыровіцкую духоўную сэмінарыю. У міжваенны час працаваў выкладчыкам музыкі й сьпеваў у рэальным вучылішчы ў Лунінцы, пасьля ў Клецкай і Наваградзкай беларускай гімназіях, а таксама ў беларускай настаўніцкай сэмінарыі ў Слоніме. У гады Другой сусьветнай вайны жыў у Слоніме, дзе кіраваў рознымі хорамі. Пасьля вайны працаваў у Ашмянах, Горках, Маладэчне, ад 1961 г. жыў і працаваў у Горадні. Пісаў харавыя кампазіцыі на вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа й іншых паэтаў.

[23] **Нягневічы** — сёньня аграгарадок, цэнтар сельсавету Наваградзкага раёну Гарадзенскае вобласьці.

[24] **Венядзікт** (у сьвецкім жыцьці **Васіль Бабкоўскі**; 1876–1951), рэлігійны дзеяч, ад 1918 г. сьвятар катэдральнага сабору ў Наваградку, ад 1937 г. — настаяцель Усьпенскага Жыровіцкага манастыра. Падчас нямецкай акупацыі быў япіскапам Берасьцейскім, архіяпіскапам Гарадзенскім і Беластоцкім, экзархам Усходняе Прусіі. Праціўнік абвяшчэньня аўтакефаліі БАПЦ. У 1944 г. эвакуяваўся ў Нямеччыну і ўвайшоў у склад клеру Расейскай Зарубежнай Праваслаўнай Царквы. Быў архіяпіскапам Бэрлінскім і Германскім.

некалькі разоў катэгарычна дамагаліся ад яго, каб выкладаў па-беларуску, бо падчас матуральных экзамінаў нават прадстаўнікі зь Віленскае Куратoрыі дамагаліся гэтага. Усе дамаганьні вучняў а. Васіль збываў катэгарычнай адмоваю, апраўдваючы сябе тым, што няма да рэлігіі беларускіх падручнікаў. Але ў гімназіі не было беларускіх падручнікаў да шмат якіх прадметаў, а іх выкладалі па-беларуску. Зьняважлівыя адносіны выкладчыка рэлігіі да роднае мовы вучняў і да самое Беларускае Гімназіі выклікалі адпаведную рэакцыю вучняў і да таго прадмету, які ён навучаў. Пры тым гэта дзеялася ў той установе, дзе адбывалася змаганьне за беларускасьць. Туды бацькі плацілі няраз апошнія шэлягі, каб іхнія дзеці атрымалі асьвету ў роднай мове. І тут сьвятар пляваў на іх родную мову. Яму часта вучні ставілі розныя прыдзірлівыя пытаньні на рэлігійныя тэмы з выразнаю мэтаю змарнаваць лекцыю. Часам ягоныя выклады дзейнічалі горш, чым бязбожная прапаганда, але ён на гэта не зьвяртаў увагі — адбыўшы свае выклады, абыякава йшоў дамоў. Іншых выкладчыкаў рэлігіі доўгі час не было. Толькі ў апошнія гады існаваньня гімназіі ў малодшых клясах пачаў выкладаць рэлігію па-беларуску а. Кляеўскі.

Высокі ўзровень выкладаў матэматыкі і фізыкі ў гімназіі мне даў магчымасьць даваць лекцыі вучням Польскае Дзяржаўнае Гімназіі і тым значна аблягчыць маё цяжкае матэрыяльнае палажэньне. Будучы ў восьмай клясе, я даваў штодзённа па 4 лекцыі. Праўда, гэта адбівалася шкодна на здароўі, бо часта я прыходзіў зь лекцыяў вельмі змучаны і падэнэрваваны, але нягледзячы на гэта мусіў адрабляць свае лекцыі.

Агульныя ўмовы жыцьця і навукі ў Наваградзкай Гімназіі былі цяжкія. Большая частка вучняў жыла ў бурсах — іх было тры: дзьве хлапцоўскія і адна дзявочая. А тым [?! — А. Н.[25]] харчаваньне было вельмі бедным. Харчы ў бурсы прывозілі бацькі вучняў паводле ўсталеных нормаў, а нормы былі невялікія. Сыстэматычную дапамогу плаціла староства толькі для аплаты будынкаў і гаспадыняў. Найцяжэй было вясною, бо тады харчаваньне абядняласся, а вучыцца трэба было больш. Тады калі хто меў у кішэні пару грошаў купіць сабе на падвячорак селядца або кусок вантрабянкі, мог адчуваць сябе шчасьлівым.

Нястача кнігаў такжа давалася вельмі ў знакі. Але тут на дапамогу прыходзіў сяброўскі дух вучняў. Падручнікамі дзяліліся, як толькі маглі, а творы прыгожае літаратуры, якія магчыма было знайсьці ў бібліятэцы толькі ў адным экзэмпляры, чыталіся супольна. Беларуская гімназіяльная бібліятэчка зьмяшчалася ў адной невялікай шафе. На ўзбагачэньне бібліятэкі ніякіх фондаў не было. Неабходныя кнігі

[25] Тут і далей гэткім чынам пазначаныя заўвагі першага рэдактара ўспамінаў — а. Аляксандра Надсана.

да польскае літаратуры прыходзілася пазычаць з гарадзкое бібліятэкі. Толькі ад 1930 г. дырэкцыя Польскае Гімназіі дазволіла нам карыстацца з свае бібліятэкі.

Такжа і фізычны кабінэт Беларускае Гімназіі быў вельмі ж мізэрны — мясьціўся ў дзьвёх малых шафах. Толькі калі А. Данілевіч быў прызнаны этатным настаўнікам і выкладаў фізыку ў некаторых клясах Польскае Гімназіі, мы маглі карыстацца фізычным кабінэтам Польскае Гімназіі.

Затое культурна-ўзгадаваўчае жыцьцё ў гімназіі было на высокім узроўні. У 1928 г. зарганізаваўся вучнёўскі гурток, які рыхтаваў беларускія прадстаўленьні і часта ладзіў так званыя суботнікі ў мурох гімназіі; выпісваў некалькі газэтаў для агульнага карыстаньня, ладзіў вечары крытыкі пачынаючых пісьменьнікаў.

Звычайна на праграму суботнікаў складаўся рэфэрат на актуальную грамадзкую ці літаратурную тэму з дыскусіяю і канчаўся чытаньнем газэтаў або сяброўскімі гульнямі ці танцамі. Тэхнічную арганізацыю суботнікаў выконваў адзін з вучняў восьмае клясы па даручэньні ўправы гуртка. Кожны раз гэтую працу даручана іншаму вучню, каб даць магчымасьць кожнаму выпрабаваць свае сілы.

Калі мне давялося кіраваць суботнікам, здарыўся выпадак, які дайшоў аж да старасьціхі Грынеўскае. Уласьціва гэта быў дробны выпадак, але, магчыма, гэтая драбяза лепш, чым што іншае, сьведчыць аб тым, які быў пільны нагляд польскае адміністрацыі за жыцьцём і дзейнасьцю Беларускае Гімназіі. Таму варта аб ім расказаць.

Рэфэрат на тэму “Творчасьць Максіма Багдановіча” згадзіўся падрыхтаваць Юрка Д.[26]. Ведаючы добра, што ён ня моцны ў літаратуры, Янка Б.[27] пастанавіў высачыць, адкуль ён “сьцягне” свой рэфэрат. Аб гэтым я добра ведаў, але зусім не здагадваўся, у якой форме Янка выкажа свае “адкрыцьці”. На суботнік прыйшлі амаль усе настаўнікі і вучні. І вось вечарам, як толькі пасьля рэфэрату я адчыніў дыскусію, дык Янка ўстаў, трымаючы ў руцэ нейкі часапіс, і зганіў увесь рэфэрат толькі за тое, што ён быў у большай часьці перапісаны з таго часапісу і што Юрка і словам ня ўспомніў, адкуль перапісаў. Вострыя словы крытыкі з наяўным матэрыялам “уліку” ў руцэ стварылі прыкрую

[26] Магчыма, маецца на ўвазе **Юрка Дзяковіч**, выпускнік гімназіі 1929 г. Паводле А. Чэмера, меў немалы талент да маляваньня. Працаваў у школе й пры гарадзкой управе. Прызваны ў войска, праходзіў навучаньне ў афіцэрскай школе. Пасьля прыходу ў Заходнюю Беларусь савецкай улады быў арыштаваны *«за “грахі” бацькі»* і адбыў 10 гадоў у лягеры. Пасьля вызваленьня жыў у Наваградку, памёр у пачатку 1980-х гг. (гл.: Чэмер, Андрэй. Наваградзкая Беларуская Гімназія. С. 93).

[27] Магчыма, маецца на ўвазе **Янка Бізюк**, аднаклясьнік Льва Гарошкі, выпускнік 1931 г.

атмасфэру для ўсіх прысутных у салі. Да таго трэба заўважыць, што бацька Юркі займаў паважнае становішча ў Наваградзкім магістраце і зь яго паслугі няраз карыстала дырэкцыя гімназіі. На шчасьце, я захаваў супакой і пасьля хвіліны развагі ў агульнай прыкрай цішыні сам адказаў Янку: *"Абвінавачаньне Янкі ня ёсьць такім страшным, як магло б здавацца, бо ж мы — вучні гімназіі, і для нашых вечароў ня маем заданьня пісаць навуковыя даклады, а толькі рэфэраты. Іменна рэфэрат і напісаў Юрка. Ён рэфэраваў нам думкі тых літаратурных крытыкаў адносна названае тэмы, якія змог знайсьці і большую частку зацытаваў іх. Праўда, нядобра, што ён не назваў аўтараў тых цытатаў, але якраз падчас дыскусіі можна было спытаць яго, адкуль ён узяў матэрыял да свайго рэфэрату і ён, напэўна, сказаў бы. Пры тым, на маю думку, матэрыял ён падабраў добры, таму мы можам спакойна і карысна прадаўжаць дыскусію над тым матэрыялам"*.

Адказ спадабаўся ўсім, за выняткам Янкі. Настаўнікі пачалі ўсьміхацца, а суседзі Янкі пачалі штурхаць яго пад бакі. І вось раптам дырэктар з задаваленьнем на абліччы падняў руку: ён прасіў зарэзэрваваць яму апошняе слова перад закрыцьцём дыскусіі. Гэтая паднятая дырэктарава рука была для нас усіх такою лекцыяю дысцыпліны, якое не магла даць і гадзінная прамова. Дыскусія адбылася вельмі цікава. Наагул вечар прайшоў вельмі ўдала.

Былі на суботніку і настаўніцы польскае мовы. Іх было дзьве. Будучы ў сталай лучнасьці з старасьціхаю Грынеўскаю, яны, як бачна, данесьлі ёй аб інцыдэнце на суботніку і, відаць расьпісалі яго вельмі "ружова", бо яна сказала ім перадаць мне, што калі я так жа шчасьліва і на дадатак без адной тройкі здам матуральны экзамін, дык буду першым на лісьце тых, што атрымоўваюць з павятовага сойміка стыпэндыю ў Віленскі Ўнівэрсытэт. На гэта я адказаў настаўніцам жартам, што абяцанка абумоўлена так, каб яе не атрымаць, бо я мушу здаваць матуральны экзамін другі раз і хоць матэрыял ведаю добра, але можа здарыцца тое ж няшчасьце, як на папярэднім экзаміне.

Управа гуртка выбіралася агульным вучнёўскім сходам на пачатку школьнага году, і ані дырэкцыя, ані настаўнікі ня мелі ніякага ўплыву на выбары.

Адначасова з вучнёўскім гуртком існавала вучнёўская каапэратыва. Яе невялікі капітал складаўся з дробных паёў. Дырэкцыя гімназіі дала для патрэбаў каапэратывы невялікі пакойчык, дзе мясьцілася крама. Управа была такжа выбраная. Усе сябры ўправы мелі добрую нагоду пазнаёміцца з каапэратыўным рухам.

Гаворачы аб вучнёўскіх арганізацыях, нельга абмінуць маўчаньнем і таго сумнага факту, што ў гімназію няраз стараліся пранікнуць мацкі нелегальнае камуністычнае партыі. Паколькі мне ведама, гім-

назійнае ячэйкі не было, але прыхільнікі КПЗБ[28] былі, і на гэта складалася шмат прычынаў, незалежных ад гімназіяльнае моладзі. Я не гавару аб тым часе, пакуль гімназія ня мела зусім ніякіх правоў і яе выпускнікі ня мелі права студыяваць у ніводным унівэрсытэце ў Польшчы; тады шмат хто з вучняў паціху рыхтаваўся да ўцёкаў у БССР, каб там магчы студыяваць праз удзел у КПЗБ. Так было і ў іншых беларускіх гімназіях. Гэта вельмі прыкры і жудасны факт, бо ўся моладзь, якая гэткім шляхам апынулася ў Менску, была зьнішчаная бальшавікамі. За маіх часоў ужо было магчыма здаваць прызнаную дзяржаваю матуру і таму і тым самым быў значна зьменшаны ўплыў для камуністычнае партыі. Але былі іншыя прычыны, якія існавалі і далей. Гэта варожы наступ польскае адміністрацыі супраць усяго беларускага, адсутнасьць беларускіх радыёперадачаў, насаджэньне польскага асадніцтва, гнобленьне беларускага культурнага жыцьця. На шчасьце, цьвярозы беларускі розум і нейкая шчасьлівая інтуіцыя падказвала моладзі, што і ў Савецкай Беларусі пад камуністычнаю ўладаю дзеецца ня лепш. На жаль, польская адміністрацыя, а нават і духавенства ўсякі праяў беларускасьці таўравалі як камунізм, і таму польская паліцыя ўсіх вучняў гімназіі лічыла падазронымі.

Як толькі вясною 1931 г. у Наваградзкім ваяводзкім урадзе адбыліся пэрсанальныя зьмены — ваяводу Бэчковіча перанесьлі на пасаду польскага пасла ў Латвію[29], а яго мейсца заняў Сьвідэрскі[30], якога хутка замяніў Костэк-Бярнацкі[31], — адразу павеялі сьцюдзёныя вятры на ўвесь беларускі рух у Наваградчыне. Пачалі хадзіць пагалоскі аб сумнай будучыні гімназіі. Агэнты тайнае і яўнае паліцыі ўзмоцнілі нагляд над вучнямі і настаўнікамі. У канцы красавіка якісьці агент нават быў спрабаваў залезьці ў хлапцоўскую бурсу. Ён зьявіўся да аднаго з вучняў быццам ад імені ягоных бацькоў. Добра гаварыў пабеларуску і ведаў усіх сямейнікаў таго вучня. Бурсакі ўжо зьбіраліся

[28] **Камуністычная партыя Заходняй Беларусі** (КПЗБ) — нелегальная партыя, якая існавала ў 1923–1938 гг. на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Зьяўлялася аўтаномнай часткай Камуністычнай партыі Польшчы.

[29] Зыгмунт Бэчковіч пакінуў пасаду наваградзкага ваяводы не вясной, а летам (20 чэрвеня) 1931 г. Пры гэтым ён быў спачатку прызначаны на пасаду віленскага ваяводы, а паслом Польшчы ў Латвіі стаў толькі пасьля таго, як 27 студзеня 1933 г. яе пакінуў.

[30] **Стэфан Сьвідэрскі** (польск. *Świderski*; 1895–1978), польскі палітык, у 1932–1935 гг. наваградзкі ваявода. Леў Гарошка ва ўспамінах зблытаў чарговасьць кіраваньня двух ваяводаў. На самай справе пасьля З. Бэчковіча непрацяглы час Наваградзкім ваяводствам кіраваў Вацлаў Костэк-Бярнацкі, а пасьля яму на зьмену прыйшоў Стэфан Сьвідэрскі.

[31] **Вацлаў Костэк-Бярнацкі** (польск. *Kostek-Biernacki*; 1884–1957), польскі палітык, у 1931–1932 гг. наваградзкі, у 1932–1939 гг. палескі ваявода. Ініцыятар стварэньня канцэнтрацыйнага лягеру ў Картуз-Бярозе.

запрасіць яго на супольную вячэру, калі ён, адчуўшы давер, раптам пачаў выпытваць аб палітычных настроях вучняў і тым праявіў сябе. Каб не рабіць якое гісторыі і [?! — А. Н.] таго агента, старэйшыя вучні запрасілі яго ў свой пакой, выпыталі колькі маглі, што ён за птушка, і невялікаю грамадою вывелі яго на вуліцу. Ды яшчэ як вывелі! Матурысты пайшлі зь ім на рынак і там адзін за другім разьвіталіся зь ім, кожны "сьпяшаючыся" ці то на спатканьне зь сябрам-мешчанінам, ці да дырэктара, ці на лекцыю. Я разьвітаўся апошні, пакідаючы яго з кіслаю мінаю, бо я сапраўды йшоў на лекцыю і ён мог мяне спакойна сачыць. Хоць падобныя выпадкі здараліся рэдка, але яны былі цьвёрдаю жыцьцёваю школаю для гімназістаў і мелі ня меншае значэньне, чым самая навука ў гімназіі.

Прынагадна ўжо ўспаміналася, што ў Навагрудку была такжа Польская Гімназія імя Адама Міцкевіча; якія ў нас былі адносіны тых гімназістаў? Наагул мы спатыкаліся даволі рэдка. Там вучыліся дзеці памешчыкаў, засьцянковае шляхты, урадоўцаў, багатых мяшчан і жыдоў; у нас жа была пераважна сялянская моладзь зь невялікім дадаткам сялян [мяшчан? — А. Н.] і сьведамае беларускае інтэлігенцыі. Зразумела, што "панстваўякі"[32] глядзелі на нас згары, але мы на гэта не зьвярталі ніякае ўвагі, а з гімназістамі-жыдамі жылі даволі прыязна. У 1930 г. амаль усе гімназісткі-жыдоўкі з 7 кл. бралі ў мяне лекцыі з альгэбры. У 1930/31 школьным годзе мы часьцей, як перад тым, спатыкаліся з вучнямі і настаўнікамі Польскае Гімназіі, бо да папярэдніх дазволаў карыстацца бібліятэкаю было дазволена карыстацца фізычным кабінэтам і часам запрошвана на даклады. Пры гэтых нагодах настаўнікі Польскае Гімназіі стараліся быць да нас вельмі карэктнымі. Гэта можа з'ілюстраваць такі выпадак. Вясною 1931 г. я аднойчы прыйшоў у бібліятэку Польскае Гімназіі першым, калі там была толькі настаўніца, якая кіравала бібліятэкаю, і яе дзьве памочніцы-вучаніцы 7-ае клясы. Настаўніца нешта пісала за сталом і, адказаўшы на маё прывітаньне, далей углыбілася ў пісаніну, а яе памочніцы замест адказу на маё прывітаньне казалі: *"Паўлюк прыйшоў!*[33]*"* Я, нічога ня кажучы, скрыжаваў гукі і вострым позіркам глядзеў на вучаніцаў. Запанавала прыкрае маўчаньне. Настаўніца падняла галаву ад свае пісаніны, глянула на мяне, на сваіх памочніцаў і сказала:

---

[32] Маюцца на ўвазе вучні дзяржаўнай навучальнай установы (ад польск. *państwowy* — дзяржаўны).

[33] Словы *"Паўлюк прыйшоў!"* у вуснах польскіх гімназістак, відаць, мусілі падкрэсьліць сялянскае, простанароднае паходжаньне Льва Гарошкі. Магчыма, гэтае акрэсьленьне нарадзілася пад уплывам ад прачытаньня аповесьці Элізы Ажэшкі "Хам", дзе галоўнага героя звалі акурат Паўлюком.

— *Чаго пан сабе жадае?*

Я маўчаў і глядзеў далей. Тады яна ўскочыла з-за стала, падбегла да мяне і зноў:

— *Чаго пан жадае?*

Я павярнуўся і спакойна кажу:

— *Сызыфовыя працы Жаромскага*[34].

Як бачыш, кніга была ў мяне ў руках. Але як толькі я зачыніў за сабой дзьверы, у бібліятэцы ўзьнялася цэлая бура. Пасьля гэтага ніхто з нашых вучняў ня меў падобнага выпадку ў бібліятэцы.

## Матуральныя экзаміны

Ад заснаваньня Наваградзкая Беларуская Гімназія ня мела ніякіх правоў і яе выпускнікі маглі здаваць матуральныя экзаміны толькі экстэрнам, але ніхто не адважваўся на такую рызыку. Толькі ў 1928 г. Віленская Школьная Куратория заклікала матурыстаў з Наваградзкае і Клецкае Гімназіі[35] ў Вільню на дзяржаўныя матуральныя экзаміны. Вучні Наваградзкае і Віленскае Гімназіяў[36] ў вялікай большасьці экзаміны здалі, а з Радашкавіцкае[37] ўсе праваліліся; гімназія была зачыненая. У наступных гадох для матуральных экзамінаў у Наваградзкай Гімназіі вызначалася экзамінацыйная камісія з настаўнікаў гімназіі, але старшынёю камісіі заўсёды вызначаўся давераны чалавек з Куратарыі. Гэткім чынам гімназія атрымоўвала дзяржаўныя правы нароўні зь дзяржаўнымі гімназіямі.

Уплыў старшыні камісіі на вынік экзамінаў быў даволі вялікі. Мне асабіста і майму найлепшаму сябру дзякуючы старшыні камісіі Кляйндзінсту, які кіраваў матуральнымі экзамінамі ў 1930 г., прыйшлося знайсьціся ў ліку “зрэзаных”. Мае размовы зь сялянамі падчас зьбіраньня ахвяраў на будову гмаху для гімназіі і некаторыя сказы

34 **Стэфан Жаромскі** (польск. *Żeromski*; 1864–1925), польскі пісьменьнік і публіцыст, якога часта называюць “*сумленьнем польскай літаратуры*”. Леў Гарошка згадвае пра ягоны аўтабіяграфічны твор “Сызыфава праца”, напісаны ў 1897 г.

35 **Клецкая беларуская гімназія** — сярэдняя навучальная ўстанова, якая існавала ў Клецку ў 1924–1931 гг. Зачыненая польскімі ўладамі за камуністычную дзейнасьць.

36 **Віленская беларуская гімназія** — найстарэйшая беларуская сярэдняя навучальная ўстанова, якая працавала ў Вільні ў 1919–1944 гг. У 1932–1939 гг. была філіяй польскай дзяржаўнай гімназіі імя Ю. Славацкага. Ад 1924 г. усе прадметы ў гімназіі выкладаліся выключна па-беларуску.

37 **Радашкавіцкая беларуская гімназія** — сярэдняя навучальная ўстанова, якая існавала ў мястэчку Радашкавічы ў 1922–1928 гг. Ініцыятарам яе стварэньня быў ведамы беларускі дзеяч Аляксандар Уласаў. Зачыненая польскімі ўладамі за камуністычную дзейнасьць.

зь пісьмовае працы зь беларускае літаратуры былі ўзятыя “пад спэцыяльную ўвагу”.

У 1931 г. старшынёю экзамінацыйнае камісіі быў вызначаны ўрадовец Віленскае Куратoрыі Нарвойш, добра ведамы ў Вільні з свае строгасьці. На яго аднойчы польскія зрэзаныя матурысты рабілі атэнтат[38]. Магчыма, дзякуючы гэтай абставіне нашы матуральныя экзаміны 1931 г. прыцягвалі да сябе ўвагу наваградзкага грамадзтва, а нам нічога добрага не варажылі.

Экзамінацыйную салю для пісьмовых экзамінаў сам Нарвойш выбраў у Польскай Гімназіі на другім паверсе, каб нас поўнасьцю адрэзаць ад усяго “вонкавага сьвету”. Такія абставіны нас маглі прыгнобіць, аднак першая група з 13 чалавек трымалася надзіва бадзёра і гэта не засталося без увагі зыркага вока начальства. Падчас самых экзамінаў настрой яшчэ палепшыўся; пэўна ж не без падставаў, хоць Мілаў нас страшэнна падвёў, бо перад экзамінамі казаў, каб мы рыхтаваліся найбольш з трыганамэтрыі, а аналітыку пакінулі ў спакоі, бо ён з трох тэмаў абавязкова выбярэ задачу з трыганамэтрыі, а зрабіў якраз наадварот. На трэці дзень экзамінаў, калі я першы выйшаў з салі і, не чакаючы іншых, накіраваўся ў бурсу, неспадзявана на Касьцельнай вуліцы стрэнуў старасьціху Грынеўскую. Яна затрымала мяне і пачала распытвацца, як ідуць экзаміны. На ўсе пытаньні я адказваў вельмі агульна.

*— Э, я бачу, што вы толькі ўдаеце сьціплых, а я чула, што вашыя экзаміны йдуць вельмі добра.*

*— Калі так пані старасьціха чула, дык гэта мяне вельмі цешыць,* — казаў я, вельмі ўсьцешаны, *— бо ведаю, што вы маеце лепшыя інфармацыі, чым хто іншы.*

*— Ну глядзі ты, які зь яго дыплямат,* — спахвацілася яна, каб загаварыць тое, аб чым нехаця прагаварылася, *— гэтыя інфармацыі я маю з твайго аблічча. Не дарма ж такі бадзёры!*

*— О, гэткія інфармацыі вельмі зводныя. Я ўжо маю сумнае дасьведчаньне зь мінулага году.*

*— Што там мінулы год! Вось калі сёлета здасі экзамін безь ніводнае тройкі, дык запэўніваю, што будзеш першым на лісьце тых, якія атрымаюць стыпэндыю з Павятовага Соймiка. Я ўжо даўно гаварыла аб гэтым вашым настаўніцам і, спадзяюся, што яны вам пераказалі мае словы.*

*— Так, яны мне гаварылі, і я вам дзякую за абяцанку, толькі здаецца, што яна абумоўлена неасягальнымі засьцярогамі.*

Мы разьвіталіся, і кожны з нас пайшоў у свой бок з сваімі думкамі. Я ніяк ня мог уцяміць, чаму мне ставяць такія ўмовы, калі іншым выдаваліся стыпэндыі безь ніякіх абумоўленьняў.

---

[38] **Атэнтат** (ад лац. *attentatum*) — тут: спроба замаху на жыцьцё чалавека.

Пісьмовыя матуральныя экзаміны прайшлі для нас сапраўды вельмі шчасьліва — уся група была дапушчана да вусных экзамінаў. Для мяне ж яны выпалі шмат лепш, чым я мог спадзявацца — я ня меў ніводнае тройкі і быў звольнены з вусных экзамінаў аж з чатырох прадметаў, якіх я, праўда, і так не баяўся. Трэба было здаваць вусныя экзаміны з прыродазнаўства, як абавязковага прадмету, і з польскае мовы, зь якое я заўсёды кульгаў.

І вусныя экзаміны здалі ўсе трынаццаць чалавек. Лішнім было б пісаць, як мы цешыліся. Ня менш за нас цешыліся настаўнікі, бо такі вынік экзамінаў быў найлепшым сьведчаньнем аб высокім навуковым узроўні гімназіі.

Паводле адвечнае традыцыі, такую важную падзею мы належна "аблілі"[39] ў найлепшым наваградзкім рэстаране Лейпунера[40].

Матуральнае пасьведчаньне было здабытае, і я быў першым; былі адчынены дзьверы ў сьвет да вышэйшых студыяў, але... як жа многа зьявілася гэтых "але", каб выкарыстаць як сьлед тыя магчымасьці, якія зазьзялі на далёкім кругазоры жыцьцёвага шляху і да якіх імкнуўся юнацкі дух!

## Куды ісьці далей?

Ад маленства я меў два розныя жаданьні: або стацца лекарам, або інжынэрам-мэханікам. Цяпер, маючы матуральнае пасьведчаньне прырода-матэматычнага тыпу без лацінскае і грэцкае моваў — мэдыцына адпадала. Я адразу пастанавіў шукаць добрую палітэхніку. Ужо ня раз пры розных нагодах мне даводзілася чуць аб Бэрлінскай Палітэхніцы як адной зь лепшых у Эўропе, дык адразу пасьля экзамінаў напісаў туды ліст з помаччу настаўніка нямецкае мовы з просьбаю аб інфармацыі адносна магчымасьці студыяў і атрыманьня стыпэндыі. Адказ з Бэрліну прыйшоў вельмі хутка, але ён быў для мяне абезнадзейваючым, бо там стыпэндыі для чужынцаў прызначаліся толькі пад умоваю папярэдняга экзаміну зь нямецкае мовы. На жаль, у нашай гімназіі нямецкую мову вучылі так, што на добры вынік экзамінаў ніяк нельга было разьлічваць. Пасьля гэтага сталася вельмі актуальнаю абяцанка стыпэндыі і Наваградзкага павятовага сойміку, бо ўмовы, якія ставіла старасьціха, на шчасьце, былі споўнены.

Каб упэўніцца, ці тая абяцанка сапраўды нечага вартая, я выбраўся зь візытаю да павятовага старасты ў ягонае прыватнае памешкань-

39 Маецца на ўвазе — адзначылі (ад польск. *oblewać*).

40 Сын уладальніка гэтага рэстарану (паводле А. Чэмера, увогуле *"адзінага ў горадзе"*), Міхель, быў вучнем Наваградзкай беларускай гімназіі. Відаць, менавіта дзеля гэтага зусім небагатыя гімназісты атрымалі магчымасьць адзначыць урачыстую падзею ў гэтым прэстыжным месцы.

не. Зразумела, што старасьціха ўжо ведала аб выніках матуральных экзамінаў і ведала, што я яе ўмовы нават “перавыканаў”. Наша гутарка была кароткаю, я атрымаў запэўненьне ад старасьціхі, што яна датрымае сваё слова. Маючы такое запэўненьне, я мог спакойна адпачываць усё лета, а восеньню ехаць у Вільню і спакойна запісацца ў тамтэйшы ўнівэрсытэт, толькі мусіў выбраць або фізыка-матэматычны, або агранамічны факультэт.

Далей шукаць не было чаго, і я напісаў дамоў, каб прыехалі ў Наваградак забраць мае рэчы. Маючы крыху вольнага часу, я пайшоў да свайго сябра Юркі Д., за якога колісь заступаўся на суботніку, каб разам адвесьці душу. Гаворачы аб розных плянах, у канцы перайшлі на жарты, і тады ён мне кажа:

*— Ты хацеў ехаць за граніцу, а да гэтага ёсьць добрая нагода і якраз для цябе адпаведная.*

*— Якая нагода? Хіба на якую плянэту?*

*— Не! Не на плянэту, а ў Францыю,* — адказаў паважна Юрка.

*— Дык гэта нагода больш для цябе, бо ж ты вучыш францускую мову; а што я там буду рабіць з маім “я унд найн”[41]?*

*— Чакай, я табе скажу, у чым справа, дык ня будзеш сьмяяцца.*

*— Кажы, паслухаю.*

*— Пазаўчора я стрэнуў ажна чатырох беларускіх студэнтаў, якія вярталіся зь нейкага багаслоўскага інстытуту ў Францыі, здаецца, зь Ліль[42] ці што. Я іх усіх ведаю, бо гэта хлопцы з Далятыч[43] і зь Любча[44]. А ты ж рэлігію ведаеш добра, дык чаму не скарыстаць з магчымасьці пабачыць сьвету?*

*— Ты дзівак,* — адказаў яму, — *калі табе хочацца пабачыць сьвету, дык сам махай у той багаслоўскі інстытут разам са сваімі знаёмымі.*

Далей гутарка перайшла на іншую тэму.

Назаўтра, маючы вольны дзень, я пайшоў разьвітацца з Наваградкам. Праходзячы каля касьцёла, чамусьці прыпомніў учарашнюю гутарку Юркі, і раптам прыйшла думка: усё роўна рабіць няма чаго, дык

---

41 *“Так і не”* (ням.).

42 Відаць, маецца на ўвазе **Каталіцкі інстытут Ліля**, які быў заснаваны ў 1875 г. як прыватная навучальная ўстанова і першапачаткова называўся ўнівэрсытэтам. Паколькі ў 1880 г. у Францыі быў прыняты закон, згодна зь якім прыватным ВНУ было забаронена выкарыстоўваць у сваёй назьве слова “ўнівэрсытэт”, установа была перайменавана ў Каталіцкі інстытут Ліля.

43 **Далятычы** (Далятычы) — цяпер вёска ў Любчанскім пассавеце Наваградзкага раёну Гарадзенскае вобласьці.

44 **Любча** — цяпер гарадзкі пасёлак у Наваградзкім раёне Гарадзенскае вобласьці.

цікава зайсьці да ксяндза і даведацца, ці сапраўды ў Францыі ёсьць такі інстытут, куды прымаюць студэнтаў аж з нашых ваколіцаў.

Падумана, зроблена! Мяне прыняў якісьці малады ксёндз, які нічагусенька ня ведаў аб існаваньні такога інстытуту ў Францыі, але параіў мне зайсьці да віцэ-рэктара Люблінскага Каталіцкага Ўнівэрсытэту[45], які зь нейкае нагоды якраз тады знаходзіўся ў Наваградку і напэўна мусіць ведаць аб падобных установах.

Віцэ-рэктар затрымаўся насупраць фарнага касьцёлу. Мне вельмі карціла пабачыць і пагутарыць з каталіцкім сьвятаром — віцэ-рэктарам вышэйшае навуковае ўстановы, бо гэта быў кантраст да тых праваслаўных сьвятароў, якіх я да гэтага часу сустракаў. Таму неадкладна пайшоў да яго. Ён якраз быў дома і прыняў мяне вельмі ветліва, але аб тым багаслоўскім інстытуце ў Францыі, аб якім расказваў Юрка, і ён нічога ня ведаў. Затое пачаў мне гаварыць аб Люблінскім Інстытуце (потым ператвораным у Каталіцкі Ўнівэрсытэт) і ў канцы пачаў распытвацца, чаму мне прыйшла такая думка. Сам ён нічым не азначаўся, і я зьбіраўся выходзіць, а ён яшчэ затрымоўваў.

*— Ці вы даўно займелі думку стацца сьвятаром?*

*— Зусім не. Я перш мроіў стацца лекарам, а потам інжынэрам,* — адказаў я, устаючы.

*— Пачакайце; дык чаму ў вас зьявіўся намер пайсьці іншаю дарогаю? Вы выбачце мне такую недыскрэтнасьць*[46]*, але мяне моцна цікавяць такія пытаньні.*

Я знайшоўся ў вялікім клопаце. Такое пытаньне было для мяне зусім нечаканым, але трэба было нешта адказаць, і я задумаўся. Раптам як маланка прылятае думка:

*— Бо я пераканаўся, што інжынэры хоць робяць шмат добрага для людзтва, але ўсе іхнія творы мінушчыя; дактары хоць лечаць людзей і шмат памагаюць у цярпеньні, але ад сьмерці ўсё роўна нікога выратаваць ня могуць, бо і самі ўміраюць. А сьвятары, калі яны добрыя, могуць быць найбольшымі дабрадзеямі для людзей, бо ратуюць не якіясьці дачасныя людзкія дастаткі, але людзкую несьмяротную душу для вечнага жыцьця і вечнага шчасьця.*

*— Прыгожа, цудоўна!* — захапіўся віцэ-рэктар. *— Пішы заяву ў Люблінскі Інстытут і абавязкова напішы вось аб гэтым, што цяпер сказаў, і цябе прымуць адразу.*

Пісаць заяву ў Люблін я нават і ня думаў, але выйшаў ад віцэрэктара зь дзіўным уражэньнем. *“Нагаварыў жа я яму ліха ведае чаго; і адкуль мне такая думка прыйшла?”* — думаў я.

---

45 **Люблінскі каталіцкі ўнівэрсытэт** — каталіцкая вышэйшая навучальная ўстанова, якая працуе ў Любліне з 1918 г. да сёньня.

46 **Недыскрэтнасьць** (ад польск. *niedyskrecja*) — нетактоўнае ўмяшаньне ў чужыя асабістыя справы.

Але далей падзеі пачалі ісьці сапраўды дзіўным шляхам. Выходжу я на рынак, а там бачу: прэцца Юрка ў гімназію і адразу да мяне:

*— Ты яшчэ не паехаў дадому? Дзе ж ты ходзіш?*

*— Шчэ бацька ня прыехаў. Магчыма, праз пару гадзін будзе тут, а тым часам трэба ж і з Наваградкам разьвітацца.* — І тут я ня выцерпеў, каб ня выказаць яму дакору. *— Але ж ты мяне і падвёў з тым багаслоўскім інстытутам; ніхто з ксяндзоў аб ім нічога ня ведае.* — І расказаў яму пра гутарку зь віцэ-рэктарам.

Юрка аж за жывот узяўся са сьмеху і пагнаўся ў гімназію, а я пайшоў у бурсу чакаць бацькі і нават не прадчуваў таго, што той дзень быў зваротным у маім жыцьці.

## Дамоў на адпачынак

Бацька прыехаў у Наваградак вечарам. Пераначаваўшы ў бурсе, назаўтра раніцаю мы выехалі дамоў. Па дарозе бацька зацікавіўся будучыняю:

*— Можа ўжо за гэтых пару дзён знайшоў якую дарогу далей?*

*— Амаль што знайшоў, бо маю ўжо запэўненую стыпэндыю ў Віленскі Ўнівэрсытэт.*

*— Як гэтак, то добра.*

Аб тым, куды будзе лепш накіравацца пасьля атрыманьня матуры, мне прыходзіла гаварыць з бацькам ня раз, але заўсёды нашыя намеры сустракалі непераможныя перашкоды. Мы мелі амаль падобныя ўпадабаньні: або мэдыцына, або палітэхніка. Бацька падчас вайсковае службы скончыў аднагоднюю фэльчарскую школу і вельмі хацеў ісьці далей, але, маючы толькі тры клясы народнае школы, атрымаў рашучую адмову. А мне ўпапярок дарогі сталі іншыя перашкоды. Каб ісьці на палітэхніку, трэба было быць больш чым бедным сялянскім сынам. Пры тым я мусіў яшчэ памятаць аб маіх малодшых братох — іх было чатырох. Трэба было хутчэй стаць на ногі, каб ім крыху памагаць.

Атрыманьне матуры нават і ў сем'ях інтэлігенцыі прыймаецца зь вялікай радасьцю, тым больш у нашай сялянскай сям'і гэта было вялікаю падзеяю. Калі мы з бацькам уехалі ў родную вёску, амаль паўсюдна сустракалі радасныя прывітаньні. Праўда, з нашае вёскі — Трашчычаў — да гэтага часу ўжо выйшла некалькі чалавек зь сярэдняю і вышэйшаю асьветаю. Адзін кончыў у часе вайны ў нейкай расейскай палітэхніцы факультэт шляхоў злучэньня; трох аднавяскоўцаў канчала вышэйшыя студыі ў Празе-Чэскай[47], і двох хлапцоў,

[47] У міжваенны час нямала беларускіх студэнтаў навучалася ў вышэйшых навучальных установах Чэхаславаччыны дзякуючы праграме "Руская акцыя дапамогі" (*Ruská pomocná akce*), адкрытай у пачатку 1920-х гг. чэхаславацкім урадам. Хоць асобнага фінансаваньня для беларускіх эмі-

кончыўшы гімназію, пайшлі ў шырокі сьвет. Але са мною выйшла аж 9 юнакоў, і ўсе яны адсталі з розных прычынаў і былі сьведкамі, як цяжка сялянскім дзецям пры няспрыяючых адносінах улады вырвацца ў сьвет.

Удома на доўгі адпачынак не было часу. Ды як было сядзець у хаце падчас касавіцы? Панасіўшы першы тыдзень мазалі на руках, я не адставаў ані ад касцоў, ані потым ад жанцоў. Так і для гаспадаркі была карысьць, і ад паліцыі быў супакой.

У тым годзе мы сьпяшаліся ўправіцца са жнівам магчыма хутчэй, каб потым магчы пайсьці з малатарняю ў заработкі, бо ж неабходна было зарабіць мне на падарожжа і на вопратку. У нашай ваколіцы, акрамя мізэрных заработкаў пры палявых работах у маёнтку Вуша, ніякіх іншых заработкаў не было. На шчасьце, мой бацька сам умеў выдумаць заработак у сябе ўдома. У нас была свая невялікая кузьня і сталярскі варштат, якія звычайна служылі для сваіх гаспадарскіх патрэбаў. Большых сталярскіх і кавальскіх заказаў бацька не прымаў, бо з гэтым была спалучана пагроза, што адміністратыўныя ўлады маглі налажыць асобны падатак. Было нават некалькі выпадкаў, калі бацька навастрыў нарог суседзям ці падкаваў каня, дык знаходзіліся зайздрасьнікі, якія даносілі ў паліцыю, і прыходзіў камэндант паліцыі з пагрозаю розных адміністрацыйных караў за "нелегальную" кузьню, якая ня мае патэнту і ня плаціць прамысловага падатку. На шчасьце, пагрозы канчаліся нічым, бо за дробныя паслугі для сваіх родных і суседзяў бацька ня браў ніякае платы.

Але дзякуючы той невялічкай кузьні і сталярні пачалі зьяўляцца розныя гаспадарскія самаробныя машыны. Пачатак даў прывод. Знайшоў яго бацька прыпадкам у недалёкай вёсцы Радунь[48] у багатага селяніна, які, ня ўмеючы карыстацца ім, паламаў яго, як толькі першы раз пусьціў у рух малатарню. Той паламаны прывод бацька купіў за бясцэн і, папацеўшы каля яго якіх два тыдні, ніцуючы паламаныя шасьцярні, мы мелі ў гаспадарцы спраўны прывод. А маючы

грантаў і студэнтаў гэтая праграма не прадугледжвала (асноўную частку фінансавай дапамогі атрымлівалі расейскія арганізацыі і ўстановы, пэўная доля прыпадала і ўкраінцам), нязначныя субсідыі чэхаславацкія ўлады ўсё ж такі выдаткоўвалі й беларусам на адукацыйныя, культурнаасьветныя й выдавецкія мэты. Акрамя таго, падтрымлівала беларусаў і ўкраінская дыяспара, нешта перападала й ад расейскіх арганізацыяў. У выніку ўсяго гэтага ў Чэхаславакіі ў 1920-я гг. вучылася больш за 600 чалавек, зь іх каля 150 студэнтаў атрымалі месцы ў навучальных установах і інтэрнатах дзякуючы пратэкцыі Таварыства беларускай школы ў Вільні, ураду БНР у Коўне, Беларускага аддзелу Міністэрства беларускай асьветы Латвіі ды іншых беларускіх арганізацыяў.

[48] **Радунь** — сёньня вёска ў Жухавіцкім сельсавеце Карэліцкага раёну Гарадзенскае вобласьці.

прывод, неадкладна ўзяліся за малатарню. Яна была ўся самадзельная, за выняткам аднае вялікае шасьцярні, і працавала шмат лепш за фабрычныя малатарні. Гэта было пару гадоў перад матуральным экзамінам.

Свайго збожжа ў нас было мала — яго змалочвалі за дзень, а найбольш за паўтара дня. Пасьля гэтага праз усю восень і пачатак зімы [бацька] абмалочваў малатарняю за невялікаю аплатаю іншых гаспадароў з нашае і суседніх вёскаў. Заработак быў цяжкі для слабога здароўя бацькі, але ўсё ж гэта быў заработак. Аднак праз такое ўжываньне малатарня хутка зношвалася, і яе штыфт трэба было падвострываць штогод.

## Бог кліча на сваю службу, як Сам знае

Я крыху задоўга затрымаўся каля тае самадзельнае малатарні, але яна і сёньня стаіць перад маімі вачыма — ад яе Бог паклікаў мяне на сваю службу.

Было гэта на пачатку верасьня. У адну прыгожую раніцу бацька і я разьбіралі тую малатарню, аглядалі кожную частку, выбіраючы зношаныя штыфты і ачышчаючы ад дзёгцю шасьцярні, аж раптам бачым — да нас ідзе вучань з Наваградзкае Гімназіі і нясе ў руках нейкую паперку. Гэта была тэлеграма ад Антона Луцкевіча[49] зь Вільні да дырэктара Наваградзкае Гімназіі Я. Цеханоўскага. Зьмест яе быў кароткі: *“Няхай Гарошка прысылае дакуманты”*. Пасланец ня мог толкам паясьніць, што значыць гэтая тэлеграма. Ён быў родам з Турца[50] і якраз прасіўся ў дырэктара па нейкай справе дамоў, дык [той] перадаў яму тэлеграму з наказам, каб я прыехаў у Наваградак.

Бацькі глядзелі на мяне і на тэлеграму пытлівым поглядам, а я глядзеў на іх і ня ведаў, што гаварыць. Адно было ясна, што для высьненьня справы трэба было ехаць у Наваградак. Усе згадзіліся, што туды трэба ехаць неадкладна. Якраз яшчэ было каля гадзіны часу да аўтобуса, які хадзіў з Стаўпцоў у Наваградак і праходзіў блізка каля нашае вёскі. Я насьпех адмыў з рук дзёгаць, пераадзеўся і ў дарогу. Мама турбавалася больш за ўсіх такім раптоўным выездам.

*— Як жа так ехаць, а можа прыйдзецца затрымацца даўжэй ці ехаць далей, трэба ж з сабою нешта ўзяць, можа ня будзе позна і заўтра?..*

49 **Антон Луцкевіч** (1884–1942), грамадзкі дзеяч, адзін з галоўных ідэолягаў беларускага нацыянальнага руху. У 1918–1919 гг. быў прэм’ерам БНР. У міжваеннай Польшчы некаторы час быў нефармальным лідарам беларускага руху.

50 **Турэц** — сёньня аграгарадок, цэнтар сельсавету ў Карэліцкім раёне Гарадзенскае вобласьці.

*— Ты лішне ня турбуйся,* — супакойваў яе бацька, *— ён дасьць сабе рады.*

Разьвітаўшыся з бацькамі і братамі, я пасьпяшыў да аўтобуса.

У Наваградку дырэктар гімназіі сустрэў мяне з радаснаю ўсьмешкаю.

*— Зьбірайся скарэй і едзь у Вільню!*

*— Чаго туды ехаць?* — пытаюся, паважна зьдзіўлены.

*— Там Антон Луцкевіч пастараўся забясьпечыць табе месца ў Грэка-Каталіцкай Багаслоўскай Акадэміі ў Львове*[51].

*— Як жа гэта сталася? Я туды зусім ня думаў уступаць.*

*— Сталася вельмі проста. Мне расказалі, што ты хацеў ехаць у нейкі Багаслоўскі Інстытут у Францыі ці нават у Любліне, дык я падумаў, што табе было б лепш паехаць у Багаслоўскую Акадэмію, гэта ж шмат паважнейшая ўстанова, чым тыя інстытуты. А ведаючы, што Антон Луцкевіч мае добрыя стасункі зь Львоўскім мітрапалітам*[52]*, я напісаў яму аб табе. У адказ атрымаў тую тэлеграму, якую табе перадаў праз умыснага пасланца. Цяпер ясна ці не?*

*— І ясна, і няясна, бо вам нагаварылі немаведама што з тымі інстытутамі. Я зусім ня думаў туды ехаць.*

*— Ну, усё роўна, як там ні было, а цяпер ужо трэба ехаць у Вільню і там выясьніць справу на мейсцы, так будзе лепш. Зрэштаю, ты ж ўсё роўна мусіш быць у Вільні ў справе сваіх студыяў. А калі я зрабіў памылку, дык я заплачу табе за дарогу.*

На наступны дзень я ўжо быў у Вільні. Знайшоў Антона Луцкевіча ў Беларускім Музэі[53]. Ён прывітаўся са мною быццам з даўным знаёмым і пачаў расхвальваць Гр.-Кат. Акадэмію, потым зьвярнуў увагу на патрэбу беларускага духавенства. У музэі было шмат памятак зь беларускага рэлігійнага мастацтва.

*— Глядзіце, гэта ж бадай што найпрыгажэйшыя памяткі беларускае культуры, якія захаваліся да нашых дзён, і аграмадная большасьць зь іх зьвязаная зь беларускім рэлігійным жыцьцём.* — Гаварыў ён з глыбокім перакананьнем праўдзівасьці сваіх словаў. — *А цяпер мы маем мала свайго духавенства...*

---

51 **Грэка-каталіцкая багаслоўская акадэмія ў Львове** была заснаваная ў 1929 г. з ініцыятывы мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага. Першым яе рэктарам стаў Ёсіф Сьліпый. Пасьля 1944 г. працавала на эміграцыі, у 1994 г. аднoўленая дзейнасьць у Львове. Ад 2002 г. носіць назву Ўкраінскі каталіцкі ўнівэрсытэт.

52 Маецца на ўвазе **Андрэй Шаптыцкі** (1865–1944), дзеяч Грэка-каталіцкай царквы, мітрапаліт Галіцкі й арцыбіскуп Львоўскі ў 1901–1944 гг.

53 **Беларускі музэй імя Івана Луцкевіча** — існаваў у Вільні ў 1919–1945 гг., месьціўся ў базыльянскіх мурах на Вастрабрамскай вуліцы. Антон Луцкевіч да 1939 г. кіраваў ягонай дзейнасьцю.

Сапраўды, там было, аб чым паважна падумаць. У адной шафе між рэлігійных экспанатаў ляжаў напрэстольны крыж з рэльефным расьпяцьцем. Я глядзеў на той крыж, а з крыжа глядзела на мяне скульптура Хрыста. Ціхі, спакойны, цярпячы Хрыстос быццам клікаў бяз слоў... Я мусіў Яму нешта адказаць. Што Яму адказаць? Ці адмовіцца ад ягонага закліку?..

— *Добра!* — кажу Луцкевічу. — *Пішыце ў Львоў, што я туды прыеду ў Акадэмію.*

Мы дагаварыліся з Луцкевічам, што я ў Вільні пачакаю пару дзён, пакуль прыйдзе дэфінітыўны адказ ад Львоўскага Мітрапаліта А. Шэптыцкага. На маё зьдзіўленьне, туды ёсьць шмат больш кандыдатаў, чым магчымасьцяў прыняцьця, і выбіраюцца кандыдаты паводле конкурсу матураў. Чакаць прыйшлося нядоўга. Вольны час чаканьня можна было выкарыстаць, каб бліжэй пазнаць сваю старую сталіцу і сучасны беларускі культурны цэнтар.

## Вільня

У 1931 г. беларускае культурнае жыцьцё ў Вільні пульсавала хоць і ня так моцна, але ўсё ж адчувальна. Праўда, на вуліцах чулася пераважна польская мова, і колькасна беларускіх культурных установаў было мала, але беручы пад увагу тыя ўмовы, у якіх знаходзілася беларускае грамадзкае, рэлігійнае і наагул культурнае жыцьцё, а перадусім маючы на ўвеце ўсьцяж узрастаючы польскі наступ на ўсе праявы беларускага жыцьця — беларускіх установаў у Вільні было нямала.

Агляданьне беларускіх установаў я пачаў на наступны дзень раніцаю зь Беларускага Музэю. Гэтым разам А. Луцкевіч паказваў мне ня толькі выстаўленыя экспанаты, але і захаваныя. Прыкра было сьцьвердзіць, што такая вялікая скарбніца беларускае культуры месьціцца ў невялічкім памешканьні. У родным краю не было магчымасьці мець адпаведны будынак для тых каштоўнасьцяў, якім з кожнага гледзішча належалася пачэснае мейсца. Дырэктар музэю, шырокаведамы грамадзкі і культурны дзеяч, ня толькі паказваў мне экспанаты, але адначасна расказваў важнейшыя гістарычныя падзеі, зьвязаныя з экспанатамі. Гэта былі цікавыя і жыва ілюстраваныя мамэнты з гісторыі Беларусі. Між экспанатамі знайшліся і такія, што паходзілі з маіх родных ваколіц: старое Эвангельле зь Вялікіх Жухавічаў[54]. Яго знайшоў Іван Луцкевіч[55] прыпадкам, заехаўшы да

[54] **Вялікія Жухавічы** — сёньня вёска, цэнтар Жухавіцкага сельсавету ў Карэліцкім раёне Гарадзенскае вобласьці.

[55] **Іван Луцкевіч** (1881–1919), грамадзкі й культурны дзеяч, адзін са стваральнікаў Беларускай Сацыялістычнай Грамады й газэты “Наша Ніва”. Старэйшы брат Антона Луцкевіча.

тамтэйшага старэнькага параха[56]. Перадаючы тое Эвангельле, парах узрушана гаварыў:

*— Цябе, сынку, сам Бог прывёў сюды, каб захаваць гэтую каштоўную памятку з нашае дарагое мінуўшчыны.*

Аглянуўшы музэй, Луцкевіч павёў мяне ў Беларускую Гімназію, якая месьцілася ў тым жа старым пабазыльянскім будынку. Дырэктар гімназіі і загадчык бурсы ахвотна згадзіліся, каб я затрымаўся ў інтэрнаце, пакуль прыйдзе адказ зь Львова.

У тым жа будынку мясьцілася Праваслаўная Духоўная Сэмінарыя[57]. Разьвітаўшыся з Луцкевічам, я спыніўся каля ўваходных дзьвярэй, ля якіх стаяла трох матурыстаў зь Віленскае Беларускае Гімназіі — значыць, маіх сяброў. Пазнаёміўся зь імі, і гаворым аб сваіх навінах. Аж праходзяць каля нас пару сэмінарыстаў і голасна гавораць па-расейску. Вось жа пытаюся ў маіх новых сяброў, ці ў Духоўнай Сэмінарыі ёсьць беларусы. Кажуць, што ёсьць, і што перш нават частkава выклады адбываліся па-беларуску, але потым калішні дырэктар сэмінарыі за паважную "ўзнагароду" згадзіўся ўвесьці польскую мову як выкладовую. Пры гэтым "пацяшаюць" мяне, што ў каталіцкай Духоўнай Сэмінарыі справы маюцца яшчэ горш; там пануе ваяўнічы польскі дух. Там нават Багародзіцу замяшалі ў палянізацыйную работу. Яе цудатворны Вастрабрамскі абраз укаранаваны другі раз 2.VII.1927 г. на "Каралеву Кароны Польскае", а з самое Вострае Брамы зьдзёрты лацінскі напіс і заменены польскім: *"Królowo Korony Polskiej módl się za nami"*[58]. Пагутарыўшы крыху, мы і пайшлі да Вострае Брамы. Па дарозе расказвалі мне, як некаторыя польскія ксяндзы нават зь Віленскае Капітулы не даюць разграшэньня, калі хто спавядаецца па-беларуску. Я затрымаўся каля Вострае Брамы, а яны пайшлі далей.

Пару гадоў потым мне давялося чытаць у беларускай прэсе, што сьвятакрадзкае надужываньне споведзі не зьяўляецца адзіночным выпадкам. У *Шляху Моладзі*[59] № 10 (70) 1934 г. у артыкуле "Кепска будзе з пастырамі" навочны сьведак апавядае, што *"1-га верасьня сёлета 1934 г. а гадз. 5–6 вечара двох маладых беларусаў-каталікоў пайшлі*

[56] **Парах** (ад грэц. *párochos* ці лац. *parochus* — які апякуецца) — адна з традыцыйных назваў хрысьціянскага сьвятара, перадусім грэка-каталіцкага, але часам можа ўжывацца таксама ў дачыненьні да праваслаўных ці рыма-каталіцкіх (як у выпадку Льва Гарошкі).

[57] **Віленская (Літоўская) праваслаўная сэмінарыя** — навучальная ўстанова Праваслаўнай царквы, якая вяла гісторыю ад 1828 г. (у Вільні працавала ад 1845 г.).

[58] *"Каралева Польскай Кароны, маліся за нас"* (польск.).

[59] **"Шлях моладзі"** — беларускі моладзевы грамадзка-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс, які выдаваўся ў Вільні ў 1929–1939 гг.

*ў касьцёл сьв. Яна ў Вільні да споведзі і трапілі да ксяндза пралата Савіцкага*[60]*. Вось-жа, калі першы зь іх стаў спавядацца па-беларуску, дык спавядальнік захаваньнем сваім змусіў беларуса спавядацца па-польску. Калі ж другі падышоў і таксама пачаў спавядацца па-беларуску, дык тады спавядальнік ужо фармальна ўскіпеў са злосьці і замест таго, каб спавядаць, пачаў лаяць беларусаў, называць іх камуністамі, бязбожнікамі, паскудзтвам, брыдзячы беларускую літаратуру і г. д.".* У наступным годзе *Шлях моладзі* № 12 (85) і *Беларуская Крыніца*[61] № 40 паведамілі, што Віленская Каталіцкая Духоўная Сэмінарыя канчаткова выкінула беларусаў. Але я зайшоў наперад, а тым часам я затрымаўся ў Вострай Браме, і там неяк сама наплывала думка, што мусіць і бесканечнае Божае цярпеньне хутка закліча Божую караючую руку за крывадушнае надужываньне сьвятасьцяў. Сапраўды, хутка абрушылася Божая караючая рука, але як жа прыкра, што засьлепленыя шавінізмам ксяндзы яшчэ не абразуміліся і да гэтага часу.

Мне моцна карцела пабачыць, як выглядае беларускае рэлігійнае жыцьцё ў Вільні. Здаецца, на другі ці трэці дзень майго там перабываньня была нядзеля. Я ведаў, што для вучняў Беларускае Гімназіі правяцца дзьве Службы Божыя зь беларускімі казаньнямі: для праваслаўных — у Пятніцкай царкве[62], а для каталікоў — у касьцёле Сьв. Мікалая[63]. Хоць яны правіліся амаль адначасна, але я здужаў пабыць на абедзьвёх службах. Абедзьве гэтыя сьвятыні невялікія, але

[60] **Адам Савіцкі** (1885–1968), каталіцкі дзеяч, паходзіў з ваколіцаў Гервят (сёньня ў Астравецкім раёне Беларусі). Ад 1917 г. быў прафэсарам дагматычнай тэалёгіі ў Віленскай духоўнай сэмінарыі, ад 1925 г. выкладаў таксама на тэалягічным факультэце Ўнівэрсытэту Стэфана Баторыя. У 1926 г. стаў канцлерам Віленскай мітрапалітальнай курыі. Падчас Другой сусьветнай вайны супрацоўнічаў з польскім падпольлем, быў інтэрнаваны немцамі разам зь мітрапалітам Р. Ялбжыкоўскім. Пасьля вайны быў арыштаваны савецкімі ўладамі, у 1947 г. вызвалены й выехаў у Польшчу. Жыў у Беластоку, у 1963 г. быў прызначаны Ватыканам беластоцкім біскупам.

[61] ***"Biełaruskaja Krynica"*** — газэта, друкаваны орган беларускіх хрысьціянскіх дэмакратаў. Выдавалася зь перапынкам у 1917–1940 гг. (у 1917–1925 і ў 1939–1940 гг. насіла назву *"Krynica"*).

[62] **Пятніцкая царква (Царква Сьвятой Параскевы Пятніцы)** — праваслаўная царква ў Вільні, храналягічна першы віленскі каменны хрысьціянскі храм, які быў пабудаваны ў 1345 г. Сучасны будынак узьведзены ў 1864 г. У 1920-я гг. у царкве служыў вядомы беларускі дзеяч а. Аляксандар Коўш, як дабіўся ад кансысторыі перадачы яе для патрэбаў Віленскай беларускай гімназіі. Пасьля Другой сусьветнай вайны царква была зачыненая, вернутая вернікам у 1990 г. Месьціцца на вул. Дзіджої, 2 (*Didžioji g.*, 2).

[63] **Касьцёл Сьвятога Мікалая** — каталіцкі храм у Вільні, пабудаваны ў канцы XIV ст. у гатычным стылі. Яшчэ з пачатку XX ст. права праводзіць у ім уласныя набажэнствы дабіліся віленскія літоўцы, у міжваенны час гэты касьцёл увогуле стаў адным з цэнтраў літоўскай культуры. Праз

колькі стараньняў мусілі праявіць беларусы, каб іх займець?!! Беларускае рэлігійнае жыцьцё знаходзілася ў вельмі цяжкіх умовах, але яно існавала! Апіралася яно на нямногіх слупох, але на слупох моцных і беззасьцярожна адданых Божай і беларускай справе. Зразумела, што мне было вельмі цікава адведаць беларускіх рэлігійных дзеячоў.

Каля гадзіны 10 раніцы зайшоў да а. Адама Станкевіча[64]. Ён ужо ведаў ад А. Луцкевіча аб маім намеры, дык прыняў мяне як багаслова. Калі ж у гутарцы даведаўся, што мая пастанова адносна багаслоўскіх студыяў яшчэ стаіць на хісткіх нагах, дык моцным націскам казаў:

— *Няма чаго хістацца; трэба йсьці ўпярод цьвёрда. У нас духавенства мала, а працы дык і не пералічыш...*

І сапраўды: дзе як дзе, але ў пакоі а. Адама, дзе сходзіліся ўсе ніткі беларускага духовага і грамадзкага жыцьця, было аж да болю ясна, як шмат можа і мусіць зрабіць беларускае сьвятарства ўва ўсіх галінах беларускага жыцьця. Праўда, прычына малое колькасьці беларускага каталіцкага духавенства ляжала выключна на сумленьні польскіх біскупаў, і яны нясуць за яе страшэнную адказнасьць перад Богам[65].

У часе гутаркі з а. Адамам зайшоў у пакой інж. Адольф Клімовіч[66], ягоны блізкі супрацоўнік. Новае знаёмства. Крыху жартуюць зь мяне

дамоўленасьць зь літоўцамі карыстацца касьцёлам для адпраўленьня сваіх уласных рэлігійных патрэб мелі магчымасьць і віленскія беларусы.

64 **Адам Станкевіч** (1891–1949), грамадзка-палітычны, рэлігійны й культурны дзеяч, адзін з заснавальнікаў і лідараў Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. На працягу ўсёй сваёй сьвятарскай дзейнасьці зьвяртаўся да вернікаў з казанямі на беларускай мове. У 1922–1927 гг. быў паслом польскага сойму.

65 У міжваенны час польскія каталіцкія іерархі, што ў пераважнай большасьці нэгатыўна ставіліся да ідэі беларусізацыі Каталіцкага касьцёла, скарыстоўвалі ўсе наяўныя ў сваіх руках мэханізмы, каб не дапусьціць атрыманьня духоўнай адукацыі ў падуладных сабе навучальных установах асобамі, якія залічвалі сябе да беларускага народу. Дзеля таго за ўвесь міжваенны пэрыяд высьвяціцца на каталіцкіх сьвятароў удалося ўсяго некалькім беларусам — як правіла, тым, якія атрымлівалі адукацыю за межамі Польшчы ці па-за юрысдыкцыяй рыма-каталіцкіх біскупаў.

66 **Адольф Клімовіч** (1900–1970), грамадзкі дзеяч, журналіст, выдавец. Вучыўся ў Карлавым унівэрсытэце ў Празе, які скончыў у 1928 г. Падчас вучобы ў Празе актыўна ўдзельнічаў у беларускім студэнцкім жыцьці. Пасьля вяртаньня ў Вільню ў 1932–1939 гг. рэдагаваў гаспадарчы часопіс “Самапомач”, працаваў у Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі і ў Беларускім інстытуце гаспадаркі й культуры. У 1939–1940 гг. удзельнічаў у выданьні “Беларускай крыніцы”. Падчас вайны працаваў у Беларускай Самапомачы ў Лідзе. Арыштаваны МДБ БССР у 1952 г., прысуджаны да вышэйшай меры пакараньня, замененай на 25 гадоў зьняволеньня. Амніставаны ў 1956 г., вярнуўся ў Вільню, дзе нават у тагачасных неспрыяльных умовах працягваў сваю нацыянальную дзейнасьць.

абодва, што я яшчэ як той дзядзька ў Вільні, і каб “асьмяліць” мяне, інж. Клімовіч падраджаецца паказаць мне цікавейшыя віленскія помнікі і перадусім тое, што ёсьць беларускае.

У ягонай кампаніі я накіраваўся ў рэдакцыю *Беларускае Крыніцы*. У рэдакцыйным пакоі засьпелі толькі самога рэдактара Янку Пазьняка[67]. Спакойны і маламоўны чалавек — ён быў шчыра адданы сваёй справе і не баяўся ніякіх цяжкасьцяў, ані ніякіх пагрозаў з боку польскае адміністрацыі.

Пасьля кароткае гутаркі мы пайшлі аглядаць друкарню — адзіную беларускую друкарню ў Заходняй Беларусі[68]. Каля касы ўвіхаўся студэнт-наборшчык, а каля друкарскае машыны прыладжваў гранкі машыніст. Для мяне там было ўсё новае, таму слухаў тлумачэньні інж. Клімовіча зь юнацкай цікавасьцю. Праўда, аб самым найважнейшым, што было годнае ўвагі ў той друкарні і рэдакцыі, ані інж. Клімовіч, ані іншыя не гаварылі нічога. А тым найважнейшым была шчырая ахвярнасьць і моцная любоў да Беларусі тых людзей, якія там так аддана працавалі.

Пры рэдакцыі ў адным пакоі адбывалася зборка беларускіх студэнтаў Віленскага Ўнівэрсытэту. Гэта былі пераважна тыя студэнты, якія з розных прычынаў прыехалі ў Вільню перад пачаткам акадэмічнага году. Інж. Клімовіч пазнаёміў мяне зь імі на студэнцкі лад. Да “будучага багаслова” зацікаўленьне ў студэнтаў было вельмі малое, і ня дзіва, бо ж тут у Віленскім Унівэрсытэце быў каталіцкі багаслоўскі факультэт, у якім панаваў варожы для беларусаў дух.

Раніца наступнага дня, калі я зайшоў у Беларускі Музэй, каб даведацца ад Луцкевіча, што чуваць зь Львова, даведаўся, што адтуль яшчэ адказу не было, але што мяне хоча бачыць а. Уладыслаў Талочка[69].

---

[67] **Янка Пазьняк** (1887 — пасьля 1939), палітычны й культурны дзеяч. Сябра Хрысьціянска-дэмакратычнай злучнасьці з моманту яе заснаваньня ў 1917 г. У 1928–1936 гг. рэдагаваў газэту “Беларуская крыніца”, ад 1938 г. — часопіс *“Chryścijanskaja Dumka”*. У канцы 1930-х гг. — старшыня Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэту. У 1939 г. арыштаваны НКУС, далейшы лёс невядомы.

[68] Маецца на ўвазе **Беларуская друкарня імя Францішка Скарыны**, якая працавала ў 1926–1940 гг. Ініцыятарамі яе стварэньня былі беларускія дзеячы хрысьціянска-дэмакратычнай палітычнай арыентацыі, а кіраваў працай друкарні Язэп Найдзюк, які ўжо пасьля вайны напісаў пра яе невялікую кнігу. Гл.: Цыпрыяновіч, С. (Найдзюк, Я.) Беларуская друкарня імя Францішка Скарыны ў Вільні (1926–1940). Лёндан, 1991. — 32 с.

[69] **Уладзіслаў Талочка** (1887–1942), каталіцкі сьвятар, рэлігійны й культурна-асьветны дзеяч, адзін з ідэолягаў і пачынальнікаў беларускага хрысьціянскага руху XX ст. Жыў і працаваў у асноўным у Вільні. Супрацоўнічаў з польскімі, літоўскімі і ўкраінскімі культурна-грамадзкімі й рэлігійнымі выданьнямі, падтрымліваў шырокія кантакты й вёў перапіску

Да гэтага часу я нічога ня чуў аб а. Талочку, таму хацеў крыху даведацца аб ім ад Луцкевіча, але ён збыў маю цікавасьць адным сказам:

*— О, гэта цікавы чалавек і вельмі вартасны сьвятар; пагаворыце зь ім, дык пазнаеце самі.*

У назначанай гадзіне я ўжо быў каля касьцёлу Сьв. Ганны, недалёка ад якога жыў а. Талочка. Архітэктурным мастацтвам гатычнага касьцёлу Сьв. Ганны нельга было не захапляцца. І я так заглядзеўся, што крыху спазьніўся зь візытам. Памешканьне а. Талочкі было невялікае і ўсё было завалена кнігамі, так што за імі нават гублялася асоба гаспадара. Ён сустрэў мяне вельмі радасна. Перапрасіў, што слаба гаворыць па-беларуску, і тут жа дадаў:

*— Хоць мая "мутэршпрахэ"*[70] *польская, але я не паляк.*

Калі ў папярэдніх візытах я больш слухаў, чым гаварыў, дык цяпер мне трэба было больш гаварыць, чым слухаць, бо а. Талочка распытваўся аб усім. Мы разьвіталіся як шчырыя прыяцелі і ад таго і аж да 1939 г. былі ў блізкай лістоўнай лучнасьці. Карпатлівая працавітасьць а. Уладыслава, ягоная ціхая і ахвярная праца для беларускага рэлігійнага жыцьця і глыбокая пабожнасьць — былі сапраўды ўзорнымі.

Блізка ад ягонага памешканьня мясьціўся Беларускі Банк[71] і рэдакцыя "Беларускага летапісу"[72], дык я зайшоў туды, купіў пару гадавікоў часапісу і з сумам аглянуў іхняе сьціплае ўладжаньне. Праўда, суцяшаючым быў той факт, што людзі хоць і ў вельмі цяжкіх абставінах, але працуюць вытрывала, не здаюцца. Далей нельга было абмінуць руіны Віленскага замку, гару Трох Крыжоў[73], і адтуль я накіраваўся пехатою аж да Лукіскага пляцу, дзе скончыў свой жыцьцёвы шлях Кастусь Каліноўскі.

---

зь вядомымі эўрапейскімі рэлігійнымі й культурнымі дзеячамі, у тым ліку зь мітрапалітам Андрэем Шаптыцкім. Настойліва й пасьлядоўна выступаў з пазыцый экумэнізму й рэлігійнага яднаньня.

70 **"Мутэршпрахэ"** (ад ням. *Muttersprache*) — родная мова.

71 **Беларускі каапэратыўны банк** — фінансавая ўстанова, якая існавала ў Заходняй Беларусі ў 1925–1938 гг. У яе стварэньні актыўную ролю ігралі беларускія дэпутаты ў польскім парламенце, перадусім грамадоўскага кірунку. У фінансавых актывах банку ў 1920-я гг. значную ролю адыгрывалі грошы, што паступалі з СССР. Банк меў, акрамя цэнтральнага офісу ў Вільні, два рэгіянальныя аддзяленьні — у Глыбокім і Пінску.

72 **"Беларускі летапіс"** — штомесячны культурна-грамадзкі й літаратурны часопіс дэмакратычнага кірунку, які выдаваўся ў Вільні з траўня 1933 г. да верасьня 1939 г. Быў заснаваны як орган Таварыства беларускай школы.

73 **Гара Трох Крыжоў** — гара ў Вільні, разьмешчаная на правым беразе ракі Віленкі. Раней называлася Лысай ці Крывой, сучасную назву набыла ад помніка з трох белых бэтонных крыжоў, пастаўленых у памяць пра манахаў-францішканцаў, забітых паганцамі ў XIV ст.

Ад 1925 г. існавала ў Вільні ўсх.-каталіцкая царква ў быўшым пааўгустынскім касьцёле[74]. Адведаў яе зь вялікаю цікавасьцю і з прыкрасьцю сьцьвердзіў, што там панавала расейскасьць больш яшчэ, чым у расейскіх цэрквах. Парахам быў айцец езуіт.

Яшчэ я ня кончыў свайго пляну агляданьня Вільні, як прыйшоў экспрэсам адказ ад мітр. Шэптыцкага на мой ліст. Адказ быў вельмі прыхільны. Я выслаў у Грэка-Каталіцкую Львоўскую Акадэмію ўсе патрэбныя дакументы, разьвітаўся з кім мог і паехаў дамоў, каб рыхтавацца ў доўгую і цяжкую дарогу. На разьвітаньне А. Луцкевіч даў мне ліст да мітр. Шэптыцкага, які я забавязаўся даручыць яму асабіста, як толькі прыеду ў Львоў.

## Нашы традыцыі — наш скарб

Шмат каму можа падацца дзіўным: як гэта і я сам, і мае сябры ў Наваградку, і дырэктар гімназіі, і беларускія дзеячы ў Вільні — будучы афіцыяльна, паводле мэтрыкаў, праваслаўнымі, дзейнічалі адносна Гр.-Кат. Акадэміі як каталікі. Так, сапраўды некаторыя дзейнічалі як каталікі, а некаторыя і лічылі сябе такімі. На гэтую тэму аднойчы была ў бурсе вельмі цікавая дыскусія ў дзень сьвяткаваньня незалежнасьці Беларусі. Навязваючы да слоў Трэцяе Устаўное Граматы, што трактаты, накіненыя Беларусі Расейскаю Імпэрыяю, Беларусь не абавязваюць, мы аднагодна прыйшлі да выснаўку, што тым больш нас не абавязвае царскі ўказ аб скасаваньні Вуніі і шматлікія беларускія “ўпорствуючыя” вёскі сьведчаць вымоўна, што і калісь беларускі народ не лічыў той акт абавязваючым. Калі ж хто прызнае насільную касату Вуніі як праўны і абавязуючы акт, будучы пасьлядоўным, мусіць прызнаваць сучасную Савецкую Беларускую Рэспубліку, за якую насельніцтва аддае галасы аж у 99,9 %, і адмовіцца ад змаганьня за незалежнасьць Беларусі.

Не адзін з вучняў Наваградзкае Беларускае Гімназіі не прызнаваў тых актаў, якія варожыя нам дзяржавы накідалі сілаю, таму хоць і не належалі да Вуніяцкае (Усходне-Каталіцкае) Царквы, але прынамсі некаторыя, у тым ліку і я, лічылі яе сваёю Царквою. З гэтаю Царквою зьвязана больш як двухвяковая гісторыя Беларускага Народу, зь ёю звязана змаганьне за захаваньне нашае самабытнасьці супраць наступу вынарадаўленьня з боку нашых суседзяў. Што нам няспо Праваслаўе, мы ведалі добра — а. Васіль, выкладаючы рэлігіі

---

[74] Маецца на ўвазе **касьцёл Божай Маці Суцяшэньня**, які быў пабудаваны ў XVIII ст. і цяпер знаходзіцца па вул. Савічаўс (*Savičiaus*), 13 у Вільні. На дадзены момант ня дзейнічае. Пасьля Другой сусьветнай вайны ён выкарыстоўваўся савецкімі ўладамі як склад для агародніны, а ўнутраны інтэр’ер быў зьнішчаны бэтоннымі перакрыцьцямі.

нават у Беларускай Гімназіі, насупраць усіх дамаганьняў прадаўжаў сваю русыфікацыйную дзейнасьць. Таму я сябе лічыў вернікам Усх.-Каталіцкае Царквы і мог безь ніякіх “пераходаў” студыяваць у Гр.-Каталіцкай Акадэміі, аформіўшы мэтрыкі згодна з маім перакананьнем. Багаслоўскія аргумэнты адносна Каталіцкае Царквы было даволі часу пазнаць падчас студыяў.

Пры гэтай нагодзе варта дадаць, што ў нашай ваколіцы ў часе майго юнацтва было яшчэ шмат жывых традыцыяў аб “Еднасьці” — так называў Вунію мой дзед. Ня раз падчас Вялікага посту, калі здараліся прыкрыя інцыдэнты з платаю за споведзь і за картачкі, усе старэйшыя людзі з жалем гаварылі: *“Калісь за часоў Еднасьці гэтага ніколі не было”*. Дзед Пракоп мне некалькі разоў расказаваў зь вялікім узрушэньнем, як аднойчы падчас паломніцтва ў Жыровічы[75] стрэнуў каля сьвіцязянскіх лясоў старога вуніяцкага сьвятара, які хаваўся недзе каля Сьвіцязі[76]. А дзед Васіль вельмі рэдка хадзіў у праваслаўную царкву — ён у нядзелю маліўся даўжэй удома і меў вялікую пашану да “ўпорствуючых”. У сваім юнацтве аднойчы ён гнаў чараду валоў аж на Палесьсе і там затрымаўся нанач у адной “упорствуючай” вёсцы. Была якраз субота. І вось бачыць: дзясятнік зь некалькімі каламі ў руках падходзіць да хаты, стукае ў акно і крычыць:

— *Даніла, заўтра ў царкву!*

— *Сьцяпан, заўтра ў царкву!*

Падышоў да хаты, дзе затрымаўся дзед:

— *Язэп, заўтра ў царкву!*

— *Хоць і пайду ў царкву, дык іхняму Богу і губою ня кіўну!* — адказаў гаспадар з хаты, нягледзячы на прысутнасьць незнаёмага чалавека.

У той вёсцы, каб усьцерагчыся ад прасьледу царскае ўлады за вернасьць сваёй прадзедаўскай веры, пасылалі штонядзелі і сьвята дзесяць гаспадароў у праваслаўную царкву, быццам пасланцоў ад вёскі, а тыя пасланцы для апраўданьня свайго сумленьня перад Богам заяўлялі, што йдуць у царкву не маліцца, а толькі адбыць рэлігійную паншчыну. Дзед Васіль ужо гэткае паншчыны не хацеў адрабляць.

Потым падчас студыяў мне ня раз здаралася чытаць глыбока ўзрушаючыя сцэны, як беларускае прыгнобленае паншчынаю і страшэннаю бядотаю сялянства ахвярна і па-геройску старалася абараняць свае рэлігійныя перакананьні, ня маючы ад нікога ніякага падтрыманьня і абароны. Царскі ўрад змог гвалтам зьнішчыць вуніяцкіх

[75] **Жыровічы** — сёньня аграгарадок, цэнтар сельсавету ў Слонімскім раёне Гарадзенскае вобласьці. Тут ад XVIII ст. разьмяшчаецца Сьвята-Ўсьпенскі манастыр, куды вернікі робяць паломніцтвы да цудатворнага абраза Божай Маці Жыровіцкай.

[76] **Сьвіцязь** — возера за 22 км на поўдзень ад Наваградка.

сьвятароў, сіламоц насадзіць сваё духавенства, але народ усімі сіламі стараўся не аддаць свае душы ў чужы палон. І гэтая традыцыя змаганьня за свабоду народнае душы ёсьць вялікім нашым скарбам.

## Цяжкая пастанова

Зь Вільні я прыехаў дамоў ня ў радасным настроі, бо зрачыся самавольна ўнівэрсытэцкае стыпэндыі і пайсьці па шляху ахвяраў нават з адпаведнаю падрыхтоўкаю даецца нялёгка, а ў мяне гэта сталася амаль раптоўна, таму прыходзілася паважна задумоўвацца над пастановаю і мераць свае сілы: ці змагу датрымаць сваю пастанову. Бацькі былі незадаволены такою зьменаю. Ды як маглі быць задаволены? У нашых ваколіцах праваслаўнае духавенства, як і шмат дзе на Беларусі, агулам ня мела ніякае пашаны. Горш таго: яно было прадметам кпінаў і насьмешак. Каталіцкае духавенства лацінскага абраду рахавалася чужым і ненавісным. Усходнекаталіцкае ў нас яшчэ было амаль няведамае; найбліжэйшая ўсходнекаталіцкая парахвія была аж за 33 км у Стаўпцах. Толькі дзед Пракоп быў шчыра задаволены, хоць гэтага нікому і не казаў.

Пасьля таго, як мае бедныя бацькі столькі гадоў самі недаядалі, стараючыся ашчадзіць які грош, каб было чым заплаціць за навуку, і цяпер раптам пабачылі, што я, маючы магчымасьць выбрацца на якуюсь лепшую дарогу, пакінуў яе і накіраваўся на шлях, які ў іхніх вачох быў такі непачэсны — ці ж дзіўна, што для іх мая пастанова была прыкраю. Але яны ведалі, што намовіць мяне зьмяніць яе ня змогуць, дык бацька абмежаваўся толькі кароткаю ўвагаю:

— *Ты ўжо сам за сябе адказваеш, дык рабі, як сам знаеш.*

Нават блізкім родным бацькі не гаварылі аб маім намераньні. А на запытаньні аднавяскоўцаў адказвалі проста:

— *Паедзе вучыцца ў Львоў.* — І гэткі адказ здавальняў амаль усіх.

У такім настроі трэба было рыхтавацца ў далёкую дарогу.

## Грэка-Каталіцкая Багаслоўская Акадэмія ў Львове

Час ішоў маланкава хутка, і 1-га кастрычніка 1931 г. я накіраваўся ў “вялікі сьвет”. Прыехаў я ў Львоў 2-га кастрычніка раніцаю безь ніякіх прыгодаў. Вялікі будынак Грэка-Каталіцкае Багаслоўскае Акадэміі пры вуліцы Капэрніка, 36 выдаўся мне нават шмат большым, як ён быў у сапраўднасьці, бо ж я мімаволі прыраўноўваў яго да роднае нізенькае вясковае хаты, зь якое выехаў учора. Студэнтаў у Акадэміі было многа; на пяцёх курсах у 1931 г. было 360 чалавек, у тым ліку на першым курсе было аж 90.



Ч. 743

ПОСВІДКА ВИКЛАДІВ

(TABELLA SCHOLARUM)

Назвисько слухача (Studiosi nomen) Горошко Ньюэко

Імя (Praenomen) Лев

Місце уроджения (Colus origo)

зістав принятий (inscriptus est)

Пасьведчаньне Льва Гарошкі як студэнта
Грэка-каталіцкай багаслоўскай акадэміі ў Львове. 1931 г.

Спачатку для мяне там было ўсё дзіўным. Пасьля гімназіі, дзе рэлігійнае ўзгадаваньне было амаль ніякім, уражала самая ўстанова — высока навуковая і глыбока рэлігійная з адпаведна дабраным штатам прафэсароў і дацэнтаў. Пры тым на мяне, як на беларуса, рабіла ўражэньне і тое, што гэтая ўстанова была шчыра ўкраінскаю і амаль усе студэнты былі абсальвэнтамі ўкраінскіх гімназіяў.

Калі першы раз я слухаў сьпяваную Службу Божую ў акадэмічнай царкве, на якой сьпявалі ўсе студэнты, дык здавалася, што тут ёсьць нацыянальная і духовая цьвярдыня. Пад уражэньнем тае магутнае малітвы я маліўся на свой лад: *“Божа мілы, калі мая просьба можа нешта значыць, дык прашу цябе, прыймі ў ахвяры ўсё маё жыцьцё за тое, каб і Беларусь мела падобную ўстанову!”*

Студэнты багасловы жылі закрытым жыцьцём, гэта значыць, што ў горад маглі выходзіць толькі з дазволу прэфэкта або рэктара. Парадак дня быў назначаны з дакладнасьцю да мінуты. Распачынаўся дзень малітваю, разважаньнем, Службай Божаю — а канчаўся такжа

малітваю. Усё гэта было новым і ўспрымалася ў меру ўмацаваньня ўнутранае дысцыпліны.

У навуковай галіне мяне стрэнулі паважныя цяжкасьці і непрыемнасьці. З усіх 90 першакурсьнікаў толькі я адзін быў з прырода-матэматычнае гімназіі і ня ведаў ані грэцкае, ані лацінскае моваў; шасьцёх было з гуманістычных гімназіяў, а рэшта з клясычных гімназіяў. Рэктар а. Язэп Сьліпы[77] зажадаў, каб я на працягу першых двох гадоў безумоўна дапоўніў лацінскую і грэцкую мовы за гімназійны курс, гэта значыць на філязафічным факультэце, бо пяцігадовы курс навукі быў падзелены на два факультэты: 2 гады філязофіі і 3 гады тэалёгіі. Вось жа трэба было брацца за вывучэньне прадметаў, якія мне даваліся цяжка, а тыя прадметы, *“дзе я быў як удома”*, — матэматыка і прыродазнаўства — аставаліся мёртвым багажом.

Ніколі не забудуся, зь якою цікавасьцю і нецярпеньнем я чакаў першага выкладу і якім ён быў для мяне страшэнна прыгнаблюючым. Гэта была лекцыя філязофіі. Ува ўсіх каталіцкіх вышэйшых навучальных установах філязофія і дагматыка ў асноўным выкладаюцца па лаціне. І малады выкладчык а. Максімец[78] пачаў свой выклад філязофіі па лаціне, а да таго яшчэ час ад часу пераплятаў свой выклад грэцкімі словамі. Па-ўкраінску сказаў усяго некалькі сказаў. Сядзеў я на тым выкладзе, як на турэцкім казаньні, і паглядаў на маіх суседзяў. Некаторыя сядзелі так, як і я, не пісалі нічога, але, відаць, выклад крыху разумелі, але некаторыя штосьці нават запісвалі ў сшыткі. Я спусьціў галаву і думаў аб сабе: куды ты трапіў; што ты тут будзеш рабіць?

Праўда, іншыя прадметы выкладаліся па-ўкраінску, але філязофія была асноўным прадметам, таму пасьля першага дня “студыяў” я чуўся сам ня свой. Прыходзіла думка кінуць усё і ўцякаць, але ад такое думкі рабілася брыдка. На дапамогу прыходзіла іншая думка, што кінуць заўсёды будзе час; перш неабходна спрабаваць свае сілы. І гэтая думка брала перавагу над першаю.

Недзе на трэці дзень майго прыезду ў Львоў я занёс мітрапаліту Шэптыцкаму ліст А. Луцкевіча. Якраз тады мітрапаліт быў моцна хворы і ўсе афіцыяльныя візыты былі спынены, дзеля гэтага я,

---

[77] **Ёсіф Сьліпы** (1892–1984), украінскі царкоўны дзеяч. Быў рэктарам Львоўскай грэка-каталіцкай багаслоўскай акадэміі ад самага яе заснаваньня ў 1929 г. Ад 1944 г. галіцкі грэка-каталіцкі мітрапаліт. У 1945–1963 гг. зьняволены савецкімі ўладамі. Пасьля вызваленьня выехаў у Рым, дзе яму быў нададзены сан кардынала. Да самай сьмерці заставаўся Вярхоўным архіяпіскапам Грэка-каталіцкай царквы.

[78] **Уладзімер Максімец** (?—1977), грэка-каталіцкі сьвятар, прафэсар Грэка-каталіцкай багаслоўскай акадэміі ў Львове. Выкладаў лёгіку, крытыку, анталёгію, псыхалёгію. Пасьля Другой сусьветнай вайны арыштаваны й высланы ў Сібір, пасьля вярнуўся на радзіму. Памёр у Моршыне на Львоўшчыне.

перадаўшы ліст ягонаму даверанаму слузе, студыйскаму манаху Атаназію[79], і зазначыўшы, што гэта ліст ад беларусаў зь Вільні, хацеў выходзіць з палаты, але брат Атаназі параіў зачакаць пару хвілін, пакуль ён вернецца з адказам. На маё зьдзіўленьне, мітр. Шэптыцкі прасіў мяне да сябе і прыняў з шчыраю радасьцю. Прызнаюся, што я спачатку быў разгубіўся: з аблічча Мітрапаліта сьвяціла нейкая асаблівая павага і дабрата, а з вачэй зьзяў праніклівы розум. Наагул ягоная асоба мела нейкі асаблівы адпячатак, якога нельга назваць іначай, як адпячаткам сьвятасьці. Магчыма, таму гутарка зь ім была прыемная і доўгапамятная. Нягледзячы на сваю хваробу, ён распытваў мяне аб сучасным беларускім жыцьці, аб настроях моладзі, аб маіх першых уражэньнях у Львове; шкадаваў, што са мною не прыехала больш беларусаў у Акадэмію. Выйшаў я ад Мітрапаліта ў бадзёрым настроі.

Потым, думаючы аб маіх цяжкасьцях у Акадэміі, мне між іншым прыходзіла на думку і такое пытаньне: што сказаў бы аб беларусах мітр. Шэптыцкі, каб я спалохаўся цяжкасьцяў ды ўцёк? А з тымі цяжкасьцямі хутка выясьнілася, што страх мой быў дарэмны. У гутарцы зь сябрамі я сьцьвердзіў, што і тыя, якія вучылі лацінскую мову ў клясычных гімназіях найменш пяць гадоў і мелі зь яе добрыя ацэнкі, такжа мала што разумелі з выкладаў, але ніхто зь іх тым лішне не праймаўся, згодна з радаю старэйшых сяброў. Да таго я хутка даведаўся, што ўсе прафэсары ведаюць добра, што студэнты маюць цяжкасьці з лацінскаю моваю, і дзеля гэтага пераплятаблагі свае выклады выясьненьнямі па-ўкраінску. *“О, як так, дык няма чаго лішне сумаваць!”* — сказаў я сам сабе і спакойна ўзяўся за навуку, налягаючы на мовы. Толькі ж было вельмі цяжка пераставіць матэматычнае накіраваньне на філялягічна-філязафічнае, і гэтая цяжкасьць асталася назаўсёды.

Хоць да гэтага часу я мала цікавіўся абрадова-рэлігійным жыцьцём, але мне адразу кінулася ў вочы, што ў Галіцыі абрад шмат у чым розьніўся ад таго, які быў на Беларусі. Некаторыя запазычэньні з лацінскага абраду мне вельмі не падабаліся. І на першай жа аўдыенцыі ў рэктара Акадэміі а. праф. д-ра Сьліпога я выказаў яму мае заўвагі аб тым абрадзе. Ён уважна выслухаў іх, нешта сабе запісаў і ў канцы, на маё зьдзіўленьне, сказаў, што якраз цяпер робяцца паважныя захады ў Львоўскай Мітраполіі, каб адкінуць некаторыя лацінскія запазычэньні, але захаваць усе стараўкраінскія абрады. Бо калісь на Ўкраіне, як, напэўна, і на Беларусі, былі свае абрады, а не цяперашнія сынадальна-расейскія. І тыя нашыя абрады нам найбольш адпавядаюць. Да іх аднаўленьня і накіроўваецца сучасны наш літургічны рух.

79 **Атаназій Кальбенка,** манах-студыт, пакаёвы слуга Андрэя Шаптыцкага, які знаходзіўся пры мітрапаліце апошнія 15 гадоў ягонага жыцьця.

Абяцанка рэктара хутка пачала спраўджвацца. Яшчэ ў тым жа акадэмічным годзе зьніклі найбольш разячыя лацінскія запазычэньні. Тыя зьмены студэнты прымалі з задавальненьнем і часам пыталіся прафэсара літургікі а. Сьцяпана Рудзя[80], калі тыя зьмены будуць абавязваць ва ўсёй Галіцыі.

Адразу пасьля Калядных канікулаў былі васьмідзённыя рэкалекцыі[81]. Яны зрабілі на мяне вялікае ўражэньне. У маўчаньні і сканцэнтраванасьці, разважаючы аб адвечных праўдах, аб мэце людзкага жыцьця, аб Божых плянах, адчыняўся новы велічны сьвет, ясьней зарысоўваўся жыцьцёвы шлях, і воля набірала сілы для пераадольваньня цяжкасьцяў на тым шляху. Пасьля гэтага я ўзяўся за працу з новаю энэргіяю. *"Раз Бог паклікаў мяне сюды, дык дапаможа асіліць усе цяжкасьці",* — сказаў я сабе і адкінуў думку аб уцёках.

Прысутнасьць на выкладах у Акадэміі была абавязковая. Але мне, акрамя выкладаў, у першую чаргу неабходна было вучыць лацінскую і грэцкую мовы, да таго трэба было яшчэ знайсьці час, каб зарабіць пару грошаў на асабістыя выдаткі, бо ўся мая "стыпэндыя" ў Акадэміі палягала на тым, што я не плаціў за ўтрыманьне і атрымоўваў ад Рэктара грошы, каб заплаціць за навуку ў квэстуру[82], а для такіх неабходных выдаткаў, як сшыткі, скрыпты[83], кнігі і пад. я ня меў ні гроша. На шчасьце, спаміж студэнтаў нашага курсу ўтварылася невялікая супалка для выдаваньня скрыптаў. Аднойчы я зацікавіўся працаю цыклястыл[84] тае супалкі ды так і стаў яе ўдзельнікам. Заработак быў невялікі, але хапала на неабходныя выдаткі, і да таго яшчэ меў бясплатна ўсе выданьні тае супалкі.

Першы год студыяў у Акадэміі быў для мяне цяжкі, але вынікі экзамінаў былі добрыя. Затое пасьля экзамінаў страшэнна хацелася адпачыць. На летнія канікулы я паехаў дамоў.

---

80 **Сьцяпан Рудзь,** грэка-каталіцкі сьвятар, выкладчык літургікі ў Грэка-каталіцкай багаслоўскай акадэміі ў Львове. Заснавальнік брацтва "Ўвядзеньне ў храм Прасьвятой Багародзіцы". Ад 1934 г. сябра Навуковага таварыства імя Тараса Шаўчэнкі. Быў сьвятаром сабора Сьвятога Юра ў Львове, сябрам Львоўскай архіепархіяльнай капітулы. Пасьля Другой сусьветнай вайны адмовіўся падтрымаць "узьяднаньне" Грэка-Каталіцкай царквы з Праваслаўнай, за што быў арыштаваны й высланы ў Чыцінскую вобласьць. Вярнуўся ва Ўкраіну ў канцы 1950-х гг., жыў у сяле Паўлаве каля Радэхава Львоўскай вобласьці.

81 **Рэкалекцыі** — у Каталіцкай царкве некалькідзённы пэрыяд, прысьвечаны духоўнаму абнаўленьню праз малітву й споведзь.

82 **Квэстура** — падразьдзяленьне ўнівэрсытэту, якое адказвала за гаспадарчую частку.

83 **Скрыпты** — тут: рукапісы.

84 **Цыклястылі** — прыстасаваньні рознай канструкцыі, якія мелі за мэту атрыманьне больш ці менш шматлікіх копій з тэксту, напісанага рукой ці пры дапамозе пішучай машынкі.

## Пехатою па Беларусі

### Знаёмыя ваколіцы

Прыехаўшы дамоў, у першыя дні прыходзіла[ся] апавядаць родным і знаёмым аб Багаслоўскай Акадэміі і аб навуцы ў ёй. Але пры гэтай нагодзе прыходзілася наслухацца шмат папрокаў пад адрасам мяйсцовага духавенства. Слухаючы розныя дакоры, мне прыйшла думка прыглянуцца да жыцьця і працы духавенства ня толькі ў сваёй ваколіцы, але такжа крыху далей; пры гэтай нагодзе пазнаць лепш свой край і, будучы ў Вільні, паспрабаваць інкардынавацца[85] ў Віленскую Архідыяцэзію, бо да гэтага часу я ня быў прыпісаны да ніякае епархіі.

Як толькі кончылася жніва, я выбраўся пехатою на прошчу[86] ў Вільню. Першы дзень я ішоў хутка па добра ведамых дарогах, але самая мэта падарожжа падказвала мне глядзець на ваколіцу больш пільным вокам. Перад Карэлічамі абапал дарогі расьселіся польскія каляністы. Тут яны жылі ўжо больш дзясятка гадоў, але іхнія хаты і нешматлікія гаспадарскія будынкі выглядалі быццам злабуданыя дачасу. Відаць, што іхнія гаспадары ў падсьведамасьці былі перакананыя, што яны тут затрымаліся толькі часова. Але між Карэлічамі і Нягневічамі было каляністаў шмат больш. Было цікава параўнаць, як тыя жывуць? Таму мімаволі прысьпешаў крок. Праз гадзіну ўжо быў каля асаднікаў. Тут некаторыя асаднікі мелі дамы зусім добрыя і больш гаспадарскіх будынкаў, але некаторыя жылі ў *“хатах на курыных ножках”*. Ды як магло быць іначай?! Там нядаўна правілі дарогу і чамусьці не абдзернавалі адкосаў. Дык вось на гэтых гладка зрэзаных адкосах зьявілася цэлая літаратура. Хоць напісана яна была living рознымі рукамі (уласьціва каламі), але ўся ў адным духу: *“Прэч, польская навалач!”*, *“Беларуская зямля сялянам!”*... і да таго розныя *“Хай жыве...!”*. Некаторыя старэйшыя напісы былі пазадрапаваныя, але каля іх зьяўляліся сьвежыя. Пэўна ж асаднікі чыталі іх у першую чаргу і, напэўна, чулі іх аддаўна, дык як маглі сядзець упэўнена? У навакольных вёсках было поўна малазямельных сялянскіх сем’яў, і тая зямля, якая іх магла жывіць, знайшлася ў руках чужых людзей, дык які мог быць настрой у людзей?

Зь невясёлымі думкамі я ўвайшоў у Нягневічы. Тым было некалькі сяброў з Навагрудзкае Гімназіі, якія студыявалі ў Вільні і Варшаве.

---

[85] **Інкардынацыя** — у кананічным праве акрэсьленьне абавязковай прыналежнасьці духоўнай асобы да пэўнай дыяцэзіі ці іншай царкоўнай супольнасьці.

[86] **Прошча** — месца (крыніца, камень і пад.), надзеленае, паводле ўяўленьняў вернікаў, надзвычайнай сілай.

Заходжу ў хату Міколы[87], а там цэлы гурт старых знаёмых з Навагрудку. Вітаючыся, яны наперабой крычалі:

*— Добра, што прыйшоў, бо якраз цябе тут не хапала!*

*— Да чаго гэта мяне тут не хапала? — пытаюся.*

*— Да самае важнае працы.*

*— Добра, давай важную працу, толькі што гэта за праца?*

*— Ты абвестку на рынку чытаў?*

*— Ніякае абвесткі на рынку я не чытаў, толькі ля каляністаў чытаў "абвесткі" на адкосах.*

*— Гэта зусім іншая справа,* — гаворыць ужо паважна Васіль Б.[88]. — *Сёньня ладзім спэктакль на карысьць Беларускага Студэнцкага Саюзу*[89]*, уласьціва на стыпэндыяльны фонд, дык трэба ўсё магчымае зрабіць, каб быў большы даход, таму і патрэбен быў добры кантралёр білетаў, якога тут мала знаюць. Калі з нас хто будзе кантраляваць, дык зашмат знаёмых пройдзе на зайца, а ў цябе знаёмых тут няма, дык можаш ад кожнага вымагаць білет.*

*— Згода, буду кантраляваць. Толькі я крыху здарожыўся і мушу адпачыць, каб заўтра йсьці далей.*

*— На гэтае ў гумне маеш мейсца, колькі хочаш аж да раньня.*

Беларускія прадстаўленьні былі частым зьявішчам, але гэтым разам глядзельнікаў назьбіралася больш як звычайна. Студэнты зрабілі ўдалую рэкляму, і прыйшло шмат людзей з ваколічных вёсак. Прыемна было сьцьвердзіць суцяшаючы факт, якім гэты куток Навагрудчыны мог ганарыцца. Тут шмат сялянскае моладзі, нягледзячы на ніякія цяжкасьці, прабівала сабе дарогу ў сьвет. І відаць было, што сяляне гэтым ганарыліся. Вось двох пажылых гаспадароў спынілася каля мяне:

*— Нешта вас мы ніколі ня бачылі ў Нягневічах; мусіць, вы недзе здалёк? — пытаўся малодшы.*

*— Адкуль вы будзеце?* — дадаў другі.

---

87 Відаць, маецца на ўвазе аднаклясьнік Льва Гарошкі **Мікола Орса**, які паходзіў зь Нягневічаў. Малодшы брат Аляксандра й Пётры Орсаў. Скончыўшы Навагрудзкую беларускую гімназію, паступіў у Галоўную школу сельскай гаспадаркі ў Варшаве, на факультэт вэтэрынарыі, працаваў па спэцыяльнасьці. У кастрычніку 1939 г. быў удзельнікам Народнага сходу Заходняй Беларусі ў Беластоку й выступаў на ім з прамовай. Быў прызначаны абласным вэтэрынарам Баранавіцкае акругі. У 1941 г. арыштаваны й высланы ў Сібір. Пасьля вызваленьня на радзіму не вярнуўся, памёр у 1970-я гг.

88 Магчыма, маецца на ўвазе **Васіль Бахар**, які ў гады Другой сусьветнай вайны апынуўся на Беласточчыне й стаў дырэктарам беларускай школы ў Гайнаўцы. У 1945 г. быў арыштаваны органамі НКУС і вывезены, паводле акрэсьленьня А. Чэмера, *"на шахты ў Крывы Рог"*.

89 **Беларускі студэнцкі саюз** — арганізацыя студэнтаў-беларусаў Унівэрсытэту Стэфана Баторыя ў Вільні, якая існавала ў 1921–1939 гг.

— *Ажно з-пад Міра, чулі такое мястэчка?*

— *А як жа ня чуць? Чуў, на кірмашы нават аднойчы там быў.*

— *А дзе цяпер вучыцеся?* — пытае далей старэйшы.

— *У Львове, у Багаслоўскай Акадэміі.*

— *Во брат, і ў Львоў ужо нашы хлопцы трапілі,* — гаварыў з задавальненьнем малодшы, а старэйшы дадаў:

— *Ну вось, можа ўжо нарэшце і нашыя духоўныя будуць, а гэта вунь у нас адзін маскаль і цікавіцца толькі тым, каб як выцягнуць у каго залатоўку, а другі паляк — займаецца толькі гэтаю навалаччу.*

Да нашае гутаркі прыслухоўваецца пару старэйшых жанчын і некалькі дзяўчат. Раптам жанчына падышла бліжэй:

— *Ты, Янка, на цяперашняга бацюшку лішне не наракай, бо ён хоць моліцца як трэба; во той, што перад ім быў, дык той, праўда, быў нейкая халера...*

Потым ня раз даводзілася пачуць горкія нараканьні вернікаў на нягодных сьвятароў, і кожны раз пацьвярджаўся жалюгодны факт, што ніхто ня робіць горшае шкоды для Царквы, як дрэнныя духоўныя. Так ужо дзеецца ад вякоў; і Хрыста прадаў нягодны апостал Юда.

Пасьля спэктаклю пачаліся танцы. І студэнты, і сяляне тварылі адну грамаду. Я, змучаны падарожжам, пайшоў у Міколава гумно на сена. Са мною йшоў мой новы знаёмы, малады гаспадар, і на разьвітаньне не бяз гонару казаў:

— *Вот гэта мне падабаецца: з вучонымі вы вучоныя, а з намі вы такія, як і мы, дык і наша галава крыху падымаецца.*

На наступны дзень мае сябры прыйшлі з танцаў, як ужо ўсходзіла сонца. Яны занялі маё мейсца, а я, падсілкаваўшыся сьвежым сырадоем, накіраваўся ў далейшую дарогу, але зайшоў усяго да Далятыч і тут спыніўся на цэлы дзень.

## Далятычы

Затрымацца тут было чаго. Гэта была адна з старэйшых і большых усходнекаталіцкіх парахвіяў на Беларусі. Мяне вельмі карціла пазнаць яе бліжэй. Думка аб утварэньні ўсходнекаталіцкае (вуніяцкае) парахвіі зьявілася ў людзей безь ніякае прапаганды з боку каталікоў. Хутка пасьля польска-бальшавіцкае вайны праваслаўнага параха з Далятыч перанесена ў іншую парахвію. Тады праваслаўны парах зь Любча, маючы моцныя плечы ў кансісторыі[90], пастараўся, каб далятыцкую парахвію скасавана, а зямлю і царкву прылучана да Любча. Стараньні вернікаў атрымаць свайго параха аставаліся без адказу.

[90] **Кансысторыя** — у Праваслаўнай царкве ўстанова, якая існуе пры архірэі для кіраваньня япархіяй.

Тады вясною 1925 г. яны зьвярнуліся да пінскага каталіцкага біскупа З. Лазінскага[91], і той ім хутка прыслаў а. М. Кнурэнку[92], які перайшоў у каталіцтва. На вялікі жаль, ягоныя паводзіны сеялі згоршаньне. У 1929 г. яго мусілі забраць і прыслалі а. Івана Панько[93], які перайшоў у каталіцызм 5.III.1928 г. разам з усёю сям'ёю. Рэлігійнае жыцьцё значна паправілася. Вернікаў было 1638 чалавек.

Калі ў Далятычах заснавалася ўсх.-кат. парахвія, дык праваслаўная кансісторыя прыслала праваслаўнага сьвятара, але яму ўжо не было чаго рабіць у Далятычах, нягледзячы на згоршаньне, якое было зь першым парахам. Таму праваслаўны сьвятар асяліўся ў суседняй вёсцы, а служыў у царкве пад Ліпкаю. У самых Далятычах да вуніі належалі ўсе жыхары, за выняткам двох сем'яў, да таго было яшчэ нямала вернікаў у Далятыцкіх хутарох, Еўсевічах[94], Воўкаразі[95], Хадасох[96], Чарэшлі[97] і Падзагор'і[98].

Тагачасны парах а. Іван прыняў мяне вельмі гасьцінна. Гэта ягоныя сыны Алесь і Анатоль разам зь іншымі двума юнакамі Корчыкам і Купрыянам з суседніх вёсак вучыліся ў Лілі. І гэта яны былі тымі студэнтамі, аб якіх калісьці гаварыў мне Юрка. Ад іх я даведаўся дакладна аб тым Інстытуце, які былі заснавалі айцы дамінікане, але які ў тым часе стаяў перад закрыцьцём, і яны абодва рыхтаваліся ўступіць у Духоўную Сэмінарыю ў Дубне[99], якая адкрылася ў 1931 г. Уласьціва

91 **Зыгмунт Лазінскі** (польск. *Łoziński*; 1870–1932), каталіцкі гіерарх, у 1917–1925 гг. менскі, у 1925–1932 гг. — пінскі біскуп.

92 **Міхайла Кнурэнка,** грэка-каталіцкі сьвятар, у 1925–1929 гг. працаваў на парафіі ў Далятычах, у 1929 г. пераведзены ў парафію ў Гарадную. Быў абвінавачаны ў разбэшчваньні сваёй 14-гадовай выхаванкі і асуджаны на 2 гады турмы.

93 **Іван Панька (Панько),** праваслаўны, а пасьля ўніяцкі сьвятар, былы настаўнік. Быў праваслаўным сьвятаром у вёсцы Доры Валожынскага павету, у 1928 г. перайшоў у вунію. У 1929–1935 гг. кіраваў Далятыцкай парафіяй, у 1935 г. пераведзены ў Курашава на Падляшшы.

94 Маюцца на ўвазе **Яўсеевічы** — сёньня вёска ў Вераскоўскім сельсавеце Наваградзкага раёну Гарадзенскае вобласьці.

95 **Воўкаразь** — у 1969 г. гэтая вёска перайменавана, атрымаўшы назву Пабеда. Сёньня яна знаходзіцца ў Любчанскім пасялковым савеце Наваградзкага раёну Гарадзенскае вобласьці.

96 **Хадасы** — сёньня вёска ў Любчанскім пасялковым савеце Наваградзкага раёну Гарадзенскае вобласьці.

97 **Чарэшля** — сёньня вёска ў Вераскоўскім сельсавеце Наваградзкага раёну Гарадзенскае вобласьці.

98 **Падзагор'е** — сёньня вёска ў Любчанскім пасялковым савеце Наваградзкага раёну Гарадзенскае вобласьці.

99 Маецца на ўвазе Папская Ўсходняя сэмінарыя, якая працавала ад 1931 г. у горадзе Дубна на Валыні. У гэтай сэмінарыі рыхтаваліся да выкананьня

яна тады толькі аднавілася, бо існавала ад 1928 г., але ў міжчасе была зачынена. У сваю чаргу, я ім шмат расказваў аб Багаслоўскай Акадэміі ў Львове, аб якой яны сёе-тое чулі ўжо, і пры тым ведалі, што ані пінскі, ані віленскі біскупы ня хочуць прымаць адтуль сэмінарыстаў у свае епархіі. Пыталіся ў мяне, што я буду рабіць.

— *Тымчасам цяжка сказаць, што буду рабіць, але ўсімі сіламі буду старацца, каб працаваць у Беларусі. Вось і цяпер буду пробаваць пагутарыць аб гэтым зь Віленскім Архібіскупам.*

— *Мусіць, нічога з гэтых стараньняў ня выйдзе,* — заўважыў Алесь.

— *Хай сабе і ня выйдзе, але мушу зрабіць усё, што ад мяне залежыць, а што скажа архібіскуп, дык гэта ўжо будзе ляжаць на яго сумленьні.*

Дочкі а. Івана (а іх было тры) дыскрэтна цікавіліся, ці я буду жанатым, ці бязжэнным сьвятаром, ведаючы, што ў Галіцыі сьвятары пераважна жанатыя, але што цяпер робіцца націск, каб было больш бязжэнных. Я дыпляматычна ўхіліўся ад адказу на іхняе пытаньне.

Вечарам была проба царкоўнага хору. Хорам кіраваў вельмі ўмела, бадай па-мастацку дзяк Якаў Сямашка. Харысты былі дабраныя з чыстымі і моцнымі галасамі, пры тым добра выпрацаванымі. У канцы пробы на зьмену царкоўных напеваў запяялі некалькі беларускіх народных песень. Такое красы беларускіх народных песень, як я пачуў у Далятычах, я яшчэ ня чуў, хоць чуў хор Наваградзкае Гімназіі пад кіраўніцтвам здольнага кампазітара А. Валынчыка.

Выходзячы зь дзякоўскае хаты, дзе адбывалася проба хору, я сустрэў былога лільскага студэнта Янку Корчыка. Ён жыў за Нёманам на хутарох, але ўжо і туды ўсьпела даляцець вестка, што *“ў бацюшкі госьціць нейкі малады багаслоў”*. Янка мала гаварыў аб Лільскім Інстытуце, а больш аб справах Далятыцкае парахвіі. Ён з маладым энтузіязмам абураўся нават на дробныя нелады ў парахвіі і на іх больш зьвяртаў увагу, як на ўсё добрае, што рабілася ў парахвіі. Уся ягоная крытыка была прасякнута жаданьнем, каб у парахвіі было лепш. Таму мне было прыемна бачыць і чуць, што ў гэтай парахвіі ёсьць людзі, якія не здавальняюцца толькі фармальнымі зьменамі на лепшае, але ўсёю душою жадаюць уздыму рэлігійнага жыцьця і да яго імкнуцца.

## Зламаны дуб

На наступны дзень пасьля Службы Божае і сытнага сьнеданьня я вырушыў далей. Цяпер мой шлях быў на Іўе[100]. Ішоў я не сьпяшаючыся, каб там пераначаваць, таму па дарозе меў даволі часу, каб пагутарыць з сустрэчнымі сялянамі.

сьвятарскіх абавязкаў кандыдаты, якія павінны былі працаваць на тэрыторыі ўсёй польскай дзяржавы, акрамя Галічыны.

[100] **Іўе** — сёньня горад, раённы цэнтар у Гарадзенскай вобласьці.

Парахам і дзеканам[101] у Іўі быў ад 1930 г. кс. д-р Ільдэфонс Бобіч[102]. Ягонае прозьвішча я ўжо чуў ня раз і меў нават зборнік ягоных беларускіх казаньняў[103], толькі ня ведаў, дзеля якіх прычынаў ад некаторага часу ён адышоў ад беларускага рэлігійнага руху, і дзеля гэтага хацелася пагутарыць зь ім.

Ужо вечарэла, калі я зайшоў да кс. Бобіча. Прыняў ён мяне ветліва і ахвотна згадзіўся, каб я пераначаваў у яго, аднак гаварыў толькі папольску і ў гутарцы старанна ўнікаў усякіх намёкаў на беларускія тэмы. Толькі неяк прыпадкам ён прагаварыўся, што меў нейкія нелады зь іншымі беларускімі сьвятарамі. Гледзячы на яго, я меў уражэньне, што гэта зламаны дуб. Затое ягоная цётка гаварыла са мною па-беларуску, але таксама вельмі паўстрымана. Падчас вячэры спачатку гаварыў выключка кс. Бобіч аб сваіх выдавецкіх справах, а потым пераняў гутарку вікарны ксёндз, і ён між іншым закрануў справу калішняе беларускае дзейнасьці кс. Бобіча, але той адразу перавёў гутарку на іншую тэму.

Толькі ў часе нямецкае акупацыі, калі дзякуючы стараньням беларускіх дзеячоў ён быў вызвалены з турмы, дык зноў вярнуўся да беларускага руху і меў улажыць цэлы зборнік беларускіх казаньняў[104].

## “Увага — злосны ксёндз!”

Назаўтра я выйшаў зь Іўя даволі рана і хутка быў у Ліпнішках[105]. Ужо здалёк прыцягваў да сябе ўвагу прыгожы ліпнішскі мураваны

[101] **Дэкан** — кіраўнік дэканату, у Каталіцкай царкве адміністрацыйнай акругі ў складзе дыяцэзіі, што аб’ядноўвае некалькі побач разьмешчаных парафій.

[102] **Ільдэфонс Бобіч** (1890–1944), каталіцкі сьвятар заходняга абраду, рэлігійны й культурна-асьветны дзеяч, адзін з пачынальнікаў беларускага хрысьціянскага руху XX ст. У беларускім каталіцкім пэрыядычным друку выступаў пад псэўданімам Пётра Просты. Пасьвячоны ў сьвятары ў 1915 г., на 1-м зьезьдзе беларускіх сьвятароў у Менску (24–25 траўня 1917 г.) уступіў у саюз ксяндзоў-беларусаў. У 1917–1920 гг. працаваў вікарыем у Друі й душпастырам на Дзісеншчыне, у 1921–1923 гг. быў законавучыцелем у Віленскай беларускай гімназіі. Ад 1923 г. быў пробашчам у мястэчку Германавічы, у 1930–1944 гг. — пробашч і дэкан у мястэчку Іўе. Супрацоўнічаў зь беларускімі каталіцкімі выданьнямі, аўтар і перакладчык некалькіх папулярных брашур на рэлігійную тэматыку. У пачатку 1930-х гг. адышоў ад беларускай дзейнасьці.

[103] Маецца на ўвазе кніга Ільдэфонса Бобіча *“Niadzielašnija ewanhielii i nawuki”*, выдадзеная ў Вільні ў некалькіх частках у 1921–1922 гг.

[104] Сапраўды, Ільдэфонс Бобіч падчас нямецкай акупацыі Беларусі падрыхтаваў да друку некалькі рэлігійных прац (у тым ліку двухтомную пад назвай “Навучайце ўсе народы”), але выйсьці з друку яны не пасьпелі.

[105] **Ліпнішкі** — сёньня аграгарадок, цэнтар сельсавету ў Іўеўскім раёне Гарадзенскае вобласьці.

з граніту касьцёл, выбудаваны ў 1890 г. Зблізку ён выглядаў яшчэ прыгажэй і выклікаў захапленьне будаўнічым майстэрствам.

Аглянуўшы касьцёл, цікава было пазнаёміцца з парахам. На жаль, кс. Войдаг[106] быў страшэнным кантрастам да касьцёлу. У перадпакоі ягонае канцылярыі было поўна розных афішаў і абвестак, быццам у якой падарожнай агэнцыі. Гаспадыня паведаміла параха, што я хачу зь ім бачыцца, і хоць у пачакальні нікога не было, прыйшлося нямала пачакаць, пакуль нарэшце парах запрасіў мяне ў сваю канцылярыю. Калі ён даведаўся, што я студэнт багаслоў ды йду пехатою ў Вільню, адразу насьцярожыўся, а калі даведаўся яшчэ, што я беларус, дык і зусім скрывіўся і раптам спытаў:

*— Напэўна, зайшоў сюды, каб паабедаць?*

*— Да абеду яшчэ далёка,* — адказваю, — *ды ня так даўно я добра пасілкаваўся ў Іўі.*

*— А чаму гэта пешкі ідзеш у Вільню?*

*— Бо гэта маё паломніцтва і адначасна добрая нагода пазнаць край і людзей.*

Запанавала хвіліна маўчаньня, і раптам парах, нічога мне ня кажучы, выйшаў на кухню. А вярнуўшыся адтуль, кажа, каб я зайшоў туды, і адразу разьвітаўся са мною. Заходжу ў паказаныя дзьверы, а там гаспадыня, ня кажучы ні слова, ставіць на стол халодную бульбу і нейкае вадзяністае кіслае малако ды запрашае мяне да стала. Зачэрпаўшы пару лыжак таго малака, я ўстаў ад стала і сказаў гаспадыні, каб яна перадала параху падзяку за гасьціннасьць, выйшаў зь перакананьнем, што гэтае спатканьне было вельмі навучаючым. Чамусьці прайшла думка, што ў пачакальні кс. Войдага між шматлікіх плякатаў бракуе найважнейшага: *“Увага — злосны ксёндз!”*.

## Неспадзеванка за неспадзеванкаю

Далей я накіраваўся ў Геранёны[107], спадзеючыся зноў стрэнуць штосьці цікавае. Невялікі мураваны касьцёл у Геранёнах з 1771 г. нічым не вызначаўся, але прэзьбітэрыя[108] была дзеравянная, старая і брудная. Ганак быў напаўгнілы і гразкі — трэба было ўваходзіць асьцярожна. І неяк дзіўна было бачыць на ўваходных дзьвярох візытную картачку. Чытаю яе: Кс. парах Хлявінскі[109]. І мімаволі прыходзіла думка:

106 **Яраслаў Войдаг** (1875–1944), каталіцкі сьвятар, у 1911–1921 гг. працаваў у Задарожжы на Глыбоччыне, у 1927–1940 гг. ксёндз касьцёла ў Ліпнішках.

107 **Геранёны** — сёньня аграгарадок, цэнтар сельсавету ў Іўеўскім раёне Гарадзенскае вобласьці.

108 **Прэзьбітэрыя** — частка касьцёла, прызначаная для духавенства.

109 **Юзаф Хлявінскі** (1882—?), каталіцкі сьвятар, у 1913–1927 гг. служыў у Залесьсі-Сакульскім у Польшчы, у 1927–1933 гг. — у Геранёнах, у 1934–1939 гг. — у Сьвіранках пад Астраўцом.

*— Ну і дабралі ж прозьвішча, быццам для жарту.*

Але гэтым разам я памыліўся ў маіх меркаваньнях. Парах быў ветлівы і талковы. Ягоная канцылярыя была зусім непадобная да вонкавага выгляду прэзьбітэрыі. Калі з гутаркі ён даведаўся, што я беларус, дык адразу загаварыў ажыўлена:

*— Ведаеце, я вам раю адведаць кс. Шалкевіча*[110] *ў Тракелях*[111]. *Ён шчыры беларус і напэўна будзе задаволены, калі вы зойдзеце да яго.*

*— Як далёка адгэтуль да Тракеляў?* — пытаюся.

*— Гэта недалёка, толькі вам трэба крыху збочыць зь віленскага напрамку і прайсьціся лесам.*

Як жа не адведаць такога сьвятара “на правінцыі”, якога суседзі палякі называюць шчырым беларусам?!

Круг сапраўды быў невялікі, і я яшчэ задоўга да вечара быў у Тракелях. Кс. Міхась Шалкевіч якраз канчаў працу ў пчальніку, калі я зьявіўся ў ягоным садзе. Ён сапраўды вельмі ўсьцешыўся, што я завітаў да яго. Гаварылі мы з кс. Шалкевічам да позьняе начы аб усіх нашых радасных і сумных справах. Там у ягонай парахвіі больш, чым дзе, можна было назіраць, у якой атмасфэры жывуць беларускія сьвятары і вернікі ў Віленшчыне. На абшырным дворышчы каля прэзьбітэрыі працавала некалькі чалавек. Здалёк чуваць было, што між сабою яны гаварылі па-беларуску, але як толькі заўважылі, што я, незнаёмы для іх чалавек, праходжу каля іх, адразу сьціхлі і працавалі моўчкам.

Назаўтра я ўстаў даволі рана, бо цяпер меў намер прысьпешыць сваё падарожжа. Хоць яно было вельмі цікавае і надзвычайна павучаючае, але час праходзіў хутка, а да Вільні яшчэ аставаўся вялікі кавалак дарогі. Ды якраз так здарылася, што наступных двох парахаў не засьпеў удома; былі ў школе на лекцыях катэхізму, якраз пачаўся школьны год. Таму я пайшоў поўным крокам без затрымак. Аднак калі

---

110 **Міхал Шалкевіч** (1891–1972), каталіцкі сьвятар заходняга абраду, рэлігійны дзеяч, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху XX ст. Скончыў Віленскую духоўную каталіцкую сэмінарыю, пасьвячоны ў сьвятары ў 1915 г. Ад пачатку душпастырскай дзейнасьці шырока выкарыстоўваў у ёй беларускую мову. Удзельнік 1-га зьезду беларускіх каталіцкіх сьвятароў у Менску 24–25 траўня 1917 г. Сябра саюзу ксяндзоў-беларусаў. У 1917–1921 гг. — вікарый, а пазьней пробашч у парафіі Мосар Дзісенскага дэканату, ад 1922 г. служыў пробашчам у парафіі Тракелі Лідзкага дэканату. Распаўсюджваў сярод вернікаў і насельніцтва каталіцкую пэрыёдыку й рэлігійныя кніжныя выданьні на беларускай мове, перасьледаваўся польскімі сьвецкімі ўладамі. У 2-й палове 1920-х гг. быў абвінавачаны ў антыдзяржаўнай дзейнасьці. Ад канца 1930-х гг. і да пачатку 1950-х гг. выконваў сьвятарскія абавязкі ў Віленскай архідыяцэзіі, у 1-й палове 1950-х гг. выехаў у Польшчу, жыў і служыў на Памор'і.

111 **Тракелі** — сёньня аграгарадок у Бастунскім сельсавеце Воранаўскага раёну Гарадзенскае вобласьці.

ўвайшоў у Беняконі[112], крыху спавольніў хаду. Першы дом, які стаяў на ўскраю гэтага мястэчка, здалёк кідаўся ў вочы. Каля яго было шмат людзей, а над дахам высілася зялёная хваёвая галіна. Падышоўшы бліжэй, убачыў над дзьвярыма надпіс: *“Карчма”*.

Але чаму так людна ў будні дзень каля гэтага дому? Адказ на гэтае пытаньне знайсьці было вельмі лёгка. Тут жа правілася дарога, і якраз тады работнікі атрымоўвалі тыднёвы заробак ды тут жа складалі ахвяры “шкляному богу”. Крыху воддаль ад карчмы хістаўся апушчаны і сьпіты малады чалавек, яго падтрымоўвала стройная, чыста апраненая жанчына. Яна аб нечым прасіла яго на прамілы Бог, а ён у адказ голасна лаяўся грубіянскімі словамі. Сапраўды жалюгоднае відовішча. Да якога ўпадку і ганьбы можа сапхнуць чалавека гарэлка!

У мястэчку на рынку кідаўся ў вочы мураваны касьцёл (выбудаваны ў 1902 г.), а недалёка ад яго была дзераўляная, але ўтульная прэзьбітэрыя. Праходзячы каля агарожы, я ўбачыў, што ў агародзе ксёндз адмаўляе брэвіярый[113]. Варта зайсьці пазнаёміцца. Прывітаўся зь ім па-польску. Ён адказаў і, уважна гледзячы на мяне, запытаўся, хто я і адкуль. Адказаў яму коратка.

— *Кажаш, багаслоў і беларус, дык чаму ж ты гаворыш папольску?* — адазваўся чысьцюсенькаю беларускаю моваю.

— *Выбачце, але я ня ведаю, з кім гавару, хіба вы такжа беларус?*

— *Не, я летувіс, называюся Язэп Дубеціс*[114]*, тутэйшы парах і дзекан.*

Бязь лішняй гутаркі дзекан запрасіў мяне ў пакоі, крыху распытаўся аб Львове, а потым паклікаў сваю сястру і загадаў рыхтаваць сытны абед. Гаварыў зь ёю па-летувіску, і хоць я першы раз чуў гэтую мову, але таму, што дзекан час ад часу паказваў на мяне ды перапляў сваю гутарку беларускімі словамі, дык было лёгка здагадацца, аб чым яны гутарылі. Таму што я меў намер як найхутчэй дабрацца да Вільні, дык спрабаваў адмовіцца ад пачастунку, прадбачваючы, што ён можа зацягнуцца.

— *Нават і ня думай адмаўляцца. Госьць у дом — Бог у дом.*

Ён сапраўды справіў банкет, а да таго ж яшчэ даў грошы на квіток да Вільні. Так неспадзявана яшчэ таго ж вечара я ішоў па знаёмых віленскіх вуліцах.

---

112 **Беняконі** — сёньня аграгародок, цэнтар Беняконскага сельсавету Воранаўскага раёну Гарадзенскае вобласьці.

113 **Брэвіярый** (ад лац. *breviarium*) — у Рыма-каталіцкай царкве літургічная кніга, якая ўстрымлівае тэксты малітваў кананічных гадзін, падзеленыя на паасобныя дні года.

114 **Юозас Дубецiс** (летув. *Dubietis*; 1885—?), каталіцкі сьвятар, служыў у Беняконскім касьцёле ў 1925–1937 гг. У 1937–1939 гг. быў сьвятаром у Сьвянцянах.

Назаўтра я выбраўся да віленскага каталіцкага мітрапаліта Рамуальда Ялбжыкоўскага[115]. У пачакальні не было нікога, дык прыняў мяне хутка. Я коратка расказаў яму, як знайшоўся ў Багаслоўскай Акадэміі і чаму да гэтага часу не інкардынаваўся ды прасіў яго прыняць мяне ў сваю архідыяцэзію.

— *Я ўжо маю двух клерыкаў усходняга абраду ў Дубенскай Сэмінарыі; больш не патрэбна,* — адказаў ён коратка.

— *Усяго двох на такую вялікую архідыяцэзію?* — зьдзівіўся я.

— *Для нас даволі,* — адказаў ён суха.

Было ясна, што гэты высокі ерарх меў за нішто ўсе інструкцыі з Рыму адносна вунійнае акцыі, гледзячы на сваю дзейнасьць праз шавіністычныя польскія акуляры. Нашто яму былі ўсходнекаталіцкія багасловы, калі ягоныя пралаты, такія хоць, як Кароль Любянец[116], засноўвалі *“школы польскосьці”*. Шырокаведамаю была такая школа ў маёнтку Мінойты[117], дзе за пераход у каталіцызм лацінскага абраду плацілі 20 злотых, давалі двухтыднёвы курс катэхізму ды, запісаўшы каталікам і палякам, адсылалі на нейкую платную працу ў дзяржаўных ці адміністрацыйных установах. Пралат В. Мэйштовіч[118] кажа ў сваёй кнізе, што да 1939 г. у Віленскай архідыяцэзіі 60 000 праваслаўных перайшлі ў каталіцызм лацінскага абраду. Потым я даведаўся ад а. В. Гапановіча[119], што гэты каталіцкі ерарх адкінуў ажно 22 зая-

115 **Рамуальд Ялбжыкоўскі** (польск. *Jałbrzykowski*; 1876–1955), польскі рэлігійны дзеяч. Ад 1926 г. быў віленскім арцыбіскупам. Адзін з арганізатараў рэпрэсіяў супраць лідараў БХД.

116 **Караль Любянец** (польск. *Lubianiec*; 1866–1942), каталіцкі ксёндз. Працаваў выкладчыкам у Віленскай духоўнай сэмінарыі, дайшоў да пасады яе віцэ-рэктара. Быў таксама чальцом Віленскай капітулы. За часамі Расейскай імпэрыі рупіўся пра пашырэньне польскага грамадзкага й культурнага жыцьця ў Вільні, быў ініцыятарам пабудовы касьцёла Сэрца Езуса. У 1929 г. распачаў місійную працу сярод праваслаўных, заснаваўшы пляцоўку ў Мінойтах. У 1935 г. стаў ксяндзом філіяльнага касьцёла ў Плябані й адначасова маладэчанскім дэканам. У 1942 г. быў расстраляны немцамі.

117 **Мінойты** — сёньня вёска ў Трацякоўскім сельсавеце Лідзкага раёну Гарадзенскае вобласьці.

118 **Валяр’ян Мэйштовіч** (польск. *Meysztowicz*; 1893–1982), каталіцкі сьвятар і тэоляг, гісторык. У 1926–1929 гг. быў сакратаром віленскага арцыбіскупа Р. Ялбжыкоўскага, ад 1932 г. працаваў дарадцам польскай амбасады пры Апостальскай Сталіцы. У 1936–1939 гг. выкладаў ва Ўнівэрсытэце Стэфана Баторыя ў Вільні. Падчас Другой сусьветнай вайны перабраўся ў Ватыкан, дзе жыў да канца жыцьця. У 1945 г. заснаваў Польскі гістарычны інстытут у Рыме. Аўтар шматлікіх тэалягічных і гістарычных публікацыяў.

119 **Васіль Гапановіч** (1870?—?), рэлігійны дзеяч. У 1895 г. скончыў Віленскае пяхотнае вучылішча, ад 1899 г. праваслаўны сьвятар. У 1925 г. стаў протаіерэем Раманаўскай царквы ў Вільні, пасьля перайшоў у грэкакаталіцтва. У 1928 г. са згоды вернікаў перавёў свой праваслаўны прыход

вы беларускіх праваслаўных сьвятароў, якія праз пасрэдніцтва таго ж айца прасілі прыняць іх разам зь іхнімі парахвіямі ў лона Каталіцкае Царквы. Ліст а. Гапановіча ў гэтай справе знаходзіцца ў архіве Беларускага Ўсходне-Каталіцкага Экзархату.

Прабыў я ў Вільні амаль тыдзень і вяртаўся дамоў зь вялікімі пачкамі беларускіх кнігаў — для пабольшаньня свае вясковае беларускае бібліятэкі: ахвотна згадзіліся дапамагчы дапоўніць бібліятэку Беларускае Каталіцкае Выдавецтва[120] ды А. Луцкевіч.

## Руіны крычма крычаць

Летнія канікулы 1934 г. былі для мяне вельмі прыгнабляючымі. Ужо ў 1933 г. хадзілі пагалоскі, што існаваньне Беларускае Гімназіі ў Навагрудку паважна загрожанае, бо тады яе заменена на філію польскае гімназіі (19.V), а 19.VIII.1934 г. зусім зачынена.

Наступ польскае адміністрацыі на беларускае грамадзкае і культурнае жыцьцё ў Зах. Беларусі ўзрастаў штораз больш. У 1933 г. у Картускай Бярозе[121] быў заснаваны канцэнтрацыйны лягер, які сваімі мэтадамі мог канкураваць з славутымі нацыстоўскімі лягерамі Дахаў[122], Бухэнвальд[123] і інш. На становішча ваяводаў і старостаў у Зах. Беларусі назначалі людзей варожых да ўсякіх праяваў беларускасьці. З Навагрудку ваяводу Бэчковіча ўвосень 1931 выслалі на становішча пасла ў Латвію, а старосту Грынеўскага на Памор'(е). Ваяводаю быў назначаны Сьвідэрскі, але ён пабыў нядоўга — яго замяніў Костэк-Бярнацкі і адразу ўвёў востры антыбеларускі дух ува ўсёй адміністрацыі.

Будову памешканьня для Беларускай Гімназіі спынена ў 1932 г. Субсыдыяў, прызначаных соймікам на будову гмаху, не выплочвана і настаўнікі, якія жыравалі вэксьлі[124] на закуп цэглы, праз гэта шмат

у Фастах каля Беластоку ў каталіцтва ўсходняга абраду. У 1944 г. выехаў у эміграцыю на Захад.

[120] **Беларускае каталіцкае выдавецтва** існавала ў Вільні ў 1930-я гг., было заснавана дзеячамі Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі з мэтай выданьня рэлігійнай літаратуры на беларускай мове.

[121] Канцэнтрацыйны лягер са строгім рэжымам, у якім утрымліваліся палітычныя зьняволеныя, дзейнічаў у Бярозе-Картускай у 1934–1939 гг.

[122] **Дахаў** (ням. *Dachau*) — канцэнтрацыйны лягер, які дзейнічаў у нацысцкай Нямеччыне ў 1933–1945 гг. Першапачаткова ў яго зьмяшчаліся палітычныя праціўнікі гітлераўскага рэжыму. Разьмяшчаўся на ўскраіне аднайменнага гораду, за 17 км ад Мюнхэну.

[123] **Бухэнвальд** (ням. *Buchenwald*) — канцэнтрацыйны лягер, які дзейнічаў у нацысцкай Нямеччыне ў 1937–1945 гг. Разьмяшчаўся каля гораду Вэймар.

[124] **Жыраваньне вэксаляў** (ад італ. *giro* — абарачэньне) — выкананьне на вэксалі перадатачнага надпісу (жыра) з прыняцьцем у выніку гэтага на

пацярпелі. Будынку пагражала ліцытацыя[125], нягледзячы на тое, што акт заснаваньня будынку і пасьвячэньня вугольнага каменя быў падпісаны прэзыдэнтам Польшчы I. Масьціцкім, наваградзкімі ваяводаю і старостаю і Гарадзенскім япіскапам ды ляжаў замураваны ў вуглу будынку. У такім крытычным палажэньні будаўляны Камітэт згадзіўся перадаць будынак Наваградзкаму магістрату, каб той дакончыў будову і сплаціў даўгі. Магістрат там утварыў пасьля рамесьніцкую бурсу.

І вось на пачатку жніўня 1934 г. я спаткаў у Міры на кірмашы свайго малодшага сябру з Наваградзкай Гімназіі Хв. Русецкага[126] ды даведаўся ад яго, што ў канцы ліпеня г. г. зачынена нашу гімназію і што дырэкцыя гімназіі зьбірае пратэсты беларускага грамадзтва да Віленскае Кураторыі.

Праз маіх вясковых сяброў вестка аб закрыцьці гімназіі маланкаю разьляцелася па ваколіцы. А сьледам за гэтаю весткаю, доўга не адкладаючы, я пайшоў у Трашчычах ад хаты да хаты зьбіраць подпісы пад пратэстам. На жаль, падпісваліся ня ўсе. Адны адмаўляліся таму, што гэта і так нічога не паможа; іншыя — што яны туды сваіх дзяцей усё роўна ня змогуць паслаць, бо ня маюць магчымасьці вучыць, а іншыя проста баяліся помсты паліцыі. Але было шмат, якія падпісваліся ахвотна — адны моўчкі, а некаторыя дадаючы: *“Гэта не на паперы трэба пісаць... але хай хоць гэта йдзе ў сьвет”* і пад.

У канцы жніўня я выбраўся пехатою ў Наваградак, маю[чы] намер далей пайсьці ў Вільню крыху іншаю дарогаю, як ішоў 2 гады перш. Па дарозе надумаўся адведаць сваіх старых сяброў і знаёмых з гімназіі. Іх было некалькі ў Запольлі[127]. Дык мінуўшы Карэлічы, збочыў туды, але нікога зь іх ня ўбачыў. Бацька аднаго зь іх расказаў аб усіх падзеях, якія здарыліся ў Наваградку. Каб мець хоць нейкі паважны прэтэкст для закрыцьця гімназіі, Костэк-Бярнацкі ўплянаваў правакацыю, ведаючы, што калісь было выкінена некалькі вучняў за камсамоль-

---

сябе адказнасьці па даўгавым абавязку. Паводле А. Чэмера, *“калі настала пара будаўніцтва ўласнага будынка для гімназіі... калі прыйшлося браць пазыку, доктар Орса, дырэктар Цеханоўскі і адвакат Сьвірыд ставяць свае подпісы на вэксалях”* (гл.: Чэмер, А. Наваградзкая беларуская гімназія. С. 30).

125 **Ліцытацыя** (ад польск. *licytacja*) — продаж з аўкцыёну.

126 Паводле агульнага сьпісу гімназістаў, прыведзенага ў кнізе Андрэя Чэмера, у Наваградзкай гімназіі вучыліся два вучні з прозьвішчам Русецкі — Астап і Пятро, а Хведар не пазначаны. Аднак жа сам аўтар прызнаваў, што пададзены ім сьпіс няпоўны й на самай справе *“навучэнцаў было больш”*.

127 **Запольле** — сёньня вёска ў Красьненскім сельсавеце Карэліцкага раёну Гарадзенскае вобласьці.

скую агітацыю[128]. Дзеля гэтага летам 1933 г. некалькі агентаў тайнае паліцыі з студэнцкімі шапкамі на галаве й іншыя ў нейкіх уніформах з тэхнічных школаў адведвала гімназістаў, лаяла польскі ўрад і прапанавала залажыць у гімназіі камсамольскую ячэйку. На пачатку 1933/34 школьнага году гэтыя правакатары стараліся зарганізаваць быццам тайную камсамольскую зборку на замчышчы і запрасілі ўсіх тых гімназістаў, якіх адведвалі летам. Аб гэтым даведаўся кіраўнік хлапцоўскае бурсы д-р А. Орса і дырэктар Я. Цеханоўскі. Яны забаранілі вучням ісьці на сходку. Тады адзін з правакатараў, які называўся "Сашка", прыходзіў у бурсу і выклікаў вучняў. Правакацыя сталася яснаю для ўсіх і дырэктар, апытаўшы вучняў, напісаў адпаведны акт. Бачучы, што пляны правакацыі разьбіваюцца, паліцыя пасьпяшыла арыштаваць усіх вучняў, якія гутарылі з правакатарамі: Анішчыка[129], Літвіна[130], Чэрніка[131], Вінара[132], Гуля[133], Главінскую[134],

---

128 Як ужо згадвалася вышэй, Леў Гарошка паблытаў чарговасьць, у якой розныя навагрудзкія ваяводы зьмянялі на гэтай пасадзе адзін аднаго. Вацлаў Костэк-Бярнацкі да справы закрыцьця Навагрудзкай беларускай гімназіі ня мог мець непасрэднага дачыненьня, паколькі ў той час кіраваў іншым ваяводзтвам — Палескім.

129 **Павал Анішчык** паходзіў зь вёскі Мірацічы Навагрудзкага павету. Пасьля гімназіі паступіў на дарожныя курсы й працаваў дарожным майстрам. Пасьля далучэньня Заходняй Беларусі да Польшчы арыштаваны й вывезены ў лягеры Запаляр'я. Падчас вайны ўступіў у Войска Польскае, пасьля дэмабілізацыі ў чыне маёра жыў ва Ўроцлаве, дзе памёр у канцы 1980-х гг.

130 **Міхась Літвін** паходзіў зь вёскі Гліняны Скідальскай гміны Гарадзенскага павету.

131 **Пётра Чэрнік** паходзіў з-пад Любчы.

132 **Мікалай Вінар** паходзіў з Пачапаўскай гміны, вучыўся ў Навагрудзкай беларускай гімназіі ад 1928 да 1933 г., пакуль ня быў арыштаваны польскімі ўладамі за камсамольскую дзейнасьць. Пасьля 1939 г. стаў настаўнікам гісторыі, напісаў кніжку пра Навагрудак, якую, аднак, ня здолеў апублікаваць.

133 **Уладзімер Гуль** вучыўся ў Клецкай беларускай гімназіі, пасьля яе закрыцьця перавёўся ў Навагрудзкую гімназію. Асуджаны да году турмы без залічэньня пэрыяду папярэдняга пазбаўленьня волі, у выніку чаго мусіў праседзець агулам каля двух гадоў. Пакінуў успаміны пра камсамольскую дзейнасьць у Навагрудзкай беларускай гімназіі й барацьбу зь ёй з боку польскіх уладаў. Гл.: З успамінаў Уладзіміра Пятровіча Гуля — члена падпольнага КСМЗБ // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. Мінск, 1996. С. 267–269.

134 **Кацярына Главінская** паходзіла зь вёскі Палужжа каля Карэліч, адна з найактыўнейшых камсамольскіх актывістак Навагрудзкай беларускай гімназіі, за што патрапіла ў польскую турму. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыла й працавала на радзіме.

Ханько[135], Аляксяевіча[136] і Еўтухоўскую[137]. Аднак акту абвінавачаньня арыштаваным не далі і таму на дамаганьне дырэкцыі пасьля некалькі дзён арыштаваных вучняў звольнілі, але забавязалі іх мэльдавацца кожны 2-і дзень. Усе яны мелі быць суджаныя, таму дырэкцыя да часу суду не магла ім дазволіць наведваць лекцыі. Але суд адбыўся аж пасьля некалькі месяцаў і за гэты час паліцыя падкупіла 2-х вучняў памагаць правакатарам. На судзе не зьвярталі ніякае ўвагі (на тое, што была пасольская інтэрпэляцыя ў сойме) на сьведчаньне настаўнікаў, сьвятароў і самых вучняў. Апіраючыся толькі на даносы правакатара “Сашкі” і 2-х падкупленых вучняў — усіх пазасуджвалі на 2 гады турмы. І гэта быў прэтэкст, каб у жніўні 1934 г. зачыніць Наваградзкую Беларускую Гімназію.

З такімі сумнымі весткамі я выйшаў з Запольля і накіраваўся да гасьцінца. Як толькі выйшаў на гасьцінец у Тударaве[138], там убачыў паліцыянта.

— *Стой, куды ідзеш?*

— *У Наваградак,* — адказваю.

— *А чаго хадзіў у Запольле?*

— *Да сваіх знаёмых.*

— *А хто ж вашы знаёмыя?* — кажа больш лагодна.

— *Усе быўшыя вучні Наваградзкай Гімназіі, але нікога зь іх не знайшоў.*

— *Пакажыце вашы дакументы.*

Паказваю яму акадэмічную легітымацыю. Паліцыянт паглядаў то на легітымацыю, то на мяне.

— *Дык пан грэка-каталіцкі багаслоў?* — кажа.

— *Так.*

— *А чаму пан па-цывільнаму ўбраны?*

— *Бо яшчэ ня маю ніякіх сьвячаньняў.*

---

135 **Канстанцін Ханько** паходзіў з Карэлічаў.

136 **Канстанцін Алексіевіч** паходзіў з Наваградка.

137 Паводле працы А. Анішчыка (А. Чэмера), у Наваградзкай беларускай гімназіі вучыліся дзьве вучаніцы пад прозьвішчам Еўтухоўская — Зіна і Шура. Цяжка сказаць, якая зь іх менавіта маецца на ўвазе, бо ў адмысловых прысьвечаных ім зацемках аніводным словам ня згадваецца пра іхнюю камсамольскую дзейнасьць. Паводле А. Анішчыка, абедзьвюм дзяўчатам удалося давучыцца ў гімназіі й нават пасьля працягнуць адукацыю.
Увогуле, Андрэй Чэмер прыводзіць у сваёй кнізе на с. 57 і сьпіс вучняў, якія былі выключаныя тады з гімназіі, кажучы пра *“А. Алексіевіча, К. Главінскую, Ул. Гуля, Мікалая Вінара, М. Літвіна, Гароха, Я. Бізюка, В. Бахара, А. Мураўскага, П. Федараку”*. Як відаць, пералічаныя ім прозьвішчы толькі часткова супадаюць з тымі, якія называе Леў Гарошка.

138 **Тударава** — сёньня вёска ў Красьненскім сельсавеце Карэліцкага раёну Гарадзенскае вобласьці.

*— Добра, можаце ісьці,* — кажа, аддаючы легітымацыю.

Ужо пачынала сутанець, калі я даходзіў да Ваўкавіч[139]. Каб крыху адпачыць, я зайшоў на магільнік. На сярэдзіне стаяла напаўразбураная старая вуніяцкая царква. На сьценах былі прыгожыя, хоць і пашкоджаныя малюнкі. Сеў я на парозе і думкі адна сумнейшая за другую пашлі чарадою.

Кажуць нам суседзі і мы самі паўтараем *“Край наш родны, край наш бедны”*. Але чамусьці да гэтага беднага краю ўсе працягваюць грабушчыя рукі, гэтага беднага краю ніхто ня дорыць, а ўсе грабяць, рабуюць, нішчаць, руйнуюць. Колькі ж гэта зруйнаваў царскі ўрад!!! Стаптаў адвечныя беларускія традыцыі. Зруйнаваў Беларускую Усх.-Каталіцкую Царкву — жывы сьведак тых руінаў вось гэтая струхлелая царква. Цяпер палякі руйнуюць — усюды, дзе могуць і як могуць. У кішэні ў мяне дакумант-пратэст супраць руйнаваньня гімназіі. Ужо некалькі стагодзьдзяў трывае гэтае руйнаваньне, аднак беларускі народ жыве і нават ня думае апускаць галавы. І раптам мне захацелася сьпяваць гымн прарока Ісаі, які сьпяваецца на Вялікай Павячэрні:

*“З намі Бог, разумейце пагане і пакарайцеся, бо з намі Бог!*

*Магутныя, пакарайцеся, бо з намі Бог!*

*Бо калі вы адолееце, дык зноў будзеце параможаныя, бо з намі Бог!”*

Выйшаў я з тае апушчанае царквы быццам зь нейкае цалюшчае крыніцы. Усё змучэньне і сум быццам рукою зьняло.

У Наваградку дырэктара Цеханоўскага не было, дык пайшоў я да быўшага дырэктара П. Скрабца[140] і перадаў яму пратэст. Ад яго даведаўся, што ўжо падобных пратэстаў назьбіралася нямала, але напэўна польская адміністрацыя ня будзе зь імі лічыцца. Аб судзе над вучнямі Скрабец гаварыў даволі асьцярожна.

Адведаўшы знаёмых і абышоўшы ўсе памятныя мейсцы і будынкі, у канцы пайшоў на замчышча. Магутныя руіны гэтым разам быццам крычма крычалі: *“На Беларусі больш чым матэрыяльную сілу, трэба мець духовую магутнасьць. Тады ніякія ворагі ня будуць страшныя”.*

*“Пашлі, Божа, беларускаму народу духовую магутнасьць!”* — маліўся я, стоячы на замчышчы.

Пакуль я хадзіў па замчышчы, пачаў цярушыць дробны дождж. Неба зацягнула густымі хмарамі. Таму прышлося зьмяніць плян і за-

---

[139] **Ваўковічы** — сёньня цэнтар сельсавету ў Карэліцкім раёне Гарадзенскае вобласьці.

[140] **Пётра Скрабец** (1882–1963), грамадзка-культурны дзеяч. У 1920–1940-я гг. настаўнічаў на Наваградчыне, быў дырэктарам Наваградзкай беларускай гімназіі. У 1945 г. арыштаваны савецкімі ўладамі й высланы на 8 гадоў у Магадан, пасьля адбыцьця тэрміну вярнуўся ў Наваградак.

мест ісьці ў Вільню пехатою, пайшоў на станцыю. Назаўтра ўжо быў у Вільні. Там, адведаўшы ўсіх знаёмых, набраў кнігаў і, доўга не затрымваючыся, вярнуўся дамоў.

## Летнія канікулы

Кожны год на летнія канікулы я прыяжджаў дамоў, але ўдома было немагчыма правесьці летні час, як належыцца тэолягу. Найбліжэйшая каталіцкая царква ўсходняга абраду была ў Стаўпцах за 30 км; найбліжэйшы каталіцкі касьцёл лацінскага абраду быў у Міры — 8 км; а найбліжэйшая праваслаўная царква знаходзілася за 5 км у Турцы. Калі не было дажджу ў нядзелю, дык я хадзіў на службу Божую туды, куды было зручней — найчасьцей у праваслаўнай цэркві. Няраз дзеля гэтага я сам сабе рабіў закіды, але потым даведаўся, што мая прысутнасьць на Службе Божай у праваслаўных цэрквах была маім першым, зусім нясьведамым, але плённым апостальствам. Божая ласка няраз дзейнічае праз нас тады, калі мы аб гэтым нават і не дагадваемся, але калі мы шчыра выконваем свой абавязак.

Першымі сьведамымі крокамі мае рэлігійнае дзейнасьці былі спатканьні і размовы з баптыстамі.

Распаўсюджваўся баптызм у нашай аколіцы зь вёскі Церабостынь[141], адлеглае ад Трашчычаў усяго два кілямэтры. А там запачаткаваў гэты рух Іван Панько[142], які перад Першаю сусьветнаю вайною быў некалькі гадоў у Адэсе і там прыстаў да баптыстаў. Вярнуўшыся па вайне ў родную вёску, актыўна пачаў прапагаваць новую веру. Зь Церабостыні баптысты час ад часу заходзілі ў іншыя вёскі, дзе не было сьвятароў, і ладзілі напаказ свае маленьні. Такім чынам праз некалькі гадоў зьявілася даволі моцная група баптыстаў у Маласельцах[143] і там нават выбудавана малельны дом. У іншых вёсках іхні ўплыў быў вельмі нязначны, але прыхільнікі сям-там зьяўляліся.

Аднойчы я зайшоў на іхняе маленьне ў Церабостыні і ня вытрымаў, каб пасьля іхняга маленьня не паспрачацца зь імі, бо ў сваіх выступленьнях яны вельмі ж нападалі на ўсе абрады, на іконы, знак крыжа і інш.

---

141 **Церабостынь** — сёньня вёска ў Жухавіцкім сельсавеце Карэліцкага раёну Гарадзенскае вобласьці.

142 **Іван Панько,** дзеяч пяцідзясятніцкага руху ў міжваеннай Польшчы, у 1933–1940 гг. быў на пастарскім служэньні ў Віленскай царкве хрысьціян веры евангельскай (ХВЕ). На 7-м з’ездзе Ўсяпольскага саюза ХВЕ ў 1937 г. абраны намеснікам старшыні Саюза. У 1940 г. вярнуўся на радзіму, у 1949 г. арыштаваны й да 1958 г. знаходзіўся ў лягерах.

143 **Маласельцы** — сёньня вёска ў Турэцкім сельсавеце Карэліцкага раёну Гарадзенскае вобласьці.

На жаль, самога Івана Панько не было, быў толькі ягоны заступнік, дык вось я да яго кажу:

— *Адзін з вас у часе маленьня вельмі нападаў на праваслаўных і каталікоў, што яны молячыся хрысьцяцца, а ўсе яму патаквалі, але гаварыў ён так, як можа гаварыць той, хто не разумее таго, аб чым гаворыць.*

— *А што тут разумець, ганяюць мухі рукамі і гэта называецца моляцца,* — адазваўся з-за стала сусед старшага.

— *Добра, але скажыце мне, ці былі вы калі ў кузьні і ці бачылі, як каваль гартуе сякеры, малаткі, сярпы?*

— *Пэўна, што былі і бачылі,* — загаманілі ўсе.

— *Ну, дык вось, калі хто першы раз будзе бачыць, як каваль награе да чырвана сякеру і потым кідае ў ваду, каб яе раптам астудзіць, дык такжа можна падумаць, што ён робіць нейкую недарэчнасьць: халодную сякеру грэе, каб раптам яе астудзіць. А між тым у такім награваньні і раптоўным астуджаньні ёсьць глыбокі сэнс, бо праз гэта сталь робіцца гартаванаю, цьвёрдаю. Вось і вонкавы знак крыжа мае глыбокі сэнс, і нават шмат большы, як вам здаецца, толькі яго трэба пазнаць.*

— *Добра гаворыць,* — зашапталі глядзельнікі, якія стаялі ў дзьвярах.

— *Э, тут няма ніякага параўнаньня,* — злосна азваўся старшы.

— *Як-то няма?!* — і я павысіў голас. — *А падчас вашага хрышчэньня што вы робіце? Калі для вас вонкавыя знакі і абрады ня маюць ніякага значэньня, дык навошта вы акунаеце ў ваду людзей?*

— *Бо так Хрыстос хрысьціўся і іншых так хрысьціў,* — торапка адказаў старшы.

— *Вось бачыце, цяпер вы самі сьцьвярджаеце, што вонкавыя абрады ўстанавіў ня хто іншы, а сам Хрыстос, і яны ёсьць не пустыя рухі, а бачымыя знакі нябачнага дзеяньня Божае ласкі. Дык чаго ж вы бароніце купаньня і сьмеяцеся з жагнаньня? Гэта ж ёсьць знак, празь які мы, людзі, выказваем наша перакананьне, што Бог Айцец павінен быць у нашых думках, Бог Сын — Ісус Хрыстос у нашых сэрцах, а Дух Сьвяты — наш натхніцель ува ўсіх нашых дзеяньнях. Вось калі вы гэта зразумееце, тады ня будзеце сьмяяцца. Зрэштаю, хіба ж вы добра ведаеце, як называюць людзей, якія сьмяюцца, калі ім выставіць палец.*

[Калі я гэта гаварыў, старшы дзесь выйшаў і ягоная “правая рука” раптам пераскочыў на іншую тэму:

— *Але вы ідалам кланяецеся. Бог выразна сказаў: “Не сатвары сабе куміра”, а вы абвешваеце хаты і цэркві ўсялякімі іконамі.*

— *Пачакайце. Ня блытайце двох розных рэчаў. Ці ж ікона і кумір-ідал гэта тое самае?*

*— Пэўна, што так!*

*— Бачыце, адразу відаць, што вы нават ня ведаеце таго, аб чым гаворыце.*

І тут мне давялося вытлумачыць розьніцу між ідалам-бажком, які ёсьць толькі творам рук чалавека, у небе іх зусім няма, а ікона — гэта сымбалічнае прадстаўленьне Бога ці сьвятых, якія існуюць.]

Аднак далей гутарка пачала пераскокваць з тэмы на тэму. Калі той, хто ставіў мне нейкі закід, атрымоўваў належны адказ, больш не адзываўся, дык іншы выскокваў з новым закідам. Большасьць адказаў прыходзіла мне на думку неспадзявана і пры тым так ясна, быццам хтосьці падказваў, і гэта дадавала мне ўпэўненасьці. Нарэшце старшы "заўважыў", што ўжо час разыходзіцца. Я пайшоў дамоў, а баптысты разыходзіліся гурткамі, дыспутуючы між сабою.

У наступным годзе мне аж двойчы давялося "пагутарыць" з баптыстамі.

Аднойчы ў нядзелю я вяртаўся зь Ярэміч, дзе быў на службе Божай. Там быў парахам а. Жалезьняковіч[144], добры прапаведнік і абыходлівы зь людзьмі. Вяртаўся я ў добрым настроі, бо пасьля службы Божае, калі праходзіў каля сьвятарскага дому, здарыўся такі выпадак. Каля варот дому стаяў сам парах, відаць, чакаючы царкоўнага старасту. Я даў дабрыдзень, ён адказаў і спытаўся:

*— Вы магчыма да мяне?*

*— Не, айцец, я тут мімаходам.*

*— Выбачце, а вы адкуль будзеце?*

*— З Трашчыч.*

На далейшыя пытаньні прышлося яму сказаць, што я студэнт Гр.- Кат. Акадэміі. Ён пасумнеў і кажа:

*— Ох, гэтая Вунія, гэта бяда на нашую галаву!*

*— Ойча, гэта не такая бяда, як здаецца. Пэўна ж, калі ў яе мяшаюцца ўсякія "апекуны" з сваімі далёкімі ад рэлігіі меркаваньнямі,*

---

144 **Васіль Жалезьняковіч** (1900–1972), праваслаўны сьвятар, протаіерэй. У 1922 г. скончыў Віленскую (Літоўскую) духоўную сэмінарыю, у 1930–1931 гг. вучыўся на багаслоўскім факультэце Варшаўскага ўнівэрсытэту. Ад 1922 г. быў сьвятаром Увазьнясенскай царквы ў мястэчку Ярэмічы. Займаўся літаратурнай дзейнасьцю, друкаваўся ў праваслаўных пэрыядычных выданьнях, што выходзілі ў 1920–1930-я гг. у Польшчы. Актыўна змагаўся супраць палянізацыі насельніцтва, за што падвяргаўся рэпрэсіям з боку польскіх уладаў. У 1938 г. па патрабаваньні польскіх уладаў выведзены за штат, ад сакавіка 1939 г. сьвятар Раства-Багародзіцкай царквы ў вёсцы Гудзевічы Ваўкавыскага павету. У 1946 г. прызначаны сьвятаром Мікалаеўскай царквы ў Ваўкавыску, ад лютага 1947 г. благачынны цэркваў тагачасных Ваўкавыскага і Поразаўскага раёнаў. У 1951 г. арыштаваны, асуджаны да 10 гадоў папраўча-працоўных лягераў з канфіскацыяй маёмасьці. Пасьля вызваленьня жыў у Ваўкавыску.

*дык тады яна становіцца бядою. Але ж вы добра ведаеце, што ў іншых веравызнаньнях з гэтага гледзішча дзеецца яшчэ горай.*

*— Гэта праўда, але на нас у Рыме глядзяць з прыдзірствам.*

*— Наадварот. У Рыме нас лічаць такімі самымі вартаснымі вернікамі, як і вернікаў лацінскага абраду; там ужо даўно роўнасьць у правох усіх абрадаў зьяўляецца бясспрэчным фактам.*

На пацьверджаньне гэтага сказу пераказаў яму некалькі фактаў, аб якіх чуў у Львове.

*— Калі сапраўды так маюцца справы, як вы кажаце, і калі так пойдзе далей, дык магчыма недалёкі той час, калі мы зможам падаць сабе рукі,* — зрабіў высновак а. Жалезьняковіч.

Надыходзіў стараста, мы прыязна разьвіталіся, ідучы кожны ў свой бок.

І вось якое паўгадзіны пасьля такое сустрэчы дождж мяне нібы сіламоц загнаў у малітаўны дом баптыстаў у Маласельцах. Дом стаяў пры дарозе, і як толькі я наблізіўся да яго, лінуў дождж. Дык убягаю я ў гэты дом, а там было яшчэ каля дзясятка баптыстаў і яны аб нечым ажыўлена гаварылі.

Прывітаўся і кажу:

*— Тут можна перачакаць, пакуль дождж пяройдзе?*

*— О, хіба толькі дождж вас сюды загоніць,* — адказаў у форме згоды і папроку якісьці незнаёмы агітатар.

*— А чаго я сюды маю заходзіць?! Сягоньня ж нядзеля і ўсе вернікі, калі толькі могуць, ідуць у цэркві і касьцёлы, дзе правіцца Служба Божая. І я вось быў на багаслужэньні ў Ярэмічах.*

*— Гавары, гавары, ведаем мы, на якія багаслужэньні ходзіце,* — казаў той жа агітатар. Але яго як бачыш пераняў мяйсцовы баптыст, які добра мяне ведаў зь Церабостыні.

*— Ты так не гавары аб гэтым чалавеку.*

Пачалася гутарка аб Службе Божай і апостальстве.

*— У вас няма і ня можа быць ані сапраўднага апостальства, ані Службы Божай, бо вы самазванцы,* — казаў я, — *а ў справах Божых ніякіх самазванцаў быць ня можа. Хто прыслаў вас сюды? Такі самы самазванец, як і ты сам. Хіба ж ведаеце, што ў лісьце да Рымлянаў ап. Павал выразна кажа: "І як абвяшчаць, калі ня будуць пасланыя?" (Рым 10:15). А вашых верхаводаў хто паслаў? Напэўна ня Бог, хоць аб Богу гаворыце шмат, але зусім ня лічыцеся зь ягонай воляю, з тым парадкам, які Ён устанавіў. Хрыстос да апосталаў найвыразьней у сьвеце казаў: "Ня вы мяне выбралі, а я выбраў вас" (Ян 15:16). І вось толькі гэтым выбраным апосталам Ён даў уладу і загад правіць Службу Божую на ўспамін аб Тайнай Вячэры (Лк 22:19), і гэтым жа апосталам у канцы "перадаў усякую ўладу" і забавязаў, каб "ішлі навучаць усе народы" (Мц 28:18–19). А далей апосталы пасылалі*

*іншых, перадаючы ім праз узлажэньне рук усю ўладу і абавязкі, якія яны атрымалі ад Хрыста. І так будзе дзеецца да сканчэньня сьвету. Па гэтым і пазнаюць, ці хто прыходзіць з пропаведзьдзю ў імя Хрыста, ці ў нейкім іншым імені.*

Часу было даволі, бо дождж не спыняўся і мы маглі гаварыць, не сьпяшаючыся. Прыезны баптыст некалькі раз спрабаваў пераскочыць на іншую тэму, але я адразу вяртаў яго да таго, аб чым мы гутарылі. У канцы ён, пачырванеўшы, мусіў сказаць:

— *Я не магу гаварыць з такім кніжным чалавекам.*

— *Гэта ніякі адказ,* — настаяваў я. — *Тут кніжны чалавек ні пры чым. Праўда Божая для кожнага ясная, і для кніжных, і для някніжных. Хрыстос гаварыў да зусім нягграматных людзей і яны Яго разумелі. Я вам паказаў, што адносна гэтай праўды вы памыляецеся, і калі хочаце мець чыстае сумленьне, дык павінны або даказаць мне, што я памыляюся, або прызнаць мне слушнасьць.*

— *У нас ёсьць такжа вучоныя і мы ў іх спытаемся: яны нябось разьбяруцца, што тут і да чаго.*

Пасьля такога адказу гаварыць паважна далей не было сэнсу, але было дзіўна, што адзін зь мяйсцовых баптыстаў пачаў яго дакараць, што перш перад імі выстаўляў сябе як усязнайку, а тым часам нават у важных справах ня знае, што кажацца ў Сьвятым Пісаньні. Якраз дождж спыніўся, я разьвітаўся з прынагаднымі субяседнікамі і пайшоў дамоў.

Успамінаючы аб гэтых спатканьнях, прынагадна заўважу, што яшчэ два разы давялося прыглядацца да маленьня баптыстаў у Царабостыні і замяніцца зь імі некалькімі словамі, ды кожны раз пераканацца, што гэта людзі зь нейкаю хваравліваю псыхозаю. Яны па-сьляпому чапляюцца за некалькі сказаў Сьвятога Пісаньня, тлумачаць іх на свой лад і не зьвяртаюць зусім увагі на рэшту аб'яўленых праўдаў, пісаных у Сьвятым Пісаньні.

У Царабостыні здараліся выпадкі, што хваравлівая псыхоза даводзіла да духовага зьвіхненьня. Аднойчы двох баптыстаў, бацька і сын, скідалі сена з возу на торп[145]. У пэўным мамэнце сын крычыць з торпу: *"Бацька, на мяне зышоў Дух Сьвяты, глядзі, я буду лятаць!"* І пакуль бацька ўсьпеў глянуць на сына ўверх, той ужо "ляцеў" стрымгалоў на ток. Сваё "лятаньне" адлежаў два тыдні ў ложку, пакуль раны загаіліся, але пасьля гэтага стаўся яшчэ большым псыхапатам.

Словам, я пераканаўся, што асабліва зь некаторых спатканьняў не было ніякай карысьці, магчыма нават наадварот, бо сэктанты станавіліся яшчэ больш зацятымі, і таму я пастанавіў пакінуць іх у супакоі. Аднак падчас маіх апошніх акадэмічных канікулаў аднойчы

[145] **Торп** (тарпа) — вялікая сьціртa снапоў або саломы, складзеная асаблівым спосабам для захоўваньня пад адкрытым небам.

ў нашай вёсцы загаварылі, што церабостынскія баптысты на чале зь нейкім прыезджым прапаведнікам пайшлі маліцца ў Радунь — вёску, якая падобная да тысячы беларускіх вёсак, безь сьвятыні, безь сьвятара, якая адлеглая аж сем кілямэтраў ад свае парахвіяльнае царквы ў Міры.

Стала неяк цяжка на душы, што дзеля нядбайства сьвятароў шырыцца гэтае хвараблівае зьявішча. Вось жа выбіраюся ў Радунь — гэта ўсяго два кілямэтры ад Трашчычаў.

Маленьне адбывалася ў прасторнай хаце аднаго баптыста. Людзей назьбіралася многа — ведама, цікава паглядзець і паслухаць прыежджага прапаведніка, якому, відаць, зрабілі добрую падрыхтоўчую прапаганду. Згодна з заведзеным ужо звычаем баптыстаў спачатку сьпявалі, потым чыталі Сьвятое Пісаньне, гаварылі нібы казаньні, а потым пачалі маліцца, стаўшы на калені, пры тым трасьліся, крычалі неартыкулёванымі галасамі — відовішча было сапраўды несамавітае. Потым зноў “прапаведвалі” — найбольш гаварыў прыежджы.

Пасьля таго маленьня я зьвярнуўся да прапаведніка:

*— Што гэта за такі вэрхал вы рабілі, укленчыўшы?*

*— Гэта ня вэрхал, але шчырая малітва, калі зышоў на нас Дух Сьвяты. Мы тады маліліся рознымі мовамі.*

*— Дух Сьвяты даваў апосталам дар гаварыць рознымі мовамі, каб прапаведаваць да розных народаў, а што ў вас за такі дзіўны дар, што крычыце няма ведама што, а пропаведзь да беларусаў гаворыце па-расейску?*

*— Гэтых моваў мы не разумеем, каб гаварыць, а толькі каб Бога славіць.*

*— Як жа можна славіць Бога, не разумеючы таго, што гаворыш? Як жа тады можна ведаць, ці вы Бога славіце, ці зьнеimportant?*

*— Гэта нам сам Дух Сьвяты кажа.*

*— Добра, калі вам сапраўды Дух Сьвяты кажа, дык аб гэтым лёгка можна пераканацца.*

І тут мне прыдаліся некаторыя гэбрэйскія і грэцкія цытаты зь Сьвятога Пісаньня. Сказаў я іх павольна і выразна ды пытаюся:

*— Вось вы казалі, што маеце дар моваў ад Сьвятога Духа. Дык ці зразумеў хто-колечы з вас хоць адно слова з таго, што я гаварыў?*

Глядзельнікі каля дзьвярэй і каля вакон пачалі нешта перашэптвацца, а прапаведнік са злосьцю крычаў:

*— Што тут выхваляецеся сваёю грэцкаю моваю, мы Бога славім, а вы і вашыя сьвяшчэньнікі адурманьваюць людзей.*

*— Пачакай, пачакай, —* кажу спакойна, *— мы зараз убачым, хто адурманьвае людзей. Тое, што я казаў, было зусім не для хвальбы, але на тое, каб перад усімі гэтымі сьведкамі і перад Богам выявіць, што гэта вы дурманіце людзей і як той злодзей, што, украўшы*

*нешта, бяжыць і крычыць "Трымайце злодзея", так і вы крычыце на сьвятароў. Вось жа ўсе цяпер убачылі, што ваш дзікі крык, які вы называеце дарам Сьвятога Духа, ня мае нічога супольнага з Духам Сьвятым. Дык прычым тут вашыя нападкі на сьвятароў?*

*— Як-то пры чым!* — было відаць, што прапаведнік стараўся ўсімі сіламі пераскочыць на іншую тэму, дык ухапіўся за сьвяшчэньнікаў. — *А вось пры тым, што яны ня пастыры, бо толькі абдзіраюць людзей, толькі дбаюць аб сваім дабрабыце...*

*— Ну добра, калі вы нічога мне не адказваеце адносна дару моваў, дык значыць вы годзіцеся з тым, што гэтым крыкам вы толькі чмуцілі людзей. А цяпер адносна сьвятароў. За тое, што яны абдзіраюць людзей, будуць адказваць перад Богам, і за гэта іх ніхто не апраўдвае, але дрэннаму яны ня вучаць — гэта адно, а другое, гэта тое, што між імі ёсьць нямала і добрых душпастыраў, дык чаму вы іх мяшаеце з балотам?*

*— А як іх не мяшаць,* — азвалася адна кабета з-за таўпы, — *калі во Мірскі бацюшка нават ад споведзі праганяе, калі не дасі 50 грошаў.*

*— Гэта вельмі нядобра. Каталіцкае духавенства за споведзь не бярэ нічога і так павінны рабіць праваслаўныя, некаторыя так і робяць. Калі ўжо прыйшла на гэта гутарка, дык абяцаю вам, што пагавару зь мірскім бацюшкам, каб ён спавядаў бяз грошаў. Думаю, што гэта будзе больш карысна, чым за вочы перамываць ягоныя косьці.*

У гэтым мамэнце сталася нешта, чаго ніхто ня мог спадзявацца. Адна дзяўчына-баптыстка ўстае з Эвангельлем у руках і кажа:

*— Тут нападаюць на духавенства, хоць мы ніколі ня чулі, каб яны навучалі чагосьці дрэннага. Гэта не па-хрысьціянску, бо Хрыстос казаў да сьвяшчэньнікаў адносіцца іначай. Вось у Эвангельлі Матэя ў главе 23, сьціх 3 кажацца: "На Майсеевым пасадзе заселі кніжнікі і фарызэі. Дык усё, што кажуць вам дзяржацца, дзяржыцеся і рабеце, але не рабеце паводле ўчынкаў іх, бо яны кажуць і ня робяць". Вось як кажа нам Хрыстос!*

*— Чуеце, які прыгожы адказ на ўсе закіды.* — Кажу я глыбока ўзрушаны, бо бачу, што прыйшоў сюды не дарма.

Прапаведнік, абураны гэтым выпадкам, пачынае нападаць на моладзь за тое, што мала пабожная. На гэткія закіды лёгка было адказаць.

*— Вашыя дакоры цяпер накіраваны супраць вас. Як жа можаце дакараць калеку за тое, што ён без свае віны стаўся калекаю. А з вашых папярэдніх закідаў супраць духавенства якраз і выходзіць, што моладзь сталася ахвяраю дрэннага духавенства. Але ў вашым закідзе ёсьць няпраўдаю тое, што моладзь зусім непабожная. Во, глядзіце, колькі моладзі стаіць каля вакон і ў хаце, ды*

*зь якою цікавасьцю яны слухаюць гутаркі на рэлігійныя тэмы. Яны хочуць пачуць нешта добрае, а вы ім атруту несяце.*

Моладзь была відавочна задаволена, некаторыя пачалі кідаць рэплікі пад адрасам прапаведніка, але ў далейшым гутарка пачала пераскакваць з тэмы на тэму. У канцы прапаведнік закрануў пытаньне хрышчэньня дзяцей:

— *У Эвангельлі выразна кажацца: "Хто паверыць і ахрысьціцца, будзе спасёны; а хто не паверыць, будзе асуджаны" (Мк 16:16). Значыць, хрысьцяцца толькі тыя, хто перш паверыць, а праваслаўныя і каталікі хрысьцяць дзяцей, якія ня маюць веры. Што ж такі хрост значыць? Нічога!*

Сказаўшы гэта, прапаведнік раптам пайшоў у сені, вось жа я зьвярнуўся да ўсіх, што сядзелі за сталом:

— *Такі хрост значыць шмат, толькі вось бяда, што не разумееце Сьвятога Пісаньня. Вось тут жа ў гэтым сказе Сьвятога Пісаньня ясна як сонца кажацца, што для спасеньня патрэбныя і вера і хрышчэньне. Значыць, калі нехта будзе неахрышчаны, дык ня можа быць спасёны, таксама як і той, хто ахрышчаны страціць веру. А на іншым мейсцы ў Эвангельлі Івана (3:5) кажацца яшчэ выразьней: "сапраўды, сапраўды кажу табе: калі хто не народзіцца з вады і Духа, ня можа ўвайсьці ў Божае Валадарства". Гэтыя словы Хрыста адносяцца да ўсіх людзей без вынятку: і да старых, і да дзяцей.*

— *Аб дзецях тут нічога не гаворыцца,* — загаварыў церабостынскі старшы, — *але затое ў першым тэксьце выразна кажацца, што перш трэба паверыць, а дзеці розуму ня маюць, дык ня могуць верыць і таму іх нельга хрысьціць.*

Весьці багаслоўскі дыспут з такімі людзьмі не было ніякага сэнсу, і мне прыйшла думка выкарыстаць філязофію, каб выявіць іхнюю злую волю.

— *Вы так аб дзецях адзываецеся, як бы яны не былі людзьмі. Цьвердзіце, што ня маюць розуму, дык скажыце мне, адкуль яны розум бяруць?*

— *Ну, ведаеце... вось як пачынаюць падрастаць, дык тады прыходзіць розум,* — казаў абы-што старшы.

— *Адкуль жа ён да іх прыходзіць?* — наставаў я.

— *Ну, як пачынае падрастаць...*

— *Чакайце,* — перарваў я яго гутарку.— *Вы мне адкажэце на пытаньне: вось радзілася нармальнае здаровае дзіця; мае яно розум, ці не?*

— *Дзіця, ведама, як дзіця... Яно вось як пачне падрастаць...*

— *Пачакайце з падрастаньнем і адкажэце коратка: мае розум, ці не?*

*— Чаго вы хочаце ад малога дзіцяці, яно як пачне падрастаць...*

*— Я нічога не хачу ад малога дзіцяці, але ад вас хачу яснага адказу на маё пытаньне. Калі ж вы ня хочаце на яго адказваць, дык пачакайце, я вам дам пытаньне, на якое вы павінны адказаць: нармальнае нованароджанае дзіця мае здаровыя ногі ці не?*

*— Пэўна, што здаровыя,* — адказаў нясьмела старшы.

*— Дык чаму ж яно ня ходзіць?*

*— Бо яшчэ ногі ня моцныя.*

*— Вось сачыце,* — кажу я, — *такжа і розум яно мае, бо яму Бог даў разумную і несьмяротную душу, але не карыстаецца розумам, пакуль мазгі адпаведна не ўмацуюцца.*

*— Але гэтага няма ў Сьвятым Пісаньні,* — падхапіўся старшы.

*— Вось дык сказаў,* — заўважыў я пад агульны выбух сьмеху.

Старшы пачырванеў і змоўк, а я зьвярнуўся да жанчын і, паказваючы на тых, што сядзелі за сталом, казаў:

*— Бачыце, якія людзі да вас прыходзяць; яны гавораць шмат аб Богу, а тым часам маюць на душы д'ябальскую справу — хочуць загубіць душы вашых дзяцей.*

Гаварыў я зь юнацкім жарам і бачыў, што словы знаходзілі жывы водзыў у душах слухачоў. Але раптам убег зь сяней прыежджы прапаведнік, стаў перада мною і крычыць:

*— Не гавары да іх!*

І, павярнуўшыся да жанчын:

*— А вы ня слухайце яго, ён вас хоча зьвесьці філязофіяю!*

Жанчыны загаманілі:

*— Чаго ты крычыш, ён нябось добра гаворыць.*

Баптыстам больш не было чаго там рабіць. Больш зборкаў у Радуні яны ня ладзілі і, чуваць было, іхнія нешматлікія прыхільнікі ў гэтай вёсцы ад іх адышлі.

* * *

У наступную нядзелю я быў на Службе Божай у Міры. Пасьля багаслужэньня зайшоў да кс. дзекана Антона Мацкевіча[146]. Заходзіў я да яго няраз і заўсёды ён сустракаў мяне вельмі прыхільна і гасьцінна, так што я часам меркаваў заходзіць да яго ў такі час, каб ня трапіць на абед, але ўсё роўна без гасьціны не абыходзілася.

І гэтым разам дзекан адразу запрасіў мяне на абед, зазначыўшы, што ў яго сёньня не абы-якое сьвята, бо на абедзе будуць чатыры

146 **Антоній Мацкевіч** (1892–1942), каталіцкі ксёндз, пробашч у Міры, сталавіцкі дэкан. Падчас Другой сусьветнай вайны браў удзел у польскім падпольным руху, закатаваны немцамі ў канцлягеры Калдычэва пад Баранавічамі.

законьніцы, якія нядаўна прыехалі ў Мір. Пазнаёміў ён мяне зь імі неяк урачыста, кажучы з прыціскам:

*— Яго чакае вялікая праца, дык малецеся ў ягоным намераньні.*

Законьніцы ахвотна абяцаюць выканаць гэтую просьбу, з жаночаю цікавасьцю выпытваючы ў кс. дзекана мае пэрсаналіі.

Па абедзе я адразу пайшоў да праваслаўнага Мірскага сьвятара, айца пратаіярэя Уладзімера, каб выканаць маю абяцанку, якую даў у Радуні. Калі я яму прадставіўся, дык адразу мусіў выслухаць усякія дакоры пад адрасам Рыму і Вуніі, але калі пабачыў, што гэтыя дакоры могуць працягвацца доўга, перапыніў яго:

*— Ойча Ўладзімер, пакінем гісторыю Царквы ў супакоі, бо я яе ведаю даволі добра і да вас прыйшоў у іншай справе.*

Расказаў яму тое, што здарылася ў мінулую нядзелю ў Радуні і дадаў:

*— Ня ведаю, ці я зрабіў добра, ці не, але каб спыніць нараканьні вашых прыхажан супраць вас, я абяцаў ім, што на маю просьбу вы іх будзеце спавядаць бясплатна.*

*— А, гэтыя баптысты, гэта шалёныя людзі,* — а. Уладзімер цяпер пачаў наракаць на сэктантаў.

*— Можа, не зусім шалёныя,* — кажу яму, — *але псыхічна хворыя. Толькі ж нараканьнем іх ня вылечыш. Прынамсі ня трэба гэтае хваробы павялічваць, даючы падставу да нападаў. Таму я і абяцаў радунцам пагутарыць з вамі. Выбачце, што я, малакасос, пхаю нос не ў свае справы, але ўжо так здарылася...*

*— Гэта нічога, толькі ня знаю, як выканаць вашую просьбу, бо ж я благачынны*[147]*, калі пачну спавядаць задарма і даведаюцца аб гэтым іншыя, дык могуць данесьці япіскапу, але неяк гэта зробіцца. Я ўжо гэтых радунцаў ведаю. Толькі вось мне дзіўна, што вы так чыста гаворыце па-беларуску,* — а. Уладзімер раптам перайшоў на іншую тэму.

*— Чаму дзіўна! Гэта зусім нармальна,* — адказваю. — *І было б таксама нармальна, каб вы гаварылі па-беларуску.*

*— Ну, што гэта за мова?!*

*— Як то што?! Гэта родная мова вашых парафіян.*

Падчас нашае размовы дзьверы ў суседні пакой былі адчынены, і я бачыў на падлозе цень чалавека, які сядзеў амаль нерухома на крэсьле. Мы гаварылі каля двох гадзінаў, айцец пратаіярэй то выбухаў, то супакойваўся. Закончылася нашая гутарка больш прыязна, чым можна было спадзявацца. Айцец Уладзімер прызнаўся, што

[147] **Благачынны** — у Праваслаўнай царкве адмысловая пасада, прызначаная для нагляду за парадкам у пэўнай царкоўнай акрузе ў складзе япархіі. Зьяўляецца пэўным пасярэднікам па шэрагу пытаньняў паміж прыходам і епархіяльнай управай. Аналяг дэкана ў Рыма-каталіцкай царкве.

ён пачувае сябе “тоже белоруссом”, але ўзгадаваны ў расейскіх школах і цяпер ужо ў пажылых гадох ня можа зьмяніць сябе.

Калі я выйшаў з прэзьбітэрыі, на дворышчы ўбачыў іншага сьвятара. Гэта ён слухаў нашую гутарку ў суседнім пакоі. Малады яшчэ, з інтэлігентным спакойным аблічам, ён першы падышоў да мяне і падаў руку, кажучы:

— *Будзем знаёмы, айцец Анатоль, зяць а. Уладзімера.*

Гаварыў ён прыгожаю беларускаю літаратурнаю моваю. Відаць, быў моцна ўзрушаны. Колькі жыць буду, не забудуся ягоных слоў:

— *Зачым вы нэрвы псуеце з гэтым старым? Ён жыве яшчэ царскім духам і прасякнуты ім да шпіку косьцяў... Бачыце, што ён адразу пачынае з старое гісторыі і длубаецца толькі ў тым балоце, якое натварылі нашыя суседзі. Мы, беларусы, не павінны браць на сябе адказнасьці за тое ліха, якое выраблялі на нашай бацькаўшчыне нашыя заграбушчыя суседзі. А нам, сьвятаром, патрэбна не сварка, а шчырая ўзаемная братняя любоў і тады мы з сабою хутка дагаворымся, як зьліквідаваць рэлігійны падзел...*

— *Шчырую праўду кажаце, ойча; дзякую вам за гэтыя прыгожыя словы. Даў бы Бог, каб яны хутка збыліся* — гаварыў я, апаноўваючы жаданьне пацалаваць ягоную руку.

— *Некалі напэўна збудуцца!*

На разьвітаньне ён запрасіў мяне пры нагодзе адведаць яго ў парахвіі Вольная[148]. Мне было радасна, што сярод праваслаўнага духавенства зьявіліся такія высока ідэйныя людзі. Праўдападобна, пад яго ўплывам а. Уладзімер выканаў маю просьбу і радунцы маглі спавядацца бясплатна, толькі ня ведаю, як доўга.

* * *

Важным заняцьцем падчас летніх канікулаў была для мяне праца ў каапэрацыі. У нашай вёсцы заснавалася каапэрацыя (калі мяне памяць ня мыліць) у 1933 г. Заснавальнікамі былі інж. Мікола Гарошка[149] і мой бацька.

Інж. Гарошка (мой дваюрадны брат), вярнуўшыся з Прагі, падзяляў долю большасьці ягоных сяброў, якія, як і ён, вярнуліся на бацькаўшчыну, але дарма шукалі працы ў польскіх установах. Па-

[148] Маецца на ўвазе **Вольна** — сёньня аграгарадок, цэнтар сельсавету ў Баранавіцкім раёне Берасьцейскае вобласьці.

[149] **Мікола Гарошка** (1902–1979), грамадзкі дзеяч, інжынэр. Вучыўся ў Чэхаславакіі, пасьля вяртаньня на радзіму працаваў у каапэрацыі. Пасьля Другой сусьветнай вайны — на эміграцыі, быў старшынём Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня ў 1949–1952 і 1965–1967 гг., таксама першым старшынём Фундацыі імя П. Крэчэўскага.

чын каапэратыўнага руху ў нашай ваколіцы быў вельмі на часе і на мейсцы. Праз колькі месяцаў пасьля заснаваньня каапэратывы “Засеўкі” ў Трашчычах ужо былі створаны філіяльныя крамы ў суседніх вёсках Церабостыні, Кожаве[150] і Пясочнай[151]. У наступным годзе была створана каапэратыва ў Скорычах[152], а філія Кожава афармілася ў самастойную каапэратыву ды адчыніла філіяльную краму ў Крышылоўшчыне[153]. У нашай каапэратыве заснавалася таксама малачарня.

Ня маючы беларускага каапэратыўнага саюзу, новапаўсталыя каапэратывы мусілі належаць да польскага каапэратыўнага саюзу “Сполэм”[154], аднак у сваёй нутранай дзейнасьці захоўвалі свой беларускі характар, і дзеля гэтага польская адміністрацыя глядзела на каапэратыўны рух вельмі крывым вокам. Каб спыніць гэты рух, паліцыя спачатку дакучала рознымі фармальнымі прыдзірствамі. Але хутка каапэратыўныя дзеячы і нават звычайныя крамнікі ведалі ўжо добра праўныя прыпісы адносна каапэрацыі і прыдзірствы мусілі спыніцца, але ў гэтым часе павятовае староства ў Стаўпцах запрапанавала часовую працу інж. Гарошку пры будове мосту, каб праз гэта пазбавіць каапэратыўны рух наймацнейшае пружыны і каб адначасна мець яго пад сваім пільным надзорам. Калі ён перш сам дарма шукаў усюды працы, дык цяпер да яго зьвярталіся з прапазыкаю. Хоць прапанавалася толькі часовая праца, адмовіцца ад яе было нельга[155].

Выяжджаючы ў Стаўпцы, інж. Гарошка насьпех даручыў весьці каапэратыўную бухгальтэрыю аднаму гаспадару, які калісь два гады вучыўся ў Ярэміцкай сямігодцы. На шчасьце, гэтая зьмена адбылася ўсяго некалькі тыдняў перад летнімі канікуламі. Калі я прыехаў дамоў на лета, дык адразу трэба было брацца за каапэратыўныя

150 **Кожава** — сёньня вёска ў Жухавіцкім сельсавеце Карэліцкага раёну Гарадзенскае вобласьці.

151 **Пясочная** — сёньня вёска ў Жухавіцкім сельсавеце Карэліцкага раёну Гарадзенскае вобласьці.

152 **Скорычы** — сёньня вёска ў Ярэміцкім сельсавеце Карэліцкага раёну Гарадзенскае вобласьці.

153 **Крышылоўшчына** — сёньня вёска ў Луцкім сельсавеце Карэліцкага раёну Гарадзенскае вобласьці.

154 **Усеагульны спажывецкі каапэратыў “Сполэм”** (*Powszechna Spółdzielnia Spożywców “Społem”*) — найбуйнейшы польскі саюз каапэратываў, які вядзе сваю гісторыю ад 1868 г. і працягвае дзейнасьць да гэтага часу.

155 Падрабязней пра гэта ва ўспамінах Зінаіды Гарошкі, жонкі Міколы. Гл.: Юрэвіч, Лявон. Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія. Мінск, 2015. С. 546–554.

справы, і тут мне вельмі ж прыдаліся веды зь вячэрніх курсаў у Акадэміі.

Дзеля зусім іншых прычынаў намагаліся разваліць каапэратывы ў ваколіцы мірскія гандляры. Нават былі пагалоскі, што на гэтую мэту атрымалі ад сваіх суродзічаў-жыдоў у Амэрыцы нейкія фонды. Спраўдзіць верагоднасьць гэтае весткі не было ніякай магчымасьці, але затое былі вельмі частыя факты, што сялянам з тых вёсак, дзе былі каапэратывы, мірскія жыды прадавалі тавары ніжэй сабекошту, калі пры гэтым у крамах не было сьведкаў, і пры гэтым агітавалі супраць каапэратываў. Але гэтыя факты ў часе справаздачнага сходу сталіся добрымі аргумэнтамі для выясьненьня ідэі каапэрацыі і для ўсьведамленьня сяброў каапэратывы.

Словам, каапэратыўны рух шчасьліва перамагаў і абыходзіў перашкоды, і думка аб утварэньні Беларускага Каапэратыўнага Саюзу станавілася ўсё больш актуальнаю. Тады польская адміністрацыя парабіла мерапрыемствы, каб перашкодзіць гэтае ўтварэньне. Такі саюз ужо існаваў пасьля Першае сусьветнае вайны ў Вільні, але быў зьліквідаваны польскаю ўладаю ў 1923 г.[156]. Ягоны старшыня Гэрмановіч[157] потым знайшоў сабе працу ў адміністрацыі польскае каапэратыўнае супалкі "Сполэм" і якраз у гэтым часе, аб якім ідзе гутарка, быў старшынёю павятовага саюзу "Сполэм" у Баранавічах. Там жа двох беларускіх каапэратыўных дзеячоў былі рэвізорамі, адзін працаваў у бюры, там жа знайшлі працу, прыехаўшы з Прагі,

---

[156] **Віленскі саюз каапэратываў**, які аб'ядноўваў большасьць наяўных у той час на Віленшчыне беларускіх каапэратыўных арганізацый, існаваў у 1920–1923 гг. у асноўным ва ўмовах Сярэдняй Літвы. На пэўны час ён стаў найбольш уплывовай гаспадарчай арганізацыяй у краі. Фактычна працягваў традыцыі Цэнтральнага беларускага саюзу сельскай гаспадаркі (Цэнтрабелсаюзу) — беларускага сельскагаспадарчага каапэратыву, створанага за часамі польскай акупацыі ў Менску. У дзейнасьці саюзу прымалі актыўны ўдзел такія вядомыя беларускія дзеячы, як Аркадзь Смоліч, Антон Трэпка, Уладзіслаў Сталыгва і інш. Пасьля далучэньня Сярэдняй Літвы да Польшчы ня вытрымаў канкурэнцыі з польскімі каапэратывамі, якія карысталіся ільготамі з боку дзяржавы, і мусіў увайсьці ў склад агульнапольскага саюзу спажывецкіх каапэратываў *"Społem"*. Падрабязьней пра дзейнасьць гэтай арганізацыі гл.: Радзюк, А. Л. Беларускі кааператыўны рух на тэрыторыі Сярэдняй Літвы (1920–1922 гг.) // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Сер. 1. Гісторыя і археалогія. Філасофія. Паліталогія. 2012. № 3. С. 27–32.

[157] У дадзеным выпадку Леў Гарошка штосьці блытае, бо старшынём Віленскага саюзу каапэратываў зьяўляўся Станіслаў Чыжэўскі, а дзеяч з прозьвішчам Гэрмановіч калі й браў у яго працы ўдзел, то не на вядучых ролях.

інжынэры Пятро Орса[158] і Гутоўскі[159]; у каапэратыўных крамах у Баранавічах такжа працавала пару беларусаў. Прытым беларускія каапэратывы, зьвязаныя з Баранавіцкім цэнтрам, пакрыху ўсьцяж збольшваліся[160]. Вось жа выглядала так, што з часам было б магчыма безь вялікіх пэрсанальных зьменаў баранавіцкі "Сполэм" перат- варыць у незалежную Цэнтралю Беларускіх Каапэратываў. І вось старога беларускага каапэратыўнага дзеяча Гэрмановіча перанесена з Баранавіч у Познань.

Прышлося беларускім каапэратывам аставацца пры польскім каапэратыўным саюзе "Сполэм", аднак паколькі кантралёрамі былі ў Баранавічах беларусы, дык было магчыма прадаўжаць у каапэратывах беларускую грамадзкую працу.

У вясковых каапэратывах былі дзьве платныя асобы: крамнік і бухгальтар, дзеля гэтага, вядучы бухгальтэрыю за час летніх канікул, я мог сабе крыху зарабіць і ў дадатку падрыхтаваў двох юнакоў на бухгальтараў. А калі ў краме вечарам зьбіралася многа людзей, дык меў добрую нагоду прачытаць услух для ўсіх беларускія газэты і часапісы. Наагул было прыемна сьцьвердзіць, што каапэрацыя мела паважны дабрадзейны ўплыў на гаспадарчае і нацыянальнае беларускае жыцьцё.

---

158 **Пётра Орса** (1898–1990), грамадзкі дзеяч. Выпускнік Наваградзкай беларускай гімназіі, пасьля яе заканчэньня выехаў у Прагу, дзе атрымаў агранамічную вышэйшую адукацыю. Вярнуўшыся на бацькаўшчыну, працаваў у каапэратыўных арганізацыях. Падчас Другой сусьветнай вайны ўзначальваў аддзел сельскай гаспадаркі Беларускай Цэнтральнай Рады. Пасьля вайны эміграваў, жыў у Нямеччыне й ЗША.

159 Відаць, маецца на ўвазе **Міхась Гузоўскі** (1898 — пасьля 1944), грамадзкі дзеяч. У 1918–1919 гг. сябра Беларускай вучнёўскай грамады ў Варонежы. У 1921 г. працаваў настаўнікам. У лістападзе 1921 г. прымусова накіраваны польскай школьнай адміністрацыяй на настаўніцкія курсы ў Кракаў. У 1922 г. накіраваны па рэкамэндацыі ТБШ на вучобу ў Чэхаславакію, скончыў агранамічнае аддзяленьне Праскай вышэйшай палітэхнікі. Быў адным з кіраўнікоў Аб'яднаньня беларускіх студэнтаў за граніцай і Заходняй Беларусі (АБСА), сябрам Беларускай грамады, Беларускага сялянскага саюзу ў Празе, скаўцкай арганізацыі "Беларускі Сакол" і інш. У 1925 г. выбраны ў рэвізійную камісію Рады БНР. У 1929 г. вярнуўся ў Заходнюю Беларусь, быў сябрам Беларускага гаспадарчага зьвязу. Сярод іншага ўваходзіў у склад дырэкцыі Малачарскага таварыства ў Баранавічах. Падчас Другой сусьветнай вайны жыў на Віленшчыне. Летам 1944 г. арыштаваны НКУС. Далейшы лёс невядомы.

160 Пра беларускую каапэратыўную дзейнасьць у Баранавічах і іх ваколіцах гл.: Радзюк, А. Л. Да гісторыі "Малачарскага таварыства" ў Баранавічах (1932–1936 гг.) // Веснік Брэсцкага ўніверсітэта. Сер. 2. Гісторыя. Эканоміка. Права. 2013. № 1. С. 99–103.

## Разьвітаньне з Акадэміяю

Апошні курс у Акадэміі (1935–1936 гг.) прыйшоў для мяне неяк аж лішне шэра і нават сумна. Большасьць студэнтаў рыхтавалася на жанатых сьвятароў, толькі невялічкі гурток, да якога належаў і я, былі кандыдатамі на бязжэнных сьвятароў, аднак практычна я астаўся адзін, бо быў яшчэ неінкардынаваны. Мае бязжэнныя сябры за некалькі тыдняў да канца акадэмічнага году ўжо атрымалі сьвятарскія сьвячаньні, а тыя, што мелі жаніцца, вялі ажыўленую карэспандэнцыю з сваімі нарачонымі і няўпрыцям для сябе тварылі гурткі "швагроў" і розных іншых спародненьняў. Мне ж трэба было прызвычайвацца да адзіноцтва.



Леў Гарошка. 1930-я гг.

Неяк прынагодна ў 1935 г. адведаў Акадэмію а. Іван Туронак, адзіны беларус, які вучыўся там да майго прыезду. Зразумела, што мяне цікавіла, чаму ён не вярнуўся на бацькаўшчыну.

— *Пакуль там будуць кіраваць вунійным рухам польскія біскупы і вырабляць з гэтага руху нямаведама што, я на бацькаўшчыну не паеду,* — паясьніў ён.

— *Але ж і ў Галіцыі няма сэнсу заставацца,* — адказваю яму, — *тут жа ёсьць шмат больш кандыдатаў на сьвятароў, чым іх патрабуюць.*

— *Так то яно так,* — адказаў а. Іван, — *але я ўжо так пастанавіў і буду чакаць, пакуль зьменіцца палажэньне.*

Мяне зусім ня вабіла йсьці ягоным сьледам, дык трэба было думаць, што рабіць па сканчэньні Акадэміі.

Рыхтуючыся да апошніх экзамінаў, думаць аб чым іншым не было часу, але тыдзень перад Сёмухаю 1936 г. быў зданы апошні экзамін, і цяпер трэба было меркаваць, што рабіць далей. Сябрыаднакурсьнікі разьяжджаліся: адны ўжо на душпастырскую працу, другія — да сваіх нарачоных, а я пісаў просьбу да мітрапаліта Андрэя Шэптыцкага, каб атрымаць стыпэндыю для прадаўжэньня студыяў. Мне хацелася зрабіць дактарат з багасловіі ў Інсбруку[161] і потым "прабівацца" на Беларусь.

[161] Маецца на ўвазе факультэт каталіцкай тэалёгіі Інсбрукскага ўнівэрсытэту Леапольда й Франца (*Leopold-Franzens-Universitat Innsbruck*) у Аўстрыі.

Гэтую заяву я асабіста даручыў Мітрапаліту. Мітрапаліт прыняў мяне, як звычайна, вельмі прыветна, прачытаў заяву, пагутарыў аб маіх намерах, аб вестках зь беларускага жыцьця, а ў канцы сказаў, што адказ на заяву дасьць толькі празь якіх дзён дзесяць, бо яна мусіць прайсьці праз капітулярную раду. Трэба было чакаць. І чакаў я адзін-адзінокі ў аграмадным сэмінарыйным будынку.

Каб не бязьдзейнічаць, я хадзіў у бібліятэкі і дапаўняў сваю працу, якую пісаў на гістарычным сэмінары на тэму: "Гісторыя Полацкае епархіі ў гадох 1772–1795". Гэта была свайго роду дысэртацыя, і праф. д-р Чубатый[162] ацаніў яе як вызначаючую з заўвагаю: *"Праца абаснаваная на шматлікіх крыніцах, мае паважную навуковую вартасьць"* (на вялікі жаль, яна загінула ў часе вайны, разам з усім сабраным матэрыялам).

Роўна празь дзесяць дзён ад часу візыты ў Мітрапаліта айцец рэктар Сьліпый сказаў мне, каб я ішоў зноў у мітрапалічую палату ў справе мае просьбы. І гэтым разам прыняў мяне сам мітрапаліт Шэптыцкі. Стыпэндыю мне прызналі, але з такім выбарам: калі паеду ў Інсбрук, дык атрымаю стыпэндыю толькі на адзін год, а калі ў Люблін — дык ажно на чатыры гады. Зрабіць дактарат у Інсбруку за адзін год я ніяк ня мог, бо да гэтага неабходна яшчэ было выслухаць два сэмэстры выкладаў на тамтэйшым унівэрсытэце з багасловіі. Але адносна Люблінскага Вольнага Ўнівэрсытэту я быў чамусьці пераканаНы, што ён мне ня дасьць нічога больш, як я здабыў у Акадэміі. Сам жа толькі доктарскі дэкаратыўны тытул уласьціва мяне ня вабіў. Таму я выбраў Інсбрук, хоць і на адзін год. Зрэштаю, у глыбіні душы тлілася дробная іскра надзеі, што яшчэ можа ўдасца неяк вытаргаваць стыпэндыю на наступныя гады.

Прыехаўшы дамоў, я адразу парабіў усе патрэбныя захады для атрыманьня пашпарту ў Стаўпецкім павятовым старостве.

Магчыма, што ўсе гэтыя захады кончыліся б нічым, бо за мною, як і за большасьцю абсальвэнтаў Беларускае Гімназіі, быў заўсёдны нагляд паліцыі, нягледзячы на мае багаслоўскія студыі, але, на шчасьце, год перад тым зьмяніўся камэндант гміннае паліцыі ў Вялікіх Жухавічах, а новы камэндант, калі атрымаў з Стаўпцоў загад выдаць аба мне апінію, дык спытаўся пра мяне вясковага старасту, завітаў нават да маіх бацькоў і выдаў аба мне добрую апінію.

[162] **Мікола Чубаты** (1889–1979), украінскі гісторык царквы й права, пэдагог і публіцыст. У 1920–1923 гг. быў прафэсарам Львоўскага (патаемнага) украінскага ўнівэрсытэту, у 1927–1938 гг. прафэсарам Грэка-каталіцкае багаслоўскае сэмінарыі (пасьля — акадэміі) у Львове. У 1939 г. эміграваў у ЗША, быў заснавальнікам амэрыканскага аддзяленьня Навуковага таварыства імя Тараса Шаўчэнкі.

## Заграніца, заграніца...

Падчас маіх апошніх летніх канікулаў трэба было шмат працаваць у каапэратыве, выясьняць некаторыя заблытаныя справы крамніка і як штогод памагаць бацьком пры гарачай летняй працы ў гаспадарцы. У верасьні з дня на дзень я чакаў паведамленьня з Стаўпцоў у справе пашпарту, але ніякага паведамленьня не прыходзіла. Нарэшце на пачатку кастрычніка я ня вытрымаў і паехаў у Стаўпцы. Там у старостве зьдзівіліся, што я не атрымаў іхняга ліста, які яны мне выслалі ў палове верасьня. Хто, дзе і чаму затрымаў урадовы ліст да мяне, я ніколі ня змог даведацца, ды разьведваць аб гэтым не было калі. Важным было для мяне тое, што назаўтра я мог атрымаць пашпарт.

Зборы ў дарогу былі невялікія, але не абышліся безь неспадзяванак. Напярэдадні майго выезду да нас у хату прыйшоў камэндант Вяліка-Жухавіцкага пастарунку. Як толькі ён увайшоў у хату, я з трывогаю глядзеў на яго, чакаючы нейкае нядобрае весткі. На шчасьце, ён прыязна ўсьміхаўся і запэўняў, што прыйшоў умысна, каб пажадаць мне шчасьлівага падарожжа, бо, маўляў: *"з усяго Стаўпецкага павету сёлета выяжджае на студыі заграніцу толькі адзін чалавек, і гэты чалавек знаходзіцца на абшары ягонае камэндатуры"*. Падзякавалі мы яму за прывет, пачаставалі, і ён задаволены пайшоў да сябе. Я і бацькі былі такжа задаволеныя, бо цяпер ужо можна было быць пэўным, што з боку адміністратыўных уладаў ня будзе ніякіх перашкодаў.

Здаецца, што 9 кастрычніка я ўжо ехаў у Львоў, каб там атрымаць стыпэндыяльную дапамогу, узяць некаторыя даведкі з Акадэміі і атрымаць аўстрыйскую ўездную і чэхаславацкую транзытную візы. Усе гэтыя справы занялі тры дні, і 13 кастрычніка папалудні першы раз у маім жыцьці я сеў у міжнародны вагон.

Зь вялікаю цікавасьцю я чакаў пераезду праз граніцу. Але мусіў расчаравацца, бо польска-чэхаславацкую граніцу пераяжджалі каля поўначы, і было так цёмна, што нельга было нічога ўбачыць. Так жа і чэхаславацка-аўстрыйскую граніцу пераяжджалі на шэрай зары. Затое даязджаючы да Зальцбургу, можна было любавацца горамі; на вяршынях ужо ляжаў сьнег. Пераяжджаючы празь Вену, вельмі хацелася затрымацца хоць на дзень і агледзець прынамсі некаторыя помнікі, але я ўжо і так ехаў з апазьненьнем на 2 тыдні, дык трэба было адлажыць гэты намер на потым.

Прыехаў я ў Інсбрук папалудні, і хоць нямецкую мову ведаў вельмі слаба, але безь ніякіх клопатаў, дзякуючы ведамай ветлівасьці інсбрукскіх насільшчыкаў, знайшоў міжнародную калегію Канізіянум[163], дзе

[163] **Канізіянум** (лац. *Canisianum*) — езуіцкая калегія ў Інсбруку, закладзеная ў 1910–1911 гг. У першай палове XX ст. была папулярным месцам навучаньня сьвятароў і біскупаў Украінскай грэка-каталіцкай царквы.

я меў жыць. Тырольцы наагул ведамыя з свае абыходлівасьці з чужынцамі — гэта адразу прыемна кідалася ў вочы.

Вялікаю пацехаю было для мяне тое, што ў Канізіянум было двох маіх сяброў з старэйшых курсаў львоўскае Акадэміі: а. Уладзімер Стэцюк і а. Міхайла Сапуляк[164]. Яны ўжо рыхтаваліся ад апошняга дактарскага экзаміну з тэалёгіі — вось жа былі старажыламі. Прычым першы зь іх лічыўся адным зь лепшых дагматыстаў, а другі — прававодам адносна ўсіх дапаможнікаў для студэнтаў.

Двухтыднёвае спазьненьне мне адразу далося ў знакі: кароткі курс сірыйскае мовы трэба было адразу даганяць усёю параю, бо праз паўтара месяца меў быць зь яе экзамін. Але гэта можна было дагнаць без асаблівых цяжкасьцяў. Затое вялікая прыкрасьць спаткала мяне дзеля нястачы экзаміну з лацінскае мовы. У львоўскай Акадэміі я здаў экзамін толькі з грэцкае мовы, бо да гэтага быў створаны лектарат, а лацінскую мову вывучаў сам і апанаваў яе даволі, каб добра разумець выклады й адказваць на экзамінах — гэтым айцец рэктар здаваліўся. Цяпер жа дэкан багаслоўскага факультэту а. праф. Міцка[165] адмаўляўся ўпісваць мяне як звычайнага студэнта, пакуль ня здам экзаміну з лацінскае мовы паводле праграмы гуманістычнае гімназіі. Аднак тымчасам упісаў як надзвычайнага студэнта з правам слухаць усе патрэбныя мне выклады і здаваць зь іх экзаміны, якія будуць залічаны як і звычайным студэнтам. Добра яшчэ, што і так. Толькі зноў, як калісь у Львове, прыйшлося займацца мовамі — нямецкую мову трэба было такжа вучыць не па-гімназійнаму. Але маючы стыпэндыю толькі на адзін год, неабходна яе было выкарыстаць найбольш мэтазгодна, таму я запісаўся на ўсе выклады, якія былі прызначаны для 11-га і 12-га сэмэстраў тэалягічнага факультэту.

Выклады ўсіх тэалягічных прадметаў адбываліся ў будынку старога ўнівэрсытэту — гэта ўсяго 10 мінут ходу ад Канізіянум. Найбольшае мейсца ў выкладах тэалягічнага факультэту займала дагматыка — аж 13 гадзін тыднёва — чыталі іх двох прафэсароў трохгадовымі цыклямі. У 1936/37 годзе выкладалі: а. праф. Міцка аб Трыадзіным

164 **Міхайла Сапуляк** (1908—?), украінскі царкоўны й грамадзкі дзеяч, грэка-каталіцкі сьвятар. Атрымаў багаслоўскую адукацыю ў Львове й Інсбруку. У 1940–1945 гг. быў кіраўніком аддзелу грамадзкай апекі Ўкраінскага цэнтральнага камітэту, пасьля жыў на эміграцыі ў Нямеччыне, Галяндыі, Канадзе.

165 **Франц Хаўер Міцка** (ням. *Mitzka*; 1895–1950), аўстрыйскі каталіцкі сьвятар, тэоляг. У 1926–1935 гг. дацэнт, у 1935–1948 гг. прафэсар тэалягічнага факультэту Інсбрукскага ўнівэрсытэту. У 1935/36 і 1946/47 навучальных гадах зьяўляўся дэканам факультэту.

Богу, а. праф. Лякнэр[166] аб Богу Сатварыцелю і Адкупіцелю. І тут мяне спаткала прыкрая неспадзеванка. Выклады а. Лякнэра слухаліся зь цікавасьцю, а выкладаў а. Міцкі я не разумеў. *"Што за прычына?"* — пытаўся я сам сябе і ня мог знайсьці ніякага адказу, а ў сяброў пытацца было брыдка, бо ж я меў добра зданы экзамін з гэтага прадмету ў Львоўскай Акадэміі. Іншыя выклады і ў лацінскай, і нямецкай мовах я слухаў нават зь пяром у руках ужо ад першых дзён.

Так прайшло з паўмесяца. Нарэшце я ня вытрымаў і выказаў маю цяжкасьць майму найбліжэйшаму сябру а. Уладзімеру Стэцюку. Ён шчыра сьмяяўся з гэтага клопату, але даў добрую раду, зь якое сам калісь мусіў карыстаць, атрымаўшы яе ад старэйшых сяброў:

— Усе, хто прыяжджае сюды зь Львова і з шмат якіх іншых сэмінарыяў, маюць тут такую цяжкасьць, так што ня маеш чаго саромецца, — казаў ён. — Бо тут неабходна мець не двухгадовую, а чатырохгадовую філязафічную падрыхтоўку. Таму, браце, да сваіх дадатковых заняткаў з мовамі дакінь яшчэ крыху філязофіі — і ўсе цяжкасьці зьнікнуць.

Сапраўды, рада была вельмі добрая. Празь некалькі тыдняў дадатковае напружанае працы я ўжо свабодна рабіў зацемкі з выкладаў а. Міцкі.

Зразумела, што для студэнта найважнейшаю справаю ёсьць навука — выклады прафэсароў, але ня толькі самыя выклады ўзбагачваюць веды студэнтаў. З гэтага гледзішча студэнты багасловы ў Інсбруку мелі асабліва спрыяючыя ўмовы ўзбагаціць па-за выкладамі і свае веды, і духовае жыцьцё. Тут спатыкаліся студэнты даслоўна з усіх канцоў сьвету, і пры тым унутраны распарадак жыцьця ў Канізіянум быў такі, што сустрэчы з студэнтамі іншых краёў адбываліся немінуча. Штодзённа па абедзе абавязвала ўсіх паўгадзінная рэкрэацыя ў агародзе, і праводзіць яе трэба было з тым, з кім сустрэнешся ў выхадных дзьвярах. Толькі ў канцы рэкрэацыі кожны ішоў у свой *"ляндсманшафт"*[167].

Большыя нацыянальныя групы: аўстрыйцы, немцы, амэрыканцы, мадзяры, швайцары — мелі свае нацыянальныя ляндсманшафты, а меншыя групы або далучаліся да тых большых, або тварылі мешаныя групы на аснове якогась далейшага спародненьня; такімі былі славянскі і манашы ляндсманшафты. Толькі палякі, хоць іх

---

166 **Франц Лякнэр** (ням. *Lakner*; 1900–1974), аўстрыйскі каталіцкі сьвятар і тэоляг, паходзіў са Славеніі. Скончыў тэалягічны факультэт Інсбрукскага ўнівэрсытэту, пасьля выкладаў на ім дагматыку. У 1937–1938 і 1946–1949 гг. быў рэктарам калегіі Канізіянум, у пасьляваенны час займаў пасады дэкана тэалягічнага факультэту, а таксама прарэктара й рэктара Інсбрукскага ўнівэрсытэту.

167 **Ляндсманшафт** (ад ням. *Landsmannschaft*) — зямляцтва.

было ўсяго 5 чалавек, мелі свой асобны ляндсманшафт, выклікаючы ў сяброў вострыя насьмешкі.

Вырашаючым дзейнікам пры ўтварэньні ляндсманшафтаў было сужыццё студэнтаў, дзеля гэтага і створаны быў асобны польскі ляндсманшафт, а нямецкі падзелены на два: паўночнанямецкі і паўднёванямецкі, а паасобныя студэнты — швэды, італьянцы, французы, японцы і інш. — далучаліся паводле іх выбару да аднаго зь нямецкіх ляндсманшафтаў.

Акрамя штодзённых рэкрэацыяў, штотыдня ўсе студэнты хадзілі на прагулку і пры тым заўсёды зь іншым сябрам з далейшых краёў. Усе гэтыя сустрэчы зь людзьмі розных звычаяў і абычаяў былі цікавейшымі за найцікавейшыя геаграфічныя падручнікі. Падчас гэтых сустрэчаў людзі ня толькі сябе ўзаемна пазнавалі бліжэй, але часта і запрыязьняліся. Я з прыкрасьцю мусіў сьцьвердзіць сумны факт, што аб Беларусі мала ведаюць студэнты нават славянскіх краёў, а студэнты з далейшых краінаў ня ведаюць зусім нічога. Таму кожная новая сустрэча была амаль немінуча спалучана з выясненьнем, дзе знаходзіцца Беларусь і чаму беларусы і ўкраінцы, хоць маюць польскія пашпарты, не належаць да польскага ляндсманшафту, а да агульнаславянскага.

Ваколіцы Інсбруку — прыгожы куток Тыролю — захаплялі шмат каго сваімі горскімі краявідамі. Між тымі “захопленымі” быў і я. Няраз я шкадаваў, што ня маю часу падзіўляць тую чароўную горскую красу. Усяго аднойчы я зь невялікаю групаю хадзіў на гару Пачэркофэль[168], ды і гэтую прагулку перабіла нам сьнежная завея.

У напружанай навуцы час ішоў вельмі хутка. Аж аднаго дня вясною 1937 г. уваходзіць у мой пакой рэктар Канізіянум а. Міхаіл[169], відавочна нечым занепакоены, зь нейкім лістом у руках, і пасьля прывітаньня пытаецца:

— *Мой любы* (гэта была ягоная заўсёдная фраза), *як вы прыехалі сюды, што ваш біскуп нічога ня ведае аб вас?*

— *Прыехаў я сюды, як вы добра ведаеце, зь Львова дзякуючы шчодрай ахвярнасьці мітрапаліта Шэптыцкага, і да гэтага часу я залежу ад яго, але нідзе не інкардынаваны.*

— *Але ж вы належыце да Пінскае дыяцэзіі?*

— *Уласьціва я мусіў бы належаць да Пінскае дыяцэзіі, але ані ў Пінскую, ані ў Віленскую дыяцэзіі тамтэйшыя біскупы лацінскага абраду не прымалі абсальвэнтаў зь Львоўскае Гр.-Кат. Акадэміі.*

---

168 **Пачэркофэль** (ням. *Patscherkofel*) — гара ва Ўсходніх Альпах, знаходзіцца на адлегласьці каля 7 км ад Інсбруку.

169 **Міхаэль Хофман** (ням. *Hofmann*; 1860–1946), аўстрыйскі тэоляг, кіраваў калегіяй Канізіянум ад часу яе заснаваньня да 1938 г.

— *Я аб гэтым чуў,* — кажа ўжо супакоіўшыся а. Міхаіл. — *Але вось цяпер сам Пінскі біскуп зьвяртаецца сюды ў вашай справе, дык маеце добрую нагоду напісаць да яго і выясьніць сваю справу. Гэта ж вось ліст ягоны.*

— *Так, сапраўды добрая нагода,* — кажу я, — *абавязкова напішу яму*.

Такая неспадзеванка мусіла быць для мяне радасным зьявішчам, бо зьяўлялася магчымасьць вырашыць справу мае інкардынацыі згодна з маім жаданьнем, і да таго ажыла надзея атрымаць далейшую стыпэндыю, каб зрабіць дактарат.

Спачатку для мяне было незразумелым, як гэта Пінскі біскуп мог даведацца аба мне. Рэктар Канізіянум выясьніў гэтую загадку вельмі проста. Пінскі біскуп Казімер Букраба[170] калісьці вучыўся ў Інсбруку і жыў у Канізіянум. Таму згодна з традыцыяю атрымоўваў штогодні невялікі бюлетэнь з Канізіянум, у якім між іншым заўсёды падаваўся сьпіс студэнтаў паводле дыяцэзіяў прыналежаньня. І вось у гэткім сьпісе з 1937 г. біск. Букраба знайшоў аднаго студэнта зь Пінскае дыяцэзіі — мяне. Таму і зьвярнуўся да а. рэктара па выясьненьні.

Вечарам таго ж дня я супольна з маімі ўкраінскімі сябрамі плянаваў ліст да Пінскага біскупа. Ліст выйшаў даволі вялікі, бо ў ім я выясьняў, як трапіў у Інсбрук, і ў канцы прасіў прызначыць мне стыпэндыю на два гады далейшых студыяў для атрыманьня дактарату з тэалёгіі. Адначасна напісаў ліст мітрапаліту Шэптыцкаму.

Зь Пінску адказ на мой ліст прыйшоў даволі хутка. Біскуп Букраба выказаў задавальненьне, што я змог прыехаць на студыі ў Інсбрук, прызнаваў, што я належу да Пінскае дыяцэзіі, але адмаўляўся даць стыпэндыю, дзеля беднасьці свае дыяцэзіі і дзеля пільнае патрэбы сьвятароў усходняга абраду. Потым я даведаўся, што акрамя тых двох прычынаў былі яшчэ іншыя, дзеля якіх біскуп адмаўляў стыпэндыі для дактарату ня толькі мне. Ён сам, будучы ў Інсбруку, дактарату не зрабіў і чамусьці быў у няпрыязьні зь некаторымі сьвятарамі свае дыяцэзіі, якія мелі дактараты. Зрэштаю, кожны іншы на ягоным месцы мог бы такжа сказаць: *“Нашто дактарат сьвятару, які мае працаваць у нейкай глухой палескай вёсцы?”*.

Праз пару дзён прыйшоў адказ ад мітрапаліта Шэптыцкага. Ён пісаў, што ліст Пінскага біскупа ёсьць правідэнцыяльны[171], бо ён вы-

---

170 **Казімеж Букраба** (польск. *Bukraba*; 1885–1946), каталіцкі ксёндз. У 1919–1928 гг. быў пробашчам і дэканам у Навагрудку, у 1928–1932 гг. — у Берасьці. Ад 1932 г. быў пінскім біскупам. Пакінуў Пінск з-за хваробы адразу пасьля пачатку Другой сусьветнай вайны ў 1939 г. і больш у яго не вярнуўся.

171 **Правідэнцыяльны** (ад лац. *providentia*) — тут: вынік праяўленьня Божай волі.

рашае найбольш няпэўнае дагэтуль пытаньне інкардынацыі, і на будучыню неабходна рабіць так, як скажа біскуп Букраба.

Значыць, на далейшыя студыі ў Інсбруку нельга было спадзявацца. Аставалася толькі выкарыстаць некалькі апошніх месяцаў ідучага акадэмічнага году. На жаль, узмоцненыя студыі даліся адчуць на здароўі. Я заўсёды спаў дрэнна дзеля вялікіх паліпаў у носе, а цяпер сон яшчэ пагоршыўся. Лекары прызналі, што найлепшым лекам на гэтую немач будзе апэрацыя ў носе. За апэрацыю ў унівэрсытэцкай клініцы плаціць ня трэба было, дык чаму ж не пазбыцца дакучлівых паліпаў?!

Набліжаліся вялікодныя канікулы, і я вырашыў, што гэта будзе найлепшы час для апэрацыі. Хірург, які меў рабіць апэрацыю, удакладніў, што ў мяне, акрамя паліпаў, вялікі перарост насавых косьцяў. *“Але наагул гэта дробная апэрацыя”*, — заспакоіў мяне.

Адбывалася апэрацыя толькі зь мяйсцовым зьнячуленьнем[172] і спачатку нават суправаджалася жартамі. Вышчыкнуўшы першы паліп, хірург паказваў мне яго ўсьміхаючыся:

— *Вось ужо адною перашкодаю менш.*

— *А колькі іх там такіх?* — пытаюся.

— *Ды столькі, што і не перарахуеш.*

Калі, павышчыкваўшы паліпы з храшчамі, хірург тымі ж ножнамі ўзяўся за косьці, дык ніяк ня змог іх перашчыкнуць.

— *Але ж у вас моцныя косьці,* — казаў ён, кладучы ножны і бяручы долата. — *Якое вы нацыянальнасьці?*

— *Беларус.*

— *Ці гэта ўва ўсіх беларусаў такія моцныя косьці?*

— *Бадай што так, бо як палякі і расейцы нас ні гнобяць, а зламаць ня могуць.* — Асыстэнтка і хірург голасна засьмяяліся.

— *О, так! Ну але цяпер ціха.*

Апэрацыя сапраўды была лёгкаю, але чамусьці вельмі доўга не спынялася кроў. Цякла яна пакрысе аж да наступнае раніцы. І калі я на пяты дзень пасьля апэрацыі вяртаўся пешкі дамоў, дык адчуваў моцную слабасьць. А як узышоў на трэці паверх у Канізіянум, дзе быў мой пакой, сэрца пачало так трапятацца, што я мусіў сесьці на сходы і пачаў рахаваць пульс — ён быў як нітачка тонкі і біў аж 120 разоў у мінуту.

Супачыўшы крыху, я адразу пайшоў да рэктара, каб зьмяніць пакой. Ён, глянуўшы на мяне, адразу паклікаў слугу і сказаў перанесьці мае рэчы на першы паверх.

Пасьля апэрацыі я спаў, як ніколі дагэтуль, і быў задаволены, што нарэшце пазбыўся хоць і невялікае, але вельмі дакучлівае немачы. Але

---

172 **Зьнячуленьне** (ад польск. *znieczulenie*) — абязбольваньне.

за лішнюю радасьць давялося адпакутаваць. Я зусім не зьвяртаў увагі на агульную слабасьць дзеля вялікае страты крыві і хадзіў пасьпешна, як заўсёды, хоць цяпер вельмі хутка пацеў. І два тыдні пасьля апэрацыі зноў мусіў легчы ў ложак. Лекар сьцьвердзіў прастуду і запаленьне ўнутранага правага вуха.

Прастуда прайшла хутка, а боль у вуху дакучаў даволі доўга і пры тым так моцна, што і навука была не на ўме. А час быў гарачы. Трэба было рыхтавацца да экзамінаў. Ня дзіва, што ў такім настроі я нават шкадаваў, чаму пасьпяшаў з апэрацыяю. Мог бы яе зрабіць і пасьля экзамінаў, але хто мог ведаць, што станецца такая камплікацыя[173]?

Калі нарэшце ачуняў ад усіх аслабленьняў і камплікацыяў, трэба было даганяць страчаны час. За студыямі я занядбаў нават карэспандэнцыю і аднойчы атрымаў з дому ліст, у якім бацька дакараў мяне за доўгае маўчаньне.

Прадметы, зь якіх трэба было рыхтавацца да экзамінаў, я ведаў даволі добра зь Львова. І хоць у Інсбруку яны былі амаль двойчы пашыраны, на добры лад мне да іх шмат рыхтавацца ня трэба было б, але экзаміны былі толькі пісьмовыя, а да гэтага мае веды і лацінскае, і нямецкае моваў былі вельмі кульгавыя. Ужо каторы раз прыходзілася з сумам сьцьвердзіць, якою вялікаю перавагаю для багаслоўскіх студыяў была падрыхтоўка з гуманістычных і клясычных гімназіяў у параўнаньні да матэматычнае. Таму і прыходзілася выкарыстоўваць на навуку кожную хвіліну.

Экзаміны прайшлі лепш, як я спадзяваўся. Толькі зь Сьвятога Пісаньня атрымаў пасрэдную адзнаку, бо там трэба было цытаваць цэлыя сказы па-грэцку і па-гэбрайску.

Звычайна кожны студэнт, здаўшы экзаміны, уздыхае з палёгкаю і весялей глядзіць на сьвет; такія мамэнты перажываў калісь і я ў Львове, цяпер жа ў Інсбруку пасьля экзамінаў апанаваў мяне сум. На шчасьце, сумаваць доўга не было калі.

## З высокіх Альпаў у Пінскія балоты

Акадэмічны год быў закончаны, стыпэндыя вычарпаная, мае пляны былі пакрыжаваныя — трэба было ехаць у Пінск, а там яшчэ было невядома, як мяне прымуць.

Выехаў я зь Інсбруку 20-га ліпеня. Цяпер сьпяшацца не было ніякае патрэбы, дзеля гэтага я меркаваў затрымацца на некалькі дзён у Вене, каб аглянуць яе гістарычныя і мастацкія памяткі. Там першы раз у маім жыцьці я пераканаўся, што ўважнае агляданьне мучыць ня менш, як напружаная навука.

[173] **Камплікацыя** (ад польск. *komplikacja*) — ускладненьне.

На другі дзень пасьля агляданьня музэяў я з прыемнасьцю знайшоў ціхі куток у славутай катэдры Сьв. Сьцяпана[174] і сядзеў там больш гадзіны, ні аб чым ня думаючы. На наступны дзень трэба было зьменшыць намечаную праграму адведваньня музэяў, бо не было сэнсу хадзіць безуважна побач мастацкіх помнікаў. Выйшаўшы з каралеўскага замку Шэнбрун[175], я знайшоў ціхую алею ў парку, перарахаваў мае “фінансы” і з сумам сьцьвердзіў, што трэба разьвітацца зь Венаю. На трэці дзень я ўжо ехаў на станцыю.

У трамваі людзей было мала. Я папрасіў кандуктара, каб ён мне сказаў, дзе трэба высядаць да станцыі. Ён ахвотна згадзіўся і адразу заўважыў:

— *Вы напэўна ня немец?*

— *Дзе там немец, беларус,* — адказваю.

— *О, дык крыху родны, а я славак,* — кажа ўсьцешаны.

Славацкую мову я ведаў нязгорш, бо ў славянскім ляндсманшафце ў Інсбруку было найбольш славакаў, дык я да кандуктара пачаў гаварыць па-славацку. Родная мова ў вуснах чужынца, хоць і крыху прыкалечаная, заўсёды чуецца з радасьцю, дык ня дзіва, што мы з кандуктарам так загаварыліся, што ён нават забыўся прадаць мне білет.

У Львове я затрымаўся ўсяго на два дні. Быў у мітрапаліта Андрэя Шэптыцкага, адведаў а. рэктара Сьліпога і накіраваўся дамоў, бо трэба было ў Стаўпцах аддаць загранічны пашпарт і атрымаць назад *“довад асабісты”*[176] і, зразумела, крыху пагасьціць у роднай хаце.

Прабыўшы дома ўсяго тыдзень, я паехаў у Пінск.

Зь дзіўным пачуцьцём уваходзіў я ў перадпакой Пінскага каталіцкага біскупа Казімера Букрабы, стараючыся ўгадаць, як ён прыме беларускага багаслова. Прыняў ветліва, крыху распытаў аб навінах зь Інсбрука, аб падарожжы і адразу затэлефанаваў да рэктара Духоўнае Сэмінарыі кс. Петрані[177], каб прызначыў мне пакой

---

[174] Маецца на ўвазе **сабор Сьв. Стафана** — каталіцкі храм XVI ст., які зьяўляецца сымбалем як Вены, так і ўсёй Аўстрыі.

[175] **Шонбрун** (ням. *Schloß Schönbrunn*) — асноўная летняя рэзыдэнцыя аўстрыйскіх імпэратараў з дынастыі Габсбургаў, разьмешчаная ў заходняй частцы Вены. Лічыцца адным з найбольш прыгожых палацава-паркавых ансамбляў Эўропы.

[176] **“Довад асабісты”** (ад польск. *dowód osobisty*) — пасьведчаньне асобы, унутраны пашпарт.

[177] **Аляксей Пэтрані** (польск. *Petrani*; 1900–1977), ксёндз, выпускнік тэалягічнага факультэту Інсбрукскага ўнівэрсытэту й Каталіцкага ўнівэрсытэту ў Парыжы. Ад 1930 гг. выкладаў кананічнае права ў Пінскай духоўнай сэмінарыі, ад 1936 г. быў яе рэктарам. Пасьля Другой сусьветнай вайны — прафэсар Люблінскага каталіцкага ўнівэрсытэту.

у Сэмінарыі да часу, пакуль вырашыцца справа сьвятарскага сьвячаньня.

У Пінскай Дух. Сэмінарыі ўзгадаванцы на лета не выяжджалі нікуды, вось жа я ўвайшоў у іхнюю грамаду. Праўда, яны глядзелі на мяне і зь цікавасьцю, і з пытлівасьцю; ведама, як на новага чалавека ды яшчэ з-за граніцы і як на беларуса.

Мне было таксама цікава прыглянуцца да парадкаў, якія панавалі ў Пінскае епархіі і ў пінскіх сэмінарыстых. Што яны ўсе фармальна лічацца палякамі, аб гэтым я ведаў даўно, але мяне цікавіла: няўжо сапраўды яны ўсе палякі? На вялікі жаль, афіцыяльны стан амаль адказваў праўдзе. “Амаль”, бо было двох сэмінарыстаў зь Віленскае архідыяцэзіі, і яны аднойчы ў гутарцы са мною перакінуліся некалькімі беларускімі словамі. А іншыя сэмінарысты былі пераважна з цэнтральнае Польшчы... вось табе і Пінская Сэмінарыя!

Склад выкладчыкаў у сэмінарыі і біскупская курыя за выняткам аднаго кс. пралата Хвецькі[178] быў польскі. Пры тым і кс. Хвецька выкладаў расейскую мову. Беларусаў з сэмінарыі выключалі паволі і дыпляматычна; палянізацыйную работу сьвятары-беларусы весьці не хацелі і таму мусілі “дабравольна” адзін за адным пакідаць сэмінарыю. Яе першы рэктар а. д-р Фабіян Абрантовіч[179] пераехаў

178 **Люцыян Хвецька** (1889–1944), рэлігійны й грамадзкі дзеяч, публіцыст, выдавец, каталіцкі сьвятар; адзін з пачынальнікаў беларускага хрысьціянскага руху XX ст. Да беларускага руху далучыўся падчас вучобы ў Мітрапалітальнай духоўнай каталіцкай акадэміі ў Пецярбургу. Адзін з заснавальнікаў Беларускай хрысьціянска-дэмакратычнай злучнасьці, ініцыятар выданьня й першы рэдактар-выдавец газэты *“Krynica”*. Пасьвячоны ў сьвятары ў 1915 г., служыў у Пецярбургу. У 1923 г. арыштаваны бальшавіцкімі ўладамі, у 1925 г. вызвалены ў выніку абмену вязьнямі й выехаў у Польшчу. У канцы 1920-х гг. працаваў рэктарам Місіянэрскага інстытуту ў Любліне, ад 1932 г. у Пінскай дыяцэзіі. Працаваў у духоўнай каталіцкай сэмінарыі ў Пінску. Зь верасьня 1939 г. працаваў у Хатаве (зараз Стаўпецкі раён).

179 **Фабіян Абрантовіч** (1884–1946), каталіцкі сьвятар, адзін з ідэолягаў і заснавальнікаў беларускага хрысьціянскага руху. Пасьвячоны ў сьвятары ў 1908 г. пасьля заканчэньня Духоўнай акадэміі ў Пецярбургу. Вучыўся ў Лювэнскім унівэрсытэце ў Бэльгіі, працаваў сьвятаром і выкладчыкам у Пецярбургу (Петраградзе). Яшчэ падчас вучобы належаў да культурна-асьветнага гуртка беларусаў-клерыкаў, адзін з заснавальнікаў Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай злучнасьці. Пасьля рэвалюцыі 1917 г. працаваў у Менску, у пачатку 1920-х гг. — выкладчык эвакуяванай зь Менску ў Наваградак, а пазьней у Пінск каталіцкай сэмінарыі. У 1929–1938 гг. узначальваў каталіцкую місію ўсходняга абраду ў Маньчжурыі й Кітаі. Улетку 1939 г. знаходзіўся ў Польшчы. Арыштаваны савецкімі ўладамі, памёр ад катаваньняў у Бутырскай турме ў Маскве.

у Друю[180], а потым знайшоўся аж у Харбіне[181]; кс. д-р Казімер Кулак[182] ад некалькі гадоў быў у невялікай парахвіі Ляндвараў[183] каля Вільні; калішні духоўнік кс. Эдвард Юневіч[184] — у Драгічыне-над-Бугам[185].

Наагул атмасфэра ў сэмінарыі была вельмі цяжкая для беларусаў, дзеля гэтага я не дзівіўся, што і прафэсары, і сэмінарысты назіралі за

[180] **Друя** — сёньня аграгарадок у Браслаўскім раёне Віцебскае вобласьці, на самай мяжы з Латвіяй. У 1923–1939 гг. тут знаходзіўся кляштар айцоў марыянаў, у які часова й перабраўся ксёндз Фабіян Абрантовіч.

[181] **Харбін** — горад у паўночна-ўсходнім Кітаі, заснаваны ў 1898 г. у сувязі з будаўніцтвам Расеяй Кітайскай Усходняй чыгункі. Яшчэ да Першай сусьветнай вайны падданыя Расейскай імпэрыі складалі ў горадзе амаль палову насельніцтва, а пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі й Грамадзянскай вайны ў Расеі горад напоўніўся шматлікімі расейскімі эмігрантамі (каля 100 тыс. чалавек). Дзеля вядзеньня сярод іх місіянэрскай дзейнасьці Ватыкан дасылаў туды адмысловыя місіі, важнае месца сярод удзельнікаў якіх займалі ксяндзы-беларусы.

[182] **Казімер Кулак** (1896–1989), каталіцкі сьвятар, рэлігійны й культурнасьветны дзеяч, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху XX ст. Пасьвячоны ў сьвятары ў 1920 г. Зь беларускім нацыянальна-рэлігійным рухам зьвязаны з часоў вучобы ў Віленскай сэмінарыі. Вучыўся ў папскім Усходнім інстытуце ў Рыме. Пасьля вучобы вярнуўся ў Пінскую дыяцэзію, дзе працаваў прафэсарам расейскай мовы ў мясцовай духоўнай сэмінарыі, кіраваў уніяцкім сэктарам. У 1933 г. — у Варшаве, выконваў абавязкі сакратара біскупа М. Чарнэцкага. Пасьля праводзіў душпастырскую дзейнасьць у Ляндварове й Тургелях Троцкага дэканату.

[183] **Ляндвароў** — сёньня Лянтварыс (летув. *Lentvarys*), горад у Тракайскім раёне Вільнюскага павету Літвы, за 18 км ад Вільні.

[184] **Эдвард Юневіч** (1894–1989), каталіцкі сьвятар. Пасьвячоны ў сьвятары ў 1917 г. У тым жа годзе распачаў душпастырскую дзейнасьць. Выкладаў Закон Божы ў прытулках для дзяцей зь бежанскіх сем'яў у Маскве. У 1918–1920 гг. служыў вікарыем пры касьцёле Аб'яўленьня Найсьвяцейшай Дзевы Марыі ў Пецярбургу. У ліку 14 каталіцкіх сьвятароў быў арыштаваны органамі савецкай бясьпекі. Праходзіў па справе арцыбіскупа Я. Цепляка. Быў прыгавораны да 10 гадоў турэмнага зьняволеньня з пазбаўленьнем усіх правоў. У студзені 1925 г., пасьля двухгадовага знаходжаньня ў турме, вызвалены ў выніку абмену палітычнымі вязьнямі паміж урадамі Польшчы й Савецкай Расеі. Выконваў сьвятарскія абавязкі ў Новай Вялейцы на Віленшчыне. Пазьней быў пераведзены ў Пінскую дыяцэзію, працаваў у мясцовай дыяцэзійнай духоўнай сэмінарыі ў якасьці прафэсара эстэтыкі й расейскай мовы. У 1926–1930 гг. вучыўся ў Рыме, дзе атрымаў ліцэнцыят па тэалёгіі, пасьля заканчэньня вучобы вярнуўся ў Пінск. Ад 2-й паловы 1930-х гг. і ў час Другой сусьветнай вайны — пробашч і дэкан у мясцовасьці Драгічын. У 1943–1945 гг. выконваў абавязкі генэральнага вікарыя ў Пінскай дыяцэзіі. Пасьля вайны жыў у Польшчы.

[185] **Драгічын-над-Бугам** — сёньня Драгічын (польск. *Drohiczyn*), горад у Сямятыцкім павеце Падляскага ваяводзтва Польшчы.

кожным маім крокам, за кожным словам. Трэба было быць заўсёды прыгатаваным на розныя неспадзеванкі.

У зьвязку з маёю прысутнасьцю ў сэмінарыі прынагодна парушаліся розныя беларускія пытаньні; у такіх выпадках я звычайна стараўся быць слухачом і часам даведваўся цікавыя факты. Напрыклад, аднойчы кс. канонік Васілеўскі[186] ўспамінаў, як ён калісьці, здаецца, у Пецярбурзе рыхтаваўся гаварыць казаньне па-беларуску. Для большае пэўнасьці ня толькі напісаў яго, але даў яшчэ беларускім сьвятаром, каб папраўлілі ягоную мову. Тыя папраўлілі так, што жывога месца не пакінулі. *“А я думаў, што ведаю даволі добра беларускую мову”,* — закончыў ён свае ўспаміны.

Калі сэмінарысты заўважылі, што я часта сам на сам гутару з пралатам Хвецькам, дык пачалі такжа сачыць і за ім уважней. Аднойчы падчас вячэры я сядзеў каля яго, і мы ціхуту гутарылі па-беларуску. Насупраць нас сядзелі сэмінарысты, але ў агульным гомане нашае гутаркі не маглі чуць. І вось раптам адзін зь іх пытаецца:

— *А ксёндз пралат якое нацыянальнасьці?*

— *А ты што маеш у сваёй талерцы?* — адказаў жартам пралат.

— *Памідоры!*

— *Дык глядзі на памідоры і еш іх.*

Аднак усе назіраньні, прынамся навонках, ня мелі злоснага характару, і адносіны да мяне так з боку духоўных уладаў, як і з боку сэмінарыстаў былі добрыя. Пэўне ж да гэтага прычынілася найбольш заграніца, зьвязкі з шырэйшым сьветам. Таму што гэта быў час летніх канікулаў, дык сэмінарысты часта езьдзілі на прагулкі — і я зь імі. Часам да гэтае маладое грамады далучаліся такжа біскупы. Аднойчы падчас такое прагулкі зь біскупамі на лодках мы купаліся ў Піне. Паплаваўшы крыху, я выйшаў на бераг і захапіўся паляваньнем на кузурак да няўпрыцям для сябе сказаў пару слоў па-беларуску. Прысутныя тут сэмінарысты бухнулі сьмехам. Гэта пачуў біскуп суфраган Кароль Няміра[187] і адразу востра іх зганіў:

[186] **Ян Васілеўскі** (польск. *Wasilewski*; 1885–1948), каталіцкі сьвятар, ураджэнец Латгаліі. Скончыў Духоўную акадэмію ў Пецярбургу, пасьля чаго ў гэтым горадзе й служыў. Пасьля бальшавіцкага перавароту 1917 г. падвяргаўся разнастайным рэпрэсіям з боку савецкіх уладаў. У 1923 г. выехаў у Латвію, ад 1925 г. — у Польшчы. У 1925 г. стаў рэктарам Пінскай духоўнай сэмінарыі, займаў гэтую пасаду да 1933 г. У 1933–1937 гг. быў дырэктарам біскупскай гімназіі ў Драгічыне-над-Бугам, ад 1937 г. зноў быў прафэсарам Пінскай духоўнай сэмінарыі, выкладаючы філязофію й маральную тэалёгію. Падчас Другой сусьветнай вайны быў пробашчам катэдральнага касьцёлу ў Пінску. У 1945 г. арыштаваны, памёр у сібірскай ссылцы.

[187] **Караль Няміра** (польск. *Niemira;* 1883–1965), польскі каталіцкі сьвятар, ад 1933 г. — біскуп-памочнік Пінскай дыяцэзіі. Пасьля пачатку Другой сусьветнай вайны быў выселены савецкімі ўладамі зь Пінску й больш у яго так і не вярнуўся.

*— Чаго вы сьмяіцеся! Так брыдка! Ён жа беларус, дык нічога дзіўнага, што можа па-свойму сказаць якое слова.* — Сэмінарысты пачырванелі і змоўклі. Больш такіх выпадкаў не паўтаралася. Такі дакор з вуснаў біск. Няміры мяне моцна задзівіў.

У канцы летніх канікулаў 1937 г. у памешканьні Духоўнае Сэмінарыі рыхтавалася шостая з чаргі Вунійная Канфэрэнцыя. Ініцыятарам і першым арганізатарам гэтых Канфэрэнцыяў быў кс. д-р Казімер Кулак, калі за часоў біскупа Лазінскага быў прафэсарам у сэмінарыі. Першая Канфэрэнцыя адбылася ў 1930 г. У канцы 1933 г. кс. Кулак мусіў выехаць зь Пінску, і ад таго часу Канфэрэнцыі ставаліся менш атракцыйнымі і ладзіліся толькі раз на два гады.

Шостая Канфэрэнцыя была назначана на 1–3 верасьня, і між іншым у праграме прадбачвалася, што 3-га верасьня мае быць урачыстая архірэйская Служба Божая біз[антыйскага] абраду зь сьвятарскім сьвячаньнем — гэта я меў быць тады пасьвячаны на сьвятара. Аб такой пастанове біскупа Букрабы я даведаўся толькі два тыдні перад пачаткам Канфэрэнцыі ад рэктара сэмінарыі кс. Петрані. Я зрабіў 8-дзённыя рэкалекцыі і рахаваў дні да Канфэрэнцыі.

Але мае чаканьні былі дарэмныя: біскуп Мікола Чарнэцкі[188] на Канфэрэнцыю не прыехаў. Ён па нейкіх важных прычынах быў у тым часе ў Англіі. Наагул шостая Вунійная Канфэрэнцыя была менш людная, як папярэднія. Атмасфэра была неасаблівая — удзельнікі ведалі, што некаторых пытаньняў лепш не чапаць, бо яны сталіся задалікатныя для польскае *“рацыі стану”*[189], ды і парушаць іх няма сэнсу, бо ж кампэтэнтныя асобы зьмяніць іх на лепшае і ня хочуць, і ня могуць.

Вечарам першага дня Канфэрэнцыі прысутныя там біскупы: Віленскі, Пінскі, Луцкі і прадстаўнікі Падляскага і Люблінскага — мелі асобную нараду ў справе вунійнай акцыі. Якія былі вынікі тае нарады, можна дагадацца з таго, што яны пастанавілі склікаць Пінскія Канфэрэнцыі толькі раз на чатыры гады. Для злагоджаньня прыкрага ўражэньня ад гэтае пастановы было абвешчана, што ў 1939 г. мае адбыцца ў Вільні Канфэрэнцыя з нагоды 500-ых угодкаў Флёрэнтыйскае Вуніі[190].

---

188 **Мікалай Чарнэцкі** (1884–1959), дзеяч Украінскай грэка-каталіцкай царквы, рэдэмпарыст. Ад 1931 г. — тытулярны біскуп Лебядзянскі й апостальскі візытатар для грэка-каталікоў Валыні й Палесься. У 1939 г. узначаліў створаны мітрапалітам Андрэем Шаптыцкім экзархат Валыні й Холмшчыны. Пасьля 1945 г. арыштаваны савецкімі ўладамі ды высланы ў Сібір. Вярнуўся на радзіму толькі ў 1956 г.

189 **Рацыя стану** (польск. *racja stanu*) — дзяржаўны інтарэс.

190 **Флярэнтыйская унія** — пагадненьне аб аб’яднаньні Каталіцкай і Праваслаўнай цэркваў, прынятае на Фэрара-Флярэнтыйскім саборы ў 1439 г. У жыцьцё яго, аднак, правесьці так і не ўдалося.

З усіх рэфэратаў на 6-ай Канфэрэнцыі найбольшае зацікаўленьне выклікаў даклад віцэ-рэктара Варшаўскае Дух[оўнай] Сэм[інарыі] кс. д-ра Станіслава Мысткоўскага[191] аб праўным стане біз[антыйска]-слав[янскага] абраду ў Польшчы. Дакладчык прысьвяціў шмат увагі інструкцыі Кангрэгацыі для Усх. Царквы *"Pro incenso studio"* з 27.V.1937 г., аб якой да гэтага часу мала хто ведаў. Затое разячаю супярэчнасьцю да тае нававыданае інструкцыі быў рэфэрат а. Даната Навіцкага[192] аб ягонай працы ў Тараканях[193], дзе ён палянізаваў беларусаў.

Некалькі дзён пасьля Канфэрэнцыі я пытаўся ў рэктара Пінскае Сэмінарыі, як маецца справа з маім сьвячаньнем. Ён адказаў, што біскуп Букраба яшчэ чакае біскупа Чарнэцкага з-за граніцы, і тады адразу справа будзе вырашана. Аднак час ішоў, а біскуп Чарнэцкі ня прыяжджаў; мне не аставалася нічога іншага, як чакаць. На шчасьце, чаканьне цягнулася нядоўга; 22 верасьня біскуп Букраба заклікаў мяне да сябе і бяз доўгага ўступу пытае:

*— Ты згодзен ехаць у Львоў па сьвятарскія сьвячаньні?*

*— Чаму ж не?! Магу хоць сёньня.*

---

191 **Станіслаў Мысткоўскі** (польск. *Mystkowski*; 1892–1982), каталіцкі сьвятар, у 1920–1929 гг. сакратар варшаўскага арцыбіскупа, кардынала А. Какоўскага, у 1929–1940 гг. — віцэ-рэктар Варшаўскай духоўнай сэмінарыі. Падчас Другой сусьветнай вайны й пасьля яе працаваў у розных варшаўскіх парафіях.

192 **Данат Навіцкі** (1893–1971), рыма-каталіцкі й грэка-каталіцкі сьвятар. Нарадзіўся ў Санкт-Пецярбургу. Вучыўся ў польскай гімназіі сьв. Кацярыны ў Пецярбургу, затым скончыў Пецярбургскі ўнівэрсытэт і Пецярбургскую духоўную сэмінарыю. У 1916–1921 гг. знаходзіўся на вайсковай службе, ад 1921 г. працаваў у Маскве. У 1923 г. арыштаваны савецкімі ўладамі, асуджаны на 10 гадоў канцлягераў. 17 месяцаў правёў у Арлоўскім палітізалятары, у 1925 г. адпраўлены на Салаўкі. У 1926 г. атрымаў там субдыяканскія сьвячэньні, 1928 г. — дыяканскія й сьвятарскія. У 1932 г. быў вызвалены ў рамках абмену вязьнямі з Польшчай. У канцы 1932 г. накіраваны ў Тараканьскую грэка-каталіцкую парафію. Вёў набажэнствы, у тым ліку й на мясцовай гаворцы. Пасьля пачатку Другой сусьветнай вайны выехаў у Зялёнку пад Варшавай, дзе стаў капэлянам жаночай манаскай абшчыны. Браў удзел у кансьпіратыўнай антыфашысцкай дзейнасьці. Ад 1948 г. жыў і працаваў у розных парафіях у Польшчы (Сьвідэр на Люблiншчыне, Нова Весь, Ізабэлін пад Варшавай), быў актыўным удзельнікам экумэнічнага руху. Быў рэфэрэнтам-экспэртам па пытаньнях Усходніх Цэркваў, Расеі й экумэнізму пры прымасе Польшчы кардынале Стэфане Вышынскім. Пакінуў успаміны, якія захоўваюцца ў архіве Рускай калегіі (*Russicum*) у Рыме.

193 **Таракань** — сёньня вёска Імянін, цэнтар сельсавету Драгічынскага раёну Берасьцейскае вобласьці.

*— Ну дык зараз табе выдадуць у канцылярыі "Litterae dimissoriae"[194], а рэшта, што патрэбна на дарогу, выдасьць у сэмінарыі кс. Петрані. Толькі там у Львове доўга ня бáўся.*

*— Пэўна, што доўга ня буду, але тры з палавінаю тыдні такі прыдзецца там пабыць.*

*— Добра! Толькі яшчэ адно пытаньне: ты нежанаты?*

*— Зразумела, што не.*

*— Ну дык з Богам у добры час!*

## Новаўнійная акцыя

Пятая[195] Ўнійная Канфэрэнцыя ў Пінску, на якой мне давялося ўдзельнічаць у 1937 г., чакаючы сьвятарскіх сьвячаньняў, мімаволі сталася для мяне нагодаю, каб глыбей пазнаць пачаткі, актуальны стан і сутнасьць новаўнійнага руху на Беларусі і ўсе мэтады, якімі рух пашыраўся і якія перашкоды спатыкаў. Ужо ад некалькіх гадоў вялася моцная супрацьунійная акцыя з розных бакоў і гэта мяне забавязвала пазнаць прычыны тых супрацьунійных атакаў, каб іх належна ацаніць. Пры тым — гэта ж станавіла новы пэрыяд нашае рэлігійнае гісторыі і таму, што гэты пэрыяд выклікаў і цяпер выклікае шмат спрэчак з розных бакоў, тым самым ён вымагае ўважлівых і карпатлівых студыяў. Таму што ўжо зьявілася нямала літаратуры датычна новаўнійнага пытаньня, дык вынікам такіх студыяў мусіла быць ёмістая кніга. Ня маючы магчымасьці апублікаваць такое працы, я змушаны абмежавацца толькі да галоўных рысаў гэтае акцыі і ўнікаць усіх спрэчных пытаньняў.

Пачатак новае ўнійнае акцыі (у далейшым я яе буду коратка называць усходнекаталіцкаю) на Беларусі палажылі беларускія адраджэнскія дзеячы. Гарачым абаронцам Усходнекаталіцкае царквы быў Кастусь Каліноўскі[196]. Ягоная першая беларуская газэта "Мужыцкая Праўда" № 6 з 1863 г. прысьвечана абароне Уніі. Потым усе беларускія дзеячы, якія гуртаваліся каля "Нашае Нівы" рахавалі, што адраджэньне беларускае Ўсходнекаталіцкае царквы зьяўляецца непадзельнай часткаю беларускага адраджэнскага руху. Яшчэ перад выхадам "Нашае Нівы" Іван Луцкевіч разам з сваімі прыяцелямі рабілі з помаччу мітр. А. Шэптыцкага канкрэтныя пляны, каб заснаваць на Беларусі ўсходнекаталіцкія парахвіі. На жаль, польскія абшарнікі,

194 **"Litterae dimissoriae"** (лац.) — "даверчы ліст" — дакумэнт, якім біскуп пацьвярджае паўнамоцтвы сьвятароў.

195 Відавочна, Л. Гарошка мае на ўвазе Шостую ўнійную канфэрэнцыю, пра якую пісаў вышэй.

196 **Кастусь Каліноўскі** (1838–1864), кіраўнік паўстаньня 1863–1864 гг. на тэрыторыі Беларусі, нацыянальны герой беларускага народу.

даведаўшыся аб тых плянах, данесьлі міністру Сталыпіну[197], і ўсе тыя мерапрыемствы былі зьнішчаны. (гл.: *А. Луцкевіч, "Мітрапаліт Шэптыцкі і беларускі рух". Богословія, Том IV, кн. 1–2, с. 46, Львоў, 1926*)[198].

Крыху пазьней, у 1907 г. мітр. А. Шэптыцкі інкогніта наведаў Беларусь, гаварыў зь сьвецкімі і духоўнымі дзеячамі, і ад таго часу ідэя адраджэньня Ўсходнекаталіцкае царквы пачала пашырацца больш рашуча. У календары "Нашае Нівы" каляндарная частка мела тры калёнкі: *"рыма-каталіцкую, праваслаўную і грэка-ўніяцкую"*, нягледзячы на тое, што ў царскай Расеі нават і пасьля талеранцыйнага ўказу[199] Унія была забаронена. Некаторыя беларускія патрыёты не зьвярталі ўвагу на тую забарону. Напрыклад, пісьменьнік Карусь Каганец (Кастравіцкі)[200] называў сябе ўніятам і сам улажыў сабе ўсходнекаталіцкі малітаўнік. У артыкуле "Праўда" [трэба "Парада". — А. Н.] ён выразна заклікае беларусаў да аднаўленьня Уніі (гл.: *Е. Ф. Карскій, Белоруссы, Том III, ч. 3, Варшава, 1908* [памылка: Петраград 1922. — А. Н.], *с. 400*).

Аб гэтым мне ўжо было ведама з выкладаў беларускае літаратуры ў Наваградзкай гімназіі.

Также і Цётка[201] ўлажыла беларускі ўсходнекаталіцкі малітаўнік для дзяцей падчас свае бытнасьці ў Львове, і плянавала яго выдаць пры помачы базыліянаў, але не змагла ажыцьцявіць свайго праекту. Рукапіс малітаўніка астаўся ў Ануфрыеўскім манастыры ў Львове (гл.: *Ad. Stankievič, Biełaruski chryścijanski ruch. Raździ. II, §3, Vilnia, 1939*).

Варта ўспомніць, што зь Львова Цётка аднойчы пісала да праф. Эпімаха-Шыпілы[202]: *"Скора вышлю кніжку аб Уніі для акадэмікаў духоўных на ваш адрас... Вы, шаноўны прафэсар, закіньце перад імі слова пра Ўнію... Унія для беларусаў была б крэпкай падпорай, бо лацінскае духавенства ў нас на ніщто"* (*Ю. Бібіла, "Матар'ялы да*

[197] **Пётар Сталыпін** (1862–1911), расейскі дзяржаўны дзеяч, у 1906–1911 гг. старшыня Савету міністраў і міністар унутраных спраў Расейскай імпэрыі.

[198] Падрабязьней пра спробы адраджэньня уніі ў Беларусі ў пачатку XX ст. і ролю ў гэтым мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага гл.: Свирид, А. Роль Галицкого митрополита А. Шептицкого в распространении унии на территории Беларуси в первой половине XX века // Веснік Брэсцкага універсітэта. 2002. № 1. С. 38–49.

[199] Маецца на ўвазе ўказ расейскага імпэратара Мікалая II ад 17 красавіка 1905 г., якім абвяшчалася роўнасьць у Расейскай імпэрыі ўсіх рэлігій і веравызнаньняў.

[200] **Карусь Каганец** (сапр. Казімер Кастравіцкі; 1868–1918), пісьменьнік.

[201] **Цётка** (сапр. Алаіза Пашкевіч; 1876–1916), паэтка.

[202] **Браніслаў Эпімах-Шыпіла** (1859–1934), адзін з арганізатараў беларускага грамадзка-культурнага руху ў Пецярбургу ў пачатку XX ст.

*біяграфіі Цёткі", Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Кніга 2. Працы клясы філёлёгіі. Том І. Менск, 1928, сс. 296–97*).

Калі пачало разьвівацца беларускае рэлігійнае жыцьцё, дык адраджэньне Ўсходнекаталіцкае царквы ўваходзіла ў праграму некаторых арганізацыяў. Напрыклад, Беларуская Хрысьціянская дэмакратычная злучнасьць[203] у сваёй праграме мела такі пункт: *"На Беларусі Хрысьць[іянская] Дэмак[ратычная] Злучнасьць ставіць сабе спэцыяльную мэту: зблізіць каталікаў і праваслаўных і аб'яднаць іх у адной веры з рознымі абрадамі"* (*Ad. Stankievič, Bieł. Chr. Ruch, Vilnia, 1939, s. 142*).

Беларускія дзеячы спадзяваліся ажыцьцявіць свае ўнійныя пляны пры помачы мітр. Шэптыцкага, які атрымаў 18.II.1908 г. надзвычайныя паўнамоцтвы ў гэтай справе ад папы Пія X[204]. І ён быў рашуча здэцыдаваны[205] гэту помач зрабіць. На пачатку І Сусьветнае вайны, калі сам быў арыштаваны царскім урадам, мітр. Шэптыцкі высьвяціў у Кіеве тайна ў 1914 г. а. Язэпа Бацяна[206] на Луцкага ўсходнекаталіцкага япіскапа, і гэты ўладыка, вядучы тайна працу, адведаў у 1917 г. Беларусь, навязаў кантакты зь беларускім духавенствам, прамаўляў да людзей па-беларуску (гл.: *Антон Саладух, "Мітр. Шэптыцкі". Богословія*). На жаль, у тым жа 1917 г., калі быў паданы да агульнага ведама факт аднаўленьня ўсходнекаталіцкае Луцкае епархіі і хіратонія яп. Бацяна, і калі гэты факт быў ужо прызнаны ў Рыме, наваствораны польскі ўрад і польскія біскупы паставіліся да гэтага факту так варожа, што яп. Бацян ня змог заняць свае епархіі[207]. Ён памёр у Львове у 1926 г. як япіскап-выгнанец.

Нягледзячы на [...][208] польскага ўраду і польскіх біскупаў, мітр. Шэптыцкі стараўся аднавіць усходнекаталіцкую епархію ў Менску.

[203] **Беларуская хрысьціянская дэмакратыя** — беларуская нацыянал-дэмакратычная партыя, заснаваная ў 1917 г. як Беларуская хрысьціянска-дэмакратычная злучнасьць. Яе заснавальнікамі й ідэолягамі былі беларускія каталіцкія ксяндзы. Пад назвай Беларуская хрысьціянская дэмакратыя існавала ад 1926 да 1936 г., калі рэарганізавалася ў Беларускае нацыянальнае аб'яднаньне.

[204] **Пій X** (1835–1914), Папа Рымскі ў 1903–1914 гг.

[205] **Здэцыдаваны** (ад польск. *zdecydowany*) — тут: настроены.

[206] **Ёсіф Бацян** (1879–1926), грэка-каталіцкі сьвятар, у 1914–1926 гг. луцкі й астроскі біскуп.

[207] На самай справе ў 1917 г. польскага ўраду яшчэ не існавала, польская дзяржаўнасьць была афіцыйна адноўленая толькі ў наступным, 1918 г., а тэрыторыя Валыні канчаткова ўзятая палякамі пад кантроль яшчэ пазьней, толькі ў 1920 г.

[208] Тут і далей гэткім чынам пазначаныя месцы ва ўспамінах, якія не ўдалося расчытаць.

Апостальскі Пасад прызнаў гэта магчымым і ў 1923 г. у *“Annuario Pontificio”*[209] ў сьпісе епархіяў зьявілася ўсходнекаталіцкая Менская епархія, але ніколі ня мела свайго ерарха. У 1929 г. яна была скасаваная.

Раз запачаткованы ўсходнеўніяцкі рух ішоў уперад, і ў 1922 г. былі створаныя першыя канкрэтныя захады для ўтварэньня ўсходнекаталіцкае епархіі. Як ні дзіўна, але гэтая падзея здарылася ў падсавецкай Беларусі. Беларускі рэлігійны дзеяч кс. Язэп Белагаловы[210], Магілёўскі дзекан, карыстаючы з асаблівых паўнамоцтваў, якія ён атрымаў ад Магілёўскага катал[іцкага] мітрапаліта, (кс. Белагаловы) запрасіў у Магілёў на сьвята сьв. Антонія 13.VI.1922 усходнекаталіцкага расейскага экзарха, а. Леаніда Фёдарава[211], прызначанага на гэтае становішча мітр. Шэптыцкім. Усходнекаталіцкія Службы Божыя былі адпраўленыя ў Магілёўскай катэдры і ў Сафійску[212]. Сьвятыні былі перапоўненыя каталікамі і праваслаўнымі. Харысты былі праваслаўныя з слаўным рэгентам Грайко[213] на чале. Узрушаньне і радасьць народу былі надзвычайныя. З вуснаў у вусны пералятаў вокліч “Вярнулася Унія!”. Пасьля Службы Божае 18.VI да а. Экзарха зьявілася дэлегацыя беларускае праваслаўнае інтэлігенцыі з падзякаю за Службу і за словы і просьбаю прыехаць зноў. Шматлікія заяўлялі, што яны ўжо чуюцца ўніятамі, бо *“Унія ўваскросла”*. Тады ж некалькі лацінскіх беларускіх сьвятароў і д-р Галынскі[214] выказалі гатоўнасьць прыняць усходні абрад. У сваёй справаздачы мітр. Шэптыцкаму аб Магілёўскіх

[209] **“Annuario Pontificio”** (“Пантыфікальны штогоднік”) — статыстычны штогоднік, які выдаецца ў Ватыкане на італьянскай мове з 1912 г.

[210] **Язэп Белагаловы** (1883–1928?), рыма-каталіцкі сьвятар, грамадзкі дзеяч, пэдагог. Пасьвячаны ў сьвятары ў 1906 г. У 1913–1918 г. працаваў у Духоўнай акадэміі ў Пецярбургу (Петраградзе). У 1918 г. прызначаны пробашчам і дэканам у Магілёў. Выконваў абавязкі афіцыяла біскупскай курыі ў Менску. Прыхільна ставіўся да беларусізацыі Каталіцкай царквы. Неаднаразова арыштоўваўся бальшавіцкімі ўладамі, загінуў у зьняволеньні.

[211] **Леанід Фёдараў** (1879–1935), рэлігійны дзеяч. Паводле паходжаньня расеец і праваслаўны, прыняў грэка-каталіцтва й быў адным з давераных супрацоўнікаў мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага. У 1921 г. стаў апостальскім экзархам для расейскіх грэка-каталікоў. Перасьледаваўся камуністычнымі ўладамі, памёр у ссылцы.

[212] **Сафійск** — сёньня вёска ў складзе Сухараўскага сельсавету Магілёўскага раёну Магілёўскае вобласьці. Была населеная ў асноўным этнічнымі літоўцамі, якія перасяліліся на Магілёўшчыну ў другой палове XIX ст.

[213] Магчыма, маецца на ўвазе **Лука Грайко** (1887–1937), нараджэнец Гарадзенскага павету, які напрыканцы жыцьця, у 1936–1937 гг., служыў рэгентам царкоўнага хору ў Андрэеўскім саборы ў Ленінградзе. Арыштаваны й расстраляны савецкімі ўладамі.

[214] Пра гэтага чалавека дадаткова пакуль удалося высьветліць толькі тое, што звалі яго Ўладзімерам Андрэевічам.

падзеях а. Фёдараў прасіў мітр. Шэптыцкага хадайнічаць у Рыме, каб хутчэй быў назначаны беларускі каталіцкі біскуп (*Копія лісту а. Фёдарава знаходзіцца ў Архіве Беларускага Ўсходнекаталіцкага Экзархату, а цытаты зь яго былі апублікаваныя ў “Божым Шляхам”, с. 7, № 64–65, 1955 г.*). Але жорскі наступ ваюючага бальшавіцкага бязбожжа зруйнаваў усе тыя мерапрыемствы.

Тым часам у Заходняй Беларусі пад Польшчай зусім незалежна ад нікога вырынуў унійны рух зьнізу. Пачатак дало Падлясьсе, дзе Унію царскі ўрад скасаваў толькі ў 1875 г. Аб ёй яшчэ захавалася сьветлая памяць, і таму ўжо ў 1923 г. зьявіліся першыя парахвіі, якія жадалі мець усходнекаталіцкіх сьвятароў. Пры тым ніякае прапаганды з боку палякаў у тых вёсках не было. Вернікі хацелі мець тую ж рэлігію, якую мелі і за якую цярпелі іхнія бацькі і дзяды. Аднак ня маючы ніякай іншай магчымасьці знайсьці ўсходнекаталіцкіх сьвятароў, яны зьвярнуліся да Падляскага лацінскага біскупа Пшэзьдзецкага[215]. Ён жа, падобна як і іншыя біскупы ў Зах. Беларусі і на Валыні, зусім не былі падрыхтаваныя да такога зьявішча. На іхняе вялікае зьдзіўленьне, Усходнекаталіцкая царква (Унія) уваскросла сама бязь іхняга ведама. Ня ведаючы, што зь ёю рабіць, біск. Пшэзьдзецкі ў кастрычніку 1923 г. паехаў у Рым з запытаньнем і дакладам.

У Рыме, прастудыяваўшы даклад біск. Пшэзьдзецкага, уложана агульны плян працы між быўшых уніятаў у форме інструкцыі (*Zelum amplitudinis*), якую 10.XII.1923 выслана біск. Пшэзьдзецкаму, а праз некалькі тыдняў перасланa яе такжа Віленскаму, Менскаму (Пінскаму), Люблінскаму і Луцкаму біскупам разам з адпаведнымі паўнамоцтвамі. Тая інструкцыя загадвала захоўваць у цэласьці ўсходні абрад праваслаўных, якія пераходзяць у каталіцтва, забараняла каталіцкім сьвятаром перацягваць у лацінскі абрад пераходзячых у каталіцтва. А хто будзе такія намаганьні рабіць, пагражала караю суспэнзы[216]. Новапаўсталыя ўсходнекаталіцкія парахвіі мелі падлягаць лацінскім біскупам. І гэткі стан рэчаў быў зацьверджаны Ўсходняй Кангрэгацыяй[217] у 1925 г.

---

215 **Генрык Пшэзьдзецкі** (польск. *Przeździecki*; 1873–1939), рыма-каталіцкі гіерарх, у 1918–1925 гг. падляскі, у 1925–1939 гг. седлецкі біскуп. Стаў ініцыятарам заснаваньня нэаўніяцкай Царквы візантыйска-славянскага абраду.

216 **Суспэнза** (лац. *suspensa*) — у Каталіцкай царкве пакараньне, якое накладаецца на сьвятароў і ўтрымлівае забарону ці абмежаваньне пакараным капланам магчымасьці выкананьня сваіх функцыяў (адпраўленьня сьвятой імшы, выкананьня актаў хрышчэньня, вянчаньня, пахаваньня, зьбіраньня ахвяраў ад парафіян і г. д.).

217 **Кангрэгацыя па справах Усходніх Цэркваў** (*Congregatio pro Ecclesiis Orientalibus*) — кангрэгацыя Рымскай курыі, якая займаецца Ўсходнімі каталіцкімі цэрквамі. Як самастойнае падразьдзяленьне была створана ў 1917 г. папам Бенядзіктам XV.

Калі ўнійны рух пачаў ажываць, каталіцкія біскупы з Усх. Польшчы, разам з супэрыёрамі манашых чыноў, мелі ў днях 9–10.XI.1926 г. канфэрэнцыю ў Вільні ў справе ўнійнай працы. Агульны настрой тае канфэрэнцыі можа характарызаваць выпадак, які здарыўся з а. Андрэем Цікотаю[218], супэрыёрам Друйскага Марыйскага Дому[219]. Ён запрапанаваў увесьці беларускую мову ў унійную працу. На гэта заўважыў мітр. Ялбжыкоўскі: *"Едзьце да бальшавікоў і там гаварыце сабе па-беларуску!"* Ніхто зь біскупаў нічога не сказаў на такую заўвагу (гл.: *Архіў Айцоў Марыянаў у Рыме*).

Маючы паўнамоцтвы і інструкцыю, лацінскія біскупы зусім ня мелі ўсходнекаталіцкіх сьвятароў, а з Галічыны іх рашуча не хацелі браць. Пачаліся экспэрымэнты з праваслаўнымі сьвятарамі, якія дзеля розных прычынаў зьвярталіся да лацінскіх біскупаў. Часта і, на жаль, залішне часта экспэрымэнты гэтыя былі няўдалыя, а часам зусім скандальныя. Большасьць тых сьвятароў, якія зьвярталіся да лацінскіх біскупаў, былі пакараныя праваслаўнымі ерархамі за розныя правіны і злачыны. У каталіцызьме яны і ня думалі паправіцца. З агульнага ліку 43 ведамых мне канвэртытаў адпала 20, пакідаючы ў парахвіях вялікае згаршэньне.

У сувязі з гэтым сумным фактам на 3-яй Унійнай канфэрэнцыі ў Пінску а. Пачопка[220] казаў: *"Найбольшым праціўнікам нашае акцыі ёсьць тое, што нам не далі патрэбнае лічбы праўдзіва хрыстовых апосталаў місіянэраў... а на яшчэ большы жаль, пападаюцца між нас такія, што Хрыстовую Царкву не будуюць, а развальваюць. Лепш было б, каб такія да нас ніколі не прыходзілі... Браць канвэртытаў з праваслаўя найчасьцей няма сэнсу. Бо прыходзяць адтуль такія, для якіх няма месца ў праваслаўі"* (гл.: *B. Paczopka,*

[218] **Андрэй Цікота** (1891–1952), рэлігійны й культурна-грамадзкі дзеяч, каталіцкі сьвятар. Адзін з заснавальнікаў Беларускай хрысьціянскай дэмакратычнай злучнасьці. Пасьля 1923 г. жыў у Друйскім кляштары айцоў марыянаў, у 1933–1939 гг. двойчы абіраўся генэралам ордэна айцоў марыянаў у Рыме. У 1939 г. накіраваны ў Харбін, дзе заняў пасаду адміністратара каталікоў усходняга абраду. У 1948 г. арыштаваны, скончыў жыцьцё ў савецкім лягеры.

[219] Маецца на ўвазе Друйскі кляштар айцоў марыянаў, які дзейнічаў у Друі ў 1923–1939 гг.

[220] **Баляслаў Пачопка** (1884–1940), каталіцкі сьвятар усходняга абраду, рэлігійны й культурна-асьветны дзеяч. У 1914–1915 гг. — рэдактар-выдавец першай беларускай каталіцкай газэты *"Biełarus"* (Вільня). У гады Першай сусьветнай вайны працаваў дырэктарам Сьвіслацкай настаўніцкай сэмінарыі ў Гарадзенскай губэрні. У міжваеннае дваццацігодзьдзе далучыўся да справы беларускага ўніяцтва. Пасьвячоны ў сьвятары ў 1925 г. Ад верасьня 1926 г. — пробашч уніяцкага Бабровіцкага прыходу ў Косаўскім павеце. Перасьледаваўся польскімі ўладамі.

*“Абраз нашае ўнійнае працы”, с. 113–114; Pamiętnik III-ej Konferencji Kapłańskiej w sprawie Unji Kościelnej w Pińsku (30, 31 sierpnia i 1 września1932 roku). Pińsk, 1933*). Потым мне прыходзілася пачуць ад вернікаў яшчэ горшае асуджэньне.

Было вялікім згаршэньнем для вернікаў, што некаторыя сьвятары пераходзілі па некалькі разоў. Будучы студэнтам і адведваючы ў Стаўпцах усходнекаталіцкага параха а. Сялецкага[221], я спаткаў там Н. Мядзьведзя[222], які аж тройчы “перакідаўся” і з гумарам апавядаў, нібы вясёлы анэкдот, як падчас свайго апошняга пераходу на Валыні ён два дні стаяў з сваім супернікам каля царквы, не пушчаючы туды адны другіх і сьпяваючы розныя малебны і акафісты. Калі яны абодва вычарпалі свае рэпэртуары, ягоны супернік, пагражаючы яму кулаком, крычаў: *“Ты… ты чорт лысы!”* І адвярнуўшыся да царквы, сьпяваў: *“Сьвяты лысы, малі Бога за нас!”*

— *Бачыце, ужо мая лысіна ў сьвятыя залічаная,* — казаў ён, бестурботна сьмеючыся.

На жаль, такі горкі сьмех няраз адбіваўся жуткім рэхам у наваствораных усходнекаталіцкіх парахвіях. У епархіяльных архівах захавалася шмат апісаньняў згаршаючых падзеяў, шмат мне аб іх гаварылі вернікі падчас мае душпастырскае працы. Даў бы Бог, каб іх ня трэба было выцягаць з архіваў.

Апостальскі Пасад, даючы інструкцыі польскім біскупам у 1923 г., ужо бачыў цяжкасьці адносна кадраў усходнекаталіцкага духавенства і таму тады ж запрапанаваў некаторым манашым лацінскім чынам і таварыствам стварыць усходнія галіны. Першымі адгукнуліся айцы езуіты[223], за імі пайшлі рэдэмптарысты[224], капуцыны[225], марыяне[226]

---

[221] **Юстын Сялецкі** (1884—?), паходзіў з Луцкай каталіцкай дыяцэзіі, высьвячаны на сьвятара ў 1921 г. Быў сьвятаром у Стаўпцах з 1935 г.

[222] **Ніфант Мядзьведзь** (1882–1941), праваслаўны й грэка-каталіцкі сьвятар. Пасьвячоны ў сьвятары ў 1915 г. У 1930-я гг. быў вікарыем у парафіі Антонаўка Луцкай япархіі. Забіты чырвонаармейцамі пры адступленьні.

[223] **Езуіты** — чальцы Таварыства Ісуса (лац. *Societas Jesu*) — каталіцкага манаскага ордэна, заснаванага ў 1534 г. у Гішпаніі.

[224] **Рэдэмптарысты** — чальцы Кангрэгацыі Найсьвяцейшага Выкупіцеля (лац. *Congregatio Sanctissimi Redemptoris*), каталіцкай мужчынскай манаскай кангрэгацыі, заснаванай у 1732 г. у Італіі.

[225] **Капуцыны** — чальцы каталіцкага манаскага Ордэну Братоў Меншых Капуцынаў (лац. *Ordo Fratrum Minorum Capuccinorum*), заснаванага ў 1525 г. у Італіі.

[226] **Марыяне** — чальцы мужчынскай каталіцкай манаскай Кангрэгацыі Беззаганнага Зачацьця Прасьвятой Дзевы Марыі (лац. *Congregatio Clericorum Marianorum sub titulo Immaculatae Conceptionis Beatissimae Virginia Mariae*), заснаванай у 1673 г. у Польшчы.

і аблятыр[227]. Самыя ж польскія біскупы праявілі карыгоднае нядбальства ў тварэньні кадраў для ўсходнекаталіцкіх парахвіяў. Толькі ў 1928 г. была адкрыта ў Дубне і толькі на адзін год сэмінарыя для перашколеньня праваслаўных сьвятароў-канвэртытаў. І толькі ў 1931 г. на выразнае жаданьне з Рыму адчынена ў Дубне Духоўную Сэмінарыю, даручаючы яе айцом езуітам.

Паважныя зьмены ў унійнай працы адбыліся ў 1929 г. Тады прыйшла да голасу створаная ў 1925 г. пры Кангрэгацыі для Ўсходняе Царквы камісія *"Pro Russia"*[228] зь біск. Д'Эрбіні[229] на чале. Той камісіі было даручана кіраваньне ўсімі рэлігійнымі справамі ня толькі ў Расеі, але наагул на ўсім абшары быўшае Расейскае Імпэрыі, і над расейскай эміграцыяю. І вось гэтая камісія 26.VIII.1929 г. выдала новую інструкцыю адносна ўнійнай працы. Гэтая інструкцыя давала поўную свабоду выбару абраду пры пераходзе ў каталіцтва. Шырока адчыніліся дзьверы для працягваньня праваслаўных адразу ў лацінскі абрад. Для шматлікіх польскіх рэлігійных дзеячоў і некаторых польскіх лацінскіх ерархаў унійная акцыя сталася зусім непажаданаю. Праз гэта хаос у ўнійнай працы яшчэ пабольшыўся.

Беларускім сьвятаром было больш, чым каму, балюча глядзець на той разлад, які панаваў у так важнай працы, як справа аб'яднаньня цэркваў. Таму ў 1930 г. кс. д-р Кулак з падтрымкаю і дапамогаю Пінскага біскупа Лазінскага запачаткаваў Унійныя Канфэрэнцыі ў Пінску, каб выявіць усе балючыя месцы ўнійнае працы і знайсьці на іх лякарства. Першая Ўнійная Канфэрэнцыя адбылася ў Пінску 23–24.IV.1930 і мела ўсяго 35 гасьцёў і 22 сэмінарыстаў. Але парушаныя на ёй пытаньні выклікалі ў шмат каго зацікаўленьне, і на другую Канфэрэнцыю 1–3.IX.1931 г. прыехала 52 удзельнікаў і 33 сэмінарыстаў, а на трэцюю 30.VIII—1.IX.1932 г. аж 84 удзельнікаў і 28 сэмінарыстаў.

[227] **Абляты** — прыватныя асобы ці супольнасьці людзей, якія прысьвячаюць сваё жыцьцё служэньню Богу, ідучы за пэўнай манаскай традыцыяй, але ня робячыся пры гэтым манахамі.

[228] Камісія ***"Pro Russia"*** ("Для Расеі") была створана ў 1925 г. спачатку як частка Кангрэгацыі для Ўсходніх Цэркваў, а ад 1930 г. дзейнічала як асобная ўстанова, непасрэдна падпарадкаваная Сьвятому Айцу. Аднак пасьля адхіленьня ад кіраваньня ёю Мішэля д'Эрбіны ў 1933 г. камісія страціла сваё значэньне й стала звычайным дэпартамэнтам (аддзелам) Ватыканскага Дзяржаўнага Сакратарыяту для справаў каталікоў рымскага (заходняга) абраду. Тым жа, што тычылася ўсходняга абраду, стала займацца выключна Ўсходняя Кангрэгацыя.

[229] **Мішэль д'Эрбіны** (фр. *d'Herbigny*; 1880–1957) — каталіцкі дзеяч, езуіт. Ад 1922 г. быў рэктарам Усходняга інстытуту й дарадцам Кангрэгацыі Ўсходняй царквы, у 1930–1933 гг. прэзыдэнт Папскай камісіі *"Pro Russia"*. Быў патаемна пасьвячоны ў япіскапы. У 1933 г. адхілены ад служэньня й высланы ў Бэльгію.

Усе нястачы і балючыя месцы ўнійнае акцыі на канфэрэнцыях былі выказаныя даволі ясна, але адпаведных прапановаў было прынята мала, ды і тыя прынятыя ў большасьці аставаліся архіўным матэрыялам. Да таго найбольшы пратэктар канфэрэнцыяў біск. Лазінскі памёр 26.III.1932 г., а іхні арганізатар кс. д-р Кулак мусіў выехаць зь Пінску, таму на чацьвертай Канфэрэнцыі 7–9.IX.1933 г. была прынятая пастанова ладзіць яе раз на два гады, а на шостай Канфэрэнцыі 1–3.IX.1937 г. — раз на чатыры гады.

І так для кожнага крыху асьвядомленага з прычынаю бязладзьдзя ў унійнай працы была нястача свайго ерарха. А падчас унійных канфэрэнцыяў гэты сумны факт станавіўся яшчэ больш відавочным. Апостальскі Пасад таксама добра ведаў гэтую нястачу і таму ў 1931 г. быў хіратанізаваны ў Рыме ўладыка Мікалай Чарнэцкі — рэдэмптарыст-украінец — на апостальскага візытатара Валыні і Зах. Беларусі. Аднак ён ня меў ніякае юрысдыкцыі. Таму на Трэцяй Унійнай Канфэрэнцыі ўсе беларускія сьвятары рашуча дамагаліся не апост. візытатара, а правячага беларускага япіскапа ўсходняга абраду. Айцец Неманцэвіч[230] казаў: *“Уніяты беларусы і ўкраінцы слушна чуюцца пакрыўджанымі, ня маючы свайго біскупа”* (гл.: *Pamiętnik III-ej Konferencji..., c. 122*). Яшчэ больш рашуча дамагаўся а. Аношка[231]: *“Унійная акцыя... павінна абавязкова і як найхутчэй мець*

[230] **Антон Неманцэвіч** (1893–1943), каталіцкі сьвятар усходняга абраду, манах-езуіт. Пасьвячоны ў сьвятары ў 1915 г. Душпастырскую дзейнасьць распачаў у Колпіне недалёка ад Петраграду. Пасьля 1920 г. служыў вікарыем пры парафіі Сьвятых Пятра й Паўла ў Маскве. Арыштаваны органамі савецкай бясьпекі ў траўні 1921 г. за “антысавецкую дзейнасьць”, пасьля дэпартаваны ў Польшчу ў выніку абмену палітычнымі вязьнямі паміж польскім і савецкім урадамі. У 1925–1927 гг. вучыўся ў папскім Усходнім інстытуце ў Рыме. У канцы 1920-х гг. вярнуўся ў Польшчу. Працаваў выкладчыкам Місіянэрскага інстытуту ў Любліне й Люблінскага каталіцкага ўнівэрсытэту. Выконваў сьвятарскія абавязкі ў Альбэртыне й пры ўніяцкай парафіі ў Сынковічах на Палесьсі. У 1932–1937 гг. рэдагаваў і выдаваў беларускі ўніяцкі часопіс “Да Злучэньня”. Ад 1934 г. — прафэсар папскай Усходняй сэмінарыі ў г. Дубне (Заходняя Ўкраіна), дзе пэўны час займаў пасаду рэктара. У 1938 г. рэдагаваў часопіс *“Złučeńnie”*. У 1939 г. мітрапалітам Шаптыцкім узьведзены ў сан экзарха беларускай уніяцкай царквы. У гады Другой сусьветнай вайны разгарнуў шырокую дзейнасьць па арганізацыі адміністрацыйных структур наваствoранага Беларускага экзархату. У жніўні 1942 г. арыштаваны нямецкай тайнай паліцыяй, памёр у бэрлінскай турме.

[231] **Вацлаў (Вячаслаў) Аношка** (1899–1966), каталіцкі сьвятар. У другой палове 1920-х гг. стаў сьвятаром грэка-каталіцкага абраду, ад 1926 г. працаваў у Альпенскай парафіі каля Давыд-Гарадка на Палесьсі. У 1935 г. прызначаны ў парафію Далятычы, дзе знаходзіўся да 1944 г. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у Польшчы.

*сваю ўласную ерархію”* (гл.: *Тамсама, с. 126*). Тое самае дамаганьне паўтарыў а. Б. Пачопка: *“Унійную акцыю ажывіла б назначэньне ардынарыйнага япіскапа ўсходняга абраду або нават стварэньне двох дыяцэзіяў таго ж абраду: адной для беларусаў, напр. у Вільні, а другое дзесь на Валыні для ўкраінцаў”* (гл.: *Тамсама, с. 113*). Але галасы гэтых ахвярных беларускіх сьвятароў былі голасам гукаючых у пустыні.

Беларуская прэса такжа ўважна сачыла за ўнійнаю працаю і на яе старонках часта зьяўляліся артыкулы і з крытычнымі заўвагамі, і з канкрэтнымі прапановамі. Напрыклад, у *“Беларускай Крыніцы”* № 34 з 29.X.1931 г. Вясковец падаваў “Пункты ў справе рэлігійнае Уніі”, а Ўніят у № 37 у тым жа 1931 г. выказваў “Некалькі ўваг аб Уніі”; Каталік у № 3 з 24.I.1932 адважна гаварыў: “Шкодная для беларусаў дзейнасьць Камісіі *Pro Russia*”. Праваслаўны дзеяч у № 36 з 23.X.1932 закранаў пытаньне: “Праваслаўе і Ўнія”. Гэта толькі для прыкладу найважнейшыя артыкулы з двох гадоў.

Ад 1932 г. айцы езуіты выдавалі беларускі ўнійны часапіс “Да Злучэньня”[232] пад рэдакцыяю а. А. Неманцэвіча. Пад яго ж рэдакцыяю ў 1932, 1933, 1934 гг. выхадзілі “Беларускія календары”. Іхную праводную думку выказваў артыкул Беларуса Ўніята “Аб патрэбе беларусам Уніі”, у якім гаварылася: *“Унія... гісторыяй пакліканая быць у пэўным сэнсе рэлігіяй беларускай, народнай... яна была апорай беларускасьці ў мінуўшчыне і павінна быць такой у сучаснасьці”* (гл.: *Бел. Каляндар 1933*, с. 65). Якраз дзеля гэтае прычыны частка польскага духавенства была настроена вельмі варожа да Ўсходнекаталіцкае царквы.

Калі ў зьвязку з унійнымі канфэрэнцыямі на старонках прэсы часьцей зьяўляліся паважнейшыя артыкулы датычна стану Ўсходнекаталіцкае царквы ў Польшчы, супрацоўнік польскага міністра замежных справаў Бэка[233], граф Генрык Лубенскі[234] апублікаваў у Варшаве ў 1932 г. кнігу *“Droga Rzymu na Wschód przez Polskę”*[235], якая выказвала сапраўдныя адносіны польскага ўраду да Ўсходнекаталіцкае царквы, і была настолькі варожай да гэтае Царквы, што карды-

---

232 **“Да Злучэньня!”** — рэлігійны часопіс, які выдаваўся езуітамі ў 1932–1936 гг. у Альбэртыне пад Слонімам пад рэдакцыяй Антона Неманцэвіча.

233 **Юзаф Бэк** (польск, *Beck*; 1894–1944), польскі палітык, у 1932–1939 гг. — міністар замежных спраў Польшчы.

234 **Генрык Ігнацы Лубенскі** (польск, *Łubieński*; 1901–1960), польскі пісьменьнік і публіцыст, сакратар Партыі нацыянальнай правіцы, супрацоўнік віленскай кансэрватыўнай газэты *“Słowo”*, карэспандэнт у Бэрліне.

235 На самай справе гэтая кніга мела крыху іншую назву — *“Droga na wschód Rzymu”* (“Шлях Рыму на ўсход”).

нал Какоўскі[236] паставіў яе на індэкс забароненых кнігаў. У польскай прэсе зьявілася шмат артыкулаў у зьвязку з гэтаю кнігаю. Частка іх была выдана асобнаю кнігаю (гл.: *Dyskusja prasowa wokół książki 'Droga na Wschód Rzymu, Варшава, 1933*).

Варожае да Ўсходнекаталіцкае царквы польскае духавенства такжа старалася падбухторваць грамадзкую апінію. Характэрнай з гэтага пункту гледжаньня была кніга кс. каноніка Барodзіча[237]. Што гэта за пісаніна, можа сьведчыць кароткі вынятак: *"Калі Польшча ўваскросла, немцы ламалі сабе галаву, як бы ўбіць у Польшчу такі клін, які б яе разшчапіў. І знайшлі. Яны знайшлі спосаб зрабіць уплыў на Рым і асабліва на Летуву, каб на памежжы Польшчы завесьці расейскую унію. Прыхільнікам такой уніі быў Я. Экsц. Біскуп Матулевіч[238], які з гэтай мэтай перамясьціў над Дзьвіну сьвятароў, вядомых з русыфікатарскай агітацыі і шавіністаў, якія імкнуліся вынішчыць польскасьць на нашым памежжы. Асабліва на гэтым полі вызначыліся кс. Ільдэфонс Бобіч, Мёрскі дэкан, Зянкевіч Антон[239], Глыбоцкі*

[236] **Аляксандар Какоўскі** (польск. *Kakowski*; 1862–1938) — каталіцкі гіерарх, у 1913–1938 гг. варшаўскі арцыбіскуп, ад 1919 г. кардынал.

[237] **Юзаф Бародзіч** (1861 ці 1863 — пасьля 1939), каталіцкі сьвятар, ад пачатку XX ст. працаваў вікарыем і ксяндзом у многіх парафіях на тэрыторыі Беларусі й Літвы — у Лідзе, Новых Троках, Даўгелішках, Жозьлях, Клюшчанах, Мёрах. Быў вельмі энэргічным сьвятаром, дзякуючы чаму яму ўдавалася пабудаваць некалькі новых касьцёлаў. У 1907 г. арыштаваны й адпраўлены ў ссылку ў Рыбінск пад Яраслаўлем, дзе таксама не пакідаў місіянэрскай дзейнасьці. Затым быў асуджаны да зьняволеньня ў Дзьвінскай крэпасьці, але здолеў адтуль уцячы й пакінуць тэрыторыю Расейскай імпэрыі. Пасьля атрыманьня Польшчай незалежнасьці на пэўны час вярнуўся на радзіму, але пасьля зноў зьехаў у Італію, дзе жыў у Сан-Рэма. Тым ня менш рэгулярна наведваў радзіму й набыў шырокую вядомасьць тым, што фанатычна змагаўся зь любымі праявамі беларускасьці ў касьцёле.

[238] **Юры Матулевіч** (Юргіс Матулявічус; 1871–1927), каталіцкі сьвятар заходняга абраду, тэоляг, генэрал ордэну марыянаў. У 1918 г. абраны віленскім ардынатарам, у сьнежні таго ж году кананічна ўзначаліў Віленскую дыяцэзію. Як рэлігійны й культурна-грамадзкі дзеяч выступаў за нацыянальную й рэлігійную талерантнасьць, клапаціўся пра ўзровень рэлігійнага жыцьця ў дыяцэзіі. Падтрымліваў сярод іншых і беларускі нацыянальна-рэлігійны рух, заахвочваў маладых беларускіх клерыкаў і сьвятароў да шырокага ўжываньня іх роднай беларускай мовы ў штодзённым жыцьці й душпастырскай дзейнасьці. Ад 1923 г. знаходзіўся ў канфлікце з польскім урадам, у 1925 г. адышоў ад кіраўніцтва дыяцэзіяй.

[239] **Антон Зянкевіч** (1888–1949), рыма-каталіцкі сьвятар, доктар тэалёгіі, культурны дзеяч. Падчас вучобы ў Віленскай духоўнай сэмінарыі ўключыўся ў беларускі нацыянальна-рэлігійны рух. Пасьвячоны ў сьвятары ў 1911 г. Ад 1917 г. працаваў у Дзісенскім дэканаце, дзе з пачатку сваёй духоўнай працы зьвяртаўся да вернікаў зь беларускімі казанямі. Ад 1924 г. — дэкан і пробашч у Глыбоцкай парафіі.

*дэкан, Станкевіч Адам, дэпутат у сойм, Гадлеўскі Вінцэнт*[240] *у Жодзішках*[241]*, Шутовіч Віктар*[242] *у Барадзенічах*[243] *і іншыя. Усе яны засяродзілі сваю падрыўную дзейнасьць у кляштары аа. марыянаў пад кіраўніцтвам супэрыёра Андрэя Цікоты. Гэтыя ксяндзы не вагаліся супрацоўнічаць з правадырамі грамадоўцаў, дэпутатамі: Мятлой*[244]*, Тарашкевічам*[245] *і Рак-Міхайлоўскім*[246]*. Заснавалі яны рэдакцыю “Беларускай Крыніцы” і інш. Пераклалі і выдалі шмат кніжак для народу, асабліва Бобіч, Зянкевіч і Станкевіч, заснавалі пры кляштары марыянаў у Друі польскую гімназію імя ‘караля Сьцяпана Батуры’, і ўся гэтая ‘суполка’ пачала навяртаць польскае насельніцтва (lud polski) на ‘беларусаў’ і ўніяцкі абрад”* (гл.: *X kan. J. Borodzicz, Kresy Polskie w niebezpieczeństwie, Wilno 1930, s. 28*). Каб ня тытул ксяндза і ка-

---

240 **Вінцэнт Гадлеўскі** (1888–1942), нацыянальны дзеяч, каталіцкі ксёндз. Адзін з заснавальнікаў і лідараў Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. У міжваенны час за беларускую нацыянальную дзейнасьць арыштоўваўся польскімі ўладамі. У другой палове 1930-х гг. быў выдаўцом і рэдактарам газеты “Беларускі фронт”. З пачаткам Другой сусьветнай вайны пераехаў у Коўна, ад чэрвеня 1940 г. — у Варшаве. Заснавальнік і ідэоляг Беларускай незалежніцкай партыі. Ад верасня 1941 г. у Менску, прызначаны галоўным школьным інспэктарам пры Генэральным камісарыяце Беларусі. Арыштаваны й расстраляны немцамі.

241 **Жодзішкі** — сёньня аграгарадок, цэнтар сельсавету ў Смаргонскім раёне Гарадзенскае вобласьці.

242 **Віктар Шутовіч** (1890–1960), рыма-каталіцкі сьвятар, пэдагог, публіцыст. Пасьвячоны ў сьвятары ў 1913 г. у Вільні. Быў вікарыем у парафіях Барадзенічы Браслаўскага павету, у польскай парафіі Тжцяннэ, у Харошчы пад Беластокам (да 1943 г.). Пасьля адступленьня немцаў пераехаў у Менск, дзе стаў пробашчам катэдральнага касьцёла. Арыштаваны бальшавікамі ў студзені 1945 г., да 1956 г. знаходзіўся ў лягерах Комі АССР. Апошнія гады быў пробашчам у Барысаве.

243 **Барадзенічы** — сёньня вёска ў Цяцеркаўскім сельсавеце Браслаўскага раёну Віцебскае вобласьці.

244 **Пятро Мятла** (1890–1936), грамадзка-палітычны й культурны дзеяч. У 1922–1927 гг. — дэпутат польскага сойму. Адзін са стваральнікаў і лідараў Беларускай сялянска-работніцкай грамады. У 1927 г. арыштаваны й зьняволены. У 1930 г. датэрмінова вызвалены, выехаў у БССР, дзе быў рэпрэсаваны.

245 **Браніслаў Тарашкевіч** (1892–1938), грамадзка-палітычны й культурна-асьветны дзеяч, аўтар “Беларускай граматыкі для школ”. У 1922–1927 гг. — пасол польскага сойму, у 1925–1927 гг. — старшыня Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ).

246 **Сымон Рак-Міхайлоўскі** (1885–1938), заходнебеларускі дзеяч, пасол польскага сойму (1922–1927), адзін зь лідараў Беларускай сялянска-работніцкай грамады. У 1927 г. арыштаваны й зьняволены. У 1930 г. датэрмінова вызвалены, выехаў у БССР, дзе быў рэпрэсаваны.

ноніка, дык можна было б падумаць, што гэта пісаньне чалавека, якому бракуе клёпкі. Аднак гэта ёсьць вымоўны дакумант свайго часу.

Вельмі востра выступілі супраць Усходнекаталіцкае царквы некаторыя польскія абшарнікі. На адным з сваіх зьездаў у Слоніме ў 1932 г. яны ўлажылі мэмарыял да віленскага біскупа Ялбжыкоўскага з просьбаю, каб ён хадайнічаў у Рыме забараніць айцом езуітам з Альбэртына[247] прапаведаваць усходні абрад і каб апеку над тымі, хто хоча перахадзіць у каталіцтва, было даручана сьвятаром лацінскага абраду.

На вялікі жаль, у ўнійнай працы з боку польскіх ерархаў, сьведама ці нясьведама, было зроблена шмат ня толькі памылак, але і фальшывых мерапрыемстваў. Айцы езуіты з Альбэртына, якія надавалі тон унійнай працы, былі настолькі загіпнатызаваныя сваім русафільствам, што нават у беларускай гушчы не хацелі бачыць беларусаў, а толькі расейцаў. Праўда, яны побач польскае і расейскае моваў крыху знаёміліся зь беларускаю моваю, але рэдка ёю карысталіся. Дзеля гэтага нават кс. Абрамовіч казаў ім: *"А можа таму ваша місійная праца ідзе як па груду. Што не гаворыце ўніятам навукаў у зразумелай ім беларускай мове"* (гл.: *Nowe formy Unii Kościelnej w Polsce. Słonim, 1932, s. 101*).

Толькі адзін а. Неманцэвіч сапраўды шчыра адносіўся да беларускага рэлігійнага пытаньня, але ягоныя зьверхнікі часта яму накідвалі сваю бязглуздую лінію. Напрыклад, падчас Трэцяй Унійнай Канфэрэнцыі ў Пінску па загаду супэрыёра а. Неманцэвіч мусіў перакладаць свой рэфэрат, напісаны ўжо па-беларуску, на польскую мову. Гэта дробны эпізод, але характэрны.

Наагул слушных і няслушных закідаў супраць айцоў езуітаў у Альбэртыне было столькі, што ігумен манастыра быў змушаны выдаць кніжку для свайго апраўданьня (гл.: *Ks. Włodzimierz Piątkiewicz, Prawda o Albertynie. Kraków, 1932*). Гэта было апраўданьне перад палякамі.

Бадай што найбольш яскравым выяўленьнем недарэчнасьці ўнійнае працы на Беларусі было тое, што нават Апостальскі Візытатар, уладыка Чарнэцкі — украінец, — навучыўся не беларускую, а расейскую мову і да беларусаў зьвяртаўся толькі па-расейску.

Калі да ўсяго вышэй пералічанага яшчэ дадаць розныя меркаваньні польскіх урадоўцаў аб іхняй *"рацыі стану"* і вынікаючыя з гэтага адміністрацыйныя тайныя і яўныя распараджэньні, дык будзе ясна, якая цяжкая атмасфэра ўтварылася вакол Усходнекаталіцкае царквы. Зразумела, ня ўсе палякі былі варожыя да яе. Але калі прыхільнікі Ўсходнекаталіцкае царквы адзываліся ў яе абароне, дык гэта выклікала

[247] **Альбярцін** — былое мястэчка пад Слонімам, сёньня адзін зь мікрараёнаў горада. У міжваенны час быў галоўным цэнтрам адраджэньня ў Беларусі царкоўнай уніі, бо ў мястэчку разьмясьцілася рэзыдэнцыя Ўсходняй місіі айцоў езуітаў.

яшчэ больш вострыя выступленьні ў прэсе яе ворагаў. Прытым выступалі ня толькі супраць нейкіх памылковых мерапрыемстваў, але супраць Усходнекаталіцкае Царквы наагул. Аб усіх гэтых выступленьнях у Рыме добра ведалі. Калі 22.VIII.1932 г. падляскі біскуп Пшэзьдзецкі быў на аўдыенцыі ў папы Пія XI[248], дык папа востра асудзіў усіх тых, хто словам і пяром выступае супраць унійнае працы, і двойчы сказаў: *"Тыя не каталікі, што выступаюць супраць унійнае працы"*, і дадаў: *"На жаль, у радох гэтых апошніх знайшліся такжа духоўныя"* (гл.: *Pamiętnik III Konferencji... s. 19*). На жаль, тыя, да каго гэтыя словы адносіліся, не хацелі слухаць, і супрацьунійныя выступленьні прэсы не спыніліся. Вядомы польскі гісторык Халецкі[249] стараўся знайсьці корань гэтага не [?! — А. Н.] у гістарычных прычынах: *"Яны закарэнены глыбока і якраз дзеля гэтага такія вострыя, бо маюць за сабою традыцыю шмат стагодзьдзяў"*. Але пры тым ён мусіў сьцьвердзіць: *"Атакі на Каталіцкую Царкву, на выдатных прадстаўнікоў польскага біскупства, а перадусім на сам Апостальскі Пасад яшчэ ніколі не былі такімі гвалтоўнымі"* (гл.: *Oskar Halecki, "U źródeł polskich uprzedzeń wobec akcji unijnej", Oriens, zeszyt 1, Kraków, styczeń-luty 1933, s. 8–10*).

У выступленьнях супраць унійнае акцыі часта ўспаміналася Камісія *"Pro Russia"*, бо яна кіравала гэтаю працаю. Ужо сама юрысдыкцыя гэтае камісіі да беларускіх і ўкраінскіх абшараў выклікала агульнае незадавальненьне, а некаторыя яе распараджэньні толькі апраўдвалі і пабольшвалі тое незадаволеньне. Ды як маглі быць задаволены, напрыклад, беларусы, калі па загаду тае камісіі беларускія айцы марыяне пасылаліся для працы між расейцаў у Харбіне, а айцы езуіты, якія так жадалі працаваць між расейцаў, аставаліся ў Альбэртыне?[250].

Пры тым для ажыўленьня ўнійнае працы камісія *"Pro Russia"* нічога канкрэтнага не зрабіла, а ў некаторых выпадках і зрабіць нічога не магла. Напрыклад, у Віленскай архідыяцэзіі ўжо ад 1928 г. мітр. Ялбжыкоўскі спыніў усякую ўнійную працу. Калі ж а. Гапановіч як архідыяцэзіяльны місянэр сабраў 22 заявы праваслаўных парахаў

[248] **Пій XI** (1857–1939), Папа Рымскі ў 1922–1939 гг.

[249] **Оскар Халецкі** (польск. *Halecki*; 1891–1973), польскі гісторык і палітык, прафэсар Варшаўскага ўнівэрсытэту. Займаўся сярод іншага сярэднявечнай гісторыяй Польшчы й Літвы.

[250] Харбінская місія сярод мясцовых расейцаў, якая актыўна праводзілася ў міжваенны пэрыяд Ватыканам, значна аслабляла беларускі патрыятычны элемэнт у Каталіцкай царкве на тэрыторыі Польшчы, паколькі сьвятары-беларусы, якіх і так было вельмі мала, высылаліся працаваць за тысячы кілямэтраў ад радзімы, фактычна трацячы пры гэтым магчымасьць рабіць нешта карыснае для ўласнага народу.

і вернікаў аб гатоўнасьці перайсьці ў Унію, дык архібіскуп Ялбжыкоўскі ня толькі што не прыняў, але і самога а. Гапановіча выслаў зь Вільні (гл.: *Ліст а. Гапановіча да Сьвяцейшага Айца. Архіў Экзархату*). Наагул ад 1932 г. у Віленскай архідыяцэзіі пачалася ліквідацыя лепшых пляцовак: Галамысьль[251], Мікалаева[252], Зэльвяны[253], Ільля[254], Паставы[255]. Затое моцна падтрымлівалі ўстанову кан. Бародзіча — маёнтак Мінойты, дзе пераводзілі праваслаўных у каталіцызм лацінскага абраду.

У Пінскай дыяцэзіі пасьля сьмерці біск. Лазінскага, калі атрымлівалі просьбы заснаваць дзе ўсходнекаталіцкую парахвію, дык туды пасылалі лацінскага сьвятара, каб намовіць людзей адразу перайсьці ў лацінскі абрад. Так было ў Возьніцы[256], Радзівіловічах[257] — людзі прапановы ня прынялі.

Усе гэтыя спрэчкі і замяшаньні патрабавалі ад Апостальскага Пасаду сказаць сваё слова. У Рым былі выкліканыя на 3–7 кастрычніка 1933 г. усе біскупы з Усх. Польшчы разам з Апостальскім Нунцыем біск. Мармаджы[258]. Усе яны пасьля гэтых доўгіх нарадаў былі на аўдыенцыі ў папы Пія XI. На нарадзе не было старшыні камісіі *“Pro Russia”* біск. Дэрбіны. Ён вясною мусіў перацярпець паважны скандал у зьвязку з сваім сакратаром а. Дойбнэрам, а ў часе нарады *“мусіў аставіць Рым, каб паддацца ‘паважнай апэрацыі’ ў Бруксэлі”*.

Дымісія біск. Дэрбіны з сакратарства ў камісіі *“Pro Russia”* адбілася галосным рэхам ува ўсёй эўрапэйскай прэсе. Калі нядаўна, у 1930 г., камісія *“Pro Russia”*, пашыраючы свае асьпірацыі, была аддзеленая ад Усходняй Кангрэгацыі, дык цяпер яе асьпірацыі і абсяг дзейнасьці пачалі зьмяншаць. У 1934 г. 29.XII яна была прыдзелена да Кангрэгацыі Надзвычайных Справаў і абсяг працы зьменшана толькі да Савецкага Саюзу і да лацінскага абраду.

---

251 **Галамысла (Галамысьль)** — сёньня вёска ў Завуцьцеўскім сельсавеце Мёрскага раёну Віцебскае вобласьці.

252 **Мікалаева** — відаць, маецца на ўвазе цяперашняя вёска ў Лелюкінскім сельсавеце Іўеўскага раёну Гарадзенскае вобласьці.

253 **Зэльвяны** — вёска, якая ў 1940-я гг. зьлілася з горадам Масты, сёньня раённым цэнтрам Гарадзенскае вобласьці.

254 **Ільля** — сёньня аграгарадок, цэнтар сельсавету ў Вялейскім раёне Менскае вобласьці.

255 **Паставы** — горад, цяпер раённы цэнтар Віцебскае вобласьці.

256 Магчыма, маецца на ўвазе вёска **Гвозьніца** — сёньня цэнтар сельсавету ў Маларыцкім раёне Берасьцейскае вобласьці.

257 Відаць, маюцца на ўвазе **Разьдзялавічы** — сёньня вёска ў складзе Хатыніцкага сельсавету Ганцавіцкага раёну Берасьцейскае вобласьці.

258 **Франчэска Мармаджы** (італ. *Marmaggi*; 1876–1949), кардынал, ватыканскі дыплямат. У 1928–1935 гг. быў апостальскім нунцыем у Польшчы.

Пасьля такіх паважных зьменаў у кіраўніцтве трэба было чакаць і зьменаў у інструкцыях адносна ўнійнае працы. І гэтыя інструкцыі зьявіліся 27.V.1937 г. (*Pro incenso studio*). У іх значна дапоўніліся папярэднія інструкцыі, але істотных зьменаў не было, бо і далей усходнекаталіцкія парахвіі пакідаліся ў юрысдыкцыі лацінскіх біскупаў. Толькі цяпер біскупы забавязаны назначыць генэральнага вікарага для ўсходнекаталіцкіх парахвіяў і прытым спаміж усходнекаталіцкага духавенства. Лацінскіх сьвятароў забавязана належна шанаваць усходні абрад. Біскупаў забавязана падбаць аб падрыхтоўцы ўсходнекаталіцкага духавенства. Усходнекаталіцкім сьвятаром загадвалася ў казаньнях і катэхізацыі карыстацца тою моваю, якою вернікі карыстаюцца ў штодзённым жыцьці.

Тое нямногае, што было новым у гэтай інструкцыі для тых парахвіяў, якія ўстаяліся да гэтага часу, магло выклікаць надзею на лепшую будучыню. Але якраз гэты мамэнт выклікаў з боку польскіх нацыяналістаў новую хвалю супрацьунійных выступленьняў.

З усяго вышэйсказанага можна бачыць ясна, чыім творам быў новаўнійны рух на Беларусі. Цяпер мо варта яшчэ пералічыць усе ўсходнекаталіцкія пляцоўкі на Беларусі, каб на канкрэтных фактах пабачыць, хто іх тварыў і хто нішчыў. Падаю сьпіс у альфабэтычным парадку.

1. Альбэртын к. Слоніма. Віленская архіеп. Пляцоўку адчынілі айцы езуіты ў 1924 г. на жаданьне з Рыму. Першымі сьвятарамі былі француз а. Францішак Буржуа[259] і беларус а. Антон Дуброўскі[260]. Але ўжо ў 1933 г. там было 55 чалавек: 9 айцоў, 8 братоў, 7 студэнтаў і 31 навіцыянтаў[261] — ажно 6 нацыянальнасьцяў. На жаль, дзеля іхняе агульнае арыентацыі на Расею, у іх расейская мова заняла ўпрывілеяванае мейсца. Хоць айцы мусілі вучыцца беларускае мовы, але рэдка ёю карысталіся. Таму што ў Альбэртыне надавалі агульны кірунак унійнай працы, дык на Альбэртын сыпалася найбольш нападаў з боку ўсіх ворагаў унійнае працы. На жаль, між шматлікіх

[259] **Шарль Буржуа** (фр. *Bourgeois*; 1887–1963), французскі каталіцкі сьвятар, які пры пераходзе ў усходні абрад прыняў імя Васіль. Нарадзіўся ў Парыжы. Быў першым нэаўніяцкім езуітам ня толькі ў Альбярціне, але й ва ўсёй Польшчы. Працаваў тут ад траўня 1924 г. да сьнежня 1925 г., выконваючы абавязкі кіраўніка місіі. Пра сваю працу напісаў успаміны й надрукаваў іх у газэце *"Études"* (№ 191. 1927). Пасьля заканчэньня сваёй місіі працаваў настаўнікам францускай мовы ў Празе, у Эстоніі, а ад 1950 г. жыў сярод рускіх эмігрантаў у Сан-Паўлу ў Бразыліі, дзе й памёр.

[260] **Антон Дуброўскі** (1896–1947), каталіцкі сьвятар усходняга абраду, тэоляг, прафэсар філязофіі, пэдагог і публіцыст. Арганізатар Усходняй місіі, адзін з ініцыятараў нэаўніяцкага руху ў Заходняй Беларусі.

[261] **Навіцыянты** — паслушнікі, асобы, якія праходзяць выпрабаваньні перад пастрыжэньнем у манаства.

зусім безпадстаўных і перакручаных фактаў для нападаў, было такжа нямала зусім слушных прычынаў для дакораў — гэта перадусім тое, што, жывучы і працуючы між беларусаў, альбэртынскія айцы мроілі аб Расеі. Толькі ў прытулку для дзяцей, дзе працавалі сёстры полькі, беларуская мова была ўпрывілеяваная.

На абшары альбэртынскага манастыра побач усходняй царквы пабудавана лацінскі касьцёл, а тамтэйшыя айцы і на пінскіх канфэрэнцыях і на старонках часапісу *"Oriens"*[262] няраз падымалі пытаньне: у якім абрадзе лепш весьці ўнійную працу. Хоць адказвалі рашуча ў абарону ўсх. абраду, усё гэта падрывала давер з боку насельніцтва да іхняе шчырасьці адносна ўсходняга каталіцтва.

2. Альпень[263]. Пінская епархія. Вернікі, незадаволеныя парахам у Велямічах[264], злажылі ў 1926 г. просьбу біскупу Лазінскаму і хутка атрымалі ўсходнекаталіцкага параха, а. Вячаслава Аношку. Ён адразу ахвярна ўзяўся за арганізацыю парахвіяльнага жыцьця і будову новае царквы, якую пасьвячана ў 1928 г. Актыўная праца гэтага шчырага беларускага сьвятара мела вялікі ўплыў на ваколічныя вёскі і таму хутка ўтварылася філія ў Марылінскіх хутарах[265]; але затое гэтая праца моцна не падабалася польскай адміністрацыі і паліцыя рабіла розныя перашкоды.

3. Бабровічы[266]. Пінская епархія. Вясною 1925 г. вернікі з уласнага пачыну злажылі просьбу біскупу Лазінскаму, каб заснаваць у сябе ўсходнекаталіцкую парахвію. У вёсцы была толькі старая невялічкая капліца. Для інфармацыі восеньню прыехаў супэрыёр з Альбэртына а. Буржуа, адправіў Сл[ужбу] Божую і абяцаў пастарацца, каб хутка туды прыехаў сьвятар настала. Аднак замест сталага сьвятара яшчэ некалькі разоў прыяжджалі аднаразова іншыя айцы, і толькі ў студзені 1926 г. прыехаў а. Раман Шчэсновіч, назначаны туды парахам. Ён перайшоў з праваслаўя толькі 25.VIII.1925 г. і, на жаль, паводзіўся так, што яго хутка трэба было пераносіць. На яго месца 4.VI

262 ***"Oriens"*** — польскамоўны двухмесячны часопіс, створаны для прапаганды у Польшчы нэауніі. Выдаваўся ў 1933–1939 гг. спачатку ў Кракаве, а пасьля ў Варшаве пад рэдакцыяй езуіта Яна Урбана.

263 **Альпень** — сёньня вёска ў Веляміцкім сельсавеце Столінскага раёну Берасьцейскае вобласьці.

264 **Велямічы** — сёньня вёска, цэнтар сельсавету ў Столінскім раёне Берасьцейскае вобласьці.

265 Маюцца на ўвазе **Мэрлінскія хутары (Мэрлін)**, разьмешчаныя ў Альманскіх балотах. Цяпер вёска не існуе, паколькі была ліквідаваная падчас будаўніцтва савецкага вайсковага аэрадрому ў пачатку 1960-х гг., жыхары пераселеныя ў іншыя населеныя пункты.

266 **Бабровічы** — сёньня вёска ў Выганашчанскім сельсавеце Івацэвіцкага раёну Берасьцейскае вобласьці.

прыслалі а. Шымкевіча[267], але і ён пабыў тут усяго 3 месяцы. Нарэшце 17.IX.1926 г. прыслалі нядаўна высьвячанага а. Браніслава [Баляслава. — А. Н.] Пачопку, беларускага рэлігійнага дзеяча. Парахвіяльнае жыцьцё пачало крыху разьвівацца. У 1932 г. выбудавана новую царкву. Вернікаў было 953 у Бабровічах і суседніх вёсках.

4. Бубель[268]. Падляская епархія. Парахвія заснаваная на просьбу часткі парахвіян у 1925 г., але хутка польская адміністрацыя запячатала парахвіяльную царкву. Лік вернікаў зьменшыўся, паўсталі сваркі з праваслаўнымі, але парахвія прадаўжала існаваць. Багаслужэньні адпраўляліся ў лацінскім касьцёле ў Янаве[269]. У 1938 г. царкву разабрала польская адміністрацыя[270].

5. Быцень[271]. Віленская мітр. Вернікі з уласнага пачыну злажылі ў 1932 г. просьбу ў Вільню, каб ім прыслалі ўсходнекаталіцкага сьвятара, але мітр. Ялбжыкоўскі на просьбу доўга не адказваў і частка вернікаў зьнеахвоцілася, але паслала новую просьбу і гэтым разам 7.VII.1936 г. (аж чатыры гады пасьля першае просьбы) адчынена парахвія, але ня ў быўшай уніяцкай цакве, ані ў быўшым манастыры, але ў маленькай капліцы.

6. Вільня. Усходнекаталіцкая парахвія была адчыненая ў 1925 г. у пааўгустынскай царкве, і ўвесь час вялася ў чыста расейскім духу. Там некаторы час працаваў архімандрыт Марозаў[272]. Па яго адступ-

---

[267] **Зянон Шымкевіч** (1896—?), каталіцкі сьвятар, паходзіў зь Вялейкі. У сярэдзіне 1923 г. прыняў усходні абрад, служыў у шматлікіх парафіях на Палесьсі — звычайна нядоўгія тэрміны. У 1926 г. быў сьвятаром парафіі ў Бабровічах, у 1933–1934 — у Збуражы, затым у Любяшоўскім манастыры капуцынаў, ад 1938 г. — у Гарадной. Адразу пасьля Другой сусьветнай вайны быў сьвятаром у сяле Мэдыка Перамыскага павету, далейшы лёс невядомы.

[268] Маецца на ўвазе вёска **Стары Бубэль** (польск. *Stary Bubel*) — сёньня у складзе Янава-Падляскай гміны Бяла-Падляскага павету Люблінскага ваяводзтва Польшчы.

[269] Маецца на ўвазе вёска **Янаў-Падляскі** (польск. *Janów Podlaski*) — сёньня цэнтар гміны ў Бяла-Падляскім павеце Люблінскага ваяводзтва Польшчы.

[270] Дадзены акт адбыўся ў рамках кампаніі па руйнаваньні праваслаўных цэркваў на Холмшчыне й Паўднёвым Падляшшы, якая праводзілася ў траўні — ліпені 1938 г. у рамках больш шырокай палянізацыйна-рэвіндыкацыйнай кампаніі. Падчас яе, паводле зьвестак Люблінскай ваяводзкай управы, была зьнішчана 91 царква, 10 капліцаў, 26 малітоўных дамоў, усяго 127 храмаў. Акрамя таго, 3 царквы былі перададзеныя Каталіцкаму касьцёлу.

[271] **Быцень** — сёньня аграгарадок, цэнтар сельсавету ў Івацэвіцкім раёне Берасьцейскае вобласьці.

[272] **Філіп Марозаў** (сьвецкае імя Павел; 1890 — пасьля 1944), праваслаўны сьвятар, архімандрыт, рэлігійны й грамадзкі дзеяч. Паходзіў

стве, у 1929 г., парахвію пераняли айцы езуіты і далей вялі працу ў расейскім духу.

7. Гародна[273] Пінскае епархіі. Гэта парахвія для ўкраінскіх каланістаў з Галіцыі[274]. Аб ёй дакладней...[275].

8. Галамысьль. Віленская мітр. Парахвія мела быць адчынена на просьбу часткі парахвіян у 1928 г., але мітр. Ялбжыкоўскі ніколі не прыслаў туды параха, паручыўшы апеку над вернікамі лацінскаму параху зь Дзісны[276]. Вернікі туды не пайшлі і парахвія зьліквідавана ў 1932 г.

9. Галя[277] Падляскае епархіі. Там была вельмі жывой традыцыя старое Уніі і на просьбу вернікаў адчынена ўсходнекаталіцкую парахвію ў 1924 г. Парах, а. Мікалай Галас[278], добра і бязьзьменна вёў працу да свае сьмерці ў 1943 г. Вернікаў было 1863.

---

з расейскай праваслаўнай сям'і. Да 1921 г. — выкладчык Холмскай духоўнай сэмінарыі, пасьля быў пераведзены ў Віленскую епархіяльную сэмінарыю. У 1922 г. прызначаны выконваць абавязкі настаяцеля Віленскага Сьвята-Траецкага манастыра. У 1925 г. прыняў каталіцкае веравызнаньне ўсходняга абраду. У студзені 1927 г. вярнуўся да праваслаўя. Матэрыяльна падтрымліваў выданьне беларускага рэлігійнага часопіса "Сьветач Беларусі". У гады Другой сусьветнай вайны знаходзіўся ў Жыровіцкім манастыры. Арыштаваны ў 1944 г. савецкімі органамі дзяржаўнай бясьпекі, дата, месца й акалічнасьці сьмерці невядомыя.

273 Маецца на ўвазе **Гарадная** — сёньня вёска, цэнтар сельсавету ў Столінскім раёне Берасьцейскае вобласьці.

274 Перасяленцы з Усходняй Галічыны зьявіліся ў Гараднай у сярэдзіне 1920-х гг., падчас правядзеньня распродажу ў адпаведнасьці з законам, прынятым польскім соймам 17 сьнежня 1920 г., земляў, якія да таго часу належалі Багдану Казімеру Майжашовічу, жыхару горада Куты ва Ўсходняй Галічыне. У выніку ў 1938 г. грэка-каталіцкая абшчына Гараднай, у якую ўваходзілі пераважна перасяленцы-украінцы, складалася з прыблізна 380 чалавек.

275 На жаль, падрабязнага выкладаньня службы Льва Гарошкі ў Гараднай ва ўспамінах няма, тэкст абрываецца.

276 **Дзісна** — горад, у той час цэнтар павету, сёньня у складзе Мёрскага раёну Віцебскае вобласьці.

277 Маецца на ўвазе вёска **Голя** (польск. *Hola*) — сёньня ў складзе Старабрускай гміны Ўладаўскага павету Люблінскага ваяводзтва Польшчы.

278 **Мікалай Галас** (?—1943), сьвятар усходняга абраду, паходзіў з Гуцульшчыны. У 1914 г. пасьвячоны ў сьвятары паводле праваслаўнага абраду. У часы Першай сусьветнай вайны быў капэлянам расейскіх і ўкраінскіх войскаў. Перайшоў у каталіцтва каля 1923 г. Быў сьвятаром у Голі ў 1924–1935 гг., у Плосках у 1935–1938 і 1939–1941 гг., у Кастамлотах у 1938 г. З парафіі ў Плосках быў выгнаны праваслаўнымі ўкраінцамі. Памёр пасьля зьбіцьця, зробленага "невядомымі".

10. Дакудова[279] Падляскае епархіі. Вернікі яшчэ добра памяталі, як іх сіламоц перапісалі на праваслаўе ў 1875 г. і таму адразу пасьля вайны ў 1923 г. некалькі разоў прасілі Падляскага біскупа прыслаць ім усходнекаталіцкага сьвятара, але дзеля нястачы духавенства іхнюю просьбу здаволілі толькі ў 1928 г. У міжчасе шмат вернікаў зьнеахвоцілася, засталося толькі 300.

11. Далятычы Пінскай епархіі. Аб гэтай беларускай парахвіі, заснаванай на просьбу вернікаў у 1926 г., ужо ўспаміналася перш на ст. ...[280].

12. Забалоцьце[281] Падляскае епархіі. Гэтая невялікая парахвія — усяго 100 чалавек, — адчынена ў 1926 г.

13. Зарэчча[282]. Пінская епархія. Уласьціва гэта жаночы манастыр новапаўсталае ў Галіцыі кангрэгацыі Місіянэрак Марыі[283], якія мелі працаваць для Уніі. Для іх украінскі сьвятар а. Зэнон Калэнюк[284] купіў абток на Прыпяці і ў 1932 г. там афіцыяльна адчынена парахвія.

14. Збураж[285]. Пінская епархія. Парахвію адчынена ў 1932 г. на просьбу групы вернікаў. Аб ёй будзе гаварыцца на ст. ...[286].

---

279 Маецца на ўвазе вёска **Дакудаў-Першы** (польск. *Dokudów Pierwszy*) — сёньня ў складзе Бяла-Падляскай гміны Бяла-Падляскага павету Люблінскага ваяводзтва Польшчы.

280 Так у арыгінале.

281 **Забалоцьце** — сёньня вёска **Заблоце** (польск. *Zabłocie*) у складзе Кодэньскай гміны Бяла-Падляскага павету Люблінскага ваяводзтва Польшчы.

282 Грэка-каталіцкі жаночы манастыр у **Зарэччы** ўзьнік каля вёскі Церабень — сёньня Лемяшэвіцкі сельсавет Пінскага раёну Берасьцейскае вобласьці. Манастыр месьціўся на востраве сярод ракі Струмень. Пасьля вайны на гэтым востраве сталі здабываць пясок, у выніку чаго ўтварыўся кар'ер, які зь цягам часу запоўніла вада.

283 **Задзіночаньне Сясьцёр Дзяцей Марыі** — манаская жаночая кангрэгацыя, створаная адмыслова дзеля працы ў Пінскай дыяцэзіі. Пасьля Другой сусьветнай вайны сёстры збольшага вярнуліся на радзіму ў Галічыну, але некалькі засталіся працаваць пры Пінскім катэдральным саборы. Апошняя з манахіняў, якія засталіся, памерла ў 1980-я гг.

284 **Зянон Калянюк** (1887–1979), грэка-каталіцкі сьвятар-місіянэр, выхадзец з Усходняй Галічыны. Скончыў Рускі калегіюм у Рыме, пасьвячоны ў сьвятары ў 1911 г. У 1911–1928 гг. служыў у розных галіцкіх парафіях, у 1929 г. перайшоў у Пінскую дыяцэзію, арганізоўваў у розных яе мясцовасьцях нэаўніяцкія парафіі, зьяўляючыся сакратаром усходняга аддзелу дыяцэзіі. Пасьля Другой сусьветнай вайны й ліквідацыі камуністамі Грэка-каталіцкай царквы быў прадстаўніком мітрапаліта Ёсіфа Сьліпога ў Прыкарпацьці, арганізаваўшы патаемны прыход у Сколеўскім раёне.

285 **Збураж** — сёньня вёска ў Маларыцкім сельсавеце Маларыцкага раёну Берасьцейскае вобласьці.

286 Падрабязнае выкладаньне службы Лява Гарошкі ў Збуражы ва ўспамінах адсутнічае.

15. Зэльвяны. Віленская мітр. Парахвію адчынена на просьбу вернікаў у 1928 г., але ад 1932 г. туды больш не пасылалі параха. Парахвію зачынілі.

16. Ільля Віленскае мітр. На просьбу невялікае групы вернікаў парахвію адчынена ў 1929 г., але хутка параха перанесена ў Вільню, а парахвію зьліквідавана.

17. Кастамлоты[287] Падляскае епархіі. Вернікаў сіламоц перапісана на праваслаўных у 1875 г. Царкву перадалі каталікам толькі ў студні 1927 г. і адразу адчынена ўсходнекаталіцкую парахвію. Вернікаў было ўсяго 180. За царкву ўзьняліся спрэчкі. Калі пасьля вайны царкву ў Кастамлотах прыпісана да Кабылянскае парахвіі, вернікі былі моцна незадаволеныя і прасілі царкоўныя ўлады аднавіць парахвію, але дарма. Тады зьвярнуліся да біск. Пшэзьдзецкага.

18. Кіявец[288] Падляскае епархіі. Невялікая група вернікаў у 1925 г. папрасіла ўсходнекаталіцкага сьвятара. Часам прыяжджалі да іх сьвятары і правілі багаслужэньні, але парахвіі не было.

19. Карэнь[289] Падляскае епархіі. Тут Унію скасавана ў 1874 г., але вернікі не прызналі акту касаты, хоць маскоўскія жаўнеры жорстка катавалі іх за "ўпорства". Потым найбольш стойкіх адправілі ў берасьцейскую турму і адчынена праваслаўную царкву, у якую даўжэйшы час людзі не хадзілі. Дзякучы стараньням айцоў аблятаў усходнекаталіцкую парахвію адчынена ў 1933 г.

20. Колкі[290] Пінскае епархіі. Гэта вёска прыналежная да парахвіі Марылінскія Хутары. Там айцы студыты[291] хацелі адчыніць філіяльную царкву і навазілі ўжо дрэва, але Століскі стараста ня даў дазволу на будову. У зьвязку з гэтым нават непрыхільны да Уніі Язэп Мацкевіч[292]

[287] **Кастамлоты** (польск. *Kostomłoty*) — сёньня вёска ў складзе Кодэньскай гміны Бяла-Падляскага павету Люблінскага ваяводзтва Польшчы. Адзінае ў сьвеце месца, дзе нэаўніяцкая парафія Сьв. Мікіты існуе дагэтуль (да яе належаць каля 120 вернікаў).

[288] **Кіявец** (польск. *Kijewiec*) — сёньня вёска ў складзе Залескай гміны Бяла-Падляскага павету Люблінскага ваяводзтва Польшчы.

[289] Відаць, маецца на ўвазе **Кодэнь** (польск. *Kodeń*) — сёньня цэнтар гміны ў Бяла-Падляскім павеце Люблінскага ваяводзтва Польшчы.

[290] Вёска не існуе, бо была ліквідаваная разам з Мэрлінскімі хутарамі падчас будаўніцтва савецкага вайсковага аэрадрому ў пачатку 1960-х гг., жыхары пераселеныя ў іншыя населеныя пункты.

[291] **Студыты**, ці манахі Студыцкага статуту (лац. *Monachi e Regula Studitarum*) — манаскае аб'яднаньне ў складзе Ўкраінскай грэка-каталіцкай царквы, чальцы якога жывуць паводле Студыцкага статуту, распрацаванага ў IX ст. Феадорам Студытам..

[292] **Юзаф Мацкевіч** (польск. *Mackiewicz*; 1902–1985), польскі пісьменьнік і публіцыст.

пісаў у Віленскім *"Słowie"*[293]. Рабілі інтэрвэнцыю ў Берасьці і нават у Варшаве, але безь ніякага выніку — нават не было адказу на ліст.

21. Косьная[294] Пінскае епархіі. Усходнекаталіцкую парахвію адчынена на просьбу жыхароў усяе вёскі — каля 1000 — у 1928 г. Хоць двойчы парахі мяняліся, але парахвія ўстоялася. У казаньнях і катэхізацыі ўжывалася расейская [мова].

22. Курашэва[295] Пінскай епархіі. Вясною 1925 г. вернікі прасілі прыслаць ім усходнекаталіцкага сьвятара. Прыслалі ім а. Спытэцкага[296], быўшага манаха з Пачаеўскае лаўры[297], які сваімі паводзінамі адстрашыў людзей так, што амаль уся парахвія адпала і судом царкву передана назад праваслаўным. Тады на мейсца а. Спытэцкага прыслалі а. Мільлера[298], а потым а. Ржэцкага[299]. Яны абодва нават трапілі пад суд. Гэта вернікаў зусім адстрашыла і ад 1932 г. парахвія была ў стадыі ліквідацыі, хоць туды яшчэ ў 1935 г. прыслалі а. Паньку.

23. Любяшоў[300] Пінскае епархіі. Тут знаходзіліся руіны манастыра айцоў капуцынаў. Дзякуючы стараньням галяндзкае капуцынскае правінцыі сюды прыехала ў 1933 г. некалькі айцоў усходняга абраду і па двох гадох цяжкае і ахвярнае працы манастыр і царква былі адрамантаваныя і ў 1935 г. урачыста пасьвячаны.

---

293 ***"Słowo"*** — польская газэта кансэрватыўнага кірунку, якая выдавалася ў Вільні ў 1921–1939 гг.

294 **Косьна** (польск. *Kośna*) — сёньня вёска ў Кляшчэльскай гміне Гайнаўскага павету Беластоцкага ваяводзтва Польшчы.

295 **Курашава** (польск. *Kuraszewo*) — сёньня вёска ў Чыжоўскай гміне Гайнаўскага павету Беластоцкага ваяводзтва Польшчы.

296 **Сяргей Спытэцкі** (1877–1963), праваслаўны, а пасьля грэка-каталіцкі сьвятар, нараджэнец Бярдзянску. Высьвячаны на праваслаўнага сьвятара ў 1904 г., працаваў у Пінскай япархіі. У сакавіку 1924 г. прыняў каталіцтва ўсходняга абраду. Працаваў у шматлікіх парафіях Падляскай дыяцэзіі: Стары Паўлаў, Бубэль, Дакудаў, Тэрэспаль, Кастамлоты, Бяла-Падляска, — нідзе не затрымліваючыся надоўга. Увесь пасьляваенны час да самай сьмерці жыў у доме ксяндзоў-пэнсіянэраў у Седльцах.

297 **Сьвята-Ўсьпенская Пачаеўская лаўра** — найбуйнейшы праваслаўны манастыр у Заходняй Украіне, знаходзіцца ў Пачаеве сёньняшняй Цярнопальскай вобласьці (у міжваенны час Валынскага ваяводзтва).

298 Магчыма, маецца на ўвазе **Лявонцій Мілер**, ведамы як заснавальнік нэаўніяцкай парафіі ў Любяшове.

299 Магчыма, маецца на ўвазе а. **Юрый Ржэцкі**, які ў 1939 г. жыў у Далятычах. Таксама ведама, што ў 1931–1932 гг. курашаўскую праваслаўную парафію ачольваў **а. Канстанцін Ржэцкі** — магчыма, гаворка ідзе пра яго.

300 **Любяшоў** (укр. *Любешів*) — сёньня горад, раённы цэнтар у Валынскай вобласьці Ўкраіны.

У тым жа годзе айцы капуцыны адчынілі малую сэмінарыю, у якую адразу запісалася 28 хлапцоў. Такая праца вельмі не спадабалася палескаму ваяводзе Костэк-Бэрнацкаму. Па ягонаму загаду супэрыёр манастыра а. Кірыл з Тэрнэзіі[301] мусіў пакінуць Любяшоў і асяліўся ў Любліне, і па загаду таго ж ваяводы неабходна было або зачыніць, або перанесьці куды малую сэмінарыю — яе перанесена ў Ломжу[302].

24. Марылінскія Хутары Пінскае епархіі. Там, карыстаючы з распродажы маёнткаў, пасялілася некалькі сот украінцаў з Галіцыі. Да іх часта прыяжджаў а. Аношка з Альпеня. Дзякуючы яго стараньням выбудавана парахвіяльны дом і ў 1931 г. прыслана туды ўкраінскіх айцоў студытаў і перадана гэтую пляцоўку іхняй апецы. У 1932 г. афіцыяльна адчынена парахвію. На жаль, парахі вельмі часта мяняліся — гэта адбівалася шкодна на парахвіяльным жыцьці. Але яшчэ больш шкодна адбіваліся прыдзірствы школьнае адміністрацыі. Дзеля гэтых прыдзірстваў немагчыма было адчыніць філію ў в. Колкі, хоць там было даволі вернікаў.

25. Мікалаева Віленскае мітрап. Гл. Галамысьль.

26. Обрава (Аброва)[303] Пінскае епархіі. У канцы 1932 г. сяляне злажылі просьбу да Пінскага біскупа, каб ім прыслалі ўсходнекаталіцкага сьвятара. Па загаду біскупа а. Пачопка адправіў там Службу Божую на пачатку студзеня 1933 г., але на гэтым справа скончылася. Сьвятара туды не прыслалі.

27. Паставы Віленскай мітрап. На просьбу вернікаў прыслаць усходнекаталіцкага сьвятара мітр. Ялбжыкоўскі доўгі час не прысылаў нікога. Потым на кароткі час прыехаў а. Шыманскі[304], а ў 1932 г. парахвію зьліквідавалі.

---

301 Маецца на ўвазе **Эдуард** (манаскае імя **Гондульф**, ад 1931 г. **Кірыл**) **Фэрмонт** (фр. *Fermont*; 1988–1963), нараджэнец Тэрнаўзэна ў паўночна-заходняй Галяндыі. Уступіў у ордэн капуцынаў у 1906 г., быў чальцом Нідэрляндзкай правінцыі братоў капуцынаў-меншых. Вучыўся ў Папскім біблійным інстытуце ў Рыме, працаваў місіянэрам на востраве Суматра. У 1920–1926 гг. выкладаў біблійныя мовы ў Люблінскім каталіцкім унівэрсытэце. У 1927 г. перайшоў ва ўсходні абрад, у 1932 г. стаў протаігуменам Любяшоўскага манастыра, адначасова выкладаючы ў духоўнай сэмінарыі ў Пінску. У 1940 г. арыштаваны немцамі, але вызвалены як грамадзянін нэўтральнай краіны, пасьля хаваўся да канца вайны. У 1945–1949 гг. быў дэканам тэалягічнага факультэту Люблінскага каталіцкага ўнівэрсытэту, пасьля вярнуўся на радзіму.

302 **Ломжа** — горад у Польшчы, сёньня складае гарадзкі павет у Падляскім ваяводзтве.

303 **Аброва** — сёньня аграгарадок, цэнтар сельсавету ў Івацэвіцкім раёне Берасьцейскае вобласьці.

304 Магчыма, маецца на ўвазе Зянон Шымкевіч.

28. Радзівілавічы[305] Пінскае епархіі. Там была старая павуніяцкая зачыненая царква, а вёска прыпісаная да Хаценіцкае царквы[306]. Незадаволеныя з гэтага сяляне на пачатку 1935 г. злажылі Пінскаму біскупу Букрабе просьбу прыслаць ім усходнекаталіцкага сьвятара, але біскуп адказаў, што *няма каго* прыслаць туды.

29. Стаўпцы[307] Пінскае епархіі. Парахвія адчыненая ў 1930 г. Аб ёй шмат гаворыцца на ст. ...[308].

30. Сынкавічы[309] Віленскае мітрап. Калі ў 1921 г. быўшую павуніяцкую царкву забралі ад праваслаўных і перадалі каталікам лацінскага абраду, распачаўся рух між вернікаў — каля 200 чалавек — аднавіць Унію. На іх стараньні ў 1926 г. адчынена ўсходнекаталіцкую парахвію. Абедзьве карыстаюцца адной царквою.

31. Сьвіслач[310] Віленскай мітрап. Вернікі доўгі час прасілі ўсходнекаталіцкага сьвятара і афіцыяльна ў 1931 г. была адчынена парахвія, але аж да 1939 г. параха ня мела.

32. Таракані Пінскае епархіі. Там была прыгожая мураваная пабазыліянская царква з XVIII ст., якую ў 1921 г. вернена каталікам, але лацінскага абраду. Незадаволеныя такою пераменаю вернікі зьвярнуліся да Пінскага біск. Лазінскага, каб заснаваць усходнекаталіцкую парахвію і пераняць сабе царкву. Іхнюю просьбу задаволена і ў 1925 г. утворана парахвію, але, на жаль, першыя тры парахі адстрашылі частку вернікаў. У 1932 г. іх асталося ўсяго 250, і тады назначана а. Даната Навіцкага, паляка, які нядаўна вярнуўся з Савецкага Саюзу. Ён парахвіяльнае жыцьцё значна ажывіў, але пачаў уводзіць палянізацыю. Аднак міма гэтага польская адміністрацыя была вельмі незадаволеная зь яго і ў 1935 г. забараніла яму выкладаць рэлігію ў школе, а тым дзецям, якія хадзілі на выклады ў дом а. Навіцкага, настаўнікі заніжалі паводзіны ў школе. Стараньні ў Берасьці і нават у Варшаве атрымаць дазвол на выклады рэлігіі асталіся безь ніякіх вынікаў.

33. Тэрэсполь над Бугам[311] Падляскай епархіі. Калі паўніяцкую царкву ў 1918 г. вернена каталікам лацінскага абраду, паўстала думка

305 На самай справе Разьдзялавічы.

306 Відаць, маецца царква ў вёсцы **Хатынічы** — сёньня цэнтар сельсавету ў Ганцавіцкім раёне Берасьцейскае вобласьці.

307 **Стоўбцы** — сёньня горад, раённы цэнтар у Менскай вобласьці.

308 Падрабязнае апісаньне жыцьця Стаўпецкай парафіі ва ўспамінах адсутнічае.

309 **Сынковічы** — сёньня вёска, цэнтар сельсавету ў Зэльвенскім раёне Гарадзенскае вобласьці.

310 **Сьвіслач** — сёньня горад, раённы цэнтар Гарадзенскае вобласьці.

311 **Тэрэспаль** (польск. *Terespol*) — сёньня горад у Бяла-Падляскім павеце Люблінскага ваяводзтва Польшчы, на самай мяжы зь Беларусьсю.

аднавіць усходнекаталіцкую парахвію, але гэта сталася толькі ў 1926 г. Парахам ад 1927 г. быў а. Аркадзь Нікольскі[312] — ён бязьзьменна працаваў тут аж да свае сьмерці ў 1938 г.

34. Угрынічы[313] Пінскае епархіі. Гэта была філія Любяшоўскае ўсходнекаталіцкае парахвіі і мая першая душпастырская пляцоўка. Аб ёй будзе гутарка пазьней на стар. ...

35. Фасты[314] Віленскае мітрап. Парахвія заснаваная ў 1928 г., але першы парах адстрашыў людзей. Потым яго замяніў а. Гапановіч. Праца вялася ў расейскім духу.

У 1937 г., калі я рыхтаваўся да сьвятарства, з гэтых 35 пляцовак 9 ужо не існавала, а некаторыя [былі] у стане ліквідацыі. Падчас Унійнае Канфэрэнцыі ў Пінску стараліся нават не ўспамінаць аб перашкодах, якія робіць польская адміністрацыя. Выглядала так, што біскупы зусім ня думаюць падымаць свайго голасу ў абароне ўсходнекаталіцкіх парахвіяў, хоць зьяўляюцца іхнімі ардынарыямі. Горш таго, мітр. Ялбжыкоўскі быў выразна непрыхільны да ўсяе ўнійнае працы. У яго архідыяцэзіі ўсякімі спосабамі перацягвалі ў каталіцызм лацінскага абраду: канонік Любянец стварыў у Мінойтах цэнтар гэтага перацягненьня. Пралат В. Мэйштовіч у сваёй кнізе, выданай у Ватыкане ў 1944 г., хваліцца, што ў Віленскай мітрап. перайшло ў лацінскі абрад 60 000 праваслаўных. І гэты ж пралат усходні каталіцызм называе “пераходнаю формаю” (гл.: *Mgr. Walerian Meysztowicz, L’Église catholique en Pologne entre les deux guerres. Vatican, 1944, p. 69*).

Праваслаўная царква ў Польшчы такжа не была чымсьці сталым. Абвешчаная 17.IX.1925 г. Аўтакефальная Праваслаўная царква ў Польшчы[315] паволі ператваралася ў Праваслаўную Польскую царк-

312 **Аркадзь Нікольскі** (?—1938), да 1927 г. праваслаўны сьвятар, працаваў у Бабічах і Кабылянах на Паўднёвым Падляшшы. У 1927 г. перайшоў у унію, пасьля чаго да самай сьмерці працаваў у Тэрэспалі.

313 **Угрынічы** (укр. *Угриничі*) — сёньня сяло ў Любяшоўскім раёне Валынскай вобласьці Ўкраіны.

314 **Фасты** (польск. *Fasty*) — сёньня вёска ў складзе Дабрынёўскай гміны Беластоцкага павету Беластоцкага ваяводзтва Польшчы.

315 **Польская аўтакефальная праваслаўная царква** — адна з кананічных праваслаўных цэркваў, якая ахоплівае сваёй юрысдыкцыяй усе праваслаўныя прыходы, што месьцяцца на тэрыторыі Польшчы. Афіцыйна аўтакефалія Праваслаўнай царкве ў Польшчы была нададзена канстантынопальскім патрыярхам 13 лістапада 1924 г. Хоць Маскоўскі патрыярхат, а таксама пэўная частка ярархіі й простых сьвятароў тады не прызналі гэтага акту, фактычна аўтакефалія была праведзена ў жыццё, а ў 1948 г. атрымала прызнаньне й з боку Масквы. Ініцыятарамі абвяшчэньня аўтакефаліі Праваслаўнай царквы ў Польшчы фактычна выступілі польскія сьвецкія ўлады, якія разьлічвалі такім чынам падпарадкаваць сабе ўсю царкоўную ярархію ды зрабіць Праваслаўную царкву

ву і ад 1935 г. вялася акцыя тварэньня “праваслаўных палякаў”[316]. Праваслаўная ерархія і духавенства былі бясьсільныя. На Палесьсі па загаду ваяводы Костэк-Бярнацкага ў школах усіх праваслаўных пазапісвана палякамі і ніхто, ні адна жывая душа, не запратэставала супраць такога самавольства. У іншых ваяводзтвах гэтая акцыя праводзілася больш асьцярожна, але яна вялася ўсюды. Перад праваслаўнымі беларусамі паўставалі цёмныя пэрспэктывы: як Праваслаўная царква не была абаронцаю перад русыфікацыяю, так яна не магла быць абаронцаю перад палянізацыяю.

Таму, хоць мне было цяжка і прыкра пазнаць усе тыя цяжкасьці, у якіх знаходзіцца ўнійная праца, бачыць сумны стан некаторых усходнекаталіцкіх парахвіяў, але мне было ясна, што на Беларусі ідзе жорсткае змаганьне за душу беларускага народу і ў гэтым змаганьні толькі Ўсходнекаталіцкая царква, нягледзячы на ўсе напады польскае адміністрацыі можа нам працягнуць руку помачы з Апостальскага Пасаду. У гэткім духу я адпраўляў мае рэкалекцыі перад сьвятарскім сьвячаньнем.

## Перад аўтаром

Зборы ў дарогу былі невялікія, і 23-га верасьня я ўжо ехаў у Львоў. Перш-наперш заехаў у Акадэмію, каб там прыпыніцца на час сьвячаньня. Рэктар Акадэміі а. Іосіф Сьліпый прыняў мяне, як свайго ўзгадаванца, вельмі гасьцінна, і хоць Акадэмія была перапоўнена, прызначыў мне асобны пакой.

Адразу з Акадэміі я пасьпяшыў у мітрапалічую палату. Мітрапаліт Андрэй Шэптыцкі прыняў мяне адразу — на ягоным абліччы сьвяцілася шчырая радасьць, калі чытаў ліст біскупа Букрабы. Гледзячы на мітрапаліта, не хацелася верыць, што ён моцна хворы.

інструмэнтам палянізацыі беларускага і ўкраінскага насельніцтва. У значнай ступені іх разьлікі апраўдаліся: большасьць праваслаўных сьвятароў паставіліся да аўтакефаліі й адпаведна да ўладаў ляяльна, у выніку ў 1930-я гг. ішла ўжо гаворка пра тое, каб богаслужбовай мовай у праваслаўных цэрквах зрабіць польскую, і там-сям гэтыя намеры нават актыўна праводзіліся ў жыцьцё.

316 Маецца на ўвазе стварэньне ў 1935 г. сэрыі грамадзкіх арганізацый пад назвай **Згуртаваньне праваслаўных палякаў** (*Stowarzyszenie Polaków Prawosławnych*). Такія арганізацыі ўзьніклі ў Беластоку, Гарадні, Вільні, Слоніме, Ваўкавыску, Навагрудку, у іх кіраўніцтве былі шырока прадстаўленыя праваслаўныя сьвятары і чыноўнікі праваслаўнага веравызнаньня. На правядзеньне дзейнасьці былі выдзеленыя адмысловыя сродкі з фондаў Міністэрства рэлігійных вызнаньняў і публічнай асьветы. Фактычным цэнтрам руху “праваслаўных палякаў” стала Горадня дзеля спрыяньня яму з боку адкрыта прапольскага мясцовага япіскапа Савы (Саветава).

— Бачыш, сыну, такі Божы правід цябе добра вядзе, вось толькі шкадую, што я сам не магу цябе сьвяціць, бо маё імя ў тваіх дакумантах сьвячаньня табе магло б часам зашкодзіць. Але твае сьвячаньні будуць у маёй капліцы.

— Дык, Эксцэленцые, хоць багаславеце!

Мітрапаліт пабагаславіў, і калі я цалаваў ягоную напаўспаралізаваную правую руку, ён зь нейкім дзіўным маўчаньнем, леваю рукою ўзяў мяне за галаву і прытуліў у сваю патрыяршую бараду.

З волі мітрапаліта мяне меў сьвяціць на сьвятара біскуп Мікіта Будка[317], дык адразу зь мітрапалічае палаты я пайшоў да яго. Гутарка зь біскупам Будкаю была кароткая. Пераглянуўшы ўсе мае дакуманты і запіску мітрапаліта, ён паведаміў, што мае першыя сьвячаньні — лектарату[318] і субдыяканату[319] — адбудуцца ў капліцы мітрапалічае палаты 3-га кастрычніка.

Тыдзень перад тым у той жа капліцы атрымаў першыя сьвячаньні з рук таго ж біскупа мой добры сябра з старэйшага курсу Акадэміі Тыматэй Працюк[320], які ў міжчасе ўступіў у манашы чын студытаў і цяпер атрымоўваў сьвячаньні з рук біск. Будкі з тых жа матываў, што і я. Такая зьбежнасьць абставінаў мела нейкае таўро Божага правіду. Для мяне такія абставіны мелі тую выгоду, што ня трэба было шукаць абслугі для архірэйскае Службы Божае.

Праз тыдзень — 10 кастрычніка — а. Тыматэй Працюк атрымаў сьвятарскія сьвячаньні, а я — дыяканат. У наступны тыдзень — 17 кастрычніка 1937 г. — у той жа мітрапалічай капліцы я атрымаў сьвятарскія сьвячаньні.

Падзякаваўшы біскупу Мікіту Будку, мітрапаліту Шэптыцкаму і рэктару Акадэміі а. Сьліпому, падрыхтаваўшы прыміцыйныя абразкі, я вярнуўся ў Пінск.

317 **Мікіта Будка** (1877–1949), грэка-каталіцкі сьвятар. Арганізоўваў рэлігійнае й культурна-асьветніцкае жыцьцё для ўкраінцаў замежжа, у 1912 г. прызначаны біскупам для ўкраінцаў-каталікоў у Канадзе й тытулярным біскупам Патары. У 1928 г. з-за пагаршэньня здароўя вярнуўся на радзіму, стаў генэральным вікарыем Мітрапалічай капітулы ў Львове. Пасьля Другой сусьветнай вайны арыштаваны савецкімі ўладамі, памёр у лягеры. У 2001 г. бэатыфікаваны.

318 **Лектарат** — тут: пасьвячэньне ў лектары, г. зн. у асобы, якія маюць права чытаць у касьцёле Сьвятое Пісьмо.

319 **Субдыяканат (іпадыяканат)** — тут: пасьвячэньне ў субдыяканы (іпадыяканы), г. зн. у царкоўныя служкі, якія прыслугоўваюць архірэю падчас ягоных сьвятадзеяньняў.

320 **Тыматэй Працюк** (1909—?), іераманах, паходзіў з Валыні. Уступіў у манаскі ордэн студытаў, атрымаўшы іерэйскае пасьвячэньне ў 1937 г. і атрымаўшы імя Ціт. Знаходзіўся ў розных манастырах на тэрыторыі Галічыны. У 1949–1956 гг. быў высланы ў Чыцінскую вобласьць, дзе перайшоў у праваслаўе.

З усяго таго, што я да гэтага часу ведаў аб рэлігійным і палітычным палажэньні ў Заходняй Беларусі і асабліва з таго, што я ўбачыў падчас летніх канікулаў у Пінску, мне было ясна, што ў душпастырскай дзейнасьці мяне чакаюць вялікія цяжкасьці. Але ўсё ж, атрымаўшы сьвятарскія сьвячаньні, я цешыўся, што Бог выслухаў маю просьбу і дазволіў мне працаваць у родным краі. З такімі думкамі я ехаў у Пінск.

На некалькі дзён прабываньня ў Пінску я затрымаўся зноў у сэмінарыі і там у капліцы служыў рэцытаваныя Службы Божыя. Згодна з даўным звычаем, пасьля першае Службы Божае я параздаваў біскупам, прафэсарам і сэмінарыстам Пінскае Сэмінарыі мае прымiцыйныя абразкі, друкаваныя па-беларуску. І вось хтосьці гэтаю навінаю быў так зьдзіўлены, што перадаў абразок палескаму ваяводзе Костэк-Бернацкаму. Даведаўся я аб гэтым у наступным годзе.

## Прымiцыя[321]

Там жа, у Пінску, падчас першых крокаў майго сьвятарскага жыцьця здарыўся вельмі характэрны выпадак. Аднойчы, калі я йшоў па калідоры сэмінарыі, насустрач ішоў духаўнік сэмінарыстаў — езуіт — зь невялікаю групаю клерыкаў. Калі ён наблізіўся да мяне, дык пачаў паказваць пальцам на маю бараду, голасна зарагатаў і гаворыць:

— *Patrzcie, patrzcie, co za błazeństwo!*[322].

Я спыніўся і голасна адказаў:

— *Хрыстос меў яшчэ большае такое "błazeństwo". Ці вы з Хрыста так жа насьміхаецеся?*

— *Chrystus, to co innego*[323].

— *Чаму гэта co innego?*

Езуіт і клерыкі адразу змоўклі і, унурыўшы галовы, пайшлі далей. Я крыху пастаяў і глядзеў на іх і пачуў, што адзін зь іх кажа:

— *Dobrze powiedział*[324].

Мне хацелася адправіць першую ўрачыстую Службу Божую ў роднай ваколіцы, таму і папрасіў біскупа Букрабу, каб дазволіў мне на які тыдзень паехаць дамоў. Ён ахвотна дазволіў мне пабыць удома нават два тыдні.

Першы раз я ехаў дамоў ужо ў вопратцы духоўнага, і першы раз бацькі, браты і сваякі віталіся са мною зь нейкім пытальным і адначасна дакорлівым паглядам, але словамі ніякага дакору ня выказвалі.

---

[321] **Прымiцыя** — першая імша, якую праводзіць нававысьвячаны ў Каталіцкай царкве сьвятар.

[322] *Гляньце, гляньце, што за блазнаваньне!* (польск.).

[323] *Хрыстос — гэта іншая справа* (польск.).

[324] *Добра сказаў* (польск.)

Калі я раздаваў ім прыміцыйныя абразкі, дык бралі іх зь вялікаю пашанаю і ставілі ў абразы на покуці. Толькі адзін з далейшых суседзяў выказаў сваю думку аж лішне шчыра:

— *Ну і што ты асягнуў? Вучыўся, вучыўся і папом стаўся. Навошта было патрэбна аж столькі навукі?*

— *Ведаеце, дзядзька, я ня поп,* — казаў я па хвілі развагі, — *і зусім ня думаю быць папом. Мажа, чулі, што цяпер па-беларуску духоўных называць сьвятарамі, гэта значыць людзьмі, якія забавязаны несьці сваім бліжнім і асьвету, і сьвятасьць. Зразумела, што каб быць такім чалавекам, трэба многа вучыцца, а яшчэ больш расьці духова, і я напэўна вучыўся замала, каб быць годным такога высокага становішча, якім мае быць сьвятар. Таму вы і асьмельваецеся гаварыць з дакорам аб маім становішчы, але якраз таму і ваш дакор выходзіць супраць вашае гаворкі...*

У хаце было шмат людзей, і гэты адказ выклікаў грабовую моўчанку. Перабіла моўчанку старэйшая кабета і нашая далёкая сваячка:

— *Ты, Іван,* — так называўся сусед — *гаворыш сам ня ведаеш што і мусіць не зразумеў таго, што табе адказаў...* — Далей яна пачала яго дакараць аж залішне моцна, бо таго ж дня раніцаю яна была сьведкаю няшчаснага здарэньня, у якім мне давялося першы раз выступіць перад маімі сябрамі з духоўнай паслугаю. А было гэта вось як: некалькі маіх сяброў аднавяскоўцаў, ловячы рыбу ў рэчцы Вушы, знайшлі нейкага загадкавага ўтопленьніка. Як бачыш, выцягнулі яго на бераг, і хоць ён быў ужо зусім халодны, але меў яшчэ зусім ружовыя ноздры, дык зьбіраліся ратаваць яго. Калі на беразе рэчкі ўчынілася ваўтузьня і крык, я зь вясковым настаўнікам і інжынэрам Л. Ш. былі на мосьце і неадкладна пасьпяшылі да ўтопленьніка. Зь першага пагляду мне паказалася, што ратаваньне ўтопленьніка больш чым сумніўнае, дзеля гэтага я на хвіліну спыніў спробы ратаваньня і даў умоўнае разграшэньне. І вось што было дзіўным нават для мяне: як толькі я перахрысьціўся, усе быццам на каманду зьнялі шапкі, злажылі пабожна рукі і з такою ўвагаю сачылі за кожным маім рухам, як гэта рэдка здараецца зь людзьмі. Калі пасьля гэтага зноў узяліся за ўтопленьніка, выявілася, што ён ужо быў утоплены даўно і ратаваць не было чаго. Вось жа пакінулі яго на беразе, і быццам апраўдваючы сваё бясьсільле перад магутнасьцю сьмерці, настаўнік казаў:

— *Ну, але найважнейшае яму зробленае, наш айцец Леў памаліўся за яго!*

А інжынэр дадаў:

— *Так, сапраўды людзі нічога большага зрабіць для яго ня могуць.*

Сваячка ўсё гэта бачыла і чула, дык цяпер прынагодна паўтарыла Івану, дадаючы ад сябе крыху кусьлівых заўвагаў.

Наступнага дня я адведаў мірскага дзекана кс. Антона Мацкевіча. Ён адразу пасьля прывітаньня запытаўся, дзе я думаю адпраўляць прымiцыю.

*— Яшчэ дакладна ня ведаю,* — адказаў я, *— але спадзяюся, што адпраўлю ў Стаўпцах, дзеля гэтага сёньня ж еду туды.*

*— А чаму вам не адправіць у Міры?*

*— Дык тут жа хору няма,* — адказваю.

*— А вы запрасеце сюды хор з Стаўпцоў; кошты падарожжа я пакрыю.*

*— Калі так, дык мушу даведацца ў Стаўпцах, ці гэта магчыма.*

На вялікі жаль, у Стаўпцах чакала мяне прыкрая неспадзеванка. У 1937 г. тамтэйшая ўсходнекаталіцкая парахвія хілілася да ўпадку. Парах а. Юстын Сялецкі з парахвіянамі быў у вялікай нязгодзе. Зь дзяком, які ад часу заснаваньня парахвіі быў найбольш адданы парахвіяльным справам, ён так пасварыўся, што нават адмовіўся яго спавядаць на ложу сьмерці. А калі беларусы дамагаліся ў яго, каб гаварыў казаньні па-беларуску, як калісьці а. Шымкевіч, дык, паказваючы на свае зубы, казаў расейска-ўкраінскаю "моваю":

*— Хочэтэ, что бы я вашаю паганаю моваю паламал мої последнія зубы?!*

Нічога дзіўнага, што пад кіраўніцтвам такога параха парахвія зьменшылася ўсяго да некалькі чалавек, а царкоўны "хор" складаўся ўсяго з трох асобаў. Вось жа было зусім немагчыма ажыцьцявіць праект кс. дзекана і наагул мне адхацелася служыць там прымiцыю. Вярнуўся я ў Мір зь нецікаваю навінаю і таго ж вечара дагаварыўся з бацькам, каб у суботу ехаць у Далятычы; гэта ад нас якія 60 км.

Яшчэ з студэнцкіх часоў і маіх падарожжаў у Вільню я добра ведаў Далятыцкую парахвію і яе тагачаснага параха а. Вячаслава Аношку, які замяніў а. Івана Паньку 1.III.1935 г. Мой неспадзяваны прыезд у Далятычы з намерам адправіць там урачыстую прымiцыйную Службу Божую моцна ўсьцешыў а. Вячаслава і яго дзяка. Праз пару гадзін пасьля майго прыезду ўжо ўсе Далятычы ведалі, што заўтра ў іхняй царкве будзе вялікая ўрачыстасьць.

На Службе Божай царква была набітая біткам. Хор сьпяваў і прыгожа, і велічна, і што найважнейшае — сапраўды з такім пабожным настроем, што можна было *"ўсякае жыцейскае атлажыць папячэніе"*. Пасьля Эвангельля я сказаў казаньне аб абавязку чалавека імкнуцца да сьвятасьці; а ў канцы Службы Божае а. Вячаслаў гаварыў крыху аба мне, крыху аб сьвятарскай годнасьці. Наагул гэтае багаслужэньне відавочна зрабіла вялікае ўражэньне на ўсіх прысутных, а ў мяне пакінула незацёрты ўспамін.

Назаўтра раніцаю мы паехалі дамоў, а праз тыдзень я ўжо ехаў у Пінск па назначэньне на працу.

## Першая парахвія

У Пінску мяне чакала ня толькі назначэньне, але і сам супэрыёр капуцынскага манастыра ў Любяшове а. Ян з Адэсы[325], у якога я меў быць вікарым. Гэткае назначэньне мяне шчыра ўсьцешыла, бо ў манастыры я мог добра пазнаць наш абрад. Падчас маіх студыяў у Львове я меў дачыненьні толькі з галіцыйскім абрадам.

У Любяшове і айцы, і браты манастыра мяне прынялі сапраўды ад шчырае душы, і я цешыўся, што падчас першых крокаў мае душпастырскае працы знайшоўся ў сапраўдным будуючым асяродзьдзі. Нацыянальны склад манастыра быў такі: двох айцоў палякаў, адзін галяндзец — заўсёды ў разьездах, — адзін дыякан беларус, а другі неазначанае нацыянальнасьці, двох братоў беларусаў, адзін паляк і двох паслушнікаў беларусаў.

Адносіны адміністратыўных уладаў да ўсходнекаталіцкага капуцынскага манастыра былі вельмі варожыя. Першы супэрыёр манастыра, аднавіцель манастырскага будынку а. Кірыл з Тэрнэзіі, галяндзец, загадам палескага ваяводы быў выселены з Палескага ваяводзтва і жыў у Любліне. Заснаваная ім малая сэмінарыя такжа мусіла быць перанесена з абшару Палескага ваяводзтва і завандравала аж у Ломжу.

Да Любяшоўскае ўсходнекаталіцкае парахвіі належала вёска Угрынічы, адлеглая 15 км, і Аброва. Там пастаянна жылі дзьве сястры скрыткі[326], а сьвятар прыяжджаў толькі напярэдадні сьвяточных дзён, адпраўляў у капліцы вячэрню, у сам сьвяточны дзень — утрэню і Службу Божую з казаньнем, выконваў прынагодныя душпастырскія запатрабаваньні вернікаў, адпраўляў нядзельную вячэрню і вяртаўся назад у Любяшоў. І вось мне было даручана даяжджаць у Угрынічы.

Рэлігійная гісторыя Угрынічаў была вельмі сумная. Калі там айцы капуцыны пабудавалі царкву, дык Камень-Кашырскі староста[327] загадаў яе закрыць, бо сам жа ён перад тым ня даў дазволу на яе пабудову. І паліцыя апячатала каталіцкую царкву ў каталіцкай Польшчы. Аднак сёстры-скрыткі працавалі там далей і ўладзілі каплічку для

---

[325] **Ян з Адэсы** (1899—?), склаў манаскія зарокі ў 1918 г., высьвячаны на сьвятара ў 1923 г. Па стане на 1939 г. быў кіраўніком Славянскай місіі айцоў капуцынаў, генэральным вікарыем па справах славянска-бізантыйскага абраду ў Пінскай рыма-каталіцкай дыяцэзіі.

[326] **Скрыткі** (польск. *skrytki*) — простамоўнае акрэсьленьне сяброўак некаторых жаночых манаскіх згуртаваньняў, якія ня носяць манаскага адзеньня, а апранаюцца як сьвецкія асобы.

[327] Угрынічы ўваходзілі ў склад Камень-Кашырскага павету Палескага ваяводзтва, які сёньня цалкам уваходзіць у склад Украіны.

свайго прыватнага ўжытку ў тым доме, дзе жылі. Тады паліцыя пачала пісаць пратаколы на гаспадара дому і ён папрасіў сясьцёр выйсьці зь ягонага дому, аднак знайшоўся іншы гаспадар, які не пабаяўся пагрозаў паліцыі і прыняў на некаторы час сясьцёр, а потым яны выбудавалі сабе свой дом і ў тым доме ўладзілі каплічку. Вось у гэтай капліцы і адбываліся багаслужэньні, а царква стаяла запячатанаю, як немы сьведак варожых адносінаў польскае адміністрацыі да ўсходнекаталіцкага руху.

Пры гэтай нагодзе варта крыху забегчы напярод і сказаць, што і гэтая капліца ў 1939 г. была запячатана загадам Палескага ваяводы Костэк-Бернацкага. Да таго апячатаньне капліцы адбывалася ў такі дзень, калі ў Любяшове не было сьвятара, дык не было каму вынесьці Найсьвяцейшае Эўхарыстыі — паліцыя гэтым не турбавалася, замкнула і запячатала Эўхарыстычнага Хрыста. З горкаю прыкрасьцю пісаў аб гэтай падзеі польскі часапіс *“Oriens”* № 4, с. 125, год 1939, што *“Госпад Ісус Хрыстос знайшоўся ў арышце”*, — і гэта ў каталіцкай дзяржаве — у Польшчы!

Мне давялося быць у Любяшове і даяжджаць у Угрынічы толькі адзін месяц. Аднак за гэты кароткі час я ўжо зжыўся зь людзьмі, асабліва з моладзьдзю, дык і выяжджаць адтуль не хацелася. На ўсіх багаслужэньнях людзей была поўная капліца, так што я гаварыў казаньні нават на вячэрнях. Загад аб перанясеньні на іншую працу прыйшоў зусім неспадзевана...[328].

[328] На гэтым рукапіс перапыняецца. Падрабязнасці яго сьвятарскай дзейнасьці ў гэты час не асабліва вядомыя. У біяграфіях падаецца, што ў 1937–1939 гг. ён быў душпастырам “у розных мясцох дыяцэзіі Пінскай: Любешаў, Угрынічы, Гародная, Стоўпцы”. Ва ўласных успамінах, выдрукаваных пад назвай “Праз навальніцы і нягоды. Успаміны з гадоў 1930–1944. Фрагмэнты”, а. Леў Гарошка адзначыў:
*“Я належаў да тых сьвятароў, якія ня мелі дазволу на навуку рэлігіі ў школе. Калі я ўсё-ж стараўся навучаць дзяцей у сябе або ў хатах іхных бацькоў, дык ад паліцыі ня меў праходу. Паліцыя старалася даведацца вызначаны час і месца навукі, пільнавала дзяцей, пераймала іх па дарозе і адпраўляла назад дамой. У Століне я катэхізаваў дзяцей у магільнай капліцы, на самых могілках, у лесе і ў збожжы, разьдзяліўшы ўсіх дзяцей на некалькі групаў. Трэба было штодзённа праходзіць пешкі некалькі дзясяткаў кілёмэтраў, унікаючы спатканьня з паліцыяй.*
*Каб маральна й матар’яльна зламаць вуніяскае духавенства, паліцыя мела загад пісаць усякія магчымыя пратаколы за найдрабнейшыя, а нават не існуючыя адміністрацыйныя правіны, як пабелка платоў, чысьціня вуліцы, парадак каля хаты і інш. На мяне гэткіх караў напісалі ў суме на 200 злотых і столькі-ж сама на дзяка”* (цыт. паводле: Юрэвіч, Лявон. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью-Ёрк, 1999. С. 197).

## Царкоўнае жыцьцё[329]

*“Белар[уская] Крыніца” N. 24, з 10.VI.1932, N. 26 [з] 29.VI.*

Рэфэруе водзывы розных газэтаў аб жыцьці і дзейнасьці Прав[аслаўнай] ц[арквы] — кажа:

*“Царква сталася ўстановаю бязь верных, нейкай інстытуцыяй для рэгістрацыі актаў стану, а з духавенства вытварыўся тып фармальна ляяльнага, але бескарыснага для верных і дзяржавы ўрадоўца. Вынікам такога палажэньня... зьяўляецца страшэнны заняпад рэлігійнасьці сярод праваслаўных беларусаў, а ў сувязі з гэтым — пашырэньне між імі камунізму, бязбожжа, амаральнасьць, праступствы і г. д.”.*

Прыводзячы факты, разбураючыя духовае жыцьцё праваслаўнага народу, хцівасьці кіруючых епархіямі кансысторыяў, аблажыўшых цэрквы вялізарнымі падаткамі... прыходзіць да вываду, што так неабходная направа духовага жыцьця праваслаўных беларусаў магчыма толькі тады, калі замест чужынцаў кіруючыя мейсцы ў епархіях будуць заняты не беспрынцыповымі расейцамі, гатовымі ў кожную хвіліну, дзеля кар’еры і асабістае карысьці, зьмяніць сваю нацыянальнасьць, а ведамыя беларускаму і ўкраінскаму грамадзянству сапраўдныя прадстаўнікі і сыны гэтых народаў.

Лепшая ідэовая частка духавенства перажывае страшэнную трагэдыю, але, будучы прыдушана кансысторскімі загадамі, змушана маўчаць.

## Польскае каталіцтва

*“Вось 1-га верасьня сёлета (1934) а гадз. 5–6 вечарам двох маладых беларусаў-каталікоў пашлі ў касьцёл Сьв. Яна ў Вільні да споведзі і трапілі да ксяндза пралата Савіцкага. Вось-жа, калі першы зь іх стаў спавядацца па-беларуску, дык спаведнік захаваньнем сваім змусіў беларуса спавядацца па-польску; калі ж другі падышоў і таксама пачаў спавядацца па-беларуску, дык тады спаведнік ужо фармальна скіпеў ад злосьці і замест таго, каб спавядаць, пачаў лаяць беларусаў, называючы іх камуністамі, бязбожнікамі, паскудзтвам, брыдзячы беларускую літаратуру і г. д. Гэты да глыбіні абражаючы факт пераходзіць усе граніцы цярплівасьці. Бо трудна сапраўды нават у думках сабе дапусьціць,*

[329] Наступныя раздзелы “Царкоўнае жыцьцё”, “Польскае каталіцтва”, “Кс. біск. Няміра”, “Галасы прэсы аб вуніі”, “Мінойты”, “Рэлігійная праблема”, “Жуткі абраз панявеленьня”, “Епархія і ерархі” — гэта выпіскі з розных публікацый і паасобныя нататкі Льва Гарошкі што да царкоўных справаў. Напісаныя асобна, яны ўключаны сюды як храналягічны працяг аповеду.

*што вытвараецца. І хто ж сапраўды зьяўляецца агітатарам бязбожнасьці, ці такі ксёндз-пралат, ці камуністы!? Што за прафанацыя споведзі і сьвятыні!”.* а. G.

*“Шлях моладзі” № 10 (70), Верасень 1934.*

*J.N. “Кепска будзе з “пастырамі”!*

## Кс. біск. Няміра

Летам 1936 г. візытаваў парахвіі — у Гайніне[330], Мядзьведзіцкае (гміны) парахв[іяне] спаткалі яго з хлебам і сольлю і прывіталі пабеларуску — дык ён за гэта абразіўся.

*“Б. Кр.” 50 (691) 6.XII.1936.*

## Галасы прэсы аб Уніі

*“Пункты ў справе Уніі”*

*Вясковец. “Бел. Крыніца” № 34, 1931, 29.X.*

*“Аб рэлігійнай Уніі на вёсцы чуваць што раз больш”.*

Ад імя тых, што *“ўжо разумеюць, што такое унія”*, падае пункты.

*“Чаго ж не павінна быць у справе Уніі?”*

1. Перадусім не павінна быць польскага вышэйшага і ніжэйшага духавенства, якое ня хоча і слухаць аб патрэбе беларускага народу. Пад вышэйшым духавенствам разумею польскі епіскапат у нашым краю на чале з ар[ц]ыб. Ялбжыкоўскім...

2. Другім пунктам будзе асабліўшы недавер беларускай інтэлігенцыі да езуітаў. Ня буду гаварыць аб справядлівасьці ці несправядлівасьці гэтага недаверу, на каторы злажылася шмат гістарычных абставін...

3. Трэцім нэгатыўным пунктам ёсьць праводжаньне Уніі на нашых землях пад загадамі камісіі *“Pro Russia”*. Сьведамыя беларусы баяцца ня толькі палянізацыі, але і русіфікацыі.

* * *

1. Першым пазытыўным дзейнікам, безь якога масавага пашырэньня уніі трудна сабе прадставіць, ёсьць стварэньне беларускага ўніяцкага біскупства, незалежна ад польскіх біскупаў, а толькі ад Апостальскай сталіцы...

2. Унійнай работай павінна кіраваць духавенства беларускае...

[330] **Гайнін** — сёньня вёска ў Куршынавіцкім сельсавеце Ляхавіцкага раёну Берасьцейскае вобласьці.

## Мінойты

Гэты звычайны польскі маёнтак[331] з капліцаю[332] ў Лідзкім пав. Не бязь ведама віленскага арцыб. Ялбжыкоўскага там асеў кс. канонік К[араль] Любянец і ўзяўся наварочваць праваслаўных беларусаў на каталіцтва ў лац. абрадзе.

Той жа канонік заўзята змагаецца з Уніяю, выдаючы і пашыраючы лістоўкі і брашуры супрацьунійнага зьместу.

Ведама такжа, што гэткая палітыка да ўспадобы палескаму ваяводзе Костэк-Бернацкаму.

А Гэнрык Любянец напісаў цэлую кнігу супраць Уніі: *“Droga na Wschód Rzymu”*.

## Рэлігійная праблема

Каго як каго, але студэнта багасловіі мусіла цікавіць рэлігійная праблема на Беларусі; праблема, створаная цяжкімі гістарычнымі падзеямі і яшчэ цяжэйшымі сучаснымі абставінамі. Праваслаўе сталася *“рускаю вераю”*, каталіцызм — *“польскаю вераю”*. Рэлігія была ўпрэжана ў палітычныя пляны нашых суседзяў, каб вынарадаўляць беларусаў. І гэткае грубае зьняважлівае прызначэньне рэлігіі кіраўнікі абедзьвёх цэ[р]кваў абстойвалі ўсімі магчымымі і немагчымымі канонамі, пастановамі, прыпісамі, распараджэньнямі. Да таго шматлікія парахі, і праваслаўныя, і каталіцкія, лічылі парахвіі сродкам да нажывы. У багацейшых каталіцкіх парахвіях гэта ня так кідалася ў вочы, але ў бяднейшых, асабліва ў праваслаўных, на гэтым тле здараліся сапраўды ганебныя ўчынкі. Аднойчы ў нашай вёсцы падчас споведзі на Вялікдзень бедная дзяўчына палажыла замест 50 гр. усяго 30 гр. І вось духоўны накінуўся на яе з лаянкаю:

*— Ты знаеш[ъ], что ты сделала? Ты ж в самого Господа Нашего Ісуса Христа уваравала 20 гр. И тепер[ъ] после исповеди ты большая грешница, чем перед исповедью...*

Дзяўчына то чырванела, то бялела і не магла бараніцца. Не сказала, што ані яна, ані яе бацькі ня мелі больш гроша пры душы і ня мелі за што солі купіць. Ад таго часу яна больш да споведзі не хадзіла.

Пэўна ж, праваслаўнае духавенства, маючы жонку і дзяцей, мусіла старацца здабыць пражыцьцё для сям’і, мусіла яшчэ плаціць у кансісторыю, але сваімі грубіянскімі адносінамі і задзірствам яны самі выганялі людзей зь сьвятыняў і тым самым пазбаўлялі сябе даходаў. Амаль усюды ў тых парахвіях, дзе духавенства не таргавалася

[331] Маёнтак Мінойты належаў роду Гадачэўскіх.

[332] Спачатку плянавалася будаўніцтва капліцы, але ўрэшце ў 1928 г. быў збудаваны касьцёл у імя Сэрца Пана Езуса, асьвячоны у 1929 г. біскупам Р. Ялбжыкоўскім.

за выконваньне сьвятых Тайнаў, сьвятыні ніколі не пуставалі і парахі не наракалі на беднасьць.

## Жуткі абраз паняволеньня

У Збуражы больш чым дзе кідалася ў вочы каляніяльная польская палітыка адносна Беларусі. Сялянства было беднае і не магло мець ніякае надзеі на паляпшэньне свае долі. А што чакала моладзь? — Яшчэ горшая бядота і свае зямлі вельмі ма[ла]. Ніякіх заработкаў у ваколіцы. Навакольных памешчыкаў мала і тыя мелі невялікія маг[чымасьці] (?), плацілі за працу так мала, што і на харчы не выстарчала. Ніякіх фабрыкаў у ваколіцы. Наагул палякі за час акупацыі Заходняе Беларусі не збудавалі ніводнае новае фабрыкі. Наадварот, нават шматлікія дробныя прадпрыемствы, якія існавалі перш, — зачынены або самі пазачыняліся. Віленская Гандлёва-Прамысловая Палата падавала, што з 770 прадпрыемстваў, якія былі на абшары Зах. Беларусі да 1914 г., у 1929 асталося толькі 249.

## Епархія і ерархі

Абшар пінскага лацінскага біску[п]ства перш належаў да Менскае епархіі. Як самастойнае біскупства яно было створана ў 1924 г. і першым яго ерархам быў біск. Жыгімонт Лазінскі. Ён у лістападзе 1918 г. заснаваў першую на Беларусі каталіцкую беларускую сэмінарыю, рэктарам якое быў а. д-р Фабіян Абрантовіч. Варта заўважыць, што нават сам біск. Лазінскі 6.XII.1918 г. сказаў у Менскай катэдры казаньне пабеларуску.

Калі ж у Менску аставалася бальшавіцкая ўлада і разам з гэтым прасьледаваньне рэлігій, біск. Лазінскі ўцёк у Заходнюю Беларусь — у Наваградак, а потым пераехаў у Пінск. Разам зь ім перанесена туды і сэмінарыю. Але ўжо ў Наваградку яе пачалі палянізаваць, а ў Пінску ад колішняе беларускае сэмінарыі асталіся толькі выклады беларускае мовы. Аднак і гэта шматлікім польскім дзеячам моцна не падабалася. І вось аднойчы да біскупа Лазінскага зьявіўся якісьці генэрал з Варшавы і пачаў яго моцна дакараць, што ён “цацкаецца” зь беларусамі. Нарэшце, падняўшы голас, генэрал крычаў:

— *Я вам кажу, што няма ніякае патрэбы цацкацца з гэтымі беларусамі, бо праз 20 гадоў тут ня будзе ніводнага беларуса!*

Біскуп такжа падняў голас.

— *А я вас запэўняю, пане генэрале, што праз дваццаць гадоў тут ня будзе ніводнага паляка.*

— *Як?!* — усклікнуў генэрал.

— *А так, што дайце мне супакой, і калі ласка, зачыніце дзьверы з другога боку.*

Генэрал выскачыў з канцылярыі біскупа як апараны і аб сваёй гутарцы пажаліўся аднаму каноніку.

Усюды ганяюць, усюды сьмяюцца, ну проста хоць крыкні "ратуй".

Беларусь была замен[ен]а ў калёнію, але гэтага было замала. Ужо ад пару гадоў існавала ў Варшаве *"Liga Morska i Kolonialna"*[333], якая падбухторвала грамадзкую апінію, што Польшча патрабуе калёніяў у [...] і Азіі. Беларусь мела [...].

І пры ўсім гэтым вельмі вымоўнае выяўленьне глыбокага перакананьня, што Беларусь будзе страчана.

Ніводнае новае фабр[ыкі], ніводнае [...]. Эксплюатацыя багацьцяў лесу і інш. — амаль грабеж.

## ЧАСТКА II. ПАД САВЕТАМІ[334]

### У савецкіх школах

Сядзець удома без работы было немагчыма[335]. Трэба шукаць нейкую працу. Мне было ведама, што найбольшую нястачу кадраў адчувалася ў школьніцтве, таму што аграмадная колькасьць польскіх настаўнікаў паўцякала, а беларусаў было мала. Прыпадкам я даведаўся, што ў Слоніме нават манашкам, якія прыпрацоўвалі ў школах, дазволена працаваць і далей у школах, толькі трэба было пераапрануцца ў сьвецкую вопратку. У Наваградку адзін ксёндз быў запрошаны выкладаць лацінскую мову. Вось жа і я пастанавіў шукаць працы ў школах. Але першыя мае пошукі выявілі, што я яшчэ замала ведаў савецкую сыстэму.

Каб ведаць, дзе і як найлепш знайсьці працу, я зьвярнуўся для інфармацыі да кіраўніка 10-годкі ў Міры. Ён катэгарычна заявіў, што гэта аніяк немагчыма і нават ня раіў ісьці да інспэктара районо. Мірскі

---

333 **Марская й каляніяльная ліга** (*Liga Morska i Kolonialna*) — польская грамадзкая арганізацыя, утвораная ў 1930 г. у выніку пераўтварэньня Марской і рачной лігі, якая існавала перад гэтым. Сярод іншага арганізацыя ставіла задачай змагацца за набыцьцё Польшчай заморскіх калёніяў. Практычная праграма арганізацыі заключалася ў набыцьці зямлі на іншых кантынэнтах з мэтай іх наступнага засяленьня перасяленцамі.

334 У арыгінале гэта асобны тэкст на 20 старонках, які мае назву "У савецкіх школах" і ўключае разьдзелы: "У савецкіх школах", "У Баранавіцкім музэі", "Дарэмныя пошукі працы", "Вывазы і арышты", "Голад Бога".

335 15 траўня 1939 г. паводле загаду навагрsuccadзкага ваяводы а. Леў Гарошка за яго дзейнасьць на карысьць вуніі быў афіцыйна выселены з памежнай паласы, што складала 100 км. Ён быў пераведзены на працу ў Збуражы, але з прыходам Саветаў займацца душпастырскай працай стала амаль немагчыма.

раён[336] быў малы, і тут ужо школы ўсюды працавалі, дык сапраўды ня варта было ісьці да інспэктара. Большым быў Стаўпецкі раён, вось жа я паехаў туды. Там начальнікам районо быў прысланы з Усх. Беларусі. Ён рашуча адмовіў мне працу, хоць прымаў на працу людзей амаль няграматных з 2-х класных царскіх школаў.

Доўга не адкладаючы, я паехаў у абласны цэнтар Навагрудак. Там было облоно. Але тут, як у Стаўпцах, начальніцаю была жанчына з Усх. Беларусі — Гусарава (?) — і да таго вельмі варожая да духавенства. Яна казала, што нават псаломшчыкаў не прымае, а аб сьвятарах дык і гутаркі быць ня можа. Было сапраўды дзіўна глядзець, як гэтая савецкая начальніца тут жа прымала на працу настаўнікаў людзей, якія самі не маглі напісаць заявы і адкідала чалавека з вышэйшай асьветай. На першы погляд гэта выдавалася бязглуздым, але такое становішча лягічна выплывала з усяе бязглуздае савецкае сыстэмы.

Ня маючы нічога да страчаньня, я паехаў яшчэ ў Баранавічы — там такжа было облоно, але ягоным начальнікам быў украінец. І вось тут нспадзевана пасьля прывітаньня і кароткае вуснае інфармацыі аб сабе, ён мне кажа:

*— Дык вы з Наваградзкае Беларускае Гімназіі, гэта добра, бо нам вельмі патрэбны настаўнік беларускае мовы. Але, кажаце, як жа вы маглі трапіць у Аўстрыю на навуку?*

*— Я меў стыпэндыю ад мітр. Шэптыцкага.*

*— А вы яго добра зналі?*

*— Так, знаў вельмі добра.*

*— Калі так, дык магу вам запрапанаваць мейсца ў сярэдняй Гандлёвай школе ў Баранавічах.*

*— Добра. Шчыра дзякую.*

Празь якую гадзіну я ўжо меў накіраваньне на працу, а на наступны дзень зьявіўся ў дырэктара Гандлёвае Школы — Крушынскага.

Ня знаю, ці разважна я зрабіў, ці не, але я не зголіў барады і праз гэта заўсёды прыцягваў да сябе лішнюю ўвагу. І настаўнікі і вучні адразу стараліся выясьніць “загадку”: што гэта за новы настаўнік з барадою? Але ў Гандлёвай школе адносіны да мяне і вучняў, і настаўнікаў былі зусім добрыя, нягледзячы на тое, што там было шмат палякаў, якія да беларускае мовы адносіліся непрыхільна.

Таму што ў Баранавічах сапраўды вельмі адчувалася нястача настаўнікаў беларускае мовы, а ўва ўсіх школах беларуская мова выкладалася, дык хутка мне далі дадатковую працу ў вячэрніх курсах расейскае і беларускае моваў і ў школе мэдыцынскіх сясьцёр — там яшчэ на

336 **Мірскі раён** існаваў у складзе БССР у 1940–1956 гг., сёньня ягоная тэрыторыя ўваходзіць у склад Карэліцкага раёну.

дадатак трэба было выкладаць і лацінскую мову. І на дадатак у вячэрняй сямігадовай школе даручана выкладаць біялёгію.

Вячэрнія курсы моваў шмат у чым розьніліся ад дзённых школаў. Калі ў дзённых школах вучні зацікаўлены ведаць добра ўсе прадметы, якія выкладаюцца ў школе, прынамсі ня толькі каб мець зь іх добрыя адзнакі, дык на вячэрніх курсах моваў былі нованабраныя савецкія ўрадоўцы, якія хацелі падвучыцца толькі тое, што для іх было патрэбна. І вось ужо на першай лекцыі выявілася адразу, што яны хочуць вучыць толькі расейскую мову, бо такі дух панаваў ува ўсіх тых установах, дзе яны працавалі. На курсах было каля 40 чалавек — усе з Баранавічаў [і] акругі. Склад курсантаў быў вельмі разнаякі: двох было з унівэрсытэцкаю асьветаю, каля дзясятка зь сярэдняю асьветаю, рэшта зь ніжэйшаю і 2 прыбіральніцы з НКВД ледва ўмелі расьпісацца. Было сапраўды вельмі цяжка выбраць спосаб выкладаньня, які б мог задаволіць усіх. Было вельмі прыкра чуць, як некалькі дзяўчат-жыдовак на першай лаўцы казалі голасна:

*— Беларуская мова брыдкая і нам непатрэбная, дык нашто яе нам вучыць?*

І мне здалося, што гэта не дзяўчаты гавораць, але праз іх вусны гаворыць сьвецкая ўлада. Дзеля гэтага наступную лекцыю я распачаў кароткім уступам:

*— Перш чым зачаць лекцыю, я хачу вам адказаць на вашыя засьцярогі адносна беларускае мовы. Некаторыя з вас казалі, што яна брыдкая, іншыя — што яна вам непатрэбная, але ж вы працуеце ў розных установах, якія маюць дачыненьне зь беларускім народам, дык як жа ня ведаць мовы таго народу, зь якім вы штодзённа маеце розныя справы? Гэта ж было б зьнявагаю таго гаротнага народу, які столькі цярпеў зьдзекаў і які чуў кпіны і зьнявагі да сябе самых і да сваее "мужыцкае" мовы ад царскіх чыноўнікаў і польскіх паноў. Тыя ганьбілі яго мову, абзывалі яе рознымі абразьлівымі словамі. Дык савецкім служачым, якія маюць абараняць сялян і работнікаў, зусім не да твару патураць царскім чыноўнікам ці польскім панам і адносіцца зьняважліва да беларускае мовы. І я думаю, што ў савецкіх установах не павінна быць мейсца ані для расейскіх чарнасоценцаў, ані для польскіх шавіністаў. А другая справа, ці беларуская мова прыгожая ці не — вось паслухайце верш Янкі Купалы "Курган" і потым мне скажаце.*

Я прачытаў так верш, як толькі мог, і калі яго скончыў, у клясе была мёртвая цішыня, а дзеўкі-жыдоўкі на першай лаўцы ўкрадкам выціралі сьлёзы.

Па хвіліне маўчаньня на маё запытаньне, ці гэта брыдкая мова, усе прызналі:

*— Гэта вельмі прыгожая мова. Вельмі прыгожа!*

*— Добра, але каб у далейшым я ведаў, для каго я маю выкладаць і як выкладаць, скажэце мне, хто не хацеў бы прыходзіць на лекцыі беларускае м[овы].*

*— Будзем прыходзіць,* — казалі ўсе за выняткам прыбіральніцаў з НКВД — яны маўчалі.

Пасьля гэтае лекцыі трох хлопцаў затрымалі мяне на карыдоры і шчыра дзякавалі:

*— Такая гутарка лепш чым усякія граматыкі і правапісы, — казалі наперабой.*

У школе мэдыцынскіх сясьцёр былі іншыя цяжкасьці. Хоць школа рыхтавалася беларускаю, але ўсе настаўнікі за выняткам мяне выкладалі па-расейску. Так праяўлялася крывадушнасьць савецкае ўлады: гаварыць адно, а рабіць другое.

Так у турботах мінуў першы месяц мае працы ў савецкіх школах. Усім настаўнікам у Баранавічах у канцы сьнежня выплацілі зарабатную плату польскімі грашыма і даслоўна некалькі дзён пасьля выплаты ўняважнілі польскую валюту. Усе стараньні, каб хоць частку тых грошаў замяніць на савецкую валюту кончыліся нічым. Жыві з чаго хочаш, і як хочаш… Савецкая ўлада паказвае сваё сапраўднае аблічча.

Для школьніцтва Заходняе Беларусі важнаю датаю быў новы 1940 г. Падчас навагодніх канікулаў было абвешчана, што ўва ўсёй Заходняй Беларусі ўводзіцца беларуская савецкая сыстэма. Пры тым некаторыя школы, якія не адказвалі гэтай сыстэме, былі зьліквідаваны, у тым ліку і Гандлёвая Школа, дзе я выкладаў. Мяне перавялі на выкладчыка беларускае мовы ў расейскую 10-годку.

Згодна з савецкаю сыстэмаю з нагоды “беларусізацыі” школаў быў арганізаваны мітынг усіх настаўнікаў з Баранавіч, і на мітынг прыехаў высокі ўрадавец з наркамату асьветы зь Менску — Вадэйка. Ён адчыніў мітынг і, на зьдзіўленьне ўсіх, прамаўляў па-расейску. Больш наглядных кпінаў з тае беларусізацыі нельга было і выдумаць. Пасьля ягонае прамовы пачалі прамаўляць настаўнікі. Некаторыя гаварылі па-расейску, некаторыя па-беларуску, але большасьць гаварыла толькі аб тым, як гэта было дрэнна ў панскай Польшчы. Было прыкра слухаць гэтае пераліваньне з пустога ў парожнае, і ў мяне засьвярбеў язык. Мне далі слова па-за чаргою. Маё кароткае выступленьне моцна розьнілася ад маіх папярэднікаў. Хоць я рыскаваў, але хацелася паказаць, што нягледзячы на ўсякія небясьпекі *“жыва яшчэ душа ў народзе гэтым”.*

Кароткі зьмест майго выступленьня быў такі: *Нам было вельмі прыемна пачуць вестку, што школьніцтва ў Зах[одняй] Беларусі мае быць беларусізавана, але было вельмі дзіўна, што тав. Вадэйка гаварыў аб гэтым па-расейску. Мае папярэднікі на гэтай трыбуне шмат гаварылі аб ліхой долі, якую мы перажылі пад палякамі. Гэта*

*шчырая праўда, але ж нас паклікалі сюды, каб выказацца адносна новых зьменаў у школьніцтве, аб чым амаль ніхто нічога не казаў і таму я аб гэтым хачу сказаць некалькі слоў. Я перакананы, што абвешчаная зьмена адказвае найжывейшым і найшчырэйшым жаданьням беларускага народу. Бо ж яшчэ перад Кастрычніцкаю рэвалюцыяю Я. Купала пісаў:*

*"К свабодзе, роўнасьці і знаньню*
*Мы працярэбім сабе сьлед.*
*І будзе ўнукаў панаваньне,*
*Там, дзе сягоньня плача дзед".*

*Колькі ж гэта было стараньня ў Зах[одняй] Б[еларусі], каб адчыніць там школы, наколькі незьлічона дэкларацы[яў]*[337]*. Цяпер адчыняецца ня сьлед, але шырокі шлях.*

*Але той жа Купала пры іншай нагодзе пісаў аб змагарах:*

*"Ідзем, брыдзем, а на дарозе,*
*То корч, то камень, то бадыль,*
*У брата станеш на парозе,*
*А ён, табе, о Божа крый!"*[338].

*Я думаю, што ўсім тым, хто перажыў цяжкія часы, хацелася б каб цяпер ужо не было тых ні корчаў, ні бадылёў, ні каменьняў на тым шляху, які вядзе да лепшае будучыні.*

Мая прапанова выклікала буру. Адны горача віталі, іншыя казалі, што яна была нацыяналістычная. Апошняе слова на мітынгу меў Вадэйка і, дзіўна, гаварыў па-беларуску. Ён шкадаваў, што на адкрыцьці гаварыў па-расейску, а ў канцы напаў на мяне, называючы маё

[337] Маюцца на ўвазе дэкларацыі на адкрыцьцё школаў зь няпольскай мовай выкладаньня, якія прадстаўнікі нацыянальных меншасьцяў у Польшчы павінны былі падаваць у дзяржаўныя органы ў адпаведнасьці з моўнымі законамі ад 31 ліпеня 1924 г. Калі за школу на няпольскай мове падавалі заявы бацькі 40 вучняў, то ў гэтай мясцовасьці мусіла адкрывацца школа на гэтай мове, калі ж у той самай мясцовасьці адначасова бацькі 20 вучняў выказваліся за школу на польскай мове — адкрывалася дзьвюхмоўная (утраквістычная) школа. Аднак на практыцы гэтыя палажэньні звычайна не выконваліся. Так, у 1925 г. заходнебеларускія сяляне падалі 16 тысячаў заяваў на адкрыцьцё 400 школаў на роднай мове, але ў выніку не атрымалі ніводнай новай чыста беларускай школы.

[338] Цытуецца ў крыху скажоным выглядзе верш Янкі Купалы "На папасе". Правільная вэрсія гэтага слупка:

*Ідзем, брыдзем, а на дарозе,*
*То куст, то камень, то бадыль,*
*У брата станеш на парозе,*
*А ён табе... о, Божа, крый!*

выступленьне шкодным. Мне было дзіўна, што пасьля такога выступленьня не адклікалі майго назначэньня ў расейскую дзесяцігодку.

Першае знаёмства з расейскаю дзесяцігодкаю выявіла, што там аграмадную большасьць вучняў складалі беларусы. Прытым вучняў запісалася больш, чым было мейсц, а ў беларускай дзесяцігодцы № 1 іх было замала. Бо агульна ўжо было ведама, што бальшавікі адносяцца варожа да беларускасьці, таму шмат хто баяўся беларускіх школаў, каб ня мець прыкрасьці ад уладаў. Баязьнь да беларускасьці ў вучняў расейскае дзесяцігодкі была такая, што спачатку яны адносілі[ся] непрыхільна нават да выкладаў беларускае мовы і да мяне як да выкладчыка. Але хутка гэтая непрыхільнасьць замянілася ў прыязьнь.

У школах адразу арганізаваліся гурткі піянэраў і камсамольцаў і ладзілі антырэлігійныя лекцыі. У зьвязку з гэтым вучні часта сам на сам пыталіся ў мяне, што маюць рабіць, калі іх прымушаюць йсьці туды, куды яны не хацелі.

Маё настаўніцтва ў сьвецкіх школах трывала нядоўга. У канцы студзеня 1940 г. адбыліся зьмены ў аблоно і гороно. На мейсца Нахвацкага быў прысланы зь Менску камуніст Кобля. Даведаўшыся, што ў ліку падуладных яму настаўнікаў ёсьць сьвятар, ён хутка паклікаў мяне да сябе на размову.

— *Як жа з вашым сьветапаглядам?* — пытаўся т. Кобля пасьля прывітаньня.

— *Сьветапагляд хутка не зьмяняецца,* — адказаў я карат[ка].

— *Дык вы не адрокліся свайго сану?*

— *Не.*

— *А ці маглі б вы зрабіць публічны даклад аб шкоднасьці Царквы для народу. Вы ж напэўна ведаеце гісторыю Царквы і ведаеце шмат фактаў аб яе вялікай шкоднасьці.*

— *Гісторыю Царквы я ведаю даволі добра і ведаю нямала фактаў, калі паасобныя духоўныя рабілі дрэнна, але іх Царква асуджала, як камуністычная партыя асуджала тых, што адхіляюцца ад партыйнае лініі і дзейнічалі на шкоду народу.*

Зрабіўшы кіслую міну, т. Кобля маўчаў. Разьвіталіся мы холадна, а праз два дні я атрымаў ліст з районо аб звальненьні з працы. Калі аб гэтым даведаліся вучні, адразу намерваліся выслаць дэлегацыю ў аблоно, каб там адклікалі пастанову районо, але я ім адраіў гэта рабіць, бо ўсё раўно пастановы аб звальненьні не адклічуць, а вучням могуць зрабіць прыкрасьць. Ды і мне самому не хацелася далей быць савецкім настаўнікам. Культ Сталіна і культ бальшавіцкае ўлады ператвараў усе падсавецкія літаратуры, а беларускую ў асаблівасьці, у нейкую прытарную агітацыю. Таксама і ў граматыцы ўсе практыкаваньні былі перапоўнены агітацыяю. Калі да но-

вага году яшчэ была магчымасьць самому выбіраць матэрыял для практыкаваньняў і для літаратуры, дык ад студзеня 1940 г. праграма дакладна азначала матэрыял, які трэба было падаваць вучням. Таму звальненьне з настаўніцтва я прыняў з палёгкаю на сэрцы.

Да таго ўжо маею асобаю пачыналі цікавіцца якіясь няведамыя мне людзі. Адпраўляў я Службу Божую толькі ў нядзелі і ў часе між раньняю і сьпяванаю мшою, калі ў касьцёле амаль нікога не было. Але на Каляды касьцёл увесь час быў поўны і для шмат каго была немалая сэнсацыя ўбачыць савецкага настаўніка, які адпраўляў Службу Божую. Паколькі яшчэ ў Зах. Беларусі моцнага перасьледаваньня не было, мне не хацелася хавацца з маім сьвятарствам, аб гэтым будзе сказана больш у разьдзеле "Голад Бога".

## У Баранавіцкім музэі

У расейскай дзесяцігодцы разам са мною працаваў Турскі[339], арганізатар музэю ў Баранавічах. Як толькі ён даведаўся, што мяне звольнілі з настаўніцтва, дык сам запрапанаваў працу ў музэі, бо ён якраз зьбіраў кадры супрацаўнікоў згодна з інструкцыяю наркамату культуры. За польскіх часаў гэты музэй абслугоўвала двох чалавек, а цяпер кадры разрасьліся да 8 чалавек. Ужо шэсьць чалавек Турскі дабраў і бракавала толькі аднаго малодшага навуковага супрацаўніка і рэстаўратара. Я ахвотна згадзіўся працаваць малодшым навуковым супрацаўнікам.

Першы тыдзень уласьціва не было ніякае працы і ўсе супрацаўнікі музэю праводзілі час або ў гутарках, або ў чытаньні якіх музэйных рэдкасьцяў. Я скарыстаў з гэтага, каб абзнаёміцца з архэалогіяю і музэйнаю працаю.

Часам трэба было такжа выпаўняць розныя анкеты. Пры гэтым выяўлялася сапраўднае аблічча савецкае ўлады. Напрыклад, у анкеце кадраў замест нацыянальнасьці былі ўсяго дзьве рубрыкі: рускія, іншыя. Тут расейскі расізм пераплюнуў і гітлераўскі, і паўднёваафрыканскі расізм. Трэба мець на ўвазе, што гэтая анкета адносілася да ўстановы ў БССР.

Усе экспанаты музэю складаліся з тых рэчаў, якія сабраў да вайны Турскі. А з тых музэйных рэчаў, якія былі разграблены ў маёнтках магнатаў, нічога ў Баранавіцкі музэй ня трапіла. З другога боку, і сам

[339] **Леанард Турскі** (польск. *Turski*; 1881—?), культурны дзеяч, выпускнік Каралеўскай акадэміі прыгожых навук у Мюнхэне. У 1922–1940 гг. працаваў настаўнікам маляваньня й геаграфіі ў дзяржаўнай гімназіі імя Тадэвуша Рэйтана ў Баранавічах. Адначасова ў 1929–1944 гг. бесьперапынна быў дырэктарам Рэгіянальнага (пасьля гарадзкога) музэю ў Баранавічах. Пасьля Другой сусьветнай вайны выехаў у Польшчу, працаваў настаўнікам маляваньня ў Дзяржаўным ліцэі й гімназіі імя Генрыка Сянкевіча ў Чанстахове. У 1949 г. выйшаў на пэнсію.

Турскі некаторыя больш вартасныя рэчы, як, напрыклад, беларускі старадрук з XVII ст., трымаў у сябе ўдома. Аднак экспанатаў і так было больш, чым можна іх было выставіць у невялікім доме, прызначаным пад музэй.

Мне здавалася, што ў музэі ніхто мяне ня будзе турбаваць, але, на вялікі жаль, сталася інакш. На другі месяц мае музэйнае працы пачалі часьцей заглядаць у музэй розныя начальнікі з аблвыканкама. Аднойчы пасьля такіх адведзінаў Турскага паклікалі ў аблвыканкам. На другі дзень ён прыйшоў у музэй прыгноблены, бо яго начальства вылаяла за тое, што *"музэйныя кадры вельмі засьмечаны"*. Ясна было, што тым *"сьмецьцем"* была мая асоба. І сапраўды два тыдні пасьля мяне звольні[лі] з працы, не падаючы ніякіх прычынаў.

## Дарэмныя пошукі працы

Ня знаючы яшчэ належна савецкае ўлады, мне здавалася, што пры той нястачы інтэлігенцыі, якая адчувалася ў Зах. Беларусі, знайсьці працу ня будзе вялікіх цяжкасьцяў. Побач адміністратыўных установаў арганізоўваліся шматлікія арцелі і дробныя фабрыкі. Усюды патрабавалі бухгальтараў, а я бухгальтэрыю ведаў добра. У баранавіцкай газэце "Чырвоная звязда"[340] было нямала абвестак з запатрабаваньнем бухгальтараў. Выпісаўшы адтуль некалькі найбольш мне адпаведных адрасаў, я пайшоў шукаць шчасьця. І ўсюды паўтаралася тая самая гісторыя. Як толькі начальства пачула, што зьявіўся бухгальтар, радасна мяне віталі, але як толькі, зірнуўшы ў пашпарт, даведваліся, што я *"служыцель рэліг[ійнага] культу"*, казалі па адказ прыйсьці заўтра, а заўтра заяўлялі, што ўжо знайшлі сабе іншага бухгальтара. Так каля двох тыдняў я вандраваў па розных бюрах.

Ходзячы [па] гэтых бюрах і ўстановах, можна было наглядна пераканацца, як за кароткі час панасылана з Усходу усякіх начальнікаў, сакратароў, кіраўнікоў, інструктараў і асабліва так званых адказных работнікаў. Ці было больш з Усходняй Беларусі ці з РСФСР — цяжка сказаць. Але наогул я меў такое ўражэньне, што ў ніводнай калёніі мэтраполія ня мела [с]толькі сваіх людзей, колькі было прыслана ў Зах. Беларусь за пару месяцаў.

Адзін з тых прысланых — начальнік воблторгу, які жыў у суседнім доме і зь якім я часта спатыкаўся, — у прыватнай гутарцы мне сказаў:

*— Вы дарэмна шукаеце працы ў канцылярыі ці ў якой установе. Вам ніводзін начальнік гэткае працы ня дасьць, бо ёсьць няпісаны закон, паводле якога той, хто дасьць духоўнаму працу ў савецкай установе, атрымае сам тры гады прымусовых работ.*

---

[340] **"Чырвоная звязда"** — абласная баранавіцкая газэта, якая выдавалася ў 1939–1954 гг.

Раз існуе такое права, нічога ня зробіш. Цяпер я пераканаўся, як я мала ведаў савецкую ўладу і як зусім ня быў падрыхтаваны працаваць у катакомбах. Дамоў ехаць я не сьпяшаўся, бо там маё становішча было шмат горшым, чым у Баранавічах.

## Вывазы і арышты

Як толькі ўсталявалася савецкая ўлада, ужо зь першых жа дзён пачаліся вывазы сем'яў паліцыянтаў, лясьнічых, каляністаў і магнатаў. Гэта было для ўсіх самазразумелым. Але хутка пачаліся вывазы багацейшых сялянаў. Людзі са страхам пыталіся: за што? І не знаходзілі іншага адказу, як толькі той, што прычынаю вывазу было багацьце. Але якое ж было дзіва, калі пачалі арыштоўваць былых дзеячаў КПЗБ і беларускую інтэлігенцыю. У Наваградку былі ведамы Пранько[341] і Волько, якія за прыналежнасьць да КПЗБ сядзелі больш у польскіх турмах, чым былі на волі. І вось іх аднаго дня арыштавалі. Чуваць было, што ў іншых раёнах дзеялася тое самае. Адзін вясковы хлопец, працуючы ў Баранавічах, неяк запрыязьніўся з энкавэдыстам і, калі арыштавалі былога сябру з КПЗБ, пытаўся ў таго энкавэдыста, чаму гэта так робіцца. Той, будучы падвыпіўшы, паляпаў яго па плячы і сказаў:

— *Ты, брат, яшчэ ня знаеш савецкае ўлады. Нам патрэбны людзі, якія паслушна выконваюць усё, што ім начальства загадае, а тыя, што не баяліся польскіх турмаў, яны і нас ня вельмі слухаюць і крытыкуюць. Дык вось ім трэба прайсьці савецкую школу ў савецкіх турмах. Зразумеў?*

Так казаў па шчырасьці энкавэдыст, але афіцыяльна як прычыну арыштаў падавалі быццам нейкія забавязаньні, якія тыя камуністы нібыта мелі падпісаць перад выхадам з польскае турмы ў 1939 г., калі ўжо КПЗБ была разьвязана.

Дзеля тых самых прычынаў арыштоўвалі і беларускую нацыянальную інтэлігенцыю. Але калі арыштавалі абласнога (акруговага) вэтэрынарнага д-ра Мікалая Орсу, былога дэлегата на зьезду ў Беласток[у][342], дык людзі пачалі пытацца:

---

341 Магчыма, гаворка ідзе пра таго самага Пранько (Проньку), які фігураваў ва ўспамінах Сяргея Хмары: *"Быў так жа Пронька з Наваградчыны, які таксама не падпарадкаваўся разьвязаньню КПЗБ і зарганізаваў свой незалежны акруговы камітэт. Іх арганізацыя праводзіла тэрарыстычную акцыю й напады на паліцыю"*. Гл.: Хмара, Сяргей. Рабінавы хмель: выбраныя творы. Мінск: Кнігазбор, 2009. С. 186.

342 Маецца на ўвазе т. зв. **Народны сход Заходняй Беларусі** — бутафорскае мерапрыемства, праведзенае савецкімі ўладамі 28–30 кастрычніка 1939 г. у Беластоку дзеля фармальнай легітымізацыі ўключэньня тэрыторыі Заходняй Беларусі ў выніку "верасьнёўскага паходу" Чырвонай арміі ў склад СССР. "Выбары" на гэты сход былі праведзены 22 кастрычніка 1939 г.

*— Што ж гэта дзеецца?*

Арыштавалі яго зпадцішка не ў Баранавічах, а ў Стаўпцах, куды яго накіравалі па *“кама[н]дзіроўцы”*. Але чым больш тайна рабіліся такія арышты, тым больш аб іх было гутаркі.

І трэба ж было так здарыцца, што пару тыдняў пасьля арышту сп. Орсы, я неспадзевана стрэнуў на Савецкай вуліцы майго і Орсы школьнага сябра з Наваградзкай гімназіі Алеся募раўскага[343] ў форме НКВД. Я аж прыстаў са зьдзіўленьня. І ён затрымаўся.

*— Што глядзіш так, не пазнаеш?* — пытаець.

*— Як не пазнаць, каб Мараўскага не пазнаў?*

*— Мусіць дзівішся, што служу ў НКВД?*

*— Гэта ты ўгадаў.*

*— Няма чаго дзівіцца.*

*— Слухай, а ты чуў, што Міколу Орсу арыштавалі?*

*— Як-жа, каб будучы ў НКВД ды ня чуў?*

*— Ну скажы мне, але шчыра, па-сяброўс[ку], за што яго маглі арыштаваць?*

*— Мусіць, было за што, калі арыштавалі,* — адказаў, унурыўшы галаву.

*— Алесь, ты так гаворыш, як бы мне зусім ня верыў.*

*— Хіба табе што палягчэе, калі скажу?*

*— Пэўна што палягчэе, бо я хачу ведаць праўду аб маім, зрэшты, і тваім добрым сябры.*

*— Ён пачаў займацца контррэвалюцыйнаю дзейнасьцю.*

*— Алесь, ты гаворыш глупства, у якое, напэўна, і сам ня верыш.*

*— Я табе кажу, што гэта так.*

Я бачыў, што зь ім больш не было сэнсу гаварыць. Вучыўся ён заўсёды слаба і службу сабе выбраў ліха ведае якую. Прыкра было, што такі чалавек быў калісь сябрам.

Тым часам вывазы ў Сібір і Казахстан паўтараліся хваля за хваляю[344]. А таму што Баранавічы, як вузлавая станцыя, была зборным

343 Відаць, маецца на ўвазе **Аляксандар Мураўскі**, якога Андрэй Чэмер згадвае ў ліку тых, хто ў 1933 г. быў адлічаны з Наваградзкай беларускай гімназіі за правядзеньне камсамольскай дзейнасьці.

344 Усяго зь верасня 1939 г. да чэрвеня 1941 г. Заходняя Беларусь перажыла чатыры буйныя хвалі вывазаў і дэпартацый. 23 лютага 1940 г. у аддаленыя рэгіёны СССР былі прымусова вывезеныя 33 749 асаднікаў і 17 561 службовец лясной варты. Другая дэпартацыя была выканана 13 красавіка 1940 г., падчас якой з заходніх абласьцей БССР было выселена 26 777 чалавек, галоўным чынам паліцыянтаў, чыноўнікаў, настаўнікаў, сьвятароў, удзельнікаў антысавецкага руху і сяброў некамуністычных партый. 29 чэрвеня 1940 г. адбылася трэцяя хваля дэпартацый, якая распаўсюджвалася на ўцекачоў з цэнтральных ваяводзтваў Польшчы. Нарэшце, падчас чацьвёртай дэпартацыі ў чэрвені 1941 г. было вывезена 22 353 чалавекі.

пунктам для адсылкі канвояў, дык тут жуткае відовішча вывожваных сем'яў усьцяж сеяла прыгнобліючую атмасфэру.

Гэта якраз і была атмасфэра савецкага раю.

## Голад Бога

У доме настаўніка, дзе я жыў у Баранавічах, пасяліўся такжа ваенны пракурор зь сям'ёю — жонкаю, сынам і маткаю — родам дзесь з-пад Масквы. Мы зь цікавасьцю прыглядаліся да іх, а яны да нас. І вось жонка пракурора, гатуючы на адной пліце ежу разам з жонкаю настаўніка, пыталася ў яе зь цікавасьцю:

— *Чаму гэта ваш кватарант мае бараду?*

— *Хто яго ведае, я ў яго ніколі аб гэтым не пыталася.*

Але пасьля трох тыдняў супольнага гатаваньня яны запрыязьніліся, і тады жонка пракурора даведалася, што я сьвятар.

— *А ці мог бы ён ахрысьціць нашага сынка?* — пыталася яна ў жонкі настаўніка.

— *Ня ведаю, але я магу папытацца.*

Я ахвотна згадзіўся ахрысьціць дзіця пракурора. Гэтым вельмі ўсьцешылася ягоная маці, бабулька малога. У назначаны час пракурор з жонкаю пайшлі *"на прагулку"*. У пакоі астаўся хросьнік і ягоная бабулька. Я апрануўся ў сьвятарскую вопратку і адзеў рызу. Калі ў суправаджэньні настаўніка і ягонае жонкі — якія былі кумамі — я ўвайшоў у пракурораў пакой, ягоная старэнькая маці хвіліну ўзіралася на мяне, раптам замігалі яе павекі, пацяклі буйныя сьлёзы і яна кінулася цалаваць край рызы...

Якіх дзесяць мінут пасьля хросту вярнуўся пракурор з жонкаю і запрасілі мяне на пачастунак, падчас якога пракурор дакараў жонку і маці, што на такое вялікае сьвята пачастунак заскромны.

* * *

У суседнім доме было больш савецкіх урадоўцаў. Між імі быў начальнік аблгандлю. Гэта быў расеец, але родам з Грузіі, які кончыў Маскоўскі ўнівэрсытэт. Таму што гаспадар суседняга дому, банкавы ўрадовец, меў радыё, дык я часта хадзіў туды паслухаць апошнія навіны і пры гэтай нагодзе заўсёды сустракаў начальніка аблгандлю. Ён такжа зацікавіўся маею барадою і даведаўся ад гаспадыні дому, якая ведала мяне яшчэ зь-перад вайны, што я сьвятар. І вось пасьля гэтага, як я прыйшоў слухаць радыё, ён адразу:

— *Ці гэта праўда, што вы духоўны?*

— *Так, чыстая праўда.*

— *Але ж вы былі настаўнікам?*

— *І гэта праўда.*

*— А дзе вы вучыліся?*

*— Скончыўшы гімназію, кончыў таксама Багаслоўскую Акадэмію і ўнівэр[сытэт] у Інсбруку.*

*— І з такою асьветаю вы верыце ў Бога?!*

*— А хіба ж вы ня ведаеце, што найбольш вучоныя таксама верылі ў Бога?*

І пачалася гутарка. Ня спрэчка і ня дыспут, але спакойная гутарка на розныя рэлігійныя тэмы. Так мы гутарылі праз цэлы тыдзень. І падчас тых гутарак у пакоі сядзеў зь люлькаю ў зубах раённы аграном, каля апарату сядзеў гаспадар дому, а гаспадыня насьцеж адчыніла кухонныя дзьверы, каб слухаць гутарку ў кухні, толькі жонка начальніка аблгандлю аставалася ў сваім пакоі разам зь сямігадоваю дачкою. Кожны вечар гутарку пачынаў начальнік.

Пераскокваючы з тэмы на тэму, мы нарэшце закранулі справу місіяў і місіянараў. Зразумела, што гаварыў аб вялікай і карыснай працы місіянараў.

*— Ну што вы так хваліце місіянараў, калі гэта ў сапраўднасьці капіталістычныя агенты?!* — кажа начальнік.

*— Як жа яны могуць быць капіталістычнымі агентамі, калі яны ані ніякага матэрыяльнага капіталу для сябе не зьбіраюць, ані карысьці ня маюць з свае дзейнасьці. Наадварот, яны ахвяроўваюць усё сваё жыцьцё і ўсе свае сілы, каб несьці эвангельскую навуку між чужых і найчасьцей вельмі бедных людзей. І найчасьцей між тых бедных людзей яны ўміраюць у апошняй бедаце...*

Калі я гэта гаварыў, да начальніка прыбегла ягоная сямігадовая дачка, ускочыла на калені, абняла за шыю, пацалавала і пачала нешта шаптаць у вуха. Ён усьміхнуўся і кажа ёй:

*— Добра, добра, толькі пазволь мне крыху паслухаць.*

Яна палажыла галаву на яго плячо, гатовая таксама слухаць. Я прадаўжаў:

*— Вось вам прыемна мець сваю сям'ю, пачуць ад роднага дзіцяці шчырае і мілае слова, а місіянары яны ж таксама нармальныя людзі і маюць таксама гэткае жаданьне, але ахвяроўваюць яго Богу і гэта ня дзеля якогась дачаснага капіталу, але дзеля тае капітальнае справы, якая называецца збаўленьне людзкіх душаў...*

*— Вот знаеце, я аб гэтым ніколі ня думаў... Я мушу падумаць...*

Відаць, што мае апошнія словы яго моцна кранулі. Ён устаў, з дачкою на руках пайшоў у свой пакой. Больш ён каля радыё не паказваўся.

* * *

Але найцікавейшае выяўленьне голаду Бога ў падсавецкіх людзей здарылася мне ў Мірскім райваенкамаце пару месяцаў пазьней.

## Новыя парадкі[345]

Пасьля Новага 1940 году бальшавікі пачалі ўводзіць свае парадкі ўва ўсіх галінах жыцьця. Ужо ў папярэднім разьдзеле я гаварыў, як адбывалася "беларусізацыя" школьніцтва[346]. Падобнаю ж крывадушнасьцю азначаліся ўсе іншыя новыя парадкі. Усім урадоўцам прызнана плату нароўні з служачымі ў СССР, але хутка абвешчана "дабравольную" пазыку дзяржаве ў вышыні аднамесячнага заробку. Уведзены падатак і культзбор на ўсе сьвятыні. Але найбольшы націск абрушыўся на сялянства — гэта мела быць падрыхтоўка да калектывізацыі.

Наложана на ўсіх пада[т]кі і культзбор, а да тога шмат "дабравольных" паставак дзяржаве: мяса, збожжа, малака, яец; калі хто меў пчолаў — дык такжа і мёду. І ўсё гэта па сьмешна нізкіх цэнах (яны былі больш, чым у дзесяць разоў меншыя ад сапраўдных). На дадатак яшчэ наложана прымусовую працу на кожнага гаспадара: вывозіць лес, і вазіць каменьне на аэрадром і адрабляць шараварку[347] на новых дарогах. А цэны за гэтую працу былі проста кпінамі зь сялян: бо за цэладзённую працу з канём усяго можна было купіць 2 кг хлеба. Але вяршак задзірства адбываўся пры выглядзе тых "заробкаў", бо ад іх яшчэ адлічалі даходны падатак.

Уся праца, якую савецкая ўлада вымагала ад сялянства, мела характар жудаснае эксплюатацыі. Напрыклад, сяляне з нашае в. Трашч[ычы] і з суседніх мусілі кожны вывезьці па 20 м$^3$ зь лесу Крынічнага[348] (за Нёманам). На кожнае падарожжа патрэба было 2 дні, бо выяжджалася апоўначы, каб быць у лесе рана; там наладаваць дрэва і прывезьці на бераг Нёману, здаць кантралёрам і вярнуцца дамоў наступнага дня каля паўночы. Зь лесу да Нёмана можна было зьвінуцца толькі адзін раз і прывезьці ўсяго 0,8 м$^3$ або найбольш 0,9 м$^3$. Значыць, на вываз 20 кубамэтраў патрэбна было каля 50 дзён. А калі здараліся завеі і немагчыма было выехаць зь вёскі, дык пад вечар ужо зьяўляўся ў вёсцы якісь працаўнік з райкаму і пачынаў шукаць вінаватых "сабатажнікаў".

Але найбольш характэрнаю азнакаю савецкага ладу было віжаваньне за кожным і за ўсімі. Актывісты самі дабравольна сачылі за ўсімі, а некаторых энкавэдысты мабілізавалі на гэткую службу. У нас пад вокнамі часта ляжалі (?) розныя "цені".

---

345 У арыгінале гэта асобны тэкст на трох невялікіх старонках.

346 Маецца на ўвазе разьдзел "У савецкіх школах".

347 **Шарварка** — накладзеная на сялянаў павіннасьць будаўніцтва ды рамонту дарог, мастоў і іншых камунікацыйных шляхоў.

348 **Крынічнае** — сёньня вёска ў Мірскім пасялковым савеце Карэліцкага раёну Гарадзенскае вобласьці.

## Савецкая ўлада[349]

Перад набліжэньнем савецкіх войскаў амаль паўсюдна вясковае насельніцтва грабіла маёнткі. Такі грабёж прадаўжаўся і ў першых днёх савецкае акупацыі — ніхто не казаў супраць ніводнага слова. Але былі выпадкі, дзе мяйсцовыя актывісты замест грабяжу ладзілі прапарцыянальны падзел. Недалёка ад сталіцы ў адной маёнткавай малачарні двох актывістаў падрахавалі ўсё сьперш і раздавалі па паўтары галоўкі на кожнага жыхара іхняе вёскі. І вось дзіўна — камэндант са Століна востра асудзіў актывістаў:

— *Што за падзел? Хай бяруць хто колькі зможа.*

А судзілі такжа вельмі востра Хрыстовіча[350] ў Шчорсах[351] за тое, што ён сам казаў людзям:

— *Не лічыце сябе грабежнікамі, я вам сам усё аддаю, бярыце, што каму трэба.*

Тое ж было потым, калі ў некаторых вясковых крамах, дзе мяйсцовыя кіраўнікі раздавалі тавары паводле сьпісу насельніцта, а ня тым, хто першы прыбег у краму.

— *Так ня можна, хай становяцца ў чаргу.*

— *У чым справа?* — думалі шматлікія. — *Чаму бальшавікі так баяцца парадку?*

А яны парадку не баяліся, але баяліся такога ладу, які ня зьвязваў людзей зь іхняю ўладаю. Затое ім былі на рукі ўсякія нават дробныя ўчынкі, за якія яны самі ня несьлі ніякае адказнасьці, але станавіліся быццам абаронцамі тых, хто тыя ўчынкі зрабіў.

Пэўна ж той, хто грабіў маёнтак, будзе заўсёды баяцца, каб не прыйшла такая ўлада, якая яго за гэта пакарае.

Таму не падабаліся бальшавікам нават камуністы з КПЗБ, якія актыўна выступалі супраць бясчынстваў некаторых актывістаў і нават супраць прысланых з Усходу розных гора-кіраўнікоў.

Шмат сяброў КПЗБ, якія перажылі польскія турмы, налажылі галавою ў савецкіх турмах і канцлягерах.

Адзін з камуністаў Навагрудзкага абкаму, падпіўшы ў "даверанага" актывіста, тлумачыў на запытаньне:

— *Ну скажы ты мне, чаму гэта арышта[ва]лі нават некаторых людзей з КПЗБ?*

---

349 У арыгінале гэта асобны тэкст на васьмі старонках (4 невялікія аркушы).

350 Магчыма, тут прозьвішча пададзена скажона й маецца на ўвазе Апалінарый Храптовіч-Буцянёў (1879–1945), апошні ўладальнік маёнтка ў Шчорсах.

351 **Шчорсы** — сёньня аграгарадок, цэнтар сельсавету ў Навагрудзкім раёне Гарадзенскае вобласьці.

*— Яшчэ пытаешся “чаму?!”, дык яны ж не баяліся выступаць супраць палякаў і пачалі ўжо нас крытыкаваць — такія мудрагелі.*

А крытыкаваць было за што. У 1940 г. пачаўся страшны наступ на сялянства. Эксплюатацыя сялян шмат у чым была горшаю за паншчыну.

Панакладалі на сялян вялікія падаткі — культзбор, абавязковыя пастаўкі збожжа, мяса, яец; калі хто меў пчолы — дык такжа мёду; да таго яшчэ вываз дроў зь лесу, даставы каменьня на нованамечаныя аэрадромы і шараварка на будову дарог і да гэтага ўсяго яшчэ “дабравольныя” пазыкі дзяржаве.

## Экзархат[352]

Падчас маіх дарэмных пошукаў працы аднойчы зьявіўся да мяне а. В. Аношка. Глянуўшы на яго, я адразу дагадаўся, што зь ім мусіла нешта стацца нядобрае. Аблічча яго было белае. У руках ён вёў самакат.

*— Што сталася?* — пытаюся.

*— Сам ня знаю што, але памажы мне паправіць самакат, бо хачу заехаць у Альбэртын.*

*— Чаму ж гэта ў Альбэртын, а не ў Далятычы?*

*— Тут ніхто нас ня чуе?* — запытаў ціха.

*— Ніхто.*

*— Я сёньня ўцёк з НКВД і ня знаю, што з гэтага можа быць.*

*— Дык раскажэце толкам, як гэта сталася і ў чым справа.*

*— Налажылі на мяне вялікі падатак — 7.000 руб. і 3.000 культзбору. Дзе ж я мог назьбіраць [c]толькі грошай, дык вось паклікалі мяне ў НКВД. Там нагаварылі, напагражалі на мяне, а потым пакінулі мяне аднаго ў пакоі. Я чакаў, чакаў, а потым выйшаў на карыдор. Чамусьці і на карыдоры нікога не было. Ці гэта так зрабілі наўмысна, ці так сталася прыпадкам, ня ведаю, але я, доўга не чакаючы, пакуль мяне зноў паклічуць, адразу выйшаў на вуліцу, пайшоў да знаёмых, пазычыў самакат і еду ў Альбэртын да а. Неманцэвіча, але паветра выходзіць з задняга кола. Ты, здаецца, крыху знаешся на самакатах...*

Я не распытваў, чаму ён мусіў пагутарыць з а. Неманцэвічам, ды і гутарыць доўга не было калі. Як толькі я наладзіў яму кола, ён адразу паехаў. Але не прайшло і пару тыдняў пасьля гэтага, як да мяне ў Баранавічах зьявіўся а. Неманцэвіч. Распытваўся аб маіх намерах, аб працы і пераказаў мне пад вялікім сакрэтам аб падзеі гістарычнае важнасьці, што мітр. Андр[эй] Шэптыцкі ўтварыў чатыры экзархаты,

[352] У арыгінале гэта асобны тэкст на 18 старонках, што ўключае і наступны разьдзел.

між якімі і беларускі[353]. Экзархам назначаны ён — а. А. Неманцэвіч. Тымчасам праца экзархату мела весьціся ў сакрэце, але калі прыйдзе адпаведны час, усё мела быць падана да агульнага ведама. Пытаўся ў мяне, ці я згодзен удзельнічаць у гэтай працы.

*— Для такое працы ў мяне і згоды і ахвоты хапае.*

Мы коратка абгаварылі найбольш пільныя патрэбы Беларускага Экзархату і нашыя магчымасьці. Адразу выявілася, што на Беларусі асталося вельмі мала ўсходнекаталіцкага духавенства. Усе прыпадковыя людзі або паўцякалі, або зусім адпалі. Цяпер было да болю ясна, чаму перш на кожным кроку адчувалася так шмат цяжкасьцяў у ўнійнай дзейнасьці.

(Найбольшаю недарэчнасьцю ў нашым палажэньні было тое, што не было ніводнае парахвіі, куды б я мог паехаць, бо большасьць усходнекаталіцкіх парахвіяў ужо была зруйнаваная польскімі біскупамі і адміністрацыяю. Большая палавіна зь іх існавала толькі на паперы для справаздачаў у Рым, каб там замыльваць вочы, што вядзецца нейкая ўнійная дзейнасьць.)

Вечарам мы з а. Неманцэвічам адведалі сясьцёр сэрцанак[354], якія перш працавалі ў Альбэртыне, а цяпер мелі працу ў Баранавіцкіх дзіцячых дамах.

Супэрыёрка адразу ўцяміла, чаго да яе зьявілася двох барадачоў.

*— Бачу, што нам ня прыйдзецца забывацца беларускае мовы,* — казала, сьмеючыся.

*— Ані думайце!* — кажа а. Антоні, *— толькі маліцеся, каб Бог даў хутчэй магчымасьць узяцца за сваю працу.*

Назаўтра мы разам адправілі Сл. Божую і дагаварыліся спаткацца ў Далятычах для супольнае нарады.

У назначаны дзень у Далятычах нас было ўсяго трох: а. Неманцэвіч, а. Аношка і я. Пагаварылі мы аб тых нязьлічаных цяжкасьцях, якія вырыналі перад кожным нашым намераньнем; у канцы разьмеркавалі абавязкі, пастанавілі, што на другім зьезьдзе Экзархаў, які меў адбыцца ў Львове ў днёх....[355], ад Беларускага Экзархату разам з а. Неманцэвічам маю ехаць і я, як заступнік.

---

353 Мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі стварыў чатыры новыя экзархаты за межамі Галічыны 9 кастрычніка 1939 г. Гэта былі: экзархат Валыні й Холмшчыны на чале зь біскупам Міколам Чарнэцкім; экзархат для Беларусі на чале з Антонам Неманцэвічам; экзархат для Вялікай Расеі й Сібіры (на чале з айцом ігуменам Кляменціем Шаптыцкім); экзархат для Вялікай Украіны (Надняпраншчыны) на чале з арцыбіскупам Ёсіфам Сьліпым.

354 **Сэрцанкі** — манахіні з рыма-каталіцкага ордэну Аб'яднаньне служэбніц Найсьвяцейшага Сэрца Езуса, утворанага ў 1894 г. у Кракаве.

355 Так у аўтара.

Назаўтра раніцою мы ўтраіх адправілі ўрачыстую Службу Божую ў намераньні Белар. Экзархату. Таму што гэта быў будні дзень, дык дзяк зь цікавасьцю пытаўся:

— *Што гэта ў вас сёньня за такая ўрачыстасьць?*

— *Хіба ж для вас у Далятычах гэта ўпяршыню бачыць такую ўрачыстасьць у будні дзень?* — адказаў жартам а. Антоні.

Спачатку ўсю працу ў Экзархаце вёў амаль выключна сам экзарх а. Неманцэвіч. Ён зьвяртаўся да біскупаў [у] справе пераняцьця юрысдыкцыі, навязваў кантакты з духавенствам, вышукваў сродкі для пашырэньня дзейнасьці, рыхтаваў матэрыял для будучага выдавецтва.

Калі ўжо паціху [пачалі] расходзіцца трывожныя пагалоскі аб магчымасьці нямецка-бальшавіцкае вайны, зьехаліся ў Львове 4 усходнекаталіцкія экзархі. Айцец Неманцэвіч мяне прадставіў як свайго заступніка. Гэта была якраз тая падрыхтаваўчая праца, якая нават і пасьля пастановаў 2-га Ватыканскага Сабору[356] можа мець для будучыні вялікае значэньне. Пастановы абодвух зьездаў экзархаў ужо апублікаваны ў французскім перакладзе, дык не зьяўляюцца сакрэтам.

Мітрапаліт Шэптыцкі ў нарадах экзархаў ня ўдзельнічаў, толькі перад нарадамі расказаў аб тым, што папа Пій XII[357] спачатку не хацеў прызнаць створаных Экзархатаў, бо лічыў, што паўнамоцтвы папы Пія X для мітр. Шэптыцкага ўжо перадаўненыя, і казаў Экзархаты скасаваць. На гэта мітр. Шэптыцкі адказаў: *“На паўнамоцтвах не азначана даты, калі канчаецца іхняя важнасьць, таму я стварыў Экзархаты ў добрай веры на іх важнасьць. Калі ж цяпер папа лічыць, што паўнамоцтвы перадаўненыя, дык я ня маю права скасаваць Экзархатаў і перадаю ўсю гэту справу ў рукі вашае сьвятасьці”*. Папа касаваць Экзархаты не захацеў і прызнаў іх...

Галоўнаю мэтаю нарады экзархаў было: устанавіць праўныя і практычныя нормы для далейшае дзейнасьці. Маючы сумны досьвед з унійнае дзейнасьці пад кіраўніцтвам польскіх біскупаў у гадох 1923–1939, цяпер можна было безь перашкодаў вызначыць вытычнае[358] ўнійнае дзейнасьці для агульнага дабра і большае Божае славы.

У апошні дзень паседжаньня экзархаў зьявіліся ў Львове зусім пэўныя весткі ад аднаго лётчыка (быццам умысна пасланыя Божым

[356] **Другі Ватыканскі Сабор** — XXI Сусьветны сабор Каталіцкай царквы, які прайшоў у 1962–1965 гг. На ім быў прыняты шэраг важных дакумэнтаў, мэтай якіх было забесьпячэньне аднаўленьня царквы і яе рацыянальнай рэарганізацыі ў адпаведнасьці з выклікамі часу.

[357] **Пій XII** (1876–1958), Папа Рымскі ў 1939–1958 гг.

[358] **Вытычныя** (ад польск. *wytyczne*) — дырэктывы, кіруючыя прынцыпы.

правідам), што нямецка-бальшавіцкая вайна вісіць на валаску. Таму а. Неманцэвіч і я сьпяшаліся дамоў.

Аб далейшай долі Экзархату будзе гутарка ў разьдзеле аб нямецкай акупацыі, а цяпер варта хоць коратка прыглянуцца савецкай гаспадарцы ў Зах. Беларусі.

## Давай, давай, давай?

Калі за польскіх часоў сяляне наракалі на падаткі, дык бальшавіцкіх падатковых вымогаў нельга інакш назваць, як грабленьнем. Пры тым усё гэта згодна з савецкаю сыстэмаю было прыкрыта гучнымі клічамі: "савецкага патрыятызму", "ахвярнасьці", "дзяржаўнымі пастаўкамі" і пад.

Грашамі трэба плаціць: падаткі, культурны збор і "дабравольную" штогоднюю дзяржаўную пазыку — гэта адносіцца і да сялян, і да работнікаў.

Акрамя таго, сяляне мусілі даваць дзяржаве па дзяржаўных цэнах абавязковыя пастаўкі: збожжа, мяса, малака, яец, вывозіць дрэва зь лесу, вазіць каменьні на аэрадромы. Плата за ўсё гэта была горш чым мізэрнаю, але і ад яе яшчэ адлічвалі падаткі — бо ж гэта рахавалася заработкам.

Як у практыцы выглядалі гэтыя "заработкі", мне давялося пераканацца, як толькі вярнуўся дамоў з Баранавіч зімою 1940/41 году. Таму што бацьку было больш як 50 гадоў, дык вываз дрэва зь лесу запісалі на мяне. Трэба было вывезьці 20 кубаметраў таварнікоў[359] з Крынічнага лесу на бераг Нёману. Каб на час заехаць з Трашчычаў у Крынічнае, трэба было выяжджаць с поўначы. Там немагчыма было зьвінуцца больш як адзін раз і прывезьці дзеравяку, якіх 0,8 або 0,9 кубамэтр[аў].

Адтуль вярталіся дамоў, калі ўжо [...]

Гэта значыць, што магчыма было езьдзіць толькі раз на два дні, а для выкананьня ўсяе працы каля 50 дзён.

Нагляд за гэтаю працаю быў куды больш строгі і нялюдзкі, чым за часоў паншчыны. Аднойчы цэлы дзень і ноч бушавала завея. Усе дарогі так пазаносіла сьнегам, што ніхто ня мог выехаць зь вёскі. Вечарам таго ж дня зьявіўся якісьці "адказны работнік" з райкома партыі (зь Міра), склікаў сход і потым кожнага паасобку прабіраў за тое, што не паехалі ў лес. Як толькі чарга дайшла да мяне, дык адразу накінуўся:

— *Вы служыцель рэлігійнага культу?*

— *Так, я сьвятар.*

---

359 **Тварнік** — лес, які нарыхтоўваўся для наступнага продажу.

*— Ага, дык вось дзе прычына сабатажу. Гэта вы настойвалі, каб ня ехалі ў лес. Вы за гэта панясеце адказнасьць.*

*— Якая агітацыя, што вы гаворыце. Тут дарогі сьнегам замяло, што нельга зь вёскі выехаць, а вы...*

*— Знаемся мы на такіх нявінных,* — перабіў мяне і адразу ўзяўся пісаць пратакол.

Назаўтра раненька замест ехаць у лес я пайшоў у Мір і адразу накіраваўся да першага сакратара райкому. Ён ужо ведаў аб пратаколе і таму доўга не распытваў. Відаць было, што быў зьдзіўлены маім прыходам.

*— Як жа гэта так магчыма рабіць — завея дарогі замяла, а на мяне адказнасьць звальваюць? Выходзіць, нібы я як сьвятар вымаліў у Бога гэтую завею. Выходзіць, што камуністы, хаця ў Бога ня вераць, а на практыцы самі робяць рэлігійную прапаганду і за гэта я маю адказваць?*

*— Вы не зьвяртайце ўвагі на той пратакол,* — кажа і разгублена разводзіць рукамі.

*— Як жа не зьвяртаць увагі, калі мне пагражалі карамі?*

*— Калі я кажу, што нічога ня будзе, дык будзьце спакойны, толькі пастарайцеся вывезьці сваю норму.*

Ад першага сакратара райкама я яшчэ зайшоў да раённага пракур[ор]а і той такжа мне сказаў, што таго пратаколу я ня маю чаго баяцца.

Была ясна, што пратакол напісалі для пастраху, але для такога выпадку мая асоба зусім не надавалася, дык зь яго не зрабілі ўжытку.

Прыйшлося далей вывозіць лес. На беразе Нёмна ўжо ўздымаліся вялікія скірды таварнікаў. Аднойчы, калі я стаяў змучаны каля скірды з друкам у руках, якісь прыганяты актывіст пачаў голасна сьмяяцца:

*— Во, глядзіце, поп замяніў крыж на друк!*

*— Так, замяніў, бо вось такія, як ты, крыжа ня слухалі, а друка, напэўна, лепш паслухаюць.*

Гурт мужчын, каля якіх стаяў прыганяты, накінуліся на яго:

*— Ты на каго гэта плявузгаеш, жаба разьлезлая?!* — Іншыя адазваліся мацнейшымі словамі.

Прыганяты пачырванеў, змоўк і пайшоў да іншае скірды.

Шкода было глядзець на гэтыя скірды першакляснага лесу. І ўсё гэта потым змарнавалася. Вясною, пакуль надумаліся пазьбіваць плыты, прыйшла паводка і пазносіла ўсе тыя скірды немаведама куды. Тое ж было і на берагах Прыпяці і Заходняе Дзьвіны.

Падобнае марнатраўства вельмі часта здаралася і з абавязковымі пастаўкамі. Як толькі пачалі жаць, адразу зьявіліся з райкаму пасланцы:

*— Здавайце збожжа дзяржаве!*

Некаторыя малацілі насьпех сырое збожжа і вязьлі. Для прыліку зьверху ў мяшок насыпалі крыху сухіх зярнят і так здавалі.

Кантралёры пераглядалі збожжа, але ці яны маглі пераглядаць як належыць, калі перад прыёмным пунктам стаяў цэлы абоз фурманак? Збожжа прэла, псавалася.

Амаль ува ўсіх адносінах савецкае ўлады да сялянства панаваў злодзейскі падыход: *“Хапай чым найхутчэй, бо заўтра можа быць запозна!”*.

Здаецца, што яшчэ параўнаўча менш марнавалася жывёлы, якую мусілі аддаваць як абавязковую пастаўку мяса, але і тут няраз мелі мейсца [выпадкі] страшэннага марнаваньня.

Ужо ад 1940 г. вялася прапаганда калгасаў, але спачатку яна рабілася вельмі асьцярожна. Насельніцтва з Заходняй Беларусі вельмі хутка ведала аб страшэннай галоце, якая панавала ў Усх. Беларусі, хоць калішняя польска-савецкая граніца і далей ахоўвалася вельмі моцна, каб унемагчыміць узаемны кантакт насельніцтва. Але праўды было немагчыма схаваць. З Усходняе Беларусі прысылалі шмат розных кіраўнікоў, а сьледам за імі прыяжджалі і іхнія сем’і. Тыя, часам ня хочучы, прагаворваліся аб жыцьці ў калгасах.

Аднойчы ў кірмашны дзень у Міры жонка аднаго сакратара з райкому разам з сваею маленькаю дачкою купляла на рынку ежу. І вось яе дачка ўбачыла жабрака і крычыць да маці:

*— Мама, мама, паглядзі, во і тут ёсьць калгасьнік, а ты казала, што тут няма калгасьнікаў.*

Маці, як бачылі, пасьпяшыла “змыцца” з рынку, а людзі глядзелі то на яе, то на жабрака і перашэптваліся:

*— Гэта ж мусіць там усе калгасьнікі, як жабракі.*

Але з другога боку сяляне вечарамі, калі пачыналі гутарку аб калгасах, даходзілі да сумнага высноўку, што ім ад калгасаў усё роўна ўцячы немагчыма, бо даведваліся, што падчас калектывізацыі ў 1929–1931 гадах аграмадная большасьць тых, што супраціўляліся калектывізацыі, апынуліся ў Сібіры. Таму ў некаторых вёсках, якія знаходзіліся побач вялікіх маёнткаў, знаходзіліся ахвотнікі залажыць калгас з сваіх і з быўшых магнацкіх земляў.

Так зьявіліся калгасы ў Кожаве і Малых Жуховічах[360] Мірскага раёну, у Бабровічах Тэлеханскага раёну[361] і інш.

---

[360] **Малыя Жухавічы** — сёньня вёска ў Жухавіцкім сельсавеце Карэліцкага раёну Гарадзенскае вобласьці.

[361] **Целяханскі раён** існаваў у складзе спачатку Пінскае, а пасьля Берасьцейскае вобласьці БССР у 1940–1959 гг.

# ЧАСТКА III. НЯМЕЦКАЯ АКУПАЦЫЯ[362]

## Нямецкі наступ

Даведаўшыся ў Львове аб хуткім выбуху вайны, я сьпяшаўся ў Пінск, каб атрымаць назначэньне на якую-небудзь пустуючую парахвію. У суботу 21.VI пралат Івіцкі[363] даў мне назначэньне ў Бабровічы і параіў пераначаваць у яго. З ахвотаю скарыстаў прапанову.

Раніцою 22.VI прыцягнуў нашу ўвагу якісьці небывалы гоман у недалёкім доме, дзе была нейкая савецкая ўстанова. Там каля дзьвярэй таўпіліся жонкі савецкіх урадоўцаў зь Пінска і неспакойна крычалі аб *"транспарце для эвакуацыі"*...

Значыць вайна. Я адразу пасьпяшыў на станцыю, каб, яшчэ пакуль ходзяць цягнікі, неяк даехаць да Тэлеханаў[364], а адтуль падвадою да Бабровіч. Але на цягнік давялося чакаць доўга. І там у пачакальні пачуў праз радыё прамову Молатава[365], што немцы напалі на Савецкі Саюз. Ідзе вайна. Нямецкія самалёты бамбілі вузлавыя станцыі, і чыгуначны рух зь першага дня вайны быў у разладзе. Я мусіў зьмяніць сваю пастанову і замест у Бабровічы дабірацца дамоў, каб перачакаць буру наступленьня. Думаў, як пяройдзе фронт і крыху прыцiхне, я адразу змагу паехаць у Бабровічы. Але дамоў дабрацца было цяжка. Цягнік на Лунінец пайшоў позна, але прыехаў безь перашкодаў. Калі меў ісьці цягнік з Лунінца на Баранавічы, ніхто ня ведаў. На станцыі казалі чакаць, як будуць ведаць самі, тады павядомяць. Позна ўначы пачуўся гул самалётаў і была абвешчана трывога, але, на шчасьце, нямецкія самалёты праляцелі спакойна. Дзесьці каля паўночы абвесьцілі, што хутка адходзіць цягнік на Баранавічы. Ехалася спакойна, але перад самымі Баранавічамі, калі ўжо сьвітала, цягнік стаў. Над станцыямі ляталі нямецкія самалёты. Бамбардыроўка трывала нядоўга, і каля якое гадзіны 9[-ае] мы былі ў Баранавічах, але гэта быў апошні савецкі цягнік. Калі будзе йці які цягнік з Баранавіч на Менск,

---

[362] У арыгінале гэта асобны незавершаны тэкст на 54 старонках.

[363] **Вітольд Івіцк**і (1884–1943), каталіцкі сьвятар. У 1907–1920 гг. служыў на парафіях у Слуцку, Мазыры, Пецярбургу. Быў арыштаваны савецкімі ўладамі, у 1921 г. выехаў з Польшчы. Спачатку служыў сьвятаром у Нягневічах на Наваградчыне, ад 1924 г. — рэктар Вышэйшай духоўнай сэмінарыі ў Наваградку (пазьней пераехала ў Пінск). Ад 1926 г. — пробашч Пінскага катэдральнага касьцёлу, пінскі дэкан. Ад 1939 г. — генэральны вікарый Пінскай дыяцэзіі. Быў узяты немцамі ў закладнікі й расстраляны.

[364] **Целяханы** — сёньня гарадзкі пасёлак у складзе Івацэвіцкага раёну Берасьцейскае вобласьці.

[365] **Вячаслаў Молатаў** (1890–1986), савецкі партыйны й дзяржаўны дзеяч, у 1930–1941 гг. старшыня Савету Народных Камісараў СССР, у 1939–1949 гг. наркам (міністар) замежных спраў СССР.

каб ім даехаць да Гародзея[366], я ня мог дапытацца і рашыў пайсьці на старую кватэру і там пера[ча]каць навальніцу.

На маё зьдзіўленьне, дом быў замкнёны. Калі я стаў каля дзьвярэй з валізкамі і думаў, што ж рабіць далей, мяне ўгледзела гаспадыня суседняга дому і сказала, што Аляксандр Р. змабілізаваны вартаваць горад, а яго жонка зь дзецьмі выехала да бацькоў на вёску. На шчасьце, гаспадары перадалі ёй ключы ад дому, і яна мне перадала іх. І я, няпрошаны госьць, зноў заняў колішні мой пакой ды пачаў гатаваць абед.

Якраз, як быў гатовы абед, зьявіўся гаспадар. Спачатку зьдзівіўся, убачыўшы адчыненыя дзьверы, але, убачыўшы мяне ў кухні, моцна ўсьцешыўся.

*— Добра, што надумаліся зайсьці да мяне, а то ж было ўсьцішна аднаму.*

*— А мне, дык ісьці ўжо не было больш куды, бо цягнікі больш нікуды ня ходзяць.*

*— Вось і добра, аставайцеся тут як у сваім доме.*

Хата стаяла на ўскраю горада, далёка ад станцыяў, дык бамбардыроўкі не былі страшныя, але ў сераду вечарам пачуліся магутныя выбухі каля ваеннага гарадка. Мы з гаспадаром схаваліся ў правізарычнае[367] сховішча. Выбухі безупынна то ўзмацняліся, то слабелі да позна ўначы. Нам здавалася, што там ідзе заўзяты бой, але назаўтра даведаліся, што гэта бальшавікі ўзрывалі склад амуніцыі. Немцаў яшчэ не было чуваць блізка, як пачаўся пажар у цэнтры Баранавіч. Гэта НКВД, ня могучы эвакуіраваць дакумантаў, запалілі дом і не давалі тушыць, аж пакуль увесь дом ня быў у агні і займаліся суседнія дзеравянныя дамы, а потым і тушыць не было каму.

Жыхары з ускраіны Баранавіч, ведаючы, што рана энкавэдысты стралялі на тых, хто набліжаўся да пажару, з страхам паглядалі на пажар і бясьсільна глядзелі, куды накіроўваецца вецер. Папалудні ўжо не было чуваць аніякіх выстралаў, а пажар не сьціхаў. Я запрапанаваў гаспадару і ягоным суседзям пайсьці паглядзець, што робіцца на пажарышчы. Падыходзім да скрыжаваньня вуліц. Направа пажар ужо затрымаўся, а налева цэлае мора агню і займаецца новы дом, за якім густа йдуць дамы праз цэлы квартал. А там і да нашых дамоў недалёка.

*— Глядзіце, калі гэты дом загарыцца, дык і нам ня будзе дзе падзецца,* — кажу ўсім.

*— Дык што ж рабіць, на ім ужо дах дыміць?!*

*— А дзе ж людзейназьбіраць?* — спытаў сусед.

---

366 **Гародзей** — маецца на ўвазе сёньняшняя **Гарадзея**, гарадзкі пасёлак у Нясьвіскім раёне Менскай вобласьці.

367 **Правізарычнае** — тут: часовае.

Я заўважыў, што каля дому, па вуліцы [....] некалькі жыдоў.

— *Давайце спрабуем затушыць. Я палезу на дах: тут ёсьць крыху людзей, яны мне будуць ваду падаваць, вы йдзеце платы паразвальвайце ўздоўж гэтага вогненнага поля.*

— *Добра, да працы,*— адказалі згодна.

Навокал дома бегала каля двох дзясяткаў жыдоў. Я загадаў ім пазьбіраць усе вёдры з бліжэйшых хатаў, пастаць у рад і падаваць мне ваду на дах. Яны ахвотна кінуліся выпаўняць загады. Не прайшло і дзьвёх мінут, як я ўжо сядзеў на даху ўсяго які мэтар ад агню, а вёдры падаваў мне дужы юнак — Іцка — праз праламаныя гонты, а я, седзячы верхам на даху, ліў ваду то на дах, то на сваю вопратку. Пры мацнейшым подыху ветру з пажарышча прыходзілася хаваць галаву ў вядро з вадою, бо не было чым дыхаць. Але дом быў выратаваны, выбілі толькі шчыт, бо ён ужо быў абсмалены, а пажар быў затрыманы.

## Спатканьне з рабінам

Назаўтра рана мы чакалі немцаў, але іх яшчэ нідзе не было відаць; савецкіх жаўнераў ужо не было такжа. Мне карціла паглядзець на пажарышча. Падходжу да таго дому, за які ўчора йшло такое заўзятае змаганьне з агнём і ўзіраюся да абсмаленых краёў даху. Раптам з дому выбягае старэйшы чалавек з чорнаю барадою і адразу да мяне:

— *Я вам мушу заплаціць.*

— *За што вы мне мусіце заплаціць?* — пытаю зьдзіўлены.

— *Вы мне выратавалі гэты дом, дык я вам за гэта мушу заплаціць. А я баранавіцкі рабін.*

— *Мне прыемна, што я мог зрабіць вам прыслугу, але я не таму ратаваў дом, што ён ваш, а таму, што нам Хрыстос так казаў рабіць.*

— *Так!* — рабін хвіліну памаўчаў. — *Дык хай вам Хрыстос пашле ўсё найлепшае, чаго вы ад Яго жадаеце!..* — Пры тым ён паволі суклоніўся і задам пайшоў да дзьвярэй, яшчэ некалькі раз суклоніўшыся і зачыняючы дзьверы.

## Прыйшлі вызвольнікі

На наступны дзень ужо зматарызаваныя нямецкія калёны йшлі праз Баранавічы далей на ўсход. Перастрэлка з адыходзячымі савецкімі аддзеламі была вельмі нязначная.

Беларусы зь непрыхаванаю радасьцю чакалі немцаў як вызвольнікаў. Спадзяваліся, што нарэшце змогуць зажыць свабодна. Ужо даўно хадзілі пагалоскі, што быццам у Нямеччыне мелі быць створаны нейкія дзяржаўныя арганізацыі для Беларусі і Ўкраіны. А тым часам ішлі нямецкія войскі, а аб беларускіх ні слуху ні духу.

Здаецца, што на другі дзень прыходу немцаў нейкая большая часьць затрымалася на нашай ускраіне і адзін зь нямецкіх афіцэраў зайшоў у наш дом. Калі я загаварыў да яго па-нямецку, крыху зьдзівіўся, але хутка мы разгаварыліся. І вось ён мяне пытае:

*— Што вы думаеце пра гэтую вайну?*

*— Што ж я магу думаць? Мне цікава пачуць аб гэтым вашу думку і вашы пляны.*

*— А што я знаю, я радавы афіцэр: выконваю загады і цешуся зь перамогаў.*

*— Але ж вам павінна быць вядома, што мае быць з гэтымі абшарамі, якія цяпер займаеце.*

*— Паверце мне, што нічога ня ведаю.*

Пачуць такі адказ ад нямецкага афіцэра я ніколі не спадзяваўся. Мы якраз стаялі каля сьцяны, на якой вісела карта СССР, дык кажу яму:

*— Ну добра, разьбіць некалькі савецкіх часьцяў, набраць палонных — гэта, як бачыце самі, нават лёгка. Але ж гляньце, які гэта абшар, колькі тут народаў жыве, і апанаваць яго без канкрэтнага пляну ня знаю, ці магчыма. Я быў пэўны, што такія пляны нямецкае камандаваньне мае.*

*— Таму я вас і пытаў, бо і сам так думаю, але аб плянах нічога ня ведаю,* — І, не разьвітаўшыся, паволі выйшаў, сумна схіліўшы галаву.

Аб гутарцы з афіцэрам я расказаў Аляксандру Р., мы абодва такжа павесілі насы. Але што ж рабіць?

*— Пачакаем, што пакажа будучыня.*

Чакаць прыйшлося нядоўга. Адзін за другім пачалі дзеяцца розныя здарэньні, большыя і меншыя, якія аднагодна выяўлялі намеры [і] пляны нацыстаў адносна Беларусі і адносна беларускага народу.

Яшчэ таго ж дня вярнулася жонка гаспадара зь вёскі разам зь дзецьмі, у ліку якіх быў нованароджаны сямімесячны сын. Зьявіўся ён на сьвет пад грукат бамбардыровак і быў такі кволы, што бацькі ня мелі ніякае надзеі, што ён будзе жыць. Таму, хаця былі абое праваслаўныя, папрасілі мяне, каб я таго ж дня ахрысьціў малога, *"пакуль ён яшчэ дыхае"*.

Ня маючы з сабою міра, ані ніякіх рызаў, я пайшоў да кс. дзекана Барысэвіча[368], дастаць усё неабходнае для хросту. Калі я йшоў назад, на адным скрыжаваньні вуліц убачыў нямецкага жаўнера.

---

[368] Маецца на ўвазе **Ян Барысюк** (1888–1953), каталіцкі сьвятар, у 1933–1942 гг. пробашч касьцёлу Ўзвышэньня Сьв. Крыжа ў Баранавічах. Ад 1938 г. — баранавіцкі дэкан, кіруючы Ляхавіцкім дэканатам. Ад 1945 г. — генэральны вікарый Пінскай дыяцэзіі. У 1948 г. арыштаваны, загінуў у ГУЛАГу.

*— Стой, куды йдзеш!* — крычыць на мяне.

*— Іду хрысьціць хворае дзіця.*

*— Хрысьціць пойдзеш потым, а цяпер пойдзеш ачышчаць дом для нямецкіх жаўнераў.*

*— Я каталіцкі сьвятар і я не магу адкладаць хросту, калі дзіцяці ў небясьпецы сьмерці.*

*— Нічога знаць не хачу пра нейкі хрост, ідзеце за мною, а як не, дык я вас застрэлю!*

Вось дык вызвольнікі!!! Нават да каталіцкага сьвятара, які гаварыў па-нямецку, той радавы жаўнер зьвяраўся як да дзікуна!

Пару дзён пасьля я пазычыў самакат у гаспадара і выбраўся дамоў, бо ж бацькі яшчэ ня ведалі, дзе я, а я ня ведаў, што робіцца ўдома.

Хоць на дарозе было поўна нямецкага войска, але спачатку можна было ехаць безь ніякіх перашкодаў. Абапал дарогі ляжалі разьбітыя савецкія аўтамашыны і танкі. Сям-там былі магілы нямецкіх жаўнераў з каскамі на крыжах. Усюды збожжа было моцна здрасаванае. Ад Сталавічаў[369] да Вольнае на дарозе войска не было, але разьбітых танкаў было даволі многа і зь лесу каля Вольнае нясло моцным трупячым пахам. Там загінула многа савецкіх жаўнераў. Толькі калі я выехаў з Кожава і накіраваўся ў Вушу[370], убачыў два нямецкія аддзелы. Як толькі я зьехаў на луг, каб іх абмінуць, пачуў грознае:

*— Halt!..*[371].

Да мяне бегла двох жаўнераў і крычала:

*— Скідай свае рэчы і давай нам самакат!*

*— А гэта што за работа?* — крычаў я па-нямецку. — *Вы хто, жаўнеры ці марадзёры?*

*— Не гаварыць!* — крычаў адзін, і ўжо нажом адразаў мой багаж.

*— Галё, афіцэры! Абаранеце ад марадзёраў,* — крычаў я і пабег да аддзелаў.

Якісь афіцэр, пачуўшы нямецкую мову з вуснаў мясцовага жыхара, крычыць:

*— Гэй там, пакіньце яго ў супакоі і хадзеце ў строй!*

Неахвотна жаўнеры пакінулі самакат і не азіраючыся пабеглі ў свой аддзел. Затое яны далі сабе волю ў в. Радунь, шукаючы курэй, масла і сала.

[369] **Сталавічы** — сёньня аграгарадок, цэнтар сельсавету ў Баранавіцкім раёне Берасьцейскае вобласьці.

[370] **Вуша** — сёньня вёска ў Жухавіцкім сельсавеце Карэліцкага раёну Гарадзенскае вобласьці.

[371] Стой! (ням.).

Удома я быў усяго пару дзён і ў нядзелю выбраўся на Сл[ужбу] Б[ожую] у Мір. Пагода была хмурная, і я на ўсякі выпадак узяў парасон. Праходзячы празь Пясочна, мяне дагнаў вялікі абоз нямецкіх грузавікоў. Наладаваныя яны былі вопраткаю і рэчамі хатняга ўжытку. І вось з аднаго такога самаходу крычаць на мяне:

— *Стой!*

Я ўдаю, што ня чую і йду далей... Зноў той жа голас крычыць мацней:

— *Стой!*

А другі голас дадае:

— *Што там цырымоніцца, страляй!*

Я затрымаўся і кажу:

— *Чаго вам трэба?*

— *Аддавай парасон!*

— *А што вы, ваяваць будзеце парасонам, ці што?* — стараўся я гаварыць як найбольш чыста па-нямецку.

Зь іншага самаходу якісьці старшы закрычаў:

— *Пакіньце яго, хай ідзе.*

Пайшоў я, але з страшэнным цяжарам на сэрцы. Такога дзікунства і марадзёрства я яшчэ ня чуў і ня бачыў. Усё, што было на тых самаходах, было аграблена ад бедных беларускіх сялян.

З роднае вёскі я хутка вярнуўся ў Баранавічы (і вярнуўся без прыгодаў), маючы намер, каб адтуль пры першай нагодзе паехаць на парахвію ў Бабровічы.

У Баранавічах ужо было шмат навінаў. Ваенны камэндант назначыў бурмістра — паляка Гібоўскага, родам з Галічыны, — ён знаў добра нямецкую мову, бо калісь быў афіцэрам у аўстрыйскай арміі. Як бачым, зьявіліся былўшыя польскія ўрадоўцы ў новаарганізаваны магістрат, каб супрацоўнічаць зь немцамі. Арганізаваўся такжа інспэктарат; інспэктарам быў назначаны паляк Мазуркевіч. Арганізавалася паліцыя, амаль выключна з палякаў. І так рабілася ўва ўсіх гарадах Зах. Беларусі[372]. Дзіўна, што савецкая і польская прэса аб гэтых фактах маўчаць як заклятыя — а гэта ж былі першыя і найбольш руплівыя нямецкія супрацоўнікі.

Для беларускае інтэлігенцыі зьявілася грозная небясьпека. У малых мястэчках шмат каго немцы расстралялі на даносы розных асабістых ворагаў і польскіх паліцыянтаў.

Нельга было сядзець апусьціўшы рукі. У Наваградку, а сьледам за тым і ў Баранавічах зарганізаваліся Беларускія Камітэты. Праві-

---

372 Пра тое, як палякі ў першыя месяцы нямецкай акупацыі ўзялі ў свае рукі ўсю дзяржаўную адміністрацыю ў Заходняй Беларусі, і пра зьвязаныя з гэтым канфлікты пісаў у сваім дасьледаваньні “Беларусь пад нямецкай акупацыяй” Юры Туронак. Гл.: Туронак, Юры. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2006. С. 551–553, 556–559.

зарычная ўправа Баранавіцкага Бел. Камітэту складалася ўсяго з трох чалавек: д-р В. Войтэнка[373], інж. А. Таранда і я.

Пару дзён пасьля залажэньня камітэту зьявіўся ў Баранавічах д-р Шчорс[374] з Варшавы. Ён хадзіў у нямецкія Камандатуры С. Д. і паведаміў нам, што хутка магістрат перададуць у беларускія рукі, будзе выхадзіць беларуская газэта і будуць беларускія перадачы з баранавіцкага радыё. Мне даручылі арганізаваць рэдакцыю газэты і быць сьпікерам у радыё. Беларускія перадачы мелі быць кароткія, але штодзённыя. Думаючы, што гэта будуць сапраўды беларускія, я згадзіўся прыняць гэтыя абавязкі, але на кароткі час, пакуль будзе магчыма пераехаць у Бабровічы.

Пакуль я зьбіраў супрацаўнікоў рэдакцыі, з камэндатуры перадалі ў Камітэт матэрыял для газэты. Яго трэба было толькі пералажыць на беларускую мову. І матэрыялу было ўсяго на адну старонку газэты.

— Што гэта мае значыць? — пыталі мы сябе наўзаем, але ніхто ня мог нічога адказаць на гэтае пытаньне.

Занёс я пераложаны тэкст у друкарню, спадзею[чы]ся, што там спаткаю каго-небудзь і даведаюся больш аб газэце. Даведаўся толькі, што газэта мае выходзіць у трох мовах: 2 старонкі нямецкія, адна польская і адна беларуская, і мае называцца *“Baranowitscher Zeitung”* — “Баранавіцкая газэта”[375]. І мясцовым рэдактарам быў зондэрфюрэр

---

373 **Віктар Войтанка** (1912–1972), грамадзка-культурны й рэлігійны дзеяч. У 1939 г. скончыў Віленскі ўнівэрсытэт Стэфана Баторыя, атрымаўшы дыплём доктара мэдыцыны. З прыходам у Заходнюю Беларусь савецкай улады жыў зь сям’ёй у Баранавічах, працаваў загадчыкам дзіцячай паліклінікі й лекарам хуткай дапамогі. Пасьля акупацыі Беларусі нямецкімі войскамі арганізаваў у Баранавічах мэдыцынскую школу зь лекарскім, фармацэўтычным і адміністрацыйным аддзеламі. У 1943 г. на загад нямецкіх акупацыйных уладаў быў пераведзены на пасаду акруговага лекара ў Слонім. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне, ад 1950 г. у ЗША. Меў мэдыцынскую практыку, у 1969 г. рукапаложаны на праваслаўнага сьвятара.

374 **Мікола Шчорс** (1913–1995), грамадзкі дзеяч, выпускнік мэдыцынскага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту. У 1935–1937 гг. быў старшынём Беларускага студэнцкага саюзу. У 1939 г. выехаў у Варшаву, ад 1940 г. быў старшынём Беларускага камітэту ў Варшаве. 19 чэрвеня ў Бэрліне на пасяджэньні беларускага актыву быў абраны старшынём Беларускага нацыянальнага цэнтру — правобразу ўраду будучай Беларусі. Пасьля адмовіўся ад палітычнай дзейнасьці й вярнуўся ў Варшаву. Ад восені 1944 г. жыў у Нямеччыне, у 1949 г. выехаў у ЗША. Адзін са стваральнікаў Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі (БККА) і ягоны старшыня ў 1951–1955 гг. У 1955 г. — адзін з заснавальнікаў Камітэту незалежнай Беларусі.

375 **“Баранавіцкая газэта”** — газэта, якая выходзіла ў Баранавічах ад 22 ліпеня 1941 г. да 24 чэрвеня 1944 г. ва ўмовах нямецкай акупацыі. У 1941 г. выдавалася пад назвай *“Baranowitscher Zeitung”* (*“Baranavickaja*

Карл Бэрэнд, родам зь Вены, а тэхнічным рэдактарам Карл Хізгэн. Але яшчэ не было пэўным, што яна заўсёды будзе шматмоўная і нават не было вядома, як часта будзе выхадзіць.

У такім палажэньні не было іншае рады, як склікаць усіх сяброў Камітэту і вырашаць супольна, што рабіць далей. Але пакуль мы змаглі сабрацца ў Камітэт, на Марынскай[376] вул. зьявілася двох вышэйшых нямецкіх урадоўцаў і адзін афіцэр; зрабілі вобыск у памяшканьні і Камітэт разьвязалі. На наша запытаньне [да немцаў]:

— *Што ж гэта нам рабіць? Адміністрацыя ў польскіх руках, паліцыя таксама, а беларусы на роднай зямлі ня могуць нічога.*

— *Хутка адміністрацыя будзе перададзена беларусам,* — сказаў старэйшы зь іх, выходзячы з памяшканьня. Мы моўчкі выйшлі за імі.

У гэтым часе якіясь людзі пачалі пускаць пагалоскі, што ў Галіцыі ўкраінцы "распраўляюцца" з палякамі і немцы ім не перашкаджаюць. Калі беларусы так зробяць у Баранавічах, дык немцы гэтаму зусім ня будуць перашкаджаць. Ці гэта была правакацыя, ці ўмыснае нацкаваньне нацыі супраць нацыі, невядома, але беларусы адназгодна нават і слухаць не хацелі такое "рады".

## Рэлігійнае жыцьцё

Як толькі заціхла першая хваля ваеннае завірухі, вернікі ўсіх веравызнаньняў на Беларусі, за выняткам жыдоў, адчынілі ўсе тыя сьвятыні, якія ўцалелі, калі толькі зьяўляліся сьвятары. Звычайна ніхто ў нікога не пытаўся ніякога дазволу на адкрыцьцё сьвятыняў. І рэлігійнае жыцьцё быццам па інэрцыі пайшло так, як вялося да 1939 г. — у праваслаўных цэрквах у расейскім дусе, а ў каталіцкіх касьцёлах — у польскім дусе. Аднак нямецкае С. Д. адразу ж зарганізавала тайны нагляд за ўсімі сьвятынямі і сьвятарамі. Я хоць ня быў парахам, працаваў у рэдакцыі і служыў толькі прыватную Сл[ужбу] Б[ожую] у касьцёле, быў такжа на ўліку.

Даведаўся я аб гэтым даволі хутка, бо першы шэф баранавіцкага С. Д. — Бішоф — заклікаў мяне да сябе і правёў цэлы дапрос, праўда, у зусім ветлівай форме.

Я і так ня меў намеру доўга аставацца ў рэдакцыі "Баранавіцкай газэты" і ў радыё, а пасьля двох першых нумароў і пасьля пару

*hazeta"*) і публікавала матэрыялы на нямецкай, польскай і беларускай мовах. Па-беларуску тэксты спачатку друкаваліся лацінкай, ад чэрвеня 1943 г. — кірыліцай. Газета выходзіла два разы на тыдзень, ад 8 студзеня 1944 г. называлася "Пагоня". Усяго выйшла 313 нумароў.

376 Сёньня колішняя вуліца ў Баранавічах, якая ў часы Другой сусьветнай вайны называлася Марынскай, носіць назву Савецкая.

дзён радыёперадачаў я ўбачыў, што мяне горка падвялі нямецкія абяцанкі. Газэта так і аставалася трохмоўнаю з адною беларускаю старонкаю, на якую складаліся толькі пераклады нямецкіх артыкулаў і паведамленьняў вярхоўнага нямецкага камандаваньня, а ў радыё чыталіся толькі ваенныя паведамленьні і больш нічога.

Вось жа я пайшоў у Камэндатуру, каб атрымаць пропуск на чыгунку, даехаць да Тэлехан. На маё вялікае зьдзіўленьне, атрымаў катэгарычную адмову. Відаць, што ў Камэндатуры ўжо добра ведалі маё прозьвішча з рэдакцыі і з радыё. Тады я зьвярнуўся да зондэрфюрэра Карла Бэрэнда, каб мяне звольніў і з рэдакцыі і з радыё.

— *Не магу!* — адказаў коратка.

— *Але ж я сьвятар і мушу ехаць на сваю парахвію, там мяне ніхто не заступіў*.

— *Ваша парахвія мяне нічога не абходзіць. А калі вам так вельмі хочацца водпуску, дык я магу даць валавяны...* — пры гэтых словах дастаў з кабуры рэвальвэр і памахаў перад маім абліччам.

Пасьля такога адказу я сам ня знаў, што рабіць далей. Параіцца не было з кім. Калі я спрабаваў пагутарыць з кс. дзеканам Барысэвічам, дык ён толькі паціскаў плячыма. Да экзарха а. Неманцэвіча ў Альбэртыне нельга было дабрацца, бо я ня меў ніводнага вольнага дня. Асталася толькі здацца на Божы провід.

## Перамена адміністрацыі

Абяцанка немцаў перадаць адміністрацыю беларусам хутка збылася. Але гэта было зусім ня тое, чаго беларусы маглі спадзявацца. На мейсца Гібоўскага бурмістрам быў назначаны д-р В. Войтэнка, на мейсца Мазуркевіча інспэктарам назначана П. Міхайлоўскага. У гарадзкой управе мейсца палякаў занялі бела[русы], але перамены ў паліцыі адбываліся шмат павольней. Толькі зусім не зьмянялася акружэньне нямецкіх афіцэраў, якія на даўжэйшы час затрымоўваліся ў гарадах. Шмат хто зь іх меў пры сабе ў нейкім афіцыяльным характа[ры] польскую дзеўку, ці хто з цэнтральнае Польшчы, ці з быўшых служачых: яны адыгралі вельмі няпрыгожую ролю ў адміністрацыйных і нацыянальных дачыненьнях.

Калі нованазначаны беларускі бурмістар Баранавічаў выдаў сваю першую абвестку толькі ў нямецкай і беларускай мовах, дык мне прыйшлося быць сьведкам, як у вэстыбулі радыё тыя “прыжывалкі” апрацоўвалі сваіх афіцэраў і тэхнічных працаўнікоў радыё, пераважна падафіцэраў, супраць беларусаў. Назаўтра рэдактар “Баранавіцкае газэты” зондэрфюрэр К. Бэрэнд напісаў супрацьбеларускі артыкул пад загалоўкам “Шэры зьвер”. Я даў перакладаць артыкул Арыстарху К., а ён як толькі прачытаў яго, прыбег да мяне.

*— Глядзеце, што тут павыпісвана. Гэта ж ліха ведае што!*

Артыкул абвестку ў беларускай мове расцэньва[ў] як праяў шкоднага нацыяналіз[му], за які немцы могуць расправіцца згодна з ваенным часам.

Тут жа зьявіўся сам Бэрэнд.

*— Аб чым дыскутуеце?*

*— А вось дзівімся, што вы тут павыпісвалі.*

*— Напісаў тое, што думаюць немцы аб вашым нацыяналізьме,* — казаў сьмеюч[ыся].

*— Дык, па-вашаму, перш, калі да беларусаў зьвярталіся толькі па-нямецку і па-польску, было нармальна, а цяпер, калі беларуская адміністрацыя зьвяртаецца па-нямецку і па-беларуску, гэта мае быць нечым ненармальным?*

*— Гэта больш як ненармальна, гэта праяў, які трэба здушыць.*

*— Так можа гаварыць толькі той, хто бяздумна паўтарае нашэпты польскіх дзевак,* — заявіў [я] вострым тонам.

*— Я нямецкі афіцэр,* — крычаў пачырванеўшы, *— і вы мяне абражаеце такімі закідамі, я вас магу застрэліць за гэта.* — Ён выхапіў рэвольвэр і прыставіў мне да грудзей.

*— А я сьвятар і маю ня толькі права, але абавязак сказаць вам праўду, што вы хоць і афіцэр, але бабнік.*

У Бэрэнда дрыжалі рукі, ён злосна глядзеў на мяне, а я глядзеў на яго, чакаючы, што ён сапраўды можа стрэліць у мяне. Усе супрацоўнікі рэдакцыі і з дырэкцыі друкарні глядзелі на нас. Раптам ён апусьціў рэвольвэр.

*— Мы яшчэ пагаворым,* — сказаў праз заціснутыя зубы і пабег, на хаду хаваючы рэвольвэр.

Я сеў за стол, каб крыху супакоіцца. Арыстарх узяўся за артыкул. Усе іншыя кудысьці павыходзілі, перашэптваючыся. Я думаў, чым можа кончыцца гэты выпадак, а Арыстарх “студыяваў” артыкул. Па некалькі хвілінах ён ужо зусім спакойна гаварыў.

*— А ці не дарэмна мы нарабілі толькі гоману? Гэты ж артыкул мае подпіс зондэрфюрэра, дык няхай людзі ведаюць, якім духам яны да нас дыхаюць.*

Я перачытаў яшчэ раз увесь артыкул і прызнаў яго заўвагу зусім слушнаю.

*— Сапраўды, артыкул [напісаны] па-нямецку немцам і друкуецца ў нямецкай газэце і падпісаны зондэрфюрэ[рам], а польская і беларускія старонкі — гэта ж толькі пераклады. Няхай народ ведае, што гэта за птушкі. Перакладай і ў набор.*

Выпадак быў каля гадзіны 10. І вось мінуў абед, і артыкул ужо быў пераложаны і набраны, пачынала сутонець, убягае ў пакой Бэрэнд і зьвяртаецца да мяне надзіва лагодным голасам.

*— Вы мелі некаторыя засьцярогі да майго артыкулу, ці не былі б вы ласкавы напісаць мне, як вы думаеце яго паправіць.*

*— Я перадумаў і не лічу патрэбным яго праўляць, бо артыкул мае ваш подпіс і выказвае вашыя думкі. Вось ужо артыкул набраны і скарагаваны.*

*— Выбачце, што я турбую, але я вас прашу зьмяніць заканчэньне артыкулу згодна з вашаю думкаю і так будзеператлумачана па-нямецку і па-польску.*

Просьба яго была выканана. Але першапачатковы тэкст я захаваў для сябе і для бурмістра. На жаль, у часе эвакуацыі яны згінулі. Куды хадзіў Бэрэнд, хто яму казаў зьмяніць той пагрозьлівы артыкул, я ня ведаю, але пасьля гэтага ён зьмяк і хутка быў высланы далей на ўсход. Для мяне было дзіўна, што нехта зьверху казаў яму лічыцца з думкаю беларуса. На мейсца Бэрэнда быў назначаны д-р Дамэн, малодшы музыкалёг, родам з Кёльна.

Пры першай нагодзе я яму паказаў маё назначэньне на парахвію ў Бабровічы і прасіў звольніць мяне з рэдакцыі і радыё.

*— Добра, толькі знайдзе[це] кагосьці, каб вас заступіў; найлепш асобна для рэдакцыі, асобна для радыё,* — казаў новы зондэрфюрэр.

Пакуль я шукаў заступнікаў, трапіўся зноў небясьпечны выпадак.

Шукаючы спасобных людзей на сваё мейсца, адначасна я шукаў транспарту. Мне параілі зьвярнуцца да ўправы Беларускае Каапэратывы: яны езьдзяць у Пінск па запалкі, дык маглі і мяне па дарозе завезьці ў Бабровічы. Старшыня ўправы каапэратывы Патаповіч ахвотна згадзіўся памагчы, але пад умоваю, што я знайду бэнзыны, і адразу параіў пагаварыць з кіраўніком гаспадарскае часьці нямецкага гарнізона ў Баранавічах.

Неадкладна я знайшоў гэтае кіраўніцтва. Мяне ветліва прыняў палкоўнік фон Швэнт. Выслухаў маю просьбу і кажа:

*— З бэнзынаю ў нас скупа, але я магу вам даць мой асабісты прыдзел, які я ня выкарыстаў. У мяне ёсьць 20 літраў, гэта вам даволі?*

Зь вялікаю ўдзячнасьцю я прыняў яго падарунак. Пры гэтай нагодзе завязалася гутарка над рэлігійным палажэньнем у Баранавічах. Ён яшчэ ніколі ня бачыў каталікоў усх[одняга] абраду.

*— Мяне цікавіць пабыць на ўсходняй Службе Божай, ці маглі б вы мяне завясьці ў якую царкву.*

*— Чаму ж не? З прыемнасьцю.*

*— Ведаеце, у мяне ёсьць добры прыяцель, гэта тутэйшы бэрайхскамэндант*[377]*, ён такжа з ахвотаю пойдзе з намі. Ідзём я вас зь ім пазнаёмлю.*

---

[377] **Бэрайхскамэндант** (ням. *Bereichskommendant*) — раённы камэндант.

Праз пару хвілін мы ўжо знаёміліся з бэрайхскамэндантам (прозьвішча ўжо не памятаю) і дагаварыліся ў бліжэйшую нядзелю ісьці ў царкву на магільніку. Я папярэдзіў параха, што ў нядзелю будуць незвычайныя "малельнікі". А яны пасьля Службы Божае падзякавалі за тлумачэньні і мы разышліся кожны ў свой бок.

І вось усяго пару дзён пасьля тое нядзелі, праходзячы праз друкарню, мне кінулася ў вочы нейкая абвестка каля прэсу. Пад нямецкім і польскім тэкстам быў трэці тэкст, які меў быць беларускім, але напісаны такою моваю, што я ніколі ў маім жыцьці не спатыкаў такіх кпінаў зь беларускае мовы. Пад нізам быў подпіс "Бэрайхскамэндант".

Я ўзяў адзін экзэмпляр тае абвесткі і паправіў чырвоным алоўкам усе моўныя і граматычныя памылкі: тэкст зрабіўся зусім чырвоным, і адразу пайшоў да знаёмага ўжо бэрайхскамэнданта.

Прывітаўшыся, паказаў яму тую абвестку ды кажу:

— *Хіба ж пад такім тэкстам вы не паставіце свайго падпісу.*

— *Няўжо гэта так няграматна пераложана?*

— *На жаль, так!*

Ён адразу выклікаў загадчыка па аграрнай часьці. Гэта быў інжынэр паляк Чыжэўскі.

— *Хто перакладаў гэтую абвестку на беларускую мову?*

— *Пералажыў інжынэр Ваткевіч (такжа паляк).*

— *Паклічце яго сюды.*

Пры гэтай нагодзе выявілася, што [у] Камэндатуры яшчэ ўсе цывільныя супрацоўнікі былі палякі. Калі абодва інжынэры зьявіліся да камэнданта, дык ён гаварыў зь імі даволі востра і загадаў передрукаваць усю абвестку, а потым зьвярнуўся да мяне.

— *Ці маглі б вы згадзіцца на будучыню рабіць нам пераклады на беларускую мову? Працы будзе нямнога,* — пытаўся камэндант.

— *З ахвотаю, толькі, здаецца, я хутка маю выехаць з Баранавіч.*

— *Ну, але пакуль будзеце?*

— *Згода!..*

Здаецца, што праз тыдзень пасьля тое размовы зьявіўся да мяне ў рэдакцыю інж. Чыжэўскі з новаю абвесткаю для перакладу.

— *Добра,* — кажу, — *але мне цікава, як вы надрукавалі тамтую абвестку.*

— *Я яе з сабою ня маю.*

— *Магчыма, што тут у друкарні можна знайсьці які экзэмпляр.*

— *Не. Сталася так, што мы не маглі надрукаваць, дык абрэзалі беларускі тэкст.*

— *Так?! Дык нашто я маю зноў перакладаць, траціць час, каб вы выкідалі на сьметнік маю працу?*

— *Цяпер напэўна надрукуем.*

— *Надрукуйце перш тое, што я ўжо пераложыў, тады буду перакладаць гэта.*

— *А я вам загадваю ў імені бэрайхскмэнданта перакладаць безь ніякіх умоваў.*

— *А вас знаць не хачу і выйдзіце адгэтуль, ды не перашкаджайце мне працаваць!* — сказаў я катэгарычна і адчыніў дзьверы.

Назаўтра я прыйшоў у рэдакцыю зь невялікім спазьненьнем, і ўвесь пэрсанал друкарні на маё прывітаньне казалі.

— *Вас шукала жандармэрыя!*

Не чакаючы, пакуль зноў прыйдуць жандармы, я адразу пасьпяшыў да бэрайхскамэнданта. Ён спаткаў мяне і з жартам і з гразьбою.

— *Што ж гэта вы займаецеся сабатажам!*

— *Якім сабатажам?*

— *Выкінулі майго інжынэра за дзьверы ды яшчэ пытаецеся?*

— *А вы ведаеце, што ён зрабіў?*

— *Што?*

— *Той пераклад, які я паправіў і які вы казалі нанова надрукаваць, ён адрэзаў і выкінуў вон, а абвестку выслаў зусім безь беларускага перакладу.*

Камэндант ускочыў [зь] мейсца, загрукалі дзьверы, забегалі інжынэры і перакладчыкі.

— *Выбачце, такое сьвінства больш не паўторыцца!* — казаў мне камэндант на разьвітаньне.

Тым часам рэдакцыю я перадаў А. Шышку, а радыё згадзіўся пераняць мой школьны сябра Барыс К. Др. Дамэн выдаў мне даведку, што я звольнены на ўласную просьбу і еду ў Бабровічы. Але была затрымка з самаходам.

## Вівісэкцыя[378]

Затрымка была выклікана тым, што ў міжчасе адбыліся вялікія перамены. 1.IX на мейсца ваенных нямецкіх уладаў былі ўстаноўлены цывільныя нацыстаўскія адміністрацыі. І пры тым страшэнна абрэзаны беларускі абшар. Ужо 1.VIII.1941 Беласточчына і Гродзеншчына (абшар 30.000 кв. км, 1. 300.000 жых.) па загаду Фюрэра былі далучаны да Ўсходняе Прусіі. А 1.IX.1941 частка Палесься (зь Пінскам і Берасьцем) была далучана да Камісарыяту Ўкраіна, узамен за Галіцыю, якую далучана да Генэральнага Губэрнатарства.

На рэштках беларускага абшару 1.IX.1941 на мейсца нямецкае ваеннае ўлады была ўстаноўлена нямецкая адміністрацыя — т. зв.

[378] **Вівісэкцыя** (ад лац. *vivus* — жывы і *sectio* — расьсяканьне) — тут у сэнсе: рэзаньне па жывым.

*Weissruthenische Generalkomissariat* на чале з гаўляйтэрам В. Кубэ[379] ў Мінску.

У Баранавічах знаходзіўся галоўны Камісарыят для зах. часткі Беларусі на чале з Франкам і *gebitskommisariat* на чале [з] палк. Вэрнэрам[380].

Але яшчэ пасьля ўстанаўленьня цывільнае ўлады 4.VI.1942 далучана да Летувы 3 паветы: Сьвірскі, Ашмянскі і Эйшышкаўскі — нібыта для зьменшаньня партызанскага руху[381].

## Адведзіны Бабровіч

Прыйшлося разьвітацца з самаходам. Пазычыў у Барыса самакат і паехаў у Бабровічы, каб на мейсцы ўбачыць, што рабіць далей.

Маё зьяўленьне ў Бабровічах было неспадзеванкаю для ўсіх. На абліччы ўсіх тых, з кім я гаварыў, адчувалася нейкае дзіўнае запытаньне: *"Што ж цяпер будзе?"*.

Дзеравянная, яшчэ новая і няскончаная царква стаяла на невялікай плошчы па сярэдзіне вёскі. Дзякаўскі дом, школа і сьвятарскі дом стаялі адчыненыя насьцяж, з павыбіванымі вокнамі, зь печам бязь дзьверцаў і бяз ложкаў.

— *Што ў вас тут рабілася?* — пытаюся ў царкоўнага старосты.

— *Ох, войча, і расказаць цяжка.*

Ідзём да старэйшага дзядзькі, які заступаў дзяка, і там расказваюць, што ў Бабровічах, з прыходам савецкае ўлады, быў зарганізаваны першы ў раёне калгас. Параху а. Пачопку і яго сям'і рабілі ўсякія прыцясьненьні, каб яго выгнаць зь вёскі. Ён страшэнна цярпеў і бедаваў, але парахвіі не пакідаў. Тады актывісты пачалі зь яго зьдзекавацца. Некалькі разоў кідалі яго на капу саломы і падпальвалі яе. Пасьля такіх "пажараў" ён дастаў расстройства

---

379 **Вільгельм Кубэ** (ням. *Kube*; 1887–1943), кіраўнік нямецкай цывільнай адміністрацыі ў Генэральнай акрузе Беларусь у 1941–1943 гг.

380 **Рудольф Вэрнэр** (ням. *Werner*), обэрфюрэр, у 1941–1944 гг. гэбітскамісар Баранавіцкай акругі.

381 Першапачатковы варыянт, перакрэслены аўтарам:
*"Затрымка была выклікана тым, што ў міжчасе вялікая частка беларускага Палесься зь Пінскам і Берасьцем была прылучана да Ўкраінскага Генэрал-камісарыяту, затое ўся Галіцыя была ўключана да польскага Генэрал-губэрнатарства, Віленшчына аставалася пры Летуве; а па некаторым часе ўся Беласточчына была далучана да Ўсходняе Прусіі.*
*Такое рэзаньне жывога цела Беларусі і суседніх народаў мела выразную мэту: растравіць нацыянальныя спрэчкі. А з другога боку, пасьля такога рэзаньня нямецкая адміністрацыя не магла мець ніякага даверу да народаў з гэтых парэзаных абшараў".*

нэрваў і памёр у шпіталі, а ягоную сям'ю вывезьлі ў Сібір. Потым гэтую царкву ганебна спрафанавана[382].

Як прыйшлі немцы, дзесяцёх быўшых актывістаў арыштавана і расстрэляна.

Пры тым немцы забаранілі іх хаваць на агульным магільніку. І гэта сталася нядаўна. Мне адразу стала ясна, чаму на мяне глядзяць так дзіўна. Але тут жа моцна зьдзівіў мяне староста, калі ў канцы свайго апавяданьня заявіў.

*— А мы ведалі, што вы маеце прыехаць.*

*— Як жа вы маглі ведаць, калі я сам ня ведаў, калі і як сюды прыеду?*

*— У нас адна жанчына бачыла вас у сьне тыдзень таму і казала, што да нас прыедзе бацюшка ў акулярах і зь невялікаю барадою.*

Як яна магла бачыць такі сон, гэта адзін Бог ведае.

Агледзеўшы ўсе будынкі, зямлю і пагутарыўшы зь людзьмі, рубам стала пытаньне:

*— Як жа тут затрымацца? Дзе жыць і з чаго жыць?*

Я прыехаў у суботу, вось жа і старосту і дзяку кажу, што заўтра будзем служыць Службу Божую.

*— Заўтра мала хто прыйдзе ў царкву,* — кажа дзяк, — *бо на заўтра назначаны сход. Зь вёскі трэба даць дзьве каровы немцам.*

*— Дык усе ж на сход ня пойдуць.*

*— Пэўна што не, але гутаркам пасьля сходу канца няма, то тое, то гэта...*

Ужо з гэтых слоў было ясна, што тут ёсьць шмат глыбокіх прычынаў, якія паважна зруйнавалі рэлігійнае жыцьцё. І сапраўды, на Службу Божую людзей прыйшло вельмі мала. Нават не было цікавасьці да новага сьвятара. Аднак, нягледзячы на ўсе гэтыя адстрашваючыя цяжкасьці, я пастанавіў перабрацца ў Бабровічы і з гэтаю думкаю я вярнуўся ў Баранавічы, каб забраць, хоць на самакаце прывезьці з сабою прынамсі самыя неабходныя рэчы. Але сталася іначай.

## Беларускае школьніцтва

У Баранавічах я думаў затрымацца ўсяго некалькі дзён, каб вырашыць найбольш пільныя справы бабровіцкага парафіяльнага ж[ыцьця]. Я меркаваў сам асяліцца ў дзякаўскім доме, бо ён быў побач царквы, зразумела, перш адрамантаваўшы яго, а сьвятарскі дом, які патрабаваў яшчэ больш рамонтаў, ператварыць у сірацінец і запрасіць туды тых сясьцёр, што вялі сірацінец у Альбертыне. Яны

382 Падрабязьней пра лёс Баляслава Пачопкі гл.: Ільіна, А. Уніяцкі сьвятар на фоне заходнебеларускай рэчаіснасьці 1920–30-х гг.: Баляслаў Пачопка // Асоба ў гісторыі: гераічнае і трагічнае: матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі студэнтаў і аспірантаў, 21–22 лістапада 2003 г.: у 2 ч. Ч. 1. Брэст, 2004. С. 112–117.

жылі ў Баранавічах і працавалі ў дзіцячых дамах. Трэба было такжа пастарацца адчыніць школу. Для вырашэньня ўсіх гэтых справаў трэба было крыху (?) часу і турботаў. Сясьцёр я знайшоў хутка і супэрыёрка згадзілася ў прынцыпе пераехаць у Бабровічы, калі згодзяцца іншыя сёстры. На ўтрыманьне сірацінца я праектаваў перадаць парахвіяльную зямлю. Сіротаў у Бабровічах і ваколіцы было многа.

Затое школьная справа, якая мне здавалася зусім лёгкаю, зусім паблытала мае пляны. Акруговы інспэктар П. Міхайлаўскі, як толькі ўбачыў мяне, кінуўся насустрач:

*— Вось добра, што я вас бачу, вось добра!*

*— Добра, што вы так цешыцеся, бо я маю да вас справу.*

*— І я маю да вас важную справу. Мы арганізуем шасьцітыднёвыя настаўніцкія курсы, і нам патрэбны назарэз настаўнік беларускае мовы і гісторыі Беларусі.*

*— Тут жа ў Баранавічах былі беларускія сямігодкі і дзесяцігодкі і Пэдагагічны Інстытут, няўжо нікога не асталося?*

*— Можа дзе і ёсьць, але нам патрэбны добры кваліфікаваны настаўнік, каб вучыць будучых настаўнікаў.*

*— Вось табе і маеш! А я спадзяваўся знайсьці ў вас якога настаўніка для аднае школы на Палесьсі, і зь ім зараз жа туды выехаць.*

*— Цяпер такіх настаўнікаў зусім няма. Вось памажэце нам добра наладзіць настаўніцкія курсы, і тады можаце ўзяць любога настаўніка.*

Цяжка было згадзіцца, але яшчэ цяжэй было адмовіцца ад прапановы. Шмат было прычынаў: і за і супраць. У канцы перамагла тая думка, што адзін у Бабровічах я нічога не зраблю. Я хацеў абавязкова там адчыніць школу. Парахвія была ў руінах з кожнага гледзішча. Да таго хацелася мець кантакт з настаўнікамі, якія да гэтага часу ня мелі ніякае рэлігійнае асьветы.

Шэсьць тыдняў выкладаў на настаўніцкіх курсах мінулі хутка. Выкладалася зь вялікаю прыемнасьцю, бо курсанты — гэта была моладзь, якая з прагнасьцю ўбірала кожнае слова, каб яго далей несьці сваім малодшым суродзічам.

Аднак было вельмі сумна, калі з інспэктарату даходзілі жуткія весткі аб нямецкіх плянах адносна школаў на Беларусі. Немцы катэгарычна адмовіліся даць дазвол адчыняць гімназіі; аб унівэрсытэце не магло быць і мовы. Дазвалялі толькі пачатковыя-сямікласныя і прафэсыянальныя школы, розныя курсы; дазволілі некалькі прагімназіяў і настаўніцкіх сэмінарыяў, а ў іх не дазвалялі ніякіх выкладаў рэлігіі, хоць дазволена была малітва перад і пасьля навукі. У Прыбалтыцы гімназіі і ўнівэрсытэты былі дазволены.

Калі настаўніцкія курсы даходзілі да канца, курсанты зьвярнуліся з просьбаю прадаўжаць навуку. Але ўжо пачаўся школьны год і адусюль дамагаліся настаўнікаў. Іхнія самазразумелыя просьбы здаволіць было немагчыма.

На заканчэньні курсаў, 30.XI.1941, былі розныя прамовы. Я папрасіў інспэктара даць мне слова апошняму і гаварыў ня толькі як настаўнік, але і як сьвятар. І курсанты, і настаўнікі і госьці слухалі таго слова зь нязвычайнаю ўвагаю. Курсы закончыла 227 чалавек.

На курсах быў мой родны брат Косьця, і ён згадзіўся ехаць разам са мно[ю] у Бабровічы.

## Асьцярога: ня едзь!

Калі я зноў пачаў рыхтавацца ў дарогу, зноў упапярок дарогі стала цэлая купа розных перашкодаў. У гэбітскамісарыяце зноў катэгарычна адмовіліся даць білет на цягнік да Тэлеханаў. Самаходаў такжа нельга было знайсьці: маю бэнзыну даўно праезьдзілі. Выслаць ліст у Бабровічы не было ніякае магчымасьці, бо пошта не хадзіла і ніхто з тых ваколіц не паказваўся ў Баранавічах. Зноў прыйшлося пазычаць самакат.

Ужо быў пачатак сьнежня і раніцамі прымарожвала. Але Косьця прастудзіўся. Як толькі ён пачаў папраўляцца, мы дагаварыліся, што я паеду адзін у Бабровічы на самакаце і ў Бабровічах найму падводу, каб прывезьці туды нашы рэчы з Баранавіч.

Выбраўся я з Баранавіч халоднаю ціхаю раніцаю. Але як толькі выехаў за горад, пачаў дзьмуць вецер у вочы. Трэба было мацней націскаць на пэдалі, але пасьля некалькі кілямэтраў адна пэдаль пачала хістацца. Як я яе ні прывінчваў, яна разьлюзантвалася (?) усё больш. Два кілямэтры перад Лясною[383] вецер шугнуў крыху мацней, я пахіснуўся на сьцежцы, пэдаль стукнулася аб камень і адляцела. Да Ба[б]ровіч было яшчэ каля 50 км, ад Баранавіч — 22. Назад ісьці не хацелася. Пайшоў пехатою да Лясное, знайшоў каваля, прыбілі наглуха пэдаль. Ужо даўно мінула палудне. Хоць я быў змучаны і ветрам і прыгодамі, паехаў далей. У Дабрамысьлі[384] пачало сутонець, дык я заехаў да праваслаўнага параха, а. Аляксандра, каб переначаваць і пазнаёміцца з маім будучым суседам. Гэта быў былы афіцэр царскае арміі і надзіва сьведамы беларус. У сямейным жыцьці ён меў няшчасьце, жонка яго кінула, дык жыў сам. Зь людзьмі, відаць, жыў добра, бо як толькі суседкі ўбачылі, што да яго заехаў госьць,

[383] **Лясная** — сёньня вёска й чыгуначная станцыя ў Баранавіцкім раёне Берасьцейскае вобласьці, цэнтар Лясьнянскага сельсавету.

[384] **Дабромысьль** — сёньня вёска ў Івацэвіцкім раёне Берасьцейскае вобласьці, цэнтар Дабромысьленскага сельсавету.

зараз жа прынесьлі яец і масла на пачастунак. Прыняў мяне вельмі гасьцінна.

Назаўтра раніцою, як толькі я глянуў у вакно, зьлякаўся — ішоў густы сьнег. Як жа цяпер ехаць далей? Але і назад не было як вяртацца. Да Бабровіч ставалася больш як 20 км — усё праз балоты, дзе няма ніводнае жывое душы, да таго, калі зьбіцца зь сьцежкі над зарослым каналам, дык можна загінуць у багне. Айцец Аляксандар выясьніў дакладна, як трапіць на той зарослы, а цяпер і закіданы сьнегам канал і я, узяўшы ў рукі самакат, здаўся на Божую ласку.

Увесь час сьнег ішоў вельмі густа, і ўсе тыя прыметы дарогі, якія мне сказалі, былі засыпаны. Калі я дайшоў да лесу, спыніўся на раздарожжы. Навокал нідзе ні жывое душы і не відно ніякае дарогі. Нічога іншага не аставалася, як вярнуцца ў Дабрамысьль і распытаць дакладней дарогу. Толькі я завярнуўся назад, аж бачу йдзе да мяне хлапец.

— *Ну,* — думаю, — *паслаў Бог ратунак*.

Зь ім я дайшоў да каналу, а далей ужо раздарожжаў не было. Каля палудня я ўжо быў на Бабровіцкім возеры. Яно добра ўмерзла і вецер зьмятаў зь яго сьнег, і я па[с]прабаваў ехаць на самакаце, але лёд быў такі сьлізкі, што можна было ехаць толькі па простай лініі — чуць павярнуўся ўбок, колы скоўзнулі і [я] паляцеў на лёд. Над возерам стаяць тры вёскі, і я ня знаў, каторая Бабровічы, бо летам ехаў туды зь Сьвятое Волі[385]. Аж бачу, да сярэдзіны возера йдзе якісь чалавек. Я да яго.

— *Каторая гэта вёска Бабровічы?*

А ён ні слова, толькі размахвае рукамі. Гэта быў глуханямы. Вытлумачыў я яму рукамі, чаго мне трэба. Ён адразу дагадаўся, паказаў Бабровічы, і пачаў мне паказваць, каб я ехаў назад, паказваючы на сабе ўсе мучэньні, якія актывісты вычынялі а. Пачопку. Гэта была апошняя перасьцярога, але як яе было паслухаць, калі ўжо быў амаль на мейсцы?

## Што рабіць, што чыніць?

За час мае адсутнасьці агульнае становішча ў Бабровічах пагоршала ўва ўсіх дачыненьнях. Партызанаў яшчэ не было, але група актывістаў з суседніх вёсак, якая ўвесь час сядзела ў лясных гушчарах, ужо пачалі запугваць ваколічных вясковых старастаў і паліцыю, каб ня важыліся іх чапаць.

— *Мы нікога не чапаемо, дык і нас няхай не чапаюць!*

Але ўжо пару разоў быў перарэзаны тэлефон на дарозе да Тэлеханаў. А ўсе тыя, што грабілі сьвятарскі і дзякаўскі дамы і школу,

[385] **Сьвятая Воля** — сёньня вёска, цэнтар сельсавету ў Івацэвіцкім раёне Берасьцейскае вобласьці.

баяліся, каб я ня выкрыў іх, — усе яны былі настроены да мяне варожа. Вясковы стараста, па мянушцы Козік, паціху дагаварыўся з суседнім праваслаўным парахам з Глінска[386] а. Васілём, каб захапіць зямлю бабровіцкае парахвіі, і ўжо за час мае адсутнасьці адзін раз а. Васіль служыў у Бабровіцкай царкве Сл[ужбу] Божую і распусьці[ў] пагалоску, што я ў Бабровічы не прыеду. Таму мой прыезд іх страшэнна азлобіў. Яны адразу пусьцілі ў ход пагрозы: *"Хто будзе хадзіць да а. Гарошкі на багаслужэньне, таго вывезуць за Буг"*. Глінскі парах пачаў часьцей прыяжджаць у Бабровічы і служыў у школьным памяшканьні, і гэтую пагрозу паўтараў у сваіх казаньнях і пры тым страшэнна лаяўся. А стараста Козік ужо не здавальняў пагрозамі, ён пачаў шырыць тэрор. Падчас вячэрняў ён станавіўся ў прытворы каля дзьвярэй (там было заўсёды цёмна), і як хто толькі намерваўся ўвайсьці ў царкву, штурханцом у грудзі выкідаў назад. Адна старэйшая кабета, падаючы ад такога штурханца, патаўкла сабе сьпіну, але баялася аб гэтым гаварыць, каб яшчэ не наклікаць на сябе помсты Козіка. Я пайшоў да яго і кажу:

*— У нас дзеюцца нечуваныя рэчы: нехта ў царкоўным прытвары нападае на малельнікаў. Можа б вы дапільнавалі, каб гэтага больш не было, бо будзе брыдка для нас усіх, калі я папрашу паліцыю.*

*— Пэўна, што будзе нядобра, калі аб гэтым даведаецца паліцыя. Я што змагу, то зраблю.*

*— Вось і добра. Буду шчыра ўдзячны вам за турботы. Яшчэ маю да вас просьбу. Ці маглі б вы памагчы мне знайсьці падводу, каб з Баранавіч прывезьці сюды настаўніка і разам з тым мае рэчы?*

*— Ведаеце, гэта такая далёкая дарога, што я не магу назначыць падводу.*

*— Я разумею гэта добра і таму не прашу, каб вы вызначылі, а толькі каб памаглі знайсьці якога ахвотнага, бо ж, думаю, і вам ляжыць на сэрцы, каб вашы дзеці маглі вучыцца. А за падводу я заплачу.*

*— Гэта праўду, што школу трэба адчыніць, але ж на гэта ёсьць і войт, і інспэктар.*

*— Бачыце, што яны да гэтага часу нічога не зрабілі, бо цяпер такое палажэньне, што кожны мусіць клапаціцца сам аб сабе.*

*— Яно-то так, але неяк боязна.*

Пасьля гэтае гутаркі Козік ужо не адзываўся варожа супраць мяне. А войт зь Сьвятое Волі згадзіўся вызначыць мне падводу ў Баранавічы на кошт воласьці і прызначыў дровы на апал. Толькі трэба было чакаць спрыяючае пагоды, бо дзядзька Андрэй, які згадзіўся ехаць, лічыў, што трэба каля чатырох дзён на гэткае падарожжа, а пагода

[386] Відаць, маецца на ўвазе вёска **Глінная** — сёньня у Амяльнянскім сельсавеце Івацэвіцкага раёну Берасьцейскае вобласьці.

якраз была нясталая. Тым часам а. Васіль страціў усякую меру і прызваітасьць у натраўліваньні людзей супраць мяне. Брыдка нават і ўспамінаць аб ягоных “подзьвігах”. Яму да помачы прышоў тэлеханскі праваслаўны сьвятар прат. Іван[387]. Ён запрашаў да сябе “на пачастунак” камэнданта нямецкае жандармэрыі і камэнданта паліцыі і нямецкіх госьцяў з Ганцавіч, загаварваючы зь імі аб Бабровічах. Рыхтавалася нешта нядобрае. Але што?

На Вадохрышча 10.І.1942 г., калі я пасьля Службы Божае і асьвячаньня вады пайшоў на абед, а. Васіль, вяртаючыся з вадасьвячаньня на возеры, разагітаваў сваіх прыхільнікаў, яны напалі на царкву, зламалі замок і аб’явілі, што займаюць царкву. Пры тым а. Васіль загроб сабе ўсе ахвяры на царкву, якія ляжалі ў захрыстыі[388], забраў увесь невялікі архіў царквы. Усё гэта ён рабіў апранены ў царкоўныя рызы.

Я прыйшоў у царкву. Людзі расступіліся. Нічога ня кажучы, я пасьпяшыў забраць Найсьвяцейшую Эўхарыстыю з аганьбленае царквы і выйшаў на салею, каб сказаць некалькі слоў людзям. Як толькі я пачаў гаварыць, а. Васіль кінуўся да мяне з кулакамі, учапіўся за грудзіну і крычаў:

*— Людзі, памажэце выкінуць гэтую халеру вон...*

Ягоны дзяк і яшчэ нейкія двое людзей кінуліся да мяне. Відовішча было несамавітае: Чалавек, апранены ў царкоўныя рызы, у таварыстве падпіўшых дзядзькаў і трох памагатых зь вёскі Тупічы[389], тузалі і штурхалі мяне. Я не бараніўся, ды і ня мог бараніцца, бо адною рукою прыціскаў да грудзіны Эўхарыстычнага Хрыста, а ў другой быў напрэстольны крыж.

Назаўтра раніцою я агледзеў царкву. На дзьвярох вісеў новы вялікі замок, але дзьверы ў захрыстыю былі адчынены. Я зайшоў усярэдзіну. На падлозе валяліся кускі паперы. З захрыстыі і аўтара зьнікла шмат рэчаў. Толькі нейкім дзівам захаваўся сьпіс інвэнтару. Сьпіс быў і так невялікі, а цяпер зь яго не асталося і трэцяе часткі. Я пазазначыў усе

---

387 **Іван Струкоўскі** (1895–1991), праваслаўны сьвятар, нараджэнец Мазырскага павету, паходзіў са сьвятарскай дынастыі. Скончыў Менскую духоўную сэмінарыю. Ад 1921 г. служыў псаломшчыкам у мястэчку Гарадзея, пасьля быў сьвятаром у вёсцы Крывічы Маладэчанскага павету, мястэчку Лахва Лунінецкага павету. Ад 1932 г. служыў у Целяханах, дзе пабудаваў новы храм. У 1949 г. арыштаваны савецкімі ўладамі, асуджаны на 25 гадоў папраўча-працоўных лягераў. У 1956 г. вызвалены, ад 1958 г. зноў служыў сьвятаром у Целяханах.

388 **Закрыстыя** — бакавое памяшканьне пры касьцёле, у якім захоўваюцца царкоўныя ўборы й прылады, неабходныя для службы. Акрамя таго, у закрыстыі сьвятар рыхтуецца да правядзеньня імшы.

389 Відаць, маецца на ўвазе вёска **Тупічыцы (Тупічычы)**, якая праз некаторы час была спаленая немцамі й пасьля вайны не аднавілася.

зрабаваныя рэчы на палёх сьпісу і пайшоў да царкоўнага старасты, які быў заадно з а. Васілём. Засьпеў я яго ў хаце. Ён сядзеў за сталом, сумна зьвесіўшы галаву.

— *Пасьля ўчарашняга нападу на царкву,* — кажу яму, — *у царкве згінула шмат рэчаў. Я маю сьпіс рэчаў, якія былі падчас майго прыезду, а тут вось зазначана, што згінула. Ці маглі б вы са мною спраўдзіць гэты сьпіс і падпісаць яго.*

— *Ох, айцец, бачыў я ўчора, што там рабілася, бачыў. Як жа я быў дурны, што дагэтуль ня бачыў таго разбойніка?* — Староста горка заплакаў. Жонка моўчкам вышла з хаты. Крыху супакоіўшыся, ён прадаўжаў. — *Ня трэба мне туды йсьці, бо я вам і так веру. Дайце ваш сьпісак.* — І ён дрыжачаю рукою напісаў сваё імя і прозьвішча.

Здаецца, што 23.I я атрымаў ад старасты павестку зьявіцца ў Тэлеханы ў справе царквы. У назначаны дзень раніцою я быў ужо ў валасной управе у Тэлеханах і там засьпеў глінскага параха. Ён аб нечым гаварыў зь перакладчыкам. Хутка нас паклікалі ў канцылярыю. Там быў якісьці высокі нямецкі ўрадовец з Ганцавіч з свастыкаю на рукаве. Аказваецца, ужо ня толькі напад на царкву, але былі падрыхтаваныя даносы, каб зрабіць зь мяне польскага агента, і таму ўрадовец адразу зьвярнуўся да мяне даволі злосным чынам:

— *Якім правам вы захапілі праваслаўную царкву ў Бабровічах?* — Перакладчык пачаў тлумачыць мне пытаньне па-расейску, я яго перабіў і па-нямецку расказаў аб тым, што здарылася і чаму гэта здарылася.

Як толькі я пачаў гаварыць, глінскі парах пабялеў, а перакладчык зьмяніўся з твару, але хутка апанаваў сябе. Калі ж я расказваў, як ён падбухторваў людзей, як пагражаў, што немцы ўсіх маіх вернікаў вывезуць за Буг, [а] перакладчык тлумачыць а. Васілю. Той пачаў перабіваць мяне.

— *Ніколі я гэтага не казаў, вось вам сьвяты крыж!* — і пры тым размашыста хрысьціўся.

Ён запярэчваў усё, што казаў публічна і за кожным разам дзівосна размашыста хрысьціўся.

Немец глядзеў то на мяне, то на яго. Раптам зьмяніў тэму гутаркі.

— *Вы адкуль ведаеце нямецкую мову?*

— *Я вучыўся ў нямецкім унівэрсытэце.*

— *І вы з такою асьветаю сядзіце тут у глухім закутку?! Вам тут зусім ня мейсца сядзець! Вы адкуль прыехалі?*

— *З Баранавіч.*

— *Дык я вашае справы разьбіраць не хачу, але вам загадваю вярнуцца ў Баранавічы. Калі хочаце, можаце там апэляваць да вышэйшых уладаў.*

Далей гаварыць не было чаго… Я мусіў ехаць у Баранавічы.

Адразу ж быў высланы данос у Баранавічы, каб апярэдзіць мой прыезд[390].

## Страшнае падарожжа

Не дачакаўшыся нагоды і пагоды, каб прывезьці ў Бабровічы брата і мае рэчы, трэба было адтуль выяжджаць. Да сьлёз было жалка пакідаць гурток тых шчырых людзей у Бабровічах, якія мне памагалі, колькі маглі.

Зборы ў дарогу былі невялікія: рэчаў было вельмі мала, але быў пазычаны самакат. Яго нельга было ані пакінуць, ані выкарыстаць для язды — быў якраз пачатак лютага. Каб скараціць дарогу і за адзін дзень дабрацца да Баранавіч, я рашыў пайсьці праз балота на Дабрамысьль і Мілавіды[391], спадзеючыся, што ад Мілавід і самакат прыдасца. Выбраўся я яшчэ зацямна. На сьвітаньні пачаў церушыць сьнег і падзьмуў вецер. Дарогу засыпала, і самакат вязнуў у сьнезе — цягнуць было цяжка, а пхаць яшчэ цяжэй. Папрабаваў яго нясьці на сабе, але ён быў зацяжкі. Калі я выхадзіў зь лесу перад Дабрамысьлем, дык быў ужо так зморaны, што мусіў адпачы[ва]ць штонекалькі хвілін. Але як толькі садзіўся на сьнег ці на пень, страшэнна хацелася спаць. Я ўскокваў, каб ісьці далей, аднак ногі адмаўлялі паслушэнства, трэба было зноў спыняцца. Як толькі я спыняўся, хіліла да сну нават стоячы.

Мінуўшы мост на Шчары, дарога была крыху ўтаптаная і я, змабілізаваўшы рэшткі сілы, сеў на самакат. Але як праехаў праз Даб-

---

390 Язэп Малецкі, які пэўны час працаваў з а. Львом Гарошкам у Баранавічах, у сваіх пасьляваенных успамінах выклаў бабровіцкую эпапэю сьвятара крыху інакш, паблытаўшы храналёгію падзеяў і акрамя канфлікту зь мясцовымі праваслаўнымі сьвятарамі паспрабаваўшы далучыць да гэтай справы палітычны фактар: *«Леў Гарошка, каталіцкі сьвятар усходняга абраду, адзін з выдатных беларускіх дзеячоў, у часе нямецкага паходу на Ўсход быў на беларускім Палесьсі, якое, паводле гітлераўскага пляну распадзелу ўсходніх прастораў, адміністрацыйна прыразалася да Райхскамісарыяту Украіны. Там, у сваёй парафіі, з прыходам Немцаў ён ня толькі дзеіў у кірунку хрысьціянскае рэлігійнае супольнасьці, але й ставіў востра дамаганьне, каб Палесьсе, як беларуская прастора, мела беларускую адміністрацыю й школьніцтва. За гэта а. Л. Гарошка апынуўся пад украінскім і мясцовым праваслаўным абстрэлам, і нямецкі камісар загадаў высяліць яго зь Пінскай акругі без права павароту. Айцец Леў Гарошка тады пераехаў да Баранавіч, тут знайшоў падтрыманьне др. В. Войтэнкі, тагачаснага бурмістра места, ды ўладзіўся ў рэдакцыі “Баранавіцкай газэты”»* (гл.: Малецкі, Язэп. Пад знакам Пагоні: успаміны. Таронта, 1976. С. 96).

391 **Мілавіды** — сёньня вёска ў Баранавіцкім раёне, цэнтар Мілавідзкага сельсавету.

рамысьль, быў так зьняможаны, што ледва не зваліўся. Калі быў у Мілавідах, ужо сутонела. Рашыў пераначаваць у праваслаўнага параха. Гэта быў ужо старэйшы сьвятар. Безь ніякіх распросаў сказаў:

— *Пераначаваць мейсца знойдзецца.*

Сам сьвятар і ўся яго сям'я гаварылі мала, толькі трохгадовая ўнучка, на агульнае зьдзіўленьне, узьлезла мне на калені і расказвала аб сваіх цацках і турботах.

Адразу па вячэры я лёг спаць і адразу заснуў, але каля поўначы прачнуўся. Ува ўсім целе я чуў моцны боль, быццам мяне хтосьці пабіў малатком. Як я не варочаўся, боль мяне дайшоў так, што аб сьне і думаць нельга было. Раніцою, калі я выйшаў на двор, ногі былі быццам не мае, а ў галаву прыйшла дзіўная думка.

— *Бог асьцерагаў, каб ня ехаў туды, не паслухаў, дык вось маеш цяпер пакуту.*

Што ж, пакутаваць дык пакутаваць, я выбраўся ехаць у Баранавічы, але сілы пачалі здаваць. З жахам я заўважыў, што пачалі мерзнуць кончыкі пальцаў. Махаў і стукаў рукамі, каб крыху разагрэцца і сьпяшаўся ў Лясную. Там адразу пайшоў у плябанію і кажу параху:

— *Я страшна зьмерз, дайце мне гарачае гарбаты.*

Ксёндз, як глянуў на мяне, бягом кінуўся на кухню і крычаў.

— *Марыся, каб за пяць мінут была гарачая гарбата!*

Сапраўды, за пяць мінут яна нясла гарбату, а ксёндз на хаду ліў яшчэ нешта ў шклянку. Пробашч са мною гаварыў мала, ён быў заўзяты паляк і варожа адносіўся да беларусаў, але прыняў мяне гасьцінна[392].

Далейшае падарожжа да Баранавіч, дзе едучы, дзе йдучы, адбылася без прыгодаў. І так трэба было мучыцца, калі побач была чыгунка, але мне адмаўлялі дазвол карыстацца зь яе.

## У Баранавіцкіх школах

Пагаварыўшы зь некаторымі знаёмымі, я пераканаўся, што апэляваць у справе Бабровіцкае парахвіі няма сэнсу. Як потым я пераканаўся, што добра зрабіў, паслухаўшы іх рады. На Ўсх[одне]кат[аліцкую] царкву немцы глядзелі вельмі крывым вокам.

Крыху аддыхнуўшы, я зьбіраўся паехаць у Альбэртын да Экзарха а. Неманцэвіча, каб параіцца, што рабіць далей. Аднойчы вечарам я зайшоў да д-ра В. Войтэнка, ягоны дом быў блізка м[айго] дом[у]. Пагутарыўшы аб агульных справах, ён паказаў мне дазвол з гэбітскамісарыяту на адкрыцьцё ў Баранавічах Сярэдняе Мэдыцынскае школы і кароткі нарыс праграмы навукі. Праектаваў стварыць

[392] У той час пробашчам у Лясной быў **Уладзіслаў Зыгмунт Паўлоўскі** (1879–1942), які крыху пазьней, 13 ліпеня 1942 г., быў расстраляны немцамі ў Баранавічах.

у ёй аж 6 аддзелаў: фэльчарскі, акушэрскі, аптэкарскі, дэнтыстычны, вэтэрынарскі і мэдыцынскіх сёстраў, а магчыма і сёмы — фізычнага ўзгадаваньня.

*— А дзе ж будзе мясьціцца гэтая аграмадная школа? Хто будзе яе ўтрымліваць?* — зацікавіўся я.

*— Пакуль што нічога няма. Усё трэба знайсьці. Вось возьмецеся за гэтую працу, бо я па вушы заняты ў магістраце.*

*— А дзе ж набраць [с]толькі настаўнікаў, гэта ж для старшых курсаў мусяць быць прафэсары?*

*— Трэба зачаць ад двох першых курсаў, і ў меру разьвіцьця школы будзем дабіраць настаўнікаў. Дахтароў я пастараюся знайсьці сам, а вы шукайце настаўнікаў для агульнаасьветных прадметаў. Пры тым адразу дагаварымся, што вы будзеце кіраваць усёю школаю, а я буду фігураваць як дырэктар.*

*— Плян вельмі прыгожы, але так пачынаць зь нічога, з нуля, ды ў цяперашніх абставінах — вельмі цяжкая і рызыкоўная справа...*

*— Пэўна што цяжкая і рызыкоўная,* — перабівае мяне, *— але ж нам патрэбны кадры і ніхто іх нам ня дасьць. Мусім самі іх тварыць і ўзгадоўваць. Гімназіяў і ўнівэрсытэтаў няма, дык трэба шукаць нейкае іншае рады.*

*— Добра, шукаць, дык шукаць. Напішэце мне якую паперку, каб я мог зь ёю ўсюды паказацца, і пачнём дзейнічаць. Можа, Бог паможа нешта стварыць.*

Назаўтра я ўжо быў у кватэрным аддзеле Баранавіцкага магістрату і праглядаў невялікі сьпіс дамоў, зь якіх нядаўна выйшлі нямецкія ваенныя аддзелы. Выбар быў вельмі невялікі. Прыйшлося здаволіцца невялікім домам на вул. Фр. Скарыны.

Лаўкі давялося зьбіраць па панадворках быўшых школаў, якія былі заняты войскамі. У некаторых школах лаўкі былі папалены, у некаторых асталіся дзякуючы таму, што былі засыпаны сьнегам. Мяне зьдзівіла, што ніводзін нямецкі афіцэр не адмовіўся перадаць мне лаўкі. Праўда, мне шмат памагла нямецкая мова.

Кандыдатаў на першы курс згаласілася шмат больш, чым можна было спадзявацца, 200 чалавек. Вось жа на экзамінах можна было зрабіць адпаведны выбар. Прынята 160. Пры тым праграма навукі была ўложана так, што неабходна было рабіць ня толькі выбар, але адбор. Школьны год складаўся з двох сэмэстраў, але сэмэстр меў трываць толькі тры месяцы, каб за адзін каляндарны год прарабіць праграму двох школьных гадоў. На летнія канікулы прадбачваўся перапынак усяго на два тыдні.

З даборам настаўнікам так для агульнасьветных прадметаў, як і для фахавых зьявілася шмат больш цяжкасьцяў, чым іх можна было спадзявацца. Ужо ад верасьня працавала ў Баранавічах 5 сямігодак,

затрудніўшы ўсіх настаўнікаў, якія былі ў Баранавічах. На шчасьце, пакрыху прыяжджалі незатрудненыя настаўнікі з правінцыі. А дактары вельмі неахвотна гадзіліся выкладаць у школе, бо аплата за выклады была вельмі нізкая. Толькі больш сьведамыя згадзіліся выкладаць у Мэд[ыцынскай] шк[оле] з нацыянальнага абвязку.

Навука ў Мэдыцынскай школе распачалася, здаецца, 20-га лютага 1942 г. у дзьвёх групах, але пасьля трох тыдняў прышлося тварыць зь іх трэцюю групу. З гэбітскамісарыяту папярэдзілі акруговы аддзел аховы здароўя:

— *Будзьце гатовы, што аднаго дня ў аптэках не астанецца аніводнага жыда.*

— *А хто ж іх заступіць?*

— *Гэта ня наша справа. Рабіце што хочаце.*

Што ж было рабіць? Селі мы з д-рам Войтэнкам пераглядаць ацэнкі вучняў з абодвых груп першага курсу. Выбралі 19 чалавек найбольш здольных з тых, што жадалі пайсьці на аптэкарскі ад[дзел], заклікалі іх у канцылярыю і паведамілі іх:

— *Заўтра вы пераходзіце на другі курс.*

— *Нам і на першым курсе цяжка,* — загудзелі ў адзін голас.

— *Не апраўдвайцеся, а бярэцеся за працу,* — коратка спыніў іх д-р Войтэнка.

Зноў зьявіўся клопат з выкладчыкамі. Міма ўсіх стараньняў д-р Войтэнка не знайшоў між лекараў ніводнага ахвотнага выкладаць біялёгію. Калісьці ў Навагрудзкай Гімназіі выкладалі біялёгію, але там быў гімназійны ўзровень, ды гэта было 11 гадоў таму, пры тым я ўжо выкладаў беларускую літаратуру і гісторыю Беларусі, на маёй адказнасьці былі ўсе справы дырэкцыі Школы; але не было ніякае рады, давялося ўзяць яшчэ выклады біялёгіі — гэта значыць у першую чаргу самому студыяваць яе. Але гэта быў толькі пачатак.

Калі перад 1939 г. у Баранавічах беларускае інтэлігенцыі было вельмі мала, аб беларускае нацыянальнае працы не было ні слуху, ні духу, дык у 1942 г. Баранавічы сталіся цэнтрам беларускага культур[нага жыцьця][393].

## Харчаваньне ў гарадах[394]

Грабежніцкая палітыка нацыстаў ня ведала ніякіх межаў. Кожны вайсковы аддзел, які праходзіў праз вёскі, бяскарна забіраў у сялян усё, што толькі траплялася пад рукі. Калі ўжо ачышчалі ў сялян *“шпэк”* і *“яйка”*, пачыналі паляваць за курамі і сьвінямі. У гарадох жыхаром падавалі харчовыя картачкі, але мала што зь іх можна было

393 У арыгінале на гэтым тэкст часткі абрываецца.

394 Асобны запіс на адным аркушы.

атрымаць. Толькі хлеб і крупу давалі рэгулярна, а мяса ў Баранавічах на карткі мне ўдалося атрымаць усяго два разы за ўвесь час нямецкае акупацыі.

Зь вёскі ў горад правезьці харчы было вельмі цяжка, бо на рагатках[395] стаялі або паліцыянты, або нямецкія жаўнеры і забіралі, што ім падабалася.

Для вучняў мэдыцынскае школы і для ўсіх іншых баранавіцкіх школаў паўставала паважная загроза ліквідацыі школаў. Вось жа дырэкцыі школаў, акруговы інспэктарат і гарадзкая ўправа зьвярнуліся да гэбітскамісара, каб ён спыніў грабёж на рагатках. Тады з гэбітскамісарыяту былі выданы пасьведчаньні для бацькоў вучняў, каб ад іх не забіралі харчоў. На некаторы час паліц[ыянты] тыя даведкі рэспэктавалі, але потым зноў грабілі...

## Мэд[ычная] школа — перашкоды[396]

Стрэнуў мяне аднойчы старшыня гарано Сама[...] і кажа:

— *Вы ведаеце, што на вас даносы сыпляцца?*

— *Не, яшчэ ня чуў аб гэтым.*

— *Вось учора быў у мяне адзін праваслаўны сьвятар і пратэставаў, што мы дапускаем, каб вуніяцкі сьвятар выкладаў гісторыю Беларусі ў Мэдыцынскай школе і на розных курсах.*

— *І нашто яму было пратэставаць, няхай бы сам прыйшоў і выкладаў: у нас так не хапае настаўнікаў,* — кажу ям[у].

— *Дык я ж яму і сказаў амаль тое самае, ды нават больш. Толькі вам мушу сказаць, што ён быў не такі, як вы, а зь вялікім пузам.... Хай ён замест гадаваць сабе чэрава прыйдзе ў школу. Ды глядзіце, вы адзін, а іх сотні; аднак у беларускай грамадзкай працы іх не відаць.*

## Мэдыцынская школа — працяг[397]

Першы сэмэстар мінуў вельмі хутка і добра. Хоць вымогі былі вялікія, але адсеў вучняў быў параўнаўча нязначны. Замест летніх канікулаў быў усяго двохтыднёвы перапынак. У канцы чэрвеня адбыўся экзамін другога набору. Наплыў кандыдатаў быў значна большы, чым

395 **Рагаткі** — заставы, пасты.

396 Сярод накідаў а. Льва Гарошкі ёсьць тэкст на 5 старонках пад назвай “Мэдыцынская школа”, які зместава паўтарае разьдзел “У Баранавіцкіх школах”. У гэтай публікацыі дзеля паўтарэньня звестак мы згаданы разьдзел апусьцілі. Гэты ж разьдзел у арыгінале ўяўляе зь сябе запіс на невялікім аркушы (2 старонкі).

397 У арыгінале гэта асобная частка рукапісу на 25 малых аркушах, што ўключае разьдзелы “Мэдыцынская школа — працяг” і “Разгром школаў”.

у лютым, таму экзаміны былі больш строгімі, але з новаўступаючых трэба было ўтварыць аж чатыры паралельныя клясы.

Пасьля такога набору школьны будынак у панадворку С. Д. быў зусім нявыстарчаючы, бо трэба было арганізаваць яшчэ анатамічны, хэмічны, фізычны і вэтэрынарны кабінэты. На шчасьце, якраз у тым часе перанесьлі шпіталь заразных хваробаў за Баранавічы і памешканьне шпіталя (былўшы жыдоўскі хэдар[398]) немцы не адважваліся займаць, а Мэдыцынскай школе гэта было якраз на руку. Праз дарогу быў агульны шпіталь, а побач вялікі дом, дзе былі склады акруговага інспэктарату, дзе было даволі мейсца для кабінэтаў і нават для лябараторыі.

Затое значна ўзрасьлі цяжкасьці з настаўнікамі, бо ўжо заіснаваў трэці аптэкарскі курс і трэба было ажно трох настаўнікаўспэцыялістаў. Пасьля некаторага ваганьня яны згадзіліся. Але радасьць была невялікая, бо якраз тады прыйшлося зьліквідаваць аддзел фізычнага ўзгадаваньня. Там вучняў было мала і адзіная настаўніца-спэцыялістка наадрэз адмовілася далей выкладаць, хоць яе пляменьніца вучылася ў мэдыцынскай школе.

Маючы [с]толькі вучняў, цяпер можна было арганізаваць добры хор і гурток народных танцаў. Да гэтага знайшліся добрыя настаўнікі, дык ня дзіва, што хор і танцавальная група Мэдыцынскае школы здабылі сабе добрае імя сваімі канцэртамі.

Калі д-ра Войтэнку перавялі з Баранавіч у Слонім, мне даручылі ня толькі дэ-факта, але і афіцыяльна дырэктарства школы, хоць гэта было зусім ненармальна, бо ж у Баранавічах было аж 30 лекараў. Таму пасьля пару месяцаў Акруговы інспэктар і Акруговы Аддзел Аховы Здароўя прызначылі дырэктарам д-ра М. Смаршчка[399]. Ад гэтага назначэньня практычна нічога не зьмянілася, бо і далей мне прыходзілася займацца ўсім. Трэці набор быў такжа вялікі, бо ўжо немцы рознымі спосабамі набіралі моладзь на працу ў Нямеччыну, а вучні Мэдыцынскае школы, падобна як і іншых школаў у Баранавічах, атрымалі працоўныя карты і тым самым афіцыяльна не падлягалі вывазам. Таму, нічога нікому ня кажучы, мы прымалі, колькі маглі.

---

[398] **Хэдар** — габрэйская рэлігійная пачатковая школа.

[399] **Мітрафан Смаршчок** (творчы псэўд. **Анатоль Бярозка**; 1915–2008), грамадзкі дзеяч. У 1939 г. скончыў мэдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. Браў удзел у студэнцкім руху. У 1939–1941 гг. працаваў лекарам у Баранавічах і Пінску. Падчас нямецкай акупацыі працаваў лекарам у Баранавічах, быў дырэктарам мясцовай мэдычнай школы. У 1944 г. арыштаваны немцамі й зьняволены ў канцлягеры. Ад 1948 г. жыў у ЗША. Быў адным з заснавальнікаў Крывіцкага навуковага таварыства імя Пранціша Скарыны.

Калі пасьля трэцяга набору вучняў адчынена фэльчарскі, акушэрскі і вэтэрынарны аддзелы, Мэдыцынская школа ўжо ўвайшла ў сваю фаховую каляіну. Вучні старэйшых курсаў мусілі акрамя навукі адбываць такжа практыку. Найбольш практыкі мусілі адбыць фэльчары — па два тыдні на кожным аддзеле ў шпіталі і ў дзіцячых дамох. З даборам выкладчыкаў было асабліва цяжка. [...] наадрэз адмовілася выкладаць у Мэд. школе.

З гэтага скарыстаў акруговы лекар д-р Лукашэня[400], каб у першую чаргу паслаць вучняў у шпіталь заразных хваробаў, бо там не хапала абслугі. Гігіенічныя ўмовы ў шпіталі цяжка было захаваць у тым ваенным часе. Пры тым хворыя на тыф прывозілі з сабою шмат вошаў. Здаецца, другі вучань, які адбыў практыку ў тым шпіталі, Янка Палька, праз два тыдні сам захварэў на тыф і лёг між сваіх пацыентаў.

Гэты спакойны і цярплівы юнак праз тыдзень аддаў душу Богу — гэта першая ахвяра будучых беларускіх мэдыцынскіх кадраў. Мне хацелася яго пахаваць урачыста ў Баранавічах, але бацькі зажадалі пахаваць на могілках роднае вёскі.

Пасьля такога выпадку іншыя вучні былі больш асьцярожныя, але ўсё раўно большасьць зь іх пасьля практыкі самі перахварэлі на тыф, толькі ў часе хваробы мелі лепшы дагляд.

Ува ўсіх тых установах і аддзелах, дзе мелі практыку вучні мэдыцынскае школы, я стараўся быць пры розных нагодах хоць некалькі хвілін, і кожныя такія адведзіны мелі добрыя насьледкі.

На пачатку 1943 г. на мейсцы д-ра М. Смаршчка дырэктарам школы быў назначаны д-р М. Мінкевіч[401]. Ён увайшоў размашыста ў кан-

---

[400] **Лукашэня** (?—1943) у 1939–1941 гг. быў галоўным лекарам Баранавічаў, падчас нямецкай акупацыі — баранавіцкі акруговы лекар. Паводле Язэпа Малецкага, *“у беларускі нацыянальна-вызвольны рух ён не ўлучаўся, радаў беларускіх прадстаўнікоў як у Менску, так і ў Баранавічах, ня слухаў, прыкідваўся, што верна служыць толькі Немцам”* (гл.: Малецкі, Язэп. Пад знакам Пагоні. http://knihi.com/Jazep_Malecki/Pad_znakam_Pahoni_Uspaminy.html). Пасьля пералому ў вайне на карысьць СССР зьвязаўся з савецкімі партызанамі, якім пастаўляў лекі й іншыя мэдыцынскія матэрыялы. Арыштаваны немцамі й расстраляны.

[401] **Мікалай Мінкевіч** (1909–1980), грамадзкі дзеяч, лекар, зяць Р. Астроўскага. Паходзіў зь сям’і праваслаўнага сьвятара. Скончыў Віленскую беларускую гімназію. Вучыўся на мэдыцынскім факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. У 1942 г. скончыў унівэрсытэт у Коўне. Ажаніўся з дачкой Р. Астроўскага. У 1942–1944 гг. працаваў лекарам у Баранавічах, дырэктарам Баранавіцкай мэдычнай школы, ад сакавіка 1944 г. — галоўны лекар БКА. Дэлегат Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Працаваў лекарам пры *UNRRA* і *IRO* ў брытанскай зоне акупацыі Нямеччыны. У 1949 г. выехаў зь сям’ёй у Аргентыну, дзе працаваў галоўным лекарам пры шпіталі ў Сан-Луісе. У студзені 1955 г. пераехаў

цылярыю з новым назначэньнем і голасна заявіў мне, што цяпер ён будзе кіраваць усімі справамі школы.

— *Ну, дзякуй Богу,* — сказаў я такжа голасна, — *можа хоць нарэшце я крыху адпачну.*

Першы тыдзень сапраўды выглядала так, што мне будзе менш працы, аднак на другі тыдзень я зноў мусіў быць ад рана да вечара ў школе і заладжваць усе бягучыя справы, ды яшчэ чакаць новага дырэктара, каб падпісаў розныя паперкі. А падпісваць тады было што. Адных толькі працоўных вучнёўскіх картаў было 450. І трэба было іх падпісваць штотыдня. А розныя накіраваньні, даведкі і карэспандэнцыя, зь якою ледва спраўляліся дзьве сакратаркі, такжа вымагалі нямала часу і ўвагі.

У сярэдзіне студзеня 1943 г. зьявілася якаясь афіцыяльная нямецкая камісія зь Менскага Генэральнага Камісарыяту у складзе трох чалавек. Яны вымагалі дакладных інфармацыяў аб стане Мэдыцынскае школы і зажадалі паказаць ім вучняў. Д-ра Мінкевіча не было, і я мусіў выконваць ролю дырэктара.

Агляд школы пачаўся ад чацьвёртага аптэкарскага курсу. Там было ўсяго 19 вучняў.

— *Колькі ім яшчэ трэба да сканчэньня курсу?* — пытаўся шэф камісіі.

— *Усяго чатыры месяцы.*

— *Ну гэтыя яшчэ могуць скончыць,* — зьвярнуўся ён ціха да іншых. Тыя на знак згоды кіўнулі галавамі.

Побач была кляса другога агульнага курсу — мела 60 чалавек. Увайшлі туды. Паглядзелі моўчкі. Выйшаўшы пытае той самы:

— *А гэтым колькі да канца?*

— *Гэтым трэба аж два гады.*

— *Два гады!!!* — засьмяяўся голасна шэф і махнуў рукою.

— А колькі ў вас усіх вучняў?

— *Усіх 450 чалавек.*

— *Ча-ты-рыста-пяцьдзесят чалавек; дзе-вяць-сот рук!!!* — з прыціскам і нарасьпеў гаварыў шэф. — *Ого-го-го!*

Больш аглядаць школы яны не хацелі, толькі спыталіся, дзе больш працуюць вучні.

— *У шпіталі, у клініках, у дзіцячых дамах і ў аптэках,* — адказаў я коратка.

Не разьвітаўшыся нават, яны адразу пайшлі ў шпіталь.

З паводзінаў і тэмы гутаркі камісіі было ясна, што над школаю вісіць грозная небясьпека.

---

у ЗША. Працаваў у шпіталях у штатах Ілінойс, Агаё, Місуры, Індыяна, Мічыган. У 1976 г., пасьля выхаду на пэнсію, пераехаў у Флярыду.

У шпіталі камісія была моцна зьдзіўлена. Яны заявіліся спачатку на гінэкалягічным аддзеле і пытаюцца:

— *Дзе тут працуюць вучаніцы з Мэдыцынскае школы?*

— *А во разам з доктарам робяць абход,* — адказала дыжурная сястра і паказала на іх праз адчыненыя дзьверы.

Адтуль пайшлі ў агульны аддзел і зайшлі ў перавязачную залю. Дырэктар шпіталю д-р Навумік якраз рабіў апэрацыю, а ў перавязачнай працавалі самыя вучні — будучыя фэльчары.

— *Гм, дык яны добра спраўляюцца,* — перашэптваліся з сабою сябры камісіі, не зьвяртаючы ўвагі нават на прысутнасьць дыжурнае сястры, якая добра ведала нямецкую мову.

Мэдыцынская школа ў тым часе мела 12 групаў на ўсіх курсах і працавала на дзьве зьмены ў двох будынках. Пасьля тае камісіі я, нічога нікому ня кажучы, меркаваў, каб раскідаць яе яшчэ больш. Старшы фэльчарскі курс запраектавана перанесьці ў шпіталь. Узмоцнена (?) рассылаў старэйшых вучняў на практыку ў шпіталь і клінікі.

Аб тым, што гітлераўцы задумалі ліквідаваць беларускія сярэднія, нават фаховыя школы, было ясна з таго, што нядаўна зьліквідавалі ў Мэдыцынскай школе вэтэрынарны аддзел. Ліквідацыя праведзена была падступна, бо абвешчана, [што] адчыняецца Вэтэрынарная сярэдняя школа ў Менску і туды маюць пераехаць вучні з вэтэрынарнага аддзелу нашае школы. Але ў Менску нічога не адчынілі, а нам аддзел не аднавілі.

Дакладна ўжо даты ня помню, але тады ж з распараджэньня гэбітскамісара ўведзены быў абавязак для ўсіх вучняў сярэдніх фахавых школаў у Баранавічах працаваць у розных нямецкіх д[....] складах і лягерах прынамся паўдня ў тыдні. За працу нічога не плацілі.

У такой атмасфэры трэба было штодня быць гатовым на розныя неспадзеванкі.

## Разгром школаў

Чакаць грознае неспадзеванкі прышлося нядоўга. 8-га лютага[402] 1943 г. я меў лекцыю зь біялёгіі аб інтуіцыі ў другім курсе. Толькі я кончыў лекцыю і выйшаў на карыдор, як у школу ўбег акруговы інспэктар Міхайлоўскі і адразу да мяне.

— *Ёсьць загад з гэбітскамісарыяту, каб вы сабралі ўсіх сваіх вучняў на 12 гадзіну; мае прыйсьці камісія з Ураду працы.*

— *У нас немагчыма сабраць на 12-ю гадзіну, бо ж другая зьмена пачынае заняткі толькі з 12.20* — адзначыў я.

[402] З далейшага тэксту бачна, што аўтар дапусьціў апіску, на самай справе гэтыя падзеі адбываліся 7 лютага.

*— Рабеце, як хочаце, я вам перадаў загад,* — сказаў інспэктар і выйшаў.

Што ж, загад дык загад. Дырэктара д-ра Мінкевіча не было, ды яго інспэктар і не пытаўся. Трэба было выконваць загад уладаў.

Я адразу накіраваўся ў другі курс, дзе толькі нядаўна гаварыў аб інтуіцыі. Вучні, адчуваючы нешта грознае, усе ўсталі і быццам занямелі.

*— Ёсьць загад ад нямецкіх уладаў, каб усе вучні нашае школы былі сабраныя тут на 12 гадзіну,* — сказаў я голасна.

*— А што будзе?* — хтосьці спытаў нясьмела.

*— Немцы прыйдуць!* — адказаў я і пайшоў у суседнюю клясу.

Абышоўшы ўсе прысутныя на раньняй зьмене курсы, я пайшоў у канцылярыю і там паўтарыў загад. У школе зрабілася незвычайна ціха. Я выйшаў на карыдор. Усюды было пуста. Я абышоў усе клясы, нідзе не было жывое душы. Вярнуўся ў канцылярыю — і там нікога. Да 12-е было яшчэ нам 2-х гадзінаў.

Уцякаць, як гэта зрабілі вучні, не было сэнсу, бо мяне ўсё роўна гэстапаўцы шукалі б, але і аставацца было небясьпечна, бо калі замест усяе школы з 450 вучнямі гітлераўцы ўбачаць мяне аднаго, дык са злосьці могуць адразу застрэліць.

*— Дык што мне рабіць?* — пытаюся я сам сябе.

І прыйшла думка: калі жыды арыштоўвалі Хрыста, дык Ён казаў, каб не чапалі апосталаў, і тыя ўцяклі, але Сам не ўцякаў. *"Значыць, і мне ня трэба ўцякаць",* — вырашыў я і пачаў маліцца, гатуючыся на ўсякую неспадзеванку. Ці гэта была малітва, ня знаю, бо кожных некалькі мінут я глядзеў на гадзіньнік. Здавалася, што час ішоў вельмі марудна. Асабліва доўжыліся апошнія мінуты перад 12-ю. Але вось настала і 12-ая гадзіна, а нікога з Арбайтсамта[403] не было. Пачакаў яшчэ 3 мінуты, прайшло яшчэ якіх 14 па 12-й, і, ня бачучы нікога, рашыў пайсьці ў Адміністратыўна-гандлёвую школу. Там гітлераўцы былі раніцою а 10-й гадзіне, а дырэктар тае школы — Русак[404] — быў у блізкіх адносінах да вышэйшых уладаў. Ён сядзеў адзін у канцылярыі, школа была пустая. Ён расказаў, што яго школу раніцаю акружылі немцы з сабакамі, але шмат моладзі паўцякала праз вокны і тыя немцы, што

403 **Арбайтсамт** (ням. *Arbeitsamt*) — біржа працы.

404 **Аляксандар Русак** (1907–1957), грамадзкі дзеяч. У 1939–1941 гг. быў ініцыятарам стварэньня й старшынём Беларускага камітэту ў Познані, улетку 1941 г. — арганізатар Беларускага нацыянальнага камітэту ў Горадні, у 1942 г. заснаваў Адміністрацыйна-гандлёвую школу ў Баранавічах, быў яе першым дырэктарам. Заснаваў арганізацыю гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў. У 1943–1944 гг. — бургамістар Баранавічаў, удзельнік Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, пасьля ў ЗША.

стаялі каля вокнаў, зусім не перашкаджалі ўцякаць. З усіх 250 вучняў захапілі толькі два дзясяткі, але і тыя паўцякалі па дарозе.

Я расказаў яму, што сталася ў нас.

— *Ну што ж, калі немцы спазьніліся на 3 мінуты, дык вы мелі права пайсьці,* — зажартаваў ён.

Вечарам таго ж дня я зайшоў да д-ра Мінкевіча. Ён жа быў дырэктарам школы, але ў ёй таго дня не паказаўся.

— *Вы ведаеце, што сталася ў Мэдыцынскай школе?* — спытаўся я.

— *Так, ведаю,* — казаў ён прыглушаным голасам.

— *Дык вось, калі будуць якія прыкрыя кансэквэнцыі*[405]*, вы можаце гаварыць, што ў школе не былі і нічога ня ведаеце, як так сталася, што ўсе вучні паўцякалі. Усю адказнасьць я бяру на сябе. А тым часам бывайце!*

На заўтра 8-га лютага ў Мэдыцынскую школу прыйшло толькі 5 настаўнікаў і ніводнага вучня. Каля 10-е гадзіны ў канцылярыю ўвайшоў нямецкі афіцэр *SD* у таварыстве паліцыянта і замест прывітаньня загадаў:

— *Пакажыце вашы дакумэнты!*

Я паказаў першы.

— *Вы арыштаваны!*

Побач стаяў мой брат Косьця, ён працаваў у фізычным кабінэце. Я хацеў яму перадаць грошы — афіцэр строга мне забараніў.

Нікога больш не арыштавалі. Мяне павялі спачатку ў паліцыю, але там безь ніякіх допытаў адразу накіравалі ў турму.

Камэра, куды мяне замкнулі, і так была поўная. Не было ніякога мейсца, дзе прымасьціцца. Я ледва праціснуўся ў куток, стаў на калені і, не зьвяртаючы на нікога ўвагі, пачаў маліцца. Раптам з карыдору дыжурны паліцыянт пачаў грымаць у дзьверы, крычучы:

— *Эй, там, спыні маленьне.*

Я не зьвярнуў на яго крык ніякае ўвагі. Памаліўшыся, пачаў пакрыху знаёміцца зь сябрамі па няшчасьці.

Тым часам напад гітлераўцаў на сярэдняе школьніцтва ў Баранавічах выклікаў агульную паніку. Апусьцелі такжа і пачатковыя школы. Нават малышы, як убачылі на вуліцы якога-небудзь у нямецкай уніформе, крычалі:

— *Немец!* — і ўцякалі ў панадворак хавацца.

Вучні з па-за Баранавіч уцякалі дамоў.

Атмасфэра няпэўнасьці цяжыла над усім жыцьцём у Баранавічах. Бурмістар Юры Сабалеўскі[406] інтэрвэніяваў у гэбітскамісара Вэрнэра,

---

405 **Кансэквэнцыі** (ад польск. *konsekwencje*) — наступствы.

406 **Юры Сабалеўскі** (1889–1957), грамадзка-палітычны дзеяч. У 1926–1927 гг. быў дэпутатам польскага сойму, уваходзіў у пасольскі клюб БСРГ, затым у Беларускі пасольскі клюб. Падчас нямецкай акупацыі быў шчыль-

каб неяк унармаваць палажэньне, і сугэраваў[407] яму выдаць публічную заяву, што больш ня будуць чапаць школаў, і дамагаўся, каб мяне звольнілі, бо інакш усё роўна вучні не паслухаюць ніякіх заяваў.

А тым часам [м]не ў турме было дзіўна, што ніхто не рабіў ніякіх ані допытаў, ані нават ніякага пратаколу ніхто не пісаў. А бацькі вучняў ужо на другі дзень пачалі прыносіць у турму розныя дарункі.

О, тыя дарункі, той шчыры выяў прызнаньня, як глыбока яны запалі мне ў душу!!! І мне рабілася да сьлёз жалка, што яшчэ аставалася ўсяго тры месяцы да першага выпуску аптэкараў і так раптам усё гэта можа быць зьнішчана. Але гэтым разам жаль мой быў дарэмны.

Пасьля трох дзён турэмнага жыцьця, 10-га лютага, раніцою ў нашую камэру увайшоў сам начальнік турмы і казаў мне зьбірацца з рэчамі.

Зборы былі невялікія — увесь хлеб, што мне прынесьлі за гэты час, я пакінуў у камэры, каб яго разьдзялілі між сабою, у канцылярыі турмы забраў мае дакумэнты і тыя дробныя асабістыя рэчы, што знаходзіліся ў кішэнях падчас арыштаў, і мне адчынілі дзьверы турмы.

Выйшаўшы на вуліцу, мусіў перажыць дзіўнае пачуцьцё свабоды. І тады я ацаніў, як невымоўна дарага адчуваць сябе свабодным.

Пасьля хвіліны развагі я рашыў найперш зайсьці да Сабалеўскага, потым — Міхайлаўскага, каб даведацца, што чуваць у горадзе і зарыентавацца, што рабіць далей.

Усё, што я даведаўся, было вельмі сумным. Усюды панавала нейкая паніка, толькі бурмістар Ю. Сабалеўскі трымаўся бадзёра і быў пэўны, што ў гэбітскамісарыяце прымуцца ягоныя сугэстыі[408]:

*— Калі вас выпусьцілі, дык напэўна выдадуць заяву, што больш ня будуць чапаць беларускіх школаў,* — цьвердзіў ён.

Так яно і сталася. Хутка гэтая заява зьявілася ў “Баранавіцкай газэце” і на дошках з абвесткамі. Паволі і нясьмела пачалі зьбірацца вучні ўва ўсе баранавіцкія школы, аднак з далейшых ваколіцаў вельмі многа ня прыехалі зусім. З колішніх 450 чалавек у Мэдыцынскай Школе зьявілася ўсяго 350 — і тыя зьяўляліся паволі.

Ня раз падчас тых прыездаў адбываліся такія сцэны, што ўзрушалі да сьлёз. Вось аднойчы селянін з Клецку прывёз сваю дачку і выклікае мяне з канцылярыі пагаварыць бязь сьведкаў. Мы зайшлі ў дырэктарскі пакой:

на заангажаваны ў справу стварэньня беларускай адміністрацыі, быў старшынём Беларускай самапомачы й віцэ-прэзыдэнтам БЦР. Пасьля вайны жыў на эміграцыі ў ЗША й Нямеччыне.

407 **Сугэраваць** (ад польск. *sugerować*) — раіць, намаўляць.

408 **Сугэстыі** (ад польск. *sugestie*) — тут: пераконваньні.

*— Вось, ойча, я сьцярог сваю дачку, як мог, яна ў мяне адна, а цяпер ужо не магу, хапаюць моладзь усюды, дык будзьце вы ўжо ёй бацькам.*

*— Добра, але тут жа тая сама ўлада, вы ж ведаеце, што са мною было сталася,* — адказваю.

*— Ведаю, добра ведаю, але ўжо можа больш такога ня станецца.*

*— Пакуль ня станецца, дык я ўсіх вучняў у гэтай школе буду пільнаваць як сваіх дзяцей.*

*— Ну дык вось, дачушка, аставайся тут далей,* — зьвярнуўся ўсьцешаны дзядзька да свае дачкі.

Для мяне было вельмі цікава, што хоць я быў да вучняў вельмі вымагаючы, аднак іхнія адносіны да мяне былі наагул вельмі добрыя. А пасьля арышту яны сталіся яшчэ лепшыя. За тры дні, якія я прасядзеў у турме, моладзь тварыла чуць не лягенды.

З нагоды майго арышту і разгрому школаў выявілася сапраўднае аблічча некаторых прыхаваных рэнэгатаў. Успомню прынамся аб адным. Акруговы інспэктар лекар д-р Лукашэня, калі даведаўся аб маім арышце, з радасьці заціраў рукі, хадзіў па сваім кабінэце і, не зважаючы на прысутнасьць сваіх служачых, голасна гаварыў:

*— Даўно б так трэба было зрабіць. Даволі гэтых беларускіх школаў. Цяпер то ўжо будзе скончана з гэтаю беларусізацыяю і з гэтым вуніятам Гарошкам.*

Потым выявілася, што ён належаў да расейскае арганізацыі і праз свайго швагра Махнача, які працаваў у аптэкарскай базе, перадаваў лекі партызанам.

Толькі заўчасна цешыўся Лукашэня і яму падобныя. Хоць і зь некаторымі цяжкасьцямі, але ўсе баранавіцкія школы працавалі далей і на пачатку лета 1943 г. адбыўся першы выпуск — 19 аптэкараў выдатна закончылі чацьвёрты аптэкарскі курс і былі адразу накіраваны ў аптэкі. Наступны выпуск меў адбыцца праз тры месяцы. Цяпер ужо можна было звольніць тэмпа навучаньня і наблізіць яго да нармальнага.

У міжчасе д-р Мінкевіч зрокся дырэктарства, і на яго мейсца быў назначаны д-р Малецкі[409]. Зь ім мы дагаварыліся сэмэстры прадоўжыць з трох да пяці месяцаў. Гэткім чынам, трэба было праграму навучаньня амаль падвоіць. З гэтаю мэтою была склікана агульная

409 **Язэп Малецкі** (1906–1982), грамадзкі дзеяч. Скончыў мэдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту, быў адным з актыўных сябраў Беларускага студэнцкага саюзу. Падчас акупацыі працаваў у беларускай адміністрацыі, пасьля вайны на эміграцыі. Ад 1950 г. жыў у Аўстраліі, дзе быў адным зь лідараў беларускай дыяспары. Ва ўспамінах Язэпа Малецкага некалькі старонак прысьвечаныя й ягонай працы ў Баранавічах (гл.: Малецкі, Язэп. Пад знакам Пагоні. С. 88–91).

канфэрэнцыя ўсіх выкладчыкаў і прафэса[ра]ў. Калі ім абвесьцілі, што праграма мае быць пашырана амаль удвая, дык адзін з дактароў зьвярнуўся паціху да мяне:

— *Ойча, дык гэта ж робіцца ўнівэрсытэт!*

— *Маўчыце,* — шапнуў я.

І ён маўчаў. А школа сапраўды пачынала прымаць унівэрсытэцкі характар. Нават прынагодна сярод беларускага актыву паціху гаварвалі аб тым, ці хапіла б у нас сілаў стварыць поўны ўнівэрсытэт. Як ужо перш успаміналася, з кадрамі выкладчыкаў было нямала цяжкасьцяў, але часам былі і прыемныя неспадзеванкі — самі зьяўляліся добрыя фахоўцы, якімі можна было замяніць менш адпаведных людзей. Толькі адзін раз прыйшлося зьвярнуцца да бурмістра Ю. Сабалеўскага, каб дапамог знайсьці выкладчыка клінікі для фэльчарскага аддзелу. І цікава, што хоць той прафэсар спачатку адносіўся непрыхільна да Мэдыцынскае школы, але калі адбыўся выпускны экзамін фэльчараў, дык сьцьвердзіў:

— *Мушу прызнаць, што нават у Віленскім унівэрсітэце я ня меў лепшых вучняў.*

Незабавам адбыўся другі выпуск аптэкараў і першы выпуск акушэрак — школа расла на вачах, нягледзячы на нутраныя цяжкасьці і на ваенны час, але мне прыйшлося разьвітацца зь ёю. Якраз на Новы Год, 1944 г., акруговы інспэктар Міхайлоўскі паведаміў мяне, што зь Менску прыйшоў загад звольніць мяне з настаўніцтва. Адзіная прычына да гэтага — што я сьвятар. Ужо пару месяцаў перш быў такі загад, але інспэктар і бурмістар, нічога мне ня кажучы, адклікаліся ў Рыгу да Ўсходняга Міністэрства[410], і вось там рашуча адкінулі ўсякую апэляцыю, катэгарычна загадваючы выключыць мяне з усякае настаўніцкае працы.

## *Verzeihen Sie!*[411]

Новы, 1944 год увесь актыў беларускае інтэлігенцыі сустракаў супольна ў сталоўцы Аўдзея. Сталы былі састаўлены ў два даўгія рады і густа застаўлены рознымі паўміскамі, між якімі так жа густа стаялі пляшкі з самагонам і зрэдку пляшкі зь ліманадам.

Нягледзячы на неспакойны час і на яшчэ больш неспакойныя весткі з фронту, за сталамі хутка вытварылася вельмі мілая, быццам сямейная атмасфэра. Крыху перакусіўшы, пачаліся прынагодныя

410 Маецца на ўвазе **Імпэрскае міністэрства занятых усходніх тэрыторый** (*Reichsministerium für die besetzten Ostgebiete*), створанае ў 1941 г. для цывільнага кіраваньня захопленымі ў ходзе вайны тэрыторыямі СССР. Ягоным нязьменным кіраўніком быў Альфрэд Розэнбэрг.

411 *Прабачце!* (ням.). У арыгінале гэта асобны тэкст на трох вялікіх старонках.



Name: H O R O S C H K O
Vorname: Leu
Geboren am: 26.2.1911
Geburtsort: Troschtschitze
Beruf: Priester

Der Inhaber dieser Ausweiskarte ist bei der Weißruthenischen Vertrauensstelle registriert u. gehört dem weißruthenischen Volkstum an.

Gültig bis zum 11.8.1947

Berlin, den 11.8.1944

Der Leiter

Unterschrift:

(Vor- und Zuname)

Пасьведчаньне асобы Льва Гарошкі 1944 г.

прамовы. На агульнае дамаганьне і мне прыйшлося сказаць колькі слоў. Успрынялі іх гучнымі воплескамі.

І вось у гэтую грамаду неспадзевана ўвалілася чатырох узброеных немцаў — гэта быў патруль С. Д. Відаць, яны хацелі пахмяліцца, бо, прывітаўшыся зь некаторымі знаёмымі, хутка разышліся між сталоў, каб знайсьці парожныя мейсцы. Адзін зь іх сеў якраз насупраць мяне на мейсцы М. Тулейкі[412], які дзесьці на хвіліну выйшаў. Немец адразу ўхапіўся за пляшку і зьвярнуўся да мяне:

— *Вып’ем за Новы Год.*

— *На жаль, я ня п’ю ніякіх алькагольных напіткаў.*

---

[412] **Міхась Тулейка** (1915–1998), грамадзкі дзеяч. У 1936 г. скончыў Нясьвіскую настаўніцкую сэмінарыю, працаваў настаўнікам у Нясьвіжы й Снове. Пры “першых саветах” працаваў у Нясьвіжы — спачатку настаўнікам, пасьля намесьнікам дырэктара настаўніцкай сэмінарыі. Пазьней працаваў у Баранавіцкай настаўніцкай сэмінарыі. Кіраваў камітэтам БНС на Баранавіцкую акругу, быў дэлегатам Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, ад 1949 г. — у ЗША.

— *Што, ня п'еш?!* — Вызьверыўся на мяне. — *Я вам магу загадаць. Вы знаеце, хто я ёсьць? Я шэф баранавіцкага С. Д.*

— *Выбачце, што я ня ведаў, з кім маю гонар гаварыць. Вашае становішча вельмі паважнае, гэта праўда, але ж яно хіба не сягае аж да такіх рэчаў, як пітво.*

— *Што там яшчэ гаварыць...* — Тут немец прыглянуўся да пляшкі, яна была амаль пустая.

— *Э, гэта для нас замала.* — Ён рашуча адставіў яе ў бок і ўхапіўся за іншую пляшку, якая стаяла недалёка ад мяне і пачаў налiваць у сваю і ў маю шклянку.

Пры тым ён увесь час гаварыў аб важнасьці свайго становішча. Відаць, ён быў крыху падпіўшы. Пакуль ён гаварыў, я заўважыў на баках шклянкі дробныя бульбаткі — у пляшцы была ліманада, а немец гэтага не заўважыў. Мы чокнуліся і выпілі.

Калі б шэф С. Д. выпіў 90 % сьпірту, відаць так не задзівіўся б, як задзівіўся з таго, што выпіў. Ён быў пэўны, што наліў у шклянкі самагон-пяршак, а выпіў... ваду! Ён асьцярожна паставіў шклянку на стол і ўтаропіўся на мяне. Я такжа глядзеў на яго. Пасьля некалькі хвілін такога сузіраньня шэф С. Д. нахіліўся праз стол да мяне і сьцішоным, быццам наляканым голасам пытаўся:

— *Siend Sie Priester?*[413].

— *Jawohl!*[414] — адказаў я такжа ціха.

— *Also, verzeihen Sie!*[415] — Пры тым ён схапіўся зь мейсца і хутка накіраваўся да выходных дзьвярэй. За ім пасьпяшылі ягоныя суправаджатыя.

## Нямецкая палітыка і прапаганда[416]

Аб тым, як самая ж нямецкая прапаганда шкодзіла сабе і памагала савецкім партызанам, найлепш сьведчыць такі жарт.

Сталін паслаў эскадрон бамбавозаў на Бэрлін і так загадаў пілётам: *"Збамбеце вайсковыя аб'екты, калеі, нават цывільнае жыхарства, жанчын і дзяцей. Але калі хто з вас збамбардуе будынак нямецкае прапаганды, дык таго загадаю неадкладна расстраляць"*.

413 *"Вы — сьвятар?"* (ням.).

414 *"Так ёсьць"* (ням.).

415 *"Тады прабачце"* (ням.).

416 Наступныя шэсьць разьдзелаў уяўляюць зь сябе выпіскі Льва Гарошкі з розных публікацый, зробленыя на асобных аркушах. Тут яны змешчаны паводле храналягічнай адпаведнасьці тэксту.

## Адносіны немцаў да польскіх партызанаў

Гэбітскамісар Віленскага гэбіту (*Land*) *Wulf*[417] выдаў давераны загад летувіскай паліцыі на правінцыі, каб унікала канфліктаў з польскаю партызанкаю і пад жадным прэтэкстам не ўваходзіла зь імі ў вайну.

*с. 252. Józef Mackiewicz, Nie trzeba głośno mówić. Paryż, 1969.*

## Адносіны палякаў да беларусаў у 1942–1943

*Паводле: Józef Mackiewicz, Nie trzeba głośno mówić. Paryż, 1969. Str. 270–271.*

Пералічаецца зь нейкага сьпісу забітых беларусаў (імёны сапраўдныя).

А далей: *"ад мая 1943, калі палякі супрацоўнічалі зь немцамі, дык на нарадах свайго актыву між іншым пастанавілі... 4) прасіць паліцыю і немцаў, каб палілі беларускія вёскі пад прэтэкстам, што яны памагаюць савецкім партызанам"...*

12.V.1943 *"аб забавязаньні дзеячоў польскага падзямельля стасаваць тэрор адносна беларускага руху..."*.

## Польская партызанка і немцы

*"Na razie jest układ. Niemcy dają nam broń po cichu, nazywa się że my ją zdobywamy, i nie ruszają. W zamian chcą, żebyśmy przepędzili partyzantkę sowiecką. Jak spotyka się nasz oddział z żandarmami na drodze, to jedni patrzą w jedną stronę, drudzy w drugą i mijają jak te lale. Ale ostatnio lidzki gebietskomisarz oddal wlasciwie cały swój "Gebiet" w nasze ręce, w zamian za oczyszczenie powiatu z bolszewików. I my "oczyszczamy", jak sie da..."*.

*с. 327. Józef Mackiewicz, Nie trzeba głośno mówić. Paryż, 1969.*

## Усх.-кат. Самадзельная Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква

*"Генэральны Камісар Беларускі Вільгэльм Кубэ зацьвердзіў вызначэньне рымскім папаю айца Неманцэвіча, грэка-каталіцкага сьвятара, на экзарха (Кіраўніка) Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы з цэнтрам у Альбэртыне каля Слоніма.*

---

[417] **Хорст Вульф** (ням. *Wulff;* 1907–1945), нямецкі нацыянал-сацыялістычны дзеяч, сябра нацысцкай партыі ад 1926 г. У жніўні 1941 г. быў прызначаны гебітскамісарам Вільні. Пры ім было зьдзейсьнена масавае зьнішчэньне габрэйскага насельніцтва гораду. Загінуў падчас нямецкай абароны Бэрліну вясной 1945 г.

*Экзарх Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, Беларус з Сакольшчыны, былы гадунец Пецярбурскай каталіцкай духоўнай акадэміі, сябра беларускага гуртка ў гэтай акадэміі, за польскіх часаў а. Неманцэвіч быў прафэсарам сэмінарыі ў Дубне і рэдактарам белар. рэл. часопісу "Да злучэньня".*

*У Бел. Гр.-Кат. Ц. урадовай мовай і мовай казаньняў ёсьць выключна беларуская мова".*

*"Раніца"*[418] *N. 18 (82) 17.V.1942.*

## Арганізацыя Грэка-Каталіцкае Беларускае Царквы

*2.V г.г. [1942] экзархам Грэка-Каталіцкае [уніяцкае] Беларускае Царквы а. Неманцэвічам вызначана Рада Экзархату Грэка-Каталіцкае Царквы — як найвышэйшы ўрад Уніяцкае Царквы ў Беларусі.*

*У склад рады ўвайшлі сьвятары Гарошка Леў, Гэрмацюк Іван*[419] *і Аношка Вячэслаў.*

*3.V экзархам Гр.-Кат. Ц. вызначаны Духоўны суд Гр. Кат. Ц. зь сядзібаю ў Альбэртыне Слонімскае акругі (з "Баранавіцкае Газэты")*

*"Раніца" N. 23 (87) 21.VI.1942.*

## ГРАМАДЗКАЯ БІЯГРАФІЯ[420]

Напісаць маю грамадзкую біяграфію заняло б шмат часу; ды яна ўжо пакрыху пішацца ў форме ўспамінаў, толькі невядома, калі яе змагу канчаткова падрыхтаваць да друку. Тут абмяжуюся толькі коратка — важнейшымі фактамі і здарэньня[мі] з мае грамадзкае дзейнасьці.

Мая грамадзкая дзейнасьць у беларускім нацыянальным жыцьці пачынаецца ад юнацтва — адразу па ліквідацыі "Грамады"[421], калі

---

418 "**Раніца"** — газэта, якая выдавалася ў Бэрліне на беларускай мове са сьнежня 1939 г. да красавіка 1945 г.

419 **Іван Гермацюк** (? — 1942 ці 1943), грэка-каталіцкі сьвятар. Выхадзец з Галічыны, скончыў Папскую акадэмію ў Дубне. У пачатку 1940-х гг. быў парахам царквы ў Сынковічах, таксама служыў у Альбярціне. У траўні 1942 г. увайшоў у склад Рады Беларускага экзархату Грэка-каталіцкай царквы. Памёр ад тыфу, пахаваны ў Альбярціне.

420 Асобны тэкст, які ў арыгінале займае 24 старонкі.

421 **Беларуская сялянска-работніцкая грамада** (БСРГ) — масавая радыкальная левая партыя, якая дзейнічала на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1926–1927 гг. За кароткі час дасягнула колькасьці сяброў больш за 100 тысяч чалавек, пасьля чаго была ліквідавана польскімі ўладамі, а асноўныя яе лідары апынуліся ў турме.

я быў у Беларускай Наваградзкай Гімназіі. Тады ў нашай вёсцы Трашчычы ў Стаўпеччыне ўжо беларускае нацыянальнае жыцьцё было даволі моцнае, часта ставіліся беларускія спэктаклі, ладзіліся канцэрты, прэнумаравалі[422] беларускія газэты і часопісы. Таму і пасьля ліквідацыі гуртка "Грамады" ў нашай вёсцы і далей ладзіліся спэктаклі, у якіх я заўсёды прымаў актыўны ўдзел і на маю прапанову часьць атрыманых з спэктакляў грошай ішла на закуп беларускіх кнігаў, зь якіх я ў нашай хаце зарганізаваў беларускую бібліятэку. Гэтую ж працу прадаўжаў кожнае лета, будучы студэнтам.

Нягледзячы на польскі наступ, у нашай ваколіцы беларуская нацыянальная праца не спынялася. Каля 1933 г. з пачыну майго бацькі і дваюраднага брата, якім я часта расказваў аб украінскай каапэрацыі, заснавалася і ў нашай вёсцы каапэратыва. Кожнае лета я актыўна працаваў у ўправе каапэратывы і рыхтаваў бухгальтараў. І ў гэтым жа студэнцкім пэрыядзе я навязаў вельмі блізкую лучнасьць з нашымі нацыянальнымі і рэлігійнымі дзеячамі ў Вільні.

Стаўшы сьвятаром, мая душпастырская праца [стала] неразрыўна злучона з грамадзкаю працаю. За гэта давялося шмат цярпець ад паліцыі і адміністратыўных польскіх уладаў. Падчас мае працы ў Гародне на Палесьсі палескі ваявода страшыў мяне не на жарт, што вышле ў Картускую Бярозу, а потым у злосьці крычаў, што давядзе мяне да шыбеніцы. Тады пасыпаліся на мяне розныя прыдзірлівыя адміністрацыйныя кары па 5, па 10 зл[отых]. За паўгоду іх назьбіралася аж на 200 зл[отых]. Я не заплаціў ні злотага і пачаў кпіць з паліцыі, каб пісалі больш. Але пісаць ім больш не ўдалося, мяне перавялі ў Стаўпцы. Тады аб маёй грамадзкай і рэлігійнай працы зьявіліся зацемкі ў прэсе. Стаўпецкі староста аж пеніўся са злосьці, але атрымаў ад мяне такі адказ, якога ён ніколі не спадзяваўся.

Калі ў міжнародным жыцьці ўзрастала напружаньне, польскі наступ на ўсё беларускае пачынаў прымаць дзікія формы. Адміністрацыя пачала высяляць з так званае прыгранічнае паласы, якую пашырона да 100 км — усіх, каго лічылі непажаданым[і]. Між выселенымі знайшлося шмат беларускага духавенства[423]. І вось 15.V.1939 загадам наваградзкага ваяводы выселена і мяне з Стаўпцоў. І яшчэ як выселена: калі ксяндзоў Ад. Станкевіча, Ул. Талочку, Я. Гэрмановіча[424] выселена на 5 гадоў, дык мяне — назаўсёды. Такі ім быў страшны.

---

[422] Маецца на ўвазе — падпісваліся на беларускую прэсу (ад польск. *prenumerata* — падпіска).

[423] У 1938–1939 гг. былі сярод іншага выселеныя беларускія марыяне з Друі, а таксама ксяндзы Адам Станкевіч і Ўладзіслаў Талочка зь Вільні.

[424] **Язэп Германовіч** (1890–1978), каталіцкі сьвятар, паэт, публіцыст. Пасьвячоны ў сьвятары ў 1913 г., працаваў у розных парафіях Беластоцкага дэканату. У 1924 г. уступіў у ордэн марыянаў у Друі. Служыў там пробашчам,

Тады пінскі біскуп мяне назначыў зноў на Палесьсе — у Збураж, Маларыцкага раёну[425], а палескі ваявода назначыў спэцыяльны нагляд нада мною.

Але і там я не спыніў працы, беларускія кнігі і газэты ішлі да мяне і туды, але каб менш чаплялася паліцыя, побач душпастырства займаўся зборам лекарскіх зёлак і народнаю мэдыцынаю. Гэткім чынам хутка ў Збуражы і ваколіцах я меў блізкі кантакт з насельніцтвам, і паліцыя ня мела за што прыдрацца, ды камэндант паліцыі там даволі людзкі, ды гэта ўжо быў час, калі пачалі голасна гаварыць аб вайне.

З мамэнтам прыходу ў Зах. Беларусь бальшавікоў і душпастырская і беларуская нацыянальная праца сталася цяжкаю і нават небясьпечнаю справаю. Для мяне яна была тым больш небясьпечнаю, што трэба было разам зь невялікаю групаю беларускіх каталіцкіх сьвятароў усходняга абраду на чале з а. Неманцэвічам заняцца арганізацыяй Беларускага Экзархату.

Для ўсяго СССР было створана 5 экзархатаў — у тым ліку і Беларускі. Мне давялося ўдзельнічаць на 2-ім саборы экзархаў у Львове. Толькі я вярнуўся зь Львова і выбіраўся ехаць на парахвію ў Бабровічы, як 22.VI нямецкая армія рушыла на Ўсход. Я якраз ехаў у сваю парахвію на Палесьсе, дык адразу вярнуўся назад, але даехаў толькі да Баранавічаў і там дачакаўся прыходу нямецкай арміі.

Першыя распараджэньні нямецкіх ваенных уладаў у Баранавічах моцна расчаравалі беларусаў. Бурмістрам быў назначаны паляк з Галічыны — Гібоўскі, школьным інспэктарам і камэндантам паліцыі такжа палякі. Яны пачалі набіраць урадаўцаў такжа толькі палякаў. Уся мясцовая ўлада знайшлася ў польскіх руках, і ў ваколіцы пачаліся арышты больш актыўных беларусаў. Тады падчас прыватных сустрэчаў беларусы рашылі зарганізаваць Беларускі Камітэт — у яго склад увайшлі: д-р В. Войтэнка, інж. Таранда і я. Ад імені гэтага Камітэту я ўвайшоў у склад рэдакцыі "Баранавіцкай газэты", якую заплянавала выдаваць Камэндатура. І адначасна мне даручылі працу ў Баранавіцкім радыё. Я згадзіўся, але адразу моцна расчараваўся, бо

адначасова выкладаў Закон Божы й лацінскую мову ў мясцовай гімназіі. Пісаў вершы й прозу, друкаваў іх пад псэўданімам Вінцук Адважны. Ад 1932 г. — на місіянэрскай працы ў Харбіне, дзе таксама быў дырэктарам гімназіі. У 1936 г. вярнуўся ў Вільню, кіраваў Беларускім марыянскім домам студэнтаў. У 1938 г. дэпартаваны разам са студэнтамі ў Цэнтральную Польшчу. Зноў выехаў у Харбін. У 1948 г. арыштаваны кітайскай паліцыяй і перададзены савецкім органам бясьпекі, асуджаны да 25 гадоў прымусовых работ у лягерах. Пасьля сьмерці Сталіна вызвалены. Выехаў у Польшчу, а ў 1959 г. — у Італію, затым — у Вялікабрытанію.

425 Маларыцкі раён зьявіўся як адміністрацыйная адзінка толькі ў савецкі час, а ў пэрыяд, які апісвае Леў Гарошка, вёска Збураж належала да Берасьцейскага павету.

ў газэце трэба было ўсяго перакладаць артыкулы зь нямецкае мовы, а ў радыё чытаць толькі пераклады нямецкіх паведамленьняў з фронту. Пры тым і сам Камітэт праіснаваў вельмі коратка. Якраз на другі тыдзень, калі я ў Камітэце зьбіраў рэдакцыйную калегію, увайшлі ў памяшканьні тры нямецкія афіцэры зь мясцовай Камэндатуры і абвесьцілі, што разьвязваюць Камітэт. На гэтую заяву я запратэставаў даволі востра:

*— Што вы робіце? Усю ўладу аддалі палякам, якія пад рознымі прэтэкстамі ўжо пачалі вынішчаць беларускую інтэлігенцыю і цяпер разьвязваеце нашую адзіную арганізацыю, якую мы стварылі для свае абароны!*

На гэта яны спакойна адказалі:

*— Ня бойцеся, хутка заменім на лепшае; і магістрат, і паліцыя пяройдзе ў беларускія рукі.*

Празь некалькі дзён сапраўды бурмістрам быў назначаны д-р Войтэнка, але ў паліцыі зьмены адбывалі павольней.

У “Баранавіцкай газэце” і ў радыё ніякіх зьменаў на лепшае не было. Галоўны рэдактар зондэрфюрэр Карл Бэрэнд на маё запытаньне аб зьменах на лепшае, жартам адказаў, што для беларусаў лепшае газэты ня трэба. А беларуская ў газэце была толькі адна старонка; дзьве першыя былі нямецкія, а чацьвёртая — польская.

Тады я заявіў, што я выходжу з рэдакцыі. Тады ён выцягнуў з кішэні рэвольвэр і казаў:

*— Магу вам даць валавяны водпуск.*

Праз колькі дзён, калі ў Баранавічах была першы раз расклеена нейкая абвестка толькі ў нямецкай і беларускай мове, гэты ж Бэрэнд напісаў востры артыкул супраць беларусаў. Я запратэставаў вельмі энэргічна. Тады раззлаваны зондэрфюрэр выхапіў рэвольвэр, накіраваў мне ў грудзі, кажучы, што застрэліць тут жа ў рэдакцыі, бо яго і нямецкіх афіцэраў абразіў.

*— Я крыху больш як афіцэр,* — адказаў я цьвёрда, — *Я сьвятар і маю ня толькі права, але і абавязак сказаць вам праўду.*

Дрыжучымі рукамі ён схаваў рэвольвэр і хутка выйшаў. Хадзіў да генэрала і вярнуўся толькі вечарам і лагодна прасіў мяне паправіць ягоны артыкул, каб не было пратэстаў.

Праз пару тыдняў на мейсца Бэрэнда зондэрфюрэрам для рэдакцыі і радыё быў прызначаны д-р Дамэн. Зь ім я хутка дагаварыўся, і ён ахвотна мяне звольніў і з рэдакцыі і радыё, толькі я туды мусіў знайсьці заступнікаў.

Цяпер я зьбіраўся ехаць у парахвію, але аднаго дня прыйшоў да мяне акруговы інспэктар Міхайлоўскі з просьбаю выкладаць беларускую мову на шасьцітыднёвых настаўніцкіх курсах. Таму, што мне таксама хацелася ехаць на парахвію з настаўнікам, прышлося згадзіцца.

Але калі я пасьля шасьці тыдняў прыехаў на парахвію ў Бабровічы, дык пераканаўся, што за той час сталася там шмат непапраўных здарэньняў. Там так заблыталіся адносіны між вернікамі, уладамі і суседнімі вёскамі, і людзьмі ў лесе, што я чуць ня трапіў пад кулі — выратавала толькі веда нямецкае мовы. Вярнуўся зноў у Баранавічы.

Якраз тады быў зацьверджаны праект сярэдняе школы Мэдыцынскага пэрсаналу. Дырэктарам лічыўся д-р Войтэнка, ён жа быў і бурмістрам.

Я згадзіўся ажыцьцяўляць той праект. Трэба было пачынаць працу зь нічога. Заняткі пачаліся ў лютым 1942 г. і адразу пайшлі ўзмоцненым тэмпам. Кожныя тры месяцы школа папаўнялася новымі вучнямі і ўжо на пачатку 1943 г. мела 430 вучняў у 12 класах і 4 факультэтах. За гэты час дырэктары мяняліся тройчы, а мне працы ўсё прыбывала.

Тым часам Баранавічы станавіліся найбольш актыўным культурным беларускім цэнтрам: адчыніліся адна за адною сярэдняя і агульнаадукацыйная школы, розныя курсы. І мне давялося, акрамя Мэдыцынскае школы, яшчэ выкладаць на Матуральных курсах, у Мастацкай школе, на настаўніцкіх курсах і розных іншых курсах. Аднаго дня, вярнуўшыся вечарам дамоў, я як сеў на канапу, дык ня меў сілы ўстаць. Парахаваў лекцыі — той дзень я меў 12 лекцыяў, а папярэдні дзень было столькі ж, а харчы былі вельмі слабыя. На шчасьце, гэта трывала два тыдні, потым лекцыі зьменшыліся да 60 у тыдзень. Падрыхтоў[ка] да лекцыяў, кіраўніцтва школы і праўленьні сшыткаў у гэты рахунак ня ўходзіла.

У лютым 1943 г. немцы надумаліся разграміць беларускія сярэднія школы ў Баранавічах. І вось 8-га лютага яны загадалі праз акруговага інспэктара, каб усе вучні Мэдыцынскай школы сабраліся на 12 гадз[іну], бо выклады вяліся ў школе на 2 зьмены. Загад я пераказаў вучням і зазначыў, што прыйдуць немцы. За пару міну[т] школьны будынак спусьцеў. Паўцякалі і вучні, і настаўнікі. Я астаўся адзін і чакаў найгоршага, але ўцякаць ня думаў. На другі дзень мяне арыштавалі, хоць тады дырэктарам школы быў д-р М. Мінкевіч. Вучні паўцякалі нават з пачатковых школаў.

Праз тры дні, 11-га лютага, мяне выпусьцілі з турмы, не рабіўшы ніякіх дапросаў. Але на новы, 1944 г. зь Менску прыйшоў загад — выкінуць мяне з усіх школаў. Якраз у тым часе на дамаганьне беларускага актыву ў Баранавічах немцы згадзіліся палепшыць “Баранавіцкую газэту” і нават зьмяніць яе загаловак на “Пагоню”[426]. Я згадзіўся быць карэктарам на кароткі час, бо меў намер ехаць у Альбэртын — там пасьля арышту а. Неманцэвіча пуставала парахвія.

[426] Пад назвай “Пагоня” былая “Баранавіцкая газэта” выдавалася вясной — летам 1944 г.

Калі я зьявіўся ў Слонімскі гэбітскамісарыят, каб там зарэгістравацца, шэф па царкоўных справах накінуўся на мяне з лаянкаю, каб я за 24 гадзіны пакінуў Альбэртын. Пры выхадзе з гэбітскамісарыяту мяне папярэдзілі, каб я выехаў неадкладна, бо ўжо зьбіраюцца мяне арыштаваць вечарам і расстраляць.

Давялося вяртацца ў Баранавічы і прадаўжаць працу карэктара. Да таго там зьбіралася шмат іншае працы сярод моладзі.

У чэрвені таго ж 1944 г. пачалі гаварыць аб другім Беларускім Кангрэсе[427]. Тады ўжо ў Баранавічах замацаваўся звычай склікаць нараду актыву ў магістраце на вырашэньне важнейшых грамадзкіх пытаньняў. На адной такой нарадзе вызначылі дэлегатаў на Кангрэс. Між дэлегатамі знайшоўся і я. Усе дэлегаты ня толькі з Баранавіч, але і з усіх іншых га[ра]доў і вёсак ехалі ў Менск з надзеяй, што гэта будзе сапраўды Кангрэс. Тым часам, як толькі яго адчынілі, дык адразу было прыкрае расчараваньне. Я зьвярнуўся да старшыні Я. Кіпеля[428] па голас. Ён адказаў, што ўжо закрытая ліста прамоўцаў.

— *Як жа вы яе маглі закрыць, калі яе яшчэ не адчынялі?* — пытаюся голасна.

— *Няма калі аб гэтым гаварыць.*

— *Я ў справе формальнай, аб якой неабходна гаварыць.*

— *Няма калі,* — адказаў коратк[а].

— *Тады гэта ніякі кангрэс, а звычайная маніфэстац[ыя],* — заяўляю я.

На перапынку мяне пераняў мой школьны сябра Чэмер[429] з абурэньнем.

427 Маецца на ўвазе **Другі Ўсебеларускі кангрэс** — зьезд прадстаўнікоў беларускага народу, які адбыўся 27 чэрвеня 1944 г., ва ўмовах нямецкай акупацыі Беларусі, у Менску. Падчас яго была абвешчана незалежнасьць краіны ад Расіі, а Беларуская Цэнтральная Рада называлася пераемніцай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

428 **Яўхім Кіпель** (1895–1969), грамадзкі й палітычны дзеяч, пэдагог, публіцыст. З 1921 г. у Менску, працаваў у Наркамаце асьветы БССР, Інбелкульце, Менскім пэдагагічным тэхнікуме. У 1930-я гг. двойчы арыштоўваўся й быў асуджаны, вызвалены ў 1940 г. Ад чэрвеня 1942 г. зноў жыў у Менску. Працаваў у Інспэктараце беларускіх школ, Беларускай народнай самапомачы, рэдагаваў газэту “Голас вёскі”. Ад сярэдзіны 1944 г. — у Нямеччыне, у 1950 г. пераехаў у ЗША.

429 Маецца на ўвазе **Аляксей Анішчык** (псэўд. **Андрэй Чэмер**; 1912–2007), пісьменьнік, мэмуарыст, пэдагог і грамадзкі дзеяч. Выпускнік Наваградзкай беларускай гімназіі й магістратуры эканамічнага факультэту Познаньскага ўнівэрсытэту. Пасьля 1939 г. працаваў у сыстэме адукацыі на Наваградчыне. У часы нямецкай акупацыі актыўна займаўся беларускай выкладчыцкай, журналісцкай, культурнай і грамадзкай дзейнасьцю.

*— Ён, гэты старшыня, мне адказаў тое самае, а я хачу сказаць моцнае слова. Мы павінны тут афіцыяльна дамагацца, каб яны нам вярнулі Беласточчыну і ўсе тыя землі, што перадалі суседзям.*

Я адразу ўзяў яго за руку і пайшлі атакаваць "прэзыдыю". Хутка стрэнулі Шкялёнка[430]. Той хуценька запісаў толькі прозьвішча Чэмера і зьнік за кулісамі.

На папалуднёвым паседжаньні неспадзявана Чэмер атрымаў голас, але як толькі скончыў гаварыць, а гэта было сапраўды моцнае слова, Кіпель заявіў:

*— Гэта не на тэму.*

Даклады, якія чыталіся на "Кангрэсе", мелі адзін характар — гэта былі выступленьні на антыбальшавіцкім мітынгу. Ды нават і таго мітынгу не ўдалося належна закончыць.

На наступны дзень замест паседжаньня была абвешчана пасьпешная эвакуацыя. У гэтым віры эвакуацыі я спаткаў на вуліцы Астроўскага[431] і, хаця ён быў моцна стурбаваны, я між іншым заўважыў:

*— Чаму ж не абвясьцілі незалежнасьці Беларусі?*

*— Дык жа прынята пастанова, дзе кажац[ц]а, што пацьвярджаем усе пастановы першага Ўсебеларускага Кангрэсу і ўстаўныя граматы.*

А якісьці чалавек, што стаяў побач, дадаў:

*— А вы ня бачылі, што ў лёжах сядзелі немцы.*

---

Браў удзел у Другім Усебеларускім кангрэсе ў Менску ў 1944 г., дзе рэзка выступіў *"супраць усіх акупантаў Беларусі"*. Пасьля вайны некалькі гадоў жыў у Польшчы, у 1948 г. арыштаваны й асуджаны на 25 гадоў ГУЛАГу. Вызвалены ў 1962 г., жыў у Вільні. Напісаў і выдаў некалькі кніжак прозы, вершаў і ўспамінаў. Ачольваў Віленскае беларускае таварыства палітвязьняў і ссыльных.

430 **Мікалай Шкялёнак** (1899–1947), грамадзкі дзеяч, гісторык, юрыст. Скончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту, дзе кіраваў беларускай студэнцкай арганізацыяй. У 1940 г. пасяліўся ў Бэрліне, супрацоўнічаў з газэтай "Раніца", потым быў яе рэдактарам. У 1942 г. накіраваны ў Менск на работу ў Генэральны камісарыят, у 1943 г. увайшоў у склад Беларускай Цэнтральнай Рады, быў яе першым віцэ-прэзыдэнтам. У 1946 г. арыштаваны ў Польшчы й прывезены ў Менск. Расстраляны.

431 **Радаслаў Астроўскі** (1887–1976), грамадзка-палітычны дзеяч. У 1924–1936 гг. дырэктар Віленскай беларускай гімназіі. Віцэ-старшыня Беларускай сялянска-работніцкай грамады ў 1925–1927 гг., дырэктар Беларускага каапэратыўнага банку. У 1928–1936 гг. — актыўны прапагандыст супрацоўніцтва заходнебеларускага нацыянальнага руху з польскімі санацыйнымі ўладамі. У 1943 г. абраны Прэзыдэнтам Беларускай Цэнтральнай Рады. Пасьля вайны жыў у Заходняй Нямеччыне, Аргентыне, Вялікабрытаніі, ЗША.

Вярнуўшыся ў Баранавічы, трэба было адразу забірацца на Захад. Я накіраваўся ў Бэрлін. Там хутка знайшоў і Беларускі Камітэт, і Прадстаўніцтва, і там жа знайшлася Цэнтральная Рада[432].

Тады ў Нямеччыне было шмат беларусаў, але мяне моцна зьдзівіла, што не было ніводнага беларускага духоўнага для гэтае эміграцыі. Украінцы мелі больш дзясятка сьвятароў для каталікаў і між імі беларус а. М. Маскалік[433]; для праваслаўных такжа было некалькі, а для беларусаў нікога.

Я зьвярнуўся ў *Kirchenministerium*[434], і там мне сказалі, якія патрэбна фармальнасьці, каб атрымаць дазвол для рэлігійнага абслугоўваньня беларусаў. Выпаўніў я ўсе гэтыя фармальнасьці, панапісваў заявы, у Цэнтральнай Радзе ахвотна за[ць]вердзілі мае заявы, і адразу занёс іх да біскупа Вінкена[435], які быў пасрэднікам між япіскапатам і ўрадам. Праз тыдзень прыйшло паведамленьне зь міністэрства, што мае заявы атрымала і што трэба чакаць на вырашэньне справы. З гэтым лістом я ўжо меў права служыць для Беларусаў Службу Божую і чытаць чытань[ні] па-беларуску, але ня меў права гаварыць казаньні.

Першую Службу Божую для беларусаў адслужыў у той жа царкве, дзе служылі ўкраінцы, на Папэн алее 27.VIII.1944. Прытым сьпяваў невялікі хор пад кір. Равенскага[436]. Аб гэтым [у] "Раніцы" падалі зацемку[437]. Тады схамянуліся беларускія праваслаўныя япіскапы, каб атрымаць адпавед-

---

432 **Беларуская Цэнтральная Рада** (БЦР) — цэнтральная інстытуцыя беларускай адміністрацыі на акупаванай немцамі тэрыторыі Беларусі ў сьнежні 1943 г. — чэрвені 1944 г.

433 **Міхась Маскалік** (1903–1965), каталіцкі сьвятар усходняга абраду, доктар філялёгіі, культурна-грамадзкі дзеяч. Паходзіў з Гарадзеі, вучыўся ў Віленскім унівэрсытэце. У 1932 г., атрымаўшы стыпэндыю ад мітрапаліта А. Шаптыцкага, выехаў на вучобу ў Нямеччыну, дзе вывучаў філязофію й тэалёгію ў калегіюме Сьв. Андрэя ў Мюнхене. Заснаваў і кіраваў Саюзам беларускіх студэнтаў у Нямеччыне. Пасьвячоны ў сьвятары ў ліпені 1938 г., на кароткі час вярнуўся ў Вільню, але хутка зноў вярнуўся ў Нямеччыну. У гады вайны выконваў сьвятарскія абавязкі сярод ваеннапалонных, у 1943 г. быў арыштаваны, некалькі месяцаў правёў у канцлягеры Заксэнгаўзэн. Вызвалены дзякуючы намаганьням Папскай місіі ў Нямеччыне. Пасьля вайны жыў у Заходняй Нямеччыне.

434 ***Kirchenministerium*** (ням.) — міністэрства рэлігійных спраў.

435 **Генрых Вінкен** (ням. *Wienken*; 1883–1961), тытулярны біскуп Арэтусы (*Arethusa*), у апісваны Львом Гарошкам час — кіраўнік Біскупскага камісарыяту Канфэрэнцыі біскупаў па перамовах паміж Каталіцкай царквой і ўрадам нацыянал-сацыялістаў.

436 **Мікола Равенскі** (1886–1953), кампазытар, дырыжор, музычны крытык. Сярод іншага, аўтар музыкі да гімну "Магутны Божа". Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў на эміграцыі.

437 Раніца. № 36 (198). 04.09.1944. С. 3.

ны дазвол. Ім дазвол далі хутка. Я такога дазволу не атрымаў да канца ўладаў нацыстаў, але служыў штонядзелі. Ад 15.X перанёс багаслужэньні бліжэй Беларускага Камітэту ў францішканскую капліцу.

Калі да Бэрліну набліжаўся фронт і беларусы рушылі далей на Захад, я накіра[ва]ўся ў Мюнхэн — прыехаў 10 лютага 1945 г., але там не было каму служыць. Чамусьці ў Мюнхэне беларусаў было вельмі мала.

Там прышлося перажыць страшныя бамбардыроўкі, і толькі цудам астаўся жывы дзякуючы таму, што не разарваліся ажно тры бомбы, якія ўпалі ў дом і ля дому, дзе я жыў.

У Мюнхэне дачакаўся прыходу амэрыканцаў на пачатку траўня 1945 г. Калі супакоіліся грабяжы і паляваньні на эмігрантаў савецкіх камісіяў, усе эміграцыйныя групы пачалі тварыць свае камітэты і лягеры. Беларусаў асталося замала, каб заняць цэлы лягер, дык на нейкі час памясьціліся разам з украінцамі, а камітэт свой мы такі заснавалі. Я жыў на Каўльбахстрасэ. Там аднойчы сабраліся д-р Грабінскі[438], д-р Я. Станкевіч[439], Родзевіч[440] і я ды пастанавілі, што гэта будзе наш Камітэт.

Я напісаў ліст да амэрыканскага камэнданта Мюнхэну. Ён сам прыняў ліст, прачытаў, паглядзеў на мяне і сказаў “О’кэй!”.

Для памяшканьня Камітэту Родзевіч знайшоў дом на *Bogenhausen*. Там пачаліся рэгістрацыі беларусаў. Для ўсіх зарэгістраваных я атрымаў ад амэрыканскіх уладаў даведкі, што яны могуць аставацца ў Нямеччыне.

Аднаго дня раніцою прыбег у Камітэт задыханы юнак з просьбаю ратаваць цэлую групу беларусаў, якім я перадаў даведкі ў мінулым тыдні. Іх схапілі савецкія жаўнеры і загналі ў лягер для перавозаў. Я пасьпяшыў да амэрыканскага камэнданта, і там якраз быў савецкі афіцэр, які схапіў беларусаў. Як толькі выйшаў савецкі афіцэр, я паведаміў амэрыканскага камэнданта аб здарэньні. Ён адразу заклікаў шафэра і накіраваўся ў лягер. Але праз два тыдні савецкія жаўнеры

---

438 **Баляслаў Грабінскі** (1899–1991), адзін зь лідараў БХД, абіраўся ў ЦК партыі. Паходзіў з Сакольшчыны. У 1941–1944 гг. старшыня віленскага БНК. Пасьля вайны жыў на эміграцыі, працаваў доктарам-стаматолягам у ЗША.

439 **Ян (Янка) Станкевіч** (1891–1976), грамадзка-палітычны дзеяч, мовазнаўца, доктар славянскай філялёгіі й гісторыі. Скончыў Праскі ўнівэрсытэт. У 1928–1930 гг. быў паслом польскага сойму. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў на эміграцыі ў ЗША.

440 **Усевалад Родзевіч** (1916–1998), грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў сям’і праваслаўнага вайсковага сьвятара. У 1939 г. быў мабілізаваны ў польскую армію, трапіў у палон. Пазьней утрымліваўся ў канцэнтрацыйным лягеры ў Трыры, адкуль здолеў вырвацца. У 1944 г. — ад’ютант Прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады Р. Астроўскага, лейтэнант Беларускай Краёвай Абароны, удзельнік Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку быў у Нямеччыне, у Мюнхене. У 1949 г. выехаў у Аўстралію.

зноў схапілі тых жа беларусаў і адразу завязьлі на станцыю ды закінулі ў вагон. Аднак той жа юнак здолеў выламаць падлогу ў вагоне, прыбег да мяне. і зноў амэрыканскі камэндант вызваліў беларусаў, але гэтым разам з рэвольвэрам у руках.

Калі рыхтавалася нарада ў Рэгэнсбургу[441], мы зрабілі фармальнае паседжаньне Камітэту і аднагалосна пастанавілі, што Цэнтральная Рада ўжо выканала сваю ролю і цяпер у новых абставінах павінна разьвязацца, а на яе мейсца трэба ўтварыць адпаведнае беларускае прадстаўніцтва ці камітэт. З такімі інструкцыямі дэлегавалі ў Рэгэнсбург Родзевіча, быўшага ад'ютанта Р. Астроўскага.

Ад імені Мюнхэнскага Камітэту вяліся перагаворы з нашымі суседзямі. З украінскім Камітэтам было наладжана блізкае супрацоўніцтва.

Пад восень жыцьцё эміграцыі ў Мюнхэне паспакайнела і працы ў Камітэце было вельмі мала, ды і склад Камітэту зьменшыўся, бо д-р Грабінскі і д-р Я. Станкевіч выехалі, мне таксама карціла заглянуць у Рым. Дык карыстаючы з паслугаў Папскае Камісіі, якая рэпатрыявала італьянскіх палонных, я прыехаў у Рым 11 верасьня 1945 г.

У Рыме і ў самым Ватыкане да гэтага часу ведалі аб беларусах вельмі мала. Дык прыйшлося шмат пісаць. На шчасьце, знайшліся добрыя памоцнікі, што ведалі добра італьянскую і лацінскую мову. Давялося таксама адведваць лягеры і нават польскія школы, адшукваючы сваіх суродзічаў. Падчас гэтых адведзінаў стала ясна, што трэба дамагацца ад галоўнага камандаваньня польскае арміі, каб дазволілі хоць якую беларускую арганізацыю для жаўнераўбеларусаў. Я напісаў мэмарыял у гэтай справе да генэрала Андэрса[442], але адказу на мэмарыял не было, а дазвол такі далі, але ўжо ў Англіі[443].

---

441 Маецца на ўвазе сход беларускага палітычнага актыву 5 жніўня 1945 г. у офісе Беларускага нацыянальнага камітэту ў Рэгенсбургу, у якім удзельнічалі 12 чалавек. На гэты сход сярод іншых прыехаў Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады Радаслаў Астроўскі. У выступленьнях было канстатавана, што БЦР у наяўных варунках ня можа выконваць свае функцыі, і прапанавана, каб яна перадала свае паўнамоцтвы новай арганізацыі, Беларускаму нацыянальнаму цэнтру, мандат на кіраваньне справамі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне.

442 **Уладзіслаў Андэрс** (польск. *Anders*; 1892–1970), польскі генэрал, пасьля пачатку нямецка-савецкай вайны стваральнік польскіх узброеных фармаваньняў на тэрыторыі СССР, якія пасьля праз Іран і Палестыну былі выведзеныя на Заходні фронт.

443 2-і Польскі корпус пад камандаваньнем генэрала Ўладзіслава Андэрса да 1946 г. знаходзіўся ў Італіі ў якасьці складовай часткі акупацыйных сілаў заходніх саюзьнікаў, а затым быў перапраўлены ў Вялікабрытанію, дзе неўзабаве расфармаваны.

Пры тым мне было прыемна сьцьвердзіць, што ў Ватыкане да беларусаў наогул і да беларускага рэлігійнага пытаньня ставяцца вельмі прыхільна. Там ахвотна згадзілі[ся] пакрыць кошты выданьня беларускага малітаўніка, а потым і Энцыклікі аб 450[-годзьдзі] Уніі. Карыстаючы з гэтага, я падрыхтаваў малітаўнік "Голас душы"[444], які выдаў у 1946 г.

Летам 1946 г. паўстала пытаньне ўтварэньня беларускага каталіцкага душпастырства ўсх[одняга] абраду ў Францыі. Я ахвотна згадзіўся ехаць у Парыж і пачаў рыхтавацца ў дарогу. 25.X я ўжо быў у Парыжу і пачаў пошукі капліцы для багаслужэньня і знаёмства з суродзічамі. У тым жа часе была дэлегацыя ад беларусаў у папы Пія XII, а сьледам за тым з Ватыкану было даручана біск. Слоскансу[445] зьвізытаваць усе беларускія асяродкі ў Нямеччыне, Францыі і Бэльгіі.

У Парыжу адначасна з душпастырствам трэба было займацца шматлікімі іншымі справамі. Найбольш пільным было пытаньне стыпэндыяў для беларускіх студэнтаў. Для Францыі мне пашчасьціла дастаць 5 стыпэндыяў на адзін год, але тут не было столькі студэнтаў. Давялося старацца атрымаць стыпэндыі пры Лювэнскім унівэрсытэце[446]. Я адведаў Бэльгію, пагутарыў з кім мог, але не знайшоў там ніводнага студэнта. Вярнуўшыся з Бэльгіі, я абгаварыў гэтую справу з прэз. Абрамчыкам[447] і раіў яму знайсьці прынамсі двох адважных студэнтаў з Марбургу[448], якія б прыехалі ў Лювэн, і тады напэўна стыпэндыі можна будзе атрымаць. Так яго і сталася. Калі ўжо ў Лювэне зьявіліся студэнты, дык я атрымаў ліст з Усходняе Кангрэгацыі ў гэтай справе. Зразумела, што я ручаўся за студэнтаў. Але ў далейшым я не займаўся лювэнскімі справамі, бо там быў

444 Аўтар чамусьці памыліўся з назвай уласнага малітоўніка, які на самай справе меў назву "Божым шляхам".

445 **Баляслаў Слосканс** (лат. *Sloskāns*; 1893–1981), каталіцкі гіерарх, паводле паходжаньня латыш. У 1926 г. патаемна рукапакладзены ў біскупы, быў апостальскім адміністратарам у Магілёве й Менску. У 1927 г. арыштаваны й зьняволены, у 1933 г. высланы ў Латвію. У 1933–1941 гг. — прафэсар Рыскай каталіцкай сэмінарыі ды тэалягічнага факультэту Рыскага ўнівэрсытэту. Ад 1944 г. — у эміграцыі, у 1952 г. вышэйшымі духоўнымі ўладамі Ватыкану прызначаны апостальскім візытатарам для беларусаўкаталікоў у Заходняй Эўропе.

446 **Лювэнскі каталіцкі ўнівэрсытэт** — найстарэйшы бэльгійскі ўнівэрсытэт, які быў заснаваны ў 1425 г. Разьмяшчаўся ў горадзе Лювэн у Фляндрыі.

447 **Мікола Абрамчык** (1903–1970), палітык і грамадзкі дзеяч, які ў сьнежні 1947 г. афіцыйна аднавіў Раду БНР. Жыў у Парыжы, займаўся актыўнай грамадзкай дзейнасьцю.

448 Маюцца на ўвазе студэнты, якія вучыліся ў Марбурскім унівэрсытэце ў Нямеччыне.



Леў Гарошка зь беларускімі вернікамі ў Парыжы. 13 красавіка 1947 г.

назначаны а. Робэрт ван Каўвэлярт[449]. Затое прыйшлося весьці стараньні, каб яшчэ атрымаць стыпэндыю для беларускіх студэнтаў у Мадрыдзе. Там адна дабрадзейная гішпанская арганізацыя, якая ўтрымоўвала пры мадрыдзкім унівэрсітэце калегію сьв. Якуба, згадзілася прызнаць некалькі стыпэндыяў для беларусаў, але толькі для каталікоў — добра было і гэта, але кандыдатаў у Мадрыд было мала, ды тыя, што прыяжджалі туды, у большасьці хутка адыходзілі (?). Аднак тыя, што затрымаліся ў Мадрыдзе, паведамілі мяне, што там ёсьць магчымасьць мець беларускія радыёперадачы. Я неадкладна паехаў у Мадрыд і там між 6–13 лістапада 1952 г. разам зь Я. Сурвілам[450] хадзілі ў розныя ўстановы і Міністэрства інфармацыі. Усюды сустракалі прыхільна і абнадзейвалі, што хутка будуць уведзены беларуская радыёперадачы.

Таму што ў Францыі, як і ў іншых краінах, беларусы былі вельмі расьцярушаны, дык моцна адчувалася патрэба часапісу так для душ-

449 **Робэрт ван Каўвэлярт дэ Ўільс** (флам. *Van Cauwelaert de Wyels*; 1906–1986), каталіцкі сьвятар усходняга абраду зь бенэдыктынскага манастыру ў Шэветоне. Паходзіў са старажытнага флямандзкага роду. У 1948 г. стаў сакратаром Камітэту дапамогі беларускім студэнтам у Лювэне.

450 **Янка Сурвіла** (1925–1997), грамадзкі дзеяч. У 1942 г. падчас нямецкай акупацыі ўзначальваў пачатковую беларускую школу, пасьля вайны выехаў на эміграцыю. Жыў у Нямеччыне, Францыі, Гішпаніі, Канадзе. У 1958–1965 гг. вёў штодзённыя беларускія радыёперадачы Гішпанскага радыё.

пастырства, як і для грамадзкага жыцьця, для гэтага ад кастрычніка 1947 г. я выдаваў спачатку месячнік, а потым двумесячнік “Божым шляхам”[451]. Гэта вымагала вельмі шмат працы, бо я стараўся, каб часапіс быў на адпаведнай вышыні з кожнага гледзішча.

У гэтых стараньнях з дня на дзень даводзілася ўваходзіць у адносіны зь людзьмі розных нацыянальнасьцяў. Маё становішча як рэктара Беларускага душпастырства забавязвала мяне ўдзельнічаць у пэрыядычных зборах рэктараў чужынецкіх місіяў, а іх было ў Парыжы 35. Аднак сапраўды шырока адчыніліся для беларусаў дзьверы ў міжнародныя арганізацыі ў Люрдзе[452] 26.VII.1948 г. Тады адбываўся ў Люрдзе першы кангрэс міжнароднае каталіцкае арганізацыі *“Pax Christi”*[453]. Паехаў туды і я ды зарэгістраваў, што прыехаў ад групы беларусаў. Папалудні таго ж дня, калі фармавалася працэсія, ужо былі падрыхтаваныя напісы для ўсіх нацыянальных групаў, і я [зь] вялікім зьдзіўленьнем убачыў каля муру панкарту[454] з напісам *“Bielorussia”* для беларускае групы, а я быў адзін. І тут жа над галавою, быццам зь неба, азваўся голас *“Biélorussiens, prenes votre place!”*[455]. І на наступны год на гэткім жа Кангрэсе, я ўжо быў з групаю беларускіх вернікаў і ў працэсіі мы занялі нашае беларускае мейсца. Да таго мне аднаго дня даручылі несьці Найсьвяцейшыя Дары з капліцы ў гроту, — быў і гонар і шчасьце, у горадзе Марыі былі шырока адчынены дзьверы для беларусаў у міжнародную сям’ю.

Ад таго часу нам лёгка адчынялі дзьверы ўва ўсіх тых міжнародных зборах і кангрэсах, дзе толькі мы мелі змогу ўдзельнічаць.

Душпастырская праца між беларусаў у Францыі неяк увесь час была цесна зьвязана з грамадзкаю. Напрыклад, матэрыяльную помач для эмігрантаў у Францыі з дабрадзейных амэрыканскіх арганізацыяў выдавалі праз рэлігійныя місіі, і праз мае рукі прайшло шмат вопраткі

[451] **“Божым Шляхам”** — часопіс беларускае рэлігійнае думкі, які выдаваўся ў Парыжы ў 1947–1957 гг. і ў Лёндане ў 1957–1980 гг. на беларускай мове. Рэдактарамі ў розныя часы былі айцы Леў Гарошка, Язэп Германовіч, Фэлікс Журня, Аляксандар Надсан. Усяго выйшаў 151 нумар.

[452] **Люрд** (фр. *Lourdes*) — горад на поўдні Францыі. Мае важнае значэньне для каталікоў як месца паломніцтваў, бо тут 11 лютага 1858 г. чатырнаццацігадовай мясцовай жыхарцы Бэрнадэце Субіру нібыта зьявілася Дзева Марыя.

[453] ***“Pax Christi”*** (з лац. “Мір Хрыста”) — міжнародная хрысьціянская арганізацыя, створаная ў Францыі ў 1945 г. Мела на мэце спрыяць прымірэньню паміж францускімі й нямецкімі грамадзянамі ў пэрыяд пасьля Другой сусьветнай вайны. Неўзабаве, аднак, арганізацыя значна пашырыла сфэру сваёй дзейнасьці й распаўсюдзіла яе таксама на іншыя краіны сьвету.

[454] **Панкарта** (ад фр. *pancarte*) — аб’ява, афіша, плякат.

[455] *“Беларусы, займіце ваша месца!”* (фр.).

і ежы для нашых суродзічаў якраз у той час, калі яны пачыналі будавацца і сапраўды гэтае помачы патрабавалі. Калі ж праз інтрыгі палякаў і расейцаў у Міністэрстве замежных справаў адмовіліся прызнаваць беларускую нацыянальнасьць, дык гэта хіба дзякуючы апецы Маці Божай Бог паслаў нам шчырага прыяцеля — віцэ-прэзыдэнта сэнату, дзякуючы якому Францыя першая ў Эўропе пастанавіла прызнаваць беларускіх эмігрант[аў] нароўні зь іншымі дзяржаўнымі народамі.

Зь цягам часу душпастырскага і грамадзкага ўсьцяж збольшвалася. Супрацоўнікі "Божым шляхам" павыпісваліся — даводзілася пісаць амаль усё аднаму рэдактару. А таму што ў іншых газэтах і часапісах дзеялася тое самае, дык часта зьвярталіся да мяне. Да таго прыходзілася пісаць даклады і ўдзельнічаць у канфэрэнцыях і кангрэсах у розных краінах. У Вольнай Акадэміі навук і літаратуры ў Парыжу, у Інстытуце Вывучэньня СССР у Мюнхэне[456], у Кангрэсах "Царквы ў бядзе" ў Кэнігштайне[457], на Марыйскіх Кангрэсах[458] у Люрдзе і Рыме і на нашых "Тыднях студыяў" у Лёндане[459].

---

456 **Інстытут па вывучэньні гісторыі і культуры СССР** — навуковая ўстанова па вывучэньні СССР, якая працавала ў Мюнхене ў 1950–1972 гг. Яго дзейнасьць фінансавалася ЗША праз Амэрыканскі камітэт барацьбы за вызваленьне народаў Расеі. Спыненьне дзейнасьці Інстытуту было зьвязана з правядзеньнем палітыкі "разрадкі".

457 **"Царква ў бядзе"** (ням. *"Kirche in Not"*) — міжнародная арганізацыя, якая знаходзіцца пад юрысдыкцыяй Каталіцкай царквы. Асноўны яе цэнтар — нямецкі горад Кёнігштайн. Заснаваная пасьля Другой сусьветнай вайны галяндзкім сьвятаром Вэрэнфільдам ван Страатэнам з галоўнай мэтай дапамагчы бежанцам-каталікам. На дадзены момант арганізацыя займаецца дабрачыннай дзейнасьцю па ўсім сьвеце, мае 16 афіцыйных прадстаўніцтваў у розных краінах.

458 **Марыйскія кангрэсы** як адначасова рэлігійнае й навуковае мерапрыемства сталі праводзіцца з 1900 г., калі ў францускім Ліёне адбыўся I Марыйскі кангрэс. Пасьля гэтага яны сталі праводзіцца рэгулярна ў розных эўрапейскіх краінах, але пасьля традыцыя перарвалася Першай сусьветнай вайной і аднавілася толькі пасьля Другой сусьветнай вайны. Арганізацыю мерапрыемства ўзяла на сябе Папская марыйная акадэмія, падзяліўшы іх на дзьве часткі: Марыялягічныя кангрэсы навуковага характару і Марыйныя кангрэсы рэлігійнага характару. У 1950 г., такім чынам, адбыліся I Марыялягічны кангрэс і VIII Марыйны кангрэс, пасьля чаго мерапрыемствы сталі праводзіцца ў асноўным раз на чатыры гады. Ад 2000 г. нумарацыя кангрэсаў уніфікаваная й праводзяцца Марыялягічна-Марыйныя кангрэсы. Леў Гарошка, відаць, згадвае пра свой удзел у I і II Марыялягічных кангрэсах у Рыме (1950 і 1954 гг.) і ў III Марыялягічным кангрэсе ў Люрдзе (1958 г.).

459 **Тыдні студыяў** — зьезды беларускіх каталіцкіх інтэлектуалаў, якія праводзіліся Беларускім акадэмічным каталіцкім аб'яднаньнем "Рунь".

Падчас усіх гэтых кангрэсаў вельмі моцна адчувалася патрэба мець моцны беларускі рэлігійны і наагул культурны цэнтар. У Парыжы стварыць гэткі цэнтар было немагчыма дзеля дарагавізны і няпэўнасьці палажэньня, і я, параіўшыся зь некаторымі нашымі сьвятарамі, пастанавіў спрабаваць утварыць такі цэнтар у Лёндане. Таму прыйшлося на некаторы час разьвітацца з Парыжам і пераехаць у Рым, дзе ў айцоў марыянаў ужо была беларуская група. Там, у Рыме, больш, чым дзе, было ясна, што для ўпарадкаваньня беларускіх рэлігійных справаў замала голасу паадзіночных сьвятароў, таму я запрапанаваў склікаць зьезд усіх беларускіх каталіцкіх сьвятароў на эміграцыі. Хоць некаторыя з нашых сьвятароў глядзелі на праектаваны зьезд скептычна, аднак зьезд адбыўся ў Рыме 3–5.II.1960 г.

Усіх удзельнікаў зьезду прыняў папа Іван XXIII[460] на спэцыяльнай аўдыенцыі, у час якое быў перададзены яму наш мэмарандум, апрацаваны падчас зьезду.

З Рыму я пераехаў у Лёндан, дзе ў тым часе былі ў Марыйскім Доме[461] а. Сіповіч[462] і а. Над[сан][463]. Амаль адначасна са мною прыехаў

Першае такое мерапрыемства адбылося 15–22 ліпеня 1951 г. у Бэльгіі, у манастыры бэнэдыктынцаў у Шэветоне. Наступныя тыдні студыяў (у 1952, 1953 і 1954 гг.) прайшлі ў Лёндане. У 1954 г. Тыдзень студыяў прайшоў у Рыме, у 1956 г. — у Кёнігштайне (Нямеччына). Тыдні студыяў 1956 г. сталі апошнімі ў гісторыі правядзеньня гэтых мерапрыемстваў.

460 **Ян XXXIII** (1881–1963), Папа Рымскі ў 1958–1963 гг.

461 **Марыйскі Дом** (Марыян Хаўз — *Marian Haus*) — будынак на Голдэн Авэню, 12 у Лёндане, у якім пачынаючы ад 1947 г. месьцілася Беларуская каталіцкая місія ўсходняга абраду.

462 **Чэслаў Сіповіч** (1914–1981), каталіцкі сьвятар усходняга абраду, біскуп, апостальскі візытатар беларусаў-каталікоў на эміграцыі, манах-марыянін, беларускі рэлігійны й культурна-грамадзкі дзеяч. Пасьвячоны ў сьвятары ў Рыме ў 1942 г., вучыўся ў папскім Усходнім інстытуце. У 1947 г. перабраўся ў Лёндан як кіраўнік Беларускай каталіцкай місіі ўсходняга абраду. У 1960 г. пасьвячоны на біскупа, пазьней быў прызначаны апостальскім візытатарам для беларусаў за мяжой. У ліпені 1963 г. прызначаны генэралам ордэну марыянаў, на гэтай пасадзе заставаўся да 1969 г. Быў заснавальнікам Беларускага рэлігійна-культурнага цэнтру ў Паўночным Лёндане, часткай якога стаў інтэрнат Сьв. Кірылы для беларускіх хлапцоў, а таксама Беларуская бібліятэка й музэй імя Ф. Скарыны. У 1960 г. пасьвячоны на біскупа, пазьней быў прызначаны апостальскім візытатарам для беларусаў за мяжой. У ліпені 1963 г. прызначаны генэралам ордэну марыянаў, на гэтай пасадзе заставаўся да 1969 г.

463 **Аляксандар Надсан** (1926–2015), рэлігійны й культурны дзеяч. Вучыўся ў Нясьвіскай настаўніцкай сэмінарыі. Служыў у 2-м Польскім корпусе ў Італіі, дзе браў удзел у баявых дзеяньнях і быў паранены. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Адзін з заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Скончыў матэматычны факультэт



Леў Гарошка, Івонка Сурвіла й Віктар Сянькевіч

туды а. Гэрма[новіч]. Туды ж я перавёз сваю бібліятэку і архіў. Гэткім чынам у Лёндане ўтварыўся паважны беларускі рэлігійны цэнтар.

---

Лёнданскага ўнівэрсытэту. Увосень 1953 г. паехаў вучыцца ў Грэцкую калегію ў Рыме. У 1958 г. атрымаў сьвячэньні сьвятара ўсходняга абраду. У ліпені 1959 г. вярнуўся ў Вялікабрытанію. Ад 1971 г. кіраваў Беларускай бібліятэкай-музэем імя Ф. Скарыны. Актыўна ўдзельнічаў у працы ЗБВБ, Харытатыўнай сэкцыі, Англа-беларускага таварыства. У 1981 г. стаў на чале Беларускай каталіцкай місіі ў Вялікабрытаніі. У 1986 г. быў прызначаны на пасаду апостальскага візытатара для беларусаў-каталікоў у замежжы. Стваральнік і кіраўнік Камітэту дапамогі ахвярам радыяцыі. Аўтар шэрагу перакладаў літургічных тэкстаў на беларускую мову, публікацый з гісторыі беларускай царквы й культуры. Ганаровы доктар Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту.



Кабінэт Льва Гарошкі ў Парыжы

У тым часе беларускае арганізацыйнае жыцьцё было наладжана добра. ЗБВБ[464] стаяла на моцных нагах — мела 4 сэкцыі, 3 дамы[465] і старалася ўтварыць харытатыўную сэкцыю. Калі ў 1963 г. ангельскія ўлады зацьвердзілі статут Харытатыўнае сэкцыі, я быў выбраны старшынёю аж да 1970 г. Але ў гэтым годзе дзеля розных прычынаў я пакінуў Лёндан і вярнуўся назад у Парыж[466].

---

[464] **Згуртаваньне беларусаў Вялікабрытаніі** (ЗБВБ, анг. *Association of Belarusians in Great Britain*) — беларуская арганізацыя ў Вялікабрытаніі, заснаваная ў 1946 г. Асноўныя кірункі дзейнасьці — нацыянальна-культурная, грамадзка-арганізацыйная, інфармацыйна-выдавецкая праца, прадстаўніцтва беларусаў і дапамога ім у Вялікабрытаніі і іншых краінах.

[465] Маюцца на ўвазе аддзелы ЗБВБ у Манчэстэры, Брадфардзе, Лёндане і Ковентры, а таксама Беларускія дамы ў першых трох са згаданых гарадоў.

[466] З Парыжу а. Леў Гарошка хутка выехаў у Ватыкан для працы ў Беларускай рэдакцыі Радыё Ватыкану, дзе й заставаўся амаль да канца жыцьця.

*Публікацыі*

***Макс Шчур***
*Прага*

# КЛЕЙНБАРТ ДУМАЕ ПРА БЕЛАРУСЬ

*Можа, зморшчыцца строгі гісторык:*
*"Факты выбраў на свой капыл.*
*Гэтак нехта напіша скора —*
*Ленін думаў і... пра Капыль..."*

Генадзь Бураўкін

**1**

У намэнклятуры праскай Славянскай бібліятэкі існуюць два Лявы Клейнбарты: Л. Н. і Л. М., Навумавіч і Максімавіч. І гэта там яшчэ не здагадваюцца пра трэцяга — Нахманавіча: толькі таму, што ён паводле ініцыялаў супадае з Навумавічам. Я спрабаваў пераканаць бібліятэкарку, што Клейнбарт, маўляў, у нас адзін — марна. Іншая літара імя па бацьку — іншы аўтар, іншы чалавек. З гледзішча намэнклятуры, каталягізацыі, таксаноміі... Гэтак пра Клейнбарта ўзьнікаюць яшчэ і "дзьве праўды" — мая і бібліятэкарчына. Але ня будзем.

Нашмат больш зьдзіўляе тое, што два Клейнбарты суіснуюць і паза бібліятэчным каталёгам. Вось першы: *«Клейнбарт Леў Максімавіч (1875–1950), рускі сав. крытык, публіцыст. Першы біёграф К[упалы] і адзін з першых даследчыкаў яго творчасці. Нарадзіўся ў Капылі. Удзельнічаў у рабочым руху. З 1902 выступаў у друку з артыкуламі аб нар. асвеце ("Народ і кніга" — "Вестник Знания", 1903, № 2). Працаваў у час. "Образование" (1903–08), "Современный мир" (1913–17). Пасля Кастр. рэв. кіраваў літ. студыямі Наркамасветы і ленінградскага Пралеткульта... Даследаваў бел. л-ру, бел. рукапісныя часопісы. З К. пазнаёміўся праз Ц. Гартнага ў Пецярбургу вясной 1910... Аўтар рукапісных успамінаў пра К. "Сустрэчы", напоўненых багатым фактычным матэрыялам. Неацэнны яго ўклад у навук. вывучэнне біяграфіі К., пачаты перапіскай з паэтам... Збераглося 13 лістоў К. да Клейнбарта... Ліст 1910 (з 5 т. зв. аўтабіягр. лістоў К. да Клейнбарта) стаў першай вядомай аўтабіяграфіяй паэта...».* І далей: *«Клейнбарт поруч з М. Гарэцкім — стваральнікам першай "Гісторыі беларускай літаратуры" (Вільня, 1920) — аўтар першага манаграфічнага раздзела пра пра К. у кнізе "Маладая Беларусь. Нарыс сучаснай беларускай літаратуры 1905–1928 гг." (1928, с. 180–*

*203)… У цэлым у асобе Клейнбарта К. меў аднаго са сваіх самых значных біёграфаў і даследчыкаў-інтэрпрэтатараў»*[1]. Адным словам, не было б Купалы — не было б Клейнбарта.

А вось другі Клейнбарт: *«Неисправимый утопист и догматик, он стремился изучать рабочего читателя не “как заморскую букашку”, а как зачаток будущего, помогая ему “повернуть литературу к себе лицом”… Не окончив и первый курс университета, неутомимый марксист хотел научить всех авангардным направлениям в экономике и искусстве. Неудачливый поэт, Клейнборт хотел открыть для себя истоки капиталистического творчества, зарождавшегося в глубине фабрик и заводов. В этих “ростках нового” он видел проявление начинавшейся культурной революции…*

*Будучи меньшевиком, Клейнборт “обличал” сионизм; тем не менее, он предсказал великое будущее для белорусского национализма. Мыслитель серебряного века, творивший среди мэтров поэзии и литературы, он стремился создать настоящую, “пролетарскую” культуру. Находясь в сложных, порой конфронтационных отношениях со своим окружением, Клейнборт был отчужден и отстранен от общества. Он до сих пор признается “неинтересным”, его труды не публикуются… Будучи всегда “чужим среди чужих”, Клейнборт хотел раскрыть для себя глубокую тайну самой отчужденности. Все его творчество пронизано тонкой игрой между привязанностью и отчужденностью»*[2].

Цытаваны артыкул — на маю думку, найлепшы з наяўных сёньня тэкстаў пра Клейнбарта — належыць амэрыканскаму навукоўцу, выкладчыку прыватнага ўнівэрсытэту Дангсэо ў паўднёвакарэйскім Бусане Крыстафэру Мондэю[3]. Прачытаньне артыкулу, на які я выпадкова натрапіў у інтэрнэце (здаецца, у сувязі з крытыкай эканамічнай тэорыі Маркса — шляхі Божыя непрадказальныя), мяне папросту агаломшыла: вось жа, хтосьці яшчэ цікавіцца-такі “нецікавым

[1] Янка Купала. Энцыклапедычны даведнік. Мінск: Беларуская савецкая энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 1986. С. 298–299. Аўтары нататкі пра Клейнбарта: А. А. Лойка, І. У. Саламевіч.

[2] Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист // Неизвестный М. И. Туган-Барановский. Санкт-Петербург: Нестор-История, 2008. С. 128–129.

[3] Крыстафэр Мондэй (анг. *Christopher Monday*) атрымаў ступень магістра па матэматыцы й гісторыі ў Каліфарнійскім унівэрсытэце (Санта-Крус), ступень *PhD* па эканоміцы — у Санкт-Пецярбурскім. Вучыўся й займаўся дасьледніцкай дзейнасьцю ў Гішпаніі, Францыі, Аргентыне, Польшчы, Беларусі. Галоўнай спэцыяльнасьцю К. Мондэя ёсьць гісторыя эканомікі. Асноўныя тэмы: разьвіцьцё грамадзкіх інстытуцый у Расеі, роля гэбраяў у расейскай эканоміцы, расейска-ўкраінскія стасункі, расейскі лібэралізм. Вольна валодае расейскай мовай. Крыніца: http://www.ipo.sdu.edu.cn/administrator/ewebeditor/UploadFile/20070406085259127.doc.

Клейнбартам"... Прынамсі, на фоне вышэйпрыведзенага ўрыўка з энцыкляпэдычнага даведніка "Янка Купала" артыкул Крыстафэра Мондэя выглядае як навуковы подзьвіг. Ня маючы намеру і здольнасьцяў яго паўтарыць, я паспрабую тут падзяліцца ўсяго толькі ўласнымі ўяўленьнямі, што склаліся ў мяне ў выніку азнаямленьня з даступным мне фактаграфічным матэрыялам пра нашага земляка, які *"прадказаў вялікую будучыню беларускаму нацыяналізму"*, — няўжо праўда? Якім чынам так сталася? І дзе яна, дарэчы, гэтая "вялікая будучыня"?

Папярэдне яшчэ толькі зазначу, што існаваньне "двух Клейнбартаў" мяне зусім не зьдзіўляе. Умоўны падзел на "свайго" і "чужога", "лепшага" і "горшага", "Купалу" і "Лупаку" часьцяком дапамагае нашаму мысьленьню папросту пазбавіцца ад непрыемных супярэчнасьцяў у рамках адной і той жа зьявы ці асобы замест таго, каб іх нейкім чынам асэнсаваць. Такі падзел адразу пераводзіць праблему ў плашчыню выбару, ставячы нас перад наіўным дзіцячым пытаньнем *"А ты за каго? За сонца ці за луну?"*, то бок з сфэры ўласна мысьленьня ў сфэру афэктаў, густаў, асабістых сымпатый і антыпатый, часьцяком (ці нават з прынцыпу?) ірацыянальных, што, трэба сказаць, значна спрашчае працэдуру нейкай, гэтым разам унутранай, каталягізацыі той ці іншай зьявы ці асобы: нам адразу робіцца ясьней, *"что такое хорошо и что такое плохо"*, а ў выніку — і камфортней. Тым ня менш тут я хацеў бы заняцца адным, то бок адзіным, — Клейнбартам.

## 2

Як мы ўжо ведаем, Лейба Нахманавіч Клейнбарт нарадзіўся ў 1875 г. у Капылі. На той момант гэтае беларускае мястэчка ўжо "ўвайшло ў літаратуру" дзякуючы іншаму свайму ўраджэнцу — Мэндэле Мойхеру-Сфорыму (С. М. Абрамовічу), у якога згадваецца пад назвай "Капулія"[4]. Клейнбартаў бацька, кажучы словамі яшчэ аднаго ўраджэнца Капыля, Цішкі Гартнага, *"самы найбагацейшы і самы вучоны ў Капылі жыд, Наха Клейнбарт"*[5], вучыўся на мэдычным факультэце Кёнігсбэрскага ўнівэрсытэту (якога ня скончыў) і ўдзельнічаў у расейскім і нямецкім рэвалюцыйным руху тых (1870-х) гадоў — народніцкім[6]. Сына ён выхоўваў адпаведна: *«...воспитание молодого человека было самым "передовым", основу его*

[4] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. Минск: Белорусское государственное издательство, 1928. С. 87.

[5] Марціновіч, А. У Складзе расійскай імперыі // Памяць. Капыльскі раён / рэд. Ф. К. Абрамчык. Мінск, 2001. С. 94–95.

[6] Клейнборт, Л. Автобиография // Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (далей — БДАМЛіМ. Ф. 157. Воп. 1. Спр. 16. Арк. 1. Як адзначае К. Мондэй, *"многія гэбраі былі цесна зьвязаныя з кант-*

*составляло изучение творчества европейских романтиков и социалистов, народников и радикалов»*[7]. Лейба (верагодна, у 1890 г., бо ўжо ў 1891 г. атрымаў першыя гадавыя адзнакі, то бок у 15 гадоў) пастурпіў вучыцца ў Слуцкую гімназію, дзе *"не особенно блистал, считая себя интеллектуально выше, нежели школьные преподаватели. Вместо учебы он занимался изучением революционной литературы"*[8], а таксама пісаў вершы — па-расейску[9]. Вось як сам Клейнбарт (ускосна, ува ўспамінах пра П. Ф. Лесгафта) апісвае сваё стаўленьне да навучаньня: *"В клетках, именовавшимися нашими классами, нашими ученическими квартирами, сад молодой жизни превращался в лабораторию рабьих душ... Школьный деспотизм грабил нас, останавливал рост молодого духа. Мы делались хуже, чем были вне школьных стен, ибо дух этих лет ничем в такой степени не грешил, как отрицанием личности"*[10]. У 1896 г. бунтаўнік Лейба ня з самымі выдатнымі адзнакамі скончыў гімназію (зь якой быў ледзь ня выключаны за тую самую рэвалюцыйную літаратуру) і паехаў паступаць у Пецярбурскі ўнівэрсытэт — *"на естесственный, а затем на юридический факультет"*[11]. У сталіцы ён пасяліўся на Васільеўскай высьпе й неўзабаве (без запросінаў) прыйшоў наведаць вядомага пісьменьніка Ўл. Г. Караленку, каб паказаць яму свае вершы[12]. Ужо сам выбар адрасата быў невыпадковы: Клейнбарт ішоў да пісьменьніка-дэмакрата, блізкага да нарадавольцаў, які з гэтай нагоды некалькі разоў арыштоўваўся й высылаўся зь Пецярбургу. *"Помню, сев напротив Короленко в своей новенькой студенческой тужурочке, я не сразу вспомнил, с чем, собственно, пришел. Я осознавал всем существом не то, что было у меня в руках, а то, что предо мной Короленко, тот самый, который отказался от присяги царю Александру Третьему, который в среде нас, молодых людей, уже приобщившихся к журналам, был окружен таким ореолом. Вспомнил я, как там, в уездном городке из которого я приехал (у Слуцку. — М. Шч.), вот в такое же точно утро, лежал я в саду гимназической квартиры с томом его рассказов, когда в дверях балкона показалась*

*рабандыстамі і перавозам нелегальнай літаратуры"* (Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 131).

7 Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 131.

8 Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 132–133.

9 Клейнборт, Л. "...я тоже писал стихи в ту пору..." Встречи с Михайловским // Рукописный отдел Института русской литературы (Пушкинский дом) (далей — РО ИРЛИ). Ф. 586. Д. 438. Л. 4–5.

10 Клейнборт, Л. Воспоминания. П. Ф. Лесгафт. Гл.: http://www.proza.ru/avtor/lpoudy&book=6#6.

11 Клейнборт, Л. Автобиография // БДАМЛМ. Ф. 157. Воп. 1. Спр. 16. Арк. 2.

12 Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 145.

*фигура нашего инспектора. Я уже попадался с запрещенными книгами. И, попадись я с рассказами Короленко — хорошего было бы мало...”*[13]. Праз тыдзень, калі Караленка вяртае Клейнбарту рукапіс з шматлікімі праўкамі, між імі адбываецца наступны дыялёг:

*“— Новичок, я вижу? — спросил он.*

*— Да, с месяц, как зачислен.*

*— То-то! Сияющий какой... Из западного края?*

*— Да.*

*— Почти земляки, — улыбнулся он сочувственно. (Караленка паходзіў з польскай шляхты, нарадзіўся ў Жытоміры. — М. Шч.) — Стихи ваши неплохи, но неплохо пишут многие...”*[14].

Як там жа прызнае сам Клейнбарт, *“поэта в моих стихах он не нашел”* — узяць сталіцу штурмам зь першага разу ня выйшла, нягледзячы на ўсё “спачуваньне” знакамітага “амаль земляка”.



Сям’я Льва Клейнбарта

Ужо ў 1897 г. Клейнбарт уступае ў студэнцкую сацыял-дэмакратычную арганізацыю й знаёміцца з сваёй будучай жонкай, пляменьніцай аднаго з сваіх улюбёных выкладчыкаў. *“Центром нашего кружка скоро стала эта молодая девушка, курсистка Высших женских курсов Мария Францевна Лесгафт. Это не была натура в обычном смысле слова. Самое ценное в ней были сущность и созерцание, привитые ей Лесгафтом, и это проявлялось во всем. Жизненное целое преломлялось в ее душе сквозь сердце, сквозь какие-то особые созвучия. И поэтому так неожиданны были ее переходы от близкого к далекому, в которых она сама не отдавала себе отчета. Она жила главным образом интуицией, углубленной простотой, охваченной мыслями и духом, которыми жила современная ей молодежь. Во всем образе ее было что-то полудетское, полудевичье, в ее улыбке было то, что мы нередко называем — красотой. Такой именно была эта девушка. Мои личные отношения с ней скоро*

13 Клейнборт, Л. Воспоминания. В. Г. Короленко. Гл.: http://www.proza.ru/avtor/lpoudy&book=6#6.

14 Клейнборт, Л. Воспоминания. В. Г. Короленко.

*стали особенным образом складываться, через короткое время она становится моей невестой, затем женой. Я тесно вхожу в семью Лесгафтов и в первую очередь в семью Петра Францевича, который очень любил свою племянницу и хорошо относился ко мне”*[15]. Заўважма, як і тут Клейнбарт згадвае пра сваё бадай адзінае каханьне (Марыя пражыла нядоўга, Клейнбарт да канца жыцьця болей не ажаніўся) ускосна, быццам мімаходзь, ува ўспамінах, прысьвечаных жончынаму дзядзьку... Але што (для нас, ведама) у гэтай дзявочай пастаці галоўнае: як адзначае К. Мондэй, *“именно она вывела Клейнборта в общество”*[16].

Менавіта гэтае “общество” кардынальным чынам паўплывала на далейшае фармаваньне й лёс Клейнбарта. Каб зразумець, што гэта было за яно, дастаткова ўявіць сабе, што адным з Клейнбартавых сунавучэнцаў ува ўнівэрсытэце быў Аляксандар Блок, якога Клейнбарт (нягледзячы на пазьнейшае захапленьне ягоным талентам) аднойчы назваў у вочы “подлецом” за адмову ўдзельнічаць у сабатаваньні аднаго з іспытаў[17]. Да ліку ягоных знаёмцаў належаць Пётар Струвэ, Міхаіл Туган-Бараноўскі, пазьней — Аляксандар Купрын, Леанід Андрэеў, Аляксандар Серафімовіч, Дзям’ян Бедны, Сяргей Ясенін[18]... Пра адносіны зь імі Клейнбарт будзе згадваць пад канец жыцьця, як пра штосьці самавідавочнае, нязмушанае ці не штодзённае. У ягоных успамінах нярэдка трапляюцца фразы кшталту: *“В это время наше общение становится регулярным, дружеским”*; *“С ними меня связывала долголетняя дружба в прошлом”*, тым ня менш вялікіх доказаў дужа каб сяброўскага стаўленьня гэтых людзей да Клейнбарта мы ня знойдзем, часам і наадварот: *“Он сразу как-то не узнал меня, хотя нас связывало многолетнее общение по литературе в прошлом...”*[19]. Зрэшты, прычынай адсутнасьці доказаў можа

15 Клейнборт, Л. Воспоминания. П. Ф. Лесгафт.

16 Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 148.

17 Клейнборт, Л. Встречи. А. А. Блок и другие // Русская литература. Спб., 1997. № 2. С. 160. Параўн.: *“Мы для него были люди, которые думают о низинах, а не о высотах бытия... Сходки, кружки, конспирации не вызывали у него сочувствия. Все это побуждало нас не высказывать Блоку симпатии. Из-за его аполитичности, дворянского консерватизма мы, его студенческие товарищи, были несколько в стороне от него”* (Клейнборт, Л. Воспоминания о А. А. Блоке. Гл.: http://www.proza.ru/avtor/lpoudy&book=6#6).

18 Пра Клейнбарта згадвае ў “Шуме времени” нават Восіп Мандэльштам (1891–1938), які, яшчэ падлеткам, прысутнічаў пры адным з палітычных дэбатаў з удзелам Клейнбарта ў доме пецярбурскага псыхіятра Б. Н. Сінані.

19 Клейнборт, Л. Воспоминания. А. И. Куприн. Гл.: http://www.proza.ru/avtor/lpoudy&book=6#6.

быць зноў-такі сьціпласьць Клейнбарта, неабавязкова ягоная ўжо згаданая “нецікавасьць” для іншых, у якой пераканаты Крыстафэр Мондэй: *«Но завести с ним крепкую дружбу, кажется, никто не желал. Перед нами возникает образ человека, способного и любящего разговаривать со всеми о чем угодно, но всегда поверхностно, “со стороны”. У Клейнборта не было ни близких друзей, ни крепких связей с обществом»*[20]. Я дазволю сабе не пагадзіцца тут з амэрыканскім дасьледнікам, які, на маю думку, ажно залішне акцэнтуе этнічнае паходжаньне Клейнбарта, прэзэнтуючы яго як гэткага “ізгоя” сярод пецярбурскіх “гояў” — ня ў тым сэнсе, што тагачасныя расейскія дэмакраты-інтэлектуалы неяк “пагардліва” ставіліся да гэбраяў (божа барані, усё было якраз наадварот), а што сам Клейнбарт, паводле Мондэя, ці не ад нараджэньня насіў у сабе пэўную адчужанасьць, недавер да людзей — я асабіста ў даступных мне Клейнбартавых тэкстах прыкметы такога стаўленьня не знайшоў. Затое знайшоў іншае — у сувязі з чым перад мною ўзьнікае й крыху іншы вобраз.

## 3

А менавіта: Клейнбарта (з абавязковаю агаворкай *“калі верыць ягоным успамінам”*, а я ня бачу сур’ёзных падстаў ім ня верыць) зьвязвалі сапраўдныя, я б сказаў, нават глыбокія сяброўскія стасункі прынамсі (!) з адным чалавекам — і не абы з кім, а з выдатным расейскім пісьменьнікам Дзьмітрыем Наркісавічам Маміным-Сібіраком (1852–1912)[21]. Дзіўным чынам, я сам сьпярша наагул ня меў намеру пра іх згадваць як пра штосьці маргінальнае й для нас, паспалітых беларусцаў, малацікавае, аднак своечасова ўсьвядоміў іхную значнасьць для разуменьня самой асобы Клейнбарта, пра якую яны сьведчаць найбольш красамоўна — і зноўтакі ўскосна. Месца дзеяньня — Пецярбург, час — першыя гады XX ст. (не раней за лістапад (?) 1902 г., бо на момант сустрэчы Маміну было за пяцьдзясят, і не пазьней за 1903 г., бо з Клейнбартавага апісаньня першай сустрэчы з Горкім “узімку” (?) 1903 г. выплывае, што з Маміным-Сібіраком ён ужо на той момант быў знаёмы). Слова самому Клейнбарту: *«Познакомился я с Маминым-Сибиряком в доме Н. К. Михайловского*[22].

[20] Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 129.

[21] Ягонае імя згадваецца ў артыкуле К. Мондэя толькі аднойчы, дый тое ў зносцы (62), зусім мімаходзь: *“Клейнборт также дружил с сыном Н. К. Михайловского, товарищем по Университету, и благодаря этому часто бывал на его вечерах… На этих вечеринках он заводил новые литературные связи — стал бывать у В. А. Мякотина, В. И. Семевского, Д. Н. Мамина-Сибиряка”* (Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 148).

[22] **Мікалай Міхайлоўскі** (1842–1904), расейскі публіцыст, крытык, прадстаўнік народніцтва.

*Бывая у старшего сына его, Николая, я надумал показать как-то Николаю Константиновичу свою работу о Мамине-Сибиряке. Я над нею усердно трудился все первые годы своей университетской жизни. Михайловский отклонил мою статью, нашел ее неподходящей для "Русского богатства", которое он в ту пору редактировал, но тронула его, сердечно тронула любовь к писателю, которой был согрет мой труд от строчки до строчки»*[23]. Перапыню апавядальніка на момант: сваё стаўленьне да пісьменьніка, творам якога прысьвяціў некалькі гадоў жыцьця, Клейнбарт (ведама ж, рэтраспэктыўна) азначае як "любоў", прычым яшчэ "да" знаёмства; на працягу ўсяго тэксту (найдаўжэйшага ў ягоных "Успамінах") ён будзе неаднаразова падкрэсьліваць менавіта сваю любоў да Маміна-Сібірака, ужо як да чалавека. Таксама заўважым мімаходзь, што ня толькі на ніве літаратуры, але й літаратурнай крытыкі малады Клейнбарт фактычна *"зь першага разу"* пацярпеў фіяска — да часу.

*"И, возвращая мне рукопись, он [Міхайлоўскі ] сказал:*

*— Вот что, не покажете ли вы рукопись самому Дмитрию Наркисовичу?*

*— Я польщен. Но где?*

*— 15-го ноября загляните к нам. Это день моего рождения. Я Вас познакомлю с Дмитрием Наркисовичем.*

*С тех пор и началось мое сближение с Маминым"*[24].

Другая сустрэча адбылася раней, чым меркавалася (пасьля афіцыйнага знаёмства Клейнбарт на запрашэньне Маміна плянаваў зайсьці да яго з сваім вышэйзгаданым артыкулам), але не зусім каб выпадкова — у "третьестепенном" рэстаране "Капэрнаўм", дзе традыцыйна зьбіраліся літаратары. Ужо цягам гэтай першай папойкі сам-насам (а Мамін, трэба сказаць, піў, як Сібірак[25]) старэйшы "калега" зьяўляецца Клейнбарту не такім, якім ён прывык уяўляць сабе пісьменьніка на падставе толькі ягоных твораў.

*"— Вам же жить и жить, писать и писать, Дмитрий Наркисович, — сказал я.*

*Он выпустил дым из трубки.*

*— Конечно, я еще рвусь к солнцу, — отвечал он. — ...Но остро чувствуется, что что-то гнетет мое тело, мое вдохновение. Чувствую слабость, первые приступы болезней.*

*...Он вытер запотевшее пенсне платком.*

---

[23] Клейнборт, Л. Воспоминания. Д. Н. Мамин-Сибиряк. Гл.: http://www.proza.ru/avtor/lpoudy&book=6#6.

[24] Клейнборт, Л. Воспоминания. Д. Н. Мамин-Сибиряк.

[25] *"Он пытался пить умереннее, сдерживаться во что бы то ни стало. Но все же надо было приходить к нему с утра, чтобы застать его со свежей головой"* (Клейнборт, Л. Воспоминания. Д. Н. Мамин-Сибиряк).

*— Да, надо признаться — тихо и неуклюже катимся уже вниз.*

*— Однако, вещь за вещью появляется в книжных витринах, — сказал я. — И нельзя сказать, чтобы все это было слабее.*

*— Нет, слабее. Ум тускнеет. Голова полна замыслов, сюжетов. Мне уже не удается с той легкостью вскочить на коня, как в былые дни, — возразил Мамин”*[26].

Мамін-Сібірак, паводле апісаньня Клейнбарта, у свае 50 зь лішнім адчувае сябе старым, хворым, паўзабытым, недаацэненым, а ў два разы маладзейшы студэнт, яшчэ нават не літаратар, спрабуе пераканаць яго ў адваротным. Пісьменьніку гэта, вядома, імпануе, але ён спачатку ня надта верыць у імпэт суразмоўцы: *“Заходите же ко мне и статью свою принесите. Впрочем, что вам, молодым, до нас, стариков. Мимо несется жизнь, мимо. Но надо же знать, что говорят о Мамине-Сибиряке, когда в печати о нем молчат”*. Клейнбарт празь нейкі час сапраўды заходзіць:

*«Дмитрий Наркисович перелистал мою рукопись.*

*— Вот сколько нацарапали... Теперь верю Николаю Константиновичу (Міхайлоўскаму. — М. Шч.). Кто-то почитывает. Изучает меня, хотя бы из студентов... Вы не очень расхваливаете меня?*

*— То есть?*

*— Не думайте, что я хотел бы стоять на башке. Я знаю свое место. Я — бытописатель Приуральского края*[27]*.*

*— Вы, Дмитрий Наркисович, не просто подвели к нам Урал. Вы делаете то, чего не найдешь ни в каких этнографических трактатах, тех, что стоят у вас в шкафах. Вы раскрыли перед нами душу Урала, его мышление*[28]*. Недаром Скабичевский*[29] *ставит Вас в своей статье выше Золя... И разве то, что ныне выходит изпод пера вашего — ну, хоть бы те же “Падающие звезды”*[30] *— слабее, бледнее давно прежнего, Дмитрий Наркисович?*

---

26 Клейнборт, Л. Воспоминания. Д. Н. Мамин-Сибиряк.

27 Думаю, што той, хто чытаў, напрыклад, “Черты из жизни Пепко”, наўрад ці з гэтым пагодзіцца.

28 Заўважым адразу, наколькі для Клейнбарта, на той момант ужо перакананага марксыста, важны аб’ектыўны сацыяльны зьмест літаратуры. Ніжэй ён піша пра Сібірака: *“...его романы представляли такую ценность для экономистов, социологов, историков, для Чупровых, для Ключевских, для Туган-Барановских...”*. Наколькі можна меркаваць паводле рэакцыі Сібірака, менавіта гэты аспэкт ягоных кніг Клейнбарт акцэнтаваў у сваім артыкуле: *“Не понимаю, почему Михайловский отклонил Вашу статью обо мне. Ничего в ней марксистского не вижу”* (Клейнборт, Л. Воспоминания. Д. Н. Мамин-Сибиряк).

29 **Аляксандар Скабічэўскі** (1838–1911), літаратурны крытык, народнік.

30 Апошні раман пісьменьніка, надрукаваны ў 1899 г.

*— Нет?*

*— Нет и нет!*

*— Вы думаете? Скажите мне свой адресок. — Он записал адрес».*

Бадай, цяжка паверыць, каб, нягледзячы на славалюбства, выдатны знаўца характараў з сваім жыцьцёвым досьведам не раскусіў маладзёна ў выпадку ягонай няшчырасьці, жаданьня нейкім чынам “скарыстацца” даверам вядомага аўтара — і каб у такім выпадку гэты маладзён праз трыццаць гадоў з такой цеплынёй і падрабязнасьцю згадваў вядомага аўтара толькі дзеля таго, каб пахваліцца знаёмствам зь ім. Не, я абсалютна перакананы, што сяброўства між гэтымі двума “правінцыяламі” было шчырым: яны ня толькі наведвалі адзін аднаго, але й разам аднойчы былі на магіле другой — і самай каханай — жонкі пісьменьніка[31], якая памерла пры родах дачкі Алёнкі (з нараджэньня хворай); Клейнбарт заходзіў да Маміна ў Паўлаўску[32] яшчэ за некалькі дзён да ягонай сьмерці, *“стоял у гроба”,* але й мноства іншых прыведзеных Клейнбартам дэталяў выдае на тое, што гэтыя людзі былі блізкія, нягледзячы на розьніцу ўзростаў. Чаму так выйшла, што Клейнбарт па-чалавечы зблізіўся менавіта зь ім, а не зь любым іншым з сваіх шматлікіх знаёмцаў? У некалькіх пасажах успамінаў можна знайсьці на гэта адказ:

*“Несмотря на то, что он был в своей семье, но, казалось, невесело было ему; здесь был он тот же бобыль, что за ресторанным столиком”. «Мамина считали неудачником. Это его судьба. Одним жизнь — скатертью дорога, другим все загороженно волчьими ямами. Вот и он “не вспыхнул успехом”, как говорил он сам*[33]*. Его не интервьюировали, не снимали иллюстрированные издания. Около его произведений не создавалось горячки. Чехов, Короленко, Горький проходили в Академию наук мимо его. Хотя его чтили, читали, книги его не залеживались на полках — особенно в провинции — все же его не замечали как-то. У него не было “большой публики”, и он избегал говорить о себе, о своих произведениях. Он не носился со своим*

[31] *“Ведь как не везет мне, — указал он на могилу. — Несчастно рожденный. Меня так мало любили. Правда, первая жена, но то ведь был друг мне...”* (Клейнборт, Л. Воспоминания. Д. Н. Мамин-Сибиряк).

[32] **Паўлаўск** — горад, сёньня ўжо частка Пецярбургу. Ад 1918 да 1944 г. насіў імя Слуцк (!) — у гонар рэвалюцыянэркі Веры (Бэрты Браніславаўны) Слуцкай (1874–1917), ураджэнкі Менску.

[33] Параўн.: *“Нет, тайна вашей (Горького) славы... в том, что вы пришли вовремя, — заметил Мамин-Сибиряк. — Пришли вместе с новой общественной волной, в разгаре битв марксистов с народниками. Марксизм и венчает вас славой. Успех ваш не только литературный, но и социальный”* (Клейнборт, Л. Воспоминания. Горький. Гл.: http://www.proza.ru/avtor/lpoudy&book=6#6).

*Я, но жалоба писателя раз и навсегда засела в глубине его столь одаренной души. И от этой несправедливости, от этих волчьих ям, он не раз искал утешения»*[34].

Не *"отчуждённость"*, а якраз спачуваньне й дапамога тым, да каго лёс быў тым ці іншым чынам несправядлівы, — менавіта гэта, я лічу, і ёсьць асноўнай дамінантай жыцьця і дзейнасьці Клейнбарта.

## 4

Першы раз Клейнбартава навучаньне перарываецца ўжо ў 1899 г., арыштам за ўдзел у студэнцкіх хваляваньнях, падставай для якіх паслужыла самаспаленьне ўкраінскай студэнткі, згвалтаванай турэмшчыкамі[35]. Клейнбарт заключаны ў Спаскую частку, а пасьля часова высланы зь Пецярбургу[36] ў Пскоў[37] за парушэньне пісьмовага абяцаньня не ўступаць ні ў якія тайныя суполкі, абавязковага тады пры паступленьні ўва ўнівэрсытэт[38]. У наступным годзе, пасьля вяртаньня ў сталіцу, ён зноў трапляе пад арышт, гэтым разам у Дом папярэдняга затрыманьня, дзе ў Аляксандра-Неўскай царкве прымае хрышчэньне — *"ввиду надобности получения вида на жительство"*[39]. Заўважым, што Клейнбарт ніякім чынам ня здрадзіў "веры бацькоў", бо ўжо ягоны бацька яе фактычна не практыкаваў, — наадварот, сваім хрышчэньнем ён толькі замацаваўся ў бацькавай Веры ў свабоду: афіцыйна стаўшы "Максімавічам" (сапраўднымі ініцыяламі *"Л. Н."* ён зноў пачне падпісвацца з 1917 г.), ён перадусім унікаў адміністрацыйных абмежаваньняў,




Вокладка кнігі Льва Клейнбарта "В тюрьме и ссылке" (1906)

[34] Клейнборт, Л. Воспоминания. Д. Н. Мамин-Сибиряк.

[35] Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 139.

[36] Гл. Клейнборт, Л. Автобиография // БДАМЛМ. Ф. 157. Воп. 1. Спр. 16. Арк. 2.

[37] Клейнборт, Л. Встречи. М. И. Туган-Барановский // Неизвестный М. И. Туган-Барановский. С. 210.

[38] Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 139.

[39] *"...Крестился в Александро-Невской церкви Дома предварительного заключения (православное вероисповедание)"* (цытата з паліцэйскага рапарту паводле: Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 138).

што датычыліся гэбраяў, і здабываў сабе права знаходзіцца ў сваім улюбёным Пецярбургу, ідэйным і культурным цэнтры эпохі (нездарма адным з псэўданімаў Клейнбарта быў *“Л. Столичный”*). *“Петербург тех лет — такой нарядный, такой блестящий — не напрасно считал себя головой России. От него шла вся умственная жизнь страны. Едва ли какой другой город России был в такой степени богат мыслями, и духовные силы, как магнит, тянулись к нему из отдаленнейших мест. Казалось, каждый был так замкнут в себя в этом деятельном центре. Казалось бы, столько суеты было в этой напряженной жизни. О формализме, сухости Петербурга мы знали все со времен Герцена и Белинского... Однако же, стоило ступить с вокзала на его улицы, чтобы почувствовать, как во всем этом стучит духовный пульс...”*[40].

Змаганьне за свабоду іншых ува ўсе часы азначае ахвяраваньне свабодаю ўласнай: у студзені 1901 г. Клейнбарта зноў арыштоўваюць, і ён вяртаецца ў Дом папярэдняга затрыманьня на цэлы год[41], а як толькі выходзіць на волю, то ўпершыню пачынае зарабляць на жыцьцё публіцыстыкай, да часу — у правінцыйных газэтах *“Саратовская земская неделя”* і *“Вестник Псковского губернского земства”*[42]. Працягваць нясконачаную навуку ўжо не было ні магчымасьці, ні асаблівага сэнсу: *«Я относился к университету с тем же холодком, к которому приучила меня еще средняя школа. Ведь он “обслуживал” “господствующие классы”, а не народ»*[43]. У наступным, 1903 г., Клейнбарта зноў арыштоўваюць, гэтым разам у сувязі з справай “Саюзу вызваленьня рабочай клясы”: у траўні — ліпені ён заключаны ў славутыя *“Кресты”*, дзе яго зьбіваюць наглядчыкі, — але ў выніку ён выпушчаны без суду й “наступстваў”[44]. Ад 1903 да 1906 г., у пару найбольш інтэнсіўных знаёмстваў з “грандамі” літаратуры й сацыял-дэмакратычнага руху, Клейнбарт — чалавек, так бы мовіць, без адукацыі й веры, — працуе ў рэдакцыях прагрэсіўных часопісаў *“Образование”* (у якім супрацоўнічаюць марксісты Багданаў, Луначарскі, Бонч-Бруевіч[45]) і *“Мир Божий”* (верны дадзенаму абяцаньню, ён “прасоўвае” ў абодва выданьні тэксты пра й ад Маміна-Сібірака). Прыблізна ў 1904 г. (дакладная дата выданьня не пазначаная, але прынамсі апошнія пададзеныя ў брашуры факты тычацца 1904 г.) Клейнбарт, ужо маючы немалы ўласны досьвед турмы, друкуе

[40] Клейнборт, Л. Воспоминания. П. Ф. Лесгафт.

[41] Клейнборт, Л. Автобиография // БДАМЛМ. Ф. 157. Воп. 1. Спр. 16. Арк. 3.

[42] Клейнборт, Л. Автобиография // БДАМЛМ. Ф. 157. Воп. 1. Спр. 16. Арк. 3.

[43] Клейнборт, Л. Воспоминания. В. Г. Короленко.

[44] Клейнборт, Л. Автобиография // БДАМЛМ. Ф. 157. Воп. 1. Спр. 16. Арк. 3.

[45] Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 149.

ў рамках сэрыі “Темы жизни”[46] (распачатай пецярбурскай выдаўніцай Вольгай Паповай) сваю першую самастойную публіцыстычную кніжку “В тюрьме и ссылке”, сёньня мы сказалі б — з праваабарончай тэматыкай, апісваючы на 28 старонках злачынствы царскага рэжыму (якія, на маю сьціплую думку, саступаюць апісаным пазьней Салжаніцыным зьверствам сталінскіх часоў — колькасьць адсідак марксісцкіх прапагандыстаў сьведчыць, хутчэй, пра тое, што царская турма была ня надта эфэктыўным сродкам здушэньня рэвалюцыйнага імпэту). Брашура, зноў-такі, “аб’ектыўная”, у духу разуменьня Клейнбартам навуковасьці[47]: на жаль, ніякіх ягоных асабістых уражаньняў ад турмы мы ў ёй ня знойдзем. Тым ня менш да тэмы палітычных вязьняў Клейнбарт будзе надалей вяртацца неаднаразова, у сваіх пазьнейшых публікацыях: *“Белый террор”* (1907), *“Политические прежде и теперь”* (1908), *“Избиение в Крестах”* (магчыма, адзіны артыкул на “ўласным” матэрыяле; шкада, што ня маю да яго доступу), *“Равенство и бесправие”*, *“Политические преступления”* і нават *“Политическая эмиграция прежде и теперь“* (усе — 1909)[48]. Ужо з адных гэтых назваў перад намі паўстае тыповы тагачасны “апазіцыянэр”, змагар і нястомны прапагандыст, які нясе ў масы сьвятло безумоўна прагрэсіўных (перадусім марксісцкіх[49], хоць і з прысмакам бацькавага “народніцтва”) і, магчыма, не да канца зразуметых ідэй…

У той самы час гэтыя ідэі памалу, але няўхільна даходзяць і да Беларусі. У 1904 г. Клейнбарт (упершыню за доўгі час, амаль у трыццаць гадоў, ужо дарослым і жанатым мужчынам) наведвае родны Капыль[50] — і, можна сказаць, не пазнае яго. Калі ён у 1890 г. зьяжджаў

[46] Клейнбарт называе “Темы жизни” *“издательством, которым я руководил в 1905–1908 гг.”* (Клейнборт, Л. Встречи. М. И. Туган-Барановский. С. 186, 219).

[47] *«Не окончив первого курса Университета, Клейнборт считал, что научность — то же самое, что и “объективность”. Даже в своих воспоминаниях он редко высказывал личное мнение, что представляло бы больший интерес для читателя, нежели приводимые им цитаты и общие рассуждения»* (Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 150).

[48] Клейнборт, Л. Автобиография // БДАМЛМ. Ф. 157. Воп. 1. Спр. 16. Арк. 3–5.

[49] *“Как-то сразу уверовал я, что, если что выведет Россию на дорогу, то это марксизм. Естественно все, что высказывал Туган-Барановский в своих лекциях, казалось мне уже моим собственным, тем, что бродило в моем уме, в моих чувствах”* (Клейнборт, Л. Встречи. М. И. Туган-Барановский. С. 189).

[50] Магчыма, акурат з гэтага году й адведак (урачыстая нагода!) паходзіць сямейная фатаграфія Клейнбартаў. Калі гэта так, то паводле выгляду можна меркаваць, што прыблізна трыццацігадовы мужчына ў гарнітуры, акулярах і з барадой — наш Лейба. Хто жанчына побач зь ім? Сястра? Ду-

адтуль у Слуцкую гімназію, пра Капыль, бадай, можна было сказаць тое самае, што й пра сам Слуцк: гэта быў *“городок, то омываемый дождями, то засыпаемый сугробами, где косились не только домишки, но и сами люди, населявшие их”*[51]. Аднак цяпер у Капылі ёсьць ужо прынамсі сваё *“2-х классное сельское училище”*, якое ў 1902 г. з уласнай ініцыятывы адчынілі *“консервативные мещане”*[52]. Мала таго, *«Копыль все более и более приобретает характер полупромышленный. И чем дальше шел этот процесс, тем заметнее выступал полупролетарский элемент, тем заметнее намечалась полупролетарская психология деревенской бедноты. “В нашем местечке — рассказывали мне копыляне — бастовали уже в 1903 году кожевники”. Интересы обезземеленного и обезземеливающегося крестьянства сплетались с интересами еврейской бедноты... [...] В Копыле уже работают не только эсеры и эсдеки, здесь уже работает Бунд, сорганизовавший не одну сотню ремесленников евреев... [...] Молодежь уже расклеивает прокламации, даже сама пишет их, хранит лишь оружие, готовая пустить его в ход при столкновении с черной сотней. Когда пронеслась волна погромов, то и Копыль стал ждать погрома. Ведь это, по преимуществу, еврейское местечко. И вот не только евреи, но и крестьяне собирают деньги на оружие, образуют дружину, которая должна не дать пролиться еврейской крови не только в самом Копыле, но и в окрестных местечках»*[53]. У тым жа 1904 г. у Капылі ўзьнікае арганізацыя РСДРП[54] — больш чым верагодна (як лічыць і К. Мондэй), што Клейнбарт прыехаў у Капыль, як толькі пра гэта дачуўся, каб падтрымаць землякоў. Тады ж ён зьбліжаецца зь яшчэ адным вельмі важным для яго, а гэтым разам ужо й для нас, чалавекам — Цішкам Гартным, пра якога пазьней напіша: *«Гартный был для меня окном в “Белорушчину”»*[55]. Але да часу Клейнбарту “не да беларушчыны” — зрэшты, як і самому Гартнаму, які тады яшчэ пісаў свае *“Дневник рабочего”* й *“Очерки посадческой жизни”* ў расейскай мове[56]. Клейнбарт думае пакуль што ня столькі (ці ня толькі) “пра

маю ўсё-ткі, што жонка — нейк надта адасоблена-пачціва трымаецца яна ад астатніх, то бок бацькі Нахмана й яшчэ двух мужчын: Лейбавага брата Марка (пасярэдзіне — ён выглядае маладзейшым за Лейбу, і пра яго вядома вельмі няшмат, але адно з пэўнасьцю: Лейбу ён пераніжыў) і яшчэ аднаго, з выглядам паэта, падобнага да Малярмэ ці Бальмонта — пра гэтага чацьвёртага мужчыну нам, на жаль, нічога няведама.

[51] Клейнборт, Л. Воспоминания. П. Ф. Лесгафт.

[52] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 229.

[53] Клейнборт, Л. Ц. Гартны // БДАМЛМ. Ф. 157. Воп. 1. Адз. зах. 9. Арк. 3–4.

[54] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 230.

[55] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 6.

[56] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 88–89.

Беларусь”, колькі пра сацыяльны вызваленчы рух у маштабах Расейскай імпэрыі і ўсяго сьвету. Таму ён вяртаецца ў Пецярбург і пасяляецца з жонкай ува ўласным доме (!) у Лясным[57], дзе цалкам прысьвячае сябе дзейнасьці рэвалюцыйнага публіцыста й рэдактара выдавецтва.

## 5

На працягу 1906 г. у марксісцкім выдавецтве *“Знание”*, якім тады кіраваў Максім Горкі, выходзіць адразу некалькі працаў Клейнбарта: *“О партиях и партийности”*, *“Русский империализм в Азии”* (напісаная па гарачых сьлядах расейска-японскай вайны, брашура здабывае яму пэўны аўтарытэт у “сур’ёзных” марксістаў, улады яе канфіскуюць), *“Подоходный налог”*, *“Капитализм и еврейский вопрос”*. Усе яны па-свойму цікавыя з гледзішча разуменьня аўтаравага сьветапогляду, але для “нас” асабліва цікавая апошняя, а менавіта таму, што гэта, як ні дзіўна, адзіны вядомы (прынамсі, мне) цэльны тэкст гэбрая Клейнбарта на гэбрайскую тэму[58]. А яшчэ цікавей тое, што й гэты тэкст, калі казаць словамі Крыстафэра Мондэя, напісаны з уласьцівага Клейнбарту *“староньне-аб’ектыўнага”* гледзішча. Безумоўна, аўтар спачувае гэбраям як прыгнечанай нацыі[59], аднак вінаватае ў такім становішчы зусім не *“невежество народных масс, на которое так любят ссылаться наши юдофилы… Причины антисемитизма приходится искать едва ли в невежестве”*[60]. З марксісцкіх пазыцый Клейнбарта, *“решать еврейский*




Тытульная старонка
кнігі Льва Клейнбарта
“Русскій імперіалізмъ въ Азіи” (1906)

57 **Лясное** (рас. *Лесное*) знаходзіцца на поўнач ад Санкт-Пецярбургу, між Ладаскім возерам і Фінскай затокай.

58 Артыкул Клейнбарта на тую ж тэму (і амаль з той жа назвай) *“Капитализм и экономическое положение евреев в России”* надрукаваны ў *“Мире Божьем”* годам раней, відавочна, быў раньняй вэрсіяй таго самага тэксту.

59 *“...По отношению к евреям всё позволено — ‘бают, за них суда нет’”* (Клейнборт, Л. Капитализм и еврейский вопрос. Санкт-Петербург: Знание, 1906. С. 5).

60 Клейнборт, Л. Капитализм и еврейский вопрос. С. 15.

*вопрос просвещением, значит решать его вне общей цепи, значит, ничего не решать... Нет, жизнь еврейского пролетариата идёт по тем же экономическим законам, по которым шла жизнь пролетариев всех стран... Нет соперничества и борьбы рас или национальностей... но только борьба класса пролетариев всех национальностей против капиталистов всех стран. ...Еврейский вопрос не есть вопрос национальный, а социальный”*[61]. З гэтых перакананьняў лягічна выплывае Клейнбартава крытыка сіянізму, руху за гэбрайскае культурнае й палітычнае адраджэньне: паводле яго, *“и антисемитические, и филосемитические подстрекательства... — способы, посредством которых капиталисты и правительство стремятся сбить с пути социалистическое движение, разъединить пролетариев...”*[62]. Асабліва варожа ставіцца Клейнбарт да эміграцыі гэбраяў, якая ў сувязі з рухам чарнасоценцаў і пагромамі набыла ў той час масавы характар — як у Палестыну, так (і нават перадусім!) у разьвітыя капіталістычныя краіны, Англію й ЗША (дзе неўзабаве акурат гэбрайскія выхадцы з Расеі, уласна з Польшчы й Беларусі, ды Аўстра-Вугоршчыны заснуюць альтэрнатыўную як марксізму, так сіянізму сусьветную “фабрыку крозаў”, Галівуд). Нягледзячы на тое што эміграцыя ў Палестыну дыктавалася меркаваньнямі ідэйна-“калектыўнымі”, а ў краіны Захаду — хутчэй, прыватнымі, індывідуалістычнымі, для Клейнбарта абедзьве ёсьць праявамі адной і той жа шкоднай тэндэнцыі. *“В самом деле, еврейский народ приглашается оставить Россию, почва которой упитана кровью их поколений и удобрена их костьми... Народ! Но не прошло ли безвозвратно время переселения народов?”*[63]. Вось у гэтай сувязі Клейнбарт урэшце пачынае аргумэнтаваць крыху *ad hominem*, дзелячыся з чытачом уласным перакананьнем, што *“еврейский пролетариат экономически уже совершенно слился с русским”* і што *“жизнь русского еврея... сплетена тысячами экономических нитей с жизнью русского народа”*[64]. Калі ў гэтай фразе замяніць “пралетарыят” на “інтэлектуал”, а “эканамічна” на “культурна”, выйдзе насамрэч нешта накшталт самахарактарыстыкі Клейнбарта (ужо бацька якога, нагадаю, не належаў да пралетарыяў). Што да *“эканамічнага зьліцьця”* й еднасьці пралетарыяту, то тут Клейнбарт усё-ткі пакідае шчылінку для пэўных сумневаў: *“Между еврейским рабочим и русским рабочим, который его сегодня избивает, может быть завтра (падкрэсьлена мной. — М. Шч.) уже несравненно более общего, чем между*

[61] Клейнборт, Л. Капитализм и еврейский вопрос. С. 37, 38.

[62] Клейнборт, Л. Капитализм и еврейский вопрос. С. 38.

[63] Клейнборт, Л. Капитализм и еврейский вопрос. С. 28.

[64] Клейнборт, Л. Капитализм и еврейский вопрос. С. 30.

*евреем-пролетарием и сионистской кубышкой банкира...”*[65]. Адным словам, будучы чалавекам, узгадаваным у дэмакратычнай традыцыі расейскай культуры, а пагатоў бачачы, зь якім імпэтам беларускія (!) сяляне бароняць сваіх гэбрайскіх землякоў ад пагромаў расейскіх шавіністаў, Клейнбарт схільны недаацэньваць менавіта “культурны” складнік расейскага антысэмітызму — ён нават лічыць (і па-свойму прарочa), што *“гораздо серьёзнее западно-европейская форма антисемитизма, имеющая чисто хозяйственную подкладку, которая... несомненно имеет у нас будущность”*[66]. Паставіць пад сумнеў *“часовы й павярхоўны”* характар расейскага антысэмітызму не змушаюць яго ніякія апэляцыі чарнасоценцаў да *“вялікай праваслаўнай Русі”*, якія ён у сваёй брашуры цытуе й якія неяк надта падазрона нагадваюць праклямацыі сучасных ДНР і ЛНР. Як можа, здаецца яму, адукаваны (ці неадукаваны, але ж “у душы” ад прыроды добры ці прынамсі “ня злы”) чалавек у эпоху прагрэсу, дэмакратычных ідэалаў і пярэдадня сусьветнай рэвалюцыі *ўсур’ёз* быць антысэмітам (ці сіяністам), славянафілам, шавіністам? А вось і можа, і эпоха тут, такое адчуваньне, зусім ні пры чым...


Л. Клейнборть.

КАПИТАЛИЗМЪ

и еврейскій вопросъ.

I.

Першая старонка
кнігі Льва Клейнбарта
“Капитализмъ и еврейскій
вопросъ” (1906)

Сярод іншага цытаваная Клейнбартава брашура, на маю думку, ёсьць яшчэ адным доказам таго, што Крыстафэр Мондэй яўна перабольшвае, спрабуючы патлумачыць фігуру Клейнбарта пераважна праз ягонае гэбрайскае паходжаньне. Маўляў, *«если в Копыле он считал себя принадлежащим к элите, то здесь (у Пецярбургу. — М. Шч.) ему пришлось испытать унижение. Поведение университетских чиновников и работников отличалось издевательством и глупыми выходками. Ему, например, вовремя не дали студенческий билет, что угрожало автоматической высылкой из Петербурга. Постоянно возникали вопросы по поводу документов, в частности вида на жительство. Издевались также над его именем (в это время он стал называть себя “Лев Максимович”)»*[67].

---

[65] Клейнборт, Л. Капитализм и еврейский вопрос. С. 39.

[66] Клейнборт, Л. Капитализм и еврейский вопрос. С. 19.

[67] Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 138.

Дзіўна, што якраз гэты пасаж у адрозьненьне ад рэшты тэксту чамусьці не падмацаваны ніякімі спасылкамі на самога Клейнбарта: адчуваньне, што выснова робіцца толькі на падставе статыстычных дадзеных пра тагачасных 12 % гэбраяў ад агульнай колькасьці студэнтаў Санкт-Пецярбурскага ўнівэрсытэту[68] — а ці магло іх быць болей у тых гістарычных умовах? Тое, што гэбраі складалі меншасьць, аўтаматычна не азначае, што гэта была меншасьць неяк асабліва перасьледаваная менавіта ў студэнцкім асяродзьдзі, "зьдзекі" ў якім больш лягічна было б прыпісаць узроставым, а не "этнічным" фактарам. Не атрымаць своечасова студэнцкі білет можна было з прычыны ці то юначай недасьведчанасьці, ці то юначай недысцыплінавасьці; наконт імя па бацьку мы ўжо камэнтавалі вышэй. Што да пытаньняў, якія *"постоянно возникали по поводу документов, в частности вида на жительство"*, і іншых магчымых "прыніжэньняў" з боку адміністрацыі, то яны ўзьнікалі ў дачыненьні да Клейнбарта не папросту таму, што ён быў гэбраем, а, хутчэй, таму (кажучы ягонымі ўласнымі словамі), што *"с понятием еврея… прежде всего связывается понятие социалиста, непокорного…"*[69] — выказваньне, якое, па-мойму, супярэчыць "этнацэнтрысцкай" інтэрпрэтацыі Крыстафэра Мондэя. Іншымі словамі, падобнае стаўленьне адміністрацыі трэба было яшчэ заслужыць сваёй рэпутацыяй бунтаўніка, палітычнага актывіста, вечнага падбухторшчыка забурэньняў — а менавіта ім Клейнбарт і быў. Спытаймася ўрэшце: ці мог быць студэнцкім лідэрам чалавек, зь якога астатнія нібыта "зьдзекаваліся" й "насьміхаліся"?

Аднак усё гэта, з другога боку, зусім ня значыць, што Клейнбарт наагул ніяк не рэфлексаваў свайго гэбрайскага паходжаньня. Акурат пры канцы сваёй брашуры ён (без прывядзеньня імя) нібыта цытуе нейкага гэбрайскага сацыял-дэмакрата: *"Националисты… заподозрят нас в разрушительных тенденциях по отношению к еврейству. Они будут неправы. Я могу лишь повторить слова товарища. Мы (гэбрайскія сацыял-дэмакраты. — М. Шч.) гордимся нашим еврейством. …Это еврейство носит в себе своё самоотрицание… ведёт к возвышенному космополитизму, к государству чистого духа и всеобъемлющей любви"*[70].

У мяне асабіста няма ніякіх сумневаў, што гэты "таварыш" — сам Клейнбарт, што зноў-такі праз сваю сьціпласьць ня можа дазволіць сабе падпісаць уласным імем такую "гучную" заяву, якой, аднак, завяршае сваю брашуру. Прызнаюся, што гэта мой улюбёны пасаж з Клейнбарта, і нездарма ён заканчваецца словам "любоў". Галоўная

[68] Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 137.

[69] Клейнборт, Л. Капитализм и еврейский вопрос. С. 17.

[70] Клейнборт, Л. Капитализм и еврейский вопрос. С. 40.

яго думка — пра пераадоленьне, самаадмаўленьне, гегелеўскі *Aufhebung* уласнай нацыянальнай прыналежнасьці. Бяз гэтага дыялектычнага самаадмаўленьня, паводле Клейнбарта, няма й ня можа быць ні *“дзяржавы чыстага духу”*, ні ўсёабдымнай любові. Аднак, паводле гіроніі гісторыі, на практыцы гэтае самаадмаўленьне (не без дапамогі звонку) ажыцьцявіла ў XX ст. зусім не гэбрайская нацыя, а беларуская[71].

## 6

Нават у брашуры з чыста, здавалася б, сацыялягічнай тэматыкай Клейнбарт, аднак, ня можа схаваць сваёй даўняй цягі да літаратурнай крытыкі. Дзеля ілюстрацыі становішча й ідэйных пошукаў свайго народу (вядома ж, як яшчэ мог інтэлектуал Клейнбарт стварыць

[71] У гэтым кантэксьце думка беларускага ідэоляга Ю. Шаўцова (“Объединённая нация. Феномен Беларуси”. Москва: Европа, 2005) пра тое, што *“с белорусами уже случилось то, что маячит перед всем человечеством”*, набывае досыць нечаканы сэнс — хіба што ў Шаўцова пад безасабовым *“случилось”* (ну здарылася й здарылася — якая розьніца, хто насамрэч быў суб’ектам гісторыі, а хто яе паддосьледным аб’ектам) маецца на ўвазе не так званы *“духоўны Чарнобыль”*, а параўнальна нядаўні Чарнобыль сапраўдны. Той, паводле аўтара, даў беларусам *“своеобразный духовный опыт”*: *“Чернобыльская катастрофа дала белорусской культуре моральное обоснование самостоятельного существования и право оценивать степень моральности иных культур, особенно культур развитых стран”*. Вядома, сама тэза пра тое, што нейкі гістарычны (ды яшчэ й духоўны) досьвед у прынцыпе гарантуе *“права ацэньваць ступень маральнасьці іншых культур”*, застаецца спрэчнай, але ў якасьці прэцэдэнту Шаўцоў нездарма згадвае Галякост, да якога прыроўнівае Чарнобыль. Што ж, тэарэтычна на такое права маглі б у такім разе прэтэндаваць, скажам, і аўтахтонныя жыхары Амэрыкі, што, аднак, ніяк ня сьведчыць пра большую ці меншую “маральнасьць” іх уласнай культуры. Практычна ж найбольш дбаюць пра маральнасьць ці немаральнасьць (як іншых, так — што асабліва прыемна — і сваю ўласную) акурат тыя, хто сам аднойчы быў асуджаны за немаральнасьць (што таксама, мабыць жа, ёсьць не абы-якім “своеасаблівым” духоўным досьведам) — я маю на ўвазе немцаў. Што да тэзы, быццам *“Чернобыльская катастрофа дала белорусской культуре моральное обоснование самостоятельного существования”*, то яна найбольш нагадвае Будапэшцкі мэмарандум 1994 г. (*“самастойнасьць у вабмен на ядзерную пагрозу”*), рэальная “вартасьць” якога кагадзе выявілася такой жа прывіднай, як абгрунтаванасьць гэтай дэклярацыі Шаўцова. Агулам у мяне такое адчуваньне, што аўтарава “постчарнобыльская” ідэалёгія беларускай нацыі пакліканая захінуць, зацерці, адсунуць на другі плян менавіта *“духоўны Чарнобыль”* (калі ня ўвесь папярэдні “духоўны досьвед” беларусаў, адным з складнікаў якога ёсьць русіфікацыя, “самаадмаўленьне”).

сабе ўяву пра *“жыцьцё масаў”*, як не празь літаратуру?) ён цытуе расейскамоўныя вершы гэбрайскага паэта Сямёна Фруга[72] зь ягонай кнігі *“Сиониды и другие стихотворения”* (Санкт-Пецярбург, 1902):

*Всё тот же яд вражды и ненависти жгучей*
*ты в грудь мою рукой жестокой лил…*
*О, сколько силы свежей и могучей*
*во мне ты этим ядом задушил!*[73].

Альбо:

*Любить Сион, как любит грудь родную*
*больное и голодное дитя, —*
*вот луч, душе моей светящий в ночь глухую…*[74].

Цяжка сказаць, наколькі гэтыя радкі супярэчаць (або не) тагачаснаму спэцыфічна літаратурнаму густу Клейнбарта, але з кантэксту відавочна, што ён цэніць іх не за форму, а менавіта за сацыяльны зьмест; як выраз не суб’ектыўнай, а “аб’ектыўнай” рэчаіснасьці. Мы ўжо адзначалі, што для яго, як марксіста, яшчэ да ўсякіх тэорыяў Лукача літаратура была каштоўнай перадусім як праўдзівае (“рэалістычнае”), не навукова-аналітычнае, а мастацка-сынтэтычнае адлюстраваньне дадзенага гістарычнага моманту, абумоўленага ў першую чаргу эканамічнымі варункамі ў грамадзтве. Менавіта такім “вузка-матэрыялістычным” падыходам тлумачыцца й ягонае першае фіяска як крытыка, то бок адмова Міхайлоўскага надрукаваць ягоную працу пра Маміна-Сібірака як *“залішне марксісцкую”*. Аднак часы пакрыёма мяняюцца, народніцтва адыходзіць на другі плян — на першы ж выходзяць, аднačасова з марксізмам, самі “галасы з народу”, і ў першую чаргу літаратурныя.

Яшчэ ў 1903 г., шмат у чым вызначальным для Клейнбарта (паводле Крыстафэра Мондэя — ужо ў 1899 г.[75], але магчыма, што з датамі ў розных тэкстах наблытаў сам Клейнбарт[76]), ён знаёміцца з Максімам Горкім — на той час (то бок яшчэ пры жыцьці Талстога й Чэхава) ужо ці ня самым шанаваным расейскім пісьменьнікам. Уплывовасьць Горкага, сярод іншага, была дадзеная акурат фактам, які ўрэшце ператворыцца (і невыпадкова) у *“навуковую спэцыялізацыю”* Клейнбарта, а менавіта: паходжаньнем зь нізоў грамадзтва, з прыгнечаных

[72] **Сямён Фруг** (1860–1916) пісаў на расейскай, ідыш і іўрыце.

[73] Клейнборт, Л. Капитализм и еврейский вопрос. С. 6.

[74] Клейнборт, Л. Капитализм и еврейский вопрос. С. 28.

[75] Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 153.

[76] *“Это было зимой 1903 года. Был здесь и Д. Н. Мамин-Сибиряк с дымящейся трубкой в зубах”* (Клейнборт, Л. Воспоминания. Горький).

клясаў[77]. З дазволу сказаць, *"буравесьнік рэвалюцыі"* стаў гэткім сацыяльным Моцартам свайго часу: калі малы Моцарт быў прататыпам вундэркінда, то "басяк" Горкі — праўдзіва народнага, а значыць і прагрэсіўнага, пісьменьніка й інтэлектуала; першай (а на той момант фактычна яшчэ адзінай) ластаўкай будучай "пралетарскай" культуры, якая пасьля рэвалюцыі (часова!) ператворыцца ў афіцыйную савецкую. Крытыкаваць Горкага нават за літаратурныя недахопы ягонай творчасьці было прыкметай ня толькі благога тону, а наўпрост рэакцыйнасьці палітычных поглядаў (як сьведчыць, прыкладам, водгук вядомага марксіста-"богостроителя" Аляксандра Багданава на крытыку Горкага з боку К. Чукоўскага[78]). Ня менш важнае тое, што менавіта з атачэньня Горкага выйшла й сама тэорыя пралетарскай культуры, найбольш ёміста сфармуляваная пазьней тым жа Багданавым[79], між іншага ўраджэнцам Гарадзенскай губэрні (хоць і з расейскім радаводам).

Трэба сказаць, што спачатку, то бок да таго, як Клейнбарт *"глубоко вошел в литературу, стал печатать о Горьком большие объемные статьи"*[80], іхныя асабістыя стасункі складваліся ня надта добра, і ўсё праз пэўнага Лебядзінава (таксама "басяка" з народу?), што ліставаўся як з Клейнбартам, так і з Горкім. Аднаго дня ён зьявіўся ў Клейнбарта:

*"В одной руке — узел с книгами, в другой — мешочек тоже с какими-то книгами.*

*— Для чего вы шли сюда тысячу верст? — спрашиваю я его.*

*— Прежде всего, Мережковскому морду набить"*[81].

Другім у чарзе на *"набіцьцё морды"* Лебядзінавым быў акурат Горкі — і Клейнбарт ці то праз сваю наіўнасьць, ці то баючыся, каб і яму не *"набілі морду"*, дае "хадаку" адрас "буравесьніка".

*«Через некоторое время я встретил Горького в редакции "Вестник Европы".*

*— Это вы дали мой адрес Лебединову? — спросил он меня очень холодно и недружелюбно»*[82].

---

77 *"Лишь Кольцова, Никитина, а за ним и Горького судьба каким-то чудом подняла из склепа народных глубин на высоту популярных имён"* (Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 62).

78 Богданов, А. Критик-птеродактиль // Наше эхо. 27.03.1907. Гл.: http://az.lib.ru/b/bogdanow_aleksandr_aleksandrowich/text_1907_kritik-pterodaktil.shtml.

79 Богданов, А. О пролетарской культуре. 1904–1924. Ленинград: Книга, 1924. Гл.: http://dlib.rsl.ru/viewer/01003385705#?page=1.

80 Клейнборт, Л. Воспоминания. Горький.

81 Клейнборт, Л. Воспоминания. Горький.

82 Клейнборт, Л. Воспоминания. Горький.

Невядома, ці начысьціў тады Лебядзінаў Горкаму пысу, але стаўленьне апошняга да Клейнбарта ад гэтага пацярпела. Тым ня менш ужо згаданыя Клейнбартавы брашуры выходзяць у выдавецтве Горкага адна па адной. Гэткая пладавітасьць Клейнбарта тлумачыцца, думаю, ня столькі прапагандысцкім імпэтам, колькі банальнай патрэбай зарабляць сабе на жыцьцё. Пра што толькі ні піша *"капыльскі прафэсар"*, седзячы ў Лясным! Вось пералік толькі некаторых ягоных артыкулаў таго часу (ня лічачы праваабарончых, пра якія была гаворка вышэй): *"Безработица и движение безработных"* (1906), *"Итоги избирательной компании"* (1907), *"Утверждать или не утверждать бюджет?"* (1907), *"Государственная Дума и безработица"* (1907), *"Правительство и партии о аграрном вопросе"* (1907), *«"Русская мысль" и судьбы русской интеллигенции»* (1912), *"Очерки рабочей демократии"* (1913), *"Молодёжь и война"* (1914), *"Мобилизация общественных сил"* (1914), *"Отчего в России не стало хлеба?"* (1917), *"Сельскохозяйственный рабочий в России"* (1917)... Бадай, самай кур'ёзнай (і ўнікальнай) Клейнбартавай дарэвалюцыйнай публікацыяй ёсьць артыкул пра ўвядзеньне ў Расеі "сухога закону", які першапачаткова зьявіўся ў 1915 г. у *"Современном мире"* й быў передрукаваны ў... "Нью-Ёрк Таймз"![83]. Публікацыя, дарэчы, спрычынілася да зьяўленьня "чацьвёртага" Клейнбарта, *"A. Kleinbort"* — відаць, перакладчыца (*"Isabel F. Hapgood"*) неабачліва дадала да кірылічнай "Л" папярэчынку... Але факт той, што ўсе тыя гады Клейнбарт насамрэч піша, так бы мовіць, "за чатырох".

Нават займаючыся перадусім палітычнымі, эканамічнымі, сацыяльнымі пытаньнямі Клейнбарт не выпускае з поля сваёй увагі літаратуру. Трэба сказаць, што ўжо на самым пачатку сваёй публіцыстычнай дзейнасьці ён, пацярпеўшы першую няўдачу як крытык, пачынае цікавіцца, так бы мовіць, "адваротным бокам" літаратурнага працэсу, то бок не самім стварэньнем тэкстаў, а іхнай рэцэпцыяй, ня аўтарам, а чытачом, які ў тыя часы паступова робіцца чытачом масавым[84]. Зерне ведаў, закінутае інтэлігентамі ў народ, неўзабаве цалкам заканамерна вяртаецца ім у выглядзе бумэранга так званага народнага пісьменьніцтва. Магчыма, найлепшым прыкладам гэтага "ўсерасейскага" працэсу зьяўляецца беларуская "Наша Ніва", дзе *"за один 1910-й год было напечатано*

[83] Can Russia Be Kept Sober? By A. Kleinbort. New York Times. Jul 25 1915. Самым "цікавым" у артыкуле зьяўляецца канстатацыя таго, што замест павальнага алькагалізму ў Расею ў той час прыходзіць павальнае захапленьне гульнёй у карты.

[84] Гл.: Клейнборт, Л. Что читает и чем интересуется учащаяся молодежь // Мир Божий. 1903. № 12. С. 104; Новые течения в народной жизни [читатель из народа] // Образование. 1904. № 5.

*666 корреспонденций”*[85]. Гэтак жа й сталічныя, і іншыя выданьні ўсё часьцей даюць слова самому народу (тэндэнцыя, якая ў наш час усеагульнай пісьменнасьціператварылася ў норму дзякуючы перадусім інтэрнэту й сацыяльным сеткам і ўрэшце зрабіла магчымым стварэньне незалежных інфармацыйных рэсурсаў). Атрымаўшы доступ да друкаваных выданьняў, сотні (тады яшчэ сотні) людзей *“начинают думать вслух: писать, печататься, да ещё на языке своих отцов... Очевидно, не каприз случая”*[86]. Менавіта гэтымі сотнямі ў якасьці аднаго зь першых расейскіх публіцыстаў і пачынае цікавіцца Клейнбарт. Як пазьней напіша ён сам у аўтабіяграфіі: *«В эти царские времена я, если не первый*[87]*, то один из первых поднял в легальной журналистике вопрос о пролетарском творчестве и пролетарских писателях. В “Образовании”, “Современном мире”, “Вестнике Европы”, “Новой жизни”, “Северных записках” мной был напечатан многочисленный ряд статей о пролетарских и крестьянских писателях, только начинавших свой путь, статей, которые впервые привлекли к ним внимание широкого круга читателей»*[88].

І вось менавіта ў гэтай новай галіне важным хаўрусьнікам Клейнбарта робіцца сам “прататып” народнага пісьменьніка — Горкі. *«Это нужно. До зарезу нужно. Понимаете ли вы? Такие, именно такие таланты необходимо выдвинуть. Нужно, чтобы все увидели фигуры во весь рост. У меня накопилось около четырехсот рукописей, но здесь подавляющее большинство рабочих заводов, железной дороги, фабричных поселков и деревень. Я внимательно, как только мог, прочитал все эти тетради серой бумаги, экономно исписанные непривычными к перу руками, — говорил Горький. [...] — У вас тоже много накопилось материалов. Все это без поддержки обречено. Никто не видит социальной важности. Надо отнестись с большим вниманием к ним... Давайте, давайте свои “Очерки” о них нам. Вы открываете нужные двери. Народ требует писателей, которые не хуже пишут, чем аристократы от литературы. Не плохо бы дать специальное издание о стиле, о языке, о формах строения рассказов, приравненное к пониманию человека физического труда. Культура создается медленно. К тому же мышление отравлено предрассудками мещанства»*[89]. Гэтак, атрымаўшы дабраславеньне

[85] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 121.

[86] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 167.

[87] Ня першы: ужо ў канцы XIX ст. вывучаць “народнае пісьменьніцтва” й густы масавага чытача пачаў расейскі навуковец, стваральнік “бібліяпсыхалёгіі” Н. А. Рубакін.

[88] Клейнборт, Л. Автобиография // БДАМЛМ. Ф. 157. Воп. 1. Спр. 16. Арк. 4.

[89] Клейнборт, Л. Воспоминания. Горький.

ад Горкага, Клейнбарт з імпэтам бярэцца выконваць чарговую надзённую замову эпохі[90].

## 7

Паводле прызнаньня Клейнбарта, ужо ў тую пару (трэба адзначыць, што досыць рана, але *“касі, каса, пакуль раса”*) ім была задуманая кніга пра маладое беларускае пісьменства[91], аднак выкананьне аналягічнай задачы ў маштабах усяе імпэрыі адкладае рэалізацыю гэтай задумкі на доўгія гады. Тым ня менш няма сумневу, што ў адпаведнасьці з сваім новым амплюа Клейнбарт з таго часу аднаўляе й надалей падтрымлівае свае сувязі зь Беларусьсю[92], перадусім — пасярэдніцтвам роднага Капыля й свайго земляка Цішкі Гартнага, які пад уплывам “Нашай Нівы” пачынае пісаць і друкавацца па-беларуску, а таксама выдаваць — разам з Хведарам Чарнышэвічам, Алесем Гурлом, Фабіянам Шантыром[93] — рукапісны беларускамоўны часопіс “Вольная думка” (дагэтуль яны выдалі па-расейску *«15 номеров “Зари”, 9 номеров “Голоса Низа”»*[94]). Ня толькі сам Гартны, але й ягоныя сябры дасылаюць Клейнбарту свае творы. Вось што яму піша, напрыклад, Фабіян Шантыр: *«“Я рабочий-каменщик, родом случак. Дело в том: я одержим манией писательства. Теперь остановка в здоровой критике. Все — вопросы, а окружающая полугнилая интеллигенция в богоспасаемом Слуцке далека от меня, и вряд ли будет ей по силам это”. На первый раз он присылал ряд своих стихов на русском и белорусском языке»*[95]. Як бачым, у Клейнбарта просяць парады, крытычнага водгуку, часьцяком — проста просяць прыслаць пачытаць рукапісныя выданьні ягоных землякоў[96].

---

90 *“Первая публикация по этому поводу: Клейнборт Л. Что думает интеллигенция из народа // Новая жизнь. 1911. № 4. С. 169–198”* (Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 162).

91 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 5.

92 *«Клейнборт поддерживал активный контакт со своими “земляками”, которые давали ему читать “наши ніва” (sic) и подобную литературу, отстаивавшую принцип самоопределения белорусского народа»* (Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 173).

93 *“К ним надо прибавить пильщика из Минска Фёдора Станилевича, даровитого рабочего, акклиматизировавшегося временно в местечке”* (Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 95).

94 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 98.

95 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 94.

96 Гл.: Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 102, 103: *“Из трёх-четырёх местечек Виленщины получились стихи и рассказы на белорусском языке”.*

У канцы 1909 г. у Пецярбург на некалькі гадоў перасяляецца Купала, *“благодаря материальной и моральной поддержке Б. И. Эпимах-Шипила, значительную часть своих заработков отдававшего делу белорусского возрождения”*[97]. Клейнбарт мог (ці нават ня мог ня) ведаць Шыпілу па бібліятэцы сваёй *alma mater*, дзе той працаваў ад 1893 г., але няма сумневу, што цяпер ён пачынае сустракацца зь ім часьцей. *«Тогда и пишущий эти строки знакомится с Купалой. “Посылаю в ваше распоряжение свои книжечки, — писал мне Купала вскоре после своего приезда*[98]*. — Буду очень и очень вам благодарен, если дадите мне возможность ближе познакомиться с русским литературным миром, который меня постоянно интересовал, но который доселе мне совершенно незнаком... Та обстановка, та среда, в которой я с детства верчусь, которая и по настоящее время мало изменилась к лучшему, меня мало удовлетворяет. Хочется чего-то более светлого, более широкого”»*[99]. “Кніжачкі”, пра якія ідзе гаворка, былі надрукаваныя ў самім Пецярбургу тым жа Шыпілам — гэта “Жалейка” (1908)[100], а таксама “Адвечная песьня” (1910) і “Гусьляр” (1910). Лішне казаць, што на той час ня толькі расейскі літаратурны сьвет зусім не знаёмы Купалу, але й Купала няведамы ў гэтым сьвеце. Клейнбарт адгукаецца на просьбу земляка — сярод іншага дапамагае з выданьнем ягонай наступнай кнігі, “Шляхам жыцьця”. *«Товарищ моей юности А. П. Еремич*[101] *— директор б[ывшей?] Елисеевской больницы в Лесном*[102] *— сказал мне, что у него имеется на руках свободная наличность, которую он предназначает для издания какого-нибудь поэта из народа. У меня же лежали на столе в это время “Радуница” Есенина, присланная им мне в рукописи, и стихи Янки Купалы, с чем*

[97] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 185.

[98] Афіцыйная дата ліста — 1911 г. Гл.: Купала, Янка. Поўны збор твораў. Т. 9. Мінск, 2003. С. 229.

[99] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 185–186.

[100] Яшчэ адзін ведамы, але ад гэтага ня менш чароўны прыклад лёсавызначальнай апіскі: *«Во фронтисписе к заглавному листу я невольно сделал ошибку, написавши вместо “Жалейка Янука Купалы”, как автор всегда и повсюду называл себя и подписывался, — “Жалейка Янки Купалы”. Таким образом неумышленно переименовал я Янука в Янку, каковую форму имени принял потом и сам поэта и каковая так и осталась за ним до сих пор — не Янук, а Янка Купала»* (Ліст Б. Эпімаха-Шыпілы да Л. Клейнбарта. 1928 г. С. 4. Гл.: archives.gov.by/index.php?id=723090).

[101] **Аляксандар Ярэміч** (1876–1920), адзін зь першаадкрывальнікаў унутрывеннага геданалавага наркозу, які атрымаў у свой час назоў “рускага нутрывеннага наркозу”. Прысьвечаны Ярэмічу сайт таксама нясе назоў “Русский наркоз” (гл. http://eremich.ru). Пры гэтым відавочна, што Ярэміч, “чалавек з народу”, сам сябе лічыў беларусам.

[102] Дакладней — галоўны ўрач (люты 1911 — сакавік 1918 г.).

*я и пошёл Еремичу навстречу. Белорусс по происхождению, он предпочёл Купалу. И вскоре поэт мне писал: “беседовал с А. П. Относительно издания моих стихотворений...” Так и появилась “Шляхам Жыцьця”»*[103]. Дарэчы, пра гэты эпізод (ператвараючы яго ў анэкдот) згадвае сучасны пісьменьнік Алесь Пашкевіч у рамане “Круг”: *«Сяргей Ясенін затым лёгка стукнуў Дубоўку па сьпіне, падміргнуў яму: — Ты, гэта... Купалу скажы, што я на яго не крыўдую!” З чаго б гэта Ясеніну “крыўдаваць” на Купалу? А з таго, што, маўляў, у 1913 г. Ясенін “...ужо пасьпеў падрыхтаваць першы зборнік “Радуніца”. Знайшоўся фундатар — доктар Аляксандар Ярэміч, дырэктар Елісееўскай бальніцы. На фінансаваньне яму прапанавалі (падкрэсьлена мной. — М. Шч.) дзьве кнігі: “Радуніцу” і “Шляхам жыцьця” Янкі Купалы. Доктар-фундатар аддаў перавагу Купалавай. А “Радуніца” зьявілася праз тры гады...»*[104]. Як бачым, вось да чаго часам даводзіць залішняя сьціпласьць на ўласны конт: “прапанавалі”... Ні згадкі пра таго, хто прапанаваў, то бок пра самога Клейнбарта (аб праўдзівасьці інфармацыі якога ўскосна сьведчыць прынамсі ўжо той факт, што згаданая “бальніца” шчасьліваю воляю выпадку знаходзілася ў Лясным). Ні згадкі пра тое, што “доктар-фундатар” (на якога было б больш лягічна “крыўдаваць” Ясеніну) аддаў перавагу Купалу ня проста так, а кіруючыся зямляцкімі, патрыятычнымі пачуцьцямі, а не, скажам, выключна літаратурным густам. І ўжо зусім сумна, што гэты ўрывак у якасьці “крыніцы” цытуецца ў артыкуле беларускай Вікіпэдыі пра Ярэміча, хоць азначэньне “дырэктар бальніцы” відавочна адсылае да крыніцы сапраўднай, Клейнбартавай “Молодой Белоруссии”. Але Ярэмічу, трэба сказаць, яшчэ “пашанцавала”, ён прынамсі застаецца ў званьні “фундатара”, тым часам як Клейнбарт у нашай гістарычнай памяці калі й прысутны, то ў лепшым выпадку на ўзбочыне...

Пры гэтым для таго, каб беларуская літаратура была ў Расеі заўважаная, ён у той час робіць ня так і мала[105]. *«Следует отметить, что уже 1911 г. в своей статье “Молодые побеги” Клейнборт пытался опубликовать стихи на белорусском языке. Получил он отказ от редактора “Современного мира” Н. Иорданского*[106]*: “...должен тебя*

[103] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 186.

[104] Гл.: Дзеяслоў. 2004. № 12.

[105] Сярод іншага друкуе на тэму беларускага адраджэнцкага руху некалькі артыкулаў: “*В глуши Белоруссии*” (Журнал для всех. 1911), *“Народная демократия”* (Новая жизнь. 1912. № 6) (гл.: Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 70). Пазьней ён публікуе артыкул пра паэтаў “Звязды” й “Праўды”, дзе піша й пра Цішку Гартнага — на гэты артыкул спасылаецца ў “Беларусах” Яўхім Карскі (гл.: Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 227).

[106] **Мікалай Іярданскі** (1876–1928) быў блізкім сябрам Клейнбарта, часопіс *“Современный мир”* (ранейшы *“Мир Божий”*) рэдагаваў ад 1909 г. да 1917 г.

*огорчить. Стихотворение на непонятном языке под силу только академической печати”... (Письмо Н. Иорданского Л. Клейнборту // РО ИРЛИ. Ф. 586. Д. 79)»*[107]. Тым часам Горкаму, які сам займаўся зборам матэрыялаў аб пісьменьніках з народу, Іярданскі не адмовіў — і ў знакамітым артыкуле *“О писателях-самоучках”* (люты 1911 г.) зьявіўся першы пераклад беларускага верша на расейскую мову, як ведама, ім стаўся “А хто там ідзе?” Купалы. Цікава, што апроч беларусаў у артыкуле згадваюцца з “нацыянальных меншасьцяў” толькі татары і што верш у артыкуле прыводзіцца апошнім — у якасьці гэткага магутнага фінальнага акорду. Вершу папярэднічае наступны абзац: *«Я обращаю внимание скептиков на молодую литературу белоруссов — самого забитого народа в России, — на работу людей, сгруппировавшихся вокруг газеты “Наша нива”. Позволю себе привести песню, изданную недавно “Нашей нивой”, слова написаны белорусским поэтом Янком Купалой...»*. У дужках Горкі на ўсякі выпадак дадае: *“Прошу Янку Купалу извинить мне дурной перевод его красноречивой и суровой песни”*[108]. Сам Горкі казаў пра ўражаньне, якое выклікаў у яго Купалаў верш: *“Меня эта вещь взволновала. Угрюмо”*[109]. Што ж, застаецца толькі здагадвацца, чыім пасярэдніцтвам трапіла да Горкага “Наша Ніва”; для самых здагадлівых на ўсякі выпадак толькі адзначу, што чалавекам, які на той момант асабіста ведаў усіх трох “афіцыйных віноўнікаў” публікацыі — Купалу, Горкага й рэдактара “Современного мира” Іярданскага, — быў ня хто іншы, як Клейнбарт. І яшчэ: калі не дурнейшы за Горкага Іярданскі называе беларускую мову “непонятной”, то ці была яна цалкам зразумелай самому перакладніку? Калі не, то нехта павінен быў зрабіць яму падрадкоўнік ці прынамсі пракансультаваць... А ў тым, што сам Клейнбарт беларускай мовай валодаў выдатна, ніякіх сумневаў няма — дастаткова зірнуць на ўсё мноства цытаванай ім у “Молодой Белоруссии” літаратуры, і ў тым ліку на пэўныя ўжываныя ім беларусізмы (але гэта выходзіць за рамкі маёй тэмы). Дазволю сабе толькі акурат на гэтым месцы заўважыць: калі зь сёньняшняга гледзішча справядліва, што *“не было б Купалы — не было б і Клейнбарта”*, то ў той час можна было б у пэўным сэнсе сьцьвярджаць адваротнае. Асабліва калі згадаць, колькі высілкаў уклаў пазьней Клейнбарт у зьбіраньне біяграфічных зьвестак пра клясыка.

Ведама ж, Клейнбарт (у адрозьненьне, скажам, ад свайго супляменьніка Зьмітрака Бядулі) да беларускага адраджэньня як такога ў строгім сэнсе слова не далучыўся — ня толькі таму, што быў выхаваны ў расейскай культуры, але й таму, што ўжо быў дзейным

[107] Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 173.

[108] Гл.: www.maximgorkiy.narod.ru/STATY/writer-sam.htm.

[109] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 364.

чальцом іншага, больш шырокага, маштабнага й зь ягонага гледзішча больш важнага руху — дэмакратычна-рэвалюцыйнага. Аднак няма сумневу, што беларускі нацыянальна-дэмакратычны рух ён разглядаў як неад'емную частку гэтага "першага", усерасейскага народнага руху — і як гэткі яго й падтрымліваў[110]. Лішне казаць, наколькі важным у палітычным сэнсе аказалася ўжо дакастрычніцкае прызнаньне расейскімі сацыял-дэмакратамі (у першую чаргу Горкім) ды іншымі "левымі" права беларускага народу на культурную самастойнасьць, сьведкам на карысьць якой выступаў варты іхнага даверу, "свой", "аб'ектыўны" Клейнбарт, як і ўзьнікненьне ў рамках беларускага руху ўласных сацыялістычных, пазьней камуністычных арганізацый, да якіх невыпадкова спрычыніўся менавіта знаёмец Клейнбарта Цішка Гартны. Калі Гартны стаў для Клейнбарта *"вакном у беларушчыну"*, то Клейнбарт для Гартнага й ягоных паплечнікаў па адраджэньні — гэткім "парадным уваходам" на старонкі расейскай дэмакратычнай прэсы.

Насамрэч мэты й інтарэсы абодвух рухаў, беларускага й сацыял-дэмакратычнага, часьцяком перасякаліся, як, напрыклад, у пытаньні стаўленьня да Першай сусьветнай вайны. Як згадвае Цішка Гартны (што ад 1913 г. жыў і працаваў у Пецярбургу-Петраградзе, як і многія тагачасныя беларускія дзеячы, і, ведама, ня мог не сустракацца там з Клейнбартам), *"белорусские организации, устраивавшие регулярные собрания на квартире проф. Эпимах-Шипилы, стояли на точке зрения поражения России"*[111]. Тых самых поглядаў трымаўся й Клейнбарт, які лічыў паразу ў вайне карыснай для разьвіцьця краіны як такой: «*В статье "Мобилизация общественных сил" Клейнборт на примере Крымской и Русско-японской войн развивал мысль, что всякая война заканчивается благотворными для страны реформами. Крымская война, писал Клейнборт, открыла эру реформ, Русско-японская же — привела к Манифесту 17 октября, а нынешняя приведет к организованности общества. Клейнборт затем пожелал, чтобы Россия проиграла войну!*»[112]. Я, у адрозьненьне ад аўтара радкоў Крыстафэра Мондэя, ня бачу тут асаблівай падставы для клічніка, як і для Клейнбарта падтрымліваць тое, што тады ў прагрэсіўных колах называлася *"заалягічным расейскім нацыяналізмам"* — хіба што Клейнбарт выказаў гэтую думку раней за іншых, ужо ў 1914 г. Пагатоў што з пачаткам вайны ўсё гучней гучаць

110 *«Уже в годы Первой мировой войны на основе своей переписки (і асабістага знаёмства. — М. Шч.) с Янкой Купалой, Тишкой Гартным, Б. И. Эпимах-Шипиллом (sic) Клейнборт написал несколько очерков о новом направлении в белорусской литературе, опубликованных в "Вестнике Европы"»* (Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 173.)

111 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 232–233.

112 Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 152.

галасы шавіністаў — ня толькі расейцаў, але, як ні дзіўна, і этнічных беларусаў, для якіх *«евреи поголовно превращаются в военных шпионов; украинцы — в “мазепинцев”, всеми фибрами души тяготеющих к австрийцам... Струве... призвал бороться с украинством “без всяких двусмысленностей и поблажек”... его страшит даже культура украинца или белорусса. Ещё резче выступает Погодин, недавний сотрудник “Украинской жизни”, альманаха “Маладая Беларусь”, теперь увидевший во Львове “постоянную угрозу для внутреннего развития России”. (Сучасна гучыць, праўда? — М. Шч.) Щёголевым и Погодиным идут вслед их белорусские подголоски...»*[113]. Іх Клейнбарт называе ў двукосьсі *“истинно-русскими”*, сярод іх, напрыклад, *«известный погромщик Саланевич, изображавший Петроградскую “Дз-цу” [“Дзяньніцу”] и Виленский “Гоман”, как немецкую интригу»*; той жа Саланевіч крытыкаваў *“раздуванье немцами украинства и белоруссинства в Белоруссии и Литве”*[114]. Гэтай *“истинно-русской”* пазыцыі трымаліся тады такія выданьні, як *“Крестьянин”*, *“Белорусская жизнь”* (якая выступала супраць стварэньня *“третьей искусственной литературы”*[115]), *“Новое время”*[116].

Як бачым, Клейнбарту даводзілася бараніць ад нападак шавіністаў ня толькі беларусаў, але і ўкраінцаў з гэбраямі — усьведамленьне ўласнай прыналежнасьці да прыгнечанага этнасу дапамагло яму ўбачыць і зразумець падобнае становішча этнасаў іншых. Як інтэлектуал, ён ня толькі шчыра цікавіўся інтэлігентамі з народу, самавукамі й самародкамі (як, скажам, бацькі цікавяцца дзецьмі, што пачынаюць ня толькі размаўляць “іхнаю” дарослаю мовай, але й раптоўна кажуць “разумныя”, у кожным разе арыгінальныя рэчы), ён яшчэ й “пабацькоўску” не аддаваў перавагі нейкаму аднаму з гэтых “дзяцей”, пагатоў паводле нацыянальнай прыкметы, што, аднак, не ўбараніла яго пазьней ад абвінавачаньняў у беларускім (!) нацыяналізьме. Яшчэ й з гэтага гледзішча Клейнбарт выклікае ў мяне захапленьне (асабліва ў наш час, калі столькі носяцца з заклікамі кшталту “любі сваё”): як што ён паводле сваіх марксісцкіх перакананьняў папросту ня мог быць расейскім ці гэбрайскім нацыяналістам (сіяністам), то ён, з дазволу сказаць, быў па-свойму “нацыяналістам” і беларускім, і ўкраінскім[117] — у культурным, а не ў палітычным і, відавочна, не

113 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 321.

114 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 323.

115 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 16–17.

116 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 77.

117 *«В 1923 г. он написал статью (неизданную) “Украинская революционная Поэзия”, которая трактовала украинскую тему, опираясь на уже устоявшуюся схему культурного развития»* (Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 172).

ў прынятым у нас *“богапамазаным”* сэнсе, які апрыёры не дапускае (зрэшты, як і не вытрымлівае) крытыкі... Я пытаюся ў сябе: а ці ня ёсьць менавіта такі клейнбартаўскі “нацыяналізм” — зразуметы як высакародная любоў акурат не да “свайго”, а да іншага, неабавязкова блізкага, неабавязкова, можа, нават пакрыўджанага народу й яго культуры — адзіным прымальным для інтэлектуала й, канец канцоў, адзіным маральным “нацыяналізмам”?

## 8

Да самай бальшавіцкай рэвалюцыі 1917 г. Клейнбарт працягвае актыўна займацца як публіцыстыкай, так і дасьледаваньнямі “народнай літаратуры”. Пасьля кастрычніцкага перавароту, нібыта праз нязгоды з бальшавікамі[118], зьяжджае ўва Ўкраіну, у 1919–1921 гг. жыве ў Кіеве (дзе чытае лекцыі па літаратуры ўва ўнівэрсытэце й сустракаецца з сваім былым выкладчыкам, яшчэ нядаўна міністрам фінансаў незалежнай Украіны Міхаілам Туганам-Бараноўскім[119]). У 1921 г. Клейнбарт вяртаецца ў Петраград, уладкоўваецца ў Пралеткульт (якім тады кіруе Багданаў), чытае там курс па гісторыі літаратуры, кіруе заняткамі ў літаратурнай студыі, працуе ў літаратурных гуртках на Балтыйскім флёце[120]. У далейшыя гады Клейнбарт выдае кнігі, дзе збольшага падсумоўвае свой папярэдні дасьледніцкі досьвед: *“Очерки рабочей интеллигенции”* (1923, у двух тамах), *“Очерки рабочей журналистики”* (1924), *“Очерки народной литературы”* (1924), *“Русский читатель — рабочий”* (1925), *“Рабочий класс и культура”* (1925, у двух тамах), “*История безработицы в России”* (1925).




Вокладка кнігі Льва Клейнбарта “Молодая Белоруссия” (1928)

Самая важная — зноў-такі, для “нас”, тых, што “любяць сваё”, —

[118] Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 168, 172. У многіх дай пасьлярэвалюцыйных крыніцах Клейнбарта пасьлядоўна вызначаюць як меншавіка; найбліжэй паводле сваіх поглядаў ён быў да Горкага й *“богостроителей”*.

[119] Клейнборт, Л. Встречи. М. И. Туган-Барановский. С. 234–237.

[120] Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 168.

Клейнбартава кніга, пяцісотстаронкавая *“Молодая Белоруссия”*, выходзіць ажно ў 1928 г. Калі верыць Клейнбарту, што ён задумаў яе яшчэ ў “пецярбурскія гады”, то атрымаецца, што час ягонай працы (ці лепш сказаць назіраньняў і роздуму) над *“Молодой Белоруссией”* уласна супадае з часам нядоўгага “жыцьця” самога аб’екту досьледу, гэтай самай *“Молодой Белоруссии”* — сталінская беларусізацыя фактычна згортваецца ўжо ў наступным, 1929 г.[121], што суправаджаецца фізычным зьнішчэньнем многіх яе актыўных удзельнікаў. Таму кнігу можна разглядаць як шмат у чым выніковую, у тым ліку й для самога Клейнбарта: гэта апошняя ягоная праца ўва ўлюбёнай, літаратурна-крытычнай галіне і адначасова першае фундамэнтальнае дасьледаваньне белліту на расейскай мове.

Сама кніга, пераконваюць мяне, досыць добра вядомая ў асяродзьдзі беларусістаў, таму я ня буду залішне падрабязна запыняцца на ейнай структуры й зьмесьце, а падкрэсьлю толькі некаторыя цікавыя мне самому аспэкты. Першы зь іх — тэарэтычны. У сувязі з папярэднімі кнігамі Клейнбарта па “народнай літаратуры” Крыстафэр Мондэй закідае яму “ненавуковасьць” падыходу й адсутнасьць мэтадалёгіі[122] — я не лічу гэтае меркаваньне справядлівым, да *“Маладой Белоруссии”* ў прыватнасьці. Марксісцкая літаратурная й эстэтычная тэорыя ў тыя гады яшчэ толькі фармавалася й фармулявалася Бэньямінам (які, трэба сказаць, ведаў Маркса ня лепей за Клейнбарта) і Лукачам; самі “клясыкі” марксізму не пакінулі якіх-любя сур’ёзных і цэльных “указаньняў” у гэтай галіне (спрэс тыя ж “імпрэсіяністычныя накіды”), бо яна цікавіла іх, зноў-такі, выключна як ілюстрацыя ўласных эканамічных “прароцтваў”. Правадыры пралетарскай рэвалюцыі ў Расеі — за выключэньнем хіба што Троцкага — мелі (у адрозьненьне ад Клейнбарта) густы досыць кансэрватыўныя, я сказаў бы, праўдзіва мяшчанскія. Найбольш сур’ёзна тэорыяй пралетарскай культуры займаўся ў той час “чалавек-аркестар” Багданаў, крытыкаваны за свае погляды Леніным яшчэ ў “Матэрыялізьме й эмпірыякрытыцызьме”, але нават гэты духоўны лідар *“богостроительства”* не прапанаваў у дачыненьні

[121] Гл.: Marková, A. Sovětská bělorusizace jako cesta k národu: iluze nebo realita? Praha: Lidové noviny, 2012. — 261 s.

[122] *«Но во всех книгах, написанных Клейнбортом в этот период, невозможно найти ни точных цитат, ни ссылок, ни метода, ни теории... В своей рецензии пролетарский писатель и критик А. Исбах справедливо отмечал: “Очерки Клейнборта не дают нам серьезного марксистского анализа творчества разбираемых им писателей. Это, скорее, импрессионистические наброски, не лишенные большого интереса ввиду охвата ценного материала”»* (Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 169–170).

да літаратуры практычна нічога, што не папахвала б “вульгарным марксізмам”. Па сутнасьці, галоўным крытэрам ацэнкі літаратуры зьяўляецца для Багданава яе рэвалюцыйнасьць / рэакцыйнасьць (у Леніна — “партыйнасьць / непартыйнасьць”), якая, у сваю чаргу, вызначаецца... клясавым паходжаньнем аўтара! (Як проста й “геніяльна”.) Гэтак, у артыкуле *“Возможно ли пролетарское искусство?”* (1914) Багданаў піша: *«Ну, кого и что могут организовать какие-нибудь фетовские “Шёпот, робкое дыханье, трели соловья...” А могут, и организуют. И не случайно у критика-демократа сорвётся выражение — “барская поэзия”. Не случайно даже она достигает такого совершенства у помещика-крепостника, ненавидевшего крестьян... Она, конечно, укрепляет общее самосознание, связь мысли и настроения классов паразитических, живущих в сфере более или менее утончённого безделья и презирающих грязную прозу жизни — её суровую трудовую сторону. Эта поэзия говорит: “вот какие мы эстетичные, возвышенные существа, как нежны и чутки наши души, как благородна наша культура”. А вместе с тем само собой подразумевается: “Разве можно сравнивать с нами те низменные существа, которые обречены на заботу и работу, у которых интересы вращаются вокруг скота и удобрения?” [...] Заметьте, читатель: я отнюдь не хочу сказать, что “барская поэзия” плоха. Напротив, я думаю, что из неё многое может быть впоследствии воспринято растущими классами...»*[123]. Пралетарская літаратура, паводле Багданава, павінна перадусім “арганізоўваць”, як яна павінна гэтага дасягнуць — загадка; з практычных рэкамэндацый застаецца толькі парада пераймаць лепшае (але далёка ня ўсё лепшае) у літаратуры “непралетарскай”, гэта значыць *“экспрапрыяваць экспрапрыятараў”*, гэткі духоўны “ваенны камунізм” *avant la lettre*. Багданаўская “дэфініцыя” пралетарскай культуры не пазытыўная, а нэгатыўная: галоўнае ведаць і своечасова пазнаць у твар варожую нам (рабочай клясе й перадусім прынцыпу калектывізму) культуру, а сваю ўласную вызначаць ужо цераз яе адмаўленьне. Далей — болей — у артыкуле 1918 г. *“Критика пролетарского искусства”* Багданаў дагаворваецца да наступнага: *“Печально видеть поэта-пролетария, который ищет лучших художественных форм, и думает найти их у какого-нибудь (!) кривляющегося интеллигента-рекламиста Маяковского, или ещё хуже — у Игоря Северянина, идеолога альфонсов и кокоток... Простота, ясность, чистота формы великих мастеров — Пушкина, Лермонтова, Гоголя, Некрасова, Толстого (вось яна, кансэрватыўнасьць густу: маўляў, найлепшае тое, на чым выхаваныя мы самі. — М. Шч.) — всего больше соответствуют зада-*

[123] Богданов, А. О пролетарской культуре. С. 106–107.

*чам нарождающегося искусства... Из новейших же надо изучать близких по духу и художественно-устойчивых, как Горький, а не далёких и изменчивых, которые то приходят, то уходят, как Андреевы, Бальмонты, Блоки и пр.”*[124]. Адчуваньне, што нават Сталін разумеў у літаратуры крыху больш за Багданава.

Гэта я ўсё да таго, што ў Клейнбарта, можа, паменей тэарытычных “выкшталцонасьцяў”, чымся ў Багданава, але густу, а таксама практычнага веданьня сваёй тэмы яўна паболей. І перадусім — болей праўдзівага разуменьня кожнага канкрэтнага аўтара й ягонага неадназначнага (!) жыцьцёвага шляху (нездарма *“Молодая Белоруссия”* проста сьпярэшчаная біяграфіямі беларускіх пісьменьнікаў, што нязьменна папярэднічаюць разбору творчасьці кожнага зь іх): няхай клясавае паходжаньне і ў Клейнбарта выступае ў ролі аднаго з вызначальных фактараў, але ён успрымае яго дыялектычна, а не дэтэрміністычна — як нешта, што можа быць у самой творчасьці пераадолена (а гэта ўжо з гледзішча вульгарнага марксізму, несумненна, ерась). У пэўным сэнсе чалавек, які асабіста ведаў “усіх гэтых” Купалаў, Гартных, *“Андреевых, Бальмонтов, Блоков”*, да якога ў Лясное ў 1915 г. сам прыйшоў знаёміцца Ясенін — *“он то и дело лежал на траве вверх грудью у меня в саду то с томом Успенского, то с томом Короленко. За ним бегал Трезор, с которым он был уже в дружбе”*[125], — ня мог ня бачыць у іх жывых (а ня загадзя ператвораных у мёртвыя абстрактныя велічыні) людзей з усімі іхнымі складанасьцямі й супярэчнасьцямі, таму падыходзіць да іх выключна з гледзішча нейкай “мэтадалёгіі” быў арганічна няздольны.

Найлепшы прыклад выдатнай крытычнай інтуіцыі й глыбіні Клейнбарта — ягоны аналіз творчасьці Багдановіча, які яўна “не трапляе” пад уласную Клейнбартаву тэзу пра тое, што беларускі пісьменьнік — гэта самародак, збольшага селянін або пралетар. І тым ня менш: *“Роль Богдановича, скончавшегося на 25-м году жизни, столь значительна в новой литературе, что мы отводим ему совсем особое место”*[126], — піша Клейнбарт. *“Тогда как все поэты — самоучки, до всего дошедшие своим умом... Богданович с ранних лет приобщается к сокровищнице мировой культуры”*[127]. *«Сравните Богдановича с Купалой... Несомненная противоположность ему — Богданович*[128].

---

[124] Богданов, А. О пролетарской культуре. С. 170.

[125] Клейнборт, Л. Воспоминания. Сергей Есенин. Гл.: http://www.proza.ru/avtor/lpoudy&book=6#6.

[126] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 126.

[127] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 137.

[128] Гэтае вельмі цікавае назіраньне Клейнбарта нібыта прадказвае суіснаваньне ў беларускай літаратуры дзьвюх плыняў: умоўна кажучы, купалаўскай (угрунтаванай у мове) і багдановіцкай (угрунтаванай

*Читая его стихи, невольно вспоминаешь Пушкина, который пробовал себя в разных национальных мотивах... Он [Багдановіч] не мог бы написать ни одного стихотворения Янки Купалы. Не потому, что ему не хватало дарования, а потому, что эта песня требует совсем другого бытового опыта. Уже язык его есть язык белорусса-чужестранца... его прочтёте без словаря... “Язык М. Богданович... знал ещё плохо и, говоря, всё время сбивался на московщину” (восп. Ластовского)... “В самом деле, чудная это была речь; видно было, что он теоретически изучает её... ему совсем не давались такие соединения, как дз, дж... В конце концов, он вычерпал из криницы родного слова то, что ему нужно было, как поэту” (Ф. Имшенник)...»*[129]. Калі Багдановіч піша пра поле, то гэта *«не поле, орошённое потом белорусса: это поле вообще; не леса, не озёра Купалы или Коласа, а леса и озёра вообще. [...] Лучшие стихи Богдановича мог написать не поэт лишь белорусс, но и поэт русский, который — по выражению Белинского — во всех сферах жизни, как у себя дома. Ну, Слуцкия ткачыхи... переведите-ка на русский язык. Получатся хорошие стихи. Но кто скажет, что писал их именно поэт-белорусс? В них совсем нет ощущенья Слуцка, слуцкого колорита... Самобытно-белорусских стихов у Богдановича не ищите. Однако, значение его от этого не умаляется, ибо значение Богдановича — в другом, я бы сказал, противоположном, в том именно, что он национализирует на белорусской почве мировое, общечеловеческое. Это — “окно в Европу”»*[130]. *«Это не только первый эстет-поэт, но и первый по-*

у вобразна-абстрактным мысьленьні). Яшчэ больш цікава, што падобным чынам Клейнбарт супрацьпастаўляе Купалу Коласу: *“...в то время как Купала прежде всего воспринимает художественный материал ухом, Колас прежде всего воспринимает его глазом”* (Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 217). Я абсалютна згодны тут з Клейнбартам: паводле свайго паэтычнага мысьленьня Колас (перадусім у лірыцы) заўжды здаваўся мне бліжэйшым да Багдановіча, чым да Купалы, але ж застанемся пры “купалаўска-багдановіцкім” падзеле як пры больш гранічным. Дык вось, нейкі сінтэз між гэтымі дзьвюма абазначанымі тэндэнцыямі назіраўся ў 1920-я гг.: сам Клейнбарт лічыць, што такі сінтэз ажыцьцявіў перадусім Дубоўка (Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 423), але гэта справядліва і ў дачыненьні многіх іншых паэтаў: Жылкі, Грамыкі, Хадыкі, Дарожнага, Таўбіна, Кавыля... З прычынаў, якія я разгледжу ніжэй, у пазьнейшыя савецкія часы адназначную перамогу атрымаў купалаўскі “вэрбалізм”, што, як ні дзіўна, квітнее ў беларускай паэзіі й сёньня, у часы так званага постмадэрну, тады як “ад Багдановіча” ў ёй засталося толькі павярхоўнае, фармальнае штукарства, а рэшта была фактычна адкінутая як нешта залішне “мадэрновае”.

129 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 142–143.

130 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 144.

*эт-философ Белоруссии... первый городской, именно городской поэт Белоруссии — первый символист-импрессионист, идущий от Фета... (Заўважма: таго самага багданаўскага “барского” Фета. — М. Шч.) Это эпоха в инструментовке и мелодике стиха... Это — “учитель поэзии для поэтов”, мастер стиха прежде всего, поэт-классик в непосредственном смысле этого слова»*[131].

Бліскуча. Чалавек, які б не разьбіраўся ў паэзіі, такога папросту не напісаў бы. Нягледзячы на тое што фармальныя й тэхнічныя недахопы паэзіі, асабліва ў пачаткоўцаў з народу, ніколі не былі для Клейнбарта асаблівай перашкодай для ўспрыняцьця яе аб’ектыўнай каштоўнасьці (гл. прынамсі цытаваныя намі вершы С. Фруга), ён, сам паэт-няўдачнік, усё-ткі разумеў (у адрозьненьне ад Багданава) яшчэ й такія рэчы, як *“інструмэнтоўка й мэлёдыка верша”,* і ўмеў іх належна ацаніць, зусім чамусьці ня будучы пры гэтым “барскім” снобам. Параўнайма гэта з “інквізітарскай” катэгарычнасьцю Багданава: *“Мыслимо ли с подобными ухищрениями совместить не то что великое, а сколько-нибудь значительное, даже хоть просто разумное содержание? И если даже не идти до таких крайностей, но вообще стремиться к усложнениям и тонкостям формы, то не будет ли это неизбежно лишней растратой сил, ослабляющей дух работы и тем самым принижающей ее смысл? Разве не придется поэту, ради каких-нибудь трудных звуковых соотношений, жертвовать внутренней жизнью образов и идей, подбирая слова к словам? (А ў чым іншым заключаецца спэцыфічна паэтычнае майстэрства? — М. Шч.) ...И главное, пролетарский поэт, не изменяя себе, не может стать на эту точку зрения; она противоречит его классовой природе — духу коллективизма... Пролетарский поэт, следовательно, носит в себе свой коллектив, сливается с ним душою, с ним работает в поэтическом творчестве, как во всяком другом труде и борьбе. Стремление быть ясным для него неизбежно; ибо ясность — это доступность коллективу, это элемент коллективизма”*[132]. (У адказ на падобныя патрабаваньні Ёсіф Бродскі нашмат пазьней скажа: *“Не паэт павінен пісаць на мове народа, а народ размаўляць на мове паэта”.*) Клейнбарт у адрозьненьне ад Багданава адкрыта высьмейвае заявы кшталту *«“Глупства — усялякія там буржуазныя мастацкія тонкасьці і эстэтыка. Гэта — мяшчанства. Даёш грубы натуралізм”, пішет Валожка в “Маладняку Калінішчыны”»*[133].

[131] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 147–153.

[132] Богданов, А. Простота или утончённость? [1920] // О пролетарской культуре. 1908–1924. Ленинград: Книга, 1924. С. 177, 181–182. Гл.: http://dlib.rsl.ru/viewer/01003385705#?page=1.

[133] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 481.

З нашага гледзішча можа здацца досыць схематычным, што, пішучы пра беларускіх аўтараў, Клейнбарт нязьменна "падганяе" іх пад паралелі зь лепей вядомай яму расейскай культуры (гэтак, Колас пара́ўноўваецца з Клюевым[134], Пушча — зь Ясеніным[135], Крапіва — зь Бедным[136], Чорны — з Горкім[137]), аднак нельга забываць, што кніга прызначаная перадусім для расейскага чытача, які на той час мае досыць цьмянае ўяўленьне пра беларускую літаратуру[138]. Нягледзячы на гэта, зь ягонымі ацэнкамі большыні аўтараў можна пагадзіцца й цяпер; некаторыя (і сёньня яшчэ, на жаль, агульнапрынятыя, як пра Купалу й Коласа[139]) тэзы наўпрост пераймаюцца Клейнбартам з тагачаснай беларускай крытыкі. Для таго, хто добра зь ёю знаёмы, Клейнбартава кніга ня будзе нейкім адкрыцьцём, аднак у ёй, на маю думку, імпліцытна ўтрыманае адно "прароцтва", якога сам Клейнбарт на момант выданьня кнігі яшчэ ня мог разумець і якое яму пазьней зразумець далі — так бы мовіць, на ўласнай скуры.

## 9

Галоўнай праблемай ня толькі разьвіцьця беларускага грамадзтва, але й самой бальшавіцкай рэвалюцыі былі ўзаемаадносіны між горадам і вёскай, рабочымі й сялянствам. Супярэчлівасьць гістарычнай ролі й інтарэсаў апошняга ясна ўсьведамляецца Клейнбартам, аднак жа менавіта гэтае сялянства зь яго беларускай культурай і мовай, канец канцоў, зьяўляецца ягоным "падабаронным", таму ён спрабуе пераканаць сябе й свайго "ідэалягічна падкаванага" чытача ў прынцыповай прагрэсіўнасьці, то бок прарэвалюцыйнайсьці й прабальшавіцкасьці селяніна, у якой не да канца ўпэўнены сам.

З аднаго боку, ён імкнецца даказаць, што "рэвалюцыі", так бы мовіць, няма чаго баяцца эмансіпаванага селяніна й ягонай культуры: *"белорусская литература... лишена привкуса, который имеет всякая исключительность. [...] Этой исключительности, этого национализма в ковычках у наших сыновей дерев-*

[134] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 187.

[135] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 413.

[136] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 430.

[137] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 436.

[138] У 1930 г. у Маскве выйдзе выбранае Купалы па-расейску з прадмовай Клейнбарта.

[139] *"Купала — романтик, частью символист. Якуб Колас, напротив, реалист чистой воды... Он (Купала), по преимуществу, лирик, в то время как Колас, по преимуществу, поэт-эпик"* (Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 214.) Зрэшты, і тут Клейнбарт, з уласьцівай яму тонкасьцю, лішні раз паўтарае: *"по преимуществу"*.

*ни… конечно, нет”*[140]. І быць, маўляў, ня можа, а калі й ёсьць, то ня страшна, бо *“белорусс, по самой своей исторической природе, не инициативен”*[141] (толькі чалавек, які жыў між беларусаў, мог гэта прыкмеціць). Як адзін з доказаў беларускай безыніцыятыўнасьці глядзіцца цьверджаньне Клейнбарта пра *“…любопытное отличие белорусского мужицкого движения от общерусского… Здесь… почти отсутствовали эксцессы, как-то: разгромы усадеб, поджоги амбаров и овинов с хлебом, крестьянский террор и т. д.”*[142]. Што да беларускага адраджэнцкага й незалежніцкага руху, то, маўляў, *“достаточно вдуматься в этот национал-демократизм, чтобы увидеть, что он не так расплывчат, как это может казаться на первый взгляд. В самом деле, кто такой белорусский народ в его целом? Да белорусское крестьянство, белорусский пролетариат”*[143]. Менавіта ў гэтым кантэксьце Клейнбарт найбольш зацята бароніць свайго ўлюбёнца і колішняга “пратэжэ” Купалу: *«“…имели место попытки представить Купалу как поэта чисто национальных мотивов, лишь как националиста-“возрожденца”. Однако, творчество поэта невозможно уложить лишь в эти рамки… Он подошёл вплотную к экономике народа, громко, смело воспев страдания его…»*[144].

Фактычна, ідэалягічная задача Клейнбарта ў *“Молодой Белоруссии”* “вельмі простая”: даказаць уласную тэарэму пра тое, што беларускае сялянства = беларускі пралетарыят, як той казаў, *“адзіная да канца рэвалюцыйная кляса”*. І ён шчыра спрабуе даказаць яе, адмаўляючыся бачыць у ёй апорыю, — з тым жа імпэтам, як да рэвалюцыі “нахабна” даказваў, што існуе нейкая “трэцяя” ўсходнеславянская, нікому не вядомая й па вялікім (так бы мовіць, талстоўска-дастаеўскім) рахунку “не патрэбная” беларуская культура й літаратура — хаця, у духу з патрабаваньнямі новага часу, яму нашмат прасьцей было адмовіцца як ад гэтай тэарэмы, так і ад сваіх дарэвалюцыйных “меншавіцкіх” поглядаў. Але ён, як той Галілей, упарта працягвае казаць, што “яна круціцца”, — ну як жа, вось перад ім стосы пісьмовых доказаў ягонай рацыі!

З гэтай нагоды Клейнбарт кліча на дапамогу беларусам сваіх супляменьнікаў, якія насамрэч у дарэвалюцыйнай Беларусі й складалі пераважную большасьць пралетарыяту: *«…ещё на международном социалистическом конгрессе еврейско-белорусский пролетариат*

[140] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 26.

[141] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 176.

[142] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 69.

[143] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 117–118.

[144] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 180–181.

*характеризовался как “авангард рабочей армии России”... Разумеется, главным деятелем движения являлся “Бунд”... Но как провести здесь грань между рабочим-евреем и рабочим-белоруссом, который поднял факел своего классового сознания?»*[145]. У літаратуры ўзорам пралетарскага пісьменьніка зьяўляецца ня хто іншы, як Клейнбартаў зямляк Цішка Гартны: *“Гартный прежде всего интернационалист. Родной народ, родная Белоруссия — уже частность, хотя и частность, с которой он наиболее кровно связан. У Купалы, у Коласа, напротив, на первом месте — свой край, своя родина, затем уже — земной шар и вся вселенная”*[146]. Нацыянальныя пачуцьці ў Гартнага, як і патрабуецца даказаць, ідуць упоравень з клясавымі, што падмацоўваецца цытатай: *“Газета на родном языке меня настолько поразила, настолько затронула пролетарские мои чувства (падкрэсьлена мной. — М. Шч.), что я пережил полное откровение. Ни книг, ни газет не печаталось на белорусском языке. Вся интеллигенция говорила лишь по-русски. И вдруг... о, я тоже стану писать на материнском языке!”*[147]. І каб ні ў кога не заставалася ніякіх сумневаў: *“Лишь советский манифест объявляет Белоруссию независимой Республикой (БССР), белорусский язык, язык белорусских трудовых масс, — языком государственного масштаба”*[148].

Але што ж рабіць зь сялянствам, без чыёй мовы й культуры беларускай літаратуры нельга сабе ўявіць? Што рабіць, калі ў тым жа *“Дубовке сидит крестьянин, чувствующий себя истинным творцом слова. Меткость крестьянской речи столь же известна, как и её оригинальность”*[149]? Значыць, трэба прынамсі паказаць, як селянін “перавыхоўваецца” горадам, як *“город растёт на счёт белорусса-мужика... Это он заполняет кадры белорусского пролетариата и полупролетариата”*[150]. Толькі вось апісачка (ці абдрукоўка) выходзіць: сапраўды, не *“на счёт”*, а ўсё болей *“за счёт”*...

Не, пільных “інквізітараў” не падманеш. Той жа Багданаў яшчэ ў 1918 г. пісаў: *«Крестьяне, мелкие хозяева, в своей массе тяготеют к индивидуализму, к духу личного интереса и личной собственности; это “мелкая буржуазия”... Посмотрите на крестьянскую поэзию, — уж не говорю про дореволюционную, а на самую современную, лево-эсеровскую; хотя бы “Красный звон”, сборник талантливых поэтов Клюева, Есенина и других. Тут всюду фетишизм “землицы”,*

145 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 64–65.

146 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 235.

147 Цішка Гартны. Цыт. паводле: Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 232.

148 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 243.

149 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 425.

150 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 336.

*основы своего хозяйства... (Тое, што закідалася ў сувязі з “Новай зямлёй” Коласу. — М. Шч.) Всё это как нельзя более чуждо сознанию социалистического пролетариата»*[151]. Прыкметна, што калі Багданаву трэба зганьбіць “барского” Фета, дык ён супрацьпастаўляе яго *“низменным существам... у которых интересы вращаются вокруг скота и удобрения”*, а вось калі гаворка заходзіць пра пралетарыят, то *“существа”* раптоўна робяцца такімі ж *“барскімі”*, як сам Фет, што на практыцы значыць — яшчэ больш *“низменными”*...

Ведама ж, Клейнбарт і сам усьведамляе неадназначнасьць стаўленьня сялянства да рэвалюцыі, гэтаксама як і хісткасьць (з гледзішча артадаксальнага марксізму) уласнай ідэалягічнай пазыцыі. Каб “інквізітары” займелі да яго большы давер, ён лічыць патрэбным і пакрытыкаваць дзе-нідзе сялянства: *«Белорусское крестьянство признавалось всё же и Богушевичем, и Неслуховским основой, квинт-эссенцией белорусского национализма. Шляхетская Белоруссия, торговое еврейство достойны лишь презрения в их глазах. Е. Ф. Карский в своих “Белоруссах” отмечает юдофобский душок у Богушевича, у Неслуховского, тот самый, который имел место и у народовольцев 80-х гг.»*[152]. Крытыкуе ён і маладых пралетарскіх паэтаў, якія яшчэ ня ўмеюць як сьлед прыкідвацца пралетарамі й часьцяком перабольшваюць, як, прыкладам, Чарот: *«Но кто является героем её? (Паэмы “Босыя на вогнішчы”. — М. Шч.) Люмпен-пролетарий, тот самый, который, по теории марксизма, столь почитаемой поэтом, является фактором разрушения, только разрушения...»*[153]. Або, прыкладам, Дудар, чыя песьня, *«несомненно, плачет по “скандалисту”»*, то бок па тым самым нябожчыку Ясеніне, ідэалізуе “хуліганства”[154]. Але ж тут жа трэба й падкрэсьліць, што ёсьць у некаторых беларусаў і сапраўднае разуменьне пралетарскай культуры: *“Д. Жилунович, конечно, прав... Герои Чарота и говорят языком люмпен-пролетариата”*[155].

Больш трагічна, аднак, тое, што Клейнбарту не ўдаецца перахітрыць ня толькі “інквізітараў”, але ані сябе самога — як чалавек шчыры, ён ня мае права ўтойваць праўды, якой бы яна ні была для яго асабіста непрыемнай. Ён ня можа ня бачыць, што ў новых умовах панаваньня пралетарскай культуры *“что-то задерживает рост молодых талантов, что они так же быстро отцветают, как расцветают”*[156], што іхныя “пралетарскія песьні” ёсьць няшчырымі,

[151] Богданов, А. О пролетарской культуре. С. 159–160.

[152] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 50.

[153] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 379.

[154] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 395–396.

[155] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 379.

[156] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 425.

слабымі, вымушанымі, што *“контраст между городом и деревней — вот обо что спотыкается Дубовка, как и Пушча”*[157], што *“большевизм города не оказался мужицким большевизмом”*, што *“чему-то объявлена война…”*[158]. У ліхаманкавым пошуку адказаў ён зьвяртаецца да аднаго зь нешматлікіх бальшавіцкіх аўтарытэтаў у галіне культуры, а менавіта да Троцкага й ягонай кнігі *“Литература и революция”*: *“Что же такое наша революция, если не бешеное восстание против стихийного, бессмысленного, биологического автоматизма жизни, то есть, против мужицкого корня старой русской истории?”*[159]. Цяпер відавочна, што *«в Дубовке же, как и Пушче, мужицкие корни сидят глубоко, а значит, и тот “автоматизм”, о котором пишет Троцкий»*[160]. Значыць, гэты “аўтаматызм” давядзецца рана ці позна з гэтымі каранямі вырваць…

Урэшце, Клейнбарт вымушаны прызнаць: *“Не раз предавал дело революции мужик — в Белоруссии, как и в других местах”*[161]. І што *“в историю революции вошёл не только напор мужика на помещика, но и напор мужика на город. Город 1918–19 гг. расхищался деревней. 17-й век в своей архаической оболочке наступал на город. И если революция удержалась, то потому, что удержался на своих путях город”*[162]. І самае, бадай, балючае для Клейнбарта прызнаньне палягае ў наступным: *“Ведь крестьянской революции не было нигде и никогда”*[163]. А гэта значыць, што як ты ні круці, а бальшавіцкая рэвалюцыя была зьдзейсьненая не ў інтарэсах самога сялянства, якое праз гэта ёй і супраціўлялася, а значыць і не ў інтарэсах беларускай сялянскай нацыі.

*“Город или деревня? Вот вопрос…”*[164], — па-гамлетаўску ўздыхае Клейнбарт. Аднак, будучы аптымістам, спадзяецца на будучыню: *“Деревня ещё со <u>страхом</u> (падкрэсьлена мной — так, страх ужо сапраўды лунаў у паветры. — М. Шч.) глядит в глаза городу. Но растёт, всё же растёт то, что наступает на власть соломы и сермяг”*[165]. *“Белорусский город — город будущего. И городской, вернее, рабочий поэт — поэт будущей Белоруссии”*[166].

---

157 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 428.

158 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 428.

159 Цыт. паводле: Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 430.

160 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 430.

161 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 434.

162 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 458.

163 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 438.

164 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 446.

165 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 490.

166 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 457.

Клейнбарт нібыта прадчувае, але да канца сам ня можа паверыць, што ў выніку ня вёска прыйдзе ў горад, а горад прыйдзе на вёску разам зь яшчэ трыма “жалезнымі канямі” — Калектывізацыяй, Пралетарызацыяй і Русіфікацыяй; што неўзабаве будзе й сам ён *“задавлен городом”*[167] — разам з тымі, хто зьяўляецца героямі ягонай кнігі, то бок разам з *“Молодой Белоруссией”*. У імя пабудовы *“государства чистого духа и всеобъемлющей любви”* беларусы, яшчэ не да канца сфармаваўшыся ў нацыю (гэта значыць, парадаксальным чынам, не засвоіўшы яшчэ як сьлед *уласнай* культуры), будуць змушаныя да “самаадмаўленьня”. Як мог Клейнбарт забыцца, што ягоны “зямляк” Багданаў яшчэ ў 1919 г. у артыкуле *“Пролетарская культура и международный язык”* (дзе сярод іншага прапаноўваў скасаваць надта складаныя дзейныя правілы ангельскай арфаграфіі як “барбарскі перажытак”) пісаў: *“Следует ли из этого, чтобы культурная позиция пролетариата в области языка должна была сводиться к пассивному ожиданию результатов стихийно идущего процесса? Очевидно, нет: здесь, как и в других областях, задача заключается в том, чтобы внести в развитие планомерность — выяснивши его тенденцию, поддерживать её и устранять противодействия ей (падкрэсьлена мной. — М. Шч.), словом — сознательно идти по линии жизни...”*[168]. У адрозьненьне ад Клейнбарта Багданаў быў рэалістам: ён ведаў, што *“мелкие нации, наверное, займут реакционную позицию”*[169], і ўжо тады не зьбіраўся зь імі цырымоніцца.

**10**

Дазволю сабе тут адно лірычнае адступленьне, вяртаючыся да тэмы “адкрыцьцяў”: адно зь іх калі ня зробленае, дык уголас вымаўленае Клейнбартам ужо на першай старонцы *“Молодой Белоруссии”*. А менавіта: *“История белорусской литературы, начатой с Купалы, — история литературной народности”*[170]. Іншымі словамі, безь літаратуры беларускага адраджэньня беларусаў як нацыі не адбылося б, што бясспрэчна. З гэтым, аднак, зьвязаны й яшчэ адзін аспэкт, які Клейнбарт у сваёй абароне беларускай ідэі несупынна (для марксістаў) падкрэсьлівае: беларускі пісьменьнік — гэта перадусім пісьменьнік праўдзіва *народны*, то бок выхадзец з простага народу, прадстаўнік яго нацыянальных і адначасова клясавых інтарэсаў[171],

[167] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 448.

[168] Богданов, А. О пролетарской культуре. С. 329–330.

[169] Богданов, А. О пролетарской культуре. С. 332.

[170] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 5.

[171] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 17, 18, 21.

у значнай ступені падпарадкаваны менавіта гэтым інтарэсам, а ня толькі нейкім уласным суб’ектыўным, індывідуалісцкім эстэтычным і ідэйным пошукам (то бок не літаратуры, не сваёй прафэсіі як такой, а “вышэйшай Ідэі”, якую нясе гэтая літаратура), а таму ён мае права на існаваньне перадусім (калі не выключна) менавіта як “голас народу”, выразьнік яго інтарэсаў. З самага пачатку ягонае дачыненьне да літаратуры — апасродкаванае, бо пасярэднікам між ім і літаратурай выступае сам Народ (гэткі “непагрэшны” *arbiter elegantiarum*), якому беларускі пісьменьнік хоцькі-няхоцькі служыць сваёй літаратурай ад першага дня існаваньня беларускага пісьменства — да сёньня[172].

Праблема, аднак, у тым, што ў новых умовах народ (інтарэсы якога да рэвалюцыі фармулявалі пераважна акурат пісьменьнікі, *“грамотные”*, тыя, каго ў нас ужо толькі за адно гэта любяць называць “элітай”) пазбыўся права голасу, бо яго “сапраўдныя” інтарэсы нібыта разумелі толькі камуністычныя ідэолягі й правадыры, якія іх народу (і ў тым ліку пісьменьнікам) і дыктавалі. Таму ў часы, калі меркаваным рупарам народных інтарэсаў была партыя, пісьменьнік служыў партыі, якая раўніва дбала пра тое, каб пісьменьнік быў бліжэйшы да яе, чым да народу, і ўсяляк “падтрымлівала” пісьменьніка, дзелячыся зь ім сваімі прывілеямі, адрывала яго ад ягонага асяродзьдзя, спакушала ўсё тым жа горадам... Калі ж згаданым рупарам народных інтарэсаў пры канцы 1980-х абвясьціла сябе новая хваля адраджэньня, былы савецкі пісьменьнік з той жа адданасьцю пачаў служыць Адраджэньню, прычым без усякай пераацэнкі ўласных каштоўнасьцяў (ані ўласнай асабістай мінуўшчыны), ня кажучы пра пераацэнку сваіх мастацкіх прыёмаў ці чагосьці падобна незразумелага паспалітаму люду, які не перастае быць ягоным адрасатам нават пасьля таго, як перастаў быць ягоным чытачом. Бо ў беларускага пісьменьніка, апроч Народу, няма й ня можа быць іншага адрасата, таму ён па-ранейшаму працягвае любіць свой народ і пасьля таго, як той надзяліў яго гарбузом. Во дзе, сапраўды, цудадзейная штука любоў!

Адылі — ну каму патрэбны наш пісьменьнік, апрача “народу”? Надта ж доўга вучылі яго на гэты народ азірацца... Як сьведчыць ужо сама этымалёгія слова, “народ” як маса ў прынцыпе арыентава-

[172] Тое самае з мовай: мова беларускага пісьменьніка належыць не яму, а Народу, таму не яна служыць пісьменьніку ў якасьці выразовага сродку ці інструмэнту, а пісьменьнік служыць Мове. Калі мова ёсьць чымсьці сьвяшчэнным, то пісьменьнік набывае функцыю гэткага сьвятара, “сьвяшчэннаслужыцеля”. Адсюль таксама традыцыйна высокі аўтарытэт крытыкамовазнаўца, які ацэньвае пісьменьніка й ягоную літаратуру перадусім з гледзішча іхнай адпаведнасьці Мове й моўнай традыцыі; адсюль і фактычная рэдукцыя такімі крытыкамі (а пад іхным уплывам і аўтарамі) паэтыкі на рыторыку.

ны на захаваньне роду як найвялікшай каштоўнасьці — адсюль гэты яго *“біялягічны аўтаматызм”*, пра які пісаў Троцкі, ці *“ідыятызм вясковага жыцьця”*, пра які пісаў Маркс, уласьцівы беларусам (і іх пісьменьнікам) ня ў меншай (калі ня ў большай) ступені, чым каму іншаму[173]. “Роднае слова”, “Родныя дзеці”, “народны пісьменьнік Беларусі”, “адраджэньне” — ува ўсіх гэтых клішэ савецкага часу, якія сваім кожнаму відавочным фальшам “упрыгожвалі” закуткі школьных кабінэтаў белмовы, рэхам аддаецца спрадвечны беларускі калектывізм — калектывізм менавіта біялягічны, які ў прыродзе называецца статкавасьцю. Таму пісьменьнікі ў нас за савецкія часы вырасьлі ў гэткі свайго кшталту эрзац-народ, і стасункі ў іхным асяродзьдзі заўжды вызначаліся не спэцыфічна літаратурнымі каштоўнасьцямі, а апасродкавана, каштоўнасьцямі “народнымі” (*“абы чалавек быў харошы”*), зямляцкімі, суседзкімі, сяброўскімі й г. д. Біялягічныя “народныя” каштоўнасьці паступова сталіся ці не *raison d’etre* самой літаратуры: як і для народу, для літаратуры галоўным зрабілася простае выжываньне, сам факт яе існаваньня ці, як сказаў хтосьці з сучасных беларускіх нацыяналістаў (а нацыяналізм ёсьць толькі больш “модная” рэінкарнацыяй колішняга “народніцтва”), захаваньне й рэпрадукцыя “элітаў”.

Гэтая, з дазволу сказаць, плябейскасьць беларускай літаратуры — насамрэч спадчынная. Нездарма мы перажываем сёньня анахранічны (постмадэрновы?) уздым усякіх “сармацкіх” і “ліцьвінскіх” праектаў самасьвядомасьці, цікавасьці да ВКЛ і г. д.: беларусам не дае спакою відавочны недахоп шляхецкай мінуўшчыны, якая нібыта была “замоўчаная” ў савецкія часы й *“сьцертая з памяці народнай”* (вось жа не, “сьцертая з памяці” шляхецкая мінуўшчына была самім нацыянальна-дэмакратычным, плябейскім праектам беларусаў, самім іхным поклічам *“Людзьмі звацца!”*). Акурат праз адсутнасьць уласнай арыстакратыі ў беларускай літаратуры фактычна не было ані ўласнага рамантызму (гэтай крыніцы творчага індывідуалізму *par excellence*) — з тым большым імпэтам беларусы прэтэндуюць сёньня на таго ж Міцкевіча й наагул на супольную з палякамі спадчыну, бо сваіх Купалаў і Коласаў ім раптоўна мала, некаторыя ў імя сьцьвярджэньня ўсё таго ж уласнага індывідуалізму ад іх адхрышчваюцца. Аднак індывідуалізм гэты (запозьнены), асабліва ў часы сацыяльных сетак і “сэрыйнага вырабу” “індывідуума”-спажыўца

173 Нездарма згаданая мною вышэй “постчарнобыльская” ідэалёгія Шаўцова робіць такі акцэнт на выжываньне, досьвед якога называе “духоўным”, — праўдзіва беларуская канцэпцыя. Бо ў беларусаў біялягічнае й ёсьць духоўным — нічога іншага ў гісторыі, апроч выжываньня, яны як маса й не дасягнулі. Дзіўна было б, скажам, рэдукаваць духоўны досьвед палякаў на тое, што яны як нацыя ўсяго толькі “выжылі” ў XX ст.

капіталістычнай прамысловасьцю, у тым ліку культурнай і выдавецкай, выклікае ў мяне, выбачайце ўжо, пэўныя сумневы. Як на мяне, дык пад засьняю "індывідуалізму" па-ранейшаму вядзецца пра ўсё тое ж служэньне таму самаму народу — той, праўда, цягам апошняга дзесяцігодзьдзя масава перакачаваў у віртуальную прастору, якую (ці не ўпершыню ў сваёй гісторыі) пасьпяхова "калянізаваў" і цяпер запраўляе там у блогах і на форумах, адзіных даступных яму дзялянках "дэмакратыі". Пісьменьнік па-ранейшаму выносіць свае творы на суд народны, хіба што з большай хуткасьцю, і піша перадусім з аглядкай на гэты "новы", "прасунуты" інтэрнэт-народ (якому можна дагадзіць самымі рознымі спосабамі, часам неабавязкова зь ім нават пагаджацца — галоўнае выявіць свой да яго "патрыятызм", то бок прызнаць за ім права выносіць вырак, пацьвердзіць яго ў званьні "арбітра"). Калі пры Клейнбарту *"гісторыя беларускай літаратуры была гісторыяй літаратурнай народнасьці"*, то сёньня гэта — гісторыя народнасьці віртуальнай, то бок не народнасьці чытачоў, а народнасьці перадусім аўтараў (аффтараў ці аватараў), толькі часьцей ня твораў, а "посьцінгаў".

І яшчэ адно "дробнае" й гэткае "ненаўмыснае" адкрыцьцё Клейнбарта, якое аказалася для беларускай літаратуры прарочым: зьвяртаючы ўвагу на самых "кансэрватыўных" аўтараў "Нашай Нівы", Альбэрта Паўловіча й Ядвігіна Ш., Клейнбарт называе іх *"эпігонамі народніцтва"*[174] — вядома, у тагачасным сэнсе слова: у творчасьці яны, паводле Клейнбарта, арыентаваліся перадусім на Багушэвіча й найболей супраціўляліся публікацыі твораў, *"не зразумелых простаму люду"* (прыкладам, вершаў Багдановіча). Я, у сваю чаргу, зацемлю, што пасьля разгрому "пралетарскай літаратуры" й рэпрэсіяў 1930-х гг. у беларускай літаратуры зноў-такі настаў доўгі пэрыяд эпігонства, пераймаліньня дарэвалюцыйных "народных" клясыкаў (у адпаведнасьці з патрабаваньнямі Багданава й сацыялістычнага рэалізму Лукача-Жданава, прасьцей кажучы — з густамі Сталіна), калі нават самі клясыкі (тут як нідзе дарэчы трагічны прыклад Купалы) пачалі насьледаваць самі сабе (!), па-ранейшаму апэлюючы да Народу, які ўсё болей ператвараўся ў *flatus vocis*, тым часам як рэальны народ, ужо не пазнаючы сябе ў гэтым мітычным Народзе, памалу дэгенэраваў і зноў ператвараўся ў "тутэйшых", у насельніцтва. Гэтак колішняя спантанная "народнасьць" беларускай літаратуры ператварылася з ідэйнага падмурку ў "надмагільны камень", а сама на доўгі час закансэрваваная пад ім літаратура — у карыкатуру самой сябе (то бок у прынцыпе — у праўдзівае люстэрка культурнай дэгенэрацыі народу). Прычым гэтай карыкатурнасьці пад выглядам *"вяртаньня да праўдзівых*

[174] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 125–131.

*вытокаў”* не пазьбегла ў тым ліку ані большыня аўтараў эміграцыі. У прыватнасьці, у паэзіі адной з галоўных прыкметаў “народнасьці” літаратуры зьяўляецца патас, патэтыка (ад “цярпець”, “пакутаваць”), таму патас (як грамадзянскі, так лірычны) і наагул неўтаймаваная пачуцьцёвасьць сталіся ў нас ледзь не сынонімамі паэзіі як такой... Беларускія пісьменьнікі папросту *“загуляліся ў адраджэньне”*. Але я ня буду настойваць на тым, каб больш абазнаны ў пытаньні чытач пагаджаўся тут з маім прыватным меркаваньнем.

Адным словам, калі Клейнбарт “не цікавы”, то, бадай, толькі таму, што сам марксісцкі падыход да літаратуры ня ёсьць настолькі ўжо цікавым з гледзішча сучаснага роўню разьвіцьця літаратурнай тэорыі. Што ў прынцыпе ня можа замінаць нам чытаць сёньня Клейнбарта па-іншаму.

**11**

Страх прысутны на старонках *“Молодой Белоруссии”* ня толькі прыхавана, але й эксьпліцытна — хай усяго ў некалькіх зносках, сьпехам дададзеных, відаць, перад самым выданьнем кнігі. Напрыклад, на старонцы 349: *“Эти строки автора относятся к 1925–1926 г.г. В настоящее время во многом изменилась группировка белорусских литературных сил. Редакция”*. Важна тут нават ня тое, што ўсяго за два гады *“групіроўка літаратурных сіл”* змагла *“ў многім зьмяніцца”*, а што “Рэдакцыя” ў гэтай сувязі перакладае ўсю адказнасьць зь сябе на аўтара, асьцярожна аддзяляецца ад яго. Зрэшты, і сам Клейнбарт стараецца карэктаваць сябе ў духу патрабаваньняў новага часу[175], але ўсё-ткі ня можа да канца “даць рады” сваёй шчырасьці. Гэтак, ён дазваляе сабе крытыкаваць такога расейскага клясыка, як Бялінскі, называючы яго *“неистовым Виссарионом”* за ягонае шавіністычнае стаўленьне да Шаўчэнкі і ўкраінскамоўнага пісьменства[176]; прызнае (у часы, калі на польска-савецкіх межах штодня ловяць “шпіёнаў”), што ў XIX ст. беларусам *“уже сама по себе структура польской государственности могла более импонировать, чем русский царизм... Польский народ не знал всё же самодержавия...”* і што *“был в польском движении и демократический элемент”*[177]; зацемвае, што *“одной идеологии, однако, недостаточно в искусстве”*[178]. Калі чытаць гэта ўсё вачыма сталінскага “інквізітара”, то нагодаў паставіць пад

175 “...Вот Л. Троцкий — теперь ушедший с советских высот... — даёт отпор подобным оценкам” (Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 213).

176 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 22–23.

177 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 52–53.

178 Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 366.

сумнеў ідэалягічную надзейнасьць аўтара — болей чым дастаткова. Ці разумеў гэта да канца сам "анахранічны" Клейнбарт? Калі б разумеў, то наўрад ці пісаў бы, што *"ещё в 1920 г. поляки освобождают Минск"*[179], не нагадваў бы лішні раз пра *"связь с Берлином, где печатается ряд изданий"*[180], не прызнаваўся б, што Купала ў сучаснасьці *"держится, видимо, того мнения, что революция разрешила белорусскую проблему, слив национальный момент с социальным"*[181]... І ўжо зусім як падарунак сьледчым па справе "Саюзу вызваленьня Беларусі" выглядае Клейнбартаў наступны "камплімэнт" на адрас беларускай інтэлігенцыі: *«...ни один из "наше-нивцев" не избежал жандармских обысков и царской тюрьмы. У каждого была упрятана нелегальная литература, а то и огнестрельное оружие»*[182]. Вось жа яны якія, гэтыя старыя беларускія нацдэмы — ня толькі балбочуць, але й зброю, магчыма, цішком прыхоўваюць "на чорны дзень"...

Але "інквізітары", здаецца, ужо мелі дастаткова ўласных "доказаў" і ня мелі нават патрэбы ўчытвацца ў Клейнбартаву кнігу — як іначай патлумачыць, што ў "Літаратурнай энцыкляпэдыі" пра Клейнбарта й ягоную *"Молодую Белоруссию"* яны напішуць: *«Факт тесной смычки меньшевиков с национал-фашистами мы легко сможем установить и в Белоруссии. В очерках такого видного меньшевика, как Л. М. Клейнборт ("Молодая Белоруссия", Минск, 1928), помимо антиленинской концепции истории белорусской лит-ры содержится явная апологетика великодержавного шовинизма (! — абсалютная лухта. — М. Шч.). Отрицание им возможности существования белорусской пролетарской лит-ры (! — тым часам як усё зусім наадварот. — М. Шч.) мотивируется тем, что пролетариат Белоруссии — это рабочие низших форм капитализма. К этому следует прибавить старательную защиту Клейнбортом нац.-дем. течений в белорусской лит-ре (кулацкого писателя Дубовки, газ. "Наша нива" и т. п.)»*[183].

На момант разгрому беларускага пісьменьніцтва Клейнбарту ўжо за пяцьдзясят — прыблізна столькі, колькі было на момант іхнага знаёмства "паўзабытаму" Маміну-Сібіраку, і цяпер ужо ён сам апынаецца ў падобным становішчы, на ўзбочыне. Яго арыштавалі, але ў выніку пашкадавалі — ці то дзякуючы ўзросту, ці то колішнім сувязям па рэвалюцыйным руху (а нейкі ўплыў ён захаваў — яшчэ *"за*

[179] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 327.

[180] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 328.

[181] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 202.

[182] Клейнборт, Л. Молодая Белоруссия. С. 111.

[183] Ронис, Я.; Ситковский, Е., Р. К. Меньшевизм в литературоведении // Литературная энциклопедия. Т. 7. Москва. 1934. С. 163–187.

*несколько лет до войны”* званіў сваім даўнім сябрам Серафімовічу й Дзям’яну Беднаму, заступаючыся за Новікава-Прыбоя[184]), ці то нацыянальнасьці — “нацыяналістаў” хапала й сярод саміх беларусаў. Вось вэрсія Крыстафэра Мондэя: *«К 1930 г. арестовано несколько тысяч человек, в том числе и Клейнборт. После 1930 г. дореволюционная интеллигенция была практически полностью уничтожена. В 1931 г. “Литературная энциклопедия” отмечала: “За последнее время Клейнборт выступал как историк белорусской литературы, занимая оппортунические и националистические позиции”. Клейнборт навсегда лишился возможности печататься, его жизнь спас В. Д. Бонч-Бруевич»*[185].

У 1936 г. Клейнбарт піша афіцыйную аўтабіяграфію, якую далучае да просьбы прызначыць яму пэнсію Літфонду, дзе нагадвае “інквізітарам” пра свае колішнія, і немалыя, хай сабе перадусім “папяровыя”, заслугі перад рэвалюцыяй. Да канца жыцьця ён піша ўжо толькі ўспаміны, якія, аднак, нідзе не публікуюцца, — прысьвячае, так бы мовіць, апошнюю трацiну жыцьця яго першай палове, але зноў ня столькі сабе, колькі тым людзям, зь якімі зьвёў яго калісьці спагадлівы лёс. Менавіта паводле гэтых успамінаў можна вызначыць агульную танальнасьць настрою Клейнбарта: да мэлянхоліі й настальгіі, якія ў прынцыпе ўласьцівыя мэмуарнаму жанру, дамешваецца цяпер ледзьве заўважны скепсіс у дачыненьні да колішніх уласных перакананьняў. Нездарма ён у гэтыя гады столькі згадвае свайго колішняга выкладчыка Тугана-Бараноўскага, неартадаксальнага марксіста і ўкраінскага патрыёта, зь якім у свой час па маладосьці гадоў не пагаджаўся. Словы Тугана Клейнбарт прыводзіць з памяці, але нават калі зьмест у іх “туганаўскі”, то фармулёўка яго належыць яму, сучаснаму, памудрэламу Клейнбарту: *“Кто возносит истину, тот равнодушен к пролетариату, к крестьянству. Такова эта нетерпимость, которая Богданова (! — нездарма менавіта яго. — М. Шч.) предпочтет Конту, Достоевскому. Недаром у них так прост переход от одобрения к угроблению. Сегодня — в ноги, завтра — в морду... Я не преувеличу, если скажу: нет другой системы взглядов, которая бы с таким уничтожением, беспримерным уничижением трактовала личность, как система Маркса. Разве — философия Гегеля, столь пришедшаяся ему по уму”*[186].

У якасьці лекавага сродку ад радыкальнага марксізму Туган рэкамэндуе Клейнбарту Дастаеўскага:

---

[184] Клейнборт, Л. Воспоминания. О авторе “Цусимы”. Гл.: http://www.proza.ru/avtor/lpoudy&book=6#6.

[185] Мондэй, К. Л. М. Клейнборт — минский марксист. С. 179.

[186] Клейнборт Л. Встречи. М. И. Туган-Барановский. С. 213.

*«—...Перечитайте “Бесы”. Вы, небось, и не читали их? (Вось яно, горкае спозьненае прызнаньне. — М. Шч.) У нас же еще и не начинают читать Достоевского.*

*— Ну, “Бесы”... это же пасквиль.*

*— Вот... это — привычный масштаб, с которым подходят к этому роману. Это — пасквиль, политический пасквиль. Между тем политика здесь стоит на заднем плане. Не политикой окутан основной замысел романа. Политика здесь не более чем внешность. Корни же “Бесов” уходят в подполье нашей души, в глубины нашей психологии. И в этом плане в нем все нетвердо, все зловеще»*[187].

І яшчэ: *«Когда марксизм народился, мы как-то накинулись на науку, на философию, читали Канта, Рикардо, многое другое. Потом это, как и у народников, отступило перед полунаукой. Знаете, что такое полунаука? Это отсебятина, перед которой отступает сама наука. Это искажение идей и понятий, извращение убеждений хотя бы во имя всеобщего счастья. Это и вытащило идею на толкучий [рынок?], это-то и погубило революцию. Не раз перечитываю я в эти дни “Бесы”. Вот книга будущего. Теперь уже не отмахнуться политическим жестом. Я сижу сейчас над статьей о Достоевском.*

*Казалось бы (падкрэсьлена мной. — М. Шч.), все это так резко загнуто. И, тем не менее, в социализм, как экономический идеал, — единственное средство спасения человечества, — он верил»*[188].

Верыць у яго, мабыць, і састарэлы Клейнбарт, аднак усё меней гэтая вера ўвязваецца менавіта зь ягонымі літаратурнымі захапленьнямі й густамі, з самой ягонай натурай “дарэвалюцыйнага” інтэлігента. На жаль, ён не ўсьвядоміў раней таго, што ўсьвядоміў, прыкладам, ягоны маладзейшы чэскі сучасьнік, філёзаф Богуслаў Броўк: *“Камунізм, які ёсьць найпасьлядоўнейшай экстравэрсійнасьцю ў гісторыі, пакінуў тым, хто яго вызнае, толькі голую рэальнасьць... Марксізм не спарадзіў і не спародзіць ніводнага творцы, бо не зважае на ірацыянальнасьць духу і каштоўнасьць псыхеі як самамэты. Усякая разумовая дзейнасьць ёсьць для яго толькі ўздапаможнай у дачыненьні да дзейнасьці фізычнай, мэтай якой заўжды ёсьць вынік, вечная дзея... Творца непатрэбны камуністычнаму грамадзтву. [...] Распазнаўшы заганнасьць камуністычнай ідэалёгіі ў якасьці псыхалягічнага падмурку для мастацкай дзейнасьці, няма патрэбы доўга тлумачыць ані прычыны адмоўнага стаўленьня камунізму да мастацтва як да чужароднага элемэнту, які зусім яго не цікавіць”* (“Псыхалягічнае значэньне марксісцкай ідэалёгіі”. 1931)[189].

---

187 Клейнборт Л. Встречи. М. И. Туган-Барановский. С. 209.

188 Клейнборт Л. Встречи. М. И. Туган-Барановский. С. 220–221.

189 Гл.: Bohuslav Brouk. Na obranu individualismu. Praha: Academia, 2014. S. 261–263. Пераклад мой. — М. Шч.

Да падобнай высновы прыходзіць урэшце й Клейнбарт ува ўспамінах пра Туган-Бараноўскага, калі цытуе настаўнікавы вершы:

*“Но небо видно с яркими звездами,*
*И чудный свет блестит порой.*
*Так — ангел мира с белыми крылами —*
*Смерть тихо реет над землей.*

*Вот он, тот строй души, которого не хватало ни Марксу, ни Бельтову… Недаром Туган-Барановский начинал уже расходиться с ортодоксальным марксизмом…”*[190].

Сваё доўгае жыцьцё (як на XX ст. — дык нават вельмі доўгае, асабліва калі ўзяць пад увагу нацыянальнасьць і род заняткаў) Клейнбарт заканчвае ў 1950 г. у Доме састарэлых вучоных у Ленінградзе (паводле іншых сьведчаньняў, усё-ткі ў Лясным[191]), да апошняга дня вяртаючыся ў думках у такі дарагі ягонаму сэрцу Пецярбург пачатку стагодзьдзя. Гэтае жыцьцё, нягледзячы на ўсе пэрыпэтыі (ня выключана, што пажылому Клейнбарту давялося нейкім дзівам перажыць яшчэ й блякаду Ленінграда), бадай, аказалася больш шчасьлівым за лёс Клейнбартавай спадчыны, якая толькі цяпер пачала вяртацца да нас. Часам самымі нечаканымі шляхамі: калі брат Клейнбарта Марк эміграваў з жонкай у Амэрыку, яны ўзялі з сабою частку рукапіснага архіву Клейнбарта, рэшту перадаўшы *“частью в Пушкинский дом, часть — в музей Горького, кое-что в Белорусский музей”*[192]; “амэрыканская” частка матэрыялаў была ня так даўно апублікаваная ў інтэрнэце расейскім літаратарам-эмігрантам Леанідам Паўдзі. Вельмі спадзяюся на тое, што ўнёскам у гэтае вяртаньне — ня толькі ў Расею, але і ў родную Клейнбартаву Беларусь — стане й акурат дачытаны вамі артыкул.

*Сьнежань 2014 г.*

190 Клейнборт Л. Встречи. М. И. Туган-Барановский. С. 204.

191 Пауди, Л. [Уступны артыкул да “Воспоминаний” Клейнбарта]. Гл.: http://www.proza.ru/avtor/lpoudy&book=6#6.

192 Пауди, Л. [Уступны артыкул да “Воспоминаний” Клейнбарта].

***Юры Грыбоўскі,***
***Мажэна Грыбоўская***
*Варшава*

# ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА ДУШПАСТЫРСТВА РЫМА-КАТАЛІЦКАГА ВЕРАВЫЗНАНЬНЯ Ў ЛЯГЕРАХ DP НА ТЭРЫТОРЫІ НЯМЕЧЧЫНЫ (1945–1951)

Пасьля заканчэньня Другой сусьветнай вайны пэўная колькасьць беларусаў апынулася на чужыне. У першыя пасьляваенныя гады найбуйнейшым асяродкам беларускай эміграцыі былі тры заходнія зоны акупацыі Нямеччыны. Беларусы побач з эмігрантамі іншых нацыянальнасьцяў з цэнтральна-ўсходняй Эўропы атрымалі статус дыпісаў — перамешчаных асобаў (*Displaced Persons*) — і знаходзіліся пад апекай Адміністрацыі аб'яднаных нацыяў па справах дапамогі і адбудовы (*United Nations Relief and Rehabilitation Administration — UNRRA*), а ад 1947 г. — Міжнароднай арганізацыі ўцекачоў (*International Refugee Organization — IRO*). З шэрагу прычынаў складана вызначыць дакладную колькасьць беларусаў сярод дыпісаў. Згодна са зьвесткамі, якія ўтрымліваюць альянцкія крыніцы, у 1947–1951 гг. праз лягеры *DP* прайшло толькі 5147 асобаў, якія падавалі беларускую нацыянальнасьць[1]. У сапраўднасьці іх лічба была значна большая. Польскія крыніцы падавалі, што сярод дыпісаў, якія паходзілі з Другой Рэчы Паспалітай, беларусаў было каля 30 тысячаў[2]. У гістарыяграфіі можна таксама сустрэцца з інфармацыяй пра тое, што каля 100 тысячаў жыхароў Беларускай ССР (у межах 1945 г.) пасьля вайны засталіся на эміграцыі[3]. Пэўную частку беларускіх дыпісаў складалі прадстаўнікі інтэлігенцыі. Дзякуючы намаганьням гэтых людзей былі створаныя беларускія лягеры *DP*. У амэрыканскай зоне акупацыі паўсталі між іншым лягеры ў Рэгенсбургу (пазьней перанесены ў Міхельсдорф) і Віндзішбэргердорфе. У сваю чаргу, у брытан-

[1] Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Менск, 2010. С. 60.

[2] Instytut Polski i Muzeum im. gen. Sikorskiego (далей — IPMS). Białoruskie uchodźstwo niepodległościowe. Sygn.: A. 11E.1110.

[3] Белорусские остарбайтеры. Историко-аналитическое исследование. Минск, 2001. С. 288.

скай зоне быў утвораны найбуйнейшы беларускі лягер *DP* у Нямеччыны, які месьціўся ў мясцовасьці Ватэнштэт[4]. Лягеры ператварыліся ў сапраўдныя асяродкі нацыянальнага жыцьця. Дзейнічалі там школы, самакіраваньне, грамадзкія арганізацыі. Істотным элемэнтам штодзённасьці было таксама рэлігійнае жыцьцё. Характэрнай рысай беларускіх дыпісаў быў іх падзел паводле рэлігійнай прыкметы. Пераважная большасьць (звыш 80 %) належыла да праваслаўнага веравызнаньня. У сваю чаргу, каля 10 % складалі рыма-каталікі. Пэўнае ўяўленьне пра рэлігійны склад уцекачоў можна атрымаць на падставе дадзеных, якія датычаць жыхароў лягеру ў Ватэнштэце. Сярод 1420 тамтэйшых жыхароў каталікоў было крыху больш за сто асобаў[5]. Да каталіцкага веравызнаньня належыла значная частка беларускіх грамадзкіх і палітычных дзеячаў на эміграцыі[6].

У гэтым артыкуле мы зробім спробу асьвятленьня высілкаў беларускага рыма-каталіцкага актыву па арганізацыі рэлігійнага жыцьця ў лягерах *DP*. Беларускія грамадзкія камітэты, якія аб'ядноўвалі найбольш актыўных прадстаўнікоў эміграцыі, намагаліся далучыць да грамадзка-культурнай дзейнасьці суродзічаў незалежна ад іх веравызнаньня. У адной з адозваў чытаем: *"Памятайце, што беларусам зьяўляецца ня толькі праваслаўны з-пад Горадні, Бельску, Баранавічаў ці Пінску, але і каталік-селянін з-пад Вільні, Беластоку, Лідчыны ці Налібакаў, і палескі ці віленскі баптыст! Усе яны мусяць злучыцца з адно Беларускае злучво! Толькі трымаючыся разам, зможам пакіраваць адпаведна нашым лёсам на чужыне"*[7]. Сярод дыпісаў не назіралася варожасьці альбо канфліктаў на рэлігійнай глебе. Пазбаўленыя працяглы час ўласнага душпастырства беларускія дыпісы каталіцкага веравызнаньня нярэдка ўдзельнічалі ў праваслаўных набажэнствах, а нават у парафіяльным жыцьці. Гэтак, напрыклад, было ў Рэгенсбургу, дзе дзейнічала праваслаўная парафія Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Тамтэйшы царкоўны хор складаўся зь вернікаў абодвух веравызнаньняў[8].

4 Grzybowski, Jerzy. Pogoń między Orłem Białym, Swastyką i Czerwoną Gwiazdą. Białoruski ruch niepodległościowy w latach 1930–1956. Warszawa, 2011. S. 576–577.

5 Беларуская бібліятэка імя Францішка Скарыны (далей — ББФС). Калекцыя Льва Гарошкі. Ліст каталікоў-беларусаў зь лягеру АВС Ватэнштэт.

6 Сярод найбольш ведамых дзеячаў можна пералічыць Франца Кушаля, Антона Адамовіча, Янку Станкевіча, Станіслава Станкевіча, Станіслава Грынкевіча, Вацлава Пануцэвіча.

7 Вініцкі, Алесь. Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох. Мінск, 1994. С. 170.

8 Вініцкі, Алесь. Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох. Ч. II. Рэлігійныя справы. Лёс Анджэлес, 1968. С. 3.

Пачынаючы ад 1946 г. беларускія каталіцкія дзеячы, якія апынуліся ў лягерах *DP*, пачалі рабіць захады, каб стварыць беларускае каталіцкае душпастырства. Да стварэньня ўласнага душпастырства на эміграцыі беларускіх каталікоў заклікаў а. Міхась Маскалік, які знаходзіўся ў брытанскай зоне акупацыі Нямеччыны. У адозьве да беларускіх вернікаў ён пісаў: *"Думаю, што надышоў час, калі мы, беларусы-каталікі, павінны скінуць тыя путы, што змушаюць нас маліцца чужой мовай, а справу Беларускай царквы ўзяць у свае рукі і так паставіць, каб усюды, дзе толькі жывуць беларусы, набажэнствы адпраўляліся сьвяшчэньнікамі нашымі, а беларуская мова каб зноў заняла свой пачэсны пасад у беларускіх сьвятынях"*[9].

Патрэбу стварэньня беларускага каталіцкага душпастырства для ўцекачоў на тэрыторыі Заходняй Нямеччыны разумелі таксама беларускія дзеячы ў іншых краінах. 8 лістапада 1946 г. беларуская дэлегацыя ў складзе Лявона Рыдлеўскага і кс. Францішка Чарняўскага была прынята на аўдыенцыі ў Папы Пія XII. На жаль, няведама, які быў зьмест размовы беларусаў з ачольнікам Каталіцкай царквы. Беларуская каталіцкая прэса пісала пра тое, што гэтая сутрэча спрычыніцца да наданьня беларускай справе міжнароднага характару[10]. Акрамя таго, адзначалася, што галава Каталіцкай царквы *"шчыра праняўся доляй беларусаў"*[11]. Магчыма, што вынікам вышэйзгаданай аўдыенцыі быў візыт у беларускія лягеры *DP* біскупа Баляслава Слосканса. Гэты духоўны быў знаёмы беларусам яшчэ з даваеннага пэрыяду, калі прыхільна ставіўся да беларусізацыі царкоўнага жыцьця[12]. На пачатку 1947 г. ярарх наведаў беларускія лягеры й групы ў Міхельсдорфе, Мюнхене, Рэгенсбургу, Остэргофэне, Аўсбургу й Ватэнштэце[13]. З нагоды візіту ярарха 20 студзеня 1947 г. беларускія каталікі з Ватэнштэту скіравалі да яго мэмарыял, у якім прасілі зьвярнуць увагу на стан беларускіх дыпісаў[14]. Падчас знаходжаньня біскупа ў Ватэнштэце беларускія вернікі ўручылі яму ліст да Папы Пія XII, у якім прасілі галаву Каталіцкае царквы вырашыць наступныя пытаньні: 1) з мэтай арганізацыі духоўнай апекі для беларускіх дыпісаў каталіцкага веравызнаньня скіраваць у Нямеччыну беларускіх сьвятароў, якія

9 ББФС. Калекцыя Льва Гарошкі. Адозва а. М. Маскаліка "Беларуская каталіцкая царква ў Нямеччыне". Бяз даты.

10 Dryhonic, P. Biełarusy u Śviatoha Ajca // Adradżeńie. 1947. № 1. S. 2.

11 Z biełaruskaha katalickaha żyćcia // Adradżeńnie. 1947. № 1. S. 9.

12 Garbiński, Jerzy; Turonek, Jerzy. Białoruski ruch chrześcijański XX wieku. Słownik biograficzno-bibliograficzny. Warszawa, 2003. S. 386.

13 Garbiński, Jerzy; Turonek, Jerzy. Białoruski ruch chrześcijański XX wieku. S. 386.

14 ББФС. Калекцыя Льва Гарошкі. Мэмарыял да біскупа Б. Слосканса ад 20.01.1947.

ёсьць у розных кутках сьвету (меліся на ўвазе перадусім духоўнікі, якія знаходзіліся ў Манджурыі); 2) на патрэбы вернікаў выдаць малітоўнік, а таксама іншую рэлігійную літаратуру на беларускай мове; 3) дапамагчы каталікам-беларусам у выданьні ўласнага часопісу, які распаўсюджваўся б сярод эмігрантаў у розных краінах, а таксама зладзіць кароткія курсы падрыхтоўкі сьвятароў-беларусаў; сьцвярджалася, што ў першую чаргу належыла перавыдаць выданьне "Голас душы" а. Кастуся Стэповіча, якое перад вайной выйшла ў Вільні; 4) аказаць матэрыяльную дапамогу ўсім беларускім дыпісам незалежна ад веравызнаньня й дапамагчы ім у арганізацыі пераезду ў іншыя краіны[15].

Ня быў гэта адзіны раз, калі беларускія дыпісы зьвярталіся па дапамогу да галавы Каталіцкай царквы. 28 студзеня 1947 г. зь лістом да Папы зьвярнулася група беларускіх каталікоў з Ватэнштэту. У гэтым дакумэнце адзначалася, што ў выніку вайны тысячы беларусаў-каталікоў апынуліся на чужыне, дзе яны былі пазбаўленыя ўласнага духавенства й сьвятыняў. На думку аўтараў, адбывалася гэта таму, што ў даваенны пэрыяд ўлады Другой Рэчы Паспалітай адмоўна ставіліся да праяваў беларусізацыі Каталіцкай царквы. Аўтары дадавалі, што недахоп духоўных спрыяе разьвіцьцю сярод дыпісаў разнастайных сэктаў.

Увесну 1947 г. Беларускае згуртаваньне студэнтаў у Мюнхене накіравала ліст да Папы Пія XII, у якім аўтары дзякавалі за зацікаўленьне беларускімі справамі й прасілі дапамагчы ў арганізацыі беларускага рэлігійнага жыцьця на чужыне, а таксама паспрыяць у працягу навучаньня ў эўрапейскіх ВНУ ў сувязі з магчымым закрыцьцём Унівэрсытэту *UNRRA*. Падкрэсьлівалася таксама імкненьне беларусаў да захаваньня незалежнасьці ўласнага рэлігійнага жыцьця ад уплываў іншаземнага духавенства[16]. Можна меркаваць, што вышэйзгаданыя захады беларускага боку не прынесьлі спадзяванага плёну. Сьведчыць пра гэта ліст старшыні Беларускага камітэту самадапамогі ў брытанскай зоне Вітаўта Тумаша да біскупа Слосканса ад 29 лютага 1949 г., у якім беларускі дзеяч не хаваў крыўды ў сувязі са стаўленьнем Апостальскай сталіцы да беларускіх выгнанцаў[17]. Гэтую роспач можна

15 List bielarusou-katalikou da Papy // Biełaruskaja Dumka. 1947. № 1. S. 2–3; ББФС. Калекцыя Льва Гарошкі. Мэмарыял да Папы Пія XII ад 28.01.1947.

16 List biełaruskich studentau da jaho śviataści papy Piusa XII // Biełaruskaja Dumka. 1947. № 2. S. 11.

17 У лісце Вітаўт Тумаш пісаў: "Праз многія вякі беларусы-каталікі выказвалі стойкую вернасьць Апостальскай Сталіцы. Калі сяньня многія зь іх прымусова апынуліся на чужыне ў вельмі цяжкіх матэрыяльных і духовых умовах, дык, на жаль, выглядае так, што духова-рэлігійная апека над беларусамі-каталікамі (як таксама і матэрыяльная) пакінутая Рымам для розных

зразумець, калі ўзяць пад увагу, што дыпісы іншых нацыянальнасьцяў (літоўцы, палякі, вугорцы) мелі ўласныя эміграцыйная душпастырствы з вызначанымі апостальскімі візытатарамі[18]. Няведама, аднак, наколькі Вітаўт Тумаш сапраўды меў рацыю й хто быў вінаваты ў адсутнасьці душпастырскай арганізацыі для беларускіх выгнанцаў. Падчас сустрэчы беларускай дэлегацыі з апостальскім візытатарам ў Кронбэргу ў 1948 г. апошні зазначыў, што ў 1945 і 1946 гг. многія нацыянальныя групы дыпісаў зьвярталіся да духоўных уладаў з просьбамі скіраваць да іх сьвятароў, што й было зроблена. На думку духоўніка, беларусы тады не выказвалі такога жаданьня. Больш за тое, ёсьць сьведчаньні, што прадстаўнікі Ватыкану зьвярнуліся да БНК у Рэгенсбургу з прапановай накіраваць у беларускія лягеры каталіцкага сьвятара, але беларускі бок не падтрымаў гэтае ініцыятывы[19]. У сувязі з адсутнасьцю адпаведных архіўных крыніцаў цяжка зараз звэрыфікаваць гэтыя зьвесткі.

У пэўным сэнсе 1947 г. аказаўся пераломным у арганізацыі беларускага каталіцкага душпастырства ў Заходняй Нямеччыне. Нягледзячы на недахоп сьвятароў, удалося стварыць некалькі парафіяў. 2 красавіка 1947 г. у Ватэнштэце была створана каталіцкая парафія, якая налічвала каля 120 вернікаў. Быў арганізаваны таксама парафіяльны камітэт, які распачаў рэнавацыю будынку былога польскага касьцёлу, які быў прыстасаваны да патрэбаў беларускіх вернікаў[20]. Другая парафія паўстала ў Віндзішбэргердорфе[21]. Наба-

эвангеліскіх цэркваў і сэктаў. Рым для нашых каталікоў да гэтае пары не памог, на жаль, выдаць ніводнай, нават найменшай, рэлігійнай кніжачкі па-беларуску, не гаворачы ўжо аб Эвангельлі. Рым да гэтае пары не скіраваў да іх з словам рэлігійнай пацехі ніводнага свайго каталіцкага сьвятара. Рым нават не лічыць дагэтуль важным і патрэбным даручыць каму-небудзь зь беларускіх каталіцкіх сьвятароў руціцца і кіраваць беларускімі каталіцкімі справамі на эміграцыі. Рым ні разу ад іх не аказваўся з словамі маральнай пацехі і падтрыманьня ў цяжкія гады вандроўкі па чужыне, хаця ў гэтых усіх справах беларусы-выгнанцы зьвярталіся ўжо да Рыму ня раз пасрэдна і беспасярэдне. Усе гэтыя балючыя факты, Вашая Эксцэленцыя, сумныя, але, на жаль, праўдзівыя" (Пра дзейнасьць камісіі... і ня толькі: матэрыялы "Камітэта па перакладу Бібліі ў беларускую мову" (1946–1950 гг.) // Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум. Мінск, 2012. С. 447).

18 Smolorz, R. Displaced Persons. Autoritaten und Ahnfuhrer im angehenden Kalten Krieg im ostlichen Bayern. Regensburg, 2009. S. 107–120.

19 ББФС. Калекцыя Льва Гарошкі. Ліст невядомага аўтара да а. Л. Гарошкі ад 28.07.1948.

20 Biełaruskaja Katalickaja Parachvija u Wattenstedt // Biełaruskaja Dumka. 1947. № 1. S. 9.

21 Вініцкі, Алесь. Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох. Ч. II. Рэлігійныя справы. С. 102.

жэнствы адбываліся найперш у нямецкай сьвятыні, а потым у чэскай, якая знаходзілася пабач зь лягерам. З часам была ўладкавана ўласная драўляная лягерная капліца. У хуткім часе была створана таксама парафія ў Остэргофэне. Беларускімі каталіцкімі грамадамі апекаваўся а. Міхась Маскалік, а таксама латыскі сьвятар а. Аляксандар Галдзікоўскіс[22]. Першы мог, аднак, у вельмі абмежаваным памеры выконваць душпастырскія абавязкі сярод беларусаў, паколькі належыў да Ўкраінскай грэка-каталіцкай царквы й перадусім мусіў апекавацца дыпісамі-ўкраінцамі. Тым ня менш часамі на запрашэньне беларускіх вернікаў адпраўляў для іх набажэнствы[23]. Неўзабаве сьвятар стаў рэферэнтам беларусаў-каталікоў на тэрыторыі Заходняй Нямеччыны[24]. Што тычыццца а. Галдзікоўскаса, дык ведама, што ў 1947 г. на сьвята Ўсіх Сьвятых ён адправіў набажэнства для беларусіх вернікаў у Остэргофэне, а ў наступную нядзелю — у Віндзішбэргердорфе. Падчас гэтай багаслужбы абылося чытаньне па-беларуску Эвангеліі, а таксама сьпяваньне беларускіх рэлігійных песьняў. Адносіны паміж беларускімі вернікамі й латыскім сьвятаром былі вельмі прыязныя[25].

Нягледзячы на добры пачатак хапала таксама праблемаў. У прыватнасьці, вернікі адчувалі наступствы адсутнасьці навучаньня рэлігіі для дзетак. Чарговай складанасьцю была нястача беларускамоўнай рэлігійнай літаратуры, асабліва малітоўнікаў[26]. Апрача таго, праблемай стала адсутнасьць уласных будынкаў пад сьвятыні. У выніку 26 красавіка 1947 г. улады *УНРРА* выдалі дазвол на ўладкаваньне месца багаслужбаў на тэрыторыі лягеру Вільгельмшталь каля Касэлю. Лягерная адміністрацыя атрымала загад вылучэньня на гэтую мэту аднаго з найлепшых баракаў. Такім чынам, вернікі маглі цешыцца ўласнай сьвятыняй[27]. Як узгадвалі эмігранты, прыгожая сьвятыня паўстала ў былым бараку для дзяцей — у колішняй маёмасьці князёў Гэскіх. Гэтая сьвятыня, пробашчам якой быў польскі сьвятар, служыла таксама беларусам-каталікам зь лягеру Мэнхегоф[28].

---

[22] Biełaruskaja Katalickaja Parachvija u Wattenstedt // Biełaruskaja Dumka. 1947. № 1. S. 9.

[23] Вініцкі, Алесь. Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох. Ч. II. Рэлігійныя справы. С. 102.

[24] Garbiński, Jerzy; Turonek, Jerzy. Białoruski ruch chrześcijański XX wieku. S. 263.

[25] Хроніка // Божым Шляхам. 03.12.1947. С. 15.

[26] Z biełaruskaha katalickaha żyćcia u amerykanskaj zonie // Adradżeńnie. 1948. № 1. S. 21.

[27] ББФС. Калекцыя Льва Гарошкі. Ліст а. М. Маскаліка да беларускага каталіцкага камітэту ў Ватэнштэце ад 26.04.1947.

[28] Вініцкі, Алесь. Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох. Ч. II. Рэлігійныя справы. С. 103; Беларуская хроніка // Божым Шляхам. 1948. № 1. С. 15.

У красавіку 1947 г. была выдадзена адозва кіраўніцтва Беларускай каталіцкай царквы ў Нямеччыне, якая заклікала вернікаў да стварэньня беларускіх парафіяў зь беларускай мовай у якасьці мовы казаньняў. Утрымліваўся тут таксама зварот аб стварэньні фонду Беларускай каталіцкай царквы ў Нямеччыне[29]. Тым часам згодна з рашэньнем Кангрэгацыі па справах Усходніх цэркваў юрысдыкцыя апостальскага візытатара для ўкраінскіх грэка-каталікоў на чужыне Мікалая Ваякоўскага ад 17 траўня 1947 г. была пашырана таксама на беларускіх дыпісаў каталіцкага веравызнаньня[30].

10 ліпеня 1947 г. Папа паклікаў Пантыфікальную эміграцыйную камісію, якая мела на мэце дапамагаць уцекачам, якія знаходзіліся ў лягерах *DP* у Нямеччыне. У межах камісіі ствараліся камітэты, якія адказвалі за паасобныя нацыянальныя групы. На гэтай хвалі, у адпаведнасьці з паразуменьнем з альянцкімі ўладамі, 15 ліпеня 1947 г. быў створаны Ватыканскі беларускі эміграцыйны камітэт на чале з а. Міхасём Маскалікам. Сядзіба камітэту знаходзілася ў Мюнхене. Былі зроблены захады па стварэньні парафіяльных адпаведнікаў у розных месцах. Камітэты павінны былі складацца з пробашча і трох выбраных ім парафіянаў. Камітэт ставіў сабе за мэту між іншым аказаньне дапамогі вернікам падчас пераезду ў іншыя краіны. У сувязі з гэтым камітэт заахвочваў дыпісаў, каб запісваліся ў яго шэрагі й падчас запаўненьня сяброўскіх бланкаў зазначалі краіну, у якую жадалі б выехаць. Сябры камітэту выконвалі свае абавязкі ганарова. У 1947 г. парафіяльныя паўсталі камітэты ў Госьляры, Ватэнштэце (Браніслаў Даніловіч), Міхельсдорфе (Франц Кушаль), Віндзішбэргердорфе (Андрэй Попка) і Остэргофэне (Янка Чарнэцкі)[31]. Зь цягам часу Ватыканскі беларускі эміграцыйны камітэт пашырыў абсяг сваёй дзейнасьці й меў сяброў у 49 мясцовасьцях ва ўсіх трох заходніх зонах акупацыі Нямеччыны. На падставе аналізу пратаколаў парафіяльных структураў магчыма даведацца, якія пытаньні вырашаліся іх сябрамі. Прыкладам, падчас пасяджэньня камітэту ў Ватэнштэце разглядалася пытаньне ўвядзеньня свайго прадстаўніка ў склад лягернай адміністрацыі. Пры тым не абышлося бяз пэўных непаразуменьняў. Лягернае кіраўніцтва не згаджалася на кандыдатуру Юстына Мурашкі. Верагодна, што канфлікт мог мець асабісты характар[32]. Неабходна адзначыць, што стаўленьне да дзейнасьці вышэйзгаданага камітэту з боку дыпісаў было неадназначнае. Шэраг дзеячаў разглядаў ягоную

29 Adozwa da usich biełarusau // Biełaruskaja Dumka. 1947. № 1. S. 2–3.

30 ББФС. Калекцыя Льва Гарошкі. “Урадавы весьнік”. Жнівень 1947. С. 1.; Smolorz, R. Displaced Persons… S. 113.

31 ББФС. Калекцыя Льва Гарошкі. “Урадавы весьнік”. Жнівень 1947. С. 1–2.

32 ББФС. Калекцыя Льва Гарошкі. Пратакол паседжаньня Беларускага каталіцкага камітэту ў Ватэнштэце ад 27.07.1947.

дзейнасьць як шкодную для адзінства беларускіх эмігрантаў. Выказвалася думка, што гэта можа выклікаць рэлігійныя падзелы сярод беларусаў. Найбольш засьцярогаў выклікала адна з галоўных мэтаў камітэту — арганізацыя выезду беларускіх каталікоў у іншыя краіны й стварэньне там рэлігійных супольнасьцяў[33].

Разам з згаданым камітэтам узнікла таксама Беларуская харытатыўная служба, сядзіба якой знаходзілася ў Госьляры. Арганізацыя займалася аказаньнем матэрыяльнай дапамогі, як і спрыяньнем у выездзе дыпісаў у іншыя краіны. Аддзелы службы дзейнічалі ў Віндзішбэргердорфе (Андрэй Попка), Остэргофэне (Пётра Гайдзель), Ватэнштэце (Ігнат Гагалінскі) і Нортгайме (В. Лінкевіч)[34].

Беларускія каталікі ў Нямеччыне ўдзельнічалі ў арганізацыйным жыцьці аднаверцаў іншых нацыянальнасьцяў. Сьведчыць пра гэта факт, што а. Міхась Маскалік узяў удзел у працы міжнароднай канфэрэнцыі каталіцкіх сьвятароў *DP*, якая адбылася 9–13 сакавіка 1949 г. у Бад-Дрыбургу[35]. У 1949 г. з нагоды ўгодкаў каранацыі Папы Пія XII а. Міхась Маскалік зладзіў урачыстае сьвяткаванне ў беларускіх лягерах, адслужыўшы набажэнствы ў Мюнхене (12 сакавіка), Остэргофэне (13 сакавіка), Віндзішбэргердорфе (14 сакавіка)[36]. Дыпісы-каталікі нароўні з суайчыньнікамі іншых веравызнаньняў удзельнічалі ў грамадзкай дзейнасьці на чужыне. Прыкладам, а. Міхась Маскалік адпраўляў урачыстыя набажэнствы ў гонар 25 Сакавіка[37].

Бадай, што найвялікшай праблемай беларускіх дыпісаў каталіцкага веравызнаньня ў Нямеччыне быў недахоп сьвятараў. Паводле эміграцыйных крыніцаў, у той час на эміграцыі знаходзілася ня больш як 6 беларускіх рыма-каталіцкіх сьвятароў, у тым ліку 3 у Заходняй Эўропе[38]. У амэрыканскай зоне беларускія каталікі ўдзельнічалі ў набажэнствах, якія адпраўлялі сьвятары іншых нацыянальнасьцяў (палякі, латышы, літоўцы)[39]. У брытанскай зоне а. Міхась Маскалік ладзіў багаслужбы для жыхароў лягеру Ватэнштэт не часьцей, чым два разы на месяц, паколькі мусіў прыяжджаць зь іншай мясцовасьці. 18 красавіка 1948 г. сьвятар наведаў вернікаў у Остэргофэне, Віндзішбэргердорфе

33 Вініцкі, Алесь. Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох. Ч. II. Рэлігійныя справы. С. 103.

34 Беларуская хроніка // Божым Шляхам. 1949. № 4. С. 14.

35 Беларуская хроніка // Божым Шляхам. 1949. № 4. С. 16.

36 Беларуская хроніка // Божым Шляхам. 1949. № 4. С. 14.

37 Беларуская хроніка // Божым Шляхам. 1949. № 4. С. 15; Беларуская хроніка // Божым Шляхам. 1950. № 31–32. С. 15.

38 Агульны агляд сучаснага беларускага рэлігійнага жыцьця // Божым Шляхам. 01.10.1947. С. 9.

39 Вініцкі, Алесь. Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох. Ч. II. Рэлігійныя справы. С. 102.

й Міхельсдорфе. Адбылася споведзь і эўхарыстыя[40]. Натуральна, што вернікі імкнуліся да наданьня рэлігійнай апецы сталага характару. У сувязі з гэтым у ліпені 1947 г. каталіцкая грамада Ватэнштэту вырашыла зьвярнуцца да сьвятара-літоўца, каб ён заапекаваўся беларусамі[41]. Пытаньне не было, аднак, вырашана станоўча для беларускага боку. 5 сакавіка 1948 г. беларускі каталіцкі камітэт лягеру ў Ватэнштэце зьвярнуўся зь лістом да біскупа Мунхэ, каб ён дазволіў а. Уладыславу Салаўю[42] выконваць абавязкі душпастыра для беларусаў. Сваю просьбу беларускія вернікі абгрунтоўвалі тым, што адсутнасьць сьвятара штораз больш выклікае маральны ўпадак, а нямецкія сьвятары, якія ня ведалі беларускай мовы й не былі ў стане на ёй рабіць казаньні, не маглі цалкам задаволіць беларускіх парафіянаў[43]. 12 сакавіка 1948 г. ліст да біскупа Мунхэ падобнага зьместу накіравалі таксама вернікі зь лягеру ў Остэргофэне. У лісьце зьярталася ўвага на тое, што беларускія каталікі былі пазбаўлены сьвятара на працягу некалькіх гадоў, а патрэба рэлігійнай апекі асабліва адчуваецца сярод студэнцкай і вучнёўскай моладзі[44].

Постаць а. Уладыслава Салаўя была прадметам дыскусіі паміж беларускімі й літоўскімі дыпісамі з удзелам царкоўных уладаў. Гэты духоўны быў беларусам, але працаваў душпастарам сярод дыпісаў-літоўцаў. Ён меў вельмі прыхільнае стаўленьне да сваіх суродзічаў, якія апынуліся на выгнаньні. Неаднаразова на запрашэньне беларускіх вернікаў ён удзельнічаў у багаслужбах у іх лягерах. Сьвятар згадзіўся абслугоўваць дыпісаў-беларусаў пры ўмове, што атрымае на гэта дазвол царкоўных уладаў. Беларускія каталікі з Рэгенсбургу зьвярнуліся да апостальскага візытатара для літоўцаў на выгнаньні каноніка а. Капоцюса, каб ён дазволіў дэлегаваць а. Уладыслава Салаўя да беларусаў. Літоўскі бок быў, аднак, незадаволены такой пэрспэктывай і запрапанаваў беларускім вернікам усталяваць сувязь з а. Ёнасам Мацісасам. Апошні ж не валодаў беларускай мовай. У выніку бе-

---

40 Z katalickaha życia // Adradżeńnie. 1948. № 1–2. S. 20.

41 ББФС. Калекцыя Льва Гарошкі. Пратакол паседжаньня Беларускага каталіцкага камітэту ў Ватэнштэце ад 27.07.1947.

42 Уладыслаў Салавей (15.09.1918, Санкт-Пецярбург — 17.08.1974, Нямеччына), каталіцкі сьвятар. У 1921–1929 гг. жыў разам з бацькамі ў Румыніі й Польшчы. Ад 1939 г. навучаўся ў духоўнай сэмінарыі ў Вільні. Падчас вайны атрымліваў духоўную асьвету ў Нямеччыне. У ліпені 1946 г. быў высьвячаны на сьвятара.

43 ББФС. Калекцыя Льва Гарошкі. Ліст беларускага каталіцкага камітэту ў Віндзішбэргердорфе да апостальскага візытатара ў Нямеччыне ад 03.03.1948.

44 ББФС. Калекцыя Льва Гарошкі. Ліст беларускага каталіцкага камітэту ў Остэргофэне да апостальскага візытатара ў Кронбэргу. 12.03.1948.

ларусы мусілі працягваць перамовы з царкоўнымі ўладамі. Станіслаў Грынкевіч у якасьці прадстаўніка *“каталіцкай групы ў Рэгенсбургу”* зьвярнуўся да біскупа Баляслава Слосканса[45]. 23 ліпеня 1948 г. дэлегацыя беларускіх студэнтаў наведала апостальскага візытатара ў Кронбэргу. Падчас сустрэчы з сакратаром візытатара делегаты прасілі, каб да беларусаў быў дэлегаваны вышэйзгаданы а. Уладыслаў Салавей. Гэтыя захады былі, аднак, дарэмныя. Вернікі атрымалі адказ, што накіраваньне сьвятара немагчымае, паколькі літоўскія эмігранты зафундавалі яму духоўную асьвету й не жадалі аддаваць іншым нацыянальнасьцям. Апостальскі візытатар прапанаваў запрасіць у Нямеччыну а. Францішка Чарняўскага, які знаходзіўся ў Францыі[46].

Такім чынам, працягваўся пошук сьвятара па-за межамі Нямеччыны. 3 студзеня 1948 г. каталіцкая грамада ў Ватэнштэце накіравала ліст да Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі, у якім прасіла дапамагчы ў гэтае справе. Адзначалася, што ў лягеры знаходзілася шмат каталікоў, якія былі пазбаўленыя духоўнай апекі. Аўтары з жалем канстатавалі, што нястача сталай рэлігійнай апекі вельмі адмоўна ўплывала на маральны стан вернікаў. У сувязі з адсутнасьцю душпастыра вернікі мелі клопат атрыманьня такіх сакрамантаў, як хрост альбо шлюб. Зьвярталася ўвага на тое, што ў ня менш цяжкім становішчы знаходзяцца беларускія дыпісы, якія жывуць у іншаземных лягерах, дзе імі апякуюцца іншаземныя сьвятары, што з прычыны неваладаньня беларускай мовай ня могуць цалкам задаволіць рэлігійных патрэбаў вернікаў[47]. У адказ а. Леў Гарошка раіў скантактавацца з а. Францішкам Чарняўскім[48].

Дзякуючы намаганьням беларусаў быў атрыманы дазвол адпаведных царкоўных уладаў на год працы сьвятара ў Нямеччыне. У лісьце да Станіслава Грынкевіча духоўны паведамляў, што яго выезд у Нямеччыну плянуецца на сакавік 1948 г., яшчэ перад велікоднымі сьвятамі. У сувязі з гэтым Беларускі каталіцкі камітэт прасіў апостальскага візытатара ў Нямеччыне дапамагчы ў вырашэнні візавых пытаньняў[49]. З шэрагу прычынаў а. Чарняўскаму не ўдалося, аднак,

45 ББФС. Калекцыя Льва Гарошкі. Ліст С. Грынкевіча да біскупа Б. Слосканса ад 27.06.1947.

46 Вініцкі, Алесь. Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох. Ч. II. Рэлігійныя справы. С. 103.

47 ББФС. Калекцыя Льва Гарошкі. Ліст беларусаў-каталікоў зь лягеру ў Ватэнштэце да Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі ад 03.01.1948.

48 Каталіцкі сьвятар Францішак Чарняўскі (1893–1979) Ад 1929 г. жыў у Францыі. Абслугоўваў рэлігійныя патрэбы работнікаў на вугальных капальнях.

49 ББФС. Калекцыя Льва Гарошкі. Ліст С. Грынкевіча да апостальскага візытатара ў Нямеччыне ад 01.04.1948.

ажыцьцявіць сваёй задумы. Нягледзячы на гэта, беларускія дзеячы ў Нямеччыне нейкі час ня трацілі надзеі на прыезд сьвятара. Зь іх карэспандэнцыі з а. Львом Гарошкам вынікае, што дыпісы былі згодныя на прыезд а. Чарняўскага нават на кароткі час. Яны разьлічвалі на тое, што гэта дапаможа "перацягнуць" да беларусаў вышэйзгаданага а. Уладыслава Салаўя[50].

Ведама, што беларускі бок зьвяртаўся таксама па дапамогу да біскупа Францішка Бучыса, аднак і гэтыя захады не прынесьлі чаканага выніку[51]. Нягледзячы на няўдачу ў прыезьдзе а. Францішка Чарняўскага ў Нямеччыну, Беларуская каталіцкая місія ў Францыі намагалася рознымі спосабамі дапамагаць сваім суайчыньнікам, якія знаходзіліся ў лягерах *DP*. У Нямеччыну дасылалася рэлігійная прэса й літаратура. Ведама, што дыпісы атрымлівалі нумары часопісу "Божым Шляхам". Акрамя таго, на бачынах гэтага выданьня асьвятлялася рэлігійнае жыцьцё ў лягерах *DP*. Дыпісы каталіцкага веравызнаньня ўтрымлівалі таксама кантакты зь беларускімі сьвятарамі ў Рыме. Напрыклад, а. Пётра Татарыновіч даслаў дыпісам у лягер Маервік малітоўнік "Голас душы"[52].

Становішча беларускіх каталікоў у Нямеччыне непакоіла таксама ўлады БНР на эміграцыі. Беларускія каталіцкія справы абмяркоўваліся на паседжаньні IV сэсіі Рады БНР, дзе канстатавалася, што беларуская грамада ў Нямеччыне пазбаўленая ўласнай ярархіі й духавенства. У выніку была прынята рэзалюцыя, якая заклікала вышэйшыя царкоўныя ўлады дапамагчы беларусам у арганізацыі духоўнае апекі над беларускімі эмігрантамі[53]. 28 лістарада — 2 снежня 1948 г. у Парыжы адбываўся I сусьветны зьезд беларускай эміграцыі, на якім а. Францішак Чарняўскі прачытаў даклад пра стан рэлігійнай апекі над беларускімі вернікамі-каталікамі[54]. У другой палове 1940-х гг. дзеячы БНР рабілі звароты да Апостальскай сталіцы ў справе вяртаньня з Манджурыі ў Эўропу беларускіх сьвятароў. Прэзыдэнт БНР Мікола Абрамчык лічыў, што трэба весьці перамовы з Ватыканам у справе вызначэньня апостальскага візытатара для эмігрантаў-беларусаў. Пры гэтым ён не выключаў, што мог бы ім быць вышэйзгаданы

---

50 ББФС. Калекцыя Льва Гарошкі. Ліст NN да а. Л. Гарошкі ад 28.07.1948.

51 ББФС. Калекцыя Льва Гарошкі. Ліст біскупа Ф. Бучыса да а. Л. Гарошкі ад 10.08.1948.

52 ББФС. Калекцыя Льва Гарошкі. Ліст беларусаў-каталікоў зь лягеру Маервік да а. П. Татарыновіча ад 29.06.1948.

53 Гардзіенка, Натальля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск, 2013. С. 420.

54 ББФС. Калекцыя Льва Гарошкі. Беларусы ў Францыі. I сусьветны зьезд беларускай эміграцыі.

біскуп Баляслаў Слосканс[55]. Пытаньне прызначэньня апостальскага візытатара для беларусаў на чужыне закраналася падчас візыту Міколы Абрамчыка ў Ватыкан у траўні 1951 г. На аўдыенцыі ў Папы Прэзыдэнт БНР падкрэсьліў, што прызначаны Апостальскай сталіцай візытатар можа адначасна быць неафіцыйным нунцыем пры ўрадзе БНР на эміграцыі[56].

На заканчэньне варта згадаць таксама пра беларускую каталіцкую прэсу, якая выдавалася намаганьнямі дыпісаў. У сакавіку 1947 г. у Віндзішбэргердорфе пачаў нерэгулярна выходзіць штомесячнік "Адраджэньне". Рэдакцыя дэкляравала жаданьне распаўсюду сярод дыпісаў ідэяў нацыянальнага й маральна-рэлігійнага адраджэньня, што лічылася галоўнай мэтай часопісу. На ягоных старонках падкрэсьлівалася неабходнасьць карыстаньня беларускай мовай у рэлігійным жыцьці. У адным з нумароў чытаем: *"Беларусы-каталікі! Пара ўжо ад сёньняшняга дня парваць із астачамі псіхічнага паняволеньня і ў рэлігійным жыцьці ўжываць сваю родную, беларускую мову"*[57]. У сувязі зь недаходам беларускамоўных малітоўнікаў на бачынах выданьня публікаваліся перакладзеныя на родную мову тэксты хатніх малітваў. Маючы на ўвазе неабходнасьць падтрыманьня нацыянальнай сьведамасьці вернікаў-беларусаў, друкаваліся таксама гістарычныя артыкулы. Даволі шмат месца прысьвячалася гісторыі каталіцтва на Беларусі. Траплялiся й публікацыі пра гісторыю ды культуру Беларусі. Выказваўся жаль з нагоды таго, што арганізаваньне каталікоў-беларусаў адбывалася вельмі павольна. Катэгарычна аспрэчвалася думка, нібыта стварэньне каталіцкай арганізацыі сярод беларусаў можа ўвесьці закалот у асяродзьдзі беларускіх эмігрантаў[58]. Падаваліся зьвесткі пра колькасны склад беларусаў сярод вернікаў Каталіцкай царквы. Аўтары "Адраджэньня" налічвалі 4 мільёны беларусаў каталіцкага веравызнаньня[59]. Выказвалася незадаволенасьць у сувязі з частым атаясамленьнем беларускіх каталікоў з палякамі. Слушна адзначалася, што гэтая зьява ёсьць наступствам вялікадзяржаўнай палітыкі царскіх уладаў[60]. Аўтары часопісу

[55] Гардзіенка, Натальля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947–1970)... С. 465.

[56] Гардзіенка, Натальля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947–1970)... С. 472.

[57] Jiharovic, J. Za rodnuju movu u żyćci religijnym i u śviatyniach // Adradżeńnie. 1947. № 1. S. 4.

[58] Uporysty, P. Treba nam katalickaja arhanizacyja // Adradżeńnie. 1947. № 1. S. 7.

[59] Jiharovic, J. Za rodnuju movu u żyć ci religijnym i u śviatyniach... S. 3. Можна меркаваць, што падлікі аўтараў у рэчаіснасьці датычылі ня столькі каталікоў-беларусаў, колькі ўсіх жыхароў Беларусі й польска-беларуска-літоўскага памежжа, якія належалі да каталіцкага веравызнаньня.

[60] Dryhovic, P. Nacyjanalnaść "zza Buha" // Adradżeńnie. 1948. № 1–2. S. 17.

выступалі супраць падзелу беларусаў паводле рэлігійнай прыкметы пры наладжваньні нацыянальнага жыцьця. Зьвярталася ўвага на шкоднасьць атаясамленьня веравызнаньня з нацыянальнасьцю. Падаваўся прыклад таго, як беларускія сяляне, кіруючыся рэлігійнай прыналежнасьцю, аўтаматычна запісваліся прадстаўнікамі іншых нацыянальнасьцяў. У сувязі з гэтым гучаў заклік да беларускіх эмігрантаў кіравацца не рэлігійным, а нацыянальным крытэрам пры запісе ў нацыянальныя лягеры *DP*. Аўтары пераконвалі дыпісаў, што рэлігія не павінна дзяліць беларусаў, якія незалежна ад веравызнаньня мусяць абʼядноўвацца вакол агульных для ўсіх беларускіх лягераў[61]. На бачынах "Адраджэньня" асьвятляліся падзеі, што адбываліся ў жыцьці іншых хрысьціянскіх канфэсіяў. Закраналася таксама пытанне міжканфэсійных адносінаў сярод беларусаў. Выказвалася меркаваньне, што аніводная рэлігійная група не павінна быць фаварызаваная альбо перасьледваная[62]. На старонках выданьня адсачваліся таксама міжнародныя падзеі, зьвярталася асаблівая ўвага на справы, зьвязаныя з Каталіцкай царквой. Так, напрыклад, пісалася пра савецкія рэпрэсіі ў дачыненьні да Ўкраінскай грэка-каталіцкай царквы[63].

Часопіс "Адраджэньне" быў не адзіным беларускім каталіцкім пэрыёдыкам у Нямеччыне. 6 красавіка 1947 г. у Ватэнштэце выйшаў друкам першы нумар часопісу "Беларуская думка". Выдаўцом яго быў мясцовы Беларускі каталіцкі парафіяльны камітэт. Пасаду галоўнага рэдактара займаў Вацлаў Пануцэвіч. Рэдакцыя ўсталявала сувязь зь Літоўскай бібліяграфічнай службай. Належыць адцеміць, што ў адрозьненьне ад "Адражэньня" часопіс выдаваўся як лацінкай, гэтак і кірыліцай[64]. Апрача пэрыядычных выданьняў у лягерах *DP* выдаваліся таксама ўлёткі, скіраваныя да вернікаў. У адной зь іх пад назвай "Наш уклад" падкрэсьліваўся ўдзел каталіцкіх сьвятароў і сьвецкіх дзеячаў у разьвіцьцё беларускай справы[65].

Пасля ліквідацыі лягераў *DP* у Нямеччыне большасьць іх жыхароў эміґравала ў іншыя краіны. Значная частка абрала ў якасьці сталага месца жыхарства Вялікабрытанію, Францыю, ЗША, Канаду й Аўстралію. У некаторых краінах існавалі супольнасьці каталікоў-беларусаў абодвух абрадаў (Лёндан, Парыж, Чыкага). Духоўныя абавязкі выконвалі на эміґрацыі такія сьвятары, як айцы Часлаў

[61] Jastrab, V. Pierad Emihracyjaj // Biełaruskaja Dumka. 1947. № 2. S. 1–2.

[62] Дзьве рэлігіі // Biełaruskaja Dumka. 1947. № 2. S. 3.

[63] Caj, Ci heta prypadkowa? // Adradżeńnie. 1948. № 2–3. S. 10; Jiharovic, J. Scieny uzhadouvajuc życharau // Adradżeńnie. 1948. № 2–3. S. 9.

[64] Віціцкі, Алесь. Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох. Ч. II. Рэлігійныя справы. С. 102.

[65] ББФС. Калекцыя Льва Гарошкі. Улётка "Наш уклад".

Сіповіч, Леў Гарошка, Язэп Германовіч, Францішак Чарняўскі ды іншыя. У 1949 г. у Ангельшчыне было заснавана Беларускае акадэмічнае каталіцкае аб'еднаньне "Рунь". У хуткім часе, у 1952–1953 гг., Ватыкан такі прызначыў біскупа Баляслава Слосканса на апостальскага візытатара для беларускіх каталікоў абодвух абрадаў у Заходняй Эўропе[66]. Распачаўся новы этап у рэлігійным жыцьці эмігрантаў, які заслугоўвае на асобнае дасьледаваньне.

66 Garbiński, Jerzy; Turonek, Jerzy. Białoruski ruch chrześcijański XX wieku. S. 387.

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# ПІСЬМЕНЬНІК АНАТОЛЬ ЖМЕНЯ

У беларускай (тарашкевіцаю) вікіпэдыі айцец Леў Гарошка названы "*выдатным беларускім хрысьціянскім празаікам*". Сапраўды, гэты кніжны чалавек быў ня толькі выдаўцом часопісу "Божым Шляхам", аўтарам філязофска-тэалягічных, гістарычных, мовазнаўчых кніг і артыкулаў, але й пісьменьнікам. Для кожнай дзялянкі ў яго былі свае псэўданімы, і менавіта *Анатолем Жменем* было пазначана аўтарства выдадзенай у Парыжы ў 1967 г. кнігі "Кветкі і церні жыцьця. Зборнік апавяданьняў".

Што а. Леў вызнаваўся пісьменьнікам у эміграцыйным коле — і задоўга да выхаду зборніка — сьведчыць хоць бы тое, што менавіта ён меўся прадстаўляць беларускіх пісьменьнікаў-эмігрантаў на сходзе, пра які (ці пра ягоную падрыхтоўку) тым часам у нас нічога няведама, а таму варта зацытаваць троху айцовы лісты з Парыжу да Вітаўта Тумаша:

*"Тут у суботу мае адбыцца першая арганізацыйная зборка ў справе зьезду пісьменьнікаў эмігрантаў з СССР. На Вашую рэкамэндацыю (ці сапраўды так?) і мяне запрасілі, каб удзельнічаць у той зборцы. Пайду пагляджу, што там будуць гаварыць, але мне хацелася-б ведаць, што і як адносна гэтага зьезду думае Арсеньнева, Віцьбіч і Адамовіч, бо-ж уласьціва яны будуць сябрамі таго праэктаванага зьезду. Калі Вы ў курсе справы, дык напішэце мне, калі ласка, Ваш пагляд у гэтай справе і перадусім Вашы жаданьні"*[1].

*«Сёньня атрымаў Ваш ліст і неадкладна адказваю, пакуль яшчэ сьвежае ўражаньне не зацерлася з падрыхтоўчае канфэрэнцыі ў справе зьезду пісьменьнікаў эмігрантаў. Асабіста я крыху расчараваўся тою канфэрэнцыяю, бо былі прысутныя пераважна толькі расейцы, а зь іншых народаў быў толькі адзін армянін і я. Меў быць так-жа грузін, але, здаецца, захварэў; справа прыналежнасьці і ўдзелу ўкраінцаў яшчэ ня вырашана. Дзеля гэтага я заявіў, што калі справа ўкраінцаў ня будзе вырашана пазытыўна, дык я так-жа адмаўляюся ад удзелу, але не таму, што быццам мы зьвязаны з украінцамі і робім так, як яны хочуць, толькі дзеля таго, што*

[1] Ліст а. Лява Гарошкі да Вітаўта Тумаша ад 16.05.1955. Захоўваецца ў фондзе Вітаўта Тумаша ў БДАМЛМ.

*ў выпадку, калі яны ня будуць удзельнічаць, дык тады практычна астануцца адны толькі расейцы, бо-ж мы і армяне проста згубімся ў іхняй масе. Мне ніяк ня хочацца, каб расейцы гаварылі ў імені ўсіх народаў СССР. Зажадаў я так-жа, каб заклікалі прадстаўнікоў прыбалтыйскіх народаў, няхай сабе як госьцяў. Украінцы дамагаюцца, каб заклікалі так-жа палякаў і агулам усе падсавецкія "дэмакратыі". Яшчэ ня меў магчымасьці гаварыць аб гэтым з Абрамчыкам, бо ён якраз цяпер у Мюнхэне.*

*Калі вырашыцца справа ўкраінцаў, дык трэба будзе выслаць некага ад нас у падрыхтоўчы сакратарыят. Ня ведаю, ці я змагу ўзяць на сябе яшчэ такі абавязак, бо і так маю працы хоць заваліся, але, як на бяду, тут больш нікога няма.*

*Гледзячы на расейцаў, як яны падаюць цэлыя дзясяткі сваіх кандыдатаў з розных краінаў на будучы кангрэс, мне хацелася так-жа падаць і нашых людзей магчыма больш. Бачу, што ў гэтым выпадку мы сваею сьціпласьцю сабе можам пашкодзіць. На маю думку, варта падаць зь дзесятак кандыдатаў з розных краінаў. Ці ведаеце Вы бліжэй Глыбіннага (Плашчынскага)*[2] *і ягоны адрас? Калі так, дык падайце мне на ўсякі выпадак ягоную адрэсу і адначасна Вашую думку аб ім. Здаецца, што ўжо аб Віцьбічу гаварыў Абрамчык, дык ня выпадае цяпер адклікаць ягоную кандыдатуру. Ягоную хваробу ведаю зь ягоных-жа лістоў*[3]. *Думаю, што тут неяк супольнымі сіламі пару дзён яго неяк-бы ўпільнавалі.*

*Адносна колькасьці рэфэратаў на той канфэрэнцыі, дык я казаў, што ад беларусаў будзе чатыры, а найменей тры рэфэраты»*[4].

*«Пасьля атрыманьня Вашага апошняга лісту ў справе арганізацыі зьезду пісьменьнікаў нічога пацяшаючага ня сталася, але выявіліся некаторыя факты, якія значна ўскладняюць усю справу, а на якія адразу чамусьці ня зьвернена ўвага:*

*Ініцыятыўная група пісьменьнікаў у праэкце складаецца з 10 чалавек, зь якіх 5 расейцаў і 5 нерасейцаў (2-х украінцаў і па аднаму беларус, армянін і грузін). У сакратарыят для падрыхтоўкі зьезду так-жа камбінавалі мець 2 расейцаў і 2 іншых; на маю катэгарычную адмову згадзіліся ўзяць 3 іншых, але цяпер практычна ўжо гэты сакратарыят зложаны ўсяго з 2 расейцаў і вядзе працу. Такім чынам, на вонках і ўнутрана гэта ўсё выглядае на чыста расейскую арганізацыю, у якой толькі для дэкарацыі хочуць узяць пару іншых нацыянальнасьцяў, каб гаварыць ад імя СССР. Словам, на мой пагляд гэта шопка горшая, чым бальшавіцкая "нацыянальная*

[2] Гарошка блытае: сапраўднае прозьвішча Глыбіннага — Сядура.

[3] Маюцца на ўвазе Віцьбічавы стасункі з алькаголем.

[4] Ліст а. Лява Гарошкі да Вітаўта Тумаша ад 23.05.1955. Захоўваецца ў фондзе Вітаўта Тумаша ў БДАМЛМ.

*палітыка", і я асабіста маю намер катэгарычна адмовіцца ад удзелу. Украінцы яшчэ агулам да гэтага прадпрыемства ня выказалі свае згоды, і маю ад іх запэўненьне, што аб далейшых перагаворах будуць мяне інфармаваць.*

*Будзьце ласкавы, паведамеце аб гэтым усім Натальлю Арсеньневу.*

*Калі-б на гэтым справа ня спынілася, дык мой пагляд такі, што неабходна павялічыць лік нерасейскіх прадстаўнікоў у ініцыятыўнай групе прынамся да 10 чалавек і ўвесьці абсалютны парытэт у сакратарыяце.*

*Што да выбару між Віцьбічам і Сяднёвым, дык на мой пагляд акрамя засланьня трэба мець на ўвеце так-жа вонкавую рэпрэзэнтатыўнасьць, а гэта бяз сумніву ёсьць на баку Віцьбіча. Зразумела, што я ня маю нічога супраць Сяднёва і супраць таго, каб яны нават абодва былі на Кангрэсе і нават у ініцыятыўнай групе.*

*Калі-б сучасны стан падрыхтоўчых органаў да Кангрэсу ня быў змадыфікованы, дык я на найбліжэйшым паседжаньні прадстаўнікоў ад іншых групаў катэгарычна адмоўлюся ад далейшага ўдзелу, тое-ж зробяць і ўкраінцы. Вельмі Вас прашу паведаміць мяне, ці ў такім выпадку я буду мець нейкае права сказаць, што такая ёсьць пастава беларусаў агулам, ці гэта будзе толькі маё асабістае становішча?»*[5].

*"Амаль адначасна з Вашым апошнім лістом я атрымаў ліст ад арганізатараў зьезду пісьменьнікаў з-за зялезнае заслоны, што гэты зьезд адложаны. Калі-б нешта падобнае камбінавалі наладзіць у Нью Ёрку, дык уважайце на самым пачатку арганізацыі на паводзіны расейцаў: для іх думка дамінацыі над нерасейскімі народамі СССР ужо ня толькі прайшла ў косьці, што ніяк ня могуць вызбыцца жаданьня дамінацыі, і таму ўсякую маніфэстацыю, якую-б ні задумалі амэрыканцы, яны хочуць замяніць на маніфэстацыю гэтае дамінацыі"*[6].

Калі з Гарошкам-празаікам больш-менш зразумела, азначэньне *"хрысьціянскі"* — у дачыненьні да мастацкай прозы — выклікае пытаньні. Гэта таму, што аўтар — сьвятар? Тады ці можна сказаць, што ўспаміны "Кітай — Сібір — Масква" Вінцука Адважнага больш хрысьціянскія за, прыкладам, Аляхновічавы "У кіпцюрох ГПУ", бо першыя напісаны айцом Язэпам Германовічам? І ці не вынікае з гэтага, што Ўладзімер Жылка, напісаўшы "Альбігойца" й "Марту", мусіць быць залічаны ў антыхрысьціянскія альбо, прынамсі, "апакрыфічныя" паэты?!

5 Ліст а. Лява Гарошкі да Вітаўта Тумаша ад 09.06.1955. Захоўваецца ў фондзе Вітаўта Тумаша ў БДАМЛМ.

6 Ліст а. Льва Гарошкі да Вітаўта Тумаша ад 13.07.1955. Захоўваецца ў фондзе Вітаўта Тумаша ў БДАМЛМ.

А таксама — ці ёсьць вузейшы падзел: на празаікаў каталіцкіх, праваслаўных (у сваю чаргу — на аўтакефальных і "грэцкіх"), вуніятаў?

У наяўных энцыкляпэдыях не ўдалося адшукаць вызначэньне *"хрысьціянскага празаіка"*. Магчыма, лепш сказаць, што гэта пісьменьнік, які піша на хрысьціянскія тэмы, вызнае хрысьціянскія каштоўнасьці?

Зь якімі, што праўда, таксама далёка ня ўсё зразумела. Прыкладам, Васіль Трубчык, адказны рэдактар выдавецтва "Крыніца жыцьця" Саюзу ЕХБ у Беларусі, пералічвае іх у такім парадку: *"Итак, самая главная ценность в христианстве — это Триединый Бог. Это убеждение у христиан сформировано не каким-то ученым, просветителем или богословом, а Самим Иисусом Христом. Второй ценностью является Библия или Слово Божье. Для христиан — это непререкаемый авторитет. Другими словами, все свои действия христианин должен проверять на основании письменного сообщения, инспирированного самим Богом через Духа Святого. И третьей ценностью для христиан является Церковь. Это не храм или Дом молитвы, а сообщество или собрание верующих в Иисуса Христа людей"*[7]. (Заўсёды чамусьці думалася, што галоўныя каштоўнасьці, якім вучыць Біблія, гэта любоў, дабрыня, дараваньне.)

Так ці інакш, але прасьцей узяць сам зборнік "Кветкі й церні жыцьця", дасюль ігнараваны дасьледнікамі эміграцыйнай прозы, і паглядзець, пра што й як у ім распавядаецца.

Назоў кнігі даволі празрысты — калі казаць пра царкоўную традыцыю (дастаткова згадаць хоць бы *цярновы вянок*[8]). Але тут ёсьць таксама адзін цікавы нюанс: аднаму зь першых аўтар даслаў сваю кнігу Юрку Віцьбічу[9], заснавальніку літаратурнага згуртаваньня "Шыпшына" й аднайменнага часопісу, у дэклярацыі якой гаварылася наступнае: *"Недзе над шпаркаю Дзьвіною, а можа над ціхаю Ясельдаю схілілася шыпшына. Восень абскубе зь яе лісьце, але нават зіма ня здолее абдзерці зь ейных галінак чырвоныя ягады. Нібы паходня, гарыць яна над закутай ракой. Увясну падмінае пад сябе шыпшыну крыгаход. І здаецца, як зьнікае паміж жорсткімі жорнамі зерне, таксама зьнікне і яна паміж важкімі крыгамі. Але сплыве паводка, і гордая расьліна зноў выпроствае свой стан.*

[7] Цыт. паводле: http://www.imhoclub.lv/ru/material/hristianskie_cennosti. Гл. таксама даклад Натальлі Васілевіч "Хрысьціянскія каштоўнасьці ў сучаснай Беларусі: праблема ідэнтычнасьці" : http://churchby.info/bel/140/.

[8] "І адзелі Яго ў шкарлат, і зьвілі карону зь церня, і ўзлажылі на Яго" (Сьв. Марка, 15:17).

[9] У лісьце да Юркі Віцьбіча ад 29.09.1967 а. Леў Гарошка паведамляў, што зборнік яшчэ друкуецца, а ўжо ў лісьце ад 16.12.1967 піша: "Спадзяюся, Вы ўжо мусілі атрымаць кнігу Жмені".

*Хто адважыцца ўзяць шыпшыну голаруч, сотні дзідаў бароняць яе ад ворагаў. І нарэшце паміж дзідамі і лісьцем зьяўляюцца адна за аднэй чырвоныя кветкі. Яны нагадваюць сьвятую кроў тых суродзічаў, што аддалі ці аддадуць яе да апошняе кроплі за Беларускі Народ”*[10].

Аднаго факту раньняй дасылкі, зразумела, недастаткова для катэгарычнага цьверджаньня што да Гарошкавых думак, але сам факт падобнай паралелі цікавы, асабліва станоўчы, пазытыўны сэнс церній у такім кантэксьце.

Кніга, як сьцьвярджае ў прадмове сам аўтар, пісалася працяглы час (с. 5). Пад адным з апавяданьняў нават стаіць дата: *Навагрaдак 1935*. Таму зразумела, што сабраныя пад агульнай вокладкаю творы будуць розьніцца.

Алегарычных апавяданьняў, насуперак чаканьням, найменш. У самым паказальным, “Скала і выступ”, Выступ захапляўся прыгажосьцю краявідаў у даліне й наракаў на свой лёс у вышыні, дзе няма нічога, апроч шуму ветру й рэдкага клёкату арла. І вось неяк узімку пад цяжарам лавіны Выступ адарваўся ад скалы й паляцеў разам зь ёю.

“*Скочваючыся ўніз, Выступ па дарозе разануўся з громам у другі вялікі выступ.*

*— Куды цябе нячыстая гоніць, шалёны! — адазваўся грозна зачэплены выступ.*

*— На волю! — гукнуў прывярэдлівы Выступ.*

*— На якую волю? Коціцца ўніз і толькі ўніз, што-ж гэта за воля? Каб ты паляцеў уверх ці на другую скалу, а гэты прэцца бязвольна ўніз, у балота за зьнішчальнаю лавінаю”* (с. 86).

Натуральнае й для такога тыпу апавяданьняў заканчэньне: *“Калі апала паводка, ад калішняга Выступу не асталося й сьледу. А Скала й далей стаіць непахісна на сваім мейсцы, і яе шпіль усьцяж высіцца высока ў небе”* (с. 87).

Большая ж частка апавяданьняў у зборніку, калі скарыстацца тэрмінам Шэлінга[11], наадварот, таўтэгарычныя, тоб-то якія трэба разумець літаральна.

Яны таксама неаднародныя й могуць быць падзеленыя, у сваю чаргу, на дзьве купкі. Першая зь іх характарызуецца падназваю аднаго з апавяданьняў — “У райваенкамаце” — *сапраўдная падзея*. Для гэтых апавяданьняў характэрная абмежаваная колькасьць герояў, а таксама дыялягічнасьць, як, напрыклад, у апавяданьні “Ля магільнае брамы”, што сваёй ідэяй блізкае да “Сярэбранай табакеркі” Зьмітрака Бядулі:

*“— Ну ты, Рамане, мусіць сёньня недзе ўпіўся; якія-ж гэта жарты са сьмерцю?*

---

10 Шыпшына. Літаратурна-мастацкі часапіс. 1946. № 2. С. 46.

11 Шеллинг, Ф. Сочинения: в 2 т. Т. 2. Москва, 1989. С. 325.

*— Якія? Вось дзівак. Ты адно думаеш, што сьмерць кладзе ў дамавіну жыцьцё чалавека, а ня бачыш, што яна адначасна кладзе канец людзкому цярпеньню і адчыняе дарогу для новага жыцьця. — Сябры ішлі якраз алеяю, усланаю апаўшым лісьцем. — Во глянь пад ногі, колькі тут між гэтых апаўшых асеньніх істоў паедзеных вусьнямі, пабітых градам, парваных ветрам. І вось цяпер апалі яны, згніюць, а на іх мейсца вясною дрэвы ўкрыюцца новым, сьвежым і прыгожым лісьцейкам. Або вось у тых магілах, колькі там калекаў, колькі пакрыўджаных, колькі зьняможаных, колькі друзлых старых, колькі розных хваравекіх? А каб-жа людзі даўжэй жылі, дык сьвет аж кішма кішэў-бы ад калекаў. А так вось спачываюць яны спакойна, а ім на зьмену прыйшлі новыя пакаленьні зь юнацкімі сіламі, з анёльскаю красою, з імклівымі думкамі. А калі жыцьцё паломіць іхныя крыльлі, сьцьміць іхныя вочы, згорбіць іхныя стройныя постаці, як нас цяпер, дык што можа быць лепшае для нас, як пайсьці на вечны супачын?*

*— Хораша ты гаворыш, Рамане, добра слухаць такую гутарку, але калі-б гэта адносілася толькі да іншых, дык тады пэўна-ж дамавіну можна размаляваць прыгажэй за ўсякія палацы, але калі самому ў гэтую дамавіну легчы трэба, дык тады, нябось, скажаш: Хораша ў найме, ды ня дай Бог мне.*

*— Яно ня зусім так, бо я ўжо лепш скажу: Што будзе ўсяму сьвету, тое й бабінаму сыну, і пайду сабе сьледам за дзедам.*

*— Ну ў цябе-ж сёньня й настрой, усёроўна не як на магільнік ідзеш, а на якое вясельле.*

*— Магільнік магільнікам, а праўда праўдаю, і калі гэтая праўда для мяне ня страшная, дык чаго я маю маркоціцца”* (с. 104–105).

Дарэчы, творчасьць Зьмітрака Бядулі была, выглядае, асабліва блізкай Гарошку. У яшчэ адным апавяданьні — сапраўднай падзеі (“Першая малітва”) неназваны пісьменьнік расказвае настаўніцы пра сваё першае асэнсаваньне прысутнасьці Бога, і тая пытае ў яго:

*«— А вы часам ня сьвіснулі, як малы Габрусік Зьмітрака Бядулі? — голасна заўважыла настаўніца.*

*— Ды не, я такі сапраўды пачаў сьпяваць — прадаўжаў спакойна сваё апавяданьне пісьменьнік — але пасьля таго я перакананы, што апавяданьне Зьмітрака Бядулі “Малітва малога Габрусіка” гэта ня выдумка аўтара, але сапраўдная падзея»* (с. 148).

Рэшта апавяданьняў, а іх пераважная большасьць, належыць да так званай *каляндарнай* літаратуры. Створаныя Дыкенсам апавяданьні (*Christmas carol in prose*) у Расеі набылі папулярнасьць як *“пасхальные”*. У беларускай літаратуры аўтарскі, не калектыўны зборнік айца Гарошкі хіба адзіны такі (хоць магу памыліцца). Паспрабую акрэсьліць найбольш характэрныя рысы.

Сюжэт апавяданьняў разгортваецца напярэдадні або на самое царкоўнае сьвята, у зборніку гэта Куцьця, Вадохрышча, Каляды. Зьвязанага зь Вялікаднём няма ніводнага сюжэту, таму, напэўна, правамоцна аднесьці Гарошкавы апавяданьні да ангельскай, заходняй традыцыі, а не расейскай — пасхальнай.

Галоўны герой ці гераіня, па законах жанру, мусіць знаходзіцца ў стане глыбокага крызісу, матэрыяльнага ці духовага. Так, Зьмітра й ягоную жонку вось-вось заб'юць рабаўнікі ("Брат спасіцель"); Нупрэй па мянушцы Жмінда зьбіў да паўсьмерці суседа Сьцяпана, але праз згрызоты сумленьня пачынае паміраць сам ("Сумленьне загаварыла"); Дзяман, ненавісьнік сабакаў, выправіўшыся ў Мір, усю дарогу адганяе, палкамі ды каменьнямі, прыстаўшага да яго Лыску — аж покуль не перастракае злодзея, які пачынае душыць яго й адбіраць грошы ("Неспадзеўка"); Ганулька пасьля сьмерці маці засталася сіратою і, выпраўленая да цёткі, замярзае ў зімовым лесе ("Сірата пад крыжам") і г. д.

Ратуе герояў цуд, але цуд побытавы, ня казачны, мо нават простая выпадковасьць, зьбег акалічнасьцяў. Той, пра які Бэрнард Шоў сказаў: *"A miracle is an impossible thing that is nevertheless possible. Something that never could happen, and yet does happen"* (*"Back to Methuselah"*). Зьмітра ратуе брат, адчуўшы неспакой і прыбегшы да яго ў хату; Нупрэй прыходзіць прасіць дараваньня, атрымоўвае яго й выздараўлівае; Дзямана ад злодзея ратуе Лыска.

Ганулька ў лесе выходзіць да крыжа. *"Расьпяцьце яна бачыла няма ведама колькі разоў, бо-ж у іх хаце на покуці быў такі абраз, але тут Хрыстос выдаўся ёй не такі, як на абразох. Ён тут быў быццам жывы і такі спагадлівы, такі блізкі, што яна пачала падзіцячаму выказваць перад Ім свае турботы і жаль.*

*— Я ў Сьветавічы да цёткі йду, але далей ня ведаю дарогі. Мне вельмі холадна і я яшчэ сягоньня нічога ня ела. У мяне ўжо няма ні таткі, ні мамкі…*

*Моцны парыў ветру перабіў яе гутарку. Яна спробавала прытуліцца да куста, але там ня было ніякага зацішша.*

*— Божанька, мне холадна.*

*Тут яна прыглянулася ўважней да Ўкрыжаванага і змоўкла. Пасьля хвіліны задумы гаварыла сама да сябе:*

*— Але як-жа мусіць быць холадна Хрысту. На мне дык і сарочка, і плаце, і сярмяжка, а ў Яго няма нічога, акрамя хвартушка на паясьніцы.*

*Адубейшымі рукамі яна пачала расшпільваць сярмяжку, скінула яе і пачала ўзлазіць на крыж. […]*

*Крыж быў завысокі для Ганулькі, і рукі адубелыя, дык узьлезьці на крыж не змагла. Але глянуўшы на куст, яна пабачыла, што ад-*

*туль зусім блізка да правае рукі Хрыста. Праз хвіліну яна ўжо была на кусьце і трымалася за перакладзіну крыжа адною рукою, а другою закінула сваю сярмяжку проста на галаву Хрыста. З радасьці, што ўдачна выканала сваю задуму, яна саскочыла з куста пад крыж і проста села ў сьнег"* (с. 107–108).

Па дарозе праяжджалі сані, але ніхто не зьвяртаў на сіротку ўвагі. Толькі празь нейкі час яна пабачыла нейкага чалавека, які сам зьвярнуўся да яе й запытаў, чаму яна адна й распранутая. Ганулька адказала.

*"— Хрысту сярмяжку аддала... — паўтарыў ціха падарожны, гледзячы на крыж, — а сама... На, патрымай мой кастыль, — зьвярнуўся ён да Ганулькі.*

*Яе адубелыя рукі ледва маглі трымаць кастыль. Падарожны пачаў хутка распранацца. Ён скінуў свой халат і перадаў яго Ганульцы.*

*— На, апранайся хутчэй!*

*— А як-жа вы будзеце неапраненыя, вам-жа будзе халодна.*

*— Апранайся, апранайся хутчэй... — Ён памог ён зашпіліць гузікі і расьцёр яе адубелыя рукі. — Аба мне ня турбуйся. Падбяры крыху крысы халата, каб не цягнуліся па сьнезе, ды йдзі са мной. У мяне ў хаце яшчэ знойдуцца сякія такія лахі і лыжка цёплае стравы..."* (с. 109).

Для твораў гэтага жанру абавязковым зьяўляецца дыдактызм, часьцей за ўсё менавіта ім заканчваецца апавяданьне: *"Праўду кажуць старыя людзі: якое жыцьцё, такая й сьмерць. З чыстым сумленьнем абое яны нават і перад сьмерцю маглі ўсьміхацца і спакойна пайшлі перад аблічча Ўсявышняга"* ("Людзі з чыстым сумленьнем", с. 130); *"За дзьвярыма цяжка разрозьніць ворага ад найлепшага прыяцеля"* ("Нэрвы ня вытрымалі", с. 138); *"Людзкая кроў ніколі марна ня гіне"* ("Людзкая кроў ня гіне марна", с. 142).

Найчасьцей творы гэтага жанру — апавяданьні, але ня толькі, што й засьведчыў зборнік Гарошкі: тут зьмешчана аповесьць "Няведамыя шляхі" — пра выхад у людзі, пра здабыцьцё навукі пастушком Андрэйкам, і галоўная ідэя (той самы дыдактызм) выказана на самым пачатку: *"А ці дасьцё веры, вы жэўжыкі, што часам дарога да шчасьця йдзе празь бяду й гора?"* (с. 153), падкрэсьліваючы тым самым, што церні з загалоўку ня толькі непазьбежныя, але мо й неабходныя ў пошуках лепшага жыцьця. Як у шыпшыны.

Зборнік пісьменьніка Анатоля Жмені — айца Льва Гарошкі — цікавы ўзор жанру, рэдкага ў беларускай літаратуры. Зрэшты, традыцыя адраджаецца.

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# AUDIATUR ET ALTERA PARS

Гісторыя эміграцыі — гэта не ў апошнюю чаргу гісторыя канфліктаў. Рознамаштабных, рознаўзроўневых. Палітычных, канфэсійных, асабістых. Неспатоленыя амбіцыі, неагучаная ўдзячнасьць. Вельмі часта — прыкрыя непаразуменьні, якіх лёгка можна было б пазьбегнуць, калі б людзі, гаворачы на адной мове, маглі размаўляць і чуць адзін аднаго. Ці, прынамсі, моўчкі выслухаць.

Ва ўсіх канфліктах маюцца два бакі. Так і ў гэтым, пра які пойдзе аповед, іх два. Адзін, пасіўны, — ведамы эміграцыйны дзеяч Часлаў Сіповіч (1914–1981): першы беларускі грэка-каталіцкі біскуп XX ст., стваральнік Беларускай бібліятэкі імя Францыска Скарыны ў Лёндане. Біяграфію другога — боку актыўнага — у сваёй кнізе "Беларусы ў Вялікабрытаніі" падае гісторык Натальля Гардзіенка: *«Пазьняк Язэп. Да эміграцыі Вайніловіч (25.01.1925–10.12.1989). Паходзіў з Случчыны. Унук фундатара менскага Чырвонага касьцёла Эдварда Вайніловіча. У часе Другой Сусьветнай вайны быў вывезены на працу ў Нямеччыну. Пазьней уступіў у шэрагі Арміі Андэрса, разам зь якой апынуўся ў Вялікабрытаніі. Быў сябрам ЗБВБ. У 1951 г. выехаў на навучаньне ў Бэльгію. Вывучаў інжынэрыю ў Лювэнскім унівэрсытэце. У 1954 г. вярнуўся ў Вялікабрытанію. Тут уваходзіў у Галоўную Ўправу ЗБВБ, а таксама ў кіраўніцтва БАКА "Рунь". У другой палове 1950-х выехаў у ЗША. Тут быў старшынём Нью-Ёркскага аддзелу БАЗА. Меў уласны бізнэс — мэханічную майстэрню. Памёр і пахаваны ў Флёрыдзе»*[1].

Сутнасьць канфлікту, карані, як выглядае, былі незразумелыя ані самому Сіповічу, ані ягонаму сябру й доўгагадоваму паплечніку айцу Аляксандру Надсану, які ў кнізе, прысьвечанай жыцьцю й дзейнасьці апостальскага візытатара, адмыслова згадвае яго: *«У апошнія гады свайго жыцьця Ўладыку Чэславу прыйшлося шмат пацярпець ад кампаніі нянавісьці і паклёпаў з боку таго, каго ён уважаў сваім прыяцелем. Гаворка ідзе пра Язэпа Пазьняка, каталіка, нашчадка вядомага роду Вайніловічаў. Айцец Чэслаў ведаў яго ад 1948 году, калі абодва жылі ў Лёндане, і дапамог яму атрымаць месца ў Лювэнскім Унівэрсытэце. З навукі Пазьняка*

[1] Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Мінск, 2010. С. 554.


Біскуп Часлаў Сіповіч

*нічога ня выйшла, і ў 1954 годзе ён вярнуўся ў Лёндан, дзе ажаніўся з ангелькай. Айцец Сіповіч даваў ім шлюб. Неўзабаве яны выехалі ў Злучаныя Штаты Амэрыкі. Сьпярша жылі ў Нью-Ёрку, а ў 1972 годзе пераехалі ў Флярыду, пасьля таго як Язэп дзеля стану здароўя ў параўнаўча маладым веку пайшоў на пэнсію. Уладыка Чэслаў ужо біскупам стараўся заўсёды адведваць Пазьнякоў, нават калі гэта было для яго нязручна. У 1978 годзе стаўленьне Пазьняка да Ўладыкі раптам зьмяніліся. Спачатку тое выглядала на нейкую крыўду, быццам Уладыка Чэслаў не ацаніў належна ягоную ахвярнасьць і заслугі. Пасьля абвінавачаньні рабіліся ўсё горшымі і нерацыянальнейшымі. У адным з больш "памяркоўных" лістоў за 10 сакавіка 1980 году Пазьняк пісаў Уладыку: "На сваёй скуры я пазнаў тваю зьверскасьць і зьдзекі, і з дасьведчаньня скажу, што ты перавысіў і немцаў і бальшавікоў". Ён пачаў пісаць лісты супраць Уладыкі Чэслава да ўсіх знаёмых і да царкоўных уладаў. Большасьць людзей ведала добра Ўладыку Чэслава і таму ня верыла гэтым абвінавачаньням. Кастусь Мярляк зь Нью-Ёрку пісаў Уладыку Чэславу 4 красавіка 1980 году: "Хачу Вам напісаць пару слоў адносна мае размовы із сп. Пазьняком, якая адбылася тыдзень таму назад. Вось жа справа ў тым, што ён уважае сябе пакрыўджаным праз Вас, у той форме, што не ўдзеленая яму належная ўвага, на якую ён уважае поўнасьцю заслужыўся. Я асабіста ўважаю, што пералічаныя ім заслугі пераўвялічаныя, а таксама пераўвялічаная неўвага да яго, але справа ў тым, што ён мае станоўчы намер пісаць пра гэта ў прэсу, што я яму адраджваў і прасіў гэтага не рабіць, бо пазьней будзе напэўна шкадаваць". Праваслаўны біскуп Мікалай з Таронта так пісаў у гэтай справе 31 ліпеня 1980 году: "Прашу вашых пару слоў адносна сп. Пазьняка, каб ведаць пра яго. Зноў жа баюся, каб не папасьці ў бяду, бо падбухторшчыкаў цяпер даволі". Уся гэтая прыкрая справа доўжылася тры гады і напэўна ж не дадала здароўя Ўладыку Чэславу. Тым ня менш ён ніколі не сказаў дрэннага слова на Пазьнякоў і называў іх сваімі прыяцелямі. Толькі ўлетку 1981 году,*

*незадоўга да сьмерці Ўладыкі, настаў нейкі ўмоўны спакой. Немагчыма зразумець раптоўнай зьмены ў стаўленьні Пазьнякоў да Ўладыкі Чэслава. Некаторыя думаюць, што тут не абышлося безь беларускіх камуністычных уладаў, бо нападкі на Ўладыку пачаліся неўзабаве пасьля таго, як Пазьняка адведаў ягоны брат з савецкай Беларусі»*[2].

Варта, напэўна, даць слова й другому боку, выдрукаваўшы з архіваў Беларускага інстытуту навукі й мастацтва два лісты Язэпа Пазьняка да Міхася Тулейкі[3].

*Wednesday, April 16 [1980].*

*Дарагі Міхась!*

*Некалькі слоў падзяліцца падзеяй, што сталася паміж намі й Сіповічам.*

*Амаль што два гады, як апошні раз ён у нас быў. Гэтым разам, як і заўсёды, мы прыгатавалі ўсё, што чалавеку трэба дзеля выгады. Як ведаеш, пры кожным яго побыце ён жыў у нас у Ню Ёрку. Пэўна, усё на нашым утрыманьні і, як звыкла, мы аплочвалі яго падарожжа і давалі даволі шмат грошай з года на год. Лічылі, што гэта ўсё трэба дзеля сяброўскай помачы і з сталага запэўненьня Сіповічам, што калі якаясь помач патрэбная будзе, нам ён будзе гэтак сама прыхільны.*

*Пры ад'езьдзе й багатым стале я гавару Сіповічу: Калі-б здарылася нагода адведаць Лёндан, ці можна было б наняць кватэру ў адным із яго дамоў?*

*Не, кажа, кватэры дзеля вас ня будзе, але як будзеце ў Лёндане, загародзіш мне плот, а жонка пашые фіранкі. Пэўна, мы ніяк не спадзяваліся такога адказу. Адзін з тых дамоў ён купіў за нашы грошы. Калі я гэта намякнуў, дык ён і пачаў раўці на мяне:*

*Я накупляў дамоў на Беларускую справу*[4]*, а не каб табе вынаймаць! Ты не інжынер! Ты мовы ангельскае ня ведаеш! Я біскуп, а ты хто!? А колькі ты мне даў грошай, як я быў апошнім разам?*

---

[2] Надсан, Аляксандар. Біскуп Чэслаў Сіповіч, сьвятар і беларус. Менск, 2004. С. 272–273.

[3] **Міхась Тулейка** (1915–1998), грамадзкі дзеяч. Ад 1949 г. жыў у ЗША. Сябра БАЗА, у тым ліку пэўны час кіраваў Нью-Ёркскім і Нью-Джэрзійскім аддзеламі арганізацыі. Найбольш часу аддаваў працы на пасадзе старшыні парафіяльнай рады БАПЦ у Брукліне, быў рэгентам хору. Пазьней, пераехаўшы ў Нью-Джэрзі, працягваў сваю грамадзка-рэлігійную дзейнасьць у Гайлэнд-Парку.

[4] Маюцца на ўвазе будынкі ў лёнданскім раёне Паўночны Фінчлі, што былі набытыя Беларускай каталіцкай місіяй усходняга абраду для патрэбаў Беларускай школы-інтэрнату Сьв. Кірылы Тураўскага й Бібліятэкі імя Ф. Скарыны.

*Вось разьвязка ўсяе збэсты. Колькі я даў грошай, як ён быў апошні раз.*

*Я аплаціў усё ўтрыманьне. Абвозіў яго па ўсіх беларусах Флёрыды. Зьбіраў людзей на бяседы, каб ён мог спаткаць іх. Усё за нашы грошы, што мы ашчаджалі месяцамі, каб яму гэта даць.*

*У нас тады была копа рахункаў за шпіталь яшчэ не заплочаных. Ён вельмі добра ведаў аб гэтым. Пытаўся, з чаго я жыву, і я яму разказаў. Міма ўсяго гэтага ён наваліўся на нас, бо мы не аддалі нашы апошнія грошы. Даслоўна апошнюю капейку.*

*Праз 30 гадоў ён даіў нас з усяго, што мы мелі, і нарэшце, як даведаўся, што ўжо ў нас німа грошай, пачаў бэсьціць з усім яго талантам. За што?*

*Я напісаў аб гэтым Станкевічу Стасю й Грышкевічу*[5]*. Нідзе ніякай падтрымкі не атрымаў. Відаць, усе, апрача мяне, ведалі, што можна было спадзявацца. Я верыў у яго хрысьціянскую шчырасьць і справядлівасьць, і вось што даведаўся.*

*Пэўна, трэба прызнацца, што я быў даволі наіўны, што да папкоў. Я вырас, дзе ніякіх папоў ня было. Тут я думаў, што ў адмен ад бязбожжа знойдзецца крыху шчырасьці. Цяпер магу сьмела сказаць, што Сіповіч перавысіў усе зьверскасьці, што я меў і ад бальшавікоў, і ад немцаў, дзе прасядзеў у канцэнтрацыйным лягеры, а маю сястру замардавалі 13-гадовай дзяўчынкай, бо адказалася быць прастытуткай у тых дамох, што немцы стварылі на Беларусі.*

*Вось адносіны "патрыёта" да простага селяніна, што і не інжынер, і бяз мовы ангельскае, і гэтак цяжка зарабляў тую крывавую капейку і аддаў дабрадзею з вераю, што хоць там знайду сяброўства.*

*Які-ж выснаў:*

*З гэтых адносін відаць, што быўшая шайка жулікаў, што разам зь немцамі патлашылі Беларусь, цяпер патлошаць эмігрантаў у імя патрыятызму. Як-жа іначай думаць?*

*Чаго я не спадзяваўся, гэта зьверскасьці, зь якой наваліўся на нас Сіповіч. І толькі дзеля таго, што ў нас няма грошай. Вось, кажа, рабіць табе трэба, а не езьдзіць! Так, рабіць і аддаваць яму, як мы гэта рабілі з года ў год праз 25 гадоў нашага сужэнства.*

*Нават і аб нашых угодках сказаў: што вы, Royalty, каб я пісаў аб вашых 25-х угодках сужэнства? Пэўна, мы ні Royalty. Мы тыя халопы, што аддалі наш заробак, каб ён накупляў дамоў, і дзеля няма ведама чаго, або за якую кару, нават і наняць кватэры за нашы грошы не пазволіў*[6]*. У гэтым часе палова гэтых дамоў былі парожныя.*

[5] Маецца на ўвазе Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

[6] Памяшканьні ў тых дамах сапраўды тады не здавалі ў арэнду.

*Цяпер ён і надалей бэсьціць нас, гаворачы, што Пазьнякі хворыя, падурнелі, абіджаныя і абідлівыя.*

*Хіба толькі адно праўда абіджаныя. Ёсьць на гэта прычына. Толькі мы ня ведаем, чаму ён нас так абідзіў і за што?*

*Ня маючы іншага выхаду, я буду змушаны вынясьці ўсё гэта публічна. У самаабарону і перасьцярэгу ўсіх беларусаў і на Беларусі, і на эміграцыі, каб такіе Сіповічы больш не зьдзекваліся.*

*З пашанай, Язэп Пазьняк.*

*Florida, May 1, 80.*

*Дарагі Міхась.*

*Дзякую за ліст, успачуцьцё маёй праблемы і разчараваньня. На запытаньне, чаму я пісаў да Вас, маючы на ўвазе, што Вы іншага веравызнаньня*[7]*. Сапраўды, я ніяк ні бачу гэтай розьніцы. Аб гэтым хіба можа сьведчыць мая прысутнасьць у царкве на Атлянтык авеню і мой уклад працы там.*

*Я лічу, што Сіповіч залічвае сябе ў беларускія патрыёты і да лідарства на эміграцыі. Аб гэтым сьведчаць артыкулы эмігранцкай прэсы, якую і я, і Вы падтрымліваем.*

*Прычынай майго пісьма да Вас, як і да большасьці асоб, што праклямуюць сябе адказнымі асобамі і лідарствам эміграцыі, належачых у эміграцыйна ўрадавы склад. Асобы, паводзіны якіх даюць падставы справядлівасьці. Асновы права, асновы сталасьці й даверу.*

*Адзін з гэтых асоб, а можа і адзін з большых ёсьць Сіповіч. Ён-жа належыць і да Рады [БНР], якую Вы падтрымоўваеце і належыце*[8]*.*

*Я расказаў Вам, як Сіповіч аднёсься да нас, даведаўшыся, што ў нас німа грошай. Лічу, што гэта адзіная прычына, і ніякай іншай знайсьці ня можна. Сумна яшчэ і таму, што ён збэсьціў і мяне, і маю жонку толькі дзеля таго, што, будучы ў нас апошнім разам, мы ні маглі даць яму грошай. Ён дакладна ведае нашае паложаньне і колькасьць незаплачаных рахункаў за шпіталь. Перажываючы гэтыя зьверскія адносіны і шукаючы адказу, я зьвярнуўся да бальшыні асоб, што належаць да гэтага ўраду, да якога належыць і Сіповіч, уключна з Прэзыдэнтам Рады*[9]*. Пакуль што ніякага адказу ні маю, хоць ужо прайшло шмат часу. Я лічу, што адносіны Сіповіча да нас няможна лічыць як якоесь непаразуменьне двух сяброў. Так як мне сказаў Сіповіч, "я біскуп, а ты хто?". Гэтаксама я і не магу хваліцца прыналежнасьцю да Рады.*

7 Язэп Пазьняк быў каталік, а Міхась Тулейка — праваслаўны.

8 Афіцыйна біскуп Часлаў Сіповіч выйшаў з Рады БНР на пачатку 1950-х гг.

9 Маецца на ўвазе тагачасны Старшыня Рады БНР Вінцэнт Жук-Грышкевіч.



Язэп Пазьняк

*Кіруючыся словамі Сіповіча, што на маю просьбу наняць кватэру на некалькі дзён, ён сказаў: "я накупляў дамоў на беларускую справу, а не каб табе наймаць".*

*Вось як робіцца беларуская справа. Не дзеля беларусаў, што вялікім высілкам памаглі гэтые дамы купіць, а толькі дзеля малой групкі беларусаў. Прыпамінаючы, якім спосабам быў куплены дом для Фундацыі Крэчэўскага[10], робіцца зусім ясна: групка спрытных жулікаў пад прыкрыўкай "лідарства" і Рады ўжываюць нават самые жуткіе спосабы дзеля асабістых выгад і ўзбагачэньня. Бачыце, такім спосабам відаць, чаму і як ужылі патрыятызм шчырых хлопцаў.*

*Я лічу, што мае цяжказаробленыя грошы выхваціў ад мяне тытулярны "Радны" з той самай пагардай.*

*Калі я гавару аб спосабу ашуканства, дык ня ведаю, дзе знайсьці граніцы. Напрыклад, адзін зь іх бачу ў форме пазычкі, якія пазьней адказаўся выплаціць, хоць у свой час даваў паквітаваньні на тытулаванай паперы і прысягай сплаціць. Ані паквітаваньні, ані нічога не памаглі. Не сплаціў ні цэнта.*

*Вось Вам гонар "біскупа" — "раднага" і "патрыёта".*

*Чаму я маю права думаць, што гэта супалка "радных" мае ўдзел у пакасьці Сіповіча. Бачыце, на мае просьбы і зварот да шмат "радных", ніхто не запярэчыў Сіповічу, ані даў мне прычыны або нават і спробы спыніць зьдзекі ці зьвярнуць забраныя несправядліва мае грошы. Гэта ўключае і "Прэзыдэнта" рады.*

*Вось, даражэнькі Спадару, чаму немагчыма лічыць гэтые зьдзекі "непаразуменьнем сяброў". Сіповіч ясна сказаў, што ён мне ні раўня, але ён належыць да рады, бяз згоды якой ён, напэўна, ні пусьціўся-б на гэта зьверства.*

*Баліць нязносна ашуканства Сіповічам, а яшчэ баліць і тое, што не знаходзяцца справядлівые людзі там, дзе яны павінны быць.*

*З пашанай, Язэп.*

---

10 Рада БНР мела непасрэднае дачыненьне да набыцьця памяшканьня для Фундацыі Пётры Крэчэўскага ў Нью-Ёрку. Падрабязьней пра гэта гл.: Гардзіенка, Н.; Юрэвіч, Л. Рада БНР 1947–1970. Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск: Кнігазбор, 2013. С. 88–89.

У закіды, агучаныя аўтарам лістоў, веры даць цяжка. Хутчэй за ўсё, нейкія дробныя крыўды, сапраўдныя ці ўяўныя, назапашваліся, мацнелі, падпітвалі адна адну, покуль не адбыўся выбух, перакрэсьліўшы даўнія прыяцельскія адносіны й сапсаваўшы апошнія гады жыцьця абаім дзеячам. Чытаючы лісты, бачыш, што ніякія не камуністычныя ўлады сталіся падставаю (хоць не выключана, што пасьля ўсяго Пазьняк і сапраўды, адышоўшы ад беларускага грамадзтва на эміграцыі, пачаў глядзець у бок БССР), а ўсяго толькі няўменьне аднаго й нежаданьне другога ў патрэбны час выказацца й выслухаць.

***Юрка Віцьбіч***

# ЛІСТЫ ДА АЙЦА ЛЬВА ГАРОШКІ[1]

7.8.67.
Саўт Рывер

Дарагі Айцец Леў!

Калі не памыляюся, дык нашае добрае й цікавае ліставаньне спынілася 10 год таму. З гэтае прыкрае прычыны ня маю цяпер нават Вашага сучаснага адрысу, і сп. Шукелайць[2] параіў мне даслаць гэты ліст на Лёндан[3] — спадзяюся, што атрымаеце. Шмат вады сплыло за гэты час, але наразе дазвольце парушыць пытаньне, якое ладне каго тут узрушыла.

На сёлета, паводля наступных крыніцаў, а ўласьне:

а. Леў Гарошка. Сьв. Еўфрасіня-Прадслава. Парыж, 1950 г.

Пракоп Каваль. Беларусь у датах, ліках і фактах. Парыж, 1950 г.

В. Пануцэвіч. Сьв. Афрасіня Полацкая. “Бацькаўшчына”, № 443 і 444.

БІНіМ. Абежнік № 10 за 1966 г. Найважнейшыя ўгодкі ў 1967 г.

Арх. Васіль[4]. Сьв. Еўфрасіньня Полацкая. “Беларус”, № 122, 1967 г.

— прыпадала 800-годзьдзе ад дню сьмерці сьвятое Еўфрасіньні-Прадславы князёўны Полацкае, бо яна памёрла, як яны сьцьвярджаюць, у 1167 г.

Значна большая колькасьць вялікіх ды малых крыніцаў (прынамсі, з тых, што маю ў сваёй кніжніцы), менавіта:

Кс. А. Станкевіч. “Божае Слова”. Львоў — Вільня. 1938 г., стар. 367.

Беларускі Каляндар. Менск. 1943 г., стар. 23.

“Беларускія Навіны”[5]. Газэта, Парыж, № 3–4.

---

[1] Лісты былі перададзеныя ў БДАМЛМ.

[2] **Антон Шукелойць** (нар. 1915), грамадзка-культурны дзеяч. Ад 1952 г. жыў у Нью-Ёрку. Працаваў тавараснаўцам пры Інстытуце тэхналёгіі моды, на прыняцьці тавараў у вялікім гандлёвым доме *Orbach*. Быў сябрам Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня, актывістам і пэўны час старшынём Нью-Ёркскага аддзелу арганізацыі.

[3] У гэты час а. Леў Гарошка жыў у Лёндане, дзе быў рэктарам Беларускай каталіцкай місіі ўсходняга абраду ды ігуменам законнага дому.

[4] Маецца на ўвазе архіяпіскап **Васіль** (Тамашчык, 1900–1970), рэлігійны дзеяч, япіскап БАПЦ.

[5] **“Беларускія Навіны”** — газета, што выдавалася ў Парыжы ў 1945–1947 гг. Рэдактар Лявон Рыдлеўскі.

*П. Батюшков. Белоруссия и Литва. СПБ. 1890 г.* Год сьмерці сьв. Еўфрасіньні ў яго (памылка друку) пададзены 1873.

*Г. Киприанович. Исторический очерк православия, католичества и унии в Белоруссии и Литве. Вильна. 1899,* стар. 8.

*Г. Федотов. Святые древней Руси. Н. Й. 1960,* стар. 210.

Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Падручнік для ВНУ. Акадэмія Навук БССР. Мінск. 1959 г., стар. 69.

Я. Гладкі. Малюнкі мінулага. Ватэнштэт. 1947 г., стар. 54.

"Зьвіняць званы сьвятой Сафіі" [6] — часапіс, № 2 і г. д.

— сьцьвярджаюць, што сьв. Еўфрасіньня памёрла ў 1173 г. На жаль, мая дзядоўская памяць кульгае, ды ня ў стане я пад'ехаць у Нью Ёрк, каб у ягонае кніжніцы ўдакладніць гэтую справу, але ўсё-ж помню з раней прачытанага, што тае-ж даты (1173) прытрымліваюцца — М. Даўнар-Запольскі[7], Б. Данілевіч[8], Турчыновіч[9], А. Сапуноў[10], М. Бэз-Карніловіч[11], А. Сементоўскі[12], Н. Кайгародаў[13] ды іншыя.

Некаторыя-ж крыніцы, як, напрыклад, *"Новый энциклопедический словарь"* выданьня Бракгаўза і Эфрона, *"Русская энциклопедия"*, сьцьвярджаюць, што сьв. Еўфрасіньня памёрла ў гадох 1173–1175.

Няма нічога дзіўнага, што з прычыны гэтых разьбежнасьцяў у крыніцах паўсталі тут разьбежнасьці і ў жыцьці. Ні адна беларуская праваслаўная царква ў ЗША (ні з БАПЦ, ні з Грэцкага Экзархата), а паміж імі ёсьць ва ймя сьв. Еўфрасіньні, ня абыходзілі ўрачыста 800-годзьдзе ад дню ейнае сьмерці, мяркуючы, відаць, адзначыць яго ў 1973 г. Характэрна вельмі супярэчнасьць, што адбілася ў № 122 "Бе-

[6] **"Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі"** — часопіс праваслаўных беларусаў. Выходзіў у Рэгенсбургу (Нямеччына), потым Міхельсдорфе ў 1946–1947 гг. Рэдактары Юрка Віцьбіч, а. Мікалай Лапіцкі.

[7] **Мітрафан Доўнар-Запольскі** (1867–1934), гісторык, этнограф.

[8] **Васіль Данілевіч** (1872–1936), расійскі і ўкраінскі гісторык і археоляг. Сярод іншага, аўтар кнігі *"Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV столетия"* (Кіеў, 1896).

[9] Маецца на ўвазе **Восіп (Іосіф Цэзар) Турчыновіч** (1834—?), гісторык, правазнаўца, аўтар працы *"Обозрение истории Белоруссии с древнейших времен"* (1857).

[10] **Аляксей Сапуноў** (1852–1924), гісторык, археограф, краязнаўца, дасьледнік помнікаў старажытнай культуры.

[11] **Міхал Без-Карніловіч** (1796–1862), гісторык, этнограф, вайсковы тапограф. Аўтар працы *"Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся"* (СПб., 1855).

[12] **Аляксандар Семянтоўскі** (1821–1893), этнограф, археоляг, краязнаўца. Сярод іншага, аўтар прац па гісторыі Віцебшчыны.

[13] Магчыма, маецца на ўвазе **Нестар Кайгародаў** (1840–1910), расейскі вайсковы дзеяч, друкаваўся ў *"Артиллерийском журнале"*.

ларуса" — калі Арх. Васіль на ягонае першае старонцы адзначыў[14], што сьв. Еўфрасіньня памёрла ў 1167 г., дык сп. сп. Войтанка[15] і В. Пашкевіч (Жукоўская)[16] у сваіх цікавых артыкулах на далейшых старонках пішуць, што яна памёрла ў 1173 г. Ня ўпэўнены ў гэтым, але прыпушчаю, што беларуская рэдакцыя Радыё "Свабода" ў сваім штодзённым каляндару адзначыла сёлета 800-годзьдзе ад дню сьмерці сьв. Еўфрасіньні, а тым самым мімаволі зьбянтэжыла сваіх тамтэйшых слухачоў, бо вернікі паміж імі бяз сумлеву маюць абыйсьці гэтую гадавіну ў 1973 г.

Хоць я ўжо значны час як адыйшоў ад розных адмысловых пасадаў кшталту рэфэрэнта па рэлігійных справах пры Беларускім (Крывіцкім) Цэнтральным Дапамаговым Камітэце або ад рэдагаваньня "Шыпшыны"[17], "Зьв. званы сьв. Сафіі", "Беларускага Слова"[18] і г. д., і г. д., але суродзічы, магчыма, ведаючы, што я зьяўляюся іхнім старым літаратарам, зьвярнуліся да мяне лістоўна й на словах з просьбай растлумачыць ім гэтую разьбежнасьць, выказацца наконт яе ў друку. Пад ціскам гэтых запытаў я ў сваю чаргу таксама запытаўся ў Сп. Др. Тумаша (БІНіМ) й Сп. Пануцэвіча, чым яны кіраваліся ў часе датаваньня сьмерці сьв. Еўфрасіньні 1167 г., і абодва спасляліся на Вас. Не беспасярэдне, а пабочна дазнаўся, што ў Вас гэтую дату ўзяў і Арх. Васіль.

Ня захаваю ад Вас, дарагі Айцец Леў, сваё перакананьне ў тым, што сьв. Еўфрасіньня памерла каля 1173 г., але разам з тым з пашанай стаўлюся здаўна да Вас як да навукоўца, ведаю з Вашага ліста яшчэ ад 7. 7.53 г., што Вы адносна гэтае даты (1167) спэцыяльна рабілі студыі, як і знаёмы із Вашае каштоўнае працы "Сьвятая Еўфрасіньня-Прадслава. Полацкая патронка Беларусі", чым уласьне кіруючыся Вы абралі дату — 1167 г. Маю на ўвазе сустрэчу сьв. Еўфрасіньні з імпэратарам Мануілам Комнэнам. Аднак можа меў рацыю гісторык Галубінскі[19],

---

14 Васіль, архіяпіскап. Сьвятая Еўфрасіньня Полацкая — Патронка Беларусі // Беларус. № 122. Чырвень 1967. С. 1.

15 Маецца на ўвазе тэкст: Войтэнка, Віктар. Канстанцыя. На ўгодкі аднаўленьня Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы // Беларус. № 122. Чырвень 1967. С. 2.

16 Маецца на ўвазе тэкст: Пашкевіч, В. Жыцьцё сьв. Еўфрасіньні Полацкай // Беларус. № 122. Чырвень 1967. С. 3.

17 **"Шыпшына"** — літаратурна-мастацкі часопіс. Орган літаратурнага аб'яднаньня "Шыпшына". Выдаваўся ў Міхельсдорфе (Нямеччына) у 1946–1950 гг. Рэдактар Юрка Віцьбіч.

18 **"Беларускае Слова"** — газэта, што выходзіла ў Міхельсдорфе, Бакнангу (Нямеччына), а пазьней у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША) у 1948–1958 гг. Рэдактарамі ў розныя часы былі Аляксандар Русак, Юрка Віцьбіч, Юры Сабалеўскі, Яўхім Кіпель.

19 Маецца на ўвазе кніга: Голубинский, Евгений. История канонизации святых в русской церкви. Москва, 1903. — 600 с.

калі ў пошуках дакладнае даты сьмерці першым зьвярнуў увагу на гэтую сустрэчу як на арыентыр у пошуках дакладнае даты, але потым ад яго адмовіўся з прычыны ягонае другараднае няўстойлівасьці, а можа нават — плыткасьці. І можа найлепш, я ня зусім у гэтым яшчэ ўпэўнены, будзе адпавядаць праўдзе прыпушчэньне, што сьвятая Еўфрасіньня памерла каля 1173 г.

Увогуле пытаньне аб годзе сьмерці сьв. Еўфрасіньні-Прадславы князёўны Полацкае застаецца для нашае эміграцыі ня вырашаным. Дарэчы, прыкра, што сіла пэўнае гістарычнае інэрцыі дагэтуль прымушае сяго-таго з нашых суродзічаў губляць пачуцьцё аб'ектыўнасьці да выказваньня аўтарытэтаў, калі яны належуць да іншага, чым гэтыя суродзічы, веравызнаньня. Аднак я асабіста чуюся вольным ад гэтае інэрцыі, чаму ёсьць ладне доказаў. Таму хочацца ў самым найлепшым пляне падзяліцца з Вамі думкамі аб закранутым у гэтым лісьце паважным пытаньні.

Шмат яшчэ аб чым хацелася пагутарыць з Вамі, але шаную Ваш час, дый мне, на жаль, замінае ў гэтым хвароба. Як Вашае здароўе, Айцец Леў? Мне дык няма чым пахваліцца — з прычыны павольнае цыркуляцыі крыві баляць у часе хады ногі ды праз кожны квартал спыняюцца, а потым, калі кроў зноў даплыве ў патрэбнай колькасьці да ног, зьнікае боль і іду далей. Ня дапамагла ў гэтай справе і апэрацыя, якую меў у леташнім сьнежні. Затое, дзякуй Богу, мая жонка, аб здароўі, якое Вы, паводля мае просьбы, маліліся ў студзені 1958 г., дзякуючы Міласьці Божае й тагочаснае ды сваячасовае апэрацыі, канчаткова вызвалілася ад свае страшэннае хваробы — раку. Маю яшчэ тут і 90-гадовую матку. Ніхто, як Бог!

Шчыра зычу ўсяго найлепшага.

Пішэце, калі ласка.

Прашу прыгадаць у Вашых малітвах.

З пашанай да Вас, Ваш Юрка Віцьбіч.

8.9.67 г.
Саўт Рывер

Дарагі Айцец Леў!

Вельмі ўдзячны за Ваш ветлівы ліст ад 25.8.67 г. Спадзяюся, што нашае колішняе ліставаньне аднавіцца, і асабіста вычуваю ў гэтым вялікую патрэбу.

Тутэйшая беларуская праваслаўная парафія пры царкве сьвятое Еўфрасіньні-Прадславы князёўны Полацкае ўжо 10 год як выдае часапіс "Царкоўны Сьветач"[20]. Хоць я нібы належу да гэтае парафіі, але кага-

[20] **"Царкоўны Сьветач"** — царкоўна-грамадзкі часопіс. Орган Беларускага Праваслаўнага Царкоўнага Камітэту ў Амэрыцы. Выходзіў у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі) у 1951–1988 гг. Рэдактар а. Мікалай Лапіцкі.

дзе адзначаны часапіс да мяне не трапляе, бо я не падтрымліваю “гэнэральнае лініі”, прадугледжанае а. М. Лапіцкім[21] ды ягоным стрыечным братам Іванам Касяком[22]. Таму зусім выпадкова, праз трэцюю асобу, дазнаўся сёньня аб тым, што вялікі артыкул у вапошнім “Царк. Сьв.” закідае… вуніятам сьвядомую падробку з датай сьмерці прэпадобнае Еўфрасіньні, каб толькі стварыць закалот паміж праваслаўных. Пэўне-ж ня трэба праймацца лямантам тутэйшых “златавустых”, але…

Як пісаў ужо ў сваім мінулым лісьце ад 7. 8.67 г., ні адна беларуская праваслаўная царква на чужыне ня адзначыла сёлета 800-годзьдзе ад дню сьмерці сьвятое Еўфрасіньні-Прадславы. Зпрычынілася да гэтага, паводля мае думкі, інэрцыя двох парадкаў. Па-першае, г. зв. статыстычная, ціск з боку пераважнае бальшыні крыніцаў (1173 г.), а, па-другое, гістарычная, недавер да іншага веравызнаньня. Мне здаецца, што з навуковага пункту гледжаньня абедзьве гэтыя інэрцыі ня вытрымліваюць аніякае крытыкі.

Не захаваю ад Вас, Айцец Леў, што др. Васілеўскі[23] (належыць да БАПЦ) папрасіў мяне напісаць кніжку аб сьвятой Еўфрасіньні-Прадславы, ад чаго я адразу-ж адмовіўся. Перадусім, ня ў стане пісаць яе лепш ад Вас, а, па-другое, што найгалоўнае, ня бачу ў гэтым аніякае рашуча патрэбы. Вашая каштоўная кніжка “Сьвятая Еўфрасіньня-Прадслава” (Парыж, 1950) карыстаецца даверам з боку пераважнае бальшыні праваслаўных беларусаў, якія спакідаюць бяз увагі зьвяганьне тырзгаймаўскіх[24] торбахватаў. Але-ж…

Не падзяляю Ваш сум, што Вашая праца аб сьвятой Еўфрасіньні Полацкае, выдадзеная Вамі ў форме брашуры, а не навукова абгрунтаванае манаграфіі. Акурат у першай была вялікая патрэба, мы бадай нічога ня мелі ў гэтай галіне. Аднак тое мейсца ў ёй, дзе на падставе вялікіх і ўпартых студыяў упяршыню ейная сьмерць датаваная 1167 г., патрабуе адмысловага артыкулу са спасылкамі на адпаведныя крыніцы, факты й падзеі. Інакш Вы не замацуеце, як мне здаецца, за сабой дый за ўсімі намі, што перадусім і дарэшты шукаюць праўды, сваю відавочную навуковую перамогу.

У тым выпадку, калі Ваш артыкул ня зможа зьявіцца ў “Божым Шляхам”, дык можа нават найлепш, калі ён будзе надрукаваным

21 **Мікалай Лапіцкі** (1907–1976), рэлігійны й грамадзкі дзеяч, праваслаўны сьвятар, пэдагог. Заснавальнік парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры (ЗША) і яе настаяцель у 1950–1976 гг.

22 **Іван Касяк** (1909–1989), грамадзкі дзеяч. У 1957–1989 гг. быў старшынём Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі.

23 Маецца на ўвазе Віктар Войтанка-Васілеўскі.

24 Відаць, маецца на ўвазе епіскапат БАПЦ, які ў 1946 г. далучыўся да Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой. Пасьля Другой сусьветнай вайны япіскапы пэўны час жылі ў Тырсгайме (Нямеччына).

у “Запісах БІНіМ’у” — апошні, як той маўляў, нэйтральная глеба для беларусаў усіх веравызнаньняў. А можа, ён зьявіцца і ў форме маленькае брашуры (у сэньсе памеру) накшталт адбітку? Ці можа адначасна ў двох кагадзе згаданых варыянтах?

Шчыра зычу ўсяго найлепшага.

Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.

Прашу прыгадаць у Вашых малітвах.

З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.

П. С. Мне вельмі хочацца парушыць у нашым друку пытаньне аб больш адпаведным праўдзе выгляду сьвятое Еўфрасіньні, хоць добра ведаю, што на абарону ейнае афіцыйнае іконаграфічнае адлюстраванасьці адразу стануцца тырзгамаўцы. Найбольш пашыраны ейны абраз знайшоў адбітак і на 56-ае старонцы Вашае кніжкі — сьвятая стаіць на воблаку над старадаўнім Полацкам, уваднэй руцэ ў яе ейны крыж, у другой — лілея. Выглядае яна не старэйшай за 30 год, г. зн. маладзейшай за тэй год (1161 г.), калі Лазар Богша зрабіў для яе крыж.

Яшчэ ў маленстве (1913 г.), а потым за часы вайны (1943 г.) мне пашанцавала бачыць у царкве Сьвятога Спаса фрэску, якая бяз сумлеву прысьвечаная сьвятой Еўфрасіньні ды спакідае вялікае ўражаньне — аскэтычны выгляд, адсутнасьць усякіх князёўскіх атрыбутаў, няма і ейнага крыжу, бо царква працы дойліда Івана пабудаваная раней. Ужо тут, на чужыне, пабачыў адбітак гэтае цудоўнае фрэскі ў выданьнях: *П. Алексеев. Полоцкая земля. Москва. 1966 г.,* стар. 200; С. Васіленок. Фольклор и литература Белоруссии. Москва. 1961 г., стар. 45. Зь іх лепш адпавядае фрэске першы.

Яшчэ раз усяго добрага.

Юрка Віцьбіч.

П. П. С. Цешуся, што ў вадным з наступных нумароў “Божым Шляхам” друкуецца мой нарыс “Зарніца ў бязпатольнай цемры”. Учора, паводля просьбы Айца Язэпа[25], даслаў фотаздымак з Варшанскага касьцёлу Нараджэньня Богамаці, дзе адбітая ў нарысе падзея адбылася. Цяпер мару аб тым, каб напісаць нарыс пра Вусьпенскі касьцёл у Абольцах на Варшаншчыне, дзе 28 верасьня 1939 г. мне давялося дасьледваць — маю дагэтуль весткі аб ім ды 4 фотаздымкі ў сваім архіве.

Бэз-Карніловіч, Бацюшкаў[26], Кіркор[27], Турчыновіч, Сапуноў ды іншыя сьцьвярджаюць, што гэта першы касьцёл на Беларусі, і назы-

[25] Маецца на ўвазе а. Язэп Германовіч.

[26] Маецца на ўвазе **Пампей Бацюшкоў** (1811–1892), расейскі гісторык, этнограф.

[27] **Адам Кіркор** (1818–1886), гісторык, этнограф, археоляг, публіцыст, выдавец.

ваюць яго, у сьлед за тутэйшымі, *“касьцёлам Ягайлы”*. Запраўды, я знайшоў там дадзеныя аб тым, што сучасны драўляны будынак пабудаваны ў 1709 г. архідыяканам Вечаркоўскім, а ягоны фундуш, нададзены ранейшаму касьцёлу на тым-жа мейсцы Ягайлам у 1387 г. Касьцёл у пачатку нашага стагодзьдзя зьяўляўся філіяльным і належыў да Варшанскага дэканату. Нейкі час у ім Божую Службу правіў слаўны Андрэй Зязюля — а. Аляксандар Астрамовіч[28].

Вонкавая сьціпласьць гэтага касьцёлу з маленькай званіцай пасобку на мяне тады падзейнічала больш, чым велічныя касьцёлы вялікіх гарадоў. У сярэдзіне збоку мелася фрэска Жыгімонта Трэцяга[29]. А на могільніку каля касьцёлу зь вялікімі й прыгожымі, як для мястэчка, помнікамі я нечакана заўважыў помнік над магілкай... каштэляна Івана Мялешкі, якому невядомы аўтар уклаў у вусны вядомую прамову[30]. Тут адвечная Маці-Беларусь.

*“Люба родная гаворка,*
*Душам нашым сьвіта,*
*Зь ёй, ці соладка, ці горка,*
*Мы жывём і квіта”*[31].

Юр. Віцьбіч.

18.10.67 г.
Саўт Рывер.

Дарагі Айцец Леў!

Вельмі ўдзячны за Ваш ветлівы ліст ад 29.9.67 г. Вялікадушна даруйце, што хвароба ды чарговая жыцьцёвая проза (афармленьне пэнсіі, зьмена іншурансаў[32] і г. д.) прымусілі мяне, наўсуперак майму жаданьню, спазьніцца з адказам.

Сумую, што кагадзе адзначаныя прыкрыя прычыны прымусілі мяне таксама часова адкласьці ў бок артыкул “Як выглядала пры жыцьці сьвятая Еўфрасіньня-Прадслава” (назоў умоўны). Між іншым, паназьбіраныя мной матар’ялы дазваляюць мне больш-менш пераканальна давесьці, што знойдзеная ў царкве Спаса фрэска

---

[28] **Аляксандар Астрамовіч** (псэўд. Андрэй Зязюля, 1878–1921), каталіцкі сьвятар, паэт.

[29] **Жыгімонт III Ваза** (1566–1632), кароль польскі і вялікі князь літоўскі ў 1587–1632 гг.

[30] Маецца на ўвазе сатырычны твор “Прамова Івана Мялешкі, кашталяна смаленскага, на Варшаўскім сойме ў прысутнасьці караля Жыгімонта III Вазы ў 1589 годзе”.

[31] Зь вершу Андрэя Зязюлі.

[32] ***Insurance*** (анг.) — страхоўка.

зьяўляецца партрэтам нашае вялікае сьвятое і асьветніцы. Спадзяюся, калі Бог дазволіць, неўзабаве скончыць гэты твор. Акрамя таго трэ' было падаць у друку да ведама шырокіх эміграцыйных колаў аб вядомай патрыятычнай дэманстрацыі Кастуся Акулы на ЭКСПО-67[33]. Рыхтуюся належным чынам адзначыць у беларускіх і расейскіх ("НРСлово")[34] выданьнях 50-годзьдзе Усебеларускага Кангрэсу і Акту 25 Сакавіка.

Цалкам разумею Вашыя цяжкасьці, Айцец Леў, калі Вы пішаце, што стан здароўя й вакольная атмасфэра ня спрыяюць Вашай навуковай працы. Шчыра цешуся, калі, нягледзячы на гэтае, Вы шмат чаго стварылі, ды жадаю, каб усё створанае Вамі дасталася друку. Пэўне-ж, у Ваш зборнік беларускіх прыказкаў (на жаль, ня ведаю, паводля якога прынцыпу ён пабудаваны — альфабэтнаму, тэматычнаму і г. д.) трапілі тыя, што калісьці меліся ў "Божым Шляхам". Ня сумняваюся ў каштоўнасьці й патрэбе даведніку па гісторыі царквы на Беларусі. І разам з тым спадзяюся бачыць Вашую працу, прысьвечаную датам у жыцьці сьвятое Еўфрасіньні-Прадславы.

Прыпушчаючы, што цяперашняя неабходнасьць перакладу Бібліі на нашую мову тлумачыцца збанкрутаваньнем ранейшых перакладчыкаў. Хоць тыя пераклады аж занадта хаваюцца ад літаратараў дый увогуле ад грамадзкасьці, каб, магчыма, потым адразу ўразіць імі ўсю нашую эміграцыю, але сёе-тое аб іх сталася вядомым і, на жаль, выклікае вялікія засьцярогі. Акрамя дасканалага веданьня адпаведных моваў тут яшчэ патрабуюцца вялікія вера й любоў. Калі апошніх няма, дык ня варта перакладаць, каб ня абразіць Імя Божае й пачуцьці вернікаў. А тым ня менш упарта перакладалі, дасягнуўшы ўрэшцерэштаў даволі ўбогіх скуткаў. Ад усяе душы зычу Вам, каб Ваш пераклад Бібліі арганічна спалучыўся з прыгожай мовай нашага глыбака рэлігійнага народу.

Шчыра зычу ўсяго найлепшага.

Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.

Прашу згадаць у Вашых малітвах.

З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.

П. С. У № 103 "Божым Шляхам" на старонцы 15-ае, у рэцэнзіі на радыёскрыпт Кастуся Рамановіча[35] парушаецца пытаньне аб лёсе менскіх касьцёлаў — рэцэнзэнту ён невядомы. Між тым у № 53

33 Маецца на ўвазе акцыя пісьменьніка Кастуся Акулы (1925–2008) з раскідваньнем антысавецкіх улётак на Сусьветнай выставе Expo-67 у Манрэалі (Канада).

34 Маецца на ўвазе расейская эміграцыйная газета ***"Новое Руское Слово"***, што выдавалася ў Нью-Ёрку ў 1910–2010 гг.

35 Псэўданім Рыгора Казака (Крушыны).

“Зьніча” Айца Татарыновіча[36] ёсьць артыкул і здымак, прысьвечаны па-барбарску перарobленаму Менскаму Марыінскаму катэдральнаму касьцёлу. Меліся чуткі, што бальшавікі разбурылі й парафіяльны касьцёл на б. Захар’яўскае вуліцы або цяперашнім Ленінскім праспэкту. На жаль, ня ведаю назоў гэтага касьцёлу, пабудаванага ў пачатку 20-га стагодзьдзя, але ў народзе ён вядомы як Новы. І нечакана я заўважыў яго на здымку, зьмешчаным на старонцы 9-ае № 5 часапісу “Беларусь” за 1967 г. Гэта здымак проста сымбалічны — ён заслугоўвае ўвагі й перадруку. Ягоны назоў — “Мінск”, на парэднім пляне глядач бачыць мадэрны й разам з тым казённы будынак сучаснае сталіцы, у якім, праз вялікую скразную браму, нібы ў рамцы калёнаў, відаць у пэрспэктыве ружовы Новы касьцёл. Мяне асабіста гэты здымак уразіў.

Яшчэ раз усяго добрага. Юр. Віцьбіч.

П. П. С. Мяне зьдзівіла, што ў рэцэнзіі на № 121 “Беларуса”, зьмешчанай у тым-жа № 103 “Божым Шляхам”, я, грэшны, мянуся, як — Юры Віцьбіч. Я вельмі ўдзячны за высокую ацэнку майго артыкулу “Тамтэйшыя нашчадкі Гэрастрата”, але разам з тым зьдзіўлены. Справа тут палягае ў тым, што я ўжо, дзякуй Богу, сорак год вядомы як Юрка Віцьбіч. Таму спадзяюся гэтае апошняе маё запраўднае імя бачыць і пад маім нарысам “Зарніца ў бязпатольнай цемры”, які мае зьявіцца ў “Божым Шляхам”.

Даруйце за вялікі ліст.

Юрка Віцьбіч.

8.3.74
Саўт Рывер

Дарагі Айцец Леў!

Маю да Вас вялізарную просьбу й спадзяюся на Ваш, пры наяве часу і ахвоты, ветлівы адказ. Ад суродзіча й земляка-віцебляніна дастаў я надысь з Канады ліст, у якім ёсьць наступнае:

*«Когда в начале 30-х годов коммунисты разоряли храм в Сураже, мой приятель Федор Петрович, починяя сапог, видел это из окна своего дома. Рядом с ним в это время сидел выселенный из Койданава (Минского) и вселеный властями к нему в дом ксёндз, которого по отчеству называли Альбинович. Мой приятель разгневанно обратился к ксендзу: “Альбинович, а ведь и вправду Бога нет, я-бы на месте разметал бы их сейчас бы в пух и прах”. Возмущался он долго и искренно, а когда кончил, Альбинович сказал: “Эх, Федор*

[36] Маецца на ўвазе тэкст: Mienskaja katedra j dyjecezyja // Znič. № 53. Listapad — sniežan 1959. S. 7–8.

*Петрович, если-бы Господь Бог был похож на Вас, давно-бы мира не существовало, но Он Всемогущ и Многомилостив, придет время, и восторжествует любовь и порядок”».*

Ці ня можна ў Рыме[37] якім-небудзь чынам дазнацца пра ймя й прозьвішча гэтага Высокашаноўнага Айца, якога пэўне-ж даўно паклікаў да Сябе Гаспод Бог? А таксама ці ёсьць у Вас якія дадзеныя пра касьцёл у Койданаве (цяпер — Дзяржынск), што, бяз сумлеву, даўно зьнішчаны бальшавікамі? Мушу напісаць аб гэтым прачулы адмысловы твор або скарыстаць як фрагмэнт у нарысе, прысьвечаным старому беларускаму Койданаву.

Хочацца мне таксама, каб Вы пазнаёміліся з маім артыкулам “О чем умолчал протоиерей Войтович”, зьмешчаным з працягам у газэце “Новое Русское Слово” (Нью Ёрк) у № № ад 6 і 7.3.1974 г. Ён прысьвечаны перанясеньню часных астанкаў сьвятое Еўфрасіньні-Прадславы ў часе вайны зь Віцебску ў Полацак. Мне як удзельніку гэтага перанясеньня пашанцавала такім чынам сьцерці тую белую пляму, на якую Вы скардзіцеся ў сваёй каштоўнай працы пра сьвятую Еўфрасіньню-Прадславу[38]. Спадзяюся, што ў Рыме можна дастаць гэтую газэту, дзе, між іншым, ладне чаго майго мелася пра нашую Беларусь, пададзенага ў нашым нацыянальным пляне.

Як Вашае здароўе? Мы (я й мая жыцьцёвая спадарожніца) чуемся яшчэ, дзякуй Богу, нішто сабе. Наўсуперак розным старэцкім нядужасьцям пішу ды друкуюся.

Прашу прыняць найлепшыя прывітаньні ад мяне й маёй.

Прашу пры нагодзе пераказаць мае шчырае прывітаньне Айцу Пралату Татарыновічу.

Пішэце, калі ласка.

З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча*

---

37 Ад 1970 г. а. Леў Гарошка жыў у Рыме, дзе кіраваў Беларускай сэкцыяй Радыё Ватыкану.

38 У разьдзеле “Далейшая доля мошчаў Сьв. Еўфрасіньні” а. Леў Гарошка пісаў: *“Потым у прынагодных гутарках з палачанамі можна было даведацца, што дамавіну сьв. Еўфрасіньні разам з спрафанаванымі мошчамі перанесьлі ў музэй. Дзе яна сёньня? У сучасных абставінах цяжка даведацца”* (цыт. паводле: Гарошка, Леў а. Святая Еўфрасіння-Прадслава, патронка Беларусі. Нарыс, артыкулы. Мінск, 1996. С. 58).

***Юры Грыбоўскі***
*Варшава*

# З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА РУХУ Ў ЛАТВІІ Ў МІЖВАЕННЫ Й ВАЕННЫ ПЭРЫЯДЫ

Праблематыка, зьвязаная зь беларусамі ў Латвіі ў першай палове XX ст., да сёньня знаходзіцца ў сьпісе тэмаў, якія найменш ведамыя чытачам і найменш дасьледаваныя ў гістарыяграфіі. Найчасьцей гэтая тэматыка закраналася ў працах, непасрэдна альбо ўскосна прысьвечаных Кастусю Езавітаву, знакамітаму беларускаму дзеячу Латвіі ў вышэйзгаданы пэрыяд. Пра беларускую актыўнасьць у латвійскай дзяржаве ў міжваенны час вельмі павярхоўна й абагульняльна, пісаў Язэп Найдзюк у сваёй працы “Беларусь учора і сяньня”[1]. Варта таксама згадаць апрацаваньне “Беларусы ў Латвіі”[2] аўтарства Кастуся Езавітава, якое сучасным дасьледнікам належыць разглядаць перадусім як гістарычную крыніцу. Часткова белую пляму ў гістарыяграфіі запаўняюць дзьве вельмі грунтоўныя публікацыі праф. Эрыкса Екабсонса[3]. Іх каштоўнасьць заключаецца між іншым у тым, што аўтар абапіраўся на няведамыя дасюль архіўныя крыніцы. За выняткам вышэйзгаданых публікацый, у гістарыяграфіі, па сутнасьці, адсутнічаюць навуковыя працы, якія тычыліся б беларускага жыцьця ў Латвіі ў міжваенны час, як і ў гады Другой сусьветнай вайны.

Такі стан дасьледаваньняў ня можа не засмучваць, тым больш калі ўзяць пад увагу той факт, што ў міжваенны пэрыяд Латвійская рэспубліка была адным з асноўных асяродкаў беларускага грамадзкапалітычнага руху. У гэтай краіне дзейнічалі беларускія арганізацыі й таварыствы, у тым ліку палітычныя, функцыянавала школьніцтва, выдавалася прэса. Сярод найбольш актыўных лідараў тамтэйшага беларускага руху былі Кастусь Езавітаў, Мікалай Дзямідаў, Уладзімер

[1] Гл.: Найдзюк, Язэп; Касяк, Іван. Беларусь учора і сяньня. Менск, 1993. С. 221–228.

[2] Езавітаў, Кастусь. Беларусы ў Латвіі. Рыга, 1927; Перадрук як «Кніга ў “Запісах”» (Нью-Ёрк — Менск, 2013. С. [9]—[110].

[3] Екабсонс, Эрик. Белорусы в Латвии 1918–1940 годах // Беларуская дыяспара як пасрэдніца ў дыялогу цывілізацый. Матэрыялы III Міжнароднага кангрэса беларусістаў. Мінск, 2001. С. 47–71; Екабсонс, Эрык. Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай і нямецка-фашысцкай акупацыі (1940–1945) // Беларускі Гістарычны Агляд. 2006. Т. 13. Сш. 2. С. 199–233.

Пігулеўскі, Уладзімер Корці, Сяргей Сахараў і інш. Самі беларускія дзеячы досыць аптымістычна ацэньвалі плён сваёй дзейнасьці ўжо ў першыя гады незалежнасьці Латвіі. На гэты конт Кастусь Езавітаў пісаў: *"Тутака справа ўжо пайшла. Мы маемо сваіх вучыляцёў. Маемо школы. Маемо ўжо і студэнцтва. Культура-прасьветная праца забясьпечана. Пераходзімо ўжо і да эканамічнае працы. Распачалі працу палітычную"*[4]. З гэтым цьверджаньнем можна пагадзіцца, асабліва калі ўзяць пад увагу факт, што беларуская меншасьць фактычна была пазбаўленая вонкавай падтрымкі.

Беларускія дзеячы ў Латвіі не знаходзіліся на ўзбоччы беларускага жыцьця. Яны падтрымлівалі адносіны зь іншымі асяродкамі беларускага замежжа. Прыкладам, Кастусь Езавітаў ліставаўся зь Язэпам Варонкам і Янкам Чарапуком, якія жылі за акіянам. З аналізу гэтага ліставаньня вынікае, што лідар латвійскіх беларусаў нават атрымаў ад іх прапанову пераехаць у ЗША й там працягваць нацыянальна-асьветную працу[5]. Праўда, у адносінах паміж беларускімі дзеячамі хапала таксама разыходжаньняў у палітычных справах. Асабліва гэта датычыла стаўленьня да БССР і беларусізацыі, якая там адбывалася ў 1920-я гг.

Наогул асяродзьдзе латвійскіх беларусаў было стракатае палітычна. Большасьць беларускіх дзеячаў мелі левыя погляды й былі ў той ці іншай ступені зьвязаныя з рознымі партыямі гэтага напрамку. Найбольшым радыкалізмам адзначаўся сам Кастусь Езавітаў, які працяглы час належыў да зацятых прыхільнікаў Савецкай Беларусі. На бачынах сваёй газэты "Голас беларуса" ён уважліва сачыў за ўсімі дасягненьнямі беларусізацыі, якія адбываліся за ўсходняй мяжой. Захапленьне выдаўца "Голасу беларуса" часам выклікала хвалю крытыкі з боку іншых беларускіх незалежнікаў на эміграцыі. У лісьце да Аляксандра Чарвякова ён скардзіўся на адносіны да яго з боку Язэпа Варонкі й Янкі Чарапука: *«Беларускі нацыянальны камітэт у Чыкага патрабуе, каб я зьмяніў напрамак "Голасу" і пачаў лаіць Менск. Гэта становіча вырункам дапамогі. Я на гэта не згадзіўся. Дык яны пачалі друкаваць сваю ўласную газету ў Чыкага. Магчыма, што з зачыненьнем майго "Голасу" чыкагская "Трыбуна" будзе адзінаю беларускаю газетаю за межамі Беларусі»*[6].

Езавітаў намагаўся бараніцца перад закідамі ў прасавецкай працы. Ён лічыў, што крытыкай Савецкай Беларусі мусяць займацца беларускія дзеячы ў Чыкага й Празе, у той час як становішча

4 Ліст К. Езавітава да Я. Варонкі й Я. Чарапука, бяз даты // Latvijas Valsts vestures arhivs (Латвійскі дзяржаўны гістарычны архіў, далей — LVVA). F. 3235. Apr. 6. L. 196.

5 Ліст К. Езавітава да Я. Варонкі й Я. Чарапука, бяз даты // LVVA. F. 3235. Apr. 6. L. 196.

6 Ліст К. Езавітава да А. Чарвякова ад 03.01.1927 // LVVA. F. 3235. Apr. 6. L. 196.

беларусаў у Латвіі не дазваляе ім крытыкаваць мэтраполію[7]. У адным зь лістоў да амэрыканскіх беларусаў ён адзначаў: *"Для нас, латвійскіх беларусаў, Менск гэта тая дзяржава, якая можа за нас па праву радства ўступіцца, калі нас за дужа будуць ціснуць. Менск для нас — культурны цэнтр. Мы на яго глядзім і ягонымі культурнымі здабыткамі жывем і дышым. Свядомасьць таго, што ў Менску ідзе вялікая нацыянальна-беларуская праца, памагае нам ваяваць за свой нацыянальны твар і ваяваць супраць распачатай тутака латышызацыі. Апрача таго, мы — латвійскія грамадзяне і не маемо права ўмешвацца ў палітычна-дзяржаўнае жыцьцё суседняе дзяржавы, хаця-ж і роднай нам па нацыянальнаму прызнаку. Наша агляданне на Менск духова лучыць нас з нашым беларускім народам, і апрача таго, стрымлівае тых, хто тутака хацеў бы нас праглынуць. Крытыка Менску панізіла б нашыя настроі, адбівала бы волю да змаганьня. Дык не нам лаяць Менск"*[8].

Стаўка латвійскіх беларусаў на Менск у тагачасных грамадзка-палітычных і міжнародных умовах выглядае цалкам абгрунтаванай і зразумелай. Кастусь Езавітаў шчыльна супрацоўнічаў з Партыяй незалежных сацыялістаў, якая лічылася найбольш скрайняй і прасавецкай плыньню сацыялістычнага лягеру ў міжваеннай Латвіі. У сваю чаргу, іншыя лідары латвійскіх беларусаў прытрымліваліся больш памяркоўных поглядаў. У прыватнасьці, Уладзімер Пігулеўскі належыў да латыскіх сацыял-дэмакратаў. Дарэчы, як сябра гэтае партыі ён у 1928 г. быў абраны ў сойм Латвійскай рэспублікі. Зь пераменным посьпехам беларускія дзеячы бралі ўдзел у выбарчых кампаніях у парлямэнт і органы мясцовага самакіраваньня. Падчас парлямэнцкіх выбараў у 1922 г. беларусы выставілі ўласны нацыянальны сьпіс. Гэтыя захады не прынесьлі, аднак, пажаданых вынікаў. У лісьце да чыкагскіх беларусаў Кастусь Езавітаў наступным чынам ацаніў вынікі выбарчай кампаніі: *"У Латвійскі сойм прайсці мне не ўдалося. Дзякуючы таму, што кампанія пачалася пазнавата, мы правялі галасоў толькі на палову кандыдата. Дужа пашкодзілі нам нашы папы і ксяндзы, якія пайшлі па клерыкальным спіскам і лаялі нас на беларускай жа мове. Зразумела, самі яны не прайшлі і нас правалілі. Ліха ведае што"*[9].

Палітыка латыскіх уладаў у дачыненьні да беларускай меншасьці зьмянялася ў залежнасьці ад палітычнай сытуацыі. У першыя гады незалежнасьці ўлады ў Рызе ня бачылі для сябе вялікай пагрозы з боку беларускага руху. Беларускім арганізацыям аказвалася пэўная

7 Ліст К. Езавітава да А. Чарвякова ад 03.01.1927.

8 Ліст К. Езавітава да Я. Варонкі й Я. Чарапука ад 16.12.1926 // LVVA. F. 3235. Apr. 6. L. 196.

9 Ліст К. Езавітава да Я. Варонкі й Я. Чарапука, бяз даты // LVVA. F. 3235. Apr. 6. L. 196.

падтрымка. У значнай ступені вынікала гэта з жаданьня выкарыстаць гэты рух для аслабленьня дзейнасьці польскай меншасьці, празьмерная актыўнасьць якой магла ў будучыні стварыць пагрозу страты Латгаліі на карысьць польскае дзяржавы[10]. Не азначала гэта, што ў адносінах паміж беларускімі дзеячамі й латыскімі ўладамі не існавала праблемаў. Прынамсі частка латвійскай палітычнай эліты была схільна бачыць — і належыць прызнаць, што зусім небеспадстаўна, — у беларускім руху праявы сэпаратызму. Неабходна нагадаць, што ў 1924–1925 гг. адбыўся г. зв. беларускі працэс, падчас якога шматлікія лідары беларускага жыцьця Латвіі апынуліся на лаве падсудных у сувязі з абвінавачваньнем ў сэпаратысцкай дзейнасьці. У рэшце рэшт, удзельнікі працэсу былі апраўданыя, хоць справа стварыла непрыемную атмасфэру вакол беларускай дзейнасьці ў Латвіі.

Нягледзячы на згаданыя эксцэсы, стаўленьне ўладаў Латвіі да мясцовага беларускага руху да сярэдзіны 1930-х гг. было памяркоўнае. Беларускія арганізацыі і ўстановы мелі разнастайныя магчымасьці свайго разьвіцьця, якія гарантавала ім дэмакратычнае заканадаўства. Пасьля дзяржаўнага перавароту 1934 г., у выніку якога ў краіне ўсталяваўся аўтарытарны рэжым Карліса Ўльманіса, становішча беларускай меншасьці пагоршылася. Пачаўся наступ на культурніцкія ўстановы й школьніцтва. У той час некаторыя латвійскія беларусы апынуліся ў вострай апазыцыі да рэжыму. Праўрадавую пазыцыю займаў, аднак, Мікола Дзямідаў, які адначасна быў канфідэнтам палітычнае паліцыі.

Пэрспэктыва надыходзячага міжнароднага ўзброенага канфлікту значна ажывіла беларускіх дзеячаў у Латвіі й выклікала сярод іх пранямецкія сымпатыі[11]. У лютым 1939 г. на прапанову старшыні Рады БНР Васіля Захаркі латыскіх беларусаў наведаў Янка Станкевіч. Мэтай гэтага візыту было пераканаць дзеячаў у неабходнасьці выпрацоўкі беларускай меншасьцю Латвіі адзінай пазыцыі ў дачыненьні да палітычных падзеяў у Эўропе. Падчас перамоваў зь мясцовым беларускім актывам Станкевіч прапагандаваў ідэю аб’яднаньня ўсіх беларускіх сілаў у эўрапейскіх дзяржавах[12]. Заклік да кансалідацыі нацыянальных сілаў трапіў на прыдатны грунт. У чэрвені 1939 г. было створана Латвійскае беларускае таварыства, мэтай якога стала аб’яднаньне

[10] Gierowska-Kałłaur, Joanna. Stosunek państwa łotewskiego do miejscowych Polaków i Białorusinów w początkach niepodległości łotewskiej // Studia z dziejów Rosji i Europy Wschodniej. T. 46. 2011. S. 181–216.

[11] Raport Poselstwa RP w Rydze, z 12 lutego 1939 r., dot. działalności białoruskiej na Łotwie // Archiwum Akt Nowych (Архіў новых актаў, далей — AAN). Sygn.: MSZ. T. 5328.

[12] Raport Poselstwa RP w Rydze, z 2 kwietnia 1939 r., dot. działalności białoruskiej na Łotwie…

беларускай супольнасьці ў межах новае арганізацыі. З упэўненасьцю можна сьцвярджаць, што напярэдадні пачатку Другой сусьветнай вайны некаторыя латыскія беларусы былі зьвязаныя зь нямецкай выведкай. Сьведчыць пра гэта факт, што 8 ліпеня 1939 г. Мікола Дзямідаў наведаў Бэрлін[13].

У чэрвені 1940 г. савецкія войскі ўвайшлі ў Латвію. Беларусы Латвіі трапілі ў бязвыхадную сытуацыю. Асуджэньне савецкай акупацыі выклікала б хвалю рэпрэсій. Неўзабаве, 11 чэрвеня 1940 г., прадстаўнікі беларускай меншасьці выдалі афіцыйныя віншаваньні ўраду *“дэмакратычнай рэспублікі Латвія”*, а таксама ўладам СССР і ягоным ўзброеным сілам. У той час дзеячы імкнуліся засяродзіцца на адбудове беларускай школьнай адукацыі, якая панесла значныя страты падчас аўтарытарнага кіраваньня Ўльманіса. У ліпені 1940 г. у Рызе была створаная беларуская школа (яе дырэктарам стаў Кастусь Езавітаў). Варта пагадзіцца з Эрыкам Екабсонсам, які сьцвярджае, што савецкія рэпрэсіі 1940–1941 гг. закранулі беларусаў Латвіі ў меншай, у параўнаньні зь іншымі нацыянальнасьцямі, ступені. Арышту не пазьбегла, аднак, група беларусаў, якія падазраваліся ў сувязі зь нямецкай выведкай[14].

У выніку маланкавага наступу нямецкіх войскаў улетку 1941 г. Латвія была занятая Вэрмахтам. Акупацыйная палітыка ў дачыненьні да беларусаў нічым не адрозьнівалася ад палітыкі ў іншых балтыйскіх рэспубліках. У дэкрэце рэйхскамісара ад 27 ліпеня 1942 г., які датычыў нацыянальных справаў у Эстоніі, Літве й Латвіі, чытаем: *“...нельга асіміляваць рускіх і беларусаў, бо 1) сапсуецца крой народаў, якія будуць уключаныя ў склад Рэйха, 2) трэба лічыцца з тым, што беларусы з Прыбалтыкі будуць пераселеныя ў сапраўдную Беларусь... [...] Існуе небяспека, што праз асіміляцыю рускіх і беларусаў малакаштоўныя расавыя элементы потым трапяць у нямецкі народ... [...] Таму нацыянальную палітыку нельга перадаваць адміністрацыям Літвы, Латвіі і Эстоніі. Варта моцна трымаць яе ў нямецкіх руках”*[15]. Іншым чыньнікам, які вызначаў палітыку ў дачыненьні да нацыянальных меншасьцяў у Латвіі, было жаданьне нэўтралізаваць актыўнасьць латышоў. У сьвятле гэтага ня трэба зьдзіўляцца таму, што ўжо ў жніўні 1941 г. у Рызе быў створаны Беларускі камітэт (ад сакавіка 1942 г. — Беларускае аб’яднаньне) на чале з Кастусём Езавітавым, а ў іншых кутках краіны былі адчыненыя ягоныя прадстаўніцтвы. У арганізацыю

[13] Сакалоўскі, Уладзімер; Ляхоўскі, Уладзімер. Нямеччына й беларускі нацыянальны рух напярэдадні й у першыя гады Другой Сусьветнай Вайны // Białoruskie Zeszyty Historyczne. № 13. 2000. С. 10.

[14] Екабсонс, Эрык. Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай і нямецка-фашысцкай акупацыі... С. 202–203.

[15] AAN. Sygn.: T-454, 88/001057–58.

ўваходзілі галоўным чынам прадстаўнікі інтэлігенцыі (пераважна настаўнікі). 1 студзеня 1942 г. пры генэральным камісары Латвіі была створана пасада рэфэрэнта па справах беларускіх школаў (гэтую пасаду заняў Пётра Міргановіч)[16].

Беларускія дзеячы вырашылі выкарыстаць спрыяльную для іх бягучую сытуацыю для фармаваньня сярод мясцовага насельніцтва адпаведнага нацыянальнага й палітычнага заплечча. Беларускае аб’яднаньне рабіла стаўку на разьвіцьцё школьнай адукацыі. Згодна зь перапісам насельніцтва, які адбыўся 24 лютага 1943 г., у Генэральнай акрузе Латвія жыў 48 601 беларус (2,7 %). Параўноўваючы гэтыя зьвесткі з вынікамі апошняга перадваеннага перапісу, можна заўважыць, што ўдалося прыцягнуць ад сваёй дзейнасьці пэўную частку насельніцтва. Улетку 1943 г. абмяркоўвалася магчымасьць адкрыцьця беларускага тэатру й опэры. У кампэтэнцыі Беларускага аб’яднаньня заставалася таксама апека над беларускімі ваеннымі ўцекачамі, якія апынуліся на тэрыторыі Латвіі. Беларускае аб’яднаньне рабіла захады, каб дамагчыся вяртаньня дахаты некалькіх соцень беларусаў з Наваградчыны, якіх у 1943 г. немцы вывезьлі на прымусовую працу ў Эстонію. Вялікая ўвага надавалася ўласнаму друку. У ліпені 1942 г. у Рызе пачала выходзіць газэта “Новы шлях”[17]. Дзякуючы намаганьням Кастуся Езавітава ў сярэдзіне 1942 г. сярод настаўнікаў быў заснаваны выдавецкі фонд. Пачынаючы ад лістапада 1942 г. было выдадзена некалькі беларускіх кніг. Бясспрэчна, рухавіком усіх пачынаў латвійскіх беларусаў быў Езавітаў, аўтарытэт якога сягаў далёка за межы Латвіі[18].

Дзеяньні беларусаў не былі прыхільна сустрэтыя латышамі. Гісторыя захавала сьведчаньні дастаткова частых выпадкаў перасьледу беларускіх актывістаў з боку латыскіх урадаўцаў. Брутальнымі мэтадамі карысталася дапаможная паліцыя, якая арыштоўвала беларускіх настаўнікаў за найдрабнейшыя парушэньні. Пакідала жадаць лепшага й стаўленьне латыскай цывільнай адміністрацыі да беларускіх школаў. Са скаргаў, якія прыходзілі ў 1942–1944 гг. у Беларускае аб’яднаньне ў Рызе ад мясцовых актывістаў гэтай арганізацыі вынікала, што на правінцыі частай зьявай быў адкрыты ціск. Беларускія дзеячы абвінавачвалі мясцовае самакіраваньне, якое складалася з латышоў, у тым, што беларусам ствараліся штучныя перашкоды для ўдзелу ў грамадзкім жыцьці. Урадаўцам закідвалася

16 Екабсонс, Эрык. Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай і нямецка-фашысцкай акупацыі... С. 207.

17 Екабсонс, Эрык. Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай і нямецка-фашысцкай акупацыі... С. 210–216.

18 Туронак, Юры. Беларуская кніга пад нямецкім кантролем // Туронак, Юры. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2006. С. 343.

таксама сьведамае заніжэньне колькасьці беларускага насельніцтва падчас перапісу ў лютым 1943 г.[19]. Складана зараз звэрыфікаваць вышэйзгаданыя зьвесткі. Не выклікае, аднак, сумневу, што беларуская актыўнасьць сапраўды выклікала неспакой латыскіх дзеячаў. Належыць адцеміць, што гэткае стаўленьне латыскага боку да праяваў беларускай чыннасьці не было цалкам пазбаўленае рацыянальных падставаў. Дзейнасьць Беларускага аб'яднаньня разглядалася як памкненьні беларусаў да магчымага ў будучыні частковага альбо поўнага адарваньня Латгаліі ад Латвіі. Няма сумневу, што беларускія дзеячы сапраўды бралі пад увагу гэткі варыянт і спадзяваліся на далучэньне рэгіёну да Беларусі[20]. Беларуская прэса, якая выходзіла пад нямецкай акупацыяй, вельмі крытычна ацэньвала палітыку міжваеннай латыскай дзяржавы ў дачыненьні да беларусаў. Выходзілі артыкулы, аўтары якіх параўноўвалі ўлады передваеннай Латвіі са Сталіным. Натуральна, гэта не магло не выклікаць адмоўнай рэакцыі з латыскага боку[21].

Калі беларуская актыўнасьць у міжваеннай і ваеннай Латвіі зьяўляецца малавывучанай тэмай, дык пытаньне ўзаемаадносінаў латвійскіх беларусаў з прадстаўнікамі іншых нацыянальных групаў дасюль увогуле заставалася па-за ўвагай дасьледнікаў. У гэтай публікацыі спынімся на разглядзе выбраных эпізодаў з гісторыі беларуска-польскіх стасункаў на тэрыторыі Латвіі ў міжваенны й ваенны пэрыяд. Адносіны паміж беларусамі Латвіі й прадстаўнікамі іншых нацыянальных групаў (палякі, расейцы), якія насялялі гэтую краіну, складваліся па-рознаму. Нярэдка былі яны напружаныя й нават варожыя.

Што датычыць польска-беларускіх ўзаемадачыненьняў, дык можна адзначыць, што прадстаўнікі абодвух лягераў не разумелі сутнасьці дзейнасьці другога боку ў гэтым рэгіёне. Абодва нацыянальныя рухі знаходзіліся ў стане своесаблівага змаганьня за душы й галасы "тутэйшых" сярод славянскамоўнага сялянства, якое складала значную частку насельніцтва Латгаліі. Пэўнае ўяўленьне пра зьмест і характар польска-беларускіх спрэчак і непаразуменьняў дае тагачасная прэса. Так, узаемны недавер, а нават абразы й кпіны не былі рэдкасьцю на бачынах тагачаснай прэсы, як беларускай, гэтак і польскай. У польскай прэсе неаднойчы падкрэсьлівалася, што мясцовы беларускі рух — гэта штучная зьява й вынік палітыкі латвійскіх уладаў, накіраванай на

[19] Екабсонс, Эрык. Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай і нямецка-фашысцкай акупацыі... С. 220–222.

[20] Екабсонс, Эрык. Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай і нямецка-фашысцкай акупацыі... С. 226.

[21] Екабсонс, Эрык. Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай і нямецка-фашысцкай акупацыі... С. 219.

аслабленьне польскіх уплываў у Латгаліі[22]. Аўтар адной публікацыі, якая датычыла нацыянальнай статыстыкі Латвіі, пісаў: *«Выходзіла газэта "Голас Беларуса" з дадаткам школьным, у якіх нават безь вялікіх цырымоніяў праводзілася савецкая палітыка. Памятаеце розныя авантуры й працэсы зь беларускімі правадырамі — хоць здолелі своечасова канцы ў ваду схаваць, але ахвота да такой работы была адбіта ім на доўна. Памятаеце, як намагаліся правесьці ў сойм сваіх "беларусаў", а перапіс занатаваў 70 тысяч беларусаў, дык павінна было быць прынамсі некалькі беларускіх дэпутатаў, а тым часам ані воднага ня выбралі, бо так, як ніхто не прасіў беларускіх школаў, гэтак і нікому нават у галаву не прыйшло, каб галасаваць за беларускі нумар. Лухта была, і лухта выйшла»*[23]. Крытыкаваліся захады беларускіх дзеячаў, скіраваныя на ўвядзеньне беларускамоўных казаньняў у латгальскіх рыма-каталіцкіх сьвятынях[24]. Вельмі часта беларускім дзеячам закідвалася прасавецкая дзейнасьць. Іншы раз беларускі рух разглядаўся як звычайная савецкая агентура[25].

Безумоўна, гэткі вобраз беларускага руху у Латвіі быў далёкі ад сапраўднасьці. Польскія дзеячы, якія знаходзіліся ў цалкам іншай

---

[22] Z gminy Skajcieńskiej (b. Izabelińskiej) // Tygodnik Polski. 1927. № 75. S. 5; Zbliżają się wybory // Dzwon. 1931. № 14. S. 1.

[23] Iłgowski, A. Ciekawe cyfry. W związku z mającym się odbyć 11–12 b. m. spisem ludności // Tygodnik Polski. 1925. № 38. Тут і далей — пераклад Ю. Грыбоўскага.

[24] Dziwoląg w kościele // Tygodnik Polski. 1927. № 107. S. 4.

[25] Заслугоўве на ўвагу наступны ўрывак з газэты "*Tygodnik Polski*": *«Землі, якія знаходзяцца па-суседзку з Латвіяй, апынуліся ў складзе Беларускай савецкай рэспублікі й ва ўсёй Латгаліі пачала разьвівацца камуністычная прапагадна пад выглядам беларускага нацыянальнага руху. Стварыліся там беларускія ўсеагульныя й сярэднія школы, лепшыя, чым латыскія. Выходзяць розныя беларускія часопісы. Мясцовы беларускі селянін адыгрывае ў гэтым цалкам пасіўную ролю... Усю справу вядзе беларуская інтэлігенцыя, сярод якой шмат расейцаў з Разані й Казані. А пакольки рускія людзі, здольныя да ўсяго, робяць зараз у нас за добрыя грошы "Беларусь", каб у будучыні Расея, альбо Беларуская савецкая рэспубліка змагла абгрунтаваць свае прэтэнзіі да гэтага краю»* (Czy po to Batory przywiódł nas nad Dźwinę byśmy powiększali szeregi Białorusinów? Błędy urzędowej statystyki narodowościowej // Tygodnik Polski. 1928. № 119. S. 2). Аўтар аднаго з артыкулаў, прысьвечанага беларускай газэце "Наша Доля", якая выходзіла ў Дзьвінску, пісаў: *"У прыпцыпе, мы ня маем нічога супраць, калі зьяўленьне гэтага выданьня ёсьць праявай натуральнай экспансіі мясцовага беларускага нацыянальнага руху, які не падтрымліваецца грашова й маральна бальшавікамі. Пакуль у зьмесце гэтага выданьня мы не заўважылі праяваў залежнасьці ад бальшавіцкай Расеі, але даходзяць да дас весткі, што гэта ўсё ж закардонная работа"* (Piguły niejakiego Pigulewskiego // Dzwon. 1931. № 18. S. 1).

сытуацыі, чым іх беларускія калегі[26], не разумелі беларускіх сантымэнтаў да БССР. У якасьці прыкладу варта зацытаваць ўрывак з тагачаснай польскай прэсы ў Латвіі: *«…мядзьвежую паслугу робіць сп. Езавітаў беларусам, намагаючыся схіліць іх да пазычаньня “сьвятла з усходу”. Няма там сьвятла, а замест яго трупная фосфарная згнілізна й крывавае зарыва пажараў. Беларускія людзі павінны з агідаю адвярнуцца ад сёньняшняй савецкай “Беларускай рэспублікі”, якая настолькі зьяўляецца беларускай, наколькі Варшава была “польскім царствам” пад царскай уладай, хоць так сапраўды называлася. У “Голасе Беларуса” ідзе гаворка, як бачна, ня столькі пра кепскі ці добры ўрад у Польшчы й ягонае стаўленьне да беларусаў, а колькі пра адданьне іх пад апеку “матушкі Расеі”, бо самастойна існаваць ня ўмеюць, аб чым сьведчыць тое, што вызваленчы рух яшчэ разумеюць як стэк беспакараных забойстваў і рабункаў. Грамадзянін Езавітаў, дрэнна гуляеце ў беларуса»*[27]. У сваю чаргу, на бачынах беларускай прэсы таксама хапала публікацый, аўтары якіх у вельмі вострай форме выказваліся наконт польскай дзейнасьці ў Латвіі. Найчасьцей польскі бок абвінавачваўся ў сьведамай палянізацыі мясцовага сялянства[28].

Беларускі рух у Латвіі быў таксама прадметам увагі з боку міжваеннай польскай дзяржавы. Архіўныя крыніцы дазваляюць меркаваць, што зацікаўленьне ім павялічылася напярэдадні Другой сусьветнай вайны, калі ў беларускім нацыянальным лягеры назіраўся пэўны ўздым актыўнасьці. Пра польска-беларускія ўзаемаадносіны ў Латвіі пасьля верасьня 1939 г. ведама няшмат. З пачаткам Другой сусьветнай вайны, а потым са стратай Латвіяй незалежнасьці кантакты паміж латвійскімі беларусамі й палякамі не назіраліся. Узаемная цікавасьць жыцьцём супрацьлеглага лягеру таксама адышла на другі плян. Бакі абралі розныя стратэгіі паводзінаў ува ўмовах савецкай і нямецкай акупацыяў, што, безумоўна, было абумоўлена розьніцай паміж імі ў даваенны час.

Да ліку ня менш цікавых і таксама маладасьледаваных старонак гісторыі беларускага руху ў Латвіі належыць пытаньне ўзаемаадносінаў паміж тамтэйшымі беларускімі дзеячамі й лагальскімі старавэрамі. Прадстаўнікі гэтага веравызнаньня складалі значны адсотак жыхароў Латгаліі. Прыкладам, паводле перапісу насельніцтва,

[26] Польскія арганізацыі Латвіі атрымлівалі сталую матэрыяльную, дыпляматычную й маральную падтрымку ад польскай дзяржавы. Больш гл.: Polacy na Łotwie / Red.: E. Walewander. Lublin, 1993. — 348 s.; Janusz Albin. Polski ruch narodowy na Łotwie w latach 1919–1940. Wrocław, 1993. — 214 s.

[27] “Hołas Biełarusa” // Tygodnik Polski. 1925. № 21. S. 2.

[28] Кастусёнак. Кракадзілавы сьлёзы // Голас Беларуса. № 35. 1926; Палякі ўсё яшчэ ня могуць забыцца аб Інфлянтах Польскіх // Голас Беларуса. № 58. 1927. С. 1; Паланізацыя ў Латвіі // Беларускае Слова. № 1. 1931. С. 3.

у 1930 г. іх колькасьць складала звыш 5 % усіх жыхароў Латвіі. Паводле нацыянальнасьці гэта была неаднародная група. Побач з расейцамі, якія дамінавалі сярод старавераў, пэўная частка старавераў пазначалі сябе як прадстаўнікоў іншай нацыянальнасьці, у тым ліку беларускай. Ведама, што беларускі актыў Латвіі спрабаваў усталяваць кантакты з часткай старавераў, каб іх коштам павялічыць колькасную вагу беларусаў у гэтай краіне. Гэткія захады рабіліся асабліва ў пэрыяд нямецкай акупацыі Латвіі, калі будучыня й палітычны лёс рэгіёну былі вельмі няпэўныя. Натуральна, кіраўнікам беларускага руху Латвіі было вельмі патрэбна павялічыць шэрагі прыхільнікаў беларускага руху праз запісваньне старавераў беларусамі. Рабілася гэта перадусім з прычыны таго, што, на думку некаторых беларускіх дзеячаў, не выключалася магчымасьць далучэньня ў будучыні паўднёва-ўсходняй часткі Латвіі да Беларусі. У сувязі з гэтым падтрымка з боку старавераў магла значна ўзмацніць пазыцыю беларускага руху ў рэгіёне й ператварыць беларусаў у найбольш колькасную нацыянальную групу ў Латгаліі.

* * *

Ніжэй увазе чытачоў прапануюцца некалькі дакумэнтаў, якія кідаюць сьвятло на дзейнасьць беларускага нацыянальнага актыву ў Латвіі напярэдадні й падчас Другой сусьветнай вайны. Першыя два дакумэнты былі створаныя супрацоўнікамі польскай амбасады ў Рызе. Гэта рапарты пра стан беларускага руху ў Латвіі й падзеі, якія адбываліся ў палітычным і арганізацыйным жыцьці латвійскіх беларусаў. Абодва дакумэнты паходзяць зь лютага 1939 г., а перадумовай іх стварэньня было вышэйзгаданае падарожжа Янкі Станкевіча ў Рыгу дзеля перамоваў зь лідарамі мясцовых беларусаў. Гэтыя тэксты адлюстроўваюць стан ведаў польскіх уладаў пра беларускую дзейнасьць у Латвіі. Крыніцай зьвестак пра латвійскіх беларусаў для стваральнікаў нататак перадусім былі ўласныя назіраньні й агляды прэсы, якія рабілі супрацоўнікі дыпляматычных прадстаўніцтваў у Рызе й Дзьвінску. З аналізу дакумэнтаў вынікае, што веды польскага боку пра беларускую актыўнасьць у Латвіі былі няпоўныя й досыць агульныя. У многіх аспэктах можна заўважыць недакладнасьці й абагульненьні. Некаторыя зьвесткі, якія ўтрымліваюць рапарты, праз адсутнасьць адпаведных крыніцаў складана спраўдзіць. Дакумэнтам уласьцівая таксама значная доля суб’ектывізму. Варта памятаць, што дзейнасьць беларусаў Латвіі ацэньвалася аўтарамі праз прызму тагачаснага стаўленьня польскіх палітычных чыньнікаў да беларускага руху як грамадзка-палітычнай зьявы. Беларускі рух разглядаўся як канкурэнт польскага руху. Тым ня менш гэтыя рапарты ёсьць цікавай крыніцай ня толькі да гісторыі польска-беларускіх узаемаадносінаў у Латвіі, але й да гісторыі самога беларускага руху ў гэтай краіне.

Наступныя два дакумэнты адлюстроўваюць узаемаадносіны паміж беларускімі й стараверскімі дзеячамі на тэрыторыі Латвіі. Гэта два лісты Кастуся Езавітава да старавераў падчас нямецкай акупацыі. Першы адрасаваны адной зь лідараў латгальскіх старавераў Марыі Навумаўне Фаміной, а другі накіраваны да Аляксандра Махноўскага, прадстаўніка беларускага настаўніцтва ў Дзьвінскай павятовай управе. Езавітаў, які сам паходзіў зь Дзьвінску, асабіста ведаў некаторых уплывовых прадстаўнікоў тамтэйшай стараверскай супольнасьці. Дакумэнты яскрава сьведчаць пра тое, што дзеяч намагаўся выкарыстаць уласныя кантакты дзеля прыцягненьня прынамсі часткі старавераў у беларускія шэрагі. Абодва лісты напісаныя ўвосень 1941 г., калі яшчэ не было ведама, як будзе выглядаць нацыянальная палітыка Трэцяга рэйху на акупаваных усходніх абшарах. Архіўныя пошукі не даюць адказу на пытаньне, ці сустрэлі захады Езавітава якую-колечы рэакцыю з боку старавераў. Адсутнасьць дадатковых сьведчаньняў на гэты конт дазваляе меркаваць, што перамовы, калі яны й былі, не прынесьлі жаданых для беларускага дзеяча вынікаў. Больш за тое, ведама, што на тэрыторыі Латгаліі ў змаганьні за душы тутэйшага насельніцтва, у тым ліку й старавераў, беларускія дзеячы мелі сур'ёзнага канкурэнта ў асобе расейскага руху. У 1944 г. у Генэральнай акрузе Латвія быў створаны Расейскі камітэт, які дзякуючы палёгкам з боку рэйхскамісара пачаў рэалізоўваць на згаданым абшары ўласную прапагандысцкую акцыю.

Прадстаўленыя дакумэнты паходзяць з розных збораў. Рапарты польскіх дыпляматаў захоўваюцца ў Архіве новых актаў (Варшава) у фондзе Міністэрства замежных справаў, а ліставаньне Кастуся Езавітава паходзіць з Латвійскага дзяржаўнага гістарычнага архіву (Рыга) з фонду Беларускага аб'яднаньня ў Генэральнай акрузе Латвія.

### *Беларусы ў Латвіі*[29]

*Тэрмін "беларус" упершыню публічна быў выкарыстаны, калі ў Рыгу прыбыла місія Беларускай Народнай Рэспублікі*[30]. *На чале місіі стаў палкоўнік Канстанцін Барысавіч Езавітаў.*

*Езавітаў, ураджэнец Дынабургу, пасьля заканчэньня настаўніцкага інстытуту паступіў у Паўлаўскую вайсковую школу у Менску*[31]. *Там таксама уступіў у беларускую сацыял-фэдэралістычную*

[29] Арыгінал захоўваецца ў AAN. sygn.: MSZ. T. 5328. K. 37–45. Пераклад з польскай Ю. Грыбоўскага.

[30] Маецца на ўвазе **Вайскова-дыпляматычная місія БНР**, якая дзейнічала ў Эстоніі й Латвіі ў 1919–1921 гг.

[31] Насамрэч Кастусь Езавітаў скончыў Паўлаўскую вайсковую вучэльню, якая знаходзілася ў Петраградзе.

*партыю*[32]*, а пасьля абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі атрымаў званьне палкоўніка.*

*У Рызе Езавітаў зарганізаваў таварыства "Бацькаўшчына"*[33]*, куды пачаткова ўступалі габрэі. Беларускае грамадзянства й пашпарты выдаваў сам Езавітаў. Пры гэтым належыць зазначыць, што валоданьне беларускім пашпартам звальняла ад службы ў латвійскім войску. Пасьля вызваленьня Дынабургу Езавітаў паехаў у Латгалію. У Дынабургу заснаваў ён таксама аддзел "Бацькаўшчыны". У 1921 годзе аддзелы "Бацькаўшчыны" існавалі таксама ў Рэжыцы й Люцыне. Да гэтай арганізацыі ўступалі ў Латгаліі таксама расейцы, якіх латышы ахвоча тады залічвалі да беларусаў. Немалую ролю адыгрывала таксама жаданьне зрабіць асабістую кар'еру. Колькасьць сябраў на латгальскай тэрыторыі дасягала тады 300 асобаў.*

*У арганізацыйных мэтах Езавітаў распараджаўся вялікімі грашовымі сумамі. Першым крокам Езавітава, акрамя стварэньня таварыства, было ладжаньне "беларускіх настаўніцкіх курсаў", куды з прычыны недахопу адпаведных кандыдатаў прымаліся таксама людзі з элементарнай асьветай. З увагі на тое, што сканчэньне курсаў у пэўнай ступені гарантавала атрыманьне пасады, запісваліся на іх таксама палякі й расейцы. На тых курсах настаўнікамі былі найчасьцей беларусы, якія прыехалі з Польшчы й Літвы: як, напрыклад, Будзька*[34] *паходзіў зь Вільні, Андрэй Якубецкі*[35]*, былы галоўнакамандуючы беларускай народнай арміяй,*

---

[32] Гаворка ідзе пра **Беларускую партыю сацыялістаў-фэдэралістаў**, якая дзейнічала ў 1918–1921 гг. Да ліку яе чынных сябраў належылі таксама Язэп Варонка, Пётра Крэчэўскі, Янка Серада, Аляксандар Цьвікевіч і інш.

[33] **Беларускае культурна-асьветнае таварыства "Бацькаўшчына"** было заснавана ў красавіку 1921 г.

[34] **Эдвард Будзька** (1882–1958), грамадзка-палітычны дзеяч, каапэратар. У 1918 г. у Будславе заснаваў беларускую гімназію. Сябра Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў. Намесьнік старшыні Каапэратыўнага саюзу спажывецкіх тавараў у Вільні. Пасьля прыезду ў Латвію стаў кіраўніком аднагадовых настаўніцкіх курсаў. Пасьля Другой сусьветнай вайны — на эміграцыі.

[35] **Андрэй Якубецкі** (1892—?), грамадзка-палітычны й вайсковы дзеяч. Удзельнік Першай сусьветнай вайны. Сябра Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў. Уваходзіў у склад Беларускай вайсковай камісіі, якая займалася вярбоўкай добраахвотнікаў у беларускія часткі ў складзе Польскага войска. У сьнежні 1920 г. прызначаны Найвышэйшай радай БНР галоўнакамандуючым беларускімі войкамі. У лютым 1922 г. быў высланы ў Літву, адкуль потым пераехаў у Латвію. Ад траўня 1922 г. жыў у Дзьвінску, дзе выкладаў у мясцовай беларускай гімназіі.

*зь Менску, Мядзёлка Паўліна*[36]*, дачка арганіста з Глыбокага, Спуцька зь беларускага батальёну на Літве, Казек*[37] *зь Літвы й г. д. Хутка была загранізаваная сетка беларускіх школаў. Пры Міністэрстве асьветы быў пакліканы г. зв. беларускі аддзел на чале з С. Сахаравым*[38]*; а Езавітаў, прыняўшы латвійскае грамадзянства, быў прызначаны інспэктарам тых школаў.*

*Сяргей Сахараў, які яшчэ ў царскія часы лічыў сябе беларусам, да 1914 году быў настаўнікам у Аляксандраўскай гімназіі ў Віцебску; пасьля вайны быў прызначаны дырэктарам гімназіі ў Люцыне.*

*Пасьля ўтварэньня шэрагу пачатковых школаў узяліся за арганізацыю сярэдніх. Такім чынам, была заснаваная беларуская гімназія ў Дынабургу й прыватнае (таварыства "Бацькаўшчына") у Люцыне. Настаўнікамі ў тых школах былі вышэйзгаданыя Казек, Мядзёлка й Якубецкі, а таксама нейкі Іван Краскоўскі*[39]*, сацыяліст (у 1919 годзе быў старшынём Украінскай рады на Каўказе, а пасьля нейкі час жыў у Вільні). Апрача таго, у настаўніцкі склад уваходзілі: Мікалай Дзямідаў*[40] *(афіцэр зь беларускага батальёну ў Літве)*[41] *і Ўладзімер*

---

[36] **Паўліна Мядзёлка** (1893–1974), грамадзкая й кульурніцкая дзяячка, пэдагог. Ад 1922 г. жыла ў Дзьвінску. Брала ўдзел у арганізацыі й дзейнасьці курсаў для беларускіх настаўнікаў. У 1925 г. пераехала ў БССР. Ахвяра сталінскіх рэпрэсій. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыла ў Беларусі й працавала настаўніцай.

[37] Верагодна, маецца на ўвазе **Сяргей Казека**, настаўнік Люцынскай беларускай гімназіі й Люцынскай асноўнай школы.

[38] **Сяргей Сахараў** (1880–1954), фальклярыст, этнограф, публіцыст, пэдагог. Ад 1921 г. — старшыня Беларускага грамадзкага культурна-асьветнага таварыства "Бацькаўшчына". У 1922–1925 гг. — кіраўнік беларускага аддзела Міністэрства асьветы Латвіі, потым — дырэктар Дзьвінскай беларускай гімназіі. Заснавальнік таварыства "Прасьвета", якое дзейнічала ў 1926–1935 гг. Пасьля Другой сусьветнай вайны быў рэпрэсаваны. У 1950 г. вярнуўся ў Латвію.

[39] **Іван Краскоўскі** (1880–1955), грамадзка-палітычны дзеяч, пэдагог. У 1918 г. уваходзіў у склад ураду УНР. У 1920 г. — старшыня БНК у Вільні. Ад 1922 г. займаў пасаду кіраўніка Дзьвінскай беларускай гімназіі. Быў таксама лектарам на настаўніцкіх курсах. У 1925 г. выехаў у БССР. Арыштаваны й дэпартаваны. Пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у Чэхаславаччыне.

[40] **Мікалай Дзямідаў** (1888–1967), грамадзка-палітычны й вайсковы дзеяч. Удзельнік Першай сусьветнай вайны. Ад 1923 г. кіраваў таварыствам "Беларуская хата", а таксама таварыствам "Рунь". Ад 1944 г. — на эміграцыі (Нямеччына, ЗША).

[41] У сапраўднасьці Мікола Дзямідаў быў афіцэрам добраахвотнікам арміі генэрала Станіслава Булак-Балаховіча.

*Пігулеўскі*[42] *(навучаўся на гістарычна-філялягічным факультэце ўва Ўнівэрсытэце ў Пецярбургу, афіцэр артылерыі на румынскім фронце, кароткі час знаходзіўся ў шэрагах Белай арміі, потым быў у якасьці афіцэра ў беларускім батальёне ў Літве. Са студэнцкіх часоў быў сябрам партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў).*

*У 1922/23 г. насельніцтва Латгаліі не падавала беларускай нацыянальнасьці, а настаўнікі пачатковых школаў называлі сябе беларусамі, кіруючыся апартуністычнымі памкненьнямі. Тым часам некаторыя больш сьведамыя адзінкі, якія раней атрымалі стаж у сацыялістычных партыях, распачалі агітацыю, адчуваючы пры гэтым падтрымку латвійскага ўраду, які асьцерагаўся русафільскіх ці палянафільскіх тэндэнцыяў сярод латгальскага насельніцтва.*

*Беларуская група Латгаліі ўсталявала кантакт зь беларускімі коламі ў Празе, Літве, Польшчы й СССР. Улетку 1923 году адбыўся ў Дынабургу зьезд беларускіх дзеячаў у Латвіі, якія абмяркоўвалі пытаньне наконт далейшых тактычных крокаў. Дзякуючы лагтальскім беларусам у Дынабурскай гімназіі было створана нешта накшталт прытулку для беларускіх уцекачоў з-за мяжы ў СССР. На працягу аднаго толькі паўгодзьдзя праз гімназію ў Дынабургу прайшло каля 40 партызанаў зь Літвы й каля 10 з Польшчы (у іх ліку знаходзіўся агент пасла Тарашкевіча*[43]*).*

*На згаданым зьезьдзе сабраліся беларусы з рознымі палітычнымі поглядамі за выняткам "правакатараў з Польшчы", за якіх лічыліся: Аляксюк*[44]*, сэнатар Багдановіч*[45] *і палкоўнік Ладноў*[46]*. Менск прадстаўляў Міхалевіч. На зьезьдзе была скрытыкавана дзейнасьць Езавітава, які шырока разбудаваў беларускае школьніцтва, але зусім не парупіўся пра ягоны ўзровень. У сувязі з гэтым было прынята рашэньне зьвярнуць большую ўвагу на справу ўсьведамлень-*

[42] **Уладзімер Пігулеўскі** (1889–1958), пісьменьнік, драматург, пэдагог. Удзельнік Першай сусьветнай вайны. У 1918 г. быў кур'ерам пры ўрадзе БНР Вацлава Ластоўскага. Ад 1922 г. жыў у Латвіі. У 1924–1925 гг. быў дырэктарам Люцынскай беларускай гімназіі. У 1926–1934 гг. — кіраўнік Беларускага аддзелу пры Міністэрстве асьветы Латвіі. Дэпутат латвійскага сойму, куды быў абраны па сьпісе латвійскіх сацыял-дэмакратаў. У 1940–1941 гг. быў інспэктарам Міністэрства асьветы Латвійскай ССР. Падчас Другой сусьветнай вайны знаходзіўся ў эвакуацыі. У пасьляваенны час жыў у Рызе.

[43] Маецца на ўвазе Браніслаў Тарашкевіч.

[44] Маецца на ўвазе **Павал Аляксюк**, адзін зь дзеячаў палянафільскай плыні ў беларускім нацыянальным руху.

[45] Гаворка ідзе пра **Вячаслава Багдановіча**, грамадзка-палітычнага й рэлігійнага дзеяча ў Другой Рэчы Паспалітай, сэнатара, лідара Праваслаўнага беларускага дэмакратычнага аб'яднаньня.

[46] Маецца на ўвазе **Яўген Ладноў**, былы міністар абароны й мінстар замежных справаў БНР; супрацоўнік польскай вайсковай выведкі.

*ня настаўнікаў і вучняў. Распачалася пры гэтым "чыстка" сярод настаўнікаў і сяброў таварыства "Бацькаўшчына". Апошняе стварыла ў міжчасе філію ў Краславе, на чале якой стаў настаўнік Красьневіч*[47]*, і філію ў Пустынскай гміне, дзе старышынём стаў нейкі Клагіт*[48]*. У Рызе "Бацькаўшчына" налічвала каля 20 сябраў, урадоўцаў беларускага аддзелу пры Міністэрстве асьветы й працаўнікоў у Чырвонай Дзьвіне (раён Рыгі). У Латгаліі "Бацькаўшчына" налічвала каля 500 сябраў. "Чыстка" была праведзена паводле наступнага прынцыпу: 1) складзены адмысловы сьпіс настаўнікаў, якіх лаяльнасьць у адносінах да беларускага руху выклікала засьцярогі й пры нагодзе іспытаў яны былі адкінутыя як асобы без адпаведнай кваліфікацыі; 2) у складзе "Бацькаўшчыны" была праведзена вострая кампанія супраць русафільскіх элемэнтаў, у выніку якой пэўная колькасьць сябраў, прадстаўленая дырэктарам школы ў Дынабургу Садоўскім, мусіла пакінуць шэрагі таварыства.*

*Восеньню 1923 г. дзякуючы гэтым дзеяньням колькасьць настаўнікаў зьнізілася ад 137 да 74, а колькасьць сябраў "Бацькаўшчыны" ад 500 да 120. Асобы, якія гэтак раптоўна былі вымушаныя пакінуць беларускія арганізацыі, сталіся іх зацятымі ворагамі. У той час паўстала група "беларускіх манархістаў"*[49]*.*

*Сярод беларускіх настаўнікаў існавала нешматлікая групоўка "беспартыйных", якая складалася са сталых жыхароў Латвіі, што ўтрымлівалі шчыльныя кантакты з латышамі й былымі зямельнымі ўладальнікамі ў Савецкай Беларусі. Гэтая групоўка была некранутая па прычыне таго, што мелі "на гары" згаданыя кантакты. Гэтую групу "надурылі" Краскоўскі ды Якубецкі, якія з мэтай стварэньня беларускай незалежнай рэспублікі намагаліся за пасярэдніцтвам "беспартыйных" здабыць грашовыя сродкі. Свае перамовы зь "беспартыйнымі" Якубецкі й Краскоўскі трымалі ў глыбокай таямніцы перад сацыялістамі. Адзін зь "беспартыйных" у сувязі са згаданай акцыяй выехаў у Мюнхен, адкуль у хуткім часе сыгналізаваў, што сродкі будуць выдзеленыя з "Вышэйшай манархістычнай рады" (?)*[50]*. Пры гэтым быў пастаўлены шэраг умоваў, як, напрыклад, недаты-*

47 **Аўген Красьневіч**, кіраўнік Пустынскай 4-клясавай школы.

48 Магчыма, што маецца на ўвазе **Язэп Клагіш**, выпускнік першых беларускіх настаўніцкіх курсаў.

49 У архіўных крыніцах адсутнічаюць якія-колечы зьвесткі наконт існаваньня дадзенай групоўкі.

50 Цяжка меркаваць, ці гэтыя падзеі сапраўды мелі месца. Ведама, аднак, што ў той час шэраг беларускіх дзеячаў меў стасункі зь "белай" расейскай эміграцыяй, у тым ліку з манархісцкім Брацтвам рускай праўды, якое дзейнічала таксама ў Латвіі. Магчыма, што менавіта адзін з эпізодаў кантактаў беларусаў з БРП знайшоў сваё адлюстраваньне ў дакумэнце.

*кальнасьць прыватных земельных уладаньняў, станоўчае стаўленьне да расейцаў-антыбальшавікоў і г. д. Мюнхенская групоўка, мабыць, давала грошы з засьцярогай, што паўстаньне будзе распачата ў першую чаргу на тэрыторыі Савецкай Расеі, у той час як Якубецкі плянаваў выклікаць беспарадкі выключна на тэрыторыі Польшчы. Пазьней Якубецкі тлумачыў, што ён разьлічваў на партызанаў у Польшчы, на Муху, Хмару[51] й г. д. Здэмаскаваньне прапагандаванага ім беларускага руху як нямаючага антыбальшавіцкага характару выклікала выступленьне беспартыйнай групоўкай з мэмарандумам да ген. Радзіньша[52]. Апошні, як прадстаўнік прапольскай плыні, пачаў націскаць на ўрадавыя сфэры з мэтай вядзеньня іншай палітыкі ў дачыненьні да латвійскіх беларусаў. Пэўныя зьмены ў складзе ўраду, пазыцыя ген. Радзіньша ў адносінах да беларусаў і акцыя Польшчы ў 1924 г. выклікалі масавыя арышты сярод беларусаў. У 1925 г. адбыўся працэс, у выніку якога ўсе падсудныя былі апраўданыя (у тым ліку й Езавітаў, які аднак прасядзеў пад сьледзтвам каля году). Нягледзячы на гэта, "Бацькаўшчына" была распушчаная, а частка дзеячаў, як Краскоўскі й іншыя, выселеная ў Савецкую Расею. Была таксама згорнута гімназія ў Люцыне й настаўніцкія курсы ў Дынабургу. У гэтым часе пачалася арганізацыя беларускай школы ў Рызе, вакол якой пачалі гуртавацца беларусы.*

*Рыга вабіла беларусаў з прычыны сацыялістычнага кіраўніцтва ў гэтым горадзе[53]. Невыпадкова, выкарыстоўваючы кан'юнктуру, у хуткім тэмпе былі адчыненыя дзьве пачатковыя школы, школа для дарослых, настаўніцкія курсы, а нават рабіліся захады, каб стварыць гімназію. Замест расфармаванай "Бацькаўшчыны" быў створаны шэраг арганізацый, як "Беларуская хата", "Рунь", пазыкова-ашчаднае таварыства, каапэратыў, беларускі тэатар і іншыя, а таксама быў адноўлены Настаўніцкі саюз, заснаваны ў 1922 г.[54]. У выбарах у сойм зь беларускага сьпісу прайшоў Пігулеўскі, у той час,*

[51] У першым выпадку маецца на ўвазе мянушка *"атаман Муха-Міхальскі"*, якім карысталіся кіраўнікі камуністычнай партызанкі ў Заходняй Беларусі на пачатку 1920-х гг., у другім гаворка ідзе пра атамана Вячаслава Разумовіча-Хмару, афіцэра Літоўскай арміі й аднаго з арганізатараў антыпольскай партызанкі на польска-літоўска-беларускім памежжы.

[52] **Петэрыс Радзіньш** (лат. *Pēteris Radziņš*, 1880–1930), латыскі вайсковы дзеяч, генэрал, у 1924–1928 гг. камандуючы Нацыянальнымі ўзброенымі сіламі Латвіі.

[53] З усеагульнага перапісу насельніцтва Латвіі ў 1925 г. вынікае, што ў Рызе ў той час пражывала 1587 беларусаў.

[54] У другой палове 1920-х гг. у Латвіі дзейнічаў таксама шэраг іншых арганізацый, пра якія ня згадваецца ў рапарце. Гэта былі сярод іншага: Таварыства беларускае моладзі ў Латвіі, сельскагаспадарчае таварыства "Араты", культурна-асьветнае таварыства "Асьвета", Беларускае навукова-краязнаўчае таварыства.

*як Езавітаў, які пакінуў шэрагі партыі сацыялістаў-фэдэралістаў, атрымаў са сваім сьпісам паразу (Езавітаў належыў ужо тады да партыі “незалежных латвійскіх сацыялістаў”)*[55]*. Паводле дадзеных выбарчай камісіі, Пігулеўскі атрымаў шэраг камуністычных галасоў, што адпавядала інструкцыям латвійскай кампартыі. Карыстаючыся дэпутацкай функцыяй, Пігулеўскі пераняў у свае рукі беларускае школьніцтва, разгарнуў шырокую агітацыю на карысьць сацыял-дэмакратаў, уцягваючы ў арбіту гэтай партыі 80 % беларускіх настаўнікаў, і распачаў змаганьне зь незалежнымі сацыялістамі Езавітава. Гэтая барацьба спынілася некалькі тыдняў пазьней. У выніку акцыі Пігулеўскага Езавітаў быў арыштаваны. Пазьней Езавітаў быў нейкі час бяз працы. У той час Езавітаў супрацоўнічаў з Саветамі. Быў ён нават карэспандэнтам некалькіх беларускіх выданьняў у Менску й часта езьдзіў у СССР*[56]*. Езавітаў некалькі разоў атрымаў немалыя грошы з Амэрыкі ад Варонкі, былога міністра Беларускай Народнай Рэспублікі*[57]*. Ведама, што й Пігулеўскі атрымоўвае грошы, у сувязі з чым разышліся чуткі, што ён падтрымлівае кантакт з пэўнай польскай установай, доказаў гэтага, аднак, няма.*

*Напярэдадні перавароту Ўльманіса ў 1934 годзе сытуацыя выглядала наступным чынам. Цэнтрам беларускага руху была Рыга, дзе існавалі 3 групоўкі, якія вялі паміж сабою змаганьне: 1) сацыял-дэмакраты на чале зь Пігулеўскім, 2) незалежныя сацыялісты й камуністы зь Езавітавым у якасьці правадыра й 3) група беспартыйных зь Дзямідавым. У Латгаліі беларускае настаўніцтва сымпатызавала першым двум групам. Выхаваная ў беларускіх школах вясковая моладзь была настроена радыкальна. Моц беларусаў у той час належыць ацэньваць колькасьцю прадстаўнікоў інтэлігенцыі альбо колькасьцю асобаў, згуртаваных у грамадзскіх і палітычных таварыствах. Дае гэта ў выніку лічбу 84 асобаў на дзень 15.V.1934. Калі гаворка ідзе пра масы, дык лічба беларусаў увогуле дакладна няведамая ў сувязі з фальшаваньнем і нацягваньнем статыстыкі*[58]*. Падчас перапісу насельніцтва жыхары Латгаліі падавалі сваю нацыянальнасьць: каталікі, праваслаўныя ці “тутэйшыя”. Поводле афіцыйных дадзеных, у 1920 годзе беларусаў было: 75 630, у 1925 годзе — 30 000, у 1930–36 029, у 1935–26 867.*

55 Агулам беларускі выбарчы сьпіс (№ 21) налічваў 14 кандыдатаў.

56 У 1924–1935 гг. Кастусь Езавітаў супрацоўнічаў у якасьці інфарматара (мянушка “Озолс”) з савецкай амбасадай.

57 Інфармацыя пра атрыманьне Кастусём Езавітавым матэрыяльнай падтрымкі ад чыкагскіх беларусаў знаходзіць пацьвярджэньне ў архіўных крыніцах.

58 Дзеячы польскіх арганізацый лічылі, што латыскія ўлады сьведама фальшуюць вынікі перапісаў, фіксуючы польскіх сялянаў беларусамі.

*У сувязі зь пераваротам Ульманіса стаўленьне да беларускіх работнікаў ніжэйшай катэгорыі й малазямельных як да элемэнту няпэўнага. З настаўнікамі абышліся так, як наогул з сацыялістамі, г. зн. радыкальным чынам, за выняткам малой групы Дзямідава. Пігулеўскі й Езавітаў трапілі ў ізаляцыйны лягер ў Ліпаве, але ў хуткім часе ў выніку хваробы былі вызваленыя (Пігулеўскі — вострыя катар страўніка, Езавітаў — ischias)*[59]*. Абодва абавязаліся, што паўстрымаюцца ад якой-колечы палітычнай дзейнасьці. Пасьля 15 траўня спынілі сваю дзейнасьць усе беларускія арганізацыі з прычыны таго, што сябры ўправаў гэтых арганізацый былі сацыялістамі. Ацалеў толькі настаўніцкі саюз, дзе старшынём быў згаданы Дзямідаў (беспартыйны). Адначасова былі зачыненыя альбо замененыя на г. зв. мяшаныя беларускія школы, за выняткам школаў у Рызе й Дынабургу. Частка настаўнікаў перайшла на пэнсію, частку перавялі да мяшаных школаў, якімі кіравалі латышы. Пэнсію атрымалі Дзямідаў, Пігулеўскі й пасьля працяглых намаганьняў Езавітаў. Частка настаўнікаў былі звольненыя са службы. Як выхадцы зь вёскі яны захавалі ў сэрцы нянавісьць да кіраваньня Ўльманіса, якое пазбавіла іх кавалку хлеба.*

*Пігулеўскі й Езавітаў у міжчасе, не зрываючы кантактаў са сваімі прыхільнікамі, працуюць далей. Пігулеўскі па-ранейшаму вядзе сваю сацыял-дэмакратычную лінію й падтрымлівае сузязь з латыскімі сацыял-дэмакратамі, а таксама зь беларусамі ў Польшчы. Камунікуе таксама патаемна з Масквой, адкуль атрымлівае навуковыя кнігі да нейкай дысэртацыі. Магчыма, што ў гэтым выпадку ў якасьці пасярэдніка выступае Торгпредство ці Полпредство. Наведваюць яго таксама партыйныя таварышы, якія інструктуюць яго наступным чынам: “неабходна зараз займаць пазыцыю чаканьня; несумненна, ход гісторыі, якога ахвярамі будуць Польшча й Літва, дасьць штуршок да далейшай барацьбы. Таму належыць толькі рыхтавацца, каб на тэрыторыях згаданых дзяржаваў утварыць Беларускую рэспубліку. Дапаможа ў гэтым Савецкі Саюз, паколькі ён зацікаўлены, каб паўстала буфэрная дзяржава, якая будзе бараніць Саветы перад польскай аргэсіяй”.*

*У адрозьненьне ад пазыцыі чаканьня Пігулеўскага Езавітаў намагаецца дзейнічаць больш актыўна. Усталёўвае ён кантакты зь Менскам, а таксама зь беларусамі ў Вільні, Горадні, Коўне, Празе і ў Амэрыцы. Будучы сьведамым сацыялістам, Езавітаў спрытна высоўвае на першы плян у сваёй дзейнасьці нацыянальны момант, дзякуючы чаму яднае вакол сябе частку прыхільнікаў Пігулеўскага. Ягоны заклік: у імя Беларусі незалежна ад таго, ці ёсьць яна камуністычная, ці фашыстоўская, ці іншая.*

[59] **Ішыяс** — запаленьне бедранага нэрву.

*Ад траўня 1934 г. беларусы гуртуюцца вакол трох правадыроў: Пігулеўскага, Езавітава й Дзямідава. Езавітаў змагаецца зь Пігулеўскім за душы сваіх суродзічаў. Езавітаў выступае таксама супраць Пігулеўскага на бачынах беларускіх выданьняў за мяжой, абвінавачваючы яго ў палянафільстве альбо наўпрост называючы "польскім агентам", нягледзячы на тое што адсутнічаюць якія-колечы доказы, акрамя неабгрунтаваных плёткаў. Дзямідаў, беспартыйны, ляяльны ў адносінах да Латвіі, намагаецца фарсаваць кірунак латвійска-дзяржаўніцкі й выкарыстоўвае дзеля гэтай мэты адзіную беларускую арганізацыю — Настаўніцкі саюз. У сувязі з гэтым як Пігулеўскі, гэтак і Езавітаў намагаюцца ў вачох беларусаў дыскрэдытаваць яго як латыскага агента. Яшчэ ў 1934 годзе Езавітаў рабіў захады, каб атрымаць падтрымку немцаў. Існуюць падставы, каб меркаваць, што атрымаў грошы з Гданьску. У 1935 годзе Езавітаў шукаў сувязі з украінскай арганізацыяй "Просьвіт". Паводле атрыманых інфармацый, неправераных, гэтая арганізацыя была створана ў Нямеччыне. У 1935 г. паміж ейным кіраўніцтвам і нямецкімі ўладамі ўзьнік канфлікт, у выніку якога нарадзіўся праект перанясеньня штабу гэтае арганізацыі ў Літву. У красавіку 1935 г. адбылася ў Коўне канфэрэнцыя "Провіду", у якой удзельнічалі два прадстаўнікі з Латвіі. У 1935–1938 гг. дзейнасьць Езавітава абмяжоўвалася агітацыяй у Латгаліі, куды ён і ягоныя прыхільнікі выяжджалі кожнае лета на адпачынак.*

*У траўні 1938 г. Пігулеўскі склікаў сход латвійскіх сацыял-дэмакратаў (нелегальных) на чале зь Лепным і Лёрэнсам (былыя дэпутаты сойму) дзеля таго, каб даведацца якое стаўленьне маюць латыскія сацыял-дэмакраты да ягонае асобы, а асабліва да напрамку, які ён прадстаўляе ў беларускім пытаньні. Усе запрошаныя ўпаўнаважылі яго да індывідуальнай дзейнасьці ў гэтым напрамку.*

### *Беларускі рух*[60]

*У сувязі са сваркамі, якія пануюць паміж паасобнымі групоўкамі сярод тутэйшых беларусаў, Прага загадала віленскаму настаўніку Янку Станкевічу паехаць у Рыгу, каб канчаткова высьветліць сытуацыю й даведацца, хто можа адыграць кіраўнічую ролю сярод беларусаў у Латвіі. Згодна з гэтымі дырэктывамі, Станкевіч прыбыў у Рыгу 9.II. разам з экскурсіяй "Орбісу"*[61]*. Пра ягоны прыезд былі загадзя папярэджаны два тутэйшыя лідары Пігулеўскі й Езавітаў. Езавітаў паінфармаваў пра гэта трэцяга зь лідараў — Дзямідава, прапануючы яму зладзіць сустрэчу. Той жа рух выканаў Пігулеўскі*

[60] Арыгінал захоўваецца ў: AAN. Sygn.: MSZ. T. 5328. K. 48–50. Пераклад з польскай Ю. Грыбоўскага.

[61] **"Орбіс"** — назва турыстычнага бюро.

*за пасярэдніцтвам кіраўніка школы ў Рызе Сыцька. Адмысловага павітаньня Дзямідаў аднак не зрабіў, выйшаў сам на вакзал, забіраючы Станкевіча на сваю прыватную кватэру. Пра свой прыезд Станкевіч паведаміў праз тэлефон Езавітава, які адразу ж параіў яму не заставацца даўжэй у гасьцёх у Дзямідава й спыніцца ў гатэлі, паколькі ў адваротым выпадку "Дзямідаў будзе кантраляваць усе размовы". Станкевіч прыслухаўся да парадаў Езавітава. С[танкевіч] наведаў таксама Пігулеўскага. У міжчасе Станкевіча адведаў шэраг беларускіх настаўнікаў. Увечары наступнага дня Станкевіч накіраваўся да Дзямідава, якога пераконваў, каб той дыстанцыяваўся ад якой-колечы грамадзка-палітычнай дзейнасьці. 10 лютага ў часе паседжаньня настаўніцкага саюзу Станкевіч абвінаваціў Дзямідава ў парушэньні дысцыпліны й нішчэньні лініі "адзінага беларускага фронту", у сувязі з чым Дзямідаў з плачам апраўдваўся. Трэцяя размова на гэты ж конт адбылася 11 лютага. Падчас гэтай размовы Станкевіч інструктаваў, якую тактыку павінны абраць беларусы ў адносінах да латышоў. У сапраўднасьці словы Станкевіча былі выразным абвінавачаньнем Дзямідава. Ён зьвярнуў увагу на тое, што нешматлікая інтэлігенцыя не павінна раздрабняць свае сілы, а, наадварот, мусіць гуртавацца вакол асобы "фюрэра". За такога С[танкевіч] лічыць Пігулеўскага, на думку Станкевіча, чалавека зь вялікім досьведам і тактам, былога дэпутата, г. зн. ведамага чалавека (належыць дадаць, што Пігулеўскі трапіў у сойм дзякуючы галасам не беларусаў, а сацыял-дэмакратаў пры падтрымцы камуністычных сфэраў). Станкевіч пакінуў Рыгу 12 лютага.*

*Станкевіч прывёз у Латвію 30–40 асобнікаў беларускага календара. Падчас мытнага кантролю каляндар быў канфіскаваны, паколькі выкрыты ў ім фотаздымак Маркса.*

*Акцыя Станкевіча выклікала зьдзіўленьне ў тутэйшым Міністэрстве ўнутраных справаў, паколькі дасюль меў ён рэпутацыю чалавека з "групы Луцкевіча" (Вільня), г. зн. прыхільніка супрацоўніцтва зь мясцовымі ўладамі. Такім бачылі яго падчас свайго знаходжаньня ў Рызе 1931 ці 1932 г., калі ён усталяваў сувязь са шматлікімі прафэсарамі тутэйшага Латвійскага ўнівэрсытэту (Блэсэ, Эндзелінш і г. д.).*

*Актыўнасьць правадыра латвійскіх беларусаў Пігулеўскага*

*У віленскай газэце "Беларускі Фронт" (№ 4) быў зьмешчаны артыкул "Тамтэйшыя весткі", напісаны на падставе карэспандэнцыі "Ілюстраванага Кур'ера Цодзеннэго" ад 10 лютага пад назвай "Брэдні пра Вялікую Беларусь", паводле якога ў Латвіі існуе моцны беларускі рух. Цяжка сьцьвердзіць, ці аўтар артыкулу ў ІКЦ зьяўляецца карэспандэнтам з Латвіі ці не — робіць ён, аднак, наступныя высновы:*

*Пасьля падарожжа ў Латвію віленскага беларуса Станкевіча, ляяльныя беларусы Латвіі (група Дзямідава) былі пазбаўлены ўсялякіх вестак з Прагі. Прага кіруе зараз (як мяркуецца — канец лютага ці*

*пачатак сакавіка) сваю карэспандэнцыю да Пігулеўскага, якога беспадстаўна разглядае ў якасьці правадыра беларусаў у Латвіі.*

*11-га сакавіка Пігулеўскі сьвяткаваў свае імяніны, у сувязі з чым запрасіў да сябе амаль усіх беларускіх настаўнікаў. Вячэра доўжылася да 6-й гадзіны раніцы, што было зьвязана зь вялікімі выдаткамі, якія пакрыў з грошай, атрыманых ад Станкевіча.*

*У прыватным ліставаньні (да Зэйдліна ў Коўне, да Луцкевіча ў Вільні) Пігулеўскі дае зразумець, што ён прадстаўляе беларускі рух у Латвіі.*

*Відавочна, што Пігулеўскі зацікаўлены ў распаўсюджаньні за мяжой зьвестак пра народзіны беларускага руху ў Латвіі, таму нельга выключыць, што Пігулеўскі зьяўляецца ініцыятарам нататкі, зьмешчанай у ІКЦ.*

*Пігулеўскі стварае вялікія клопаты латвійскім уладам. Лічыць сябе за сябру ген. Балодзіса*[62]*, які ведаў Пігулеўскага з часоў супольнае працы ў соймавых камісіях. Балодзіс называе яго не інакш, як толькі "прохвост" і "мерзавец". Знаходзіцца, аднак, шмат легкаверных, якія вераць ў аповеды П[ігулеўскага]. І так, напрыклад, Пігулеўскі нядаўна сьцьвярджаў, што латвійскі кабінэт міністраў разглядае беларускае пытаньне ў шырокім маштабе, уключна з магчымасьцю вылучэньня пэўных валасьцёў для будучай Беларусі. Ведама, аказалася, што гэтая тэма ніколі не закраналася на паседжаньні Рады Міністраў.*

*Група Дзямідава, беручы пад увагу, што замежная прэса нічога альбо вельмі мала ведае пра жыцьцё беларусаў, якія жывуць у Латвіі, наважылася зрабіць спробу выданьня месячніка. Афіцыйным выдаўцом мае быць артыст — мастак Міравовіч, а рэдактарам Мяжэцкі*[63]*. Назва месячніка "Жыцьцё беларусаў у Латвіі".*

*Высокапаважаная Марыя Навумаўна*[64]*!*

*Счастливым образом у меня в распоряжении оказался Ваш адрес (возможно — сильно устарелый и неточный), пробую написать Вам.*

*В 1921 году, когда я приехал в Двинск, чтобы заняться организацией белоруссов и белорусских школ, я усиленно искал Вас, но, к сожалению, Вас не было в Двинске, и я не смог пригласить Вас на белорусские учительские курсы белоруссоведения. Впоследствии в 1922–23 годах я встретил Вас в Креславле и узнал, что Вы очень заняты воспитанием Ваших детей, а потому трудно Вам принять участие в школьном строительстве нашем.*

62 **Яніс Балоздзіс** (лат. *Jānis Balodis*, 1881–1965), латыскі вайсковы дзеяч, генэрал, у 1931–1940 гг. — вайсковы міністар Латвіі.

63 Маецца на ўвазе Дамінік Мяжэцкі.

64 Ліст адрасаваны Марыі Навумаўне Фаміной. Арыгінал захоўваецца ў: LVVA. F. P-712. Apr. 1. L. 5, lp. 1–2. Правапіс арыгіналу захаваны.

*Ныне, через новых 20 лет — а ведь уже 32 года, как мы знакомы! — я снова хочу пригласить Вас к участию в белорусском школьном и возродительном движении.*

*Хотя нашему латгальскому старообрядчеству некоторые его деятели усиленно внушали последних 25–30 лет о том, что латгальские старообрядцы являються будтобы великоросами — это неверно, по крайней мере неверно по отношению к четырем пятым старообрядчества Латгалии.*

*Старообрядцы сохранили предание о своем прошлом происхождении. Это правильное предание, но к нему нужны две поправки: во-первых, не все старообрядцы являються потомками пришлых людей, а только незначительная их часть, остальные же были местными старообрядцами, жившими несколько веков в Белорусско-Литовском княжестве и принявшими к себе беглецов из Себежа, Опочки, Трубчевска, которые находились тогда в границах княжества московского. А нужно знать, что и в Себеже, и в Трубчевске, и в Опочке и во всей Смоленщине жили и живут кривичи-белоруссы. Таким образом, даже пришлые старообрядцы являються также белоруссами, как и те старообрядцы из местным белоруссов, которые приняли своих беглецов, своих и по вере, и по национальному происхождению. Это то второе, что я хотел подчеркнуть.*

*О том, что старообрядцы являються белорусами, ярко свидетельствует их язык, сохранивший все белорусские особенности, а также, еще в большей мере, обычаи, песни и танцы. Знаменитая “Метелица” и “Лявониха”, которые исполнялись на всех старообрядческих вечерах, являються белорусскими национальными танцами, известными по всей Белоруссии.*

*Другое дело старообрядцы на “Ветке” и в Румынии. Туда к местным белоруссам-старообрядцам приезжало много москвичей. У нас же в Латгалии москвичи и новгородцы были редкие гости, ибо новгородцы главную массу своих беглецов направляли в искони новгородские земли на Крайний Север в Поморские скиты.*

*Теперь, когда перекраивается карта Европы и когда латгальские белоруссы-православные и белоруссы-католики об'единяются (не религиозно, а только национально), надо и белоруссам-старообрядцам наконец стать ближе к своему родному белорусскому народу и всем вместе взяться за строительство своей культуры, экономики о вообще национальной жизни.*

*Хочу предупредить и обратить внимание на то, что теперь будет проводиться, через известное конечно время, принцип населения известных территорий только народонаселения одной национальности. А это может означать для тех старообрядцев, что пожелают перейти к великороссам, переселение в Великороссию.*

*У нас с вами много знакомых старообрядцев-белоруссов. Всем написать не имею возможности, да и не все меня хорошо понимали с полуслова. Поэтому, Мария Наумовна, к Вам обращаюсь с этим большим и важным делом: становитесь в ряды белорусских национальных работников и собирайте за собой других белоруссов-старообрядцев. Поговорите с Фомой Васильевым, он окончил белорусскую гимназию в Двинске и учился в Праге, поговорите с Андреем, его братом, с Баложиными, с Фомиными, с Вашими Бикерникскими друзьями, с Николаевыми, с Колосовыми и другими.*

*Хай жыве Беларусь!*

*Копию письма я посылаю к нашему белорусскому общественному деятелю и организатору белорусских школ в Двинске, г-ну Махновскому, который живет с Вами на одной улице в доме № 43, кв. 2-я. Я хотел бы, чтобы Вы встретились и обсудили поднятый мной вопрос.*

*Он же поможет Вам в усвоении белорусской литературной речи и снабдит белорусскими книгами.*

*Кое-что вышлю и я из Риги.*

*Немцы к белоруссам относяться хорошо и идут навстречу белорусским национальным начинаниям.*

*Давайте же, дорогие кривичи, начнём новую жизнь и приступим к совместной дружной работе.*

*Мне очень грустно, что Арсений Фомаков и Милетий Архипович Калистратов в своё время были под влиянием некоторых враждебных белоруссам кругов и не пошли с нами вместе, хотя Милиновские, Ружинские и многие другие старообрядческие деятели и общины всегда признавали своё белорусское происхождение, регистрировались во время переписей белоруссами и хотели совместной работы.*

*Буду с нетерпением ждать ответа.*

*Крепко жму руку!*

*С глубоким уважением шлю дружеский привет и наилучшие пожелания.*

*К. Езовитов*

*XI 1941*[65]

*Даражэнькі Грамадзянін Махноўскі!*[66]

*Я раблю спробу перакінуць мост да беларусаў-стараверау, якіх адкінулі ад нас абставіны. З гэтаю мэтаю напісаў пісьмо да*

[65] Арыгінал захоўваецца ў: LVVA. F. P-712. Apr. 1. L. 5. Lp. 3. Арыгінальны правапіс захаваны.

[66] **Аляксандар Махноўскі** (1902–1967), грамадзкі дзеяч, пэдагог. У 1923 г. скончыў беларускія настаўніцкія курсы ў Дзьвінску. Пазьней працаваў настаўнікам. Падчас нямецкай акупацыі быў прадстаўніком беларускага

*свае старое знаёмае, вучыцелькі-стараабрадкі Марыі Навумаўны Фаміной, нарадж. Аляксеевай, з якой знаёмы больш 30 год, а ў 1910 годзе рыхтаваўся да іспытаў на званіе народнага вучыцеля ў вычыцеля-рэпетытара Міхала Шакуна ды потым разам жа экзамінаваўся на Грыве.*

*Яна — сумленны і здольны чалавек. Калі возьмецца за справу, дык будзе дужа карысна, бо бацькі ейныя жывуць у Бікерніках, каля ст. Езупава (дзе калісьці быў Стары Дзьвінскі Замак), а ў раёне гэтым ёсьць і стараверы-беларусы, і каталікі-беларусы.*

*Зайдзіце да яе і пагутарце. Добра было-б, каб далі ёй маю кнігу "Беларусы і Палякі" (на расейская мове, Коўня, 1919 году выданьня)*[67]*, а таксама, "Беларуская Школы"*[68] *ды іншае, што маеце.*

*Калі-б прыцягнуць яе ды Васільева і Баложыных на наш бок, дык Ваша становішча адразу ўмацавалася-б на много разоў, бо аб'яднаньне каля беларусаў нашых праваслаўных, каталікоў і стараабрадцаў адразу адчыніла-б перад нашым адраджэнчым рухам у Латгаліі надзвычайна шырокія пэрспэктывы. Думаю, што вы мяне добра разумееце і што я не павінен Вас агітаваць за патрэбнасьць гэткага кроку.*

*Пагутарце і з Фамой Васільевым (Тамаш).*

*Зараз мы маемо большасьць у шэрагу валасьцей, а калі-б нашы ўсе каталікі і нашы стараабрадцы былі-б усьведомлены, дык лічба гэтых валасьцей патроілася бы! А гэта — надзвычайна важна для нашага руху!*

*Чакаю вестак аб газэце і аб школе.*

*Мірановіч высылае Вам сёньня патрэбныя паўнамоцтвы для Ілукштаншчыны.*

*Далучаю хроніку аб жыцьці ў Бэрліне і ў Вільні.*

*Моцна цісну руху. Прывітаньне ўсім!*

*К. Езавітаў*

---

настаўніцтва ў Дзьвінскай павятовай управе. Быў таксама інспэктарам беларускіх школаў у Латгаліі. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Удзельнічаў у працы Рады БНР, жыў у ЗША.

67 Маецца на ўвазе кніга: Езовитовъ, К. Белоруссы и поляки: Документы и факты изъ исторіи оккупаціи Белоруссіи поляками въ 1918 и 1919 годахъ. Ковна, 1919. — 124 с.

68 Магчыма, маецца на ўвазе кніга: Езавітаў, К. Беларуская школа: Першая пасьля лемантара кніга для чытаньня ў беларускай аснаўной школе ў Латвіі. Рыга, 1926. — 160 с.

## *Цэнтар камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа пры БДАМЛМ*

# АРХІВЫ ЗАМЕЖНЫХ БЕЛАРУСАЎ: ЗЬБІРАНЬНЕ, ЗАХАВАНЬНЕ, ПРАКТЫЧНЫЯ ЗАЎВАГІ

## (гутарка Натальлі Гардзіенкі з дырэктарам БДАМЛМ Ганнай Запартыкай)

*На працягу апошніх дзесяцігодзьдзяў у Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва актыўна назапашваюцца дакумэнты дзеячаў беларускага замежжа. У 2014 г. тут была заснаваная навукова-творчая ініцыятыва “Цэнтар камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа”. Зьбіраньне ды вяртаньне архіваў беларусаў замежжа на радзіму мае пэўныя дасягненьні й адначасова сутыкаецца з рознымі складанасьцямі. Ці не галоўная зь іх — наяўнасьць перасьцярогаў з боку ўладальнікаў архіваў у дачыненьні да перадачы іх у Беларусь. Дзеля гэтага й была наладжаная адмысловая гутарка старшыні цэнтру Натальлі Гардзіенкі з дырэктаркай БДАМЛМ Ганнай Запартыкай. Пра тое, як зьбіраюцца й захоўваюцца архівы, што й чаму варта рабіць з уласнымі дакумэнтамі ды які лёс чакае іх у Беларусі, — пра ўсё гэта й пойдзе размова.*



Ганна Запартыка (зьлева) і Натальля Гардзіенка (справа). Ліпень 2015 г.

*Натальля Гардзіенка: Нашая размова зьвязаная з пытаньнямі зьбіраньня, захаваньня, мэханізмаў перадачы архіваў замежных беларусаў. І давайце пачнем з таго, што Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры й мастацтва спэцыялізуецца на асабістых фондах дзеячаў літаратуры й мастацтва. Тут захоўваюцца, у тым ліку, і фонды замежных беларусаў. Ці можна вызначыць, якую менавіта частку дакумэнтаў БДАМЛМ складаюць фонды "замежнікаў"?*

Ганна Запартыка: Мы не вядзем такую адмысловую статыстыку, але я магу сказаць, што фонды замежных беларусаў займаюць дастаткова значнае месца ў нашым архіве-музэі. І сёньня гэта важна, можа, ня столькі як статыстыка, колькі як сапраўды сур'ёзная зьява ў практыцы БДАМЛМ. Найбольш актыўна дакумэнты замежных беларусаў сталі паступаць ад сярэдзіны 1990-х гадоў і працэс не спыняецца да сёньня, у тым ліку апошнім часам і дзякуючы Вам. Гэтыя фонды займаюць важнае месца, яны неабходныя, яны не выбіваюцца з агульнага кантэксту фондаў дзеячаў літаратуры й мастацтва, яны вельмі дапаўняюць і ствараюць цэласную карціну разьвіцьця нашай літаратуры й мастацтва. Зразумела, што з розных прычынаў гэтыя фонды часта, на вялікі жаль, няпоўныя. Але мы спадзяемся на іх папаўненьне. Відавочна, што мы маем толькі невялікую частку дакумэнтаў, што належалі беларусам замежжа. Вельмі шмат часу яшчэ трэба, каб сабраць гэтае нашае багацьце па ўсім сьвеце. Гэта вельмі вялікая праца, і сабраць ўсё немагчыма. Але можна марыць пра гэта. На жаль, многія асабістыя архівы страчваюцца, дакумэнты зьнікаюць з розных прычынаў. Не спрыяе нашая аддаленасьць ад тых, як мы называем, "крыніц камплектаваньня", немагчымасьць заўсёды скарыстаць пошту ці нечыя шчырыя сэрцы ды добрыя рукі.

*Натальля Гардзіенка: У Беларусі дзейнічае даволі шмат архіваў і бібліятэк, дзе захоўваюцца розныя дакумэнты. Ці можна сказаць, што менавіта БДАМЛМ спэцыялізуецца на фондах замежных беларусаў?*

Ганна Запартыка: На сёньня сапраўды так склалася дзякуючы стараньням нашага архіву-музэю. Іншыя дзяржаўныя архівы вельмі рэдка атрымоўваюць дакумэнты з замежжа. Можна згадаць хіба што Беларускі дзяржаўны архіў навукова-тэхнічнай дакумэнтацыі, які атрымаў дакумэнты вядомага архітэктара Іосіфа Лангбарда ад спадчыньнікаў у Санкт-Пецярбургу або дакумэнты Барыса Кіта ад дасьледчыцы Лідзіі Савік. Але наогул у дзейнасьці іншых архіваў дакумэнты замежных беларусаў — гэта эпізоды. Мы ж зьбіраем іх мэтанакіравана.

*Натальля Гардзіенка: Фонды замежных беларусаў сталі трапляць у БДАМЛМ яшчэ ў савецкі час. Як і калі гэта адбывалася?*

Ганна Запартыка: Першыя дакумэнты, якія мы сталі атрымоўваць з-за мяжы (на той час з-за мяжы Савецкага Саюзу), прыходзілі да нас з Польшчы ад Сакрата Яновіча. Гэта даволі даўно адбылося, яшчэ на пачатку 1980-х гадоў. Але самым першым фондам, які паступіў цэласным, як передача з краіны ў краіну — з Чэхаславакіі ў Савецкі Саюз (бо тады нават перапіска ішла праз Маскву па арганізацыі камплектаваньня гэтага фонду) — быў архіў Міхася Забэйды-Суміцкага. Гэта была сярэдзіна 1980-х гадоў. Дырэктар БДАМЛМ езьдзіла ў Прагу, залагоджвала там арганізацыйныя моманты, а пасьля ўжо гэты архіў адпраўляўся Надзеяй Кастэцкай, наколькі я памятаю, у наш архіў-музэй. І гэты фонд мы сёньня маем. Ён шыкоўны, багаты. Усе фонадакумэнты былі перададзеныя ў Беларускі дзяржаўны архіў кінафонафотадакумэнтаў у Дзяржынску, там захоўваюцца й запісы, і пласьцінкі з голасам Забэйды-Суміцкага, а ў нас дакумэнтальная спадчына, тое, што на папяровай аснове, ноты, перапіска, асабістыя дакумэнты. І сёньня гэты архіў працуе на дасьледчыкаў.

Больш актыўна фонды сталі папаўняцца ўжо з другой паловы 1990-х гадоў. І перш за ўсё тут трэба ўспомніць Масея Сяднёва, які сам прыяжджаў сюды колькі разоў і свае дакумэнты прывозіў, перасылаў поштай да апошніх дзён жыцьця. І сёньня таксама гэта адзін з нашых важных фондаў архіўных. Але зразумела, што ня ўсё трапіла, і гэта натуральна... Дапускаю, што нешта ён палічыў сам няВартым, непатрэбным для архіўнага фонду, а нешта захоўваецца яшчэ ў сям'і. Аднак большую, асноўную частку сваіх творчых матэрыялаў, біяграфічных, перапіскі ён перадаў.

*Натальля Гардзіенка: Ці можна сказаць, што зьбіраньне дакументаў замежных беларусаў у БДАМЛМ гэта часьцей ініцыятыва самога архіву, а не ўласна дзеячаў ці іх нашчадкаў? Наколькі зацікаўленыя замежныя беларусы перадачай дакумэнтаў у архіў-музэй?*

Ганна Запартыка: Калі ўспамінаць гісторыю Міхася Забэйды-Суміцкага, то ён напісаў сам завяшчаньне, захаваліся дакумэнты, як рэалізоўвалася ягоная воля па перадачы архіву ў Беларусь. Ён не пазначаў канкрэтны архіў-музэй літаратуры й мастацтва, проста ня ведаў, магчыма, пра яго існаваньне. Калі казаць пра Сакрата Яновіча, то ініцыятыва была таксама ягоная сапраўды. І таксама захаваўся першы ліст да нас, зь якога становіцца зразумелым, што дзеяч перад тым зьвяртаўся ў Саюз пісьменьнікаў БССР і раіў ахапіць сваёй апекай некалькі клясікаў беларускай літаратуры ў Польшчы.

Такім чынам, першыя крокі рабіліся з ініцыятывы саміх уладальнікаў. Ад сярэдзіны 1990-х гадоў, калі беларусы замежжа сталі актыўна прыяжджаць сюды, наведваць сваю Бацькаўшчыну, мне асабіста

ўдавалася сустракацца зь імі: зь Вітаўтам Кіпелем, Янкам Запруднікам, некаторымі іншымі. Сёньня сказаць, чыя была ініцыятыва перадачы тых дакумэнтаў, складана. Сам час, сама эпоха нас адзін да аднаго падвялі. І зразумела, з пункту гледжаньня ўласна майго як архівіста й як кіраўніка архіву, першая прапанова такая, першы крок, менавіта першая просьба зыходзіла ад мяне. Але я думаю, што калі б я тады такога пытаньня не задала, старэйшыя за мяне, мудрэйшыя людзі, яны самі гэта таксама зрабілі б. Проста, можа, на нейкую хвіліну мая ініцыятыва апярэдзіла іх, тую прапанову, у якой, відавочна, Вітаўт Кіпель і Янка Запруднік пайшлі насустрач мне. Натуральна, што ў іх гэта таксама было недзе ў падсьвядомасьці ў той час. І я маю вялікую ўдзячнасьць да іх. Вельмі хутка Вітаўт Кіпель стаў дасылаць нам скрыні з дакумэнтамі, кнігамі, якія, бясспрэчна, сталі залатой часткай нашай бібліятэкі. Гэта ўнікальныя дакумэнты ўласна Вітаўта й яго сям'і, іншых дзеячаў Беларускага інстытуту навукі й мастацтва. Янка Запруднік таксама стаў дасылаць свае дакумэнты і дакумэнты іншых дзеячаў, што ўдалося сабраць за доўгі эміграцыйны век.

*Натальля Гардзіенка: Першы замежны фонд, зь якім я працавала як дасьледчыца ў БДАМЛМ, яшчэ калі пісала кнігу пра беларусаў у Аўстраліі, быў фонд Алеся Алехніка. Якім чынам ён трапіў у архіў-музэй?*

Ганна Запартыка: Фонд Алеся Алехніка мае сваю ўнікальную гісторыю. Колькі мяне ні пыталіся: "Як Вы яго прывезьлі з Аўстраліі?", я ніколі не магла гэтую гісторыю расказаць, бо яе ня ведаю. Яна захоўваецца недзе ў таямніцах успамінаў Адама Мальдзіса. Ён, відаць, мог бы расказаць, як тыя дакумэнты трапілі ў Беларусь. А вось у архіў-музэй літаратуры й мастацтва яны трапілі са Скарынаўскага цэнтру. Туды мы былі запрошаныя з нашай супрацоўніцай Валянцінай Данекінай дапамагчы разабрацца ў тых паперах — агромністай калекцыі дакумэнтаў і музэйных рэчаў. Тады паціху мы сталі разьбірацца, увайшлі ў смак, стала нам настолькі цікава й хвалююча ды крыўдна за тое, што мы разбярэм гэтыя дакумэнты, зробім навуковую апрацоўку, а яны застануцца ў Скарынаўскім цэнтры. Вось мы й прапанавалі Адаму Мальдзісу, каб перадаць усё ў архіў-музэй літаратуры й мастацтва. І Адам Восіпавіч тады пагадзіўся. Таму цяпер гэты намі апрацаваны фонд і захоўваецца ў нас у добрых умовах. Я маю на ўвазе навуковую й тэхнічную апрацоўку: мы вырабілі для яго спэцыяльныя ўпакоўкі, скрынкі, зрабілі навукова-даведачны апарат. Фондам вельмі лёгка карыстацца, у чытальнай залі можна пазнаёміцца зь любым дакумэнтам зь яго. На вялікі жаль, даследчыкі, як мы ні прапагандуем дакумэнты Алеся Алехніка, неяк не ўсьведамляюць, нібыта ня вераць, што такі фонд можа захоўвацца ў нас.

*Натальля Гардзіенка: А якія яшчэ дзеячы дасылалі й дасылаюць свае дакумэнты ў БДАМЛМ?*

Ганна Запартыка: Напрыклад, беларус Міхась Швэдзюк передае нам дакумэнты зь Вялікабрытаніі. Цяпер, праўда, перадача спынілася, нават ня ведаю прычынаў, але фонд ягоны ўжо дастаткова добры сабраўся. Гэта ўсё адбывалася праз Алега Трусава.

Розныя былі паступленьні з Польшчы. Можна, прыкладам, згадаць невялічкі фонд, а дакладней, фрагмэнт сямейнага архіву Неканда-Трэпкаў, які паступіў некалькі гадоў таму. Дапамагла нам дасьледчыца Алена Глагоўская, якая вядзе актыўную працу ў Польшчы. Яна й яе публікацыі падказваюць нам, куды зьвяртацца. Гэтак было і ў выпадку сям'і Неканда-Трэпкаў. Спэцыфіка дасьледаваньняў Алены Глагоўскай і ўвогуле яе падыходы да гістарычных рэалій, зьвязаных зь літратурай, мастацтвам, культурай, — яны такія сямейныя, вельмі чалавечыя. Таму ёй удаецца адшукваць унукаў, унучатых пляменьнікаў, далёкіх сваякоў, пагаварыць зь імі, расказаць, сказаць, хто можа цікавіцца ў Беларусі іх дакумэнтамі.

Пабывалі мы таксама і ў Беаты Хоміч, унучатай пляменьніцы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, якая перадала нам колькі ўнікальных дакумэнтаў з прапановай зрабіць копіі з альбому яе сям'і.

На вялікі жаль, ня ўсё захавалася, шмат разоў мы пісалі й нам давалі адмоўныя адказы. У многіх выпадках не дазваляюць перадаць архівы праблемы штодзённыя, адсутнасьць фінансаваньня...

*Натальля Гардзіенка: У сховішчы архіву-музэю я бачыла дакумэнты й іншых дзеячаў з Польшчы: Базыля Белаказовіча, Антонія Міслановіча...*

Ганна Запартыка: З Базылём Белаказовічам мяне пазнаёміў сьв. памяці Віталь Скалабан. Гэта быў, здаецца, 2004 год, калі Белаказовіч паабяцаў: "Усё беларускае будзе ў вас, мае шафы трашчаць". Гэта, праўда, было перабольшваньне, ён меў не такую вялікую шафу. Але прывёз, і перасылаў нам дакумэнты, і прыяжджаў у наш архіў-музей, была ўрачыстая акцыя перадачы ягонага архіву.

З Антоніем Міслановічам мы знаёмыя таксама даўно, яшчэ з адной з канфэрэнцый у Польшчы. Ён таксама перадае свае дакумэнты пэрыядычна, звычайна прыяжджаючы сюды сам.

Пра Сакрата Яновіча я ўжо згадвала. Да апошніх дзён жыцьця ён перадаваў. Я была ў яго ў доме, мы разам адбіралі дакумэнты, пакавалі. Зразумела, вычарпаць усё немагчыма. Але ён максымальна перадаў тое, што меў. Сакрат Яновіч меў характар архівіста, меў здольнасьць ацаніць дакумэнт як крыніцу гістарычную, уключыць яе ў пэўную сваю сыстэму. Таму нічога ў яго не гублялася, усё было ў парадку. І ён дакладна ведаў усё пра кожны дакумэнт, які перадаваў. Яновіч

казаў: “Мо вашыя спэцыялісты нешта адбяруць, але няхай у вас будзе максымум”. І такім чынам ягоны фонд у нас сёньня дастаткова багаты, ёсьць вялікая перапіска. Праўда, архіў Сакрата Яновіча часткамі захоўваецца і ў лёнданскай Скарынаўцы, і ў сховішчах бібліятэк Польшчы. Але ў пэўны час ён прыняў рашэньне перадаваць усё, што мае, у наш архіў-музэй літаратуры й мастацтва. Ён сказаў: “Забірайце ўсё, каб пасьля не шукаць свайго ў чужых”. І за гэта я ўдзячная яму, а таксама яго сям'і, якая вытрымлівала мае візыты, калі ў хаце стаяў архіўны вэрхал, бо трэба было ўсё зьбіраць-пакаваць, усе дапамагалі.

*Натальля Гардзіенка: У савецкія часы “замежжа” было толькі на Захадзе. Але ж сёньня мы гаворым пра “замежжа” ў больш шырокім сэнсе: гэта й Літва, і Расея, і іншыя постсавецкія краіны. Як паступалі дакумэнты адтуль?*

Ганна Запартыка: Сапраўды ў час СССР гаварыць пра Літву, Латвію, Расею, Украіну як пра замежжа не было прынята. Увогуле нават не абмяркоўвалася гэта. Але архівісты нашыя разумелі: тое, што можна атрымаць з далёкіх ці суседніх рэспублік, трэба прывозіць. Час ідзе, адыходзяць людзі дый спадчыньнікі іх, а многія былі далёка не маладога веку. Таму гэтае камплектаваньне, па сутнасьці, адразу й плянавалася. Напрыклад, у нас ёсьць унікальныя зборы Янкі Купалы й Якуба Коласа, якія перш за ўсё былі створаныя на аснове прывезеных з Масквы, з маскоўскіх кватэраў перакладчыкаў: Сямыніна, Гарадзецкага. І гэта адны зь першых фондаў — зборы, што вышукваліся па розных сховішчах.

Варта згадаць і архіў Лукаша Бэндэ, які памёр у 1961 годзе, і хутка ягоны архіў з тагачаснага Ленінграду быў перавезены ў Менск. Старэйшыя супрацоўнікі памятаюць, што гэта была своеасаблівая “аптымістычная катастрофа” ў архіве. Фонд быў настолькі вялікі, што ўсюды было ўсё запоўнена дакумэнтамі з асабістага архіву Бэндэ. Унікальная калекцыя, якую ён сабраў. Ня будзем абмяркоўваць, якім шляхам гэта ўсё зьбіралася, markdown рознымі шляхамі. Пра гэта й я пісала, і Віталь Скалабан. Але гэты архіў у нас.

З прывезеных з Расеі можна казаць і пра архіў Паўла Кабзарэўскага, перакладчыка, зноў жа зь Ленінграду. І пра архіў Язэпа Дылы. Хоць тады няпоўнасьцю, але значную частку яго перавезьлі. Зусім нядаўна нехта выказаў шкадаваньне, што ня ўсе дакумэнты Дылы перавезьлі з Саратава. Але, як аказалася, супрацоўнікі Скарынаўскага цэнтру езьдзілі намнога пазьней за нас і многае адтуль таксама прывезьлі. І гэта зараз тут жа ў нас захоўваецца, але ў складзе дакумэнтаў фонду Скарынаўскага цэнтру.

У Пяцігорску жыў паэт з трагічным лёсам Вісарыён Гарбук. Здароўе яму не дазволіла жыць у нашай паласе. Архіў ягоны праз Саюз

пісьменьнікаў мы атрымалі зь Пяцігорску. Ня памятаю прозьвішчаў канкрэтных асобаў, якія гэтаму паспрыялі, але ўдава пісьменьніка перадала архіў сюды.

Зь Яраслаўля — архіў і музэйны фонд сям'і Багдановічаў. Усё пачыналася з Алеся Бачылы як дасьледчыка жыцьця Максіма Багдановіча. Нашыя супрацоўнікі езьдзілі таксама ў Яраслаўль, згадваюць цікавыя эпізоды з гэтай паездкі. І Бачыла, і самі супрацоўнікі сабралі тады ўнікальны фонд сям'і Максіма Багдановіча.

Зь Якуцку нашмат пазьней, ужо ў 1990-я гады, маё й Ганны Сурмач знаёмства з Алесем Баркоўскім паспрыяла паступленьню дакумэнтаў паэта Івана Ласкова. Мы з Алесем вельмі актыўна працавалі, калі ён ехаў у Беларусь, нешта абавязкова вёз. Можа, сабе нешта не браў зь нейкіх патрэбных рэчаў, а дакумэнты Івана Ласкова перавёз сюды ўсе. Нават скульптурны партрэт, бюст. Расказваў, што на яго вельмі зьдзіўлена глядзелі людзі, што везьлі абмежаваныя кіляграмы вельмі патрэбных рэчаў у самалёце, калі ён цягнуў гэтую "галаву" Івана Ласкова. Алесь Баркоўскі даставіў усё, што магчыма. Ну й свой архіў таксама. У яго багаты архіў: перапіска, тое, што ён сабраў і дасьледаваў, зьвязанае зь беларусамі, якія воляй лёсу апынуліся ў Сібіры. Вось такія валанцёры, як Алесь Баркоўскі, рэдкія людзі, але яны шчасьліва сустракаюцца на нашым шляху, і мы ім вельмі ўдзячныя.

З Новасібірску, напрыклад, поштаю пераслаў нам дакумэнты сын Міколы Касьпяровіча Аляксандар Мікалаевіч Касьпяровіч. Ён сюды прыехаў на нашае запрашэньне, і езьдзілі мы на радзіму ягонага бацькі, нават мэмарыяльную дошку там адкрывалі. Прымала яго Беларусь вельмі хораша, годна, і ён прывёз нам, што меў. Пасьля радня Касьпяровічаў, якая тут, у Беларусі, таксама на наш заклік нейкія дакумэнты перадала. Але галоўнае — пошта, ня толькі беларуская, але й сусьветная, ставіцца адказна да пасылак. Нам перасылалі ўнікальныя дакумэнты і ўнікальныя рэчы. Іншага шляху не было. І мы ўсё атрымлівалі. Скардзіцца не выпадае. Дакумэнты Міколы Касьпяровіча якраз поштаю былі перасланыя, толькі невялікую частку прывёз сам ягоны сын.

У Самаркандзе праз Віталя Скалабана мы знайшлі сям'ю сябры Каруся Каганца й атрымалі ўнікальны падарунак — дзьве працы мастака і пісьменьніка. Адзіныя, рэдкія, і захоўваюцца тут, у архіве.

Бачыце, якая геаграфія. Адрасоў можна ўспомніць вельмі шмат...

*Натальля Гардзіенка: У выпадках, калі ініцыятыва перадачы дакумэнтаў ідзе ад саміх уладальнікаў, асабліва калі гэта датычыць далёкага замежжа, чым яны матывуюць жаданьне перадаць менавіта ў Беларусь свае архівы?*

Ганна Запартыка: Пра матывацыю звычайна не пытаюць, але яе адчуваюць. Гэта ўсё-ткі вяртаньне своеасаблівае. Для Масея Сяднёва гэта было так, і для Сакрата Яновіча таксама. Хоць ён і нікуды не выяжджаў, але адно слова "Беларусь" было для яго таксама вельмі важнае. Да таго ж у Сакрата Яновіча была яшчэ й падстава чыста навуковай пэрспэктывы, пэрспэктывы дасьледаваньня. Ён прадчуваў час і ў пэўны момант зразумеў, што дасьледчык дакумэнты паедзе шукаць сюды, не паедзе ў Варшаву ці Беласток. Самы актыўны дасьледчык беларускай літаратуры будзе жыць менавіта тут, у Менску. У гэтым ён быў упэўнены. А для іншых гэта своеасаблівае вяртаньне й таксама разуменьне, зноў жа, тых дасьледчыцкіх праблемаў вывучэньня літаратуры, мастацтва, культуры.

*Натальля Гардзіенка: Тым ня менш некаторыя дзеячы на Захадзе перадаюць свае архівы ў дзяржаўныя, мясцовыя ўстановы, кшталту таго ж Нацыянальнага архіву ў Канадзе. Я там працавала з фондамі пісьменьнікаў Міколы Сільвановіча, Сяргея Хмары, грамадзкіх дзеячаў Жук-Грышкевічаў... Там жа ёсьць невялікі фонд Кастуся Акулы, а вялікі архіў пісьменьніка перададзены, зноў жа, у Канзас у Беларускі цэнтар. З Вашага пункту гледжаньня, наколькі гэта мэтазгодна — перадаваць архівы ў гэтыя замежныя сховішчы?*

Ганна Запартыка: Зразумела, што перадаць — значыць захаваць. І гэта адна з галоўных мэтаў і, можа, нават той аспэкт, які нараджае ў чалавека пачуцьцё ўпэўненасьці: я перадаў у дзяржаўнае сховішча, і яно ўсё будзе захаванае назаўсёды. Гэта сапраўды так. Перададзенае будзе захавана. Але ў дзейнасьці архіву ёсьць яшчэ адзін аспэкт — служыць дасьледчыку, быць часткай нацыянальнай гісторыі й культуры. Вось на гэты аспэкт на ўзроўні побытавым не зважаецца, ён ня ўлічваецца. Не здагадваецца той, хто валодае каштоўнымі дакумэнтамі, што важна ня толькі захаваць. І таму, натуральна, калі казаць пра тое, каб захаваць, то гэта вельмі добра, што людзі перадаюць сьвядома архівы ў сховішча дзяржаўнае. Добра, што ў канадыйскіх архівах ёсьць дакумэнты й беларускія. Але яны вельмі далёкія ад таго актыўнага дасьледчыка, якому яны могуць быць цікавыя, які жыве тут, у Беларусі.

*Натальля Гардзіенка: Некаторыя зь беларускіх фондаў у тым Нацыянальным архіве Канады захоўваюцца яшчэ ад 1970-х гадоў. Але за ўвесь гэты час я, прыехаўшы ў 2011 годзе, была першай, хто да гэтых дакумэнтаў зьвярнуўся. Таму сапраўды ёсьць праблема запатрабаванасьці й даступнасьці тых беларускіх архіваў для айчынных дасьледчыкаў.*

Ганна Запартыка: Думаю, калі б тыя дакумэнты былі тут, у нашым архіве-музэі, яны ў большай ступені былі б запатрабаваныя.

Цікавасьць да такіх фондаў ёсьць, і яна расьце, як і цікавасьць да беларускай літаратуры, якая стваралася за межамі Беларусі. Гэта ўнікальная зьява, якая мае пэрспэктыву актыўнага вывучэньня.

Натальля Гардзіенка: *Я яшчэ заўважыла, што калі браць тыя самыя канадыйскія архівы, для іх беларускія фонды вельмі маргінальныя. У іх няма спэцыялістаў, каб нейкую кансультацыю даць па зьмесьце тых фондаў. Калі мне трэба было даведацца нешта пра беларускія фонды, мне давялося шукаць чалавека, які некалі быў кіраўніком славянскага аддзелу й якраз іх прымаў на захаваньне. Толькі ў яго я магла запытацца, якім чынам і якімі часткамі дакумэнты трапілі ў архіў. І гэта добра, што ён яшчэ жывы, і хоць на пэнсіі, але яшчэ кансультуе ў архіве. Аднак іншых людзей, якія маглі б нешта расказаць пра беларускія дакумэнты, няма. І гэта, відаць, таксама яшчэ адзін плюс да таго, калі дакумэнты захоўваюцца там, дзе ёсьць людзі, якія могуць нешта параіць, ёсьць спэцыялісты тут, на месцы, у архіве.*

*Але ёсьць і іншы варыянт, калі архівы перадаюцца — і гэта вельмі пашыраная сярод нашых эмігрантаў практыка — пад апеку грамадзкіх арганізацый. Так, багата асабістых архіваў дзеячаў літаратуры й мастацтва назапасілася ў архівах нью-ёркскай Фундацыі Крэчэўскага, у сховішчы пад царквой Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры, у Скарынаўскай бібліятэцы ў Лёндане. Як Вы ставіцеся да такога варыянту захаваньня архіваў?*

Ганна Запартыка: Што датычыць грамадзкіх арганізацый, то я была б з гэтым вельмі асьцярожнаю. Вельмі часта грамадзкія арганізацыі не вытрымліваюць выпрабаваньне часам. Зразумела, і дзяржаўныя арганізацыі таксама могуць зьнікаць, але архіў ёсьць архіў. Гэта адзін з тых дзяржаўных інстытутаў, які будзе заўсёды, пры любой сытуацыі. Архівы могуць аб’ядноўвацца (хоць я такой пэрспэктывы не прагназую), але яны будуць заўсёды, у любой краіне, пры любой сытуацыі. Мы зараз не гаворым пра катастрофы, якія прыводзяць да зьнішчэньня дакумэнтаў, будынкаў, людзей, ад якіх ніхто не застрахаваны.

Але вяртаючыся да грамадзкіх арганізацый, з нашай практыкі працы зь імі: грамадзкія арганізацыі існуюць пэўны час, а тое, што зьбіралася, што зьвязвала пэўных асобаў, яно пасьля можа апынуцца без гаспадара. У лепшым выпадку дзяржаўным архівам паведамяць, і мы ніколі не прапусьцім гэтага факту, мы дакумэнты заўсёды прымем, створым фонд, апрацуем, і ён будзе працаваць. Такія прыклады у нас ёсьць і са школьнымі музэямі, дый Скарынаўскі цэнтар хоць быў дзяржаўнай установай, перадаў нам дакумэнты. Але грамадзкія арганізацыі, як правіла, трымаюцца на энтузіязьме канкрэтных асобаў, і,

на вялікі жаль, зь іх адыходам часта аказваецца, што зьбіранае было важным толькі для аднаго канкрэтнага чалавека... Мы ў беларускай гісторыі перажылі катастрофы вялікіх прыватных калекцый: былі зьнішчаныя зборы такіх дзеячаў, як Татур, Эпімах-Шыпіла, Рамуальд Зямкевіч. А там жа былі ўнікальныя рэчы, помнікі нашай літаратуры й мастацтва ў тых калекцыях. І мы сёньня амаль нічога ня маем, хіба што 32 аўтографы з калекцыі Аляксандра Ельскага. Усё распылена ў лепшым выпадку па іншых калекцыях.

*Натальля Гардзіенка: Але вялікае пытаньне, ці могуць дзейныя грамадзкія арганізацыі рэальна забясьпечыць патрэбныя ўмовы захаваньня дакумэнтаў?*

Ганна Запартыка: Гэта сапраўды праблема — забесьпячэньне патрэбных умоваў для захаваньня дакумэнтаў. У любой краіне грамадзкая арганізацыя трымаецца на грамадзкім фінансаваньні. А ўтрымліваць сховішча з пэўнымі парамэтрамі, патрабаваньнямі да захаваньня дакумэнтаў, спэцыяльнага чалавека, які можа забясьпечыць выдачу й прыём гэтых дакумэнтаў, каб не парушыць цэласнасьць і не прывесьці да страты гэтых дакумэнтаў, арганізаваць навуковае апісаньне, навукова-тэхнічную апрацоўку — усё гэта патрабуе значных сродкаў. Кожная адзінка захоўваньня мае быць упакаваная ў тэчку ці капэрту з усімі рэквізітамі, патрэбнымі для пошуку, далей — у скрынку ды зьмешчана ў сховішча. Гэта маюць быць спэцыяльныя скрынкі, у якіх захоўваюцца тэчкі й капэрты, мы называем гэтую форму працы картанаваньнем. У сховішчы маюць быць адмыслова зробленыя, не драўляныя, паліцы, мае падтрымоўвацца тэмпэратурны, вільготнасны й сьветлавы рэжым, што таксама вельмі важна. Гэта простым людзям здаецца, што калі паперка ў папцы, тады яшчэ ў скрынцы, то яна захаваецца ўжо. І што там гэтае сьвятло? Насамрэч сьвятло дзённае вельмі праніклівае, і нават пры такой форме ўпакоўкі можа нэгатыўна ўплываць на паперу. І таму ўсе парамэтры захоўваньня павінны быць вытрыманыя. Ці хоць адна грамадзкая арганізацыя можа забясьпечыць такія ўмовы? Асабліва калі архівы — не асноўны кірунак яе дзейнасьці?

*Натальля Гардзіенка: Беларускіх я такіх не сустракала. І з уласнага досьведу, тое, у якім выглядзе захоўваюцца дакумэнты ў той самай Скарынаўскай бібліятэцы, далёкае ад неабходных умоваў.*

Ганна Запартыка: А дакумэнт павінен жыць пастаянна. Той дакумэнт, які мае навуковую, гістарычную, мастацкую каштоўнасьць, ён мусіць жыць пастаянна, а ня толькі да таго моманту, як будзе скарыстаны, як будзе створаны нейкі зборнік паэтычны ці навуковых прац або яшчэ нейкае выданьне. Дакумэнт мае захоўвацца далей,

для наступных пакаленьняў. Калі мы стварылі зборнік Арсеньневай ці Ларысы Геніюш, гэта не значыць, што іх дакумэнты страцілі сваю каштоўнасьць, вартасьць. Зусім не!

*Натальля Гардзіенка: Калі адкінуць асабістую зацікаўленасьць як дырэктара архіву й паставіць сябе на месца беларуса, які жыве, напрыклад, у Злучаных Штатах Амэрыкі і ў яго ёсьць уласны каштоўны архіў. Які варыянт захаваньня Вы б абралі?*

Ганна Запартыка: Уладальніку асабістага архіву, па-першае, варта скласьці дакумэнты ў тэчкі й падпісаць іх. Заўсёды трэба памятаць, што цікавасьць да дакумэнта рана ці позна зьявіцца. А гэта значыць — бясконцае перабіраньне тэчак і папераў у іх. Кожны пошук — гэта вынесьці дакумэнт на сьвятло, гэта дотык рук, гэта дыханьне нашае. Гэта ўсё вельмі шкодзіць паперы: вільгаць, паветра... І гэта будзе адмоўна ўзьдзейнічаць на дакумэнты. Мітусьлівы пошук прыводзіць да хаосу ў паперах. Менавіта таму патрэбны вопіс. Няхай непрафэсійны, хоць бы просты сьпіс таго, што ёсьць. І трэба, каб сьпіс і тэчкі адпавядалі адно аднаму. Тады можна добра арганізаваць пошук дакумэнтаў на хоць бы прымітыўным ўзроўні.

І, зразумела, што дакумэнты павінны захоўвацца ў пэўным рэжыме вільгаці й тэмпэратуры. Трэба, каб тэмпэратура была не ніжэйшая за 18 градусаў і вільгаць не вышэйшая за 55 адсоткаў, каб пыл не трапляў на дакумэнты, скрыні, шафы. Але гэта ўсё роўна немагчыма падтрымліваць пастаянна на побытавым узроўні. У нашых беларускіх рэаліях ёсьць пагроза, скажам, што кватэру суседзі затопяць. Вось сёньня мы маем архіў Яна Тарасэвіча, кампазытара, які жыў за мяжой сучаснай Беларусі, быў з Шаляпіным знаёмы. Ягоны архіў апынуўся ў Віктара Іванавіча Скарабагатава, гісторыка музыкі, сьпевака, заслужанага артыста. Мы гаварылі пра перадачу гэтага архіву да нас некалькі разоў. І аднойчы раніцай, амаль на пачатку працоўнага дня, Віктар Іванавіч зьяўляецца ў архіве з чамаданам папераў. Аказваецца, яго напалохала сытуацыя, якая здарылася ў доме. Недзе нехта побач, нават не ў яго пад’езьдзе здаецца, затапіў суседзяў. І Скарабагатаў раптам адчуў адказнасьць: а калі б тое зь ім здарылася? А ў яго ж архіў Тарасэвіча! І ён уявіў гэты жах і хутка прынёс паперы да нас. Цяпер у нас захоўваецца такі цікавы фонд.

На побытавым узроўні вытрымаць усе ўмовы захаваньня дакумэнтаў вельмі цяжка. Тут у нас, у архіве, усё спэцыяльна наладжана й ёсьць супрацоўнікі-спэцыялісты. І на дзяржаўным узроўні правяраецца, кантралюецца. Дэпартамэнт па архівах кантралюе. Забесьпячэньне захаваньня — адзін з прыярытэтных кірункаў архіўнай дзейнасьці. Улічваючы ўсё гэта, асабістыя архівы лепей перадаваць на захаваньне спэцыялістам.

*Натальля Гадзіенка: Часта, сустракаючыся з замежнымі беларусамі й прапануючы ім перадаваць нам дакумэнты, чуеш шмат сумненьняў, засьцярогаў наконт таго, ці варта менавіта ў Беларусь перадаваць, ці яны тут будуць захаваныя. І пытаньне часта ўзьнікае такое: наколькі стаўленьне да дакумэнту залежыць ад асобы — асобы кіраўніка архіву ці кіраўніка дэпартамэнту, нейкай палітычнай улады. Наколькі перададзеныя ў Беларусь дакумэнты гарантаваныя ад нейкіх асабістых уплываў звонку?*

Ганна Запартыка: Уплывы, напэўна, ёсьць, хоць іх і не павінна быць. Мае дзейнічаць Закон аб архіўнай справе й справаводзтве, які ёсьць, і ён дзейнічае несумненна. Глябальна на сёньня такіх пагрозаў няма. Можна сьмела прымаць рашэньне аб перадачы дакумэнтаў у архіў-музэй літаратуры й мастацтва.

*Натальля Гардзіенка: А калі казаць пра тыя дакумэнты, якія ўжо раней былі перададзеныя. Ці яны пры любой сытуацыі захаваюцца? Ня будуць зьнішчаныя, выкінутыя?*

Ганна Запартыка: Зразумела, пры любой. У нас былі самыя жахлівыя часы. Я ня буду гаварыць пра Першую сусьветную вайну, Другую сусьветную. Гэта тыя агульначалавечыя катастрофы, якія, натуральна, нікога не шкадавалі: ні архівы, ні гарадоў, ні людзей. Ня дай Бог нам перажыць яшчэ такія катастрофы. Але (я хацела б, каб нас зразумелі і ўсё, што сказала раней і цяпер) у тым канктэксьце, у якім мы сёньня разьвіваемся, баяцца няма чаго. Былі часы вельмі жахлівыя: і сталіншчына, і застой. Архівы... Іх фонды, можа, закрывалі, засакрэчвалі дакумэнты, але нідзе ніводная паперка не была знішчаная. У архівах заўсёды працавалі такія асаблівыя людзі, ня вельмі публічныя, нешматслоўныя. Яны мо й не публікавалі дакумэнты ў пэўныя часы, але захоўвалі й ахоўвалі, рабілі навуковае апісаньне, на экспэртных камісіях вырашалі мэтадычныя пытанні. У нас агромністы даведачна-інфармацыйны фонд ад часу заснаваньня архіву, гэта распрацоўкі самага рознага кшталту, якія сёньня ўжо мо й ня дзейныя, але мы іх захавалі дзеля памяці. Цікава паглядзець, як разьвівалася архіўная справа ў 1950-я гады, да 1960 году, калі архівы выйшлі з падпарадкаваньня НКВД-МВД. Унутры ў іх ішло жыцьцё паступовае ў мэтадычным пляне, у выпрацоўцы спосабаў кансэрвацыі, захаваньня дакумэнтаў, рэстаўрацыі. Калі параўнаць, мы сёньня шмат гаворым пра выкарыстаньне, выстаўкі, зборнікі, радыё й тэлеперадачы, нашыя кантакты міжнародныя. А ў той час на першым пляне гаварылі пра спосабы захаваньня й рэстаўрацыі. Гэта, безумоўна, і цяпер ёсьць. Але тады, у тыя часы, з чым акрыта маглі архівісты выступаць, заяўляць пра сябе, — гэта былі чыста тэхнічныя, здавалася б, моманты. Але яны вельмі пасьпяхова вырашаліся. І будынкі прыстасоўваліся

для захаваньня дакумэнтаў, штосьці й будавалася адмыслова. Але дакумэнты не зьнішчаліся. І прыклад з архівам Антона Адамовіча вельмі трапны. Ягоныя дакумэнты, невялікі фрагмэнт архіву, што быў у КДБ, былі перададзены ў Архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі — прабацька нашага сучаснага Нацыянальнага архіву Рэспублікі Беларусь. Тыя дакумэнты ня зьнішчылі, нягледзячы на тое, якім кляймом быў пазначаны Адамовіч ("буржуазны нацыяналіст" і г. д.). Іх ня зьнішчылі, іх перадалі з архіву КДБ, там таксама ж архівісты працавалі. Зразумела, дакумэнты закрылі для доступу, яны былі рассакрэчаныя недзе прыканцы 1980-х гадоў. Але яны захаваліся.

Можна ўзяць прыклад Беларускага музэя імя Івана Луцкевіча. Усё адбывалася на ўзроўні кіруючых архіўных службаў, калі ішоў узаемаабмен дакумэнтамі паміж рэспублікамі. Тады мы атрымалі дакумэнты Грыгаровіча, Ельскага, невялікія фрагмэнты архіваў Купалы й Коласа. І фонд Музэя імя Івана Луцкевіча таксама. Ён паступіў у 1960–1961 гадах у Беларусь. Многія дасьледчыкі памыляюцца тут. Музэйная частка Музея імя Івана Луцкевіча зь Вільні паступала пры ліквідацыі, у асноўным у 1946 годзе, у сучасны Нацыянальны гістарычны музей, Нацыянальны мастацкі музей. Архіўныя ж дакумэнты паступілі з Цэнтральнага архіву Літвы ў 1960–1961 годах паводле ўзаемаабмену. І натуральна, што пэрспэктывы ў гэтага фонду былі вельмі слабыя ў адносінах выкарыстаньня. Зь яго вылучылі, здаецца, літаральна 14 адзінак для доступу... "Незакрытай" аказаліся дакументы Цёткі й яшчэ некалькі нязначных дакумэнтаў, якія выглядалі выпадковымі ў гэтым вопісе, ніякай лучнасьці паміж імі амаль няма. А асноўная частка фонду была закрытая да канца 1980-х гадоў. Але яна была! Ёй зрабілі навуковае апісаньне, і ў вопісах праходзілі й Луцкевіч, і Ластоўскі, і Серада, і Жаўрыд, і многія іншыя імёны, якія былі закрытыя.

*Натальля Гардзіенка: А дасьледчык нейкім чынам мог трапіць да гэтых дакумэнтаў?*

Ганна Запартыка: Мог, па спэцыяльных допусках гэта магло адбывацца, але было вельмі рэдка. Гэта павінна было ўзгадняцца зь вядомымі службамі. З улікам гэтага вопыту, сёньня перасьцярогі могуць быць такія, што тыя ці іншыя дакумэнты могуць быць закрытыя. Я дапускаю... Але яны захаваюцца і ў пэўны час стануць даступныя!

*Натальля Гардзіенка: А ці ёсьць магчымасьць, што фонд некуды можа быць вывезены?*

Ганна Запартыка: Не, гэта немагчыма. І на сёньня, і на пэрспэктыву. Адзінае, што паміж архівамі можа быць удакладненьне профілю, так мы дакумэнты Антона Адамовіча й атрымалі. Папрасілі ўдакладніць профіль гэтага фонду ў Нацыянальным архіве й нам

перадаць з пэрспэктывай яго камплектаваньня. І нам гэты фонд перадалі, як мы перадалі Нацыянальнаму архіву фонд Кірылы Мазурава. Ён для літаратуры асоба маргінальная. Хоць і пісаў кнігу ўспамінаў ды адзін вершык знайшлі нават. Вось такім чынам можа быць удакладненьне профілю фонду, але гэта толькі спрыяе таму, што ў адным месцы канцэнтруюцца дакумэнты аднаго кірунку. І дасьледчыку выгадна ў такіх умовах працаваць, ня езьдзіць па многіх архівах.

*Натальля Гардзіенка: Калі мы размаўляем з замежнымі дзеячамі — трымальнікамі архіваў і прапануем ім перадаць архівы ў Беларусь, што мы ім можам гарантаваць тут?*

Ганна Запартыка: Перш за ўсё, навуковае апісаньне, забесьпячэньне тэхнічнай апрацоўкі (упакоўка дакумэнтаў і г. д.), неабходныя ўмовы для захаваньня гэтых дакумэнтаў, і ўмовы выкарыстаньня. Незалежна ад таго, грамадзянін якой краіны перадае нам дакумэнты, ён мае права, напрыклад, закрыць іх на 75 гадоў з часу стварэньня, зважаючы на нейкія свае ўласныя прычыны, якія мы можам назваць аховай тайны асабістага жыцьця. Гэта могуць быць дзёньнікі, фатаграфіі, перапіска, успаміны нейкія. Ён мае права закрыць у адпаведнасьці з нашым Законам аб архіўнай справе й справаводзтве. Архівісты й па дзяржаўным законе, і па законах чалавечых узаемаадносінаў вельмі гэтага прытрымліваюцца. За 55 гадоў існаваньня нашага архіву-музэю пры актыўным выкарыстаньні дакумэнтаў з фондаў асабістага паходжаньня, ніводнай скаргі й ніводнага папроку мы ня мелі. Заўсёды вытрымлівалі ўсе ўмовы. Калі ідзе пра публікацыю перапіскі, то заўсёды папярэджваем дасьледчыка, што можа яго чакаць пры выкарыстаньні такіх вельмі асабістых дакумэнтаў, як перапіска, дзёньнікі, успаміны. Ёсьць выпадкі, калі архіў мае права, ахоўваючы таямніцу асабістага жыцьця, ня выдаць дакумэнты. Альбо калі нехта з дасьледчыкаў, карыстальнікаў папросіць скапіяваць нейкі фрагмэнт ліста, дзе можа ўспамінацца негатыўна нейкае прозьвішча, то ёсьць варыянт, калі нават закрываецца гэтае прозьвішча. У выніку дасьледчык атрымоўвае патрэбную яму інфармацыю з дакумэнта, але без тае згадкі, якая выглядае непажаданай.

Архівы абавязаны й самастойна ахоўваць таямніцу асабістага жыцьця таго ці іншага дзеяча, і без адмысловага дазволу ўладальнікаў (гэта можа быць сам фондаўтваральнік, Вітаўт Кіпель ці Янка Запруднік, прыкладам, або іх спадчыньнік). Спадчыньнік таксама можа абумовіць выкарыстаньне дакумэнтаў пры перадачы. Калі дзёньнік, скажам, завершаны ў 1970-м годзе й не дазволены для выкарыстаньня або самі архівісты вызначылі, што гэты дзёньнік ня можа быць выдадзены ў публічнае выкарыстаньне, то ён стане даступны толькі ў 2035 годзе.

*Натальля Гардзіенка: А што яшчэ атрымоўвае ўладальнік пры перадачы дакумэнтаў? Архіў апрацоўвае іх, складае вопіс, асобнік якога перадае фондаўтваральніку…*

Ганна Запартыка: Так, абавязкова. І ўладальнік, які перадае дакумэнты на ўмовах дарэньня, мае права без абмежаваньняў зьвярнуцца ў архіў і замовіць копіі дакумэнтаў бясплатна. Яму дасылаецца любая інфармацыя, зьвязаная зь ягоным уласным фондам. На першую ж просьбу. Гэта могуць быць электронныя копіі ці папяровыя, паколькі гэта яго асабісты архіў, які мае забясьпечваць правы й інфармацыйныя патрэбы ягоных спадчыньнікаў. Любая даведка будзе яму дасланая таксама.

*Натальля Гардзіенка: У мінулым годзе мы стварылі ініцыятыву ў выглядзе Цэнтру камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа. На Ваш погляд, чым такі цэнтар можа быць карысны ў сэнсе зьбіраньня, апрацоўкі, захаваньня дакумэнтаў замежных беларусаў?*

Ганна Запартыка: Для мяне цэнтар — гэта спадзяваньне на актывізацыю працы па зьбіраньні архіваў замежных беларусаў, на тое, што яна прыме такі сыстэмны характар. Хочацца верыць, што Беларусь будзе тым геаграфічным пунктам, да якога, як калісьці Сакрат Яновіч казаў, будзе імкнуцца *“ўся сусьветная беларусеча”*. Вось, каб імкнулася *“ўся сусьветная беларусеча”*, я думаю, цэнтар і мусіць выканаць сваю місію. Зараз ацаніць вынікі ініцыятывы вельмі складана. Але як практык я ажыўленьне ўжо адчула. Гэта была Вашая ініцыятыва, але якая па сутнасьці закранула тую вельмі для мяне важную струнку, калі раптам я зразумела, што ёсьць такі чалавек, які можа ўзяць гэтую працу на сябе. І калі ёсьць ідэя, і чалавек прыйшоў зь ёй у архіў, то гэтая праца павінна стаць сыстэмнай і актывізавацца. У гэтым сэнсе цэнтар павінны ведаць і пазнаваць усюды. Мы павінны стаць домам для архіўных фондаў, домам, у які можна вяртацца. Бо гэта дом, свой, беларускі, дзе заўсёды будзе арганізавана праца з кожным фондам на добрым узроўні. І дом, які будзе прымаць любога фондаўтваральніка, яго спадчыньнікаў, вырашаць нейкія праблемы арганізацыйныя падчас іх наведваньня Менску. Мы заўсёды адкрытыя для ўсіх і спадзяемся, што нас зразумеюць і будуць прымаць за сваіх.

*Цэнтар камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа пры БДАМЛМ*

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# ФОНДЫ ЭМІГРАЦЫЙНЫХ ДЗЕЯЧАЎ У БДАМЛМ

Больш за год прайшоў ад часу стварэньня ў 2014 г. у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры й мастацтва ў Менску навукова-творчай ініцыятывы Цэнтар камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа. За гэты час фонды архіву-музэю папоўніліся новымі каштоўнымі дакумэнтамі беларусаў замежжа (інфармацыю пра новыя паступленьні можна знайсьці тут: http://www.bdamlm.by/new_docs). Актывізавалася й апрацоўка перададзеных раней эміграцыйных архіваў. Цалкам экспэртызу каштоўнасьці й першасную апрацоўку за гэты час прайшлі фонды Юльяны Вітан-Дубейкаўскай, Уладзімера Дудзіцкага, Міхася Кавыля, Антона Коршуна, Алеся Салаўя, Вітаўта Тумаша. Працягваецца апрацоўка дакумэнтаў сямейнага фонду Кіпеляў — Савёнкаў, фондаў Янкі Запрудніка, Дзьмітрыя Касмовіча, а таксама архіву й калекцый Беларускага інстытуту навукі й мастацтва.

Ніжэй пададзеныя апісаньні фондаў, што прайшлі першасную апрацоўку. Пасьля заканчэньня навукова-тэхнічнай працы з гэтымі дакумэнтамі, фонды будуць цалкам даступныя для дасьледнікаў.

## Фонд Юльяны Вітан-Дубейкаўскай

***Юльяна Вітан-Дубейкаўская*** *(дзяв. Мэнке, 12.12.1886, Вільня — 28.09.1969, Нюрнбэрг, Нямеччына), грамадзкая дзячка, мастацтвазнаўца, настаўніца. Паходзіла зь сям'і віленскіх немцаў. У 1907–1913 гг. вучылася на Вышэйшых жаночых курсах у Пецярбургу, пасьля чаго здала дзяржаўны іспыт у Пецярбурскім унівэрсытэце. Ад 1915 г. у Вільні працавала ў Беларускім камітэце разам з Іванам Луцкевічам. Удзельнічала ў адкрыцьці першых беларускіх школ і настаўніцкіх курсаў, Віленскай беларускай гімназіі, дзе затым сама выкладала пэдагогіку й нямецкую мову. Працавала разам зь Цёткай, Антонам Луцкевічам. У 1922 г. узяла шлюб зь Лявонам Дубейкаўскім. Ад 1941 г. жыла ў Нямеччыне. Спачат-*

*ку ўтрымлівалася ў лягеры для перасяленцаў, потым апынулася ў Бэрліне, дзе працавала перакладчыцай у Беларускім аддзеле Міністэрства для патрэбаў вайны. Па сканчэньні вайны праз некаторы час выехала спачатку ў Малерсдорф, а пазьней — у 1951 г. — пасялілася ў пляменьніцы ў Нюрнбэргу. Аўтарка ўспамінаў пра І. Луцкевіча, Л. Дубейкаўскага, Цётку. Пахаваная ў Нюрнбэргу на Westfriedhof.*

Дакумэнты з асабістага архіву Юльяны Вітан-Дубейкаўскай захоўваліся ў Беларускім інстытуце навукі й мастацтва (Нью-Ёрк) і былі перададзены ў БДАМЛМ большай часткай у верасьні 1999 г. Вітаўтам Кіпелем. Некаторыя дакумэнты былі дасланыя Янкам Запруднікам, а таксама перададзены разам зь іншымі дакумэнтамі БІНіМу ў красавіку 2014 г.

У выніку экспэртызы каштоўнасьці й першаснай апрацоўкі дакумэнтаў у вопісе склаліся разьдзелы: “Біяграфічныя дакумэнты”, “Творчыя дакумэнты”, “Перапіска”, “Дакумэнты пра Ю. Вітан-Дубейкаўскую” “Выяўленчыя матэрыялы”, “Дакумэнты, што адкláліся ў фондзе”.

У першым разьдзеле “Біяграфічныя дакумэнты” (разам 29 дакумэнтаў) сабраныя пасьведчаньні асобы, даведкі, выпіскі з рэгістрацыйных кніг паліцыі, квітанцыі й іншыя асабістыя дакумэнты, выдадзеныя Ю. Вітан-Дубейкаўскай у Вільні, Бэрліне, Малерсдорфе, Нюрнбэргу ў 1935–1954 гг.

У разьдзеле “Творчыя дакумэнты” ўтрымліваюцца рукапісы ўспамінаў і артыкулаў Ю. Вітан-Дубейкаўскай “Мае ўспаміны”, “Рыцар Пагоні”, “Чаму Іван Луцкевіч не аставіў па сабе пісьменных працаў” і інш. Тэксты пераважна публікаваныя: або асобна (як “Мае ўспаміны”), або на старонках газэты “Бацькаўшчына”. Найвялікшыя рукапісы суправаджаюцца лістамі з аўтарскімі заўвагамі да выдаўцоў. У разьдзел уключана 16 дакумэнтаў.

“Перапіска” складаецца зь лістоў Юльяны Вітан-Дубейкаўскай да Натальлі Арсеньневай, Яніны Каханоўскай, Валянціны Пашкевіч, Вітаўта Тумаша ды інш. Асобна захаваныя лісты й паштоўкі, дасланыя фондаўтваральніцы ад Алеся Вініцкага, Раісы Жук-Грышкевіч і іншых, а таксама лісты Элізабэт Бакмунд (пляменьніцы Юльяны Вітан-Дубейкаўскай) да розных асобаў з нагоды сьмерці цёткі. У разьдзеле захавалася 25 лістоў.

У разьдзеле “Дакумэнты пра Ю. Вітан-Дубейкаўскую” адклаліся машынапісы й газэтныя выразкі з тэкстамі: Станіслава Станкевіча “У 75-ую гадавіну нараджэньня Юльяны Дубейкаўскай”, Валянціны Пашкевіч “Жыцьцёвы шлях Юльяны Дубейкаўскай” ды іншыя артыкулы й нэкралёгі.

У “Выяўленчых матэрыялах” (36 дакумэнтаў) сабраныя індывідуальныя фатаграфіі Вітан-Дубейкаўскай, здымкі са сваякамі (найперш зь сястрой Ляляй), а таксама зь іншымі асобамі, у тым ліку з Вальтарам Егерам. Захаваліся й індывідуальныя фатаграфіі сваякоў фондаўтваральніцы ды дзеячаў Івана Луцкевіча, Лявона Дубейкаўскага й іншых, а таксама 11 паштовак з выявамі беларускіх мясьцінаў. Выглядае, што фатаграфіі й паштоўкі былі сабраныя аўтаркай для публікацыі “Маіх успамінаў”, пра што сьведчаць надпісы на адваротах. Часткова фатаздымкі былі выкарыстаныя ў віленскім кніжным выданьні (1994).

У разьдзел “Дакумэнты, што адкладаліся ў фондзе” вынесеныя асабістыя дакумэнты Лявона Дубейкаўскага (муж Юльяны Вітан-Дубейкаўскай): пасьведчаньні асобы, візітоўка.

Разам у здатачны вопіс уключаныя 113 дакумэнтаў. Да іх дадаюцца рэчы з кватэры Юльяны Вітан-Дубейкаўскай: абрус і два ручнікі, што трапілі, магчыма, разам з дакумэнтамі дзяячкі да Яніны Кахаоўскай у ЗША. Зь сям’і апошняй праз Маргарыту Пярову рэчы былі перададзеныя Галіне Дзягілевай і выкарыстоўваліся ў якасьці рэквізіту ў спэктаклі “Віленскія мроі”. У 2010 г. на юбілеі гэтыя рэчы былі падараваныя БДАМЛМ.

Дакумэнты й рэчы маюць навуковую ды гістарычную каштоўнасьць і склалі фонд № 505 “Вітан-Дубейкаўская, Юльяна, грамадзкакультурная дзяячка”.

## Фонд Уладзімера Дудзіцкага

***Уладзімер Дудзіцкі*** *(сапр.* ***Гуцька****, на эміграцыі* ***Гіцкі****, 08.01.1911, в. Дудзічы, сёньня Пухавіцкі раён Менскай вобл. — пасьля 1976), пісьменьнік, публіцыст, грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Беларускім пэдагагічным тэхнікуме ў Менску, потым працаваў стыль-рэдактарам у газэце “Савецкая Беларусь” і перакладчыкам у Навукова-тэхнічным выдавецтве ды вучыўся на літаратурна-лінгвістычным факультэце Вышэйшага пэдагагічнага інстытуту. На пачатку 1930-х гг. падрыхтаваў зборнік паэзіі “Песьні і думы”, канфіскаваны падчас арышту ў 1933 г. Паводле прысуду калегіі НКУС СССР, быў асуджаны на тры гады зьняволеньня. Адбываў пакараньне ў Новасібірску, Марыінску. Па вызваленьні жыў у Ташкенце, працаваў у газэце “Фізкультурнік Узбекістана”. Пасьля 1937 г. вярнуўся ў Беларусь, жыў у Віцебску, дзе нейкі час працаваў настаўнікам беларускай мовы. Але ў 1939 г. быў афіцыйна адхілены ад настаўніцкай дзейнасьці. У часе нямецкай акупацыі працаваў у аддзеле культуры й асьветы Менску й Менскай акругі. Супрацоўнік “Беларускай газэты”, школьны інспэктар у Барысаве. Уваходзіў у склад БЦР, быў сябрам Беларускага культурнага згуртавань-*

*ня, дзе ўзначальваў аддзел прапаганды, рэдагаваў часопіс “Беларус на варце”. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. У 1949 г. выехаў у Вэнэсуэлу, дзе заснаваў Згуртаваньне беларусаў у Вэнэсуэле. Працаваў у Інстытуце сельскай гаспадаркі. У 1956–1962 гг. — кіраўнік Беларускай рэдакцыі Радыё “Вызваленьне”. У 1962 г. выехаў у ЗША. Некаторы час жыў у Нью-Ёрку, пазьней перабраўся ў Індыяну, дзе ў 1976 г. бясьследна зьнік.*

Большая частка дакумэнтаў з асабістага архіву Ўладзімера Дудзіцкага была перададзеная ў БДАМЛМ Вітаўтам Кіпелем у 1999 г. Асобныя аўтографы й здымкі са збораў БІНіМу дадаліся ў красавіку 2014 г. Пераважна матэрыялы былі атрыманыя Беларускім інстытутам навукі й мастацтва ад сям’і пісьменьніка для падрыхтоўкі да выданьня збору твораў паэта “Напярэймы жаданьням” (Нью-Ёрк, 1994).

У выніку экспэртызы каштоўнасьці й першаснай апрацоўкі дакумэнтаў у вопісе склаліся разьдзелы: “Творчыя дакумэнты”, “Перапіска”, “Дакумэнты пра Ў. Дудзіцкага” й “Выяўленчыя матэрыялы”.

У першым і найвялікшым паводле колькасьці адзінак захоўваньня разьдзеле “Творчыя дакумэнты” адкладіся аўтографы, машынапісы з аўтарскімі праўкамі, газэтныя выразкі, ксэракопіі твораў Уладзімера Дудзіцкага. Усе матэрыялы былі сабраныя й сыстэматызаваныя Лявонам і Аленай Юрэвічамі для першага выданьня збору твораў пісьменьніка “Напярэймы жаданьням” (Нью-Ёрк, 1994). Варта зьвярнуць увагу, што некаторыя вершы захаваліся менавіта ў рэдактарскіх аўтографах (пераважна Алены Юрэвіч). У разьдзеле адклалася багата варыянтаў некаторых вершаў Уладзімера Дудзіцкага, што адлюстроўвае працэс падрыхтоўкі збору твораў і выбару канчатковых варыянтаў для публікацыі.

Сярод творчых дакумэнтаў захаваліся й машынапісы, рукапісы ды газэтныя выразкі “Ўспамінаў” Дудзіцкага, яго апавяданьняў, артыкулаў. Тут жа можна знайсьці зробленыя пісьменьнікам пераклады вершаў Тараса Шаўчэнкі ды перакладзеныя на нямецкую, украінскую й польскую мовы ўласныя творы фондаўтваральніка. Разам у раздзел вопісу ўключана 585 творчых дакумэнтаў.

“Перапіска” складаецца зь пісьмаў фондаўтваральніка да пісьменьніка Міхася Кавыля, а таксама пісьмаў ад беларускага дзеяча з Аргентыны Кастуся Мерляка (з дадаткам лістоў іншых асобаў). Захаваўся і ліст В. фон Доп да дырэктара БІНіМу Вітаўта Кіпеля ў сувязі з падрыхтоўкай да друку збору твораў пісьменьніка.

У разьдзеле “Дакумэнты пра Ў. Дудзіцкага” адкладіся англамоўныя ўспаміны пра бацьку А. Крэйн (дачкі пісьменьніка), а таксама непадпісаныя нататкі пад назвай “Справа Дудзіцкага” (1957), што, відавочна, паходзяць зь Беларускай рэдакцыі Радыё “Вызваленьне”.

У раздзеле “Выяўленчыя матэрыялы” ўтрымліваюцца індывідуальныя здымкі Ўладзімера Дудзіцкага з канца 1940-х гг., дасланыя з Вэнэсуэлы сябру, пісьменьніку Юрку Віцьбічу (з адпаведнымі аўтографамі).

Усяго ў вопіс уключана 600 дакумэнтаў, якія маюць навуковую й гістарычную каштоўнасьць і склалі фонд № 507 “Дудзіцкі, Уладзімер (сапр. Гуцька), паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, грамадзкі дзеяч”.

## Фонд Міхася Кавыля

***Міхась Кавыль** (сапр. **Язэп Лешчанка,** псэўд. Язэп Маёвы, А. Зарэцкі, нар. 01.12.1915 г. в. Покрашава, сёньня Слуцкі раён Менскай вобл.), пісьменьнік, рэдактар, грамазскі дзеяч. У 1930–1933 гг. — вучыўся ў Беларускім пэдагагічным тэхнікуме ў Менску. Быў сябрам літаратурнага згуртаваньня “Маладняк”. 23 лютага 1933 г. арыштаваны й асуджаны на тры гады. Пакараньне адбываў на Далёкім Усходзе. У канцы кастрычніка 1935 г. датэрмінова вызвалены. Жыў у Варонежы (1935–1938), вучыўся ў пэдагагічным інстытуце на літаратурным факультэце (1936–1938), працаваў настаўнікам. У 1941 г. служыў у Чырвонай арміі, трапіў у нямецкі палон, праз некаторы час быў вызвалены. Скончыў прапагандысцкія курсы ў Вустраве пад Бэрлінам, на якіх рыхтавалі будучых кіраўнікоў СБМ. Працаваў у аддзеле прапаганды ў Менску. Ад 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, потым у Бэльгіі (працаваў у капальнях). У 1950 г. выехаў у ЗША, пасяліўся ў Саўт-Рывэры. Першы рэдактар газэты “Беларуская трыбуна”. У 1950-я гг. браў актыўны ўдзел у працы Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. Ад 1983 г. быў пастаянным рэдактарам часопісу “Беларуская думка”. Выдаў зборнікі паэзіі “Ростань” (Рэгенсбург, 1947), “Пад зорамі белымі” (Нью-Ёрк, 1954), “Першая рана” (Манчэстэр, 1960), “Цяжкія думы” (ЗША, 1961), “Міжагнёўе” (Нью-Ёрк, 1990).*

Дакумэнты з асабістага архіву Міхася Кавыля былі перададзеныя ў БДАМЛМ Вітаўтам Кіпелем. Матэрыялы сабраныя ў часе падрыхтоўкі да выданьня Беларускім інстытутам навукі й мастацтва збору выбраных твораў пісьменьніка “Міжагнёўе” ў 1990 г.

У выніку экспэртызы каштоўнасьці й першаснай апрацоўкі дакумэнтаў у вопісе склаліся разьдзелы: “Біяграфічныя дакумэнты”, “Творчыя дакумэнты”, “Перапіска”, “Дакумэнты пра М. Кавыля”, “Выяўленчыя матэрыялы” й “Дакумэнты, што адклаліся ў фондзе”.

Першы разьдзел утрымлівае толькі два біяграфічныя дакумэнты: аўтограф заявы аб прыёме ў Літаратурнае згуртаваньне “Шыпшына” (1946) і запрашэньне на вясельле Міхася Кавыля.

У разьдзеле “Творчыя дакумэнты” адклаліся машынапісы з аўтарскімі праўкамі, ксэракопіі й газэтныя выразкі з творамі фондаўтваральніка, пісанымі таксама пад псэўданімамі Язэп Маёвы, А. Зарэцкі. Некаторыя захаваныя ў разьдзеле п’есы ніколі не былі апублікаваныя. Адметную частку прадстаўленых у дакумэнтах твораў складаюць тыя, што, на жаданьне аўтара, не ўвайшлі ў найпаўнейшы на сёньня збор выбранага “Міжагнёўе” (Нью-Ёрк, 1990). Сярод захаванага можна знайсьці й розныя варыянты ўспамінаў Міхася Кавыля, а таксама выразкі з публікацый артыкулаў, у тым ліку аўтабіяграфічных, у газэце *“Новое Русское Слово”* (Нью-Йорк). Акрамя таго, у разьдзеле “Творчыя дакумэнты” захаваліся працоўныя матэрыялы па падрыхтоўцы збору твораў Міхася Кавыля “Міжагнёўе”, матэрыялы да бібліяграфіі пісьменьніка, складзенай Зорай Кіпель. Разам у разьдзеле — 184 дакумэнты.

“Перапіска” складаецца зь лістоў фондаўтваральніка да Вітаўта й Зоры Кіпеляў у справе выданьня ягонага збору выбраных твораў, пісьмаў да Лявона Юрэвіча, а таксама карэспандэнцыі Алеся Вініцкага, Аўгена Каханоўскага, Вячаслава Сэлях-Качанскага (разам — 25 дакумэнтаў).

У разьдзеле “Дакумэнты пра М. Кавыля” сабраныя: машынапіс англамоўнай прадмовы Томаса Бэрда да зборніка “Міжагнёўе”, а таксама прысьвечаныя пісьменьніку й ягонай творчасьці артыкулы Янкі Золака, Рыгора Шэўчука й інш.

У разьдзеле “Выяўленчыя матэрыялы” ўтрымліваецца невялікая колькасьць фатаграфій Міхася Кавыля індывідуальных і ў групах зь Юркам Віцьбічам, Уладзімерам Сядура-Глыбінным, Лявонам Юрэвічам.

У “Дакумэнты, што адклаліся ў фондзе” аднесены верш-пародыя на твор Міхася Кавыля “Грэх на сэрцы цяжкі”, апублікаваны ў газэце “Голас Радзімы”, аўтарам якога (на думку пісьменьніка) мог быць Максім Танк.

Разам у здатачны вопіс уключана 225 дакумэнтаў, да якіх далучаныя 4 кнігі з асабістай бібліятэкі Міхася Кавыля (ягоныя паэтычныя зборнікі).

Уключаныя ў вопіс дакумэнты маюць навуковую й гістарычную каштоўнасьць і склалі фонд № 504 “Кавыль, Міхась (Лешчанка, Язэп), пісьменьнік”.

## Фонд Антона Коршуна

***Антон Ігнатавіч Коршун*** *(07.07.1893, в. Смаленікі — 13.03.1988, в. Смаленікі Ляхавіцкага раёну Берасьцейскай вобл.), грамадзкі дзеяч, выдавец. Паходзіў зь сялянскай сям’і Ігната й Крысьціны (дзяв. Ходар). Скончыў тры клясы народнай вучэльні.*

*Падчас Першай сусьветнай вайны ня быў забраны ў войска з прычыны хваробы. У 1916 г. выехаў у бежанства. Працаваў у вайсковай канцылярыі пры Другім будаўнічым аддзеле Ўсерасейскага земскага саюзу як табельшчык. Пасьля заканчэньня вайны вярнуўся на радзіму, але з пачаткам Грамадзянскай вайны служыў у Чырвонай арміі, быў у школе чырвоных камандзіраў. У 1920 г. зноў вярнуўся ў родную вёску, дзе жыў на гаспадарцы, працаваў цесьляром. У 1922 г. ажаніўся з Каралінай Калясінскай, зь якой меў дачку Эмілію (1924 г. н.) і сына Вікенція (1928 г. н.). У 1926–1929 гг. быў солтысам у роднай вёсцы. 3 чэрвеня 1930 г. выехаў на заробкі ў Аргентыну. Працаваў як столяр у розных фірмах да 1955 г., калі выйшаў на пэнсію. У 1931 г. запісаны сябрам сэкцыі "Вольнай Польшчы" Саюзу польскіх таварыстваў і арганізацый "Польскі дом", але хутка выйшаў з арганізацыі й стаў сябрам прафсаюзу дрэваапрацоўчай прамысловасьці. Быў сябрам падпольнай арганізацыі "СУБРО" (Саюз украінскіх і беларускіх працоўных арганізацый). Ад 1937 г. удзельнічаў у заснаваньні Беларускай бібліятэкі імя І. Луцкевіча і ўваходзіў у яе ўправу. Ад 1939 г. працаваў у культурнай камісіі Фэдэрацыі беларускіх арганізацый у Аргентыне. У 1942–1943 гг. быў дырэктарам штотыднёвай газэты "Эхо". У 1944 г. быў арыштаваны й тры месяцы правёў у турме. У 1945 г. быў сябрам Беларускага таварыства ўзаемадапамогі. У 1947 г. працаваў у культурнай камісіі Фэдэрацыі беларускіх арганізацый у Аргентыне над выданьнем Беларускага календара на 1948 г. У 1947 г. атрымаў пашпарт грамадзяніна СССР. Пасьля ліквідацыі Бібліятэкі імя І. Луцкевіча быў сябрам Культурнаспартыўнага таварыства імя А. С. Пушкіна. 26 верасьня 1964 г. выехаў з Аргентыны на сталае жыцьцё ў СССР. Пасяліўся ў роднай вёсцы Смаленікі, дзе й жыў да канца жыцьця.*

Дакумэнты з асабістага архіву Антона Коршуна паступалі ў БДАМЛМ у два этапы. Спачатку ў 2005 г. частку іх, у тым ліку перапіску, перадаў журналіст Ігар Сяргееў, які атрымаў іх празь Сяргея Шабельцава ад краязнаўца зь Ляхавічаў Міхаіла Турыянскага. Пазьней, у 2008 г., асноўную частку дакумэнтаў ад імя ўнучкі Антона Коршуна Ірыны Куляшэвіч прывёз у архіў сам гісторык Сяргей Шабельцаў.

У выніку экспэртызы каштоўнасьці й першаснай апрацоўкі дакумэнтаў у вопісе склаліся разьдзелы: "Біяграфічныя дакумэнты", "Творчыя дакумэнты", "Перапіска", "Дакумэнты, сабраныя фондаўтваральнікам для сваіх прац і па цікавячых яго пытаньнях", "Дакумэнты пра фондаўтваральніка", "Выяўленчыя матэрыялы" й "Дакумэнты, якія адклаліся ў фондзе".

У першым разьдзеле сабраныя аўтабіяграфіі, сяброўскія пасьведчаньні Антона Коршуна з Аргентыны, дакумэнты, зьвязаныя

зь пераездам у БССР ды іншыя. Асаблівую каштоўнасьць мае захаваная ў архіве *“Книга протоколов Подкомитета № 1 при Белорусском Центре Помощи Родине”*, які дзейнічаў у 1946–1948 гг. і дзе Антон Коршун выконваў функцыі сакратара. Таксама каштоўнымі дакумэнтамі зьяўляюцца дзьве аўтабіяграфіі фондаўтваральніка (на рускай і польскай мовах) ды вялікая грамата з подпісамі сябраў-калегаў па грамадзкай дзейнасьці ў Аргентыне, дадзеная Коршуну перад ад’ездам у БССР.

У раздзеле “Творчыя дакумэнты” адклаліся машынапісы й рукапісы вершаў фондаўтваральніка, выразкі зь ягоных публікацый у рускамоўных газэтах у Аргентыне. Значную каштоўнасьць маюць нататнікі Антона Коршуна з часоў яго працы ў якасьці дырэктара газэты *“Эхо”* (1942–1943) і сакратара Беларускага цэнтру дапамогі Радзіме (1947–1948), а таксама асобныя нататкі пра грамадзкую дзейнасьць у Аргентыне пачынаючы ад 1939 г.

Разьдзел “Перапіска” складаецца зь лістоў фондаўтваральніка да розных асобаў і ўстановаў ды зь лістоў, адрасаваных Антону Коршуну, сярод якіх асаблівую каштоўнасьць маюць пісьмы Ўладыслава Гайлевіча (?—1985), першага старшыні Фэдэрацыі беларускіх арганізацый у Аргентыне, значнага дзеяча дыяспары ў гэтай краіне.

У разьдзеле “Дакумэнты, сабраныя фондаўтваральнікам, для сваіх прац і па цікавячых яго пытаньнях” адклаліся блянкі беларускіх арганізацый у Аргентыне й некаторых савецкіх установаў, праграма шматнацыянальнага мерапрымства з удзелам беларусаў у Буэнас-Айрэсе (1959), выразкі й выпіскі з рускамоўных газэтаў *“Наша газета”*, *“Родной голос”* і інш.

У “Дакумэнты пра фондаўтваральніка” сабраныя: публікацыя, прысьвечаная ад’езду Антона Коршуна з Аргентыны, зробленая Ўладыславам Гайлевічам у газэце *“Родной голос”*, а таксама артыкул Адама Мальдзіса й Ігара Сяргеева ў газэце “Голас Радзімы”.

Асаблівую каштоўнасьць маюць дакумэнты, сабраныя ў разьдзеле “Выяўленчыя матэрыялы”. Сярод іх дванаццаць паасобных здымкаў і два вялікія альбомы з фатаграфіямі Антона Коршуна, ягоных знаёмых, сваякоў, а таксама ўдзельнікаў беларускіх арганізацый (Бібліятэкі імя І. Луцкевіча ды інш.) і мерапрыемстваў з удзелам беларусаў у Аргентыне ад 1930-х гг. (у кожным альбоме каля сотні здымкаў). З увагі на тое, што архіваў аргентынскіх беларускіх арганізацый у Беларусі не захавалася, згаданыя альбомы з фатаграфіямі, значная частка якіх падпісаная, маюць надзвычай вялікую каштоўнасьць.

У разьдзеле “Дакумэнты, якія адклаліся ў фондзе” ўтрымліваюцца павестка й паведамленьне з Інюркалегіі сыну Антона Коршуна Вікенцію ў сувязі са спадчынай па бацьку.

Усяго ў расцэначны вопіс уключана 112 дакумэнтаў, якія маюць навуковую, а некаторыя зь іх і вялікую гістарычную каштоўнасьць ды склалі фонд № 502 “Фонд Антона Коршуна, грамадзкага дзеяча, выдаўца”.

## Фонд Алеся Салаўя

***Алесь Салавей*** *(сапр.* ***Альфрэд Радзюк****, на эміграцыі* ***Альбэрт Кадняк****, 01.05.1922, в. Крысава Койданаўскага пав., сёньня Дзяржынскі раён Менскай вобл. — 22.01.1978, Мэльбурн, Аўстралія), паэт, журналіст, грамадзка-культурны дзеяч. У 1938–1940 гг. вучыўся ў пэдагагічным вучылішчы ў Менску. Ужо ад 1937 г. ягоныя вершы зьяўляліся на старонках розных беларускіх выданьняў. Ад 1942 г. жыў у Рызе (Латвія), працаваў намесьнікам галоўнага рэдактара часопісу “Новы шлях”. Пры канцы Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Зальцбургу (Аўстрыя), удзельнічаў у выданьні газэты “Зь беларускага жыцьця” й часопісу “Пагоня”. У 1949 г. прыбыў у Аўстралію. Першыя некалькі гадоў жыў у Адэляйдзе, у лютым 1950 г. удзельнічаў у арганізацыйным сходзе мясцовых беларусаў. Пазьней перабраўся ў Мэльбурн, дзе таксама далучыўся да грамадзкага жыцьця. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вікторыі, потым культурным рэфэрэнтам Беларускага цэнтральнага камітэту ў Вікторыі й сябрам Беларускае сэкцыі радыё 3ZZ у Мэльбурне (1976–1977). Паэтычнай творчасьцю ў Аўстраліі займаўся мала. У 1982 г. ужо пасьля сьмерці паэта ў БІНіМе ў Нью-Ёрку выйшаў зборнік вершаў “Нятускная краса”, куды ўвайшлі й творы аўстралійскага пэрыяду ягонага жыцьця. Пахаваны ў Мэльбурне на беларускай дзялянцы Fawkner Memorial Park.*

*Іншыя псэўданімы Алеся Салаўя: А. Вясёлка, Алесь Вясновы, Антон Дабрыдзень, Максім Блакітны, Тамара Залеская, Тодар Быльнюк.*

Большая частка дакумэнтаў з асабістага архіву Алеся Салаўя была перададзеная ў БДАМЛМ Вітаўтам Кіпелем у верасьні 1999 г. Асобныя аўтографы й здымкі са збораў БІНіМу дадаліся ў красавіку 2014 г. Пераважна матэрыялы былі сабраныя ў часе падрыхтоўкі да выданьня Беларускім інстытутам навукі й мастацтва збору твораў паэта “Нятускная краса” (Нью-Ёрк — Мэльбурн, 1982).

У выніку экспэртызы каштоўнасьці й першаснай апрацоўкі дакумэнтаў у вопісе скláліся разьдзелы: “Біяграфічныя дакумэнты”, “Творчыя дакумэнты”, “Перапіска”, “Дакумэнты пра А. Салаўя”, “Выяўленчыя матэрыялы” й “Дакумэнты, што адкláліся ў фондзе”.

Першы разьдзел “Біяграфічныя дакумэнты” ўтрымлівае адзіны дакумэнт — копію заявы Алеся Салаўя на прыняцьце ў сябры Беларускага інстытуту навукі й мастацтва.

У разьдзеле “Творчыя дакумэнты” адклаліся каштоўныя аўтографы зборніка “Сіла гневу” ды асобных вершаў Алеся Салаўя зь іншых зборнікаў, а таксама копіі аўтографаў, выразкі й ксэракопіі з газэтаў і часопісаў зь вершамі, апавяданьнямі, сцэнічнымі абразкамі. Зьвяртае на сябе ўвагу копія аўтарскага варыянту рукапісу зборніка “Нятускная краса”, які не быў выдадзены пры жыцьці самога аўтара. У разьдзеле таксама захоўваюцца копіі апавяданьняў, апублікаваных пад псэўданімамі (Тодар Быльнюк, Тамара Залеская, Антон Дабрыдзень) ды кароткага жыцьцяпісу Алеся Салаўя. Важнае месца ў разьдзеле займаюць пераклады, зробленыя паэтам, а таксама пераклады яго вершаў аўтарства украінскіх пісьменьнікаў Барыса Александрыва, Ігара Качуроўскага. З гэтымі пісьменьнікамі Алесь Салавей пазнаёміўся ў часе паваеннага побыту ў Аўстрыі.

Асобную групу ў разьдзеле “Творчыя дакумэнты” складаюць матэрыялы, зьвязаныя з арганізацыяй выданьня й распаўсюду пасьмяротнага збору твораў Алеся Салаўя “Нятускная краса”. Кніга рыхтавалася ў БІНіМе спачатку пад кіраўніцтвам Вітаўта Тумаша, а пазьней (у сувязі з хваробай дырэктара БІНіМу) — пад кіраўніцтвам Зоры й Вітаўта Кіпеляў. Сярод згаданых матэрыялаў: звароты да суайчыньнікаў у справе фінансаваньня выданьня, запісы пра ахвярадаўцаў, падпісныя лісты й працоўныя нататкі з падрыхтоўкі кнігі.

Разьдзел “Перапіска” складаецца зь дзвюх частак. У першую ўвайшла асабістая перапіска Алеся Салаўя, што вялася пераважна зь лягераў для перамешчаных асобаў у Аўстрыі пасьля Другой сусьветнай вайны зь Вітаўтам Тумашам, Юркам Віцьбічам, Міколам Ганько, Алесем Грыцуком, Аляксандрам Міцкевічам, Алесем Лашуком і інш. Ёсьць пісьмы да Антона Адамовіча зь пазнейшых часоў. Захавалася і невялікая колькасьць лістоў да Алеся Салаўя ад Юркі Віцьбіча, Аўгена Кавалеўскага ды інш.

Другую частку разьдзела “Перапіска” складае карэспандэнцыя, зьвязаная з выданьнем і распаўсюдам збору твораў паэта “Нятускная краса”. Тут захаваліся лісты Зінаіды Кадняк (жонкі паэта) да Антона Адамовіча, што займаўся рэдагаваньнем твораў Алеся Салаўя. Вялікую частку перапіскі складаюць лісты Вітаўта Тумаша, Вітаўта й Зоры. Кіпеляў, якія займаліся падрыхтоўкай выданьня, Міколы Прускага, што ажыцьцяўляў тэхнічную працу, Аляксандра Калодкі, Міколы Скабея ды іншых беларусаў з Аўстраліі, Канады, ЗША, што дасылалі матэрыялы для кнігі ды дапамагалі зь фінансаваньнем і распаўсюдам выданьня.

У разьдзеле “Дакумэнты пра А. Салаўя” сабраныя прысьвечаныя паэту вершы, успаміны, нэкралёгі, артыкулы ў беларускім і ўкраінскім эміграцыйным друку, а таксама тэксты прадмовы й пасьлямовы да выдадзенага БІНіМам збору “Нятускная краса”.

У разьдзеле “Выяўленчыя матэрыялы” ўтрымліваюцца індывідуальныя здымкі Алеся Салаўя з пачатку 1950-х гг., фатаграфіі ягонай сям’і, здымак зь ведамымі беларускімі літаратарамі з часоў Другога Ўсебеларускага кангрэсу 1944 г. Таксама ў разьдзеле захаваныя ілюстрацыі да зборнікаў Алеся Салаўя.

Разьдзел “Дакумэнты, што адклаліся ў фондзе” складаюць уласнаручна перапісаныя Алесем Салаўём: зборнік вершаў Вацлава Ластоўскага, а таксама зробленая Алесем Зарыцкім пераклад верша Крысьціёнаса Данелайціса. Тут жа захавалася копія брашуры “25-лецьце Беларускае Гімназіі ў Вільні. 1919–1944”, выдадзенай у Вільні ў 1944 г.

Разам у здатачны вопіс уключана 386 дакумэнтаў, якія маюць навуковую й гістарычную каштоўнасьць і склалі фонд № 503 “Салавей, Алесь (Радзюк, Альфрэд), паэт”.

## Фонд Вітаўта Тумаша

***Вітаўт Тумаш*** *(20.12.1910, в. Сьпягліца Вялейскага пав. Віленскай губ., сёньня в. Сьвяцілавічы Смаргонскі раёну Гарадзенскай вобл. — 27.04.1998, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч, мэдык, навуковец (скарыназнаўца). Скончыў Віленскую беларускую гімназію. У 1933–1938 гг. вучыўся на мэдычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. Адзін з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага саюзу й Таварыства прыяцеляў беларусаведы. Па сканчэньні навучаньня працаваў у этнічнай Польшчы. Пасьля верасьня 1939 г. працаваў у Беларускім нацыянальным камітэце ў Варшаве. У 1940–1941 гг. быў старшынём Беларускага камітэту ў Лодзі. З пачаткам нямецкай акупацыі Беларусі ў ліпені — лістападзе 1941 г. быў кіраўніком цывільнай адміністрацыі Менску. Напрыканцы 1941 г. выехаў у Нямеччыну, займаўся мэдыцынай, уваходзіў у рэдакцыі бэрлінскіх газэтаў “Раніца” й “Беларускі работнік”, працаваў у бэрлінскім аддзеле Беларускай народнай самапомачы. У 1948 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Меў лекарскую практыку, а ўвесь вольны час прысьвячаў грамадзкай і навуковай дзейнасьці. Быў сябрам Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня, старшынём Нью-Ёркскага аддзелу арганізацыі. Адзін з заснавальнікаў БІНіМу й ягоны кіраўнік ў 1955–1982 гг. У 1979–1982 гг. быў старшынём Фундацыі імя П. Крэчэўскага. Аўтар шэрагу навуковых прац, найперш скарыназнаўчай тэматыкі. У 1982 г. у выніку хваробы быў паралізаваны. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.*

Дакумэнты з асабістага архіву Вітаўта Тумаша захоўваліся ў Беларускім інстытуце навукі й мастацтва (Нью-Ёрк), асноўнай часткай былі перададзеныя ў БДАМЛМ разам зь іншымі дакумэнтамі БІНіМу

у красавіку 2014 г., а таксама ў чэрвені 2014 г. Генадзем Сагановічам і асобнымі паступленьнямі цягам 2015 г.

У выніку экспэртызы каштоўнасьці й першаснай апрацоўкі дакумэнтаў у вопісе склаліся разьдзелы: “Біяграфічныя дакумэнты”, “Творчыя дакумэнты”, “Перапіска”, “Дакумэнты, сабраныя фондаўтваральнікам для сваіх прац і па цікавячых пытаньнях”, “Дакумэнты пра В. Тумаша” й “Выяўленчыя матэрыялы”.

У разьдзеле “Біяграфічныя дакумэнты” адклаліся копія анкеты ў БІНіМ, запрашэньні на імя фондаўтваральніка, памінальныя карткі з нагоды ягонай сьмерці.

Разьдзел “Творчыя дакумэнты” складаецца зь некалькіх варыянтаў машынапісу з аўтарскімі праўкамі працы Вітаўта Тумаша “На Захад і Ўсход”, копіі працы “Аўхім Карскі. Жыцьцё, навуковая спадчына, пагляды 1861–1931”, аўтографаў і машынапісаў артыкулаў “Адмаўленьне раману”, “Аб беларускіх уплывах на польскую мову”, “Балцкі элемэнт пры паўстаньні сучаснага беларускага народу”, «450-годзьдзе друку на беларускай зямлі: Угодкі выхаду “Малой падарожнай кніжкі” доктара Ф. Скарыны», бібліяграфія Вітаўта Тумаша.

Вялікую каштоўнасьць уяўляюць зь сябе дакумэнты, сабраныя ў разьдзеле “Перапіска”. Тут адклаліся важныя й цікавыя лісты Вітаўта Тумаша да паэткі Натальлі Арсеньневай, пісьменьніка Ўладзімера Сядуры, навукоўца Янкі Садоўскага, сьвятароў Лява Гарошкі, Аляксандра Надсана, Часлава Сіповіча, Пётры Татарыновіча, грамадзкіх дзеячаў Вінцэнта й Раісы Жук-Грышкевічаў, рэдактара Станіслава Станкевіча ды інш. Асабліва трэба адзначыць 60 лістоў да пісьменьніка Юркі Віцьбіча, што ўтрымліваюць важную інфармацыю ў галіне скарыназнаўства, гісторыі й культуры Беларусі й дыяспары.

Вялікую каштоўнасьць маюць і лісты перакладчыка твораў Максіма Багдановіча на нямецкую мову барона Аўгена фон Энгельгардта й ягонай жонкі да Вітаўта Тумаша. Захаваліся ў разьдзеле таксама пісьмы грамадзкай дзяячкі Ніны Абрамчык, навукоўца Часлава Будзькі, сьпевака Пётры Конюха, мастака зь Сыднэю (Аўстралія) Аляксандра Раманоўскага, пісьменьнікаў Уладзімера Сядуры, Масея Сяднёва, перакладчыка Яна Пятроўскага, бібліёграфа Аляксандра Ружанцова ды інш. Разам у фондзе захавалася 311 лістоў і паштовак.

У разьдзеле “Дакумэнты, сабраныя фондаўтваральнікам для сваіх прац і па цікавячых пытаньнях” захоўваюцца ў аўтографах (перакладчыка), машынапісах і друкаваных выданьнях творы Максіма Багдановіча ў перакладзе на нямецкую мову, зробленым Аўгенам фон Энгельгардтам, а таксама выпіскі з кніг і пэрыядычных выданьняў, выразкі з газэтаў і часопісаў, сабраныя Вітаўтам Тумашам.

У разьдзеле “Дакумэнты пра В. Тумаша” адклаліся машынапісы й копіі ўспамінаў Вітаўта Кіпеля “Аб настаўніку, супрацоўніку,

прыяцелю", Яры Тумаш "Пахвала майму бацьку", Раісы Жук-Грышкевіч "Мае ўспаміны пра Доктара Вітаўта Тумаша".

Разьдзел "Выяўленчыя матэрыялы" складаюць як індывідуальныя здымкі фондаўтваральніка, гэтак і нешматлікія ягоныя фатаграфіі ў групе з Натальляй Арсеньневай, Вітаўтам Кіпелем, Сяргеем Шупам ды інш.

Да дакумэнтаў далучана таксама копія пасьведчаньня маці Вітаўта Тумаша Петранэлы, зробленая з арыгіналу, што захоўваецца ў зборах краязнаўцы Міхася Казлоўскага.

Разам у здатачны вопіс уключана 396 дакумэнтаў. Да іх дадаюцца тры нумары часопісу "Мэдычная думка", што выдаваўся ў Нямеччыне ў 1946–1950 гг. і які рэдагаваў Вітаўт Тумаш.

Дакумэнты, уключаныя ў вопіс, маюць навуковую й гістарычную каштоўнасьць і склалі фонд № 508 "Фонд Вітаўта Тумаша, грамадзкага дзеяча, навукоўца".

***Дзьмітры Караў,***
***Настасься Дудзько***
*Горадня*

# ПРАЕКТ “ЗАМЕЖНАЕ БЕЛАРУСАЗНАЎСТВА XVI — пач. XXI ст.” І СТВАРЭНЬНЕ НОВАГА ЦЭНТРУ ДАСЬЛЕДАВАНЬНЯЎ ГЭТАЙ ПРАБЛЕМЫ

Сытуацыя, якая ўзьнікла на пачатку XXI ст. у Беларусі ў сувязі зь бяздумнай ліквідацыяй Нацыянальнага навукова-асьветнага цэнтру імя Францыска Скарыны ў Менску, рэзка абвастрыла праблему каардынацыі міжнародных стасункаў у сусьветным беларусазнаўстве і відавочна зьменшыла магчымасьці атрыманьня рэальнай інфармацыі аб жыцьці й дзейнасьці “іншай Беларусі” — беларускіх дыяспараў. Даказаць беларускаму чынавенству недальнабачнасьць такой “палітыкі” было даволі складана.

Гарадзенскія гісторыкі й культуролягі абралі шлях пакрокавага вырашэньня згаданай праблемы. Створаны ў 2011 г. гарадзенскімі дасьледнікамі-гуманітарыямі праект “Замежнае беларусазнаўства XVI — пач. XXI ст. (асноўныя этапы й праблемы станаўленьня й разьвіцьця)” быў уключаны ў Дзяржаўную праграму навуковых дасьледаваньняў, што фінансавалася НАНБ і Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь на 2011–2015 гг. (падпраграма “Гісторыя, духоўная й матэрыяльная культура беларускага народу”). Гэта дало магчымасьць сьціплай, але канкрэтнай яе рэалізацыі ў фармаце “выведкі боем”.

Місійнай устаноўкай праекту, як гэта нам бачылася на пачатку шляху, зьяўлялася стварэньне навуковай канцэпцыі станаўленьня й фармаваньня беларусазнаўства ў замежных краінах Эўразіі (як краінах сёньняшняга Эўразьвяу, гэтак і постсавецкай прасторы) і Паўночнай Амэрыкі ў XVI — пачатку XXI ст. Прагназаваныя вынікі плянуецца публікаваць як у форме цыклю артыкулаў, гэтак і сэрыі манаграфій, прысьвечаных традыцыям беларусазнаўства тых краінаў, дзе тыя традыцыі выяўленыя найбольш выразна (Вялікабрытанія, Літва, Латвія, Польшча, ЗША, Канада, Расея, Украіна, Чэхія, Славакія, Балканскі субрэгіён, Ізраіль, ФРГ).

Мэтай дасьледаваньня гэтага кірунку беларусазнаўства зьяўляецца комплекснае вывучэньне *спэцыфікі генэзісу й фармаваньня беларусазнаўства* ў кантэксьце сусьветнай сацыякультурнай, навуковай прасторы XVI — пачатку XXI ст. (перш за ўсё краінаў Эўропы й Паўночнай Амэрыкі), якое разглядаецца на аснове ўзаемаадносінаў беларускага этнасу й беларускай дзяржавы з народамі й дзяржавамі гэтых кантынентаў. Асноўная ідэя дасьледаваньня — вызначэньне ролі замежнага беларусазнаўства ў стварэньні міжнароднага "вобразу" Беларусі ў Новым і Найноўшым часе (XVI — пач. XXI ст.). Асаблівасьцю першага этапу працы над праектам (2011–2012 гг.) было выяўленьне інфармацыйных магчымасьцяў крыніц XVI — пачатку XXI ст. для рэканструкцыі праблемы й вызначэньня спэцыфікі гістарыяграфічнай традыцыі яе вывучэньня ў XIX—XX стст. Надалей створаны ў Гарадзенскім дзяржаўным унівэрсытэце імя Янкі Купалы часовы навуковы калектыў з пяці асобаў (два гісторыкі, тры філёлягі, якія скончылі асьпірантуру па спэцыяльнасьці "Тэорыя й гісторыя культуры") распрацоўваў праблематыку праекту, зыходзячы з храналягічнага прынцыпу "разгортваньня": 2013 г. — Генэзіс і станаўленьне навуковага беларусазнаўства ў краінах Эўропы й Паўночнай Амэрыкі канца XVIII — пачатку XX ст.; 2014 г. — Замежнае беларусазнаўства ў Эўропе й Паўночнай Амэрыцы ў 1918–1945 гг.; 2015 г. — Замежнае беларусазнаўства ў пасьляваенным сьвеце: навуковыя цэнтры, базавыя канцэпцыі, асноўныя **кірункі** дасьледаваньняў і іх прадстаўнікі.

За час працы над праектам, нягледзячы на вельмі сьціплыя рэсурсавыя магчымасьці, на наш погляд, было зроблена нямала:

- на падставе крыніцазнаўчых мэтадаў дасьледаваньня прааналізаваныя інфармацыйныя магчымасьці асноўнага корпусу крыніцаў (паўната, верагоднасьць, рэпрэзэнтацыйнасьць) і зробленая іх клясыфікацыя[1];
- выяўленая і прааналізаваная спэцыфіка гістарыяграфічнай традыцыі праблемы (заходняй, усходнеэўрапейскай, савецкай і постсавецкай)[2];

[1] Карев, Д.; Змитрукевич, А.; Карева, А. Восточнославянский мир в зарубежном белорусоведении второй половины XX — начала XXI в.: историографические и источниковедческие аспекты проблемы (Великобритания, ФРГ, США и Канада) // Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 10. Мінск, 2009. С. 11–22.

[2] Караў, Д. Беларусы і беларусазнаўства ў ЗША і Канадзе ў другой палове XX стагоддзя // Беларускі гістарычны часопіс. № 6 (119). 2009. С. 21–25; Карава, А. Беларусы і беларусазнаўства ў Вялікабрытаніі ў 1940-я — 1990-я гг. // Беларускі гістарычны часопіс. № 6 (119). 2009. С. 26–30; Змітрукевіч, Г. Беларуская дыяспара і беларусазнаўства ў ФРГ у другой палове 1940-х — 1990-я гг. // Беларускі гістарычны часопіс. № 6 (119). 2009. С. 31–34.

- распрацаваныя канцэптуальныя схемы спэцыфікі фармаваньня традыцый беларусазнаўства ў такіх краінах, як Вялікабрытанія, Нямеччына, Канада, Латвія, Літва, Польшча, Расея, Славакія, Украіна, Чэхія[3];
- атрыманыя вынікі былі апрабаваны на 43 міжнародных навуковых канфэрэнцыях і круглых сталах, зьездах беларусаў і зьездах украінцаў сьвету, міжнародных кангрэсах украіністаў і беларусістаў (2011–2015 гг.) і ў больш чым 50 публікацыях[4];
- вынікі й высновы зробленай працы выкарыстоўваюцца ў практыцы вучэбнага працэсу ў ГрДУ пры чытаньні курсаў па гістарыяграфіі Беларусі, усеагульнай гісторыі, спэцыяльнага курсу “Архівы краінаў Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы XI — пач. XXI ст.”;
- за гэты час супрацоўнікамі часовага навуковага калектыву падрыхтаваныя працоўныя варыянты кандыдацкіх дысэртацый па гісторыі фармаваньня традыцый беларусазнаўства ў ФРГ (Г. Змітрукевіч) і Вялікабрытаніі (А. Дудзько), рыхтуецца дысэртацыя па гісторыі беларусазнаўства ў Францыі (В. Калько).

Завяршэньне ў сьнежні 2015 г. праекту, які пераважна разглядаецца намі як пілотны, не азначае закрыцьця праблемы. Каманда распрацоўшчыкаў і ўдзельнікаў добра разумее, што гэта толькі пачатак вельмі пэрспэктыўнага, але нялёгкага ў сёньняшнім беларускім кантэксьце шляху рэальнага пазнаньня “замежнай” Беларусі. Мы разумеем, што нават гэтыя нашыя крокі на шляху пазнаньня замежнай беларушчыны й беларусазнаўства былі б немагчымыя бяз той глебы, якую заклалі нашыя папярэднікі (Вітаўт і Зора Кіпелі, Янка Запруднік, Міхась Белямук, а. Аляксандар Надсан, Джым Дынглі, Уладзімер Сакалоўскі, Яўген Мірановіч, Алег Латышонак, Натальля й Алег Гардзіенкі, Леанід Лойка, Сяргей Шабельцаў, Сяргей Шупа, Вірджынія Шыманец, Лявон Юрэвіч і інш.). Іх грунтоўныя працы па гісторыі беларускіх дыяспараў сьвету ў значнай ступені вызначылі “лаг” нашых распрацовак, асабліва на першых этапах праекту.

У фармулёўцы працоўнай гіпотэзы свайго дасьледаваньня мы зыходзім з наступных уяўленьняў. На абуджэньне цікавасьці да Беларусі ў палітычнай эліты Эўропы XVIII—XX стст. непасрэдны ўплыў зрабілі:

---

[3] Карев, Д. Традиции белорусоведения в странах ЕС // Международная конференция “Европейский Союз и Республика Беларусь: перспективы сотрудничества” = International conference “The European Union and Republic of Belarus: Getting Closer for Better Future”: сборник материалов. Минск: Изд. центр БГУ, 2014. С. 324–328.

[4] Карев, Д. Белорусоведение в контексте европейской славистики XX — начала XXI в. // Славянский альманах 2015. Вып. 1–2. Москва: Индрик, 2015. С. 390–404.

1) сацыяльна-палітычны кантэкст, зьвязаны з вынікамі падзелаў Першай Рэчы Паспалітай, войнаў 1812 г., 1914–1918 гг., 1939–1945 гг., і той значнай роляй, якую адыгрывала ў гэтых падзеях Беларусь як частка Расейскай імпэрыі й БССР як частка Савецкага Саюзу;
2) беларуская дыяспара ў краінах Заходняй Эўропы, Паўночнай Амэрыкі й СНД у XX ст., якая стварыла там свае першыя культурна-асьветныя й навуковыя цэнтры;
3) разьвіцьце ў межах славістыкі асобнага палітызаванага кірунку — саветалёгіі ў краінах Захаду ў другой палове XX ст.;
4) эвалюцыя й афармленьне беларусазнаўства як асобнага напрамку ў славістыцы краінаў Эўразіі й Паўночнай Амэрыкі 1990-х — пачатку 2000-х гг. вызначалася галоўным чынам распадам СССР і нараджэньнем новай сувэрэннай дзяржавы — Рэспублікі Беларусь, актывізацыяй уплыву беларускіх дыяспараў як часткі экспэртнай супольнасьці гэтых дзяржаў на працэс прыняцьця ўрадавых рашэньняў у сфэры нацыянальна-культурнай і зьнешняй палітыкі адносна “беларускай праблемы”;
5) фарміраваньне асобнага беларусазнаўчага кірунку ў асяродку акадэмічнай, унівэрсытэцкай, навуковай супольнасці Эўропы й Паўночнай Амэрыкі ў межах “усходняй славістыкі”.

Відавочна й тое, што ня ўсе зьявы беларускай гісторыі й культуры ў аднолькавай ступені прыцягвалі ўвагу замежных славістаў да Беларусі. Абуджэньне цікавасьці да нашай краіны й яе гістарычнага лёсу было, як правіла, цесна зьвязана з тымі падзеямі, эпохамі й асобамі, у якіх гісторыя народаў сьвету “рэзанавала” ў беларускім гісторыка-культурным кантэксьце.

Сёньня можна дастаткова абгрунтавана сказаць, што гісторыя й культура Беларусі да пачатку XXI ст. стала прыкметнай зьявай эўрапейскай і паўночнаамэрыканскай традыцый дасьледаваньня супольнасьцяў і культур усходнеславянскіх народаў. Гэты кірунак у замежнай славістыцы ўжо мае пэўную традыцыю й досьвед канцэптуальнага асэнсаваньня, хоць і нельга не адзначыць, што па глыбіні, інтэнсіўнасьці й маштабнасьці дасьледніцкіх напрацовак ён пакуль значна адстае ад традыцый вывучэньня “росікі” і ўкраіназнаўства.

Параўнаньне тых шляхоў, якімі ішлі ў XX ст. айчыннае й замежнае беларусазнаўства, дазваляе нам сёньня зрабіць некалькі папярэдніх высноваў:

1. У сваім дасьледаваньні гісторыі й культуры Беларусі айчыннае й замежнае беларусазнаўства стаялі на розных мэтадалягічных пазыцыях (марксысцкая й пазытывісцкая — у БССР і СССР, плюралістычная — ад нэапазытывізму да постмадэрнізму — на Захадзе).

2. Айчынная беларусазнаўчая традыцыя, безумоўна, выглядае больш грунтоўнай ў аспэкце далучэньня й асваеньня корпусу крыніцаў па гісторыі Беларусі.
3. З улікам палітычнага й ідэалягічнага супрацьстаяньня Захаду й СССР у 1920-я — пачатку 1980-х гг. абедзьве гэтыя дасьледніцкія традыцыі разьвіваліся часта як “дзьве паралельныя прамыя”, што, несумненна, не ішло на карысьць як першай, гэтак і другой.
4. У сувязі з апошнім у беларускай гістарыяграфіі існуе відавочная неабходнасьць прафэсійнага, неперадузятага асэнсаваньня той традыцыі, якую ўнесла замежнае беларусазнаўства ў дасьледаваньне праблемаў ролі й месца Беларусі ў гісторыі Эўропы й сьвету і ў распрацоўкі новых канцэптуальных падыходаў да праблемы гістарычнага лёсу Беларусі й яе гісторыка-культурнай спадчыны.

У XXI ст., параўнальна з пачаткам XX ст., “пазнавальнасьць” Беларусі ў эўрапейскім і паўночнаамэрыканскім славістычным кантэксьце вырасла вельмі істотна. Але й сёньня як на ўсходзе Эўропы (краіны СНД, Балтыі), гэтак і на Захадзе адсутнічаюць уплывовыя навукова-аналітычныя інстытуцыі, сфакусаваныя на беларускай праблематыцы як *дамінантнай*. Нельга не адзначыць, што ў “веданьні” Беларусі пераважаюць два складнікі: філялягічны й паліталягічны. Веданьне гісторыі, эканомікі, культурных традыцый Беларусі звычайна ідзе *“другім і трэцім плянамі”*. Сёньняшняя сытуацыя зь недастаткова значным узроўнем трансьляванасьці “твару” Беларусі ў эўрапейскай і сусьветнай славістычнай і экспэртнай прасторах — важны сыгнал для ўрадавых колаў Рэспублікі Беларусь аб неабходнасьці пераходу ад “дэклярацыі аб намерах” да рэальнай, эфэктыўнай культурнай палітыкі за межамі краіны.

Падчас рэалізацыі праекту прыйшло разуменьне таго, што без стварэньня навукова-дасьледчай структурнай адзінкі далейшае разьвіццё гэтага кірунку беларусазнаўства будзе малаэфэктыўным. Справа зрушылася ў станоўчы бок у траўні — чэрвені 2015 г., калі факультэт эканомікі й кіраваньня ГрДУ прыняў прынцыповае рашэньне аб стварэньні факультэцкага навукова-дасьледчага “Цэнтру сацыяльна-эканамічных і міждысцыплінарных дасьледаваньняў дыяспараў і замежнага беларусазнаўства” (НДЦ ЦС-ЭіМДДіЗБ). У распрацаваным адным з аўтараў гэтага артыкулу “Палажэньні...” аб цэнтры мэтавая місія вызначалася як *“удасканаленьне навуковай і грамадзкай працы па ўзаемадзеяньні і вывучэньні дыяспараў, умацаваньне сувязяў паміж навукова-асьветнымі, дзяржаўнымі структурамі і нацыянальнымі этнакультурнымі аб’яднаньнямі Рэспублікі Беларусь і замежжа”*.

Асноўныя мэты, задачы й функцыі цэнтру лягічна вынікалі з фармулёўкі ягонай місіі:

- выкананьне фундамэнтальных і практыка-арыентаваных навуковых дасьледаваньняў, інавацыйных распрацовак у галіне сацыяльна-гуманітарных навук шляхам далучэньня прафэсарска-выкладчыцкага складу, асьпірантаў і студэнтаў унівэрсытэту;
- выкананьне навукова-дасьледчых праектаў па праграмах Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, НАН Беларусі і другіх навуковых праграмах нацыянальнага, рэлігійнага й міжнароднага ўзроўняў;
- наладжваньне сыстэмных навуковых кантактаў і навуковага супрацоўніцтва з навучальнымі й навуковымі ўстановамі Рэспублікі Беларусь і замежжа з блізкай сфэрай інтарэсаў;
- практычная апрабацыя й рэалізацыя атрыманых вынікаў у навучальным працэсе й дзейнасьці ўстановаў кіраваньня ў галіне нацыянальна-культурнай палітыкі;
- падрыхтоўка й публікацыя вынікаў навукова-дасьледчай дзейнасьці ў пэрыядычных навуковых і спэцыяльных навуковых выданьнях;
- арганізацыя навуковых канфэрэнцый, круглых сталоў, сэмінараў па праблематыцы дзейнасьці цэнтру;
- архіўна-археаграфічная дзейнасьць па зьбіраньні, вывучэньні й захаваньні крыніцаў з гісторыі беларускіх дыяспараў і замежнага беларусазнаўства ў цесным кантакце й з каардынацыяй з зацікаўленымі інстытуцыямі як у Беларусі (Дэпартамэнт па архівах і справаводзтве Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, НАН Беларусі, Рада Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў), гэтак і замежжа (БІНіМ; беларусазнаўчыя цэнтры Эўропы й сьвету).

У сёньняшняй складанай эканамічнай сытуацыі ў Беларусі спадзявацца на істотную дзяржаўную падтрымку не выпадае. Таму ў сваёй дзейнасьці цэнтар пры адначасовым выкананьні навукова-дасьледчых прац за кошт дзяржаўнага бюджэту пляную рэалізацыю сваіх праектаў на падставе грантаў (у тым ліку з замежнымі зацікаўленымі партнэрамі) і гаспадарчых дамоваў ды кантрактаў (пры аказаньні кансультацыйных, экспэртных, інфармацыйных паслуг па профілі сваёй дзейнасьці).

Зразумела, што гэтая сытуацыя будзе патрабаваць сталай, сыстэмнай працы з каардынацыяй інтэнцый з шэрагам навуковых, дзяржаўных, навучальных установаў і грамадзкіх нацыянальна-культурных аб’яднаньняў, без падтрымкі якіх немагчыма будзе рэалізацыя такіх кірункаў дзейнасьці цэнтру, як:

- аналіз і абагульненьне вынікаў, распрацовак і рэалізацыя іх у практыцы сацыяльна-культурнай палітыкі;

- стварэньне адзінай мэтадалягічнай і агульнатэарэтычнай навуковай базы для вывучэньня дыяспараў Беларусі як у самой краіне, гэтак і за яе межамі;
- наладжваньне ўзаемадзеяньня паміж беларускімі дыяспарамі (зямляцтвамі, нацыянальна-культурнымі аўтаноміямі й інш.) і рэалізацыя сумесна зь імі навукова-дасьледчай і культурна-асьветніцкай дзейнасьці;
- фармаваньне ўласнай эмпірычнай, навуковай, інфармацыйна-крыніцавай базы праз пасярэдніцтва сеткавай, маніторынгавай працы;
- работа па сыстэматызацыі і ўвядзеньні ў навуковы ўжытак інфармацыі аб выдатных дзеячах і лідарах нацыянальных дыяспараў з далейшай перадачай яе ў склад Нацыянальнага архіўнага фонду Рэспублікі Беларусь.

Пры гэтым хацелася б падкрэсьліць, што цэнтар, фармулюючы асноўныя свае задачы як найперш навукова-асьветныя, не перасьледуе ў сваёй дзейнасьці рэлігійных, эканамічных, палітычных мэтаў і не супрацоўнічае з палітычнымі партыямі й арганізацыямі.

Бліжэйшыя свае дзеяньні ў другой палове 2015–2016 г. цэнтар плянуе скіраваць на падрыхтоўку трох міжнародных круглых сталоў па праблематыцы традыцый і сучаснага стану стасункаў Беларусі зь Вялікабрытаніяй, Расеяй і Японіяй; абмеркаваньне канцэпцыі й пачатак падрыхтоўкі штогодніка па асноўным профілі сваіх распрацовак. Асноўным полем дасьледчыцкага праекту на бліжэйшыя 2016–2017 гг. мы бачым вывучэньне ролі й месца беларусаў і беларусазнаўства ў Расеі й Казахстане. У гэтай працы мы спадзяемся на плённае супрацоўніцтва з партнэрамі як у Беларусі (Цэнтар міжнародных дасьледаваньняў факультэту міжнародных адносінаў Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, Цэнтар камплектаваньня і вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа пры БДАМЛМ), гэтак і ў замежжы (гістарычны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту імя М. Ламаносава, Эўразійскі нацыянальны ўнівэрсытэт імя Л. Гумілёва).

Мы адкрытыя да супрацоўніцтва з інстытуцыямі й асобамі, зацікаўленымі ў сумеснай працы па праблематыцы цэнтру, і будзем удзячныя за карысныя парады й прапановы.

*Выданьне*

***Аляксандар Аўдзяюк***
*Чыкага*

# ЧАСОПІС "БОЖЫМ ШЛЯХАМ" (1947–1980) І ЯГОНЫЯ ТРЫ РЭДАКТАРЫ

## Уступ

Апынуўшыся пасьля Другой сусьветнай вайны разам з даволі вялікай колькасьцю беларусаў ў новых абставінах жыцьця ў эміграцыі, каталіцкія й праваслаўныя сьвятары ды пратэстанцкія пастары хутка ўсьведамілі, што яны вельмі запатрабаваныя праз сваіх аднаверцаў, якія пільна шукалі духоўнай і, часта, фізычнай дапамогі, парадаў ды пэўнай цьвёрдай асновы жыцьця, спрабуючы зарыентавацца ў дагэтуль няведамым і агромністым сьвеце. Новыя ўмовы існаваньня беларусаў на чужыне паставілі перад духоўнымі пэўныя вымогі: улічваючы сваю даволі мізэрную (прынамсі, яўна недастатковую) колькасьць у параўнаньні з агульнай колькасьцю беларусаў дыяспары, ім было неабходна ахапіць сваёю апекаю як мага болей людзей, якія пры гэтым знаходзіліся на вялікіх (а пазьней — і на вялізарных) адлегласьцях. Сваё заданьне яны зразумелі добра: падтрымліваць, яднаць, арганізоўваць, суцяшаць, несьці словы Божае праўды й любові, падаваць маральныя арыентыры, даваць адказы на актуальныя пытаньні й выклікі і ня даць згасаць беларускаму духу. Звычайныя парафіяльныя мэтады працы тут не падыходзілі, таму адзіным выйсьцем было зьвярнуцца па дапамогу да друкаванага слова, а як праца й помач мусілі быць своечасовымі ды рэгулярнымі, то абапірацца трэба было ў першую чаргу на пэрыядычныя выданьні: часопісы й рэгіянальныя місійныя лісткі, тым больш што гэтая справа была ўжо ня новаю й добра сябе зарэкамэндавала ў міжваенны пэрыяд у Другой Рэчы Паспалітай.

Першыя спробы выданьня пэрыёдыкаў, як і першыя парафіі, капліцы ды невялікія храмы, пачалі зьяўляцца яшчэ ў лягерах *DP*, да тых часоў, як паваеннае жыцьцё больш-менш унармавалася й кожны зь беларусаў знайшоў сабе новы куточак у адной з прапанаваных краінаў. З погляду на часовасьць перабываньня ў лягерах, няшмат з часопісаў таго пэрыяду мелі працяг у наступным этапе жыцьця беларускай эміграцыі. Калі ж гаварыць пра менавіта сталую рэлігійную

прэсу, дык аснову для яе «*заклалі часапісы “Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі”, “Божым Шляхам” і “Adradžeńnie”ды некалькі асобаў, у прыватнасьці Ю. Віцьбіч, а. М. Лапіцкі, а. Л. Гарошка, Я. Гладкі, А. Попка, пастары Я. Пятроўскі і Д. Ясько*»[1]. Права іменавацца пачынальнікам беларускага рэлігійнага друку ў эміграцыі за сабою захаваў пэрыёдык праваслаўных беларусаў (выдаваны Юркам Віцьбічам) “Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі”, 8 нумароў якога выйшлі ў Нямеччыне ў 1946–1947 гг., але калі браць пад увагу і ўсе іншыя аспэкты ў комплексе: якасьць, паважнасьць, надзвычай доўгае жыцьцё, дыяпазон тэмаў, папулярнасьць і здольнасьць дасягнуць усіх канцоў новай беларускай экумэны й чытачоў усіх веравызнаньняў, — дык праўдзівую пальму першынства заслужана мусіў бы атрымаць рэлігійна-грамадзкі й адначасова літаратурна-гістарычны часопіс Беларускай місіі ў Францыі (а пазьней — і Беларускай місіі ў Вялікабрытаніі) “Божым Шляхам”[2], заснаваны ў 1947 г. у Парыжы айцом Львом Гарошкам і аднайменны ягонаму першаму эміграцыйнаму малітоўніку, укладзенаму й выдрукаванаму годам раней у Рыме[3].

## Заснаваньне

Айцец Леў Гарошка трапіў у Парыж у кастрычніку 1946 г., калі Апостальскім пасадам быў прызначаны рэктарам Беларускай каталіцкай місіі ўсходняга абраду, якая была заснаваная паводле звароту прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў у Францыі. Паводле сьведчаньняў самога а. Льва, *“прышлося арганізаваць Місію даслоўна зь нічога. Рэктар знайшоў сабе памешканьне ў манастыры айцоў Лазарыстаў, а для багаслужэньняў зь цяжкасьцю ўдалося знайсьці капліцу ў крыптах царквы Сан-Сюльпіс. Там адбываліся рэгулярныя багаслужэньні для беларусаў аж да 13 лістапада 1955 г.”*[4]. Сытуацыя ўскладнялася тым, што сьвятар быў адзін, а беларусаў у Францыі жыло даволі шмат, ды й расьцярушанымі яны былі па ўсёй краіне ад поўначы да поўдня, таму, *«каб аблягчыць душпастырскую працу пры Місіі, арганізуецца выдавецтва часапісу “Божым шляхам”»*[5], які меў падзагаловак *“часапіс Беларускае рэлігійнае думкі”*.

[1] Гарбінскі, Юры. Беларускі рэлігійны друк на Захадзе: пэрыёдыка, графічныя друкі 1945–2005. Нью Ёрк — Варшава, 2009. С. 177.

[2] Гарбінскі, Юры. Беларускі рэлігійны друк на Захадзе... С. 196.

[3] Божым Шляхам. Малітаўнік для беларусаў. Рым, 1946. — 176 с.

[4] Гарошка, Леў а. Дзесяцігодзьдзе Беларускае Каталіцкае Місіі ў Францыі // Божым Шляхам. № 1–6 (70–75). Студзень — Сьнежань 1956. С. 39–40.

[5] Гарошка, Леў а. Дзесяцігодзьдзе Беларускае Каталіцкае Місіі ў Францыі.

На працягу 34 гадоў ягонага існаваньня (зь дзьвюма невялікімі перапынкамі ў суме ў 6 гадоў) дзякуючы стараньням шэрагу адказных і працавітых рэдактараў, што зьмянялі адзін аднаго, чытачы-беларусы ўсяго сьвету змаглі атрымаць 151 нумар (ці 122 паасобныя выданьні, улічваючы падвойныя нумары, квартальнікі й гадавікі). Аніводны зь іх ня быў танчэйшы за 16 старонак, наклад даходзіў да 1000 асобнікаў[6]. Добрая паліграфія й даволі шырокае кола супрацоўнікаў выгодна адрозьнівалі часопіс ад многіх іншых выданьняў эміграцыі[7]. І, насьледуючы традыцыйны хрысьціянскі падзел чалавека паводле траечнай сыстэмы на дух, душу й цела, не было нумару, які нельга было б умоўна падзяліць на тры аддзелы: духоўны, навуковы ды мастацкі, паміж якімі не было акрэсьленых межаў, бо ўсе яны разам былі прасякнутыя тэмай духоўнага адраджэньня беларускага народу.

Першы зь іх, уласна духоўны аддзел, асьвятляў пытаньні веры й маралі, супрацьстаяў нападкам атэізму, імкнуўся раскрыць ролю рэлігіі й царквы ў жыцьці перш чалавека, а затым і на гістарычным шляху ўсяго народу, ды падаваў шматлікія зьвесткі зь бягучага жыцьця Каталіцкай (а часам і Праваслаўнай) царквы. Артыкулы з царкоўнай гісторыі Беларусі й сьвету, як і шматлікія сьведчаньні з жыцьця вучоных, што публічна вызнавалі сваю веру, зьяўляліся пераходным мастом да навуковага аддзелу, у якім друкаваліся ў асноўным матэрыялы з гісторыі Беларусі й хрысьціянства на беларускіх землях, але зрэдчас зьяўляліся й матэрыялы з галіны філязофіі, псыхалёгіі ды мэдыцыны. Да яго ж можна далучыць разьдзел прыватных успамінаў некаторых карэспандэнтаў, які, у сваю чаргу, зьяўляўся мастком, што зьвязваў навуковы аддзел з мастацкім. Апошні ахопліваў у першую чаргу літаратурную частку — празаічныя й паэтычныя творы, прыказкі й прымаўкі, байкі й жарты, — а разам зь ёю й ня так шматлікія, але прысутныя на старонках часопісу рэпрадукцыі беларускіх іконаў, карцін беларускіх мастакоў, фотаздымкі краявідаў Бацькаўшчыны.

За час жыцьця “Божым Шляхам” зьмяніліся тры рэдактары, і з кожным часопіс набываў свае адмысловыя рысы ды зьмяняўся ў адпаведнасьці з бачаньнем і зацікаўленьнямі адказнае асобы. Ня дзіўна, бо дзеля малой колькасьці аўтараў, самі рэдактары былі вымушаныя стаць аўтарамі шматлікіх артыкулаў ды эсэ, падпісваючы іх разнастайнымі псэўданімамі ці пакідаючы зусім бяз подпісаў.

Нейкім цудоўным чынам першыя два пэрыяды жыцьця “Божым Шляхам” былі падобнымі па працягласьці: пасьля 11 гадоў

[6] Гарбінскі, Юры. Беларускі рэлігійны друк на Захадзе… С. 158.

[7] Гарбінскі, Юры. Беларускі рэлігійны друк на Захадзе… С. 227.

рэдактарства а. Льва Гарошкі (1947–1957 гг.: 81 нумар ці 56 паасобных выданьняў) прыйшлі 11 гадоў а. Язэпа Германовіча (1964–1974 гг.: 60 нумароў ці 59 паасобных выданьняў), і завяршылася гісторыя 6 (а калі ўлічваць перапынак, дык 5) гадамі рэдактарства а. Фэлікса Журні (1975–1980 гг.: 10 нумароў ці 7 паасобных выданьняў).

## І перыяд — 11 гадоў рэдактарства айца Льва Гарошкі

Уступны праграмны артыкул для часопісу быў напісаны кс. Пётрам Татарыновічам (пад псэўданімам “Задума”) і меў назоў “Наша палажэньне, нашы мэты”. У ім аўтар тлумачыў, што мэта і заданьне гэтага пэрыёдыка — аніякім чынам не *“заклік да вуніі”*, чаго баяліся многія праваслаўныя беларусы. Ён дэкляраваў, што шлях часопісу — ня вузка канфэсійны, але шлях *“хрысьціянска-*


№ 1 — КАСТРЫЧНІК 1947 г.

БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Наша палажэньне — нашы мэты

— 1 —

Першы нумар часопісу “Божым Шляхам” (1947)

*нацыянальнай культурнай ды сацыяльнай брацкасьці і салідарнасьці”*[8]:

> *“З матываў шчыра хрысьціянскіх ды патрыятычных, хочам нясьці паводля магчымасьці помач народу у яго найгоршым горы у сучасны найтрагічнейшы, але і найбольш ацьвяражаючы мамэнт — становімся пры самай сьмяротна балючай ране душы народнай, душы у пункце пагубна духова-культурнага раздваеньня, вечна расьпінаючага беларускую душу на крыжы шавіністычных ды бязбожніцкіх эксплёатацыяў; становімся:*
> *каб памагаць народу лячыцца ад абнэгацыі і раздрабленьня,*
> *каб ацьверажаць, усьведамляць, узгадоўваць, гуртаваць, цэмантаваць,*
> *каб пацяшаць, узмацняць на духу, падымаць, асьмяляць, гартаваць.*
> *Каб забясьпечыць ад дачаснай і вечнай загубы.*
> *Вось наша заданьне і наша мэта”*[9].

Супрацоўніцтва кс. Татарыновіча з “Божым Шляхам” не было сталым, бо празь некалькі гадоў зьявіўся першы нумар ягонага ўласнага пэрыёдыка *“Źnič”*, выдаванага ў Рыме лацінкаю. Тым ня менш ягоныя невялікія артыкулы й зацемкі зь беларускага жыцьця ў Рыме час ад часу працягвалі зьяўляцца ў “Божым Шляхам” амаль да апошніх дзён жыцьця аўтара.

Трэба адзначыць, што часопіс “Божым Шляхам” не плаванаўся як выданьне для беларусаў выключна Францыі, але ад першага ж нумару прапанаваў арганізоўваць падпіску ў іншых краінах: у Нямеччыне (праз а. Міхася Маскаліка) і ў Ангельшчыне (праз а. Часлава Сіповіча)[10], а як толькі былі навязаныя кантакты зь беларускімі супольнасьцямі іншых краінаў ды кантынэнтаў (у асноўным Аўстраліі й Амэрыкі), дык і там неадкладна зьяўляліся супрацоўнікі і ўсе магчымасьці да падпіскі.

Першы пэрыяд жыцьця “Божым Шляхам” характарызаваўся большай агульнай сур’ёзнасьцю часопісу ў цэлым, даволі шырокім дыяпазонам тэмаў[11], жывою моваю, разбудаванымі й сыстэматызаванымі паводле геаграфічнага прынцыпу хронікамі агульнацаркоўнага й беларускага жыцьця, і пэўным акцэнтам на спэцыфічныя пытаньні, цікавыя ў першую чаргу самому а. Гарошку, такія як апалягэтыка ды духоўна-рэлігійны вымер гісторыі Беларусі.

[8] Задума. [Татарыновіч, Пётра]. Наша палажэньне — нашы мэты // Божым Шляхам. № 1. Кастрычнік 1947. С. 2.

[9] Задума. [Татарыновіч, Пётра]. Наша палажэньне — нашы мэты.

[10] У справе падпіскі // Божым Шляхам. № 1. Кастрычнік 1947. С. 15.

[11] Гарбінскі, Юры. Беларускі рэлігійны друк на Захадзе… С. 196.

Скіраваўшы сваю ўвагу на гісторыю хрысьціянства на беларускіх землях, ад самага пачатку працы а. Леў Гарошка спрабаваў паглыбляць і пашыраць веду сваіх чытачоў аб уласнай культурнай і рэлігійнай спадчыне. Пачаўшы ад уступных і ў пэўным сэнсе павярхоўных артыкулаў: “Беларускія сьвятыя”[12], “Духовы скарб Беларускага Народу”[13], “Вялікодныя звычаі на Беларусі”[14], “Валадарка Беларускага Народу. Жыровіцкая Божая Маці”[15], “Пачаткі Хрысьціянства на Беларусі[16], а. Леў перайшоў да больш маштабных, глыбокіх і вузка тэматычных матэрыялаў: “Полаччына ў XII веку”[17], “Рэлігійныя адносіны на Беларусі ў XII в.”[18], “Беларуская форма крыжа”[19], “Найстарэйшыя хрысьціянскія сьвятыні на Беларусі ў X–XII ст.”[20], “Старонкі з крыжовае дарогі Каталіцкае Царквы на Беларусі”[21], “Цудатворныя іконы Божае Маці на Беларусі”[22], «Пад знакам “рускае і польскае

[12] Хар-ко, Л. [Гарошка, Леў]. Беларускія сьвятыя // Божым Шляхам. № 1. Кастрычнік 1947. С. 7.

[13] Хар-ко, Л. [Гарошка, Леў]. Духовы скарб Беларускага Народу // Божым Шляхам. № 4 (7). Красавік 1948. С. 5–6.

[14] а. Леў. [Гарошка, Леў]. Вялікодныя звычаі на Беларусі // Божым Шляхам. № 5 (8). Травень 1948. С. 9–11.

[15] Гарошка, Леў а. Валадарка Беларускага Народу. Жыровіцкая Божая Маці // Божым Шляхам. № 5 (8). Травень 1948. С. 3–4.

[16] Гарошка, Л. а. Пачаткі Хрысьціянства на Беларусі // Божым Шляхам. № 11–12 (14–15). Лістапад — Сьнежань 1948. С. 8–11.

[17] Гарошка, Л. а. Полаччына ў XII веку // Божым Шляхам. № 1–2 (16–17). Студзень — Люты 1949. С. 8–11.

[18] Гарошка, Л. а. Рэлігійныя адносіны на Беларусі ў XII в. // Божым Шляхам. № 11–12 (26–27). Лістапад — Сьнежань 1949. С. 7–9.

[19] Гарошка, Л. а. Беларуская форма крыжа // Божым Шляхам. № 8–9 (35–36). Жнівень — Верасень 1950. С. 7–9.

[20] Гарошка, Л. а. Стылёвыя беларускія дзераўляныя сьвятыні // Божым Шляхам. № 6 (51). Лістапад — Сьнежань 1952. С. 6–8; Гарошка, Л. а. Найстарэйшыя хрысьціянскія сьвятыні на Беларусі ў X—XII ст. // Божым Шляхам. № 6 (45). Лістапад — Сьнежань 1951. С. 8–11; № 1 (46). Студзень — Люты 1952. С. 6–10.

[21] Гарошка, Л. а. Старонкі з крыжовае дарогі Каталіцкае Царквы на Беларусі // Божым Шляхам. № 5 (56). Верасень — Кастрычнік 1953. С. 4–12; № 6 (57). Лістапад — Сьнежань 1953. С. 5–11; № 1 (58). Студзень — Люты 1954. С. 4–6.

[22] Гарошка, Л. а. Цудатворныя іконы Божае Маці на Беларусі // Божым Шляхам. № 1 (58). Студзень — Люты 1954. С. 9–11; № 2 (59). Сакавік — Красавік 1954. С. 4–6; № 3 (60). Травень — Чэрвень 1954. С. 4–7; Гарошка, Л. а. Дадатак да сьпісу цудатворных іконаў Божае Маці на Беларусі // Божым Шляхам. № 5 (62). Верасень — Кастрычнік 1954. С. 4–5.

веры»[23] і многія іншыя. Асаблівую ўвагу на пачатку сваёй працы аўтар прысьвяціў асобе сьв. Эўфрасіньні Полацкай[24] (адбіткі з цыклю матэрыялаў аб якой былі пазьней апублікаваныя асобным выданьнем у Парыжы[25]).

З-пад пяра а. Льва Гарошкі выходзілі біяграфічныя зацемкі ды жыцьцярысы розных беларускіх (і ня толькі) рэлігійных дзеячаў (а. Антона Неманцэвіча, мітр. Андрэя Шаптыцкага, а. Адама Станкевіча, а. Уладзіслава Талочкі ды інш.)[26], шэраг рэцэнзіяў на беларускія выданьні й выданьні, датычныя беларускай гісторыі ці хрысьціянства наогул[27], разважаньні на тэму бягучай рэлігійнай сітуацыі ў сьвеце

[23] Гарошка, Л. а. Пад знакам “рускае і польскае веры” // Божым Шляхам. № 3 (60). Травень — Чэрвень 1954. С. 12–24; № 4 (61). Ліпень — Жнівень 1954. С. 6–10; № 5 (62). Верасень — Кастрычнік 1954. С. 5–11; № 6 (63). Лістапад — Сьнежань 1954. С. 8–12; № 1–2 (64–65). Студзень — Красавік 1955. С. 4–14

[24] Гарошка, Л. а. Жыцьцяпіс сьв. Еўфрасіні-Прадславы Полацкае // Божым Шляхам. № 3 (18). Сакавік 1949. С. 8–9; Гарошка, Леў а. Сьв. Еўфрасіня ў бацькаўскім доме // Божым Шляхам. № 4 (19). Красавік 1949. С. 3–4; Гарошка, Л. а. Сьв. Еўфрасіня ў манастыры // Божым Шляхам. № 5 (20). Травень 1949. С. 7–11; Гарошка, Л. а. Апошнія гады жыцьця Сьв. Еўфрасіні // Божым Шляхам. № 6 (21). Чэрвень 1949. С. 5–9; Гарошка, Леў а. Дзейнасьць сьв. Еўфрасіні // Божым Шляхам. № 7–8 (22–23). Ліпень — Жнівень 1949. С. 4–5.; Гарошка, Л. а. Культ сьв. Еўфрасіні // Божым Шляхам. № 9–10 (24–25). Верасень — Кастрычнік 1949. С. 6–8; Гарошка, Л. а. Патронка Беларусі // Божым Шляхам. № 1 (28). Студзень 1950. С. 9–10; Гарошка, Л. а. Мошчы сьв. Еўфрасіні // Божым Шляхам. № 2–3 (29–30). Люты — Сакавік 1950. С. 8–10; Гарошка, Л. а. Цуды сьв. Еўфрасіні // Божым Шляхам. № 4–5 (31–32). Красавік — Травень 1950. С. 3–4.

[25] Гарошка, Л. а. Сьв. Еўфрасіня-Прадслава Полацкая, Патронка Беларусі. Парыж 1950. — 77 с.

[26] Рымар, Л. а. [Гарошка, Леў]. Мітрапаліт Андрэй Шэптыцкі // Божым Шляхам. № 6 (63). Лістапад — Сьнежань 1954. С. 5–8; Гарошка, Л. а. Айцец Адам Станкевіч // Божым Шляхам. № 5–6 (68–69). Кастрычнік — Сьнежань 1955. С. 16–20; Гарошка, Леў а. Айцец Уладыслаў Талочко // Божым Шляхам. № 3–4 (66–67). Травень — Верасень 1955. С. 14–17; Гарошка, Л. а. Айцец Антон Неманцэвіч // Божым Шляхам. № 1–6 (70–75). Студзень — Сьнежань 1956. С. 49–54.

[27] Гарошка, Л. а. *Sviataja Evanelija i Apostalskija Dziei. Pierakłau i padau vyjasnienni Ks. Dr. Piotr Tatarynovic. Rym 1954 f. 8°, star.636* [На кніжнай паліцы] // Божым Шляхам. № 3–4 (66–67). Травень — Верасень 1955. С. 31–32; а. Л. Г. [Гарошка, Леў]. *Vacłau Panucevic. Zamojdź i Litva.Roznyja krainy i narody. Tom I. Chicago 1953/54. star. 383, f. 8°* [На кніжнай паліцы] // Божым Шляхам. № 1–2 (64–65). Студзень — Красавік 1955. С. 31–32; а. Л. Г. [Гарошка, Леў]. *S. Josaphat hieromartyr. Documenta Romana beatifecationis et canonisationis. Vol. I. 1623–1628. Collegit... P. Athanasius G. Welykyj OSBM. Romae 1952, f 8°. Star. XXX °+ 306. “Analecta OSBM”*

й на Бацькаўшчыне, вялікая колькасьць апавяданьняў (пад псэўданімамі Тамаш Малько й Анатоль Жменя) ды артыкулы на разнастайныя тэмы ад асноваў беларускай міталёгіі[28] да гісторыі рэлігійнай архітэктуры[29] й рэлігійных традыцыяў беларусаў[30].

Многія тэмы ды амаль усе рубрыкі, што пачаліся за рэдактарства а. Гарошкі, пратрывалі да самага канца выданьня часопісу. Гэта, у прыватнасьці, і ўлюбёнае дзіця а. Льва “Збор беларускіх рэлігійных прыказак і прымавак”, што выходзіў малымі часткамі звычайна пад назвамі “Залатыя думкі. Зь беларускае народнае мудрасьці” ці проста “Прыказкі і прымаўкі” і які так і ня быў даведзены да публікацыі, захаваўшыся адно ў машынапісным варыянце[31].

З матэрыялаў гэтага часу трэба адзначыць і шэраг апалягэтычных артыкулаў аб суадносінах навукі й рэлігіі аўтарства самога а. Гарошкі, у якіх ён намагаўся выяўляць адсутнасьць супярэчнасьцяў між верай і навукай праз прыклад ведамых вучоных, што былі ці дэкляравалі сябе веруючымі. Так, на старонках “Божым Шляхам” былі апублікаваныя артыкулы: “Вялікія астраномы аб Богу”, “Навука і рэлігія. (Думкі фізыкаў аб рэлігіі)”, “Адносіны геалёгаў да рэлігіі”, “Прыродаведы аб Богу”, “Лекары аб рэлігіі і Богу”[32]. Артыкулы з гэтага цыклю працягваліся і ў пэрыяд рэдактарства а. Язэпа Германовіча[33].

---

*Series II. Sectio III* [На кніжнай паліцы] // Божым Шляхам. № 6 (57). Лістапад — Сьнежань 1953. С. 16–3-вокл. і інш.

28 Гарошка, Л. а. Дахрысьціянская вера нашых продкаў (Прычынкі да беларускае міталёгіі) // Божым Шляхам. № 1–6 (70–75). Студзень — Сьнежань 1956. С. 29–35.

29 Гарошка, Л. а. Замкавая царква ў Менску // Божым Шляхам. № 6 (51). Лістапад — Сьнежань 1952. С. 8–9.

30 Стаўпецкі, Л. [Гарошка, Леў]. Калядныя ўспаміны // Божым Шляхам. № 11–12 (14–15). Лістапад — Сьнежань 1948. С. 3–4; Хар-ко, Л. [Гарошка, Леў]. Беларуская народная мудрасьць аб Богу // Божым Шляхам. № 2. Лістапад 1947. С. 2–4 і інш.

31 Haroška, Leŭ. Zbornik Bielaruskich narodnych prykazkaŭ i prymaŭkaŭ. Рым. [Б. д.]. — 382 с. (Машынапіс).

32 Гарошко, Л. а. Вялікія астраномы аб Богу // Божым Шляхам. № 2–3 (5–6). Люты — Сакавік 1948. С. 6–8; Гарошка, Л. а. Навука і рэлігія (Думкі фізыкаў аб рэлігіі) // Божым Шляхам. № 8–9 (35–36). Жнівень — Верасень 1950. С. 2–6; Гарошка, Л. а. Адносіны геалёгаў да рэлігіі // Божым Шляхам. № 3 (54). Травень — Чэрвень 1953. С. 6–8; Гарошка, Л. а. Прыродаведы аб Богу // Божым Шляхам. № 3 (60). Травень — Чэрвень 1954. С. 7–10; Гарошка, Л. а. Лекары аб рэлігіі і Богу // Божым Шляхам. № 1–6 (76–81). Студзень — Сьнежань 1957. С. 44–49.

33 Л. Г. [Гарошка, Леў]. Адносіны вучоных хэмікаў да Бога і рэлігіі // Божым Шляхам. № 2 (83). Сакавік — Красавік 1964. С. 14–16; № 3 (84). Травень — Чэрвень 1964. С. 14–15.

Сабраныя разам, яны таксама атрымалі новае жыцьцё ў выглядзе асобнай кнігі пад тытулам “Навука і рэлігія”[34].

Пераходзячы да іншых аўтараў першага пэрыяду жыцьця “Божым Шляхам”, найперш варта адзначыць, напэўна, найбольш сталага зь іх — а. Часлава Сіповіча (пазьней — біскупа). Ён зьявіўся на старонках часопісу амаль ад самага яго пачатку й публікаваў вялікую колькасьць артыкулаў (як паасобных, так і цыкляў) на агульнарэлігійныя, гістарычныя[35] й бягучыя культурна-маральныя тэмы. Сярод апошніх варта адзначыць сэрыі матэрыялаў: “Кіно (Яго добрыя і дрэнныя ўплывы)”[36], “Рэлігійныя крывулі нашае інтэлігэнцыі”[37], “Часы Хрыста і нашы”[38] ды, урэшце, адаптаваны пераказ кнігі Г. Шыльгена “Ты і яна”[39], які ў варыянце Васіля Друі (адзін з псэўданімаў Ч. Сіповіча) быў прысьвечаны беларускай моладзі й выйшаў у 1950 г. у Парыжы асобным выданьнем.

Аляксандар Надсан, тады яшчэ малады беларус і ў хуткім часе студэнт Грэцкай калегіі, апублікаваў у гэты пэрыяд досыць вялікі

34 Гарошка, Леў а. Навука і рэлігія. Рым, 1977. — 272 с. (Рэпрынт: Дретома — Друя, 1994).

35 Сіповіч, Ч. а. Кіеўская Мітраполія ў другой палавіне XVIII стаг. // Божым Шляхам. № 2 (41). Сакавік — Красавік 1951. С. 6–9; № 3 (42). Травень — Чэрвень 1951. С. 6–8; № 4 (43). Ліпень — Жнівень 1951. С. 5–7; № 5 (44). Верасень — Кастрычнік 1951. С. 7–8. [Ня скончаны]; Сіповіч, Ч. а. М. Н. П. Айцец Архімандрыт Фабіан Абрантовіч (1884–1940) // Божым Шляхам. № 1–6 (76–81). Студзень — Сьнежань 1957. С. 9–20 і інш.

36 Дзедзінка, А. [Сіповіч, Часлаў]. Кіно (Яго добрыя і дрэнныя ўплывы) // Божым Шляхам. № 8–9 (35–36). Жнівень — Верасень 1950. С. 9–11; № 12 (39). Сьнежань 1950. С. 4–5; № 1 (40). Студзень — Люты 1951. С. 7–9.

37 Сіповіч, Ч. а. Рэлігійныя крывулі нашае інтэлігэнцыі [Рэлігія] // Божым Шляхам. № 1 (46). Студзень — Люты 1952. С. 2–4; № 2 (47). Сакавік — Красавік 1952. С. 3–8; № 3 (48). Травень — Чэрвень 1952. С. 3–8; № 4 (49). Ліпень— Жнівень 1952. С. 6–10; № 5 (50). Верасень — Кастрычнік 1952. С. 9–11.

38 Сіповіч, Ч. а. др. Часы Хрыста і нашы // Божым Шляхам. № 8 (11). Жнівень 1948. С. 7–9; № 11–12 (14–15). Лістапад — Сьнежань 1948. С. 4–7.

39 Шільген, Г. Ты і яна. Прысьвячаецца беларускай моладзі [Паводля кніжкі Шільгэна “Duund Sie” апрацаваў Васіль Друя [Сіповіч, Часлаў]] // Божым Шляхам. № 1–2 (16–17). Студзень — Люты 1949. С. 5–7; № 3 (18). Сакавік 1949. С. 5–7; № 4 (19). Красавік 1949. С. 5–6; № 5 (20). Травень 1949. С. 5–7; № 6 (21). Чэрвень 1949. С. 2–5; № 7–8 (22–23). Ліпень — Жнівень 1949. С. 9–11; № 9–10 (24–25). Верасень — Кастрычнік 1949. С. 8–10; № 11–12 (26–27). Лістапад — Сьнежань 1949. С. 4–7; № 1 (28). Студзень 1950. С. 5–9; № 2–3 (29–30). Люты — Сакавік 1950. С. 4–5; № 4–5 (31–32). Красавік — Травень 1950. С. 7–10; № 6–7 (33–34). Чэрвень — Ліпень 1950. С. 5–9; № 8–9 (35–36). Жнівень — Верасень 1950. С. 6–7; № 10–11 (37–38). Кастрычнік — Лістапад 1950. С. 5–9.

гістарычна-агіяграфічны матэрыял “Сьв. Тамаш Мор. Муж стану і мучанік за каталіцкую веру”[40] і першы аглядны артыкул ў пытаньні гісторыі беларусаў — навучэнцаў Грэцкай калегіі ў Рыме[41], які пазьней займеў працяг у выглядзе больш маштабных дасьледаваньняў, апублікаваных у часе рэдактарства а. Язэпа Германовіча. На гэты ж раньні пэрыяд часопісу прыпала й публікацыя травэлёга Дамініка Аніські “Ерузалім”[42], першага з двух травэлёгаў, апублікаваных у “Божым Шляхам” і прысьвечаных падарожжу да Сьвятой Зямлі.

Зь іншых матэрыялаў і імёнаў, што зьяўляліся на старонках “Божым Шляхам” у гэты пэрыяд, можна згадаць многія багаслоўскія матэрыялы кс. Язэпа (Апанаса) Рэшаця й а. Яна Тарасэвіча, разважаньні на гістарычную тэматыку Льва Акіншэвіча[43] й Янкі Сурвілы[44], першы (на старонках “БШ”) з гістарычных матэрыялаў Юркі Віцьбіча[45] й паўзабыты, але каштоўны стары даклад праваслаўнага сьвятара а. Міхала Красавіцкага “Памяткі царкоўнае старасьвеччыны Полацка-Віцебскага краю і іх ахова” ад 1911 г. (у перакладзе на беларускую мову)[46]. У літаратурна-мастацім разьдзеле апрача апавяданьняў самога а. Гарошкі пераважна зьяўляліся творы беларускіх паэтаў даваенных часоў і паваеннай дыяспары: Уладзімера Дудзіцкага, Натальлі Арсеньневай, Алеся Змагара, Янкі Золака, Андрэя Зязюлі, Янкі Невука, Алеся Салаўя, Казіміра Сваяка, Майсея Сяднёва ды іншых. Часам друкаваліся старыя беларускія песьні й казкі.

---

40 Надсон, А. Сьв. Тамаш Мор. Муж стану і мучанік за каталіцкую веру // Божым Шляхам. № 1 (46). Студзень — Люты 1952. С. 10–13; № 2 (47). Сакавік — Красавік 1952. С. 8–10; № 3 (48). Травень — Чэрвень 1952. С. 8–11.

41 А. Н. [Надсан, Аляксандар]. Грэцкая калегія ў Рыме і Беларусы [Крыху гісторыі] // Божым Шляхам. № 1 (58). Студзень — Люты 1954. С. 11–13; № 2 (59). Сакавік — Красавік 1954. С. 7–8.

42 Аніська, Д. Ерузалім // Божым Шляхам. № 4 (7). Красавік 1948. С. 13–14; № 5 (8). Травень 1948. С. 13–15; № 6 (9). Чэрвень 1948. С. 12–13; № 7 (10). Ліпень 1948. С. 11–14; № 8 (11). Жнівень 1948. С. 12–13; № 9–10 (12–13). Верасень — Кастрычнік 1948. С. 13–15.

43 А-ч, Л. [Акіншэвіч, Леў ?]. Да праблемаў беларускае гісторыі // Божым Шляхам. № 4–5 (31–32). Красавік — Травень 1950. С. 4–6.

44 Сурвіла, Я. Аб уплыве хрысьціянства на беларускія абычаёвыя і пісаныя правы // Божым Шляхам. № 5 (56). Верасень — Кастрычнік 1953. С. 15–20; № 6 (57). Лістапад — Сьнежань 1953. С. 11–13; № 1 (58). Студзень — Люты 1954. С. 6–9.

45 Віцьбіч, Юрка. [Стукаліч, Юры]. Плыве з-пад сьвятое гары Нёман (Урыўкі) // Божым Шляхам. № 5 (62). Верасень — Кастрычнік 1954. С. 11–12.

46 Красавіцкі, Міхаіл а. Памяткі царкоўнае старасьвеччыны Полацка-Віцебскага краю і іх ахова // Божым Шляхам. № 1–6 (70–75). Студзень — Сьнежань 1956. С. 8–28.

Але аўтараў усё адно не ставала, таму а. Леў мусіў брацца за пяро шмат часьцей, чым, магчыма, плянаваў. Паводле ягонага ўласнага сьведчаньня, на працягу гэтага пэрыяду *“рэдактарам, адміністратарам і аўтарам большасьці артыкулаў зьяўляецца рэктар Місіі”*[47].

Каб стварыць уражаньне большай колькасьці супрацоўнікаў і карэспандэнтаў, а. Леў пачаў актыўна ўжываць псэўданімы ды крыптонімы ў розных формах, ці то перарobleныя зь ягонага сапраўднага імя (а. Леў, Л. Г., а. Л. Г., Л. Хар-ко[48]), ці то цалкам прыдуманыя (Тамаш Малько, Пракоп Каваль, Анатоль Жменя, А. Дарожны й інш.). Некаторыя зь іх могуць займець свае даволі лягічныя вытлумачэньні, калі прыглядзецца больш уважліва да жыцьця аўтара. Так “а. Лазар”, хутчэй за ўсё, быў створаны дзеля пражываньня пры манастыры айцоў лазарыстаў у Парыжы ды дзеля супадзеньня ініцыялаў зь ягонымі ўласнымі. А “а. Л. Рымар”, напрыклад, зьявіўся ў часопісе толькі аднойчы ў 1954 г., прычым менавіта ў чарговы “рымскі” пэрыяд жыцьця а. Льва, калі той праходзіў навіцыят у законе айцоў марыянаў і, хутчэй за ўсё, матэрыялы для чарговых нумароў “Божым Шляхам” рыхтаваў менавіта там. Нельга з пэўнасьцю сьцвярджаць, ці не адыграла ў выбары формы гэтага псэўданіма сваю ролю й гульня словаў, бо ў “Рымар” можна ўбачыць не толькі “Рым” як месца перабываньня аўтара, але й майстра па вырабу вупражы, што іранічна апісвае бягучы намер а. Льва прыняць на сябе першыя манаскія шлюбы[49].

Як пазьней казаў біскуп Часлаў Сіповіч, перад чыімі вачыма праходзіла гісторыя часопісу ад самага пачатку: *«Час выдаваньня “Божым Шляхам” ёсьць найбольш плодным у жыцьці айца Льва Гарошкі ў галіне літаратурнай творчасьці ў шырэйшым значэньні гэтага слова. Апрача рэдагаваньня свайго ўласнага часапісу, ён дасылае свае артыкулы блізу ва ўсе іншыя беларускія газэты і часапісы, якія толькі выдаваліся на эміграцыі. Выдае такжа свае працы асобнымі кніжкамі і брашурамі»*[50]. У дада-

---

47 Гарошка, Леў а. Дзесяцігодзьдзе Беларускае Каталіцкае Місіі ў Францыі.

48 З лацініцы *“Hor(oš)ko Leu”*.

49 Трэба адзначыць, што хаця “а. Л. Рымар” у сьпісе псэўданімаў Льва Гарошкі ў слоўніку Ю. Гарбінскага й Ю. Туронка (Garbiński, J., Turonek, J., Białoruski ruch chrześcijański XX wieku. Słownik biograficzno-bibliograficzn. Warszawa, 2003. S. 138) не фігуруе, сам факт сувязі псэўданіму й аўтара двойчы прыводзіцца ў тэксьце кнігі: у бібліяграфіі а. Л. Гарошкі за 1954 г. (Тамсама. S. 142) і ў бібліяграфіі матэрыялаў пра мітр. А. Шэптыцкага: “Rymar L. [Horoszko L.], Mitrapalit Andrej Szeptycki” (Тамсама. S. 420).

50 Дзедзінка, А. [Сіповіч, Часлаў]. Айцец Леў Гарошка — архімандрыт // Божым Шляхам. № 1 (94). Студзень — Люты 1966. С. 5–9.

так да пісьменьніцкай і рэдактарскай працы а. Леў як рэктар Беларускай місіі меў вялікую колькасьць іншых абавязкаў, а напружанасьць жыцьця й, магчыма, пэўная стомленасьць[51] ад неабходнасьці рабіць усё аднаму, не маглі не адбіцца на ягоным здароўі ды працаздольнасьці. Гэта, а таксама і ўзьніклыя праблемы зь фінансаваньнем выданьня[52] спрычыніліся да таго, што часопіс, які спачатку плянаваўся як месячнік, ад 1951 г. афіцыйна стаў двухмесячнікам і ўсё часьцей выходзіў у выглядзе падвойных ці патройных нумароў, а на працягу двух апошніх гадоў — і ўвогуле гадавікоў. У канцы 1957 г., выдаўшы апошні аб’ёмны гадавік, а. Леў спыніў сваю працу, але зрабіў гэта, як сьведчыў біскуп Сіповіч, не з уласнага жаданьня: ён *“тады толькі спыніў рэдактарскую дзейнасьць, калі падарванае працаю здароўе адмовіла паслухмянасьць”*[53].

## II пэрыяд — 11 гадоў рэдактарства а. Язэпа Германовіча

Адраджэньне “Божым Шляхам” супала, а хутчэй, можа, нават было выклікана пачаткам цалкам новага пэрыяду жыцьця Каталіцкай Царквы й, у прыватнасьці, жыцьця беларусаў-каталікоў дыяспары. Пасьля сьмерці Папы Рымскага Пія XII новаабраны Папа Ян XXIII склікаў у 1962 г. 2-і Ватыканскі Сабор з мэтаю ўпарадкаваць і актуалізаваць жыцьцё Царквы ды даць адказ на шэраг бягучых пытаньняў жыцьця. Пасьля ягонае раптоўнае сьмерці новы Папа Павал VI прыняў на сябе адказнасьць за працяг Сабору й рэалізацыю ягоных рашэньняў, якія многімі ўспрымаліся як даволі рэвалюцыйны, але сьвежы павеў у Царкве і ў сьвеце. Беларусаў на Саборы прадстаўляў новы Апостальскі візытатар, за некалькі гадоў да таго рукапакладзены ў біскупы, Часлаў Сіповіч, што надавала вагі актуальным падзеям у вачах беларусаў-каталікоў дыяспары. Менавіта тады й паўстала патрэба аднаўленьня агульнабеларускага каталіцкага пэрыёдыка, неабходнага для своечасовага інфармаваньня суродзічаў не толькі аб дзеях Сабору, але й аб усіх важных новых падзеях у Царкве й сьвеце. За стырно гэтым разам узяўся айцец Язэп Германовіч, друйскі марыянін, былы місіянэр у Харбіне й вязень сталінскіх лягераў, што за некалькі гадоў да таго прыехаў у Вялікабрытанію ды стаў жыхаром дому айцоў марыянаў у Лёндане.

---

[51] Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Мінск: Медысонт, 2010. С. 407.

[52] Паводле ліста а. Л. Гарошкі да В. Тумаша ад 23.12.1949 (гл.: Гарбінскі, Юры. Беларускі рэлігійны друк на Захадзе… С. 223).

[53] Дзедзінка, А. [Сіповіч, Чэслаў]. Айцец Леў Гарошка — архімандрыт.




Часопіс “Божым Шляхам” (1974)

Аб сваім абраньні на рэдактара а. Язэп Германовіч так выказаўся ва ўласным гумарыстычным стылі пасьля году працы аднаўленага часопісу:

*Адзін-другі рэдактар зьдзёрся,*
*Трэ' новага шукаць!*
*Знайшоўся пад рукой мядзьведзь:*
*З краёў далёкіх ён прыцёрся*
*І клыпаў ледзь-ня-ледзь. —*
*“На ладан — кажуць — дыша,*
*Але ён басьні піша!”*
*Далі яму магічнае пяро,*
*Куксач ў рабро,*
*Сказалі: “Часу не марнуй —*
*Гаруй,*
*Працуй,*
*Працуй!”*[54].

54 Адважны, Вінцук. [Германовіч, Язэп]. Наш часапіс (Байка) // Божым Шляхам. № 1 (88). Студзень — Люты 1965. С. 3-вокл.

І на гэтай пасадзе сьвятар прапрацаваў, не зважаючы на ўсе скаргі на ўзрост і падарванае ў лягерах здароўе, таксама 11 гадоў, выпусьціўшы да 1974 г. 59 паасобных выпускаў часопісу (ці, паводле ўнутранай нумарацыі, 60 двухмесячных нумароў).

Свой пэрыяд а. Язэп Германовіч распачаў, як і ягоны папярэднік, праграмным артыкулам “Нашая мэта, надзея і дарога”, дзе пазьбягаў шырокіх тлумачэньняў і адно дэкляраваў: *«Узнаўляючы наш “Двумесячны Часапіс Беларускае Рэлігійнае Думкі”…* [паўтараем]*, наш дырэктыўны лёзунг-пароль ёсьць той самы: “Хрыстос — наш Шлях і Правадыр, Хрыстос — наша Надзея і Мэта”. Гэтым мы кіраваліся выдаючы наш гэты часапіс больш 10-ці гадоў і гэтым будзем кіравацца далей, узнаўляючы яго»*[55].

Другі пэрыяд жыцьця “Божым Шляхам” часоў рэдактарства а. Язэпа Германовіча характарызаваўся пераважна большай лёгкасьцю й, часам, жартаўлівасьцю. Гэта адбывалася асабліва дзякуючы характэрнаму стылю самога рэдактара: ягоным байкам і непераможнай любові да жартаў, а таксама допісам некаторых карэспандэнтаў, такіх, прыкладам, як Кастусь Чабатар з Аўстраліі. І гэты настрой праяўляўся ад самага першага нумару адноўленага часопісу, калі рэдактар апублікаваў гумарыстычны матэрыял пра бягучыя падзеі ў працы 2-га Ватыканскага Сабору “Што Пётр і іншыя апосталы думаюць аб II Сэсіі Сабору? (Інтэрв’ю Сьв. Лукі, Нябеснага Летапісца). Саборны Фэльетон”[56], а зь ім і жартаўлівыя «“Добрыя” рады беларускім дзеячом (З нагоды Энскага Зьезду)», за якімі можна ўбачыць пэўныя назіраньні аўтара з рэальнага жыцьця і ў якіх а. Язэп “раіць”:

*“Старшыні:* *Моцна крычаць на памоцнікаў, кантроль пакідаючы Богу.*
*Сакратару:* *Кіраваць кіраўніком і хаваць ад яго ўсе сакрэты.*
*Скарбніку:* *Сьцерагчы, каб на рэвізію была каса поўная, а на будні — свая скарбонка ня пустая.*
*Архіварыю:* *Трымаць дакуманты ў парадку і сакрэце, апрача самых найважнейшых.*
*Радактару:* *Пісаць так, каб ніхто нічога не зразумеў і каб усе чакалі, што далей будзе.*
*Чытачу:* *Сьмейся, дзе ня трэба, бо дзе трэба, там… (тут рукапіс замазаны).*
*Сьвятару:* *Будзь сьвяты толькі на сьвята!*

55 Рэдакцыя. Нашая мэта, надзея і дарога // Божым Шляхам. № 1 (82). Студзень — Люты 1964. С. 1.

56 Гэрмановіч, Я. а. Што Пётр і іншыя апосталы думаюць аб II Сэсіі Сабору? (Інтэрв’ю Сьв. Лукі, Нябеснага Летапісца). [Саборны фэльетон] // Божым Шляхам. № 1 (82). Студзень — Люты 1964. С. 16, 18.

*Ігумэну:* *Не кажы ніколі нікому, калі сам выходзіш з дому!*
*Манаху:* *Памагай ігумэну, калі ён нічога ня робіць.*
*Параху:* *Слухай біскупа уважна, а сваё рабі адважна!*
*Вікараму:* *Пажадай параху шчасьлівай сьмерці у сваёй добрай інтэнцыі!*
*Біскупу:* *Тройчы багаславі кажнага і не кажы яму нічога важнага.*
*Вінцуку:* *Пішы адважна — толькі аглядайся на радактара!”*[57].

Часопіс перамяніў ня толькі месца выданьня (з Парыжу на Лёндан), але зьмяніў дызайн, друкарню (замяніўшы парыскую *“Imprimerie de Navarre”* на мюнхенскую *“Logos”*), і выпрацаваў свой уласны стыль[58], стварыўшы новыя рубрыкі й зьмяніўшы падыход да старых. Агульнацаркоўныя навіны “На рэлігійнай ніве” сталі больш маштабнымі, а навіны зь беларускага жыцьця — крыху меней сыстэматычнымі і ў асноўным ахаплівалі жыцьцё й дзейнасьць лёнданскага асяродку (Беларускай місіі й школы сьв. Кірылы Тураўскага) ды абмежаванага шэрагу мясьцінаў, адкуль актыўныя беларусы самі дасылалі ў рэдакцыю свае навіны (найчасьцей гэта былі некаторыя гарады ЗША, Канады, Францыі, Аўстраліі). Пэўнае аслабленьне разьдзелу беларускіх навінаў ураўнаважыў разьдзел “Нам пішуць” зь ліставаньнем беларусаў усяго сьвету, які вырас да паважных памераў і з пэрыядычнага ператварыўся ў сталы.

З новых разьдзелаў гэтых часоў можна адзначыць рэдактарскую рубрыку “Зварот да паважаных чытачоў”, у якой а. Язэп дзяліўся, звычайна ў вершавана-гумарыстычнай форме, сваімі клопатамі й турботамі ў справе падпіскі,“Зь беларускай прэсы” з абвесткамі пра выхад новых нумароў іншых пэрыёдыкаў і аглядамі найцікавейшых матэрыялаў у іх. Варта згадаць і цалкам унікальны разьдзел “З нашае мінуўшчыны”, дзе рэдакцыя паспрабавала заняць нэўтральную й не афарбаваную канфэсійна пазыцыю адносна многіх спрэчных падзеяў беларускае гісторыі, запланаваўшы, дзеля лепшага пазнаньня мінулага, падаваць адно факты без уласных камэнтароў і ацэнак, публікуючы *“выняткі з гістарычных дакумантаў і выказы розных аўтараў, асабліва тых, якіх працы сяньня зьяўляюцца рэдкасьцю”*[59]. Ідэя сапраўды была годнай і на старонках часопісу было апублікавана з паўтара дзясятка дакумэнтаў ды арыгінальных

57 Адважны, В. “Добрыя” рады беларускім дзеячом (З нагоды Энскага Зьезду) // Божым Шляхам. № 1 (82). Студзень — Люты 1964. С. 18.

58 Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. С. 408.

59 Рэдакцыя. [З нашае мінуўшчыны] // Божым Шляхам. № 1 (118). Студзень — Люты 1970. С. 14.

выказваньняў[60]. Каб чытачы правільна зразумелі гэты намер як чыста гістарычны, а не апалягетычны ці місійны, ва ўступным артыкуле было патлумачана: *“На працягу нашае гісторыі мы мелі вялікія і радасныя падзеі, але такжа і трагічна-сумныя. Некаторыя з нашых гістарычных здарэньняў да сяньня па рознаму апісваюцца самымі беларусамі (напр., царкоўная Вунія), — гэта не азначае аднак, што мы можам ці павінны выкінуць іх з нашае гісторыі! Усё мінулае нам трэба бесстаронна пазнаць, а ўсё сапраўды вялікае і пазытыўнае мы павінны ўшанаваць і на ім будаваць далей нашую будучыню рэлігійную і дзяржаўную”*[61].

Часам, магчыма дзеля агульна адчуванай лёгкасьці і пэўнай весялосьці матэрыялаў самога рэдактара, можна сустрэць ацэнку часопісу лёнданскага пэрыяду як слабейшага ў параўнаньні зь першым, парыскім. Але калі ўважліва ўглядзецца ў зьмест і тэматычны дыяпазон, то прыйдзецца адзначыць, што “Божым Шляхам” за часоў а. Язэпа Германовіча ня толькі працягвае актыўна друкаваць навуковыя матэрыялы, датычныя беларускай гісторыі, культуры й рэлігійнага жыцьця, але й часам значна паглыбляе іх узровень ды дыяпазон. Адбылося гэта дзякуючы новай, маладой плыні аўтараў і дасьледнікаў ды пэўнай актывізацыі навуковай працы ў Беларускай бібліятэцы й музэі імя Францыска Скарыны ў Лёндане (біск. Часлаў Сіповіч, а. Фелікс Журня, а. Аляксандар Надсан, Гай Пікарда, Вера Рыч і інш.).

Першым матэрыялам такога роду ў новым пэрыядзе жыцьця “Божым Шляхам” стаў артыкул маладога абсальвэнта Оксфардзкага ўнівэрсытэту й Сарбоны Гая Пікарды “Царкоўная музыка на Беларусі”[62] (пад псэўданімам Г. Піхура) з сыстэматычнай спробай

---

60 Некаторыя зь іх: Акт эрэкцыі Менскай лацінскай дыяцэзіі. Выняткі з буллі Папы Пія VI-га, 16 кастрычніка 1798 г. // Божым Шляхам. № 2 (119). Сакавік — Красавік 1970. С. 13–14; Выняткі з ліста Архібіскупа Альбіна Сымона да Папы Лявона XIII (1896) у справе беларускай мовы ў Касьцеле [З нашае мінуўшчыны] // Божым Шляхам. № 1 (124). Студзень — Люты 1971. С. 16–17; Лісты Кардынала Рафаэля Мэрры дэль Валь з 1906 і 1907 гг. да ўсіх біскупаў рымскага абраду, якіх дыяцэзіі знаходзіліся ў межах Расейскае Імпэрыі (З нашае мінуўшчыны) // Божым Шляхам. № 2 (130). Сакавік — Красавік 1972. С. 4–6.; Сьпісак Касьцёлаў і капліц лац. абраду, а такжа ўніяцкіх цэркваў, якія знаходзяцца ў раёне Пінскага Дэканату (Пінскай Благачыніі) і недалёка ад яго (1832) [З нашае мінуўшчыны] // Божым Шляхам. № 3 (120). Травень — Чэрвень 1970. С. 16–18; Наш тэатр (Разважаньні Максіма Гарэцкага) // Божым Шляхам. № 4 (127). Ліпень — Жнівень — Верасень 1971. С. 9–11 і інш.

61 Рэдакцыя. [З нашае мінуўшчыны] // Божым Шляхам. № 1 (118). Студзень — Люты 1970. С. 14.

62 Піхура, Г. [Пікарда, Гай]. Царкоўная музыка на Беларусі // Божым Шляхам. № 2 (83). Сакавік — Красавік 1964. С. 8–14. (Прычым увагу

аналізу пададзенае тэмы ў ейнай гістарычнай пэрспэктыве. Не спыняючыся на пытаньнях музыкі, Гай Пікарда публікаваў артыкулы на тэмы беларускага царкоўнага выяўленчага мастацтва[63] й агульнабеларускай гісторыі, пішучы пра Яна зь Літвы[64] й Аляксандра Рыпінскага[65] ў Лёндане, пра грошы ВКЛ[66] й падарожжа па Беларусі Хрысьціяна Шэгея ў 1780 г.[67], пра ўкладальніка Супрасльскага Ірмалягіёну Багдана Анісімовіча[68] й Магдалену Радзівіл[69].

На гэты ж пэрыяд прыпадае й шэраг новых матэрыялаў а. Аляксандра Надсана, рукапакладзенага ў сьвятары ў 1958 г. Можна адзначыць і ягоную працу “Сьвяты Кірыл Тураўскі”[70], і гістарычныя

---

прыцягвае ўжо сама структура артыкула: Частка 1 — Унісон. 1. Першапачатковы пэрыяд (990–1245). 2. Пэрыяд Вялікага Княства Літоўскага (1245–1569). 3. Заняпад (1569–1700). Частка II. Паліфонія. 1. Сярэднявечча і Рэнэсанс (ад пачатку да 1620 г.). 2. Пэрыяд Віленскай Акадэміі (1620–1700). 3. Заняпад (1725–1880). 4. Адраджэньне (ад 1880 г. да сяньняшняга дня).)

63 Г. П. [Пікарда, Гай]. Аднаўленьне супрасльскіх фрэскаў // Божым Шляхам. № 5 (86). Верасень — Жнівень [sic] 1964. С. 6–7. ; Г. П. [Пікарда, Гай]. Беларуская гравюра ў дрэве (XVI—XVII стаг.) // Божым Шляхам. № 1 (88). Студзень — Люты 1965. С. 5; (XVI—XVII ст.) [sic] // Божым Шляхам. № 2 (89). Сакавік — Красавік 1965. С. 11; (XVI ст.) // Божым Шляхам. № 5 (92). Верасень — Кастрычнік 1965. С. 8; Ф. Скарына // Божым Шляхам. № 1 (94). Студзень — Люты 1966. С. 15; № 2 (95). Сакавік — Красавік 1966. С. 14; (XVI стаг.) // Божым Шляхам. № 2 (101). Сакавік — Красавік 1967. С. 11; (XVI ст.) // Божым Шляхам. № 3 (102). Травень — Чэрвень 1967. С. 12.

64 Піхура, Г. [Пікарда, Гай]. Ян з Літвы (Першы Беларускі Друкар у Лёндане) // Божым Шляхам. № 3 (90). Травень — Чэрвень 1965. С. 4–6;

65 Піхура, Г. [Пікарда, Гай]. Аляксандар Рыпінскі ў Лёндане (1849–1859) // Божым Шляхам. № 5 (86). Верасень — Жнівень 1964. [sic] С. 9–11.

66 Піхура, Г. [Пікарда, Гай]. Грошы Вялікага Княства Літоўскага // Божым Шляхам. № 2 (101). Сакавік — Красавік 1967. С. 6–10.

67 Г. П. [Пікарда, Гай]. Падарожжы па Беларусі Хрысьціяна Шегея [sic] (1780) // Божым Шляхам. № 1 (94). Студзень — Люты 1966. С. 9–11.

68 Піхура, Г. [Пікарда, Гай]. Богдан Анісімовіч // Божым Шляхам. № 4 (97). Ліпень — Жнівень 1966. С. 8–12.

69 Піхура, Г. [Пікарда, Гай]. Княгіня Магдалена Радзівіл // Божым Шляхам. № 2 (89). Сакавік — Красавік 1965. С. 9–10.

70 Надсон, Аляксандар а. Сьвяты Кірыл Тураўскі [I. Кірыл і яго век] // Божым Шляхам. № 2 (95). Сакавік — Красавік 1966. С. 4–9; [II. Духоўны настаўнік] // Божым Шляхам. № 3 (96). Травень — Чэрвень 1966. С. 2–7; [III. Пявец Божага міласердзя] // Божым Шляхам. № 4 (97). Ліпень — Жнівень 1966. С. 3–8; [IV. Залатавусны] // Божым Шляхам. № 5 (98). Верасень — Кастрычнік 1966. С. 3–9; [V. Добры пастыр] // Божым Шляхам. № 6 (99). Лістапад — Сьнежань 1966. С. 5–7.

дасьледаваньні, як “Беларусы ў Грэцкай калегіі”[71], і нізку матэрыялаў пра помнікі беларускага рэлігійнага пісьменства Сярэднявечча[72] або жыцьцярысы беларускіх гістарычных дзеячаў[73]. Не пераставаў друкаваць свае матэрыялы й а. Леў Гарошка[74], папаўняючы свой апалягэтычны цыкль “Навука і рэлігія”. Таксама выходзілі новыя артыкулы Юркі Віцьбіча (Юрыя Стукаліча)[75] з гісторыі пэўных сьвятыняў і мястэчак Беларусі. У гістарычна-навуковы аддзел часопісу разам зь імі ўнеслі сваю долю а. Фэлікс Журня, які ўклаў спробу бібліяграфіі беларускіх рэлігійных выданьняў[76], Аўген Калубовіч зь ягоным

71 А. Н. [Надсан, Аляксандар]. Беларусы ў Грэцкай калегіі // Божым Шляхам. № 6 (87). Лістапад — Сьнежань 1964. С. 5–7; А. Н. [Надсан, Аляксандар]. Сьпісак беларускіх студэнтаў у Грэцкай калегіі ў Рыме ў часе 1621–1796–7 [Выняткі з Каталёгу Студэнтаў Грэцкай Калегіі за час 1621–1730 (Архіў Грэцкай Калегіі, Том 14). Выняткі з Каталёгу Студэнтаў Грэцкай Калегіі за час 1731–1803. (Архіў Грэцкай Калегіі. Том 13) // Божым Шляхам. № 6 (87). Лістапад — Сьнежань 1964. С. 8–11.

72 Надсон, Ал. а. Цікавыя помнікі беларускага рэлігійнага пісьменства 15-га стагодзьдзя // Божым Шляхам. № 3 (96). Травень — Чэрвень 1966. С. 8–10; Надсон, Аляксандар а. Беларускія буквары XVII стагоддзя // Божым Шляхам. № 4 (138). Кастрычнік — Лістапад — Снежань 1973. С. 5–11; Надсон, Аляксандар а. Еўеўскі буквар 1618 г. // Божым Шляхам. № 1 (135). Студзень — Люты — Сакавік 1973. С. 3–9; Надсон, Аляксандар а. Малітаўнік Мамоніча 1601 г. // Божым Шляхам. № 1 (118). Студзень — Люты 1970. С. 8–12; № 2 (119). Сакавік — Красавік 1970. С. 5–7; Надсон, А. а. Заходняя літаратура на Беларусі ў XV—XVII стаг. // Божым Шляхам. № 1 (106). Студзень — Люты 1968. С. 2–6; № 3 (108). Травень — Чэрвень 1968. С. 3–7 і многія іншыя.

73 Надсон, Аляксандар а. Лаўрын Зізані // Божым Шляхам. № 3 (102). Травень — Чэрвень 1967. С. 3–6.

74 Л. Г. [Гарошка, Леў]. Адносіны вучоных хэмікаў да Бога і рэлігіі // Божым Шляхам. № 2 (83). Сакавік — Красавік 1964. С. 14–16; № 3 (84). Травень — Чэрвень 1964. С. 14–15.

75 Віцьбіч, Юрка. [Стукаліч, Юры]. Зарніца ў бязпатольнай цемры. 1067 — Ворша — 1967 // Божым Шляхам. № 5 (104). Верасень — Кастрычнік 1967. С. 10–12; Віцьбіч, Юрка. [Стукаліч, Юры]. Ня змоўклі Віцебскія арганы // Божым Шляхам. № 1 (106). Студзень — Люты 1968. С. 6–9; Віцьбіч, Юрка. [Стукаліч, Юры]. Чаму ацалеў Новы касьцёл // Божым Шляхам. № 3 (108). Травень — Чэрвень 1968. С. 7–9; Віцьбіч, Юрка. [Стукаліч, Юры]. Бог і Бацькаўшчына. 1878–1968 [У 90-я ўгодкі ад нараджэньня Андрэя Зязюлі] // Божым Шляхам. № 6 (111). Лістапад — Сьнежань 1968. С. 12–15; Віцьбіч, Юрка. [Стукаліч, Юры]. Занядбаны замак з абкарнаным назовам // Божым Шляхам. № 2 (119). Сакавік — Красавік 1970. С. 7–9; Віцьбіч, Юрка. [Стукаліч, Юры]. Там, дзе Дзьвіна ўцякла ад Дняпра // Божым Шляхам. № 5 (122). Верасень — Кастрычнік 1970. С. 11–13.

76 Журня, Ф. а. Беларускія рэлігійныя выданьні XIX—XX ст. ст. // Божым Шляхам. № 4 (132). Ліпень — Жнівень 1972. С. 4–9.

дасьледаваньнем “Лёс помнікаў старога беларускага пісьменства (рукапіснага й друкаванага)”[77] ды некаторымі іншымі артыкуламі з гісторыі Беларусі[78], Вера Рыч, што агучыла на старонках “Божым Шляхам” пытаньні, зьвязаныя з асобаю Торвальда Кодрасона й раньняй гісторыяй Полаччыны[79], ды біскуп Часлаў Сіповіч з артыкуламі пра крыж-рэліквіяр сьв. Параскевы Полацкай[80] ды рукапіс архірэйскай літургіі XVII ст.[81], які адразу стаў тэмаю ягонага ўласнага дасьледаваньня й асобнага выданьня[82]. Таксама й сам а. Язэп Германовіч зрабіў належны ўнёсак, уклаўшы цыклі ўспамінаў “Учора — сягодня — заўтра. (Успаміны)”[83], аб сваім уласным жыцьці, і “Мае прыяцелі”[84], аб беларускіх каталіцкіх дзеячах міжваеннага пэрыяду.

---

77 Калубовіч, А. Лёс помнікаў старога беларускага пісьменства (рукапіснага й друкаванага) // Божым Шляхам. № 1 (139). Студзень — Люты — Сакавік 1974. С. 3–8; № 2 (140). Красавік — Травень — Чэрвень 1974. С. 5–10; № 3 (141). Ліпень — Жнівень — Верасень 1974. С. 3–8; № 4 (142). Кастрычнік — Лістапад — Сьнежань 1974. С. 6–10.

78 Калубовіч, А. Магілёў у Паўночную вайну (Паводля летапісу Магілёва) // Божым Шляхам. № 2 (136). Красавік — Травень — Чэрвень 1973. С. 13–18.

79 Рыч, Вера. Раньняя сьвятыня на Беларусі (Паводля Ісляндзкай Сагі) // Божым Шляхам. № 1 (88). Студзень — Люты 1965. С. 3–4.

80 Ч. С. [Сіповіч, Чэслаў]. Крыж-рэліквіяр сьвятой Параскевы Полацкай // Божым Шляхам. № 3 (137). Ліпень — Жнівень — Верасень 1973. С. 3–5.

81 Ч. С. [Сіповіч, Часлаў]. Рукапіс Архрізйскай [sic] Літургіі з XVII стагодзьдзя (Новы здабытак Беларускай Бібліятэкі ў Лёндане) // Божым Шляхам. № 4 (132). Ліпень — Жнівень 1972. С. 11–12.

82 Sipovic, Ceslaus (ed.). The Pontifical Liturgy of Saint John Chrysostom. A Manuscript of the Seventeenth Century in the Slavonic Text and Latin Translation. London, 1978. — 204 p.

83 Гэрмановіч, Язэп. Учора — сягодня — заўтра (Успаміны) // Божым Шляхам. № 3 (137). Ліпень — Жнівень — Верасень 1973. С. 24–28; № 4 (138). Кастрычнік — Лістапад — Сьнежань 1973. С. 18–21; № 1 (139). Студзень — Люты — Сакавік 1974. С. 21–23; № 2 (140). Красавік — Травень — Чэрвень 1974. С. 25–27.

84 Гэрмановіч, Язэп а. Мае прыяцелі (Успаміны) [Кастусь Стэповіч (1890–1926) — Сьвятар, паэт, пісьменьнік] // Божым Шляхам. № 6 (87). Лістапад — Сьнежань 1964. С. 14–16; Гэрмановіч, Язэп а. Мае прыяцелі. Аляксандар Астрамовіч (Андрэй Зязюля). 26, XI, 1878–17, I, 1821 // Божым Шляхам. № 2 (89). Сакавік — Красавік 1965. С. 6–7; Гэрмановіч, Язэп а. Мае прыяцелі: Зэнон Якуць // Божым Шляхам. № 1 (88). Студзень — Люты 1965. С. 6–8; Гэрмановіч, Я. а. Мае прыяцелі — Францісь Рамэйка (Успаміны) // Божым Шляхам. № 3 (90). Травень — Чэрвень 1965. С. 6–8; Гэрмановіч, Я. а. Мае прыяцелі — Аляксандар Міхайло (Мікайле) // Божым Шляхам. № 4 (91). Ліпень — Жнівень 1965. С. 9–11; а. Я. Г. [Гэрмановіч, Язэп]. Мае прыяцелі — В. Аношка // Божым Шляхам. № 2 (95). Сакавік — Красавік 1966. С. 10–11; Гэрмановіч, Я. а. Мае

Працягваючы традыцыю травэлёгаў, у гэты пэрыяд быў надрукаваны й матэрыял Уладзімера Глыбіннага (псэўданім Уладзімера Сядуры) “На Сьвятой Зямлі (Нарысы з падарожжа ў Палестыну)”[85].

У сваю чаргу, а. Тамаш Падзява значна паглыбляў ды пашыраў духоўна-рэлігійную частку часопісу, надрукаваўшы жыцьцярыс ураджэнца Смаленшчыны й *“сына беларускай зямлі”* праваслаўнага місіянэра ў Японіі сьв. біскупа Мікалая (Касаткіна)[86] і распачаўшы публікацыю свайго надзвычай маштабнага цыклю катэхезаў для беларусаў-каталікоў “Добрая навіна”[87], што стартаваў у друку ў 1973 г., але так і не пасьпеў быць выдрукаваным цалкам. Сам а. рэдактар з гэтым жа намерам адкрыў цалкам новую рубрыку выбраных духоўных думак, якая ня мела сваёй адзінай назвы (часта: “Выбраныя думкі”, “Думкі з прачытаных кніжак”, “Залатыя думкі” ці інш.) і ў якой чытач сустракаў імёны такіх выбітных людзей, як Махатма Гандзі й Рамакрышна, Іосіф Бродскі і Ўладзімір Салаўёў, Сімонэ Вэйль і гэнэрал дэ Голь, Леў Талстой і Макіявэльлі, Сакрат і Шапэнгаўэр, сьв. Макар Вялікі й сьв. Геранім ды многіх іншых. Часам выбраныя думкі мелі выгляд перакладаў цэлых разьдзелаў ці даволі вялікіх урыўкаў з выбраных кніг, якімі натхняўся рэдактар. Гэтак чытач знаёміўся з духоўнымі разважаньнямі манаха-трапіста Тамаша Мэртана[88],

---

прыяцелі — а. Казімір Смулька // Божым Шляхам. № 5 (98). Верасень — Кастрычнік 1966. С. 13–15.

85 Глыбінны, Уладзімер. [Сядура, Уладзімер]. На Сьвятой Зямлі (Нарысы з падарожжа ў Палестыну) // Божым Шляхам. № 5 (116). Верасень — Кастрычнік 1969. С. 11–13; № 6 (117). Лістапад — Сьнежань 1969. С. 2–6; № 1 (118). Студзень — Люты 1970. С. 2–5; № 2 (119). Сакавік — Красавік 1970. С. 2–4; № 3 (120). Травень — Чэрвень 1970. С. 3–6; № 5 (122). Верасень — Кастрычнік 1970. С. 2–5; № 6 (123). Лістапад — Сьнежань 1970. С. 3–5; № 1 (124). Студзень — Люты 1971. С. 2–4; № 2 (125). Сакавік — Красавік 1971. С. 2–5; № 3 (126). Травень — Чэрвень 1971. С. 12–15.

86 а. Т. П. [Падзява, Тамаш]. “Апосталам роўны” Мікалай, Архіяпіскап Японіі // Божым Шляхам. № 3 (131). Травень — Чэрвень 1972. С. 7–10.

87 Падзява, Т. а. Добрая навіна // Божым Шляхам. № 1 (135). Студзень — Люты — Сакавік 1973. С. 1–2, 10; № 2 (136). Красавік — Травень — Чэрвень 1973. С. 1–2; № 3 (137). Ліпень — Жнівень — Верасень 1973. С. 1–3; № 4 (138). Кастрычнік — Лістапад — Снежань [sic] 1973. С. 2–5; № 1 (139). Студзень — Люты — Сакавік 1974. С. 1–2; № 2 (140). Красавік — Травень — Чэрвень 1974. С. 2–4; № 3 (141). Ліпень — Жнівень — Верасень 1974. С. 1–3; № 4 (142). Кастрычнік — Лістапад — Сьнежань 1974. С. 4–6; № 1–2 (143–144). 1975. С. 26–27; № 3–4 (145–146). 1975. С. 3–4; № 1–2 (147–148). 1976. С. 7–12; № 1 50. 1979. С. 8–12; № 151. 1980. С. 4–9.

88 Духоўныя думкі з кніжак а. Тамаша Мэртона // Божым Шляхам. № 3 (84). Травень — Чэрвень 1964. С. 23.

заснавальніка Opus Dei Хосэ Марыі Эскрывэ[89], манаха й містыка Тамаша Кемпійскага[90] ці праваслаўнага япіскапа Сан-Францыскага Яна (Шахаўскога)[91].

На старонках часопісу сярод аўтараў і карэспандэнтаў зьяўляліся ці працягвалі зьяўляцца імёны многіх іншых дзеячаў беларускай дыяспары: пастара Яна Пятроўскага, Льва Акіншэвіча, Кастуся Акулы, кс. Пётры Татарыновіча, Янкі Запрудніка, Вітаўта Рамука, а. Яна Тарасэвіча, а. Язэпа Рэшаця, Кастуся Чабатара, Язэпа Малецкага, Вінцэнта й Раісы Жук-Грышкевічаў, Віктара Жаўняровіча, Уладзімера Глыбіннага, Станіслава Грынкевіча, Міколы Нікана, Язэпа Пашкевіча, Баніфацыя Прытыцкага, а. Робэрта Тамушанскага, Яна Станкевіча, а. Міхася Урбановіча, Эвэліны і Ўладзімера Шыманцоў, Яна Чарнэцкага ды многіх іншых. Адныя зь іх дзяліліся сваімі разважаньнямі ці назіраньнямі, іншыя — апавядалі пра пэўныя падзеі з жыцьця беларускіх супольнасьцяў у розных мясьцінах, некаторыя спрабавалі разьвязваць дыскусіі й крытыкаваць, яшчэ іншыя — пісалі свае ўспаміны аб жыцьці на бацькаўшчыне.

Актыўна пісаў і сам а. Язэп Германовіч, ужываючы, як і ягоны папярэднік, пэўныя, хаця й нешматлікія, псэўданімы. Акрамя свайго ўласнага імя ці сьціплага подпісу “Рэдактар”, а. Язэп пазначаў некаторыя свае матэрыялы псэўданімам “Я. Савіцкі”, узяўшы для гэтага дзявочае прозьвішча сваёй маці, ды старым і ведамым многім беларусам міжваеннага пэрыяду імем “Вінцук Адважны”, якое звычайна суправаджала ягоныя паэтычныя творы, байкі ды жарты. Варта адзначыць, што два свае даволі маштабныя паэтычныя цыклі, якія паўсталі ў час жыцьця аўтара ў Лёндане й падавалі вершаваны пераказ шэрагу біблейскіх гісторыяў з кнігі Роду[92] (можна толькі гадаць, ці не было

[89] Эскрывэ, І. Дарога // Божым Шляхам. № 1 (139). Студзень — Люты — Сакавік 1974. С. 11–13; [Слова аб пакуце] // Божым Шляхам. № 2 (140). Красавік — Травень — Чэрвень 1974. С. 11; Эскрывэ, І. “Дарога”. Малітва // Божым Шляхам. № 4 (138). Кастрычнік — Лістапад — Снежань [sic] 1973. С. 18.

[90] а. Я. Г. “Сьледам за Хрыстом” [Выбраныя думкі з кнігі “Сьледам за Хрыстом”] // Божым Шляхам. № 6 (105). Лістапад — Сьнежань 1967. С. 8–9 і інш.

[91] Думкі з кнігі Іоана, япіскапа Сан-Францыскага, “Час веры” // Божым Шляхам. № 3 (96). Травень — Чэрвень 1966. С. 3-вокл.

[92] а. Я. Г. [Германовіч, Язэп]. Рай — першыя людзі // Божым Шляхам. № 4 (127). Ліпень — Жнівень — Верасень 1971. С. 18–19; [Ева і Люцыпар. Адам і Ева. Божы прысуд] // Божым Шляхам. № 5 (128). Кастрычнік — Лістапад — Сьнежань 1971. С. 20–22; [Далоў з Раю! Першыя дні — страх і гора. Сабакі і зьмей] // Божым Шляхам. № 1 (129). Студзень — Люты 1972. С. 17–20; а. Я. Г. [Германовіч, Язэп]. Каін і Абэль [Першы сыны. Ахвяра. Старшы брат — забойца! Старшы брат — пракляты! Патомкі] // Божым

гэта часткаю вялікай задумы аўтара аб стварэньні вершаванага переказу ўсяе першае кнігі Бібліі) ды вялікай часткі прыпавесьцяў з Новага Запавету, якія занялі нават амаль цэлы асобны нумар часопісу[93], былі падпісаныя сапраўдным імем аўтара (ці крыптонімам ад яго).

Дзякуючы любові рэдактара да паэзіі літаратурны разьдзел стаў шмат багацейшым дзеля ўвагі ня толькі да паэзіі беларусаў эміграцыі, але й да лепшых твораў паэтаў Савецкай Беларусі. Гэткім чынам на старонкі “Божым Шляхам” трапілі вершы Рыгора Барадуліна й Ніла Гілевіча, Петруся Броўкі й Ларысы Геніюш, Артура Вольскага й Сяргея Грахоўскага, Сяргея Панізьніка й Пімена Панчанкі, Язэпа Семяжона й інш. Нельга абысьці ўвагаю й публікацыю некаторых твораў XIX ст.: вершаў Вінцэся Каратынскага[94], удзельніка паўстаньня 1863 г., і ўрыўка з баляды Аляксандра Рыпінскага “Нячысьцік”[95].

Сваю справу а. Язэп Германовіч рабіў старанна, па меры магчымасьцяў і ўсімі спосабамі заклікаючы беларусаў да падтрыманьня выданьня, тым больш што падпіску можна было ўжо арганізаваць ня толькі ў Эўропе, але і ў Аўстраліі ды Амэрыцы, дзе зьявіліся сталыя чытачы й карэспандэнты. Тым ня меней гледзячы на шматлікія вершаваныя “Звароты да паважаных чытачоў”, справа гэтая была ня надта пасьпяховай, выклікаючы ў рэдактара іранічнае:

Шляхам. № 2 (130). Сакавік — Красавік 1972. С. 16–19; а. Я. Г. [Германовіч, Язэп]. Сім, Хам і Яфэт // Божым Шляхам. № 3 (131). Травень — Чэрвень 1972. С. 22–24; Гэрмановіч, Я. а. Вавілонская вежа [Зьмяшаньне языкоў. Вавілон у эміграцыі] // Божым Шляхам. № 4 (132). Ліпень — Жнівень 1972. С. 19–22; а. Я. Г. [Германовіч, Язэп]. Садома і Гамора // Божым Шляхам. № 5–6 (133–134). Верасень — Сьнежань 1972. С. 22–24.

93 Гэрмановіч, Я. а. Прыповесьці паводле Эвангельля Матея — Марка — Лукі — Яна. Паводле Матэя [Сяўбіт і насеньне. Пшаніца і куколь. Арандатары. Лоўля рыбы. Доўг і даўжнік. Работнікі ў вінаградніку. Два сыны. Дзевы разумныя і дурныя. Таленты. Страшны суд] // Божым Шляхам. № 4 (121). Ліпень — Жнівень 1970. С. 1–10; Паводле Марка. [Нябеснае valadarства] // Божым Шляхам. № 4 (121). Ліпень — Жнівень 1970. С. 10; Паводле Матэя і Лукі [Загадка саддукеяў] // Божым Шляхам. № 4 (121). Ліпень — Жнівень 1970. С. 10–11; Паводле Лукі [Два будаўнікі. Міласэрны самаранін. Гаспадар і тры хлябы. Багатыр. Смакоўніца. Госьці на вячэры. Вясельны банкет] ІІ Паводле Матэя [Згубленая драхма. Блудны сын. Багач і Лазар. Нягодны судзьдзя. Фарызэй і мытнік. Удовіна ахвяра] // Божым Шляхам. № 4 (121). Ліпень — Жнівень 1970. С. 11–22; Добры пастыр // Божым Шляхам. № 4 (121). Ліпень — Жнівень 1970. С. 22.

94 Каратынскі, Вінцэсь. [Верш: Ой, саколка] // Божым Шляхам. № 4 (85). Ліпень — Жнівень 1964. С. 18; Каратынскі, Вінцэсь. З “Гутаркі старога дзеда” (З вершаў XIX стагодзьдзя) // Божым Шляхам. № 6 (105). Лістапад — Сьнежань 1967. С. 18–19.

95 [Рыпінскі, Аляксандар]. Нячысьцік // Божым Шляхам. № 5 (86). Верасень — Жнівень [sic] 1964. С. 8.

*Рэдактар еў з парожняй міскі —*
*Чакаем ВАШАЕ падпіскі!*[96].

Падобна як і ягоны папярэднік, а. Язэп Германовіч мусіў доўгі час сумяшчаць пасаду рэдактара “Божым Шляхам” зь іншымі працамі й абавязкамі, бо адначасова зьяўляўся й дырэктарам школы сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане. І калі на пачатку ён быў захоплены працай над часопісам[97], то напрыканцы ён усё болей выказваў сваю стомленасьць ды спасылаўся на ўзрост ды праблемы са здароўем.

Увосень 1974 г. а. Язэп Германовіч выехаў на пэўны час у ЗША, у тым ліку каб адведаць сваякоў ды прыяцеляў[98] і ўжо ў № 4 (142) за 1974 г. адбылася замена імя рэдактара на а. Фэлікса Журню. І хаця намінальна ў некаторых наступных нумарах часам працягвалі іменаваць а. Язэпа Германовіча рэдактарам, тым ня меней ад гэтага нумару ўсе справы й адказнасьць пераняў а. Журня, які й заставаўся адказным за часопіс на працягу ўсяго апошняга пэрыяду ягонага існаваньня.

## III пэрыяд — 6 гадоў рэдактарства а. Фэлікса Журні

Калі сілаў а. Льва Гарошкі й а. Язэпа Германовіча хапіла на два 11-гадовыя пэрыяды, то на долю а. Фэлікса Журні выпала толькі палова ад таго, усяго 6 гадоў.

Сам а. Журня, былы друйскі гімназіст і марыянін, пасьля доўгага пэрыяду перабываньня ў Польшчы ў 1966 г. апынуўся ў Вялікабрытаніі і ўжо да канца свайго жыцьця належыў да супольнасьці айцоў марыянаў у Марыян-Хаўзе ў Лёндане. Адразу ж па прыезьдзе ён уключыўся ў працу й стаў адным са сталых аўтараў “Божым Шляхам”, а ўрэшце — і апошнім ягоным рэдактарам.

За 6 гадоў рэдактарства а. Журні — ад восені 1974 г. да восені 1980 — выйшла ўсяго 7 паасобнікаў (або 10 нумароў паводле ўнутранай нумарацыі), зь іх: 1 двухмесячнік, 2 паўгадавікі (падвойныя квартальнікі) і 4 гадавікі (у 1977 г. часопіс ня выйшаў увогуле).

У першым жа сваім нумары а. Фэлікс Журня тлумачыў фактычную (але пакуль не намінальную) замену рэдактара гэткім чынам: *“Дзеля пажылых гадоў а. Язэпа Гэрмановіча і дзеля яго выезду на нейкі час у Злучаныя Штаты Амэрыкі, ветліва просім матер'ялы прызначаныя да друку, а таксама чэкі ці іншыя грашовыя разьлікі*

[96] Адважны, Вінцук [Германовіч, Язэп]. Наш часапіс (Байка) // Божым Шляхам. № 1 (88). Студзень — Люты 1965. С. 3-вокл.

[97] Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. С. 408.

[98] З дзейнасьці сьвятароў // Божым Шляхам. № 4 (142). Кастрычнік — Лістапад — Сьнежань 1974. С. 12.




Часопіс “Божым Шляхам” (1979)

*прысылаць на адрас: Rev. F. Žurnia, Marian House…”*[99]. Магчыма, што тады гэтая замена ўспрымалася як часовая, таму ані праграмных артыкулаў, ані вялікіх зьменаў у зьмесьце не плянавалася. Апошні двухмесячнік 1974 г. яшчэ нічым не адрозьніваўся ад папярэдніх нумароў, працягваючы друк тэкстаў, распачатых раней (цыклю катэхезаў а. Тамаша Падзявы й артыкула Аўгена Калубовіча). Але ўжо на пачатку 1975 г., калі, магчыма, стала зразумела, што наўрад ці а. Язэп Германовіч зможа вярнуцца да паўнавартаснай рэдактарскай працы, адбыўся поўны рэдызайн часопісу й вокладкі, зноў зьмянілася друкарня (у гэты раз мюнхенскую *“Logos”* зьмяніла лёнданская *“Ukrainian Publishers Limited”*) і часопіс перастаў называцца двухмесячнікам, ніяк не дэкляруючы сваю новую пэрыядычнасьць.

У гэты час на плечы рэдактара а. Журні й біскупа Часлава Сіповіча, які стаў аўтарам значнай часткі матэрыялаў, лёг цяжар напісаньня надзвычай вялікай колькасьці нэкралёгаў і пасьмяротных

99 Для развагі нашых чытачоў // Божым Шляхам. № 4 (142). Кастрычнік — Лістапад — Сьнежань 1974. С. 17.

жыцьцярысаў. У першую чаргу (што было асабліва цяжкім) яны былі прысьвечаныя памяці калегаў, прыяцеляў і блізкіх сяброў, зь якімі дзеячы разам выяжджалі з Бацькаўшчыны, спрабавалі будаваць новае жыцьцё ў эміграцыі, працавалі на карысьць Беларусі й беларусаў, служылі й маліліся ў беларускіх сьвятынях усяго сьвету.

Перапынак у выданьні ў 1977 г. і скарачэньне пэрыядычнасьці часопісу паўсталі, паводле словаў а. Журні, у тым ліку й дзеля гэтых прычынаў: *«У запрошлым годзе, на жаль, наш часапіс ня выйшаў зусім. Шмат на гэта злажылася прычын, а сярод іх не былі апошнімі сьмерць і зьвязаныя з ей турботы дарагіх нам сьвятароў, для якіх шмат месца пасьвячаем у гэтым 150-ым нумары. Можна было-б назваць яго юбілейным. Двох рэдактараў "Божым Шляхам" ужо спачываюць у магіле, а й трэці немаладзенькі!.. Але мы будзем старацца прадоўжываць адказную працу і прынамсі выдаць часапіс два разы ў год»*[100].

І сапраўды, двое рэдактараў на той момант ужо адышлі: і а. Леў Гарошка (†1977), і а. Язэп Германовіч (†1978). Гэта выклікала ў біскупа Часлава Сіповіча пранікнёныя словы пра іронію лёсу: *«Дзіўна яно бывае ў жыцьці: пасьля стольні розных пройдзеных шляхоў айцом Язэпам і архімандрытам Гарошкам абодвы супачылі ў той самай магіле. Тут не спраўдзілася тое, што казаў а. Язэп за жыцьця: з Гарошкам ня зыйдзешся! Ведама, што а. Леў вельмі хутка хадзіў... А цяпер зыйшліся!.. Гэтым самым яны быццам засьведчылі, што былі дзяцьмі той самай Хрыстовай Царквы, сынамі той самай Маці Беларусі, належалі да той самай Кангрэгацыі Марыянаў, абодвы былі рэдактарамі "Божым Шляхам", а што важнейшае, што абодвы ўлучна да гэраізму ймкнуліся сваім жыцьцём апраўдаць гэты магутны лозунг. Не сумніваемся, што абодвы ёсьць нашымі заступнікамі перад Богам»*[101].

Ад першага ж нумару абноўленага часопісу пачалася гэтая трагічная хваля разьвітаньня зь сябрамі й прыяцелямі, што адышлі ў вечнасьць літаральна на працягу некалькіх гадоў адзін па адным: Юрка Віцьбіч[102], а. Тамаш Падзява[103], лёнданскі беларус і навуковец Віктар Астроўскі[104], заснавальнік і першы рэдактар "Божым Шля-

[100] Да чытачоў // Божым Шляхам. № 150. 1979. С. 2.

[101] Сіповіч, Ч. Біскуп. Сьвятой памяці айцец Язэп Гэрмановіч (1890–1978) // Божым Шляхам. № 150. 1979. С. 30.

[102] Дзе-ка, А. [Сіповіч, Часлаў]. Юрка Віцьбіч // Божым Шляхам. № 1–2 (143–144). 1975. С. 2–8, 25–26.

[103] Ч. С. [Сіповіч, Чэслаў]. Айцец Тамаш Падзява (1906–1975) // Божым Шляхам. № 3–4 (145–146). 1975. С. 8–10.

[104] Сябра. Віктар Астроўскі (1912–1975) // Божым Шляхам. № 3–4 (145–146). 1975. С. 10–11.

хам” а. Леў Гарошка[105], сябра Англа-Беларускага Таварыства Артур Фэнлён, а. Ян Тарасэвіч[106], прафэсар Робэрт Оці[107], які ўрачыста адкрываў Беларускую бібліятэку імя Францішка Скарыны й чыё імя выбіта на ейнай шыльдзе, а. Пётра Татарыновіч[108], другі рэдактар “Божым Шляхам” а. Язэп Гэрмановіч[109], а. Францішак Чарняўскі[110], брат марыянін Мікола Баговіч[111] (друйскі выхаванец і сталы жыхар Марыян Хаўзу ў Лёндане).

Неабходна адзначыць, што хаця нэкралёгі й займалі значную частку зьместу нумароў апошняга пэрыяду часопісу, але, тым ня менш, і на гэты кароткі пэрыяд прыпадае колькі важных навуковых матэрыялаў: грунтоўнае дасьледаваньне гісторыі паўстаньня перакладу “Новага Запавету і Псальмоў” Лукаша Дзекуця-Малея й Антона Луцкевіча, укладзенае ў ангельскай мове Гаем Пікардам[112], чарговы матэрыял Аўгена Калубовіча з гісторыі беларускіх земляў XIV–XV стст.[113], урывак зь ягонай жа кнігі ўспамінаў “На крыжовай дарозе” пра беларусаў у савецкіх турмах і лягерах у першай палове 1930-х гг. [114]ды рэцэнзія на кнігу Арнольда Макміліна “Гісторыя беларускай літаратуры”[115]. У гэты ж час біскуп Часлаў Сіповіч, побач

---

[105] Сіповіч, Ч. Біскуп. Архімандрыт Леў Гарошка (26. II. 1911–28. VII. 1977) // Божым Шляхам. № 1 (149). 1978. С. 2–3.

[106] Д-ка, А. [Сіповіч, Часлаў]. Айцец Янка Тарасэвіч (1892–1978) // Божым Шляхам. № 150. 1979. С. 12–16.

[107] Адышлі на векі [Чэслаў Кукель. Альбэрт Кадняк (Алесь Салавей). Прафэсар Іван Любачка. Уладзімір Шыманец. Аўгень Трусаў. Максім Рудзь. Тамаш Скапец. Артур Фэнлён. Прафэсар Робэрт Оці (*Auty*)] // Божым Шляхам. № 150. 1979. С. 45–47

[108] Сіповіч, Ч. Біскуп. Пралат Пётр Татарыновіч (1896–1978) [Пралат П. Татарыновіч у Рыме (1945–1978)] // Божым Шляхам. № 150. 1979. С. 16–24.

[109] Сіповіч, Ч. Біскуп. Сьвятой памяці айцец Язэп Гэрмановіч (1890–1978) // Божым Шляхам. № 150. 1979. С. 25–32.

[110] Дзедзінка, А. [Сіповіч, Часлаў]. Айцец Францішак Чарняўскі (1893–1979) // Божым Шляхам. № 151. 1980. С. 10–14.

[111] Сьмерць і паховіны брата Мікалая Станіслава Баговіча // Божым Шляхам. № 151. 1980. С. 15.

[112] Picarda, Guy. The Heavenly Fire. A Study of the Origins of the Byelorussian New Testament and Psalms (1931) // Божым Шляхам. № 1–2 (143–144). 1975. С. 9–24.

[113] Калубовіч, А. Невядомыя апавяданьні XIV і XV ст. ст. // Божым Шляхам. № 3–4 (145–146). 1975. С. 11–15.

[114] Калубовіч, Аўген. Арышты. Арышты… // Божым Шляхам. № 150. 1979. С. 33–36.

[115] Калубовіч, А. *Arnold B. McMillin, Die Literatur der Weißrussen. A History of Byelorussian Literature. From its Origins to the Present Day. 447 pp. 1977. W. Schmitz Verlag in Giessen* // Божым Шляхам. № 150. 1979. С. 49–51.

з жыцьцярысамі й нэкралёгамі, напісаў артыкул “Рэлігійны мамэнт у творах Цішкі Гартнога”[116] й нізку новых духоўных матэрыялаў. Далей працягваў друкавацца цыкль катэхезаў а. Тамаша Падзявы “Добрая навіна”, выходзілі новыя тэалягічныя артыкулы а. Янкі Тарасэвіча, ды пра працу й набыткі Беларускай бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лёндане на старонках часопісу распавядаў а. Аляксандар Надсан[117].

У літаратурным разьдзеле ў гэты час працягваўся кірунак, узяты а. Язэпам Германовічам, і публікаваліся вершы Яўгеніі Янішчыц, Юркі Голуба, Генадзя Тумаса, Цішкі Гартнага, Алеся Барскага, Галіны Каржанеўскай і інш. Назіраньнямі і ўспамінамі зь беларускага жыцьця працягваў дзяліцца Кастусь Чабатар[118], ды свой, падпісаны псэўданімам верш даслаў Язэп Малецкі[119].

З шэрагу нумароў выбіваўся біяграфічны № 149, які меў падзагаловак *“Прысьвячаны архімандрыту Льву Гарошку”* й падаваў ня толькі нэкралёг, але й некаторыя ягоныя выступы з Ватыканскага радыё[120], а таксама надзвычай вялікую падборку фотаздымкаў з розных пэрыядаў жыцьця дзеяча[121].

Сілаў у а. Фэлікса Журні, які й сам ужо набліжаўся да 80-годзьдзя ды ня мог пахваліцца здароўем, хапіла, толькі каб дапамагчы часопісу сустрэць 1980 год. Менавіта тады выйшаў апошні 151-ы нумар, а праз два гады й сам апошні рэдактар далучыўся да сваіх папярэднікаў на могілках сьв. Панкрата ў Лёндане.

[116] Д-ка, А. [Сіповіч, Часлаў]. Рэлігійны мамэнт у творах Цішкі Гартнога // Божым Шляхам. № 150. 1979. С. 51–52.

[117] Надсон, Аляксандар а. Новыя набыткі беларускай бібліятэкі // Божым Шляхам. № 3–4 (145–146). 1975. С. 4–8; Надсон, Аляксандар а. Пяць гадоў бібліятэкі імя Францішка Скарыны // Божым Шляхам. № 1–2 (147–148). 1976. С. 13–15.

[118] Ч.-р. [Чабатар, Кастусь]. Дэлятыцкія вячоркі // Божым Шляхам. № 3–4 (145–146). 1975. С. 29–30.

[119] Лаўрыновіч, Я. [Малецкі, Язэп]. Селянін і паляўнічыя // Божым Шляхам. № 3–4 (145–146). 1975. С. 27.

[120] З рукапіснай спадчыны // Божым Шляхам. № 1 (149). 1978. С. 39; [Сьвятое Эвангельле на Дабравешчаньне, запісанае ў сьвятога Лукаша ў разьдзеле першым, I, 26–38] // Божым Шляхам. № 1 (149). 1978. С. 39, 42; [Гутарка аб рэлігійных матывах у беларускай народнай творчасьці] // Божым Шляхам. № 1 (149). 1978. С. 43–44; [Дом сьвятога апостала Пятра ў Капэрнауме] // Божым Шляхам. № 1 (149). 1978. С. 45–46; [Сьвятое Эвангельле на сямнаццатую нядзелю году, запісанае ў сьвятога Матэя ў разьдзеле трынаццатым (44–52)] // Божым Шляхам. № 1 (149). 1978. С. 47–48.

[121] Людзі і месцы, зьвязаныя з асобай і дзейнасьцю архімандрыта Льва Гарошкі ў здымках // Божым Шляхам. № 1 (149). 1978. С. 6–41.

Ніхто больш не наважыўся ўзяць на сябе адказнасьць за працяг выданьня “Божым Шляхам”. На гэтым скончылася ягоная гісторыя, гісторыя часопісу, які мог, як і многія іншыя, праляцець зьнічкай па небасхіле беларускага жыцьця, на кароткі час выпраменіўшы ўсю энэргію свайго заснавальніка й рэдактара ды застаўшыся жыць адно ў бібліяграфіях ды каталёгах. Але дзякуючы зьбегу шчасьлівых абставінаў, а ў першую чаргу — надзвычайным талентам і неймавернай працаздольнасьці а. Льва Гарошкі й а. Язэпа Германовіча, двух першых ды асноўных рэдактараў, як таксама й іх верным памочнікам — неафіцыйнай камандзе супрацоўнікаў з розных канцоў сьвету, часопіс здолеў сапраўды стацца *“адметнай зьявай… сярод выданьняў усяе паваеннай беларускай эміграцыі”*[122], а нават і ўсяго беларускага рэлігійнага друку XX ст.

[122] Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. С. 408.

# ДА 100-ГОДЗЬДЗЯ МІХАСЯ КАВЫЛЯ

*Я жыву ні бедна, ні багата:*
*Маю сэрца, а яшчэ душу.*
*У бяз вокнаў ледзяную хату,*
*Як і кажны, вельмі не сьпяшу.*
*Завязуць мяне туды калісьці,*
*Дзе ні сьлёз, ні песьняў дарагіх.*
*Нада мной у міжплянэтны высьціг*
*Паляцяць агністыя стагі.*
*Я пайду ў бязьмежжа. Не загіну.*
*Белы месяц, сінюю зару —*
*Ўсё для вас, каханыя, пакіну,*
*Толькі ў вечнасьць душу забяру.*

Міхась Кавыль, 1974

У амэрыканскім Саўт-Рывэры (штат Нью-Джэрзі) жыве беларускі пісьменьнік Міхась Кавыль, які нядаўна адсьвяткаваў 100-гадовы юбілей. Ягоная творчасьць — заўважная зьява ня толькі для эміграцыйнай, але й для ўсёй нацыянальнай беларускай літаратуры.

Пісьменьнік, рэдактар, грамадзкі дзеяч **Міхась Кавыль** (сапр. **Язэп Лешчанка**) нарадзіўся 1 сьнежня 1915 г. у вёсцы Покрашава (сёньня Слуцкі раён Менскай вобл.). Скончыў Грэскую сямігодку, у 1930–1933 гг. вучыўся ў Беларускім пэдагагічным тэхнікуме ў Менску. Быў сябрам літаратурнага аб'еднаньня "Маладняк". 23 лютага 1933 г. ён быў арыштаваны й асуджаны на тры гады. У зьняволеньне ехаў разам з Максімам Лужаніным ды Ўладзімерам Сядурам. Пакараньне адбываў на Далёкім Усходзе разам з мужам Канстанцыі Буйло Віталём Калечыцам. У канцы кастрычніка 1935 г. Міхась Кавыль быў датэрмінова вызвалены. Жыў у Варонежы (1935–1938), вучыўся ў пэдагагічным інстытуце на літаратурным факультэце (1936–1938), працаваў настаўнікам. У 1941 г. служыў у Чырвонай арміі, трапіў у нямецкі палон, празь некаторы час быў вызвалены. Ад 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, потым у Бэльгіі (працаваў у капальнях). У 1950 г. выехаў у ЗША, пасяліўся ў Саўт-Рывэры. Быў першым рэдактарам газэты "Беларуская трыбуна". Ад 1983 г. — пастаянным рэдактарам часопісу "Беларуская думка" (Саўт-Рывэр).

Міхась Кавыль пачаў пісаць яшчэ ў школьныя гады на Случчыне. У 1929 г. быў апублікаваны першы ягоны верш. Паэт пісаў таксама пад псэўданімамі Язэп Маёвы, А. Зарэцкі. Творчасьць не перапынялася і ў часе высылкі ды асабліва плённай стала на эміграцыі. У выніку Міхась Кавыль стаў аўтарам пры канцы 1950-х гг. аднаго зь першых беларускіх вянкоў санэтаў.

Суродзічы на Захадзе заўсёды з павагай ставіліся да Міхася Кавыля й ягонай творчасьці. Ад канца 1940-х да пачатку 1990-х гг. у Нямеччыне, Вялікабрытаніі й ЗША пабачылі сьвет пяць зборнікаў паэта: “Ростань” (Рэгенсбург, 1947), “Пад зорамі белымі” (Нью-Ёрк, 1954), “Першая рана” (Манчэстэр, 1960), “Цяжкія думы” (ЗША, 1961), а таксама збор твораў “Міжагнёўе” (Нью-Ёрк, 1990). А вось на радзіме, у Беларусі, так і ня быў выдадзены ніводны зборнік Міхася Кавыля.

На Захадзе традыцыйна адзначаліся юбілеі паэта. Адмысловыя публікацыі зьяўляліся да 50- і 75-годзьдзя Міхася Кавыля, ладзіліся вечарыны. Менавіта да 75-гадовага юбілею быў выдадзены Беларускім інстытутам навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку ягоны збор твораў. Матэрыялы падрыхтоўкі гэтага выданьня, перададзеныя Вітаўтам Кіпелем, склалі аснову невялікага фонду Міхася Кавыля ў Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва, які налічвае 38 адзінак захаваньня (225 дакумэнтаў). Сярод іншага тут можна знайсьці машынапісы твораў Міхася Кавыля, у тым ліку й тых, што не ўвайшлі ў тое “юбілейнае” “Міжагнёўе”, варыянты ўспамінаў, ліставаньне паэта, некаторыя фотаздымкі.

Цягам апошніх 10 гадоў Міхась Кавыль з прычыны дрэннага здароўя спыніў кантакты з суродзічамі.

Да стагодзьдзя паэта на сайце БДАМЛМ была зьмешчаная невялікая віртуальная выстава, зробленая на падставе ягонага фонду. Некаторыя яе матэрыялы мы падаем тут ня толькі, каб ушанаваць паэта, але й каб яшчэ раз зьвярнуць увагу суродзічаў на ягоную асобу й творчасьць.



Міхась Кавыль. 1952 г.




Дарчы надпіс Міхася Кавыля
Юрку Віцьбічу на адвароце здымка




Вокладка першага зборніка вершаў
М. Кавыля "Ростань" (Рэгенсбург, 1948)



Міхась Кавыль як працаўнік вугальных
капальняў у Бэльгіі. Канец 1940-х гг.

№

Да Управы Беларускага Інстытуту
Навукі й Мастацтва.
Нью-Ёрк, ЗША.

Прашу залічыць мяне у лік сяброў Беларускага Інстытуту Навукі й мастацтва. Мае пэрсанальныя дадзеныя й дадзеныя пра мой навуковы / літаратурны, мастацкі / стаж падаю ніжэй.

4 травеня 1955 г. — Лешчынскі /подпіс/

Прозьвішча й імя: Лешчынскі Язэп

Літаратурныя /мастацкія/ псэўдонім: Міхась Кавыль

Адрыс: 64 Armstrong Ave, South River, N. J.

Дата й месца народжаньня: 1 сьнежня 1915 г., на Случчыне

Асьвета й эвэнтуальны навуковы / мастацкі / стаж: Асьвета вышэйшая, друкавацца пачаў у 1930 годзе.

Навуковая ступень / калі ёсьць /: няма.

У якой галіне навукі / літаратуры, мастацтва/ маеце намер працаваць у Інстытуце: У галіне мастацкай літаратуры.

Публікаваныя навуковыя / літаратурныя, мастацкія / творы: Маю зборнікі вершаў „Расстаньне“ і „Пад зорамі белымі“.

Гатовыя да публікацыі творы: Драма „Недасьпяваная песьня“ і паэма „Першая рана“.

Анкета-заява М. Кавыля на прыняцьце яго ў БІНіМ. 1955 г.



Беларускія пісьменьнікі (зьлева направа):
Юрка Віцьбіч, Уладзімер Сядура, Міхась Кавыль.
Канец 1940-х — пач. 1950-х гг.



М. Кавыль (справа) зь Лявонам Юрэвічам. 1990-я гг.

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# ПАЎСТАГОДЗЬДЗЯ ЛЯВОНА ЮРЭВІЧА

30 чэрвеня 2015 г. сьвяткаваў сваё пяцідзесяцігодзьдзе дасьледнік эміграцыі, архівіст, сябра БІНіМу Лявон Юрэвіч. Юбілейны год ён адзначыў, дадаўшы да сваёй бібліяграфіі тры новыя кніжныя пазыцыі (усе яны згадваюцца ў сёлетняй рубрыцы “Кніжная паліца”), што само па сабе ёсьць зьявай выбітнай. Тут жа на старонках альманаху, шматгадовым сябрам рэдкалегіі й аўтарам якога Лявон Юрэвіч зьяўляецца, хочацца скарыстаць з нагоды, каб выказаць сваю падзяку й павагу да таго, што ўжо зрабіў і працягвае рабіць калега-дасьледнік.

Лявон Юрэвіч прыехаў у ЗША ў 1993 г., будучы выпускніком асьпірантуры Інстытуту літаратуры Акадэміі навук Беларусі, і даволі хутка далучыўся да БІНіМу ды ягонай архіўна-дасьледніцкай і кнігавыдавецкай працы. Ужо ад 1994 г. штогод пачынаюць выходзіць



Лявон Юрэвіч

укладзеныя ім кнігі. Спачатку гэта быў складзены на падставе неразабранага раней архіву пісьменьніка першы збор твораў Уладзімера Дудзіцкага “Напярэймы жаданьням” (Нью-Ёрк, 1994). У наступным годзе зь ягоным удзелам выйшлі кніга апавяданьняў Міколы Цэлеша “Хмары над бацькаўшчынай” (Нью-Ёрк, 1995), а таксама паказьнік літаратуры “Францыск Скарына: жыццё і дзейнасьць” (дадаткі за 1530–1988 гг., 1989–1993 гг. / складальнікі В. Грышкевіч і Л. Юрэвіч. Менск, 1995). Далей убачылі сьвет укладзеныя Лявонам Юрэвічам “Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі” Юркі Віцьбіча (Нью-Ёрк, 1996) ды падрыхтаваная да друку кніга Барыса Рагулі “Беларускае студэнцтва на чужыне” (Лёндан (Канада) — Нью-Ёрк, 1996). Пяць кніг цягам трох гадоў! І штогод выдаваць нават па некалькі для архівіста робіцца звычайнай справай. А гэта, нягледзячы на тое што адначасова ён піша артыкулы для газэты “Беларус”, альманаху “Запісы БІНіМ” і бярэ ўдзел у рэдагаваньні абодвух выданьняў.

Інтэнсіўная праца працягваецца й надалей. Ужо просты храналягічны пералік падрыхтаванага й выдадзенага Лявонам Юрэвічам уласна або пры ягоным удзеле сапраўды ўражвае:

1997 — “Архіўная кніга” (Нью-Ёрк);

1998 — “Беларусізацыя пад №” Лявона Савёнка (Крывічаніна) (Нью-Ёрк);

1999 — “Жыцьцё пад агнём: Партрэт беларускага ваеначальніка і палітычнага дзеяча Барыса Рагулі на фоне яго эпохі” (Менск); “Камэнтары: Літаратуразнаўчыя артыкулы” (Менск); “Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі” (Нью-Ёрк);

2001 — “Вырваныя бачыны: Да гісторыі Саюзу Беларускай моладзі” (Менск); “Хроніка беларускага жыцьця на чужыне 1945–1984” Міколы Панькова (Менск);

2002 — “Літаратурны рух на эміграцыі” (Менск);

2003 — “Творы” Антона Адамовіча (Нью-Ёрк); “Беларускі і беларусаведны друк на Захадзе: асобныя выданьні. Бібліяграфія” Зоры й Вітаўта Кіпеляў (Нью-Ёрк);

2004 — “Belarusian Publications in the West: bibliography [Periodicals]” Зоры й Вітаўта Кіпеляў (New York);

2005 — “Мэмуары на эміграцыі” (Менск); “Эквівалент: зборнік эміграцыйнай гістарычнай прозы” (Менск);

2006 — «Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага: Гісторыя газэтаў “Бацькаўшчына” й “Беларус” (1947–2000)» (Менск); “Каханы горад: зборнік эміграцыйнае ваеннае прозы” (Менск); “Belarusian publishing in the West: a bibliography” Зоры й Вітаўта Кіпеляў (перавыданьне, New York — Warsaw);

2007 — “Адзін Госпад, адна Вера, адзін Хрост” (Менск); “Урачыстасць у садзе: драматургія беларускай эміграцыі XX стагодзьдзя” (Менск); “Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі” Юркі Віцьбіча (перавыданьне, Смаленск)

2010 — “Творы” Ўладзімера Дудзіцкага (Менск);

2011 —“Успаміны пасла” Аляксандра Стагановіча (Менск); “Лшоно Габоо Бійрушалайм: даваенная проза” Юркі Віцьбіча (Менск);

2012 — “Шматгалосы эпісталярыюм” (Менск); “Творы” Лявона Савёнка (Крывічаніна) (разам з Ц. Чарнякевічам, Менск); “Паэзія” Янкі Юхнаўца (Менск); “Дзёньнік” Дзьмітрыя Сямёнава (Менск);

2013 — “Жанры” (Менск); “Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы” (сумесна з Н. Гардзіенкай, Менск), “Эпізоды” Яўхіма Кіпеля (перавыданьне, Менск); “Маё мястэчка” Васіля Стомы (Менск);

2014 — “Рада БНР (1970–1982): Падзеі і дакументы” (сумесна з Н. Гардзіенкай, Менск);

2015 — “Відымусы” (Менск), “Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія“ (Менск); “Рада БНР (1982–1997): Падзеі. Дакументы. Асобы” (сумесна з Н. Гардзіенкай, Менск).

У сьпісе 39 кніжных выданьняў, што пабачылі сьвет цягам 21 году. Зразумела, што для такога выніку патрэбная была падтрымка й дапамога сябраў і калегаў, але ініцыятыва амаль ва ўсіх згаданых выданьнях сыходзіла менавіта ад Лявона Юрэвіча. І гэта далёка ня ўсё, чым ён займаўся ў гэты час. Архівіст шмат сустракаўся з прадстаўнікамі “старой” эміграцыі ў ЗША й Канадзе, запісваў іх аповеды, не дазваляючы адысьці непачутымі шмат якім сьведкам мінулага. Запісы тых гутаракператвараліся ў тэксты кніг ці артыкулаў, а арыгіналы касэтаў перададзеныя сёньня ў віртуальны Беларускі архіў вуснай гісторыі.

Лявонам Юрэвічам напісаныя сотні артыкулаў для розных пэрыёдыкаў і зборнікаў як на Захадзе, гэтак і ў Беларусі. Тэматыка публікацый вельмі разнастайная, але яе галоўная скіраванасьць — беларуская эміграцыя, яе гісторыя, культура, спадчына. У сваіх тэкстах архівіст уводзіць у навуковы зварот новыя дакумэнты, вяртае забытыя імёны, разглядае быцьцё беларускай эміграцыі з розных ракурсаў і ў розных праявах. Ён піша пра асобных аўтараў, творы, выданьні, краіны, зьявы. У тэкстах Лявона Юрэвіча можна прачытаць пра эміграцыйны гумар і могілкі, пра падарожжы і пра штодзённасьць, пра прадстаўнікоў эміграцыі пачатку XX і пачатку XXI стагодзьдзяў.

Лявон Юрэвіч разнастайны ў сваіх навуковых інтарэсах і ў дзейнасьці па папулярызацыі тэмы эміграцыі ў беларускай

інтэлектуальнай прасторы. Зь ягонай ініцыятывы зьявілася некалі прэмія Янкі Юхнаўца, а потым Удзячнасьць БІНіМу, дый Прэмія імя Аляксандра й Марыі Стагановічаў не стала б рэальнасьцю безь яго. Ён ініцыяваў у 2005 г. праект стварэньня “Энцыклапэдыі беларускай дыяспары”, які, што праўда, усё яшчэ чакае сваёй рэалізацыі. Падтрыманы некалі “старымі” эмігрантамі Вітаўтам і Зорай Кіпелямі, Янкам Запруднікам, сёньня Лявон Юрэвіч сам падтрымоўвае матэрыяламі, парадамі іншых дасьледнікаў, зацікаўленых у вывучэньні беларускай эміграцыі. Акрамя таго, ён актыўна спрыяе й сам ажыцьцяўляе вяртаньне на Беларусь архіўнай спадчыны эміграцыйных дзеячаў.

Зробленага на сёньня ўжо шмат, але й пляны на будучыню застаюцца багатыя. Прыклад Лявона Юрэвіча ня толькі даказвае эміграцыйную грамадзкую аксіёму, што ўсё трымаецца на актыўных энтузіястах, але й выразна сьведчыць, як шмат можа зрабіць адзін чалавек.

***Генадзь Сагановіч***
*Менск*

# ПРА АЙЦА АЛЯКСАНДРА НАДСАНА ЯК ГІСТОРЫКА

З айцом Аляксандрам заўсёды лёгка размаўлялася. І заўжды было пра што гаварыць, — размова неяк сама знаходзіла тэмы. На ягоным стале звычайна ляжалі кнігі — разгорнутыя й складзеныя стосамі, сьвежа прывезеныя зь Беларусі й старыя клясычныя выданьні. Гаварылася ж ня толькі пра кнігі, пераклады ці гісторыю. Наогул здавалася, што ў гаворцы зь ім можна кранаць усё, што заўгодна! Да айца можна было папросту зьвярнуцца з пытаньнем, якое перарасло для цябе ў вялізную праблему, і адчуць палёгку ад простых і ясных адказаў. Але гэтым разам гутарка менавіта пра кнігі й гісторыю ці, дакладней, кнігі па гісторыі.

Падчас адной з апошніх сустрэчаў у лёнданскай Скарынаўцы мы сур'ёзна размаўлялі пра маральную адказнасьць гісторыкаў за сваю працу. Мяне турбавала пытаньне, старое як сама прафэсія дзеяпісца: пра абыходжаньне зь "некарыснымі" эпізодамі й фактамі зь мінулага. Вядзецца не пра сьведамую падтасоўку фактаў ці містыфікацыі, а пра магчымасьць не сказаць, напрыклад, пра архіўную знаходку, якая можа паказаць цэлы рух ці народ у непрывабным сьвятле. Праблема выбару гістарычнага матэрыялу, як ведама, звычайна востра стаіць перад гісторыкамі ў пару выпрацоўкі канонаў



Айцец Аляксандар Надсан. 2012 г.

любой нацыянальнай гісторыі, аднак і ў сфармаванай нацыянальнай дзяржаве дасьледніку мінулага даводзіцца пастаянна рабіць нялёгкі выбар. Ён абумоўлены тым, што прафэсійная этыка навукоўца, з аднаго боку, і грамадзкая традыцыя або, скажам прасьцей, чаканьні шырокай аўдыторыі, з другога, ня ладзяць міжсобку, а часьцей канфліктуюць. Яно й зразумела. Калі дасьледнік павінен крытычна ставіцца да традыцыі як такой, каб прадукаваць па магчымасьці аб'ектыўныя й праўдзівыя веды, то людзі прагнуць бачыць у гісторыі праявы глыбокага сэнсу, шукаюць найвышэйшай справядлівасьці й пацьверджаньня таго, што пакуты не бываюць марнымі. Невыпадкова даўно заўважана, што навуковая праца з новымі трактоўкамі гісторыі ня ў стане істотна паўплываць на ўкаранёныя ў грамадзтве погляды на мінулае. У гэтай сувязі можна зразумець матывацыю тых гісторыкаў, якія пішуць на тэму дня й пад густ шырокай грамадзкасьці — гэта забясьпечвае папулярнасьць іх кніжак і ведамасьць саміх аўтараў.

Мы не пасьпелі абмеркаваць акрэсьленую тут праблему належным чынам. Не прысьвячаў ёй айцец Аляксандар ні сваіх публікацый, ні адмысловых гутарак. Аднак тыя асобныя думкі, што ён выказваў у сваіх кнігах, рэцэнзіях ці інтэрвію, дазваляюць хоць часткова рэканструяваць ягонае навуковае крэда, або, як у свой час сфармулявала ў гутарцы зь юбілярам Вольга Калацкая, своеасаблівы *"кодэкс навукоўца"*.

Спрабуючы максымальна сьціслa акрэсьліць сутнасьць гістарычнай навукі, я падкрэсьліў бы, што яна выяўляецца перш за ўсё ў мэтадзе, які дазваляе крытыкаваць адзін варыянт гісторыі й абгрунтоўваць іншы, больш праўдзівы. Праўдзівасьць жа зьвязваецца з аб'ектыўнасьцю, г. зн. бесстароньнім поглядам, устрыманьнем ад асабістых сымпатый і палітычных ацэнак. Дык вось менавіта гэтыя ідэі можна сустрэць у згаданай гутарцы ды іншых публікацыях айца.

*"Інтэлектуальная сумленнасьць і павага да фактаў — найважнейшыя патрабаваньні да навукоўцы. І яшчэ ён мусіць мець сьмеласьць прызнаваць свае памылкі"*[1], — казаў айцец пра сваё разуменьне правілаў добрага гісторыка. Прызнаваць памылкі — гэта ўласьцівасьць мудрага чалавека, у навуцы ж гэта яшчэ й нарматыўнае правіла, таму навука — адзіная сфэра інтэлектуальнай актыўнасьці чалавека, якая павінна пераправяраць і можа абвяргаць сама сябе, — у адрозьненьне ад палітыкі ці рэлігіі! І гэты самы прынцып нам сфармуляваў сьвятар, які да сказанага дадаў, што гісторык ня мае права дазваляць сабе перадузятае стаўленьне да тэмы дасьле-

[1] "Улады Беларусі ня маюць ніякай ідэі, апроч жаданьня застацца пры ўладзе". Гутарка з айцом Аляксандрам Надсанам / гутарыла Вольга Калацкая // Arche. 2006. № 9. С. 25.

даваньня ці быць непасьлядоўным у прынцыпах. Падбор фактаў пад ідэалёгію, як практыкаваў Лаўрэнці Абэцэдарскі, — гэта палітыка, а не навука.

Далей, цалкам сугучна з падыходамі акадэмічнай навукі, айцец выразна адмежаваў працу гісторыка-дасьледніка ад творчасьці пісьменьніка, які піша пра гісторыю. *"Пісьменьнік можа прыдумляць, што хоча"*! А гісторык, каб пісаць, павінен як найглыбей вывучаць факты. Сапраўды, нават калі гісторык піша як літаратар, ён не стварае літаратуру ў сэнсе *fiction*, паколькі яго выказваньні пра мінулае, у адрозьненьне ад вольнай фантазіі пісьменьніка, падлягаюць *"праву вета крыніц"* (Райнгарт Козэлек) і павінны пастаянна пераправярацца. Прызнаньне сучаснай навукай абмежаваных магчымасьцяў пазнаваць мінулае таксама выказана зусім простай сэнтэнцыяй: *"Вядома, мы людзі недасканалыя, усяго ведаць ня можам, але мы павінны імкнуцца як мага паўней і глыбей уведаць факты"*[2]. Іншымі словамі, пры ўсёй адноснасьці нашых ведаў кожнаму адказнаму гісторыку належыць кіравацца акадэмічнай максымай.

Пра сфармуляваныя вышэй прынцыпы айцец Аляксандар гаварыў ня дзеля самакрасаваньня, — ён кіраваўся імі на практыцы. Тое, што сьвятар з пакліканьня ўмеў быць па-сапраўднаму адказным навукоўцам у абыходжаньні з гісторыяй, пацьвярджаецца ягонымі працамі. Прывяду толькі некаторыя прыклады — такія, як прыкрая гісторыя пра брыльянтавае калье княгіні Магдалены Радзівіл і друйскіх айцоў марыянаў. Акурат на гэтым можна павучыцца, як дасьледніку варта ставіцца да прыгожых легендаў і міфаў.

Калі знайшліся крыніцы, якія сьведчылі пра непрывабныя старонкі ў гісторыі беларускага рэлігійнага адраджэньня й вымагалі перагляду ролі некаторых ягоных дзеячаў, айцец Аляксандар Надсан не палічыў магчымым маўчаць ці перахоўваць дакумэнты да лепшых часоў. *"Некаму, можа, будзе балюча разьвітвацца зь легендамі, але й праўду няма сэнсу хаваць"*, — казаў ён у інтэрвію "Нашай Ніве"[3]. Сьветламу, добрасардэчнаму сьвятару хапіла грамадзянскай і навуковай адвагі, каб сказаць непрыемную праўду. Калі раней Друйскі кляштар айцоў марыянаў уяўляўся беларускім рэлігійным асяродкам, зь беларускай мовай у службе й навучаньні, то ягоныя дасьледаваньні паказалі, што ў рэальнасьці ўсё выглядала ня так прывабна. І што ня ўсё ў дзейнасьці айцоў з Друі можа лічыцца прыстойным. *"Ёсьць адна справа, у якой друйскія марыяне ня могуць пазьбегнуць*

[2] "Улады Беларусі ня маюць ніякай ідэі, апроч жаданьня застацца пры ўладзе"...

[3] Цыт. паводле: Пра боскае і людзкое: Думкі айца Аляксандра Надсана, скапіяваныя з публікацый і гутарак / уклад. Ірына Дубянецкая. Менск, 2008. С. 11.

*адказнасьці"*[4], — сувора заключыў аўтар дасьледаваньня, маючы на ўвазе адказнасьць за кальле, якое Магдалена Радзівіл падаравала на справу заснаваньня беларускай грэка-каталіцкай калегіі ў Рыме, а марыяне выкарысталі яго дзеля сваіх мэтаў. *"Чым даўжэй хаваць прыкрую праўду, тым больш балюча ўспрымуць яе людзі, калі ўрэшце даведаюцца"*[5], — абгрунтоўваў сваю пазыцыю дасьледнік.

Трымаючыся аднаго са сваіх правілаў, айцец Аляксандар доўга адкладваў працу над біяграфіяй біскупа Часлава Сіповіча. Сама задума стварыць яе ўзьнікла неўзабаве пасьля сьмерці ўладыкі, аднак кніга зьявілася ажно праз два з паловаю дзесяцігодзьдзі! Чаму? *"Патрабаваўся час, каб цьвяроза і бязь лішніх эмоцыяў агледзець падзеі ды абставіны ягонага жыцьця і сьлед, які ён пакінуў"*[6], — патлумачыў айцец Аляксандар пазьней такое рашэньне. Каб заставацца па магчымасьці аб'ектыўным, гісторык не павінен кіравацца пачуцьцямі, калі сядае пісаць. *"Там, дзе ўваходзяць у гульню асабістыя пачуцьці, цяжка чакаць аб'ектыўнасьці"*[7].

Пры такой увазе да мэтаду глыбокая эрудыцыя з шырынёй эўрапейскага сьветагляду рабілі айца Аляксандра выдатным экспэртам дасьледаваньняў па самых розных тэмах айчыннай гісторыі й культуры. Трэба аддаць належнае, ён быў ня проста чытачом, а ўдзельнікам гістарыяграфічнага працэсу — ягонаму пяру належаць некалькі дзясяткаў рэцэнзій і крытычных аглядаў[8]. Няма сумненьняў, айцец мог бы напісаць кампэтэнтныя камэнтары ці зьместоўныя рэцэнзіі на шмат якія выданьні, што прывозіліся ў Скарынаўку зь Беларусі, і ягоныя крытычныя заўвагі маглі б стаць добрай навукай тым, хто ўмее вучыцца з крытыкі. Дый такой крытыцы трэба яшчэ павучыцца! Помню, як айцец Аляксандар зачытваў прыклады зь нейкай новай кнігі й жыва сьмяяўся, жартаваў, агаляючы абсурднасьць напісанага. І сьмех гэты быў зусім ня з аўтара, а зь недарэчнасьці тэзаў, выстаўленых цэламу сьвету, або з тых алягізмаў, якія перапаўнялі выданьне, падрыхтаванае з ігнараваньнем элемэнтарных правілаў акадэмічнай працы. Гэта была крытычнасьць чалавека, які ведаў

---

4 Надсан, Аляксандар. Pro patria aliena: Кляштар беларускіх айцоў марыянаў у Друі (1924–1938). Менск, 2006. С. 142.

5 Надсан, Аляксандар. Княгіня Радзівіл і справа адраджэньня Уніі ў Беларусі. 2-е выд. Менск, 2009. С. 79.

6 Надсан, Аляксандар. Біскуп Чэслаў Сіповіч: сьвятар і беларус. Мінск, 2004. С. 5.

7 Надсан, Аляксандар. Біскуп Чэслаў Сіповіч... С. 247.

8 Гл. бібліяграфію публікацый айца Аляксандра Надсана: Сонца тваё не закоціцца, і месяц твой не схаваецца: зборнік артыкулаў па беларусістыцы і багаслоўі ў гонар 80-годзьдзя з дня нараджэньня і 50-годзьдзя сьвятарства айца Аляксандра Надсана. Менск, 2009. С. 28–32.

бязьмерна больш і падыходзіў да працы беларускіх навукоўцаў з высокімі патрабаваньнямі.

Цяпер можна толькі шкадаваць, што з навуковай крытыкай айцец Аляксандар нячаста выступаў у друку. Ці то не ставала часу, ці стрымлівалі сьціпласьць і тактоўнасьць. Ня стрымліваўся ён толькі ў тых выпадках, калі лічыў, што пэўнае выданьне дыскрэдытуе беларускія гуманітарныя навукі. Так было, калі з-пад шыльды НАН Беларусі пашыралася *"глупства астранамічнага маштабу"*[9], як ён назваў назойлівыя спробы даказаць, нібыта Скарына пры хрышчэньні атрымаў імя *"Георгі"*, або калі з блаславеньня высокага ўладыкі ў Менску выходзіла кніга пра духоўную культуру старадаўняй Беларусі, аўтарка якой ігнаравала агульнаведамыя факты й захаплялася праваслаўна-патрыятычнымі фантазіямі[10]. Выхад такіх кніг айцец успрымаў літаральна як "няшчасьце" для беларускага народу. Каб пісаць пра тую ці іншую асобу, трэба *"належна апрацаваць сабраны фактычны матэрыял"*, *"праўдзіць крыніцы"*, — нагадваў ён пра элемэнтарныя правілы акадэмічнай працы і ў крытычнай рэцэнзіі на даведнікі пра дзеячаў беларускага рэлігійнага руху XX ст. Бяз гэтай перадумовы выданьні даведачнага характару могуць быць шкодныя, бо яны не дапамагаюць, а *"толькі перашкаджаюць лепшаму разуменьню сутнага"*[11]. Патрабавальны рэцэнзэнт назваў і маральны аспэкт невыкананьня згаданага правіла: гэта дэманстрацыя непавагі да таго, пра каго пішаш. А непавагу й асабліва зьняважлівае стаўленьне да папярэдніх дасьледнікаў айцец Аляксандар дакладна ўспрымаў як яшчэ адзін выпадак, калі нельга маўчаць.

Сёньня, калі этас людзей навукі ўсё больш дэфармуецца, прынцыповасьць і адказнасьць айца Аляксандра як гісторыка ня можа ня ўражваць. Абыякавасьць да зямной славы, мэтадычная пасьлядоўнасьць і грамадзянская мужнасьць, поўная адсутнасьць хваробы захапленьня сваёй значнасьцю пры высокіх патрабаваньнях як да сябе, так і да іншых — усё гэта адпавядае ідэальным якасьцям навукоўцы. Спадзяюся, што ягоная інтэлектуальная сумленнасьць будзе служыць усім нам добрым прыкладам.

[9] Надсан, Аляксандр. Скарына і ананасы // Arche. Скарына. 2001. № 3. С. 8.

[10] Надсан, Аляксандр. Caveat Lector // Arche. 2002. № 1. С. 65–74.

[11] Надсан, Аляксандр. Даведнікі — не паэзія // Arche. 2004. № 2. С. 36–37.

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# ЗЬМІЦЕР САЎКА (26.07.1965–09.04.2016)
## (замест нэкралёгу)

Сьмерць чалавека — заўсёды сумная падзея, але адыход нестарога, поўнага жыцьця, ідэяў і плянаў на будучыню — сапраўдная трагедыя.

Мовазнаўца Зьміцер Саўка сышоў ва ўзросьце 50 гадоў, маючы багата зробленага, але яшчэ больш нязьдзейсьненага, толькі распачатага, заплянаванага.

У яго заўсёды было багата ідэяў. Маё знаёмства са Зьмітром пачалося яшчэ пры канцы 1990-х, калі ён прапаноўваў заняцца перакладам з польскай твораў Тэадора Нарбута. З гэтай ідэі, праўда, нічога не атрымалася...

Больш цесныя кантакты завязаліся ўжо на БІНіМаўскай эміграцыйна-выдавецкай глебе. На той момант (2003 г.) Зьміцер лічыўся карыфеем: выйшлі падрыхтаваны сумесна зь Вітаўтам Кіпелем томік «Беларускіх слоўнікаў і энцыкляпэдыяў» (Нью-Ёрк — Менск, 2002), томік «Эпізодаў» Яўхіма Кіпеля (Нью-Ёрк, 1998), ішла праца над кнігай пра Беларуска-амэрыканскае задзіночаньне, над Ангельска-беларускім слоўнікам Валянціны Пашкевіч, публікаваліся на старонках «Arche» ўспаміны Баляслава Грабінскага, сёстраў Каткавічанак... Я ж толькі пачынала сваю эміграцыязнаўчую дзейнасьць. Можа, часткова й таму нашыя стасункі адбываліся першым часам даволі напружана. Калі я пераняла рэдагаваньне «Запісаў БІНіМу», папярэдні нумар якіх рабіў Зьміцер, у нас выявіліся істотныя разыходжаньні ў бачаньні выгляду альманаху. Былы рэдактар паставіўся да мяне больш як



скептычна, і цягам наступных колькіх гадоў мы кантактавалі неяк прахалодна.

Але ішоў час, «Запісы БІНіМу» даволі рэгулярна выходзілі, бачылі сьвет і іншыя кнігі з маім удзелам, і стасункі нашыя зь Зьмітром Саўкам пачалі зьмяняцца. Асабліва актыўна мы сталі кантактаваць у сувязі з падрыхтоўкаю да выданьня ўспамінаў Васіля Стомы «Маё мястэчка». Тады Зьміцер ня толькі ўласна рэдагаваў — зводзіў у адно колькі рэдакцыяў таго твору, але й нібыта зжыўся зь ягонымі героямі. Ён паехаў у Лужкі, каб на месцы паглядзець, пра што пісаў Стома, склаў мапу тых старых вулачак, нарабіў здымкаў для ілюстраваньня выданьня, знайшоў сваякоў аўтара, да якіх мы потым разам езьдзілі запісваць успаміны. У выніку ў нас атрымалася вельмі цікавае выданьне, якое надзвычай хутка разышлося. Тады ж, у 2014 г., мы разам паехалі ў Лужкі, каб зладзіць прэзэнтацыю ўспамінаў, і Зьміцер правёў цэлую экскурсію па старым Стомавым мястэчку.

На той час мы ўжо кантактавалі зь Зьмітром Саўкам даволі часта. Ён з радасьцю выступаў на прэзэнтацыях БІНіМаўскіх кніг, кансультаваў па моўных пытаньнях...

Мова сапраўды была галоўнай ягонай цікавасьцю, ягоным жыцьцём. Зь Зьмітром не было проста, ягоная зацятасьць, упартасьць у моўных пытаньнях часам напружвалі, даводзілі да шаленства. Але ў такіх, часта вельмі эмацыйных, размовах адно заўсёды было відавочнае — неабыякавасьць суразмоўцы. Ён зь цікавасьцю і нават жарсьцю браўся за тлумачэньне правільнага напісаньня ці гучаньня таго ці іншага іншамоўнага слова, даводзіў сваё бачаньне, пераконваў...

За пару месяцаў да сьмерці Зьміцер прыйшоў да мяне ў архіў па нейкай справе. Мы размаўлялі нядоўга, але ён нечакана, хіба першы раз ад пачатку нашага знаёмства стаў наўпрост хваліць мяне за тое, што я раблю, і пераконваць, каб не раскідалася на дробязі, канцэнтравалася на важным... Пра хваробу Зьмітра я даведалася неўзабаве пасьля таго спатканьня...

Зьміцер Саўка актыўна супрацоўнічаў зь БІНіМам. І Інстытут цаніў ягоную дапамогу. У 2014 г. у Лужках Зьміцер атрымаў адмысловую «Ўдзячнасьць ад БІНіМу». Мы пасьпелі сказаць яму дзякуй.

Разам з тым з адыходам Зьмітра Саўкі застаўся нерэалізаваным шэраг ня толькі мовазнаўчых, але й эміграцыязнаўчых ягоных праектаў. Так і не была выдадзеная кніга пра БАЗА, не даведзеныя да друку й адрэдагаваныя ім успаміны Адама Варлыгі (Язэпа Гладкага). Выданьне гэтых кніг мае стацца ня толькі лягічным завяршэньнем распачатай працы, але й сапраўдным ушанаваньнем памяці Зьмітра.

# "ВІДЫМУСЫ" ЛЯВОНА ЮРЭВІЧА

*Юрэвіч, Лявон. Відымусы. Мінск: Лімарыус, 2015. — 180 с.*




***Аляксандар Фядута***[1]

Кніга Лявона Юрэвіча "Відымусы" сапраўды ёсьць падзеяй беспрэцэдэнтнай для беларускага літаратуразнаўства. Праз выпіскі з тэкстаў і фрагмэнты камэнтараў да іх аўтар паказвае чалавечыя адносіны, што склаліся паміж дзеячамі беларускай культуры ў эміграцыі. Кожны эпізод — рыса, нітка, уплеценая ў агульную канву пярэстага габэлену жыцьця.

Прэцэдэнт ёсьць, і Лявон Юрэвіч пра яго, несумненна, ведае — *"Записи и выписки"* расейскага акадэміка Міхаіла Леонавіча Гаспарава. Аднак у адрозьненьне ад Гаспарава Юрэвіч сьведама абмяжоўвае

[1] Пераклад з расейскай Натальлі Гардзіенкі.

поле сваіх назіраньняў беларускімі матэрыяламі. Гэта апраўдана, таму што мэтавая аўдыторыя ягонай кнігі — беларусы. З гэтага гледзішча, “Відымусы” немагчыма перакласьці на іншую мову, бо нікому, акрамя беларусаў і беларусазнаўцаў, кніга ня будзе зразумелая і, магчыма, цікавая.

А яна цікавая. Кожны з разгляданых Лявонам Юрэвічам мікрасюжэтаў цалкам можа стаць, гаворачы словамі чэхаўскага Трыгорына, “сюжэтам для невялікага апавяданьня”. У аўтара гэтых радкоў зьявіўся нават улюбёны пэрсанаж кнігі Юрэвіча — Юрка Віцьбіч. Чытаючы тэксты самога Віцьбіча, я ўяўляю сабе яго такім, якім напісаў (выразаў яго зь лістоў і газэтных артыкулаў) Лявон Юрэвіч.

Аднак тут устаноўка на чытацкае ўспрыманьне іграе з аўтарам злы жарт. Звузіўшы патэнцыйную чытацкую аўдыторыю кнігі да аднаго народу, да якога Лявон Юрэвіч, дзе б ён ні жыў, належыць сам, ён звужае яе яшчэ больш. “Відымусы” напісаныя “для пасьвечаных” — для тых, хто ведае пра існаваньне Кветкі Вітан, Пётры Сыча і Алеся Карлюкевіча да таго, як бярэ ў рукі кнігу Юрэвіча. А гэткіх на самай справе не асабліва шмат. Усім астатнім патрэбны хоць бы анатаваны іменны паказьнік-даведнік або належныя тлумачэньні ў тэкстах саміх сюжэтаў, пра якія лаканічна й таленавіта распавядае Юрэвіч. Але да гэтага аўтар не апусьціўся, пра што застаецца толькі пашкадаваць: наклад у 200 асобнікаў — мікраскапічны — у гэтых умовах аказваецца нават завялікім у параўнаньні да ліку тых, хто рэальна зразумее, пра што гэтая кніга і якое значэньне яна будзе мець для гісторыкаў беларускай літаратуры і грамадзкага жыцьця XX ст.

***Натальля Гардзіенка***

Новая кніга беларускага дасьледніка-архівіста зь Нью-Ёрку Лявона Юрэвіча, што пабачыла сьвет у менскім выдавецтве “Лімарыус”, названая старажытным словам “відымусы” — копіі, выпіскі з архіўных дакумэнтаў.

Невялікае паводле памеру выданьне (180 старонак) складаецца з кароткіх цытатаў ці пераказаў эпісталярыяў, мастацкіх твораў, артыкулаў і іншых тэкстаў, створаных як эміграцыйнымі, гэтак і мэтрапольнымі аўтарамі. Камэнтары да тых выпісак — мінімальныя, што дае магчымасьць чытачу самому рабіць высновы з прачытанага. Часам аўтарская пазыцыя выяўляецца толькі ў назове чарговага відымусу або ў самім падборы сюжэтаў.

У якасьці герояў кнігі выступаюць і клясыкі кшталту Янкі Купалы ды Якуба Коласа, і менш ведамыя ў Беларусі аўтары ці дзеячы, напрыклад Мікола Дзямідаў, Аляксандар Ружанцоў, Алесь Карповіч

ды іншыя (у іменным паказьніку пазначаныя больш за 500 асобаў). Як адзначае ў прадмове літаратуразнаўца Ганна Кісьліцына, *“у Юрэвіча-даследчыка ёсць дзіўны талент — пісаць партрэты адной дэталлю, але дэталлю невыпадковай, сутнаснай, абумоўленай самім жыццём і лёсам. Нехта можа сказаць, што гэта не партрэты, а, хутчэй, шаржы. Можа быць, але вельмі яркія і запамінальныя”*.

Выкарыстаныя аўтарам дакумэнты — часам агульнадаступныя, як збор твораў Якуба Коласа, але пераважна — архіўныя эміграцыйныя, захаваныя ў БІНіМе. Напэўна, найбольш цытуецца тэкстаў з эпісталярыяў Антона Адамовіча, Юркі Віцьбіча, Масея Сяднёва, Вітаўта Тумаша. Такім чынам, Лявон Юрэвіч на старонках “Відымусаў” уводзіць у айчынную гістарыяграфію й літаратуразнаўства значную колькасьць новых крыніцаў.

Тэматыка й храналёгія відымусаў разнастайная. Аўтар-архівіст нібыта занатоўвае для памяці ўсё, што падаецца яму цікавым з тае ці іншае нагоды. Гэта можа быць непісьменны тэкст бальшавіцкай улёткі часоў усталяваньня савецкай улады, біяграфічная нататка аўтара “Беларускай Марсельезы” Юліяна Сергіевіча, развагі пра правільнасьць выкарыстаньня словаў “балонка” й “бачына”, рэфлексіі з нагоды наданьня вайсковых званьняў эміграцыйным дзеячам і г. д. Зь відымусаў можна даведацца й пра асаблівасьці выдавецкай кухні студэнцкага эміграцыйнага пэрыёдыка, і пра падрабязнасьці побытавага жыцьця першагерарха БАПЦ, пра “Згвалчаную дзяжу” або пра ваенныя гады Валянціна Таўлая. На старонках кнігі чытач знойдзе розныя варыянты публікацыі аднаго верша Ўладзімера Жылкі і маладедамыя творы Пётры Сыча. 171 маленькі тэкст, самадастатковы, завершаны, часта кур’ёзны, сьмешны, які прымушае задумацца над нейкай канкрэтнай сытуацыяй ці праблемай. Аўтар часам дае падказкі іншым дасьледнікам, на якія тэмы, аспэкты, герояў варта зьвярнуць увагу, або дэманструе новы ракурс раней ведамай зьявы.

“Відымусы” Лявона Юрэвіча — новы жанр айчыннай літаратуры й крыніцазнаўства. Кніга можа быць карысным і нават захапляльным чытвом як для прафэсіяналаў (архівістаў, гісторыкаў, літаратуразнаўцаў), гэтак і для аматараў беларускай мінуўшчыны, сучаснасьці ды прыгожага пісьменства.

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# ДЗЬВЕ КНІГІ, ДЗЬВЕ АСОБЫ — АДНА ГІСТОРЫЯ

*Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць: успаміны / прадмова Янкі Запрудніка. Мінск: Зміцер Колас, 2015. — 442 с., [29 л.] іл.*

*Запруднік, Янка. Па гарачых слядах мінуўшчыны: Мае лісты 1952–1959 гг. Універсітэт у Бэльгіі, газэта “Бацькаўшчына”, радыё “Вызваленьне / Свабода” ў Мюнхэне й Нью-Ёрку / рэд. і прадм. В. Трыгубовіч. Мінск: Лімарыус, 2015. — 572 с.: іл. (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 26).*







Сёньня сярод беларусаў на Захадзе ёсьць два безумоўныя аўтарытэты. Прадстаўнікі паваеннай эміграцыі, яны карыстаюцца павагай прадстаўнікоў розных пакаленьняў і ня толькі эмігрантаў. Гэтыя калегі па грамадзкай працы, чыё сяброўства трывае каля сямі дзясяткаў гадоў, — Вітаўт Кіпель і Янка Запруднік. У 2015 г. пабачылі

сьвет іх кнігі: успаміны Вітаўта Кіпеля і збор лістоў Янкі Запрудніка за 1952–1959 гг. Розныя паводле жанру й храналёгіі, гэтыя тэксты шмат у чым дапаўняюць адзін аднаго. Янка Запруднік — аўтар прадмовы да ўспамінаў Вітаўта Кіпеля і адзін з іх герояў адначасова, Вітаўт Кіпель — адзін з адрасатаў і герояў лістоў Янкі Запрудніка. Іх тэксты шмат перагукаюцца і, нягледзячы на ўсю сваю адрознасьць, ствараюць нейкае агульнае ўяўленьне пра тое, чым і як жылі паваенныя беларускія эмігранты.

Успаміны Вітаўта Кіпеля маюць значную даваенную й ваенную часткі. Тут распавядаецца пра дзяцінства спачатку ў Менску, а пазьней у Налінску, куды быў сасланы як “нацдэм” бацька, ды ў Арле. Яскравыя, урыўкавыя дзіцячыя ўспаміны пра арышт бацькі, пра школы ў розных гарадах, пра маці, пра дзеда, пра штодзённыя клопаты ў пошуках ежы, асабліва ў часы акупацыі. А потым, у 1944 г., уцёкі з бацькамі ў Нямеччыну, лягеры для перамешчаных асобаў, гімназія імя Янкі Купалы, скаўтынг…

Менавіта ў сувязі з аповедам пра скаўтынг ва ўспамінах Вітаўта Кіпеля ўпершыню згадваецца імя Янкі Запрудніка. Тады, у 1946 г., яны зьбіраліся разам зь іншымі навучэнцамі гімназіі, каб стварацьбеларускі скаўтынг у *DP*-лягеры ў Міхельсдорфе. Потым на некалькі гадоў шляхі хлопцаў разышліся. На год старэйшы Янка Запруднік у 1948 г. разам зь іншымі сябрамі па “Дванаццатцы” выехаў на заробкі ў Вялікабрытанію, каб назьбіраць грошаў на паступленьне ва ўнівэрсытэт. А Вітаўт Кіпель, скончыўшы гімназію, вырашыў шукаць магчымасьці навучаньня ў самой Нямеччыне. У выніку й Вітаўт, і ягоная будучая жонка Зора Савёнак змаглі трапіць у Цюбінгенскі ўнівэрсытэт, адкуль праз некаторы час перабраліся на студыі ў Лювэн у Бэльгіі. Тут жа ў 1950 г. зьявіўся й Янка Запруднік. Вучыліся на розных факультэтах: Вітаўт Кіпель — на геалёгіі, Янка Запруднік — на гісторыі, аднак агульная цікавасьць да грамадзкай працы аб’ядноўвала. Успаміны Вітаўта Кіпеля пра студэнцкія гады ў Лювэне поўняцца згадкамі пра цікавае й разнастайнае студэнцкае жыцьцё, навуку й грамадзкую працу. Тое самае, з тымі ж дзейнымі асобамі — калегамі-студэнтамі, толькі ў іншых дэталях спатыкаем у лювэнскіх лістах Янкі Запрудніка. Між іншага, гэтаксама, як і Вітаўт заручаецца з Зорай, Янка Запруднік у Лювэне заручаецца, а потым і бярэ шлюб зь беларускай студэнткай Вольгай Харытончык. Цікавае падабенства жыцьцёвых акалічнасьцяў маладых паваенных эмігрантаў.

Пасьля навучаньня ва ўнівэрсытэце шляхі сяброў зноў ненадоўга геаграфічна разыходзяцца. Вітаўт Кіпель робіць дактарат у Лювэне й пасьля, у 1956 г., выяжджае ў ЗША, каб ажаніцца з Зораю й пачынаць наладжваць і сямейнае, і прафэсійнае, і грамадзкае жыцьцё ў Новым сьвеце. Янка Запруднік адразу па сканчэньні ўнівэрсытэту,

у 1954 г., выяжджае на працу ў Беларускай рэдакцыі Радыё "Вызваленьне" ў Мюнхене. Свой дактарат ён зробіць значна пазьней, ужо ў 1960-я ў ЗША. А тады, у 1954 г., трэба было ахвяраваць асабістымі навуковымі памкненьнямі дзеля грамадзкага абавязку: у Мюнхене Янка Запруднік ня толькі працуе на радыё, але й дапамагае ў выданьні, займаецца адміністраваньнем газэты "Бацькаўшчына", актыўна ангажуецца ў беларускае жыцьцё, арганізацыю імпрэзаў, выдавецкую справу. У гэты час Вітаўт Кіпель робіцца адным з карэспандэнтаў Янкі Запрудніка. У лістах зь Мюнхену сябра піша пра свае клопаты з "Бацькаўшчынай", пра навуковыя канфэрэнцыі, супольныя справы, у тым ліку пра выданьне зборніка Міколы Равенскага, пра жыцьцёвыя клопаты.

Толькі праз тры гады, у 1957 г., Янка Запруднік разам зь сям'ёй таксама перабіраецца ў ЗША. Тут ён працягвае працаваць на радыё, адначасова шукаючы магчымасьці для навуковай кар'еры, і, як і сябра Вітаўт, таксама адразу ангажуецца ў грамадзкую працу амэрыканскіх беларусаў. Праўда, была розьніца. Янка Запруднік — актыўны радны БНР, прыхільнік Міколы Абрамчыка. Вітаўт Кіпель — сын выразнага БЦРаўца Яўхіма Кіпеля — сам намагаўся не ангажавацца ў палітычныя справы беларускай эміграцыі, трымацца ад іх убаку, але пры гэтым стаў актыўным удзельнікам уласна амэрыканскага палітычнага жыцьця, працуючы на карысьць рэспубліканскай партыі.

Прага беларускай дзейнасьці ў абодвух беларусаў была аднолькава моцная. Янка Запруднік у выніку па-за традыцыйнай працай займаўся арганізацыяй беларускай моладзі ў Амэрыцы, працаваў у Прэзыдыюме Рады БНР, абараніў дысэртацыю па беларускім пытаньні ў царскіх Дзяржаўных думах, выкладаў беларусаведныя курсы ў каледжах, у 1981–1995 гг. быў галоўным рэдактарам газэты "Беларус"... Вітаўт Кіпель, працуючы ў 1959–1985 гг. у Досьледным цэнтры навукі й тэхналёгіі Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі, супрацоўнічаў з Радыё "Свабода", у 1972–1982 гг. быў старшынём Фэдэрацыі беларускіх рэспубліканскіх клюбаў, рэдагаваў газэту нью-джэрзійскіх рэспубліканцаў "Heritage Review". У 1976–1979 гг. Вітаўт Кіпель стаў адным з заснавальнікаў і дырэктарам беларускіх фэстываляў у Нью-Джэрзі. Заангажаваны ў гэтыя мерапрыемствы быў і Янка Запруднік, які прысьвяціў ім таксама сваю кнігу[1].

І была адна сфэра ды адна ўстанова, якая аб'яднала абодвух беларусаў яшчэ ад 1950-х і лучыць да сёньня, — беларусаведа й Беларускі інстытут навукі й мастацтва. У 1982 г., заступаючы хворага

[1] Zaprudnik, Jan. Belarusian Festivals and Exhibitions in New Jersey: Political Information Through the Language of Art (1948–2011) = Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью Джэрзі: Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948–2011). New York: Belarusian Institute of Arts and Sciences, 2013. — 198 p.

Вітаўта Тумаша, Вітаўт Кіпель стаў дырэктарам БІНіМу. Янка ж Запруднік — актыўны сябра ўправы, удзельнік усіх мерапрыемстваў, аўтар публікацый. Ва ўспамінах Вітаўта Кіпеля БІНіМ займае надзвычай важнае месца.

Кніга лістоў Янкі Запрудніка закранае толькі самыя пачаткі яго дзейнасьці ў ЗША. Тыя лісты сьведчаць пра шчырыя памкненьні й магчымасьці, пэрспэктывы іх аўтара. Успаміны Вітаўта Кіпеля паказваюць, як гэткія пэрспэктывы рэалізаваліся, у тым ліку і ў Янкі Запрудніка. Апошні прысутнічае ў згадках пра мерапрыемствы, навуковыя абмеркаваньні, штодзённае жыцьцё. Нью-Ёркская публічная бібліятэка, дзе працавалі Вітаўт і Зора Кіпелі, зьяўлялася месцам спатканьня беларускіх эмігрантаў-інтэлектуалаў, і Янка Запруднік быў адным са сталых наведнікаў-карыстальнікаў. Цікавы момант успамінаў Вітаўта Кіпеля — супольнае зь Янкам спатканьне з прафэсарам з БССР Васілёнкам, які распытваўся ў сябраў пра Сяргея Вільчыцкага (даэміграцыйнае імя Янкі Запрудніка).

Кантакты зь Беларусьсю ў 1990-х наладжваліся таксама супольна: яны прысутнічалі часта на тых самых канфэрэнцыях, зьездах, сустрэчах, але ўжо на радзіме. Надзвычай цікава чытаць ва ўспамінах пра першыя ўражаньні ад адведваньня Беларусі, пра мары й надзеі на яе адраджэньне.

Розьніца ў жанрах кніг Вітаўта Кіпеля й Янкі Запрудніка стварае розныя магчымасьці рэпрэзэнтацыі мінулага. Лісты, як мамэнтальныя здымкі, фіксуюць канкрэтны момант жыцьця: клопаты, надзеі, адчуваньні. Сабраныя разам, яны дазваляюць глыбока ўбачыць штодзённае быцьцё й нутраны сьвет аўтара. Успаміны вылучаюць у мінулым найважнейшае для аўтара, значнае, адметнае з улікам пэрспэктывы часу. Судакрананьні лістоў Янкі Запрудніка з успамінамі Вітаўта Кіпеля адпаведнага пэрыяду — агульныя імёны, падзеі — сьведчаць пра значнасьць пэўных асобаў і справаў для абодвух, а мо і ня толькі для іх. Напэўна, калі б гэтаксама былі апублікаваныя лісты Янкі Запрудніка й з наступных пэрыядаў або ягоныя ўласныя ўспаміны, тых судакрананьняў у часе можна было б заўважыць усё болей. Зрэшты, Янка Запруднік сваёй мэмуарнай спадчыне надае розныя формы, і ягоная ранейшая “Дванаццатка”, і кніга пра фэстывалі, і цяперашні эпісталярыюм — розныя варыянты аўтабіяграфічнага аповеду з уласнай каштоўнасьцю кожны.

У зьвязку з успамінамі ж Вітаўта Кіпеля варта згадаць яшчэ і ўспаміны ды дзёньнікі ягонай жонкі Зоры. Апублікаваныя асобнай кнігай “Дні аднаго жыцьця”, яны ня проста дазваляюць дапоўніць аповеды Вітаўта markdown-free розньімі дэталямі, але й дадаюць яшчэ адзін новы, іншы ракурс у рэпрэзэнтацыі жыцьця беларускіх эмігрантаў-інтэлектуалаў.

***Натальля Гардзіенка,***
***Яна Славіна***

# КНІЖНЫ АГЛЯД

*Апошнія гады сталі даволі ўраджайныя на кніжныя выданьні беларусаў замежжа й пра іх. У прадстаўлены тут кніжны агляд увайшлі нататкі далёка не пра ўсе такія кнігі, багата засталося па-за ім. Аднак гэта ня значыць, што мы пра тыя кнігі ня ведаем. Проста няма магчымасьці адмыслова напісаць пра кожную зь іх. Пры гэтым варта адзначыць новыя літаратурныя выданьні, як, прыкладам, чарговы нумар альманаху “Беларус” (Нью-Ёрк, 2015), паэтычны зборнік Юрася Шамецькі “Атава” (Менск, 2015), аўдыяальбом Пётры Мурзёнка “Дотык” (2014), зборнік твораў Юркі Геніюша “Смыком па сэрцы” (Беласток, 2013) ды іншыя. З досьледных публікацый неабходна згадаць працу Ганны Шаўчэнкі, прысьвечаную польскамоўнай творчасьці эмігранта з часоў паўстаньня 1830–1831 гг., “Паэзія Антона Гарэцкага і станаўленьне рамантычнай традыцыі ў літаратуры Беларусі XIX стагодзьдзя” (2015), а таксама кнігу беларускага дасьледніка з Ізраілю Леаніда Сьмілавіцкага “Цензура в БССР в послевоенные годы (1944–1956)” (Іерусалім, 2015). Зьвярнулі на сябе ўвагу й публікацыі творчай спадчыны прадстаўнікоў беларускага замежжа ў сучасным ягоным разуменьні. Так, у 2015 г. у Менску пабачылі сьвет дзьве кнігі Зоські Верас: адна, укладзеная Міхасём Скоблам, другая — Ганнай Запартыкай[1], а таксама важкі том выбраных твораў Вольгі й Сяргея Сахаравых, апрацаваны Сяргеем Панізьнікам і Міхасём Казлоўскім.*

*Згаданыя, як і іншыя, зьвязаныя зь беларускім замежжам тэматыкай або паходжаньнем, выданьні сьведчаць пра сталую прысутнасьць замежных беларусаў у культурнай прасторы мэтраполіі.*

---

[1] Верас, Зоська. Пакуль рука пяро трымае: успаміны, лісты / уклад. М. Скоблы. Мінск: Лімарыус, 2015. — 652 с.; Верас, Зоська. Выбраныя творы / уклад. Г. Запартыкі. Мінск: Беларуская навука, 2015. — 527 с.

*Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1970–1982): Падзеі і дакументы. Мінск: Кнігазбор, 2014. — 300 с.*




Увосень 2014 г. у Менску пабачыла сьвет новая кніга, прысьвечаная Радзе БНР на эміграцыі. Гэтым разам аўтары Натальля Гардзіенка й Лявон Юрэвіч прадставілі чытачу другі пэрыяд у паваеннай гісторыі беларускага дзяржаўнага прадстаўніцтва на эміграцыі — час старшынёўства Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Выданьне зьяўляецца працягам папярэдняй кнігі "Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы" (Мінск, 2013).

У 1970–1982 гг. Рада БНР дзейнічала ў новых абставінах міжнароднай "разрадкі", калі ў дачыненьнях заходніх краінаў і СССР адбывалася некаторае пацяпленьне, што не магло не адбіцца на магчымасьцях рэпрэзэнтацыі беларускіх інтарэсаў. Аднačасова ў 1970-я гг. назіралася актывізацыя культурна-грамадзкага жыцьця беларусаў на Захадзе: шматлікія фэстывалі, канцэрты, радыёперадачы, канфэрэнцыі й г. д. ладзіліся беларусамі ў Аўстраліі ды Вялікабрытаніі, Канадзе ды ЗША. Пры гэтым палітычныя справы часам сталі адыходзіць на другі плян, што мела таксама ўлічваць кіраўніцтва Рады БНР.

Зважаючы на зьмененыя абставіны й асэнсаваўшы досьвед папярэдняга часу, Вінцэнт Жук-Грышкевіч паспрабаваў паставіць дзейнасьць Рады БНР на больш трывалую арганізацыйную аснову, перапрацаваўшы Статут, наладзіўшы сувязь з сэктарамі, упарадкаваўшы фінансавыя справы. Тым ня менш кадравыя праблемы ў Радзе не былі канчаткова вырашаныя, а шмат ідэяў засталіся выключна на паперы. Усё гэта адлюстроўвае нававыдадзеная кніга, заснаваная на дакумэнтах Беларускага інстытуту навукі й мастацтва, Бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане, беларускіх фондаў у Канадыйскім архіве ў Атаве ды прыватных зборах.

Выданьне мае шэсьць разьдзелаў і амаль цалкам паўтарае структуру першай кнігі тых самых аўтараў. На пачатку гістарычны нарыс акрэсьлівае асноўныя кірункі дзейнасьці Рады БНР у часы Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Другі разьдзел рэпрэзэнтуе пратаколы па-

седжаньняў Прэзыдыюму й Сакратарыяту ды сэсій Рады БНР у 1970–1982 гг. Далей публікуюцца асобныя дакумэнты ды ліставаньне дзеячаў Рады. Акрамя карэспандэнцыі старшыні тут прадстаўленыя таксама лісты Раісы Жук-Грышкевіч, Міколы Нікана, Васіля Русака, Янкі Запрудніка, Аляксандра Стагановіча, Станіслава Станкевіча, Віталя Кажана.

Асобным разьдзелам ідзе бібліяграфія паасобных выданьняў Рады БНР, а таксама матэрыялаў, прысьвечаных Радзе, на старонках газэты "Беларус". І завяршае кнігу хроніка дзейнасьці Рады БНР ды іменны паказьнік.

Кніга Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча сьцірае яшчэ адну белую пляму ў гісторыі беларускай эміграцыі і робіць яе палітычную дзейнасьць больш бачнай сучасьнікам у мэтраполіі й замежжы.

*Я. С.*

*Іванова, Вольга. Асабістыя архівы Беларусі канца XVIII — пач. XXI ст. Мінск: Зміцер Колас, 2014. — 404 с. (Наклад 300 ас.)*




Кніга архівіста Вольгі Івановай зьяўляецца спробай сыстэматызацыі зьвестак па гісторыі й стане захаваньня асабістых архіваў беларускіх дзеячаў на працягу больш як двух стагодзьдзяў. Праца, што ўяўляе зь сябе публікацыю вынікаў кандыдацкай дысэртацыі аўтаркі, мае дзьве вялікія часткі. Першая зь іх мае своеасаблівы тэарэтычны характар. Тут разглядаюцца пытаньні архіўнай тэрміналёгіі, гісторыі вывучэньня й зьбіраньня асабістых архіваў у розных краінах сьвету й, зразумела, з асаблівай увагай да Беларусі. Вольга Іванова падае зьвесткі таксама пра стан захоўваньня асабістых архіваў беларускіх дзеячаў ня толькі ў розных дзяржаўных архівах, бібліятэках і музэях ды ў грамадзкіх установах краіны, але і ў замежжы.

У гэтым сэнсе нам асабліва цікавы разьдзел "Асабістыя архівы беларускага паходжаньня ў сховішчах іншых дзяржаў", дзе зроблены кароткі агляд асабістых фондаў беларускіх дзеячаў у архівах

і бібліятэках Літвы, Латвіі, Польшчы, Расеі, Украіны, Вялікабрытаніі, Францыі, ЗША, Канады, Чэхіі. Варта адзначыць, што і ў гэтай частцы тэксту згадваюцца ня толькі дзяржаўныя сховішчы, але й архіўныя зборы арганізацый беларускай эміграцыі, такіх як Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны ў Лёндане, Беларускі інстытут навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку, царква Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры. Зразумела, што пры складаньні агляду Вольга Іванова выкарыстоўвала публікацыі іншых аўтараў, і ў выніку не зусім адпаведнага разуменьня архіўна-гістарычнага эміграцыйнага кантэксту ў тэксьце ўзьніклі пэўныя недакладнасьці. Так, прыкладам, у разьдзеле згадваюцца *"архівы Антона Адамовіча, Юркі Віцьбіча, Яўгена Кавалеўскага, Янкі Юхнаўца — у Нью-Ёркскай Публічнай бібліятэцы"*, аднак не пазначаецца, што гэта дакумэнты, сабраныя тым самым БІНіМам, якi адзначаны як асобнае архіўнае сховішча на наступнай старонцы кнігі. Неабходна зазначыць і тое, што шмат з сабранага беларускім дзеячам Міколам Паньковым у межах ініцыятывы стварэньня на эміграцыі Ўсебеларускага архіву таксама трапіла ў зборы БІНіМу. Некаторыя недакладнасьці ёсьць і ў згадках пра беларускія фонды ў бібліятэцы Ратгерскага ўнівэрсытэту, асабліва што датычыць дакумэнтаў Натальлі Арсеньневай. І, безумоўна, не пашанцавала архіву Фундацыі П. Крэчэўскага ў Нью-Ёрку, які на сёньня проста не апісаны, а таму толькі згадваецца ў тэксьце, але не характарызуецца.

Аналягічныя заўвагі можна зрабіць і да другой часткі працы Вольгі Івановай, дзе ўтрымліваецца альфабэтны даведнік па асабістых фондах беларускіх дзеячаў, куды ўключаны як уласна беларускія, гэтак і замежныя сховішчы. Для практычнай карысьці й аўтара, і магчымых карыстальнікаў даведніка прывядзем тут некаторыя канкрэтныя заўвагі і ўдакладненьні да пазыцый у сьпісе.

Акула Кастусь. Да прыведзеных у даведніку зьвестак пра дакумэнты пісьменьніка, што захоўваюцца ў Беларускай бібліятэцыі імя Ф. Скарыны ў Лёндане й у Нацыянальным архіве Канады, варта дадаць, што асноўная частка ягонага асабістага архіву была пасьля сьмерці ўладальніка перададзена ў Цэнтар беларускіх дасьледаваньняў у Канзасе.

Алесь Алехнік. Да зьвестак пра гэтага дзеяча варта дадаць, што ён памёр 03.12.2006 г. (у даведніку ён фігуруе як жывы), аднак ягоныя дакумэнты былі, відавочна, перададзены ў Беларусь яшчэ пры жыцьці дзеяча, бо ўжо ў 2006 г., як і пазначана, яны прайшлі навуковае апісаньне ў БДАМЛМ.

Натальля Арсеньнева. Паводле сьведчаньняў Янкі Запрудніка, свой намер перадаць дакумэнты паэткі ў Ратгерскі ўнівэрсытэт ён так і ня зьдзейсьніў, а скіраваў іх у БДАМЛМ. Таму менавіта тут сёньня захоўваецца асноўная частка яе архіву.

Юрка Віцьбіч. Варта адзначыць, што значная частка дакумэнтаў Юркі Віцьбіча, ягонага ліставаньня й рукапісаў захоўваліся ў БІНіМе, праз якія часткова трапілі ў Нью-Ёркскую публічную бібліятэку, а таксама вялікай часткай паступова передаюцца ў БДАМЛМ, дзе плянуецца стварэньне асобнага ягонага фонду.

Вінцэнт Жук-Грышкевіч. У даведніку згадваюцца толькі дакумэнты дзеяча, што захоўваюцца ў складзе сямейнага фонду ў Дасьледчым цэнтры гісторыі эміграцыі ўнівэрсытэту Мінесоты (ЗША). Аднак асноўная частка дакумэнтаў, уключна зь біяграфічнымі, зь дзёньнікамі, ліставаньнем і інш., захоўваецца ў фондзе Раісы Жук-Грышкевіч у Нацыянальным архіве Канады. Да таго ж копіі ліставаньня Вінцэнта Жук-Грышкевіча як старшыні Рады БНР захоўваюцца таксама ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны і ў зборах БІНіМу.

Раіса Жук-Грышкевіч. Да зьвестак пра яе фонд у Нацыянальным архіве Канады, які, паводле складу дакумэнтаў, зьяўляецца сямейным, варта дадаць інфармацыю пра перададзеныя ёй дакумэнты ў тым самым Дасьледчым цэнтры гісторыі эміграцыі ўнівэрсытэту Мінесоты, а таксама пра копіі дакумэнтаў у Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны й БІНіМе.

Янка Запруднік. Да сьпісу пазначаных у даведніку дакумэнтаў дзеяча ў Ратгерскім унівэрсытэце варта дадаць зьвесткі пра значную частку ягонага асабістага архіву ў БДАМЛМ.

Аўген Кавалеўскі. Варта дадаць, што дакумэнты захоўваюцца ў БІНіМе. Рукапісы былі перададзены ў БДАМЛМ.

Дзмітры Касмовіч. Важнае дапаўненьне зьвестак, што датычаць падзей ужо пасьля выданьня кнігі Вольгі Івановай. Архіў Дзьмітрыя Касмовіча з МГА “Бацькаўшчына” быў перададзены ў БДАМЛМ.

Вітаўт Кіпель. У даведніку пададзеныя толькі зьвесткі пра дакумэнты дзеяча ў Дасьледчым цэнтры гісторыі эміграцыі ўнівэрсытэту Мінесоты. Аднак ад канца 1990-х ягоныя дакумэнты, таксама як і дакумэнты ягонай жонкі Зоры, бацькі Яўхіма й маці Марыі, перадаюцца ў БДАМЛМ, дзе заснаваны адмысловы сямейны фонд.

Янка Садоўскі. Правільны нумар фонду дзеяча ў Нацыянальным архіве Канады — MG31-D124, а пададзены ў даведніку № 2361 — гэта нумар вопісу (вопісы ў канадыйскім архіве маюць сваю асобную нумарацыю).

Мікола Сільвановіч. Правільны нумар фонду дзеяча ў Нацыянальным архіве Канады — MG31-H90.

Сяргей Хмара. У даведніку згадваюцца толькі 2 адзінкі захоўваньня дакумэнтаў пісьменьніка ў Аддзеле рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы. Аднак вялікі фонд Сяргея Хмары пад яго сапраўдным прозьвішчам (Марыян Зіняк) захоўваецца ў Нацыянальным архіве Канады (фонд MG31-H193, 5 скрыняў, 201 адзінка захоўваньня).

Зразумела, што ў даведніку, дзе агульная колькасьць асобаў больш як 1400, прысутнічае значна больш прозьвішчаў беларускіх эмігрантаў і іх асабістых архіваў. Тут можна знайсьці таксама зьвесткі пра дакумэнты Багдана Андрусышына, Радаслава Астроўскага, Язэпа Варонкі, Льва Гарошкі, Язэпа Германовіча, Васіля Захаркі, Хведара Ільляшэвіча, Івана (ня Янкі, як пазначана ў сьпісе) Касяка, Мікалая Лапіцкага, Нікандра Мядзейкі, Уладзімера Пелясы, Гая Пікарды, Анатоля Плескачэўскага, Юрыя Попкі, Аўгена Протаса, Аляксандра Ружанцова, Аляксандра й Васіля Русакоў, Анатоля Сабалеўскага, Вячаслава Сэляха, Часлава Сіповіча, Пётры Татарыновіча й іншых. Зроблена сапраўды вялікая праца па сыстэматызацыі зьвестак. Да сьпісу можна было б дадаць таксама дакумэнты Антона Міраловіча (Польшча), Міхася Швэдзюка (Вялікабрытанія), Юльяны Вітан-Дубейкаўскай (Нямеччына) ды іншых, што захоўваюцца ў БДАМЛМ. Таксама можна было б параіць пры перавыданьні падаваць у зьвестках пра дзеячаў ня толькі інфармацыю пра месца нараджэньня, але й пра месца сьмерці. Гэта бывае важна для разуменьня геаграфіі пошукаў архіваў.

Зразумела, што зроблены Вольгай Івановай даведнік далёка ня поўны й можа ўдасканальвацца. Але карысьць ад яго для дасьледнікаў відавочная. Таму можна толькі спадзявацца, што праца па папаўненьні і ўдасканаленьні зьвестак пра асабістыя фонды беларускіх дзеячаў будзе працягвацца.

*Н. Г.*

*Сузор'е беларускага памежжа: беларусы і народжаныя ў Беларусі ў суседніх краінах: энцыклапедычны даведнік / рэдакцыйная калегія: А. Мальдзіс і інш. Мінск: Энцыклапедыкс, 2014. — 588 с.*




Беларускае замежжа ёсьць зьявай шматплянавай і вельмі шырокай. Напэўна, менавіта таму ёсьць розныя спробы вылучэньня ў ім тых ці іншых больш вузкіх і зручных для асэнсаваньня часавых ці геаграфічных частак. У выніку ва ўжытку дасьледнікаў зьяўляюцца "далёкае" ці "блізкае" замежжа, "дыяспара", "эміграцыя" й г. д. Новы вялікі энцыкляпэдычны даведнік, апрацаваны пад рэдакцыяй ведамага знаўцы-беларусіста доктара Адама Мальдзіса, мае назву "Сузор'е беларускага памежжа: Беларусы і народжаныя ў Беларусі ў суседніх

краінах”. Пры гэтым паняцьце “памежжа” тут выкарыстоўваецца амаль што раўназначна таму, як у ранейшых працах, і ў прыватнасьці ў даведніку “Хто ёсць хто сярод беларусаў свету” (Мінск, 2000), выкарыстоўвалася паняцьце “блізкае замежжа”. У новым выданьні ўкладальнік адзначае, што ў разуменьне “памежных краін” увайшлі *“ўсе дзяржавы, якія ўтварыліся на тэрыторыі былога Савецкага Саюза, і Польшча”*. У выніку ў якасьці “суседніх” для Беларусі краінаў выступаюць і Таджыкістан, і Узбэкістан, і Грузія й г. д., што выглядае не зусім адпаведным лёгіцы. Падаецца, што само паняцьце “памежжа”, выкарыстанае ў назове даведніка, ня надта ўдалае.

Пры гэтым ідэя стварэньня біяграфічнага даведніка дзеячаў беларускага замежжа, безумоўна, актуальная й ня можа выклікаць сумненьняў. І зробленая складальнікамі праца, яе аб’ёмы (а сьпіс прадстаўленых тут дзеячаў складае звыш 1650 прозьвішчаў) ня могуць ня ўражваць. Чытач можа знайсьці ў даведніку асобаў ад часоў Алены Глінскай ды Сімяона Полацкага да ўдзельнікаў беларускіх суполак апошняга дзесяцігодзьдзя. Прадстаўленыя тут дзеячы з розных сфэраў: пісьменьнікі, мастакі, кампазытары, палітыкі, вынаходнікі, вайскоўцы, мэдыкі й г. д. Пераглядаючы старонкі выданьня можна адчуць гонар за тое, колькі таленавітых і актыўных людзей нарадзіла беларуская зямля.

Разам з тым фармат даведачнага выданьня, тым больш энцыкляпэдычнага, прадугледжвае датрыманьне і агульных прынцыпаў напісаньня артыкулаў, і, што таксама немалаважна, прынцыпаў адбору асобаў для даведніка. І з увагі на абшырнасьць фэномэну “замежжа” апошняе зьяўляецца надзвычай важным. У прадмове пазначана, што *“не ўключаны ў даведнік тыя беларусы ці нараджэнцы Беларусі, якія дзейнічалі ў памежных краінах, а потым пераехалі ў далёкае замежжа (напрыклад, Зыгмунт Мінейка ці Мікалай Судзілоўскі) і таму ўвойдуць у наступны даведнік — пра далёкае замежжа, або вярнуліся на радзіму”*. З гэтым якраз узьнікаюць да шэрагу асобаў, прадстаўленых у выданьні, сур’ёзныя пытаньні. Напрыклад, паводле згаданага вызначэньня, у даведніку не павінна была б прысутнічаць Кацярына Брэшка-Брэшкоўская (1844–1934), знакамітая *“бабуля рускай рэвалюцыі”*, якая ад 1919 г. жыла ў ЗША, потым у Францыі, а ад 1924 г. — у Чэхаславаччыне, дзе й памерла. Тое самае датычыць асобы польскага палітычныга дзеяча Люцыяна Жалігоўскага (1865–1947), народжанага на сучаснай Смаргоншчыне, які ў 1939 г. выехаў у Францыю, а ад 1940 г. жыў у Вялікабрытаніі, дзе быў сябрам лёнданскай Нацыянальнай Рады польскага ўраду ў выгнаньні. Таксама ў эміграцыі ў Швэйцарыі памёр філёзаф Эдвард Жалігоўскі (1815–1863).

У Ізраілі жыў ад 1993 г. мэдык, заслужаны лекар РСФСР Яўген Красік (1924–2009), а цяпер жыве пісьменьніца Алена Аксельрод

(нар. 1932). Прыкладна ад пачатку 1920-х гг. жыў у Парыжы расейскі рэвалюцыянэр, адзін зь лідараў Партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў Восіп Мінор (1861–1934). Апошнія гады жыцьця працаваў у Празе, дзе загадваў катэдрай фізыкі расейскага народнага ўнівэрсытэту віцяблянін Аляксандар Садоўскі (1859–1921). І такіх прыкладаў у даведніку багата: русіст Вацлаў Лядніцкі (1891–1967), які ад 1940-х працаваў у Брусэлі, пасьля выехаў у ЗША, дзе й памёр у Каліфорніі, вайсковец Канстанцін Смірноў (1854–1930), што памёр ў Сэрбіі й г. д. І ўжо зусім незразумела, якім чынам трапіў у даведнік, прысьвечаны беларусам у суседніх краінах, ведамы рэлігійны дзеяч Апанас Мартас (1904–1983), які ажно ад 1944 г. знаходзіўся на эміграцыі, быў япіскапам Мэльбурнскім, архіяпіскапам Буэнас-Айрэскім і Аргентынскім, архіяпіскапам Сыднэйскім і Новазэляндзкім, памёр у Аргентыне й пахаваны ў ЗША. Паводле якога крытэру ён трапіў у сьпіс дзеячаў "памежжа", вызначыць немагчыма.

Цікава таксама, чаму прысутнічае ў даведніку (згадваючы пра крытэр, агучаны ў прадмове) мэмуарыст Язэп Копаць (1762–1827), які памёр у сваім маёнтку Лушнева на Браслаўшчыне (гэта значыць — на радзіме).

У прадмове да даведніка таксама згадваецца, што ў яго не ўключаюцца *"нашчадкі беларусаў ці ўраджэнцаў Беларусі (напрыклад, Фёдар Дастаеўскі ці Дзмітры Шастаковіч), дастойныя ўваходжання ў спецыяльны даведнік"*. Тым ня менш у выданьне трапіў, напрыклад, народжаны ў сяле Тацьцянаўка Шагарскага раёну Томскай вобласьці Расеі актор Інакенці Смактуноўскі, чый *"прадзед служыў егерам у Белавежскай пушчы, выпадкова забіў зубра і па даносе быў сасланы ў Сібір"*. Магчыма, і гэты дзеяч варты быў бы таго, каб трапіць у згаданы ў прадмове *"спецыяльны даведнік"*.

Складаныя, безумоўна, і іншыя крытэры адбору асобаў. *«Рэдкалегіяй аддавалася перавага тым суайчыньнікам, якія сталі за рубяжом Асобамі (напрыклад, звычайная "планка" для навукоўцаў — не ніжэй доктара навук, для вайскоўцаў — не ніжэй палкоўніка, калі ў іх, зразумела, няма асаблівых заслуг)»*. Выходзячы з такога тлумачэньня, незразумела, чаму ў даведнік трапіла, напрыклад, Жанэта Міхайлаўна Залуцкая (1970 г. нар.), кандыдат біялягічных навук, навуковы супрацоўнік біялягічных НДІ Санкт-Пецярбурскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Прынамсі зь біяграфічнай нататкі, складзенай Алесем Карлюкевічам, не вынікаюць нейкія яе *"асаблівыя заслугі"*, таксама як і датычнасьць да структураў беларускай дыяспары ў Расеі.

Наогул, крытэрыі ўключэньня ці неўключэньня тых ці іншых асобаў у даведнік вымагаюць або нейкіх дадатковых тлумачэньняў, або выразнай дапрацоўкі. Так, сярод пэрсаналій у даведніку можна

знайсьці групу рэпрэсаваных і памерлых у Расеі ў лягерах ці высылцы дзеячаў: Уладзімер Жылка, Браніслаў Тарашкевіч, Аляксандар Цьвікевіч, Язэп Мамонька ды інш. Але пры гэтым няма, скажам, памерлага ў Паўночлагу літаратуразнаўцы Адама Бабарэкі (1899–1938), памерлага ў Тайшэцкім раёне Іркуцкай вобласьці ксяндза Адама Станкевіча (1892–1949) або памерлага на перасыльным пункце ў Саратаўскай вобласьці дзеяча Антона Луцкевіча (1884–1942). У Казахстане памёр і Зьмітрок Бядуля (1886–1941), што, відавочна, ня робіць яго дзеячам замежжа, але ці не павінен і ён, з увагі на сьмерць на чужыне, быць дададзены ў даведнік, як і, скажам, Максім Багдановіч. Сьпіс пытаньняў і заўвагаў можна працягваць далей. Відавочна, што прысутнасьць ці адсутнасьць у даведніку рэпрэсаваных дзеячаў, чыя сувязь з замежжам вызначаецца выключна месцам сьмерці, мусіць неяк абумоўлівацца таксама ў прадмове.

Цікава, чаму сярод згаданых дзеячаў ёсьць Мацей Канапацкі, а няма ягонага бацькі Гасана (1879–1953), народжанага ў Менску, памерлага ў Польшчы вайсковага дзеяча. Пытаньне таксама, ці не павінен быў (з уліку наяўнасьці іншых падобных біяграмаў) прысутнічаць у даведніку й пісьменьнік Францішак Аляхновіч (1883–1944), які памёр у Вільні. І чаму не знайшлося месца для сучаснай беларускай дзяячкі ў Эстоніі Зінаіды Клыгі й г. д. На жаль, пытаньняў да складу й адбору асобаў даведнік выклікае зашмат. Відавочна, мае быць зроблена адмысловае падрабязнае тлумачэньне, каго й паводле якой прыкметы варта адносіць да дзеячаў замежжа, а каго не. І галоўнае, гэтага тлумачэньня маюць прытрымлівацца самі складальнікі даведніка.

Зразумела, што біяграфічныя артыкулы пісалі вельмі розныя аўтары (уніфікацыі пазначэньня іх чамусьці ня зроблена, прыкладам, ёсьць Лена й Алена Глагоўская). Відавочна, гэта адбілася й на стылістыцы біяграмаў. Так, некаторыя тэксты чытаюцца як працоўнае рэзюмэ: *“захапляецца фатаграфіяй, футболам і рыбалкай. Свабодна валодае ангельскай і польскай мовамі, са слоўнікам — італьянскай, разумее літоўскую”*. Гэтак заканчваецца біяграма кандыдата філялягічных навук Віктара Хруля (нар. 1964). Не абышлося й без сапраўднага кур’ёзу. Так, у двух розных варыянтах у выданьні прысутнічае Тадэвуш Даленга Мастовіч (1898–1939). Першы раз у артыкуле Міхаіла Кузьміна й Мікалая Сьцепаненкі (с. 152), а другі раз, ужо як Тадэвуш Мастовіч Даленга, у тэксьце Юрыя Вашкевіча (с. 327).

Да саміх тэкстаў біяграмаў можна выказваць розныя заўвагі. Спынюся тут толькі на адным аспэкце. Ёсьць колькі дзеячаў, што сапраўды былі зьвязаныя з “памежжам”, але з розных выпадковых прычынаў памерлі за яго межамі. Аднак у саміх іх біяграмах прычыны пазначанага пасьля даты, неадпаведнага тэрытарыяльнаму вызначэньню

даведніка месца сьмерці не прыводзяцца. Чытачу застаецца толькі здагадвацца або шукаць у іншых крыніцах, чаму, прыкладам, выкладчык Кракаўскай музычнай школы, арганіст і дырыжор Браніслаў Руткоўскі (1898–1964) памёр у Лейпцыгу. Аўтар даведкі Іван Драўніцкі не зазначыў, што адбылося гэта ў часе, калі дзеяч быў удзельнікам журы Міжнароднага конкурсу імя Баха. Гэтаксама біяграфічная даведка астранома Васіля Энгельгарта (1828–1915), які працаваў у Расіі, не тлумачыць, чаму дзеяч памёр у Дрэздэне. Няма інфармацыі, чаму памёр у Італіі падарожнік Яўген Гвазьдзёў (1934–2008). І такіх выпадкаў таксама можна знайсьці ў даведніку дастаткова.

Ёсьць заўвагі й адносна дакладнасьці падаваных у біяграмах зьвестак. Так, прыкладам, сёньня даказана, што рэжысэр Юры Тарыч насамрэч нарадзіўся не ў беларускім Полацку, а ў польскім Плоцку й дзеячам беларускага замежжа ён наогул быць ня можа.

Энцыкляпэдычнасьць перадвызначае як аксіёму празрыстую лёгіку адбору пазыцый і дакладнасьць зьместу даведніка. Пры ўсёй шырыні пададзенай у “Сузор’і беларускага памежжа” інфармацыі выданьню бракуе строгасьці і ў адборы пазыцый, і ў структуры біяграфічных артыкулаў. Не ідзе на карысьць і адсутнасьць у артыкулах бібліяграфічных спасылак. Усё згаданае робіць даведнік, прысьвечаны “беларускаму памежжу”, занадта эклектычным і малапрыдатным для навуковага выкарыстаньня.

*Н. Г.*




*Андрусышын, Юля. Забыцьцю не адданае. Мінск: Лімарыус, 2015. — 184 с. (Наклад 300 ас.)*

Успаміны Юлі Андрусышын, што пабачылі сьвет у выдавецтве “Лімарыус”, уяўляюць зь сябе голас прадстаўніцы “пакаленьня Ды-Пі”. Народжаная ў 1932 г., яна пакінула Беларусь у 12-гадовым узросьце і ўсё сталае жыцьцё пражыла ў ЗША. Аднак нездарма кажуць, што ўспаміны дзяцінства — самыя яскравыя. Напэўна, менавіта яны й сталі галоўным матывам аўтаркі, якая вырашыла падзяліцца з сучасьнікамі сваімі згадкамі. Што праўда, тыя згадкі атрымаліся даволі эпізадычныя. Як у калей-

даскопе, перад чытачамі праходзяць вобразы даваеннага Менску, падзеі пачатку вайны, драматычнага выезду на чужыну ў 1944 г. у знакамітым цягніку БЦР, лягеры ў Нямеччыне, пераезд у ЗША, шлюб, нараджэньне дзяцей...

Варта адзначыць, што ўспаміны Юлі Андрусышын — гэта яшчэ адзін дакумэнт, дзе зафіксаваныя падзеі эвакуацыі зь Беларусі 1944 г. і пазьнейшага выезду групы беларускіх дзеячаў з Бэрліну ў Амбэрг і далей. Пра гэта ёсьць напісаныя раней тэксты Леаніда Галяка, Натальлі Арсеньневай, Галіны Ганчарэнкі, Дзьмітрыя Сямёнава ды іншых. Суаднясеньне згаданых аповедаў, дапоўненых новымі ўспамінамі, ёсьць задачай для будучых дасьледнікаў.

Нашчадак знакамітых Луцкевічаў, Шабуняў, Каралёвых, Песьлякаў Юля Андрусышын вельмі шмат надае ўвагі сям'і, сваякам. Наогул, яе нататкі-згадкі можна вызначыць як "сямейна арыентаваныя". Уласна, з 184 старонак кнігі пасьлядоўныя ўспаміны займаюць толькі 43 старонкі. Другая ж, большая частка выданьня складаецца зь дзёньнікаў двух падарожжаў Юлі Андрусышын у Беларусь (разам з сынам Багданам — ведамым сьпеваком Данчыкам), што адбыліся ў 1989 і 1993 гг. Штодзённыя запісы адлюстроўваюць асноўныя падзеі, спатканьні, ураджаньні. З нататак можна зразумець, што зьвяртала на сябе ўвагу жанчыны, якая вярнулася на Радзіму праз 45 гадоў пасьля ад'езду.

На старонках дзёньнікаў, як і ва ўспамінах, прысутнічае вялікая колькасьць людзей: гэта й шматлікія сваякі, і актыўныя беларускія грамадзкія дзеячы розных краінаў. Тэксты выдадзеныя з захаваньнем аўтарскага правапісу, і іх мова таксама адметная. Яна адлюстроўвае той менавіта эміграцыйны варыянт, дзе ў беларускія сказы ўплеценыя ангельскія словы ("іншуранс", "рэнт", "casino", "drink" і інш.). У гэтым сэнсе тэксты Юлі Андрусышын могуць быць крыніцай дасьледаваньня для моваазнаўцаў.

У тэкстах кнігі "Забыцьцю не адданае" спалучаюцца зьвесткі пра падзеі ў жыцьці аўтаркі, што адбываліся ў два розныя пэрыяды зь перапынкам на 45 гадоў. У якасьці дапаўненьня да ўспамінаў і дзёньнікаў зьмешчаныя беларуска- й англамоўныя нататкі Багдана Андрусышына, прысьвечаныя падарожжу ў Менск, а таксама 90-годзьдзю бабулі — Яніны Каханоўскай, сьледам пададзеныя яе ўласныя біяграфічнага пляну нататкі, а таксама лісты. Тут жа ёсьць "Аўтабіяграфія" Юліяна Каралёва (дзядзькі Юлі Андрусышын), урывак зь ліста Лявона Луцкевіча да Яніны Каханоўскай, тэкст Маргарыты Пяровай, прысьвечаны жыцьцю Зосі Лычкоўскай (маці Івана й Антона Луцкевічаў), а таксама ліст Іны Рытар-Каханоўскай да аўтаркі кнігі. Згаданыя тэксты дадаюць асобныя дэталі да багатай сямейнай гісторыі Юлі Андрусышын.

Адметную частку кнігі (56 старонак уклейкі) складаюць ілюстрацыі: фотаздымкі й дакумэнты зь сямейнага архіву. Значная колькасьць іх прысьвечаная падарожжам у Беларусь. З улікам адметнасьці аўтарскіх тэкстаў і шматлікіх згадак імёнаў у іх карыснымі для чытачоў зьяўляюцца камэнтары, зробленыя Валянцінай Трыгубовіч, і іменны паказьнік.

Нягледзячы на сьціпласьць і эпізадычнасьць уласна ўспамінаў, кніга Юлі Андрусышын “Забыцьцю не адданае” зьяўляецца адметным унёскам у эміграцыйную мэмуарыстыку й можа быць карысная як дасьледнікам эміграцыі, гэтак і тым, хто цікавіцца падзеямі ў Беларусі ў 1990-я гг.

*Н. Г.*

*Віцьбіч, Юрка. Наша спадчына прамаўляе. Мінск: Харвест, 2015. — 272 с. (Наклад 2000 ас.)*




Узяўшы ў рукі кнігу “Наша спадчына прамаўляе”, я не адразу змагла зразумець, што гэта за выданьне. Аўтар — эміграцыйны дзеяч, тэксты — 1960–1970-х гг., здымкі-ілюстрацыі — сучасныя. Ніякай прадмовы ад укладальніка з тлумачэньнем прынцыпаў публікацыі тэкстаў у “навукова-папулярным”, між іншага, выданьні, ніякіх спасылак, ніякіх паказьнікаў ці камэнтараў. Толькі ў кароткай традыцыйнай анатацыі да выданьня можна прачытаць, што *«кніга ўяўляе сабою цыкл нарысаў, прысвечаных помнікам архітэктуры і культуры старой Беларусі. Аўтар напісаў іх у 1969–1970 гады і агучыў у перадачах беларускай рэдакцыі радыё “Свабода”»*. Пры гэтым, адкуль узятыя самі тэксты скрыптоў Юркі Віцьбіча, нідзе не пазначаецца, як і тое, што гэтыя тэксты, відавочна, былі адрэдагаваныя або, прынамсі, пераведзеныя з арыгінальнага тарашкевічнага правапісу на сучасны. А паходжаньне тэкстаў даволі простае. Арыгіналы скрыптоў захоўваліся ў архіве БІНіМу й былі перададзеныя пры канцы 1990-х для публікацыі ў Беларусь. І цяпер укладальнік новай кнігі Анатоль Тарас узяў тое, што публікавалася

ў 2000–2001 гг. на старонках часопіса “Спадчына”, памяняў тэксты месцамі паводле ўласнай лёгікі (з храналягічнага парадку ў геаграфічны), выправіў правапіс — і ўсё. Трымайце — гатовая кніга! Зразумела, што пазнакаў пра папярэднюю часопісную публікацыю ў кнізе таксама няма.

А пры гэтым большасьць прадстаўленых у кнізе тэкстаў ня толькі існавала ў выглядзе скрыптоў, але й публікавалася Юркам Віцьбічам у розных пэрыядычных выданьнях (найбольш у газэтах “Беларус” і “Новое русское слово” або нават ва ўласным зборніку “Мы дойдем!”). Для таго каб гэта зразумець, дастаткова проста ўзяць у рукі ня так даўно выдадзеную ў сэрыі “Бібліятэка Бацькаўшчыны” кнігу таго самага Юркі Віцьбіча “Лшоно Габоо Бійрушалайм”, напрыканцы якой зьмешчана даволі вялікая бібліяграфія пісьменьніка.

Добра, што ў кнізе выдавецтва “Харвест” пры канцы знайшлося месца хоць бы для біяграфіі Юркі Віцьбіча, зь якой чытач можа зразумець, што за чалавек усе тыя тэксты напісаў. Што праўда, у біяграме, як вельмі часта ў выданьнях, падрыхтаваных Анатолем Тарасам, прысутнічаюць недакладнасьці. Так, часопіса “Ўзвышша” ў 1944 г. быў падрыхтаваны толькі адзін нумар (а не тры), хоць і ён не пасьпеў выйсьці з друку. Жывучы ў Нямеччыне пры канцы 1940-х Юрка Віцьбіч ня мог выступаць на Радыё “Свабода”, бо й радыё такога на той час не існавала. Ён пераехаў у ЗША ў 1949 г. і ўжо адтуль у 1960-я гг. супрацоўнічаў зь Беларускай рэдакцыяй Радыё “Вызваленьне” / “Свабода”. Не існавала выданьня “Беларусь”, у якім друкаваўся Юрка Віцьбіч, але была газэта “Беларус”, дзе публікаваліся ягоныя допісы. Юры Стукаліч — гэта не зусім псэўданім, а афіцыйнае імя дзеяча на эміграцыі. Кнігу “Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі” Юрка Віцьбіч не выдаваў, яна пабачыла сьвет ужо праз 20 гадоў пасьля ягонай сьмерці, у 1996 г., намаганьнямі архівіста Лявона Юрэвіча.

Безумоўна, перавыданьне спадчыны беларускай эміграцыі — справа важная й вартая. Але тое, якім чынам гэта зроблена ў кнізе “Наша спадчына прамаўляе”, ёсьць яскравым прыкладам, як нельга гэта рабіць. Вырваныя з кантэксту артыкулы 1960–1970-х гг., якія пісаліся часта як рэакцыя на пэўныя публікацыі ці падзеі ў БССР і цяпер не суправаджаюцца ніякімі тлумачэньнямі, наўрад ці могуць быць адпаведна ўспрынятыя недасьведчаным чытачом і ня будуць карысныя спэцыялістам. Тое, што было даравальна першай часопіснай публікацыі, ня можа быць прынятае для кніжнага перадруку. На жаль, чарговае выданьне Анатоля Тараса выглядае ўжо традыцыйнай прафанацыяй вяртаньня спадчыны беларускай эміграцыі.

*Н. Г.*

*Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1982–1997): Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск: Кнігазбор, 2015. — 224 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 28). (Наклад 200 ас.)*




Новая кніга Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча, выдадзеная ў 2015 г., зьяўляецца заканчэньнем своеасаблівай трылёгіі, прысьвечанай гісторыі паваеннай Рады БНР. Гэтым разам у цэнтры ўвагі дасьледнікаў знаходзіўся пэрыяд кіраваньня Язэпа Сажыча.

На 1982–1997 гг. прыпалі важныя й нават драматычныя падзеі ў жыцьці як беларускай эміграцыі, гэтак і мэтраполіі, што мелі спэцыфічны ўплыў на дзейнасьць Рады БНР. Раскол у БАПЦ і сумнаведамая “справа Лофтуса” адмоўна паўплывалі на беларускую грамаду на Захадзе наогул і на актыўнасьць беларускага дзяржаўнага прадстаўніцтва на выгнаньні ў прыватнасьці. Аднак перабудова ў СССР і ягонае падзеньне, зьяўленьне на сусьветнай мапе незалежнай Рэспублікі Беларусь ня толькі актывізавалі кантакты дыяспараў з мэтраполіяй, але й паставілі на парадак дня пытаньне пра лёс БНР. У той час, калі іншыя эміграцыйныя ўрады спынялі сваё існаваньне, перадаючы паўнамоцтвы наваўтвораным незалежным уладным структурам мэтраполій, беларускія палітыкі-эмігранты занялі пазыцыю чаканьня. У выніку Рада БНР ня толькі ня зьнікла, але й атрымала імпульс для абнаўленьня сваёй дзейнасьці й шэрагаў за кошт новых радных зь ліку прадстаўнікоў новай хвалі эміграцыі, а таксама беларусаў постсавецкага замежжа. Усе згаданыя пэрыпэтыі дзейнасьці (а часам бязьдзейнасьці) Рады БНР у пэрыяд кіраваньня Язэпа Сажыча паказаныя ў гістарычным нарысе на пачатку кнігі.

Наогул жа структура новай працы Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча цалкам адпавядае структуры папярэдніх двух выданьняў. За гістарычным нарысам ідзе разьдзел “Пратаколы”, дзе прадстаўленыя тыя пратаколы сэсій Рады БНР, якія аўтарам удалося адшукаць у архіўных сховішчах. Да пратаколаў дадаюцца “Дакумэнты”: маніфэсты, камунікаты, мэмарандумы. З улікам таго, што справаводзтва Рады ў часы Язэпа Сажыча вялося даволі эпізадычна,

вялікае месца ў новым выданьні займае разьдзел “Ліставаньне”. У карэспандэнцыі старшыні, Віталя Кажана, Раісы Жук-Грышкевіч, Аляксандра Лашука й іншых адлюстраваліся тыя нутраныя праблемы й працэсы, што адбываліся ў Радзе БНР у 1980–1990-я гг.

Даволі сьціпла, адпаведна зь дзейнасьцю дзяржаўнага прадстаўніцтва, выглядаюць “Бібліяграфія” й “Хроніка дзейнасьці Рады БНР”. А ў разьдзеле “Асобы” прадстаўленыя тры тэксты: “Жыцьцяпіс амэрыканскага беларуса” Віталя Кажана, а таксама біяграфічныя нарысы пра Барыса Рагулю й Янку Запрудніка. Фактычна менавіта на гэтых трох дзеячах трымалася Рада БНР у адзначаны пэрыяд.

Трэцяя кніга, прысьвечаная паваеннай Радзе БНР, падводзіць своеасаблівы вынік яе дзейнасьці за 50 гадоў. Чытач можа ўбачыць, як зьмяніліся ўмовы існаваньня Рады, яе прыярытэты й магчымасьці. Зьмешчаныя ў трох частках трылёгіі тэксты дазваляюць ацаніць ролю й месца дзяржаўнага прадстаўніцтва як у эміграцыйнай грамадзе, гэтак і для паваеннай гісторыі беларускай нацыянальнай ідэі наогул. Захаваньне ідэі незалежнай дзяржаўнасьці, безумоўна, зьяўляецца найбольш значным вынікам паўвекавой гісторыі паваеннай Рады БНР, якая цяпер ужо, фактычна, даступная для азнаямленьня шырокай грамадзкасьці.

*Я. С.*

*Мурзёнак, Пётра [старэйшы]. Адвечныя плыні: кніга прозы. Мінск: Кнігазбор, 2015. — 240 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 27).*




Сярод эмігрантаў апошніх 25 гадоў ёсьць адна асаблівая катэгорыя — гэта людзі, што апынуліся па-за Беларусьсю ў вельмі сталым (часьцей пэнсійным) веку, далучыўшыся да сваіх дзяцей. Іх голас у беларускіх асяродках, дзе больш актыўныя людзі маладзейшыя, амаль нячутны. Іх уражаньні ад навакольля, ад новага для іх эміграцкага жыцьця, іх радасьці й праблемы пераважна застаюцца няведамыя й сучасьнікам, і наступнікам.

Гэтак “нябачнымі” засталіся для гісторыі тыя старыя бабулі-дзядулі, што выяжджалі зь Беларусі ў часе Другой сусьветнай са сваімі дзецьмі ды ўнукамі, а пасьля апынуліся

ў Аўстраліі, Канадзе, ЗША. Яны так і не змаглі апанаваць чужую мову, яны пераважна не працавалі, а займаліся хатнімі справамі — даглядалі ўнукаў, вялі гаспадарку, даючы дзецям час зарабляць грошы. Іх добра ведалі й паважалі ў грамадзе, бо стасункі "са сваімі" былі ці не галоўнай магчымасьцю камунікацыі для іх. Аднак у пісьмовых крыніцах у найлепшым выпадку захаваліся імёны ды сьціплыя нэкралёгі.

Паміж тымі старымі эмігрантамі 1940-х і гэтымі, 1990–2000-х, відавочна, павінна быць шмат агульнага. Але ёсьць і важнае адрозьненьне. Бабулі й дзядулі 1940-х былі пераважна малапісьменныя, таму й не пакідалі ўласных успамінаў. Пэнсіянэры сучаснасьці — людзі як мінімум зь сярэдняй, а часьцей з вышэйшай адукацыяй, і магчымасьці пакінуць уласныя пісьмовыя сьведчаньні пра сябе ў іх значна большыя. Прыкладам гэтага й ёсьць кніга Пётры Мурзёнка (старэйшага), што пабачыла сьвет у сэрыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны". Выданьне, укладзенае сынам аўтара, уяўляе зь сябе зборнік апавяданьняў (у тым ліку й для дзяцей), навэлаў, аповесьцяў, а таксама ўспамінаў-нататак "Над Атавай ракой" — аповед пра жыцьцё ў Канадзе. Менавіта гэтыя ўспаміны й можна назваць новай адметнай зьявай у эміграцыйнай мэмуарыстыцы.

Аднак перш, чым зьвярнуцца да разгляду напісанага, трэба сказаць пару словаў пра аўтара. Пётра Сыльвэстравіч Мурзёнак нарадзіўся ў 1930 г. на Пастаўшчыне. Скончыў Пастаўскую пэдвучэльню, Мазырскі пэдагагічны інстытут, пасьля працаваў настаўнікам матэматыкі й фізыкі на роднай Пастаўшчыне, быў дырэктарам васьмігодкі. У 2003 г. ён разам з жонкай Данатай, таксама настаўніцай, пераехаў да сына Пётры ў Атаву. Такім чынам, апошнія амаль сем гадоў жыцьця прайшлі на канадыйскай зямлі. Тут Пётра Мурзёнак (старэйшы) разам з жонкаю далучыліся да беларускага грамадзкага жыцьця, заснавалі суботнюю беларускую школу, удзельнічалі ў розных нацыянальных мерапрыемствах. У 2008 г. сын арганізаваў выданьне першай кнігі свайго бацькі, якую склалі ўспаміны "Над Дзісенкай ракой", прысьвечаныя жыцьцю на Бацькаўшчыне. І вось цяпер пабачыў сьвет і канадыйскі працяг таго аўтабіяграфічнага аповеду.

Адметнасьць мэмуараў Пётры Мурзёнка (старэйшага) на фоне ўжо даволі багатай эміграцыйнай мэмуарыстыкі палягае ня толькі ў тым, што ён апісвае выключна падзеі 2000-х, што на сёньня прадстаўленыя ў пэрыёдыцы ды інтэрнэтных паведамленьнях. Гэтыя ўспаміны алюструюць вопыт эміграцыі менавіта таго, раней "нямога", пакаленьня людзей старэйшага веку. Маючы вострае вока, аўтар падрабязна апісвае ўсё тое, што адрозьнівае канадыйскую рэчаіснасьць ад жыцьця на Бацькаўшчыне. Вялікай часткаю гэты аповед можа быць каштоўнай крыніцай для вывучэньня эміграцыйнай штодзённасьці. Пётра Мурзёнак (старэйшы) падрабязна распавядае

пра тое, як выглядае дом сына (а потым і ўласная кватэра), вуліца, на якой ён знаходзіцца, наваколье. Аўтар адзначае вялікую колькасьць аўтамабіляў і малую — пешаходаў на вуліцах, гаворыць, як працуе грамадзкі транспарт, крамы ды інш. Паўсюль вока аўтара чапляецца за розныя дробныя дэталі, што правакуюць параўнаньні. Прыкладам, *“вокны тут, у адрозненне ад беларускіх, не адчыняюцца, а рассоўваюцца. Двайных вакон тут таксама няма. Затое зашклёныя яны ў дзве тоўстыя шыбы. На кожным вакне знадворку ёсць гусценькая металічная сетачка з вельмі тоненькага дроціку ад мух, камароў і мошак. Так што можна смела праветрываць пакой, туды не заляціць і мошка”* (с. 125).

Наогул, ва ўспамінах адзначаецца шмат таго, што выклікала зьдзіўленьне старых эмігрантаў, чыё жыцьцё пераважнай часткай прайшло ў савецкай Беларусі. *“Тут людзі не ўяўляюць сабе жыцця без аўтамабіля. Прычым ездзяць на машынах усе: мужчыны і жанчыны, маладыя людзі і старыя пенсіянеры. Нас здзівіла тое, што да машышы падыходзіць дзядулька ці бабулька з кіёчкам, адчыняе машыну, садзіцца за руль і паехаў ці паехала. Яны ўсё жыццё праездзілі на машынах, ведаюць добра правілы дарожнага руху і вялікі горад…”*(с. 128). *“Яшчэ адна акалічнасць нас здзівіла: на вуліцах мы не бачылі ніводнага паліцэйскага. Прайшло некалькі месяцаў, а мы не ведалі, як ён выглядае. Потым нам растлумачылі, што яны нясуць службу на паліцэйскіх машынах і едуць на месца здарэньня па выкліку”* (с. 129).

Асобнае месца ва ўспамінах Пётры Мурзёнка (старэйшага) займае аповед пра падарожжа на Ніягару. Тут аўтар ня толькі падае падрабязнае апісаньне паездкі, з той жа пільнай увагай да дэталяў, але й зьмяшчае зьвесткі па гісторыі й геаграфіі правінцыі Антарыа, а таксама пра беларускія помнікі ў Сьвятыні пакутнікаў у Мідлэндзе, якую ўдалося адведаць па дарозе.

Успаміны Пётры Мурзёнка (старэйшага) можна раіць чытаць тым, хто зьбіраецца эміграваць у Канаду або толькі што туды прыехаў. Аўтар цэлыя разьдзелы прысьвячае кароткаму выкладу гісторыі й геаграфіі краіны, характарыстыцы яе флоры й фаўны, багата піша пра асаблівасьці розных канадыйскіх сьвятаў. Таксама можна знайсьці зьвесткі пра праграмы тэлебачаньня, асаблівасьці працы камунальных службаў, шпіталяў. У апошнія гады жыцьця Пётры Мурзёнку (старэйшаму) давялося даволі добра пазнаёміцца з канадыйскай мэдыцынай. Частка тэксту выглядае як дзёньнік наведваньня лекараў. Аднак паза гэтым даволі сумным аповедам ёсьць і яшчэ адна вельмі важная, хоць і невялікая частка ўспамінаў — яна прысьвечана ўласна беларускаму жыцьцю. Менавіта тут аўтар расказвае пра арганізацыю суботняй школкі, пра ладжаньне Купальля, прэзэнтацыі кніг, сьвяткаваньне

60-годзьдзя Згуртаваньня беларусаў Канады. У гэтых разьдзелах згадваюцца канкрэтныя беларусы, іх сем'і (ёсьць цэлы сьпіс тых, з кім аўтар пазнаёміўся ў Канадзе), падаюцца тыя каштоўныя дэталі жыцьця беларускай грамады, якія не фіксуюцца традыцыйнымі газэтнымі справаздачамі. Дадаткам да гэтай часткі ўспамінаў можна лічыць зьмешчаныя пры канцы кнігі некалькі артыкулаў Пётры Мурзёнка (старэйшага), што публікаваліся ў газэце "Беларус", а таксама нататкі пра ліставаньне з рознымі асобамі (Вітаўтам Кіпелем зь Нью-Джэрзі, Юркам Кацярынічам з Аляскі й некаторымі іншымі).

Сабраныя разам і літаратурныя творы, і ўспаміны, і газэтныя нататкі Пётры Мурзёнка (старэйшага) ёсьць каштоўным матэрыялам для таго, каб уявіць сьвет сучаснага беларускага эмігранта-пэнсіянэра, ягоныя праблемы й радасьці, працэс ягонай адаптацыі да новага жыцьця. Акрамя таго, гэтыя тэксты даюць магчымасьць выразна ўбачыць адметнасьці эміграцыйнай штодзённасьці. Можна толькі спадзявацца, што прыклад Пётры Мурзёнка (старэйшага) стане стымулам у напісаньні ўспамінаў для іншых сучасных эмігрантаў старэйшага веку.

*Н. Г.*

*Шабовіч, Сьвятаслаў. Ад фальварка Марцінова да Фармінгтонскіх узгоркаў: Гісторыя аднаго падарожжа. Мінск: Кнігазбор, 2015. — 260 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 24).*




Новая кніга, выдадзеная ў сэрыі Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", уяўляе зь сябе ўспаміны беларускага эмігранта з так званага пакаленьня Ды-Пі. Маленства й юнацтва прадстаўнікоў гэтага пакаленьня прыпалі на вайну, бежанства 1944 г. не было вынікам уласнага выбару, а на іх сьветапогляд і стаўленьне да Беларусі вызначальна паўплывалі гады, праведзеныя ў паваеннай Эўропе, найчасьцей у лягерах для перамешчаных асобаў.

Аўтар успамінаў "Ад фальварка Марцінова да Фармінгтонскіх ўзгоркаў" Сьвятаслаў Шабовіч нарадзіўся 17 лістапада 1932 г. у маёнтку, што знаходзіўся на тэрыторы

сёньняшняга Мядзельскага раёну Менскай вобласьці. Напярэдадні і ў часе Другой сусьветнай вайны ён страціў бацькоў і ў 12-гадовым узросьце назаўсёды пакінуў Беларусь, каб у выніку складанага падарожжа па ваеннай і паваеннай Эўропе асесьці на сталае жыцьцё ў ЗША.

Мэмуары Сьвятаслава Шабовіча — яскравае адлюстраваньне досьведу “дзяцей-эмігрантаў”, іх бачаньня падзеяў і сябе. У аповедзе шмат увагі аддаецца дзіцячым успамінам пра бацькоў, родныя мясьціны, падзеі вайны, у выніку якіх хлопец з трыма сёстрамі засталіся сіротамі. Далей ідзецца пра ўцёкі на Захад разам зь сям’ёй дзядзькі — праваслаўнага сьвятара Яна Жарскага, навучаньне ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. Уражлівая дзіцячая сьвядомасьць захавала побытавыя падрабязнасьці выезду зь Беларусі й бадзяньняў па паваеннай Эўропе. Аўтар памятае, як выглядалі будынкі, ваколіцы, людзі, якіх ён сустракаў у Польшчы, Чэхаславаччыне, Нямеччыне й пазьней у ЗША.

Выразнай адметнасьцю ўспамінаў Сьвятаслава Шабовіча ёсьць гранічная аўтарская шчырасьць і непасрэднасьць, на мяжы з аголенасьцю, што пераводзіць мэмуары ў іншы жанр — споведзь. Гэты тэкст, бадай, першы ў эміграцыйнай (а мо ня толькі ў эміграцыйнай) мэмуарыстыцы, дзе аўтар расказвае пра ўласнае дзіцячае сутыкненьне з гвалтам у сям’і, з алькаголем, пра сэксуальныя назіраньні й перажываньні. Ва ўспамінах Сьвятаслава Шабовіча можна знайсьці рэфлексіі пра тое, што разьведзеная з бацькам маці мела натуральную патрэбу, каб побач быў мужчына. Таксама ў мэмуарах ёсьць згадкі, як, жывучы ў лягеры Ды-Пі ў Тырсгайме, архіяпіскап БАПЦ Філафей па начах сустракаўся з жанчынай, і ў вачах падлетка гэта выглядала зусім зразумелым. Усе гэткія, як і іншыя падобныя, моманты ў тэксьце выглядаюць арганічна і суправаджаюцца шчырымі развагамі і назіраньнямі за чалавечай прыродай і сутнасьцю міжчалавечых дачыненьняў.

Яшчэ адна спэцыфічная рыса ўспамінаў Сьвятаслава Шабовіча — своеасаблівая цыклічнасьць аповеду. Кожны разьдзел пісаўся як адносна самастойны ўспамін з завершанай структурай, таму да найбольш важных падзеяў аўтар вяртаецца неаднойчы, згадваючы іх з рознымі падрабязнасьцямі. Да таго ж, відавочна, штуршком да пісаньня мэмуараў стала зьдзейсьненае на пачатку XXI ст. падарожжа па Эўропе й наведваньне Беларусі. Ад гэтых сваіх уражаньняў аўтар адштурхоўваецца ў аповедах.

Тэкст “З фальварка Марцінова да Фармінгтонскіх узгоркаў” пісаўся першапачаткова як успаміны для сям’і — для дзяцей, унукаў, праўнукаў. І гэта адлюстравалася ня толькі ў ангельскай мове

арыгіналу, удала перакладзенага для кніжнай публікацыі Віялетай Кавалёвай. Адбітак уяўленьня аўтара пра мэтавую аўдыторыю можна знайсьці ў тлумачэньнях некаторых рэчаў і зьяваў, людзям зь беларускім досьведам блізкіх і зразумелых. Так, народжаным у ЗША нашчадкам трэба было тлумачыць, як рабілі са збожжа муку, як без электрычнасьці ўзьбівалі масла, як выглядала лазьня і г. д. З пазыцыі ўжо амэрыканца Сьвятаслаў Шабовіч тлумачыць, чаму вясковы сабака мусіў жыць у будцы й што гэта не ўспрымалася як зьдзек з жывёлы. Гэткія ж рэфлексіі з пазыцыі гадоў, пражытых у ЗША, над рэпрэсіямі, пад якія трапіў бацька, над дзейнасьцю партызанаў, што забілі маці й бабулю, над бамбардаваньнямі нямецкіх гарадоў ды іншым — таксама неад’емная частка ўспамінаў.

Сытуацыя Сьвятаслава Шабовіча адметная яшчэ й тым, што на эміграцыі ён быў мала заангажаваны ў беларускую дзейнасьць. Усьведамляючы сябе беларусам, ён пераважна трапляў у асяродкі, далёкія ад сталай нацыянальнай актыўнасьці суродзічаў. І значная частка ягоных і “нямецкіх” успамінаў, і “амэрыканскіх” — гэта аповед пра падзеі ўласнага сталеньня, пошуку месца ў жыцьці.

Аўтар успамінаў зь дзяцінства марыў пра Амэрыку, куды езьдзіў калісьці на заробкі ягоны бацька й дзе застаўся бацькавы брат. І цалкам заканамерна, што жыцьцёвае падарожжа прывяло Сьвятаслава Шабовіча ў 1949 г. менавіта ў ЗША. “Амэрыканская” частка ўспамінаў, што ўвайшлі ў гэтую кнігу, закранае толькі прыезд, спатканьне зь дзядзькам Пятром, пераезд да яго ды службу ў амэрыканскай арміі. Па-за апублікаваным тэкстам засталося жыцьцё ў Дэтройце ў сям’і аднаго з найбольш дзейных мясцовых беларусаў Міколы Прускага, навучаньне ва ўнівэрсытэце, уладкаваньне на працу (Сьвятаслаў Шабовіч амаль усё жыцьцё працаваў унівэрсытэцкім бібліятэкарам), стварэньне сям’і зь Люсіль Бат... Аднак, нягледзячы на пэўную незавершанасьць аповеду, гісторыя жыцьцёвага падарожжа прадстаўніка “пакаленьня Ды-Пі” мае каштоўнасьць і з гістарычнага, і зь літаратурнага гледзішча.

Сёньня спадарства Шабовічы жывуць у Фармінгтан Хілз (штат Мічыган). Нягледзячы на абставіны жыцьця ў розных аддаленых штатах, Сьвятаслаў Шабовіч падтрымоўваў сувязі зь беларускімі суродзічамі. Дзякуючы гэтаму ягоныя мэмуары й ня зьніклі ў моры сямейных амэрыканскіх успамінаў. Заўважаныя Вітаўтам Кіпелем, яны урэшце знайшлі свой шлях да чытача й з камэнтарамі ды ілюстрацыямі зь сямейнага архіву сталі яшчэ адным яскравым голасам таго самага “пакаленьня Ды-Пі”.

*Н. Г.*

*Юрэвіч, Лявон. Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія. Мінск: Кнігазбор, 2015. — 624 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 25).*




Сёлета айчынныя навукоўцы адзначаюць умоўны юбілей — 525 гадоў ад нараджэньня Францыска Скарыны. Гэтай даце прымеркаваная й новая кніга беларускага архівіста зь Нью-Ёрку Лявона Юрэвіча.

Францыска Скарыну можна лічыць знакавай постацьцю для беларускіх эмігрантаў у розных аспэктах. Асоба "першага эмігранта" ўспрымалася суродзічамі па-за мэтраполіяй з асаблівай цеплынёй праз усьведамленьне агульнасьці выгнаньніцкага лёсу й пэўнай уласнай місійнасьці ў служэньні Бацькаўшчыне. Нездарма імя Скарыны стала бадай самым папулярным у назвах эміграцыйных суполак і арганізацый, а яго знакі й партрэты выкарыстоўваліся й публікаваліся ці не найбольш з усіх беларускіх гістарычных дзеячаў.

Постаць Францыска Скарыны зьвяртала на сябе асаблівую ўвагу эміграцыйных навукоўцаў сваім выразным "рэпрэзэнтацыйным" патэнцыялам. Асоба, якая выдала першую кнігу ва Ўсходняй Эўропе, зрабіла адзін зь першых перакладаў Бібліі на эўрапейскую мову, не магла не выклікаць павагі (а часам і зайздрасьці, і спробаў прысабечыць першадрукара) з боку суседзяў. Скарынам беларусы на Захадзе адкрыта ганарыліся, ягоныя дасягненьні не правакавалі ні пытаньняў, ні пярэчаньняў. Папулярызуючы першадрукара эміграцыйныя навукоўцы й грамадзкія дзеячы выконвалі тое ж заданьне "паставіць Беларусь на сусьветную мапу", засьведчыць эўрапейскасьць беларускай культуры, нацыянальную адметнасьць беларусаў.

Разнастайная рэпрэзэнтаванасьць Францыска Скарыны й ягонай справы ў асяродзьдзі беларускіх эмігрантаў XX ст. і складае асноўны зьмест кнігі Лявона Юрэвіча. У першым разьдзеле — "Пачаткі скарынаведы на эміграцыі" — прадстаўленыя першыя спробы асэнсаваньня асобы й спадчыны першадрукара, зробленыя яшчэ ў міжваенны час Вацлавам Ластоўскім, Пётрам Крэчэўскім, Тамашом Грыбам. Далей у кнізе зьмяшчаецца інфармацыя пра некаторыя значныя пэрыёдыкі з паваеннай Нямеччыны й прысьвечаныя Францыску Скарыну тэксты зь іх.

Вялікая трэцяя частка кнігі “Імя Скарыны ў дзейнасьці эміграцыйных арганізацый” засяроджаная найбольш на пачатках Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ды скарынаведных дасьледаваньнях доўгачасовага ягонага старшыні Вітаўта Тумаша. Зьмястоўнае ліставаньне апошняга складае адну з найцікавейшых частак выданьня. Акрамя БІНіМу, у разьдзеле прадстаўленая таксама Бібліятэка імя Ф. Скарыны ды адзін з скарыназнаўчых тэкстаў а. Аляксандра Надсана.

У наступнай частцы кнігі Лявон Юрэвіч сабраў тэксты, прысьвечаныя своеасабліваму працягу Скарынавай справы на эміграцыі. Тут можна прачытаць пра календарыстыку, беларускія маркі й кружэлкі на Захадзе, унікальныя кнігарукапісы Міколы Панькова, самавыдавецкія выданьні, асобныя аспэкты творчасьці Янкі Юхнаўца, а. Язэпа Германовіча ды іншае.

Ведама, што дзякуючы разнастайнасьці сваёй дзейнасьці Францыск Скарына быў блізкім і выдаўцам, і кніганошам, і лекарам, і перакладнікам, і падарожнікам, і чытачам. Зь піетэтам ставіліся да яго асобы сьвецкія й духоўныя... Усіх, хто займаўся й займаецца кніжнай справай, можна лічыць пасьлядоўнікамі Скарыны. Галерэя іх вобразаў і тэкстаў склала асобную, пятую частку кнігі Лявона Юрэвіча. Чытачу прадстаўленыя малаведамыя факты пра перакладніка Яна Пятроўскага, філятэліста Расьціслава Палчанінава, бібліятэкараў Васіля Шчэцьку, Льва Акіншэвіча ды Аляксандра Ружанцова, аўтараў і выдаўцоў Вацлава Пануцэвіча, Часлава Будзьку, Пётру Палягошку, Кастуся Якуба-Птаха, Аляксандра Орсу, Міколу Гарошку, мастакоў Міхася Саўку-Міхальскага ды Міколу Казака, нямецкага беларусіста Норбэрта Рандава.

Самога аўтара-ўкладальніка кнігі, што адсьвяткаваў у 2015 г. 50-гадовы юбілей, таксама можна назваць Скарынавым пасьлядоўнікам. Апошні разьдзел кнігі “Post scriptum: дзеці БССР” прысьвечаны ягоным уласным дасьледчыцкім пачаткам, асобам Язэпа Дылы, Рыгора Родчанкі, а таксама маці — Алене Юрэвіч.

У прадмове зазначана, што кніга прысьвячаецца памяці айца Аляксандра Надсана, што сёлета адышоў. Сам айцец — скарыназнаўца, кніжнік, захавальнік бібліятэкі, перакладнік богаслужбовых тэкстаў — важны для аўтара ня толькі як пасьлядоўнік Скарыны, але й як духоўны аўтарытэт, старэйшы сябра, які даваў падтрымку ў архіўна-дасьледчай працы.

Кніга Лявона Юрэвіча стала юбілейнай і для сэрыі “Бібліятэка Бацькаўшчыны”. Можна яе лічыць і своеасаблівым першым крокам у падрыхтоўцы да 500-годзьдзя беларускага кнігадрукаваньня, што будзе адзначацца ў 2017 г.

*Н. Г.*

*Гардзіенка, Алег. Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР): стварэнне — дзейнасць — заняпад (1943–1995). Мінск: Кнігазбор, 2016. — 480 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 29). (Наклад 200 ас.)*




У гісторыі беларускага нацыянальнага руху XX ст. было некалькі палітычных структураў, што на дзесяцігодзьдзі передвызначылі зьмест і формы рэпрэзэнтацыі беларускіх інтарэсаў, асабліва на Захадзе. Адной зь іх зьяўлялася Беларуская Цэнтральная Рада. Менавіта ёй і прысьвечаная новая кніга менскага журналіста й дасьледніка Алега Гардзіенкі.

У выданьні, прадмову да якога напісалі Вітаўт Кіпель і Янка Запруднік, можна вылучыць дзьве вялікія зьместавыя часткі. Першую складае пасьлядоўны аўтарскі выклад паўвекавой гісторыі БЦР, другую — дапаможныя для разуменьня гэтай гісторыі матэрыялы: бібліяграфіі, храналёгія, публікацыі дакумэнтаў, лістоў, біяграфіі дзеячаў.

Нельга сказаць, што Беларуская Цэнтральная Рада раней была пазбаўленая ўвагі дасьледнікаў. Аднак папярэднікі пераважна абмяжоўваліся разглядам менавіта ваеннага пэрыяду яе дзейнасьці. У кнізе ж Алега Гардзіенкі ўпершыню гісторыя БЦР прысутнічае як цэласная зьява — ад яе заснаваньня ў часы нямецкай акупацыі праз прыпыненьне дзейнасьці ў 1945 г. і наступнае адраджэньне ў 1948 г. ужо як эміграцыйнай структуры да сьмерці яе апошняга афіцыйнага Прэзыдэнта Міхася Зуя.

У зьмешчаным у кнізе гістарычным нарысе аўтар зьвяртае ўвагу на перадумовы й абставіны стварэньня БЦР Радаславам Астроўскім у 1943 г., пачаткі яе дзейнасьці, правядзеньне Другога Ўсебеларускага кангрэсу, арганізацыю Беларускай краёвай абароны, эвакуацыю зь Беларусі, дзейнасьць у Нямеччыне да капітуляцыі. На падставе дакумэнтаў і сьведчаньняў удзельнікаў Алег Гардзіенка паказвае, як суадносіліся ідэйныя памкненьні дзеячаў БЦР і рэальныя магчымасьці.

Багата ўвагі ў кнізе аддадзена падзеям аднаўленьня БЦР у 1948 г., царкоўнаму й палітычнаму падзелу беларускай эміграцыі, яго прычынам і наступствам. Алег Гардзіенка зазначае, што зацятае змаганьне

Рады БНР і БЦР у паваенны час ня так мела ідэйныя падставы, як стала вынікам асабістага антаганізму палітычных лідараў.

Пасьлядоўна выкладзены ў гістарычным нарысе падзеі й праблемы эміграцыйнага пэрыяду дзейнасьці БЦР. Разглядаюцца пленумы, канфлікты ня толькі з Радай БНР, але й зь Беларускім кангрэсавым камітэтам Амэрыкі, Беларускім вызвольным рухам. Аўтар мэтадычна аднаўляе храналёгію падзеяў, зьвязаных з прыпыненьнем дзейнасьці БЦР у 1960-я і чарговым аднаўленьнем яе ў 1970-я, са сьціплай актыўнасьцю наступнікаў Радаслава Астроўскага: Нікандра Мядзейкі й Міхася Зуя. Цікава, што, нягледзячы на відавочны пройгрыш ва ўплыве на эміграцыі Радзе БНР, нават пасьля сьмерці апошняга Прэзыдэнта БЦР палітычным апанэнтам не ўдалося дамовіцца аб аб'яднаньні. Адмыслова скліканая ў 1996 г. нарада не прынесла вынікаў: група прыхільнікаў БЦР, нават без афіцыйнага Прэзыдэнта, захавалася асобнай, нягледзячы на тое, што ўласна гісторыя Рады на гэтым ужо скончылася.

Зьмешчаныя ў кнізе Алега Гардзіенкі пасьля гістарычнага нарысу дакумэнты БЦР і ліставаньне яе дзеячаў падмацоўваюць і дапаўняюць аўтарскі аповед некаторымі дэталямі, у тым ліку й міжасабовых адносінаў. Ёсьць у кнізе й невялікая ўклейка са здымкамі, якія ілюструюць розныя моманты гісторыі арганізацыі.

Нягледзячы на важнасьць падыходу да гісторыі БЦР як цэласнасьці, нельга не заўважыць адну ня надта добрую адметнасьць новай кнігі. Багатая крыніцазнаўчая база працы Алега Гардзіенкі, магчымасьці доступу да эміграцыйных архіваў БЦР, відаць, зрабілі аўтару мядзьведжую паслугу. Шырокае цытаваньне ў гістарычным нарысе маладаступных іншым дасьледнікам дакумэнтаў пераважае над іх аналізам. Таму праца атрымалася традыцыйна факталягічнай і пакідае чытачам магчымасьць самім рабіць высновы з прыведзеных шматлікіх фактаў.

Разам з тым сёньня можна сказаць, што з выхадам кнігі Алега Гардзіенкі ў палітычнай гісторыі беларускай паваеннай эміграцыі зьнікла яшчэ адна значная лакуна.

*Н. Г.*

# ПРЭМІЯ ІМЯ АЛЯКСАНДРА Й МАРЫІ СТАГАНОВІЧАЎ

У 2011 г. у выдавецтве “Лімарыус” была запачаткаваная кніжная сэрыя “Беларуская мэмуарная бібліятэка”, галоўнай ідэяй якой стала публікацыя ўспамінаў беларусаў і пра Беларусь, што зьяўляюцца адным з жанраў непрыдуманай літаратуры. Першай кнігай, якая пабачыла сьвет у гэтай сэрыі, былі “Ўспаміны пасла” эмігранта Аляксандра Стагановіча (1890–1988). У хуткім часе зьявілася й кніга ягонай жонкі Марыі Стагановіч (1898–1995) “Мае ўспаміны”. У 2015 г. спаўнялася 125 гадоў ад нараджэньня Аляксандра Стагановіча й 20 гадоў ад сьмерці Марыі, і іх дачка, ведамая мастачка, што жыве ў Нью-Ёрку, Тамара Стагановіч-Кольба, жадаючы ўшанаваць памяць пра бацькоў і падтрымаць непрыдуманую літаратуру, вырашыла заснаваць прэмію іхняга імя за кнігу ў гэтай галіне.

Увосень 2014 г. быў абвешчаны конкурс кніг на прэмію імя Стагановічаў. Партнёрамі ў арганізацыі конкурсу і ўручэньні прэміі выступілі: Беларускі інстытут навукі й мастацтва, Саюз беларускіх пісьменьнікаў, Згуртаваньне беларусаў сьвету “Бацькаўшчына”, выдавецтва “Лімарыус”.

На атрыманьне прэміі маглі прэтэндаваць кнігі ў галіне непрыдуманай літаратуры: мэмуары, успаміны, дзёньнікі, эпісталярная спадчына, біяграфіі, травэлёгі, дакумэнтальная проза. Кнігі выдадзеныя на беларускай мове ў 2011–2014 гг. меліся падавацца на прэмію да 19 студзеня 2015 г.

У журы Прэміі імя Аляксандра й Марыі Стагановічаў увайшлі:

— старшыня сэкцыі непрыдуманай літаратуры ў Саюзе беларускіх пісьменьнікаў, сябра Ўправы ЗБС “Бацькаўшчына”, галоўны рэдактар альманаху “Запісы БІНіМ”, кандыдат гістарычных навук ***Натальля Гардзіенка***;

— сябра Ўправы ЗБС “Бацькаўшчына”, загадчык аддзелу старадрукаў і рэдкіх выданьняў Прэзыдэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь ***Валер Герасімаў***;

— сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, кандыдат філялягічных навук ***Віктар Жыбуль***;

— дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва ***Ганна Запартыка***;

— літаратуразнаўца, сябра Беларускага ПЭН-цэнтру, старшы навуковы супрацоўнік Цэнтру дасьледаваньняў беларускай культуры, мовы й літаратуры НАНБ, кандыдат філялягічных навук ***Ганна Кісьліцына***;

— літаратуразнаўца, сябра Беларускага ПЭН-цэнтру ***Ціхан Чарнякевіч***;

— дырэктар выдавецтва “Лімарыус” ***Марына Шыбко***.



Мэдалі Прэміі імя Аляксандра й Марыі Стагановічаў.
Фота Аляксандра Ждановіча

У выніку падачы заявак і вылучэньня кніг самімі сябрамі журы ў конкурсе на Прэмію ўдзельнічалі каля 50 кніг. Зь іх 10 сакавіка 2015 г. быў абраны даўгі сьпіс Прэміі, які складаўся зь 15 пазыцыяў, а 31 сакавіка журы абвясьціла кароткі сьпіс, у які ўвайшлі наступныя кнігі:

1. Дубавец, Сяргей. Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду. Радыё Свабода, 2012.

2. Кісялёў, Генадзь. Смак беларушчыны. Мінск: Лімарыус, 2013.

3. Крэпак, Барыс. Вяртаньне імёнаў: нарысы пра мастакоў: у 2 кн. Мінск: Мастацкая літаратура, 2014.

4. Навумчык, Сяргей. Дзевяноста першы. Год незалежнасьці вачыма ўдзельніка. Радыё Свабода, 2013.

5. Някляеў, Уладзімір. Знакі прыпынку. Мінск: Лімарыус, 2013.

6. Федарэнка, Андрэй. Сечка. Мінск: Галіяфы, 2012.

7. Шапран, Сяргей. Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Сам-насам з Барадуліным. Мінск: Логвінаў, 2011.

З гэтых кніг сябры журы й абралі трох пераможцаў, што былі абвешчаныя 22 красавіка 2015 г. Уганараваныя кнігі “Майстроўня” Сяргея Дубаўца (першае месца), “Смак беларушчыны” Генадзя Кісялёва (другое месца) і “Сечка” Андрэя Федарэнкі (трэцяе месца).

Значэньне Прэміі імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў ня толькі ў тым, што яна першая ў Беларусі, якая ганаруе кнігі ў галіне непрыдуманай літаратуры. Важна тое, што яна заснаваная ў гонар дзеячаў беларускай паваеннай эміграцыі й адлюстроўвае магчымасьці ўключэньня эміграцыйнай спадчыны ў агульнабеларускі культурны кантэкст.

# НОВЫЯ ПАСТУПЛЕНЬНІ ДАКУМЭНТАЎ ЗАМЕЖНЫХ БЕЛАРУСАЎ У БДАМЛМ

**22 студзеня 2015 г.** Цэнтр камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва атрымаў дзьве пасылкі ад эміграцыйнага гісторыка й грамадзкага дзеяча д-ра Янкі Запрудніка. Адна са скрыняў утрымлівала дакумэнты з асабістага архіву грамадзкага дзеяча Васіля Шчэцькі як з часоў ягонага навучаньня ў Лювэнскім унівэрсытэце (Бэльгія), гэтак і з часоў працы бібліятэкарам Калюмбійскага ўнівэрсытэту ў Нью-Ёрку.

Сярод іншага дасланага — дакумэнты ведамага кампазытара, аўтара музыкі гімну “Магутны Божа” Міколы Равенскага, грамадзкага дзеяча ў ЗША Аўгена Кудасава, а таксама матэрыялы, назьбіраныя самім Янкам Запруднікам.

Асаблівую каштоўнасьць уяўляюць тры нумары беларускага часопісу “Чырвоны шлях”, што выдаваўся ў Петраградзе ў 1918 г. Асобнікі паходзяць з архіву Антона Адамовіча.

Варта адзначыць, што гэта далёка ня першыя архіўныя пасылкі, атрыманыя ад д-ра Янкі Запрудніка. Дасыланыя ім матэрыялы складаюць ужо больш за дзясятак скрынак і ўяўляюць зь сябе каштоўную частку беларускіх замежных фондаў у БДАМЛМ.

Цягам **7–10 красавіка 2015 г.** у Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры й мастацтва паступілі новыя дакумэнты замежных беларусаў.

Так, у выніку перамоваў, праведзеных вядучым архівістам Натальляй Гардзіенкай, на захаваньне ў архіў-музэй была перададзеная яшчэ адна частка асабістых дакумэнтаў гісторыка Юрыя Туронка. Цяпер у БДАМЛМ ёсьць ліставаньне Ю. Туронка зь дзеячамі Беларусі й замежжа, сярод якіх: Аляксей Анішчык (Літва), Лявон Луцкевіч (Літва), Міхаліна Татарыновіч (Польшча), Юрка Геніюш (Польшча), Мікола Латушкін (ЗША), Антон Шукелойць (ЗША), Масей Сяднёў (ЗША), Мікола Панькоў (ЗША), Юры Попка (Нямеччына), Зоя й Святаслаў Каўшы, Вераніка Клентак і Анеля Катковіч ды шмат іншых. Ёсьць дамова й пра перадачу ў архіў-музэй іншых дакумэнтаў Юрыя Туронка для папаўненьня яго фонду.

Пра стварэньне ў БДАМЛМ асабістых фондаў было дамоўлена зь беларускімі дзеячамі Польшчы Аляксандрам Баршчэўскім, Янам Чыквіным, Віктарам Швэдам.

Атрыманая й чарговая частка дакумэнтаў зь Беларускага інстытуту навукі й мастацтва (Нью-Ёрк). Сябра Інстытуту архівіст Лявон Юрэвіч перадаў у БДАМЛМ карэспандэнцыю Вітаўта Тумаша, Юркі Віцьбіча, Яна Пятроўскага, Міхася Саўкі-Міхальскага, Эміля Цяўлоўскага ды іншых дзеячаў паваеннай беларускай эміграцыі, што захоўвалася ў БІНіМе.

Каштоўная пасылка прыйшла і з Канады ад старшыні мясцовага БІНіМу д-ра Зіны Гімпялевіч, якая перадала на заклік Цэнтру камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа дакумэнты дзейнасьці ўстановы, якой яна кіруе.

**16 чэрвеня 2015 г.** Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры й мастацтва атрымаў новую пасылку зь Нью-Ёрку з дакумэнтамі дзеячаў беларускага замежжа.

Са збораў Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў БДАМЛМ на заклік створанага Цэнтру камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа паступілі цікавыя й каштоўныя дакумэнты. Сярод іх — яшчэ адна частка дакумэнтаў Натальлі Арсеньневай, у тым ліку ліставаньне яе апошніх гадоў, копіі дарчых надпісаў з падараваных ёй кніг і інш. Цікавыя й асабістыя дакумэнты ды рэчы Вітаўта, Зоры й Марыі Кіпеляў, дакумэнты й ліставаньне Антона Адамовіча.

Асаблівую ўвагу зьвяртаюць на сябе ўнікальныя кнігарукапісы пісьменьніка і выдаўца Міколы Панькова — невялікія рукапісныя кнігі, што дзеяч ствараў у 1946–1948 гг. у лягерах для перамешчаных асобаў у Нямеччыне. Прысьвечаныя зусім розным тэмам (і тагачаснай міжнароднай сытуацыі, і сусьветным палітычным лідарам, і навінам тэхнікі, і беларускай літаратуры ды г. д.), перапісаныя ад рукі прыгожым ахайным почыркам, гэтыя кнігі ёсьць адметнай зьявай у беларускай кніжнай культуры.

Сярод рэдкіх кніжных выданьняў, атрыманых гэтым разам у БДАМЛМ, варта адзначыць таксама самаробныя кнігі з творамі Ўладзімера Дубоўкі, перапісаныя ці складзеныя з газэтных выразак у 1950-я гг. эміграцыйным пісьменьнікам Янкам Золакам, а таксама рэдкі асобнік зборніка вершаў Уладзімера Жылкі “Прыкладзіны”, выдадзены суполкай “Ускалось” у Нямеччыне ў 1950 г. Сярод іншага ў зборніку быў зьмешчаны тэкст знакамітага Жылкавага “Тэстамэнту”, арыгінал якога быў перададзены ў БДАМЛМ у мінулым годзе.

Вялікую частку перададзеных зь Нью-Ёрку дакумэнтаў складае архіў грамадзкага дзеяча, публіцыста, аўтара мэмуараў “Успаміны пасла” Аляксандра Стагановіча. Захаваліся як багатае ліставаньне з эміграцыйнымі аўтарамі, гэтак і лісты-звароты, што пісаліся розным дзеячам у БССР у адказ на публікацыі ў беларускім пэрыядыч-

ным друку. Згаданыя дакумэнты, разам зь перададзенымі раней успамінамі Марыі й Тамары Стагановічаў, дазволяць стварыць адмысловы сямейны фонд Стагановічаў. Зьяўленьне ў БДАМЛМ такога фонду яшчэ больш важнае ў сувязі з заснаваньнем у мінулым годзе Прэміі імя Аляксандра й Марыі Стагановічаў у галіне непрыдуманай літаратуры.

**На пачатку кастрычніка 2015 г.** фонды Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва папоўніліся новымі дакумэнтамі з асабістага архіву беларускага гісторыка з Польшчы Юрыя Туронка.

Гэтая другая частка дакумэнтаў, перададзеных сёлета, складаецца з 20 тэчак. Сярод атрыманага можна знайсьці ліставаньне гісторыка з Мар'янам Пецюкевічам, Язэпам Найдзюком, Аляксеем Каўкам і інш. Асобна варта адзначыць перапіску Юрыя Туронка з айцом Аляксандрам Надсанам, што трывала ад 1970-х да 2000-х гадоў.

Асабліва каштоўныя матэрыялы, сабраныя Юрыем Туронкам пра сваіх бацькоў. Сярод перададзеных дакумэнтаў можна знайсьці арыгінал атэстату сьпеласьці Браніслава Туронка, атрыманага ім у Яраслаўскай гімназіі ў 1917 г., пасьведчаньня на права лекарскай практыкі, здымкі з 1917–1920-х гг.

Зьвяртае на сябе ўвагу й асобнік першага нумару студэнцкага часопіса “Наш шлях” (1922), дзе друкаваліся тэксты Натальлі Арсеньневай, Зоські Верас, Антона Навіны ды інш.

Сярод іншых дакумэнтаў, перададзеных Юрыем Туронкам на захаваньне ў БДАМЛМ, можна згадаць матэрыялы ўдзелу ў навуковых канфэрэнцыях, кангрэсах Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, Першым Зьездзе беларусаў сьвету й г. д., ліставаньне з рэдакцыямі й выдавецтвамі, дакумэнты адносна дактарату.

Згаданыя дакумэнты будуць далучаныя да асабістага фонду Юрыя Туронка ў БДАМЛМ.

**На пачатку студзеня 2016 г.** у Беларускі дзяржаўны архіўмузэй літаратуры й мастацтва былі перададзеныя новыя дакумэнты беларусаў са Злучаных Штатаў Амэрыкі. Каштоўная пасылка была адпраўленая архівістам і дасьледнікам беларускай эміграцыі Лявонам Юрэвічам і ўтрымлівае дакумэнты й друкі, якія захоўваліся ў Беларускім інстытуце навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку.

Сярод перададзенага можна вылучыць некалькі групаў дакумэнтаў. Найбольшую зь іх складаюць канспэкты заняткаў і дапаможныя матэрыялы для выкладаньня беларускай мовы й літаратуры ў розных клясах беларускіх школаў у лягерах для перамешчаных асобаў у паваеннай Нямеччыне. Гэтыя матэрыялы належаць настаўніцы Апалёніі Савёнак, аўтарцы аднаго зь першых беларускіх лемантароў,

выдадзеных беларусамі-ўцекачамі ў другой палове 1940-х гг. Новыя дакумэнты разам зь перададзенымі ў БДАМЛМ раней сьпісамі вучняў, класнымі журналамі й іншым могуць стаць выдатнай асновай для дасьледаваньня гісторыі беларускай пэдагогікі на чужыне.

Другая група дакумэнтаў належыць да асабістага архіву Антона Адамовіча. У новаперададзенай частцы ўтрымліваюцца рукапісы твораў пісьменьніка й публіцыста з 1940-х гг., у тым ліку рукапіс ягонага “Каханага гораду”. Ёсьць таксама й біяграфічныя дакумэнты з часоў працы дзеяча настаўнікам у Кіраве ды з пэрыяду пераезду й побыту ў ЗША ды іншае. Такім чынам, фонд Антона Адамовіча ў БДАМЛМ працягвае папаўняцца.

Яшчэ адну групу дакумэнтаў складаюць рэдакцыйныя матэрыялы часопіса “Беларус у Амэрыцы”. Тут захаваліся праекты вокладак, творы, што дасылаліся ў рэдакцыю.

У перададзеным таксама можна знайсьці арыгінальны машынапіс з рукапіснымі дадаткамі працы Вітаўта Тумаша, прысьвечанай Яўхіму Карскаму, творчыя дакумэнты й паперы з грамадзкай дзейнасьці Лявона Савёнка, некаторыя друкаваныя выданьні амэрыканскіх беларусаў. Усяго новая пасылка складалася зь 7 вялікіх капэртаў з дакумэнтамі, якія папоўняць фонды замежных беларусаў у БДАМЛМ.

Інфармацыя пра новыя паступленьні дакумэнтаў замежных беларусаў рэгулярна зьяўляецца на сайце БДАМЛМ: http://bdamlm.by/new_docs.

# “БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА Ў ГІСТОРЫІ Й СУЧАСНАСЬЦІ” НА V МІЖНАРОДНЫМ КАНГРЭСЕ ДАСЬЛЕДНІКАЎ БЕЛАРУСІ Ў КОЎНЕ

2–4 кастрычніка 2015 г. у Коўне (Літва) адбываўся V Міжнародны кангрэс дасьледнікаў Беларусі. Традыцыйна была прадстаўленая тут і тэматыка беларускага замежжа. Адмысловую панэль “Беларускае замежжа ў гісторыі й сучаснасьці” арганізавала гісторык Натальля Гардзіенка.

Асноўная праца панэлі адбывалася 3 кастрычніка і была падзеленая на некалькі блёкаў. У першым блёку “Беларускае замежжа ў XIX—XX стагодзьдзях: актуальныя праблемы” выступілі пяць дакладчыкаў. Прадстаўніца Інстытуту гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі кандыдат гістарычных навук ***Ксенія Разуванава*** прадставіла даклад на тэму “Да пытаньня аб мэтадалёгіі дасьледаваньня дзейнасьці нацыянальна-культурных суполак беларускай дыяспары ў сьвеце”, у якім падзялілася думкамі адносна складанасьцяў працы па вывучэньні беларускіх суполак на постсавецкай прасторы, найперш у Расеі.

Арганізатарка панэлі, намесьніца дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва, кандыдат гістарычных навук ***Натальля Гардзіенка*** ў сваім выступе “Могілкі як частка мэмарыяльнай культуры беларускай паваеннай эміграцыі” зладзіла для аўдыторыі своеасаблівую віртуальную экскурсію па пахаваньнях беларусаў на Захадзе.

Прадстаўніца Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту кандыдат філялягічных навук ***Ірына Багдановіч*** распавяла пра рэлігійную, грамадзкую й літаратурную дзейнасьць а. Льва Гарошкі.

Выкладчыца Варшаўскага ўнівэрсытэту ***Мажэна Грыбоўская*** выступіла з дакладам “З гісторыі беларускай рэлігійнай прэсы на эміграцыі. Часопіс “Царкоўны Сьветач” (1951–1988)”. Сьледам магістар гістарычных навук з БДУ ***Піліп Некрашэвіч*** распавёў пра ўраджэнцаў беларускіх губэрняў — удзельнікаў баёў на Каўказе ў 1810–1840-я гг. Ягоны даклад выклікаў шмат мэтадалягічных пытаньняў.

На жаль, у апошні момант не змагла прыехаць на кангрэс дасьледніца зь Віньніцы (Украіна) Вольга Зубко, а таму ў тэматычным блёку “Беларусы ў міжваеннай Празе” прагучаў толькі адзін выступ.

Выкладчык Інстытуту памежнай службы Рэспублікі Беларусь кандыдат гістарычных навук ***Андрэй Буча*** прадставіў вынікі дасьледаваньня ўладкаваньня беларускай моладзі ў вышэйшыя школы Чэхаславаччыны ў першай палове 1920-х гг.

Гэтаксама толькі адзін даклад прагучаў у тэматычным блёку "Міграцыйныя працэсы ў Заходняй Беларусі ў міжваенны пэрыяд", дзе доктар гісторыі з Варшаўскага ўнівэрсытэту ***Юры Грыбоўскі*** распавёў пра працоўную сэзонную эміграцыю зь Віленшчыны, Наваградчыны й Палесься ў Латвію й Эстонію ў 1930–1939 гг. Зь іншых меркаваных дакладчыкаў дасьледніца зь Берасьцейскага абласнога краязнаўчага музэю Вольга Мярчук да кангрэсу не дабралася, а прадстаўніца Цэнтру дасьледаваньняў беларускай культуры, мовы й літаратуры Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі магістар гістарычных навук Алена Ізергіна мадыфікавала раней абвешчаную тэму свайго выступу.

Прысьвечаная беларускаму замежжу панэль на Пятым кангрэсе дасьледнікаў Беларусі была даволі сьціплая ў параўнаньні з сэкцыяй на папярэднім кангрэсе. Аднак былі агучаныя і абмеркаваныя новыя тэмы й праблемы, наладжаныя новыя кантакты паміж дасьледнікамі. Таму можна лічыць, што асноўную сваю задачу панэль выканала.

# УДЗЯЧНАСЬЦЬ БІНІМУ — ГАНЬНЕ ЗАПАРТЫЦЫ

6 кастрычніка 2015 г. на XIII Архіўных чытаньнях, што адбываліся ў Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва трэці раз была публічна абвешчаная ўдзячнасьць ад Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку.

Створаны ў 1951 г. эмігрантамі-інтэлектуаламі на Захадзе Беларускі інстытут навукі й мастацтва сёньня намагаецца падтрымоўваць тых, хто спрыяе дасьледаваньню й папулярызацыі тэмы беларускай эміграцыі ў грамадзтве Беларусі. Дзеля гэтага ў 2013 г. была заснаваная практыка штогадовага выказваньня публічнай удзячнасьці асобам, якія зрабілі заўважны ўнёсак у публікацыю й папулярызацыю эміграцыйнай спадчыны. Гэткую ўдзячнасьць ад БІНіМу ўжо атрымалі гісторык Алесь Пашкевіч і мовазнаўца Зьміцер Саўка.

Сёлета ўдзячнасьць ад БІНіМу была выказаная чалавеку, які цягам некалькіх дзесяцігодзьдзяў спрыяў захаваньню эміграцыйнай дакумэнтальнай спадчыны, вяртаньню яе ў Беларусь, пры падтрымцы якога была заснаваная навукова-творчая ініцыятыва “Цэнтр камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа”, — дырэктару Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва ***Ганьне Вячаславаўне Запартыцы***.

Удзячнасьць, што складаецца з сымбалічнай (талерка з выявай эмблемы БІНіМу) і матэрыяльнай часткі, уручыла Ганьне Запартыцы прадстаўніца БІНіМу ў Беларусі гісторык Натальля Гардзіенка.



Ганна Запартыка

# ЗЬВЕСТКІ ПРА АЎТАРАЎ

**Аляксандар Аўдзяюк** (нар. 1978), сьвятар, перакладчык. У 2000 г. скончыў мэханіка-матэматычны факультэт БДУ. У 2003–2009 гг. студыяваў багаслоўе ў навучальных закладах Польшчы й Нямеччыны, атрымаў дыплём па тэалёгіі ў Каталіцкім унівэрсытэце Айхштэт-Інгальштадт у 2009 г. (*Dipl. Theol.*). Працаваў у Менску й у іншых каталіцкіх парафіях Беларусі. Ад 2015 г. працуе ў г. Чыкага (Ілінойс). Цікавіцца пытаньнямі гісторыі, тэорыі й практыкі літургічных і біблейскіх перакладаў, рэлігійнай гісторыяй беларускай дыяспары.

**Юрка Віцьбіч** (сапр. Серафім Шчарбакоў, 1905–1975), літаратар, публіцыст, краязнаўца, грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў пэдагагічным тэхнікуме. У 1922–1933 гг. працаваў на хімічных заводах у Маскве. Уваходзіў у літаратурнае аб’яднаньне “Ўзвышша”, у 1939 г. прыняты ў Саюз пісьменьнікаў СССР. У часе нямецкай акупацыі актыўна выступаў у друку, выдаў два зборнікі публіцыстыкі — “Вяліжскія паўстанцы” і “Нацыянальныя сьвятыні”, выступаў у друку з артыкуламі па гісторыі Беларусі. Быў сябрам Беларускага культурнага згуртаваньня, рэдактарам часопіса “Ўзвышша”, адзіны нумар якога быў падрыхтаваны ў 1944 г. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1946 г. у Нямеччыне стварыў і ўзначаліў літаратурнае аб’яднаньне “Шыпшына”, выдаваў аднайменны часопіс, а таксама часопісы “Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі”, “БІС”, газэту “Беларускае слова”. Ад 1949 г. жыў у ЗША. Друкаваўся ў беларускім і расейскім пэрыядычным друку, у тым ліку ў “Новым рускім слове”. Супрацоўнічаў з Радыё “Свабода”. Як пісьменьнік дэбютаваў у 1929 г. у часопісе “Ўзвышша”. Аўтар кніг прозы “Сьмерць Ірмы Лаймінг” (1932), “Формула супраціўленьня касьцей” (1937). У эміграцыі выдаў кнігу гістарычных нарысаў “Плыве з-пад Сьвятое гары Нёман” (Мюнхен, 1956) і зборнік артыкулаў на рускай мове “Мы дойдем” (Нью-Ёрк, 1975).

**Натальля Гардзіенка** (нар. 1977), гісторык, кандыдат гістарычных навук. Аўтарка некалькіх манаграфій і дзясяткаў артыкулаў, прысьвечаных гісторыі беларускай эміграцыі. Галоўны рэдактар “Запісаў БІНіМ”. Старшыня навукова-творчай ініцыятывы “Цэнтар

камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа".

**Леў Гарошка** (1911–1977), рэлігійны дзеяч, пісьменьнік. У 1928–1931 гг. вучыўся ў Наваградзкай беларускай гімназіі, потым у Львоўскай духоўнай акадэміі, у 1936–1937 гг. у Каталіцкім унівэрсытэце ў Інсбруку (Аўстрыя). У 1937 г. быў рукапакладзены ў сьвятары ў Львове. У 1937–1939 гг. працаваў душпастырам у розных месцах Пінскай дыяцэзіі. У 1939 г. загадам наваградзкага ваяводы быў выселены з памежнай паласы й жыў у Збуражы каля Маларыты. У 1939–1944 гг. працаваў у Баранавічах, у тым ліку й выкладчыкам у мэдычнай школе. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945 г. арганізоўваў беларускае душпастырства ў Бэрліне й Мюнхене, потым пераехаў у Рым. У 1946 г. прызначаны Ўсходняй Кангрэгацыяй для душпастырства беларусаў у Францыі, пераехаў у Парыж. У 1946–1957 гг. быў рэктарам Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі. У 1947–1957 гг. выдаваў рэлігійна-грамадзкі часопіс "Божым шляхам". Пісаў пад псэўданімамі Л. Дварэцкі, Анатоль Жменя, Л. Іскра, Пракоп Каваль ды іншымі. Аўтар шэрагу брашураў рэлігійнай тэматыкі. У 1959 г. паступіў у навіцыят айцоў марыянаў у Рыме. У 1960 г. быў пераведзены ў Лёндан, дзе быў прызначаны на пасаду рэктара Беларускай каталіцкай місіі ў Англіі. У 1962 г. прыняў манаства ў капліцы Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Лёндане. Да 1969 г. заставаўся рэктарам Місіі ды ігуменам законнага Дому ў Лёндане. У 1964 г. стаў першым старшынём Беларускай харытатыўнай сэкцыі (фонду). У 1965 г. атрымаў годнасьць архімандрыта. У 1970 г. перабраўся ў Рым, дзе кіраваў Беларускай сэкцыяй Радыё Ватыкану. Адначасова выконваў абавязкі рэктара Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі.

**Мажэна Грыбоўская** (нар. 1976), дактарантка катэдры міжкультурных дасьледаваньняў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы Варшаўскага ўнівэрсытэту. Займаецца гісторыяй беларускай дыяспары ў Нямеччыне пасьля Другой сусьветнай вайны, а таксама пытаньнямі трансьляталёгіі на прыкладзе нямецка-польскіх перакладаў. Аўтар шэрагу навуковых публікацый, што выйшлі ў Польшчы, Украіне й Беларусі.

**Юры Грыбоўскі** (нар. 1979), гісторык. Доктар габілітаваны. Прафэсар Варшаўскага ўнівэрсытэту. Займаецца вайсковай, палітычнай і рэлігійнай гісторыяй краінаў Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы. Аўтар трох манаграфій і больш як 130 навуковых артыкулаў у друку Польшчы, Беларусі, Нямеччыны, Вялікабрытаніі, Расеі, Украіны.

**Настасься Дудзько**, магістар філялягічных навук, старшы выкладчык катэдры ангельскай філялёгіі ГрДУ імя Я. Купалы, навуковы

супрацоўнік Цэнтра сацыяльна-эканамічных і міждысцыплінарных дасьледаваньняў дыяспар і замежнага беларусазнаўства ФЭУ ГрДУ імя Я. Купалы. Сфэра дасьледаваньняў — гісторыя замежнага беларусазнаўства ў Вялікабрытаніі й Заходняй Эўропе XX — пач. XXI ст. Аўтар больш як 15 артыкулаў па гэтай тэме.

**Ганна Запартыка** (нар. 1954), архівіст. Ад 1994 г. — дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва. Аўтар шэрагу публікацый па архівазнаўстве, гісторыі Беларускага музэю імя І. Луцкевіча, асабістых архіваў М. Багдановіча, К. Каганца, Я. Коласа, Я. Купалы, П. Мядзёлкі, П. Труса. Укладальніца некалькіх навуковых зборнікаў і даведнікаў, кнігі П. Труса “Выбранае” (2000), адна з укладальнікаў Збору твораў Адама Бабарэкі ў двух тамах (2011).

**Дзьмітры Караў** (нар. 1949), доктар гістарычных навук, прафэсар, дырэктар Цэнтра сацыяльна-эканамічных і міждысцыплінарных дасьледаваньняў дыяспар і замежнага беларусазнаўства ФЭУ ГрДУ імя Я. Купалы, прафэсар катэдры міжнароднага бізнэсу й маркетынгу. Сфэра навуковых дасьледаваньняў — гістарыяграфія й крыніцазнаўства Вялікага Княства Літоўскага й Беларусі XVI — пач. XXI ст., гісторыя культуры й інтэлектуальная гісторыя Вялікага Княства Літоўскага й Беларусі, эканамічная гісторыя й гісторыя мэнэджмэнту, гісторыя замежнага беларусазнаўства XVIII — пач. XXI ст. Аўтар больш як 300 публікацый.

**Аляксандар Пашкевіч** (нар. 1978), гісторык, кандыдат гістарычных навук. Намесьнік галоўнага рэдактара часопісу “ARCHE Пачатак”. Дасьледуе гісторыю беларускага нацыянальнага руху ў першай палове XX ст., перш за ўсё на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы.

**Генадзь Сагановіч** (нар. 1961), гісторык, кандыдат гістарычных навук. Працуе ў ЭГУ (Вільня) і Варшаўскім унівэрсытэце. Заснавальнік і рэдактар “Беларускага гістарычнага агляду”.

**Аляксандар Фядута** (нар. 1964), кандыдат філялягічных навук, дацэнт Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту (Вільня). Рэдактар беларускага біяграфічнага альманаху “Асоба і час”, сурэдактар “Беларускай мэмуарнай бібліятэкі”. Аўтар васьмі кніг, укладальнік зборнікаў твораў Фадзея Булгарына й Аляксея Карпюка.

**Эміль Цяўлоўскі** (каля 1910, Стаўпеччына — ?), навуковы дзеяч. Магчыма, служыў у Арміі Андэрса. У 1948 г. прыбыў зь Вялікабрытаніі ў Аргентыну. Жыў у Буэнас-Айрэсе. Адзін з супрацоўнікаў мясцовага каталіцкага ўнівэрсытэту, аўтар тэкстаў для Беларускай рэдакцыі Радыё “Свабода”, а таксама газэты “Беларус” пра жыцьцё ў Аргентыне.

**Макс Шчур** (нар. 1977), паэт, перакладнік, эсэіст. Вучыўся ў Менскім лінгвістычным унівэрсытэце. Ад 1998 г. жыве ў Празе. Аўтар п’есы “Сьмерць тырана” (Менск, 1997), зборнікаў вершаў “Амфітэатар” (Прага — Гданьск, 1999), “Амальгама” (Менск, 2010), зборніка апавяданьняў “Ліст, знойдзены на папялішчы” (Познань, 2011), шэрагу літаратуразнаўчых эсэ. Ляўрэат прэміі Янкі Юхнаўца (2004), гішпаніст (Premio Iberoamericano, 2003). Перакладае з чэскай, гішпанскай, ангельскай моваў. Цікавіцца тэорыяй інтэрпрэтацыі, філязофіяй мастацтва, дачыненьнямі культуры й палітыкі.

**Лявон Юрэвіч** (нар. 1965), архівіст, працуе ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы. Сябра БІНіМу й рэдкалегіі “Запісаў БІНіМ”.

# SUMMARY

## The topic of this issue: Memory

**Natalla HARDZIYENKA. Cemeteries as a part of Belarusan emigration's memorial culture** (page 8)

The text is grounded on the processed data base of Belarusan cemeteries in 13 western countries. Great attention was paid to big cemeteries created by Belarusan post-war emigration in the USA, Australia, and Great Britain. The author reveals some important features of Belarusan emigration's memorial culture by analyzing appearances of graves, gravestones, and contents of epitaphs.

## Janka Zaprudnik's epistolary archive

**Lavon JUREVIČ. Radio** (page 71)

On the basis of the publication of letters of Masiej Siadnioŭ and Juryj Siańkoŭski, employees of the Belarusan editorial staff of Radio Free Europe / Radio Liberty, as well as Viktar Siańkievič from the Belarusan editorial staff of Spanish Radio, to Janka Zaprudnik, the text reveals some features of the inner life and interrelations of emigrants-journalists.

**Emil CIAŬŁOŬSKI. Belarusan Argentina in letters and correspondence** (page 138)

The publication of letters and correspondence of Emil Ciaŭłoŭski, an Argentine Belarusan, that he sent to Janka Zaprudnik to be used in programs of Radio Free Europe / Radio Liberty or in the newspaper "Biełarus". The text presents various sides of Belarusans' presence in Argentina after World War II.

## From the history of the Belarusan Institute of Arts and Sciences (BINiM)

**BINiM's minutes** (page 164)

A facsimile publication of the BINIM's minutes of the 1950s, written by then secretary Natalla Arsieńnieva.

## Memoirs

**Alaksandr PAŠKIEVIČ. Father Leŭ Haroška and his memoirs** (page 171)

A preface to the memoirs of Father Leŭ Haroška, a religious and public figure, that presents the author and the circumstances in which these memoirs were written.

**Leŭ HAROŠKA. Through thunder-storms and hardships** (page 178)

A story about the childhood and early days of the future Uniate priest, as well as his training in Lviv and in Austria. Leŭ Haroška recalls the first years of his activity as a priest in Western Belarus and his work as a teacher during German's occupation.

## Publications

**Maks ŠČUR. Kleinbort thinks of Belarus** (page 368)

On the basis of memoirs and archival documents, the author re-creates separate moments of the biography of the critic and publicist Lev Kleinbort, his connections with Belarus and Belarusan literature.

**Jerzy GRZYBOWSKI, Marzena GRZYBOWSKA. History of Belarusan Roman Catholic service in camps for displaced persons on the territory of Germany (1945–1951)** (page 418)

A story about attempts of building an organized life and publishing religious literature and periodicals for Catholic believers in post-war Germany.

**Lavon JUREVIČ. Writer Anatol Žmienia** (page 432)

Representation of the literary heritage of the religious figure Leŭ Haroška who went under the pseudonym of Anatol Žmienia.

**Lavon JUREVIČ. Audiatur et altera pars** (page 440)

A story about circumstances of a conflict between Bishop Časłaŭ Sipovič and the public figure Jazep Paźniak, on the basis of their letters.

## Archival Materials

**Jurka VIĆBIČ. Letters to Father Leŭ Haroška** (page 447)

The publication of the writer Jurka Vićbič's letters to Father Leŭ Haroška, dedicated to some moments of the biography of Saint Euphrosyne of Połacak and some aspects of the religious history of Belarus.

